# Анатоль Бароўскі

## Воляй абраны

*(Гонар нацыі)*

## Дамова на спакусу

*(Евангелле ад Лукаша)*

# Воляй абраны

*раман*

*“Гэтак жа няхай свеціць святло ваша перад людзьмі, каб яны бачылі вашыя добрыя ўчынкі і ўслаўлялі Айца вашага, Які існы ў нябёсах”.*
(Паводле Мацвея Святое Дабравесце, (5:16)

*“Каханне не робіць блізкаму зла; дык вось каханне ёсць выкананне закона”.*
(Пасланне да рымлянаў святога
апостала Паўла, (13:10)

*Я адплаціў народу,*
*чым моц мая магла:*
*зваў з путаў на свабоду,*
*зваў зь цемры да сьвятла.*
Янка Купала

## Частка першая

1

Па матэрыялах справы *“Дело Штаба войск Виленского военного округа судного отделения о бывшем студенте Санкт-Петербургского университета Иосифе Горчаке”.*

Мацей Цюхна той раніцай прачнуўся на цямочку.

Балела галава пасля ўчарашняга наведвання карчмы, нудзіла. Сушыла ў горле. Хацелася папіць нечага халоднага, хаця б таго ж квасу. Але па яго трэба было лезці ў пограб.

Жонка, Агрыпіна, спала, адвярнуўшыся да сцяны, саплі насамі Змітрок і Янка. Мацей асушыў конаўку цёплай вады з драўлянага вядра, але палёгкі не адчуў.

Гэта ж трэба было ўчора так набрацца той сівухі! Здавалася, і слабой, усе ведалі, што Іцко разбаўляе пітво вадой, але слова за словам, шкалік за шкалікам, – ды і хапіла з коптурам. Заўсёды атрымлівалася так – возьмеш трэцюю-чацвёртую, то спыніцца далей ужо не можаш…

Гэтае паскудства – сівуху – раней Цюхна і на нюх не пераносіў, і тую карчму аббягаў за вярсту, бо сам бачыў, да чаго даводзіць людзей гарэлка. Але такое ўжо наладзілі багацеі жыццё – хочаш ці не хочаш, а карчмы з карчмаром не мінеш. Кожнага селяніна, паміма яго волі і жадання, уключалі ў Іцкавы спісы абавязкова-прымусовых наведвальнікаў. У тыя спісы пападалі не толькі мужыкі з іх Вайнёўцаў, але і бліжэйшых вёсак – Алехаўцы, Рудзенькі, Балотнае…

Тое зрабіць параіў пану Свянціцкаму ці то аканом, ці арандатар, сам пан да такога дадумацца не змог бы.

Умеў Іцко паставіць свой “гешэфт”. Атрымлівалася так: не хочаш піць – усё роўна аддай грошы, альбо выпівай сваю норму, бо свае грошы ты сплаціў. Як прывязаны сядно да той карчмы нябачнай вяровачкай, як той бычок, якога выправілі на пашу і прылыгалі да калка, убіўшы яго ў зямлю. І не разарваць яе, тую вяроўчыну, не скінуць з сябе.

Учора ён і не збіраўся ў тую карчму, але і сам таго не заўважыў, як ногі прынеслі да парога Іцкавай будыніны. Душа яго як бы раздзялілася. Адна палавінка загадвала павярнуць назад, папярэджвала, а другая – маўкліва спраўляла свой клопат: кіравала ім, акурат як Цюхна кіраваў лейцамі, падганяючы свайго гнядога…

Усё ж спусціўся ў пограб, не вытрымаў. Бо ведаў, што галаўны боль так і не пройдзе. Некалькі драўляных чарпакоў квасу выпіў адзін за адным.

Пакрысе ў патыліцы пераставалі шпыраць нябачныя цвікі, суцішваліся і штуршкі крыві ў скроні.

Тады ён набраў поўныя грудзі паветра і выдыхнуў. Боль не паўтарыўся.

“Дурноцтва ўсё гэта, брыдота, – дакараў самога сябе Мацей Цюхна. – Пан Езус не даруе мне гэтага, не даруе… Гасподзь дазваляе піць віно, але ж не да беспамяцтва… Як толькі мяне церпіць жонка такога?..”

Здаволіўшыся самаўшчуваннем, пераканаўшыся, што збольшага паправіў галаву, ён рашыў вылезці з пограба. Але для большай

пераканнасці зноў апусціў чарпак у бочку з капусным расолам. Капуста ўжо заканчвалася, але расолу яшчэ ставала… Кракетануў ад задавальнення.

Але зноў падступілася да яго крыўда: прапіў частку з тых грошай, якія яму даў чалавек. Аддзячыў за тое, што ён, Мацей, паабяцаў выканаць яго просьбу…

Цюхна акурат з пакосу ішоў. Нагледзеў добрую латку сакавітай травы за Алёсамі, па беразе балацявінкі. Трава была амаль да грудзей. Ніхто не апярэдзіў яго, і як толькі ўзышло сонца, ён і паклаў яе. Перад адыходам задаволена агледзеў высокія валкі: “Капіц з пяць набярэцца, акурат з гэтым і будзе на зіму карове…”

Пераабуў лапці, адмыў іх ад набітай гразі ў раўчаку. Схадзіў да крыніцы, бярозавым кадоўбцам зачарпнуў вады. Вада была халоднай і колкай, і таму ён піў маленькімі глыткамі, смакуючы…

Ішоў вузкай сцежкай, якая вывела яго да больш шырокай, а потым выйшаў на бальшак – тракт. Па бальшаку ісці зусім нічога, ішоў да адзінокага дуба, што рос пры самай дарозе. Тады ён сыйдзе з яе і ўжо нікуды не будзе збочваць – аж да самых Вайнёўцаў.

Ззаду пачулася ляскатанне таратайкі. Ён збочыў з дарогі – стаў і чакаў, калі яго аб’едзе параконка. Але нечакана экіпаж спыніўся насупраць Мацея. На зямлю лёгка саскочыў малады хлапец і, прыхільна ўсміхаючыся, падышоў да Цюхны.

– Езус пахвалёны! – прамовіў незнаёмец, спыніўшыся каля касца.

– Пахвалёны, пахвалёны, добры чалавек!

– З касьбы?

– Ага, накасіў трохі за ранак…

– Дадому цяпер?

– Ага, запазніўся троху.

– Пайшлі разам, пагамонім.

Вазьніца замахнуўся пугай на каня, тузануў лейцы, і параконка пакаціла па дарозе. Незнаёмец правёў яе позіркам, ідучы побач з Мацеем, папытаўся:

– І як жа зваць цябе, чалавеча?

– Мяне? Ды Мацей я, Цюхна. А ты хто і скуль будзеш?

– Здалёку я, чалавеча, з Вільні, а заві ты мяне Ясем. Пагаварыць хачу з табой. Як жывецца, ці не злыя паны ў вас? Цяпер мо палёгка для вас, мужыкоў, стала – маніфест жа цар-бацюхна выдаў.

Мацей пакруціў галавой, кісла ўсміхнуўся:

– Жартуеш. Калі і ёсцека той маніхвест, дык у нас кажуць, яго падмянілі. Тыя ж паны і падмянілі. Цар пісаў, каб нам вольную разам з зямлёй далі. Паны ж даводзяць, што такога ў маніхвесце няма, не прапісана. Кінулі костку, але мяса на ёй няма. Супраць цара, значыць, бунтуюць…

– Гэта так – ні мужыку, ні сабаку не ўкусіць, не палізаць.

– Ото добра ты сказаў, Яська! Я з тыдзень таму ў Адэльск ездзіў – на кірмаш. Бочачкі хацеў прадаць. Дзякуй Богу, раскупілі ўсе, бо танна… Нейкі чалавек на плошчы крычаў, што мужык павінен супраць паноў падняцца. Пра той жа маніхвест казаў, заклікаў на паншчыну не хадзіць. Вакол яго адразу процьма людзей сабралася. І я хацеў бліжэй падысці, ды жонка ад воза не адпусціла… І добра, што не пусціла. Бо невядома адкуль з'явіліся салдаты на конях… Што там рабілася, страх Божы! І сёння перад вачыма стаяць акрываўленыя і пакалечаныя затаптаныя конскімі капытамі людзі.

Госць слухаў уважліва Цюхну, не перабіваў...

– Не веру я, Яська, цару, і маніхвесту яго, не веру.

– А астатнія людзі, Мацей, вераць? З тваёй ці іншых вёсак?

– А хто іх разбярэ. Але ўсе незадаволеныя і паншчынай, і тым, што зямлі не даюць, як абяцана было. А ў карчме самыя буйныя заклікаюць падавацца ў лес і… – Мацей замоўк і азірнуўся.

– Ты ж як сам думаеш, Мацей? Як твая спіна думае, згодна наставіцца і храснуць пад бізуном? Ці пойдзе мужык за тымі, хто захоча зрабіць людзей вольнымі, хто падыме незадаволеных і павядзе супраць царскіх салдатаў?

Мацей спыніўся. Пільна паглядзеў у вочы свайму нечаканаму спадарожніку. Як усё роўна адчуў, што ў іх размове наступіў той галоўны момант, з-за якога, відаць, і спыніўся чалавек.

– Пойдзе. Калі яму растлумачыць, што і да чаго. Нейкі дакумент павінен быць – пісаны, друкаваны. Не такі падманны, як той маніхвест.

– А гэта ты здолееш прачытаць, Мацей?

Ясь дастаў з кішэні складзены ў чацвёра аркуш паперы, разгарнуў яго, падаў Мацею. Цюхна па складах пачаў чытаць:

– “Мужы-цкая праў-да…” “Прыказ … да народу зямлі літоўскай і беларускай”… Бач ты, на мужыцкай мове. Дзіўна бачыць такое. “Дзела наша – не дзела панскае, а справядлівай вольнасці, якой вашыя дзяды і бацькі здаўна ждалі…” Адкуль, адкуль гэта ў цябе, Яська?

– Адтуль, – паказаў некуды ўверх спадарожнік. – Гэта сыйдзе за дакумент, скажы шчыра?

– Калі сапраўды адтуль, то гэтаму дакументу паверацъ усе.

– А ты б змог гэта прачытаць сваім аднавяскоўцам, у іншыя вёскі перадаць?

– Прачытаць змагу. Але адной такой паперчыны мала, сатрэцца і… паболей бы іх, га?

– Можна і паболей. Толькі вось што, Мацей, слухай мяне ўважліва. Гэта як бомба для царовых слугаў. Калі ж зловяць цябе з гэтым “Прыказам да народу зямлі літоўскай і беларускай”, то... І яшчэ – ты мяне не бачыў, і я табе нічога не даваў. Ты знайшоў гэта вось на дарозе. Дамовіліся, Мацей?

Цюхна нахмурыўся, адчуў, як нешта халоднае прабегла па спіне, хаця ўжо ўбіралася ў сілу цёплая чэрвеньская раніца.

– Вось трэці нумар “Мужыцкай праўды”. У ім расказваецца, што такое сапраўдная свабода. “Нам не маніхвестаў, а вольнасці патрэбна – і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі мужыкі спаміж сабою зробімо…”. А вось гэта сёмы нумар нашай газеты. У ёй выкрываецца царскі ўказ ад 1 сакавіка 1863 года, царская рэкрутчына, мы супрацьпастаўляем яму нашыя паўстанцкія дэкрэты.

Мацей разгарнуў газету.

– Трэ-ба на-шым хлоп-цам спя-шыць з віламі ды ко-са-мі там, дзе да-біваюцца волі і праўды…

Вочы не прывыклі да такіх слоў, але ён праз нейкі час ужо чытаў не па складах, а цэлымі словамі. А калі дайшоў да канца, прачытаў подпіс:

– Яська з-пад Вільні. Яська… Дык гэта, выходзіць, ты?

– Я, Мацей, я. Дык ты згодзен распаўсюдзіць нумары “Мужыцкай праўды” па навакольных вёсках?

– Згодзен.

– Тады мы падыйдзем да тарантаса, і ты забярэш газеты. Яны ў звычайным мяшку, загорнутыя ў рыззё, каб не кінулася нікому ў вочы.

– Добра, я разумею. Зраблю ўсё, як ты загадаў.

– І вось табе на дробныя выдаткі. Калі ж не будзе выдаткаў, можаш выкарыстаць іх, як захочаш.

Ясь падаў яму некалькі асігнацый. Мацей няцямна паглядзеў на яго, але нічога не сказаў, схаваў грошы ў кішэні зрэбнай світкі.

Пакуль ішлі да тарантаса, які спыніўся пад дубам, Ясь тлумачыў:

– Мацей, апошняе, што я хачу сказаць. Вось-вось будзе кінуты кліч аб пачатку змагання за волю і зямлю. Падымецца шляхта і рабочыя з гарадоў, мяшчане і дактары, ды і самі паны, якія не жадаюць быць душыцелямі мужыкоў ад імя цара… Мы потым і яшчэ давязем нумары “Мужыцкай праўды”. Як знайсці цябе, каб не распытваць у людзей?

– Вось за гэтым узгоркам мая вёска Вайнёўцы. Паўз маю хату цячэ раўчак, які мы называем Жары. Мая хата па левы бок, пад вокнамі кусты бэзу.

Падышлі, спыніліся каля павозкі. Вазьніца моўчкі падаў шэры мяшок. Ясь перадаў яго Мацею.

Цюхна вылез з пограба.

Успомніў, што не дагарадзіў паласу жыта, – каб не забрыў хто ненарокам ды не пакуёўчыў збажыну. А жыта ўдалося ніштаватае, кожны колас наліты, важкі.

Душа радавалася, што на зіму будзе сям’я з хлебам.

Паклаўшы на плячо некалькі дубовых, завостраных калкоў, ухапіўшы сякеру з калодкі, пакіраваў мяжой да канца палоскі. Яшчэ здалёк убачыў, што ў збажыне таптаўся конь. Нагнуў галаву, скуб канюшыну. Мацей так спецыяльна пасеяў: пасля таго, як жонка сажне збажыну, ён скосіць канюшыну.

У сярэдзіне усё закіпела ад злосці – на яго вачах адбывалася патрава! Скінуўшы з плячэй груз, ухапіў толькі адзін калок – таўсцейшы і даўжэйшы, кінуўся подбегам да каня, каб тут жа спыніць патраву. Конь скуб траву, не падымаючы галавы. Цюхна падбег да яго збоку, і з усяе сілы агрэў гнядога па выпуклых рэбрах. Конь утробна ікнуў, задраў галаву, заржаў ад нечаканасці, ускінуўся на заднія ногі. Мацей аперазаў яго па азадку. Буланы асеў на пярэднія ногі, а заднімі ледзь не пацэліў Цюхну ў грудзіну. Але ён спрытна выкруціўся і з размаху ўдарыў каня па галаве…

– Ты што, гад падкалодны, каня калечыш? – пачуўся зычны крык за спінай – то падаў голас Янка Рабічка. – Заб’ю-юуу!..

Мацей павярнуўся на голас.

– Заб’еш? Мяне? Завошта? Што жыта твой конь нішчыць? Ну, давай, падыдзі, я і цябе ашпару дручком, ну?

Але Рабічка неяк вывернуўся, і дручок прасвістаў у паветры, над яго галавой. Аднавяскоўцы схапілі адзін аднаго за грудзі.

Нешта крычалі адзін аднаму, і не чулі сваіх галасоў. Янка схапіў Мацея за кішэню світкі, рвануў з усяе сілы. Світка затрашчала, і вялікі ветах абвіс да зямлі…

Гэта яшчэ больш пакрыўдзіла Цюхну. Кулаком ударыў у твар. Кроў заліла вочы…

Ужо беглі да іх суседзі, каб разняць. Нешта крычала і плакала жонка Мацея Агрыпіна, спяшаючыся наперарэз людзям… Тут жа, галосячы "забіваюць Янку", прыбегла і Анэля – жонка Рабічкі...

Акурат на той час у вёсцы па нейкіх клопатах знаходзіўся станавы прыстаў Маслоўскі. Ён доўга не разбіраўся, што да чаго. Сам бачыў, што конь зрабіў значную патраву, ды Рабічка яшчэ парваў "пацярпеламу" амаль новую світку.

– Усыпаць Івану Рабічку розаг, і на гэтым справу закрыць! – вынес прысуд станавы прыстаў.

І на вачах усіх зрабілі тую экзекуцыю Янку Рабічку. Пасмяяліся, парагаталі ды і забыліся пра тую гісторыю вяскоўцы.

2

Язэп Гарчак падышоў да павіслых веснікаў Цюхны.

– Езус пахвалёны ў хату, шаноўны спадар Мацей! – хлопец весела павітаўся, убачыўшы гаспадара – таптаўся каля дзвярэй хлеўчука, – пераступіў парог веснікаў.

– Пахвалёны! Чаго стаіш на вуліцы, заходзь у двор.

– Дзякуй, Мацей, зайду.

– Здалёку б'еш ногі?

– Ды на ярмалак хадзіў у Адэльск, купіць што-кольвечы думаў.

– І прыкупіў што?

– Ды не – грошай не хапіла, хай на яго ліха.

– І што ж ты купіць хацеў, Язэп?

Хлопец скінуў з пляча стары мяшок, кінуў сабе пад ногі.

– Кажушок хацеў сабе набыць, маразы пякучыя стаяць. Не старгаваўся з дзядзькам, ні гроша не ўступіў.

– Скнарны папаўся?

– І не кажы…

Мацей драўлянымі віламі пераносіў сена ад пунькі да каровы.

Непрыкметна віламі падчапіў мяшэчак Язэпа, пасунуў бліжэй да варот хлеўчука.

Ужо цішэй, нагнуўшыся, паведаміў Гарчаку:

– Сёння ў Маркевіча збіраемся, у якога жыве Станкевіч. Позна ўвечары. Шмат прынёс?

– Больш за сотню.

– Добра. Сёння раздамо сялянам. Сёння запрасілі найбольш маладых хлопцаў – так папрасіў Казімір Станкевіч.

– А старых?

– Старыя не так успрымаюць, як маладыя. Слухаюць, згаджаюцца, а потым: "Каб чаго кепскага не выйшла з гэтага, бо згнаяць у Сібіры..."

Гарчак усміхнуўся:

– Ды і да зямлі яны больш прывязаныя, думаюць, што цар з цягам часу надзелы ім зямлі выдзеліць...

– Калі рак на гары свісне.

Патаптаўшыся яшчэ які час у двары Мацея, былы студэнт Пецярбургскага ўніверсітэта Язэп Гарчак, перадаўшы тайную пасылку, пакрочыў сваёй дарогай далей. Ён быў дзейным сябрам польска-літоўска-беларускага студэнцкага "Таварыства". Браў удзел у студэнцкіх хваляваннях. Жандары арыштавалі яго – два месяцы праседзеў у Кранштацкай крэпасці.

Выслалі на радзіму пад нагляд паліцыі.

Хата селяніна Маркевіча была трохі прасторнейшая за астатнія, таму і вырашылі збірацца ў яго. Вяскоўцы чыталі газету "Мужыцкая праўда".

Казімір Станкевіч найбольш адукаваны сярод іх.

– Я маю, панове, для вас падаруначак, – прыходзячы ў вёску, казаў ён звычайна сялянам, перадаючы ім газету Каліноўскага. – Прачытайце, перадайце прачытаць іншым, і вам стане ўсё зразумелым наконт таго, як трэба пазбаўляцца ад паншчыны...

– Аддаць потым табе назад, Казік?

– Не, пакіньце сабе. Такіх у мяне ёсць больш за сотню...

Маладыя пацягнуліся да яго, пыталіся, як уключыцца ў агульную барацьбу.

– Пра гэта і расказвае "Мужыцкая праўда", – даставаў ён з кішэні складзены аркушык шэрай паперы. – Давайце паслухаем, што нам раіць рабіць Яська з-пад Вільні...

Так сядзелі і слухалі аж да першых пеўняў.

Пакідалі двор ціха, маўкліва. Канспірацыі вучыў іх той жа Казімір...

Хлопцы добра засвойвалі яго навуку...

… Ён абуў хадакі, ускінуў на плечы стары латаны-пералатаны кажух, насунуў на галаву шапку аблавушку. Калі ж падышоў да дзвярэй, калі ўзяўся за клямку, каб адчыніць дзверы, з палацяў пацікавілася Анэля:

– Ты куды, Янка? Такая непагадзь на вуліцы.

– У Сакольск схаджу. Мо спаганю доўг з Кіркесава, ужо больш года як не аддае.

– Добра. Доўга не баўся.

– Не забаўлюся – вечарам вярнуся.

– Мо іншым днём выбраўся б, га? Свету Божага не бачна…

Ён нічога не адказаў, бразнуў толькі дзвярыма.

І дзень жа выбраў ён, як быццам другіх не было. Добры гаспадар, як кажуць, свайго сабаку на вуліцу не выганіць, а тут сам сабе выбраў такое надвор'е.

Завіруха ўсчалася яшчэ сярэдначы, выла-завывала ў падстрэшшы, пужаючы дзяцей сваім жудасным скавытаннем. Не аціхла яна і пад раніцу. Верыў Янка, што яна неўзабаве аціхне, бо нейкі цёплы вецер абвяваў твар. Перад сабою ён не бачыў дарогі. А яе і зусім не было, той дарогі, перамяло яе спрэс, і следу не засталося. Але ён навобмацак перабіраў нагамі, трымаўся каляіны, што пакінулі колы вазоў яшчэ з восені, следу палазоў саней…

"Дайду, быць таго не можа, каб не дайшоў, – думаў Рабічка, падстаўляючы каўнер кажуха да твару, хаваючыся ад калючай завірухі. Чым далей адыходзіў ад вёскі, тым больш злавалася снежная замець, мацнеў мароз. – Дарэмна, мусіць, сёння выбраўся ў дарогу, дарэмна… Хаця б і ваўкоў не перастрэць… Мо трэба было і паслухацца хоць раз у жыцці жонку…"

Але ногі настойліва неслі яго наперад. Ён ужо знайшоў і дадатны бок у сваім падарожжы: у такую непагадзь ніхто і не ўбачыць яго, і не будзе ніякага падазрэння, што ён адправіўся ў Сакольскі земскі суд.

"Я табе пакажу, будзеш мяне век помніць, – крыўды я ніколі не забываю. Пабачым яшчэ, чый верх будзе, пабачым…"

Прыйшоў ён у земскі суд пад абед, калі чыноўнікі збіраліся пакінуць свае крэслы. Ад яго адмахнуліся, сказалі, каб зайшоў пазней.

– Я па пільнай патрэбе, – шапнуў ён аднаму, лысаму і нізкаму, чалавеку на вуха.

– Па якой яшчэ патрэбе? – павысіў таўстун незадаволена голас і ўзяўся за дзвярную ручку.

– Па дзяржаўнай. Вось па гэтай…

Рабічка выняў з кішэні складзеную ў некалькі столак паперчыну, падаў судоваму прыставу Вітальду Рагальскаму. Чыноўнік нахмурыўся.

– Ну і што?

– Як што? У нашай вёсцы адкрыта распаўсюджваецца “Мужыцкая праўда”. І я ведаю дакладна, хто гэтым займаецца…

– Чаго ж вы мне адразу не сказалі?

– А я і кажу. Прымайце меры. Супраць цара-бацюхны ідзе змова і збор людзей.

Прыстаў замітусіўся, сцішыў голас:

– Сядайце, калі ласка. Як вашае прозвішча?..

Рагальскі паклаў перад сабою чысты аркуш паперы, напісаў: “Аб змове сялян супраць урада”, а ў куточку пазначыў: “3-га студзеня 1863 года, Сакольскі земскі суд”.

– Так, расказвайце падрабязна, што вам вядома.

– Значыцца, так… Мацей Цюхна, наш аднавясковец, – мае цэлы стос гэтай крамольнай газеты. Яе распаўсюджвалі ў Іцкавай карчме. Але Іцко тут ні пры чым. Дык вось… Яе чытаюць па ўсіх вёсках, што знаходзяцца непадалёку ад нас… І збіраюцца па хатах, складаюць спісы, хто ўвальецца ў рады бунтаўшчыкоў…

Янка расказваў і тады, калі прыйшлі з абеду чыноўнікі суда, і пазней, калі яны расселіся за сваімі сталамі. А за акном галасіла, не сціхала завіруха, шпурляла ў вокны прыгаршчы снежнай крупы, скавытала на розныя лады.

– Усё? – выцер з ілба насоўкай кропелькі поту прыстаў.

– Усё, ваша мосць, усё. Прыміце меры.

– Прымем. Неадкладна. А вам дзякую, што вы папярэдзілі. Расійская імперыя вас не забудзе!

… Праз адзінаццаць дзён, а дакладней, 14 студзеня з Вільні ў бок Сакольска выправіўся атрад жандараў на чале з генералам Абрамовічам, каб распачаць расследванне справы “Аб змове сялян супраць урада”.

Генерал у той жа дзень стварыў спецыяльную следчую камісію, якая абрала штабам сваёй дзейнасці заштатны гарадок Адэльск.

Першым арыштавалі Мацея Цюхну. Сярод ночы з'явіліся жандары, амаль пад раніцу, незадоўга да першых пеўняў.

У споднiках так і схапілі, калі ён выйшаў у сенцы на падманны голас быццам бы селяніна Грушы з суседняй вёскі, які нібыта пажадаў купіць у яго цялушку.

Бліснулі ліхтаром у вочы, і жандар, пазнаўшы, прамовіў:

– Ён – Мацей Цюхна. У акалотак яго. Цяпер да другога завадатара – батрака Казіміра Станкевіча…

Калі ж падышлі да хаты Маркевіча, каб схапіць Казіміра, то расчаравана пераглянуліся – не было батрака ў хаце. А Маркевіч паціскаў здзіўлена плячыма, адказваў:

– Ды даўно яго, паночкі, няма. Пашыў кажухі і некуды падаўся… Як аб'явіцца, я вам адразу і скажу.

Мацей падумаў: "Чорта лысага вы зловіце яго! Ён у Гарчака хаваецца. І мяне ж папярэджваў Гарчак, каб я сышоў на час з дому. Не паслухаўся, дурань…"

Калі прывялі на першы допыт, спакойна адказаў на пытанні:

– Звацць як? Завуць мяне Мацей, бацькі не ведаю, а пражываюся Цюхна. Год колькі? Ды няма яшчэ сорак пяць, неўзабаве будзе…

Следчы свідраваў селяніна злым вокам, тлумачыў:

– Заклікаў хлебаробаў ісці ў паўстанцкі атрад? Заклікаў. Тое пацвярджаюць і сяляне.

– Нікога я не заклікаў, самі прасіліся.

– Збіраў сам такія атрады? Збіраў. Даваў "Мужыцкую праўду" са словамі: "Прачытай, і будзеш сам усё ведаць»? Даваў. Таксама сяляне пацвярджаюць. Раіў ім яшчэ "зрабіць змову і не даваць рэкрутаў"?

– Не было такога, я ні пра што не ведаю.

Следчы ўсміхаўся, пазіраючы на хітрага селяніна:

– Мацей, ты, каб разбурыць веру ў цара-бацюхну, не гаварыў хіба: "Гасудара падстрэліў нейкі рускі мужык у плячо, і гасудар выехаў у чужыя землі…" Не казаў хіба? Хлусіш. Падбухторваў аб'яднацца ў агульнай барацьбе сялянаў – польскіх, рускіх ды беларускіх? Прызнавайся, нам усё-ўсё вядома…

– Нічога такога я не гаварыў, гэта, мусіць, Рабічка на мяне паклёп узвёў? – паглядаў на следчага Мацей. – За тое, што яму розаг усыпалі добрых. Дык гэта ж з-за каня ўсё, яго конь патраву мне ў жыце зрабіў. Не верыце, у прыстава спытайце!

– Спыталі, спыталі ў яго. І ён сведчыць, што ты раздаваў крамольную газету. Называй сваіх памагатых!

Мацей пацiснуў плячыма:

– Не ведаю нiчога. Мне нiхто i нi ў чым не памагаў.

– Дзе знаходзiцца цяпер Язэп Гарчак? Ён не адзiн раз заходзiў да цябе. Што прыносiў у мяшку?

Маўчанне.

– У пастанове камiсii ад 26 студзеня ўказвалася, што былы студэнт Язэп Гарчак прымусова высланы на радзiму ў паселiшча Скраблякi, дзе  мае ладны ўчастак зямлi. Але, на вялiкi жаль, ён не клапоцiцца пра  сваю гаспадарку.  Раз'язджае па навакольных вёсках, сустракаецца з сялянамi. Вядзе з iмi крамольныя гутаркi… Цi не так?

"Усё ведаюць, усё… – падумаў з горыччу Мацей. – Сочаць за ўсiмi, вiжуюць…"

Да  "змовы  супраць урада" былi далучаны не толькi вайнёўцкiя сяляне, але i з суседнiх вёсак – Мiнкоўцы, Номiкi, Чапляеўка, Геста…

У гэтых мясцiнах найперш i з'явiлася  "Мужыцкая праўда". Дзед Макавей знайшоў нумар газеты аж у канцы лiпеня, а ў канцы снежня 1862 года два наклады газеты за № 5 вырваў з рук сялянаў у Вайнёўцах сакольскi акруговы начальнiк дзяржаўных маёмасцяў Сакалоў. Адзiн з гэтых накладаў праз мiнiстра дзяржаўных маёмасцяў Зялёнага ўжо ў пачатку наступнага года трапiў у трэцяе аддзяленне…Дзiўна, але назiралася такая рэч: калi селянiн непiсьменны i слова прачытаць не мог, то меў абвостраную памяць. Мог запомнiць увесь нумар газеты i пераказаць любому, хто прасiў пра тое.

Калi той жа  Сакалоў прыпяў да сцяны Змiтра Якушова i запатрабаваў прызнанняў, якiя нумары газет той чытаў, ён адказаў:

– Я ж i чытаць не ўмею, пан начальнiк!

– Як не ўмееш, калi ты як па пiсанаму пераказаў усю газету.

Селянiн засмяяўся:

– Вось тут вы правiльна сказалi, пане начальнiк! Але ж я не ведаю нiводнай лiтары, каб прачытаць, а раз пачуўшы нешта, я тое ўсё жыццё буду трымаць у памяцi.

– А хто табе чытаў напiсанае?

– Я i мой кум Мiхась Зянцюк збiралi ў лесе ламачча, – працягваў далей Змiцер, разумеючы, да чаго хiлiць начальнiк маёмасцяў, – халады пачалiся. Кум, як i я, – непiсьменны. Яму нехта ў карчме прачытаў газету, а ён вазьмi, ды запомнi ўсё да драбнiц. Збiраем

ламачча, а ён мне расказвае. Адзін раз расказаў, а я да слоўца запомніў. Не верыце? Праверце…

Сакалоў з недаверам паглядаў на Якушова, загадаў:

– Пачынай. Чытай ці пераказвай!

Зміцер зажмурыў вочы, адхіліў назад галаву, пракаўтнуў сліну, ад чаго здрыгануўся востры кадык на шчэцці. З нейкай адданай урачыстасцю пачаў:

– *“Мужыцкая праўда” за № 6.*

Дзецюкі! Чы мая праўда горка, чы ена салодка, я пісаў заўсёды і пісаці буду – вучыў я вас, як рабіці трэба і вучыці буду. Вы адно слухайце мяне, талкуйце добра і рабеце так, як сумленне Вам скажэ, а Бог яшчэ злітуецца над намі і дасць нам шчасце і добра ў нас будзе.

Калі Бог, стварыўшы чалавека, даў яму душу, то не для таго, каб ён жыў як сабака на гэтым, а на тым свеце прападаў на векі вякоў у муках пякельных, – а для таго, Дзецюкі, каб знаў закон Божы, знаў свайго Бога, знаў сваю веру і заслужыў шчасце нябеснае. Калі Сын Божы, прыйшоўшы на гэты свет, устанавіў праўдзівую веру і за гэтую веру цярпеў крыжовыя мукі, то не для таго, каб якіясь там Цары маскоўскія, байстручага роду, пераменялі закон Божы, а мы, на прыказ гэтых Цароў, выракліся сваёй веры, сваіх Дзядоў і Прадзедаў і ўслаўлялі не Бога, а радню царскую, – но для таго, Дзецюкі, Бог Найвышэйшы цярпеў за нас, каб Закон Яго ўжо быў вечны, і ніхто не пасмеў перамяняць, а мы з усёй моцы трымаліся яго.

Но чы гэтак, дзецюкі, робіцца ў нас як Сам Бог прыказвае, чы дзержымося мы закона Божага? Самі скажэце, ні адзін ужэ можа забыўся, што бацька яго быў яшчэ справядлівай уніяцкай веры і ніколі ўжэ не ўспомніць, як лератварылі яго ў схізму, на праваслаўе, што ён сёння. як той сабака жыве без веры, і як сабака сканае на радасць д’яблу ў пекле!!! О, Дзецюкі!..”

– Досыць! – ускрыкнуў, не вытрымаўшы больш слухаць крамолу дапытчык. – Досыць! Замоўкні! За адно толькі тое, што паўтараеш гэтыя крамольныя радкі, цябе трэба згнаіць у Сібіры…

Мужык расплюшчыў вочы, недаўменна паглядзеў на следчага:

– Дык вы ж самі загадалі мне гэта рабіць – чытаць па памяці.

– Ніхто табе не загадваў, я правяраў, ці не хлусіш ты. Табе зямлю трэба гноем урабляць, панства карміць, а ты ў рэвалюцыя-

неры падаўся. Як у вас кажуць – не ў свае сані не сядай, так? Вось і ты, Зміцер, не ў свае сані сеў.

– Хто і якія даў сані, у тыя і сеў.

Мужык прымружыў вочы, гледзячы ў столь, налажыў на сябе крыж, пачаў маліцца:

– Божа Наймагутны, Валадар наш міласэрны! Ты пра нас не забывай, злітуйся над намі, памажы нам у нашай нядолі, выгані маскаля з нашага краю, дай нам сапраўдную свабоду і веру нашых дзедаў і прадзедаў, – і касцёлы, якія маскаль, нячыстая сіла, разбурыў ці перарабіў на канюшні і цэрквы, зноўку засвецяцца ў славу Тваю і народ у іх славіць Цябе будзе, як славілі нашыя продкі. Запяём тады ў адзін голас нашу песню святую: "Святы Божа, Святы моцны, Святы несмяротны, змілуйся над намі!" І Бог Усявышні злітуецца над намі, паможа нам у нашай працы, а на тым свеце дасць валадарства нябеснае, – і не будуць ужо дзеці нашыя сваю матку праклінаць, што на свет нарадзіла!

Следчы здзіўлена глядзеў на верніка. Як быццам і маліўся, але малітва нібыта была працягам таго, што ён перад гэтым чытаў па памяці.

– А гэта з якога нумара газеты?

Зміцер, не задумваючыся, адказаў:

– З шостага, васпане, з шостага.

– Ты як быццам знарок стараешся ўзмацніць сваю віну, – паглядзеў на яго са шкадаваннем Сакалоў, уздыхнуўшы, адкладваючы ўбок ручку. – Для чаго?

Зміцер няўцямна паціснуў плячыма. Безуважна паглядзеў сабе пад ногі. На яго твары не было ні трывогі, ні страху.

– Скажы, Зміцер, зразумець хачу, – Сакалоў сашчапіў пальцы, паклаў рукі на стале. – Ты і твой Яська, гаспадар з-пад Вільні, супраць таго, каб некаторыя касцёлы ператварыць у цэрквы. Чаму? Я сам праваслаўны, хачу маліцца, як і ты, Богу. Але ж у касцёле я не магу памаліцца… Бог жа ў нас адзіны, Зміцер.

– Бог то адзіны, васпан, але… Бог даў кожнаму чалавеку зямлю, на якой ён жыве, якую абрабляе, сябе і яшчэ іншых корміць. І Бог даў у дадатак яшчэ і мову да гэтай зямлі. І загадаў маліцца на мове гэнай зямлі, інакш ні шчасця, ні плёну Ён нам ня дасць. А на якой мове вы праводзіце малебен на нашай зямлі? На царкоўна-славянскай? А яна ж не радуе нашы душы і сэрцы. І пра гэта сказана хараша ў "Мужыцкай праўдзе". Мо пан следчы дазволіць прачытаць?

Сакалоў моўчкі кіўнуў галавой. Добра, што нікога ў пакойчыку не было, таму і не было ніякай рызыкі, што могуць данесці начальству, што ён, Сакалоў, вядзе гульні са злачынцам…

*– Нарабіў нам такой бяды, дзецюкі, цар маскоўскі. Гэта ён, падкупіўшы многіх паноў, загадаў у схізму запісаць нас, гэта ён плаціў грошы, каб мы толькі пераходзілі ў праваслаўе і, як той антыхрыст, адабраў у нас нашу праведную уніяцкую веру і загубіў нас перад Богам навекі, а зрабіў тое для таго, каб мог нас бясконца рабаваць, а Бог справядлівы не злітаваўся над намі…*

І яшчэ паслухайце, васпане… З чацвёртай газеты. *У нас, дзецюкі, аднаму толькі вучаць у школах: каб ты ўмеў чытаць па-маскальску, а для таго гэта, каб цябе зусім перарабілі ў маскаля. Суды маскоўскія – гэта воўчая яма, дзе не разбіраюць, не вінаваты ты ці вінаваты, а дзяруць толькі як могуць. Бяспекі пад маскалём ніякай няма, хто мацнейшы, той і прыцясняе; а войска не для таго трымаюць, каб аберагаць кожнага ад злых людзей і ад прыгнёту, а толькі для таго, каб не даць народу і застагнаць, калі даведаецца пра сваю праўду, калі пераканаецца, што дзяруць з яго звыш усялякай меры. Урад маскоўскі як той злы пан, што, пачынаючы ад камісара аж да цівуна, дазваляе кожнаму народ душыць, каб як мага больш грошай у кішэню яго папала…*

Следчы не перабіваў Змітра, але той сам замоўк, апусціў галаву долу.

“Калі ж кожны мужык так уверуе, то вялікая хваля можа ўзняцца”, – падумаў Сакалоў.

А Зміцер працягваў:

*– Шэсць лет ужэ мінула, як пачалі гаварыць а свабодзе мужыцкай. Гаварылі, талкавалі і пісалі многа, а нічога не зрабілі. А гэты маніфэст, што цар з сэнатам і з панамі для нас напісаў, – ніякай у нём няма праўды, няма з яго для нас ніякай карысці. Парабілі канцылярыі, зрабілі суд, як бы гэта не ўсё роўна браць у сраку чы з судом, чы без суда. Парабілі пісараў, пасрэднікаў, а ўсё за мужыцкія грошы, і вялікія грошы – чорт іх ведае на што; для таго хіба, каб запісывалі ў ксёнжкі, як многа напішуць на сраках мужыцкіх. А з гэтага то і відаць, што нам нічога добрага і не думалі зрабіці.*

*Праўда, абяшчалі то калісь даць нам вольнасць, но як нам здаецца на наш мужыцкі розум, што хочуць ашукаці, бо калі*

*праз шэсць лет нічога не зрабілі, то чэраз рок пэўне не зробяць. Могуць яшчэ напісаці і другі маніфэст, яшчэ большы ад гэтага, но і з гэтага другога маніфэсту нічога добрага, як і з першага, не будзе.*

*Ад маскаля і паноў няма чаго спадзявaціся, бо яны не вольнасці, а глуму і здзерства нашага хочуць. Но не доўга яны нас будуць абдзіраці, бо мы пазналі, гдзе сіла і праўда, і будзем ведаць, як рабіць трэба, каб дастаць зямлю і свабоду. Вазьмемся, дзецюкі, за рукі і дзяржэмся разам! А калі паны схочуць трымаць з намі, так няхай жа робяць па свентай справядлівасці: бо калі іначай так чорт іх пабяры! Мужык, пакуль здужае трымаці касу і сакеру, бараніць свайго патрапіць і ў нікога ласкі прасіць не будзе.*

Зміцер уздыхнуў, паглядзеў на Сакалова, дагаварыў:

– Гэту “Мужыцкую праўду” напісаў і зноў пісаці будзе ***Ясь-ка-гаспадар з-пад Вільні.***

… Як чыноўнік, які абараняе інтарэсы свайго ўрада і краіны, як акруговы начальнік дзяржаўных маёмасцяў, ён павінен быў прымаць неадкладныя меры ў адносінах да злачынцаў рознага гатунку, такіх вось, як гэты селянін хаця б, але нешта падказвала падсвядома яму, што нельга рабіць рэзкіх і неабдуманых рухаў… Спакваля трэба, спакваля, не лезці на ражон, не палохаць селяніна...

– Скажы, Зміцер, а адкуль магла трапіць гэтая газета да Гарчака, Цюхны і Станкевіча?

– Адкуль? Каб жа я так ведаў. Нехта раскідваў ці прывозіў. Яе можна было ўбачыць у карчме. А то знаходзілі ў жыце. Казалі, што пакунак яе знайшлі каля крыжа на раздарожжы да вёсак Мінкоўцы і Чапляеўкі… Газету знаходзілі амаль у кожнай вёсцы, васпане.

“Так у яго і выведаеш, – падумаў са скрухай акруговы начальнік. – Хітры, што ліс”.

Сакалоў ведаў, што на сходах у хаце Маркевіча часта прысутнічаў фельчар Сакольскага пісарска-егерскага вучылішча Сянкевіч. З ім не раз сустракаўся як і ў самім вучылішчы, так і на вуліцы. Нічога падазронага ён не выклікаў, нідзе не выступаў супраць парадкаў. Але раз прысутнічаў на сходах, то трэба прымаць меры. Загадваў вучылішчам Урублеўскі. Яму і адаслала следчая камісія паперу-зварот, у якім выказвалася просьба, каб ён прыслаў неадкладна фельчара ў Адэльск.

Замест Сянкевіча ў следчую камісію прыйшоў пісьмовы адказ. Урублеўскі пісаў, што "на вялікі жаль, фельчара Сянькевіча прысламць нельга, бо ён па сямейных абставінах "учора" выехаў у Гародню".

Сакалоў здагадваўся, што тут не ўсё чыста, Урублеўскі мо і сам замешаны ў гэтай справе. Але не захацеў разбірацца ў гэтым глыбей і канкрэтней. Следства і так зацягнулася. Начальства ж гэтага не любіць. А тут яшчэ непадалёк ад Адэльска адбыліся сутычкі з паўстанцамі – у ход пайшлі косы і сякеры. Сяляне былі настроеныя рашуча і непрымірэнча. Так што фельчар, дзякуючы абставінам і загадчыку вучылішча, пазбегнуў адказнасці...

Шостага чэрвеня 1863 года па прыгаворы палявога ваеннага суда быў расстраляны Мацей Цюхна.

А першага жніўня аб тым пакаранні расказаў "Колокол" Герцэна.

Язэп Гарчак пазбегнуў такой кары. Следчая камісія не змагла юрыдычна і дасканала даказаць віну былога студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта. Яго выслалі пад строгі нагляд у Пермскую губерню.

... Янка Рабічка і не падазраваў, у якую жыццёвую каламуць ён кінуў сам сябе. Можа, каб ведаў, то за тысячы вёрстаў абабег бы тую следчую камісію і яе следчых...

Калі ж стала вядома, што расстралялі Цюхну па даносе Янкі Рабічкі, у адзін голас загулі ўсёй вёскай:

– Вытурыць яго з Вайнёўцаў!

– Як вытурыш, калі ён у царскіх памагатых сваім стаў?..

Амаль з усіх вёсак дзецюкі, як называў вяскоўцаў Каліноўскі, уліліся ў паўстанцкія атрады. Некалькімі з іх камандаваў Казімір Станкевіч. Склалі спісы, хто стаў касінерам, але ж і другі быў спіс – чорны, у які ўносілі тых, хто не толькі выдаваў паўстанцаў, а і памагаў царскім služkам. І паноў, і шляхту – усіх узгадалі, і тых, хто выконваў загад рэвалюцыйнага ўрада – дапамагаў грашыма, правіянтам, адзеннем. І тых, хто ўхіляўся і іншых адгаворваў...

Сярод ночы, калі яшчэ не прачнуліся першыя пеўні, калі Вялікая Мядзведзіца адарвалася ад шчыкоў лесу і павярнулася сваім чарпаком у самым версе, – успыхнула зырка полымя над хатай Янкі Рабічкі. Спаў у гэты час даносчык. Дым пачаў выядаць вочы, і ён ускочыў з ложка, выскачыў у двор, упаў на зямлю, пачаў ротам хапаць паветра...

– Гару-ууу!.. Памажыце, людзі добрыя, пажар!

Ніхто не адгукнуўся на просьбу. Хата ляснула без ратавання людзей, моўчкі, і з самай ранічкі пабег да прыстава, паскардзіўся, плачучы на свой лёс:

– Хату маю спалілі, як свечка згарэла! Вы абяцалі памагчы, пакараць тых, хто мне зло зробіць.

Прыстаў спытаў:

– Хто мог падпаліць?

– Ведаю! – адгукнуўся Рабічка. – То Міхася работа… Міхася Зенцюка. Гэта той Зянцюк, які на памяць чытаў мужыкам “Мужыцкую праўду”. Сам чуў… У паўстанцкіх атрадах былі браты Янка і Міхась Зенцюкі, Дамінік і Язэп Мярмонтавічы, Казік Хмара…

Вечарам станавы прыстаў і некалькі жандараў прыкацілі на брычцы ў вёску. Адразу пад’ехалі да ўказанай даносчыкам хаты. Схапілі Міхася Зенцюка. Потым да братоў Мярмонтавічаў падаліся… Асобнай брычкай, пад строгім наглядам, везлі ў Адэльск. З ім у адной параконцы сядзеў Міхась Зянцюк.

Дарогай прыстаў гаварыў яму:

– Ну што, даскакаўся, дачытаўся крамольнай газеты? У студзені мы адпусцілі цябе. А ты – у касінеры, у паўстанцкі атрад. Хаты паліць разам з Казімірам Хмарам, які яшчэ ў салдатах спяваў рэвалюцыйныя гімны. Возьмем, возьмем і яго.

Узялі. Праз нейкі час Зенцюка і Хмару адправілі радавымі ў амурскія батальёны. Астатнім прысудзілі найбольш строгія пакаранні…

*(Справа № 387. “О крестьянах Иване и Михайле Зенцюках, Доминике и Иосифе Мермонтовичах и Казимире Хмаре”).*

3

… На чалавеку зрэбнае адзенне, у лапцях. Кіёчак у руках – ідзе, абапіраецца на яго. Крочыць няспешна, як бы ўслухоўваецца ў гукі наваколля. Прыкмячае ўсё, што робіцца ў дварах вяскоўцаў, як паглядаюць на яго людзі, хаця самі яны больш маўчаць.

“Правільна, дзецюкі, правільна, – адзначае пра сябе дарожнік, – не кожнаму вуху давярайце свае думкі… Так і трэба, трымайцеся, хлопцы!..”

Ведаў ён, што сяляне маёнткаў Вялікая і Малая Лапеніцы пачалі бунтаваць яшчэ ў 1861 годзе. Адразу ж прыйшла туды рота

салдат, жандары пачалі дапытвацца, хто падбухторыў вяскоўцаў на бунт.

Праўды не дабіліся, і спісалі ўсё на няцямнасць, неадукаванасць, – усыпалі некаторым па некалькі бізуноў і пакінулі вёску. Спадзяваліся, што надоўга адпадзе ахвота бунтаваць.

Але ці не роўна праз год там зноў пачаліся хваляванні.

Нават калі прыехалі прадстаўнікі ўлады, не супакоіліся. Не дапамог і старшыня.

– Не будзем выконваць павіннасці па ўстаўной грамаце. А табе, старшыня, раім аднесці грамату назад у памешчыцкі двор, чуеш? Інакшай дарогі ў цябе няма, сам ведаеш, куды яна ў цябе ляжа.

Старшыня зразумеў, мужыкі не жартуюць, гатовыя на ўсё. Аднёс пану назад статутную грамату.

Той напачатку здзівіўся:

– Ну і дурні твае сяляне! Бізуноў ім усыпаць – адразу паразумнеюць.

– Але і бізуны ўжо не дапамагаюць...

Пан маўчаў, нічога больш не казаў, задумаўся. Незадаволенасць узрастала ўсё больш і больш. Селянін толькі ўскрыкваў ад болю, стараючыся зразумець, як пазбавіцца ад таго болю. Але ж як толькі трываць, інакшага выйсця яшчэ не бачыў, не саспеў яшчэ.

Па фактах стыхійных бунтаў гарадзенскі губернатар, на падставе дасланых яму папер, пісаў 27 жніўня 1862 года ў Вільню: *“При разыскании повода к такому неповиновению крестьян местный становой пристав представил три письма, в которых изложено грозное и возмутительное влияние на настроение духа крестьян...”*

Дыктатару Каліноўскаму паказвалі тое данясенне чыноўнікі, якія спачувалі паўстанню, якія па першым воклічы маглі ўліцца ў шэрагі паўстанцаў.

Паказвалі перапісаныя і другія дакументы. Той жа рапарт, што паслаў прыстаў Гаркавіч з мястэчка Падароска адразу ж пасля таго, як даслаў першае – пра хваляванне лапеніцкіх сялянаў. Гарадзенскі губернатар завёў адразу ж сакрэтную справу пра палітычнае становішча ў яго губерні і пра пастаяннае распаўсюджванне пракламацый.

Гаркавіч дакладаў пра тое, што ён пачаў сачыць за падзеямі бунтаўшчыкоў адразу пасля таго, як яны прынялі ўдзел у першых хваляваннях.

*“Ваша правасхадзіцельства! Я строга кіруюся тымі ўказаннямі, якія атрымаў з Вільні, з Вашай канцылярыі. Я днём і ноччу вывіжоўваў падазроных, прыслухоўваўся да іх размоў, прыкмячаў, дзе яны збіраліся купкамі, пра што гаварылі. Мне неабходна было даведацца, ці не маюць яны з кім-небудзь шкодных зносінаў і ці не падбухторвае хто іх да непадпарадкавання. Пагэтаму вымушаны далажыць вам, Вашае сіяцельства, што мне асабіста ўдалося даведацца, што паміж сялянамі разышліся нейкія бунтоўныя брашурныя пісьмы.*

*Але як толькі я непрыкметна набліжаўся да сялянаў, яны адразу ж замаўкалі. Альбо пераходзілі на іншую тэму гаворкі – гаварылі пра кароў ці малако, пра ўраджаі ці дажджы… Сяляне, вымушаны далажыць Вам, трымаліся дружна, да іх зусім нельга было падступіцца. Я добра разумеў, што ў дзёрзкіх сялянаў немагчыма будзе мне самому што-небудзь захапіць.*

*Але я знайшоў сабе памочнікаў – тайных і яўных. Выручыў мяне лапеніцкі поп Пратасевіч, які і перадаў мне тры крамольныя пісьмы. Сярод іх былі “Мужыцкая праўда” № 1 і невядомая беларуская вершаваная “Гутарка двух чарвякоў”. Нягледзячы на ўсе экзекуцыі, лапеніцкія сяляне трымаліся ўпарта, і ніяк не ішлі на збліжэнне з царскімі ўладамі.*

*У лістападзе 1862 года падароскі благачынны Васінскі данёс мне, што гарнастаеўскі валасны пісар Серкучэўскі чытаў, нікога не асцерагаючыся, сялянам “Мужыцкую праўду” непасрэдна ў Свіслацкай валаснай канцылярыі…”*

Ад вёскі да вёскі крочыў чалавек у зрэбным адзенні. З выгляду непрыкметны, невысокага росту, няпэўнага ўзросту. Па яго хадзе можна было меркаваць, што валацуга быў яшчэ ў маладой сіле. Калі ж ён стаяў на месцы і абапіраўся на свой кіёчак, расчэсваючы адной рукой кужэльную бараду, то і за састарэлага можна было яго прызнаць… Ён нічым не выдзяляўся сярод людзей, – амаль усе хадзілі ў такіх апратках.

З правага боку вачам адкрылася капліца – драўляная, абшаляваная дошкамі. Капліца прытулілася да векавых ліп і старых бяроз. На галінах бярозы густа віднеліся круглыя кусцікі амялы – як усё роўна варанячыя гнёзды.

Чалавек чамусьці спыніўся каля капліцы, пачаў уважліва аглядаць яе. Потым скіраваў позірк на цвінтарышча з пахіленымі і счар-

нелымі ад часу крыжамі. Нечага спужалася варannё, і жывое чорнае воблака, порстка ўзняўшыся вышэй дрэў, скіравала ў бок тракта, туды, дзе разыходзіліся дарогі, да старога моста, дзе бачыўся вузейшы гасцінец, абапал якога віднеліся свечкі стромкіх бяроз.

Да карчмы ўжо зусім блізка, мо з паўсотні крокаў. Яна стаяла леваруч ад дарогі, каля высокай састэрэлай ліпы. Выдзялялася сярод тых, якія ён сустракаў на сваім шляху. Звычайна яны былі падобныя адна на адну – шэрыя, пахіленыя, неахайныя. За вярсту ад іх патыхала брагай і кіслай капустай. На высокім падмурку, з вялізным ганкам. Агароджаная прасторная вазоўня. Значыць, можна і заначаваць, распрогшы каня.

Чалавек падняўся па прыступках і прачыніў дзверы – зайшоў у прасторныя сені. Наведнікі тоўпіліся каля бочачкі – з селядцамі, тут жа стаялі кадкі з капустай, гуркамі. У вялізнай скрыні, у кутку, жаўцеў авёс, – коні ў падарожнага галодныя не будуць.

За акаванымі бліскучай меддзю дзвярыма, пераступіўшы парог, ён апынуўся ў светлай і прасторнай палавіне. Падлога была вышараваная дзеркачом – аж блішчэла. Выгабляваныя сталы стаялі пасярод залы і паўз сцены. Шырокія і доўгія лавы, вялікія вокны – па два з двух бакоў.

Хаця яшчэ быў не позні вечар, за дубовымі сталамі сядзелі мужыкі, гаманілі, медавуху разлівалі ў гліняныя кубкі. На яго ніхто не звярнуў увагі.

Прышэлец моўчкі сеў за стол, што прытуліўся ў кутку, – адтуль лацвей было глядзець за ўсёй залай. Ён не спяшаўся, таму не стаў гукаць таго, хто падасць яму піва.

Але з-за блакітнай перагародкі тут жа з’явілася нагнутая постаць карчмара – у чорнай камізэльцы, на галаве круглая ярмолка.

– Дзень добры шаноўнаму пану! Што пан загадае падаць?

– Мне паўкварты піва, горла прамачыць.

– Мо пан здарожыўся, то на перакуску ёсць у нас парасяціна, салёныя рыжыкі ды і моцныя напоі розныя?

– Не, – пакруціў адмоўна галавой госць, – пакуль піва, а потым пабачым. Але да піва селядца можна.

– Як пажадае вяльможны пан. Піва ў нас гжэчнае, асалода піць такое. Толькі што ад бровара прывезлі.

Госць агледзеўся. Пакуль гаварылі з карчмаром, яшчэ падышлі мужыкі. Паселі, хто дзе. Заказвалі сабе сівухі, прыкусвалі капустай ці гурком, селядцом. На большае, мусіць, грошай не хапала.

У правым кутку ад дзвярэй, схіліўшы галаву над сталом, глядзеў у столь і спяваў на паўголаса не стары яшчэ дзяцюк, паныла цягнучы незразумелую мелодыю:

*Пілі мы гарэліцу, ой пілі,*
*Га! Га, налі, карчмар, яшчэ налі…*

Валасы звісалі да самага стала, хавалі яго твар. Ён зноў і зноў распачынаў сваю песню, не зважаючы ні на кога. Прыслухаўшыся, можна было падумаць, што чалавек плача і вылівае свае слёзы разам з болем, адначасова стваралася ўражанне, што чалавек пасміхаўся з самога сябе…

– Езус пахвалёны! – вывеў з задумення чыйсці зычны голас.

– Пахвалёны, добры чалавек!

– Ці можна да цябе падсесці? – Побач стаяў чалавек у зіпуне, глядзеў даверліва, камечыў у руцэ шэрую  магерку.

– А чаму б не, месца ўсім хопіць, – адказаў ціха, запрашаючы прысуседзіцца. – І мне весялей будзе.

– Ото дзякуй, – абрадваўся новы наведнік, паклаў магерку побач з сабой на лаўку.

Агледзеўся, крутануў галаву ў адзін бок, у другі, як шукаючы каго.

– Відаць, ты не тутэйшы, – пацікавіўся, не адрываючы позірку ад чырвонай паркалёвай занавескі, за якой знік карчмар.

– Не. З-пад Вільні я, не так і далёка адсюль.

– Ото я бачу, і апранаха ў цябе не нашая, і гаворка трошкі адрозніваецца, – сусед скончыў свае агледзіны. – Мяне завуць Казімір Атрушкевіч. А цябе?

– Ясь. Вітажэнец.

Адказаў неахвотна, не ведаючы, што за чалавек перад ім і чаго дамагаецца. Распытваецца дзеля вясковай цікаўнасці ці мае што на мэце?

Казімір хмыкнуў, падкруціў абвіслыя вусы:

– Во якое супадзенне – Яська ды яшчэ з-пад Вільні. Мо яшчэ Яська-гаспадар?

“Не, позірк не насцярожаны, – падумалася, – і ў голасе няма той вывіжоўнай цікавасці, што ў шпігаў, значыць, на размову напрошваецца, адвесці душу хоча…”

– А што, непадобны? – хітра, спадылба, зірకануў на Казіміра. – Не таго гатунку?

Да іх у гэты момант падышоў карчмар, паставіў перад Ясем кварту з півам, парэзаны селядзец з цыбуляю на гліняным сподку.

– Табе што прынесці, Казімір? – звярнуўся ён да новага наведніка – пэўна, ведаў яго.

Той узняў галаву, паглядзеў на карчмара, абыякава праказаў:

– А тое, што і заўсягды, Маісееў улюблёнец! Хоць Майсей і не загадваў табе, Іцко, спойваць праваслаўны народ, але ты харошы чалавек. І ў доўг наліць можаш, і рубля пазычыць…

Іцко зрабіў выгляд, што пакрыўдзіўся:

– Вуй, ну хіба так казаць можна пра беднага іўдзея? Чаму я спойваю людзей? Я ім весялосць даю, радасць. Прыйдуць сюды, пагамоняць, паспяваюць, душу адвядуць, а ты – “спойваеш”. Я ж не прымушаю піць – во чалавек не захацеў маёй сівухі, дык півам душу адвядзе…

Казімір крутануў галавой, паглядзеў на Яся, з усмешкай прамовіў:

– Не прымушаеш? А аканомаву сівуху, што табе пастаўляе, паспрабуй не выпі, дык ён і так тыя грошы адбярэ… Жывадзёры вы, з ім заадно. Ды ладна, Іцко, цябе не пераборашь, – нясі тое, што на стол просіцца…

Пацісну ўшы пакрыўджана плячыма, “маісееў улюблёнец” пайшоў у свой закуток, а Казімір наўздагон хмыкнуў напаўголаса:

– Не спойвае ён, габрэй, яшчэ і як мужыка спойвае.

Трохі памаўчаўшы, зноў звярнуўся да Яся:

– Дык мы пра гатунак… Яська-гаспадар? Вітажэнец? Ну, няхай не ты сам, дык мо сустракаўся, бачыў таго Яську-гаспадара з-пад Вільні?

Казімір перайшоў на шэпт.

“А ці не залішне ты цікаўны?” – падумаў пра суседа Ясь,напружана гледзячы у блакітныя вочы вяскоўца.

– Пра якога гаспадара Яську ты ў мяне пытаешся?

Казімір дастаў з-за пазухі складзеную ў некалькі столак паперчыну, паклаў перад сабою. Прыкрыў яе напрацаванай, як не чорнай, даланёй. Яна была павернутая так, каб можна было прачытаць суседу насупраць самы ніжні радок, прашаптаў:

– А пра гэтага, васпане, пра гэтага Яську. Мо калі жыццёвыя дарогі і перакрыжоўваліся? Вось мы маем яго “Мужыцкую праўду”, а самога і ў вочы не бачылі. Мо найміт які з царскага двара, а мо і падбухторшчык які да паўстання. Мы падымемся, а ён – шусь! – ды і ў карчы, туды, дзе ваўкі клыкастыя, дрыгва бяздонная, – га?

Вітажэнец усміхнуўся, адпіў колькі глыткоў піва з куфля, пра якое нават забыўся, уражаны быў ад нечаканага павароту размовы.

– Чытаць умееш, Казімір?

– Ты лепей спытай, ці ведаю я змест гэтага нумара.

– Добра. Спытаю. Адкажы, пра што напісана ў ім.

Не адымаючы рукі ад паперы, але прысунуўшы яе бліжэй да сябе, набраўшы паветра ў грудзі, падрыхтаваўся нешта сказаць, але ў гэты ж момант да іх падышоў карчмар. Ён моўчкі паставіў перад селянінам палову штофа сівухі, смажаніну з цыбуляй, некалькі кавалкаў чорнага хлеба.

Казімір толькі кіўнуў галавой – падзякаваў. Карчмар, бачачы, што перабіў ім размову, тут жа і адышоў ад іх.

– А напісана ў газетцы вось пра што. “*Маскаль то хітры, ён-то, дзецюкі, хоча, каб не даці нічога, а народ думаў, што ўжэ мае ўсё як належыць. Не мерыўшы, судзеце хаця з гэтага аб яго хітрасці. Два рокі ўжэ таму, калі яшчэ ніякіх маніхвэстаў а вольнасці не аб'яўлялі, народ у ў Пецярбургу, Маскве і па цэлай Расеі пачаў вельмі крычаці, што калі ронд не дасць яму вольнасці, то ён цэлаю грамадою 19 фэвраля збунтуецца. Тагды цар, бачу, збаяўся і вялеў сэнатаві з'ехаціся, а народаві аб'явіць, што ў посце вольнасць дастане. Народ дурны паверыў да і разышоўся, а цар, з сэнатам паталкаваўшы, як мінула трывога, так і аб'явіў у мейсцу вольнасці маніхвэст, а ў маніхвэсце прыказывае мужыкам служыць да часу паншчыну па-старому, а па-новаму заплаціць больш грошай у казну на пісараў, пасрэднікаў, да і чорт іх ведае на што. Судзеце ж цяпер самі, чы ж не ашуківаюць нас?..*”

Казімір сцішыў голас, агледзеўся вакол, забыўшыся на сівуху і вячэру:

*“Но не на доўга здасца ім круцельства, бо, як я казаў, мы ўжэ пазналі, што нам не маніхвэстаў, а вольнасці патрэба – і то вольнасці не такой, якую нам цар схоча даці, но якую мы самі, мужыкі, паміж сабою зробімо. А для таго, дзецюкі, каб ніхто вас не мог ашукаці, цяпер ужэ талкуйце паміж сабою, якой вам вольнасці патрэба і якім адно спосабам мужык яе дастаць можа. Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваці трудна, бо боска моц вяліка, а народу многа.*

*Так з гэтага пісьма і відна: што няма чаго ждаці ад нікога, бо той толька жне, хто пасее. Так сейце ж, дзецюкі, як прыйдзе пара, поўнаю рукою – не шкадуйце працы, – каб і мужык быў чалавекам вольным, як е на цалюськам свеце. Бог нам дапаможа!!!*

*Яська-гаспадар з-пад Вільні».*

– Адкуль у цябе газетка? – спытаў Вітажэнец, здзівіўшыся, як субяседнік прачытаў усё па памяці.

– Ехаў адзін чалавек у карэце, па тракце ехаў. Ішоў касец з касьбы. Карэта спынілася, выйшаў падарожнік, во як ты акурат ростам, і даў касару пук газет. А той касец – Мацей Цюхна – мой сусед. Мы носім газеты па ўсіх вёсках, раздаем людзям. Вечарамі збіраемся ў каго, чытаем… Я чытаць не ўмею, толькі запамінаю ўсё. Кожнае слова памятаю. А табе магу гэтую газету даць, “Мужыцкая праўда” называецца. Калі ты ўмееш чытаць, васпане. Умееш?

Ясь усміхнуўся, ледзь заўважна кіўнуў галавой:

– Трошкі, Казімір, умею, дзякуй Богу! А дзе твой сусед, спадар Казімір?

Чалавек нахмурыўся, моўчкі наліў сабе сівухі, прамовіў:

– Зямля яму пухам.

“Не хлусіць, значыць, – падумаў пра сябе Вітажэнец, – ведае пра тое. Пра расстрэл і ў “Колоколе” было надрукавана”.

Казімір прыкусіў скарынкай хлеба, задумаўся, уздыхнуў.

– Харошы чалавек быў мой сусед. Дужа харошы. Разумны. Чытаць і пісаць умеў. Чаго не ўмею я.

Жаваў без смаку, глядзеў некулы ўглыб стала. А потым нечакана ажывіўся, паглядзеў на Яся, пацікавіўся:

– Слухай, Яська з-пад Вільні, мо гэта ты яму і даваў той пук газетак?

Глядзеў даверліва ў вочы, чакаў адказу.

– Я. І цяпер у мяне з сабою ёсць.

– О, як добра! Сам Бог паслаў нам сённяшнюю сустрэчу! Вось цяпер я з ахвотаю пасмакую сівухі! Пачаставаць цябе, Ясь?

Вітажэнец адмоўна пакруціў галавой.

– Тады ўсё роўна мы вып’ем за гэта! Ты – піва, а я – гарэліцу.

Нават стукнуліся бакамі пасудзіны, як бы змацоўваючы сваё знаёмства.

– Раскажы пра сябе, Казімір.

Казімір зноў каўцянуў колькі глыткоў сівухі, паглядзеў на Вітажэнца:

– Што расказваць пра сябе? На Каўказе служыў, за цара-бацюхну жывата не шкадаваў. З генерал-маёрам Сляпцовым служыў. Выдатны быў чалавек! Сябар Міхайлы Лермантава, паэта. Калі вучыліся ў школе гвардзейскіх юнкераў  і падпрапаршчыкаў, сядзелі за адной скамейкай. Загінуў генерал, як я даведаўся, у 1851 годзе. Мы з Шамілём ваявалі. Шаміля во як цябе блізка бачыў, праваднікам быў у Хаджы-Мурата…

– Глядзі ты, – здзівіўся Ясь, – ёсць пра што ўспомніць…

– Ёсць, братка, ёсць… Паранены, пакрамсаны шамілёўскімі шаблямі, а які мяне д’ябал паслаў туды ваяваць, і сам не ведаю. Нескароны народ горцы, – гордыя, адважныя і смелыя. Тайна я сябраваў з адным горцам, давяраў я яму, як і ён мне.

– А якія настроі былі сярод салдатаў, з якімі ты служыў?

– Ды якія настроі… Ад дома адарвалі на дваццаць пяць гадоў, а ў кожнага дома бацькі, якія не могуць пракарміцца, і салдат нічым памагчы не можа… Хто жонку пакінуў з дзецьмі, а хто адзінокіх бацькоў… Паміж сабой пагаворым, як бядотна жыць на свеце – і ўсё. Некалькі салдат уголас загаварылі, што жыць так нельга, і не ведаем, куды яны падзеліся… Вось бы нам такую тады б газетку, як гэтая, ды назвалі б яе “Салдацкая праўда”, то мы шмат чаго зразумелі б…

– А з гэтай, “Мужыцкай праўды”, мужык зразумее? – папытаўся Ясь пра галоўнае. – Ці пра тое расказвае і вучыць Яська з-пад Вільні?

– Пра тое, што трэба. Баяцца яе царскія служкі.

Вітажэнец усміхнуўся, абрадваўся, пачуўшы такое.

– А цяпер адкажы мне, Казімір, на галоўнае пытанне – ці гатовыя падняцца дзецюкі з вёсак? Ці можа на іх пакласціся паўстанне?

– Гатовы. Праўда, не ўсе, але большасць чакае толькі сігналу. Калі ён будзе, Ясь Вітажэнец?

– Будзе. Мала ўжо засталося часу да таго дня.

– Хутчэй бы.

Вітажэнец дастаў з шэрай паношанай кайстры пачак газет, абгорнутых старым рыззём, паклаў перад Казімірам.

– Схавай!

У імгненне вока сусед Цюхны засунуў пададзенае за пазуху.

Вітажэнец даеў селядзец, дапіў піва. Казімір дапіў рэшту сівухі. Маўчалі. За суседнімі сталамі гаварылі пра адвечнае дзецюкі, лаючы сваіх жонак, тых, хто прыцясняў іх, не даваў вольна дыхнуць…

“Во харошы момант папытацца ва ўсіх пра жыццё-быццё, ды карчма – не месца для такіх размоваў. А сабраць іх у іншым месцы немагчыма… Добра, што сустрэўся Казімір, няхай і раскажа пра іх гутарку, ды толькі не прызнаецца, з кім бачыўся…”

– Мне пара, Казімір, ссутоньвацца пачало ўжо, – паглядзеў на шэрае акно Ясь. – Я пайду адзін, не праводзь мяне.

– Куды цяпер пойдзеш, гаспадар з-пад Вільні? Мо заначаваў бы ў мяне – час цяпер неспакойны, усюды шпікі царскія шныраюць.

– Таму і не хачу, – растлумачыў Вітажэнец. – Яны палююць за мной, мне трэба быць асцярожным. Таму бараду прыклеіў сабе.

– Добра. Згодзен. Што на развітанне скажаш?

– Каб мужыкам перадаў газеты. Каб сказаў ім, што хутка грымне гром і пачнецца навальніца.

За ім, відаць, назіраў карчмар, бо, пабачыўшы, што госць дапіў піва, падышоў да яго.

Вітажэнец выклаў грошы. Падзякаваў.

– Будзем рады вас зноў бачыць у нас, – нахіліўся ў паклоне карчмар. – Добрым гасцям мы заўсёды рады.

Ніхто не заўважыў, як Кастусь Каліноўскі пакінуў карчму.

… Праз хвіліну яго паглынула цемра, схавала ад чужога позірку.

4

“Расія пацярпела паразу ў Крымскай вайне 1853-56 гадоў. На расійскі трон у 1855 годзе узышоў цар Аляксандр II. Наступіла нейкая зладжанасць расійскай палітыкі ў адносінах да Каралеўства Польскага.

Прыйшла “вясна” – так званая севастопальская адліга і ажыўленне эканамічнага і культурнага жыцця.

У Варшаве заснавана – у 1857 годзе – Медыцынская хірургічная акадэмія, а праз год ствараецца Сельскагападарчае таварыства. Кіраўнік яго – А.Замойскі.

Акрамя гэтага ліквідоўваецца мытная мяжа з Расіяй – у 1851 годзе. Удала ўкараняецца эканамічна-палітычная кан’юнктура, якая з’яўляецца буйным штуршком у развіцці прамысловасці, сельскай гаспадаркі, гандлю, росквіт гарадоў, асабліва Варшавы.

Але насуперак гэтаму, ці ў дадатак да гэтага, пад канец пяцідзясятых гадоў, пад дэвізам сацыяльных рэформаў і барацьбы за незалежнасць і самастойнасць, значна актывізаваліся ўсе слаі грамадства на тых землях, якія анексіравала Расія.

Найбольш яскрава праявілася тое ў вёсках Каралеўства Польскага, а гэтак жа Літвы і Беларусі (Ліцвініі) абвастрыліся зямельныя канфлікты. Выклікала вялікае незадавальненне ад прымусу адбываць паншчыну. Гэта адчувалі тыя, хто быў набліжаны да расійскага цара, – тое найбольш адчуваў і ведаў цар.

1861-шы год... Аляксандр ІІ нечакана для многіх выдае распараджэнне аб вызваленні сялянаў ад прыгонніцтва. У тое цяжка было паверыць, і сяляне напачатку сапраўды не верылі “добраму царубацюхну”. Распараджэнне не толькі адмяняла паншчыну, а яшчэ і давала сялянам права ўласнасці на тую зямлю, якую яны доўгі час апрацоўвалі. За мізэрны выкуп.

Адных гэта радавала, але не ўсіх. Асабліва тых, хто жыў у Каралеўстве Польскім, у Літве, Беларусі і ва Украіне. На тыя землі распараджэнне не распаўсюджвалася. Гэта дадаткова абвастрыла сітуацыю ў вёсцы.

У навучальных установах Кіева, Масквы і Пецярбурга, як грыбы пасля дажджу, пачалі ўзнікаць патаемныя, канспіратыўныя арганізацыі сярод студэнцкай моладзі. А студэнты ў асноўным – выхадцы з Літвы, Беларусі і Ўкраіны. Нават у Акадэміі Генеральнага штаба ў Пецярбурзе афіцэр расійскай арміі Зыгмунд Серакоўскі арганізаваў польскі тайны гурток афіцэраў, да якога быў далучаны і капітан Яраслаў Дамброўскі. Яго імя пазней увойдзе ў гісторыю як аднаго з будучых і актыўных кіраўнікоў Парыжскай камуны 1871 года.

А ў Кіеве пачаў дзейнічаць Тройніцкі саюз, які здолеў аб’яднаць польскіх і ўкраінскіх студэнтаў.

Тайныя саюзы пачалі ўзнікаць таксама ў навучальных установах Варшавы – Акадэміі мастацтваў і Медыцынскай хірургічнай акадэміі.

Палітычную эміграцыю на той час узначаліў Л.Мераслаўскі. Ён пільна сачыў за падзеямі, якія бурна пачалі развівацца на шырокай тэрыторыі.

Пачынаючы ўжо з 1860-га года ў Варшаве і яе правінцыях, а затым ужо і Літве, адбываюцца патрыятычныя выступленні. Прычыны быццам бы бяскрыўдныя – з нагоды нейкай даты, нейкай урачыстасці. Яскравы прыклад пераможнай барацьбы

за аб’яднанне Італіі, якое ўзначаліў Джузепе Гарыбальдзі, спрыяў пашырэнню патрыятычнага руху сярод польскага грамадства і іх імкненняў да аб’яднання Каралеўства Польскага з землямі Літвы, Беларусі і Ўкраіны.

У год адмены прыгоннага права ў Гародні адбылося ўрачыстае святкаванне заключанай там у 1413 годзе Польска-літоўскай уніі з непасрэдным удзелам прадстаўнікоў тых земляў. Кола пратэсту хаця і пакрысе, але набывала нейкі рух.

… Браты Каліноўскія ўваходзяць у рэвалюцыйны гурток афіцэра генеральнага штаба Зыгмунда Серакоўскага і капітана Яраслава Дамброўскага.

Знаёмяцца з Кіркорам і Шаўчэнкам.

………………………………………………

Вераніка Рыбінская выдзялялася сярод жанчынаў Мастаўлянаў.

Сымону Каліноўскаму яна прыглянулася з самай першай сустрэчы, калі ўбачыў яе, як яна выходзіла з касцёла. Адразу да яе падысці не асмеліўся – стаяла з бацькамі, а вось калі сустрэлася яму адна, на вуліцы, несла кошык з вялікоднымі пірагамі, накрытымі вышыванай сурвэткай, наважыўся загаварыць з ёю. Размова была кароткай, па некалькі слоў прамовілі, але і таго было дастаткова, каб ён прыняў цвёрдае рашэнне: “Вераніка павінна стаць маёй жонкай!..”

Тлумачыў яе бацькам, калі прыйшоў прасіць рукі іх дачкі:

– Родам з Рэплі, ёсць такая мясцінка непадалёк адсюль. Выхаванне меў дамашняе. Беззямельны я, так ужо сталася… Але маю гордае званне – шляхціц. Ведаю, гэта не багацце, але яно будзе, калі я стану ўладальнікам майстэрні ільняных вырабаў і калі за добрую памочніцу ў мяне будзе Вераніка. Бацька Стэфан і маці Тэрэзія для гэтай справы паабяцалі мне выдзеліць грошы… І вось у пацверджанне маіх намераў…

Паклаў на стол некалькі абрусаў, стос сурвэтак. Аздобленыя ўзорамі, нацыянальным арнаментам.

– Гэта я іх зрабіў сваімі рукамі. Маю такое захапленне – выбляць рэчы з ільну і бавоўны.

Бацькі Веранікі былі ўражаныя. Загадзя ведала, што бацькі дадуць згоду на шлюб, вунь як абрадаваліся, значыць, і Сымон спадабаўся ім…

Дваццаць першага красавіка 1833 года нарадзіўся першынец – сын. Назвалі яго – Віктар Отан Сямёнавіч Каліноўскі.

А другога лютага 1838 года на свет з'явіўся новы нашчадак. Нованароджанага сына двойчы запісалі ў хросныя кнігі Ялаўскага прыходскага касцёла – шостага лютага яму даюць імя Вікенцій, а чацвёртага красавіка, як і належыць католіку, два імені – Вікенцій Канстанцін.

Растуць, падымаюцца сыны, а на маці як прагневаўся за нешта Бог. Мо таму, што без кахання выйшла за Сымона. Але якое магло быць каханне, калі сёння пабачыліся, а праз дзень-два жонкай стала… Ніштаваты аказаўся чалавек: і дабрачы, і працавіты, і да дзяцей адносіўся добра. Хіба што пастаянна ўнураны быў у сябе, сваёй майстэрняй заняты, хаця вялікага багацця тая і не прыносіла…

Пасля першых двух сыноў нарадзілася дзіцё – Бог забраў… Нарадзілася другое – той жа лёс. Так і з трэцім, і чацвёртым… І з пятым, і дзясятым…

Красавік выдаўся сонечным, цёплым. Чакалася, што калі пачнецца травень, усё будзе ў маладой лістоце. Глядзіць Вераніка ў прачыненае акно, на зялёныя галіны бярозы, шчымлівая трывога агортвае яе душу. З ложка не ўстае, бо вось-вось павінны пачацца роды… Бабка-павітуха, старая Вікця, сядзіць пастаянна каля яе.

Калі ж адлучылася па сваіх клопатах да суседзяў, Вераніка паклікала Віктара.

– Сынок, а дзе брацік?

– У двары, мама, а што?

– Пакліч, Віця, яго, пагаварыць з вамі хачу.

Не адчуваючы матчынай трывогі і заклапочанасці, выбег у двор, адшукаў брата, пераказаў:

– Маці нас кліча… Нешта сказаць хоча. Пайшлі.

Кастусь у сваім пяцігадовым узросце яшчэ не ведаў, што ў кожнага чалавека ёсць нейкія прадчуванні, прадказанні… Адно трывога авалодала ім. Малодшы сын падышоў бліжэй, стаў каля галавы маці. На яе твары ён убачыў пакуты і боль, ад чаго ў самога сціснулася сэрца. Побач стаяў Віктар.

– Як хораша на вуліцы… – паглядзела маці ў акно. – Дажыць бы да наступнай вясны, але… Усё ў руках Бога. А я вось "Кабзара" не дачытала, што бацька прынёс мне.

Сыны пераглянуліся, не ведаючы, як аднесціся да яе слоў, а маці працягвала:

– Чаго я вас паклікала, сыночкі мае? У кожнага чалавека ёсць парог, які ён пераступае, ідучы ў вялікае жыццё, і, калі вяртаецца, таксама пераступае парог… Я блізка каля свайго другога парога.

– Мама… – паспрабаваў нешта сказаць ці запярэчыць Віктар.

– Не перабівай, сын, бо мне цяжка гаварыць, і магу не паспець выказаць усё. У нас была б вялікая сям’я, калі б Бог не загневаўся на мяне… Дванаццаць было б у вас братоў ці сястрычак… Я марыла пра вялікае і цікавае жыццё, любіла чытаць кнігі, вершы любіла чытаць, пра гісторыю нашага краю хацела больш даведацца… Мой бацька, а ваш дзед, хацеў мяне ў Пецярбург адправіць вучыцца… Я вельмі гэтага хацела. Але сустрэўся ваш бацька, і дарога замест Пецярбурга прывяла ў Мастаўляны… І тут я аказалася як у клетцы. Кожны з нас, дзеці, знаходзіцца ў нябачнай клетцы. І кожны імкнецца вырвацца з той клеткі. Вырывайцеся і вы з яе, як пойдзеце па жыцці… Я спрабавала што-кольвечы запісваць, весці нешта накшталт дзённіка. Напісанае хавала ад бацькі, не хацела, каб ён нешта прачытаў і быў у крыўдзе на мяне за шчырасць. Сшытак я аддала бабе Вікці. Вырасцеце, прачытаеце. А цяпер…

– Дайце, сыны, мне вашыя рукі.

Кастусь падаў левую, а Віктар правую руку.

Маці злучыла іх, сціснула, колькі ставала сілаў.

– Ніколі не разлучайцеся… Ніколі не крыўдзіце адзін аднаго. Вам будзе цяжка, без дапамогі цяжка, але вы павінны спадзявацца толькі на саміх сябе…

На вачах Віктара выступілі слёзы. Ён шмаргануў носам, апусціў галаву.

– А цяпер ідзіце з Богам! І не забывайцеся пра мяне.

Прыйшла баба Віцця. І адразу ж у пакой да парадзіхі.

Прыйшоў пад вечар і Сымон Каліноўскі.

А потым пачуўся крык маці. Сыны памкнуліся да яе ў пакой, але бацька адмоўна пакруціў галавой:

– Нельга да яе… Там баба Віцця ўпраўляецца. Можа, у вас брат ці сястра народзіцца.

Крык мацнеў, Сымон курыў і круціў нервова галавой…

А пасля стала ціха. Бацька прыслухаўся, ускочыў з лаўкі, памкнуўся да дзвярэй. На ганак выйшла баба Віцця, надрыўна абвясціла:

– Ніхто не нарадзіўся… Вераніка памерла, а разам з ёю і дзіцятка… Хлопчык…

Бацька, не ведаючы, што рабіць, кінуўся да дзяцей, не помнячы сябе. Абняў іх, прытуліў да сябе, заплакаў. Следам за ім заплакалі і сыны.

Гора, вялікае і несуцешнае гора абрынулася на іх сям'ю. А ўсяго трыццаць сем гадоў пражыла жанчына…

А неўзабаве ў хаце з'явілася мачаха – Лазарэвіч. Яна адразу ўзяла кіраўніцтва гаспадаркай і фабрыкай у свае рукі. Бацькі далі грошай, што прасіў Сымон, і яны ўдвух з жонкаю купілі фальварак Якушоўку ў Ваўкавыскім павеце. У іх ужо налічвалася дзвесце дваццаць дзесяцінаў зямлі. Уся сям'я пераязджае ў Якушоўку. Але дзіцячыя сэрцы братоў належаць Мастаўлянам, яны часта наведваюцца туды. І не толькі на родныя мясціны, дзе прайшло дзяцінства, а найперш да магілы маці.

Лазарэвіч нарадзіла Сямёну пяцёра дзяцей.

А праз нейкі час у той жа Свіслацкай гімназіі ў канцылярскай кнізе “Аб вучнях, якія паступілі ў вучэбныя ўстановы Беларускай вучэбнай акругі на 1847-1848 вучэбны год” з'явіўся запіс: *“Спіс вучняў 1 класа. № 28 – Каліноўскі Вікенцій-Канстанцін Сямёнаў сын”.*

Віктар у гэты ж час вучыўся ў чацвёртым класе гімназіі.

Ужо тады хлапчукі зачытваліся творамі Тараса Шаўчэнкі, а ў Вільні выйшла “Сялянка” В. Дуніна-Марцынкевіча, першая кніга першага беларускага прафесійнага пісьменніка. А яшчэ праз два гады выйшаў у свет “Маніфест Камуністычнай партыі”.

Віктар, сабраўшы вакол сябе навучэнцаў, тых, каму давяраў, расказваў пра тое, што адбыліся арышты сяброў “Саюза літоўскай (беларускай) моладзі”.

– І што стала з імі? – папытаўся аднакласнік Віктара Нікадзім Сахвоцкі.

– Што? На катаргу саслалі. Братоў Далеўскіх. А Зыгмунта Серакоўскага адправілі ў салдаты.

– Што неабходна рабіць нам? – дапытваліся сябры, прызнаючы Віктара, ведаючы, што ён больш за ўсіх разбіраецца і ў рэвалюцыйных падзеях, і не па гадах дарослы, мае мудрасць і розум.

– Не забываць пра тое, што ў Вільні расстраляны выдатнейшы сын польскага народа – рэвалюцыянер Шыман Канарскі. Яго бліжэйшага сябра, паэта, прарока і трыбуна, якога мы можам смела аднесці да кагорты беларускіх рэвалюцыянераў, – Францішка Савіча, – саслалі на Каўказ простым салдатам. Гэта Савіча сло-

вы: “*Патрэбен муж з сэрцам Вашынгтона і Інсілантыя, з сілаю і розумам Напалеона. З пінскіх балот і курных хатаў, пэўна, выйдзе гэты герой”*. Таму не будзем адчайвацца і мы.

– Не будзем! – падтрымаў брата Кастусь. – Назапасім у сваіх сэрцах цярпенне і мужнасць для будучага змагання.

– Правільна, дружа! – адобрыў яго словы прамоўца. – Нам пра гэта падказвае рэвалюцыя ў Кракаве. Недарэмна аддаў жыццё яе правадыр – малады польскі рэвалюцынер-дэмакрат, па ацэнках сучаснікаў таленавіты і адораны Божай ласкай Эдвард Дамбоўскі. Заходняя Галіцыя ўскалыхнула ўсю Еўропу. Там адбылося паўстанне сялянаў супраць сваіх прыгнятальнікаў – памешчыкаў. Сяляне нашага краю – Беларусі і Літвы – мараць зрабіць тое ж самае, што і іх браты ў Галіцыі.

– Калі гэта будзе? – не вытрымаў, папытаўся гімназіст Веніямін Гданоўскі. – І ці будзе тое?..

Маўчаць гімназісты. Разумеюць, што ў іх адбыліся не простыя пасядзелкі, а нешта больш адметнае…

Віктар, найбольш за ўсіх адчуўшы значнасць гэтай падзеі, прапанаваў:

– Назавем нашую групу “Маладыя змагары”. Паклянемся ў еднасці і вернасці агульнай справе. Далучыце свае рукі да маёй.

І ён выдаўжыў руку, сціснуўшы яе ў кулак.

Да яго падыходзілі “маладазмагарцы”, клалі даланю на яго кулак, ашчэплівалі, сціскалі. Усе дзесяць чалавек, што прыйшлі ў закінуты і стары будынак, змацавалі агульны кулак.

Самы апошні, завяршыўшы жывую гару рук, паклаў сваю далонь Вікенцій Канстанцін Каліноўскі.

… Неўзабаве Свіслацкая гімназія ператвараецца ў пяцікласнае павятовае вучылішча. Віктар Каліноўскі працягвае навучанне ў Гродзенскай гімназіі. Яго брат застаецца ў вучылішчы. Кіруе “Маладымі змагарамі” Вікенцій Канстанцін.

Аднойчы вартаўнік вучылішча падслухаў гутарку юнакоў і тут жа данёс дырэктару вучылішча.

Калі ж юнака выклікалі ў кабінет дырэктара, Кастусь здзіўлена спытаў:

– У чым мы вінаватыя? Тады хай разам з намі адказвае і настаўнік літаратуры Зыгмунт Янавіч.

– Чаму ён? – уперыўся дырэктар Янушоў чорнымі вачыма ў хлопца.

– Ён нам даў заданне напісаць да Новага года вершыкі, прысвечаныя нашай вучобе. Ды на кожнага выкладчыка... Мы сабраліся ў адрынцы і разам пісалі іх.

Янушоў не паверыў у шчырасць Кастуся, перапытаў:

– Дык чаму ж вы ў класе не збіраліся? Вам жа ніхто не забараняў.

– Дык той жа вартаўнік падслухае нейкае нашае слова. Пераверне яго дагары нагамі. І бяжыць потым да вас з даносам. Такое ж было месяц назад. То ж вы прасілі тады напісаць агульны ліст нашага класа з нашымі прапановамі і пажаданнямі. А тут вось зноў...

Дырэктар яшчэ раз пільна паглядзеў на гімназіста, зразумеўшы, што ніякіх падстаў няма падазраваць хлопцаў у нечым, перапытаў:

– А да Новага года вы паспееце напісаць?

– Ды мы амаль заканчваем!

– Ідзіце, Каліноўскі!

А яшчэ і не пачыналі пісаць тыя вершыкі. Прыйшлося добра папацець гурткоўцам, каб выканаць просьбу настаўніка, – каб яго не падвесці і свайго завадатара Кастуся Каліноўскага.

...Віктар скончыў гімназію, прыехаў у фальварак да бацькі.

– Куды цяпер, Віктар? – папытаўся брат. – З’едзеш?

– З’еду. У Маскву. Паступаць буду ва ўніверсітэт. На медыцынскі.

– Мне як далей кіравацца?

– Давучвайся. А там пабачым. Але паасобку мы жыць не будзем.

– Добра.

1855 год...

Скончыўшы вучобу, Кастусь Каліноўскі едзе ў Маскву да Віктара: ён паклікаў брата да сябе.

Завітаў да яго на кватэру. Падаўся ён брату схуднелым, хворым.

– Віншую цябе, дваранін Каліноўскі!

Брат недаўменна паглядзеў на Кастуся, чакаў тлумачэнняў.

– Значыць, не ведаеш яшчэ. Сенат зацвердзіў пастанову аб наданні Каліноўскім дваранскага звання.

– А-а, вось яно што, – кісла ўсміхнуўся Віктар. – Дабіўся-такі бацька свайго, цяпер да яго і не падступішся – заганарыцца…

– Яшчэ б… – заўсміхаўся брат, ведаючы, што гэта за такое дваранскае званне, і што яно дае.

Брат частаваў Кастуся гарачай гарбатай з пернікамі, распытваў пра сяброў, пра Якушоўку і Мастаўляны. Радаваўся, калі чуў прыемнае, хмурыўся, калі навіна была не з радасных, ды яшчэ датычыла іх сям'і ці родных.

– Ну, пісаў гарадзенскаму павятоваму прадвадзіцелю дваранства?

– Пісаў.

– І – што? Атрымаў пасведчанне аб беднасці?

– Вось яно, – падаў брат шэрую паперчыну.

– *"Для падачы ў Маскоўскі ўніверсітэт пасведчанне аб беднасці двараніна Вікенція Канстанціна Каліноўскага…"* Добра. Заўтра ж пойдзем разам дабівацца для цябе месца студэнта…

Усё было добра, так сталася, як і жадалася: Кастусь Каліноўскі стаў студэнтам, як брат, пачаў заводзіць новых сяброў, наведваў лекцыі.

Ды злы лёс умяшаўся ў жыццё. Данеслі рэктару, што студэнт медыцынскага факультэта Віктар Отан Каліноўскі разводзіць крамолу ў сценах вучэбнай установы, стварае тайныя рэвалюцыйныя гурткі… А раз ёсць данос, яму патрэбна даваць ход.

Асцерагаючыся, што гэтая справа атрымае працяг, могуць дакапацца да тайнаў стварэння суполак, Віктар, не раздумваючы, пакідае вучобу ў Маскоўскім універсітэце.

– Навошта нам гэтая медыцына? – падтрымаў яго Кастусь. – Для будучай справы яна мала чым спатрэбіцца. Нам трэба іншая адукацыя. І яе мы набудзем у Пецярбурзе.

– І я за тое. Ды галоўнае – мы будзем разам, адзін каля аднаго.

І ў ліпені браты Каліноўскія падаліся ў Пецярбург.

… Пад вечар, калі збольшага спала спякота, а пачатак жніўня азнаменаваўся страшэннай гарачынёй, прыйшоў на кватэру Віктар, з парога яшчэ спытаў у брата:

– Памятаеш, як арыштавалі ўдзельнікаў "Саюза беларускай моладзі"?

– Памятаю. Браты Далеўскія і Зыгмунт Сеpакоўскі.

– Так, так… Колькі месяцаў таму назад вярнуўся Зыгмунт. Ён разам з Яраславам Дамброўскім, афіцэрам генеральнага штаба,

стварылі падпольную арганізацыю. Сёння на тайнай канспіратыўнай кватэры збіраецца моладзь. Запрасілі і нас з табой, Вікенцій. Сходзім? Пазнаёмімся бліжэй, для нас гэта будзе карысна і знамянальна.

– Пярэчанняў няма, пойдзем.

Віктар спехам нешта ўкінуў у рот, запіў вадой. Потым выйшлі разам на разамлелую, пад спякотным сонцам, вуліцу.

Ідучы, спыталі колькі разоў, дзе знаходзіцца патрэбны ім дом. Ім паказвалі некуды рукой уздоўж праспекта, і яны амаль не збочвалі з яго. Потым прайшлі Мойку, куды прывозілі параненага Пушкіна пасля дуэлі, перайшлі мост з выявамі ільвоў, павярнулі ў ціхі завулак.

Віктар праз нейкі час паглядзеў на шыльду, прымацаваную да вугла, прамовіў:

– Тут… Гэты дом. На другім паверсе, як мне сказалі.

Дзверы былі трошкі прачыненыя, так што не прыйшлося стукаць і выклікаць каго. Але каля парога стаяў вартавы. Кіўнуўшы галавой, што пазнаў іх, паказаў позіркам: “Праходзьце далей…” Калі пераступілі парог, пачулі ўзбуджаныя галасы, воклічы. На іх, здавалася, ніхто не звярнуў увагі. Але той, хто сядзеў на канапе, пільна прыгледзеўся да тых, хто прыйшоў. Чалавек быў хударлявы з твару, з прамым носам, шырокім ілбом. Позірк праніклівы і дапытлівы.

– Каго маем гонар бачыць? – перапыніў спрэчку ці гамонку той чалавек, прыўзняўся. – Просім садзіцца, ёсць некалькі свабодных крэслаў.

Наперад выйшаў Віктар.

– Мы – браты Каліноўскія. Я – Віктар Отан. Ён – Вікенцій Канстанцін.

– А я – Зыгмунт Серакоўскі. А гэта, побач са мной, Яраслаў Дамброўскі, афіцэр генеральнага штаба. Яшчэ ў нас афіцэры Зыгмунт Падлеўскі і Людвіг Звяждоўскі, Эмануэль Юндзіл, Ян Козел і Юзэф Каліноўскі… Студэнт Ляснога інстытута Валеры Урублеўскі… Амаль усе, хто далучаны да нашай тайнай арганізацыі, выхадцы з Беларусі і Літвы. Мы цесна звязаны з расійскімі рэвалюцыянерамі.

Ужо калі паселі, Віктар датлумачыў:

– Калі вас арыштавалі, я вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. Потым Кастусь далучыўся да мяне. Пасля я вучыўся ў Гарадзенскай гімназіі. Праз нейкі час апынуўся ў Маскве. І брат туды ж пазней

прыехаў. Але прычапілася да мяне начальства, збіраліся за рэвалюцыйную прапаганду выключыць з універсітэта, тады мы з братам рашылі перабрацца сюды, у Піцер… Сёння Кастусь на трэцім курсе.

– Дзякую, сябры, што прыйшлі да нас. А тут сабраліся тыя, хто любіць свабоду, ненавідзіць царызм і дэспатычны пры-гнёт. Рашаем, як далей нам жыць… Стварылі канспіратыўны польскі гурток. Збіраемся, абмяркоўваем становішча спраў, выпрацоўваем тактыку будучых дзеянняў… Як у вас там у Паўночна-Заходнім краі, як празваў царызм Літву і Беларусь?

На гэты раз патлумачыў Кастусь Каліноўскі:

– Сялянства незадаволена прыгонным правам. Мужык збяднеў дашчэнту, яму трэба паказаць яго сапраўднага ворага… Бо селянін думае, што калі памяняць цара, то шчасце само прыплыве ў рукі.

– Дойдзе чарга і да гэтага. Будзем вучыць, пераконваць, а пакуль трэба на месцах ствараць такія ж гурткі з надзейных і пісьменных людзей, каб яны маглі дастукацца да сэрцаў селяніна, раскрылі яму вочы на праўду...

Браты сябе адчулі ў сваім асяроддзі. Адчуванне было такое, што яны даўно знаёмыя і з самім Сlaunchракоўскім, і з тымі маладымі людзьмі, якія знаходзіліся ў пакоі.

У простым адзенні, у чаравіках, якія ўдосталь “наеліся” і гразкай кашы, і мокрага пяску. Хлопцы з “Агула”, землякі – з Вільні, Мазыра, Чарнігава… У сурдутах, скроеных і пашытых хіба з - гучаў і світак, што дома былі бадай без патрэбы. Некаторыя насілі акуляры з прамавугольнымі шкельцамі. Не хапала грошай на паліто, таму хлопцы ўмудраліся выштукоўваць сабе пледы з таннай шатландкі ці нават з тых андаракоў, якія выраблялі на радзіме вясковыя майстрыхі…

Сераколўскі выдзяляўся сярод прысутных. Тварам, рухамі, нейкай нервознасцю. Вялікі адкрыты лоб, вялікія вочы, ці то шэрыя, ці то блакітныя, не зразумець. Іскрынкі ў іх, нейкі ўнутраны бляск. Адзенне на ім сядзела быццам бы і неахайна, але ён у ім адчуваў сябе вольна і не скавана. Калі гаварыў, то гаварыў страсна, пераканаўча. Можна было падумаць, што ён тыя словы ці сваю прамову рыхтаваў некалькі дзён…

– Як ідзе вучоба? Цікава праходзяць заняткі? – папытаўся, зірнуўшы ў іх бок, Яраслаў Дамброўскі.

– Цікава... – адказаў Кастусь. – Акрамя вучобы, арганізоўваюцца гурткі, што дазваляе знаёміцца з людзьмі, займелі ўжо сяброў і аднадумцаў.

– О, залатыя гады вучобы! – усклікнуў Зыгмунт. – Я сам з Валынскай губерні – нарадзіўся ў Лісавым Луцкага павета. Я, прыехаўшы ў гэты горад, пачаў па новаму адкрываць жыццё. Я вас абавязкова пазнаёмлю з Мікалаем Іванавічам Кастамаравым, з Тарасам Рыгоравічам Шаўчэнкам, з якім пасябраваў у той час, як мяне выслалі радавым у Арэнбургскі корпус. Ён далучаны да ўкраінскай рэвалюцыйнай групы.

Браты пераглянуліся: "З самім Шаўчэнкам? Кнігі якога штодзённа чытала маці?"

– Там жа і пасябраваў з Браніславам Залескім. Дабралюбаў, Чарнышэўскі... Яны – наш штандар, арыенцір і духоўны кірунак руху наперад...

На заключэнне гаварыў Яраслаў Дамброўскі. Ён падняўся з крэсла, адставіў яго ўбок, сам прыхінуўся спіной да шафы, склаўшы рукі ззаду. Гледзячы спачатку на братоў Каліноўскіх, прамовіў:

– Я, як вайсковы чалавек, хацеў бы пачаць з галоўнага. Сёння прыйшлі першыя ўдзельнікі нашага гуртка. З цягам часу нас будзе болей і болей. Таму для нас сёння галоўнае – дзве рэчы: жалезная дысцыпліна і строгая канспірацыя. Бо мы з гэтага дня адказваем не толькі за свае жыцці, а і за жыцці іншых...

Перавёўшы позірк ужо на іншых, спакойна прадоўжыў:

– Мы павінны разбіцца на групы. Мы павінны стварыць кіраўніцтва, зацвердзіць яго. Абраць сакратароў і скарбніка, паштальёна, які апавяшчаў бы кожнага з удзельнікаў аб тэрміновай сходцы ці, наадварот, адмяніць яе, калі будзе пагражаць нейкая небяспека... Я хацеў бы пачуць вашыя прапановы і думкі на гэты конт. Давайце спакойна іх абмяркуем, прыйдзем да нейкай высновы...

Прамовы маладых афіцэраў гучалі горача і страсна. Як людзі ваенныя, яны былі прыхільнікамі неадкладнага дзеяння супраць царызму, тлумачачы гэта тым, што шмат ваенных – радавых, афіцэраў і нават генералаў – незадаволеныя цяперашнім становішчам як у арміі, так і ва ўсім краі...

– Спакайней, спакайней, сябры мае, – усміхаўся Яраслаў, – усе пытанні трэба абмяркоўваць з халодным розумам, узважваць, узважваць і яшчэ раз узважваць тое, што мы прапаноўваем... Цярпліва трэба, і прыслухоўвацца да думкі астатніх...

Пасля гэтага размова пайшла ў больш спакойнае рэчышча.

Выказвалі сваё бачанне будучай сітуацыі і Каліноўскія. Яраслаў і Зыгмунт з цікавасцю слухалі іх.

Потым, калі браты Каліноўскія бліжэй сыдуцца з Яраславам Дамброўскім, то шмат пра яго даведаюцца цікавага і пранікнуцца вялікай павагай да гэтага чалавека…

Нарадзіўся Яраслаў на Украіне – у Жытоміры. У 1836 годзе. Бацька яго – Віктар Дамброўскі – быў архіварыусам у губернскім дваранскім сходзе, вялікіх чыноў не дасягнуў, але пад канец жыцця атрымаў тытулярнага дарадчыка. Дамброўскія паходзілі са шляхецкага роду, які перасяліўся некалі з цэнтральнай часткі Польшчы. Сям'я, да якой належаў Віктар Дамброўскі, мела даволі старажытную генеалогію і мудрагелісты герб, але існавала хіба толькі праз тое, што змаглі зарабіць сваёй працай сямейнікі. Маці Яраслава – Соф'я – паходзіла з паланізаванага і збяднелага атожылка курляндскіх дваранаў Фалькенгагенаў-Залескіх. Выбіцца з сярэдняга дастатку і дасягнуць нейкага прыстойнага становішча ў грамадстве змог адзін хіба брат Пятро. Ён, скончыўшы Крамянецкі ліцэй, пачаў працаваць чыноўнікам у Пецярбурзе. Але пасля польскага паўстання 1830-1831 гадоў эміграваў і жыў у Лондане, Парыжы, Берліне, Дрэздэне, дзе займаўся навуковымі, выдавецкімі і камерцыйнымі клопатамі.

У 1858 годзе Яраслаў атрымаў чын падпаручніка. У тым жа годзе, у чэрвені, "з выпадку новага пераўтварэння артылерыі на Каўказе" яго перавялі ў наноў створаную 3-ю горную батарэю. Для зімовага кватаравання гэтай батарэі была адве-дзеная казачая станіца Крымская, якая знаходзілася непадалёк ад Наварасійска. Там Дамброўскі і правёў апошні свой год  на Каўказе.

Смеючыся, выпіўшы шклянку пуншу, ён расказваў аб сваіх прыгодах. Яны былі як і ў кожнага расійскага афіцэра. Калі не было паходаў, сустракаўся з сябрамі і наладжваліся застоллі, гуляў да світання ў карты. Самым прыемным заняткам у маладога афіцэра было каханне і каханкі. Але з цягам часу Яраслаў нечакана працверазеў, як кажуць, узяўся за розум, адчуў агіду да картаў і "гусарства"…

Пачаў больш чытаць. Нават кінуў курыць, каб былі грошы на набыццё кніг, у тым ліку і забароненых. Амаль кожны з афіцэраў меў сшыткі, куды запісваў патаемныя думкі, эратычныя вершыкі.

Але часцей і часцей сшыткі пачалі запаўняцца палітычнымі тэкстамі, крамольнымі вершамі.

Яраслаў адгарнуў старонкі і знайшоў верш “Шарманка”. У вершы самадзяржаўная Расія паказвалася ў выглядзе старой катрыкі (шарманкі), на якой апошнія прадстаўнікі дынастыі Раманавых іграюць толькі тры абрыдлыя ўсім мелодыі: пра Бога, цара і айчыну. Тры дзесяцігоддзі круціў візглівую катрынку Мікалай I. А Аляксандр II толькі паднавіў яе, а сутнасць засталася ранейшая.

*А внутри осталось так,*
*Даже стало хуже!*
*Сам он видит, что она*
*Уж пришла в негодность.*
*Что в ней лопнула струна,*
*Певшая народность,*
*Что охрипла в ней давно*
*Песней православия,*
*Что поправить мудрено*
*Хрип самодержавия.*

Кастусь засмяяўся, пачуўшы апошнія радкі, на брата паглядзеў. І ў яго вачах убачыў здзіўленне і ўзрушанасць.

– Гэтыя радкі скіроўваюць усю ўвагу на Аляксандра II, – выказаў думку Каліноўскі, – каму, як ні яму, трэба разумець, што неабходныя рашучыя перамены ў атрыманай ад бацькі спадчыне. Даўно наспела неабходнасць рашуча ўзяцца за пераўтварэнне дзяржаўнага механізму…

– Інакш? – Яраслаў паглядзеў на братоў.

– Інакш адбудзецца выбух, рэвалюцыйны выбух.

Дамброўскі паклаў руку на плячо Вікенція Канстанціна:

– Так, так… І гэта мы павінны не толькі зразумець, а і зрабіць усё магчымае, каб выбіць глебу з-пад ног Раманавых… Трэба новы вецер, буран, завіруха, якія б знеслі з твару зямлі ўсё старое і гнілое, каб свежы вецер запанаваў на вольнай зямлі…

– Яраслаў, як ты добра сказаў… “Усё старое і гнілое, каб свежы вецер запанаваў на вольнай зямлі…”

– Гэта не мае асабістыя думкі… Так гавораць Герцэн, Дабралюбаў… І гэта ўсё выкладзена ў іх артыкулах, якія яны друкавалі ў “Современнику”, у “Колоколе”… Во што Герцэн піша ў “Колоколе” ў артыкуле “Расія і Польшча”: “Я перакананы, што з Крым-

скай вайны Расія ўваходзіць у новую эпоху развіцця...” І яшчэ – “Польшча, як Італія, як Венгрыя, маюць *неад'емнае поўнае* права на дзяржаўнае існаванне, *незалежнае* ад Расіі”. Так як і вашая Літва – Беларусь.

Яраслаў, усхваляваны, падняўся з канапы, падышоў да акна. Гледзячы ў цемрадзь ночы (гутарка апантаных, рэвалюцыйна настроеных людзей зацягнулася за поўнач), уздыхнуў:

– Я вельмі добра ведаю горцаў. Мужны і свабодалюбівы народ. Я пасябраваў з многімі, і яны не бачылі ўва мне ворага. Цар выступае ў адносінах да горцаў у якасці захопніка, парабаціцеля, прыгнятальніка, выконвае тую ж ролю, якую адвёў сваім войскам на польскіх землях...

Яраслаў выказваў свой боль, які накапіўся ў ім за шмат гадоў, калі ён служыў на Каўказе. Не адразу прыйшоў малады афіцэр да такой высновы. Набыў новы палітычны зрок толькі пасля таго, як сышоўся з ветэранамі польскага і рускага вызваленчага руху, якіх Мікалай І адправіў на Каўказ. А там без перапынкаў ішлі баі. Толькі ў 19-й пяхотнай дывізіі, з часцямі якой дзейнічала 19-я артылерыйская брыгада, знаходзіўся дзекабрыст А. Сутгоф, удзельнікі паўстання 1830-1831 гадоў Ф.Ваякоўскі і М.Важынскі. Яшчэ – былы віленскі студэнт Л. Каратынскі, які ўваходзіў у склад канспіратыўнай арганізацыі (створаных Шыманам Канарскім), мінскі гімназіст Э. Лянкевіч, якога прызвалі ў войска ў 1851 годзе толькі за тое, што ён на вачах у многіх нажом спаласаваў партрэт цара-бацюхны. З імі служылі яшчэ А.Кузьмін-Караваеў, афіцэр царскай арміі. Ён спрабаваў вызваліць з турмы польскага рэвалюцыянера Ш. Канарскага.

Пастаўленыя пад царскае ружжо петрашэўцы – Н.Момбеллі, Н.Гагарын, В.Галавінскі і дзясяткі і дзясяткі іншых удзельнікаў польскага вызваленчага руку трыццатых-пяцідзясятых гадоў. З многімі малады афіцэр меў самыя цесныя стасункі, з многімі пасябраваў, бо яны ўбачылі ў ім аднадумца.

Дзве мары-дарогі былі ў маладога афіцэра. Першая – як мага лепш авалодаць ваеннай спецыяльнасцю. Другая – аддаць усе свае сілы разгрому сацыяльнага, нацыянальнага, рэлігійнага прыгнёту.

Таму ён прымае рашэнне – пастунаць у Ваенную акадэмію. Гэта, з аднаго боку, адкрые яму прамы шлях да авалодвання ваеннымі ведамі, а з другога – была мажлівасць пераехаць у Пецяр-

бург. А там пазнаёміцца з людзьмі высокага кшталту, тым самым аказацца ў палітычным віры, у самым цэнтры грамадскага руху, які набываў сілу, уцягваў у сябе тысячы і тысячы неабыякавых да лёсу сваёй радзімы людзей…

“Отправлен в Николаевскую академию генерального штаба для образования в высших военных науках 1859 года июля 30. Прибыл августа 12, зачислен в оную 1859 года декабря 15” – такі быў зроблены запіс у фармулярным спісе Яраслава Дамброўскага.

Калі азірнуцца на стагоддзе назад, то ні ў расійскай арміі, ні ў якіх арміях іншых заходнееўрапейскіх дзяржаў не існавала генеральных штабоў, як і вышэйшых ваенных устаноў, – была так званая “служба генеральнага штаба”. У яе, як правіла, залічваліся найбольш адукаваныя і таленавітыя афіцэры, на якіх ускладаліся наступныя абавязкі – уменне замяняць кіруючых камандзіраў, пачынаючы ад штаба дывізіі і вышэй; умець загадзя вывучыць верагодны тэатр ваенных дзеянняў, ацаніць сілы і магутнасць ворага, складаць планы стратэгічнага разгортвання, планаванне баявых аперацый і канкрэтнае кіраўніцтва імі…

У акадэміі ён сустрэў сваіх старых сяброў – былога выхаванца Берасцейскага кадзетскага корпуса Яна Станевіча, які пасля пяцігадовай службы ў Арэнбургскім корпусе атрымаў афіцэрскі чын і “всемилостивейшее” дараванне.

Вучыўся ў той жа акадэміі і брат Яна – Іеранім Станевіч. Дамброўскі і Іеранім разам з Фердынандам Вараўскім і Міхаілам Гейдэнрэйхам пасябравалі, нават вырашылі пасяліцца разам. І непадалёку ад акадэміі яны знайшлі добрую кватэру – кожнаму па пакойчыку.

“За отличные успехи в науках” Дамброўскі ў снежні 1861 года будзе павышаны да чыну штабс-капітана…

Вучоба давалася лёгка, хаця на яе ўсё больш і больш заставалася ўсё меней і меней часу, бо большую частку яго жыцця займала рэвалюцыйная дзейнасць. Адразу ж, як толькі прыехаў у Пецярбург, ён наладзіў сувязі з падпольшчыкамі, і ў самы кароткі тэрмін заняў віднае месца.

Да будучай дзейнасці Яраслаў быў ужо гатовы. Яго светапогляд сфармаваўся хутка і назаўсёды. Яго радавала, што актыўныя дзеячы падполля былі ці то ягонымі сябрамі яшчэ па Берасцейскім кадзетскім корпусе, ці па Каўказе, і ў дадатак да ўсяго ён займеў іх і ў Пецярбурзе.

Зыгмунт Ігнатавіч Серакоўскі, як і Яраслаў Дамброўскі, нарадзіўся ў Жытоміры. А з 1845 года вучыўся ў Пецярбургскім універсітэце, а на летнія вакацыі 1847 года прыязджаў у Вільню. Там ён і пазнаёміўся кіруючымі дзеячамі Саюза Літоўскай моладзі. А вярнуўшыся з арэнбургскай высылкі ў 1856 годзе, Зыгмунд на наступны год паступае ў Акадэмію генеральнага штаба. Там ён разам са сваімі бліжэйшымі сябрамі Я.Савіцкім, Я.Станевічам, В.Дабравольскім, К.Лявіцкім, В.Гейнсам, Н.Навіцкім стварыў рэвалюцыйны гурток афіцэраў-генштабістаў.

У Серакоўскага талент сыходзіцца з людзьмі. Ён лічыўся сваім сярод прафесарскага складу, і сярод афіцэраў Акадэміі мастацтваў. Як у сваім універсітэце, так і ў Інжынернай, Артылерыйскай і Каталіцкай акадэміях, у Медыка-хірургічнай акадэміі і ў кадэтскіх карпусах, у шэрагах часцей пецярбургскага гарнізона і нават у ваенным міністэрстве… Усюды існавалі падпольныя гурткі.

Да яго цягнуліся людзі. Як ваенныя, так і цывільныя. Мікола Чарнышэўскі даручаў яму падрыхтоўку “Замежных вестак”. Яго кватэру наведвалі паэты і пісьменнікі, рэдактары і мастакі, артысты і святары, патэры і мулы, памешчыкі, гандляры кнігамі, выдаўцы, высокапастаўленыя грамадзянскія і ваенныя чыны, прафесары і студэнты, афіцэры ўсіх родаў войск, падарожнікі, дактары, былыя палітычныя ссыльныя, – розны-розны люд, які імкнуўся пазнаёміцца з ім, далучыцца да яго нязгаснай энергіі рэвалюцыянера…

Яраслаў Дамброўскі стаў адным з найбліжэйшых сяброў і аднадумцаў Серакоўскага. Бо яны жылі ў адной і той жа духоўнай атмасферы. А грамадскае жыццё бурліла, кіпела, накручвалася на адзін нябачны клубок… На Васільеўскім востраве ў аўдыторыях Пецярбургскага ўніверсітэта збіраліся шматлюдныя студэнцкія сходы.

Але сходы ці паседжанні генштабістаў вельмі адрозніваліся ад студэнцкіх. На іх збіралася меней народу. І характар размовы быў іншы. Галоўным лічылася даследванне і вывучэнне ваеннай справы ва ўсіх яе разгалінаваннях і элементах. Агульнанавуковыя пытанні. Але ж адбываліся дэбаты і размовы па самых гарачых і неадкладных тэмах, якія моцна хвалявалі расійскае грамадства.

Па меры таго як нарасталі сацыяльна-эканамічныя супярэчнасці, якія выліліся ў 1859 годзе ў рэвалюцыйную сітуацыю, адначасова ўзмацнялася ідэйна-палітычная палярызацыя удзель-

нікаў гурткоў і канспіратыўных рэвалюцыйных арганізацый. Адныя з іх верылі ў непазбежнасць рэвалюцыйнага выбуху і пазбаўлення пры дапамозе жорсткіх метадаў ад феадальна-прыгоннага ладу, даказвалі, што нельга мірным шляхам аднавіць незалежную польскую дзяржаву, – і пагэтаму імкнуліся стварыць моцную законспіраваную падпольную арганізацыю, якая будзе здольная падняць паўстанне.

Другія ж не хацелі ды і не маглі адысці ад сваіх крытычных размоў і дыспутаў, вуснай крытыкі і абгрунтавання неабходнасці рэформаў з боку таго ж самага царскага ўраду. Зразумела, прыхільнікі актыўных дзеянняў на іх разлічваць не маглі, і таму тайна ад іх фармавалі ядро падпольнай арганізацыі…

Усіх хвалявалі падзеі ў Варшаве. Разумелі, што там наспявае выбух народнага гневу. На адным са сходаў генштабістаў выбралі аднадушна паслаць туды Ярослава Дамброўскага, які павінен быў наладзіць сувязі з Цэнтральным камітэтам... Склаліся па чатыры рублі срэбрам і камандзіравалі яго ў дарогу. Ён і сам збіраўся яшчэ задоўга да гэтага з’ездзіць у Варшаву, у якой ён ніколі не быў, пабачыцца з кузінамі – сёстрамі Пётраўскіх. Там ён і пазнаёміўся з Пелагеяй Зглічынскай, якая стала яго спадарожніцай жыцця. Калі ж вярнуўся з Варшавы, то Ярослаў цвёрда выказаў сваю пазіцыю: рашуча разгортваць канспіратыўныя арганізацыі і неадкладна рыхтаваць паўстанне.

У Пецярбурзе ўтварыліся гурткі літаратурныя і нелітаратурныя. Гурток Дамброўскага, Гейдэнрейха, Вараўскага. Другі – Агрызкі, Спасовіча, Пшыбыльскага, Кастамарава, Нажымскага, Серакоўскага, Падлеўскага (у які ўваходзілі польскія і ўкраінскія літаратары, чыноўнікі, афіцэры, уваходзіў і Тарас Шаўчэнка). Трэці гурток – Уціна, Панцялеева, які стаў, па сутнасці, апорай для стварэння сталічнага аддзялення “Зямлі і волі”. Чацвёрты – артылерыстаў – Энгельгарда, Лаўрова, Шышкова, які называлі чарнышоўскім…

Цеснае супрацоўніцтва паміж расійскімі і польскімі рэвалюцыйнымі сіламі, актыўны ўдзел пецярбургскіх ваенных гуртоў пад кіраўніцтвам Зыгмунта Серакоўскага і Ярослава Дамброўскага мелі розныя формы працы. Але галоўная роля як у адных, так і ў другіх адводзілася сумеснаму распаўсюджванню нелегальных выданняў, абмен такой літаратурай, дапамогу адзін аднаму ў іх размнажэнні, захоўванні, транспарці-

роўцы і дастаўцы. Смела здзяйсняліся адкрытыя антыўрадавыя выступленні і маніфестацыі. Самая буйная з іх – падчас пахавання Тараса Шаўчэнкі ў сакавіку 1861 года. Буйнымі былі і студэнцкія выступленні ў верасні-кастрычніку таго ж года.

Наладжана была моцная сувязь з лонданскім рэвалюцыйным цэнтрам расійскай і польскай эміграцыямі, галоўным цэнтрам на той час былі Парыж і Лондан.

У 1859 годзе за мяжу быў камандзіраваны Людвіг Звяждоўскі. Цэлы год знаходзіўся за мяжой, пачынаючы з траўня 1860 года, Зыгмунд Серакоўскі, – наведаў у Лондане Герцэна і Агарова, а ў Парыжы сустрэўся з Мераслаўскім і Высоцкім, у Берліне – з Гутры і Няголскім. Акрамя гэтага ён устанавіў кантакты з іншымі заходнееўрапейскімі рэвалюцыянерамі і палітычнымі эмігрантамі з Расіі і Польшчы.

Як толькі ён вярнуўся дадому, разам з Дамброўскім накіравалі за мяжу двух афіцэраў – Зыгмунта Падлеўскага, які падаў у адстаўку, і Уладзіслава Касоўскага, які “ўзяў доўгатэрміновы адпачынак”. Яны сталі выкладчыкамі тактыкі і артылерыі ў польскай ваеннай школе, створанай у Італіі для падрыхтоўкі будучых паўстанцкіх камандзіраў…

Гурткі будаваліся па прынцыпе “троек”. Кожны актыўны канспіратар прымаў у арганізацыю трох чалавек, кожны з якіх – яшчэ па два. А пасля гэтага ўтвараўся дзясятак на чале з дзясяцкім. Тры дзясяткі складалі групу, якую ўзначальваў трыдзясяцкі. А на чале ўсіх канспіратараў буйнага горада стаяў “старэйшы”. У Пецярбурзе гэтая пасада дасталася Серакоўскаму…

За два гады старшыньстваў рэвалюцыйнай дзейнасці Яраслаў Дамброўскі прарабіў тытанічную працу для павелічэння колькасці пецярбургскіх ваенных гурткоў. Ён імкнуўся, каб усе рэвалюцыянеры ідэйна загартоўваліся, умацоўвалі федэратыўныя сувязі між сабой. Акрамя гэтага пашыралі кантакты ваенных арганізацый з вызваленчым рухам у краіне, з польскімі, літоўскімі і беларускімі рэвалюцыянерамі, якія знаходзіліся за мяжой. Заканчвалі вучобу слухачы акадэмій і раз’язджаліся па сваіх месцах. Таму склад гурткоў мяняўся. На пасадзе старшыні Дамброўскага падмяніў гвардзейскі прапаршчык В.Пагажэльскі, які па-ступіў у Акадэмію генеральнага штаба ў 1861 годзе. Пазней, праз год, быў абраны камітэт у складзе Э.Юндзіла, В.Касоўскага і В.Апоцкага. Ён

актыўна дзейнічаў непасрэдна перад самым паўстаннем і ў першыя месяцы паўстання 1863 года, у якім, па сціплых падліках, узяла ўдзел палова ў дзельнікаў пецяргбурскіх ваенных гурткоў…

Скончыўшы акадэмію, Яраслаў Дамброўскі мог дабіцца высокіх ваенных чыноў. Мог быць прыкамандзіраваным да генеральнага штаба, мог бы мець высокую пасаду ў Пецярбурзе. Але ён, сябар і паплечнік Віктара і Канстанціна Каліноўскіх, далучыўшы іх да святой рэвалюцыйнай справы, мусіў адправіцца ў самую гушчыню па-дзей, як найхутчэй уключыцца ў вызваленчую барацьбу. Бо ў ім жылі высокая грамадзянская свядомасць, доўг і абавязак перад сябрамі, перад народамі, якія прагнулі вызвалення ад ярма царызму.

Да таго часу стала ўсім зразумела, і тое пацвярджаў Вікенцій Канстанцін Каліноўскі, які таксама цвёрда стаяў на пазіцыях жорсткай барацьбы і неадкладнага падняцця паўстання, што ў расійскіх губернях рэвалюцыйны выбух павінен адбыцца толькі ў 1863 годзе. Менавіта ў той час, калі ў сялянаў скончыцца тэрмін так званага часоваабавязанага стану. Царства Польскае на той час з'яўлялася той часткай Расійскай імперыі, якая нагадвала парахавую бочку. Вызваленне роднага народа, вызваленне ўсёй Расіі залежала цяпер толькі ад таго, як будуць разгортвацца падзеі на польскіх землях. Зразумела, што там, і толькі там вызначалася месца дзейнасці Дамброўскага.

Калі адбыўся выпускны акт, усе раз'ехаліся. Якраз пачыналіся калядныя святы, і Яраслаў, справіўшы ўсе свае канспіратыўныя клопаты ў Пецярбурзе, адправіўся ў Маскву. Хацеў узяць з сабою Канстанціна Каліноўскага, які прыехаў з Вільні на некалькі дзён, але той прастудзіўся і ляжаў з высокай тэмпературай у ложку…

У Маскве Дамброўскі пабачыўся са сваімі роднымі, але за бяседнымі сталамі не заседжваўся. У яго былі і іншыя важныя клопаты – сустрэчы з дзеячамі рэвалюцыйнага падполля. Пачыналіся рэпрэсіі ўдзельнікаў студэнцкіх хваляванняў, арыштоўвалі распаўсюднікаў "Вялікароса" і іншых нелегальных выданняў, якія друкаваліся ў Маскве, яны больш рашуча сталі ўдзельнічаць у сходках і маніфестацыях. Яраслаў занатоўваў-зашыфроўваў у сваіх нататніках адрасы і прозвішчы падпольшчыкаў. Запісваў, што сустракаўся са студэнцкімі важакамі П.Аргірапулам і П.Зайчнеўскім, Ю.Масолавым і Н.Шацілавым, – яны ўзначальвалі напалову канспіратыўную "Бібліятэку казанскіх студэнтаў". Яна пасля стане фундаментам маскоўскага аддзялення "Зямлі і волі".

Але самай прыемнай і ўзрушанай адбылася сустрэча з афіцэрамі В.Колесавым, А.Яленскім, В.Нарбутам і многімі іншымі сябрамі па Берасцейскім кадзетскім корпусе і Дваранскім палку. Абдымкі, поціскі рук, узбуджаныя размовы… Не маглі нагаварыцца, забыўшыся пра сон, – світанак стукаўся ў вокны, а яны таго не заўважалі…

– Яраслаў, як там у вас у Піцеры? – дапытваліся сябры-афіцэры. – У нас створана шмат падпольных рэвалюцыйных гурткоў… Нам не хапае яднання, агульнай тактыкі і мэты…

– Вось для гэтага, сябры мае, я і прыехаў абмеркаваць усе гэтыя праблемы. Неабходна стварыць мазгавы цэнтр, абраць галоўнага кіраўніка, распрацаваць праграму і тактыку нашых дзеянняў. У нас, як у ваенных людзей, веды барацьбы. І калі падымецца Літва, Польшча, Украіна, Расія, – то мы павінны весці лю-дзей за сабой. Патрэбна не проста група людзей, якія стыхійна падняліся супраць царызму, а арганізаванае войска – армія паўстання…

Вяртаўся Яраслаў Дамброўскі ў Пецярбург акрылены і ўпэўнены ў перамозе задуманай справы. Тое пацвярджалася падтрымкай з боку яго сяброў-афіцэраў. Яны верылі Дамброўскаму, а ён верыў ім…

Найперш Дамброўскі сустрэўся з Каліноўскім. Перапісаў для яго зашыфраваныя адрасы і канспіратыўныя гурткі.

– На цябе ўскладаецца задача – аб’яднаць разрозненыя групоўкі, сустрэцца з кіраўнікамі падполля, абгаварыць з імі ўсе падрабязнасці.

Канстанцін сцвярджальна кіўнуў галавой.

– Як здароўе?

– Ды так, яшчэ кружыцца галава… Але ўжо нічога. Раскажы пра паездку, пра свае ўражанні…

– Раскажу, браце, але не сёння, – падняўся з крэсла Яраслаў. – Па-першае ты яшчэ слабы, а, па-другое, у мяне неадкладная сустрэча з кіраўніком падполля… Праз дзён пяць я прыду да цябе, і мы пагаворым больш грунтоўна. І не толькі пра маю паездку ў Маскву…

7

Яраслаў Дамброўскі і Канстанцін Каліноўскі адправіліся на Неўскі.

Дзьмуў халодны вецер. Хаваючыся ад яго, зайшлі ў зацішак.

– А цяпер мы з табой наведаем ваеннае міністэрства, – паказаў Яраслаў на шэры будынак. – Рапарт трэба напісаць…

Вартавы каля дзвярэй не хацеў прапускаць Каліноўскага, але Дамброўскі настояў:

– Ён са мной! Мы ненадоўга. Мне толькі рапарт напісаць.

Зайшлі ў прасторны пакой. Дамброўскі скінуў з плячэй шынель, павесіў на вешалку. Паправіў новенькія, бліскучыя пагоны штабс-капітана, міргануў сябру:

– Праб'емся!

Прайшлі ў пакой, дзе месціліся пісары. Яраслаў выбраў таго, што сядзеў каля сцяны з партрэтам цара, спыніўся:

– Любезнейший, не соблаговолите ли вы написать несколько слов?

Пісар узяў пяро ў руку, абмакнуў у чарніліцу, вычакальна паглядзеў на наведніка.

– Имею честь почтительнейше донести департаменту генерального штаба, что я к месту моего служения в г. Люблин отправляюсь 5-го сего января…

– Всё? – здзівіўся пісар.

– Да, мой сударь. Отметьте, будьте столь добры.

Пісар ваеннага міністэрства ніжэй уласнага подпісу афіцэра размашыстым почыркам напісаў сваё:

*"№ 3-й. 5 января 1862 года".*

Праз хвіліну яны пакінулі памяшканне ваеннага ведамства.

А праз гадзіну Яраслаў Дамброўскі адправіўся на чыгуначны вакзал, – яму належала ехаць у Варшаву. Шлях пралягаў праз Вільню, дзе яго чакаў Людвіг Звяждоўскі.

Праз колькі дзён вернецца ў Вільню рэвалюцыянер, будучы кіраўнік вызвольнага паўстання – Канстанцін Каліноўскі…

У Варшаву Яраслаў Дамброўскі прыбыў як рэвалюцыйны начальнік горада.

…Здаецца, што тое было зусім нядаўна, учора, калі Канстанцін Каліноўскі падаў прашэнне рэктару Пецярбургскага ўніверсітэта П. Плятнёву аб дапушчэнні яго да прыёмных іспытаў.

Але толькі ў кастрычніку яго залічылі студэнтам першага курса разраду камеральных навук. І тады ж аформілася "Дело Правления

императорского Санкт-Петербургского университета по прошению Викентия-Константина Калиновского о принятии его в число своекоштовых студентов университета".

Папячыцель Пецяргбурскай вучэбнай акругі вызваляе студэнта Каліноўскага ад платы за слуханне лекцый на падставе пададзенага ім дакумента – пасведчання "о недостаточном состоянии".

Каліноўскі цалкам паглыбляецца ў вучобу, вывучае юрыспудэнцыю, тры Статуты Вялікага Княства Літоўскага і прыходзіць у захапленне ад таго, які гэта аказаўся дасканалы і юрыдычна абаснаваны закон. Прыклад і ўзор не толькі для Еўропы, Расіі, але і іншых дзяржаў.

Перакідваецца на вывучэнне расійскай і ўсеагульнай гісторыі, палітычнай эканоміі. Пазнае асновы статыстыкі, логікі, псіхалогіі, "сістэмы жывёльнага царства", вывучае батаніку, пытанні сельскай гаспадаркі.

Не абыходзіць тэхналогію і архітэктуру. Не кажучы ўжо пра тое, што дасканала засвойвае рускую і французскую мовы. Такія навукі выкладалі для тых, хто меў за мэту "падрыхтоўку людзей, здольных да службы гаспадарчай ці адміністрацыйнай".

І выкладчыкі былі якія! Выдатныя юрысты – К.Д. Кавелін і У.Д. Спасовіч, гісторык права І.Я. Андраеўскі, гісторыкі М.І. Кастамараў, М.М. Стасюлевіч, М.С. Куторга, які, дарэчы, першым у Расійскай імперыі азнаёміў сваіх студэнтаў з вучэннем Дарвіна. Батанік Л.С. Цанкоўскі, эканаміст І.Я. Горлаў…

Акрамя спецыяльных і абавязковых дысцыплін разам з братам вывучаюць творы рускіх рэвалюцыянераў-дэмакратаў і праз Серакоўскага знаёмяцца з правадырамі рускай рэвалюцыйнай думкі і дэмакратыі Міколам Гаўрылавічам Чарнышэўскім і Міколам Аляксандравічам Дабралюбавым… Першае спатканне з імі адбылося ў рэдакцыі часопіса – калі зайшлі, яны аказаліся на месцы.

Пазней тыя, прыгледзеўшыся да Каліноўскіх, адзначаюць, што браты валодаюць незвычайным розумам, вылучаюцца глыбокімі ведамі, цвёрда стаяць на пазіцыях рэвалюцыйна-дэмакратычных пераўтварэнняў.

– Вы робіце вельмі вялікую справу, – ухваліў Віктара Чарнышэўскі. – У Публічнай бібліятэцы я пазнаёміўся з вашай працай. А даў мне яе Мікалай Маліноўскі, віленскі гісторык, калега А. Кірко-

ра… І Кіркор мне сказаў, што вы на працягу трох гадоў прарабілі тытанічную работу над старажытнымі рукапісамі. А тое, што вы знайшлі дакумент апісання межаў паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім, ды які яшчэ напісаны вашай гаворкай – крывіцкай, беларускай, – для вашага народа гэта мае неацэннае значэнне.

А Дабралюбаў, падтрымліваючы свайго калегу, дадаў:

– Мы рыхтуем дзявятую кніжку “Современника”. Будзе надрукаваны мой артыкул “Черты для характеристики русского простонародья”. Дык я ў ім выказваю свае адносіны да будучыні беларускага народа. А яны ў мяне аптымістычныя: “Па-глядзім, што яшчэ скажуць самі беларусы!” Так што скажыце – кожны народ, кожная нацыя мае права на шчасце і волю.

Канстанцін запэўніў:

– Скажам, Мікалай Аляксандравіч, скажам!

Мікола Дабралюбаў за яго старэйшы ўсяго на два гады, але які светлы розум! Гадаваўся ў сям’і святара. Вучыўся ў Ніжагародскім духоўным вучылішчы і семінарыі пяць гадоў, потым скончыў Пецярбургскі педагагічны інстытут. Яшчэ студэнтам Мікола Чарнышэўскі запрасіў яго да сябе у часопіс “Современник”.

А Мікола Гаўрылавіч з Саратава. На дзесяць гадоў старэйшы за яго, Кастуся. Спакойны, разважлівы, голас нягучны, расцягвае словы. У пяцідзясятым скончыў універсітэт. Таксама, як і Дабралюбаў, з сям’і святара. Пільна і зацікаўлена сачыў за нарастаннем сялянскага руху як у самой Расіі, так і за рэвалюцыйнымі падзеямі 1848-49 гадоў у краінах Заходняй Еўропы, у прыватнасці, Польшчы і Літвы. Да яго часопіс “Современник” быў амаль законапаслухмяны, з прыходам жа Міколы Гаўрылавіча ператварыўся ў орган рэвалюцыйнай дэмакратыі.

Дабралюбаў і Чарнышэўскі, развітваючыся з братамі, параілі:

– У вашай справе, сябры, за якую вы ўзяліся, вельмі неабходна мець свой друкаваны орган. Каб праз яго звяртацца да простага люду і да памешчыкаў. Друкаванае слова – гэта як набат, як звон, які будуць чуць за многія вёрсты!

– Будзе ў нас газета. Свая газета на роднай мове. Думаем пра такое. Дзякуй, што падтрымліваеце нас!

– Падтрымліваем. І вы павінны ўступіць ў перапіску з Аляксандрам Іванавічам Герцэнам. Ён за мяжой рады кожнаму лісту, дасланаму ці то з Літвы ці з Польшчы.

– Тады наступным разам мы і прынясем свае запісы.

Мікола Гаўрылавіч у знак згоды кіўнуў галавой, прамовіў:

– Нясіце.

Кастусь Каліноўскі далучаны да студэнцкага «Агула» – арганізацыі студэнтаў. А студэнты ў асноўным з Польшчы і Літвы, Беларусі і Украіны – больш як чатырыста чалавек. Сярод іх Канстанцін і Цытус Далеўскія, Баляслаў Длускі, Уладзіслаў Барзабагаты, Баляслаў Калышка і іншыя, якія потым стануць кіраўнікамі паўстання. “Свабода і незалежнасць нашага народа – вось адзіны лозунг наш!” – такі быў дэвіз «Агула».

Наладжваецца цесная сувязь з гуртамі землякоў у Пецярбургскім, Кіеўскім і Дэрпцкім універсітэтах. Далучаны да руху ветэраны польскага вызвалення Людвіг Мераслаўскі, які знаходзіўся ў Парыжы. Яго палымяныя прамовы і заклікі да паўстання абудзілі сэрцы моладзі Заходняга краю. Заўзятым і апантаным прыхільнікам яго ідэй стаў Баляслаў Калышка.

Таму невыпадкова Калышка ў хуткім часе адзін з актыўных лідараў “Агула”. І адразу вызначыўся – выбраў шлях партыі чырвоных. Ён меў пранікнёны розум, невычэрпную энергію, энцыклапедычную эрудыцыю. Калі ж браў слова, то гаварыў пранікнёна, пафасна, не спатыкаючыся. Але ахвотна прыслухоўваўся да іншай думкі, не навязваў сваю.

Не адзін раз Канстанціна выбіраюць бібліятэкарам-кіраўніком “Агула”. Яму па душы левае, рэвалюцыйна-дэмакратычнае крыло, і ён ачольвае яго.Жыццё біла праз край, і адно хіба шкадаванне, што ў сутках толькі дваццаць чатыры гадзіны. Але калі б і болей, то ўсё роўна здалося б мала…

Новыя знаёмствы, новыя імёны, уражанні і мроі.

Сталі таварышамі, а потым пасябравалі з Эдмундам Вярыгам, Вітальдам Гажычам, Ігнаціем Здановічам, Феліксам Зянковічам, Яўстафіем Чарноўскім, Эмануэлем Юндзілам, Іосіфам Ямантам, Баляславам Калышкам…

Эдмунд пачаў вучыцца ва ўніверсітэце ў 1857 годзе, а Ігнацій, Яўстафій, Эмануэль і Іосіф паступілі ў 1858 годзе. Найбольш моцнае сяброўства звязвала з Іосіфам Ямантам. Не раз сябры чулі, як ён казаў пра Каліноўскага сваім “пецяргбурскім сябрам” самыя прачулыя і цёплыя словы, называў яго сваім “пецярбургскім таварышам”. Наведваў не раз і Віктара Каліноўскага. Вітальд Гажыч прыехаў у Пецярбург у 1860 годзе, лічыўся вольным слухачом.

Жыццё звязала ў адно гэтых людзей, далучыўшы да іх кагорты Стэфана Баброўскага і Аскара Авэйдэ, слынных землявольцаў М.І.Уціна і Л.Ф.Панцялеева, крытыка Д.І.Пісарава, грузінскіх пісьменнікаў Акакія Цэрэтэлі і Ільлю Чаўчавадзе, Эдмунда Дзяржынскага… А мілы і харошы Уладзіслаў Малахоўскі! Служыў інжынерам шляхоў зносін. Служачы чыгункі Ільдэфонс Мілевіч…

У Публічнай бібліятэцы Кастусь Каліноўскі пазнаёміўся з земляком-гарадзенцам Антонам Іваноўскім, і той дапамог знайсці платнае месца пры бібліятэцы. Атрымаў адразу заданне ад падпольнага гуртка: хадзіць па дамах і выяўляць настрой людзей, далучаць іх да рэвалюцыйных ідэй…

Аднойчы завітаў на пляцоўку, дзе мастакі выставілі свае карціны. Пейзажы, партрэты, ілюстрацыі да кніг… Хадзіў сярод мастакоў, прыглядаўся да карцін. Купляць не думаў, бо не было грошай… Проста любіў пахадзіць сярод мастакоў, адчуць іх настрой.

Зірнуўшы на адну карціну, адчуў, як ёкнула сэрца: закрануў за жывое гарадскі пейзаж. Ды не проста пейзаж. Мастак намаляваў тую мясціну, якая ў жыцці Кастуся мела асаблівае значэнне. Вострую Браму Вільні. Памылкі не магло быць, так, гэта яна…

Каля карціны нікога не было, а воддалеч размаўлялі двое. Ён і папытаўся ў іх, стоячы побач з “Вострай Брамай”, дакрануўшыся да рамкі:

– Скажыце, будзьце ласкавы, чыя гэта карціна?

Адзін з іх пацікавіўся:

– Спадабалася?

– Гэта Вострая Брама? Вы мастак з Вільні?

– Так. Там нарадзіўся.

– Дык вы зямляк? – ужо радасць люстравалася ў вачах юнака.

– З кім маю гонар размаўляць?

– Каліноўскі я. Канстанцін Каліноўскі. Вучыўся ў Свіслацкай гімназіі… Потым у Маскве – ва ўніверсітэце, на медыцынскім… Кінуў – і з братам у Пецярбург падаліся – тут вучымся…

– А я – Міхал Эльвіра Андрыёлі. Вучыўся ў Маскве – у вучылішчы жывапісу, ваяння і дойлідства. Два гады вучыўся – з пяцьдзясят пятага па пяцьдзясят сёмы.

Праз колькі хвілінаў яны ўжо гаварылі як даўнія знаёмыя. Андрыёні на два гады старэйшы за Каліноўскага. Амаль равеснікі. Адчулі прыязнасць.

– А дзе цяпер жывеш, Міхал, дзе спыніўся?

– У Рыме, як вучыўся ў акадэміі святога Лукі, пазнаёміўся з памешчыкам Залескім, выдатным мастаком…

– Браніславам Залескім, у якога псеўданім Літвін?

– Не, яго я таксама добра ведаю. Ён пад Мінскам нарадзіўся, маёнтак Рачкавічы Слуцкана павета. Ён з Тарасам Шаўчэнкам быў рысавальшчыкам у экспедыцыі па Аральскім краі і ў гарах Каратаў… А я пра Антонія Залескага, які жыве ў Троцкім павеце. Сябра Віленскай археалагічнай камісіі.

– О, дык і мой брат у гэтай камісіі. Вы, мусіць, і Кіркора ведаеце?

– А як жа!

– І Уладыслава Сыракомлю?

– І яго ведаю. Часта прыязджае да пана Залескага.

Кастусь пахітаў галавой:

– Божачка ты мой! Зямля ўсё ж сапраўды круглая. Не маглі мы абысці адзін аднаго. Бог звёў нашыя дарогі .

Андрыёні толькі паблажліва ўсміхаўся, гледзячы на студэнта Пецярбургскага ўніверсітэта, радаваўся, што зліліся іх сцежкі ў адну дарогу. Пільнае вока мастака адзначала ў паставе яго новага сябра цікавага чалавека. Пакаты лоб, цёмныя валасы, губы сціснутыя, пра што сведчыць валявы характар. Словы не набягаюць адно на другое, а выверaныя, як быццам для гэтага выпадку падрыхтаваныя. Калі глядзіць у вочы, то пранікліва, шчыра, а калі адводзіць позірк і думае пра нешта сваё, то не скажаш, што ён у нечым хаваецца, не хочучы выдаваць свой настрой ці думкі, – праз імгненне зноў упіваецца вачыма і чакае адказу на сваё пытанне…

– У пана Залескага часта праходзяць сустрэчы – збіраюцца літаратары і мастакі, памешчыкі і ваенныя, і наладжваюцца цікавыя гутаркі, спрэчкі, дыспуты… – гаворыць Андрыёні. – Добра было б, каб і вы калі завіталі да нас. Пан Залескі будзе рады бачыць вас у сябе. Ён вялікі дэмакрат, летуценнік, непахісна стаіць на сваіх прынцыпах – аддаваць людзям усяго сябе, радаваць людзей, несці ў іх асяроддзе асвету і тлумачэнне светлых ідэалаў.

– Я хутка прыеду ў Гародню. Тады і завітаю да вас. А ў майго брата Віктара пільны клопат да Адама Кіркора – заканчвае працу, якую яму даручылі, – паказаць трэба яе вынікі.

– Ну і цудоўна! – мовіў Андрыёні. – Ад імя пана Залескага і запрашаю вас прыехаць у сядзібу. У кожную сераду туды з’язджаюцца людзі. Так што чакаем вас!

Праз колькі гадзін яны развіталіся.

Канстанцін дае ўрокі ў прыватных дамах, пры гэтым немусова размаўляе з гаспадарамі, пытаецца ў іх пра набалелае.

Не ў адной рускай хаце ён знаходзіў прыхільнікаў і нават сяброў, і не парываў ужо больш з імі сувязі...

Шукае купцоў, гандляроў, перакупшчыкаў зброі. У яго далёкія планы. Ён дзеліцца імі толькі з братам, і той падтрымлівае яго.

Выпадкова на рынку пазнаёміўся з багатым купцом з Масквы – Віктарам Сымонавічам Крупецкім. Разгаварыліся.Аказалася, што продкі Крупецкага жылі пад Бярэсцем.

Віктар Сымонавіч росту невысокага, рухавы, з праніклівым позіркам.

Даведаўшыся, што новы знаёмы дае прыватныя ўрокі, абрадваўся:

– На лаўца і звер, як кажуць, бяжыць! У мяне блізняты – Вераніка і Віцька – маюць патрэбу ў вучобе. Я жыву тут, у Пецярбурзе, трымаю некалькі крамаў – у Маскве, Смаленску, Каломне... Міласці прашу завітаць да мяне. Добра заплачу, хлопча, не пакрыўджу.

– Не, Віктар Сымонавіч, як з усіх, так і з вас. Рады буду памагчы вам.

– Добра, Канстанцін, добра! – падняў рукі гандляр. І паўжартам, паўсур'ёзна дадаў: – Рад буду зноў пабачыцца з табой, дваранін Каліноўскі!

– І я таксама.

Тая сустрэча мела працяг. Хатні настаўнік дабіўся ад купца галоўнага сцвярджэння: "Дарагі мой Вікенцій-Канстанцін! Для цябе я хоць чорта лысага прадам. А што датычыць зброі, то ў мяне ёсць шмат сяброў, якія могуць даставіць яе па любым адрасе. Але ж, калі за гэта будзе заплочана... Як казаў адзін купец-габрэй, сяброўства сяброўствам, а гешэфт – ёсць гешэфт!"

..........................................

Ежы Ігнацій Кучэўскі-Порай з самай раніцы выправіўся ў дарогу – у Вільню. За дзень да гэтага папрасіў кучара Віктара, каб падрыхтаваў брычку, узяў спраўнага каня – Вятрылу, ды накарміў яго.

Падышоў перад ад'ездам брат Зыгмунт, які служыў на Каўказе, пацікавіўся, не выпускаючы піпкі з зубоў:

– Надоўга, Ежы, у Вільню?

– Як складзецца. Праведаю маці і сястру, па крамах пахаджу, па рынках, з людзьмі знаёмымі пабачуся.

– Ну, тады добрай дарогі!

Брат у Ежы нічога, толькі маўклівы задужа. Меў раненне, пры генеральным штабе нейкі час атабарваўся. Як бацька памёр, то ўзнікла пытанне аб дзяльбе спадчыны – памесця вёскі Корсакі.

Суды расцягвалі свае паседжанні, не могучы прыйсці да агульнай высновы, а браты пакутавалі ад бяздзейнасці. Асабліва нудзіўся Зыгмунт, не знаходзіў сабе месца.

– Бывай! Глядзі тут за гаспадаркай.

– Ды што за ёй глядзець – у лес не ўцячэ.

Але апошніх слоў Ежы не чуў, брычка, крутануўшы коламі, рэзка рванула з месца. Застаялы конь запатрабаваў дарогі.

Даехалі хутка, гасцінец пасля апошніх зацяжных дажджоў прасох, пылота з-пад колаў не замінала. Кучар маўчаў, унурыўшыся ў сябе.

Планаў на бліжэйшы час не было. Вось вырашыцца пытанне з памесцем, тады з братам можна будзе нешта і маракаваць, а цяпер…

Маці Юзэфа і дзве сястры абрадваліся яго прыезду. У хаце наступіла ажыўленне, радасны гоман.

Яшчэ стала весялей, калі прынёс у хату вялізны кош з вясковымі прысмакамі, варэннем ды вэнджанымі каўбасамі.

– О які пан багаты наш брат! – усклікнула сястра Альжбета. – Вось што значыць жыць у вёсцы…

– Ну, хопіць вам, сарокі, дайце адпачыць брату з дарогі. Як даехаў, сын? – паглядзела на яго заклапочана маці. Яна села побач з ім на канапу. – Ці добра ехалася?

– Добра, мама, брычка спраўная, коні дужыя.

Маці падышла да серванта, высунула адну шуфлядку, дастала паперчыну, падала яе сыну.

– Тут табе перадаў незнаёмы чалавек. Назваўся Коравам Клеты. Ляснічы. Напісаў свой адрас, а на словах папрасіў, каб ты тэрмінова завітаў да яго. Пазнаёміцца з табою хоча. Мне ён спадабаўся.

– Павячэраю і схаджу. Па адрасе бачна, што жыве ён непадалёку ад нас. Так што хутка і назад вярнуся.

Кораў быў дома. Ежы думаў, што з ім хоча пазнаёміцца пажылы чалавек, уяўляў яго чамусьці на гадоў трыццаць-сорак, а дзверы адчыніў малады хлапец, якому яшчэ, па ўсяму відаць, не было яшчэ і трыццаці. Хударлявы, чорныя вочы і такія ж вусы пасавалі да яго твару. Стоячы на парозе, усміхаўся, як ведаючы, хто завітаў да яго.

– Я – Кораў. А вы – Ежы? Праходзьце, Ежы, сядайце, дзе вам зручней. Гарбаты ці мацнейшага чаго? У мяне ёсць на гэты выпадак…

– Самі выбірайце, што лепей.

Малінавая наліўка падняла настрой, пасобіла размове.

– Вы не цікавіцеся, чаго мне захацелася пазнаёміцца з вамі. Пакутуем без дзеяння, без актыўнай грамадскай працы, ці не так? Пагэтаму я, доўга не расцягваючы, адразу вам прызнаюся вось у чым. Я асабіста хачу далучыць вас да агульнай грамадскай працы… Прапаноўваю вам уступіць у тайнае афіцэрскае таварыства, да якога я сам належу.

Ежы нахмурыўся, нічога не адказваў. Прапанова адстаўнога расійскага афіцэра яго здзівіла. Здзівіла нечаканасцю і сваёй адкрытасцю. Ежы ведаў, што існуюць такія тайныя таварыствы, што туды ўключаны правераныя і смелыя афіцэры, а тут адразу ў лоб, без папярэдняй размовы і роспытаў… Адкуль вядома ляснічаму, што ён, Ежы, падыдзе для такой справы…

– Ну, уявім сабе, што я дам згоду. Але тады пытанне такога характару – мэта гэтага таварыства? Чым яно займаецца, хто кіруе, якія абавязкі кожнага?

Кораў зноў напоўніў шкалікі, пацікавіўся:

– Як пан Ежы ацэньвае гэты прадукт?

– Прыемны прадукт. Умееце вырабляць, вам пазайздросцяць вінныя заводы.

– Правільна кажаце, пазайздросцяць. Адказваю на вашае пытанне. Мэта адна – скідванне з трону цяперашняга ўрада. Ён мёртвы, не мае сілы зрабіць нешта прагрэсіўнае, новае, чалавечнае… У гэтае таварыства ўвайшло шмат рускіх афіцэраў. Просім і вас, як афіцэра ў адстаўцы, далучыцца.

– Наколькі моцнае гэтае таварыства?

– Моцнае. Яно мае свае буйныя разгалінаванні па ўсёй Расіі, усюды мы маем сваіх сяброў, і таму прадстаўляем ужо вялікую сілу.

Ежы задумаўся. Яго здзівіла тое, як адбылося само запрашэнне. Знянацку ўсё, без папярэдняй падрыхтоўкі, ні таго, хто нясе за яго адказнасць, хто рэкамендуе ў таварыства… А канкрэтная праграма, канкрэтныя шляхі дасягнення канчатковай мэты… А сродкі, рэсурсы?..

– Вы сабе задалі тысячы пытанняў, ці не праўда? – заўсміхаўся ляснічы. – І засумняваліся. Бо шмат чаго невядома для вас – што за таварыства, колькі ў ім людзей, на чым трымаецца арганізацыя. Якая канкрэтная праца патрабуецца ад кожнага. Правільныя пытанні, пан Ежы. Але давайце ўсё гэта перанясем на наступны час. Вам ніколі не позна будзе адмовіцца ад маёй прапановы. Галоўнае, згода і паразуменне цяпер. А заўтрашні дзень пакажа, што рабіць і як рабіць.

– Няхай будзе так. А цяпер мне трэба вяртацца дадому – маці чакае, будзе хвалявацца за мяне.

– Не трэба, каб маці хвалявалася. Ідзіце. Адрас вы мой ведаеце. А я ведаю, дзе ваша вёска Корсакі. Усяго вам найлепшага! Да сустрэчы!

– Да сустрэчы!

...Ежы яшчэ доўга блукаў па вулачках Вільні.

Здзіўленне не пакідала яго, як і зацікаўленасць у тым, чым займаецца тайнае таварыства, хто ўваходзіць у яго. Яго жыццё нагадвала ціхае цячэнне Дняпра ці Прыпяці, а тут падзьмуў нябачны і незразумелы вецер. Ціхае і спакойнае жыццё парушылася ўмяшаннем аднаго чалавека – Корава Клетага. Аказваецца, існуе і паралельнае жыццё, невядомае да гэтага. Вось пераступіш парог таго невядомага, і пачнецца нешта новае, зусім іншае. І прывядзе яно да шчасця ці да гора, ніхто не ведае. Нічога пэўнага, усё прыблізнае. Але і прыцягальнае.

Далёка за поўнач ён асцярожна падышоў да дзвярэй і адкрыў замок металічным ключом. Маці не абазвалася – значыць, спала, як і спалі Людвіся і Ліжбета.

Ніколі не думаў пан Ежы, што стане змоўшчыкам…

8

Сабраліся на кватэры пана Увішскага.

Канстанцін Каліноўскі заклапочаны, унураны ў сябе. У яго адказная місія, і ён хавае ў сабе хваляванне. Гаспадыня, жонка пана

Увішскага, спакойная і разважлівая, з чорнымі косамі і прыветным позіркам, падала ўсім па кубку гарбаты, кіўнула гаспадару, што пакідае іх.

Калі за ёю зачынілся дзверы, Каліноўскі ўважліва агледзеў усіх, як быццам іх убачыў упершыню, ціха прамовіў:

– Сябры мае! Я прыбыў у Гародню з мэтай стварэння тайнага таварыства і ўзмацнення палітычнай дзейнасці. Лютаўскія падзеі ў Варшаве ўскалыхнулі ўсю Польшчу. Царскія войскі расстралялі патрыятычную дэманстрацыю. Гэта і перапоўніла чашу цярпення польскага народа і з гэтага дня, можна лічыць, і пачаўся уздым нацыянальна-вызваленчага руху ў Польшчы…

Слухалі ўважліва. Ніхто не дакрануўся да кубкаў, гарбата паціху астывала на стале. Доктар Эразм Заблоцкі сядзеў побач з Кастусём.

Каля Эразма сядзеў яго брат Юлік. Гладка прычасаны, акуратна апрануты, ён выглядаў на гродзенскага франта. Працаваў доктарам. Інспектар егерскай школы Валеры Урублеўскі, што месціўся леваруч ад Заблоцкага, падпёр бараду кулаком, глядзеў на Каліноўскага. Каля грубкі прытуліўся афіцэр Ян Ваньковіч. Побач з ім – землямеры Фелікс Ражанскі і Ільдэфонс Мілевіч, каля зашторанага акна ў чорных сутанах ксяндзы Гінтаўт з Гародні, Ян Зарыжскі і  Ігнацій Казлоўскі…

– Справа адказная і сур’ёзная. Кожны з нас павінен даць клятву на вернасць служэння агульнай справе.

Не ўтрымаўся Ян Ваньковіч, прыўзняўся, далікатна спытаў:

– Якой – агульнай справе? Канкрэтна можна, спадар Канстанцін?

– Можна, паручнік! Агульная наша справа, Ян, – узброенае паўстанне,  барацьба за нацыянальную незалежнасць, знішчэнне прыгоннага права. А яшчэ канкрэтней пра гэта мы пагаворым пасля, калі збярэмся спецыяльна для распрацоўкі тактыкі і стратэгіі  працы нашага таварыства. Мы павінны весці  тлумачальную працу сярод сялянаў. З гэтай мэтай пачалі пасылаць на пасады вясковых настаўнікаў і валасных пісараў навучэнскую моладзь, і не толькі моладзь, а і іншых патрыётаў. Канспіратыўныя арганізацыі створаныя паўсюдна – на Віленшчыне, Ковеншчыне, у Мінскай губерні… У нашай губерні арганізацыя будзе складацца з дробных чыноўнікаў, прадстаўнікоў улады, служачых, найбольш чыгуначнікаў і – памешчыкаў…

Эразм успомніў, як пазнаёміўся з Валерыем Урублеўскім. Тое было на водах у Друскеніках, калі ён падаўся туды, каб падлячыць страўнік. Пачуўшы, як той выступае сярод купкі людзей, падумаў: "Задужа энергічны і смелы". Праз некалькі дзён, бліжэй пазнаёміўшыся з інспектарам егерскага вучылішча ў Саколках, пачуў ад яго нечаканае пытанне:

– А якім вы, як служачы будаўнічай і дарожнай камісіі, бачыце заўтрашні дзень?

Замест адказу Эразм пацінуў плячыма. Валеры засмяяўся:

– Гаварыць на гэтую тэму не жадаеце?

– Жадаю.

– Тады прыязджайце да мяне ў Саколку! Дарагім госцем будзеце.

Заблоцкі згадзіўся, падзякаваў за запрашэнне. І наведаў Урублеўскага праз некалькі дзён.

Здзівіўся, колькі людзей было ў інспектара. Там і пазнаёміўся з піцейна-акцызным наглядальнікам Сонгіным, маладым чалавекам, гаваркім і вясёлым, ксяндзом Казлоўскім – з сівой барадой і даўгімі валасамі да плячэй, што прыехаў у госці з Царства Польскага. І пазнаёміўся там з Каліноўскім, які напачатку не спадабаўся яму: надта ж маўклівы.

Але потым, выпіўшы па кубку гарбаты, Урублеўскі прапанаваў Эразму выйсці ў сад. Там, пад высокай грушай-дзічкай стаяў Вікенцій.

Ён так і назваўся пры першым знаёмстве, прозвішча свайго не называў.

– Наш госць – камісар Гарадзенскай губерні – пагаварыць з табой хоча, – падвёў Валеры Эразма да Каліноўскага.

– Пра што? – паглядзеў на абодвух Заблоцкі.

– Пра жыццё… – глуха прамовіў Каліноўскі. – Пра нашае жыццё, спадар Эразм… Што адбылося ў Варшаве вы ведаеце, напэўна?

– А хто ж не ведае? Жудасна.

– Мы ствараем арганізацыю Народнага польскага ўрада, які павінен у хуткім часе з'явіцца ў Літве. Мы з Урублеўскім прапаноўваем вам узяць у гэтым удзел. Ксёндз Ігнацій Казлоўскі можа адразу прывесці вас да прысягі. А можна і пазней, калі я прыеду ў Гародню для стварэння тайнага таварыства.

– Не, не сёння, – адмоўна пакруціў галавой Заблоцкі. – Не гатовы яшчэ… Але я даю згоду ўвайсці ў склад урада. І якая ж пасада мне будзе выдзелена?

– Пасада – пакуль, часова, быць пры Урублеўскім. Ён займае высокі пост ва ўрадзе.

– Добра. Згодзен…

– Праз колькі дзён вы разам з Валерыем адправіцеся ў Вільню. Урублеўскі пазнаёміць вас з Эдмундам Вярыгам – сябрам Літоўскага правінцыйнага камітэта. Пазнаёміцеся і з інжынерам-паручнікам Янам Козелам, які таксама з'яўляецца сябрам правінцыйнага камітэта. І з іншымі людзьмі пабачыцеся.

– Пытанне можна, Канстанцін?

– Можна.

– Чаму вы менавіта мяне абралі на такую ролю?

– З той простай прычыны, што вы належыце да той групы людзей, што і я. Вы не належыце да класа памешчыкаў і да ўлады не пнецеся, як нашы памешчыкі.

– Зразумеў. Далучаюся да вас і вашай дзейнасці.

– Дзякую! Мы ўскладаем на вас вялікія надзеі.

Эразм Заблоцкі адарваўся ад сваіх успамінаў, прымусіў сябе прыслухацца да слоў арганізатара рэвалюцыйнай арганізацыі.

У гэты ж час нехта пастукаў у дзверы. Гаспадар пазнаў умоўны знак, падняўся, супакойваючы прысутных кіўком галавы, пайшоў адчыняць дзверы.

Праз хвіліну да прысутных далучыўся памешчык Гофмейстар, ваяводскі Гродненскай губерні. Папрасіўшы прабачэння, сеў на вольнае месца.

Каліноўскі вачыма знайшоў Эразма Заблоцкага:

– Я вам уручаю мандат на званне памочніка Гофмейстэра. Вам даручаецца кіраванне трыма паветамі – Гродненскім, Ваўкавыскім і Слонімскім. Кіраваць імі будзеце згодна з інструкцыяй. Коратка пра інструкцыі. Вам неабходна тэрмінова скласці арганізацыю ва ўсіх вашых паветах, прызначыць павятовых начальнікаў. Пры іх павінна быць па пяць рэферэнтаў, можна і па тры. Рэферэнты – вайсковец, скарбнік, прадстаўнік грамады апякунства і камунікацый. Вам неабходна будзе кожны тыдзень атрымліваць рапарты ад павятовых, і ўжо сваё заключэнне дасылаць ваяводскаму камісару і – апошняе – развейваць сумневы павятовых, калі яны з'явяцца ў іх пры выкананні сваіх абавязкаў… Зразумелыя агульныя задачы, спадар Заблоцкі?

– Зразумелыя.

Размова працягвалася.

Гродзенскі камісар Каліноўскі асабіста кожнаму ставіў задачу. Растлумачваў незразумелыя пытанні. Калі іх не стала, падвёў рысу:

– Раз мы абгаварылі ўсе пытанні, якія тычыліся стварэння нашай канспіратыўнай арганізацыі, то ёсць прапанова прагаласаваць за яе зацвярджэнне. Хто за тое, каб лічыць нашую арганізацыю створанай, якая мае на мэце рэвалюцыйнае зварожэнне ўлады, адмену прыгоннага права, абвяшчэнне незалежнасці Літвы і Беларусі, прашу падняць рукі.

Прагаласавалі аднагалосна.

Толькі цяпер на твары Вікенція з'явілася хаця і слабая, але ўсмешка:

– З першым пытаннем мы вырашылі, а цяпер другую частку даручым весці гаспадару. Бо даўно халоднай стала гарбата, а пячэнне, што так старанна пякла пані Хрысціна, так і некранутае на стале…

…Праз нейкі прамежак часу, па адным ці па двое, пакідалі канспіратыўную кватэру.

Апошнімі развіталіся з гаспадаром Заблоцкі, Урублеўскі і Каліноўскі.

Герцэн яшчэ з малых гадоў любіў глядзець на начное, у зорках, неба. Таму нездарма тэмай сваёй кандыдацкай дысертацыі абраў "Аналітычныя выкладкі сонечнай сістэмы Каперніка".

Куратарам яго дысертацыі згадзіўся быць прафесар Д. Перавошчыкаў.

Герцэн быў упэўнены ў тым, што за сваю працу атрымае залаты медаль. Але жыццё распарадзілася так, што яму дастаўся другі срэбны медаль. Залаты, з агульнай згоды сяброў рады, рашылі ўручыць Аляксандру Драшусаву. Міколу Саціну дастаўся першы срэбны медаль.

Некалі пазней ён прызнае, што вучоная камісія зрабіла правільны выбар, але на той час яго гэта вельмі абурыла і пакрыўдзіла. Аляксандр Драшусаў стаў пазней вядомым астраномам, а Герцэн ніколі б не пайшоў па шляху вывучэння космасу, ён стаў прапагандаваць ідэалы гуманізму і рэвалюцыйных пераўтварэнняў.

Выпускны экзамен у Маскоўскім універсітэце адбыўся 22 чэрвеня 1833 года.

Але Аляксандр Іванавіч на ўручэнне ўзнагарод не прыйшоў. Ён не прывык быць другім, толькі першым.

Праз адзінаццаць месяцаў яго арыштавалі. За свае погляды, публіцыстычныя артыкулы, у якіх царскі ўрад убачыў крамолу…

Герцэна адправілі за краты – у Круціцкі манастыр, які заснаваў блізу 1272 года будучы першы князь, сын вядомага Аляксандра Неўскага – Данііл.

Па прадпісанні маскоўскага генерал-губернатара Д. Галіцына была створана следчая камісія, у якую ўвайшлі – маскоўскі обер-паліцмейстар Л. Цынскі, жандармскі палкоўнік І. Галіцын, жандарскі палкоўнік Н. Шубінскі, обер-аўдзітар Н. Аранскі, старшы паліцмайстар Мікулін.

Так Герцэн пачаў асвойваць і другую вучобу – універсітэт зняволення. За дзевяць месяцаў, што знаходзіўся за кратамі, прайшоў выдатную школу. На сабе спазнаў “ласку і мілату” царскіх слугаў.

А праз некалькі гадоў Герцэн пакіне Расію і перабярэцца за мяжу. Запрацуе на ўсю моц яго “Вольная друкарня”. Потым заззяе “Палярная зорка” (водгук кандыдацкай), а следам загучыць і “Колокол”.

Раней у яго было шмат сяброў і аднадумцаў, але калі зазвінеў з-за мяжы “Звон” і гул яго даляцеў да самых аддаленых куточкаў Расіі, то аднадумцы, якія паспелі ў хуткім часе стаць лібераламі памяркоўнай плыні, рэзка абвінавацяць Герцэна у тым, што ён не ведае Расіі, а таму і расійскага народа, не ведае, чым жыве той народ. Дадавалі ў сваіх лістах ужо абразлівае – ды дзе яму, багатаму барыну, ведаць мужыка? Дзе і пры якіх абставінах ён сутыкаўся з ім?

Сутыкаўся. У той жа Вятцы! Аляксандр Іванавіч распрацаваў падрабязную дакладную пра збор статыстычных звестак па губернях. І па меры таго, як паступалі тыя звесткі з месцаў і паветаў, у яго склалася праўдзівае ўяўленне аб становішчы сялянаў нацыянальных меншасцяў, сялянскіх гаспадарках і паселішчах. Ён цікавіўся, здавалася б, рознымі дробязямі – як сяляне спраўляюцца з вядзеннем гаспадаркі, як праходзяць грашовыя хабары, як ставіцца памешчык да сваіх падданых… І другое – ён не выпускаў з поля свайго зроку і тое, як змагаюцца сяляне за свае правы, як даюць адпор на несправядлівасць з боку ўладаў, бо ў статыстычных ведамасцях гэты пункт быў замаскаваны пад графу “Рабаванні”, “Наўмысныя падпалы”.

У “Дадатках” да сёмага нумару “Вяцкіх губернскіх ведамасцяў” за 1838 год быў надрукаваны артыкул “Рускія сяляне Вяцкай губерні”. Герцэн выступіў ананімна.

У Ноўгарадзе Аляксандр Іванавіч як службовая асоба сутыкнуўся яшчэ з большымі і пачварнымі праявамі прыгоннага быту.

– Мне былі падпарадкаваны падведамасныя справы, звязаныя са злоўжываннямі ўладай памешчыкаў, – дзяліўся Герцэн з Міколам Чарнышэўскім, калі яны сядзелі доўгімі вечарамі за кубкам гарбаты ў яго доме. – Яны навальваліся на мяне, як снежная глыба… Гэта быў такі вялізны матэрыял, што апрацаваць яго і прывесці ў норму, дык і жыцця не хапіла б…

– Ну дык і прыводзь. Прыводзь.

Герцэн не звярнуў увагу на яго словы, працягваў:

– Я яшчэ не паспеў разабрацца з учарашнімі фактамі злоўжыванняў, а ўжо сённяшнія навальваюцца з новай сілай – сёння раніцай пайшлі ад мяне відавочцы страшэнных і жахлівых эпізодаў у ваенных паселішчах.

Чарнышэўскі маўчаў, чакаў працягу.

– Разумееш, шаноўны дружа, яшчэ пры Аляксандру Першым у гэтай губерні пасялілася дванаццаць грэнадзёрскіх палкоў і дзве артылерыйскія брыгады. Ні ў якой іншай губерні Расіі не размяшчалася такога буйнага пасялення ваенных. Так, вядома, што ўсе землі з тымі паселішчамі былі выключаныя з юрысдыкцыі грамадзянскай адміністрацыі, але там і да сённяшняга дня існуе шпіцрутэншчына, нагайшчына, нізасць, якая спрэс пранізала іх. Пра Аракчэева і пра факты злоўжывання ўладай на сённяшні час пісаць нельга. Пісаць – так, але не друкаваць. Для мяне народ – не соннае возера, падснежных цячэнняў якога ніхто не ведаў. Мы ведаем пра ўсё. Дзяржава не заканчваецца на канцылярысту, прапаршчыку і недаростку з дваранаў, ніяк не… А ўсе астатнія для панства з адукаваных нават ужо не людзі, а матэрыял, рэвізскія душы, купленыя, усёміласцівыя пажалаваныя, прыпісаныя да фабрык. Эканамічныя, падатныя, але ніяк не прызнаныя чалавецтвам. З імі “господа” не мелі ніякіх стасункаў. А я меў з імі цесную і непарыўную сувязь, сутыкаўся штодзённа, і таму ненавіджу канцылярыстаў і глыбока спачуваю рэвізскім душам…

… Пасля Ноўгарадскіх падзеяў абурэння (бунту, закалоту) 1831 года прайшло дзесяць гадоў. А ўжо ў 1858 годзе “Колокол” у сваіх

трох нумарах друкуе мемуары інжынернага палкоўніка Мікалая Панаева, які стаў "часовым начальнікам абурэння".

Да слова сказаць, інжынерны палкоўнік, толькі адно ратуючы сваю скуру, а таксама і галовы сваіх калегаў-афіцэраў, падманам узначаліў той бунт ваенных пасяленцаў, а потым жа і здрадзіў ім. Але для Герцэна гэта не была навіна, падрабязней ён пра тое ведаў яшчэ ў 1841 годзе, калі знаходзіўся ў Ноўгарадзе.

Таму ў творы "Былое і думы" Герцэн расказвае пра гэта не са слоў відавочцаў, а згодна сваіх назіранняў. Ён прыводзіць некалькі эпізодаў ці фактаў, як памешчыкі злоўжывалі сваёй уладай, і прыходзілася колькі разоў самому аўтару ратаваць дваровых ад "дамашніх праследаў". Ён мог сведчыць на любым судзе пра тыя жахі, якія адбываліся за зачыненымі дзвярыма паліцэйскіх засценкаў, у пярэдніх, на канюшнях…

І ў "Думах" ён як бы выступае прарокам будучыні, сцвярджаючы: "У пярэдніх і ў дзявочых, у вёсках і паліцэйскіх акалотках схаваныя цэлыя мартыралогі страшэнных зладзействаў; успаміны пра іх блукаюць у душах і пакаленнямі выспяваюць у крывавую, бязлітасную помсту, якую *папярэдзіць лёгка,* а супыніць наўрад ці магчыма будзе…"

22 чэрвеня 1853 года станкі Вольнай русскай друкарні запрацавалі на поўную моц. Тады ж і была надрукаваная першая пракламацыя "Юр'еў дзень! Юр'еў дзень Рускаму дваранству!".

Вольная друкарня адразу ж падняла на пастамент часу самае галоўнае, самае балючае і занепакоенае пытанне Расіі – пытанне аб прыгонным праве.

І ў той жа дзень быў надрукаваны і другі лісток, не меней актуальны, і называўся ён "Палякі даруюць нам!"

Герцэн ухваляў *саюз з палякамі супраць царызму.*

А яшчэ раней убачыў святло лісток, які толькі адным сваім загалоўкам стаў пасля ў рускай літаратуры і публіцыстыцы намінальным. Называўся ён "Хрышчоная ўласнасць" – невялікі адрэзак аб прыгонным стане"…

Не раз ішлі размовы пра стварэнне "Тайнага таварыства". Але далей за размовы прапанова не рухалася. І толькі ў 1857 годзе ідэя выспела і знайшла сваё ўвасабленне ў выглядзе "Запіскі пра тайнае таварыства", якое б выконвала ролю кіруючага органа хваляванняў і бунтаў, якія павінны перарасці ў закалот, паўстанне, рэ-

валюцыю… Увесь тэкст знаходзіўся пакуль што ў запісной кніжцы Агарова. Але тэкст меў праўкі, і іх налічвалася сямнаццаць. Зрабіў іх Герцэн. “Запіска” па зразумелых прычынах не была надрукаваная.

Агароў надаваў гэтаму дакументу вялікую ўвагу. Ён неаднаразова даводзіў:

– Гэтае таварыства карыснае, магчымае і неабходнае. Таварыства бачыць свае мэты ў пераабсталяванні сацыяльнага і палітычнага становішча краіны такім чынам, каб забяспечыць свабоду Асобе і яе раўнапраўнае размеркаванне ў грамадскім ладзе.

– Старая, даўно зношаная ідэя прымірэння свабоды асобы з калектывам, – пярэчылі, але згаджаліся апаненты. – Але ці можа быць асоба ўнутрана свабоднаю?

– Таму мы і пачынаем “Запіскі” з пытання: “Што ж робіць асобу ўнутрана свабоднаю? Зразумеласць думкі і адэкватнасць учынка з думкаю. Што робіць асобу незалежнаю? Тое, што не перашкаджае навакольнаму асяроддзю з розумам думаць і дзейнічаць. Таму такая выснова – карысная ў грамадскім сэнсе – гэта веды, дакладней – навука, і адхіленне перашкодаў, якія замінаюць чалавеку зразумела думаць і дзейнічаць. Гаворачы іншымі словамі, перш за ўсё патрэбна агітацыя, навуковая прапаганда, з тым каб адукаваны чалавек мог свядома змагацца супраць усяго таго, што аджыло, што састарэла. Толькі тады магчыма дасягнуць грамадскага пераўтварэння…

Працягваючы сваю думку далей, Агароў сцвярджае:

– Цэнтр “Тайнага таварыства” павінен быць шчырым, як бы маючы адзін твар, а яго разуменне рэчаў павінна быць энцыклапедычным, – гэта галоўнае. Калі размова ідзе пра дадатную навуку і практычныя грамадзянскія рэформы. Сябры цэнтра павінны адлюстроўваць тры галіны ведаў: прыродазнаўства (ад матэматыкі да медыцыны і тэхнікі), эканамічную навуку і юрыспрудэнцыю. Гэта патрэбна як для таго, каб ведаць, што мы хочам папулізаваць, гэтак жа і для таго, каб ведаць, супраць чаго мы станем змагацца і якія сродкі для барацьбы мы зможам ужыць, маючы заўсёды за сябе дадатную аснову ў дзяржаўным заканадаўстве.

– Няма пярэчанняў.

– Таму дэвізам Цэнтра па-ранейшаму без сумневу застаецца сацыяльная рэформа. З гэтай рэформы вынікаюць і іншыя задачы. Цэнтру грамадства неабходна мець усе рэформы і магчы-

масці. З рэформамі неабходна звязваць папулярызацыю навукі; таму цэнтр павінен мець тэорыю навукі, дакладней, свой погляд на прадметы, і засвоіць метад, як і каму зрабіць навуку даступнай часткай і ў цэлым. Натуральна, што ў гэтага таварыства свой Цэнтральны орган. А ім, без сумневу, павінен стаць "Колокол".

## Частка другая

### 1

У канцы 1861 года змоўшчыкі тайна стварылі лагер "чырвоных". Чырвоныя стаялі за нацыянальнае паўстанне і безагаворачнае вырашэнне сялянскага пытання. Стварылі і тайнае кіраўніцтва, як яго яшчэ інакш назвалі, Гарадскі камітэт. Наладзіліся адразу стасункі з саюзам Зыгмунта Серакоўскага і расійскай рэвалюцыйнай арганізацыяй "Зямля і воля".

У наступным годзе, у чэрвені, Гарадскі камітэт ператвораны ў Цэнтральны нацыянальны камітэт. Калі ж да яго далучыўся Яраслаў Дамброўскі, тое паспрыяла хутчэйшаму ўзнікненню рэгіянальных структураў. Адразу ж з'явіліся ка-мітэты "чырвоных" у правінцыях. У Літве і на Беларусі дзейнічаў Літоўскі правініцыяльны камітэт, даволі самастойны і незалежны ад Цэнтральнага нацыянальнага камітэта. Самай адметнай асобай у ім з'яўляўся Кастусь Каліноўскі.

Гэта дзякуючы яго намаганням, яго таленту і апантанасці ды актыўнай дапамозе яго сяброў – Фелікса Ражанскага і Валеры Урублеўскага – ў Гародні і Беластоку пачаў выходзіць падпольны лісток на мове Ліцьвініі "Мужыцкая праўда", у якой ён заклікаў да народнага паўстання. Лісток быў як набат на той час. Як звон над храмам, які склікаў народ да агульнай імшы ці літургіі, каб звярнуцца да Вышняга і прасіць у Яго спагады і моцы. Набат Каліноўскага заклікаў ліцьвінскіх сялянаў, каб яны сумесна з польскімі братамі выступілі на барацьбу супраць царызму за зямлю і волю.

На Гарадзеншчыне ўзнікае вядомая постаць Валерыя Урублеўскага.

Ва Украіне ствараецца Рускі правінцыяльны камітэт, кіраўніком якога абраны Эдмунд Ружыцкі. "Чырвонымі" былі створаны свае структуры і на многіх анексіраваных царызмам тэрыторыях. Але жыццё багатае на нечаканкі, трагічныя павароты лёсу.

Неўзабаве арыштоўваюць многіх кіраўнікоў “чырвоных”, у тым ліку і Яраслава Дамброўскага. Перад сту-дзеньскім паўстаннем іх усіх высылаюць у Сібір.

Але тая праслойка людзей, якія мелі свае землі, мяшчане, якія мелі багацце, не пайшлі за “чырвонымі”. Яны стварылі ж адразу сваю групоўку і назваліся “белымі”. Яны адмаўлялі ўзброеную барацьбу, бо спадзяваліся на лаяльнасць расійскіх уладаў, мелі на мэце дамагчыся ўступак і канцэсій пры дапамозе націску і дыпламатычных перамоў. На чале “белага” руху стаялі А.Замойскі і банкір Л.Кроненберг. Гэта па яго ініцыятыве і прапанове ў лютым 1861 года і стварылася Гарадская дэлегацыя з кіраўнічым органам – дырэкцыяй.

Перастае існаваць Рэч Паспалітая. Якім будзе наступны падзел тэрыторыі? Патрыёты, якія змагаліся з акупантамі, і на гэты раз адстойвалі цвёрда сваю пазіцыю – яны сваю Айчыну ў будучым уяўлялі толькі ў межах, якія ўтварыліся падчас падзелу 1772 года. А гэта азначала, што такая раскладка не прадугледжвала права ўкраінцаў, беларусаў-ліцьвінаў на ўласную самабытнасць і самастойнасць. Што, у сваю чаргу, не адпавядала поглядам і задачам “чырвоных”.

Сярэдзіна дзявятнаццатага стагоддзя... Абуджаецца нацыянальная свядомасць ліцвінаў, палякаў, украінцаў, расейцаў... З’яўляюцца першыя ўкраінскія і ліцвінскія дэмакраты. Яны катэгарычна адхіляюць думку аб вяртанні польскага панавання, – толькі незалежнасць, толькі нацыянальны ўрад і нацыянальны ўклад жыцця.

“Чырвоныя” і “белыя” ў гэтым пытанні разышліся.

“Белыя” настойвалі на тым, каб далучыць Літву і Русь да Каралеўства Польскага.

“Чырвоныя” катэгарычна працівіліся гэтаму, настойвалі захаваць узаемаадносіны паміж Польшай, Ліцвініяй і Украінай на прынцыпах добраахвотнага саюза вольных і роўных народаў. Яны стараліся пераканаць і вылучыць галоўны прынцып мэтазгоднасці сумеснай барацьбы супраць царызму.

У канцы мая граф Лідзерс пад час адкрыцця паседжанняў Дзяржаўнай Рады аб’явіў, што ён атрымаў ад Гасудара Імператара тэлеграму, у якой абвешчана аб прызначэнні вялікага князя Канстанціна Мікалаевіча намеснікам Царства, а маркіз Вялікапольскі прызначаецца начальнікам грамадзянскага кіравання.

Чырвоная партыя, незадаволеная новым парадкам, большасцю галасоў прымае рашэнне забіць вялікага князя. Даручаюць гэта

сыну польскага памешчыка Ігнату Хмяленскаму і швачнаму падмайстру Радовічу, каб яны падабралі вопытных для гэтай акцыі людзей. Згадзіўся дваццацідвухгадовы юнак Людвік Ярашынскі. За князем сачылі з таго моманту, як ён наведаў праваслаўны сабор. А потым ужо, як выходзіў з тэатра, яго напаткаў стрэл. Але яго толькі злёгку параніла. Ярашынскага схапілі на месцы. А памагаты паспеў схавацца. Радовіч і Хмяленскі тэрмінова выехалі за мяжу…

Ярашынскага галосны суд прыгаварыў да павешання. Калі ж адбывалася павешанне, заходзіла сонца. Тыя, хто стаяў супраць сонца, убачылі над галавой павешанага Людвіка вялізны німб, і людзі прызналі ў ім пакутніка, сталі на калені і пачалі маліцца…

Царскія ўлады адчувалі і ведалі, што людскі гнеў і незадаволенасць уступае ў новы перыяд, таму стараліся, як маглі, прытушыць той вулкан народнага бунту. Расійскі ўрад вымушаны быў пайсці на нейкія саступкі. Таму і было адноўлена грама-дзянскае праўленне-кіраванне ў Каралеўстве Польскім. А на чале Урадавай камісіі па пытаннях веравызнанняў і публічнай асветы, а пасля гэтага Камісіі юстыцыі, прызначаецца марк-граф Аляксандр Вялікапольскі.

Але гэты крок грамадства не ацаніла і не прыкмеціла.

Вялікапольскі, адчуваючы настрой людзей, робіць рашучы крок – распускае так званую Гарадскую дэлегацыю і Сельскагаспадарчае таварыства. Але зноў жа – гэта не пахіснула перакананасць людзей, што з імі гуляюць як кот з мышкай.

На Замкавай плошчы сабраліся дэманстранты. Яны патрабуюць незалежнасці і самастойнасці.

Нечакана да плошчы насоўваюцца расійскія салдаты. Чуюцца стрэлы. Крыкі, воклічы, плач і галашэнне... Не разабраць, што творыцца. Не маглі паверыць, што салдаты страляюць у людзей, якія не трымалі ў руках зброі...

Загінула больш як сто чалавек, столькі ж, калі не болей, было паранена...

Так царскія ўлады адгукнуліся на патрабаванні дэманстрантаў. Так царскія ўлады прадэманстравалі свае лаяльныя адносіны да мірнага народа.

І ў кастрычніку 1862 года ў Царстве Польскім уводзіцца ваенны стан, а сам Вялікапольскі падаў у адстаўку. Пачаў узмацняцца паліцэйскі тэрор. Кожнага падазронага арыштоўвалі, кожнага, хто

меў нейкае дачыненне да дэманстрантаў ці незадаволеных, ссылалі ў Сібір...

Але незадаволенасць мацнее. Вырашылі перайсці на іншыя метады барацьбы. Набыў сілу канспіратыўны рух. Расійскія ўлады зноў прымяняюць тактыку саступак – адмяняецца ваеннае становішча. Створаны цывільны ўрад, і Вялікапольскі прызначаецца яго кіраўніком. Ён намагаецца аднавіць Канстытуцыю Каралеўства Польскага 1815 года, пераводзіць на польскую мову афіцыйныя ўстановы і школы, універсітэт у Варшаве, уводзіць для сялянаў чынш, ураўнівае ў правах іўдзеяў... Так, гэта прагрэсіўныя і смелыя пераўтварэнні, якія заслугоўваюць адабрэння і пахвалы, але... Рост грамадскіх хваляванняў і вольналюбівых настрояў не аціхае.

Выдаўцы “Колокола” на чале з Герцэнам друкуюць у нумары 147 за 1862 год зварот: *“Сябры і браты! Усё было скіравана на тое, каб перакanaць рускіх афіцэраў, каб яны не падтрымлівалі свой урад, каб не здзейснілі свядома злачынства і не апусціліся да таго, каб стаць катамі народа, што даўно мінаваў час сляпога падпарадкавання бязглуздым і злачынным загадам, што нельга быць дысцыплінаваным там, дзе загады прымушаюць рабіць злачынствы супраць народа… Заклікалі рускіх афіцэраў не падымаць зброі супраць жыхароў Польшы, Літвы і Беларусі, што яны павінны паважаць правы гэтага народа на святасць задуманай справы вызвалення; сцвярджалі, што лепей ісці пад суд, у арэстанцкія роты, нават быць расстралянымі, паднятымі на штыкі, – але ні ў якім разе не падымаць зброі супраць людзей, якія змагаюцца за волю. Раілі з веданнем справы, як лепей арганізаваць у палках тайныя гурткі з мэтай змовы і рэвалюцыі, як арганізоўваць прапаганду паміж салдатамі, запэўнівалі пры гэтым, што калі афіцэры вырашаць кінуцца з рускімі і польскімі салдатамі ў Літву і Беларусь, то ім адгукнецца Волга і Дняпро, Дон і Урал…”*

Цэнтральны Камітэт у Варшаве яшчэ да аб’яўлення ваеннага становішча пачаў клапаціцца пра тое, каб як найхутчэй набыць спачуванне распачатай справе сярод вайсковых фармаванняў, якія былі раскватараваныя ў краі, для чаго пачалі распаўсюджваць сярод вайскоўцаў пракламацыі на рускай мове…

Не да кожнага даходзілі напісаныя словы. Хто заставаўся адданы свайму доўгу салдата, а хто меў у душы нянавісць і раз-

дражненне – асабліва сярод шляхты і мяшчанаў, цяжка было дастукацца да сэрцаў святароў.

Але голас закліку быў пачуты. І пракламацыі паверылі, сталі на бок паўстанцаў паручнікі Іван Арнгольд, Васіль Каплінскі, Станіслаў Абрамовіч, падпаручнік Пятро Слівіцкі, унтэр-афіцэр Франц Расткоўскі і радавы Лявон Шчур. Арнгольд, Слівіцкі і Расткоўскі актыўна ўзяліся за агітацыйную справу, збіралі салдат і афіцэраў, заклікалі да адкрытага паўстання.

Але не ўсім да спадобы былі іх палкія словы. Свае ж і данеслі начальству аб недапушчальнасці злачыннай дзейнасці мясцовых агітатараў. Па канфірмацыі графа Лідзерса іх асудзілі, прызналі злачынцамі, і шаснаццатага чэрвеня 1862 года ваенным судом расстралялі ў рове Новагеоргіеўскай крэпасці. Астатніх саслалі на катаргу ці заключылі ў казематы.

“Колокол” паведаміў чытачам:

“16 чэрвеня 1862 года адбылося вялікае злачынства… Чорны дзень гэты будзе памятны і вам, палякі, за каторых загінулі трое расійскіх пакутнікаў, і іх таварышам, якім яны пакінулі вялікі прыклад, і нам усім, каторым яны паказалі: не толькі, як гэты ўрад, надзелены прагрэсам, лёгка забівае, але як, прачнуўшыся да свядомасці, нашыя афіцэры геройскі паміраюць!”

У паванзкоўскім лагеры, пад Варшавай, наладзілася дэманстрацыя. Паляк-афіцэр паручнік Гоцкі-Даніловіч разам з паручнікамі Зейнам і Агароднікавым папрасілі святара, каб той адслужыў ім малебен па рабах Божых Яну, Пятру і Хведару.

Цэнтральны камітэт у сваю чаргу прыняў пастанову пакараць тых, хто адабраў жыцці рэвалюцыянераў-агітатараў. Вырашалі пачаць помсту з выконваючага пасаду намесніка Царства, графа Лідзерса, які і загадаў непасрэдна прымяніць смяротны прыгавор.

Ведалі, што ён любіць наведваць рэстаран і мінеральныя воды ў Саксонскім садзе. Апалове восьмай гадзіны раніцай невядомы падышоў да генерал-ад’ютанта і стрэліў у яго з рэвальвера. Потым выйшаў з саду праз цукроўню на Гранічную вуліцу.

Аляксандр Вялікапольскі не столькі асцерагаючыся, колькі ведаючы, што яшчэ не саспела глеба для буйных выбухаў, стараецца прадухіліць паўстанне. Ён нечакана распачынае надзвычайную буйнамаштабную мабілізацыю ў расійскую армію. На той час ішлі на службу паводле жэрабя. І служылі дзесяць гадоў. Але кіраўнік цывільнага ўрада крышыць гэтыя стэрэатыпы. Дзесяць тысячаў

маладых хлопцаў, на якіх загадзя тайна склаліся адпаведныя імянныя спісы, апранаюць форму рэкрутаў расійскай арміі.

Многія з іх дэзертыруюць, пададуцца у лясы, не жадаючы ісці ў войска.

Пачаліся аблавы, арышты, прымусовая мабілізацыя ў войска ўжо без спісаў.

Нікога не задавальнялі рэформы Вялікапольскага. Памяркоўныя рашылі шырэй карыстацца прызначанымі ільготамі. Чырвоныя намерыліся ісці нахрапам і, беручы за аснову тэрор, здолелі падпарадкаваць сабе грамадскую волю. На рэфарматара Вялікапольскага было зроблена два замахі. Але маркіз вельмі рэдка паказваўся на вуліцы, ездзіў у глухой жалезнай карэце ў суправаджэнні дзясяткаў жандараў.

Падпольная рэвалюцыйная арганізацыя набывала сілу і мацнела.

У пачатку кастрычніка яна ўзмацняецца "ўстановай народнага рэвалюцыйнага саюза", які ставіць перад сабой канкрэтную мэту і задачу – прамое ўзброенае паўстанне не супраць мясцовай адміністрацыі, а супраць Царскай Кароны, супраць Цара, але не супраць рускага народа. А ў Польшчы аднавіць тыя межы, якімі яна валодала калі-небудзь гістарычна. Кіраваў саюзам акрамя народнага ўрада яшчэ і народны рэвалюцыйны камітэт на чале і пад старшынствам Мераслаўскага, хаця народны ўрад захоўваў за сабою сілу.

Друкаваліся газеты "Рух", "Стражніца" і шэраг іншых, у якіх быў надрукаваны "Статут народнага рэвалюцыйнага камітэта", "Інструкцыі для павятовых камітэтаў". Цэнтральны Народны Камітэт, які адыгрываў ролю народнага ўрада, надрукаваў пастанову, у якой гаварылася, што "кожны грамадзянін, які любіць сваю Айчыну і хто хоча аднавіць яе самастойнасць, павінен унесці адначасовую і надзвычайную плату, якая павінна служыць капіталам кожнага з грамадзянаў, лічачы ў палову працэнта ад ста з нерухомай маёмасці і капіталаў. Тэрмін уплаты гэтага падатку прызначаўся да 10 лістапада 1862 года… Не хацелі развітвацца са сваім багаццем заможныя сяляне і габрэі. Тады невядома адкуль пачаў гуляць па паселішчах "чырвоны певень". То карчма згарыць у яўрэя, то свіран у пана. І гэтак у Літве, Беларусі, Украіне, Валыні, Падоліі, Познані, Галіцыі…

Праз нейкі час пачала ўносіцца прапанаваная раней плата.

Падпольны цэнтральны камітэт ператвараецца ў Часовы нацыянальны ўрад. І першым яго дзеяннем стала рашэнне ад 22 студзеня 1863 года аб распачынанні народнага паўстання. Тады ж быў аб'яўлены Маніфест:

"Да зброі, народ Польшчы, Літвы і Русі, да зброі! Бо прабіў час усеагульнага вызвалення, стары меч аголены, святы штандар Арла, Пагоні і Архангела ўзняты".

Адначасова абвяшчаецца дэкрэт аб вызваленні ад прыгонніцкай залежнасці сялянаў. Ліквідоўваецца паншчына, перадаецца ва ўласнасць зямля, якую апрацоўвалі сяляне, надзяляюцца беззямельныя сяляне трыма моргамі зямлі...

Але наперадзе незразумеласць і невядомасць…

І дарогі нябачна, і сонца зайшло за шэрыя хмары…

Моўчкі і бязлітасна пісалася гісторыя шматпакутнага і здратаванага несправядлівасцю краю.

2

Імператар Аляксандр II хадзіў з кутка ў куток, заклаўшы счэпленыя рукі за спіну. Гнятлівыя думкі непакоілі яго. Падышоўшы да буфета, які некалі прывезлі бацьку – Мікалаю I (малодшаму брату Аляксандра I) – з Францыі, узяў у рукі гранёны графінчык. Патрымаў яго ў руцэ, паглядзеў на святло.

Чырвоны пунш, чырвоны колер. Імператар здрыгануўся, хацеў ужо адставіць убок напой, але перасіліў сябе – наліў поўны шкалік. Выпіў за некалькі глыткоў.

Ён не злоўжываў алкаголем, піў зрэдзьчасу. Толькі цяпер яму ўсё настойлівей і настойлівей чуўся голас бацькі. Голас у апошнія хвіліны ў яго слабы, з вялікай напругай вымаўляючы словы.

– Дні майго жыцця завяршаюцца… Раней часу… Нехта дапамог. Я ведаю, хто спрычыніўся да гэтага...

"Няўжо здагадваецца, стары ліс", – падумаў без пяці хвілін імператар, не зводзячы позірку з вачэй бацькі.

– Адно шкадую, што не ў добрым стане перадаю табе, сын мой, усе мае справы і клопаты. Цяпер цяжар дзяржавы ляжа на твае плечы…

– Бог дапаможа… – адказаў сын.

Бацька прымружыў вейкі.

– Будзь жорсткім… не шкадуй нікога, нават самога сябе…

Голас усё слабеў і слабеў. Сын не адымаў рукі, ён у чаканні апошняга штуршка сэрца.

Мікалай I адвярнуўся да сцяны і заціх. Сын паклаў абедзьве рукі на грудзі, заплюшчыў нябожчыку вочы…

Ён паклікаў слугу – старога і сівога, трошкі згорбленага, чалавека. Той зірнуў аддана на імператара, позіркам папытаўся – усё?

Імператар, адчуваючы, як пераліваецца ў яго цела ўлада, нахмурыўся, пальцамі дакрануўся да вачэй, робячы выгляд, што выцірае слёзы, дрыготкім голасам прашаптаў:

– Усё…

Аляксандр II падышоў да акна, спыніўся каля аксамітнай шторы. Глядзеў у двор, дзе па дарожцы бегалі дзеці, даганяючы адно аднаго. Яны бегалі па тых сцежках, што некалі і ён.

"Усё ў мінулым, усё ў мінулым… Цяпер я таксама ганяюся за прывідамі, стараюся перамагчы іх, але яны не ўцякаюць ад мяне, а наадварот, гоняцца за мною…"

Прачыніліся дзверы, хацеў пераступіць парог начальнік імператарскай канцылярыі, але, убачыўшы, што не да яго, тут жа і адступіў назад…

Аляксандр II ведаў, з чым прыйшоў чыноўнік. Зноў будзе расказваць, што паведамілі яму жандарскія генералы і губернатары, – сяляне недзе забілі свайго памешчыка, перад гэтым падпаліўшы яго маёнтак… Адначасова разабралі ўвесь інвентар, парасцягвалі жыта і пшаніцу, бо свайго не мелі… Сумна, сумна…

А тут яшчэ Польшча… Ды і Фінляндыя ў дадатак. Як нож у спіну. Але самае страшнае другое – сялянскія бунты, якія калі не перараслі, дык вось-вось перарастуць у паўстанне. Тут ужо меў рацыю бацька – трэба праявіць жорсткасць і ўладу.

Яму добра запомнілася, як нябожчык бацька ў 1854 годзе выдаў указ аб наборы ў марское апалчэнне. Думаў, што такім чынам здолее сфармаваць флатылію для абароны балтыйскага ўзбярэжжа. І што з гэтага выйшла? Набор быў аб'яўлены па чатырох губернях – Пецярбургскай, Аланецкай, Цвярской і Ноўгарадскай. Нехта ж з хітрых сялянаў пусціў плётку-гадзюку: хто добраахвотна запішацца ў апалчэнне, таму воля з сем'ямі і бацькамі. Ну і пачалося – з Разанскай, Тамбоўскай, Уладзімірскай ды і іншых "унутраных губерняў" сяляне ішлі цэлымі вёскамі і амаль патрабавалі, каб іх запісалі ў апалчэнне. Паставіць усё на месца без дапамогі войска не ўдалося б….

Тое не насцярожыла. Амаль праз год аб’явілі новы набор у агульнадзяржаўнае апалчэнне. І зноў жа знайшліся правакатары – зноў пусцілі чутку, што тым, хто запішацца, цар-бацюхна дасць волю.

А ў Маларосіі дык зусім загаварылі пра тое, што сялянаў прызвалі "ў казакі" і што ёсць указ не толькі вызваліць іх ад прыгону, а яшчэ надзяліць іх панскай зямлёй.

А яшчэ праз год... Дзясяткі тысячаў прыгонных, пакінуўшы свае прадымленыя закураныя хаціны, цэлымі сем’ямі рынуліся ў разбураны вайною Крым. І зноў аднекуль з гнілога падзямелля вужакай папаўзла чутка: "Хто паселіцца ў Крыме – атрымае ад цара волю". Чутка-плётка аказалася мацнейшай за царскі ўказ.

Аляксандр II мог успамінаць і ўспамінаць, як мітусіўся і злаваўся бацька, шукаючы выйсце. А яно не бачылася... Мінае год – паўстанне ў Магрэліі.

"Ну, чаму такія няўдзячныя сяляне? – здзіўляўся шчыра імператар, зноў падышоў да буфета – ужо іншага, што стаяў у прыцемкаватым кутку, наліў сабе салодкага пуншу. – Здавалася, усё ўжо зроблена для таго, каб улагодзіць іх. Радуйцеся, выказвайце падзякі цару, услаўляйце яго, з амвона ў касцёлах ды цэрквах узносьце "доўгія леты", дык усё наадварот – зноў ім не так.

Яшчэ ў маніфесце 1856 года – з нагоды заключэння Парыжскага міру – было абвешчана: "Ды зацвердзіцца і ўдасканаліцца ўнутраны дабрабыт Расіі; праўда і міласць няхай уладараць у судах яе, ды развіваецца паўсюль і з новай сілай імкненне да асветы і ўсялякай карыснай дзейнасці, і кожны, пад покрывам закона, для ўсіх роўна справядлівых, усім роўна заступніцтва, ды няхай насалодзяцца мірна пладамі працы нявіннай..."

Хто кажа, што ён, імператар, крыважэрны і злы? Нядобразычліўцы... Ці не ён знішчыў сумна вядомы "бутурлінскі камітэт" па цэнзуры? Хіба не ён вярнуў з ссылкі дзекабрыстаў, хто застаўся яшчэ жыць? І петрашоўцам прыйшлося даравацъ, за мяжу дазволіў ім ездзіць... А тут прадстаўнікі III аддзялення даносяць, што няўдзячныя падданыя зграямі хлынулі ў Лондан, к Іскандэру – Герцэну. А ён што? Яго "Колокол" быццам бы падмяняе царскую канцылярыю – узяўся разглядаць праекты "Палажэнне аб сялянах, якія выйшлі з-пад прыгоннай залежнасці".

Тады ж дробнапаместныя, даведаўшыся пра тыя праекты, адразу пачалі бунтаваць, за сякеры брацца, крычаць пачалі: "Ніякага

вызвалення! Ніякіх надзелаў! Бо нам прыдзецца жабраваць ісці па свеце!”

Ён, Аляксандр, прадбачыў такое, яшчэ ў 1856 годзе гаварыў на сходзе прадвадзіцелям маскоўскага дваранства, што лепей вызваліць іх зверху, чымся чакаць, калі яны самі, узяўшыся за вілы і косы, вызваляць сябе знізу. Не прыслухаліся, а дарэмна. Цяпер гэта стала яго галаўным болем. Ён і да гэтага адчуваў, што сялянскія масы сталі падобны на гаршчык, у якім кіпіць варыва. Калі слабы агеньчык пад сподам, то кіпень можа трымацца доўга, а калі хто ў агонь кіне некалькі паленцаў, што з таго будзе? Вось і падкідвае нехта тыя паленцы…

Аляксандр II ходзіць і ходзіць па пакоі, нячутна ступаючы на паліраваную да бляску падлогу. Зноў смакуе пунш. Ведае, што задужа ён прыкладваецца да яго, але толькі ён ратуе ад галаўнога болю і сцішвае гнятучы настрой. Бацька ўжо адышоў у іншы свет, яго ўжо нічога не непакоіць, а яму, спадкаемцу, трэба думу думаць, як абысці тыя непажаданыя няшчасці, які ўсплылі спакваля і нечакана…

А мо і не нечакана. Бо вунь нават сярод некаторай часткі дваранства балаболяць, што вызваленне сялянаў гэта толькі палова справы, трэба думаць ужо пра стварэнне новай, дэмакратычнай і справядлівай канстытуцыі. Во яно як павярнулася! Іх, бачце, ужо не задавальняюць праекты, якія склалі дваранскія губернскія камітэты, яны ўжо прызнаюць іх згубнымі і павярхоўнымі, што нават не адпавядаюць агульным запатрабаванням”. Дык няхай бы пра тое плявузгалі між сабою, выгаварыліся б і замоўклі, дык не, склалі “Адрас” на імя цара.

А ўзяць цвярскіх дэпутатаў дваранскага камітэту. Яны яшчэ і далей пайшлі. Падумаць толькі – патрабуюць папярэдняй рэформы судоў, адміністрацыі, цэнзуры. Дык гэта ж… Дык гэта ўжо самы што ні на ёсць сапраўдны закалот, непаслухмянасць, непадпарадкаванасць цару-бацюхну, якога паставіў на трон сам Бог!

Падумаў пра тое, што трэба неадкладна прымаць меры, і пры тым крутыя, жорсткія. Вось ён трошкі супакоіцца і дасць свой адказ не толькі грамадзе, а і сваім міністрам. Нават не маючы на ўвазе найвышэйшай уладаю ўхвалены парадак сваіх дзеянняў, яны не павінны былі непакоіць яго імператарскую вялікасць сваім хадайніцтвам, да змянення гэтага парадку схільным, і… не мелі ніякага права падаваць падобную просьбу за агульным іх усіх подпісам…

Дзверы зноў прачыніліся. Не асмельваючыся пераступаць парог, у праём глядзеў яго асабісты сакратар. Зразумела было, што ад яго, імператара, чакалі распараджэнняў з выпадку смерці аўгусцейшага…

– Іду, іду, – кіўнуў галавой Аляксандр II, – праз хвіліну буду ў канцылярыі.

Ён яшчэ раз зірнуў за акно – на пляцоўцы перад вокнамі ўжо нікога не было.

…………………………………….

– Яўстафій Чарноўскі, – схіліўшы ледзь прыкметна галаву, назваўся малады чалавек. – Скончыў курс навук ва ўніверсітэце. Цяпер жыву ў вёсцы.

– А я – Ежы Кучэўскі-Порай, – адказаў адстаўны афіцэр, – таксама ў вёсцы атабарыўся, служыў да гэтага ў войску.

Пацiснулі адзін аднаму рукі, абрадаваўшыся, што так немусова і проста адбылося іх знаёмства. Яўстафій меў лёгкую паходку, быў гаваркі, і словы ліліся з яго, як светлая вада з крынічкі.

– Вы чым дабіраецеся да вёскі? – з цікавасцю паглядзеў на субяседніка Яўстафій.

– Яшчэ не ведаю. Прыбыў у Вільню з аказіяй, да сяброў завітаў.

– А я на брычцы прыехаў! Рады буду, калі вы згодзіцеся скласці мне кампанію. Я вас давязу да вашых Корсакаў, а потым далей рушу.

– Дык гэта ж вялізны крук. Толькі клопат для вас лішні…

Чарноўскі засмяяўся, злёгку дакрануўшыся да пляча свайго новага знаёмага:

– Ды з радасцю прыму на сябе такі клопат… Засумаваў я па добрай размове.

Ежы пацiснуў плячыма, прымаючы запрашэнне, прамовіў:

– Ну, калі так, то дзякую, пан Яўстафій!..

– Так, так, мілейшы мой, і не адмаўляйцеся больш.

– А калі можам выехаць?

– Ды хоць цяпер. Мой кучар у карчме сядзіць, мяне чакае.

Ежы паглядзеў на субяседніка:

– Мне б толькі да маці завітаць… Забраць у яе валізку. А потым я вольны.

– Цудоўна! І мне адлучыцца трэба. Тады план такі – праз дзве гадзіны мы сустракаемся ў карчме “Талер”. Згодны?

– Так.

Некалькі вузкіх вулачак, некалькі масткоў праз канавы – і экіпаж выкаціў на тракт. Лёгкі вецер кудлаціў галовы, у небе залівабся нястомны жаўрук. Вазніца маўчаў наперадзе, не адрываючы позірку ад дарогі, зрэдку махаючы пугай, падганяючы каня.

– Любата! – усклікнуў, азіраючыся вакол Яўстафій. – Люблю прыроду. Люблю вёску, люблю працаваць на зямлі. Яна і корміць, і поіць нас, і дае сілу – духоўную і фізічную...

– Так. Чалавек, адарваны ад зямлі, губляе самае дарагое і неабходнае.

Яўстафій зажмурыў вочы, задраў галаву, падстаўляючы вясноваму сонцу свой і без таго загарэлы твар.

“Нічога, здаецца, хлапец, – падумаў пра сябе Кучэўскі-Порай. – Узяў на сябе клопат давезці да Корсакаў, хаця гэта вялікае адхіленне ад яго дарогі... Мы, мусіць, пасябруем з ім. Цікава, ці належыць ён да якога-небудзь таварыства. Не можа быць, каб такі энергічны і разумны чалавек жыў сам па сабе...”

Брычка то нырала ў густыя зараслі, і па твары шлёгалі галіны з клейкімі першымі лісткамі, то апускалася ў пясчаную лагчыну; часцей дарога пралягала праз чэзлыя палі, між агародаў з пахіленымі платамі... Сустракаліся балоты, верасовыя ўзгоркі, урослыя ў зямлю шэрыя хаты вёсак; на выганах пасвіліся каровы, але яны былі такія худыя, быццам іх год не кармілі; па дарозе, перад уездам у вёску ці на раздарожжы, сустракаліся шэрыя крыжы, перавязаныя вышыванымі ручнікамі. То касцёл сустракаў іх, то царква. У даматканай тканіне людзі схілялі галаву ў паклоне.

– Бедны край, жабрацкі і панылы! – уздыхнуў Яўстафій. – Літоўскі бедны край! І калі яму прыдзе мажлівасць падняцца з каленяў, каб стаць вольнымі і багатымі, нікому невядома.

Ежы прамаўчаў, не ведаючы, куды хіліць размову Чарноўскі.

– Я люблю Польшу, люблю Літву. І вельмі хачу, каб вось гэты народ, забіты і няшчасны, умеў пісаць і чытаць, цікавіўся музыкай і паэзіяй... Мне бачыцца ў будучым, што не будзе ні багатых, ні бедных, а ўсе будуць жыць у згодзе. А для гэтага ўжо сёння павінны аб’яднацца ўсе слаі нашага грамадства і ўключыцца ў агульную барацьбу за свабоду. З наступнага года я думаю адкрыць школу, у якой будуць вучыцца пісьменнасці дзеці сялянаў...

– Добрая справа...

– Шматвяковае панаванне прыгоннага права вынішчала сельскую гаспадарку. Амаль штогод няўраджаі. Ад гэтага жабрацтва

селяніна, голад. У Піцеры я наведваў тайныя гурткі. Забіўся ў памяць успамін Мамбелі, які наведаў Літву: “І цяпер яшчэ ў мяне прабягае холад па жылах пры ўспамінах пра ўбачанае – кавалачак хлеба, які елі сяляне Віцебскай губерні: мука зусім не ўваходзіла ў яго склад, а толькі быў з мякіны, саломы і яшчэ нейкай травы…” А Маркс так пісаў пра Піншчыну: “Няма больш беднага становішча сялянаў у паляшуцкай частцы заходніх губерній…”

Ежы адзначыў пра сябе, што яго новы сябра ведае шмат, разбіраецца і ў аграрных пытаннях, і ў палітычных… Не асцерагаючыся нават таго, што падумае пра яго субяседнік, не ведаючы, якія ў яго думкі, светапогляд…

– Але ж рэформа 1861 года…

– Лухта, пан Ежы!  Той жа селянін і прымусіў царскі ўрад і памешчыкаў пайсці на тое. Той жа Маркс пра тую рэформу сказаў як? Тое ўсё напаміналa дзеянні чыноўніка, які збіраўся межаваць зямлю “ў тое самае імгненне, калі падземны гул абвясціў ужо вулканічнае вывяржэнне, якому суджана было вырваць з-пад яго ног тую ж зямлю”.

– Трапна сказаў, нічога не скажаш.

– Як у сук уляпіў. Па той жа рэформе сяляне аб’яўляліся як быццам вольнымі, аднак жа галоўнай і адзінай крыніцай іх існавання з’яўляецца што? Так, так, яна, родненькая зямелька. Але яна па-ранейшаму заставалася ва ўласнасці памешчыкаў. Сяляне атрымалі ў карыстанне толькі маленечкія надзелы, якія аніяк пракарміць іх не маглі.

– Але ж ім дазвалялася выкупіць тыя надзелы.

– За які шыш яны маглі яе выкупіць? А каштаваў той кавалачак зямлі ой якія вялікія грошы. Ніводнаму селяніну не пад сілу было тое зрабіць. Яны, як і раней, павінны выконваць баршчыну і плаціць аброк. Так што рэформа прайшла, а селянін як быў прыгнечаным і бяспраўным, так і застаўся. Больш таго, падрыхтаваная  і праведзеная памешчыкамі рэформа ўшчэнт абрабавала сялянаў Літвы… А хто ваш бліжэйшы сусед, пан Ежы?

– О, сусед у мяне цікавы чалавек! – усклікнуў Кучэўскі-Порай. – Вядомы ў нашых краях мастак – Антоній Залескі. Чулі пра такога?

– А як жа! Эрудыт, дэмакрат. Літва павінна ганарыцца такімі людзьмі.

– А мы і ганарымся, пан Яўстафій!

“Спытаць ці не пра тое, што мяне хвалюе? – падумаў Ежы, расшпільваючы сурдук, студзячы грудзі вечаровым ветрам. – Хаця сам жа прызнаваўся, што наведваў тайныя гурткі падчас вучобы…”

– Пан Ежы, а як вы праводзіце час у сваіх Корсаках? Займаецеся толькі гаспадаркай ці ўдзельнічаеце яшчэ і ў грамадскім жыцці? Корпацца ў зямлі, сеяць і жаць – гэта высокародна, але ж ад пастаяннага занятку гэтым можа стаць і сумна. Мяне Кораў уцягнуў у сваю арганізацыю, хаця я ў многім з ім і не пагаджаюся. Я за адукацыю сялянаў, я за тое, каб яны прачнуліся, прадралі вочы і паглядзелі на сябе збоку, якія яны бязвольныя і трывушчыя. А ён хоча разам з расіянамі адабраць у цара карону. Кораў не адзіны. І арганізацыя яго не адна. Ёсць і іншыя. А для вас, пан Ежы, што Кораў?..

– Кораў прыязджаў не так даўно да мяне ў вёску. Прывёз першы заклік варшаўскага камітэта руху і іншыя паўстанцкія праккламацыі. У іх я не знайшоў нічога пра тое, якія сумесныя дзеянні з расійцамі, якія ёсць таварыствы толькі з расійскіх афіцэраў. Раней ён казаў, што толькі адны афіцэры могуць уваходзіць у таварыства, а то гаворыць, што можна туды ўступаць і цывільным. Падставай для будучай канспіратыўнай працы лічыўся заклік варшаўскага Камітэта руху, які заклікае ўсе польскія і літоўскія правінцыі да ўсеагульнага паўстання. І цвёрда было паабяцана, што ўсё разлічана так, каб мець поспех і перамагчы…

Яўстафій злёгку нахмурыўся, прыкусіў верхнюю губу.

– Дай Бог, каб так яно і было, але ж… Згодзен, дэманстрацыі ў касцёлах і спяванне гімну “Божа, Які Польшчу…” падымаюць настрой сярод людзей Вільні і на вёсцы. Але што дзіўна – сяляне не хочуць далучацца да гэтых дэманстрацый, думаючы і верачы ў тое, што гэта толькі праяўленне незадаволенасці паноў ліквідацыяй прыгоннага права і баршчыны. Расійскі ўрад падтрымлівае такую думку сялянаў, нават заахвочвае тое. Выдадзена распараджэнне, каб арыштоўвалі тых святароў і вернікаў, якія будуць спяваць у касцёлах забароненыя песні. А разам з тым выйшла прадпісанне аб выдачы паліцыі халоднай і агнястрэльнай зброі. Забівай і ні за што не адказвай! Забаронены ўсялякія зборышчы – з’езды і сходы ў прыватных дамах. Во як, браце Ежы!

– Я пацікавіўся яшчэ ў Корава, дзе і адкуль мы возьмем зброю для барацьбы. Якія і колькі людзей будзе ў нас, бо бачна, што сяляне спадылба і коса глядзелі на тыя дзеянні, варожыя да ўрада.

І шляхта не верыла ў паўстанне, лічыла яго гібельным, бо мела на мэце дабівацца мірным шляхам уступак ад урада. І ведаеце, што мне адказаў Кораў?

– Ведаю. Ён сказаў, што зброі ў нас будзе ў дастатковай колькасці. Запэўніў, што яе выдадуць самі рускія. А для барацьбы шмат людзей і не трэба, бо царскія войскі не будуць ваяваць супраць паўстанцаў. І што ён выдаў вам рэвальвер сістэмы Бекера. Паабяцаў выдаць яшчэ столькі, колькі вы далучыце да гэтай справы новых людзей…

Ежы здзіўлена паглядзеў на свайго спадарожніка:

– Адкуль вам тое вядома?

Замест адказу Яўстафій дастаў з-пад сядзення наган. Заўсміхаўся:

– Мы з вамі ў адным таварыстве… І нам даверана адказная справа. Няхай у ёй яшчэ шмат чаго недасканалага, але не гэта галоўнае… Нам неабходна шукаць людзей, гутарыць з імі, тлумачыць пазіцыю паўстання. І выпрацаваць сваю стратэгію і ход дзеянняў, але якія б не разыходзіліся з асноўнай лініяй рэвалюцыйнага камітэта. Згода?

Моцны поціск рукі змацаваў іх не толькі дружбу, але і сумесныя дзеянні ў агульнай барацьбе.

Праехалі больш паловы дарогі. Сонца стаяла яшчэ высока.

Каваныя абады колаў, уядаючыся ў зямлю, кацілі брычку далей і далей, у будучыя дні, у будучыя вірлівыя падзеі.

3

Герцэн і Агароў ушчыльную падступіліся да сваёй галоўнай задумы – канкрэтызацыі мэты задуманага імі тайнага таварыства. Згадзіліся разам, што іх праграмны дакумент будзе выглядаць пад назвай “Ідэалы”.

Больш нікога не далучалі да гэтай працы, але іх сябры ведалі, што яны рыхтуюць абяцаную прапанову – праграму згуртавання.

Самі ж ствральнікі яе кіраваліся тым, што праграма таварыства прадугледжвала поўную палітычную перабудову Расіі. А яна, перабудова, заключалася ў тым, што Расія павінна стаць канфедэрацыяй з цэнтральным урадам, які будзе несці поўную адказнасць перад сваімі выбаршчыкамі. У адным з пунктаў указвалася канкрэтна – форма цэнтральнай улады – камітэт.

У сувязі з гэтым адмяняецца прыгоннае права. Усе сяляне надзяляюцца зямлёй, а памешчыкі атрымліваюць ад дзяржавы кампенсацыю за зямлю.

Канфедэрацыя мае на мэце – абшчыны, з якіх утвараюцца воласці, а яны ў сваю чаргу групуюцца ў саюзы, а яны ўжо і складаюць канфедэрацыю. Перад законам усе роўныя. Усе пасады толькі на выбарнай аснове. Структура тайнага таварыства трымалася на так называемых "апосталах", дасканала свядомых дзеячах і тых, хто распараджаецца ўсім. Каля іх групуюцца "вучні" і "напалову асвядомленыя". Пасля іх свой шэраг займаюць агенты...

У Расіі такі цэнтр фармаваўся вакол "апосталаў дэмакратыі" Чарнышэўскага і Дабралюбава, а ў Лондане Герцэн і Агароў стваралі прапагандысцкі цэнтр.

Усе яны мелі агульную канчатковую мэту – *палітычнае вызваленне Расіі ад самадзяржаўнага дэспатызму.* Пераўтварэнне яе на дэмакратычных і сацыялістычных пачатках.

Але, да слова сказаць, не ўсё гладка і зладжана было падчас фармавання гэтай структуры. Герцэн і Агароў разыходзіліся з Дабралюбавым і Чарнышэўскім у тактыцы, бо першыя лічылі, што дэмакратычныя і сацыялістычныя пераўтварэнні могуць быць здзейснены толькі *мірным, рэфармісцкім шляхам,* хаця ў той жа час не абвяргалі і рэвалюцыйныя сродкі барацьбы.

Вызваленне сялянаў лібералы чакалі "зверху", катэгарычна "зверху". На гэта Герцэн сцвярджаў: "Ці будзе тое вызваленне "зверху, ці знізу" – мы будзем за яго.

Зразумела, што паняцце "знізу" азначала толькі адно – народную рэвалюцыю, і зразумела было і другое – Герцэн вызначаў сваё месца ў гісторыі: ён на баку тых, хто змагаецца за свабоду і пераўтварэнні любым шляхам. Значыць, ён абраў сваю дарогу – ён будзе ў шэрагах паўстанцаў.

Звон "Колокола" далятаў да самых аддаленых куткоў Расіі. Аўтарытэт Герцэна дасягнуў сваёй вяршыні. Сотнямі і тысячамі ішлі допісы ў рэдакцыю выдання. Па матэрыялах "Колокола" распачыналіся крымінальныя справы, якія былі аддадзены забыццю, "Колоколом" пагражалі ўладам... Водгукаў на падзеі ў Расіі баяліся міністры і чыноўнікі ўсіх класаў.

Герцэнаўскае выданне чытала імператрыца Марыя Аляксандраўна. Нават сам імператар загадаў дастаўляць яму кожны экземпляр.

І чытаў “Колокол” спакойна і безуважна да тае пары, калі не прачытаў аднойчы, што Герцэн заклікаў народ “к топору”.

Нечакана нарадзіўся царскі рэскрыпт генерал-губернатару Віленскай губерні Назімаву ад 20 лістапада 1857 года. У ім указвалася на неабходнасць тэрмінова прыступіць да падрыхтоўкі сялянскай рэформы. Герцэн амаль пляскаў у далоні. Але яго радасці і замілавання не падзяляў Агароў – ён проста не давяраў.

Ствараліся губернскія камітэты, стварыўся нават Галоўны камітэт.  А калі былі ўтвораны яшчэ і рэдакцыйныя камісіі, то гэты факт умацаваў яшчэ больш у Герцэна  наіўную веру ў прагрэсіўнага цара, яго шчырае жаданне  даць рускаму селяніну сапраўдную волю. І тады, звяртаючыся да Аляксандра ІІ, кінуў радасную рэпліку: “Ты перамог, Галілеянін!”

А ўжо ў наступным годзе, летам, у “Звоне” з расчараваннем напіша: “Аляксандр ІІ не апраўдаў надзей і спадзяванняў…” Герцэн друкуе “пісьмы з правінцыі”. Невядомы аўтар піша ў сваім лісце, патрабуе, *“каб “Звон” клікаў не да малебна, а біў у набат. Да сякеры клічце Русь!”*

У сакавіку 1861 года ва ўсіх цэрквах Расіі святары чыталі з амвонаў царскі маніфест аб вызваленні сялянаў ад прыгону. Працягвалася, здавалася б, рэалізацыя першапачатковай праграмы герцэнаўскага выдання, – вызваляюцца ад прыгнёту з зямлёй сяляне, прагучала абяцанне правесці шырокія рэформы судоў, друку, свабоды слова, адменены ўказ на забарону дэманстрацый і мітынгаў…

З гэтай нагоды Герцэн прапанаваў арганізаваць урачысты абед, каб падняць разам з сябрамі тост у гонар Аляксандра ІІ.

Калі накрылі стол, калі разлілі шампанскае, расчынілся дзверы. На парозе стаяў разгублены выдавец.

– Сябры! З Варшавы толькі што прыйшла вестка. У горадзе праходзіла  мірная дэманстрацыя. У людзей стралялі царскія салдаты. Шмат забітых і параненых…

Герцэн памяняўся ў твары, нахмурыўся, з нейкай унутранай злосцю прамовіў:

– Ганьба табе, Аляксандр ІІ! Ганьба!

… Вільня  Людвіку Кандратовічу падалася і не сваёй, але ж і не чужой.Ведучы гаспадарку ў Залучы, Людвік прывык да вясковага жыцця, да прыроды, да ранкаў, калі ўсходзіла сонца, любіў

узяць у рукі накляпаную касу і прайсціся з ёю па роснай і сакавітай траве; пошчак салаўёў у густым кустоўі, цнатлівая цішыня да звону ў вушах, – усё радавала яго…

Нахадзіўшыся па балацявінах ці восеньскай парой па грыбных мясцінах, нагрузіўшы з коптурам вялізны кош баравікоў з цёмна-карычневымі галоўкамі, з вялікай радасцю вяртаўся шчаслівым дадому…

А ў галаве, не-не ды пачне рытмічна, бы стук дзюбы дзятла аб сухадрэвіну, нараджацца радок: “*… святая ўсюды пустата, ды нават… не думай аб хлебе…*”

Перад самым фальваркам сустрэў прыгоннага селяніна Юльяна Заброцкага. Той, зняўшы магерку, павітаўся, спытаў:

– Як здароўе вяльможнага пана Людвіка Кандратовіча?

– Які я табе пан, братка Юльян?

– Які не пан, але пан…

Кандратовіч зняў кашэль, паставіў каля ног. Важкаваты быў, траха і адпачыць не зашкодзіць.

– Харошыя грыбы, – пахваліў селянін, – адзін у адзін… Умееце збіраць.

– Ды што іх збіраць, Юльян, у лесе сёлета хоць касой касі.

– Падзякаваць хачу, пан Ладыслаў. За тое, што сям’я мая з голаду не памерла. Той гарнец жыта, што вы далі, акурат і выратаваў нас ад смерці.

– Ды што ты, Юльян, за гэта не дзякуюць. Я рад, што хоць нечым памог.

– Дзякую, пан Уладыслаў, дзякую. Пытанне ёсць да вас. Адкажаце?

Уладыслаў з цікавасцю паглядзеў на селяніна. Падабаўся ён яму. Разумны, сабе на ўме, умее пажартаваць, гісторыю якую расказаць. Можна сказаць, што некалькі з іх Уладыслаў выкарыстаў у напісанні сваіх радкоў.

У сям’і трое дзяцей, жонка Аўдоля, дужая і працавітая, прыгожая. Спявала хараша. Песень шмат ведала. Кандратовіч запісаў некалькі…

– Дачуліся мы, што вы, пан Уладыслаў, у Менск ездзілі. І не толькі ў Менск, а і па розных ваколіцах… Вы сабраліся пакінуць нас? Што мы вам ліхога зрабілі, чаму вы рашылі пусціць нас абяздоленымі па белым свеце адных?

Кандратовіч здзіўлена паглядзеў на селяніна.

– Я не вас цураюся, Юльян… Я сябе вызваляю як прыгонніка і арандатара. Не хачу, каб на мяне працавалі, Юльяне, сам на сябе хачу працаваць. Есці свой хлеб, здабыты потам і крывёю. Чым кепска, га?

Селянін са скрухай паглядзеў на Кандратовіча, прамовіў:

– А як жа мы? Пад другога пана пападзем. А ён такім жаласлівым не будзе, як вы, пане Уладыслаў, не, не будзе… Мы помнім, што вы напісалі:

*Паркановай трапіш вулкай*
*Да старой пахілай хаты.*
*Да зямлі яе прыгнула,*
*Мох страху закрыў і латы,*
*Цераз шчыліны ў драніцы*
*Можна немаль бачыць неба.*
*Гэта ўсё – мая святліца,*
*Лепшай мне нідзе не трэба…*

Кандратовіч маўчаў. Думаў, што спецыяльна селянін вывучыў яго верш, каб разжаліць.

– Здзіўлены, пан Людвік? Не здзіўляйцеся. Шмат і іншых вашых радкоў ведаюць напамяць нашы вяскоўцы… Мы ведаем і пра вашы беды. Даруйце за тое, што назваў вас панам. Паны ў раскошы купаюцца, на балі ў Пецярбург ездзяць, аканомы панскія абдзіраюць нас да ніткі, – гэта не пра вас сказана… Я папрашу ў вас капеечку пазычыць, але вы мне не дасце яе, бо не маеце самі…У вас грошай нават на тытунь няма… Вы аддалі-пазычылі апошнія тры рублі, калі прыязджаў да вас ляснічы Паплаўскі і папрасіў у вас пазыку. То вы пра сваю хатку напісалі такі вершык, мы ведаем, і ў нас яны такія ж дзіравыя… Святы Міхал хутка, святаміхальскі кірмаш будзе ў Нясвіжы, – а вы прадаць што не маеце ніякай мажлівасці, ані купіць чаго…

– Адкуль ты ведаеш такія падрабязнасці, спадар Юльян? – спытаў у яго Уладыслаў.

– А вунь сарока трашчыць на вільчыку яліны, а яе я мову разумею. Яна яшчэ кажа і пра тое, што вам пісаць хочацца, а не маеце пад рукамі ні аркушыка паперы. Ці не так, пан Уладыслаў?

Кандратовіч разрагатаўся.

– Ці не цыганскага ты роду, Юльян? Як цыганка мне ўсё па палічках раскладваеш? Мо і ведаеш, колькі пражыву я на белым свеце, га?

– Скажу, – уздыхнуў селянін. – Жыць вам наканавана не так і шмат, але вы ў славе пражывеце свой век… А потым уваскрэснеце і жыць будзеце далей. Яшчэ ўспыхне ў вашым сэрцы каханне і вы напішаце шмат цудоўных радкоў…I будуць ведаць, што пан Уладыслаў Сыракомля – вялікі паэта...

Кандратовіч нахмурыўся. Верыць ці не верыць яму? Што жартаваць ён умеў, пра тое многія ведалі, але яго словы супадалі з усім тым, што было і здаралася ў яго, Уладыслававым, жыцці.

– Не здзіўляйся, пан Кандратовіч, – перайшоў ужо селянін на “ты”, адчуўшы, што пераступіў тую недазволеную мяжу, калі нельга было гаварыць пра час яго жыцця, бо гэта грэх перад Госпадам, але свой грэх ён ведаў як будзе выкупляць – у пакутах і малітвах, – у мяне бацька быў правідцам… І мне той дар перадаў. Таму не пытайся ў мяне больш ні пра што, добра?

Кандратовіч заківаў галавой, не прамовіўшы ні слова.

Юльян, развітваючыся ўжо, зноў пакланіўся свайму арандатару, гледзячы ў вочы, сказаў апошняе:

– Не атрымаецца нічога ў вас з вашай задумаю. Прыгон як быў прыгонам, так і застанецца. Цар не адпусціць нас – і вас у тым ліку – на вольную працу. Мы як у нейкай нябачнай клеці, ды яшчэ прывязаныя ланцугамі да вялізных крукоў… Толькі людзі ў таго цара могуць адабраць тое права – устаць з каленяў, разарваць ланцугі і скінуць яго з крывавага прастола. А мы ўжо болей не можам цярпець такі здзек. Гнеў расце. І ён павінен выбухнуць…

– Веру, выбухне, – пацвердзіў Кандратовіч. – Дзякуй за гутарку, Юльян, ты мяне сёння шмат чаму навучыў.

Юльян яшчэ раз кіўнуў галавой, насунуў на галаву лямцавую магерку, павярнуўся ўбок дарогі і няспешным крокам пайшоў на свой хутар.

Уладыслаў, уражаны, доўга яшчэ стаяў каля каша з баравікамі, глядзеў услед селяніну…

Юльян, ідучы, ніводнага разу не азірнуўся.

Пісалася ў Залучы, а выдаваць напісанае трэба было ў Вільні.

Усё часцей і часцей Уладыслаў Кандратовіч наведваўся туды: ішла падрыхтоўка да друку яго перакладаў лацінскіх твораў. Пераклады, лічыў паэт, яму ўдаліся.

Хаця і з цяжкасцю, але за кароткі час ён пераклаў Клеменса Яніцкага, Себастыяна Кляновіча, Іяхіма Бельскага, Мацея Казіміра Сар-

беўскага, Яна Каханоўскага… Чакала сваёй чаргі і “Гісторыя літаратуры ў Польшчы”…

Вельмі крыўдзіла паэта тое, што цар загадаў называць яго радзіму Паўночна-Заходнім краем. Ва ўсіх кнігах выкраслілі слова “беларус” і “Беларусь”…

Але яго радавала і ўсцешвала, калі ён пазнаёміўся з мастаком Вінцэнтам Дмахоўскім, якога яшчэ называлі Клодам Ларэнам Віленскіх ваколіц. Цесна сышліся і пасябравалі адразу з паэтам Эдуардам Жалігоўскім. Кандратовіч чытаў яго драму “Іярдан”, высока ацэньваў яе. Яна была надрукавана пад псеўданімам Антоні Сава. Яшчэ раней перапісваўся з Рамуальдам Падбярэзскім – выдаўцом-рэдактарам альманаха “Rocznik Literancki”, а цяпер асабіста з ім пазнаёміўся…

Круг знаёмстваў шырыўся і шырыўся.

Жыццё ставіла перад ім умову – хочаш выдавацца, сцвердзіцца як паэт, – пакідай Залуча і пераязджай у Вільню. Але не толькі гэта падштурхоўвала яго пакінуць родныя мясціны. Пайшлі з жыцця дочачкі – Фабіянка, Марынка, а за ёю і Вікця…

Схапіла хвароба, і паўміралі яны на адным тыдні. Фабіянку пахавалі на тулёнкаўскіх могілках, а Марынку і Вікцю павезлі на стаўбцоўскія клады.

Паліна, жонка, сама ледзьве не памерла, страціўшы нечакана траіх дзяцей. Уладыслаў доўга адыходзіў ад сямейнага гора – счарнеў, сагнуўся і стаў выглядаць як на семдзесят гадоў…

Хоць і знаходзілася Залуча ўдалечы ад буйных гарадоў, дзе бурліла і кіпела жыццё, але і да яго мясцінаў адгалоскамі дакатваліся людскія страсці…

Сяляне бліжэйшых вёсак, збіраючыся разам, пыталіся пра падзеі ў Еўропе, прасілі растлумачыць, што гэта такое “вясна народаў”.

– Ды з ярма царскага людзі спрабуюць вырвацца, – адказваў Юльян Заброцкі, – мы ж не быдла якое… Мы хочам жыць самі па сабе, без бізуноў прыгоннікаў… Бог даў нам зямельку, сказаў, каб гаспадарылі на ёй, але яе ў нас адабралі замежныя паны… Я вам на словах кажу, а вось у мяне тутака пракламацыі і рэвалюцыйныя вершыкі… Прачытаеце самі…

Сяляне бралі аркушыкі паперы, прыглядаліся да літар.

– І ў мяне ёсць вершыкі, – падаў Юльяну жыхар Бярэжна Антось Крэмка разгорнутую паперчыну. – Уладыслаў Сыракомля

напісаў. Мне падарыў, але прасіў, каб я асабліва не мянціў языком, што гэта яго вершык.

– А пра што верш? – пацікавіліся вяскоўцы.

– “Заўчасна” называецца. Паэта пра сябе напісаў. Ён сябе бачыць жаўруком, і што яго доля – услаўляць надыход вясны. Бо ён першы чуе, калі пад мёрзлай зямлёй і пад лёдам пачынае прачынацца Нёман… Ён першым павінен абвясціць вясну. А ў другім вершы “Ратай да жаўранка” кажа:

*Я ару, а ты мне звоніш, жаўручок, таксама:*
*Табе лёгка – заляці, брат, да нябеснай брамы,*
*Раскажы там аб ратаях, долі невясёлай:*
*Люд вясне не рад, бо ходзіць голад зноў па сёлах…*

– Вялікі паэта Уладыслаў! – адобрыў Юльян пачутыя радкі. – Пра нас ніхто так не пісаў. Ніхто… Учора ён быў тут, але пра вершы нічога не казаў. Не любіць выхваляцца імі…

Але вядомасць паэта на беларускіх прасторах расла і расла. Кожны верш перапісваўся, завучваўся на памяць. Літаратары Вільні, хаця і не адразу, прызналі ў ім паэта, назвалі яго вясковым лірнікам.

Чыталі і перачытвалі гутаркі паэта “Дабрародны Ян Дэмбарог”, “Хадыка”, вершы “Лірнік вясковы”, “Немаўляці”, “Прысвячэнне ліцвінам народных гутарак”, “Пра сваю старую хатку”, “Гутарка пра бусла”, “Заўчасна”, “Добрыя весці”…

У Залуча прыходзілі лісты ад вядомых літаратараў, якіх паэт з-пад Нёмана ніколі не бачыў, а толькі чуў.

Паэты запрашалі яго прыехаць у Вільню.

Шэсць гадоў таму Сыракомля паслаў рэдактару-выдаўцу часопіса “Athenaeum” – “Атэнэум” – Юзафу Ігнацы Крашэўскаму свайго “Паштальёна”. І нечакана ўбачыў праз нейкі час надрукаваным.

О, якая радасць тады была для Сыракомлі! А тут ліст ад яго прыйшоў. Піша, што пабачыцца і пазнаёміцца хоча. Але незразумела чаму прапанаваў не ў Вільні сустрэчу, а на Валыні, у Губіне, куды ён адпраўляецца па нейкіх справах і клопатах. Ды што Губін, за тую радасць, што падараваў яму К.Пастарнак, такі быў псеўданім у паэта, ён пабег бы да яго хоць на край свету…

З’ездзіў. Пазнаёміўся. Адразу сышліся, пасябравалі, адчуўшы, што маюць адзін у адным патрэбу.

А праз нейкі час уніяцкі святар з Ярэмічаў Ян Давідовіч, прыхільнік паэзіі вясковага лірніка, пазнаёміў арандатара з Залуча з маладым настаўнікам – Вінцэсем Каратынскім.

– Вельмі цікавы чалавек, Уладыслаў, – сказаў за хвіліну да сустрэчы Ян, – думаю, што ён табе спадабаецца.

Кандратовіч з цікавасцю паглядзеў на святара, а потым і на юнака, які накіроўваўся да іх, ступіў крок насустрач.

Сапраўды, успамінаючы тую першую сустрэчу, Уладыслаў адчуў, як павеяла цяплом. Быццам у халодную вясновую раніцу недзе з-пад Нёмана, ад прырэчных кустоў дыхнула прыемнае і лекавае паветра.

Юнак усміхаўся, ідучы да яго, і вочы яго выпраменьвалі такую дабрыню, што на сэрцы Сыракомлі адразу стала ўтульна і хораша.

Поціск рукі моцны, дужы, бачна было, што хлопец не з панскага асяродка, працу зведаў з дзяцінства.

– Вінцэсь. Вінцэсь Каратынскі.

– Людвік Кандратовіч.

– А Уладыславам Сыракомляй вас можна называць? – пацікавіўся юнак, пераводзячы позірк на святара – як той аднясецца да яго смелага пытання.

Кандратовіч весела хмыхнуў, заўсміхаўся:

– А тое ўжо як пану даспадобы.

Святар, папрасіўшы прабачэння, падаўся па сваіх клопатах, і яны засталіся адны. Нейкі час не маглі наладзіць гаворку, і яе пачаў першы Кандратовіч.

– І чым Вінцэсь зарабляе сабе на хлеб?

– Настаўнічаю я. Вандрую з вёскі да вёскі. Нарадзіўся ў вёсцы Селішча, што ў Карэліцкім раёне. Пачынаў хатнім настаўнікам каля Любчы.

– То можа і пішаце што?

– Пішу, спадар Уладыслаў. Трохі вершы, трохі допісы ў газеты.

– І пра што ж вершы? Пра каханне, пра прыроду?

– І пра каханне. І пра любоў да радзімы. А вашыя вершы я ўсе ведаю на памяць.

– Так і ўсе?

– Ну, амаль усе… Якія былі ў друку.

– Праца настаўніка падабаецца?

– Так. Знаходзячыся сярод людзей, сярод вясковага люду, пазнаю жыццё. Пішу цяпер той мовай, на якой гавораць людзі.

– Вінцэсь, – спыніўся нечакана каля шырокай кладкі праз раўчук Уладыслаў Сыракомля, – а ці не хацеў бы ты памяняць сваю прафесію?

Пытанне прагучэла для дзевятнаццацігадовага юнака нечакана, таму ён са здзіўленнем паглядаў на паэта:

– Памяняць настаўніцтва? На што? Я ж больш нічога не ўмею рабіць.

– Можаш. Я гэта ведаю.

Юнак маўчаў, ведаючы, ва Уладыслава нешта на ўме сваё.

– Вінцэсь, дарагі мой хлапчына! А ці не згадзіўся б ты пераехаць да мяне ў Залуча? Спытаеш, чаго? А я адкажу табе – да мяне. І не проста да мяне, а быць маім сакратаром-памочнікам.

Юнак з недаверам паглядзеў на Кандратовіча. Прапанова была заманлівай. Толькі ці сур'ёзнай яна была? Можа ён, Уладыслаў, так жартуе? Яму, вясковаму вандроўніку-настаўніку, ды ісці сакратаром да такога слыннага паэта…

– Працы будзе шмат, адразу папярэджваю. Неабходна будзе перапісваць начыста мае творы, пераклады з паэтаў-лацiністаў, старадаўніх хронік ды і перапіску весці з маімі карэспандэнтамі, – а іх у мяне з кожным разам з'яўляецца ўсё больш і больш… Дык як, Вінцэсь?

У хлопца як адняло мову. Адно глядзеў на вясковага лірніка блазнавата і ўсміхаўся. Ён пра такое баяўся і марыць.

– Леанард Ходзька, той шляхціц Ходзька, які выдавец, публіцыст і гісторык, шмат сабраў і выдаў матэрыялаў па гісторыі і літаратуры польскай і беларускай. Вучыўся ў школах у Барунах і Маладэчне, а потым скончыў Віленскі ўніверсітэт. Належаў да філарэтаў. А ў дзевятнаццаць гадоў, во, акурат як і табе цяпер, пачаў працаваць сакратаром у Міхала Клеафаса Агінскага.

Знаёмячыся з народнымі гутаркамі Сыракомлі, якія былі напісаны па матывах мясцовых паданняў і звычаяў, яго лірыкай, знітаванай з мілагучнымі песнямі вясковага люду, перакладамі, а яшчэ ведаючы яго цікавасць да геаграфічных і краязнаўчых мяс-цінаў наднёмання, у душы Вінцэся Каратынскага яшчэ задоўга да гэтага знаёмства нарадзілася светлая павага да паэта, да яго творчасці. Ён рашуча выказаў жаданне паспрабаваць сябе ў якасці ратая на творчым полі такой магутнай асобы як Сыракомля.

– Я… я згодзен, спадар Уладыслаў.

Уладыслаў злёгку ляпнуў хлопца па плячы:

– Ну і выдатна! Цяпер мы з табою два боты – адна пара, ці не так? А чаго ж ты не цікавішся, колькі я буду плаціць табе? Ці табе грошы зусім не трэба?

– То я вам павінен плаціць, што мяне ў свае вучні і сакратары ўзялі.

Сыракомля засмяяўся, абняў хлопца, прытуліў да сябе.

… Імператар усерасійскі Аляксандр II думаў, што з увядзеннем новага ўказа адчуе задавальненне ад правільнасці зробленага кроку, але да яго прыйшло расчараванне. Ён так і выказаўся перад сваімі міністрамі, калі яны сабраліся ў вялікай зале:

– Я перажываю хвіліну расчаравання…

І ўсё таму, што ўзмацніліся сялянскія хваляванні і местачковыя паўстанні пасля імператарскай рэформы. Герцэн з гэтай нагоды пісаў, што рэформа абярнулася "бессовестнейшим грабежом крестьян", а вызваленне стала "рядом насилий и сплошным надругательством над ними".

З нагоды "вызвалення" ад сялянскай зямлі адрэзалі ў чарназёмных губернях звыш пятай часткі. А ў некаторых губернях адрэзалі, аднялі ў сялянаў да траціны і нават да дзвюх пятых частак сялянскай зямлі. З выпадку "вызвалення" сялянскія землі адмежавалі ад памешчыцкіх так, што сяляне перасялілся на "пясочак", а памешчыцкія землі клінам уганяліся ў сялянскія. Усё гэта рабілася для таго, каб лягчэй было высокародным дваранам кабаліць сялянаў і здаваць ім зямлю за ліхвярскія кошты. З выпадку "вызвалення" сялянаў прымусілі "выкупляць" іх жа прыватныя землі, прычым здзёрлі ўдвая і ўтрая вышэй за сапраўдны кошт зямлі…"

А тым часам сялянская "вялікая і гуманная" рэформа праводзілася з дапамогай куляў, штыкоў, розгаў і арыштамі незадаволеных. А незадаволеныя былі ўсе сяляне.

III аддзяленне дасылала цару свае сакрэтныя справаздачы: у 1861 годзе ў Расіі пад час хваляванняў сялянаў былі захоплены 1370 маёнткаў з інвентаром і жыўнасцю; амаль у палову з іх былі ўведзеныя войскі. У выніку 140 забітых і 170 параненых.

Асабліва масавымі былі сялянскія хваляванні ў Казанскай і Пензенскай губернях, у сёлах Безна, Кандзееўка, Чарнагай. У тым жа Чарнагаі да чатырох тысячаў сялянаў з чырвонымі

сцягамі і з гучнымі выкрыкамі “Воля! Воля!” рушылі з вёскі. Вялікай і бязладнай калонай дайшлі да вёскі Кандзееўка.

Не спыніліся, калі пачуліся першыя стрэлы і ўпалі першыя забітыя: “Усе да аднаго загінем, але не скарымся!”.

Загінула восем чалавек, каля трыццаці паранена. А ў вёсцы Безна царскія салдаты забілі і паранілі больш як трыста пяцьдзясят чалавек…

Пік сялянскіх выступленняў – закалотаў – прыходзіцца на вясну і пачатак лета 1861 года.

Ахоплена хваляваннямі трыццаць дзве губерні.

“Звон” адразу ж адгукаўся на падзеі, якія адбываліся на радзіме Герцэна і Агарова. І на парадку дня стаяла адзінае і галоўнае пытанне – сялянства.

З’яўленне ў Расіі лістовак і пракламацый Герцэн вітае і раіць неадкладна абзаводзіцца друкарнямі. Узнікае “Зямля і воля”. Герцэн патрабуе стварэння такога ўраду, які б сапраўды даў волю народу, даводзіць, што няма волі без зямлі, як няма зямлі без волі…

Вінцэсь Каратынскі стаў для Сыракомлі другім “я”. Ён паказаў сябе не толькі строгім і акуратным памочнікам у яго літаратурных клопатах, але і першым крытыкам-слухачом, зацікаўленым субяседнікам, нават дарадцам.

Уладыслаў здзіўляўся, як гэта ён раней жыў без яго. І добрым словам успамінаў уніяцкага святара Яна Давідовіча. Гутаркі сталага паэта і паэта-пачаткоўца зацягваліся далёка за поўнач.

А калі прыязджаў хто з літаратараў ці прыязных гасцей, то і да самага ранку.

Наведаўся да іх з Нясвіжа Люцыян Сымановіч, з якім Сыракомля некалі служыў разам у канцылярыі кіраўніцтва радзівілаўскімі маёнткамі.

Паўспамінаўшы былое, нагаварыўшыся ўдосталь, даўні сябра папрасіў:

– Дружа мой Людвік! Прачытай мне, будзь ласка, хоць адзін верш з тваіх выдатных твораў.

Такой просьбы Уладыслаў не чакаў, таму запытальна паглядзеў на свайго сакратара – што параіць.

– “Вясковага лірніка” прачытайце, спадар Уладыслаў.

– Добра, але хіба толькі ўрывачак…

*Мая ліра для спеваў, з чарадзейскага дрэва!*
*Мяне пояць слязою!*
*Праз цябе маю сілу, калі ж лягу ў магілу,*
*Будзеш славай маёю.*
*Эй, шырока па свеце твой адгук разнясецца,*
*Мае словы памножыць.*
*Яны з краю да краю пойдуць аж да Дунаю*
*Ці да Кіева, можа...*

Сыракомля замоўк, нахмурыўся:

– Вышэй за ўсё – умець падслухаць біццё сэрца народа, умець адкрыць іерогліфы легенд ключом уласнай шчаслівай інтуіцыі, умець узнавіць вобразы мінулага ў барвах і контурах...

– З “Хадыкі” што-небудзь, – падказвае сакратар.

– Добра…

*Вясной дыхнула, пацяплела ў пушчы,*
*З гор у даліны ручаі спяшаюць,*
*Шарон і лёд на полі шумна трушчаць –*
*Нібыта мора стала на імшары.*
*Мне толькі не палепшала, васпане,*
*Мардуе роспач, голад цела сушыць,*
*А радасць зрэдку, як з-за хмары гляне,*
*Суцішыць сэрца, утаймуе душу.*
*Прачнуся часам, а паблізу рочаць,*
*Вада плюскоча, зяблікі цвіркочуць.*
*Пасля раптоўна я свядомасць трачу,*
*Ад думак глухну, свету зноў не бачу…*

Паэт чытаў, а слухачы бачылі перад сабою песняра, які ходзіць ад вёскі да вёскі, ад хутара да хутара, круціць сваю ліру з дзівоснага і чароўнага дрэва, заклікае людзей да абуджэння, просіць прачнуцца, сціснуць у гневе кулакі…

Не ўсе аднолькава адносяцца да дзіўнага, у зрэб’і, лірніка – “адзін хваліць, другі – ганіць”, але ніхто не ведае, як плача і непакоіцца душа песняра і прарока. Суцешвае хіба адно – яго песня не памрэ разам з ім, яна, як чароўная птушка, вырваўшыся ў паднябессе, будзе лётаць над людзьмі, “з краю да краю, да самага Дунаю, да самага Кіева”. Верыць, што некалі прыйдуць людзі да яго на магілу, праспяваюць яго песні і прачытаюць радкі яго вершаў, скажуць скрушна: “Тут наш лірнік вясковы, памёр ён, граючы на ліры…”

Маўчыць, уражаны пачутым Люцыян, маўчыць і Вінцэсь, і ў соты раз думае пра сябе: “Ліра твая, пане Уладзіслаў, будзе гучэць стагоддзі… Якое шчасце, што я жыву побач з табой, назіраю, як з-пад твайго пяра выходзяць такія геніяльныя радкі…”

А аднойчы, доўга вагаючыся, Людвік сказаў свайму малодшаму сябру:

– Пераязджаем мы, дружа, мяняем, так бы мовіць, месца жыхарства.

– Куды ж гэта?

– У Вільню, у сталіцу. Нам з табою там трэба быць, – там друкарні, там спрэчкі, там сустрэчы і новыя знаёмствы… Ты згодзен, спадар сакратар?

Вінцэсь моўчкі кіўнуў галавой.

Паліна, пачуўшы такую вестку ад мужа, не здзівілася. Не абрадвалася і не засмуцілася. З Залучам развітвацца не было шкада, бо тут іх напаткалі няшчасці і гора...

– Вінцэсь, ты на нейкі час заставайся тут, уладкуй як след гаспадарчыя клопаты, а потым прыедзеш да нас.

Перад ад’ездам Сыракомля зазірнуў да Яхны – жонкі арандатара карчмы, млына і парома. У яе сям’я Кандратовічаў захоўвала свае зберажэнні. Накапленняў амаль не было.

– Вой, чаго так пану Людвіку ўзгарэлася ехаць у тую Вільню, – паціскала плячыма жанчына, дастаючы з камода скураны вялізны кашалёк, які служыў сейфам і прыватным банкам. – Усюды жыццё аднакае, працаваць усюды трэба і жыць трэба…

– Праўду кажаш, шаноўная Яхна, жыць трэба ўсюды. Дзякуй табе, што была для нас харошым памочнікам і сябрам.

– Ды які з мяне памочнік, – адмахвалася габрэйка, пачырванеўшы ад яго прыязных слоў. – Але мы добра з вамі ладзілі… Харошыя вы людзі, Людвік. Няхай вам Гасподзь даць шчасце на новым месцы.

Яхна разгарнула кашалёк, адлічыла Кандратовічу амаль семсот рублёў – увесь яго капітал Залуча, – уздыхнула:

– Не багата, але і гэта нейкія грошы…

Пакуль ён прыйшоў, Вінцэсь разам з Юльянам і Антосем Крэмкам з Беражна перанеслі ўсе рэчы на воз. Побач бегаў і быццам радаваўся ад’езду трохгадовы сын Уладзік. Убачыўшы бацьку, кінуўся насустрач.

– Тут мы, пане Людвік, сабралі табе на дарогу, – паклаў у воз вялізны мех Юльян, – ад душы ўсё, з падзякаю… І грошыкаў трохі раздабылі, на рынку прадалі што-кольвечы заможныя сяляне…

Сыракомля абняў селяніна-правідцу.

– А павязе вас Антось Крымка, які да вас хінецца ўсёй душою. Ён паможа вам і там, на новым месцы. А цяпер – з Богам. Наперадзе ў вас доўгая дарога.

Калі трохі ад'ехалі ад падворка, міжволі азірнуўся.

Пасярэдзіне дарогі стаяў Юльян Заброцкі – вадзіў рукой у паветры, накладаючы крыж на іх дарогу і падарожжа.

… У Вільню ўехалі глыбокай ноччу.

… Ідучы па ціхай вулцы Вільні, задумаўся, зайшоў сам не ведаючы куды. Яшчэ не прывык да гарадскіх вуліц, да крамаў, таму сумеўся, пачаў аглядвацца вакол.

Пачуўся цокат жаночых абцасаў. З завулка выйшла жанчына. Яшчэ здалёк прыязна пачала ўсміхацца яму. Міжволі нарадзілася ўсмешка і на яго твары. І ў той жа момант як промнік маланкі пранік некуды пад левы бок, апёк невядомай да гэтага гарачынёй, а ў скроні ўпіліся маленечкія іголачкі…

– Добры дзень, шаноўная пані! – схіліўся у паклоне, зняўшы з галавы капялюх. – Ці не скажаце, як прайсці мне на Нямецкую вуліцу?

– Вы прыезджы? – пацікавілася прыгажуня ў моднай сукенцы, у доўгай спадніцы, саламяны капялюшык прыкрываў выгнутае брыво, у вачах гарэзлівыя агеньчыкі.

– Не так даўно прыехаў на сталае жыхарства, і яшчэ не арыентуюся ў пакручастых вашых вуліцах… Адным словам, правініцыял.

Яна паправіла капялюшык, прыпадняла яго вышэй, і ён убачыў яе твар, яе вочы і лоб. Убачыў ямачкі на чырвоных шчоках, налітыя сокам вусны.

Не ведаў, што з ім тварылася ў гэты час і хто паслаў гэтую фею яму насустрач.

– Калі вы пойдзеце ў гэты бок, справа ў вас будзе касцёл святога Яна, то, узяўшы ад яго ўправа, і выйдзеце на Нямецкую вуліцу…

– Дзякую, шчыра дзякую, шаноўная спадарыня! Значыць, я проста прайшоў тую паваротку.

– Прайшлі, прайшлі… – усміхалася, абвалокваючы яго мройным туманам, незнаёмка, схіліла галаву, развітваючыся, пайшла далей па бруку, адбіваючы па ім абцасамі незямную мелодыю, і яна гучала як пачатак нейкага дзівоснага новага верша, які міжволі пачаў нараджацца ў яго галаве…

Адышоўшы колькі крокаў, не вытрымаў, павярнуўся, падумаў пра сябе: “Калі яна азірнецца, то я абавязкова яе сустрэну… Не можа быць, каб мы больш не ўбачыліся…”

Але жанчына йшла сваім маршрутам. Сыракомля не адрываў ад яе позірку, чакаў…

Яна дайшла да перакрыжоўкі. Спынілася. Перад тым, як перайсці дарогу ці павярнуць у завулак, нечага доўга вагалася, стоячы на месцы. А потым – о, дзіва! – павярнулася да яго.

Ён ускінуў руку, потым прыклаў да сэрца: яму наканавана яшчэ сустрэцца з ёю.

4

… Рэч Паспалітая пасля трох падзелаў у канцы васемнаццатага стагоддзя спыніла сваё існаванне. Землі, якія адышлі да Расіі, сталі ўласнасцю імперыі і мелі ўжо назву Царства Польскае. Калі ж скончылася вайна з Напалеонам, яно атрымала ад Аляксандра I і Канстытуцыю, якая ператварала Польшчу ў спадкаемную манархію, “назаўсёды злучаную з Расійскай імперыяй”.

Польскі “кароль” ёсць цар. Ён жа прызначае і сваіх намеснікаў у Царстве Польскім. Тая ж Канстытуцыя з цягам часу прывяла да непаразуменняў паміж палякамі і расійскім урадам. Польскі бок прапанаваў свае законы, але царская карона адхіліла іх. Тады палякі і зразумелі, што ў іх фактычна не існуе Канстытуцыі. І ўжо праз пяць гадоў пасля напалеонаўскага нашэсця ў Польшчы пачынаюць стварацца тайныя таварыствы. Некалькі таварыстваў – “нацыянальных” масонаў, таварыства патрыётаў…

Калі ж успыхнула паўстанне ў 1830 годзе, то неўзабаве яно было жорстка падаўлена расійскім царызмам. Пасля гэтага Расія пачала праводзіць жорсткую русіфікацыю Польшчы. Польскія фабрыканты ці проста багатыя людзі, радавітая шляхта знахо-дзяць прытулак у Расіі, перасяляюцца туды на пастаяннае жыхарства. А як быць польскаму селяніну? Ён, як і раней, знаходзіцца пад прыгнётам феадалаў – як сваіх, так і суседніх. Амаль восемдзясят адсоткаў сялянаў

адбываюць баршчыну, і толькі трэцяя частка ад усяго сялянства пераведзена на аброк.

Аграрнае пытанне ў Польшчы таксама крывавіць, як і ў Расіі.

Хваляванні і незадаволенасць сярод польскага насельніцтва апошнія дзесяцігоддзі праходзілі пад заклікам аднаўлення палітычнай самастойнасці, стварэння сваёй нацыянальнай дзяржавы.

Польская арыстакратыя пасля разгрому паўстання падалася ў эміграцыю – у асноўным у Францыю. Там і ўтварылася партыя “белых”. Яна ў асноўным групавалася вакол сіяцельнага князя Адама Чартарыйскага. Марыла пра Польшчу не толькі “ад мора і да мора”, але і гатовая была змагацца за самастойнасць. Але змагацца не сваімі сіламі, а абапіраючыся на Англію. Ад мора і да мора – азначала, што ў склад будучай Польшчы павінны быць вернутыя і тыя землі, якія анексавала сабе Расія.

Як да гэтага аднеслася імперыя? Яна насцярожылася. Насцярожылася не толькі ўлада, а нават і сапраўдныя расійскія патрыёты. Чаму? Бо польскія эмігранты ў той жа Францыі стварылі і другую партыю – “Дэмакратычнае грамадства”, на чале якой стала “Цэнтралізацыя”. А яе сябрам быў і будучы кіраўнік паўстання – прафесар ваеннай гісторыі ў французскай по-літэхнічнай школе Людвіг Міраслаўскі. Ён з’яўляўся не толькі ваенным тэарэтыкам, а і практыкам паўстанцкага руху ў Польшчы 1830-1831, а потым і 1848 гадоў. Асоба не ардынарная, мэтанакіраваная, творчая, з вялікай любоўю як да Айчыны сваёй, так і да вызвольнага руху.

Аляксандр II, ведаючы незадаволенасць палякаў у сувязі з сялянскай рэформай, вырашыў пайсці на нейкія саступкі. Па-першае, вярнуліся на радзіму ссыльныя эмігранты. Па-другое – у Варшаве адкрылася медыка-хірургічная акадэмія. Яшчэ – было дазволена заснаванне Земляробчага таварыства, якое пазней стала палітычным цэнтрам і клубам буйнапамеснай шляхты.

Вось менавіта гэтую шляхту і задавальнялі аграрныя пераўтварэнні, але ніяк яны не маглі пайсці на паўстанне, да якога імкнуліся дэмакратычныя колы. Бо менавіта яны, дэмакраты, і стварылі “Партыю руху”, якая займалася актыўна прапагандай, наладжвала маніфестацыі, выпускала пракламацыі да народа.

Бачачы гэта, ураду прыйшлося ліквідаваць “Земляробчае таварыства”.

Жыхары Варшавы восьмага красавіка, абураныя такім рашэннем, выйшлі на вуліцы.

Без усякага папярэджання, без перамоў, войскі адкрылі па дэманстрантах агонь.

Герцэн не аддзяляў Польшчу ад Расіі ў справе вызвалення ад царскага прыгону.

Першага красавіка 1863 года пісаў у сваім выданні:

“*Мы з Польшчай, таму што мы за Расію. Мы з боку палякаў, бо мы расіяне. Мы жадаем незалежнасці Польшчы, таму што мы жадаем волі Расіі. Мы з палякамі, бо адзін ланцуг абвівае нас абодвух”.*

І таму ён бачыў вызваленую Польшчу не шляхетна-арыстакратычнай, а дэмакратычнай.

У Польшчы ўзнікла тайная, рэвалюцыйная арганізацыя “Камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы”. Гэта быў ужо 1861 год. На чале рэвалюцыйнай арганізацыі стаў паручнік Ан-дрэй Пацябня. Нездарма гэтую арганізацыю называлі “пацябнёўскай” – аўтарытэт кіраўніка быў непахісны.

Напачатку “Камітэт” вёў толькі рэвалюцыйную прапаганду сярод расійскіх войскаў, раскватараваных у Польшчы, а пазней зліўся з “Зямлёй і воляй”.

Нейкі час Герцэн і Агароў мелі перапіску з Пацябнёй, у якой удзельнічаў і Вікенцій Канстанцін Каліноўскі.

Маючы вопыт арышту жандармамі перапіскі раней, лісты цяпер перасылаліся толькі праверанымі і надзейнымі людзьмі.

Андрэй Пацябня чатыры разы наведваў ідэйных кіраўнікоў у Лондане. Праз яго, Андрэя, такім чынам і здзяйсняўся кантакт з «Зямлёй і воляй».

Будучых кіраўнікоў паўстанцаў, не без удзелу Канстанціна Каліноўскага, хвалявала галоўнае пытанне – што ён, Пацябня, і астатнія кіраўнікі павінны рабіць, калі распачнецца паўстанне ў Польшчы.

Пры сустрэчы з Герцэнам і Агаровым кіраўнік «Камітэта» і задаў такое пытанне.

Яно прымусіла сяброў-дэмакратаў задумацца.

Не страляць у палякаў? Гэта было зразумела, пра гэта пісалі ў “Колоколе”. Але як спалучыцца з усімі партыямі і рухамі, хто возьме на сябе кіраўніцтва агульным паўстаннем, якое неўзабаве павінна разгарэцца?

Такія пытанні, былі, зразумела, яшчэ толькі ў паветры. Яны не абмяркоўваліся, бо яшчэ не выспелі.

Паўгода прыйшлося думаць, узважваць, раіцца і падвяргаць сумненню свае высновы. Калі ж нешта праяснілася, і быў дадзены адказ.

Даводзілася і сцвярджалася: пры ўзнікненні паўстання ў Польшчы неабходна ўсімі сіламі падтрымаць паўстанцаў. Па-другое, яно ж і галоўнае, – садзейнічаць актыўна распаўсюджванню паўстання на Літву, Беларусь, Расію.

Неабходна ўсе цячэнні рэвалюцыі зліць у адну магутную раку, каб ахапіць усе губерні і мястэчкі. Паўстанне, якое ўспыхне ў Расіі, павінна быць падтрымана ўсімі сродкамі і магчымасцямі.

Адносіны паміж польскімі і расійскімі рэвалюцыянерамі перараслі ў вырашальную фазу – "польская навальніца" набліжалася імкліва і няспынна. Пачаліся перамовы, мэтай іх было стварэнне адзінага цэнтра і саюза для сумеснай барацьбы супраць царызму…

Герцэн і Агароў, так бы мовіць, ушчыльную заняліся пытаннямі будучага паўстання, лічылі,. што яны не могуць заставацца ўбаку ад гэтай справы.

Аднойчы ім прыйшоў з Сан-Францыска ліст. І пачынаўся ён радкамі: "Сябры, мне ўдалося ўцячы з Сібіры!.." Ліст пісаў Бакунін. Той Бакунін, якога арыштавалі на радзіме царскія жандары. Ён пісаў далей, што пасля доўгага блукання па Амуры, а потым па берагах Татарскага праліва і праз Японію, ён дабраўся да амерыканскага горада. Бакунін ірваўся ў Лондан, да Герцэна і Агарова. Хацеў, каб яго далучылі да агульнай справы. Меў нават і сваю праграму: "Буду ў вас служыць па польска-славянскім пытанні… Я буду служыць высакароднай мэце – слаўнай, вольнай славянскай федэрацыі, што з'яўляецца адзіным зыходам для Расіі, Украіны, Польшчы і ўвогуле для славянскіх народаў…"

Калі б Герцэн і Агароў ведалі пра яго пакаянную "Споведзь", якую ён напісаў у Петрапаўлаўскай цытадэлі, і лісце да Аляксандра І, то яны аднесліся б да яго інакш, але яны былі радыя яго прыезду. Ва ўсялякім выпадку, замест цытадэлі Бакунін апынуўся ў Іркуцку, дзе яго прыгрэў родны дзядзька Мураўеў – генерал-губернатар Усходняй Сібіры. Там ён жаніўся, набыў шыкоўны дом, падманным шляхам зрабіў сабе нешта накшталт камандзіроўкі, змог збегчы ў Японію. А потым перабраўся ў Амерыку…

Бакунін і Герцэн з даўняй пары лічыліся сябрамі. І калі з Расіі прыслаў доктар Белагаловы папярэджанне пра асобу Бакуніна,

даказваў, што ён быў у цесных стасунках з Мураўёвым і прасіў надрукаваць у “Звоне” матэрыялы пра яго, Герцэн, не прыняўшы да ўвагі словы доктара, адказаў: “Праўда мне маці, але ж і Бакунін мне Бакунін”.

Каб паказацца дзейсным і актыўным, Бакунін шчыра ўзяўся за польскую справу. Ён, як і заўсёды, прымаў жаданае за сапраўднае, стараўся фарсіраваць падзеі ў размовах з польскімі прадстаўнікамі рэвалюцыйнага руху. У ім не адразу разледзелі авантурыста, дробнабуржуазнага анархіста.

Калі з аднаго боку – у Польшчы – выспявала паўстанне, набірала моц і ўстойлівасць, то ў Расіі назіраўся спад рэвалюцыйнай хвалі. Ці можна было ў такіх варунках чакаць сялянскіх выступленняў у Расіі ў падтрымку палякаў? Герцэн і Агароў аднолькава лічылі, што паўстанне неабходна рыхтаваць, і рыхтаваць грунтоўна. А для гэтага неабходны час. Акрамя ўсяго, ступень удзелу ў паўстанні расійскіх рэвалюцыянераў яны ставілі ў залежнасць ад таго, як у гэтай сітуацыі будуць паводзіць сябе палякі адносна галоўнага земскага пытання і правінцый.

Бакунін, выслухоўваючы іх меркаванні і прапановы, не згаджаўся:

– Пара, пара падымаць сцяг на вялікую справу. Галоўнае – пачаць…

– А што не галоўнае? – прыхаваў у сваіх словах сарказм Аляксандр Іванавіч. – Скажы, калі ласка.

– Пачаць, а там усе будуць, чым захочуць быць…

– Вы не гінеколаг, адразу бачна, – зноў падспудна кальнуў Герцэн субяседніка.

– Пры чым тут гінеколаг? – не зразумеў Бакунін і пільна паглядзеў на апанента – жартуе ці здзекуецца з яго. – Не разумею вас, Аляксандр Іванавіч.

– Вы прымаеце другі месяц цяжарнасці за дзявяты. Такога не можа быць у прыродзе. У вас, дарагі мой дружа, чарговы прыступ рэвалюцыйнага свербу.

Бакунін не пакрыўдзіўся, толькі паціснуў плячыма. А што было ў яго на душы, ніхто не ведаў. У другой палове верасня прыйшоў Бакунін да Герцэна і адразу паведаміў:

– Аляксандр Іванавіч, да вас госці.

– Якія госці, я нікога не чакаю, – незадаволена адказаў гаспадар.

– Варшаўскі Цэнтральны камітэт прыслаў двух сваіх сяброў для перамоваў. Просяць прыняць.

– А хто яны?

– Ты аднаго з іх ведаеш. Гэта – Падлеўскі. А другі – Гілер.

– Чуў пра яго, але не сустракаўся.

– Дык вось. Калі ты даеш згоду на сустрэчу, то яны вечарам прыдуць да вас. А заўтра збярэмся ўжо ў мяне – трэба ж неяк канчаткова вызначыць нашы ўзаемаадносіны.

– Згодзен – трэба, – пагадзіўся Герцэн.

Вечарам Бакунін прыйшоў не з двума, а з трыма палякамі. Трэці назваўся Міловічам.

Перакінуліся некалькімі словамі, а потым Аляксандр Іванавіч звярнуўся да іх:

– З чым прыйшлі да мяне? Чым я магу быць карысным?

– Мы прыехалі да вас з лістом Цэнтральнага нацыянальнага камітэта выдаўцам, – прамовіў Міловіч. – Дазвольце зачытаць, Аляксандр Іванавіч.

– Слухаю.

Міловіч чытаў спакойна, зрэдку адрываючыся ад паперы, каб зірнуць на гаспадара кватэры.

“Паводзіць сябе як канспіратар рэвалюцыі, якая не распачыналася...” – падумаў пра сябе Аляксандр Іванавіч. Ліст не вельмі доўгі, але і кароткім таксама не назавеш.

Скончыўшы чытаць, Міловіч паглядзеў на Герцэна, спытаў:

– Што вы скажаце, Аляксандр Іванавіч? Якая вашая думка наконт гэтага ліста?

Выдавец “Звона” адказаў не адразу.

– Вы хочаце пачуць маю думку? Я зразумеў адно – праз нас вы хочаце сказаць рускім, што польскі ўрад, які склаўся, згодзен з намі і кладзе ў аснову сваіх дзеянняў *прызнанне (права) сялян на зямлю, якую яны апрацоўваюць*. Гэта адно. Другое – *поўную самапраўнасць рознага народа распараджацца сваім лёсам.* Правільна я зразумеў сэнс дакумента?

– Абсалютна правільна! – пацвердзіў госць, радуючыся, што па гэтым пытанні не было рознагалоссяў.

– А вось другая палова напісанага...

– У чым хібы другой паловы? – насцярожыўся Міловіч.

– Ведаеце, шаноўны спадар Міловіч, усё добра, але адна “дэталька” выклікае ў мяне сумнеў.

– Якая, Аляксандр Іванавіч?

– Тое, што дэкларуеце своечасовасць паўстання. Вось і Бакунін настойвае на тым, што заўтра раніцай неабходна рушыць у бой. З кім? З чым? З якой зброяй? З якімі ідэямі і хто іх з простага народа чуў? Я, напрыклад, не лічу, што "Зямля і воля" здольная ў дадзены момант падняць сялянства на паўстанне. Тым больш, што гэтаму ніяк не садзейнічала і агульнапалітычная сітуацыя ў Расіі.

– Там жа моцныя арганізацыі, – паспрабаваў пярэчыць прадстаўнік Варшаўскага ЦК.

– Моцныя? Тое, што ў Расіі створаны першыя ячэйкі арганізацыі, у тым няма ніякага сумнення, але гэта толькі валокны, нітачкі, якія заўважны простаму воку... З гэтых нітак ці ніцей, вузлоў магла ўтварыцца падчас цішыні і часу шырокая тканіна – усё гэта так, сапраўды так, але яе не было, і таму кожны моцны першы ўдар пагражаў знішчыць працу на цэлае пакаленне і разарваць першапачатковыя карункі таго павучыння...Такія адказныя і сур'ёзныя справы не вырашаюцца за адну ноч ці дзень.

– Так і перадаць вашую думку Цэнтральнаму камітэту?

– Так і перадайце. У мяне ўсё.

... Напярэдадні паўстання, яшчэ ў 1862 годзе, Агароў звярнуўся да камітэта рускіх афіцэраў у Польшчы. Ён растлумачваў свой погляд на будучыя падзеі і вызначаў пазіцыю, якую, па яго меркаваннях, павінны заняць афіцэры рускай арміі.

Ён пісаў: "Мы разумеем, што вам нельга не далучыцца да польскага паўстання, якім бы яно ні было; сваім учынкам вы выкупіце грэх расійскага імператара; ды звыш таго, пакінуць Польшчу на пабіенне без усялякага пратэсту з боку расійскага войска таксама мела б свой шкодны бок маўкліва-пакорнага, амаральнага ўдзелу Русі ў пецярбургскім катаванні..."

І Герцэн услед за сваім сябрам паўтараў сваю думку польскім патрыётам аб несвоечасовасці паўстання. Падлеўскі стараўся нават пераканаць яго, абапіраючыся на сваё веданне Пецярбурга, але Герцэн і ў перамовах, а затым і праз "Колокол" (№ 147 надрукаваў лісты выдаўцоў Цэнтральнаму польскаму камітэту і рускім афіцэрам у Польшчы) цвёрда і рашуча заявіў : "На Русі, у цяперашні момант, наўрад ці можа ўспыхнуць паўстанне!"

Даводзіў, што рускія афіцэры павінны зрабіць усё, каб Польшча не выступіла да таго, як да падобнага выступлення будзе гатовая Расія:

“У нас нічога не гатова. Моцнае кола афіцэраў існуе, як нам вядома, толькі ў вас…”

Вельмі хацеў Аляксандр Герцэн, каб кіраўніцтва ЦПК прыслухалася да яго парад.

І Мікалай Агароў, як і яго паплечнік, рашуча выказваўся пра тыя згубныя вынікі заўчаснага паўстання:

«Польшча, відавочна, загіне, а расійская справа ўтопіцца ў пачуццях народнай нянавісці, якая ідзе ў сувязі з адданасцю цару, і адродзіцца толькі пасля, доўгага пасля, калі ваш подзвіг пяройдзе ў такое ж паданне, як 14 снежня, і ўсхвалюе розумы пакаленняў, цяпер яшчэ не распачатага…»

Не прыслухаліся, не пачулі ці не хацелі пачуць.

Няўзброеныя, не навучыўшыся тактыцы бою, не разварушыўшы нацыянальны гонар за сваю радзіму, спадзеючыся толькі на “авось”, рушылі на царскія штыкі, кулі, гарматы з расхрыстанымі грудзінамі…

… Памешчык Антоній Залескі быў суседам Ежы Ігнацыя Кучэўскага-Порая. Заможным памешчыкам лічыўся, сам сабе на ўме. Што паставай, што розумам выдзяляўся сярод усіх, – адметнай вылучаўся асобай.

Да яго вунь і з Вільні і з самога Пецярбурга прыязджаюць знакамітыя людзі, вядуць разумныя размовы, малюнкі яго разглядваюць. А то і просяць намаляваць нешта, грошы вялікія за тое абяцаюць…

Як маладым быў, доўгі час швэндаўся па Еўропе. Нідзе доўга не затрымліваўся – ні ў Францыі, ні ў Нямеччыне, ні ў Іспаніі. А вось калі дабраўся да Рыма, то ніяк не мог пакінуць гэты казачны і славуты горад. Ды не на пагулянкі ездзіў малады памешчык у тыя краіны, не спальваў сябе ў бяздзейнасці, а выкарыстоўваў, як мог, кожны дзень…

Ён меў душу мастака, а мастак і на свет глядзеў па-свойму, з душой паэта і мецэната.

Калі ж наведаў аднойчы плошчу святога Сабесцьяна, убачыў, як працавалі мастакі, а заадно расстаўлялі побач з сабою гатовыя малюнкі, зразумеў, што ён ператвараецца зусім у іншага чалавека. Ён рашыў занатаваць для сябе відовішчы горада, яго людзей з дзіўнымі касцюмамі, атмасферу таго часу, незвычайную мелодыю жыцця Рыма. Антоній прыладкаваўся збоку ад мастакоў, каб не замінаць ім, каб яны і не бачылі, што ён малюе…

Праз колькі дзён да яго нечакана падышоў чалавек і спыніўся побач. Моўчкі паглядаў на тое, што ён стварыў, перавёў позірк на маладога і невядомага мастака.

– З якіх краёў прыехалі да нас? – папытаўся незнаёмец, павярнуўшыся да Антонія.

– Ліцвін я, прыехаў з Літвы. Адтуль, дзе Польшча, Беларусь і Літва сплятаюцца ў адзін клубок.

– О, дык мы землякі! – усклікнуў радасна субяседнік. – Якая сустрэча! А я прыглядаюся, бачу, што не з гэтага цеста ты зleплены.

Залескі з нейкім недаверам паглядаў на незнаёмца, не ведаў, радавацца ці аднесціся абыякава да яго слоў. Чакаў, што той скажа яшчэ.

– Я – Міхал Эльвіра Андрыёлі. Нарадзіўся ў Вільні. Называю сябе жывапісцам, рысавальшчыкам і ілюстратарам. Мне адразу кінуліся ў вочы твае ілюстрацыі – праходзіў паўз цябе колькі разоў, а потым не вытрымаў, рашыў падысці. А бацькі мае скульптары. Я скончыў Маскоўскае вучылішча жывапісу, ваяння і дойлідцтва. А тут, у Рыме, вучуся ў акадэміі святога Лукі.

Толькі тады ўжо Залескі радасна паглядзеў на Міхала, назваўся:

– Антоній. Антоній Залескі.

– Я пасля падарожжа па ліцвінскіх мясцінах шмат напісаў карцін. Магу паказаць табе, калі завітаеш да мяне ў мае пенаты, – прапанаваў мастак.

– З радасцю азнаёмлюся з імі…

Тое першае наведванне, калі Залескі завітаў да Міхала і зірнуў на пейзажы, і тое першае ўражанне ад убачанага, застануцца ў памяці на ўсё жыццё. У карціне “Возера Літвы” Антоні адчуў нешта вельмі роднае і блізкае яму: “Дык гэта ж мае мясціны, маё возера і сажалка, дзе я праводзіў свае ціхія гадзіны, забыўшыся на свае гаспадарскія клопаты!..”

Ён доўга не мог адарваць позірку і ад іншых карцін. Андрыёлі маляваў і паляшуцкія хаткі, партрэты жанчын і дзяўчат, касцоў, што клалі пракосы сярод высокай травы, бортні на дубах і соснах…

Не вытрымаў, абняў мастака, дрыготкім голасам прашаптаў:

– Дзякую, Міхал! Ты паклікаў мяне ў сваю майстэрню, а я аказаўся на сваёй мілай радзіме – Літве і Беларусі. Дзякуй!

І цякла размова, светлай крынічкай прабівалася ўзаемаразуменне, нараджалася сяброўскае пачуццё між імі.

– Пакажы мне яшчэ, што ты напісаў, Антоній.

Ён паціснуў плячыма, не адважваючыся выставіць рымляніну напаказ свае пачаткоўскія працы.

– Не бойся, ганіць твае спробы не буду, але мне кінулася ў вочы, што ты ідзеш сваёй, вельмі адметнай, дарогай. Пакажы, Антоній.

Залескі моўчкі паклаў перад ім вялізную тэчкку. Разгарнуў. А сам пайшоў на балкон, каб не бачыць рэакцыю таленавітага майстра на яго няўклюдныя яшчэ гравюры. То ж толькі пачатак, спробы…

На вуліцы чулася гамана людзей. Нехта іграў на гітары, спяваў. Праехала няспешна карэта з зашторанымі акенцамі. Недзе там, удалечы, Венецыя. Недзе там гандолы перавозяць з месца на месца закаханых… Рым жыў, Рым гаварыў, Рым услаўляў сябе мастакамі і кампазітарамі, прыродай і дойлідцтвам…

На плячо легла рука Андрыёлі.

– Я не памыліўся ў табе, Антоній. Твае працы застануцца ў гісторыі. Яны маюць душу. Яны кранаюць. Дзякую.

– Ты гаворыш праўду, Міхале? – не верыў яго словам Антоній. – Сапраўды ў іх нешта ёсць?

– Ні “нешта”, а вельмі шмат… Я хацеў бы, каб з тваімі малюнкамі пазнаёміліся і мае сябры. Калі ты не супраць, то праз два тыдні, у самы першы дзень новага месяца, ты прыдзеш да мяне. Мы штомесяц збіраемся ў мяне. Я пазнаёмлю цябе са сваімі сябрамі, а яны пакажуць табе свае карціны.

– Гэта было б здорава, Міхал!

Позна ноччу Антоній вяртаўся на сваю вуліцу, да дома, дзе ён наймаў у вясёлай гаспадыні пакойчык. А потым доўга не мог заснуць – узбудзіла і абрадавала яго сустрэча з Міхалам Андрыёлі, а яшчэ больш акрыліла прызнанне якасці яго прац…

І як добра, што ён пачуў тыя словы ў той мясціне, дзе тварылі Леанарда да Вінчы, Буанароці… Цяпер у яго не было ніякіх сумненняў – мастацтва стане галоўнай мэтай яго жыцця.

………………………………………………………

Некалькі гадоў праляцелі незаўважна, але яны былі насычаныя і творчыя.

Антоній з дазволу рэктара наведваў зрэдку заняткі ў акадэміі мастацтва, дзе вучыўся Міхал Андрыёлі. Шмат карыснага пачарпнуў для сябе, па-іншаму пачаў глядзець на сваё мастацтва. У яго адкрыўся “другі зрок”, другое адчуванне творчага жыцця.

Развітваючыся з сябрам, пацікавіўся:

– Скончыш вучобу, Міхал, а далей куды?

– Не ведаю, – пацiснуў плячыма Андрыёлі. – У Вільню паеду, мусіць. Буду шукаць там сабе дзе-небудзь месца.

– А пакуль будзеш шукаць тое месца, да мяне прыязджай, у мае родныя Касцюшышкі, – нечакана для самога сябе прапанаваў памешчык Залескі. – Маёнтак не абяцаю, але створу ўсе неабходныя ўмовы табе для малявання… І мне будзе весялей, калі ты побач будзеш. Дык як, Міхал?

– Не ведаю, Антоній, час пакажа.

– Тады думай, рашай. Але мы будзем слаць адзін аднаму лісты, і ты паведаміш мне, якое ты прымеш канчатковае рашэнне.

Абняліся, сціснулі адзін аднаго ў абдымках, сказалі на развітанне тыя словы, якія і павінны нарадзіцца ў той момант.

У жыцці Антонія Залескага пачынаўся новы перыяд. Перыяд узнёсласці, творчасці і апантанасці.

………………………………………………

Да пана Залескага павінны былі з'ехацца госці.

Ён і не ведаў дакладна, колькі чалавек і хто збіраўся прыехаць. Наведвалі яго пастаянныя людзі, сябры і знаёмыя, а то і зусім невядомыя, ведаючы, што ў Антонія Залескага яны адпачнуць душой і целам.

Для многіх яго маёнтак стаў меккай і прытулкам людзей творчых, дапытлівых і неабыякавых да навакольнага жыцця, да тых з'яваў і падзей, што адбываліся ў занёманскім краі, далёка за Прыпяццю і Дняпром…

Пасля таго, як яго пасцігла няшчасце – памерла нечакана жонка, не маючы, здавалася б, ніякай хваробы, – пану Залескаму стала няўтульна пражываць аднаму ў маёнтку. І ён адчуў патрэбу ў людзях.

А так усё добра пачыналася. Пасля таго, як прыехаў з Рыма, узяўся за стварэнне ілюстрацый да шостага выдання мемуараў польскага палітычнага дзеяча сямнаццацатага стагоддзя Яна Хрызастома Пасекі. Выданне рыхтавалі ў Вільні.

Выдавец, дачуўшыся, што пан Залескі робіць выдатныя гравюры, вучыўся гэтаму ў акадэміі Рыма як вольны слухач, пабачыўшы яго працы, адразу заказаў яму ілюстраванне мемуараў.

І потым, у хуткім часе, а дакладней, у 1854 годзе, тое выданне ўбачыла свет.

Як радаваўся тады Антоній! Паступілі новыя заказы, і не толькі ад віленскіх выдаўцоў, але і з Пецярбурга, Масквы. Марыў ілюстраваць творы Адама Міцкевіча.

Падрастаў сын Міхал, бралася ў рост дачушка Міхаліна.

У іх знаходзіў шчасце і душэўную ўцеху.

Перад тым, як прапанаваць сваю руку і сэрца пані Алене, у яго было вялікае жаданне пабудаваць прыгожы палац, ну не палац, а хаця б сядзібу з паркавай архітэктурай. І ён даручыў гэтую працу вядомым архітэктарам.

Праз некалькі гадоў у той сядзібе пасяліўся пан Залескі з маладой жонкай Аленай.

– Божачка, як прыгожа! – успляснула радасна пані Алена, калі яны выйшлі з карэты, калі яна акінула позіркам сядзібу. – Які цуд!

Закаханымі вачыма глядзеў на сваю жонку Антоній Залескі.

– Я шчаслівы, мая радасць, што табе спадабалася! Давай агледзім усё разам?

– Не церпіцца мне тое зрабіць! – ружовіліся шчокі ў пані Алены. – І гэта ўсё па тваёй задуме, па тваім праекце?

– Трохі па маім, а збольшага архітэктары раілі мне зрабіць. Так бы мовіць, сумесны праект.

Яны хадзілі па роўных дарожках, абапал якіх буйна цвілі кветкі, хадзілі каля сажалкі, у якой плавалі качкі і лебедзі, зайшлі ў альтанку, афарбаваную ў блакітны колер… Алена прытулілася да яго, чакала, калі пацалуе яе. Ён абняў жонку, дакрануўся да гарачых вуснаў.

Потым наведалі бровар і пейзажнага тыпу парк, перанітаваны сістэмай вадаёмаў. Яна прыкмячала кожную дробязь, давала сваю, жаночую, ацэнку. Пані Алена была збольшага знаёмая з архітэктурай, таму магла даваць амаль прафесійную ацэнку збудаванню.

Сядзібны дом пабудаваны ў адзін паверх, прамавугольнікам, прасторны, у якім было шмат пакояў і пакойчыкаў. Асобна для пана Залескага была прыбудавана веранда са шкляным дахам – майстэрня мастака. Яна была ў два паверхі. Увесь будынак быў пакрыты вальмавым дахам. Да яго, па падоўжанай восі, прылягалі сіметрычныя ніжэйшыя бакавыя крылы, аздобленыя каланадай. А ўся цэнтральная частка – з круглай залай – вылучана порцікам ў чатыры калоны, а завяршалася атыкам.

– А гэта што, Антоній? – паказала пані Алена на будыніну, што стаяла асобна ад сядзібы.

– Гэта? Капліца-пахавальня. Мы, жывучы ў шчасці, павінны думаць і аб смерці. Калі адыдзем у іншы свет, то тут нашае другое месца… Сумна, але што паробіш.

– Сумна, Антоне.

Жонка спахмурнела, перавяла позірк на іншае. А потым не вытрымала, зноў паглядзела на каплічку. Готыка. Як яе яшчэ завуць – несапраўдная. Квадратнае збудаванне пакрыта дахам крыжовай формы, аздобленае пінаклямі, контрфорсамі, скульптурай, арнаментальнай лепкай. Праёмы стральчатыя. У інтэр'еры – зорчатае скляпенне з тымі ж несапраўднымі ляпнымі нервюрамі.

– Усё ў руках Езуса, – прамовіла, глыбока ўздыхнуўшы, пані Алена.

– Сапраўды так, – пацвердзіў пан Залескі і пайшоў следам за жонкай.

5

Не адразу, спакваля, міжволі ў душы Ежы Ігнацiя Кучэўскага-Порая выспявала перакананасць і ўпэўненасць, што яму наканавана далучыцца да той вялікай працы, якая распачыналася ў краі. Лічыў, што нягожа быць простым сузіральнікам…

Падзяліўся сваёй думкай з братам. Той аднёсся да яго слоў спакойна, але, пільна гледзячы ў вочы Ежы, прамовіў:

– І я хачу ўступіць у тайную арганізацыю. Што для гэтага трэба?

– Пакуль што толькі твая згода. Падрабязнасці – пазней.

Ежы разумеў: трэба знайсці і падключыцца да нейкай канкрэтнай справы, а для гэтага пазнаёміцца з людзьмі, сваімі аддаленымі суседзямі, наладзіць з імі стасункі, высветліць іх перакананні, погляды, а потым ужо ім можна давяраць, весці ў наваколлі агітацыйна-тлумачальную працу…

Найбліжэйшы сусед Ежы – памешчык Антоній Залескі. Заможны памешчык, моцна трымаецца на зямлі, але не скнарнага характару, не злы, памяркоўны, да сваіх сялянаў адносіцца добразычліва. Пра гэта Ежы сам чуў ад людзей. Антоній мог з'ехаць на няпэўны час.

Сяброўства цеснага Ежы не меў, аб чым шкадаваў, пазнаёміўся з ім колькі гадоў таму на штогадовым кірмашы, – проста паціснулі адзін аднаму рукі, сказалі па некалькі слоў.

А вось цяпер трэба было ехаць да яго без папярэдняй дамоўленасці і без запрашэння, хаця, як помніцца, тады пан Залескі гаварыў: “Будзеце праязджаць паўз мае межы, зазірніце, буду рад…” Не так даўно ў яго памерла жонка.

Калі Ежы пад’ехаў на брычцы да металічных рашотчатых варотаў, яны былі расчыненыя, – і гэта магло азначаць, што да пана Залескага мог завітаць любы чалавек, можа, нават і без запрашэння.

Каля галоўнага ўваходу – пазнаў адразу – гуляў Міхась з сястрычкай. Дзяўчынка весела смяялася, уцякаючы ад брата, паказвала яму растапыраныя пальцы.

Спыніўся каля іх, калі павітаўся, спытаў найперш:

– А ці дома, мае дарагія, пан Антоній Залескі?

– Татачка дома, і ў яго шмат людзей, – патлумачыла Мальвінка, папраўляючы на галаве бялявыя коскі, – а вы хто будзеце?

– А я ваш сусед – і завуць мяне Ежы. Вам мае падарункі. Лялька для Мальвінкі, а кніга “Шляхціц Завальня” – для малога пана Міхала.

Дзяўчынка абрадвалася, адразу прыціснула ляльку да грудзей. Міхась жа толькі паглядзеў на вокладку, ледзь заўважным кіўком галавы падзякаваў.

На ганак выйшаў, мусіць, убачыўшы праз акно, што да яго завіталі госці, пан Залескі.

– О, пан Ежы! – усклікнуў, пазнаўшы свайго суседа, прыветна гаспадар. – Як добра, што вы прыехалі! Мы збіраем мужчынскі гурт, хочам праехацца па прасторах Вялікага Княства. Запрашаю і вас далучыцца!

– Дзякую, пан Антоній, за запрашэнне! З радасцю прыму яго.

– Добра, што вы праведалі мяне, вельмі добра. А цяпер праходзьце, пазнаёмлю вас са сваімі гасцямі і жыхарамі, што жывуць у мяне.

За прасторным сталом, сярод вялікай залы, сядзеў добры гурт людзей.

– Будзьце знаёмы, сябры мае, перад вамі – Ежы Ігнацій Кучэўскі-Порай! – паклаў Залескі руку на плячо Ежы. – Мой найбліжэйшы сусед… Жывем непадалёку, а сустракаемся рэдка. Вось сёння амаль першы візіт да мяне.

Прысутныя схілілі на знак ветлівасці галовы.

– А цяпер я вам прадстаўлю нашую кампанію – з усіх канцоў Літвы. Ежы Ляскарыс – выдатны паэт, любіць і апявае наш край.

Ён пражывае пастаянна ў маім маёнтку Касцюшышкі. Побач з ім – мастак Міхал Эльвіра Андрыёні… Таксама ў мяне жыве, разам з ім ствараем нашы бессмяротныя творы… Спявак Банольдзі – будзем слухаць ягоныя спевы. Уладыслаў Дмахоўскі – марыць быць рэвалюцыянерам, каб скінуць ненавісны царскі прыгнёт над краем Літвы і Беларусі… Але ён яшчэ жывапісец-жанрыст і графік. Ён сын  Вікенція Дмахоўскага – пейзажыста і тэатральнага дэкаратара, яшчэ – выдатнага ілюстратара. Якія выдатныя малюнкі зрабіў Вікенцій да "Пана Тадэвуша"! Цуд! Таксама да мяне наведваецца.

Антоній абходзіў вакол стала і называў кожнага, хто сядзеў  за ім.

– Генрык Дмахоўскі – псеўданім у яго Генры Д.Сандэрс… Барада ў яго магутная, капялюх, як у мексіканца. Удзельнік паўстання 1830-31 гадоў.  Скульптар. Жыў у Францыі, ды не так даўно вярнуўся на радзіму. У Амерыцы, як жыў там, стварыў бюст Тадэвуша Касцюшкі і Тэда Джэферсана для Кангрэса ў Вашынгтоне. Ён стваральнік медаля  "Апафеоз Касцюшкі" і бюста  нашага праслаўленага вясковага лірніка – Уладыслава Сыракомлі. Хутка пад'едуць і яшчэ госці… А цяпер прашу садзіцца….

Ежы адразу адчуў сябе сваім сярод гасцей і сяброў Залескага. З першых слоў завязалася размова з роспытамі і аповедамі, з жартамі і гумарам. Гаспадар распарадзіўся адвесці брычку на двор, каля канюшні, пакарміць каня.

– А мы тут, пане Ежы, стратэгіяй займаемся, – падвёў Ежы да другога стала Міхал Андрыёні. Мы ўсе сталі генераламі і будзем праводзіць тактычныя вучэнні па перасячэнні мясцовасці. Жартую, васпане!..

Міхал разгарнуў перад ім мапу. На ёй былі стрэлкі, нейкія крыжыкі.

– Раніцай мы збіраемся адправіцца на экскурсію на Бірштанскія мінеральныя воды. Верхам на конях. Вы ўмеце скакаць на конях? – паглядзеў мастак на Ежы.

– Умею, як жа без гэтага.

– Гэтая мясціна знаходзіцца на беразе Нёмана. Ад нас да яе больш як дзесяць міль… Жадаеце далучыцца да нас, пан Ежы?

– З радасцю!

Ад кубка вішнёвай наліўкі яшчэ больш падняўся настрой Ежы, і ўсе прысутныя падаліся яму мілымі і харошымі людзьмі, спакойнымі і разважлівымі, у меру гаваркімі, з якімі было лёгка і проста.

“Але гэта павярхоўнае ўражанне, – гаварыў сам сабе Ежы, – хаця і яно рэдка калі бывае памылковым… А што ў іх у душы, чым яны жывуць штодзённа, што іх хвалюе?”

Вячэрняя гутарка развеяла ўсе пытанні Ежы. Ніхто не прытвараўся, гаварылі пра тое, аб чым думалі, што непакоіла. Радавала, што ў дваранскі сход, які сабраўся ў Залескага, уваходзілі людзі таленавітыя, адукаваныя. Але ж, але ж… З першага вечара нельга выказваць яму свае думкі, агітаваць іх за рэвалюцыйныя ідэі, – яны даўно ўжо загітаваныя, як той жа Генрык Дмахоўскі, які змагаўся са зброяй у руках супраць царызму, і зноў возьме яе ў рукі, калі пакліча горан у паход …

… Выехалі на цямочку, калі яшчэ не абудзіў лясное наваколле птушыны гоман.

Перайшло ўжо на другую палову ліпеня. Кавалькада з дваццаці вершнікаў рушыла ў бок віленскага тракта. Шлях волкі, росны. Па дарозе спыняліся то ў адной вёсцы, то ў другой.

Залескага тут добра ведалі, – куды ні заязджаў, сустракалі хлебам-соллю, выносілі гладышкі ўкіслага бярозавіка, настоенага на васчыне і дзічках-грушах. Квас з пограба, з лядоўні, і толькі крактала дваранства, зрабіўшы колькі доўгіх глыткоў, выціраючы мокрыя вусы.

У Бірштанах таксама весела бавілі час. Хадзілі па лесе, смакавалі маліны, спрабавалі касіць, папрасіўшы ў касцоў вострую касу; вудзільнам рыбу лавілі і радаваліся, як малыя дзеці, калі выцягвалі на бераг паўпудовага ляшча… У лесе касуль бачылі, якія не баяліся людзей, і мядзьведзя ўбачылі, да якога было з крокаў дваццаць, – не зірнуў у іх бок, адвярнуўся нават…

Пілі мінеральную ваду, гаманілі між сабой. Ежы прыслухоўваўся да спрэчак, сваё слова ўстаўляў, але галоўнага не выказваў, адцягваў той момант на далей.

На трэці дзень прыехаў да іх Корава – ляснічы ў Троцкім павеце. І жыў ён непадалёк ад Бірштанаў – у Дусятах.

Яны якраз былі ў клубнай зале, і гадзіннік паказваў дзесяць вечаровых гадзінаў. Пілі пунш, гулялі ў карты, спявалі песні. Корава пасядзеў побач з Ежы, распытаў пра экскурсію, паўшэптам мовіў:

– Запрашаю да сябе ў госці. Неабходна абгаварыць такія-сякія пытанні. Неадкладныя пытанні.

На іх не звярталі ўвагі, кожны быў заняты сваім, Ежы ўдакладніў толькі:

– Прама цяпер і пойдзем?

– Так. Да мяне тут зусім недалёка.

Яшчэ не бралася на прыцемкі, таму дайшлі хутка. Дом ляснічага стаяў збоч дарогі, у цяністых прысадах, сярод высокіх ліп. Бралася на дождж, бо днём дужа прыпарвала.

Корава расчыніў перад ім дзверы, і яны зайшлі ў прасторную залу.

За сталом сядзеў юнак і чытаў нейкую кнігу. Падаў руку, назваўся:

– Нестар Дзюлеран.

– Я вас памятаю – па Варшаве, – сказаў Ежы.

Калі селі за стол, паспыталі пахкай гарбаты, Нестар прыступіў да галоўнага.

– Я прыбыў з Вільні, каб паведаміць, што стралялі ў вялікага князя Канстанціна. Але непрыемнасць заключаецца ў тым, што паліцыя ўзмоцнена адшуквае тыя рэвальверы, якія былі прададзеныя ў Варшаве афіцэрам. Рэвальверы сістэмы Бекера. Менавіта з іх і стралялі ў князя.

Ежы недаўменна паглядзеў на юнака, нахмурыў бровы:

– Ну што з таго? Стралялі, якое я маю да гэтага дачыненне?

Дзюлеран кісла ўсміхнуўся:

– Правільна, ніякага… Але… Трэба зрабіць так, каб яны ўсе былі на руках у паліцыі. Усе да аднаго.

– Ну і…

– Адзін з гэтых рэвальвераў пакінуў у вас Корава. Дзе цяпер знаходзіцца той рэвальвер?

Позірк у Дзюлерана праніклівы, так і свідруе Ежы, у таго аж мурашы пабеглі, халодны пот па спіне выступіў.

– Ён у мяне… І належыць ён, як я зразумеў, афіцэру Генеральнага штаба Людвіку Звяждоўскаму. Значыць, падазрэнне падае і на яго, так?

– Вось іменна.

Корава ўздыхнуў, сашчапіўшы пальцы на стале:

– Што будзем рабіць?

Нестар маўчаў, абдумваў становішча. Устаў, пахадзіў па хаце, зноў сеў.

– Выхад, сябры мае, адзін – трэба, не губляючы ніводнай хвіліны, тэрмінова адправіцца ў вёску, узяць той рэвальвер і гэтак жа тэрмінова даставіць яго ў Вільню. – Ці ёсць які іншы план?

Ежы ўсё зразумеў. Таму адказаў цвёрда і ўпэўнена:

– Няма іншага плана і выйсця. З кім мне ехаць?

– Паедзе Корава, – прыняў рашэнне Нестар Дзюлеран. – Я застануся ў яго.

“Жадаў знайсці сур’ёзную справу, а яна сама мяне знайшла, – падумаў з горкай іроніяй Ежы. – Ад яе выканання залежыць жыццё чалавека... Вось і першае выпрабаванне для мяне...”

Корава падрыхтаваў каня, накінуў на яго збрую, пераапрануўся ў зручнае адзенне.

Ужо добра змерклася, але ў клубнай зале гамана толькі набірала сваю моц. Ежы адшукаў позіркам Залескага, папрасіў выйсці яго разам з ім на вуліцу.

– Мне тэрмінова трэба ў маю сядзібу, пан Антоній. Пагэтаму я прашу дараваць, што пакідаю вас.

– Здарылася што, Ежы?

– Ды не, але мне трэба як найхутчэй быць дома.

– На ноч гледзячы? Мо да раніцы клопат пачакае?

– Не. Прама цяпер паскачам – галопам. Перадайце мае прабачэнні астатнім вашым гасцям. Усё ў вас было добра. Прыязджайце і вы да мяне.

– Добра, пан Ежы! Цяпер мы з вамі сябры, не толькі суседзі.

– Так, мяне гэта радуе.

Залескі пацiснуў за плячо, прамовіў:

– Поспехаў! А справіцеся, прыязджайце да нас.

Праз хвіліну Ежы і Кораву паглынула кароткая ліпеньская ноч. Адзін аднаго не бачылі ў цемры, толькі чулі, як б’юць капыты аб мяккую волкую зямлю...

Праз гадзіну яны былі ўжо на месцы.

А праз паўгадзіны выправіліся ўжо ў адваротны шлях – на Вільню.

Прыбылі туды пад абед.

Людвіка Звяждоўскага заспелі дома. Ён, убачыўшы свой рэвальвер, здзіўлена і абрадавана абняў іх:

– Сябры мае! Вы так мяне выручылі! Цяпер ад мяне адпадзе падазрэнне, што я страляў у князя Канстанціна. Дзякуй вам вялікі!

Расчыніліся дзверы, што вялі на кухню, і адтуль выйшаў юнак, трымаючы ў руцэ аркуш паперы. Гадоў яму было за дваццаць пяць, строгі выгляд, вусны сціснутыя, таўсматыя.

– О, Клеты! Добра, што ты зазірнуў, пабачыцца хацеў. А з табою хто?

– Ежы Кучэўскі-Порай. Ён далучаны да нашай арганізацыі. А потым ён і свайго суседа-памешчыка Антонія Залескага далучыў да нашай справы.

– Выдатна! Мы ведаем Антонія – харошы і надзейны чалавек!

Ён падышоў да Коравы, падаў і паціснуў руку, а потым, гледзячы ў вочы Ежы, назваўся:

– Канстанцін.

– Вы зрабілі добрую справу, дзякуем! І за аператўнысць дзякуем. Вось так бы нам усе рабіць справы.

Калі паселі, калі перагаварылі пра дробязныя клопаты, Вікенцій Канстанцін спытаўся пра галоўнае:

– Клеты, раскажы, як ідзе стварэнне паўстанцкіх атрадаў? Што ўдалося зрабіць, што яшчэ не?

Корава ўздыхнуў, набраўшы паветра, павольна адказаў:

– Большасць атрадаў створана, абраны камандзіры і намеснікі. Са зброяй пакуль цяжкавата, але ў бліжэйшы час абяцалі прывезці...

– Прывязуць. З-пад Масквы і Смаленска выехалі падводы. У хуткім часе з’явяцца.

– Які настрой у людзей? Ці вераць яны ў тое, да чаго спрычыніліся?

– Адным словам не скажаш, люд розны. Але ў большасці сваёй паверылі, загарэліся жаданнем здабываць волю... Толькі не хапае агітатараў. Агітацыйныя б лісткі якія накіраваць у паўстанцкія лагеры. Сялян шмат пісьменных, і яны самі па сабе станавіліся б агітатарамі...

Звяждоўскі ўсміхнуўся, таемным позіркам гледзячы на гасцей, прамовіў:

– Хутка будзе агітка... На мужыцкай мове і напісана будзе. Неўзабаве мы прышлем яе...

– Было б добра...

– Ужо амаль усё гатова – праз два-тры дні мы выпусцім нашую птушку на волю.

Далей Канстанцін падсеў ужо бліжэй да Ежы.

Кучэўскаму-Пораю хацелася выказаць свае сумненні і развагі пра рэвалюцыйную справу, але дыспут рашыў перанесці на пазней, цяпер не той спрыяльны час, ды і дадому вяртацца трэба.

– Мне даручана гаварыць з людзьмі, выведваць іх настрой, і па магчымасці ўцягваць іх у працу, а для гэтага ў вёсках ствараць тайныя арганізацыі. Я толькі пачаў тое рабіць, і тое, што мне даручана, пастараюся зрабіць бездакорна.

Кастусь Каліноўскі адабральна заківаў галавой.

6

Яшчэ да пераезду ў Вільню, наведваючы зрэдку сваіх выдаўцоў, Уладыслаў Сыракомля пазнаёміўся з арганістам і дырыжорам опернага тэатра ў Вільні Станіславам Манюшкам.

А задоўга да гэтага, знаходзячыся ў Мінску, у 1834 годзе пабачыў на сцэне свайго "Канторскага служачага", – спектакль, пастаўлены аматарамі-тэатраламі. Праз сем гадоў у Гародні і праз два ў Мінску паглядзеў "Латарэю". Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч (разам з Кшыжаноўскім) і напісаў лібрэта "Рэкруцкі набор", "Спаборніцтва музыкаў", "Чарадзейная вада", "Ідылія", – зноў жа з Кшыжаноўскім…

"Ідылія" ўразіла Сыракомлю, уразіла тым, што яна ішла на беларускай мове, зрэдку, праўда, перамешана польскай, але зробленая на грунце беларускага музыкальнага фальклору, – усё гэта мела неацэннае багацце для беларускай нацыянальнай культуры.

Не сустракаючыся непасрэдна з кампазітарам, Уладыслаў Сыракомля пранікся да яго глыбокай павагай, цаніў у ім музыканта высокага ўзроўню. Нарадзіўшыся ў фальварку Убель, пад Чэрвенем, ён увабраў у сябе ўсё хараство беларускіх палёў і дубраў, дабрыню і мудрасць вяскоўцаў, іх непаўторныя песні, фальклор, паданні і гераічныя гісторыі мінулых паўстанцкіх гадоў…

Упершыню пазнаёміўшыся, яны адразу адчулі прыязнасць адзін да аднаго.

Потым Сыракомля будзе захапляцца яго педагагічнай і выхаваўчай дзейнасцю, здзіўляцца, як у яго хапала часу на сяброў, на дапамогу таленавітым музыкам… Усё сваё жыццё Станіслаў Манюшка падтрымліваў самыя цесныя сувязі з беларускімі музыкантамі, як мог, дапамагаў ім. Каб падтрымаць талент, ён дасылаў іх творы ўплывовым музыкантам. Фларыян Станіслаў Міладоўскі вучыўся музыцы ў свайго ж бацькі, а потым у Вільні, Мінску, Берліне і Вене. Манюшка ўбачыў у ім творцу і сам паслаў Ферэнцу Лісту яго першыя спробы. У дзесяцігадовым узросце, у 1829 годзе, даў

у Вільні першы адкрыты канцэрт. А праз год выступіў у Мінску і Слуцку.

Знаходзіў Станіслаў Манюшка час і на напісанне артыкулаў пра сваіх землякоў – І.Бяляўскага, гарадзенскую скрыпачку Т. Юзафовіч, пісаў рэцэнзіі на іх працы, цёпла адгукнуўся пра кнігу Н. Орды "Граматыка музыкі". Зацікаўлены быў у тым, каб таленавітыя музыканты набывалі адукацыю. Памог набыць яе мінчанцы піяністцы К. Марцынкевіч, скрыпачцы Б. Крыгер...

Наладжваў іх канцэрты. Мінская піяністка ганарылася ўсё жыццё, што яе педагогам быў Манюшка – дырыжор і дырэктар опернага тэатра.

І вось з такім чалавекам звёў лёс Уладыслава Сыракомлю.

Даведаўшыся, што паэт намерыўся пераязджаць у Вільню, пацікавіўся:

– А дзе жыць збіраешся, дружа?

– Буду шукаць кватэру...

– Навошта шукаць? Яна для цябе падрыхтаваная ўжо.

– Як гэта? – не паверыў Сыракомля. – І дзе ж?

– У майго цесця. У яго некалькі пакояў. І для тваёй сям'і знойдзецца месца. На першым часе табе будзе акурат. А потым, залучанскі арандатар, калі захочаш большую прастору, падшукаеш сам прыстойнае жыллё.

– Дзякую, калі так.

Вось тады і прыехаў Уладыслаў Сыракомля на Нямецкую вуліцу, якая знаходзілася амаль у цэнтры горада, і таму была самай шумнай.

Пажыў у Манюшкаў нядоўга. А потым, калі прыехаў ужо з Залуча Вінцэсь Каратынскі, калі і яму не спадабалася тлумнае месца, ды і цеснавата стала, пайшоў сакратар у пошукі новай кватэры. І неўзабаве знайшоў яе – у доме Доўнара.

Там ужо было і прасторна і, галоўнае, ціха і ўтульна...

.................................................

Больш як месяц прайшло з таго часу, як пан Ежы з кавалькадай Загорскага ездзіў у Бірштаны, а потым цёмнай ноччу з ляснічым імчалі да яго сядзібы і потым да Вільні.

Ежы ўдзельнічаў у з'ездах, браў актыўны ўдзел у абмеркаванні самых розных пытанняў – пачынаючы ад крэдытных, сельскагаспадарчых, да гандлёвых, – вельмі неабходных, як лічылі многія, для ўстаноў краю.

Амаль у кожнай вёсцы ствараліся школы для сялянскіх дзяцей. Пачалася асветніцкая праца, настаўнікі даводзілі хлопчыкам і дзяўчатам, што ў іх ёсць радзіма, што яе павінны любіць, і не толькі любіць, а і рабіць усё, каб яна мацнела, прыгажэла, а людзі павінны быць вольнымі і шчаслівымі. Вяліся гаворкі і пра паўстанне, якое павінна неўзабаве ўспыхнуць, казалі, хто павінен у гэтым удзельнічаць…

Але Ежы быў перакананы, што ўсё тое не робіцца адразу, патрэбен час. А яшчэ ж не загоіліся раны і крыўды прыгонных і памешчыкаў, – паміж імі вялікі роў… Бачна, што людзі, слухаючы агітацыйныя прамовы, аніяк не рэагавалі на іх – дзяцей у школы пасылалі неахвотна…

Ежы яшчэ больш зблізіўся з Залескім, іх стасункі перараслі ў дружбу. Маглі нечакана прыехаць адзін да аднаго і потым адправіцца падарожнічаць за Нёман. Маглі начаваць у лесе, распаліўшы касцёр, спаць каля яго амаль на голай зямлі. На тых прывалах прыемна было гаварыць, спрачацца, адстойваць свае погляды, але дыспуты праходзілі спакойна і добразычліва.

І ў адну з такіх начовак Ежы дастаў са скуранай сумкі папку з паперамі, адшукаў у ёй адну і падаў Антонію.

– Прачытай, братка, – хачу ведаць твае адносіны да тэксту…

– Што гэта?

– Зварот рэвалюцыйнага камітэта да люду нашага краю…

Залескі ўпіўся вачыма ў тэкст. Прачытаўшы, выдыхнуў з сябе паветра, як быццам нёс перад гэтым на сваіх плячах цяжкую ношку, толькі потым паглядзеў на субяседніка.

– Як гэта здорава, Ежы! Як гэта разумна!

Ежы нават здзівіўся рэакцыі Антонія Залескага, не чакаў ад яго такой зацікаўленасці і адабрэння.

– Ты ўваходзіш у гэты камітэт?

– Так. І мая задача далучаць як найбольш людзей да рэвалюцыйнай справы.

– І мне можна?

Ён павярнуўся да Ежы, але твару яго амаль не бачыў. Бо агонь згасаў і толькі жоўтыя сполахі скакалі па грудзях і шыі.

Недзе ў кустах пракігікала начная птушка, у Нёмане баўтануў пляскатым хвастом лянівы сом ці шчупак.

– Можна, Антоній.

– Тады я ўсёй душой з вамі!

– Цудоўна!

– Даўно хацеў падключыцца да сапраўднай працы.

У душы Ежы не падзяляў пафасу Антонія Залескага, чакаў, што ён не так горача аднясецца да Звароту.

– А сам ты верыш у перамогу, шаноўны мой сусед? – папытаў Антоній.

Ежы нейкі момант маўчаў, папраўляючы галавешкі ў касцярку:

– Веру, братка, але толькі пры адной умове.

– Пры якой?

– Калі рэвалюцыйная арганізацыя будзе строга прытрымлівацца той першай праграмы, якая намячала выкарыстанне ўсіх сродкаў, перш чым наш рух дойдзе да прамой барацьбы. І нам трэба будзе адстойваць прынцыпы той праграмы, па-трабаваць, каб яна выконвалася бездакорна.

– Ад каго патрабаваць?

– Ад тых, хто захоча збочыць, выбраць больш лягчэйшую, таму і паразную дарогу... А такія знойдуцца.

Так, ён верыў у самаахвярнасць, у апантаную гатоўнасць уступіць у актыўную барацьбу тых, хто ўзначаліў рэвалюцыйны рух, сам пагатоў быў узяць удзел. Але… Але нейкае ўнутранае супярэчлівае пачуццё падказвала яму, што, валодаючы стойкасцю і перакананасцю ў галоўным, не адступаючы ад іх, верачы, што “паўстанне будзе мець поспех”, – але падчас барацьбы, пацярпеўшы, не дай Бог, паразу, гэтая адданасць пройдзе, ахалоне, і ўсё вернецца “на кругі свае”…

У ім жылі два чалавекі, і два чалавекі змагаліся паміж сабой. І невядома, хто з іх абодвух мацнейшы, духоўна ўстойлівы і загартаваны. Ведаў, што адзін можа быць здраднікам, пахіснуцца пад цяжарам нечаканых абставінаў, і таму нічога з сабой парабіць не мог – баяўся нават уголас выказваць такія сумневы, бо разумеў: людзі, якія гатовы ахвяраваць сваім жыццём, гэта людзі святыя і магутныя Асобы, бо яны кіруюцца ў сваім жыцці толькі *шляхам праўды і веры ў святую справу!* Ці ёсць у ім такая вера і апантанасць?

Антоній больш ні пра што не пытаўся, маўчаў. Паклаў на чырвоныя галавешкі некалькі сухіх галінак, і яны адразу загарэліся, успыхнулі, асвяціўшы твары дваіх начлежнікаў, яны задумліва глядзелі на полымя касцярка…

... Праз колькі дзён яны разам вярнуліся ў Вільню.

Кожны з іх атрымаў выклік для ўдзелу ў вялікім паседжанні рэвалюцыйнага камітэта, бо выкліканыя былі прадстаўнікі іншых ваяводстваў.

Зацвердзілі парадак дня, у якім адным з пунктаў належала абмеркаваць свае адносіны да рэвалюцыйнага камітэта, створанага ў Варшаве. Паседжанне праходзіла ў доме Даўкшы на Дамініканскай вуліцы, і ішло яно бурна і таму зацягнулася на некалькі дзён.

Ежы пераглядваўся маўкліва з Залескім, як усё роўна пытаўся ў яго: “А я што казаў, пра што папярэджваў? Бачыш, колькі людзей, столькі ж і думак пра метады барацьбы...”

У адказ Антоній, разумеючы яго, ледзь прыкметна хітаў галавой.

Ад Вільні на паседжанні прысутнічаў Эдмунд Вярыга і Зыгмунт Чаховіч. Антоній Залескі і Ежы Ігнацый Кучэўскі-Порай прадстаўлялі Віленскае ваяводства.

Канстанцін Каліноўскі і Заблоцкі былі прадстаўнікамі Гарадзенскага ваяводства. Доктар Пётра Чакатоўскі ад Мінскага, а Баляслаў Сволькен, які прыбыў праз дзень, – ад Коўна.

На трэці дзень напружанасць і накал спрэчак дасягнулі свайго апагею.

Канстанцін нерваўся, пакусваў губы, паціраў пальцамі пакаты лоб. Не вытрымаў, слухаючы розныя бакі спрэчкі, Ежы. Папрасіў слова.

– Я пра што хацеў сказаць шаноўным удзельнікам нашага паседжання... – пачаў Ежы. – Барацьба – гэтая наша святая справа. Але давайце ўсе разам прызнаемся, што мы з самага пачатку нашага руху бачым, што нашы рэсурсы і магчымасці барацьбы вельмі абмежаваная, што мы не маем адной згуртаванай сілы, а разыходзімся ў шмат якіх пытаннях...

– Гэта ваш асабісты погляд, Ежы... – перабіў яго Каліноўскі.

– Так, мая асабістая думка, але ўсё ж... Мы па рознаму разумеем цяжкае жыццё нашага краю. Мы разбіліся на фракцыі і групы. Фракцыя легалістаў выказвае нецярплівасць, і яе кіраўнікі – Гейштар, Далеўскі і Аскерка – не дбаюць аб канспірацыі. Працуюць, стоячы на адным месцы, выгляд робяць, што працуюць. Нават і сам камітэт, які кіруе гэтай фракцыяй і які складаецца з прадстаўнікоў сялянства, гарадской управы, кзяндзоў, так сябе паводзіць. У іх няма ні паўстанцкіх кадраў, ні неабходных матэ-

рыялаў, ні сілы. Няма грошай. Раней камітэтчыкі карысталіся павагай у людзей, і мелі матэрыяльныя сродкі, але ўсё пагублялі. Пагублялі з-за таго, што адарваліся ад народа, не маючы сёння ні рашучасці, ні цвёрдасці характару...

Канстанцін зноў не вытрымаў, далікатна ўставіў сваю заўвагу:

– Таварыш Ежы, пра гэта мы добра ведаем і ўчора яшчэ асудзілі іх пазіцыю, і з-за іх мы яшчэ будзем мець непрыемнасці. Але ў нас абмеркаванне трошкі іншых пытанняў. Адкажыце тады канкрэтна – вы за тое, каб падняць заўтра паўстанне, ці лічыце, што гэта рабіць зарана?

– Адкажу. Лічу, што мы не выкарысталі ўсе магчымасці падрыхтоўкі да паўстання. Мы не ведаем, колькі народу падтрымлівае нас, а колькі не, колькі ўвальецца ў шэрагі паўстанцаў, а колькі будзе супраць... Мы не ведаем, колькі будуць ісці з намі вылучэнцы з царскіх войскаў. Для таго, каб выступіць супраць царызму, неабходна некалькі гадоў падрыхтоўкі...

– Але ж за гэты час у некалькі разоў узмоцняць свае сілы жандармерыя і войскі...

– Можа быць і так, але яблык падае тады, калі ён выспявае...

Канстанцін Каліноўскі не вытрымаў, падняўся з-за стала. Кідаў позіркі на кожнага прысутнага, быццам хацеў убачыць у іх вачах падтрымку словам Ежы ці асуджэнне. Не ўбачыў ні таго, ні другога.

– Мне здаецца, што мы так не прыдзем да ўзаемазгоды, – выказаў са шкадаваннем сваё меркаванне Каліноўскі.

– Канстанцін, – звярнуўся да яго Ежы, – у мяне ёсць прапанова. Мы павінны асобна дамовіцца між сабою, а потым выказаць на паседжанні агульную думку. Мы трацім шмат часу на абмеркаванне. Мы павінны прыйсці на наступнае паседжанне з гатовым рашэннем ці прапановай. Перад гэтым усё ўзважыўшы і ацаніўшы.

– Я згодзен, Ежы.

Каліноўскі пакінуў паседжанне, спаслаўшыся на кепскі стан.

Размова далей пайшла не так напружана, але больш бязладна.

– Я за неадкладнае паўстанне! – пачуўся голас з кутка пакоя. – Адкладваць нельга, падрыхтоўка праведзена даволі вялікая...

– Неабходна правесці рэвізію сваіх радоў, накапіць сілы, расставіць вопытных кіраўнікоў паўстання... Інсургенты трыццатых гадоў згодны аказаць нам дапамогу, навучыць правілам барацьбы, каб не паўтарыць іх памылак...

Гэта словы Ежы, ён настойліва стаяў на сваім.

– А памылак было ў іх шмат. Нелагічна нам гаварыць аб накапленні сілаў, бо як жа распачынаць паўстанне без людзей. Давайце задамося такім пытаннем: дык якое мы хочам зрабіць паўстанне? Дваранска-мяшчанскае? Я разумею Каліноўскага, які заўсёды з народам, ён як ніхто бліжэйшы да простага люду і давярае яму, і гатовы аддаць за яго жыццё, але... Трэба прытрымлівацца строга праграмы Рэвалюцыйнага камітэта, у якой надавалася галоўнае значэнне ўсёй нацыі. Таму мы з Каліноўскім прынцыпова блізкія гэтай пазіцыі, разыходзімся толькі адносна сродкаў. Наша сіла ў прапагандзе нацыянальнага духу, у мацаванні нацыянальных інтарэсаў, у пераконванні сялянства ў неабходнасці паўстання, якое дасць ім тыя альбо іншыя выгоды – духоўныя, эканамічныя і сацыяльныя. А для Кастуся падыходзіць любы сацыяльны стымул, галоўнае – падштурхнуць да хваляванняў, давесці сялянства да выбуху, не клапоцячыся пра тое, якімі будуць вынікі...

Нестар Дзюлеран перабіў яго:

– Ежы, дык ты, атрымліваецца, адмаўляешся ад барацьбы?

У вачах здзіўленне ад нечаканага пытання, вочы расшыраны, рот прыадкрыты.

Ён напруціўся, спахмурнеў, а адказ прагучаў спакойна і разважліва:

– Не трэба так ставіць пытанне. Ты ж, Нестар, не кінешся адразу ў рэчку, каб пераправіцца на другі бераг. Ты найперш разведаеш глыбіню, а потым пусціш свайго коніка наперад, стараючыся не замачыць штонікі...

Прысутныя засмяяліся. І гэта, бадай, быў першы смех за тры дні, калі стомленыя людзі абрадваліся нейкай разрадцы ў нялёгкай размове.

– Таму яшчэ скажу некалькі слоў. Каліноўскі мае вялікі вопыт яднання з народам, і ён шукае ў пакутах і бачыць у ім адзіную сілу, якая здольная на вялікае паўстанне. Бачыць сябе рыцарам. Адчувае біццё сэрца сялянаў як Польшчы, так і Літвы, як Беларусі, так і Расіі... Для гэтага ён і пачаў выдаваць "Мужыцкую праўду" на сялянскай ці мужыцкай мове. Ці дойдуць яго ідэі да кожнага селяніна, не ведаю... Яшчэ. Паўтараю: я рашуча стаю на прынцыпах той працы, якая намечана праграмай, і таму вельмі няправільна мы зробім, калі парвем з тым кірункам, які быў вызначаны і зацверджаны, і для ажыццяўлення якога, на вялікі жаль,

не зроблена ніводнага кроку. Калі ж ідэя праграмы – барацьба за незалежнасць агульнымі сіламі, то патрэбна, каб увесь – паўтараю: увесь народ! – не толькі пранікся гэтай ідэяй, а і паверыў у свае сілы, паверыў – і перамог! Вось такія мае думкі, панове-таварышы.

Усталявалася маўчанне. Больш ніхто не захацеў браць слова. Нестар Дзюлеран, узяўшы на сябе часовае кіраўніцтва паседжаннем, прапанаваў:

– На сёння, можа, і ўсё, таварышы. Прадоўжым заўтра...

Эдмунд Вярыга – амаль аднагодак Канстанціна Каліноўскага. Высокага росту, чорныя валасы зачасаныя ўверх, на твары бледнаватасць ад рэдкіх сустрэч з промнямі сонца. Як і Кастусь, вучыўся ў Пецярбургскім універістэце, заўсёды, як прыходзіў на паседжанне, напускаў на сябе задумлівы выгляд.

– А я думаю на гэты конт вось як, – павольна, расстаўляючы словы, вымаўляючы іх як бы праз нос і напаўголаса, надаючы сабе большую вагу і аўтарытэт, пачаў Эдмунд на наступны дзень сваю прамову, – трошкі інакш, чым Ежы... Ёсць, ёсць рацыя ў яго словах, бясспрэчна. Але... Ежы жыве ў вёсцы, сярод сялянаў, я ж чалавек горада. І таму мае думкі такія: сяляне, аб'яднаўшыся са шляхтай, з'яўляюцца магутнай сілай у справе паўстання. Толькі неабходна іх узброіць, апрануць, мець сродкі для закупкі амуніцыі і правіянту...

Антоній Залескі, выкінуў руку наперад, у бок Эдмунда:

– Залатыя словы кажа Вярыга! Я, як шляхціц, веру горача ў тое, што шляхта прыме самы актыўны і магутны ўдзел у паўстанні. Я сустракаўся не раз са слаўнымі прадстаўнікамі гэтага саслоўя, гаварыў з імі, пытаўся канкрэтна, ці ўвальюцца яны ў рады паўстанцаў. Аднадушна адказалі: гатовыя ўзяць удзел...

Каліноўскі выглядаў больш весела. Не паціраў скроні, не выказваўся рэзка супраць тых, хто не падзяляў агульнай думкі. Не было рэзкіх выказванняў і з боку выступоўцаў – значыць, перад гэтым прыйшлі да нейкай узаемазгоды.

Нават калі Зыгмунт Чаховіч адстойваў свой погляд на паўстанне, Каліноўскі маўчаў, даслухоўваў да канца.

– Я чамусьці не веру ў якое-небудзь кіраўніцтва ці рэвалюцыйную працу, заснаваную на праграме, – выказваўся ён. – Тут усё залежыць ад сляпога выпадку, як сыйдуцца зоркі на небе... Як Марс ці Юпітэр паглядзяць на справу нашага закалота...

– Цікава, – ціха прамовіў Антоній Залескі.

– Сябры мае, мы знаходзімся з вамі ў маленечкім чоўне, а вакол нас бушуе бура, ураган... І каб выстаяць, не паддацца выбуху стыхіі, мы павінны ўчапіцца адзін у аднаго і тым самым перамагчы, не даць ветру зламаць ветразі нашага карабля, і даплыць да берага... А мы з вамі раз'яднаныя, і ніяк не можам падставіць адзін аднаму плячо. Мой заклік – давайце зробім рашучы крок насустрач самім сабе, забудзем пра рознагалоссі і крыўды. Крыўдна будзе, калі мы не аб'яднаемся.

– Дык якія будуць высновы, таварышы, наконт паўстання? – паставіў  Канстанцін пытанне рубам. – Выказвайцеся коратка і па чарзе. А потым будзем галасаваць...

– Узмацніць прапаганду, каб ідэямі рэвалюцыі прапітаць грамадскі слой, і не пачынаць паўстання да тае пары, пакуль прапаганда не дасць чаканага выніку. Я за ўсе пункты праграмы і першага закліку.

– Добра, Ежы, што скажа Дзюлеран?

Нестар павольна падняўся з канапы:

– А я ўношу прапанову аб поўным і безаглядным падпарадкаванні Рэвалюцыйнаму камітэту. Толькі так мы будзем моцныя.

– Галасуем.

Рукі паднялі амаль усе.

– Хто не згодзен?

Не згодны былі Эдмунд Вярыга і Пётра Чакатоўскі.

– Сябры мае таварышы, апошняе пытанне, – зноў падняўся Дзюлеран. – Нам неабходна зацвердзіць пячатку літоўскай арганізацыі, якая мае надпіс "*Мужнасць. Разважлівасць.*"

А ў апошні дзень адбылося паседжанне, на якім абралі Літоўскі правінцыйны камітэт. У яго ўвайшлі – Зыгмунт Чаховіч, Эдмунд Вярыга, Канстанцін Каліноўскі, Ян Козел, які раней быў у Камітэце Звяждоўскага, і начальнік горада Вільні – Ахілес Банольдзі...

Ежы і Антоній адразу ж паехалі ў свае вёскі.

Дарогай Ежы дзяліўся сваімі ўражаннямі ад паседжання. Вярыга яму падаўся чалавекам, які не адказвае за свае ўчынкі. Абапіраўся на гарадскі элемент, і верыў, што гарадскія масы падымуцца па першым закліку. Думаў, што для гэтага не патрабуецца шмат падрыхтоўкі і чакання. Чаховіча Ежы назваў фаталістам. А Козел, рускі інжынер у адстаўцы, толькі забаўляўся роляй па-

бочнага рэвалюцыянера, яму нават не патрабавалася зброя, бо, лічыў, што "ў руках рэвалюцыянера і гаршчэчак выбухае". Бо вельмі ж гучна ён расказваў пра змаганне і аб стратэгічных пунктах.

– А як табе Банольдзі? – пацікавіўся Антоній, упіраючыся спінай у мяккую перакладзіну і паклаўшы на яе галаву.

– Ахілес Банольдзі... Толькі што прыехаў з Італіі, і ён не ведае, чым жыве наш край. Таму яго меркаванні, я пераканаўся, памылковыя і далёкія ад сапраўднага становішча.

Калі яны вярнуліся дахаты, раніцай прыскакаў да іх веставы – юнак з кароткай чорнай бародкай і вусамі. Аддаў ім асабіста ў рукі шэрыя пакеты.

Не чакаючы, калі Ежы разарве канверт, развітаўшыся, сцебануў каня ў яблыках, рвануў адразу ў галоп і знік за пажоўклымі кустамі…

Антоній Залескі атрымаў рэвалюцыйную пасаду начальніка акругі Троцкага павета, а Ежы Ігнацый стаў памочнікам ваяводскага, хаця, як ён ведаў, ваяводы як такога яшчэ не было...

7

Хто не ведаў у Вільні літаратурны салон Кіркора? Хто не ведаў самога Адама Ганоры Карлавіча Кіркора? У Пецярбурзе з цікавасцю чыталі яго творы, у Маскве дапытваліся, дзе знайсці напісаныя ім кнігі ці артыкулы.

*Ян са Слівіна, Ян Валігурскі, Сабары, Яцак…* Гэта ўсё яго літаратурныя псеўданімы. Асоба незвычайная. Каларытная. Магутная. Этнограф, археолаг, публіцыст, выдавец, гісторык літаратуры, грамадскі дзеяч ліберальнага кірунку. Працаздольнасць у яго была незвычайная – мог суткамі сядзець над нейкай навуковай працай, пакуль не лічыў, што выклаў асноўныя тэзы задуманага. А потым ужо дарабляў, перапісваў, шліфаваў…

Ведаў пра яго Уладыслаў Сыракомля, ведаў, ды ўсё ніяк не мог на важыцца завітаць да Адама Кіркора, чамусьці пераносіў сустрэчы надалей.

Абрамавіцкі завулак, куды выходзілі вокны, быў ціхі, зрэдку калі даносіўся які голас. Ад дома непадалёк знаходзіўся евангельска-рэфармацыйны касцёл, – але званы яго не перашкаджалі, наадварот, супакойвалі, улагоджвалі яго душу боскай мілатой. Уладыслаў пазнаёміўся з пастарам Клішэўскім, і той прапанаваў яму наведаць

бібліятэку касцёла. Паэт дакрануўся да вокладак рэдкіх выданняў – XVI-XVII стагоддзяў, – адчуў, як задрыжэлі пальцы. Ніколі не трымаў у руках такога багацця. Тады ён, мусіць, адчуў справядлівасць свайго прызнання ў першых лістах з Вільні да свайго сябра: “Не меў я сілы праз мае горкія ўспаміны жыць далей у вёсцы, у мясціне, дзе калісьці жыццё працякала болей шчаслівa, перанёсся я ў горад са спадзяваннем, думаючы, што, дзе больш людзей, больш кніг, там мне будзе лепш і працаваць, і адпачываць…”

Так, у Вільні было больш народу, болей кніг, болей прасторы для творчасці.

Вінцэсь Каратынскі перагаварыў з Доўнарам, папрасіў, каб дазволіў гаспадар збірацца на кватэры людзям творчым і таленавітым. Доўнар не толькі дазволіў, а нават выдзеліў для гэтага яшчэ адзін дадатковы прасторны пакой. Сам прысутнічаў калі-нікалі, бо любіў паэзію, мастацтва, радаваўся, калі парог дома пераступалі людзі, вядомыя не толькі ў Вільні, а і далёка за яе межамі…

– Братка Вінцэсь, – дзяліўся думкамі з сакратаром Уладыслаў Сыракомля, – гэта так добра, што ты арганізаваў нешта накшталт літаратурнага салона! Раз на тыдзень мы маем магчымасць бачыцца з людзьмі і размаўляць з імі, абменьвацца творчымі задумамі. Калі мясцовая арыстакратыя траціла на адзін вечар да паўтысячы рублёў, то нам дастаткова на гэта ўсяго тры рублі. І грамада збіраецца разнастайная, і для кожнага знойдзецца цікавы занятак. І ў нас усё проста і натуральна, кожны вольны гаварыць што хоча, паводзіць сябе як хоча…

Каратынскі ўсміхаўся, радуючыся, што даспадобы Уладыславу ўсё тое, што ўдалося зрабіць.

А з памяці Сыракомлі не выходзіла тая адзіная сустрэча з невядомай прыгажуняй, – яркай знічкай успыхвала часта, то ў сны прыходзіла, чаравала, смяялася нечага. Ці не з яго, Уладыслава, смяялася, што ён такі нясмелы, не папытаўся нават у яе, як завуць…

Невыпадковай была сустрэча, ой якой невыпадковай. Але ён не імкнуўся адшукваць яе, распытваць у каго, тым больш даручыць такі клопат свайму сакратару, – смешна выглядала б тое, вельмі смешна…

Яшчэ падчас першага салона Уладыслаў Сыракомля заўважыў, што людзі сабраліся нейкія адасобленыя адзін ад аднаго, трымаюцца купкамі, групоўкамі.

Калі нешта прапаноўваў адзін, то астатнімі ўспрымаліся “ў штыкі”.

Усе пагаджаліся, што так жыццё працягвацца далей не можа, а вось шляхі і кірункі, як яго памяняць, перайначыць, – да адзінай высновы не прыходзілі…

Падчас гарачых спрэчак асабліва не вытыркаўся, бо недзе ў душы адчуваў, што ён, як бы там ні было, пакуль што чалавек вясковы.

– А што думае на гэты конт спадар Сыракомля? – вывеў яго з задумення малады паэт Вітальд Дабравольскі, які прачытаў перад гэтым свае вершы і чакаў прысуду.

– А што мне думаць? Што сказаць на першыя спробы? Шмат працаваць трэба над радкамі. І не згодзен я хіба толькі з тым, што ў вершы адсутнічае цеплыня і спадзяванне, а нагнятанне толькі чорнага і скажонага… Але гэта мае прыватныя думкі, спадар Дабравольскі, прыватныя...

Вітальд як не чуў яго слоў:

– Я знаёмы з вашымі вершамі, спадар Уладыслаў. Але, на мой погляд, думкі вашыя, выказаныя ў вершах, утапічныя, нерэальныя... Не крыўдуйце, вы – майстра, а я пачынаючы, таму магу і памыляцца...

– Нічога, нічога, – паблажліва ўсміхаўся гаспадар, – мы павінны гаварыць адзін аднаму праўду...

А ў душы нараджалася горыч, нават крыўда на самога сябе, што ён пакуль што далёкі ад іх, ён яшчэ не ў Вільні, а сярод гаёў і дуброў, і ніяк не можа выйсці з іх.

Жонка пазней ужо, бачачы, што ён нудзіцца, спытала:

– Мо мы дарэмна прыехалі ў Вільню? І я сябе пачуваю неяк няўтульна і ў гэтых сценах, і ў самім горадзе.

Нічога не адказаў.

Ён усё жыццё вольна бегаў па палях, збіраючы кветкі, ловячы матылькоў, а тут і пагуляць няма дзе – усюды агароджы, агароджы, дамы, дамы... І паветра не такое, як я Залучы, і зоры не такія, і людзі... Тлум, гул і гам...

Засумаваў Сыракомля па цішыні, па спакоі.

А калі дачуўся, што можна арандаваць фальварак, які знаходзіцца і не так ужо далёка ад Вільні (што вельмі падыходзіла для яго), адразу ж ухапіўся за гэта. Фальварак месціўся па дарозе на Ашмяны – Барэйкаўшчына. І раздвайваўся Уладыслаў – адна

яго палавіна ў фальварку, а другая ўжо ніяк не магла адарвацца ад Вільні.

Чатыры сям'і прыгонных душ, тры валокі зямлі...

І ён нічым асаблівым не вылучаўся сярод іншых шляхецкіх сядзібаў у прынёманскім краі.

І не пан, і не падпанак, не багацей, але і на жабрака не падобны... Не палац з калонамі, але ўтульная драўляная хаціна, нашмат прастарнейшая за тую, што была ў Залучы. Шырокі і высокі ганак, густа аплецены з абодвух бакоў лісцем вінаграда. Афіцына, прасторны двор, увесь у зяляніне – густой траве і спрэс у палявых кветках... Уладзік насіўся ад радасці па незнаёмых закутках, бегаў туды-сюды па дзвюх сцежках, якія пратапталі да гаспадарчых будынкаў і ў вялікі сад, у якім былі слівы і грушы, яблыні і вішні.

– Мы тут будзем жыць, татачка? – дапытваўся сын. – І я тут буду гуляць? І мы не вернемся больш у горад?

– Тут, сын, будзем жыць. Падабаецца табе?

– Вельмі, татачка!

Прыехалі яны ў Барэйкаўшчыну перад першым траўня 1853 года...

Той год на дзіва быў удалы для Уладыслава Сыракомлі. Падарунак яму наладзіў Пецярбург: у друкарні Вольфа выйшла асобным выданнем яго паэма-гутарка "Дабрародны Ян Дэмборг". З гэтай нагоды Вінцэсь Каратынскі прывёз з Вільні смачных напояў і, усеўшыся разам з Палінай за сталом, ушаноўвалі слыннага лірніка.

Ён жа сядзеў задумлівы, адпіваючы глыток за глытком чырвонае іскрыстае віно, – нельга было зразумець – радаваўся выхаду кнігі ці аднёсся да яе абыякава.

А праз нейкі час другі падарунак зрабіла Вільня. Вінцэсь прывёз і ўручыў паэту гістарычна-краязнаўчую кнігу "Вандроўкі па маіх былых ваколіцах". Сыракомля чытаннем спатоліў настальгію па сваіх мясцінах маладосці, кожны радок гаварыў пра яго тугу і шкадаванне, што тое ўсё больш не вернецца. Не вернуцца захады і світанкі ў Нясвіжы і Міры, Стоўбцах і Койданаве...

А Сыракомля задумваў адправіцца ў новыя вандроўкі і напісаць глыбей і жывапісней пра наднёманскі край, пра мінскія прасторы...

У сярдзіне снежня таго ж года разам з сям'ёй і Вінцэсем адправіліся да бацькоў і сясцёр паэта, каб адсвяткаваць каляды ў Тулёнцы. Але Уладыславу было не да Калядаў. Зачыніўшыся ў

пакоі, ён за кароткі час напісаў гутарку “Пан Марка ў пекле”. І тут жа нарадзілася задума прадоўжыць мелодыю, на папулярным матэрыяле, прымяняючы маральна-бытавую і этычную побытнасць народа, з яго паданнямі і выслоўямі, гумарам і дасціпнасцю, прытчаў і фантастычнай міфічнасці, напісаць “Пiлiп з Канапель”...

Сыракомля выбіўся на незнаёмую для сябе дарогу, але яна нечакана стала для яго роднай, зразумелай. Ён выдзеліў сам сабе кавалачак зямлі і засяваў зярнятамі-словамі сваё поле. Калі ў жыцці ён арандаваў фальварак і чатыры валокі, то ў сваім фантастычным уяўленні ён быў гаспадаром неабсяжнага поля, багацеем, бо ўраджай ён збіраў такі, што яго нельга было ні ўзважыць, ні палічыць…

А потым прасілася тэма “Пра Заблоцкага і мыла” – зарабіў, як Заблоцкі на мыле. Тыя прымаўкі, якія чуліся кожны дзень, знайшлі сваё паэтычнае ўвасабленне ў радках Сыракомлі...

Адарваўся ўсё ж Уладыслаў ад сваіх радкоў, выпіў з бацькамі наліўкі, схадзіўшы перад гэтым у касцёл. Не заўважыў сын, што на бацькоўскія плечы ў тыя дні легла шмат клопатаў. Бацька не скардзіўся, што выжываюць яго з арандатарства скнарыя і хітрыя суседзі, і ўладальнік зямлі Вітгенштэйн нічога не зрабіў, каб пакінуць Кандратовічаў у спакоі... То амаль праз год, абураны несправядлівасцю, Уладыслаў напіша “Кавалак хлеба”...

Вяртаючыся ў Барэйкаўшчыну, Сыракомля стаў маўклівы і заклапочаны.

... Вечарам прыехаў у Барэйкаўшчыну Вінцэсь Каратынскі. З парога яшчэ, убачыўшы, што Уладыслаў не за сталом і не адарве яго ад думак, абвясціў:

– А я вам прынёс запрашэнне, спадар Уладыслаў!

– Якое? І ад каго? – без асаблівай цікавасці выглянуў з расчыненых дзвярэй вясковы лірнік.

– Ад самога Кіркора!

Сакратар падаў аркушык паперы, на якім ад рукі было напісана каліграфічным почыркам:

“Шаноўны спадар Уладыслаў! Здаецца, шмат мінула часу, як ты жыў у Вільні, потым пераехаў у вёску, а мяне так ніколі і не праведаў. Даўно хачу з табой пабачыцца, пазнаёміцца і абняць цябе за тое, што ты пішаш такія цудоўныя вершы. Будзе час – зазірні, буду вельмі рады. Твой – Адам Кіркор.”

– Ты як з ім пазнаёміўся?

– А ў мяне былі клопаты ў археалагічнай камісіі. Але я найперш зазірнуў да яго як да рэдактара “Кур’ера Віленскага”.

– А-а, – няўцямна прамовіў Сыракомля, – так яно, так, Вінцэсь... Я і забыўся, што даваў табе такое даручэнне...

……………………………………………………………………………

Дом, дзе жыў Адам Кіркор, адшукаць было няцяжка.

Спачатку Уладыслаў Сыракомля прайшоў па Дамініканскай вуліцы, якая вяла да Святаянскіх муроў, а потым звярнуў да будынка былога ўніверсітэта. Непадалёк ад гэтай мясціны ўзвышаўся губернатарскі палац.

Ён увайшоў у арку двара Сарбевіуса, і тады глуха адазваліся яго крокі над галавой. Падумаў: “Як у густой пушчы, калі кроны сплятаюцца над галавой...”

Перайшоўшы вуліцу, апынуўся каля самага дома. Нечага пастаяў каля пад’езда, быццам разважаў, ісці ці не. Мо і дома гаспадара не было, а ён вось так, без папярэдняй дамоўленасці, з’явіцца на парог. Запозненая няёмкасць бліснула гаркаватасцю і адразу ж зглухла...

Паступова падымаўся па сходах, абапіраючыся рукой на парэнчы.

Пастукаў ціхенька ў дзверы.

Доўга не адчынялі, а потым стала чуваць, як нехта ўзяўся за дзверныя ручкі, шчоўкнуў замок. Жанчына ў белым фартуху ўважліва глядзела на наведніка.

– Добры дзень! Скажыце, а гаспадар – Адам Кіркор – дома?

– Добры дзень! Вы па запрашэнні?

– Так, – узрадавана прамовіў Сыракомля, радуючыся, што і гаспадар дома, і пакаёўка прыветная. – Адам запрасіў мяне...

– Заходзьце. Прысядзьце, я пайду і скажу пра вас.

Невялічкая гасцёўня з мяккай мэбляй, светла-блакітныя сцены, на іх медальёны з эмалі і ідылічнымі гравюрамі – сялянка з сярпом, касец, у абдымку сядзяць хлопец і дзяўчына з доўгай касой да каленяў... Далей – карціны невядомых мастакоў і вядомых – двух Залескіх, майстроў пейзажаў – “Раніца” і “Над Нёманам”...

Расчыніліся дзверы і на парозе стаў гаспадар. Хаця ён усяго быў на пяць гадоў старэйшы за Уладыслава, але кінулася ў твар яго азызласць.

– Мо то мяне праведаў паэт Уладыслаў Сыракомля, які хаваецца ад мяне і абмінае маю хату?

Сыракомля падняўся, ступіў крок насустрач.

– Не хаваўся я, спадар Адам, даўно хацеў пабачыцца...

– Добры дзень, дарагі, добры дзень!

Рукі дужыя, аблапіў як мядзведзь, прытуліўся шчакой да шчакі, колькі імгненняў маўчаў, не выпускаючы з абдымкаў. А потым, трымаючы за плечы, нейкі момант глядзеў пільна і прыхільна ў вочы.

– Дзякую, што прыняў маё запрашэнне! – выгукнуў: – Гелена! Золатка маё, паглядзі, хто прыйшоў да нас. Хадзі сюды!

І ўсё не адрываў позірку, як быццам не верыў, што перад ім стаіць вясковы лірнік, пра якога столькі размоў, столькі водгукаў на яго творчасць.

З другіх дзвярэй, стаўшы на парозе, паказалася жанчына. Яна ўсмешліва глядзела на госця, маўчала. Сукенка з чырвонай брошкай на грудзях, і, здавалася, што ад той брошкі выпраменьвалася святло на яе шчокі...

“Божачка, дык гэта яна? – ударыла хваляванне ў скроні, працяў усяго пякуча-салодкі боль. – Дык гэта ты, тая незнаёмка, якая сустрэла мяне на вуліцы? Не можа гэтага быць... Я ж шукаў цябе, блэндаючыся па Вільні, а знайшоў цябе тут, дома...”

– Гелена, пазнаёмся, гэта – паэт Уладыслаў Сыракомля, якога называюць вясковым лірнікам, вершы якога ты чытала мне, здзіўляючыся, як хораша яны гучаць...

Гелена падышла да паэта, падала руку. Ён узяў яе, паднёс да вуснаў. Пацалаваў, схіліўшыся ў паклоне.

– Вы знаёмы з маімі вершамі, пані Гелена? – пацікавіўся Сыракомля, калі селі на крэслы, каб прадоўжыць далей размову.

– І не толькі знаёма, а шмат якіх ведаю на памяць.

Адам Кіркор паглядзеў на жонку:

– Дык мо пара ўжо, маё золатца, і абедаць. З дарогі наш госць, прагаладаўся, пэўна.

– Ды не паспеў я яшчэ парагаладацца, – запярэчыў Сыракомля.

Адам і Уладыслаў засталіся адны.

Хацелася пагаварыць пра многае. Але два вялікія чалавекі не ведалі, з чаго пачаць размову.

Пачалі з дробязаў…

– Як здароўе, Уладыслаў? Як тваё там арандатарства? Ведаю, што пакінуў Залуча, рашыў у Вільні жыць, а потым у Барэйкаўшчыну перабраўся...

– Так, Адам, перабраўся. І стаў і не гарадскім, і не вясковым... Але душа там, сярод маіх дубраў.

– Разумею цябе, дружа, разумею. І я люблю лясы і балоты палескія. Колькі папахадзіў я па іх, колькі начэй правёў пад тым небам. Археалагічная камісія абавязвае падрабязна апісваць убачанае і адкрытае. Хачу даць табе прачытаць асобныя часткі – наступным разам, як прыдзеш. Мне хочацца, каб ты сваім крытычным вокам ацаніў. Ведаю, пра Міншчыну пішаш, цікава. Паэтычна пішаш, не так, як я, суха і нудна.

– Навошта ж так пра сябе, Адам? Лепей за цябе няма і археолага, і апавядальніка нашых краёў.

Кіркор схіліў галаву, як бы згаджаючыся са словамі госця.

– Я табе свае вершы прынёс новыя, каб ты прачытаў. І даў сваю ацэнку. Твой прысуд для мяне вельмі важны.

Расшпіліўшы сурдут, дастаў складзеныя ў чатыры столкі некалькі аркушаў, падаў Адаму.

– Добра, да наступнай сустрэчы падрыхтую табе адказ. Твае вершы трэба чытаць удумліва і няспешна...

Праз нейкі час да іх выйшла Гелена, грудным мяккім голасам прамовіла:

– Хопіць вам на галодны страўнік свецкія размовы весці, пара за стол.

“Божа, які голас, які пагляд. Усё аддаў бы, здаецца, каб чуць і бачыць яе...”

Калі ж селі за стол, калі келіхі напоўнілі чырвонай вішнёвай налівачкай, Гелена прапанавала:

– Адаме, давай вып’ем за нашага дарагога госця – паэта Уладыслава Сыракомлю. Вып’ем за яго двухтомную “Гісторыю літаратуры ў Польшчы”, за яго паэму “Маргер”. Я хачу сыграць галоўную ролю ў вашай самай лепшай п’есе, спадар Уладыслаў. Вы мне зробіце такую ласку?

– Дык вы акторка? – шчыра падзівіўся паэт.

– Ды яшчэ лепшая з лепшых, – пахваліў жонку Кіркор.

– Не перахвальвай, Адаме, мяне, не лепшая, але і не горшая.

Яна падняла келіх, паглядзела на паэта:

– За вас, вясковы лірнік! За вашу ліру. За вашы паэмы і п’есы!

Хораша на душы ў лірніка, як нечакана пашчасціла яму. Гелена дакранулася локцем да яго рукі і ён адчуў, якая спапяляльная гарачыня сыходзіла ад яе...

Сам з сябе дзівіўся Уладыслаў, і таму праз хвіліну ён адказаў ёй тым жа – штурхануў лёгенька пад бок.

... Гасцяванне Сыракомлі ў Кіркора задоўжылася, і таму гаспадары прапанавалі яму пераначаваць у іх доме.

…………………………

Ежы ўжо больш за месяц быў у вёсцы. Захацелася перамяніць абстаноўку, падыхаць іншым паветрам, пагаварыць з людзьмі, пасядзець дзе-небудзь у віленскай кавярні... Справа з маёнткам яшчэ не дайшла да завяршальнай стадыі, валакіцілі судовыя чыноўнікі.

Ежы паўздзейнічаў на Зыгмунта, расказаў яму пра свой удзел у тайным таварыстве, і брат пасля гэтага папрасіў яго:

– Дык ты і мяне запішы ў гэтую арганізацыю – і я хачу быць карысным для агульнай справы.

– Добра. Наступным разам, калі будуць збірацца яе ўдзельнікі, мы паедзем разам  з табою, каб і ты паўдзельнічаў, пераканаўся, наколькі тое сур’ёзна...

І раніцай рушыў у дарогу.

На трэці дзень знаходжання ў Вільні зазірнуў у гасцініцу, у якой знаходзілася рэстарацыя  і ў якой смачна кармілі.

Пан Ежы любіў смачна паесці, выпіць лёгкага віна. І калі ўжо скончыў трапезу, калі разлічыўся за стравы і напоі, падсеў нечакана да яго той чалавек з Варшавы, з якім пазнаёміўся ў Бірштанах. Які і папрасіў даставіць Звяждоўскаму рэвальвер.

– О, пан Ежы! Якая сустрэча! Добры дзень!

– Дзень добры, Езус пахвалёны!

– Даўно ў Вільні?

– Трэці дзень.

– А я ўжо тыдзень тут. Пан Ежы, я цяпер паўнамоцны камісар Камітэта рэвалюцыйнага руху на Літве. Будзем гаварыць шчыра, але не тут. Давай пройдземся па вуліцах горада, альбо ў парк зазірнем, там шмат вольных лавачак.

Вольная скамейка адшукалася, і яны селі на яе. Нестар нейкі час не распачынаў размову.

Падставіўшы твар сонцу, пры-мружыўшы вейкі, маўчаў.

– Як камісар літоўскага рэвалюцыйнага руху, павінен выкласці асноўныя палажэнні арганізацыі. Канкрэтна табе даручаецца фармаванне надзейных людзей. Як сярод памешчыкаў, так і сялянаў. Трэба мець запасныя схованкі, дзе можна было б хаваць зброю

і харч. У памешчыкаў ёсць лядоўні, дзе яны трымаюць рыбу, саланіну і гародніну.

– Зразумела.

Каля іх ног вуркаталі галубы. Ежы дастаў са скураной сумкі кавалак хлеба і пакрышыў птушкам.

– А праграма, Нестар, у чым заключаецца праграма?

Нестар выпраміўся, схіліўся наперад, упершыся рукамі ў калені.

– Галоўнае – апора на народ. Без народа мы нішто. Для яго ж і робіцца рэвалюцыя.

– Гэта супадае з маімі ўяўленнямі паўстання. Бо дзе ж узяць тую сілу, як не ў сялянскіх мільённых масах? Калі гаварыць пра легалістаў, то іх праца, канешне ж, мае карысць, але, на маю думку, яны не аказваюць істотнага ўплыву на сам народ.

– Гэта ж чаму?

– Іх праца як бы на паверхні, як тлеючы агонь, які ніяк не можа загарэцца і ўспыхнуць полымем...

– Так, маеш рацыю, Ежы. І таму яшчэ раз пацвярджаю – ад той праграмы, якую зацвердзіў рэвалюцыйны камітэт, мы не адступім ні на крок.

– Тады я, паўнамоцны камісар, аддаю сваё жыццё рэвалюцыі. Што трэба для таго, каб афіцыйна ўступіць у таварыства?

– Простыя фармальнасці – вусная прысяга. Пойдзем да мяне, там усё і аформім...

Яны яшчэ пасядзелі нейкі час у парку, абгаварылі да канца дэталі сваіх далейшых дзеянняў, сувязаў паміж сабою, дзе зручней сустракацца, і толькі пасля гэтага падаліся да дома графіні Плятэр, у якой пражываў Дзюлеран. Дом знаходзіўся насупраць палаца Назімава. У кватэры Нестара быў Эдмунд Вярыга. Ён даў аркушык паперы з традыцыйнай клятвай, папрасіў азнаёміцца і прачытаць уголас, назваўшы сваё прозвішча.

– Я, Ежы Кучэўскі-Порай, шляхціц, памешчык сядзібы... Клянуся ніколі не збочваць з дарогі рэвалюцыі, аддаваць усяго сябе святой справе служыць народу...

Калі скончыў чытаць, сябры паціснулі яму руку, абнялі:

– Ну, вось, цяпер ты рэвалюцыянер вялікага вызваленчага паўстання, віншуем!

Ежы адчуў, як з душы спаў нейкі цяжар, але і вялікай палёгкі чамусьці не адчувалася. Ён не ведаў, як растлумачыць тое пачуццё, як расцаніць яго, – радавацца ці засмучацца.

## 8

Канстанцін Каліноўскі не сядзіць на месцы. Фелікс Ражанскі наймае для яго падводу, і фурман Міхась Чывеля вязе яго з Берастовіц у Якушоўку. Потым з Якушоўкі ён адпраўляецца ў Гародню.

Стомлены, недаспаны, схуднелы.

– Ды паелі б чаго, на пусты страўнік справы не робяцца, – спачуваў яму фурман...

– Нічога, Міхась, не да гэтага цяпер...

– Ды вазьміце хоць кавалак хлеба з салам, а то не павязу далей. Не павязу, і ўсё тут.

Кастусь накінуўся на прапанаваны перакус, не заўважыў, як пуста стала ў руцэ, як за сябе выкінуў пачастунак.

– Даўно б так, Кастусь, а то ў мяне душа баліць, гледзячы на вас…

Кастусь падае на сена, на спіну, бярэ ў зубы сяніну, што выстрыкнулася з-за вуха, жуе, маўкліва гледзячы ў блакіт неба.

Вясна. Цёплы подых ветру. Недзе высока над ім заліваецца, аж захліпваецца ад радасці нябачны жаўручок, баіць песню прыходу вясны. Воблакі на небакраі, над лесам, зеляніна і сінеча. Ён здзіўляецца, што так рэдка глядзеў у неба. Хіба як з бацькам ноччу ехалі на кірмаш, каб паспець да раніцы заняць гандлёвае месца. Тады ён і зоркі лічыў, ідучы па Валацужным шляху, бачачы, як пераміргваюцца яны. Але хутка зморваў сон, і яго будзіў бацька ўжо каля самых Ашмянаў. Як даўно і нядаўна тое было...

Не заўважыў, як і тут змарыў сон.

– Тпр-ррр! – спыніў коней фурман. – Стаяць!

Кастусь прахапіўся, паглядзеў вакол. Шэрыя вароты рынка. Ён загадаў фурману яшчэ загадзя не ехаць да месца прызначэння, а спыніцца ўдалечы ад яго.

– Прыбылі, дзякуй Богу, Канстанцін! Чакаць мне – назад сёння паедзеце?

Ён пацягнуўся, спусціў долу ногі.

– Калі праз гадзіну не вярнуся, то едзь, Міхась, назад.

– Добра, зразумеў.

А ён, прайшоўшы праз густыя рады гандляроў, растварыўся ў вірлівым шматгалосым натоўпе...

……………………………………

У дзверы нехта пастукаў. Потым яшчэ раз, і яшчэ. Постук пачула пакаёўка і заспяшалася да дзвярэй. Адчыніла іх.

– Ці дома спадар Адам Кіркор?

– Дома, дома, Віктар! – адгукнуўся Адам, пазнаўшы голас. – Праходзь, мой малодшы сябра! Праходзь.

– Я не адзін, з братам! – прамовіў госць.

– Тым лепш, праходзьце удваіх.

Хлопцы распрануліся, выцерлі ногі аб ходнік, выйшлі з калідора.

Юнакі былі амаль роўныя па ўзросце. Наперадзе стаяў хударлявы ў шэрай світцы хлопец, трошкі пазаду яго брат – сур'ёзны, з адкрытым ілбом і светлымі вачыма, з зачасанымі назад валасамі.

Адам падняўся з крэсла, пайшоў насустрач гасцям.

– Уладыслаў, гэта студэнты Пецярбургскага ўніверсітэта – Каліноўскія. Гэта – Віктар, а з ім яго брат Вікенцій Канстанцін. Віктар – сябра археалагічнай камісіі. Ён, ведаеш, якія цікавыя дакументы адшукаў у бібліятэцы? Не паверыш... Яшчэ ў 1857 годзе, працуючы над старажытнымі рукапісамі ў Публічнай бібліятэцы, знайшоў рукапіс апісання межаў паміж Польшчай і Вялікім Княствам Літоўскім, які напісаны "гаворкай крывіцкай" – беларускай, значыць...

Сыракомля падняўся, пайшоў насустрач братам, якія ўжо накіроўваліся да яго. Назваўся.У вачах Кастуся загарэліся промнікі цікаўнасці, відаць было, што ён узрадваўся, сустрэўшыся з вясковым лірнікам. Чуў пра яго шмат, чытаў яго вершы, а вось так паціснуць яму руку  не даводзілася.

## Частка трэцяя

### 1

– Паслухай, што піша І.Крашэўскі:

"Балоты вакол Пінска, мноства рэк і рачулак, якія перасякаюць край, вясновыя іх паводкі, якія патапляюць вялізныя прасторы, былі, верагодна, прычынай існуючага і цяпер падання, што некалі Чорнае мора распасціралася да самага Пінска; але нейкі магутны князь кіеўскі раскапаў горы і спусціў воды, якія імі затрымліваліся, чаму

на месцы мора засталіся адны балоты. У доказ гэтага прыводзяць якары, што знаходзяцца пры апрацоўцы палёў, але дзе гэтыя якары, калі і кім знойдзены – тое невядома...”

Сыракомля паглядзеў з цікавасцю на Кіркора, адпіў колькі глытkoў чырвонага напою, праказаў:

– Дзіўна, вельмі дзіўна... Палессе – былое Чорнае мора...

“... Доказы таго, што паданні аб якарах маюць фактычную высnову, знайшліся неўзабаве пасля таго часу, як Крашэўскі пісаў вышэйпрыведзеныя радкі. Не толькі якары, але і цэлыя судны, накшталт невялікіх караблёў, знойдзеныя былі ў даліне Прыпяці, якая звычайна называлася географамі і статыстыкамі Беларускім, альбо Пінскім, Палессем, жыхароў якога называюць Палешукамі...

Даволі важны дакумент мае археалагічнае аддзяленне Кракаўскай акадэміі навук – а менавіта, сапраўднае, уласнаручнае пасведчанне ад 26 ліпеня 1818 года, Мадэста Грынявіцкага, прафесара дагматычнага багаслоўя і пракуратара, у тым, што – “па сведчанні відавочніка Бенядзікта Арачэўскага, у 1786 годзе, у Мазырскім павеце (Мінскай губерні), на мяжы Оўруцкага павета (Валынскай губерні), недалёка ад вёсак Дрункі і Малочкі, якія належалі Оўруцкаму рымска-каталіцкаму абацтву, у балотах знойдзена была пярэдняя частка вялікага карабля, акаваная жалезам. Даўжыня жалеза складала каля 13 аршынаў. Яно было прывезена ў оўруцкі манастыр, дзе яго аглядалі ўсе жыхары Оўруча і дваране, якія з’ехаліся ў той час з нагоды межавай цяжбы спаміж Празорамі і Аскеркай. Арачэўскі быў вікарным свяшчэннікам у оўруцкім манастыры, настаяцелем жа манастыра, абатам быў Іасафат Ахоцкі”.

Мы прывялі гэтыя  факты, як нікому не вядомыя  і цалкам дакладныя. Апісання знойдзенага карабля няма, як і няма і звестак, што з ім зрабілася, але, ва ўсякім выпадку, сама даўжыня жалеза, знятага з пярэдняй толькі часткі карабля, у 13 аршынаў, даказвае, што калі гэта і не быў карабель, то ва ўсякім выпадку – вялікае судна, і што цяперашнія балоты складалі калі і не мора, то адно вялікае возера. Вёскі Дункі і Малочка размешчаны на ўскраіне непраходных балотаў, якія цягнуцца па абодвух баках Прыпяці.

Уласна Палессе, гэта значыць даліна Прыпяці, займае тры паўднёвыя паветы Мінскай губерні: Пінскі, Мазырскі і Рэчыцкі; але па аднароднасці глебавых умоў да гэтага ж Палесся адносяць усю прастору, якая пачынаецца за Слонімам, Слуцкам і Бабруйскам і цяг-

нецца на поўдзень да Ковеля, Клеваня і Радамысля, уключаючы таксама ўсю мясцовасць ад Буга да Дняпра, паміж Кобрынам і Лоевам. Уся гэтая плошча называецца Палессем; яна ўласна і складае катлавіну ракі Прыпяці, левы бой якой называецца Беларускім, альбо Пінскім Палессем, а правы бераг носіць назву Валынскага Палесся".

Сыракомля адарваўся ад тэксту, пацікавіўся ў Кіркора:

– Ты, Адам, мусіць, прайшоў пехатой гэтыя мясціны?

Кіркор паглядзеў на Віктара, які сядзеў за круглым сталом і не ўстраваў у гамонку, прамовіў:

– Ды не толькі я, а і Віктар Каліноўскі стаптаў не адну пару лапцяў па тых дарогах...

Віктар усміхнуўся, рады, што Кіркор не адмаўляе і яго ўдзелу ў гісторыі Палесся.

– Увесь басейн Прыпяці з мноствам прытокаў, азёраў, ручаёў, якія ствараюць бязмежную вільготнасць, здаўна вядомыя пад агульнай назвай Пінскіх балотаў. Вялізная гэта плошча мяжуе з поўдня з Валынскаю губерняй і Галіцыяй, з захаду – з сярэдзінай Гарадзенскай губерні, з поўначы – з узвышанай часткай Мінскай губерні і з усходу – з водападзелам па вярхоўях прытокаў Бярэзіны і Пцічы. Даўжыня яе, з поўначы на поўдзень, ад вярхоўяў ракі Пцічы да вярхоўяў ракі Случ, па прамым кірунку складае больш за чатырыста вёрстаў; з захаду ж на ўсход, ад вярхоўяў да вусця Прыпяці больш як 600 вёрстаў. Уся плошча даліны займае прастору да дваццаці тысячаў вёрстаў.

Рака Прыпяць мае да такой ступені свой адметны характар, што яе справядліва адносяць да найбольш цудоўных рэк не толькі Расіі, але і ўсёй Еўропы. Яна выцякае ў дваццаці вярстах ад Буга, недалёка ад мястэчка Апаліна, у Валынскай губерні. Прымаючы ў сябе 123 ракі і рэчачкі, мноства балоцістых ручаёў, злучаючыся пры дапамозе каналаў з азёрамі, яна цячэ няправільнымі галіністымі выгібамі на працягу 770 вёрстаў. Прыпяць нават назваў мае некалькі. Так, ад возера Любяць да возера Нобель, на працягу дваццаці вёрстаў, яе называюць Пірок; потым – Стаход, Струмень. Сапраўднае сваё імя, ужо нязменнае, гэта значыць, Прыпяць, яна захоўвае ад злучэння з Ясельдаю, ці Яцалдаю, каля вёскі Качановічы, паблізу Пінска, і потым ад вёскі Бярэчы, дзе яна зліваецца з ракою Стыр. Такім чынам, тры ракі Струмень або Прыпяць, Ясельда і Стыр, зліваючы свае воды, даюць пачатак ужо

нязменнай назве Прыпяць. Берагі Прыпяці, нізінныя і балоцістыя, маюць грунт рыхлы, вільготнасць якога ніколі не высыхае. Ёсць, аднак, некаторыя выключэнні ў адносінах берагоў. Так у Мазырскім павеце, ад вёскі Дарашэвічы, левы бераг даволі высокі і стромкі. Недалёка ад упадзення ракі Пцічы, ля мястэчка Скрыгалава, прыбярэжная мясцовасць з правага боку робіцца стромкаю, спадаючы к рацэ абрывамі. Шырыня ракі ад дваццаці сажняў пры вярхоўях дасягае каля двухсот сажняў. Глыбіня вельмі розная і на невялікіх працягласцях часта зменлівая, так што ад аднаго аршына глыбіня нечакана дасягае некалькі сажняў...

– Якая падрабязнасць! – здзіўляўся Сыракомля, адпіваючы маленькімі глыткамі гарачую гарбату, якую паслужліва прынесла гаспадыня і сама вярнулася ў свой пакой. – Ва ўсім патрабуецца дакладнасць. У маіх радках, у тваіх апісаннях гэтай дзівоснай ракі... Прачытаўшы твае назіранні, я абавязкова праплыву па гэтай чароўнай рацэ, нібы па моры...

– Мы не можам пералічыць тут усе шматлікія прытокі Прыпяці, рэкі, рэчкі, ручаі, якімі зрэзана ўся балоцістая даліна Прыпяці. Пакажам толькі на Ясельду, якая прымае паўднёвую частку Агінскага канала, між тым як да прытока яе, Піне, прымыкае канал Дняпроўска-Бугскі; далей на Стыр, Гарынь і Пціч як па вельмі значныя па сваёй працягласці.

Сцвіга праходзіць па Мазырскім павеце сто дзве вярсты. Убарць цячэ на працягу 240, у Мінскай жа губерні – толькі 90 вёрстаў.

Аб галоўных азёрах, Выгавічах і Князь, або Жыд, мы ўжо згадвалі. Выгавічы ўваходзяць у сістэму Агінскага канала і размешчаны сярод балот на такой узвышанасці, што служаць рэзервуарам як для Ясельды, так і Шчары, прытока Нёмана, які ўваходзіць таксама ў сістэму Агінскага канала. Але акрамя гэтых азёраў, як ужо мы ведаем, знаходзіцца мноства іншых размешчаных пасярод недаступных балот, а таму не маючых нават назваў.

... У паўночнай частцы Мазырскага павета, паблізу мяжы са Слуцкам, часткова і ў Пінскім, знаходзіцца славутае балота Грычын, якое велічна называецца ***залівам былога мора***, аб якім мы ўжо згадвалі. Балота Грычын найбольш адметнае ад іншых тым, што яно адкрытае і непраходнае. Паверхня яго займае не меней пяцісот вёрстаў. Часам толькі ў вельмі гарачае лета яно даступнае для зносінаў, але і то толькі для вопытных старажылаў і не інакш як па вадзе.

На працягу 450 вёрстаў у тым жа Мазырскім павеце цягнецца іншае балота, пачынаючы ад левага берага Случы ў паўночным баку Мазырскага павета. Сярод гэтага балота знаходзіцца возера Князь, альбо Жыд, паблізу якога знаходзяцца паселішчы Пухавічы і Ляхавічы, адзіныя аазісы, што ажыўляюць гэтую пустынную краіну. На межах гэтага балота знаходзяцца паселішча Князь-возера, вёска Дзякавічы і чатыры іншыя вёскі. Паміж гэтымі паселішчамі зносіны наогул вельмі цяжкія і не заўсёды магчымыя.

Чацвёртую частку прасторы Мазырскага павета складаюць непраходныя нізіны, пакрытыя лясамі і балотамі. Толькі левы бераг Прыпяці, а таксама навакольныя мясціны Мазыра і Турава найбольш узвышаныя і зручныя для жыхарства. У астатніх жа частках паселішчы аддалены адно ад другога на дзясяткі вёрстаў і пазбаўлены іншы раз працяглы час усякіх з сабою зносін. Нават паблізу Турава, паміж граніцаю Пінскага павета і ракою Убарцю, на 5.680 дзесяцінаў зямлі выпадае ледзь адна вёсачка. Мясцовасць жа, прарэзаная ракою Сцвігаю, пакрытая бясконцымі лясамі і балотамі, што носяць назву Волхавых, – зусім не заселеная, так што на прасторы дзевяноста вёрстаў у даўжыню і да пятнаццаці ў шырыню няма ніводнай населенай мясцовасці. Наогул у Мазырскім павеце, на прасторы 1.468.000 дзесяцінаў знаходзяцца толькі 362 населеныя пункты...

У Рэчыцкім і Бабруйскім паветах шмат балот, але як па займанай прасторы, так роўна і па глебавых умовах, яны не такія знямянальныя...

– Цікава, вельмі цікава, – уздыхнуў Уладыслаў Сыракомля, – ты, Адаме, адкрыў шмат чаго цікавага. Пра Палессе я шмат чаго не ведаю, хаця шмат прысвяціў гэтай краіне сваіх радкоў...

– Віктар, што з гэтай нагоды гаварыў прафесар Эйхальд у сваёй геагнозіі? Дадай свае радкі...

– А шаноўны прафесар вось што гаворыць, – адразу падключыўся да тэмы Віктар Каліноўскі: – *Знямянальны пескавы стэп у Палессі, гэта значыць паўночнай частцы Валынскай губерні, дзе, асабліва ў наваколлях горада Ковеля, сустракаецца сыпучы пясок, як на марскім беразе Балтыйскага мора, і далей балоцістая нізіна па Пінскім і Мазырскім паветах. Уся гэтая непраходная пескавая і балоцістая раўніна складае сляды вялізнага возера, існуючага там у час Герадота, у зямлі старадаўніх будзінаў і злучанага некалі з Балтыйскім морам...*

Сыракомля задумліва пахітаў галавой, штосці зрушылася ў яго душы, прымушала яе працаваць, але словы яшчэ драмалі ў ім, чакаючы свайго часу...

– Дадам яшчэ, – адкінуўшыся на мяккім крэсле, Кіркор пацёр скроні, – што пінчукі і наогул палешукі – аўтахтоны гэтай незвычайнай краіны – Краіны працавітых і таленавітых Палешукоў, яны – нашчадкі старадаўняга славянскага племені будзінаў, якія засялялі, па словах і сцверджаннях таго ж Герадота, усю краіну ад вярхоўяў Прыпяці да самага Дона. Гэта пацвярджаюць працы і даследванні прафесара Эйхвальда і Сянкоўскага, і мы ім не можам не паверыць...

– Мы шмат чаго адкрылі для сябе, калі з братам адправіліся ў вандроўку, – прамовіў Віктар. – Пераканаліся ў тым, што палешукі, як і ўсе беларусы, народ незвычайны, унікальны... Яшчэ пад канец мінулага стагоддзя англічане звярнулі асаблівую ўвагу на Пінскае Палессе, якому прадказвалі будучыню. Была ўтворана кампанія, якая купіла Тураў, і распачала неўзабаве свае дзеянні на аснове шырокай эксплуатацыі... Умяшаўся шчаслівы выпадак, нехта з памагатых цара далажыў яму аб незразумелых, нават шкодных дзеяннях прышлых людзей. Імператар Павал I спыніў работы брытанцаў і сваім указам не дазволіў здзейсніцца іх прадбачлівым планам. Так што, напэўна, мы хоць аднаму самадзержцу павінны быць удзячныя, што збярог, не аддаў нашыя ўнікальныя мясціны ў чужыя рукі...

Віктар Каліноўскі ўспамінаў, як яны з братам здзіўляліся побыту балотных людзей, іх дасціпнасці, мудрасці... Жыццём наканавана было гэтым людзям барацьба і змаганне з прыродаю. Тое наклала на палешука свае адмеціны і асаблівыя рысы, устойлівыя погляды, разуменне свайго прызначэння, а ў дадатак яшчэ выпрацавала без пабочнага ўдзелу навукі і цывілізацыі, школы, нават таго жывога слова, якое даходзіць да слыху балотнага чалавека толькі ў выключных абставінах і варунках.

– Ці часта вы бываеце ў мястэчку? – папыталіся браты Каліноўскія ў селяніна, спрэс у зрэбным ільняным адзенні, у лапцях, які з гонарам трымаў галаву і, відаць было, ведаў сабе цану.

– У якім мястэчку? – перапытаў абарыген. – У суседняй вёсцы? Да Гарысвятаў больш як пяцьдзясят вёрстаў... Гадоў з дваццаць не наведваў суседзяў – няма калі, прызнацца, клопату аж па самае горла.

– Ды не, у павятовым месцы. Дзе начальства сядзіць царскае...

– Не, паночкі, не бываў там ніколі. Ды і навошта? Мне і тут добра.

– А ты хоць ведаеш пра цара, пра тое, што мужык збіраецца скінуць з сябе хамут прыгону?

– Хамут? Хамут на кані, а не на чалавеку…

Пацісную плячыма паляшук, перахрысціўся, нахіліўшыся да зямлі.

– А ў царкву хоць ходзіце? Ёсць у вас царква?

– Царквы няма, але святар навучыў нас маліцца, і мы молімся іконе Божай маці і Святой Тройцы. Яны ўстаноўлены ў самай прасторнай хаце...

– І які твой самы галоўны занятак, шаноўны спадар? Чым сям'ю корміш? – пацікавіўся Кастусь. – Якімі рамёствамі валодаеш?

Чалавек хмыкнуў, пацісную плячыма, заўсміхаўся:

– Рамёствамі? А ў нас няма рамёстваў... Спакон вякоў мы земляробы і жывёлаводы, паляўнічыя і рыбаловы, дрывасекі і пчаляры, – кім хочаце можам быць. Усё ўмеем рабіць.

– А чытаць-пісаць хоць умееце?

-– А як жа без граматы, умеем. Акрамя Святога Пісання мы яшчэ “Шляхціца Завальню” чытаем ці вершы Сыракомлі... Але то ўжо зімой, калі трохі вольнага часу нам Бог выдзяляе...

Дзівіліся браты, разважалі між сабой – калі пасяліць на беразе Прыпяці чалавека з іншых мясцінаў, не кажучы пра тыя, дзе ёсць такая-сякая цывілізацыя, той і паўгода не пражыве, загіне. Паляшук жа трывучы і жывучы. Яму не страшныя ні спякота, ні лютыя марозы.

Паляшук перамагае прыроду, але не вораг ёй, а памочнік. Бярэ заўсёды меней ад яе, чым аддае. У душы ён баіцца нечага новага, нейкага наваўвядзення ці перамен, – ён кансерватыўны па сутнасці. Ён – дзіця прыроды, і таму ніколі не парушаў запаветы сваіх продкаў як у правах і звычках, так і ў вядзенні сваёй гаспадаркі і нават у тых занятках, якія даюць яму прыбытак.

Жывучы, як і яго продкі, у глухіх лясах, знаходзячыся сярод непраходных балотаў, багны, дрыгвы, ён не ведае ні пра якія паўстанні і закалоты... Нішто і ніхто не можа паўплываць на гэтых балотна-лясных насельнікаў, для якіх свет іх уяўлення заканчваецца за плотам роднай вёскі...

Калі хадзілі з братам па хатах, то адзначылі, што жыллё ў палешукоў амаль аднолькавае, – няхітрае і простае. Так, курныя хаткі, але пращторныя, раскошныя. У хаце звычайна размяшчаецца ўся сям'я, нават жывуць з малой жывёлай – цялятка і парсюк, куры і гусі. Але сустракаліся хаты, складзеныя з дзвюх і клеці, радзей з асаблівымі перагародкамі. Але ва ўсіх галоўная гаспадыня на ўсе гады – вялізная печ. Каля яе – драўляная ляжанка.

Пасярод хаты – вялізны стол і лавы. Ад печы да самай сцяны зроблены дашчаты памост – агульны на ўсіх ложак.

– То ж вы з дарогі, – апамятаўся селянін, – а мусіць жа галодныя... То пайшлі да мяне ў хату, Аўдоля ўжо тым часам абед рыхтуе...

Браты не адмовіліся ад запрашэння.

Аўдоля поралася ля печы, не ведаючы нават, што Міхей прыйдзе з гасцямі. Убачыўшы з Міхеем незнаёмых людзей, адразу кінулася накрываць на стол.

– То пачакайце колькі хвілінаў, – вінавацілася яна. – Я хуценька...

Віктар падышоў да камінка, пачаў разглядаць яго.

– Гэта лучнік, – патлумачыў Міхей. – Зроблены з тоўстых лубкоў, вузкая адтуліна ўверсе і шырокая ўнізе. А вунь, у столі, адтуліна, праз яе і выходзіць дым з хаты. На жалезную рашотку мы кладзем паленцы і стрыжань смалістай сасны – смаляк, запальваем і атрымліваецца яркае асвятленне: хоць іголкі збірай...

А Аўдоля ставіла ўжо на стол, выняўшы з печы, тушаную дзікую качку, рабчыка, бакаса, і ў дадатак курапатку. Потым – смажаных уюноў, вялізнага шчупака... Абед на дваццаць чалавек, таму Віктар запытальна паглядзеў на гаспадара:

– Яшчэ хто прыйдзе?

– Ды не, толькі мы. Вы здзіўляецеся, што шмат страў на стале? Гэта яшчэ мала. Мы любім паесці, як і любім папрацаваць. У нас усяго ўдосталь. Прадаваць няма каму – у горад, як я сказаў, мы не ездзім, няма патрэбы. Хіба зрэдку з'явіцца жыд-купец, дык і ён амаль не купляе – і наловіць сабе і курапатак, і цецерукоў... Той жа іўдзей дае нам порах і зарады, але мы шкадуем траціць іх. Хіба толькі на лася ці на дзіка, а так сваімі рукамі зловім чаго хочаш. На тую ж манькуту...

– А гэта што такое?

– Манькута? – перапытаў Міхей. – Падманка – чучала птушкі. Насыплем каля падманкі грэчкі,назлятаюцца цецерукі дзясяткамі

а то і сотнямі, а мы потым на іх мярэжу кідаем... Бяры тады голымі рукамі. Нашто страляць? Мы іх солім у бочках, вэндзім, як вяндліну. І калі нехта адпраўляецца ў Вільню ці іншыя гарады для збыту рыбы ці дзічыны, аддаем ім.

Госці накладвалі кожны сабе той стравы, якая кідалася ў вочы. Ніколі яны не бачылі такога багатага стала, такіх пахкіх і смачных страваў. Стараліся браць усяго патрошку, каб паспытаць усе прысмакі.

– Я прыгнала нашых уцекачоў, у хляве зачыніла, – паведаміла гаспадару.

Кастусь запытальна паглядзеў на гаспадыню, чакаў, калі патлумачыць што да чаго. Жанчына ўсміхнулася:

– То нашыя парсюкі... Як толькі пачынаюць падаць жалуды, мы іх адпраўляем на гэты пачастунак. З усіх хатаў іх назбіраецца пад сотню, а то і больш... Дык яны так прывыкаюць на волі, што потым і дадому вяртацца не хочуць. Мужыкоў яны не прызнаюць, а вось нас, жанчын, якія іх кармілі, успамінаюць нашы галасы і адгукаюцца, мы іх тады і прыводзім дахаты... Маіх усіх было пятнаццаць, і ўсе цэлыя...

– Пятнаццаць? – перапытаў Віктар. – А зімой чым корміце?

– Ды хапае жыта і бульбы, гарбузоў і кукурузы... Абы елі.

– Міхей, а калі хто захварэе, як паклікаць доктара?

– А навошта? У нас ніхто не хварэе... А калі хто так, на жывот ці гарачку, то ёсць травы, ёсць бабуля-знахарка... Калі хто нараджаецца, то кожны мужчына ўмее прыняць роды. Я дык пяцярых прыняў у сваёй Аўдолі. Мы ўсё ўмеем – мы самі сабе лекары, самі і павітухі. Бярыце, даражэнькія, вось уюны каштуйце, смаката незвычайная... А вы ведаеце, шаноўныя, што сушоныя ўюны развозяць ад нас па розных гарадах, – у Кіеў і Вільню. Казалі нам, што яшчэ чатыры стагоддзі назад у Вільні, на Вялікай вуліцы, якая называецца “Амбары”, пінчукі прадавалі свае тавары – сушаную і вэнджаную рыбу, сала, кумпякі, салёныя качкі ў бочачках, грыбы сушаныя... А яшчэ – воск і мёд, палатно і асаблівую тонкую тканіну для завешвання вокнаў, каб не ляцелі мухі і камары... А якія зімовыя шапкі цёплыя выраблялі! А жыхары Давыд-Гарадка і Петрыкава прысылалі самаробныя непрамакальныя боты, апрацаваныя дзёгцем. То вы думаеце, што калі паляшук, дык толькі ў лапцёх ходзіць? Ды не, ён як пан на сваёй зямлі, што летам, што зімой... У мяне вунь на кожнага па пары, але і ад лап-

цяў не адмаўляемся: пахадзіць па цёплым балоце летам – адна асалода…

Потым Аўдоля прынесла ў глінянай місе салёныя рыжыкі, у другой – баравічкі. Паставіла перад братамі, ласкава ўсміхалася, радая, што яны не адмаўляюцца ад яе страў.

– У нашай вёсцы людзі дажываюць да ста дзесяці гадоў, – тлумачыў ахвочы да слоў Мацей, выціраў сурвэткай губы ад тлушчу. – Так, цяжкая праца, непасільная, бо прыгонныя мы, дарма, што вольныя... Але вольныя ўмоўна, бо мы ў балотнай клетцы, куды пасяліліся па добрай волі, адкуль няма ні выхаду, ні праходу... На сухоты ў нас ніхто не хварэе. Напэўна, балоты нашыя лекавыя, прыдатныя для жылля.

– І наколькі прыгоннае права дае пра сябе знаць? – не ўтрымаўся, папытаўся малодшы Каліноўскі. – Ці не хацелі б вы быць зусім-зусім вольнымі, не адрабляць паншчыну, быць самі па сабе?

Мацей прыжмурыў вока, хітранька усміхнуўся:

– Самі па сабе? А дзе гэта такое ёсць у свеце? Ёсць селянін і над ім пан, ёсць рабочы, а над ім фабрыкант, ёсць чалавек, няхай хоць цар, але і над імі – Бог. Не, браточкі, вольнымі мы ніколі не будзем, ні пры якой уладзе. Такога не можа быць. А прыгоннае права... Мы не выходзім на паншчыну, але аддаем частку з таго, што вырабляем. Мы ведаем, што мы ў пана Замошскага, але яго ніводнага разу не бачылі. І нам так добра, мы самі па сабе, як ты кажаш.

Кастусь дастаў з кішэні некалькі газетак, падаў Мацею.

– Гэтая газэтка для мужыкоў, для прыгонных мужыкоў. Раз ты, Мацей, кажаш, што валодаеш граматай, то я думаю, што ты прачытаеш яе сам, і потым прачытаеш іншым. Па ўсім краі паўстае мужык, каб пазбавіцца гэтага ярма – паншчыны, прыгоннага ўціску. Калі не можаце самі ўзяцца за косы і вілы, хаця ў нас ёсць і зброя, то мы просім, каб вы дапамаглі ў паўстанні. Памаглі тым, што ў вас ёсць – адзеннем, правіянтам.

Мацей прачытаў:

– “Му-жыцкая праў-да”.

Прабег вачыма па радках, перагарнуў, прачытаў унізе:

– Яська з-пад Вільні. Гэта хто – мужык, дваранін, пан?

Кастусь заківаў галавой:

– І мужык, і пан. Бо кожны з нас – пан свайго жыцця. Вось і ты – і паляшуцкі пан, і мужык-паляшук.

Мацей пахітаў галавой:

– Цікава гаворыш. Можа, ты і пісаў гэтую газэтку, га?

– Усё можа быць, Мацей. Дык як з маім пытаннем?

Гаспадар падпёр рукой сівую бараду, пашкроб яе тоўстым пальцам, задумаўся. Уздыхнуў, паглядзеў пільна ў вочы хлопцу. Гаспадыня, адчуваючы, што яе прысутнасць непажаданая, паднялася і выйшла з хаты. Чулася яе спрадвечнае "цып-цып-цып" – склікала курэй, сыплючы на зямлю пшаніцу і проса.

– Калі ўсе сяляне бяруцца за зброю, то ці можам мы заставацца ўбаку? Безумоўна, не... Мы не толькі будзем памагаць харчам, а і выдзелім некалькі дзясяткаў мужыкоў для паўстанцкіх атрадаў. Маіх трое сыноў возьмуць у рукі зброю. А ў іх ёсць свая зброя.

Кастусь здзіўлена і ўзрадавана паглядзеў на Мацея. Перад ім сядзеў не той чалавек, які быў паўгадзіны таму назад. Ён і галасам памяняўся, і паглядаў неяк інакш, больш строга ці што.

– Як я пазнаю, Кастусь, што прыйдуць людзі ад вас? Паперу якую-небудзь выдасі?

Кастусь дастаў маленькі аркушык паперы.

– Вось распараджэнне і загад аб прызначэнні цябе – Мацея Палескага – кіраўніком паўстанцкага атрада.

– Ты загадзя падрыхтаваў, як і ведаў, што я згаджуся? – падзівіўся Мацей, разглядаючы паперку.

– Ведаў. Спадзяваўся, што ты не адмовіш. Твой так пан сказаў – Замошскі.

– Замошскі?– акругліў вочы гаспадар. – Не можа таго быць!

– Можа, Мацей, можа. І ён уваходзіць у нашую падпольную рэвалюцыйную арганізацыю.

– Дзівосы! – паціснуў плячыма паляшук Мацей. – Дык справа паўстання вельмі сур'ёзная, спадар Каліноўскі?

– Так, вельмі і вельмі. Вось пагэтаму я прыехаў да вас у гэты, раней бы сказаў, Богам забыты край… Аж не, Богам падораны рай. Выдатны край! А цяпер нам, Мацей, пара. Да цемнаты трэба дабрацца да Навасёлаў. А там нас чакае новая дарога. Дзякуй за пачастунак!

Конь быў накормлены, на дарогу гаспадар даў мяшок аўса. А Аўдоля сабрала яды, поўны кашэль наклала, што і падняць было цяжка. Гаспадар прыладкаваў яго каля драбін, прывязаўшы вяроўкай да білаў.

– Добрай дарогі, Кастусь і Віктар! Няхай памагае вам Бог!

– І вам, Аўдоля і Мацей! Да пабачэння!

Віктар матлянуў пугай , і конік шпарка пабег па пясчаным узгорку; потым уехалі ў прыцемкавы тунэль, і чуваць было, як колы мясілі балотны глей, і ён прыліпаў да абадоў, потым спадаў, плюхаючыся, у балотную твань.

Канстанцін Каліноўскі застаўся задаволеным паездкай, але нешта прыгнятала яго ў душы, а што, сам зразумець не мог. Пры такім дастатку ён не ўбачыў у вачах палешукоў скруху ці гора, яны адчувалі сябе амаль вольнымі людзьмі, маючы што паесці і ў што апрануцца.

Толькі ці зразумеюць яны, што гэта ўсё часова, што расійскія валанцёры потым могуць іх абкласці такім аброкам і прыгнётам, што і дыхнуць не здолеюць…

Не дабраліся, дык дабяруцца да нетрыскаў палешукоўскіх, будуць насаджаць сваё, прынесенае з усходу, правіць і дыктаваць свае парадкі і законы…

Але ці трэба чакаць таго часу, калі прыпячэ палешуку, калі пачне зашморгвацца на яго шыі нябачная пятля? Тады будзе задужа позна.

Абуджаць іх трэба цяпер. Але хто будзе абуджаць? Ці знойдзецца шмат такіх людзей, якія змогуць дабрацца ў такія нетрыскі? Ды не толькі дабрацца, а і падабраць ключы да іх душаў, словы знайсці адпаведныя, пагаварыць з імі на іх мове.

Ён адкрыў для сябе невядомае Палессе, невядомых дагэтуль палешукоў, невядомую балотную краіну, поўную загадак і дзівосаў, духоўнай моцы і сілы, супраціву і цярпення, якія драмалі, чакаючы свайго зорнага часу…

Заседзеліся ў Кіркораў дапазна. Гаворцы, здавалася, не было канца.

Гелена раз пачаставала сваіх гасцей, і другі, Адам Кіркор усё не адпускаў Каліноўскіх.

Кастусь прыкмеціў, як пераміргнуліся цёпла і затоена Сыракомля і Гелена. Убачыў і тут жа адвёў позірк, схіліў галаву і глядзеў пад ногі.

“Няўжо паміж імі нешта існуе? – міжволі падумаў, не падымаючы галавы. – Добра было б далучыць і іх да агульнай працы. Найбольш для гэтага падыходзіць, зразумела, Гелена, хаця Сыракомля сваімі вершамі даўно далучаны да рэвалюцыйнага руху... Трэба выбраць зручны момант і пагаварыць пра гэта з гаспадыняй. Але без сведкаў, адзін на адзін...”

.................................................................................................

Адбылося тое зусім нечакана.

Ідучы ў тэатр, Гелена нечакана сустрэла на вуліцы Канстанціна Каліноўскага. Ён спяшаўся некуды, быў унураны ў сябе, нікога не заўважаў. І знаходзіўся на процілеглай вуліцы.

– Канстанцін! – пагукала яна. – Кастусь!

Ён спыніўся, не зразумеўшы, адкуль голас. Убачыў жанчыну, накіраваўся да яе.

– Добры дзень, пані Гелена! Добры дзень! Даруйце, што не заўважыў вас і не павітаўся першы...

Жанчына заўсміхалася, гледзячы ў яго блакітныя вочы, адзначаючы, што яны ў яго трохі асіметрычныя, але гэта дадавала яго абліччу нейкую глыбокую адметнасць.

– Вы з-за сваіх рэвалюцыйных думак зусім перасталі бачыць навакольны свет. Бачу, што вы спяшаецеся, таму адыму ў вас усяго колькі хвілінаў...

Яна павярнулася, зрабіла крок, даючы тым самым зразумець, што яны павінны не стаяць на месцы і людзі не скіруюць на іх увагу.

– Вы здзівіліся, калі я сказала пра вашыя рэвалюцыйныя думкі... Не здзіўляйцеся. І бачыла, як вы перахапілі мой погляд, калі я глядзела на Ўладыслава. Усё прыкмячаеце.

Ён маўчаў, не ведаючы, куды хіліць вядомая актрыса.

– Я хачу далучыцца да агульнай вашай справы. Я па сіле магчымасці магу выконваць вашыя даручэнні. Па тэатральных клопатах я наведваю Варшаву і Пецярбург, Парыж і Лондан... Не так часта, але наведваю.

Каліноўскі маўчаў, чакаў, што яна скажа далей.

– Вы можаце мною перадаваць вашыя паперы вашым давераным людзям. А я – прывозіць ад іх і перадаваць тут, на месцы. Дык як, дваранін Каліноўскі?

– Вы апярэдзілі мяне, паважаная пані Гелена... – Кастусь не паварочваўся да яе, але іх плечы амаль датыкаліся адно да аднаго, і голас яго быў строгі і адначасова даверлівы. – Я сам хацеў прапанаваць вам удзел у рэвалюцыйнай справе яшчэ тады, калі знаходзіўся з братам у вас.

– Які мілы і харошы ў вас брат! Як высока яго ацэньвае Кіркор!

– Дзякую, пані Гелена! Ён паказаў мне рэвалюцыйны шлях, і не толькі мне. А вы самі прапанавалі свой удзел. Дзякую, вельмі дзякую.

– На наступным тыдні ў нас спектакль. Я запрашаю вас, Вікенцій Канстанцін.

– На жаль, заўтра ад'язджаю ў Пецярбург. Але пазней абавязкова пагляджу спектакль з вашым удзелам.

Яны спыніліся перад уваходам у тэатр.

Ёй пара было ісці на рэпетыцыю, а яму – спяшацца на тайную сустрэчу з сябрамі.

Гелена падала яму руку. Ён дакрануўся да яе губамі, сціснуў, паглядзеў у вочы, прамовіў:

– Рэвалюцыйная барацьба – рэч рызыкоўная і адказная.

– Ведаю, дарагі мой дружа, ведаю... І тым не менш я рашуча станаўлюся ў вашыя рады.

– Дзякую, пані Гелена! У найбліжэйшы час у мяне будзе для вас першае даручэнне. У Варшаве будуць чакаць вашага прыезду...

На знак згоды яна маўкліва схіліла галаву.

2

Ноч…

Цішыня…

Стома ахутвае цела, ныюць ногі і курчыць усё цела. Прыкінулася да яго хвароба. Колькі дзён ляжаў у гарачцы. Гаспадыня прыводзіла знаёмага доктара, баючыся не наклікаць бяды на кватаранта.

Акрамя прастуды ў яго прачнулася яшчэ і тая хвароба, на якую пакутаваў у Пецярбурзе. Зноў нервовы зрыў, і ён не памятаў, што гаварыў і з кім, на каго сварыўся... Апошнія невясёлыя падзеі наклалі адбітак на яго здароўе і душэўны стан.

Нікога не бачыў, не чуў, адно махаў рукамі, адбіваючыся ад некага, – то пагражаў, то ўмольваў не чапаць каханую, а то зноў абураўся на няўважлівасць тых, хто рабіў яму балюча…

А перад гэтым наведваў то адну кватэру, то другую. Ведаў, што за ім палююць царскія шпікі, стараўся не трымацца навідавоку. У памяці галасы, воклічы, ціхія патаемныя перашэптванні. Вельмі ж хацелася, каб прыйшла да яго Марыська, – яму б адразу стала лягчэй, але ён не мог сябе прымусіць, каб ёй перадалі яго запрашэнне. Проста не меў на тое права – і за ёю маглі сачыць...

Хвароба трошкі адпусціла, лягчэй стала дыхаць, і не так кружылася галава. Колькі ён праляжаў у беспрытомнасці, колькі прай-

шло часу з таго моманту, як зваліўся ў ложак? Што адбылося за гэты час?

"На якой я цяпер кватэры? – Каліноўскі агледзеў пакой, успамінаючы, калі ён перабраўся сюды. – Так, дом на Зарэчнай вуліцы. Маўклівая гаспадыня, не задае ніколі ніякіх пытанняў..."

Прыходзіў цемначы да яго Юзэф Каліноўскі.

Закранула за жывое размова. У душы Кастусь згаджаўся з ім, ведаў, што таварыш гаворыць шчыра і ад душы, але ўнутраны голас пратэставаў, не дазваляў схіляцца да сяброўскага папярэджвання.

– Зразумей, Канстанцін, далейшая барацьба і змаганне безнадзейныя. Ты сам сябе падвяргаеш небяспецы. Табе неабходна з'язджаць з Вільні, і пры тым неадкладна!

– Ты маеш рацыю, мой сябра! Але існуюць у жыцці такія рэчы, якія не падуладныя чалавечаму разуменню. На сёння можа і падыходзіць твая парада, але як яна будзе выглядаць праз дзесяць, пяцьдзясят, сто гадоў? На мяне ўскладзены абавязак, мяне паклікала рэвалюцыя, а вы абралі мяне быць яе правадыром, і таму прынятае агульнае рашэнне я не магу самавольна адмяніць, нічога ўжо не можа памяняцца, таму і Вільню я пакінуць не магу.

Сябра маўчаў, хмурыўся.

– І Мілевіч, і астатнія сябры раяць табе скарыцца ўраду і пакінуць дзейнасць, якую прадпісаў жонд. А ты сваёй уладай павінен вызваліць ад прызначаных пасадаў усіх асоб, якія лічацца ў арганізацыі. І ніхто цябе не папракне. І сумленне тваё будзе чыстае. Усе табе даруюць, Кастусь, дарагі наш рыцар свабоды, Воляй абраны!

Канстанцін кісла перакрывіўся тварам:

– А Бог? Бог мне не даруе, што не да канца давёў сваю місію.

– І Бог даруе, мой дарагі сябра. Таму ўсе агулам просім і заклікаем: уратуй сваё жыццё і жыцці астатніх, хто не ведае сёння, змагацца далей ці скласці галаву пад рулямі царскіх жаўнераў.

– Ды я сам сабе таго не дарую! – глуха прамовіў, амаль перайшоўшы на стогн, дыктатар паўстання, нахмурыўся, не глядзеў ужо на сябра, заця̆ўся ў сваім рашэнні, як скамянеў.

Доўга яны яшчэ спрачаліся ў той вечар. І то нават не спрэчка была. Абодва мелі рацыю.

– Арыштаваны паўстанцкі цывільны начальнік Ковенскага ваяводства Людвіг Дзічкоўскі. Ён жа, Людвіг, у прысутнасці спецы-

яльна падасланага Мураўёвым-вешальнікам палкоўніка Шалгунова, расказаў усё пра паўстанцкі цэнтр у Вільні.

– Адкуль ведаеш?

– Следчы паведаміў маёй знаёмай.

– І што ён адкрыў ім, спадар Юзэф?

– Яго словы – *“галоўнае праўленне Літвы, зразумела, існуе ў Вільні... І на сённяшні час абмяжоўваецца толькі ўпаўнаважаным камісарам Літвы і яго сакратаром, што вынікае з атрыманых апошніх папер, а хто займае галоўную пасаду – мне невядома, мяркую, што хто-небудзь з прысланых з Варшавы. На пасадзе ж сакратара, наколькі я магу меркаваць па почырку, – Вікенцій Каліноўскі. Ці ўжо можа быць, што Каліноўскі ёсць сам камісар, у такім выпадку сакратаром у яго – Цытус Далеўскі...”* Акрамя гэтага, Дзічкоўскі выдаў вядомыя яму віленскія яўкі, куды наведваўся ты і Далеўскі... Восьмага жніўня на явачнай кватэры ўдавы паэта Сыракомлі пры ўдзеле правакатара арыштаваны Цытус Далеўскі...

– Божа мой!..

Дыктатар ведаў, што ўдава слыннага паэта Паўліна Кандратовіч жыла ў Скапуўцы, у доме Шышкі. Колькі месяцаў Далеўскі пад прозвішчам Парфіяновіча жыў на Рудніцкай вуліцы ў доме Свянціцкай, на кватэры ў Грагатовічаў. Кватараваў у яе раней і ён, Кастусь. З ёю жыла Юзэфа Грагатовіч, яе дачка Марыя, а таксама пастаянна жыла ў іх дзяўчына Браніслава Сідаровіч.

– І вось што яшчэ. У тым жа Ковенскім павеце, непадалёк ад мястэчка Вількі, на беразе Нёмана, арыштаваны рэвалюцыянер Антанас Мацкявічус і пакараны смерцю. А ў Вільні на Лукішскай плошчы павешаны Ігнацій Здановіч...

– Што Далеўскі?

– Далеўскі трымаўся мужна. Мураўёву следчая камісія па выніках следства данесла наступнае: *“Нягледзячы на ўсе яўныя доказы самага цеснага знаёмства і супрацоўніцтва з Канстанцінам,* – маецца на ўвазе з табой, – *Далеўскі аб стасунках сваіх з ім і аб месцы яго знаходжання нічога не выказаў”.* А нядаўна часовы палявы аўдытарыят пры штабе войскаў Віленскай ваеннай акругі разгледзеў справу Віленскай рэвалюцыйнай арганізацыі. Аўдытарыят прыйшоў да заключэння, што неабходна працягваць пошукі з мэтай прыцягнення цябе да крымінальнай адказнасці.

– Дзе цяпер Цытус?

Юзэф уздыхнуў, падышоў да акна, за якім распласталася шэрая ноч, прамовіў глуха:

– На Лукішскай плошчы спынілася яго жыццё. Расстралялі...

“Цытус, Цытус, дарагі мой сябра! Даруй мне, што не ўбярог цябе ад царскай кулі. Апошняя сустрэча ў Ямантаў, а потым калі мы прыйшлі сюды, на Святаянскія муры, не падказала мне, што я цябе выпраўляю ў апошнюю вандроўку. Табе я сказаў тады, што жыву тут пад імем Ігнацiя Вітажэнца... І, накіроўваючы цябе ў Магілёў, даў табе чарговае заданне – збіраць грошы на працяг паўстання... Ты паглядзеў мне ў вочы, як быццам развітваючыся са мной назаўсёды, цвёрда сказаў: “Я выканаю твой загад, Кастусь!..”

– А ў Менск адправіўся вопытны і хітры, як ліс, жандар палкоўнік Лосеў. Мураўёў загадаў яму раскрыць рэвалюцыйную арганізацыю і арыштаваць яе ўдзельнікаў...

Доўга яшчэ гаварылі з Юзафам. Калі пачаў збірацца сябар, прапанаваў:

– Застанься ў мяне. Глыбокая ноч на дварэ.

– Нельга, дружа, нельга. І табе раю пакінуць гэты куточак. Не выключана, што ўжо ведаюць пра гэты адрас. Будзь асцярожны.

– Добра, буду.

Сябры абняліся, моцна сціснуўшы адзін аднаго ў абдымках.

Мо з гадзіну прайшло, як Юзэф пакінуў кватэру. А яму чамусьці не спалася, хаця была ўжо глыбокая ноч. Растрывожыў душу сваімі паведамленнямі сябар.

Так, добрая вестка з Варшавы. Дыктатар паўстання Рамуальд Траўгут усё ж такі разаслаў дэкрэт (хаця ж і са значным спазненнем) пра “паспалітае рушэнне”. А ў ім адзначаецца, што на барацьбу трэба ўзняць увесь народ, толькі пры яго непасрэднай падтрымцы можна дабіцца перамогі. Пра што і сцвярджаў Кастусь Каліноўскі з першых дзён паўстання.

Другая прыемная навіна з Кёнігсберга. Як жадалася яму, часопіс стварыць не ўдалося, але затое Аддзел Літвы выпусціў першы нумар газеты “Glos z Litwy”. Прыемна, што ў нумары на першым плане выказана спадзяванне на новы ўздым паўстання, якое ўспыхне вясной. Колькі разоў чытаў і перачытваў любыя яго сэрцу радкі: ***“****Перакананыя ў святасці нашай справы, незалежна ад таго, што скажуць або пастановяць дыпламаты і ўладары гэтага свету, мы будзем далей весці справу вызвалення радзімы”.*

От каб то раней, от каб не было зусім рознагалоссяў і спрэчак!..

Іх жыццё як вышываны ручнік сялянскіх жанчынаў – на кужэльнай тканіне чырвоныя і чорныя ніткі... А ў іх чырвоныя і кужэльныя, выбеленыя, белыя... Як бел-чырвона-белы сцяг Ліцвініі... Мо таму і падказвала само жыццё, каб стварыліся *белыя і чырвоныя…*

………………………………………

Я чую званы Знаменскай царквы, яны ўплятаюцца ў агульны гул званоў касцёлаў Усіх Святых і Святой Ганны, – а я бачу той час, калі Якуб Ясінскі прадухіліў пагрозу заняцця Вільні расійскімі войскамі. У траўні 1794 года яны пацярпелі паразу ад яго дывізіі – каля вёскі Паляны. Дывізія Ясінскага ўдзельнічала ў бітве пад Ліпнішкамі, непадалёк ад Іўя. А праз месяц Тадэвуш Касцюшка адхіліў Якуба ад кіраўніцтва паўстаннем у Літве і Беларусі як радыкала. А яшчэ праз месяц прызначыў камандуючым войскамі на мяжы з Жамойцю і ўздоўж ракі Нараў. Узнагародзіў яго пяр-сцёнкам "Айчына свайму абаронцу". І тады ж прызначае яго камандзірам дывізіі ў войску Вялікага Княства Літоўскага...

Звініць звон, склікае вернікаў на ранішняе богаслужэнне.

Якуб Ясінскі – ваяр і палітык, паэт і інжынер. Як і Тадэвуш Касцюшка – генерал-лейтэнант. Ваяваў падчас ваенных дзеянняў у войсках Вялікага Княства Літоўскага паміж Расіяй і Рэччу Паспалітай. З'яўляўся сябрам радыкальнай групоўкі "Віленскія якабінцы", якая непасрэдна рыхтавала паўстанне. Яны заклікалі выкарыстоўваць тактычны вопыт французскай рэвалюцыі і адначасова выступалі за адмену прыгоннага права і за тое, каб Рэч Паспалітая аднавілася ў межах 1772 года. А калі пачалося паўстанне – 16 красавіка 1794 года, – непасрэдна ўзначаліў яго ў межах Княства.

А дваццаць чацвёртага красавіка Вільня ўжо была вызваленая ад маскоўцаў, і Якуб увайшоў у склад створанай Найвышэйшай Літоўскай Рады. Яго надзялілі пасадай каменданта Узброеных Сілаў Княства. Ён кіраваў стварэннем арміі – набіраў у яе шэрагі мяшчанаў, шляхціцаў, сялянаў... Ён, Якуб, быў, як я казаў, яшчэ і паэтам, – ён і пракламацыі для сялянаў пісаў вершамі. Ды што адметна і знамянальна, – на іх, мужыцкай мове, на ліцвінска-беларускай мове.

І таму шараговы люд выдатна разумеў напісанае. У мяне, у маім архіве, знаходзіцца частка яго чарнавікоў – запісаў яго паэмы "Спрэчкі", "Цяньця". Я не толькі вучыўся ў яго пісаць, а і вучыўся жыццю…

Загінуў выдатны паэт, сябар і паплечнік Тэда, абараняючы Прагу.

Шмат якіх дакументаў захоўваецца ў нашых архівах. Мы іх вывучаем, аналізуем.

… Яны сустрэліся ў парку на ўскраіне Вільні.

Паціснулі адзін аднаму рукі, селі на лаўку ў зацішку старых ліп.

Сярэдзіна траўня. Ужо бярозы выпусцілі першыя ліпкія лісцікі, і іх абуджальны пах вітаў у паветры. Усё дыхала жыццём, трывожным прадчуваннем немінучага...

Кастусь глядзеў у засмужаную далеч, маўчаў.

– Што скажаш, Эразм?

Замест адказу Заблоцкі ўзнёсла прамовіў:

– Якое харошае надвор’е, праўда?

– Так, ранняя вясна ў гэтым годзе. Для нашай справы гэта добра…

– Так, добра… Ты ж ведаеш, што атрад Духінскага і Урублеўскага ўступіў у бой з царскімі войскамі. Яны знаходзіліся каля вёсак Валілы і Саколда, што ў Беластоцкім павеце… Змагаліся мужна, паказалі сваю сілу і імкненне перамагчы, але…

Дыктатар уздыхнуў, павярнуўся да сябра, паглядзеў яму ў вочы:

– Тое, што людзі Духінскага пацярпелі паразу пад Саколдаю, можа, і не так страшна, як паспелі абвясціць расійскія газеты. Але кепска другое: няўдача адмоўна падзейнічала на шараговы народ, які браў удзел у паўстанні. Але спачуванне да нашай святой справы не згасла.

Нехта кашлянуў непадалёку ад іх, і Эразм міжволі азірнуўся.

– Усё так, Кастусь! Горш другое – атрады Зыгмунта Сeракоўскага таксама доўга не пратрымаліся. Тры дні мужна змагаліся касінеры, паказалі, што могуць процістаяць царскай сіле. Але… Серакоўскі трапіў у палон…

– Шкада, вельмі шкада. Шкада і тое, што замест віленскага генерал-губернатара Назімава прыбыў новы галоўны начальнік краю Мураўёў. Крыважэрная асоба, бязлітасная. Хаця лічыць сябе дзекабрыстам. У яго неабмежаваныя паўнамоцтвы. Дык як заўтра – едзем?

– Так, нам неабходна тэрмінова правесці рэвізію дзейнасці як паўстанцкіх уладаў, так і навядзення парадку ў самой арганізацыі.

– У якія паветы паедзем?

– У Слонімскі, дзе пад Мілавідамі  знаходзяцца атрады палкоўніка Аляксандра Лянкевіча. І ў Ваўкавыскі. Ды заадно і да бацькі твайго ў Якушоўку завітаем. А то ты даўно праведваў родных.

– Брычку раздабыў?

– Так, у памешчыка Андрыеўскага. Я буду чакаць цябе каля касцёла святой Алены а шостай гадзіне.

– Добра, Эразм. Да заўтра.

І першым падняўся з лаўкі.

Эразм доўга глядзеў яму ў след, думаючы пра сваё.

"Які, братка, характар у цябе! Узваліў ты, Вікенцій-Канстанцін, на свае плечы ой які груз... Хаця б цябе заўтра не напаткала расчараванне… Не ўсё ж будзе добра, не ўсё гладка, бо не рэгулярная армія будзе ваяваць з царскімі войскамі, а сяляне і шляхта, якія ніколі не трымалі зброю ў руках…"

… Ноччу ліў дождж, таму дарогі раскіслі, скрозь – калюжыны.

Але коні спраўна цягнулі брычку. Заблоцкі не падганяў іх, ведаючы, што рызыкоўна тое рабіць, – ашчаджаў і коней, і брычку…

Дыктатар найбольш маўчаў, хмурыўся. Эразм стараўся не назаляць яму гутаркай, бо перад гэтым даволі падрабязна пра ўсё пагаварылі.

Спачатку завіталі да памешчыка Спірыдовіча. Ён аказаўся дома.

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь!

– То ўзаемна!

Гаспадар запрасіў прыезджых у хату.

Кастусь адмовіўся і папытаўся:

– Як у вашых мясцінах, спадар Спірыдовіч?

– Ды быццам нармальна. Зброю ўсю не падвезлі, але карчмар Вонзель заўтра паабяцаў даставіць па прызначэнні.

– Як у атрадзе з дысцыплінай?

– Па-рознаму… Большасць – дысцыплінаваныя, але ёсць і такія, якім хочацца пагуляць у вайну…

– Вось вам інструкцыі. А вось "Мужыцкая праўда". Прачытайце людзям.

– Гэта добра, што вы газэтку прывезлі. З ёю лягчэй гаварыць з народам.

Каліноўскі паціснуў руку, паглядзеў дапытліва ў вочы:

– Мы спадзяемся на вас! А Завістоўскі далёка адсюль?

– Ды не, вунь за той дубровай маёнтак Аляксінец пакажацца. Гэта і ёсць уладанні памешчыка Завістоўскага… Ён ведае пра вас, чакае… З Богам!

– З Богам!

Але Завістоўскага не заспелі на месцы. Замест яго вёў размову аканом пана – высокага росту мужчына, сярэдніх гадоў.

– Няма яго, у Вільню паехаў па нейкай пільнай патрэбе, – адказаў на пытанне Заблоцкага аканом. – Сказаў мне, каб я сустрэў вас, накарміў, напаіў, даў правіянту на дарогу…

– Калі ж вернецца?

– Не казаў, не ведаю.

Завістоўскі быў прызначаны на пасаду рэферэнта камунікацый, і быў папярэджаны загадзя, што, праязджаючы па тракце, правяраючыя завітаюць да яго, прадпісвалася прадставіць спісы паўстанцаў, у якіх яны маюць патрэбу.

Не падымаючыся вышэй па прыступках, дыктатар тут жа, апершыся правай нагой на бардзюр, напісаў пісьмовую вымову за нядбайнасць, за тое, што рэферэнт Завістоўскі парушае рэвалюцыйную дысцыпліну.

– Перадайце абавязкова Завістоўскаму гэтую паперку. Абавязкова. І нашую незадаволенасць яго адсутнасцю. А мы паехалі далей…

– Перадам. А правіянт, правіянт захопіце з сабой? Я падрыхтаваў.

Канстанцін адвярнуўся ад яго:

– Дзякуем, мы спяшаемся…

Да маёнтка памешчыка Міхала Прылоўскага дабіраліся праз забалочаную нізіну. Коні грузлі, колы правальваліся ў нябачных ямінах.

Міхал Прылоўскі знаходзіўся на канюшнях – з Вільні яму даставілі трох скакуноў, і ён правяраў іх вартасці. Адарваўся ад агляду неахвотна, перадаручыў гэты клопат конюху.

Тая ж размова, – тыя ж клопаты і хібы. Канстанцін хмурыўся, слухаючы даклад Прылоўскага.

І вочы ў таго неяк бегалі, і рукі не знаходзілі месца.

“Характару не цвёрдага, – адзначаў пра сябе кіраўнік паўстання. – Паспешлівы ў словах і, мусіць, такі ж у справах… Можа брацца з ахвотай, але не давесці да канца”.

– Ці забяспечаны ўсе паўстанцы неабходнай зброяй, пан Прылоўскі?

Пытанне прагучала нечакана, таму позірк зноў неспакойна перакідваўся з аднаго на другое.

– Ды як сказаць, спадар Канстанцін… Больш за палову паўстанцаў зброі маюць, а астатняе павінен прывезці карчмар Юдовіч – на некалькіх падводах… Абяцаў праз дзень-два…

– Хто правярае спраўнасць той зброі – штуцэраў? Ёсць спецыяліст? – задаў сваё пытанне і Эразм. – Мы пра тое гаварылі з вамі апошні раз.

Прылоўскі крутануў галавой, кіўнуў сцвярджальна:

– Ёсць некалькі афіцэраў. Ім даручана праверка штуцэраў… Мо пройдзем да мяне на веранду, каб прадоўжыць размову. Вы ж з дарогі, падсілкавацца трэба.

Каліноўскі адмоўна пакруціў галавой:

– Не, дзякуем, спяшаемся… За даклад дзякую. Скажыце, да памешчыка Біспінга далёка? Да яго ляжыць далей наш шлях.

– Да Вярэек і не так далёка, не заўважыце, як і даедзеце. Але па тракце могуць рухацца царскія войскі, таму я параіў бы ў аб’езд. На вёрстаў пяць болей, але так будзе надзейней.

І тут жа, агледзеўшыся, гукнуў некага:

– Ганька, ідзі да нас!

Да пана падышоў загарэлы хлапчук гадоў з восем.

– Пакажаш аб’язную дарогу на Вярэйкі. Правядзеш да ўрочышча Гронкі, а потым сам вернешся… Адтуль толькі адна дарога да маёнтка.

Пераехаўшы неглыбокую рачулку, хлопчыка адпусцілі, падзякаваўшы яму за дапамогу.

У Біспінга пераначавалі, а раніцай, на цямочку, зноў рушылі ў дарогу.

Мерыліся ехаць на Ваўкавыск, але на тракце сустрэлі расійскіх грэнадзёраў, павярнулі ў Слонімскі павет. Па дарозе ішла жанчына з хлапчуком. У яе папыталіся, як даехаць да маёнтка Луконца, дзе пражываў акружны памешчык Ягалкоўскі. Жанчына моўчкі махнула ў бок лесу рукой.

Ягалкоўскі сядзеў пад разгалістай ліпай, чытаў кнігу.

Убачыўшы гасцей, няспешна падняўся.

– Проша да стала, халодным кваском пачастую, – запрасіў гаспадар прыезджых у цяністую алею, паручкаўшыся з імі, абняўся. Ведалі добра адзін аднаго, паважалі, час праверыў яго вернасць і яны былі радыя запланаванай сустрэчы.

– З задавальненнем, – згадзіўся адразу Канстанцін. – Але ёсць просьба. Неабходна тэрмінова паклікаць да нас памешчыка Язэпа Стравінскага.

– Добра, зразумеў. Вы праходзьце на летнюю веранду, а я распараджуся паслаць па Стравінскага.

Пакуль чакалі прыезду Язэпа, Ягалоўскі паказаў рэвалюцыйнаму камісару Гродзенскай губерні Вікенцію-Канстанціну Каліноўскаму неабходныя паперы і дакументы.

– Вось спіс людзей, якія ўліліся ў паўстанцкія атрады. Вось пералік зброі, якой не хапае. Мясцовы каваль нарабіў шмат дзідаў і мячоў, але гэтага недастаткова. Не хапае коней, не хапае вазоў, вяровак, сякер… Пацiху неабходнае звозяць вазніцы ў мае патаемныя склады, але хацелася б больш… Ваяваць – не касой махаць падчас касавіцы.

Каліноўскі ўважліва вывучаў паперы, задаваў пытанні, удакладняў. Эразм назіраў за тварам рэвалюцыйнага камісара, адзначаў, што дыктатар ужо не такі раздражнёны, як перад гэтым. Згарнуўшы паперы, вярнуў гаспадару, параіў:

– Хаваеце ў надзейнай схованцы?

– А як жа.

Недзе праз гадзіну прыехаў на брычцы і Язэп Стравінскі.

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь!

– То і ўзаемна!

У вачах зацікаўленасць, радасць сустрэчы.

І Язэп расказаў камісару пра становішча спраў. Не ў ружовых колерах, гаварыў начысціню, асабліва не скардзячыся на слабую дапамогу з боку мясцовай шляхты, але ж і не хвалячыся тым, што ўдалося дасягнуць.

Пасля даклада Каліноўскі звярнуўся да яго:

– Спадар Язэп, мяне ўпаўнаважылі прызначыць вас павятовым Слонімскага павета. Думаю, што абавязкі для вас зразумелыя, інструктаваць не трэба.

– На апошнім пасяджэнні ў Гродне вы падрабязна пра гэта расказвалі.

– Якія пытанні будуць да мяне? Якія пажаданні, шаноўныя спадары?

– Пажаданне адно, спадар рэвалюцыйны камісар: дай Божа нам сілы і моцы!

– Дай Божа!

– Куды далей?

– Да памешчыка Арды. Яго праведаем…

Замест Арды даклад трымаў яго ўпраўляючы Якаў Свяшынскі. Ад імя свайго гаспадара папрасіў прабачэння за яго адсутнасць – па справах паўстання знаходзіцца ў Варшаве. Дастаў са скуранoй сумкі паперы, падаў Каліноўскаму.

– Я ведаю пра ўсе справы і бяру ўдзел у паўстанні. Калі што незразумела з папер, растлумачу на словах.

Тлумачэнні не спатрэбіліся. Кастусь і Эразм засталіся задаволеныя.

У маёнтку Гародня памешчыка Сввяржынскага заспелі памешчыка Керсноўскага. Свяржынскі прапанаваў затрымацца, паабедаць, але Каліноўскі адмовіўся, загадаў адразу ж ехаць усім разам да Керсноўскага.

– У яго і абгаворым нашыя справы, а потым адразу разам рушым у паўстанцкі лагер. Колькі вёрстаў будзе ад вас – пяць-шэсць?

– Меней. Вярсты з тры…

– Рушылі! Час не чакае.

…Маёнтак Вірэйкі належаў пану Канстанціну Тарасовічу.

На ганак выйшаў сярэдніх гадоў мужчына. Барада ніяк не хавала яго ўзрост, наадварот, надавала выгляду і паставе куды маладзейшыя гады. Стаяў, чакаў, калі прыезджыя падыдуць да яго.

– Каго любіш, пане Канстанцін?

– Люблю Беларусь!

– То і ўзаемна!

Трымаўся з годнасцю, паважна, ведаючы, хто прыехаў да яго і з якой мэтай. Вікенцій застаўся задаволеным сустрэчай. Настрой збольшага падняўся, не прыгняталі вельмі змрочныя думкі.

3

… Мілавідскі лагер паўстанцаў сапраўды знаходзіўся недалёка ад уладанняў Керсноўскага. Месца атабарвання паўстанцаў аддзяляла ад паселішчаў і дарог забалочаная нізіна, спрэс пакрытая чаратамі і асотам.

Экіпаж, не спыняючыся, рухаўся па карычневай твані, разганяючы ў абодва бакі рыжыя хвалі. На нейкай яміне гайданула, і дыктатар адарваўся ад сваіх думак.

– Мы дзе, Эразм?

– Пад’язджаем ужо, за ўзболаткам паўстанцкія атрады.

Каліноўскі ажывіўся, пачаў аглядацца, ацэньваючы тэрыторыю, адзначыў:

– Добрую мясціну выбраў  Аляксандр Лянкевіч.

– Добрую, згодзен. Умее наладзіць любую справу…

Тым часам першая брычка ўз’ехала на ўзгорак. Дарогу далей перагарадзіла група невядомых людзей. Аказалася, што іх заўважылі яшчэ на далёкай адлегласці.

Вартавы з пільным позіркам адразу падаў сігнал начальству, што ў бок паўстанцаў рухаюцца дзве брычкі. Што за госці павінны былі прыбыць у лагер, ведалі загадзя: веставы папярэдзіў Ляндэра.

Брычка, у якой сядзелі Эразм і Вікенцій, спынілася.

Выйшаўшы з конкі, Вікенцій пацягнуўся, памахаў рукамі. А потым накіраваўся да купкі людзей, што перагарадзілі дарогу.

– Каго любіш, інсургент?

– Люблю Беларусь, камісар ваяводства!

– То і ўзаемна! Што камандзір ваш, на месцы?

– На месцы.

Усе разам накіраваліся ў гушчар лесу. Праз крокаў сто ўбачылі пад пракаветнымі дубамі шалаш, замаскіраваны лістотай дрэў. З яго выйшаў Аляксандр Лянкевіч – Ляндэр.

Абнялі адзін аднаго, прыціснулі да сябе, доўга не разнімалі рукі.

– Як я рады цябе бачыць! – вымавіў Канстанцін першыя словы.

– І я цябе таксама, дарагі мой дружа! Як добра, што ты знайшоў час завітаць да нас. Неўзабаве мы павінны ўступіць у бой, а твой прыезд падтрымае паўстанцаў, прыдасць сілы.

Твар у Аляксандра абветраны, загарэлы, смаляны чуб гайдаўся ў такт руху галавы.

– Прашу садзіцца, панове! У нас няма шыкоўных крэслаў, але затое ёсць бярозавыя лаўкі.

Паўстанцы зрабілі з паваленых і абчасаных бяроз нешта накшталт амфітэатра. Калі прыходзілі камандзіры атрадаў да Лянкевіча на нараду, то кожнаму знаходзілася месца. І Лянкевічу было зручна весці з імі гутарку, бо кожны быў навідавоку.

Заблоцкі павёў гутарку з Керсноўскім і Свяржынскім. Ляндэр прапанаваў Каліноўскаму:

– Пайшлі ў мой шалаш, дружа, пагамонім.

Кастусь сеў на самаробнае крэсла, засцеленае шэра-зялёным прасціradлам, агледзеў жытло начальніка паўстанцкага лагера.

Ложак, збіты з бярвенняў, салома зверху, падушка. Кажушок на слупе – ночы халодныя.

– Які настрой маеш, спадар Аляксандр? Ці не шкадуеш, што ўзяўся за такую справу?

– А чаго тут шкадаваць? Каб жыццё належала толькі сабе, гэта было б адно, а калі належыць Айчыне і Богу, то гэта ўжо абавязак. І што б ні чакала наперадзе, ніякага сумневу не павінна быць.

– Дзякую за такія словы, дружа. А як пачуваюць сябе кіраўнікі атрадаў Млотка, Міладоўскі, Уладэк, Юндзіл?

– Я імі задаволены. Хлопцы што трэба. Адчайныя, смелыя. Так і іншыя паўстанцы. Не раз чуў, як казалі: “Лепш загінуць ад кулі, чым ад царскіх батагоў…” Мы то трымаемся, клятву далі на вернасць паўстанню. А ты як? Мусіць жа, нялёгка ў сённяшніх варунках, га?

Дыктатар маўчаў. Не хацелася прызнаваццца ў сумневах і расчараваннях, але ж і ў душы не хацеў трымаць, карцела выказацца.

– Ты ж ведаеш і згодзен з тым, што паўстанне было абвешчана без агульнага рашэння. Нечакана яго абвясцілі. Не саспела яно да канца, не падрыхтавалі мы ўсё так, як таго вымагала сітуацыя… А мяне паставілі перад фактам.

Ляндэр згаджальна кіўнуў галавой.

– Таму нам прыйшлося прымаць нейкія меры. ЛПК мы ператварылі ў Часовы ўрад Літвы і Беларусі, першага лютага выдалі маніфест з заклікам да шараговага люду нашага краю, каб яны падтрымалі паўстанне ў Польшчы. І толькі ўжо для таго, каб не парушыць з’яднанасць баявых дзеянняў, мы, зноў жа, былі вымушаны паўтарыць у сваім маніфесце праграму паўстання, але тую праграму, якая была распрацавана ў Варшаве…

– Намячалася ж напачатку зусім не так…

– Не так, правільна. Тут ужо “белыя” вырашылі ўзяць кіраўніцтва ў свае рукі – яны захапілі самахоць уладу і сталі на чале польскага нацыянальнага ўрада. Яны ж і адхілілі ад улады Часовы ўрад Літвы і Беларусі, які я ўзначальваў, перадалі паўнамоцтвы віленскаму камітэту “белых”.

– Які стаў называцца Аддзелам кіраўніцтва правінцыямі Літвы?

– Так… Абавязкі кіраўніка ўысклалі на ковенскага багатага памешчыка Якуба Гейштэра. Аддзел пастараўся выдаць і распаўсюдзіць спецыяльны дэкрэт, які абвяшчаў пра тое, што ўсе паўнамоцтвы і мандаты, якія мы выдалі, прызнаць несапраўднымі. На змену Літоўскаму правінцыйнаму камітэту "Аддзел кіраўніцтва правінцыямі Літвы" на чале з Гейштэрам выявіў сваю няздольнасць узначаліць нацыянальна-вызваленчую барацьбу. Ён стаяў за шляхту, быў супраць народнага паўстання. Баючыся аграрнай рэвалюцыі, "белы" Аддзел самаізаляваўся ад народных масаў… Верылі ў тое, што перамагчы царызм ім дапаможа Англія і Францыя…

– Нож у спіну паўстання.

– Здрада агульным інтарэсам. Я ад імя ЛПК выказаў вусна і выдаў пісьмова рэзкі пратэст супраць гэтай гнюснай выхадкі Варшаўскага ўрада, палічыўшы пагібеллю і здрадай рэвалюцыі перадачу кіраўніцтва ў рукі контррэвалюцыянераў… Яшчэ – я вымушаны быў зняць з сябе ўсякую адказнасць перад будучыняй за ўсе памылкі і за ўсе страты і няшчасці, якія прынясе процілеглае духу і тэндэнцыям паўстання кіраўніцтва літоўскай справай.

Ляндэр слухаў, хмурыўся, ацэньваў пачутае, балюча перажываючы за тое, што прыйшлося вынесці камісару ваяводства.

– Мы вымушаны былі пайсці на ўступкі… Заявілі, што падпарадкоўваемся "галаве паўстання". Для гэтага былі дзве прычыны. Першая – з-за нашых разладаў не павінна пакутаваць рэвалюцыя. А падругое – мы не мелі той сілы, каб вырваць уладу ў праціўніка і пусціць рэвалюцыю па тым рэчышчы, па якім намячалі…

– Жудасна гэта ўсё і трагічна.

– І мне цяпер трэба, сціснуўшы зубы, супрацоўнічаць з шляхецкімі рэвалюцыянерамі, падпарадкоўваючыся іх цэнтрам. Весці сваю работу, азіраючыся на іх, выдаваць загады, цыркуляры і інструкцыі ад імя не нашага Цэнтральнага камітэта, а ад іх – польскага нацыянальнага ўрада. Пры гэтым ухваляць іх згубную праграму. Я нават не магу адкрыта звярнуцца да беларускага і літоўскага народаў з нашай праграмай барацьбы, якая ідзе ўразрэз з іхняй. Я б, напрыклад, уключыў бы ў лозунг ці заклік – знішчыць памешчыцкія землеўладанні. Яшчэ – устанавіць дзяржаўную самастойнасць Літвы і Беларусі. Я крычу ад роспачы, ад бяссілля, а змяніць нічога не магу…

Голас у дыктатара задрыжэў. Першы раз ён выказваў свае думкі некаму іншаму, да гэтага таіў у сабе. Ляндэру ён давяраў, Ляндэра ён абраў сваім сябрам і ведаў, што той ніколі не выдасць яго.

– А калі б ты пайшоў на гэты крок – не падпарадкоўвацца іх ураду?

– Яны толькі і чакаюць гэтага. Чаму? А ім тады лягчэй, і ёсць усе падставы для таго, каб аб'явіць камісара Гараднянскага ваяводства... здраднікам. А па законах рэвалюцыйнага часу гэта...

– Зразумеў, не працягвай далей. Ты як паміж дзвюма віселіцамі – Мураёўскай і белага ўраду...

– Правільна. Папаў у нерат – ні ўзад, ні ўперад... Ты мяне разумееш. "Белыя" прынялі рашэнне аддаць мяне свайму суду. Па маёй справе распачалі следства...

– Тады, выходзіць, мы абмежаваныя ў сваіх паўстанцкіх дзеяннях? Нельга падняць сялянства на барацьбу, асабліва на Беларусі і Літве, хаця для іх лозунгі польскіх шляхецкіх рэвалюцыянераў аб аднаўленні Рэчы Паспалітай у межах 1772 года чужыя і дзікія. Але паўстанцы кіруюцца той інструкцыяй, якая дасланая ў атрады. Інструкцыя з нейкім падтэкстам. Яна як быццам і ад "белых", і як бы ад "чырвоных". Я бачыў паўстанцкую інструкцыю, але там не значылася пункта пад нумарам восем. Мне здаецца, гэты пункт абвастрае барацьбу паміж "чырвонымі" і "белымі" ў лагеры вызваленчага рушання.

– Не ведаю, пакажы.

Падпалкоўнік Ландэр падаў паперчыну, тэкст якой напісаны ад рукі, на якой стаяла пячатка Літоўскага правінцыяльнага камітэта. Тэкст быў знаёмы і незнаёмы. Над ім нехта папрацаваў, не ўзгадніўшы з кіраўніцтвам. То напачатку была інструкцыя паўстанцкіх уладаў Царства Польскага, але хто яе апрацаваў?..

Рэвалюцыйны камісар уважліва ўчытаўся ў тэкст.

"Інструкцыя Часовага правінцыяльнага ўрада Літвы і Беларусі камандзірам паўстанцкіх атрадаў.

*Канец лютага 1863 года.*

**Паўстанцкая інструкцыя**.

Кожны камандзір асобнага паўстанцкага атрада да тае пары, пакуль не ўступіць у сувязь з ваенным начальнікам ваяводства, з'яўляецца паўнаўласным правіцелем занятай ім мясцовасці, гаспадаром жыцця і смерці ўсіх сваіх падначаленых.

У кожным не церпячым пераносу выпадку ён сам смела вырашае пытанні, сыходзячы пры гэтым толькі з галоўных прынцыпаў, абвешчаных Нацыянальным урадам.

Камандзір атрада карыстаецца наступнымі правамі:

1. Адбіраць, з выдачай адпаведных квітанцый, агнястрэльную зброю, якая будзе выяўлена ў прыватных асобаў, а таксама косы, коней, правіянт, адзенне і падводы для перавозак.

2. Выносіць неадкладныя прыгаворы вядомым здраднікам і шпіёнам, а таксама асобам, якія будуць аказваць супраціўленне яго распараджэнням.

Камандзір атрада мае наступныя абавязкі:

1. Да тае пары, пакуль ён не збярэ дастаткова сіл, ён павінен пазбягаць рашучых сутычак з войскамі, нястомна, аднак, загартоўваць сваіх падначаленых пастаяннымі нападамі на больш дробныя непрыяцельскія атрады, раскіданыя па краі, і раззбройваць іх.

2. У мясцовасцях, занятых паўстанцамі ці нанава займаемых, абвясціць і неадкладна прывесці ў выкананне дэкрэт часовага ўрада аб надзяленні сялян зямлёй.

3. Знішчаць усе да гэтай пары існуючыя ўлады і ўстанаўліваць на іх месца нацыянальныя ўлады ва ўсіх мясцовасцях, якімі ён валодае, прычым ніхто пад найпільнай адказнасцю не можа ўхіляцца ад выканання накладзеных на яго часовых павіннасцяў.

4. Пад найстражэйшай адказнасцю забараніць выплату варожаму ўраду існуючых да гэтай пары падаткаў, на якія з гэтага часу мае выключнае права толькі Нацыянальны ўрад.

5. Даручыць адпаведным духоўным асобам прыняць ад усіх жыхароў прысягу на вернасць і павінавенне Нацыянальнаму ўраду і сачыць за выкананнем гэтага даручэння, а таксама прызваць у рады паўстанцаў усіх здольных валодаць зброяй.

6. Перарываць камунікацыі, дзе гэта прадстаўляецца неабходным, перахопліваць тэлеграмы і дэпешы, затрымліваць кур'ераў і эстафеты, захопліваць і адбіраць грашовыя сродкі, якія знаходзяцца ў руках варожага ўрада. Узяўшы з гэтых сродкаў суму тыднёвага жалавання для свайго атрада, лічачы па 2 злотых у дзень, астатняе, калі будзе надзейная сувязь з адпаведнымі нацыянальнымі ўладамі, павінен апячатаць і без затрымкі ім даставіць.

7. Знішчаць усімі сродкамі царскую паліцыю.

8. Найбольш вядомых прыгнятальнікаў сялянаў для прыкладу караць смерцю па рашэнні ваеннага суда перад сабраным вясковым людам, не дапускаючы самасуду і расправы.

– Гэта першая наша інструкцыя. Мы ж з самага пачатку ўзялі курс на масавае народнае паўстанне, стараліся актыўна далучаць

у атрады сялянаў. Таму ў адным з пунктаў “*Інструкцыі для ваенных начальнікаў, ваяводскіх і павятовых*” выказвалася патрабаванне “падняць на самы высокі ўзровень паўстанцкую прапаганду, накіроўваючы яе ў першую чаргу на вясковых жыхароў і сялянаў”. Указвалі на неабходнасць аграрнай рэформы, сцвярджалі, што “надзяленне сялянаў зямлёй у прыватнае карыстанне праводзіць… у кожнай воласці, дзе толькі будзе сіла для падтрымання гэтых распараджэнняў”. І ўжо больш рашуча, больш настойліва і патрабавальна выказваліся ў гэтай, што ты мне даў, інструкцыі, што ўказана ў абавязках камандзіра атрада ў другім пункце пра надзяленне сялянаў зямлёй.

Дыктатар устаў, падышоў да расчыненых дзвярэй, і ўжо гледзячы ў вечаровую смугу, падсумаваў:

– А мы ж спадзяваліся падняць усерасійскае сялянскае паўстанне. Гэта ж вялікая сіла. А тут на пасады цывільных начальнікаў Віленскім камітэтам белых прызначаліся, як правіла, мясцовыя памешчыкі… А яны ад пачатку паўстання не верылі ў яго поспех, ды і не хацелі таго паўстання. Яны і царскіх уладаў баяліся, і не хацелі выконваць свае абавязкі. Вось я праехаў дарогай, наведаўшы маёнткі памешчыкаў. І што ж? Адзін уцякае ад сустрэчы. Другі замест сябе падсоўвае аканома. Але нам наканавана змагацца, і таму адступаць ад сваёй задумы не будзем!

Да Каліноўскага падышоў Аляксандр Лянкевіч, абняў:

– Не будзем! Памром, але не здрадзім ідэалам рэвалюцыі!

– Дзякую, спадар падпалкоўнік Аляксандр Ландэр, за падтрымку! Ну, а цяпер пройдземся па атрадах? Да каго першага наведаемся?

– Да Францішка Юндзіла…

– Добра. Але мне перад гэтым трэба мець пісьмовыя дадзеныя па кожным атрадзе.

Ландэр дастаў з куфэрка тоўсты сшытак. Разгарнуў.

– Вось дадзеныя пра атрад Духінскага, у якім налічвалася больш як 500 паўстанцаў. А вось астатнія.

Каліноўскі пачаў уважліва чытаць напісанае на паперы:

*“Атрад Ландэра (Лянкевіча) – 300 чалавек. Уладэка – 100. Юндзіла – 250. Кракоўскага 150. Стасякевіча – 300. Тышкі – 100”.* А ўсіх – каля тысячы чалавек.

Падпалкоўнік патлумачыў:

– Калі я прыбыў у лагер Духінскага і прыняў на сябе абавязкі ваеннага начальніка Гардзенскага павета, то Ваўкавыскі павет узняў паўстанне па распараджэнні палкоўніка Ануфрыя Духінскага. Пазней ваенным начальнікам стаў Стравінскі, ён і стаў маім падначаленым. Духінскі паслаў у Слонімскі павет намінацыю Юндзілу – як ваеннаму начальніку таго павета. Уладэк сфармаваў атрад па сваёй добрай волі і ініцыятыве, і мы яго назвалі пружанскім. Кракоўскі – ён жа Траўгут – пачаў баявыя дзеянні ў Кобрынскім павеце таксама без аніякіх на тое ўказанняў і прадпісанняў ад Духінскага. А ў Берасцейскім павеце настойліва і паспяхова фармаваў атрад Стасякевіч. Пра гэта паклапаціўся народны ўрад…

– Які люд у атрадах?

– Ды розны. Большая частка – казённыя сяляне, дробнапамесная шляхта. Ёсць і гарадскія жыхары, на якіх мы спадзяемся і ўскладаем вялікія надзеі. З імі лёгка гаварыць, рашаць праблемы…

Каліноўскі прамовіў:

– Ну, што ж тады, спадар падпалкоўнік, пайшлі па атрадах?

– Пайшлі!

Людвіка Ямант чакала сваю малодшую сястру Марысю – яны павінны былі разам пайсці на сходку жанчын. Мэты ніякай той сходкі не ставілася, проста рашылі разам сабрацца ды пагаварыць пра сваё жыццё.

Калі дзе і збіраліся раней, то больш скардзіліся, што жывуць усе паасобку, разрознена, нецікава.

– А давайце пачнем збірацца ў каго-небудзь.

Тады Людвіка здзіўлена паглядзела на сястру, падумала: “Малайчына. Харошы завадатар…”

– А што? – падхапіла Каржанеўская, што прагульвалася разам з імі каля Вострай брамы. – І гэта будзе накшталт жаночага гуртка, праўда? Во як здорава! У Маскве ды Пецярбурзе, Варшаве ды Уроцлаве, чула, існуюць салоны ды гурткі. Літаратурныя, духоўныя, яшчэ нейкія… А ў нас чаму б не стварыць? У мяне і наладзім першую бяседу.

– А колькі нас можа сабрацца? – тут жа папыталася Марыся.

– Трэба палічыць… З кожнай пагаварыць. Думаю, ніхто не адмовіцца. Мы ж не змоўшчыкі якія-небудзь, а свецкія, інтэлігентныя жанчыны. Мы ж і дабрачыннасцю можам займацца, у лякарні хадзіць, лекі хворым даваць…

Людвіка слухала іх размову, не ўмешвалася, адзначаючы пра сябе, што добра яны прыдумалі, а калі прыдумалі, то не адступяцца ад сваёй ідэі. Асабліва Марыся.

– А ты, Людвіка, як глядзіш на гэта? – папыталася сястра, адчуўшы няёмкасць, што тая неяк аказалася ўбаку ад такой важнай размовы.

– Я – як і вы, – сціпла адказала дзяўчына, – чаму ж я павінна не падтрымаць вас?

Церусіў дробны дождж. То набіраў сілу, то зусім пераставаў. Неба набрыняла свінцовымі воблакамі, і яны нізка сцяліліся над Вільняй.

– Не скучно ли, уважаемая сударыня, стоять вам одной под этим дождем?

Яна і не заўжыла, як да яе падышоў невядомы юнак у плашчовай накідцы, фуражцы з цэшкай – ці то вайсковец, ці то жандар.

Хацела сказануць нешта вострае, што ён асмеліўся вось так проста падысці да невядомай жанчыны. Але адказала коратка і сціпла:

– Не, мне не сумна. Люблю такое надвор'е.

– О, вы, значит, мечтательница?

– Ды не, проста падчас такога ціхмянага дажджу прыходзіць цішыня. А цішыня – гэта добра.

– Ради Бога, извините, что так внезапно подошел к вам. Хочу представиться, чтобы не прослыть мужланом. Честь имею – Фавелин, доктор Фавелин. Несколько лет назад здесь был расквартирован казачий полк. Вот я и остался в Вильно.

Яна больш уважліва паглядзела на яго, як быццам магла ўгледзець у ім больш таго, што пачула.

– Людвіка. Людвіка Ямант.

– А вы кого-нибудь ожидаете? Простите, ради Бога, не знаю и сам, как получилось, что захотелось подойти к вам. Стоит под дождём девица, – мне показалось, что вам нужна помощь…

Дзяўчына заўсміхалася, пахітала галавой:

– Ды не. Я проста чакаю сваю сястру Марысю, у госці сабраліся з ёю схадзіць. Вы меня хоть понимаете, – апамяталася Людвіка, што размаўляе з ім на ліцьвінскай мове,– или мне перейти на российский говор?

– Да нет же, нет, я отлично понимаю ваш белорусинский язык, – супакоіў яе Фавелін, – и даже прошу вас разговаривать на нем.

Мне он кажется таким певучим и мелодичным. Недаром же великий Адам Мицкевич сказал, что ваш язык самый лучший из всех европейских. И его слова не оспаривал даже Пушкин.

Ужо і дождж перастаў, і сонца выглянула з-за аблокаў, асвяціўшы плошчу і вылучыўшы Вострую браму. Людвіка апусціла парасон, склала яго.

Нешта яшчэ хацеў сказаць доктар, але Людвіка здалёку ўбачыла Марысю і радасна памахала ёй. Сястрыца лёгкай паходкай накіроўвалася да іх.

– Добры дзень! – павіталася з незнаёмцам, гледзячы зацікаўлена на яго.

– Здравствуйте, сударыня Марыся! – ледзь нахіліўшы ў паклоне галаву, адказаў юнак.

– Вы ведаеце, як маё імя? – здзівілася Марыся, гледзячы ўжо на сястру, як бы пытаючыся ў яе: “То ты сказала, так?..”

Людвіка ледзь прыкметна пачырванела. Потым, апамятаўшыся, прамовіла:

– Марыську, познаёмся. То ест лекаж Фавелін.

– Доктар Фавелін? – падзівілася малодшая сястра. – Гэта той доктар, які служыў у казачым атаманскім палку і пасля яго расквартавання застаўся жыць у Вільні?

– Тот самый, вы не ошиблись. И я прошу прощения, что смутил и вашу сестру, и вас. Я впервые встретил Людвику, и это произошло несколько минут назад. Мы мило беседовали. А виной всему дождь. Я увидел одинокую девушку под зонтом и не удержался, подошел, спросил, не нужна ли моя помощь…

Марыся засмяялася:

– Гэта нешта новае. Мая сястрыца знаёміцца з вайскоўцамі ў дажджавое надвор’е?

– Марыся… – папераджальна паглядзела на яе Людвіка.

– Людвіка, я нічога кепскага не падумала. А што з табой пазнаёміўся доктар, дык гэта ж вельмі добра. Цябе ж разгаварыць, тым больш незнаёмаму юнаку, гэта праблема. А пан Фавелін разумее нашую мову?

– Мы с Людвикой обсудили этот вопрос. Я понимаю белорусинский язык. Я даже могу прочитать по памяти несколько строчек вашего известного поэта Владислава Сырокомли.

Марыся з яшчэ большай цікавасцю і здзіўленнем паглядзела на Фавеліна:

– Вы яго ведаеце?

– Знаком. Были в одной литературной компании, где он читал свои стихи.

*Каб вясне зрабіць дарогу,*
*Каб калісь вярнуўся рай –*
*Слова праўды, пакуль змога,*
*Мусіш слухаць, родны край.*
*І тады адтануць гоні,*
*Цеплынёй дыхне ралля,*
*Раем займецца зялёным*
*Маці родная зямля.*
*Пройдзе нівамі, лясамі*
*Бог свабоды залатой.*
*Калі мы ня ўстанем самі –*
*Не падыме нас ніхто.*

– Здорава сказана! – узрушана прамовіла Марыся з павагай гледзячы на юнака.

– Здорово! – падтрымаў яе доктар. – А сейчас, дорогие сестры-сударыни, мне пора откланяться. Еще раз прошу извинить меня, что вторгся непрошенно в вашу компанию. Мне показалось очень милым и приятным ваше общество.

Ён пільна паглядзеў на Людвіку, як чакаў ад яе нейкіх слоў, якія б маглі звязаць іх надалей.Людвіка ледзь заўважна кіўнула галавой у знак развітання. Марыся прамовіла:

– До відзэня, лекаж Фавелін!

– А мы яшчэ пабачымся? – спытаў на іх роднай мове Фавелін.

– Як Богу будзе заўгодна, – ухілілася ад прамога адказу малодшая сястра. – Усё можа быць.

– На прощание я скажу вот что. Если вам нужна будет моя помощь, я с радостью ее окажу. Рад был знакомству!

Ён адкланяўся, рэзка павярнуўся і пайшоў па тратуары ў бок Дамініканскага касцёла.

– А ён нічога, – прамовіла Марыся пасля непрацяглай паўзы, – відаць, разумны чалавек.

– Хто яго ведае, – уздыхнула Людвіка. – Адразу, Марыська, не вызначыш.

Яна баялася, каб іх сустрэчу Марыська не падняла на смех. Бо тая была вялікай перасмешніцай. Але ад малодшай сястры яна не пачула ніводнага слова падначкі.

Вільня дыхала чыстым паслядажджавым паветрам.

Сонца старалася высушыць мокрыя вуліцы і дахі дамоў.

Зазванілі званы некалькіх храмаў, склікаючы вернікаў на вячэрняе богаслужэнне.

За вузкім акенцам вязніцы, скрозь тоўстыя сталёвыя прэнты, праглядвае блакітнае неба.

Там, за сценамі муроў, жыццё. Там людзі перажываюць і кахаюць, плачуць і смяюцца.

У мяне параза, хаця ой я імкнуўся да перамогі! Бо верыў, што скіне са сваёй шыі ярмо прыгнёту народ Ліцьвініі. Як верыў і сам народ, тыя простыя людзі, якія пайшлі за намі...

Чарнабровая мая, каханая і незабыўная!

Птушкай паляцеў бы да цябе, шызым голубам, што часта прылятае да мяне і сядае на акенца. Ці не ты паслала яго да мяне, мая чарнаброўка?

Мне так хочацца шмат чаго сказаць, ды не ведаю, ці зразумее мяне твой пасланец. Ды ўсё роўна буду пісаць табе і пісаць свае пасланні, і перапыніць мой занятак можа хіба толькі шыбеніца...

***Лісты** з-пад шыбеніцы...* Так давай назавем мой зварот і лісты да цябе, добра? На тваіх вачах слёзы? Не трэба. Нас павінна радаваць і ўсцешваць тое, што пра нашых слаўных касінераў слава будзе жыць доўгія гады... Мы ж вольны люд, слаўныя сыны і дочкі Вялікага Княства Літоўскага, і ніякі бізун і цівун расейскі над намі не гаспадар. Мы ж не быдла, хочам мець сваю мову, маліцца свайму, ліцьвінскаму Богу, а не таму, якога нам навязваюць. Хаця ж Бог і адзіны, але я жадаю звяртацца да свайго не са словамі: “Отче наш, иже еси на небеси…”, а на мове, зразумелай сялянскаму мужыку: “Ойча наш, існы ў нябёсах!..” – так як моляцца ўніяты.

Мы ж з табой не раз гаварылі пра тое, ці не так, чарнабровая Марыська? Ты, як я памятаю, згаджалася са мной. Падбадзёрвала, натхняла. За што табе вельмі ўдзячны, і маё сэрца поўніцца гонарам, думаючы пра цябе: “Як хораша, што ёсць у мяне такі чалавек! Самы пяшчотны, самы адданы на зямлі!”

Цяпер час вельмі позні, можа, ты і спіш ужо.

Памятаеш, мы з табой дамовіліся – калі будзе цяжка на душы, ды яшчэ сярод ночы, то будзем глядзець неадрыўна на Вялікую Мядзьведзіцу – на крайнія дзве зоркі “чарпака”, якія скіраваныя на

Палярную зорку. Я цяпер гляджу туды, чакаю, калі сустрэнуцца там нашыя позіркі. І гэта шчасце, што з майго акенца бачу Мядзьведзіцу. А праз яе бачу і цябе.

Прызнаюся яшчэ, мая чарнаброўка, што ты кожную ноч праведваеш мяне. А пазамінулай ноччу ты звязала мне белыя, з авечай воўны, шкарпэткі і сама надзела мне на ногі. Прымусіла прайсціся ў іх па хаце... Не па камеры, а па драўлянай падлозе шляхціца Нікіцкага. Ты глядзіш, як я ступаю па маснічынах, і смяешся, весела гаворыш: “Ну, як белы мядзведзь ходзіш па крыгах!..”

Раніцай я прачынаюся, а на губах гарыць, не аціхае твой пацалунак, і на плячах не можа астыць жар ад тваіх лебядзіных рук, якімі ты абдымала мяне. Я так яскрава адчуваю цябе побач, што нават чую тваё дыханне. Нехта збоку можа падумаць, што я звар’яцеў... Мо яно і так, а мо проста мае пачуцці абвостраныя да такой ступені, што я перастаў быць чалавекам...

І сніўся ты мне яшчэ – спрэс сатканай з лугавых кветак. На галаве ў цябе вянок з рамонкаў, і сукенка з лілеяў, з васількоў, і вочы, як тыя валошкі... Ты злілася з лугам, растварылася ў колерах неба, дрэў, паветра...

Я палохаюся ўжо, што магу прайсці паўз цябе, праз цябе, і згублю назаўсёды, але ты нечакана з мроіва суквецця хапаеш мяне за руку. Хочаш, каб і я, разам з табою, растварыўся, зліўся з наваколлем і з табой, – і тады ніводныя шпікі і следчыя не змаглі б адшукаць мяне на ўсім зямным шары... Ведаю, перакананы нават, – каб ты магла, то перятварыла б мяне ў матылька ці божую кароўку, – хоць на нейкі час, на той час, пасля якога мне ўжо нічога не магло пагражаць.

Дзякую табе, Марыся…

Марыська, Марыська... Шчаслівыя мы ўсё ж з табою людзі. Шчаслівыя хаця б таму, што Вышні надзяліў нас светлым дарам – неспатольным каханнем. А каханне – гэта жыццё. Каханне – гэта Бог. Вышні дае нам сілы вытрымаць самыя цяжкія хвіліны свайго жыцця. Як і мне во цяпер. Я спавядаўся перад Ім. Не ведаю, ці заслужыў я даравання грахоў, але пачуў ад Вышняга такія словы: “Ідзі і нічога не бойся!” І я паслухаўся Яго. Сапраўды, я нічога не баюся, бо не абмінуць таго, што мне выпала, не падману свой лёс... Я свядома выбраў такую дарогу.

Святы апостал Павал у сваім пасланні да рымлянаў гаварыў (этыка і правіла хрысціянскага жыцця): “Каханне ды будзе шчырым; бой-

цеся і пазбягайце зла, рабеце дабро; будзьце браталюбівыя адзін да аднаго з пяшчотаю; у пачцівасці адзін да аднаго папярэджвайце; у рупнасці сваёй не слабніце; духам палымнейце; Госпаду служыце, жывіце спадзяваннем; у скрусе будзьце цярплівымі, у малітве пастаяннымі; у патрэбах святых прымайце ўдзел; раўнуйце ў пераемнасці" (12:9-13). Яшчэ ён казаў, што трэба заўсёды паступаць так, ведаючы час, што прыйшоў ужо час абудзіцца нам ад сну. Вось і мы, ліцьвіны, абудзіліся.

Чарнаброўка мая, каханая!..

Я гатоў табе пісаць гэты ліст да апошняга ўздыху.

Бо і пішу яго сэрцам.

Другія ж лісты, калі яны дойдуць да цябе, калі ты атрымаеш іх, будуць амаль сухія, недзе і халодныя, каб, не дай Бог, на цябе не ўпаў і цень падазронасці, што ты далучана да мяне…

Кастусь нахіліўся над сталом, пісаў, спяшаўся…

"І да нашага кутка даляцела ваша Газэтка, і мы яе з увагай прачыталі; вельмі яна ўсім спадабалася, бо праўда напісана. Прыймеце для таго нашу падзяку, а пісьмо аддрукуйце, каб знаў свет Божы, як мужыкі Беларусы глядзяць на маскалёў і паўстанне польскае, чаго яны хочуць і чаго па сваей сіле дабівація будуць. Слова наша простае, но зато шчырае; калі яно дойдзе да ронду польскага, адкрые яму нашу грудзь да і пакажа, што панашаму рабіці трэба, каб панаванню маскоўскаму не цяпер, то пазней канец ужэ палажыці.

За ўсіх старон маскалі цяпер талкуюць нам без устанку а сваём брацтве з намі. Праўдзіва дзівота, жывучы пад рондам маскоўскім гэтулькі часу, цяпер ледзь мы аб гэтым пачулі, для таго не без карысці будзе паглянуць, як гэта маскоўскія браты самі ў сябе гаспадарылі да і з намі рабілі, каб пазнаць іх шчырасць і права на брацтва нашае. Не будзем гаварыці, з якіх народаў маскалі паўсталі, брацтва там не многа найдзем, няволя манголаў да і цароў маскоўскіх заўсім забіла ў гэтам народзе ўсякую памяць а свабодзе да і зрабіла з яго грамады людзей паганых без мыслі, без праўды, без справядлівасці, без сумлення да і без баязні Боскай. З гэтакім народам цары маскоўскія, што то жывуць людскою крыўдаю, падбілі зямлю нашу пад сваё панаванне, тут то мы іх і пазналі, гэтых, як яны сябе называюць, братоў нашых. Ронд польскі, правіўшы намі, не браў з нас рэкрута, не адрываў народу ад дзяцей, ад бацькоў да і ад зямлі роднай і не

гнаў гдзесь у канец света, каб завадзіць няволю, выціскаць слёзы і пракленства на душы нашай. Ронд польскі калі браў з нас падымнае, то не заводзіў гэтакіх стаенных падаткаў на душы нашы, што то да Бога адно належаць. Ронд польскі, маючы Бога ў сэрцу, не ўпісаў нас у сызму, у каторай адно за цара да за цара маліціся трэба, як бы ўжэ цар быў Богам на свеце, а вера да казны належала. Ронд польскі ўжо таму будзе 70 лет, выперажаючы многа суседскіх народаў, пачаў ужэ талкаваці а свабодзе мужыцкай і роўнасці братняй мужыка з шляхціцам, а енарал Касьцюшка, што то, кажуць, каля Слоніма радзіўся і на каторым народ наш спявае, што ён вельмі быў добрым і маскаля крэпка біў, высказаўся ён за вольнасць нашу, но маскаль то перашкодзіў і завёў свае ронды. Пагляньма ж цяпер, што ён зараз пачаў рабіці, гэты дабрадзей мужыцкі, як сам цяпер кажа: найперш, каб не магло вырабляціся сумленне народнае, пакасаваў маскаль усе сходкі людзей выбарных, усе школы нашы, а так, абабраўшы з сумлення да і з розуму, а завёўшы ў нас свой парадак маскоўскі, пазволіў кожнаму дужшаму глуміцца над бедным як толька хоча. Паноў заўсім увольніў ад усякіх ценжараў, даў ім права завадзіць паншчыну маскоўскую, а яна то не тры дай не шэсць дзён з хаты, но 6 дзён з душы рабочай. Мужыку не толька што не даў ніякага права, но яшчэ адабраў і тое права, якое ён меў ад ронду польскага; многа людзей вольных да і каралеўшчызны вялеў у паншчызну ўпісаць, кажнаму можна было мужыка крыўдзіць, а чыноўнікі маскоўскія не рабілі яму ніякай справядлівасці, но яшчэ калі суд на глум не ссылаў мужыка ў Сібір, то аддаваў на вечнасць у салдаты. Калі які пан, паслухаўшы сумлення, ішоў за праўду і справядлівасць і спраціўляўся прыказу царскаму, каторы кажа: “дзяры, бяры да і маўчы”, тады яго, калі не ўцёк да пранцуза, у турму бралі да і ў Сібір гналі, а двор з людзьмі ў казну забралі, стуль то ў нас і мужыкі казённыя. Пярвей яны служылі казне паншчызну, а после ў аброк іх упісалі, дай акром аброку ганялі без ніякай падзякі ўсялякаму чорту на работу: то акружному, то асэсару дай кожнаму, хто адно перакупіў. Начальства ось то якое маскоўскае для мужыкоў, а нібы дабрадзей! Няхай той сам судзіць, хто пісьмо маё чытаці будзе, я адно скажу па шчырай праўдзе: што калі нам пад рондам польскім не заўсім было добра, то як маскаль стаў намі правіць, зрабіў ён для мужыкоў чыстае пекла на свеце. Тут сказаці яшчэ трэба, што ён змусіў нас

пакідаці бацькаўшчызну, ісці ў рэкруты, дай ваяваці не за прыказ Боскі, не за праўду і справядлівасць, но за глум, за няволю не раз проціў братоў да бацькоў нашых. Тут сказаці трэба, што маскаль, дабрадзей мужыцкі, зняўшы з паноў усялякія падаткі, зваліў іх адно на мужыцкае племя, аблажыў падаткамі і мужыцкую зямлю, і мужыцкія хаты, і мужыцкую душу, і мужыцкія дзеці, і мужыцкую скаціну, жывых і ўмёршых. Но не тут яшчэ канец маскоўскага дабрадзейства. – З дзядоў і прадзедаў была ў нас уніяцкая вера, гэта значыць, што мы, будучы грэцкай веры, прызнавалі за намеснікаў Боскіх святых айцоў, што ў Рыме. Царом маскоўскім і гэта стала завідна, для таго, скасаваўшы ў Маскве грэцкую веру, а зрабіўшы царскую, што то называецца праваслаўе, і нас адарвалі ад праўдзівага Бога і ўпісалі ў схізму пагану. Такім спосабам, абабраўшы з гроша, з рук спасобных, запраглі нас у паншчызну, і каб слёзы мужыцкія не трапілі перад трон праўдзівага Бога, забралі нам і духоўну нашу пацеху – нашу веру уніяцкую. Праўда, людцы, ёсць за што падзякаваці!.. А чыноўнікі то маскоўскія – яшчэ адно дабрадзейства. Чытаў я ў ксёнжках, што ёсць на свеце якась саранча, катора як гдзе пакажацца, усю худобу гаспадарску зглуміць. Маем мы, браткі, горшую яшчэ ад той саранчы, а гэта чыноўнікі маскоўскія з сваёю “праўдаю” і “справядлівасцею”, яны людзі вельмі здатныя, што то па-маскоўску “праворныя”, умеюць так аблізаць чалавека, што з рук іх выйдзеш голенькі як маці радзіла – і жыві пад гэтакім рондам без суду і праўды. Зараз па вайне з пранцузам пад Севастопалем пачалі меж намі слухі хадзіці, што маюць мужыкам даць вольнасць. Ждалі мы доўга, аж нарэшце тры леты таму выйшаў указ царскі, – праўда, многа там было напісана, а карысці то для нас мала. Парабілі адно канцылярыі, пасрэднікаў, старшынаў, пісараў усё за грошы мужыцкія, а паншчызну як хадзілі, так і трэба было хадзіці. Дачуўшы мы гэта, сталі праціўны, і тут то і маскалі нашліся, каб прымусіць нас да міласці царскай, а нагайка казацкая мела скрапіць наш братні узёл, не ведаю адно з кім: ці з панамі, ці з маскалямі. Няхай за мяне скажуць тыя, што мелі ахвоту скрапляці, дабрадзеі нашыя, браты маскоўскія.

Трудна сказаць, як доўга мы бы паншчызну хадзілі, каб не паўстанне польскае. Ронд польскі, аб’явіўшы свой маніхвэст, зямлю мужыцкую аддаў мужыком на вечнасць, і мы то перасталі зараз паншчызну хадзіць. А калі Бог усёмагучы навярнуў паноў

да праўды і зрабіў іх паслушнымі прыказам ронду польскага, тагды маскалём настаў кепскі час, і ён мусіў паняволі прыпісаціся да нашага і жыдоўскага брацтва. Бач, які мудроны брат; аднак крыху і так ашукаўся, бо як той казаў: “і ў брата не свая хата”, і брат пайшоў бы ў паўстанне, каб меў якую качаргешку ў рукі ўзяці; а жыд, хаця пагаворка і кажа: “што як бяда, то да жыда”, не заўсягды голых прымае, тым бардзей такіх, што нажлапталіся нямала і слёз і крові жыдоўскай. Но каб ляпей пазнаць маскоўскую хітрасць, пагляньмы шчырым окам, што цяпер маскалі выраблялі з намі, у гэту ліхую для сябе гадзіну, калі, пабіўшыся з палякамі, каб удзяржаць сваё панаванне, да нашага брацтва хоча ўпісаціся; ронд польскі цяпер аддае нам на вечнасць зямлю нашу за нашу працу, маскаль піша дай устанаўляе якіясь там чыншы, каторым ніколі ніякага канца не будзе, як то меж мужыкамі казённымі. Калі ронд польскі дае нам вольнасць праўдзівую, маскаль, не кажу цэлымі сёламі, а цэлымі грамадамі гоніць людзей, заўсім адняўшы свабоду, у сібірскія пустыні. Калі ронд польскі ўсім братнім народам дае самарондства, маскаль мала таго, што гэтак не робіць, но яшчэ там, гдзе жылі палякі, літоўцы і беларусы, заводзіць маскоўскія школы, а ў гэтых школах учаць па-маскоўску, гдзе ніколі не пачуеш і слова па-польску, па-літоўску да і па-беларуску, як народ таго хоча, а ў гэтыя школы адно з другога канца света маскалёў насылаюць, што толька ўмеюць красці, людзей абдзіраці дай служыць за грошы паганаму дзелу на глум народу. Дзікі маскаль думае, што калі можа народ абдзіраці за ўсякага дабытку, то і патрапіць кажнаму ўбіць у галаву свой дурны розум, дурны для таго, што розум маскоўскі калі не раз харашо кажа, то ніколі па-людску нічога не робіць, адно людзей абманывае, а перад кнутом царскім гнецца, як астатні валацуга. Трудна ўсё гэта раска[за]ці, што мы ўжэ кроўю запісалі, так што слёзы льюцца, чытаючы бяспраўе, якое маскалі рабілі дай да гэтай пары яшчэ робяць. Хто хоча дазнаць праўдзівага смаку, няхай сам пажыве пад рондам маскоўскім, то і паглядзіць, якое дабрадзейства мужыкі мелі; ось то для чаго кажам: што польскае дзела гэта наша дзела, гэта вольнасці дзела.

Но не мала працы трэба, каб здабыць гэту свабоду, каторай жджэ ўсякі, пачаўшы ад дзіцяці да старога дзеда, бо калі маскаль гэтулькі лет упускаў свае пазуры ў грудзь нашу, так не дзіва, што трэба пацярпець доўга, каб вырвацца з-пад яго братняй апекі, для

таго і не без карысці будзе, калі цяпер паталкуем, якія мы маем на то спосабы; гаварыць тут будзем мало, кожны ведае для чаго, бо маскаль не павінен ведаць, пераняўшы на прыпадак пісьмо гэта.

Доўга палякі ждалі памоцы з заграніцы, народы чужаземныя крычалі многа і да гэтай пары нічога для нас не зрабілі; кажуць, што яны не маюць ніякай патрэбы сваей у польскім дзеле, каб на маскаляісці за нас ваяваці. Двесці лет таму назад, а бацькі нашы ляпей ужэ казалі: “Калі маеш Бога ў сэрцу і прыказ Яго, памагай бліжнему” і ішлі бараніць хрысціянства ад татарскай дзічы; да гэтакай памоцы хаця і маем права, но мы не вымагаем, няхай кожан робіць, як яму ляпей здаецца. Аднак сказаці тут трэба, што калі ўсе каралі падпісалі нашу няволю маскоўскую, то яны вельмі скрыўдзілі чэсць сваю, што змыць гэтае бясчэсце не толька патрэба, но кожан мусіць, каб мець сумленне чыстае. Для таго, знаючы, як стаіць наша дзела за граніцай, не перастаем верыць, што мысль Боска, правёўшы векі, не дасць загінуць праўдзе і справядлівасці, калі ўжэ не найдзе для таго спосабу ў цяперашнім парадку, разарве гэты узёл дай паверне сілу народу куды схоча. Нам адно сільна з шчырай верай за сваё стаяці трэба, а ронд наш павінен быць на ўсё чуткі, каб мог для дабра народнага за ўсяго карыставаць; сілы нашы яшчэ вялікі, ваяваць з німі можам Бог ведае як доўга, но для таго трэба, з аднэй стараны, іх аберагаць, а з другой, вырабляць што раз то новыя. І так калі паўстанне зроблена пад добрую пару, узрастае і ажыўляе народ, – не ў час, марнуе сілы кожнага, аслабляе ў прастоце духа дай разводзіць страх і няверу ў дзела наша, у моц Божу. Ронд польскі і яго чыноўнікі ведаюць гэта і для таго, каб служылі добра перад Богам і сумленнем народным, робяць не штучныя завірухі, но, паняўшы духа народнага, яго патрэбы і волю, [будуць] падхватываць дай разумна застаўляць палкі народныя, а развіваючы непадатлівасць у народных несканчоных бунтах, ставіць апору маскоўскаму ў нас панаванню. Работа тут не хутка дай непаказна, но за то пэўна, і яна нас давядзе да канца добрага. Работа тут сярмяжна, для таго каб была скутэчна, павінна быць так шчыра і проста, як тое сэрца, што б’е пад сярмягай, як той розум мужыцкі, што не перабірае, калі рабіць трэба. Тагды слова ронду польскага – “вольнасць, роўнасць дай свабода народу” – пяройдзе ў кроў кожнага і цэла моц маскоўская нас не пераможа, хаця ж бы яму самое пекла памагаці стала.

Рук ахвотных і сягодня ў нас даволі, но з голымі рукамі не ісці на штыкі маскоўскія. Ронд польскі і яго чыноўнікі павінні добра над гэтым падумаць, грошы ў нас будуць, бо мы знаем патрэбу таго, бо мы маем спосабы на тое. Но каб за нашы грошы мы мелі што ў рукі ўзяці, Ронд польскі гэтаму зарадзіць; а калі натрапіць перашкоды, то пры памоцы Бога і свайго права, упісанага ў нашых грудзях, усё з часам пераможа. Ты, аднак, Народзе, не дажыдайся, да з чым можаш ідзі ваяваці за свайго Бога, за сваё права, за сваю хвалу, за сваю бацькаўшчызну. Для цябе ўсё можна: нож, сякера, атрута; гэта твае спосабы, бо табе, як таму мужыку нявольнаму, бяспраўнаму, не прызнаюць права самаабароны, бо табе нічога не можна. А калі народы заграніччныя, з дзіва разінуўшы рот, скажуць: "шалёныя", Ты, народзе вялікі і чэсны, праўдай ім адкажы, што яны таму прычынай, што гэта на іх сумленне цяжкім грэхам ляжа".

Скончыў пісаць, доўга і ўзбуджана хадзіў па пакоі.

Потым як што скаланула яго, нехта нябачны асцярожна дакрануўся да яго спіны.

*Марыська чарнабрэва, галубка мая,*
*Гдзе ж ся падзела шчасце і ясна доля твая?*
*Усё прайшло, – прайшло, як бы не бывала,*
*Адна страшэнна горыч у грудзях застала.*
*Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці,*
*Дай ў прадвечнага саду вялеў прападаці,*
*То мы прападзем марна, но праўды не кінем,*
*Хутчэй Неба і шчасце, як праўду, абмінем.*
*Не наракай, марыся, на сваю бяздолю,*
*Но прыймі цяжкую кару Прадвечнага волю,*
*А калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся,*
*То я з таго свету табе адазвуся.*
*Бывай здаровы, мужыцкі народзе,*
*Жыві ў шчасці, жыві ў свабодзе.*
*І часам спамяні пра Яську твайго,*
*Што згінуў за праўду для дабра твайго.*
*А калі слова пяройдзе ў дзела,*
*Тагды за праўду станавіся смела,*
*Бо адно з праўдай у грамадзе згодна*
*Дажджэш, Народзе, старасці свабодна.*

Дапісаўшы гэта, тут жа пераключаўся на іншае:

“…Браты мае, мужыкі родныя! З-пад шубеніцы маскоўскай прыходзіць мне да вас пісаці, і можа раз астатні. Горка пакінуць зямельку радную і цябе, дарагі мой народзе. Грудзі застогнуць, забаліць сэрца, – но не жаль згінуць за тваю праўду.

Прыймі, народзе, па шчырасці маё слова прадсмертнае, бо яно як з таго света толькі для дабра твайго напісана. Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і науку. Тагды ён толька магчыме жыці ў багацтве, па праўдзе, тагды ён толька, памаліўшысь Богу, заслужыць неба, калі збагаціць наукай розум, разаўе сэрца і радню цэлу сэрцам палюбіць.

Но як дзень з ноччу не ходзіць разам, так не ідзе разам наука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Дапокуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва і ніякай наукі, – адно намі, як скацінай, варочаць будуць не для дабра, но на пагібель нашу.

Для таго, Народзе, як толька калі пачуеш, што браты твае з-пад Варшавы б’юцца за праўду й свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ўхапіўшы за што зможаш, за касу, сакеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю зямлю радную.

Бо я табе з-пад шубеніцы кажу, Народзе, што тагды толька зажывеш шчасліва, калі над табою Маскаля ўжэ не будзе!

*Твой слуга Яська-гаспадар з-пад Вільні”*

4

… Караліна глядзіць у заснежанае акно.

На вуліцы ідзе снег. Ветру няма, і таму сняжынкі, бухматыя і лёгкія, плаўна апускаюцца на зямлю. Яны кладуцца адна на адну на падваконне, непрыкметна і пакрысе белы пласт павялічваецца і павялічваецца.

У хаце цёпла. У грубцы гараць дровы, чуваць, як патрэсквае агонь, кранаючы берасцяныя чурбакі.

На душы трывожна і ў той жа час яе ахоплівае пачуццё гонару і задаволенасці – дзяўчына адчула, што ў яе жыцці наступіў пералом. Зроблены важны крок у заўтрашні дзень.

Колькі дзён назад яе паклікаў Цытус Далеўскі. Яна не ведала, з якой прычыны яна спатрэбілася яму – і да гэтага не раз клікаў.

Прасіў аднесці па ўказаным адрасе карэспандэнцыю, забраць адтуль прызначаную яму. Аднойчы яна пайшла на тайную кватэру таго, якога ўсе аберагалі ад царскіх шпікаў, прозвішча якога стараліся не вымаўляць уголас.

І ёй тады Цытус нічога не паведаміў пра прозвішча. Толькі сказаў:

– Караліна Яцына, просьба вялікая да цябе. Схадзі па адрасе, спытай, ці не трэба пану Чарнаўскаму малако з вёскі. Чалавек адкрые дзверы і аддасць табе пакунак з паперамі. Пакладзі той пакунак на дно кашолкі, накрый чым-небудзь. Прынясі пад вечар мне.

Пастукалася, ёй адчынілі, на лесвічную пляцоўку выйшаў юнак. Уважліва паглядзеў на яе, пранізаў праніклівым позіркам. Дзяўчына адчула, як загарэліся яе шчокі, пастаралася прыкрыць іх далонькмі. Не магла вымавіць і слова.

– Не трэба хвалявацца, – супакоіў яе канспіратар, – вам тут нічога не пагражае…

Хуценька дастаў з унутранай кішэні накінутага на плечы пінжака скрутак паперы, паклаў ёй у кошык.

– Сёння малако мне не трэба, а заўтра, калі ласка, прынясіце!

Дыктатар, а гэта быў ён, як нечакана вырас перад яе вачыма, так і знік за зачыненымі дзвярыма.

Спускалася па прыступках, і не чула, як ногі дакраналіся да іх.

“Цяпер я ведаю, якой ён валодае ўнутранай прыцягальнай сілай, – палохалася яна самой сябе. – Езус Хрыстус! Зрабі так, каб я яшчэ раз убачыла яго…”

Яна не памятала, як дайшла дадому, як адчыніла дзверы і зайшла ў хату. Пра нешта папыталася ў яе маці, – адказала няўцямна і бязгучна. Здзіўлена паглядзеў на яе бацька, яго голас як скрозь тугі туман данёсся да яе… Яна толькі вінавата ўсміхнулася ў адказ і заспяшалася ў свой пакойчык.

– Дачушка, што з табой? – нахілілася над ёю спалоханая маці.

Караліна маўчала, а думкамі была яшчэ там, на лесвічнай пляцоўцы дома на Антокалі, што за касцёлам Святога Пятра, у доме Каха表ноўскага. Ніякі ён не Чарноўскі – жыў у Грэгатовічаў пад прозвішчам Каліноўскага.

Жыў нядоўга, каля двух месяцаў, там і сустракаў 1863 год. Там жа кватаравалі дзяўчаты – Стафанія Фальская і Браніслава Сідаровіч. Сама чула, як яны амаль спрачаліся паміж сабою, на каго ён зверне сваю ўвагу. А яму не да іх было, зусім пра іншае балела яго сэрца. Ад

Грэгатовічаў пераехаў на кватэру, якая знаходзілася каля манастыра баніфратраў, якая належала Кельчэўскай, – там ён ўжо называўся Макарэвічам…

– Каралінка, скажы, што з табою здарылася? Мо доктара паклікаць?

Дачка прымружыла вочы, уздыхнула, не чуючы, як маці дакранулася да яе ілба, – правярала, ці не гарачка прыкінулася да яе. Не расплюшчваючы вачэй, прамовіла, амаль прашаптала:

– Мне вельмі холадна, і я вельмі хачу спаць…

Маці ўзяла цёплую шарсцяную коўдру, накрыла амаль да самай шыі. І тут жа дачка задыхала роўна і спакойна – маці зразумела: спіць.

– Нічога, – паведаміла мужу, – прыступ нейкі лёгкі ў яе, але трэба будзе паказаць доктару.

– Узроставае, – выказаў меркаванне Пятро Міхайлавіч, кладучыся ў ложак.

Раніцай Караліна прачнулася разам з усімі.

Маці за сняданкам не напамінала ёй пра ўчарашняе, а дачка, бачна было, і не памятала нічога, што з ёю адбылося.

Праз колькі дзён зноў паклікаў Караліну Цытус Далеўскі.

– Ёсць, Каралінка, да цябе просьба. Вялікая просьба.

Далеўскі выглядаў нейкім стомленым, ад недасыпання вочы сталі чырвонымі і павекі набрынялі – міргаў запаволена і рэдка.

Пазнаёміліся яны ўжо даўнавата. Даведаўшыся, што Караліна скончыла вучобу і пачала працаваць хатняй настаўніцай, Цытус далучыў яе да рэвалюцыйна-паўстанцкай работы.

– Нам трэба адданы памочнік.

– Ты не будзеш прыцягваць да сябе асаблівай увагі, бо, як хатняя настаўніца, ходзіш па хатах. І да нашых людзей будзеш заходзіць. І вось цяпер табе прапанавана канкрэтная справа: ты будзеш сакратаром і ахоўнікам Каліноўскага.

“Няўжо, няўжо мяне так блізка падпусцілі да яго? Ведаю, яго сэрца належыць іншай, і таму я ахвярую сваё каханне дзеля агульнай і высокароднай справы…”

Цытус абаперся на спінку крэсла, прымружыў вочы, уздыхнуў:

– Даруй, што я такі нягеглы сёння, – усю ноч працаваў, рыхтаваў для яго дакументы. Вазьмі іх – яны ляжаць на стале ў зялёнай папцы. Ты іх павінна заўтра вечарам аднесці яму. Ён і раскажа

табе, што табе трэба будзе рабіць. Праз сем гадзін я з'еду з Вільні, таму цяпер і паклікаў цябе.

Караліна ўзяла са стала тэчку, паклала ў свой настаўніцкі партфель.

– Я магу ісці, Цытус?

– З Богам, Каралінка!

Цытус прычыніў за ёю дзверы, на пляцоўку не выходзіў.

У пад'ездзе было ціха – ні воклічаў, ні галасоў.

Яна павольна, як і належыць хатняй настаўніцы, пачала спускацца па прыступках уніз.

.......................................................

Эх каб… Каб узважылі ўсё ды прыслухаліся да парад мудрых і вопытных. Дык не, па-бакунінскі выйшла ўсё ж – распачнем, а там і трава не расці, будзе кожны тым, кім хоча. Ды як той казаў, Бог хацення не даў…

"Я думаю, што польская рэвалюцыя на самай справе адбудзецца тады, калі паўстанне польскае пяройдзе суседнімі губернямі ў рускае сялянскае паўстанне. Для гэтага неабходна, каб і само польскае паўстанне з характару толькі нацыянальнага перайшло ў характар паўстання сялянскага і такім чынам паслужыла б ферментам вызначэння для Расіі і Маларосіі".

Гэта залатыя словы Міколы Агарова да арганізатараў паўстання. Але яны дасланыя са спазненнем – вясной 1863 года, а паўстанне ўспыхнула ў ноч на 23 студзеня таго ж года. А калі б даслалі і своечасова? Ці прыслухаліся б да яго правадыры паўстання?

Эх, каб… Каб прыслухаліся, ды падрыхтавалі ўсё як след…

Канстанцін Каліноўскі, як Аляксандр Герцэн і Мікола Агароў разумелі, што сітуацыя, якая склалася ў Расіі і Польшчы, не мела магчымасці разгарнуцца ва ўсю моц і перарасці ў сялянскую вайну і раскартухаць спячую і лянівую Расію. Яны не былі песімістамі, проста аналізавалі сітуацыю.

Як толькі пачалося паўстанне, Герцэн пісаў у сваім выданні, звяртаючыся да сяброў-паўстанцаў, да Канстанціна Каліноўскага: *"Так, палякі-браты, ці загінеце ў вашых дрымучых міцкевіцкіх лясах, ці вернецеся вы вольнымі ў вольную Варшаву – цывілізаваны свет усё роўна не можа вам адмовіць у шчырым здзіўленні… вы – вялікія!"*

Душой і сэрцам перажывалі Герцэн і Агароў за паўстанне, за жыцці яе правадыроў і паўстанцаў. Падзяка ім за гэта вялікая!

Не толькі словам, а і справай дапамагаў Аляксандр Герцэн народнаму рушанню. Ён выдзеліў грошы для закупкі зброі, нават паслаў атрад валанцёраў-добраахвотнікаў за свой кошт. Яго пасланец у красавіку прывёз ліст да Каліноўскага, у якім выказваў сваю цвёрдую надзею і спадзяванне на шчаслівы зыход распачатай справы.

“А палякі – малайцы, рашылі ў што б ні стала працягваць рэвалюцыю, якая і будзе заранкам нашай свабоды… Калі нашы ўсё ўдала ўладкуюць, то ўрад знікне, як прывід, – я веру ў поспех!..”

А даведаўшыся, што Андрэй Пацябня, які ўзначаліў атрад і мужна змагаўся супраць царскіх войскаў, загінуў у жорсткім баі, з горыччу пісаў:

“Чысцей, самаахвярней, адданей ахвяры ачышчэння Расіі не маглі прынесці на палаючым кастры польскага вызвалення…”

Партыя “белых”, якая да гэтага знаходзілася яшчэ ў эміграцыі, як толькі пачалося рушанне, адразу ж далучылася да яго. Яны змаглі нават адхіліць ад кіраўніцтва паўстання “чырвоных”, што вельмі зашкодзіла агульнай справе, гэта ўнесла бязладдзе ў шэрагі тых, хто ўзняўся на барацьбу. Пасля гэтага згуртаванае і наладжанае арганізацыйна паўстанне, на вялікі жаль, распалася і падзялілася на некалькі плыняў, асяродкаў партызанскіх выступленняў…

Але тым не менш Герцэн і Агароў заклікалі грамадскасць усімі сіламі падтрымаць змагароў. Працягвалі збіраць грошы, каб закупіць адзенне і зброю. А “Звон” з нумару ў нумар друкуе артыкулы, у якіх выкрываюцца крывавыя і карныя дзеянні царскіх памагатых у Польшчы. Калі гераічна загінулі Зыгмунт Падлеўскі і Серакоўскі, з’яўляюцца некралогі.

Герцэн і Агароў стараюцца падштурхнуць рускі народ да актыўных дзеянняў, далучыць да рэвалюцыйнай справы… У 160-м нумары выдання Герцэн з горыччу піша: “Ці была патрэбна, ці не наша імперская фармацыя, нам у гэты момант клопату няма – яна факт. Але яна зрабіла свой час і занесла адну нагу ў труну – гэта таксама факт. Мы стараемся ад усёй душы памагчы другой назе. *Так, мы супраць імперыі, таму што мы за народ”.*

Думалася, марылася, што вясной і летам 1863 года падчас падпісання “статутных грамат” у Расіі ўспыхне доўгачаканае

паўстанне – сялянская рэвалюцыя. Але такія спадзяванні не здзейсніліся. Ужо восенню таго ж года стала відавочна, што непераўзыходзячая барацьба ў Польшчы не дае жаданых вынікаў, а гэта азначала – і ніякіх рэвалюцыйных перспектываў для Расіі.

5

Доктар Фавелін падаў Мураўёву падрыхтаваную мікстуру.

Міхаіл Мікалаевіч адчуў сябе блага і паклікаў яго, доктара Фавеліна, да сябе ў кабінет. Генерал-губернатар рэдка калі скардзіўся на хваробы, але ў сувязі з апошнімі падзеямі, якія адбываліся ў Вільні, апошнія ночы Мураўёў кепска спаў. Доктар даваў яму настоі з зёлак, але тое не дужа памагала.

Мураўёў выпіў горкую мікстуру, перакрывіўся.

– Ну и гадость твое лекарство, милейший доктор, пить противно.

– Зато, ваше превосходительство, вам сразу же станет лучше.

– Ну, дай-то Бог, дай-то Бог! – прамовіў генерал-губернатар, прыхільна паглядзеўшы на доктара.

– Не вставайте, Михаил Николаевич, – параіў той. – Закройте глаза, запрокиньте голову, и посидите несколько минут молча.

Спакойна і аднастайна калыхаўся маятнік масіўнага гадзінніка, што стаяў у куце. Фавелін, счапіўшы рукі за спіной, падышоў да карты Расіі і Паўночна-Заходняга краю, што віселі паміж вокнамі на шырокім прагалку. Побач карта Польшчы.

Прайшло колькі хвілінаў, і генерал-губернатар ажывіўся, расплюшчыў вочы. Паглядзеў на доктара, што стаяў каля карты Польшчы, радасна абвясціў:

– А вы оказались правы, голубчик, сразу же посветлело в глазах. Спасибо!

Мураўёў бадзёра ўскочыў са скуранога крэсла, пачаў пацепваць плячыма, размахваць рукамі. Да твару зноў падступіла ружовасць, прапала ў нагах дрыготка.

– Вы уж не бросайте меня, голубчик, посидите в моей личной комнате, а я поговорю с Лосевым, который ожидает приёма.

– Хорошо, ваше превосходительство. Только не раздражайтесь во время разговора, не повышайте голос. Вы еще не совсем здоровы.

Фавелін пайшоў у генеральскую баковачку, прычыніў, але не шчыльна зачыніў за сабою дзверы, сеў у крэсла.

Чуў, як Мураўёў запрасіў да сябе Лосева.

Фавелін здзівіўся, якім грозным бывае Лосеў, калі размаўляе са сваімі падначаленымі.

– Заходите, милейший Александр Михайлович! Хвалитесь, как дела, как выполняете мои распоряжения! Доложите!

Голас у Мураўёва спакойны, нават мяккі, добразычлівы.

– Понемногу продвигаемся, ваше высокопревосходительство! Стараемся.

– Очень плохо продвигаетесь и стараетесь! – сарваўся на крык Мураўёў.

– Не понял, ваше высокопревосходительство…

– Не поняли? А государь император почему-то понял. И он очень возмущен вашим отношением к службе. Он, естественно, требует только одного – немедленно, – слышите? немедленно! – огнем и мечом не только пресечь, но и искоренить, каленым железом выжечь крамолу в вверенном мне крае!

Маўчанне.

– Вы что это себе позволяете, милостивейший государь? Неужели вы думаете, что меня, отставного генерала, почти что старика, августейшая особа призвал на военную, я бы сказал, и фронтовую службу, случайно? Подумайте сами – успешно завершилась кампания по усмирению мятежного Кавказа, а потом разгром чеченских бунтовщиков, вспомните о славных делах фельдмаршала Александра Суворова, который в наших краях приводил в норму бунтовщиков Костюшки. Но это, я бы сказал, были только цветочки. Ягодки, горькие ягодки белены или какой другой отравы, достались мне и вам, виленскому губернскому жандармскому штаб-офицеру, а также и председателю особой следственной комиссии Вильно… Вы знаете, что меня прозвали в крае Муравьёвым-вешателем, не так ли?

У адказ – маўчанне. Відаць, Лосеў пры гэтых словах выцягнуўся ў струнку.

– Я начал вешать еще с 1830-го года. И вы должны делать то же самое. И не только, а и поставлять для вешания государственных преступников. А вы пытаетесь свои обязанности переложить на плечи других! Стыдно!

– Осмелюсь заметить, ваше высокопревосходительство, что с того времени, как вас назначили на высокую службу сюда, виселицы для виленского края стали привычными. Не за горами и окон-

чательный разгром не только отдельных одиночек-кинжальщиков, но и бандитских повстанческих отрядов. Наши войска…

– Вы, господин полковник, не трогайте войска, не трогайте! Это юрисдикция военных генералов, а вы, жандармский полковник, рискуете не только не получить генеральские погоны, а и своих собственных лишиться!

– Простите, ваше высокопревосходительство… – прамовіў абмяклым голасам Лосеў. – Я не заслужил такого…

– Заслужили, заслужили! Я не могу простить бездеятельности своих подчиненных. Вы спокойно спите по ночам? А я уснуть не могу, мне уже снится каждую ночь Яська из-под Вильни, а вы всё обещаете и обещаете изловить его. Когда это произойдёт, жандармский полковник, когда, ответьте?

Мусіць, Мураўёў забыўся на яго, Фавеліна, перасцярогу, бо голас набыў такую моц, што посуд дрыжэў у шафе. Ён ужо хацеў падняцца і ўмяшацца, але не наважыўся.

– Ваше превосходительство, выслушайте меня. Клянусь честью офицера, что в ближайшие дни руководитель бунта, живой или мёртвый, предстанет пред вами!

– Мёртвый мне он не нужен. Только живой, слышите, живой!

– Нескольких дней, а возможно, и часов…

– Откуда у вас такая уверенность, Александр Михайлович?

Голас у генерал-губернатара перамяніўся, нават паніжэў – і доктар супакоіўся.

– Он уже в капкане. Осталось только захлопнуть тот капкан.

– Так захлопните! Кто вам мешает?

– Непредвиденные обстоятельства, ваше высокоблагородие. Калиновский оказался профессионалом. То он живёт в одном месте, то в другом, то он Макаревич, то Витоженец, то Чарновский… Каждый день – всё новое и новое обличье.

– Тогда вы мне ответьте на такой вопрос. Что вы делали полмесяца в Могилеве?

– Эта поездка была учень удачной. Там мы арестовали повстанческого комиссара Парфиановича. Я лично вытянул из него бесценнейшие сведения о главном бунтовщике…

– Я ознакомился с вашим донесением. И что же?

– Так он мне всё подробно рассказал и о явочных квартирах, и о резиденции их подпольного правительства Северо-Западной части России.

– Вы хотите сказать, что и их правительство находится в том же Могилеве?

– Да нет же, нет. Вы удивитесь. Оно здесь, в Вильно, и при том недалеко от нас, от этого здания. Более того, вы не поверите, если я выгляну в окно, и крикну: “Эй ты, бунтовщик Калиновский, отзовись!”, то он услышит мой голос. Недалеко отсюда находится костел святого Яна. Квартал, который примыкает к нему, жители Вильни именуют “муры”. Это бывшие общежития бывшего Виленского университета. В одной из квартир этих “муров” и проживает известный нам “диктатор Литвы”.

– Почему вы не арестуете его?

– Есть одно обстоятельство. Я знаю все про него, но, к сожалению не знаю его в лицо. Так же не знаю и номера квартиры, где он обитает. В данный момент, когда мы беседуем с вами, все силы брошены на то, чтобы изучить все домовые книги. Он, как сказал нам Парфианович, сегодня прописан под именем Витоженец. Как только мы наткнемся на эту фамилию, не составит никакого труда взять его в теплой постели…

Мусіць, генерал-губернатар задумаўся, бо нейкі час маўчаў.

– Так вы говорите, Александр Михайлович, что это один из опытнейших бандитов?

– Уму непостижимо, как ему удается так ловко ускользать из расставленых нами ловушек. Достойный и умный противник. Это не казачок-разбойник Разин, не мужлан Емелька… Он учился в Петербурге, имеет кандидатскую степень, знает несколько языков и издает “Мужицкую правду”. Кстати, уважаемый Михаил Николаевич, когда я вам его представлю живого и невредимого, хочется верить, что мои заслуги и вами, и августейшим монархом будут оценены по достоинству?

Мураўёў маўчаў, і палкоўнік зразумеў, што час аўдыенцыі скончыўся.

Фавелін хуценька адышоў далей ад дзвярэй, і ўсеўся ў крэсла. Паклаўшы галаву на мяккую спінку, прытварыўся, што дрэмле.

6

А звон “Колокола” гучэў трагічна і мінорна.

Вынікі паўстання Герцэн падводзіць у артыкуле “У вечнасць будучаму 1863 году” ад 15 снежня 1863 года. Гэта быў рэквіем

загінулым, памінальная малітва, звернутая да Бога, да паўстанцаў Беларусі і Польшчы, якія "аддалі чацвёртага сына пасля трох палеглых на полі бою, пятага пасля чатырох".

Але параза паўстання стала цвёрдым падмуркам будучыні.

… Пяць гадоў мы без стомы *склікалі жывых.* Цяпер, калі мёртвыя адышлі і ніхто ад мёртвых не застаўся, будзем званіць да самой *абедні,* клікаць да свядомай справы! Аднак я цяпер, як і раней, цвёрда перакананыя, што ***паўстанне было непазбежным, і спыніць яго не магла ўжо ніякая сіла!..***"

… Кастусь знаходзіцца на Зарэчнай вуліцы.

Позна. Разышліся сябры, што праведвалі яго.

Здаецца, задрамаў. Але нешта прымусіла яго прачнуцца, насцярожыцца.

У прачыненую фортку даляцеў камандны і затоены голас: "Акружаць ціха, злачынца знаходзіцца тут..."

Ён ускочыў з ложка, прытуліўся ілбом да халоднага шкла.

На падваконні іней, ужо выпаў першы сняжок. Марознае паветра выдавала кожны шолах, кожнае моўленае ўголас слова. Унізе, між дрэваў, краліся паліцыянты і салдаты.

"Па маю душу!"

І толькі ён так паспеў падумаць, як пачуўся грукат у дзверы.

Не паспеўшы апрануцца, хаця б што накінуць на плечы, расчыніў акно, выскачыў на балкон. А ўжо адтуль падняўся на дах, учапіўшыся за комін.Ляжаў на халоднай бляхе ў адных споднiках і ніжняй сарочцы, прыслухоўваўся, што рабілася ў кватэры.

Чуваць было, як салдаты і паліцыянты пераварочваюць усё дагары нагамі – і шафу, і ложак... Вобыск доўжыўся мо гадзіну, мо і дзве, – на сіверным холадзе Кастусь не адчуваў часу. Адно радавала, на гэтай канспіратыўнай кватэры не было сакрэтных папераў, якія б тычыліся паўстання.

Калі ўсё ацiхла – пад раніцу, – ён спусціўся назад, у свой пакойчык.Заплаканая гаспадыня абняла яго радасна, нічога не гаварыла. Адразу ж прынесла гарбаты, каб хоць трохі сагрэўся.

У той жа вечар, адказваючы свайму сябру і паплечніку Баляславу Длускаму па Літоўскім правiніцыяльным камітэце, які знаходзіўся за мяжой, пісаў:

"Царскія ўлады точаць на мяне зубы. Пад рознымі прозвішчамі шукаюць мяне ў Вільні. Толькі дзеля смеху Італьянца павінен да-

даць, а іменна: Chamet напішыце які-небудзь ліст з Парыжа з сапраўдным маім подпісам і адашліце poste restante на якое-небудзь імя, – можа гэта адцягне іх увагу. Нягледзячы ні на што, то праз акно на дах, то іншымі спосабамі заўсёды шчасліва выслізваю з іх рук. Бог мяне ахоўвае, і калі ўжо прыдзецца завіснуць, то няхай гэта будзе на радасць усім літоўскім панам і прасветлай Маскве…"

У другім лісце дапаўняе:

*"Дарагі дружа Баляслаў, вось што яшчэ. Пра становішча ў краі я напішу табе асобна, але мой загад, просьба, пажаданне, – як хочаш расцэньвай, – неабходна захаваць і зберагчы сілы паўстання да вясны. Мы акрыяем, мы набудзем новую моц. Адступаць ні ў якім разе нельга! Асабіста для цябе заданне: надрукуй абавязкова ваенныя статуты, каб было чым кіравацца інсургентам, за зімовы час арганізуй ваенныя школы. Мы павінны вучыцца змагацца, толькі так мы можам выстаяць і аказаць супраціў маскалям! Іначай – загінем!"*

І тады ж рэвалюцыйны камісар Вікенцій Канстанцін Каліноўскі ад імя Літоўскага аддзела выдае цыркуляр, у якім пералічвае прозвішчы тых грамадзянаў, якія павінны з'ехаць за мяжу, ратавацца ад арышту. Дадае яшчэ ў цыркуляры, што паўстанцкі цэнтр пераканаўча жадае, каб такія ад'езды рабіліся непасрэдна пад яго кантролем…

… Каліноўскі спыніўся каля акна. Касцельныя спевы, што далятаюць да яго, напамінаюць пра той час, калі ён, стаўшы на калені, выпрошваў у Ісуса Хрыста перамогі ў распачатай справе. У горле горка і суха. Злёгку ванітуе, і не праходзіць слабасць у нагах.

Грымнулі запоры, чуў, як за спінай прачыніліся дзверы.

– Здравствуйте, молодой человек!

"Зноў Лосеў. Зноў прыйшоў, каб вырваць з мяне паказанні. Што ж, вырывай, калі табе тое ўдасца…"

Каліноўскі няспешна павярнуўся да дзвярэй. Убачыў, што каля парога стаялі Лосеў, паліцмайстар і доктар Фавелін.

– О, якія ў мяне госці! Вітаю вас!

Вязень схіліўся ў паклоне, заўсміхаўся.

– Не прапаноўваю вам сесці, бо не маю патрэбнай мэблі.

– Ничего, Викентий Константин Семенович, мы со своими табуретками пришли. Только доктор Фавелин не пожелал нести ее,

согласился постоять. Осмелюсь спросить, удовлетворяют ли условия,. в которых вы находитесь? Нет ли жалоб на какие-либо неудобства?

– І калі я вам пра іх скажу, то вы мне тут жа створыце ўсе неабходныя ўмовы?

– По мере возможного, что сможем и что положено.

Вязень кісла ўсміхнуўся.

Фавелін падышоў да Каліноўскага, спытаў:

– Может, вы присядете на постель, у вас очень ослаблен организм.

– Дзякую, доктар! Мне так лепш стаяць, бо баляць бакі ад жалезных прэнтаў.

Лосеў разгарнуў папку, павярнуўся да асуджанага.

– Не могли бы вы, Константин Семенович, ответить нам на несколько вопросов?

– Чаму ж не, задавайце іх, пан палкоўнік!

– Прекрасно. Как вы очутились в Вильно? Кроме этого, интересно знать, где служили или учились до этого? Из какого сословия? По одежде вашей видно, что не мужицкого происхождения, не так ли?

– Вы  вельмі назіральны, Аляксандр Міхайлавіч! – з’едліва пахваліў жандара асуджаны.

– Профессия такая.

– Прафесія шпега-выведніка?

– Да нет, не только это, Викентий Константин Семенович, не только. У меня к вам, как к диктатору, особое и пристальное внимание. Даже не внимание, а профессиональный интерес. Мне импонирует ваш ум и проницательность, ваша высокая эрудиция. И руководствуюсь я одной лишь гуманной целью – помочь вам сохранить жизнь, избежать виселицы, к которой вы сами себя подталкиваете.

Каліноўскі рассмяяўся ўголас:

– Не вы мяне, а я сам сябе падштурхоўваю да віселіцы? Вунь вароны за акном пачынаюць смяяцца.

Лосеў не звярнуў увагі на яго словы, толькі злёгку нахмурыўся, уздыхнуў незадаволена: гаворка распачыналася не ў тым кірунку, як яму жадалася б.

– Как бы оно ни было, уважаемый сударь Калиновский, но никто не будет отрицать тот факт, что только я один могу вам помочь сохранить жизнь.

– І вы хочаце, каб я паверыў у тое?

– А это уже ваше дело.

– Ладна, уявім на хвілінку, што я паверыў. Што з гэтага вынікае? На чым грунтуюцца вашы абяцанні?

– На вашей честности, на вашем чистосердечном признании, что вы совершили преступление по отношению к России и царю-батюшке. Августейший монарх не жаждет вашей смерти. Как только вы признаете свои заблуждения и отречетесь от своих взглядов, вам сразу же будет дарована жизнь.

– Будзьце так ласкавы, палкоўнік, патлумачыць мне падрабязней, што я канкрэтна павінен расказаць і ў чым прызнацца.

Фавелін не глядзеў ні на асуджанага, ні на Лосева, думаў пра сваё, вельмі шкадаваў, што не змог папярэдзіць арышт гэтага чалавека. А мог бы тое зрабіць. Але ці то не хапіла часу, ці ён недзе схібіў.

– От вас требуются почти незначительные уступки. А именно… Вы должны раскрыть конспиративную сеть всей вашей повстанческой организации. Назовете все явки, имена ваших сподвижников и помощников, – конечно же, живых и тех, кто не успел переметнуться за границу… И я обращаюсь к генерал-губернатору Михаилу Николаевичу Муравьёву с прошением о милосердии, так как вы на данный момент не представляете совершенно никакой опасности. И он, имея в душе сострадание, сразу же заменит вашу смертную казнь через повешение на ссылку в уединенную местность где-нибудь в Сибири. Вместе с вашей невестой. У вас есть невеста, Викентий Семенович?

Кастусь не звярнуў увагі на пытанне Лосева:

– Цікава атрымліваецца, палкоўнік Лосеў. Гэта напамінае казку ці байку, калі мядзведзь аддае ваўку ягня і просіць таго, каб пашкадаваў беднае стварэнне і не еў яго. Вы просіце ў Мураўёва-вешальніка, каб ён мяне не вешаў? Няўжо вы пазбавіце яго "высокопревосходительства", вешальніка ў генеральскіх пагонах, асалоды? Не паверу!

– Это ваше право. Но у вас, к сожалению, нет выбора. Совершенно никакого-с.

– А вось тут вы памыляецеся, хаця і лічыце сябе прафесійным шпегам і следчым.

– Это почему же? – паглядзеў на яго са шчырым здзіўленнем жандар.

Каліноўскі адышоў ад акна, ступіў колькі крокаў да дзвярэй, дзе сядзелі Лосеў і яго памагаты. Фавелін безуважна глядзеў на Лосева.

– Не разумееце? Растлумачыць? Добра… Белая Русь, Літва, Польшча, Каўказ з Чачнёй і разам з імі сярэднеазіяцкія народы, з якіх вы зрабілі калоніі Расійскай імперыі, доўга, вельмі доўга будуць памятаць вашыя крывавыя подзвігі на іх тэрыторыі. І праз стагоддзі не забудуць нашчадкі вашы зладзействы, і таму будуць помсціць, помсціць і помсціць… Кроўна помсціць. Вы проста не ведаеце народ. Вось дзе праўда!

Каліноўскі пацёр пальцамі скроні, пахіснуўся. Убачыўшы гэта, да яго падышоў Фавелін:

– Вам плохо, диктатор Калиновский? Прилягте…

На гэты раз Вікенцій паслухаўся доктара, падышоў да ложка і сеў на металічную перакладзіну.

Лосеў, не ўстаючы з табурэткі, павярнуўся да вязня:

– Вы, из-за вашей правды, можете оказаться в безвестности. Как и ваши соратники. Вам выгоднее рассказать подробно о вашей борьбе, назвать имена сподвижников. Это пойдет в архив. А архив будет храниться столетия и столетия. И вы через эти столетия подниметесь на пьедестал славы.

– Я хачу свабоды майму народу, а не славы сабе. А вас я разумею палкоўнік, вельмі разумею. Вы б дорага заплацілі за тое, каб я вам расклаў усё па палічках, на спадачку падаў вам ключ ад сакрэтаў нашага вопыту барацьбы, раскрыў стратэгію і тактыку, тэхналогію арганізацыі і згуртаванасці нашых касінераў. Гэта б для вас была гатовая інструкцыя па папярэджанні такіх паўстанняў у зародку. Але ж хіба можна папярэдзіць вывяржэнне вулкана – народнага гневу?

– Отбросим вулкан, Викентий Константин Семенович. Речь идёт о вашей жизни. Восстание потерпело крах, и вам ничего не остается, как признать этот факт. А раз так, то вы и признаете свое поражение. А побежденных мы строго не судим. При условии, если они согласны сотрудничать с нами. Я уверен – ваши касинеры в тюрьмах подтвердят мои слова, посоветуют выбрать жизнь... Они вам простят и то, что вы их втянули в бессмысленную борьбу.

– Прайграўшы, мы ўсё роўна перамаглі вас. Паказалі, што мы – народ, а вы захопнікі і душыцелі. Ваш двухгаловы арол усё роўна некалі абламае сваю крывавую дзюбу.

Лосеў устаў, стрымліваючы сябе, каб не перайсці на крык.

– Вы забываетесь, осужденный! Я хотел вам помочь, но видит Бог… Не хотите добровольно? Хорошо. Пеняйте на себя, когда особая следственная комиссия армейских костоломов возьмет вас в свои тиски, – вытянет из вас, выпотрошит всё до ниточки. И еще – вы заговорите на нашем языке, на том, которому учились в Петербурге…

– Напужаў вецер млын…

– Простите, о чем это вы? – спытаў Лосеў, не зразумеўшы слоў Вікенція.

– Пра тое, што не ў вашай уладзе забараніць мне гаварыць на мове маіх бацькоў. Падчас Вялікага Княства Літоўскага вашыя паслы прыязджалі да вялікага князя і размаўлялі на мове нашага народа. Таму і вы будзеце вымушаны слухаць мяне на маёй мове.

Фавелін падышоў да Вікенція, узяў за руку, пачаў слухаць пульс.

Лосеў даў зразумець, што размова скончана.

– Вы крепкий орешек, Викентий Константин Семенович. И это мне нравится. Мне интересно, в удовольствие с вами работать.

Калі за паліцмайстрам, Лосевым і доктарам Фавеліным зачыніліся дзверы, асуджаны колькі хвілінаў нерухома ляжаў у ложку. Потым, перамагаючы слабасць, падняўся.

Падышоў да акна. Не звяртаючы ўвагі на холад, які сыходзіў з вуліцы, прыхінуўшыся, доўга стаяў у здранцвенні, слухаючы, як гулка б’ецца сэрца. Да яго слыху далятаў касцельны звон, напамінаючы, што пачалося вячэрняе богаслужэнне.

Тады ён пачаў маліцца.

Малітва была доўгай і шчырай.

Калі ж адчуў, што знямог ад яе, з цяжкасцю дайшоў да ложка, упаў на халодныя драціны і праваліўся ў беспамяцтва…

7

Караліна з хваляваннем ішла да дыктатара.

Радасць, замешаная на ўнутранай трывозе, прымушала дзявочае сэрца гулка біцца.

Яна ўяўляла, як прадстане перад пільным позіркам кіраўніка паўстання, што гаварыць будзе, адказваць на яго пытанні. А што ён будзе пра шмат аб чым пытацца, была ўпэўненая, – яна ўсё ж асоба адказная – сакратар яго.

Каля дзвярэй, на якіх прымацаваны металічны квадрацік з паметай “№ 16”, пастаралася ўзяць сябе ў рукі.Ціхенька пастукала ў дзверы. Потым яшчэ. А потым два разы гучна і два ціха, – як вучыў Цытус. Дзверы прачыніў ён, дыктатар.

– Езус пахвалёны ў хату! – праказала, адышоўшы ад дзвярэй.

– Пахвалёны, Караліна, пахвалёны! Распранайся, грэйся. У мяне акурат грубка распальваецца.

Ён дапамог зняць з яе плячэй апранаху, павесіў на вешалку. Паклаў на палічку яе футравую шапку.

– Праходзь, калі ласка, сядай.

Караліна агледзела пакойчык. Стол, два крэслы. Шафка. У кутку ложак, засцелены коўдрай. Акно зашторана парцьерай. На стале – паперы, папкі, чарніліца з ручкай.

Над сталом, на сцяне, маленькі бел-чырвона-белы сцяжок. Побач – партрэты Тадэвуша Касцюшкі і Адама Міцкевіча, Тараса Шаўчэнкі і Аляксандра Пушкіна…

Караліна падышла да грубкі, прысела на бярозавую калодачку, на якой, мусіць, сядзеў часта Кастусь, прачыніла дзверцы, падставіла далоні агню.

– Зімна сёння на вуліцы. Добра, што хоць без ветру…

– Так, бярэцца на марозік. Нечакана неяк у гэтым годзе прыйшла зіма. Ранняя зіма.

Кастусь склаў на стале патрэбныя паперы, счакаў трохі, калі агойтаецца яго госця, падсеў да яе.

– Ну, што, Каралінка, давай знаёміцца бліжэй. Пра цябе я збольшага ведаю. Бацька працуе ў вучылішчы, маці – швачка, ты – хатняя настаўніца. Два браты, малодшыя за цябе. Усё правільна?

Яна кіўнула галавой, адняла рукі ад грубкі. Паправіла доўгія косы, заклала за вушы.

– Пра мяне ты што ведаеш?

– Толькі тое, што мне можна ведаць. Але хачу папытацца хіба пра адно – як звяртацца да вас, якое імя можна ўжываць?

– Сёння я Ігнацій Вітажэнец. Так і называй мяне – Ігнат, Гнат, як хочаш. Хоць ты і сказала Цытусу, што гатова ахвяраваць сабой у імя святой справы Айчыны, але гэта ад цябе я хачу пачуць сам.

– Тое ж самае і вам, Ігнат, скажу. Тое, што я павінна буду выконваць, пастараюся рабіць добра.

– Разумны адказ, Караліна. Я і не хацеў, каб ты гаварыла мне ўзнёслыя словы адданасці агульнай справе.

– Самае галоўнае, спадар Ігнат. Я не пашкадую свайго жыцця для святой вызваленчай справы.

Хацелася дадаць шчырае прызнанне: "І за цябе, дарагі Кастусь!", але тыя словы пакінула ў душы.

– Не, Каралінка, ніхто не патрабуе ад цябе ахвяраваць жыццём. Ніхто. Усё ва ўладзе Ісуса Хрыста.

Каралінка наклала на сябе крыж.

Кастусь падняўся з крэсла, падышоў да стала. Высунуў верхнюю шуфляду. На самым дне, пад паперамі, ляжаў ключ. Ён узяў яго і падаў Караліне:

– У гэтую кватэру, калі будзе неабходна, ты можаш прыйсці ў любы час. Я папярэджу пра тое чыноўніка Жаброўскага. Скажу, што ў маю адсутнасць у кватэру можа зайсці мая сястра, каб узяць бялізну для мыцця, падрыхтаваць мне яду.

– Мне б хацелася ўзяць у вас бялізну цяпер. І вячэру падрыхтаваць.

Яна затоена паглядзела на яго.

– Не, Каралінка. Не цяпер. Потым. Ты павінна стаць маім другім "я". Ведаць, дзе магу быць, з кім сустракаюся. Калі ж я нейкі час не буду падаваць ніякіх вестак, звязвайся з Цытусам. Альбо прыходзь сюды. Для чаго? Раскрываю табе першы сакрэт. Давай падыдзем да стала.

Караліна паднялася з калодачкі.

Ігнат прыбраў стол. Адсунуў яго ад сцяны, прыўзняў на дзве ножкі.

– Глядзі, нічога не кідаецца ў вочы?

– Не.

Ён пазногцямі выцягнуў нябачны цвічок. У ножцы стала аказалася глыбокая адтуліна.

– Тут я хаваю вельмі важныя дакументы. Пра гэты тайнік ты будзеш ведаць адна, ніхто больш. Вось і ўсё на сёння, спадарыня Каралінка.

– Дзякую, Ігнат, за давер. Я апраўдаю яго. Да пабачэння!

– Да сустрэчы, Караліна Яцына! Хай паможа нам Бог!

За Каралінай нячутна зачыніліся дзверы.

І не было чуваць, як яна спускалася па прыступках…

## Частка чацвёртая

### 1

У прыцемкавым пакоі Асобай следчай камісіі сабраліся адказныя асобы царскай улады – палкоўнік Павел Міканоравіч Шалгуноў, воддалеч ад яго – за асобнымі сталамі, што стаялі каля глухой сцяны, сядзелі штабс-капітан Іван Іванавіч Сямёнаў і паручнік Мікалай Валяр'янавіч Гогель....

Шалгуноў падняўся, падышоў да акна, пачаў углядацца ў дахі дамоў, у людзей, што шпацыравалі па вуліцы.

– Задерживается почему-то Александр Михайлович, видимо, уговаривает бунтовщика, как всегда, миндальничает. Что касаемо меня, так я бы его за шиворот да и приволок бы сюда…

Сямёнаў і Гогель весела падтрымалі яго:

– Вы совершенно правы, уважаемый Павел Никанорович!

За дзвярыма пачуліся галасы, і ўсе зразумелі, што Лосеў прывёў на допыт бунтаўшчыка і дыктатара Каліноўскага. Шалгуноў паспяшаўся заняць сваё месца.

Дзверы расчыніліся, за парогам стаялі Лосеў і асуджаны – трымаў рукі за плячыма.

– Господа офицеры, здравия желаю! – звярнуўся адразу да ўсіх Лосеў.

Каліноўскі, агледзеўшы тых, хто збіраўся яму наладжваць допыт, трохі паразважаўшы, павітаўся па-свойму:

– Панове следчыя, царскія служкі, маё вам вітанне!

– Садитесь, подследственный! – паказаў Шалгуноў рукой на табурэтку пасярод пакоя. – Не могли бы вы оставить хотя бы на время допроса и объясняться с нами на человеческом, имеется в виду, – на русском языке. Вы же прекрасно владеете им, в Петербурге на нем разговаривали, не так ли?

Кастусь паглядзеў на Шалгунова:

– У вас цяжкасці з нашай мовай? Вы ж адукаваныя людзі, панове, вам жа даверана не толькі душыць свабоду і "насаждать" свой парадак, але і ўмець размаўляць з людзьмі. Як жа вы даведаецеся пра змову супраць цара, калі не будзеце ведаць, пра што гаворыць просты народ?

– Ну, это, извините, не ваша забота… Разобрались же с вами. Поняли.

Каліноўскі не звярнуў ніякай увагі на заўвагу Гогеля, працягваў, вымаўляючы цвёрда кожнае слова:

– Панове, а давайце тады я на польскай буду гаварыць. А мо лепей на французскай? Але ж вы ганьбуеце польскую, не ўспрымаеце яе. А пасля таго, як задушылі паўстанне "дзекабрыстаў", дык і на французскую скоса гледзіцё... Таму мне нічога не застаецца, як гаварыць на мове маіх бацькоў, і мне абсалютна ўсё роўна – будзеце вы мяне разумець ці не.

– Ну, как знаете, только для себя вы хуже делаете, – Лосеў падышоў да Шалгунова, нахіліўся над ім. – Павел Никанорович, как председатель Особой  следственной комиссии подпишитесь, пожалуйста, что я вам доставил диктатора.

Як толькі Лосеў зачыніў за сабою дзверы, Шалгуноў яшчэ больш стражэў:  загаварыў афіцыйна:

– Господа! Каково ваше мнение по поводу заявления подследственного относительно рабочего языка? Что скажете вы, уважаемый Иван Иванович?

– Дерзкое и непозволительное заявление! Последственный не отдает себе отчета, в каком положении находится. Не он должен диктовать нам свою волю, а мы ему.

– Павел Никанорович, я уверен, что ежели мы применим к нему особые меры воздействия, то он не только заговорит на русском языке, но попросит через несколько минут пощады...

Шалгуноў перакрывіўся:

– Ну нельзя же так, уважаемый Николай Валерьянович! Что будут о нас потом говорить потомки? Что мы костоломы,   выбиваем показания силой и пытками.

– Ну, – развел руками Гогель, – тогда  и вы миндальничайте с ним... Я злой, а вы – добрый.

– Ну, ладно, ладно... А что скажет сам подследственный – как нам избежать специальных допросов? Что вы предложите?

– Што? Мне вядома, што паручнік Гогель выдатна валодае мовай маіх продкаў. Больш таго, ён выдатна перакладае з рускай на беларускую і наадварот. Ды нават умее гэта падаваць у стэнаграме. Для яго гэта будзе  практыка Упэўнены, што стэнаграмы-пратаколы допытаў ён перадасць дакладна і не прадузята.

Шалгуноў павярнуўся да Сямёнава, уперыўся ў яго вачыма:

– Как вы к этому относитесь, Иван Иванович?

– Думаю, есть выход из создавшегося положения. Мы с поручиком можем составить официальный протокол допроса – стенограмма на двух языках. Основной составим, конечно же, на русском. Его-то подследственный и подпишет. Так будет правильно, подследственный? – звярнуўся ён ужо непасрэдна да Каліноўскага.

– Але толькі пасля таго, як я прачытаю, выпраўлю недакладнасці, дапоўню тое, што вы пастараецеся прапусціць.

Шалгуноў зноў абвёў усіх позіркам:

– Все согласны с такой постановкой вопроса?

Усе амаль у адзін голас адказалі:

– Согласны.

– Тогда начинаем допрос. К подследственному вопрос первый – ваша фамилия, имя и отчество?

– Маё імя – Ігнацій Вітажэнец. Жыву ў кватэры № 16 чыноўніка Жаброўскага ў Гімназіяльным доме пры Замкавай вуліцы, у Святаянскіх мурах. Жыву там па білеце Гарадзенскага паліцэйскага ўпраўлення ад 15 кастрычніка гэтага года...

Палкоўнік Шалгуноў разгарнуў “Дело Особой следственной комиссии о политическом преступнике Викентии-Константине Калиновском”.

– Так и запишем для начала – преступник называет себя Витоженцем. Вы настаиваете на этом?

– Так, я – Вітажэнец. Займаюся распрацоўкай матэрыялаў “Гістарычных характараў славянскіх народнасцяў”.

Старшыня камісіі са здзеклівай усмешкай паглядзеў на вязня.

… У дзверы нехта пастукаў.

Людвіка адразу вызначыла, што постук належаў не мужчыну. Тады – каму? У каго з’явілася пільная справа да яе?

Падышла да дзвярэй, прыслухалася.

– Адчыніце, цётачка Людвіка! Гэта я – Караліна.

“Божачка ты мой! – маўкліва ўсклікнула Радзевіч. – Што за новае няшчасце?”

Караліна хутка зайшла ў прачыненыя дзверы. Абняліся, прытуліліся адно да аднаго.

– Развітацца я прыйшла. Мо ўжо ніколі і не ўбачымся…

– Чаму ж так сумна, Каралінка? Не трэба так казаць, золатца маё…

Дзяўчына заплакала, зноў прытулілася да пляча жанчыны.

– Прыду дадому, а там мяне жандары чакаюць… Я ведаю пра тое. Але нікуды і ўцячы не магу, бо ўсё роўна зловяць. Яны будуць пытацца ў мяне пра дыктатара, а я ім нічога не скажу…

– Ведаю, Караліна, ведаю, што не скажаш… Ты – мужная дзяўчына.

– Прызнацца хачу вам, цётачка Караліна… Кахаю я вельмі яго. Але я нават не маю права імя яго прамаўляць. Ведаю, што яго сэрца належыць другой, але нічога з сабой парабіць не магу…

– Ведаю, што мяне чакае Сібір, ведаю, што выйду я замуж за паляка Саковіча, што нараджу яму дачку Алёну… Але перад маімі вачыма заўсёды будзе стаяць ён. Даруйце мне, цётачка, за мае прызнанні. Мне цяжка трымаць іх у душы.

– Дзякую за давер, дзяўчынка мая! Мо ў мяне пераначуеш, Кароля?

Дзяўчына адмоўна пакруціла галавой:

– Ой, не, нельга мне падвяргаць вас і вашую сям'ю рызыцы. Можа, яны сочаць за мной і ведаюць, да каго я пайшла. Так што я і так затрымалася, цётачка Людвіка! Бывайце, я пабягу!

Людвіка абняла яе за плечы, паглядзела ў мокрыя вочы, адчула, што і яна вось-вось заплача, прашаптала:

– Няхай беражэ цябе Езус Хрыстус…

– Во што яшчэ, цётачка. Мусіць, я вінавата ў адным недаглядзе. Прызнацца хачу. Ён даверыў мне зберагчы дакументы арганізацыі… Перад самым прыходам жандараў я зайшла ў кватэру, дзе кватараваў Вітажэнец. Кінулася да тайніка, а там – пуста. Няўжо шпікі апярэдзілі мяне і іх знайшлі? Дараваць сабе таго не магу, я ж не выканала галоўную просьбу і заданне…

– Адразу супакоіць цябе хачу, Каралінка. Твае хваляванні дарэмныя.

– Чаму – дарэмныя? – не разумела Яцына.

– Таму, што тыя дакументы, пра якія ты гаворыш, не папалі ў рукі жандараў. Калі той раніцай пастукалі да мяне ў дзверы і сказалі, што зграя жандараў уварвалася ў бацькоўскі дом, я кінулася адразу туды. Вобыск рабілі пільны. Перавярнулі ўсё ў хаце. Арыштавалі ўсіх, хто ў ёй быў – брата Юзафа. Забралі бацьку і маці, якія мелі сталы ўзрост, якіх паважалі ў горадзе. Тры сястры забралі – Марыю, Алену і Схаластыку, малалетку. Нават служанку Карусю не прамінулі, і яе зрабілі вінаватай… Тады ж

і арыштавалі  яго, Кастуся… Усё ішло добра, ды здрада Парфіяновіча…

– Ведаю пра здраду. Нечакана для ўсіх…

– Дык вось… Калі апусцела хата, я рашыла праверыць ноччу тайнік, пра які мне сказаў Вікенцій… Дастала пячатку Народнага ўрада. Так што ніякай памылкі ты не дапусціла. За што табе шчыра дзякуе  дыктатар.

Загарэліся шчасцем і радасцю вочы дзяўчыны:

– Вы… вы бачыліся з ім, цётачка?

Людвіка Радзевіч моўчкі і з лёгкай усмешкай пахітала галавой:

– Не я, а Ядвіга Макрыцкая. Сына яе асудзілі на смерць, а ён, пераапрануўшыся ў чужое адзенне, збег з Пецярбурга…

Караліна прысела на табурэцік і тут жа паднялася:

– Пара мне, пара, цётачка! Як хораша, што я завітала да вас.

Яна тройчы пацалавала жанчыну і хуценька вышмыгнула за дзверы.

………………………………………………………………

– Продолжим, господа! – Шалгуноў абвёў усіх позіркам, як быццам правяраў, ці ўсе знаходзіліся на сваіх месцах. – Вопрос к подследственному – ваша фамилия, имя, отчество?

Каліноўскі сядзеў на табурэтцы насупраць Шалгунова, глядзеў сабе пад ногі.

– Я пра гэта вам казаў  – Ігнацій Вітажэнец.

– Хорошо. К какому сословию принадлежите? По вашей одежонке сразу видно, что вы не из бедняков. Фамилия, имя, отчество…

– Вітажэнец. Ігнацій. Скончыў віленскую гімназію, універсітэт скончыць не паспеў, на вялікі жаль. У польскай арганізацыі не прымаў удзел, але чуў пра такую. Мінулым летам мяне захапіла бандыцкая шайка Віславуха, але я ў кастрычніку збег ад іх. Вярнуўся ў Вільню. У былых універсітэцкіх мурах наняў за невялікія грошы кватэру, каб весці працу. А я займаўся распрацоўкай і даследваннем матэрыялаў славянскіх народаў – гістарычны аспект. Я веру, што вы дасканала ва ўсім разбярэцеся і адпусціце мяне на свабоду. Памыляцца могуць усе, у  тым ліку і жандары.

Шалгуноў кашлянуў у кулак, паглядзеў на зняволенага са здзеклівай усмешкай:

– Всё может быть, всё может быть… Продолжайте. Но я смею вас заверить, что не отношусь к тем жандармам, которые когда-нибудь ошибаются. Ваша фамилия.

Каліноўскі ўздыхнуў, але спакойным голасам паўтарыў ранейшыя словы:

– Вітажэнец я. Ігнацій.

– Вы опять за своё, – перакрывіўся тварам палкоўнік як ад зубнога болю, – не надоело?

Вязень моўчкі пакруціў адмоўна галавой.

– На сегодня, господа, всё, – падняўся з крэсла Шалгуноў. – К сегоднешнему допросу арестованный не готов. Его нужно подготовить. Времени для допроса нам отпущено мало. Всё, господа!

............................

– Вы всё ещё продолжаете настаивать на том, что вы Витоженец? – палкоўнік Шалгуноў распачаў новы допыт.

– Так, я – Вітажэнец. Займаюся распрацоўкай матэрыялаў “Гістарычных характараў славянскіх народнасцяў».

Старшыня камісіі са здзеклівай усмешкай паглядзеў на вязня:

– Хорошо, пусть будет так… Продолжим. Введите сюда чиновника Жебровского.

Зайшоў сталага веку чалавек.

Спыніўся каля парога, недаўменна паглядаў на членаў камісіі, на таго, хто сядзеў на табурэтцы.

– Жебровский, вы знаете этого человека?

– Да, знаю, ваше сиятельство.

– Назовите его фамилию.

– Витоженец. Он нанимал квартиру под этим именем.

– Другую фамилию вы его не знаете?

– Нет, мне она неизвестна.

– Вы свободны.

Старшыня камісіі паглядзеў у спіс сведкаў, выкліканых для апазнання вязня, назваў наступнае прозвішча:

– Игнатия Шоцыка позовите.

Зайшоў згорблены чалавек гадоў шэсцьдзесят. Лысы, з сівой барадой.

– Назовитесь, свидетель.

– Ігнат я Шоцык. Дворнік Гімназічнага будынка.

– Вы знаете этого человека? – паказаў Шалгуноў на вязня.

– Так, ведаю. Ветлівы чалавек. Заўсёды са мной вітаўся. Вітажэнец ён. Як і я – Ігнат. Пераязджаў у Гімназічны будынак. Я яму яшчэ стол памагаў заносіць у кватэру.

– Свободны. Девицу Каролину Яцыно позовите.

“Божа, Божа, – падумаў роспачна асуджаны, – і цябе ў гэты вір укінулі… Даруй мне, дзіця, даруй”.

– Вы знаете этого человека? – спытаў у Караліны старшыня следчай камісіі, калі дзяўчына пераступіла парог. – Как его фамилия?

– Ведаю, але не вельмі… Разы два-тры бачыла. Калі прывозіла з вёскі малако, ён мяне сустрэў у пад’ездзе, папрасіў, каб наліла кварту. У мяне тады балела левая ножка, але сёння яна паправілася…

– Мы не о вашем здоровье спрашиваем. Фамилию, фамилию назовите.

Пра левую ножку Каліноўскі зразумеў. Значыць, левая ножка стала пустая, дакументы жандарам не дастануцца…

Ледзь прыкметна кіўнуў галавой.

– Гнат ён, а прозвішча не называў.

– Каролина, а фамилия Цитус вам известна?

– Ніколі пра яго не чула.

Вельмі хацелася Кастусю паглядзець ёй у вочы, падзякаваць, падзякаваць за стойкасць і за тое, што яна выратавала сакрэтныя дакументы, што можа засмуціць дзяўчыну.

– Можете идти, Каролина Яцыно! Но вы изложили не чистую правду. Вы тоже играли не последнюю роль в бунте. Вас, как и многих, ожидает Сибирь. Идите!

Ужо як збіралася павярнуцца да дзвярэй, мельгам кінуў позірк на яе – дзяўчына трымала на грудзях правую руку, паклаўшы адзін на адзін вялікі і ўказальны пальцы.

“Нікога не выдала, значыць. Не памыліўся я ў табе, Каралінка, за што і шчыра дзякую! Хай беражэ цябе Бог!..”

Задумаўшыся, не пачуў, як паклікалі наступнага сведку для вочнай стаўкі – Браніславу Сідаровіч. Яны разам наймалі кватэры ў Грагатовічаў яшчэ пад канец 1862 года. Спакойная і разважлівая, гожага твару, яна заўсёды падабалася Каліноўскаму. І гаварыць з ёю было цікава, і спрачацца.

– Известен ли вам человек, который сидит напротив нас на табуретке?

Браніслава прыгледзелася да вязня, і ён зірнуў на яе тым жа спакойным паглядам, што і заўсёды. Ніхто са следчых не заўважыў нават і намёк на тое, што яны маглі ведаць адно аднаго, некалі сустракацца.

– Вы мне даруйце, але гэтага чалавека я ніколі не бачыла. Не ведаю яго ні імя, ні прозвішча.

– А вы лучше присмотритесь, лучше, – Шалгуноў нерваваўся, пакусваў таўсматую губу. – За сокрытие фактов и обман вас ожидает строгое наказание.

– Ніколі і ў вочы не бачыла. Не ведаю я яго.

І з годнасцю паглядзела на Шалгунова.

Ён махнуў незадаволена рукой, каб выйшла з пакоя.

…………………………………

– Позовите сюда Марию Греготович.

У пакой зайшла невысокага росту жанчына ў доўгім, да падлогі, паліце. На яе твары пакора і шкадаванне адначасова. Глядзела толькі сабе пад ногі.

– Доложите следственной комиссии, свидетель Греготович, знаете ли вы этого человека. Мать ваша на очной ставке утверждала, что преступника, который перед вами, она не знает. Что вы скажете по этому поводу?

Жанчына перавяла позірк спачатку на палкоўніка, а потым на вязня.

– Так, гэта Вікенцій Канстанцін Каліноўскі. Я не раз сустракалася з ім. Ён нейкі час пражываў у нас на кватэры... Гэта можа пацвердзіць і Стэфанія Фальская, з якой Каліноўскі пазнаёміўся ў нас на канцы 1862 года. Ён прасіў Стэфанію, каб яна адвезла нейкае пісьмо ў Коўна...

– Об этом мы знаем. В Ковно, когда я допрашивал ее, она подтвердила в следственной комиссии, что знала Калиновского под фамилией Макаревича и что он часто посещал семью Греготовичей. Достаточно. Можете идти.

Калі жанчына выйшла, палкоўнік зноў звярнуўся да вязня:

– Вы и еще будете настаивать на том, что вы Витоженец? Долго вы будете отпираться, дворянин Калиновский?!

Голас амаль не сарваўся.

Каліноўскі нахмурыўся, уздыхнуў. Доўга маўчаў, заплюшчыўшы вочы.

Усталявалася цішыня. Члены следчай камісіі маўчалі, чакаючы, што на гэты раз адкажа кіраўнік паўстання.

Дыктатар расплюшчыў вочы, паглядзеў пільна на старшыню следчай камісіі, пацвердзіў:

– Так, я – Вінцэнт Канстанцін Сямёнавіч Каліноўскі, родам з Ліцвініі, сын свайго народа...

– Как заключенному под стражу я обязан известить вас о составе особой следственной комиссии. Председатель комиссии, ваш покорный слуга, полковник Шелгунов. В состав комиссии входят: штабс-капитан Семенов, поручики Гогель, Юган, обер-аудитор Щерба, аудитор колежский ассесор Фёдоров...

Каліноўскі ледзь заўважна кіўнуў галавой.

– Дворянин Калиновский! Признаете ли вы себя виновным в совершении тяжкого преступления против царской короны, против великой России?

– Я ні ў чым не вінаваты, як і не вінаватыя касінеры, якія выступілі на абарону сваіх правоў і свабод, як не вінаваты і тыя, хто хацеў…

– Довольно! – позірк наліўся гневам. – Довольно! Ваши руки обагрены кровью. Это вы подняли бунт, это с вашего согласия, вследствие ваших приказов погибли невинные люди – как с нашей стороны, так и со стороны бунтовщиков.

– Не бунт, а паўстанне! Паўстанне. Супраць расійскага гнёту і прыніжэння.

– Молчать! – выгукнуў палкоўнік, прыўстаючы за сталом,.– Кого обличаешь?

– Прашу не тыкаць, на кірмашы мы побач не стаялі.

– Кто еще входил в высшее руководство вашего мятежа? Имена! – запатрабаваў Шалгуноў.

Каліноўскі маўчаў.

– Отвечайте! Желаете упорствовать? – не сустрэўся з ім позіркам, махнуў стомлена рукой. – Отведите его в камеру… Продолжим завтра.

Старшыня следчай камісіі быў нарэшце ўпэўнены, што перад ім сапраўды дыктатар Каліноўскі. Яшчэ калі вярталі Хайноўскага ў Гародню, Віленская Асобая следчая камісія паведамляла Скварцову сапраўдныя і дакладныя прыкметы: “каля трыццаці гадоў, росту сярэдняга, мажны, цёмна-русы, твар вялікі, рысы грубаватыя”.

Камісія яшчэ тады выказвала цвёрдую ўпэўненасць у тым, што, мусіць, гэта той самы Каліноўскі, які ў кастрычніку 1862 года раскідваў “Мужыцкую праўду” ў Слонімскім павеце, упарты, зацяты, непахісны.

Каліноўскі ішоў па калідоры павольна, гледзячы некуды перад сабою. Яго вялі ў камеру № 3 турмы, якую для ўдзельнікаў паўстання абсталявалі ўлады ў Дамініканскім будынку.

Сярод ночы Кастусь пачаў грукацець кулакамі ў дзверы.

Падышоў ахоўнік. Сонным голасам папытаўся:

– Чего изволите, подследственный?

– Патрабую тэрмінова выклікаць мяне ў следчую камісію!

– Но сейчас ночь. Работа начнётся завтра. Для чего вам комиссия?

– Хачу зрабіць афіцыйную заяву. Усе мае паказанні, што я даваў трыццатага студзеня, несапраўдныя. Я з-за кепскай памяці ўсё пераблытаў – не жыў я ў мінулым годзе летам у тых дамах, пра якія сказаў. У іншых месцах жыў, а ў якіх, сказаць не магу.

– Вот об этом завтра и заявите. А сейчас не мешайте мне нести службу.

Каліноўскі адышоў ад дзвярэй, сеў на ложак. Абхапіў далоньмі галаву.

2

– Так как себя ведут заключенные, доктор Фавелин? Не ропщут?

– Нет, ваше превосходительство, они угрюмы и молчаливы, – пачуўся адказ.

Доктар Фавелін сядзеў на крэсле, перад вялізным сталом губернатара, уважліва сачыў за рухамі і словамі Мураўёва.

– А как главный преступник – главный начальник жонда Литовского, распорядитель мятежа в Литве? То бишь Калиновский.

Пытанне прагучала як быццам бы і абыякава, але Фавелін ведаў, гэта не так.

– Еще не был у него, Михаил Николаевич, сегодня намерен посетить.

– Посетите, голубчик, посетите, а потом мне доложите, как он духовно чувствует себя. Не жалеет ли о том, что совершил, или остается при своих взглядах и мыслях…

– Хорошо, ваше сиятельство, выясню.

Доктар Фавелін ведаў, як размаўляць з генерал-губернатарам, галоўным начальнікам Паўднёва-Заходняга краю. Пасля таго, як быў арыштаваны Каліноўскі, вельмі ж цікавіўся яго асобай.

Абвіслыя шчокі, густыя бровы навіслі над вачыма. Гладка прычасаны, напамажаны і напудраны. Ён у свае шэсьдзесят шэсць стараўся выглядаць маладжава. Віцэ-губернатар у Віцебску, а потым у Магілёве і во тут, у Вільні. Змог правесці ў жыццё некалькі рэакцыйных праектаў. Доктар Фавелін ведаў і пра тое, што толькі з яго ласкі перастаў існаваць Віленскі ўніверсітэт. Адмяніў на Беларусі і Літве дзейнасць Літоўскага Статута. І да скасавання Берасцейскай царкоўнай уніі спрычыніўся, пасля чаго і адбылося далучэнне ўніяцкай царквы да праваслаўнай.

Цару спадабалася дзейнасць віцэ-губернатара. Ён увёў яго ў Дзяржаўную Раду, зрабіў міністрам дзяржаўнай маёмасці

Але ж некалі ўдзельнічаў у вайне 1812 года, уваходзіў у склад дзекабрыстаў. А пасля разарваў з імі ўсялякія сувязі...

Фавелін яшчэ задоўга да таго, як быў расфармаваны яго Атаманскі казачы полк, у якім ён быў за галоўнага лекара, ведаў пра Мураўёва. Ведаў, што яго, Міхаіла Мураўёва, празвалі Мураўёвым-вешальнікам. А пайшло тое яшчэ з Гародні, пасля таго, як быў пакараны смерцю адзін з першых ліцвінскіх рэвалюцыянераўдэмакратаў Міхаіл Валовіч. Мураўёў і загадаў яго павесіць. Ён, Мураўёў, выступаў перад гарадзенскім дваранствам. А адзін дваранін, дачакаўшыся, калі ў зале на нейкі момант усталявалася цішыня, спытаў у свайго суседа, але спытаў так, каб яго словы даляцелі да вушэй выступоўцы: “Скажыце, шаноўны спадар, а ці не сваяк наш новы губернатар майму былому знаёмаму Сяргею Мураўёву-Апосталу, які быў павешаны ў 1826 годзе?”

Мураўёў рэзка крутануў галавой, павярнуўшыся ў той бок, адкуль прагучала пытанне, тупнуў нагой, як не закрычаў: “Для вас лично отвечаю – я не из тех Муравьёвых, которых вешают, а я из тех, которые сами вешают!”

У дэмакратычных колах, да якіх належаў доктар Фавелін, не раз успаміналі гэты факт, успамінаючы і іншыя яго паводзіны.

Мураўёў прызначыў яго, Фавеліна, асабістага лекара, і доктарам усіх турмаў, куды заключылі зняволеных пасля задушэння паўстання. Фавелін хоць і належаў да мураўёўскага кола, але ў яго душы назаўсёды пасяліўся дух расійскага інтэлігента, высокаадукаванага і гуманнага чалавека. За што не раз Мураўёў і ўшчуваў: “Вы уж пожестче, батенька, пожестче с ними! Вы же русский человек, и не жалейте литвинов, иначе они вас, при первой же возможности, на первом столбе повесят!..”

Цяпер Мураўёў, пільна глядзеў на яго: недаверлівы, насаты, ніжняя шчэлепа высунута наперад. У Пецярбурзе далі яму мянушку “курносый ярыга”. Прыляпілася да яго і другія мянушкі – “двуликий Янус” і “переодетый мясник”.

Перад тым, як прыехаць у Вільню, за год да гэтага, у жыцці “вешальніка” пачалася чорная паласа. Выкрылі яго ў казнакрадстве і іншых чорных справах. Іясафат Агрызка, ліцьвін, падняў на свет факты крадзяжу дзяржаўных грошай. Яму “настрочили”най цудоўнейшы рэскрыпт, – такі, як і ўсім тым, хто звальняецца, у якім выказвалі падзяку за службу, ім аказаную, і яшчэ пры гэтым выказвалі шкадаванне аб расстройстве яго здароўя, хаця моцны ён быў, як мядзведзь.

Пад ахову ранейшае ласкі яго вярнула, як ні дзіўна, паўстанне на Беларусі і Літве. Аляксандр Другі як ніхто іншы ведаў, хто можа задушыць тое паўстанне. І прызначыў яго адразу ж віленскім генерал-губернатарам. І ў сярэдзіне траўня Мураўёў прыбыў у Вільню, а праз чатыры дні адбыліся першыя пакаранні. У Вільні быў павешаны святар – ксёндз Ішора, а ў Менску расстраляны афіцэр Цюндзявіцкі...

Крывавы махавік губернатара набіраў і набіраў хуткасць...

– Да, вот что еще, – адарваўся Мураўёў ад сваіх думак, – будете беседовать с ним, намекните, что я не такой уж кровожадный, попросит помилования, мы пойдем навстречу… Может, он захочет со мной встретиться, скажите сразу же мне… Еще. Это уже по вашей части. Когда он учился в университете, не раз обращался к врачам по причине своего нервного расстройства. Вернее, не он, а его друзья… Если он пойдет нам навстречу, мы его освободим и сохраним жизнь по причине его тяжелого душевного заболевания. И ни один инсургент не узнает, по какой настоящей причине мы его помиловали. Он останется героем и несломленным революционером в сердцах потомков…

– Я понимаю, Михаил Николаевич, я постараюсь склонить его к этому.

– Мне было бы интересно встретиться с ним, хотя он и враг российской империи. Видимо, не глуп, раз учился в Петербургском универистете. Неужели не знал, что его мятеж обречен на поражение?

Фавелін маўчаў, толькі кіўнуў на знак разумення галавой.

– Если мы сломаем его бунтарскую волю, то отыщем ключ к тайнам революционной организации. Мы должны упредить на

будущее, чтобы не было повадно и другим бунтарям восставать против Российской империи. Мой штатный чиновник по особым поручениям Никотин изложил мне в отчете следующее: "Признаваясь, что он был главным представителем народного жонда в целом крае, Калиновский отказался дать пояснения следственной комиссии о подпольной организации… Никакие затем обещания не смогли поколебать настойчивости этого крамольника, которому сегодня всего двадцать шесть лет…" Не удалось чиновнику, так, может быть, удастся вам, как лекарю, войти к нему в доверие…

– Я постараюсь, Михаил Николаевич.

– Постарайтесь, голубчик, постарайтесь. На благо великой России постарайтесь.

Фавелін выйшаў з кабінета губернатара.

Доўга не праходзіла тое прыкрае здранцвенне, якое кожны раз ахоплівала яго пасля гаворкі з Мураўёвым.

Адно хіба ўсцешвала, што яму ўдасца сустрэцца з Кастусём Каліноўскім. Але перад гэтым трэба абавязкова пабачыцца з Макрыцкай, параіцца з ёю, як сябе паводзіць...

3

... Ну, вось і зноў я з табой, мая галубка-чарнаброўка!

Зноў вадзілі мяне на допыт, дабіваліся прызнанняў. Следчы патрабаваў, каб я выдаў прозвішчы кіраўніцтва нашага паўстання. На гэты раз не білі, не здзекаваліся з мяне... Мусіць, зразумелі, што безвынікова гэта.

Колькі цяпер часу, не ведаю. За акном ноч, але не відаць ні зорак, ні месячыка, напэўна, пахмурна на дварэ. Ці дойдуць-далятаць мае словы, Марыська, да цябе, калі схавалася ад нас Вялікая Мядзведзіца? Веру, што пачуеш...

Калі б у мяне спыталі пра апошняе жаданне перад пакараннем смерцю, я выбраў бы самае запаветнае, самае неадольнае... Хоць на імгненне, хоць на момант апынуцца побач з табой. Сесці ўпобачкі і зазірнуць табе ў вочы, і болей нічога не папрашу ў Госпада, нічога больш.

Маё апошняе жаданне – ты. І ўсё ж, калі нават і не выканаюць маё апошняе жаданне, я выканаю яго сам. З дапамогай Госпада я ўзнясуся да цябе ў адно толькі імгненне. Ты адчуеш тое, абяцаю

табе. За хвіліну да таго, як накінуць мне вяроўку на шыю, я абдыму цябе, мая Марыся. І ты пачуеш і зразумееш, што праз хвіліну мая душа ўзнясецца на неба...

Не сумуй, Марыська, няхай абміне цябе журба. Я вінаваты перад табою. Вінаваты хаця б з тае прычыны, што не спраўдзіў твае спадзяванні на шчасце нашага сумеснага жыцця. Нашыя дарогі разышліся. Але ненадоўга. Праз нейкі час, калі мы апынемся ў храме Божым, яны зноў злучацца. Бо не можа такога быць, каб сэрцы закаханых ніколі не злучыліся. Мы ж і нарадзілі тую незвычайную энергію прыцягнення, якая будзе заўсёды з намі – і цяпер, і пасля смерці. Я веру цвёрда ў тое, як і ты.

Нічога ў нашым жыцці не праходзіць марна, нічога не праходзіць без карысці. За ўсё трэба плаціць, сплочваць даўгі свае, накопленыя за гады. А потым наступае час вяртання даўгоў... За грахі каяцца, за дзеянні – адказваць, даўгі – вяртаць... Закон існавання нашага жыцця. І за каханне трэба плаціць, ахвяраваць сабой... І, мусіць, плата за каханне самая дарагая, самая ахвярная... Бо мы з табой – Воляй абраныя, абраныя для Кахання.

Марыська мая каханая, жыццё маё, пакуты мае і радасць! Маё выратаванне і выбаўленне, мая паэзія і проза, песня і мелодыя! На мройных крылах нашай узнёсласці і спантаннасці мы ўзлятаем з табой да воблакаў, вышэй воблакаў, да нашых зораў, да нашых мараў і спадзяванняў. І адтуль, з вышыні, мы сузіраем з табой нашу вольную Ліцвінію і думаем: “То ж наша Радзіма! То ж наша я зямля, якую нам даў Бог! І Бог пасяліўся на нашай зямлі, і таму хоча, каб кожны ліцвін быў шчаслівы, вольны і заможны. Кожны народ мае сваё агульнае сэрца і душу, як і кожны ліцьвін паасобку. І шчасце наступіць у нашай Ліцвініі толькі тады, калі сэрца і душа краіны сальюцца, злучацца з душой і сэрцам кожнага жыхара... Мы імкнуліся да гэтага, мы стараліся і ўсё рабілі для таго, каб тое злучэнне наступіла як мага хутчэй. Для гэтага ахвяравалі самым дарагім...

Ты чуеш цяпер мяне, мая чарнаброўка? Чуеш, чуеш, бо “чарпак” ужо зачарпнуў з сусвету хмельнага віна нашай еднасці, яго стала добра відаць, – і Мядзьведзіца зноў злучыла нас скрозь прастору часу і адлегласці! І я чую цябе, мая Марыська! Чую твой шэпт, і мяне апякаюць твае слёзы, што цякуць з вачэй тваіх і капаюць на падушку... Не трэба, не трэба так пакутаваць і перажываць, мая каханая! Хачу бачыць на твары тваім толькі ўсмешку. Няхай не ўсмешку радасці, а адно разумення непазбежнасці таго,

што наканаваў нам Бог. Бог не мёртвых, а жывых. І ў мяне жыццё адымае не Ён. Сустрэне мяне там, калі я зноў ажыву, калі набуду новае жыццё...

Ты не спіш, мая Марыська? Мусіць, спіш. Бо светлай стала зара, і растаюць у небе зоркі, быццам ледзяшы пад цёплым сонцам. Спі, мая чарнаброўка, спі... Я буду спяваць табе калыханку, якую склаў, але так ніводнага разу і не прачытаў табе яе...

*Спі, мая Марыська,*
*сьпіць у храме звон,*
*ты ад мяне блізка, –*
*берагу твой сон...*

4

... – Мы вытянем из вас все жилы, но добьемся своего, – гаварыў ціха і спакойна следчы. – Еще раз требую – назовите фамилии и имена тех, кто стоял во главе бунта, ну, пусть восстания, как вы утверждаете, ладно уж, пусть будет так... Мы почти всех уже и так знаем. Но желаем услышать их имена от вас.

Свечка стаіць перад носам у следчага, агеньчык яе хістаецца ад дыхання абвінаваўцы, ад яго слоў, і постаць – цень на сцяне – таксама вагаецца, хістаецца. Цень пагрозлівы, злы, але Кастусь не адчувае ні страху, ні боязі.

Пад раніцу, калі сама хочацца спаць, паднялі яго з ложка, павялі на допыт – невядома які ўжо па ліку. Зліпаюцца вейкі, хіліць у сон...

– Имена?

– Не ведаю...

Тупы ўдар па галаве – і ён падае на падлогу. Перакруцілася табурэтка і балюча ўдарыла па калене. І адразу ж перад вачыма выплыў вобраз Марыські. Яна разам з яго татам і маці схіліліся над ім, устрывожана папыталіся:

– За што ж яны цябе так, Кастусёк?

Адказвае глуха:

– За праўду, за мужыцкую праўду... За тое, што хацеў свабоду здабыць простаму люду.

– Ты ж загінеш...

– Загінуць не страшна. Страшна, калі не зразумее мяне той жа люд.

Новы ўдар, але ён ужо не адчувае болю.

– Уставай. Нельга поўзаць каля ног катаў. Ты ж ніколі не поўзаў перад ворагамі.

То ўжо, здаецца, голас маці.

– Ніколі. Але я не магу ўстаць... Няма сілаў.

– Уставай, каханы, – просіць ужо і Марыся, і яе словы і слёзы льюцца на яго твар.

– Иван Иванович, он не приходит в себя…

– Еще одно ведро воды вылей на него.

Вада халодная, ледзяная... Іголкі шпыраюць у скроні, і ён прытомнее, вяртаецца да жыцця. Глядзіць на катаў, нічога не разумее – дзе ён, што з ім, чаму ляжыць на мокрай падлозе...

– Фамилии, я требую, чтобы вы назвали фамилии, – шыпіць над вухам голас таго ж следчага – мокры, успацелы: і яго аблівалі вадой? Ды не, то ён так шчыруе над ім, дыктатарам.

Яго зноў пасадзілі на табурэтку.

– Имена!

– Тадэвуш Касцюшка, Эмілія Плятэр, Міхал Валовіч, Міхал Клеафас Агінскі? Канстанцін Астрожскі, Януш Радзівіл......

– Кто еще? Кто?

– Касінеры... іх шмат... Тысячы і тысячы інсургентаў... Усіх не памятаю.

Язык не варушыцца. У роце горка і солана, кружыцца галава, хістаецца ўсё навокал. Зноў удар па галаве...

І тут жа ўсё адразу сплывае, патанае ў касмылях шызага туману. Ён не чуе, як яго хапілі пад пашкі і пацягнулі па доўгім і цёмным калідоры былога Дамініканскага манастыра, і аднекуль, ці то зверху, ці з бакоў далятаалі галасы, зліваючыся ў адзін суцэльны гул: “Ка-ты... Ка-ты... Свабоду Каліноўскаму! Жыве Ліцьвінія!..”

Зноў над ім схіляецца Марыся, прыкладвае да акрываўленага твару прымочкі, выцірае засохлыя крывяныя сукравіцы. Ужо не плача, а толькі маўчыць, абдымае, паклала галаву на калені і, здаецца, нешта шэпча, шэпча...

А мо то лісце шапоча на вуліцы, ці дождж ідзе і цякуць, сцякаючы ў роў, раўчакі? Не зразумець, усё змяшалася, перайначылася, перакулілася...

– Ты жывы, Кастусёк?

– Жывы, Марыся. Калі паміраць буду, скажу табе пра тое. За хвіліну да смерці...

– Я не хачу, каб ты паміраў, не хачу, мой любы.

– І я не хачу. Але не ў маіх сілах адмяніць таго, што падрыхтавана мне лёсам.

Марыся нахіляецца над ім, дакранаецца ілбом да яго ілба, зажмурвае вочы, чытае малітву, просіць Вышняга, каб захаваў яе каханаму жыццё...

Не хутка прыйшоў у сябе...

А, апрытомнеўшы, глядзеў безуважна на шэрую, выцвілую столь, і ў яго не нараджалася ніякіх думак і жаданняў.

Нават пісаць ці дыктаваць сваёй чарнаброўцы чарговы ліст.

Ён прымружыў вочы, глыбака ўздыхнуў. Боль ва ўсім целе.

Але найбольш балела галава, ванітавала...

...Нічога кепскага не падазраючы, Вітальд Парфіяновіч, накіроўваўся ў Пецярбург.

На душы ніякай трывогі, адно насцярожанасць не пакідала яго ўвесь час, прымушала прыслухоўвацца да кожнага голасу, прыглядвацца імгова да кожнага чалавека, які ўзнікаў перад ім.

Ён ганарыўся тым, што ў сярэдзіне верасня  пазнаёміўся з цікавым і незвычайным чалавекам – Кастусём Каліноўскім, пра якога шмат чуў ад іншых. А тады з Менску прыехаў камісар Менскага ваяводства Міхаіл Аскерка. Ён жа, Вітальд, прыехаў з Кіева, дзе вучыўся ва ўніверсітэце.

У той жа дзень Міхаіл разам з ім завітаў на патаемную кватэру Ямантаў, дзе і пазнаёміўся з кіраўнікам паўстання.

– Ці гатовы вы паслужыць нашай справе, грамадзянін Вітальд? Зваротам “грамадзянін” мы карыстаемся заўсёды, у якім бачым і адчуваем сваіх.

– Гатоў, грамадзянін Канстанцін Каліноўскі! У Кіеве я належу да тайнага гуртка, і мы робім усё, каб далучыцца і прыняць удзел у паўстанні супраць маскоўскага панавання.

– Ці магу я вам давяраць так, як самому сабе? Вам аднаму я адкрыў сваё прозвішча. Гэта накладае на вас патроеную адказнасць. Калі, не дай Божа, вы пападзеце ў лапы жандараў, ці хопіць у вас стойкасці маўчаць і не выдаць тайну?

Вітальд па-вайсковаму выструніўся:

– Жыццё аддам за вас і за ідэі паўстання!

Каліноўскі падышоў да шафкі, высунуў шуфлядку, дастаў адтуль пакет.

– Вось вам першае заданне. Вы павінны з’ездзіць у Пецярбург. Даручаю вам даставіць па ўказаным адрасе і ўказаным прозвішчы мінскім паўстанцам грошы і пашпарты.

Сямнаццатага верасня яны разам з Аскеркам пакінулі Вільню.

Заданне было няцяжкім. Ён хутка адшукаў людзей, уручыў ім грошы і дакументы, справіўся яшчэ з некаторымі, ужо асабістымі клопатамі, і праз дзень пачаў збірацца назад у Вільню.

Вярнуўся з Пецярбурга праз тыдзень – дваццаць чацвёртага верасня. Адразу накіраваўся на кватэру Ямантаў. Каліноўскі знаходзіўся на месцы – сядзеў у сваім пакойчыку і пісаў чарговую пракламацыю.

Абрадваўся, калі ўбачыў Вітальда. Распытаў пра паездку, удакладніў дэталі. Вітальд аддаў яму паперы, якія перадалі паўстанцы. Гаварылі мо больш гадзіны.

– Другое заданне табе, грамадзянін Вітальд. Прызначаю цябе камісарам Магілёўскага ваяводства.

– Што рабіць трэба, грамадзянін Канстанцін?

– Неабходна найперш збіраць подпісы пад контрадрасамі, а для гэтага вось табе аб’ява жонда, у якой і ўказваецца пра тое ж. Там жа і заклік да патрыётаў.

Студзень выдаўся марозны, віхурны. Пашкадаваў, што не апрануў пад спод чаго цяплейшага, – пачыналі прабіраць дрыжыкі.

Бабруйск сустрэў яго такім жа холадам і марозам. Рашыў пераначаваць у якой гасцініцы. Калі ж падышоў да дзвярэй прыватнай гасцініцы, да яго падышлі жандары.

– Парафіяновіч? – прыгледзеўся да яго жандар.

Вітальд маўчаў, не кажучы ні слова. Ад страху ў яго акамянеў язык. А жандары, болей нічога не ўдакладняючы, скруцілі яму рукі.

“Усё, прапаў... – падумаў з роспаччу. – Вось табе і далучыўся да паўстанцаў, вось табе і паспрыяў агульнай справе...”

І пашкадаваў ужо, што ехаў неасцярожна.

У Бабруйску ў яго ні пра што не пыталіся.

Праз дзень прывезлі ў Менск.

Вёў допыт жандарскі палкоўнік Лосеў. Чамусьці ўсміхаўся ўвесь час, як радаваўся, што перад ім арыштаваны.

– Такой молодой, а уже государственный преступник, – гаварыў, наліваючы сабе ў шклянку гарбату – грэўся, мусіць, і яго даймаў холад. – И на виселицу готов отправиться, и расстреляным быть... Орёл!

А потым, імгова перамяніўшыся ў твары, вырачыўшы вочы, злосна і затоена спытаў:

– Хочешь на виселицу?!?

Ён не мог пашавяліць языком, таму адмоўна пакруціў галавой.

– Можешь избежать петли, если сейчас же, в сию минуту скажешь нам, где находится в Вильно Калиновский? Какой у него псевдоним? Под чьей фамилией он скрывается? Ну?!?

– Ві... Вітажэнец. Пражывае на Святаянскай вуліцы – у Святаянскіх мурах...

Праз некалькі хвілінаў у Вільню Мураўёву паляцела шыфраваная тэлеграма.

Вечарам, а дзявятай гадзіне, у генерал-губернатарскім палацы тэлеграму атрымалі і прыйшлі ў замяшанне: чаму не паведаміў яшчэ і пра нумар кватэры. Віленскі паліцмайстар палкоўнік Сарначоў, узмакрэлы, узбуджаны, асабіста праглядае дамавую кнігу, і не можа знайсці прозвішча Вітажэнца.

Мураўёў асабіста выдаў яшчэ ў чэрвені загад, каб у кожным доме не толькі Вільні, а і ў ва ўсіх мястэчках, у кожным доме былі заведзеныя дамавыя кнігі, у якія б уносілі і гаспадароў, і пастаяльцаў, – што да Новага года і было зроблена.

– Окружить дом! – прымае палкоўнік рашэнне. – Если мало солдат, возьмите две роты! Но изловите мне живым этого государственного преступника! И никого не выпускать из ворот!

Калі ад Вітальда адсталі жандары, калі пакінулі яго ў спакоі, выведаўшы галоўнае, ён жахнуўся: “Божа, што я нарабіў? Мог жа сказаць, што не ведаю ніякага Каліноўскага, што і не чуў пра такога... Не падумаў, не падрыхтаваўся. А цяпер што? Яны ж наладзяць вочную стаўку, наладзяць абавязкова...”

У тую ж ноч, з дваццаць восьмага на дваццаць дзявятае студзеня 1864 года, дзве роты расійскіх грэнадзёраў, падзеленыя на дзесяць партый, пры афіцэрах паліцыі і высокіх чыноўніках Мураўёва, акружылі цэлы квартал у Святаянскіх мурах. Святаянскія муры – гэта цэлы шэраг будынкаў, якія некалі належалі касцёлу Святога Яна, займалі цэлы квартал.

Імя злачынцы, якога неабходна было арыштаваць, трымалася ў вялікай тайне. І назвалі яго толькі глыбокай ноччу, калі распачаўся вобыск у кватэрах.

У вялізных будынках, якія ў свой час належалі Іезуіцкай калегіі, а пазней універсітэту, знаходзіліся: гімназія, музей старыны, цэнт-

ральны архіў, абсерваторыя, мноства кватэр для служачых і нават здаваліся прыватныя кватэры.

Прыйшлося абшукваць усе памяшканні, акружыўшы ланцугом Святаянскі квартал... Падкрадваліся ціха, не выдаючы сябе ні воклічам, ні тупатам ног. Здавалася, што і мыш не магла праслізнуць.

Партыі жандараў і салдат раздзяліліся. Адны пайшлі ў цэнтральны архіў, другія ў гімназію, трэція падаліся да памяшканняў, у якіх пражывалі настаўнікі. Прайшлі ў правы флігель, які знаходзіўся ўнізе. Афіцэр, прыставіўшы палец да губ, падаўшы загад маўчаць, пастукаў сагнутым пальцам у дзверы. Ніхто не адгукваўся. Яшчэ раз пастукаў, ужо грамчэй.

– Каго трэба? – пачуўся мужчынскі голас за дзвярыма.

– У меня телеграмма для хозяина квартиры, – спакойным голасам абвясціў афіцэр. – Срочная!

– Пана гаспадара няма цяпер дома, ён з сям’ёю з’ехаў у адпачынак.

– Тогда получите вы телеграмму и распишитесь. Так положено.

Дзверы расчыніліся. На пляцоўку выйшаў юнак, у руках трымаў свечку. Убачыўшы ўзброеных людзей, ён не здзівіўся і не спалохаўся.

– Назовите свою фамилию! – паліцэйскі афіцэр падышоў зусім блізка да яго і пільна глядзеў ў вочы.

Папраівіўшы накінуты на плечы пінжак, які спаўзаў долу, адказаў:

– Я – Ігнат Вітажэнец...

– Вот вы-то нам и нужны. Вы арестовываетесь... Пройдите назад в квартиру.

Адразу ж пачаўся вобыск кватэры. Паперы, што знаходзіліся на стале, апячаталі. Каля грубкі ляжала горка бярозавых паленцаў. Жандар, сагнуўшыся, пачаў перабіраць іх.

Пад дровамі, у падлозе, заўважыў добра замаскіраваны тайнік.

Каліноўскі сядзеў у крэсле, нічым не выдаючы сваё хваляванне. Нават і не глядзеў, што рабіў жандар.

Памочнікі прыставаў першай і другой часці па першым і другім квартале Сеташэўскі і Вішнеўскі, кіруючыся грозным распараджэннем і ўказам вышэйшага начальства аб важнасці справы, стараліся няспешна і пільна праводзіць дасканалы вобыск. Апячатвалі ўсе паперы, якія знаходзілі.

Стаўшы на ўсколенцы, імперскі служка прачыніў патайныя дзверцы, абабітыя бляхай. Дастаў адтуль каробачку. Раскрыў яе. Узяў у рукі, пачаў разглядаць.

– Что это? – спытаў афіцэр.

– Революционная печать, ваше благородие! А вот и секретные документы, изобличающие арестанта.

Афіцэр узяў у рукі паперы, прабегся вачыма па старонках, хмыкнуў у кулак і кашлянуў ад задавальнення, строга загадаў:

– Под усиленным конвоем препроводить арестованного в Доминиканскую тюрьму! Дальше с ним будет разбираться следственная комиссия... Наша миссия на этом окончена. Всем благодарность от генерал-губернатора!

5

... Не ведаю, колькі дзён не гаварыў з табой, мая чарнаброўка.

Не ведаю, колькі яшчэ Богам адпушчана мне пражыць на гэтым свеце, але мне жадаецца, каб пасля майго зыходу ўсе мае пісьмы і думкі ты надрукавала ў “Мужыцкай праўдзе”. “Лісты з-пад шыбеніцы” – то тэкст-зварот для Радзімы. А “Лісты да чарнаброўкі”, прызначаныя толькі для цябе.

Кожны віленец ганарыцца тым, што ў пачатку шаснаццацтага стагоддзя першадрукар Францішак Скарына абсталяваў тут друкарню і ў ёй выдаў “Малую падарожную кніжку”, “Апостал”. А Пётр Мсціславец у 1569 годзе заснаваў друкарню з кірылічным шрыфтам. А потым друкарня Мамонічаў пачала друкаваць кнігі на царкоўна-славянскай, старабеларускай, лацінскай і польскай мовах. Пачалі выдавацца падручнікі, рэлігійная літаратура, законы Вялікага Княства Літоўскага, у тым ліку і Статут ВКЛ у 1588 годзе.

А званы чатырнаццаці цэркваў і сямі касцёлаў абуджалі ў людзях адчуванне яднання з Творцам, духоўнага абуджэння і нараджэння.

Шчасце жыць у такім месцы! І – вялікае шчасце!

Марыська!

Так шмат хочацца сказаць і расказаць, паведаміць пра тыя старонкі майго жыцця, пра якія ты не ведаеш (і ніхто не ведае)…

Я прасвечаны перад людзьмі, ад каранёў валасоў на галаве да падэшваў ног. Ніякіх тайнаў ад людзей у мяне няма і не было.

Перад людзьмі я чысты, ні ў чым не здрадзіў народу: ні ў думках, ні сваімі ўчынкамі і дзеяннямі.

А мяне водзяць і водзяць на допыты. Да мяне адно і тое ж пытанне – выдай сваіх сяброў і паплечнікаў.

Спаміж намі жыве завядзёнка – калі пасля катаванняў і допытаў мы вяртаемся назад, у свае камеры, то, ідучы паўз назіркі паплечнікаў і сваіх таварышаў, паказваем ім знак – накладаем палец на палец правай рукі і кладзем на грудзі. Тое азначае, што вязень выстаяў на допыце і не выдаў сваіх асуджаных ці не асуджаных сяброў, – значыць, не здрадзіў, значыць, з чыстым сумленнем пойдзем на споведзь і падводзіць рахункі да Госпада. З такім умоўным знакам і я пайду на галгофу, калі яшчэ здольны буду ісці.

Шкада, вельмі шкада, што мы не давялі сваю справу да канца. Хто вінаваты ў тым, хто? Гісторыкі будуць гаварыць пасля нас, што мы выбралі не надта зручны для гэтага час, што свядомасць ліцьвінскага мужыка не вырасла да памераў неабходнага... Скажуць яшчэ, што не было ў нас зладжанасці і жалезнай дысцыпліны, што не нарыхтавалі, колькі трэба было, зброі, і не навучалі як след вайскова-ваеннай вывучцы касінераў, што мы з самага пачатку запланавалі сабе паразу...

Будуць мецъ рацыю і першыя, і другія, і тысячныя пасля, але ніхто (ніхто!) з іх не будзе адмаўляць той факт, што вулкан народнага гневу пачаў ужо закіпаць, пераліваццa праз край, і ўтрымаць ці ўтаймаваць яго было немагчыма.

І таму ўсё больш і больш я пераконваўся ў справядлівасці сваёй тэзы: “Так, дзецюкі, па добрасці мы да ладу не дойдзем...” Гісторыкі будуць нават абвінавачваць мяне ў жорсткасці. Абвінавацяць мяне, што я заклікаў да народнага бунту, да рэвалюцыі, да “чырвонага тэрору”, лічу, справядлівага, бо тое тычылася толькі нашых ворагаў – царскіх прыслужнікаў і вайскоўцаў-маскалёў, ліхіх паноў ды здраднікаў незалежна ад саслоўя. Я папярэджваў: “Памятайце, што калі мужык разгуляецца, то як свет шырокі кроў ваша пальецца!”

Тут, ведаю, я ўступаю ў супярэчнасць з Божымі запаветамі. Але не з самім Богам. Святары – няхай то каталіцкія ці праваслаўныя – не павінны былі ўмешвацца ў нашую справу. Расійская праваслаўная царква імкнулася ўсімі сіламі не дапусціць таго, каб ліцьвін маліўся на роднай мове. Таму акрамя таго, што яны насілі сан святара, яны ж былі і шпікамі, – дакладалі царскаму ўраду пра нашае рушанне, выдавалі следчым нашых самых лепшых людзей…

Некаторыя, а мо і многія, думаюць, і пазней будуць гаварыць пра тое, што лягчэй і хутчэй дайшлі б да простага ліцьвіна словы спачування яго глыбокай жалобе, словы, звернутыя да яго пачуцця добрапрыстойнасці ў імя хрысціянскага ўсёдаравання і забыцця, чым заклік да крывавай помсты. Пра тое мне казаў і Кучэўскі, паўстанец, не раз. Ён і газету маю не мог успрымаць, адмаўляў катэгарычна яе значнасць і сілу. Не згаджаўся я з ім, пытаўся: "Скажы, дружа, наколькі прыдатнай была нашая эпоха і час для спалучэння агульначалавечых каштоўнасцяў і рэалій палітычнай барацьбы? Барацьбы, да крайнасці абвостранай нацыянальным прыгнётам…" Не адказаў мне нічога паўстанец. Я ж яму казаў яшчэ: "Таму і жыла ў народа прага і вера: у што б ні стала вызваліцца ад таго непасільнага прыгнёту. Не ведаю, ці прыйдзе зусім тая спрыяльная атмасфера і эпоха пасля нас?.. Але ў душы ёсць перакананасць – яна прыйдзе, абавязкова прыйдзе. Нават тады, калі мы зняверымся ўжо ў тым…"

Таму і капіўся гнеў кожнага ліцвіна, перапаўняючы сасуд цярпення і чакання. Пагэтаму і выбухнула ўсенароднае паўстанне дзеля нацыянальнага вызвалення ад расійскага прыгнёту. Бо мы сцвярджалі ў "Мужыцкай праўдзе" – *"Брацііі, не будзе шчасця на ліцьвінскай зямлі да тае пары, покуль над намі маскаля ня будзе!.."*

Ты чуеш мяне, Марыся?

Зноў прыляцеў да мяне голуб. А мо і галубка. Мо гэта ты ў такім светлым вобразе з'явілася да мяне? Заплюшчваю вочы і бачу цябе перад сабой. Ты часта праведвала мяне ў маёй вязніцы, ведаеш, якія сцены ў мяне, падлога і столь, якое акно, праз якое я гляджу на свет…

Акно закрачанае, яно ў квадратах. Мне здаецца, што я закрачаны з усіх бакоў. Нават столь і падлога ў тых квадратах. Мы і раздзелены з табой на значнай адлегласці, а тая значная адлегласць вымяраецца ўсяго ў сотню крокаў, – я ў будынку былога Дамініканскага манастыра, а ты – у будынку былога манастыра місіянераў. Якая ж місія ў цябе цяпер, мая каханая? Быць нявестай таго, каго аддаюць на смерць?

Але няма, бадай, у свеце людзей, якія былі б так блізка адно ад аднаго; і гэта ўжо не блізкасць, гэта знітаванне.

Мы пражываем з табой за гэтыя дні некалькі чалавечых жыццяў.

Скажу так  каму яшчэ такое ўдавалася зрабіць? Дык ці не шчаслівыя мы з табою людзі, Марыся?

А галубка ўсё пра нешта вуркоча, а вунь да яе ўжо і голуб прыляцеў.

Усё адкладваў, не хацеў гаварыць. Але баюся, каб не спазніцца. Зберажы той архіў, што даверыў табе. Нікому не паказвай нават пасля маёй смерці. Там і мае літаратурныя спробы, і лісты сяброў, і планы падпольнай арганізацыі... Калі ж нешта будзе пагражаць табе ці тваім родным, калі ўжо не будзе ніякага выйсця, то ўкінь у печ, – спалі ўсё.

Я ўжо як быццам развітваюся з табой, Марыся. Гэта жаданне паспець усё зрабіць, падбіць, так бы мовіць, рахункі, сплаціць усе свае даўгі…

Нарачоная мая, Марыя Ямант! Паспець бы, управіцца б з усім... Усё часцей і часцей успамінаю свае родныя Мастаўляны,  не забыць, як насіўся з сябрамі навыперадкі да неглыбокай рачулкі, каб пакупацца ў спёку. На памяць прыходзяць і сябры Свіслацкага павятовага вучылішча і Пецярбургскага ўніверсітэта.

Мне прапаноўвалі заманлівыя пасады, але я не захацеў адрывацца ад радзімы. Таму і вярнуўся ў Ліцвінію. Мне ўдалося за два гады стварыць у Гродне і губерніі нелегальныя рэвалюцыйныя арганізацыі, і для больш дзейснай работы падключыў рэвалюцыянераў з Польшчы. Такім чынам, быў створаны Камітэт руху. Ён падпарадкоўваўся цэнтру “Чырвоных”, які непасрэдна займаўся падрыхтоўкай паўстання. Мяне яшчэ ў 1862 годзе абралі старшынёй Літоўскага правініцыяльнага камітэта. Мы ганарымся, што былі наладжаны трывалыя міжнародныя канспіратыўныя сувязі. Рускі рэвалюцыйны цэнтр у Лондане, ЦНК у Варшаве, нават генерал Джузепе Гарыбальдзі меў стасункі з намі, падтрымліваў нашу вызваленчую барацьбу, як падтрымліваў і спачуваў нацыянальна-вызваленчай барацьбе венграў, харватаў, грэкаў. Ён таксама выступаў за аб’яднанне італьянскага народа “знізу”, выступаў супраць іншаземнага панавання, феадальна-абсалютысцкага ладу і клерыкальнай рэакцыі. За рэвалюцыйную дзейнасць завочна прыгавораны да пакарання смерцю. Ён –  завочна, я –  вочна... Эміграваў, як і наш Тадэвуш Касцюшка ў Амерыку. Толькі ў Паўднёвую. Змагаўся за незалежнасць рэспублікі Рыў-Гранды, што ў Бразіліі, і Ўругвай. Цэнтральны камітэт “Зямлі і волі” ў Пецярбурзе, камітэт рускіх афіцэраў у Польшчы...

Праз чатыры месяцы я ўзначаліў Часовы правінцыяльны ўрад Літвы і Ліцвініі (Беларусі). Але ў сакавіку мяне адхілілі “белыя” ад кіраўніцтва. Атрымаў новую пасаду – рэвалюцыйнага камісара Гараднянскага ваяводства. А ўжо са жніўня – зноў узначаліў барацьбу на Літве і Ліцьвініі, – мяне прызначылі старшынёй Выканаўчага камітэта аддзела Літвы...

Не шкадую, ні аб чым не шкадую, што адбылося, – нам наканавана была непазбежнасць заўтрашняга дня. Што здарылася, тое здарылася...

Найбліжэйшым маім памочнікам у нашай справе з’яўляўся мой старэйшы брат Віктар Отан Сямёнавіч, хаця ён і памёр за год да паўстання. Ён удзельнічаў у вызваленчым рушанні 1860 года, пракладваў і масціў, я сказаў бы, шлях прада мною. За восем гадоў да гэтага Віця займаўся на медыцынскім факультэце Маскоўскага ўніверсітэта. А з 1858 года – адзін з кіраўнікоў нелегальнай рэвалюцыйнай арганізацыі ў Пецярбурзе. І мяне далучыў да гэтага. Прапанаваў – і я з радасцю згадзіўся. О, гэта цэлы перыяд майго жыцця, ды яшчэ які!

Віця шмат пісаў, супрацоўнічаў са штодзённай польскамоўнай газетай “Слова”, якую выдаваў у Пецярбурзе І.Агрызка. Шмат у яго цікавых прац па гісторыі Польшчы і Ліцвініі. Меў свой, арыгінальны погляд на гэтую праблему. А якая ў яго была бібліятэка! Больш як пяць тысячаў рукапісаў і кніг. А галоўным чынам па гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Ды, на вялікі жаль, восенню захварэў на сухоты. Паехаў да бацькі, каб паправіць здароўе, у фальварак Якушоўка, што пад Ваўкавыскам, на Гарадзеншчыне... Ды, мусіць, глыбока ў яго ўелася хвароба, – не стала яго два гады назад – шостага лістапада.

Марыська, галубка мая! Ніколі я табе не расказваў пра свае шляхі-дарогі, бо і няможна было тое рабіць. Былі на тое важкія прычыны. Вось такі твой “Яська-гаспадар з-пад Вільні”.

Я заўсёды сцвярджаў і даказваў, што мы не павінны распачынаць закалот да тае пары, пакуль не вызначацца ў гэтым польскія патрыятычныя сілы і праваслаўнае духавенства. Гэта вельмі і вельмі важнае пытанне, хаця мае сябры-таварышы не надавалі гэтаму асаблівай увагі. Мы павінны былі прыслухацца да адной рэчы: у выніку скасавання ў Літве-Беларусі ў 1839 годзе Берасцейскай царкоўнай уніі 1596 года лік праваслаўных вернікаў значна павялічыўся.

Тут пачынаюцца рэчы зусім незразумелыя. Рымска-каталіцкае духавенства Польшчы з адзінай мэтай запалохаць праваслаўных святароў звярнулася ў 1861 годзе да праваслаўнага духавенства Беларусі і Літвы з адозвай. Адозва – гэта дакумент, які не падлягае перагляду. Сам тон і мелодыка дакумента сведчылі: і размовы не павінна ўзнікаць пра талерантнасць і памкненні знайсці "агульную мову", адшукаць прымірэнне па спрэчных пытаннях. Ты думаеш, што каталіцкае духавенства непакоілі толькі праваслаўныя святары, якія, па сцверджанні той жа адозвы, "прадалі душу д'яблу за мізэрныя царскія грошы"? Не, іх хвалявала толькі адно – як яны ўплываюць на душы і сэрцы сялянаў. І строга-пагрозлівым тонам папярэджвалі: "Заклікаем вас – не хвалюйце вясковых жыхароў сваімі прамовамі, бо мы ведаем пра вашыя злыя і тайныя намеры. Абыходзьцеся з народам разважліва і памяркоўна, у вашу задачу ўваходзіць унушэнне яму, народу, любоў да бліжняга, бо помста палякаў за святую веру страшэнная".

Рушанне раскрыла свету вялікія супярэчнасці паміж праваслаўным і каталіцкім духавенствам. Яны апынуліся па розныя бакі, нават у розных варожых станах. Тлумачу, чаму. Большасць каталіцкіх святароў, калі не ўсе, поўнасцю прынялі наш бок – ідэю паўстання, а вось праваслаўныя – падпалі пад палітыку афіцыйных царскіх уладаў і рэлігійных кіраўнікоў.

І пра тое я моўлю ў радках *"Калі за нашу праўду Бог нас стаў караці"*. Гэта напісаў я тут, у вязніцы. Гэта паланез развітання з народам Ліцвініі. Я заўсёды выступаў за развіццё ў Ліцвініі рэвалюцыйнага дэмакратызму. Акрамя гэтага мяне хвалявалі і пытанні літаратуры. Лічу, што наша літаратура павінна мець свой адметны каларыт. Нездарма ж слынны Адам Міцкевіч называе ліцвінскую мову як адну з найпрыгажэйшых славянскіх... Пра што я думаў, калі табе прысвячаў верш "Марыська чарнаброва, галубка мая", пераклаў на мужыцкую, але на літаратурную мову мазурку Дамброўскага "Яшчэ Польшча не загінула".

Але самым маім галоўным натхніцелем і настаўнікам з'яўляецца гонар нашай нацыі Андрэй Тадэвуш Банаветура. У 1746 годзе, 12 лютага нарадзіўся ў фальварку Мерачоўшчына. Пад Бярэсцем. Герой Рэчы Паспалітай, кіраўнік нацыянальна-вызвольнага паўстання 1794 года. Вучыўся ў Любяшоўскім піярскім калегіюме, у Варшаўскім кадэцкім корпусе, скончыў Парыжскую акадэмію. Набыў выдатныя веды ў вобласці артылерыі, архітэктуры,

фартыфікацыі, з’яўляўся слухачом у Акадэміі жывапісу і скульптуры. А як праславіўся Тэд (так яго звалі ў Штатах) у вайне за незалежнасць Амерыкі! Стаў нацыянальным героем гэтай краіны. У 1792 годзе аб’яўлены галоўнакамандуючым узброенымі сіламі і начальнікам паўстання. Мы вывучалі дасканала яго словы клятвы: “Клянуся быць верным паўстанню. Клянуся змагацца за непарушнасць межаў нашай дзяржавы, устанаўленне самаўладдзя народа і ўсеагульную свабоду”. Праз два гады, у траўні, прызначыў Найвышэйшую Нацыянальную Раду, выдаў Паланецкі ўніверсал. Але самае галоўнае, што Тэд імкнуўся надаць паўстанню агульнанародны, дэмакратычны характар. Але не яго віна, што шляхта сустрэла тыя паслабкі сялянству ў штыкі, звузіўшы сацыяльную базу і маштаб паўстання...

Мы стараліся не паўтарыць яго памылак, але, на вялікі жаль, не пазбеглі і сваіх.

Дзясятага ліпеня 1862 года быў здзейснены выпуск першага нумару “Мужыцкай праўды”. Мы стараліся данесці да людзей свае планы, свае ідэі. Таму распаўсюдзілі газету па многіх жылых мясцінах. У той жа дзень, на Камянецкай зямлі, на полі каля вёскі Бярозаўка тутэйшы жыхар Місей Геліч знайшоў нашую газету і пачаў чытаць яе аднавяскоўцам. Такім чынам народ даведаўся, што пачалася падрыхтоўка да паўстання. Пра тое стала вядома і царскаму ўраду. А каб папярэдзіць яго, у Пецярбурзе і быў заснаваны Заходні камітэт – такая спецыяльная ўстанова для барацьбы з нашым вызваленчым рухам на Літве, Ліцвініі і ва Ўкраіне.

Цэнтральны нацыянальны камітэт, які быў створаны ўлетку 1862 года ў Варшаве, на жаль, меў абмежаваную праграму. Яна была складзена толькі ў інтарэсах польскай шляхты, а не сялянаў. На яе недасканалась і сур’ёзныя пралікі і недахопы ўказвалі польскім рэвалюцыянерам-дэмакратам А.Герцэн, М.Бакунін, М.Агароў. Яны імкнуліся і прапаноўвалі далучыць да праграмы яшчэ адну тэзу-патрабаванне – “Зямля – сялянам, воля – правінцыям”. Але рэвалюцыянеры не прыслухаліся да іх голасу. І гэта стала адной з галоўных прычынаў, якая адразу ж адштурхнула, адпрэчыла ад удзелу ў паўстанні сялян Літвы і Украіны. А іх заклік “За нашу і вашу свабоду” не апраўдаў сябе. Таму паўстанне і не падтрымалі сяляне ўсходніх паветаў Ліцвініі і сяляне з Расіі.

Следчая камісія даводзіла мне, што паўстанне насіла толькі польскі характар. Зусім ня так. Так хоча гэта прадставіць віленскі

генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў. Я ж казаў следчым пра адваротнае: у Польшчы паўстанне было польскім, так, а ў Ліцвініі і Літве яно было *беларуска-літоўскім.* Падзеі разварочваліся на нашай тэрыторыі і паўстанне насіла *нацыянальна-вызвольны характар.* Бо прымалі ў ім удзел тытульныя жыхары – сяляне і рамеснікі, студэнты і шляхта, афіцэры і былыя вайскоўцы, настаўнікі і гімназісты, інжынеры і чыноўнікі. Паўстанцы рабіліся паэтамі і кампазітарамі, стваралі баявыя і рэвалюцыйныя песні, пісалі пракламацыі. Паэты Феликс Ражанскі і Фелікс Тапчэўскі, Францішак Багушэвіч не заставаліся ў баку ад агульнай справы, як і пісьменнік Вінцэнт Дунін-Марцінкевіч...

Але... Але... Але... У жніўні Мураўёў выдаў загад, паводле якога захопленыя са зброяй паўстанцы падлягалі прысуду на смерць. А тым, хто пакаецца і здасца, маглі дараваць. Знайшліся такія, што паверылі хлусні. Але былі і вёскі, што да канца падтрымлівалі паўстанцаў. Быў аддадзены загад такія вёскі спальваць...

У жніўні шэсцьдзесят трэцяга года я зноў узяў кіраўніцтва над паўстаннем на Літве і ў Ліцвініі. Не толькі праціўнікі, але і сябры казалі, што я прыхільнік радыкальнай праграмы і крутых, жорсткіх мераў. Так яно было і насамрэч, – бо інакш нельга было…

Аднак, на вялікі-вялікі жаль, мы ўпусцілі спрыяльны час і дапусцілі тыя памылкі, якія дапусцілі.

Я разумеў, што чакае нас параза. А я не падпарадкаваўся загаду польскага нацыянальнага камітэта на сваёй тэрыторыі спыніць змаганне – і прайграў.

Вось так атрымалася, мая Марыська!

Але я не скончыў пра Касцюшку. У 1792 годзе, дзясятага кастрычніка, падчас бітвы каля Мацяёвіцаў, яго цяжка параніла. Палон. Петрапаўлаўская крэпасць. Вызвалілі яго праз два гады. З'ехаў у Амерыку. Але не мог пражыць без Еўропы. Памёр у Швейцарыі. Астанкі перапахаваныя ў Кракаве. І ў яго былі памылкі: ён не бачыў у простым людзе ўдарную сілу, ды і палохала рэвалюцыйная праграма Якуба Ясінскага з яго імкненнем аднавіць дзяржаўную незалежнасць ВКЛ. А царскі ўрад паабяцаў сялянам аддаць ім зямлю "паноў-бунтаўшчыкоў". Найвышэйшую Літоўскую Раду звінавацілі ў сепаратызме і дзеяннях супраць "уніі братніх народаў" і затым распусцілі. А Ясінскі быў зняты з пасады галоўнакамандуючага, што значна аслабіла паўстанне...

Мы з сябрамі наведалі магілу перад тым, як аб’явіць пачатак паўстання, пакляліся:

– Генерал-лейтэнант, кавалер ордэна “Віртуці Мілітары”, шаноўны спадар Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка! Мы, кіраўнікі і ўдзельнікі нацыянальна-вызвольнага паўстання, не здрадзім тваім запаветам нават і тады, калі паўстанцкі шлях прывядзе да шыбеніцы.

Даруй, што замест узнёслых слоў пра каханне напісаў табе цэлае паўстанцкае данясенне. Але ж ты першы памочнік мне ў нашай рэвалюцыі...

6

– Так о чём вы хотели сделать завяление, подследственный Калиновский? – распачаў допыт старшыня асобай следчай камісіі.

– Мае паказанні ад трыццатага снежня прашу лічыць несапраўднымі. Толькі ноччу я ўспомніў, што па тых адрасах, што я сказаў, ніколі і не пражываў.

– Тогда по каким вы проживали?

– Не магу сказаць, пан палкоўнік!

– Почему – не можете?

– Не хачу падвесці  невінаватых людзей!

– Вот как! Благородно, благородно, Константин Семенович! Ваш возраст, пожалуйста, вероисповедание?

– Нядаўна мне споўнілася дваццаць шэсць гадоў.

– Где родились?

– Мастаўляны – Гарадзенскі павет.

– Где получили образование и какое?

– Скончыў Свіслацкую гімназію. Потым – універсітэт у Пецярбурзе. Скончыў камеральнае аддзяленне юрыдычнага факультэта, маю ступень кандыдата.

Уставіў сваё пытанне і паручнік Гогель:

– Это прекрасно, что вы получили в России такое замечательное образование. Тем более должны понимать, что вы по своей воле стали государственным преступником. А какими науками вы увлекались больше всего?

Кастусь паглядзеў на Мікалая Валяр’янавіча:

– А гэта мае якія-небудзь адносіны да нашай тэмы?

– Мае, і вельмі вялікія, – прамовіў нечакана Гогель на беларускай мове, – нам цікава пачуць усе падрабязнасці ад вас.

– З задавальненнем адкажу на вашае пытанне, раз вы ўжо загаварылі са мной на маёй мове. Адказваю. Захапляўся класічнай нямецкай філасофіяй і заходнееўрапейскім сацыялізмам. Вывучаў, і вельмі глыбока, гісторыю славянскіх народаў. Магу вам растлумачыць, адкуль пайшло вашае прозвішча, але вы можаце пакрыўдзіцца на мяне.

– Потом как-нибудь, потом.

– Подследственный Калиновский, – звярнуўся да яго капітан Сямёнаў, – вы входили в состав общества “Земля и воля”?

– Не, не ўваходзіў. Запрашалі. Але не было часу тым займацца. Вучоба патрабавала аддаваць ёй шмат часу.

– Таким вот образом вы отблагодарили царя-батюшку, что он вам, жителю Северо-Западного края, предоставил возможность получить высшее образование. И там, значит, изучая историю славянских народов и западноевропейский социализм, вы и стали врагом самодержавия?

Каліноўскі ўсміхнуўся:

– Чаму ж там? Калі яшчэ вучыўся ў Свіслацкай гімназіі. Брат Віктар гэтаму пасадзейнічаў. І не толькі ён. Уладзіслаў Сыракомля раскрыў вочы на многія рэчы. То потым ужо сталі маімі настаўнікамі і кумірамі Тарас Шаўчэнка, Герцэн, Дабралюбаў, Агароў, Гарыбальдзі…

Утварылася нядоўгае маўчанне. Нешта шапнуў Шалгунову на вуха Гогель. Палкоўнік згодна кіўнуў галавой.

– Скажите, Константин Семенович, а после Петербурга куда вы направили свои стопы?

Каліноўскі нейкі час раздумваў, як бы ўспамінаў свае шляхідарогі, адказаў:

– У Пецярбурзе на працу ўладкавацца не ўдалося, таму я рашыў у 1861 годзе вярнуцца на радзіму. Думаў, што тут мне пашанцуе ў Гародні, але… Мне было адмоўлена ў працы. І я заняўся стварэннем рэвалюцыйных арганізацый.

– Почему же вы очутились в Вильно? Что вас заставило приехать сюда?

– З той простай прычыны, што чыноўнік адзін папярэдзіў мяне аб тым, што гарадзенскі начальнік выдаў распараджэнне аб маім арышце.

– Так у вас, получается, всюду друзья или ваши агенты?

– Так, яны паўсюдна… Нават і сярод вашых жандараў.

Шалгуноў шчыра здзівіўся:

– Не может этого быть, Константин Семенович! Наговариваете вы на представителей нашего ведомства.

– Можа, і нагаворваю, палкоўнік, усё можа быць.

– Ладно, оставим эту тему. Двигаемся дальше. Нам интересно будет узнать, в каких вы должностях вы были причислены к революционным событиям? Желательно последовательно, одно за другим.

Кастусь пацёр пальцамі лоб, нахмурыўся. Разважаў, што для іх можна раскрываць, а што і не.

– З чаго пачаць, не ведаю.

– С университета и начните.

– Добра. Тады 1856 год… Я стаў кіраваць левым рэвалюцыйным крылом зямляцтва студэнтаў універсітэта – у асноўным тымі людзьмі, якія нарадзіліся ў Беларусі, Літве і Польшчы. У наступным годзе стварыў і пачаў кіраваць рэвалюцыйнай арганізацыяй у Гародні. Яшчэ праз год – улетку – чалец "Камітэта руху" тут, у Вільні. Стаў рэдактарам, аўтарам і выдаўцом "Мужыцкай праўды". А восенню – мяне абіраюць старшынёй Паўстанцкага Літоўскага правінцыйнага камітэта. У сакавіку, у наступным годзе, – рэвалюцыйным камісарам Гарадзенскага ваяводства. Праз два месяцы – паўстанцкі цывільны начальнік Гарадзенскага ваяводства. Праз месяц – сябра паўстанцкага аддзела Літвы і адначасова кіраўнік аддзялення ўнутраных спраў. У наступным месяцы ўзначаліў "чырвоны жонд".

– Вы это называете повстанческим Национальным правительством Литвы и Беларуси?

– Так, вы ўсё правільна разумееце, палкоўнік, а прыкідваліся, што не разумееце нашага дыялекту!

– Значит, в ваших руках была сконцентрирована вся революционная власть? И от вас исходила главная угроза? Тогда вас не напрасно называли диктатором?

– И еще называли королем Литвы и Беларуси, – падказаў, гледзячы на палкоўніка, паручнік Гогель.

– Ого! – падзівіўся Шалгуноў. – Король! Это уже серьёзно.

– У меня вопрос, – прамовіў капітан Сямёнаў, які да гэтага ў асноўным маўчаў. – Раз у вас была вся полнота власти, то от вас

исходили инструкции для бунтовщиков, приказы, циркуляры и так далее. Это действительно так?

– Сапраўды так.

– Не могли бы вы их перечислить?

– Ды тых дакументаў сотні і сотні. Найперш была выдадзена інструкцыя Літоўскага правіцыяльнага камітэта для павятовых і акруговых начальнікаў. Яшчэ – інструкцыя для ваенных паўстанцкіх камандзіраў, цыркуляр супраць дэзінфарматараў, ды яшчэ падрабязныя інструкцыі для павятовых камісараў… Але я лічу, што адным з галоўных дакументаў быў Загад да народа Літвы і Беларусі ды Адозва з заклікам да ўсяго народа, і да вашага, расійскага, падымацца на рашучую барацьбу супраць душыцеляў свабоды і прыгнятальнікаў.

– Вас причислили к диктаторам. А к теророристам вы имеете отношение?

Пытанне задаў паручнік Гогель. Не проста спытаўся, чакаў адказу.

– Здзейсніць замах на цара? – удакладніў Кастусь. – З бомбай на аўгусцейшага манарха?

– Да нет… Вот передо мной воззвание к усилению революционного террора. По стилю авторство принадлежит вам.

– Вы не памыліліся, паручнік! Далучыце да яго і мой загад гарадзенскага камісара.

– Тогда, может, вы автор и Постановления Революционного трибунала о смертной казни? О смертной казни предводителя дворянства Виленского края господина Александра Домейко? И использовали для этого убийц-кинжальщиков?

– Мы яго аб’явілі здраднікам радзімы і паставілі па-за законам.

Шалгуноў загарнуў папку, якую вывучаў, спыніў погляд на вязню:

– Понятно, арестованный Константин Семенович! В Гродно вы не нашли себя, приехали в Вильно. Что скажете об этом периоде?

Зноў задумаўся дыктатар паўстання, кіруючыся толькі адным – не нашкодзіць бы сваімі прызнаннямі тым, хто застаўся на свабодзе.

– Вільня, Вільня… Найперш я сустрэўся са сваімі знаёмымі і сябрамі па ўніверсітэце. Адшукаў інжынера шляхоў зносін Уладзіслава Малахоўскага. Ён жа з’яўляўся і кіраўніком партыі “чырвоных”. А ён мяне накіраваў да Нестара Дзюлерана, які

служыў на чыгунцы. Нестар і выдаў мне дакументы на імя Макарэвіча. А ён у сваю чаргу звёў мяне з Ануфрыем Духінскім, які пазней быў прызначаны паўстанцкім ваяводам у Гарадзенскую губерню. Калі Ануфрый падаўся ў Гародню, то я адразу паехаў у Беласток. І быў у мяне пашпарт на імя Чарноцкага. Я атрымаў ад Дзюлерана загад сабраць звесткі аб колькасці паўстанцкіх атрадаў, колькі групавалася ўсіх касінераў.

– Вы же не один поехали в Белосток, не так ли? Кто был с вами? Назовите імена командиров тех отрядов.

– За тры гады я пазабываў усіх. Ды і ў мэтах сакрэтнасці мы не ўжывалі прозьвішчы, а мянушкі ці псеўданімы. Напрыклад, “Круцель”, “Гогель”…

– А почему Гогель? – удакладніў капітан Сямёнаў.

– А Гогель на мясцовым дыялекце “репейник”, што азначае плевелы, пустазелле, дзядоўнік…

– Не пытайтесь меня оскорбить! – пакрыўджана прамовіў паручнік Гогель. – Одной ногой в могиле, а ерепенится…

– Невядома яшчэ, паручнік, хто раней туды сыдзе…

– Хватит! – перапыніў яго Гогель. – Отвечайте на поставленные перед вами вопросы!

– Павел Міканоравіч, хіба я не адказваў на вашае пытанне? – паглядзеў вязень на Шалгунова.

– Ну, успокойтесь, Николай Валерьянович, сядьте. У нас идёт допрос, а не препинания…

– Извините, – апамятаўся Гогель, – но и он пусть словами не бросается.

Шалгуноў нецярпліва паглядзеў на вязня:

– Ну и дальше… Не помните фамилии, потому что были клички и псевдонимы. А хоть одну фамилию вы можете нам назвать?

Дыктатар пацiснуў плячыма:

– Выветрылася… Дзюлеран неўзабаве адклікае мяне да сябе. Прызнаюся, што я адразу ўбачыў у Дзюлеране галоўнага камандзіра паўстання ў літоўска-беларускім краі. А званне ў яго было – камісар Варшаўскага цэнтральнага нацыянальнага камітэта і Нацыянальнага ўрада ў Літве і на Беларусі.

– И кем же вы были при Дюлеране?

– Напачатку простым сакратаром. У мае абавязкі ўваходзіла абагульненне звестак, напісанне артыкулаў аб ходзе паўстання. Гэта мы ўсё адсылалі за мяжу.

– Какие и кому давал должности Дюлеран?

– Францішка Канаплянскага ён прызначыў паўстанцкім цывільным начальнікам Віленскага ваяводства.

– Так, одного вспомнили. Ещё?

– Камісарам пры Канаплянскім Дзюлеран прызначыў Сухадольска-Дарманоўскага, а Малахоўскі займеў пасаду паўстанцкага начальніка Вільні.

– Еще, еще… Что вы тянете? Перечисляйте фамилии!

– Калі б я іх памятаў, то сказаў бы паважанай асобай следчай камісіі. Вашыя каты ўмеюць махаць кулакамі. Ад ночы галава гудзе.

– Сами виноваты, – хмыкнуў Шалгуноў, – мы предупреждали вас, что с вами будет, если будете молчать… Где сегодня ваш любимый Дюлеран? Где?

Вязень паціснуў плячыма:

– Не ведаю… Можа, эміграваў.

– И тогда вместо него вы стали главным распорядителем бунта в нашем крае?

– Вы правільна сказалі, палкоўнік. Але не бунт, а паўстанне ўзначаліў я.

– Скажите нам еще вот что. Малаховский сбежал, кто стал вместо него начальником Вильно?

– Дайце прыпомніць… Здаецца, Міхась Ляпкоўскі. Так, успомніў, ён.

– Можете сказать, где он сейчас?

Канстанцін паціснуў плячыма.

– Кто вместо него стал начальником?

– Гэта помню. Пасаду начальніка Вільні я даручыў свайму памочніку і сябру Цытусу Далеўскаму.

Капітан Сямёнаў не ўтрымаўся, падхапіў адказ Кастуся:

– И сколько же у вас было помощников и друзей? Назовите их.

– Адзін з лепшых маіх сяброў быў Ігнат Здановіч, нябожчык, на вялікі жаль. Вы пакаралі яго смерцю. Томаш Грагатовіч, сябра Літоўскага аддзела… Хто ж яшчэ? Не магу ўспомніць…

Нечакана перад вачыма захістаўся палкоўнік Шалгуноў, безаблічнымі сталі Гогель і Сямёнаў… Стала цяжка дыхаць, заванітавала… І ён не чуў, як Шалгуноў абыякава прамовіў: “Доктара Фавеліна паклічце – ён у калідоры сядзіць”, не чуў, як палкоўнік абвясціў: “На этом прервемся, господа! Продолжим завтра”.

Доктар стараўся вярнуць яго да жыцця, падносіў да носу нашатырны спірт…

Яго занеслі ў камеру і паклалі на ложак.

– Вы нам его верните к жизни, голубчик, – загадаў палкоўнік, – он нам нужен живой, понимаете – жи-вой!

……………………………………………………………………

– Вызывали, Михаил Николаевич? – доктар Фавелін зайшоў у кабінет генерал-губернатара.

– Да, сударь, вызывал. Прежде чем придут ко мне полковники Шелгунов и Лосев, хочу выяснить некоторые обстоятельства.

– Слушаю вас, ваше высокопревосходительство!

Муравьёў отмахнулся:

– Да будет вам, дорогой доктор Фавелин, зовите меня просто по имени и отчеству. Вы же мне как родной стали, за моим драгоценным здоровьем следите. И я слушаюсь и повинуюсь только вам. Подчиняюсь только вам и августейшему монарху.

Фавелін кіўнуў галавой.

Мураўёў выйшаў з-за стала, пачаў хадзіць па кабінеце.

– Скажите, доктор, как там здоровье нашего бунтаря?

“Пекутся о его здоровье, благодетели”, – з горыччу падумаў Фавелін.

– Если честно, Михаил Николаевич, то очень плохо. Еще таких один-два приступа, и он не вытянет, его тогда никто не вернет к жизни.

– Что вы говорите? – падышоў бліжэй Мураўёў. – А мне докладывают, что он богатырского здоровья. Вы же говорите обратное.

– Богатырское у него не здоровье, Михаил Николаевич. Он раньше умрёт, чем вступит сделку с Шелгуновым.

Мураўёў спыніўся каля свайго стала, абаперся адной рукой на брыжык. З цікавасцю паглядзеў на доктара.

– А разве может быть такое – слаб здоровьем, но здоров духом?

– Калиновский – живой пример. Я вижу, что у него иссякают силы и он не жалуется. Его избивали, добиваясь признаний, но он молчал, он объявил голодовку и мог умереть. Он хочет уйти из жизни, но не хочет быть самоубийцей. Тем более духовным самоубийцей…

Мураўёў задумаўся. Адышоў ад стала, зноў пачаў хадзіць па дывановай дарожцы свайго кабінета.

– Гм… Хм… Ты смотри, какой экземпляр. Просто народный герой! Ещё, не дай Бог, в истории останется как героическая личность. Вы как думаете, милейший доктор Фавелин?

– Вы совершенно правы, Михаил Николаевич! Нельзя изменить ход истории, как и нельзя вычеркнуть и его, их восстание из жизни.

Мураўёў падышоў да Фавеліна, стаў побач, нахіліўся амаль да самага твару, што доктар пачуў, як ад яго патыхае часнаком і гарэлкаю:

– Вы, батенька, случайно не относитесь к той категории людей, которые жалеют его и сочувствуют ему, а?

– Для меня, Михаил Николаевич, люди делятся на две категории – здоровые и больные. Так вот, у Калиновского серьезно подорвано здоровье. Я жалею больных и сочувствую им. Что здесь зазорного?

– Да, да, вы совершенно правы, прошу простить меня, – перамяніў тон Мураўёў, – вы доктор, и вам положено иметь доброе и сочувственное сердце. Это только у меня его нет, сердца, поэтому и прозвали меня Муравьёв-вешатель, разве не так?

– Михаил Николаевич я не хотел обидеть вас…

– Обидеть? Он вешал и убивал наших солдат и жандармов, а мы должны его жалеть? Лечить его, возвращать к жизни? Да?

Бачачы, як генерал-губернатар пачынае наліватца гневам, падышоў да яго, умольна прамовіў:

– Ваше высокопревосходительство! Вам нельзя волноваться, – побеспокойтесь о своем здоровье. Успокойтесь, Михаил Николаевич, и не судите меня строго.

Мураўёў суцішыўся:

– Пожалуй, вы правы, дорогой доктор. Совершенно правы-с! Не к лицу мне из-за какого-то диктатора подрывать собственное здоровье. Всё, я успокоился. Дайте, доктор, чего-нибудь успокоительного для закрепления.

Фавелін падышоў да століка, на якім стаяў графін з вадой. Узяў шклянку, накапаў туды некалькі кропель, даліў вады.

Расчыніліся дзверы, у кабінет зайшоў сакратар. Ніхіліўшыся ў паклоне, абвясціў:

– Ваше высокопревосходительство, полковники Лосев и Шелгунов!

– Зовите.

– Мне выйти, Михаил Николаевич?

– Да нет, доктор. Секретов никаких нету. А для вас будет интересно услышать, что говорят о бунтаре полковники.

У расчыненыя дзверы ўвайшоў спачатку Шалгуноў, а за ім Лосеў. У іх вачах Фавелін убачыў насцярожанасць і сполах. Пераглянуліся, як быццам вырашалі, каму першаму дакладваць. Не зразумелі адзін аднаго, і таму пачалі амаль адначасова:

– Мы в затруднении, ваше высокопревосходительство!

– Что вы всё заладили одно и тоже, сам знаю, что я высокопревосходительство! О деле, о деле мне докладывайте! Удалось вытянуть у диктатора что-нибудь конкретное?

– Никак-с нет, Михаил Николаевич! Всё вокруг да около, а конкретности – ноль. Извивается, как угорь. Называет те фамилии, которые арестованы или нет в живых… Или убыли за границу.

– Значит, дурачит вас, я так думаю.

– Мы уверены, что добьёмся своего. Он уже совсем обессилел. Мы его и среди ночи подымаем и допрашиваем. Не даём спать. У него уже заплетается язык, еще немного, и он начнет говорить.

“Вот почему он так ослабел, – падумаў доктар Фавелін, – а мне о ночных визитах к нему ничего не говорили. Измором взять хотят…” – зразумеў доктар.

– Господа, мне не столько нужны фамилии его сообщников, как общая картина подготовительных и организационных работ, направленных на поднятие бунта. Повод к бунту, основания, мне более-менее ясны. Когда-то, лет сорок назад, я переменил картину этого Северо-Западного края, будучи на должности вице-губернатора в Витебске, местному люду то не понравилось. Как и не понравилось в Могилеве и Гродно, где я тоже был губернатором. Мне твердили о Великом Княжестве Литовском, о его Статуте, а я им фигу, нате, выкусите, господа демократы… Монарх отнесся с интересом к моим нововведениям: “Действуйте, Михаил Николаевич, вам и карты в руки!” Вот я теми картами и раскладываю до сих пор тот пасьянс. Чтобы развязать мне руки, император издал ряд указов. Мы добились главного – беларусы постепенно начали забывать себя. К их дереву мы привили такую ветвь, что она и стала основным древом, и крона у него российская…

– Россия вознаградит вас за эти труды, Михаил Николаевич!

Не звяртаючы ўвагі на іх словы, вешальнік працягваў распавядаць пра свае заслугі ў справе экспансіі беларусаў, аб сваім імкненні

і апантанасці ператварыць край ліцвінаў у расийскі духоўна-эканамічны палігон.

– Так вот, господа, это я предложил императору закрыть Виленский университет. Он же стал рассадником национализма коренного населения, осиным гнездом, трибуной доморощенных демократов. И еще я посоветовал монарху: “Во что бы то ни стало отменить на Белой Руси и в Литве действие Статута Великого княжества Литовского, Русского и Жамойтского 1558 года. А в связи с этим необходимо подчинить белорусско-литовские земли под юрисдикцию общероссийских законов...” Государь не только согласился с моими доводами и предложениями, приказал претворить их в жизнь. А мне и нужен был его приказ, его высочайшее позволение. Тогда я пошел на крайние меры – упразднил Брестскую церковную унию, а для этого пришлось униатскую церковь присоединить к православной. И нам без нужды было прокладывать к людским душам нашу религию и культуру через штыки гренадеров. Как я говорил монарху, это всё без крови и насилия сделает русский чиновник, русская школа и русский поп. Мне очень приятно и сладостно вспомнить это.

– Далеко смотрели, Михаил Николаевич! – выструніўся перад “ярыгай” палкоўнік Шалгуноў.

“Вот как оно получается – пришли, оккупировали, загнали людей в неволю, а потом не могут понять, почему белорусы ненавидят царских прислужников. Кто же мы после этого, господа, кто? Оккупанты, и другим словом назвать наши действия нельзя. Против нас и восстал край белорусов и литовцев, и впереди всех шёл Константин Калиновский... Не шёл, а всегда будет идти, вести за собой народные массы до тех пор, пока не вернется золотое время Великого Княжества Литовского...”

Фавелін дзівіўся нараджэнню ў яго такіх думак.

Выспелі, пэўна, даўно, як толькі сутыкнуўся з прапавадыром паўстання.

– Докопайтесь до основ, до самой организации, – даводзіў палкоўнікам Мураўёў. – Да не на польской территории, а на нашей. Не я от вас требую, а сам государь.

– Постараемся, ваше высокопревосходительство! Поклясться можем...

Мураўёў з кіслым тварам адвярнуўся:

– Умеете вы клясться, господа! Лучше бы работали так, полковники! С участниками мы и без него, сами разберемся, у нас много податливых бунтарей. Мне нужно главное: их методы борьбы, конспирация, подробнейшая структура революционных организаций. Где их штабы, центры, конспиративные квартиры, печатные цеха, где находится логово той газетёнки, которую издавал "Яська из-под Вильно". Как они готовили мятежников, где обучали методам ведения борьбы. Какие нити тянутся к российским революционным демократам. Так же, к полякам и прочим шведам. Вы спросите, господа, для чего это всё, когда бунт подавлен? Я отвечу вам, чтобы в дальнейшем пресекать, в корне пресекать подобное. Мы имеем опыт по усмирению кавказских главарей, должны уметь это делать и здесь, в этом Северо-Западном крае. Если вы докладываете мне и говорите, что Калиновский прекрасный практик, то я вам скажу больше, – он еще и прекрасный теоретик революции, надо отдать ему должное. Он претворял в жизнь то, к чему призывал "Колокол" Герцена и революционеры-демократы Чернышевский и Добролюбов. Мне также интересны соображения Калиновского не только о причинах поражения, но и о будущем этого края. Это крайне важно, господа. Может, и не надо так усердствовать в пытках, а подойдите к нему с другой стороны. Разговор продолжите, может, не на следственной комиссии, а в его камере. Предложите кофе, чай, поговорите с ним, так сказать, тет-а-тет, по душам.

– Хорошо, сменим тактику сообразно вашему совету, – прамовілі палкоўнікі.

– И к вам, доктор Фавелин, обращаюсь. Вы ближе всех нас к его душе, боли, и страданиям. Обещайте ему что угодно, расположите его к себе. Прикиньтесь демократом, сочувствующим... Даю вам полный карт-бланш... Да, чуть не забыл... К городскому полицмейстеру полковнику Сарначеву обратилась некая вдова, дворянка Ядвига Мокрицкая. Многие в Вильно знают ее как известную филантропку. Она вручила тайно ему некоторую сумму денег, прося, чтобы он посодействовал встретиться с Калиновским, с целью передать ему чистое бельё, мыло, зеркало, гребешок... И кроме этого настоятельно просила и о другой встрече – с арестованной девицей Марией Ямонт.

Лосеў пераступіў з нагі на нагу, выказаў сваю дасведчанасць у гэтым пытанні:

– Ядвига Мокрицкая в самом деле благородная и чуткая душа, истинная христианка. Но проблема в том, что Мокрицкая родная сестра матери упомянутой Марии, которая является невестой Калиновского.

– В самом деле? – шчыра падзівіўся "ярыга", і на яго твары адбілася радасць. – Это в корне меняет ситуацию, господа!

"Боже, и это стало известно Муравьёву! – з горыччу падумаў доктар Фавелін. – А это означает, что новые страдания будут придуманы ему..."

– Не знал, не знал, господа, об этом, – прызнаўся генерал-губернатар. – Поэтому мы можем наладить интереснейший спектакль, сыграть, так бы сказать, ораторию на чувствах влюблённых… Когда полицмейстер признался мне, что он взял деньги у Ядвиги Мокрицкой, я одобрил его действия. Посоветовал кроме устройства свидания, подтолкнуть арестанта Калиновского к переписке, чтобы он пообещал, что его письма сохранятся в строжайшей тайне… И как чувствует себя невеста, Александр Михайлович?

– Угнетена, ваше высокопревосходительство. Почти ни с кем не разговаривает.

Мураўёў усміхнуўся, пахадзіў па пакоі:

– В связи с этим мне думается вот что, Александр Михалыч. Нужно этой невесте создать условия, чтобы она начала метаться, взвыла, запросила пощады. Чтобы об этом стало известно ее жениху. Посмотрим, как он отреагирует на это. Если он действительно любит её.

"Это же бесчеловечно, – сціснуліся зубы ў доктара, – не гуманно и жестоко... Как же мне отыскать Людвику? Где она сейчас? Может, и ее арестовали?.."

– Ну, что, господа, на этом всё. Желаю успехов…

Мураўёў падышоў да акна. Глядзеў у цемру і думаў, што ж яму прынясе заўтрашні дзень.

Гульня з галоўным бунтаўшчыком абяцала быць цікавай.

7

– Как вы сегодня себя чувствуете, Константин Семенович? – пацікавіўся старшыня Асобай следчай камісіі.

– Пакуль жывы.

– Ну и прекрасно. Не будем терять драгоценное время. Дворянин Калиновский, извещаю вас, что работает следственная комиссия в том же составе, что и перед этим. Вчера по состоянию здоровья вы не могли присутствовать на заседании комиссии, поэтому мы пошли навстречу доктору Фавелину, и дали вам однодневный отдых.

Вязень ледзь прыкметна на знак падзякі схіліў галаву.

– Вопрос такой. Какие распоряжения, приказы или циркуляры осенью прошлого года вы лично отдавали бандитам…

– Палкоўнік, будзеце са мной так размаўляць, я адмоўлюся ўвогуле адказваць на вашы пытанні!

– Ладно, согласен… повстанцам… в плане их активизации.

Пачынала зноў кружыцца галава. Вялікім намаганнямі волі вязень пастараўся ўзяць сябе ў рукі, перамагчы слабасць і дрыготку ў нагах. Не хацелася перад катамі зноў паказацца слабым і бездапаможным.

– Пачыналіся халады, а з імі і зіма набліжалася. Я прыняў рашэнне перамяніць тактыку барацьбы. У нас не было цёплага адзення і абутку, і таму ў лютыя маразы ніхто не мог вытрымаць, былі б чалавечыя ахвяры без баёў з царскімі акупантамі. Нам неабходна было сабраць звесткі пра стан паўстанцкіх атрадаў і злучэнняў. Акрамя гэтага, нам неабходна было ведаць і аб настроі касінераў: ці вернуцца яны ў баявыя шэрагі, калі мы іх распусцім да вясны… І ўсё ж я распарадзіўся распусціць атрады, а кожнаму касінеру і іх камандзіру выдаць адпускныя білеты.

– Кого вы в это время назначили начальниками в губерниях? Пофамильно. Это вы должны помнить.

У баку ад членаў следчай камісіі сядзеў доктар Фавелін. Пры ім быў чамаданчык з лекамі. Ён чытаў нейкую кнігу, трымаючы яе на каленях. Зрэдку кідаў позіркі на вязня.

– Прызначыў камандзірамі атрадаў дваіх – Саву, мусіць, такі псеўданім у яго, і нейкага Міцкевіча.

– А фамилии Пеликша и Свенторжецкий вам ни о чём не говорят?

– Здаецца, яны належалі да спраў Менскай губерніі. А мо я і памыляюся.

– Опять вы уходите от ответа, – незадаволена прамовіў палкоўнік Шалгуноў. – И долго мы будем с вами играть в кошки-мышки?

– Я адказваю на тыя пытанні, на якія ведаю адказ. Чаго ж я буду нагаворваць на людзей, якіх не ведаю і не чуў пра іх? Ці вы прымушаеце мяне, каб я даў хлуслівыя паказанні? Вам трэба падрабязная справаздача для Мураўёва-вешальніка? На вялікі жаль, я ў гэтым кепскі памочнік. Бо і ад мяне шмат чаго ўтойвалася. Таму я не магу ведаць усё і пра ўсіх…

– А о вашем смелом Людвиге Звеждовском, которого многие считали авантюристом, что вы о нём скажете?

– Анічога… Хто такі?

– Вы с ним расходились по многим вопросам, но всегда доверяли ему. Он воевал против нас. Вы и это будете отрицать, диктатор Калиновский?

Нешта балючае сціснула вушы і Кастусь абхапіў галаву рукамі.

Паспеў перад тым, як праваліцца ў беспамяцтва, нахіліцца – каб упасці наперад… Сямёнаў дастаў з-пад стала амаль поўнае вядро вады, падышоў да беспрытомнага і выліў дарэшты на галаву…

Доктар Фавелін падышоў да вязня ўжо тады, як той ляжаў, беспрытомны, у калюжыне вады.

– Не вода ему нужна, а покой, – прамовіў доктар, схіліўшыся над Каліноўскім.

– Притворяется…

……………………………………………………………………………

Спачатку над ім нахілілася Марыся. Маўкліва выцірала пот з ілба, змазвала ёдам драпіны і раны… Потым яна знікла, а замест яе цьмяна праявіўся твар доктара Фавеліна.

– Вам лепш, Вікенцій-Канстанцін?

– Здаецца, лепш.

– Вы гаворыце на маёй роднай мове?

– Рэдка. Когда-то удивились этому Людвика и хорошо вам известная Марыся Ямонт.

– Вы іх ведаеце?! – падзівіўся шчыра Каліноўскі. – Чаму ж я не ведаю пра тое?

– Значит, Людвика не захотела об этом говорить. Я тогда, в пятьдесят первом, случайно познакомился с ними. С Людвикой встречался несколько раз, даже, боюсь признаться, влюбился в нее, но…безответно.

– Што здарылася тады, дарагі доктар Фавелін?

– Яе калегі забаранілі нам сустракацца. А мо і бацькі. Палічылі мяне за ворага вашаму вызваленчаму руху ці за шпіка. Я не

мог ніяк пераканаць Людвіку, што я таксама ненавіджу самадзяржаўе, хоць і належу да расійцаў, але сэрца маё з вамі. Мае куміры – Герцэн і Дабралюбаў, Чарнышэўскі, а цяпер і вашае імя.

– У нас шмат у паўстанцкім руху расійцаў.

– Знаю о том, Константин Семенович. Але я на адлегласці сачыў за імі – Марысяй і Людвікай – і за іх дзеяннямі. Не як шпік, а як чалавек, гатовы памагаць вызваленчаму руху. І заўсёды перажываў, каб з вамі ўсімі не здарылася якой бяды… И она произошла, та беда. Вы в лапах царского правосудия. А они, царёвы слуги…

– Ведаю. Я да ўсяго гатовы.

– У меня хранятся все экземпляры вашей газеты. Я сохраню “Мужыцкую праўду” для сваіх дзяцей і ўнукаў, буду гаварыць, што я лячыў і цісну ў руку самаму бясстрашнаму і смеламу чалавеку Беларусі-Літвы.

– Ды што вы… – вяла адказаў Каліноўскі… – Я – просты змагар, як і ўсе касінеры.

– Няпраўда. Вы ў гісторыі застанецеся на стагоддзі. Мы з вамі аднагодкі. Але вы здзейснілі за свае гады столькі, што такое не пад сілу і тысячам людзей. Я горжусь вами, Викентий Константин Калиновский!

Доўга яны яшчэ гаварылі ў той вечар. Ім ніхто не перашкаджаў, не замінаў, і яны зразумелі адзін аднаго, і радыя былі аднадумству і ўзаемаразуменню…

… Бачылася ўсё як скрозь сон. Нехта нахіляецца над ім, раскрывае рот і пытаецца пра нешта… З’яўляецца Марыся, хоча нешта сказаць, але яе адштурхоўваюць невядомыя людзі.

У вушах праціўна звініць, быццам туды забілася вялізная муха і ніяк не можа выбрацца на волю, у скроні нехта забівае цвікі…

“Божа, памажы мне выстаяць, а калі не вытрымаю здзекаў, забяры ў мяне жыццё. Усё ў Тваёй уладзе, Госпадзе! У Новым Запавеце Тваімі вуснамі сказана, што кожны чалавек павінен імкнуцца да волі. І яшчэ казаў, што кожная ўлада ад Бога. Але мы не выбіралі тую ўладу.

– Где находится Шадурский, дворянин Калиновский?

– Не ведаю, не ведаю, хто такі… Людвіка Дзічкоўскага ведаю – Ковенскага цывільнага начальніка і Альберта Грахоўскага – інфляндскага паўстанцкага ваяводы…

“Голас, здаецца, капітана Сямёнава. Але ж ён пытаўся, здаецца, пра тое. Пераправярае, думае, што адкрыюся ў такім стане… Хай думае…”

– Кто известен вам из состава воевод и главарей восстания в Северо-Западном крае?

– Дайце ўспомніць… Пасля Канаплянскага ў Вільні ваяводам нікога не прызначалі. Хто быў у Менскай, не ведаю. А Віцебск і Гародня з лета мінулага года ў справе кіравання паўстаннем адышлі пад юрысдыкцыю Варшаўскага камітэта.

– Ладно, пусть будет так… Тогда скажите, арестованный, кого вы знаете из членов Комитета опеки в Вильно? Вы должны это знать, должны!

– Я павінен быў маўчаць зусім, але размаўляю з вамі… Я не магу больш гаварыць, я задыхаюся, мне не хапае дыхання…

– Господа, я не могу разрешить вести дальше допрос. Арестованному нужен отдых, перерыв.

“А гэта ўжо, здаецца, голас доктара Фавеліна. За маё здароўе хвалюецца? Навошта? Днём раней, днём пазней, але ўсё роўна завісну я на мураўёўскай пятлі…”

– Доктор, а вам слово никто не давал. Сходите к генерал-губернатору и скажите, что мы грубо обращаемся с арестованным. Если же он даст команду прекратить, мы тут же остановимся!

– Повторяю вопрос, арестованный, – Комитет опеки, – кого знаете?

У горле перасохла, нешта сціскае горла.

– Дык… ён жа… даўно пперастаў… існаваць.

– Александр Оскерко, Яков Гейштер, Купеть, Баневич, Ямонты, семейство Кондратович… Кто они? Вы знаете их? Встречались когда? Имели сношения?

– Пра такіх… ніколі не чуў.

– Явочные квартиры в Вильно. Это вы знаете.

“Дык пра гэта яны ведаюць, чаму зноў пытаюцца?”

– Я жыў… у розных месцах, але ніводная кватэра… не з’яўлялася явачнай.

– Вы лжете, арестованный. Другие арестованные утверждают обратное. Где вы жили? Кто хозяева тех квартир, у которых вы их снимали?

– Юзэфа Грыгаровіч. Пасля жыў… у Кельчаўскай. У Гародні не памятаю, у каго жыў. У Вільні, як вярнуўся, начаваў… колькі

начэй у Дзюлерана, Малахоўскага, Сухадольскага. А потым зняў… кватэру за касцёлам святога Пятра, адтуль пераехаў у гатэль “Пузіно”. Апошнюю хату… наймаў у будынку… цяперашняй гімназіі. Больш нідзе… не здымаў кватэру…

– Назовите нам адреса ва…

Марыся прыйшла і насварылася на ўсіх, прагнала, нават доктару Фавеліну выказала нейкі папрок. І ён знік следам за следчымі…

– Ну, што, мой любы, давялі яны цябе да беспамяцтва?

Доўга вяртаў яго да жыцця доктар усіх віленскіх турмаў Фавелін…

Ужо і не спадзяваўся, што верне.

……………………………………………………………………

“… Пра Людвіга Звяждоўскага пыталіся невыпадкова, шмат клопатаў падараваў ён ім…

Мілы і харошы Людвіг! Сапраўды, спачатку мы неяк не прыглянуліся адзін аднаму, вельмі не прыглянуліся.

Я не разумеў цябе, а ты мяне.

Ты службіст царскай арміі, аблашчаны начальствам, хаця, як казалі твае калегі, ты мог на пастаўках амуніцыі і правіянту мець грашовую выгаду, адправіўшы тое ў патрэбныя рукі.

Але як я памыляўся! Тая выгада ой як была неабходная паўстанню!Ты ж тую зброю і рэчы аддаў справе рушання.

Здавалася, табе шанцуе ва ўсім – у любоўных уцехах, у вайсковай службе, у картах. Табе нават аб’явілі “высочайшее благоволение” імператара Мікалая I, і ты атрымаў узнагароду – ордэн Святога Станіслава.

Дарагі Людвіг! Загубіла цябе здрада тых жа сялянаў. Ім Мураўёў кінуў трыццаць срэбранікаў, і яны паквапіліся на іх – пайшлі на вас вайной. Жах! Ганьба! Іудства!..”

Людвіга Звяждоўскага перавялі служыць у Пецярбургскую інжынерную каманду. Калі ж распачалася Крымская вайна – у 1854 годзе, адаслалі служыць у Рэвель. А праз два гады, калі завяршылася Крымская кампанія, яго залічваюць у штат Генеральнага штаба, – ён становіцца слухачом Акадэміі Генеральнага штаба. Разам з ім праслухоўвалі курс лекцый капітаны Зыгмунд Серакоўскі, Яраслаў Дамброўскі, Міхаіл Гейдэнрых, харужы Ян Козел-Паплеўскі, рускі рэвалюцыянер Уладзімір Обручаў.

Такі быў іх гурт, які ператварыўся неўзабаве ў гурток.

Пра гурток Вікенцій-Канстанцін даведаўся выпадкова. Ад знаёмага харужага Ян Козела-Паплеўскага. У Пецярбургскім гарнізоне было шмат вольналюбівых афіцэраў. І іх як магнітам пацягнула у той гурток.

Там і пазнаёміўся Вікенцій Канстанцін з Людвігам Звяждоўскім. Сышоўся блізка з Серакоўскім і Дамброўскім, Уяневічам і Агрызкам, Станевічам і Гейдэнрыхам, Юндзілам і Паплеўскім, Младоўскім і Вітальдам. З Янам Козел-Паплеўскім адразу пасябравалі, і сяброўства іх ніколі  не парывалася.

Калі было цеснавата ў адным пакоі, разыходзіліся па розных кутках, і там спрэчкі разгараліся з новай сілай. Першы раз тады і паспрачаўся з Людвігам. Кожны з іх горача адстойваў погляды будучага змагання з царызмам…

Гурток каваў будучыя паўстанцкія кадры.

І чым больш накальвалася сяброўская спрэчная атмасфера, тым больш праяўляўся кожны перад грамадой. Кожны быў як на далоні, быццам прасвечаны промнямі сонечнай будучай рэвалюцыі.

Падштурхнулі да больш актыўных дзеянняў гуртка падзеі 1861 года. У Польшчы адбылася магутная рэвалюцыйная маніфестацыя, узрушыліся хваляванні сялянаў  у самой Расіі, асабліва на тэрыторыі Паўночна-Заходняга краю…

Наспявала грамадзянская бура. Хваляванні, як магутнае перадпавальнічнае воблака, налівалася свінцовай шэранню.

– Сябры мае! – на адной чарговай сустэчы звярнуўся да аднадумцаў Людвіг Звяждоўскі. – Прыйшла пара выбару свайго шляху, пара дзеянняў. Час саспеў для рашучых рухаў.

– Згодзен, Людвіг! – першым адгукнуўся на яго словы Канстанцін. – Вось тут я з табой, братка, вельмі згодзен. Як астатнія?

– У мяне прапанова, – падняўся Яраслаў Дамброўскі. – Наш падпольны штаб клуба прапаноўваю перайменаваць у Ваенны камітэт змагання.

– Падтрымліваю! – выгукнуў Фердынанд Вароўскі. – І прашу ўсіх прагаласаваць за тое, каб Ваенны камітэт змагання ўзначаліў наш усімі знаны Яраслаў Дамброўскі!

Усе без выключэння паднялі рукі.

– Якім бачыць Яраслаў камітэт? – пацікавіўся Каліноўскі.

– Па-першае, канспірацыя настражэйшая. Калі мы сталі на шлях змагання, павінны быць да ўсяго гатовыя. Мы не будзем весці ніякіх

пратаколаў і дакументаў. Перапіска – на засакрэчнай мове. Пра фінансавы бок. Нам ніхто сродкаў для нашай справы не выдзеліць, таму мы павінны ствараць свой фонд. Кожны выдзяляе пяць працэнтаў ад свайго даходу.. І яшчэ – мы трэніраваліся ў спрэчках тут, у гуртку, але цяпер прыйшла пара сваё красамоўства пераносіць у масы, знаходзіцца сярод людзей, асабліва сярод сялянства, вербаваць новых сяброў нашай арганізацыі.

– Слушна, – кіўнуў галавой Канстанцін, – прапановы прымаюцца. Нам трэба наладзіць працу так, каб за хуткі час нашая арганізацыя вырасла да двухсот чалавек.

Людвіг Звяждоўскі быў ці не самы актыўны ўдзельнік арганізацыі.

Пасля сканчэння Акадэміі, маючы чын штабс-капітана, у 1859 годзе ў красавіку ўзяў адпачынак і знаходзіўся ў ім да канца года. Перамяшчаўся з аднаго горада ў другі. У Парыжы апынуўся. На той час там знаходзіўся галава Польскай эміграцыі князь Уладзіслаў Чартарыйскі. Сустрэцца сустрэліся, але моцных стасункаў не наладзілі. Затое Людвіг знайшоў падыходы да вядомых дзеячоў польскага руху генералаў Высоцкага і Мераслаўскага. Хто тады пра іх не ведаў – пра сябе яны пакінулі добрую памяць яшчэ падчас паўстання 1830-1831 гадоў. Выклаўшы ім бачанне будучых падзеяў на землях Беларусі і Польшчы, Украіны і Расіі, з іх боку сустрэў разуменне і падтрымку ідэй.

У тым жа годзе Людвіг пераязджае ў Вільню. Пасада – старшы ад’ютант у штабе 1-га корпуса.

На адным з баляў, які любілі праводзіць у той час вялікія чыноўнікі, дзе прысутнічаў Людвіг, яго прыкмеціў Віленскі губернатар Уладзімір Назімаў. Папрасіў сваіх падначаленых падвесці да яго афіцэра-прыгажуна.

Людвіг і не здзівіўся нават, калі яму сказалі пра тое. Як быццам загадзя ведаў. Галантна падышоў да губернатара, але далажыў па ваеннаму:

– Па вашым загадзе, Вашая вялікамосць Уладзімір Іванавіч, старшы ад’ютант штаба першага корпуса Людвіг Звяждоўскі прыбыў!

Губернатар усміхнуўся:

– Я і не аддаваў ніякіх загадаў. Проста папрасіў, каб нас пазнаёмілі – вы ж вельмі выдзяляецеся на гэтым балі. Паненкі, гледзячы на вас, страчваюць розум…

За келіхам чырвонага віна яны прадоўжылі гутарку. Губернатар цікавіўся, адкуль юнак, якія мае схільнасці, таленты, захапленні. Людвіг гаварыў то на расійскай мове, то на беларускай, а калі губернатар папрасіў прабачэння за тое, што адарваў ад мазуркі, Людвіг адказаў: "Nic ne szkodzi" (не турбуйцеся), то Назімаў ускінуў бровы:

– То вы і польскай мовай валодаеце?

– І польскай, і французскай. Што ж у гэтым дзіўнага?

Назімаў ужо ўзяў штабс-капітана пад локаць, адышоў трошкі воддалеч ад людзей, прамовіў:

– Дарагі мой Людвіг, дазвольце мне вас так называць, у мяне гадуюцца дзве дачушкі, і яны жадаюць вывучаць польскую мову. Гэта для іх вельмі неабходна. Ці не маглі б вы быць для іх хатнім настаўнікам? Я добра заплачу.

Людвіг схіліў галаву, стрымліваючы ўсмешку:

– Я ў такой ролі яшчэ не быў. Але адмовіць вам, Уладзімір Іванавіч, не магу.

– Толькі не закахайцеся ў каторую з іх, хаця што я кажу. Але будзьце з імі строгім.

– Ёсць быць строгім! – тым жа тонам адказаў будучы хатні настаўнік.

– А каб было менш спакусы і вы заўсёды былі пад маім вокам… Я хачу вам даверыць вельмі важную пасаду, пасаду майго ад’ютанта.

– Ад’ютанта? – перапытаў штабс-капітан.

– Так, так, дарагі мой! Вы мне якраз падыходзіце. І хачу пачуць ад вас адказ, прама цяпер. Я не даю вам час на раздумванне, бо вы яшчэ можаце перадумаць і адмовіцца.

На твары Назімава задаволеная ўсмешка. Ведаў загадзя, што Людвіг Звяждоўскі не адмовіцца ад такой прапановы, хаця ўсё можа быць…

– Я дзякуй вам, Уладзімір Іванавіч. Пастараюся апраўдаць ваш давер.

Падышоў да Звяждоўскага, абняў, прытуліў да сябе.

Вось так, сам таго не чакаючы, Людвіг Звяждоўскі стаў сваім у доме губернатара. І не толькі ў доме, а і бываў у кабінетах чыноўнікаў, з некаторымі пасябраваў.

З людзьмі ён умеў зблізіцца хутка. З цягам часу ён ведаў усё пра губернскае начальства – чым займаюцца, хто любіць грошы ці

уладу, каму можна давяраць, а каго і асцерагацца. Усе хінуліся да яго, імкнуліся завязаць дружбу.

Дочкі ў Назімава – Марыя і Варвара – былі няхай і не дужа прыгожыя, але да вывучэння польскай мовы адносіліся сур'ёзна. Праз колькі месяцаў яны ўжо ўмелі вітацца і расказваць на польскай мове пра сябе, пра сям'ю. Нават і на французскай ужо маглі штоколечы распавесці…

І ніхто з чыноўнікаў, як і з ваеннага начальства, нават і не здагадваўся, што гэты галантны і вышкалены афіцэр царскай арміі, які выконваў свае ваенныя абавязкі "з дакладнасцю і дасканалым веданнем сваёй справы" (так аб ім адгуквалася начальства), на самой справе мае мандат кіраўніка падпольнай рэвалюцыйнай арганізацыі Літоўскага правінцыйнага камітэта.

Людвіг Звяждоўскі спакойна адносіўся да таго, што Віленская падпольная арганізацыя падпрадкоўвалася Пецярбургскаму Ваеннаму камітэту.

З гэтай нагоды адбываліся спрэчкі з Канстанцінам Каліноўскім. Кіраўнік Гарадзенскай арганізацыі стаяў на пазіцыях самастойнасці.

– Зразумей, дарагі мой дружа Людвіг! – даводзіў ён. – Лепш быць галавой у мухі, чым хвастом у слана. Ты павінен сам узначаліць тут арганізацыю, а не плесціся ў хвасце пецярбургскіх вялікіх слупоў будавання будучага рушання.

– Якая тут розніца? Мы ж робім адну справу, і навошта нам дзяліцца на дробныя асобныя княствы? Калі ўспыхне пажар, полымя не будзе выбіраць паліць тых альбо іншых…

– Чаго я баюся, браце Людвіг? Баюся таго, што злучэнне Літвы з Польшчай прывядзе да ўваскрашэння магнацкай улады з яе анархічнай уседазволенасцю паноў.

– І што?

– А тое, што Літва павінна быць самастойнай.

– А я супраць гэтага. Я настойваю на праекце канфедэрацыі Польшчы і Літвы.

– Але ж ты забываешся пра Жмудзь, – заўважыў яму Кастусь. – А яе куды? Што тычыцца сацыяльнага і ўнутранага ўладкавання, то ты, як сапраўдны шляхціц, апроч шляхты сваёй, ні на якае іншае саслоўе не звяртаеш увагі. Мае ж праекты ты называеш не інакш, як універсітэцкія трызненні.

Звяждоўскі маўчаў, чакаў тлумачэння.

– Ты не забыўся, як на слуханні тых трызненняў твая ж ваенная акадэмія ўрывалася чарадой ва ўніверсітэцкія аўдыторыі? Скажы, для чаго вы тое рабілі?

– Не забыўся, дружа, не забыўся, але ж мы пасылалі тыя чароды дзеля таго, каб падахвочваць для бляяння такую ж чараду ўніверсітэта. У чым тут розніца?

У сваю чаргу замоўк і Кастусь.

Яны нават і не спрачаліся, гаварылі спакойна. Абодва мелі цвярозы розум, таму да сапраўднай сваркі ці задзірыстай спрэчкі не даходзіла. Шмат, вельмі шмат намаганняў і высілкаў прыклаў Канстанцін Каліноўскі, каб яго сябра Людвіг, якому ён верыў і давяраў, перагледзеў свае погляды. І як стала радасна на душы, калі аднойчы пачуў ад яго:

– Ведаеш, Вікенцій Канстанцін, доўга ламалася ўва мне тое, што замінала расплюшчыць вочы. Мусіць, гэта вайскоўства вінавата. Цяжка яго вытруціць з сябе. Мне тое ўдалося. І цяпер цвёрда скажу табе – я стаю на пазіцыях абаронцы самастойнасці Літвы. Гэта адно. Другое: упэўнены цяпер, – карыстацца ўсімі правамі выключна аднаму дваранству не дазволена, неабходна надаць роўнае права і ўсім іншым саслоўям. І гэтае права распаўсюджваць не толькі тут, на ліцвінскай зямлі, а і пашырыць яго аж да самай Волгі…

Канстанцін абняў яго, сціснуў у абдымках, прашаптаў удзячна і ціха:

– Дзякуй, дарагі дружа! Цяпер у нас з табой няма ніякіх разыходжанняў у думках і дзеяннях. Гэта мяне радуе і ўсцешвае.

## Частка пятая

### 1

***Данясенне***
ваеннага начальніка Магілёўскага ваяводства, камандзіра Кракаўскай паўстанцкай дывізіі сябра Літоўскага камітэта
– Тапара – ***Людвіга Звяждоўскага***

**Дыктатару** паўстання Вікенцію Канстанціну Каліноўскаму, сыну Сымона, – якое адначасова з’яўляецца і споведдзю перад кіраўніком паўстання, і перад маім сябрам і аднадумцамі, перад сваім сумленнем, –

6 лютага 1863 года, Апатава.

Любы мой і харошы сябра на ўсе вякі Вікенцій Канстанцін! Дарагі Кастусь!

Прапораты ў грудзіну не штыхам царскага грэнадзёра, а сваімі ж, каго падымаў на паўстанне – сялянамі, якія рушылі не на царскія войскі з сякерамі і тапарамі, а, атрымаўшы трыццаць срэбранікаў ад цара, памазаніка Божага, выступілі супраць нас… Нікога не шкадуючы, не маючы ў душы ніякай літасці. Жах! І ў жудасных снах сваіх такога не мог прысніць…

Дарагі дружа!

Дарагі мой дыктатар, дарагі сябар, самы адданы і непахісны, узышоўшы на эшафот з горда паднятай галавой! Паспавядацца перад табой хачу, павінавацiцца за тое, што думы пра будучае нашага роднага краю былі памылковыя, двурушныя. То дзякуючы табе з маіх вачэй спала палярушына і туман, і я зноўку нарадзіўся на свет, але ўжо ў другой якасці, у другім абліччы, з іншай душой і сэрцам.

Спяшаюся данесці да слыху душы тваёй, твайго сэрца, – пакуль яшчэ яно б’ецца ў маіх грудзях, пакуль яшчэ не выцякла з мяне сіла – сцякаю крывёю і ніхто мне не аказвае ніякай дапамогі, бо хочуць як найхутчэй пазбавіцца ад мяне. Нават не выклікаюць ні на якія следчыя камісіі, каб учыніць допыт, а потым асудзіць, каб прызнаць мяне вінаватым ці не ў справе нашага рушання, закалоту…

Дарагі дружа, выслухай мяне, хаця, ведаю, табе ў сто і тысячы разоў цяжэй, чым мне. Ты знаходзішся ў кіпцюрах двухгаловага арлана, у лапах іхняга “правасуддзя”, і яны выклёўваюць па часцінцы тваё сэрца. Ты ўзваліў на сябе непамерны цяжар і адказнасць, узяў на сябе і грахі людзей, іх немач, іх слепату, і хваробу раба. Ты мільён і мільён разоў сцвярджаў, і пры гэтым меў рацыю, што толькі тады, калі мы абудзім сэрца кожнага селяніна, шляхціча і памешчыка, расплюшчым ім вочы, пераканаем, што так жыць, як жылі да гэтага, нельга, – толькі тады мы будзем моцныя і непахісныя.

Да цябе не прыслухаліся, цябе не пачулі. Нагаварыўшыся ўдосталь, ахрыпшы нават у спрэчках і дыскусіях, захацелася дэмакратам памяняць жыццё неадкладна, кінуўшы толькі кліч: “Наперад! На цара!”

Ты ж казаў яшчэ, што дзекабрысты пацярпелі паразу толькі з-за таго, што яны хацелі перарабіць лад і свет, не перарабіўшы най-

перш саміх сябе. Яны не ведалі пра сябе анічога, тым больш не ведалі пра жыццё. Правільныя словы ў дыспутах яшчэ не азначалі, што яны будуць рабіць правільна тое, за што ўзяліся. Для таго, каб пабудаваць хату, абавязкова трэба вывесці фундамент, паставіць сцены, потым столь і дах. А яны пачалі з даху, не ведаючы, што няма каркаса – зруба – хаты…

Я ведаю, што да раніцы яны не прыйдуць за мной, каб павесці на эшафот, таму пастараюся, пакуль не наступіў золак, пагаварыць з табой, паспавядацца, расказаць пра сябе.

Як я памятаю сябе, ува мне жыў дух авантурыста і безразважлівага бадзяжніка, прага з некім спрачацца, удзельнічаць у нейкіх сумніцельных афёрах. Я любіў рызыкаваць, праяўляць смеласць. Спрабаваў начаваць на цвінтары сярод магілаў і заімшэлых помнікаў. І мне не было страшна.

Прызнаюся, зайздросціў тым, каму ўдавалася нешта лепей зрабіць, чым мне, каму не складала цяжкасці завабіць нейкую шляхцянку ці дачку багатага чалавека. Зайздросціў тым, у каго былі грошы і слава, хто праводзіў сваё жыццё без асаблівых клопатаў, купаўся ў раскошы і багацці…

Ты ведаеш, што я нарадзіўся ў Вільні – у снежні 1829 года. Бацька мой – Міхаіл Звяждоўскі – калежскі рэгістратар. Мы жылі бедна, гаротна, – хіба маглі пражыць на бацькаў заробак? Мусіць жа, з-за гэтага бацька і марыў, каб я займеў кар'еру ваеннага, верыў, што я на гэтай ніве дасягну высокіх чыноў, займею шмат грошай і дапамагу некалі сям'і.

У 1845 годзе юнаком пайшоў на ваенную службу. Мяне паклікаў Санкт-Пецярбург – Мікалаеўскае інжынернае вучылішча. Але перад гэтым мусіў прайсці падрыхтоўчы перыяд – стаць кандуктарам. Там лёс і звёў мяне з Рамуальдам Траўгутам – і ён рыхтаваўся да паступлення ў вучылішча.

Але ён, прызнаюся шчыра, мне напачатку на надта спадабаўся. Заўсёды маўклівы, раптам што нечаканае, ён накладае на сябе крыж, паўшэптам гаворыць: “Уратуй мяне, Госпадзе!” Што б я яму ні гаварыў, адказваў нязменна: “На ўсё воля Божая…” Мяне тое нават і злавала. Бог не зрабіў таго селяніна ці чыгуначніка бедным і прыгнечаным, яго зрабілі такім царызм і сістэма… Вось і трэба тую сістэму парушыць, разбурыць.

– Як ты сабе тое ўяўляеш – “разбурыць”? – кісла ўсміхаўся Рамуальд, гледзячы мне ў вочы, ведаючы, што я не адкажу на

сваё ж пытанне. – Гэта ж не шахматная дошка, з якой можна змесці каралёў і фярзёў, царызм мае армію і зброю, а супраць яе ты што выставіш – касу і тапор?

– Во-во, – наступаю на яго, – іменна тапор з тапарышчам… Што ў тваёй Бібліі сказана? “Ужо і тапор пры сухім дрэве ляжыць, і сухое дрэва мусіць быць ссечана, што не дае плоду…” Царызм прагніў, ужо нават і не сухое дрэва, а гнілое, і яго неабходна ссячы, выкінуць у агонь, каб і нічога ад яго не засталося!

Рамуальд нічога не гаворыць, а толькі ўздыхае.

– Мужык возьме тую сякеру і касу, і рушыць на сваіх прыгнятальнікаў. І я таксама вазьму ў рукі той тапор, калі прагрыміць кліч па Літве і Беларусі.

– Эх, Тапор, ты Тапор, – хітае галавой Траўгут і, прыплюшчваючы вочы, глядзіць некуды ўглыб зямлі. – Табе б толькі тапаром махаць…

– І некалі замахаю, прыдзе час, – упэўнена адказваю я.

Пачуўшы мае словы, Рамуальд зноў прамаўляе:

– Даруй яму, Божа, сам не ведае, якое глупства вярзе…

Ён не абвяргаў мяне, ён шкадаваў нават мяне, ведаючы, што я малады летуценнік, што люблю махаць шабляю, змагацца з ветракамі. Як я зразумеў, ён мяне не ўспрымаў сур’ёзна, а бачыў ува мне блазнюка, валацугу і шукальніка прыгодаў. І на тым, так бы мовіць, дзякуй. Але пры ўсім пры тым ён мне падабаўся.

Ён спакойна і пакорна пераносіў потым і муштру, калі мы паступілі вучыцца. А мяне тая казуістыка раздражняла і выводзіла з сябе. Мне здавалася, што не вучылі нас, а прыніжалі, таўклі тварамі ў брудную зямлю, як бы даказваючы, што мы ніхто ў гэтым свеце, што мы гной. Неймаверная муштра і завучванне дзікіх і тупых ваенных артыкулаў даводзіла мяне амаль да вар’яцтва.

Здзекаваўся з мяне той жа Рамуальд, бачачы, як я адношуся да вучобы:

– Ты ж збіраешся ваяваць з царызмам, і няўжо ты думаеш, што адной сякерай пераможаш яго? А ваеннай справе вучыцца не жадаеш? Толькі аб залачоных эпалетах марыш, а не пра тое, як вывучыць тактыку маршаў і вайсковых вучэнняў?

Я раскрыў шырака рот ад здзіўлення – не чакаў такога ад яго, не чакаў.

Можа, ён тады мяне і падштурхнуў сваім пад’южваннем да таго, каб я перагледзеў свае паводзіны. Мы ўжо разам упрагаліся ў ха-

мут падпарадкавання і спасціжэння тайнаў тактыкі бою, наступлення і адступлення. Як ні дзіўна, але тое мне вельмі спатрэбілася падчас нашага змагання.

Праз пяць гадоў атрымаў званне прапаршчыка. Быў пераведзены ў верхні афіцэрскі клас вучылішча. А праз два гады скончыў вучобу.

Мяне, маладога афіцэра, адправілі на службу ў Берасцейскую крэпасць.

Праслужыў у ёй два гады. Спытаеш, што гэта быў за час для мяне? Змрочныя казематы крэпасці-турмы. Штодзённыя п'янкі афіцэраў, гульня ў карты, фанабэрыя: у каго больш цячэ "блакітнай крыві"... А яшчэ – самадурства тупых камандзіраў. На чым трымалася армія расійскага цара? Так, так, ты ведаеш тое – "гибкий и свежий шпицрутен". Як быццам ён усе гады прызначаўся не для бою, а для голага азадка палескага ці сібірскага селяніна, прапускаючы яго праз строй такіх жа няшчасных. Армія канала, гніла і ад яе патыхала мярцвечынай.

Два гады для мяне доўжыліся як два стагоддзі. Не ведаю, што са мной было б, калі б не пашэнціла перавесціся ў Пецярбургскую інжынерную каманду. Там ажыў. Мне ўсяго хацелася – кахання жанчын, паспытаць смачнага віна, праехацца з весялухамі ў карэце, паслухаць цыганскія песні, пачуць, як у салонах чытаюць вершы вядомыя паэты... О, гэтае Пецярбургскае жыццё! Казка, цуд! А ў 1854 годзе, не даўшы мне як след нацешыцца горадам на Няве і жаночым асяродкам, мяне кідаюць на Крымскую вайну – у Рэвель.

Што мне даў гэты перыяд? Зразумеўшы, што вялікіх чыноў мне не відаць, я рашыў заняцца сабой. Як гэта? А так. Сышліся з афіцэрам Антонам Эвальдам. Праўдалюб, службіст, хадзячы статут.

– Што для цябе служба? – пытаецца ён у мяне.

– Набіць паболей сваю кішэню, Эвальд. Армія высмактала з мяне ўсе сокі. а чаму я не магу высмактаць іх для сябе назад?

– Ну ты і жук.

– Не, я – арол, толькі не двухгаловы. Я люблю волю і незалежнасць. Вось ты ўсё нешта пішаш-запісваеш у сваім нататніку, пра кожнага з нас ты там, мусіць, столькі, што на некалькі кніг хопіць... Уяўляю, што ты там напісаў пра маю асобу. Для цябе я – хапуга, злодзей, казнакрад, махляр. Так, я такі, і не хаваю гэтага. У цябе

няма вопыту ў жыццёвых клопатах, таму часта трапляеш у няёмкія сітуацыі і абставіны. Даруй, але я не люблю такіх людзей, як ты. Ненадзейны ты нейкі, слізкі, нават агідны… Ты не жывеш, ты спіш і нічога не хочаш бачыць вакол.

Чорны цень прабег між намі. Мы былі і не сябры, але і не ворагі. Хаця я мог і памыляцца…

Ён не хацеў разумець галоўнай рэчы – я ненавідзеў не толькі яго, а і ў яго асобе ўсю царскую армію. А каго ненавідзіш, таму хочацца зрабіць зло. Стараўся зрабіць зло расійскай арміі, усяляк стараўся. Як? Займаўся пастаўкамі амуніцыі ці правіянтам. Дык навошта мне ўсё гэта аддаваць у рукі ненавіснікаў? Ноччу, пад покрывам цемры, добрая частка грузілася і адпраўлялася па тым адрасе, дзе за гэта давалі добрыя чырвонцы. Тыназавеш крадзяжом?

Не смейся, але я такім чынам змагаўся з царызмам, – разгойдваў яго стаўпы, апоры. У гэтым я нават атрымліваў маральнае задавальненне: верным паслугачом царызму я не мог быць з тае прычыны, што паталагічна ненавідзеў яго, маючы ў душы патрыятычныя настроі і пачуцці.

Ты пытаешся ў мяне, як на гэта глядзела маё начальства? А яно і не глядзела, таму і не бачыла. Я ім уяўляўся зусім іншым – балаболам і весельчаком, афіцэрам, у якога ў кішэні заўсёды былі лішнія чырвонцы. Адкуль яны былі ў мяне, не цікавіліся, а я гаварыў, што ў мяне багатыя бацькі. Так, прызнаюся, колькі разоў я дасылаў сваім бацькам грошы, чым вельмі здзівіў і абрадваў іх.

Начальства мяне любіла, я быў у іх на добрым рахунку. Не заўсёды яны вярталі пазычанае, таму і стараліся аддзячыць іншым. Зрабілі паперы і адаслалі імператару Мікалаю І, у якіх хвалілі мяне, узносілі да нябёсаў, які я выдатны і спраўны афіцэр. Прасілі заахвоціць мяне царскай міласцю. І што ж? Мне было аб'яўлена «высочайшее благоволение» імператара, і ў давесак да гэтага мяне ўзнагародзілі ордэнам Святога Станіслава. Во яно як, браце ты мой, здараецца і так.

О, калі расказваць мне пра свае прыгоды ў Рэвелі, то тысячы і адной ночы не хопіць, а ў мяне усяго адна ноч, ды і то вунь пачынае згасаць Венера на небасхіле. То мая, дружа, зорка, яна мне заўсёды памагала ў маіх справах.

Стаміўся я вельмі. Можна, я трошкі памаўчу, сіл набяруся? Хоць колькі хвілінак драману…

………………………………………………………………………..

Ордэн Святога Станіслава адыграў добрую ролю ў маім жыцці.

Мяне неўзабаве, пасля двух гадоў службы падчас вайны, пераводзяць і залічваюць у штат Генеральнага штаба. Я стаў слухачом Акадэміі генштаба. Бацька, даведаўшыся пра тое, ледзьве розумам не паехаў ад шчасця, – ён столькі гадоў марыў пра маю кар'еру.

Усе шляхі-дарогі вялі, дарагі мой Кастусь, да цябе. Нам самім Богам было наканавана сустрэцца і пасябраваць. Ці не так?

Вучоба ў Акадэміі генеральнага штаба – выдатны перыяд майго жыцця, насычаны, цікавы. Гэта там я займеў выдатных сяброў – будучых нашых правадыроў паўстання: Зыгмунта Серакоўскага, Яраслава Дамброўскага, Міхаіла Гейдэнрыха, харужага Яна Козел-Паплоўскага, рускага рэвалюцыянера-дэмакрата Уладзіміра Обручава.

Мы былі апантаныя і жыццярадасныя.

Але мы толькі гаварылі, спрачаліся, крытыкавалі, але ніхто з нас не прапаноўваў нічога канкрэтнага па пераўладкаванні жыцця. Пра рэвалюцыю мы яшчэ ўсур'ёз не гаварылі, толькі ўздыхалі па ёй, як закаханыя юнакі па сваёй абранніцы. У нашых галовах была каша, вінегрэт…

Гэта потым ужо, калі мы зламалі не адну сотню дзідаў у нашых спрэчках, выйшлі на пытанні гісторыі і права, адукацыі і праектаў па абнаўленні яе, арганізацыі гурткоў і паўстання…

Наш гурток разросся да такіх памераў, што нам ужо было цесна ў яго межах. Папаўняўся не толькі ваеннымі з Пецярбургскага гарнізона, але і за кошт студэнтаў, юнакоў, якія не мелі пастаяннага занятку, але праглі дзейнасці. Нас ужо было каля сарака. Вось у той час ты і пераступіў наш парог, Канстанцін. З першай сустрэчы, калі я ўбачыў цябе, пазнаёміўся, паглядзеў у твае вочы, сказаў пра цябе – непахісны. У спрэчках загартоўваліся будучыя правадыры паўстання – Міладоўскі, Падлеўскі, Юндзіл, Гейдэнрых, Станевіч, Агрызка, Кяневіч… З прыходам братоў Каліноўскіх у гурток мы пачалі распрацоўваць планы будучага паўстання.

Гурток ператварыўся ў Ваенны камітэт, які ўзначаліў Яраслаў Дамброўскі. Ужо на той час бурліла рэвалюцыйнае жыццё – маніфестацыі ў Польшчы, сялянскія хваляванні ў Расіі, і адначасова з імі і на нашых прасторах… Тады нечакана для для мяне я быў уключаны ў кіруючы камітэт. І разам са мной у яго ўвайшлі Міхаіл

Гейдэнрых, Фердынанд Вароўскі і Андрэй Патабня. Вось з таго часу мы і пачалі ствараць рэвалюцыйныя арганізацыі сярод рускіх афіцэраў.

… У тую студзеньскую марозную ноч нехта гучна загрукаў ў дзверы.

На парозе стаяў увесь заінелы і заснежаны Ян Козел-Паклеўскі. Шырока раскінуўшы рукі, ён абняў мяне, прыціснуў да сябе, выгукнуў:

– Людвіг! Пачалося!

– Што – пачалося? – перапытаў у яго, нічога не разумеючы.

– Паўстанне пачалося!

Ён распрануўся, павесіў адзенне на вешалку, і мы прайшлі ў залу.

Ян быў узбуджаны, чакаў, што я адкажу на яго паведамленне, чакаў маёй рэакцыі.

Мяне ж яго словы не абрадвалі, выклікалі абурэнне і крыўду. І першыя стрэлы крыўды паляцелі ў твой, Кастусь, бок. Мы ж пра ўсё дамовіліся, вырашылі цвёрда, што закалот пачнецца толькі тады, калі ўсё будзе падрыхтавана, узважана да драбніц, і толькі пры агульным галасаванні сяброў паўстанцкага камітэта даем згоду на пачатак паўстання…

Нічога такога не адбылося. “Без мяне мяне жанілі”.

– Што скажаш, Людвіг? Ты бярэш у гэтым удзел?

Я падышоў да абразоў, паглядзеў на Багародзіцу з Сынам, з боллю ў душы папытаўся: “Божа літасцівы! Чаму мы, калі распачынаем рабіць вялікую справу, такія разрозненыя, глухія адзін да аднаго, і нам заўсёды не хапае галоўнага – аб’яднацца ў магутны кулак, каб перамагчы ненавісніка? Чаму, Божа? Няўжо Ты ў гэты час адбіраеш ад нас розум.

Адышоўшы ад абразоў, падышоў да канапы, на якой сядзеў мой сябар.

– Мне нічога не застаецца рабіць, як далучыцца да паўстання, – прыйшлося вымавіць мне.

– Выдатна! Малайчына! Таварышы з камітэта перадалі табе намінацыю на ваеннага начальніка Магілёўскага ваяводства.

– Нават так? Каліноўскі пра гэта ведае?

– Ведае.

Я забыўся, што мой сябар з марозу, з дарогі, стала сорамна, што сустрэў яго не так, як трэба сустракаць госця. Збіў ён мяне з панталыку сваім з’яўленнем, як абухам па галаве агрэў. Апа-

мятаўшыся, схадзіў да паліцы, узяў пляшку з наліўкай, разліў у два фужэры. Дзынкнулі брыжыкамі і выпілі за поспех паўстання. Потым напаіў яго гарачай гарбатай і паклаў спаць на канапу.

Сябар праз некалькі хвілін засоп, праваліўшыся ў сон, а да мяне доўга не ішоў сон. Так і праляжаў, не злучыўшы павекі да самага золаку. Трывожныя і гнятлівыя думкі не пакідалі мяне.

Мне вельмі хацелася сустрэцца з табой, удакладніць шмат якіх пытанняў. Але цябе цяжка было адшукаць – ты насіўся тады як апантаны, цябе цалкам паглынулі клопаты паўстання.

… Сустрэў неспадзявана – на кватэры нашага агульнага сябра.

– Канстанцін, чаму так адбылося, што паўстанне пачалося нечакана? Ты спрычыніўся да гэтага? Скажы праўду, мне тое важна.

– Не, Людвіг, не я. Я да апошняга змагаўся, каб адмянілі сваё рашэнне, даказваў, што рана тое рабіць. Але мяне не паслухалі, больш таго, хацелі арыштаваць і аддаць пад рэвалюцыйны суд…

– Хто хацеў цябе арыштаваць, дарагі Кастусь? Дык, выходзіць, што і не ты прызначыў мяне ваенным начальнікам Магілёўскага ваяводства?

Твой уздых сведчыў пра вялікі ўнутраны боль. Ты яго не паказваў, але я вельмі добра ведаў твой характар.

– Ведаю, Людвіг, што ты не задаволены і нават абураны, што табе выдалі такую намінацыю. Я казаў пра тое Зыгмунду, але ён мяне і слухаць не захацеў, сказаў, што раз ты руплівы абаронца самастойнасці Літвы, то табе і “карты ў рукі” – будзеш за яе змагацца на роднай зямлі. Хаця ж мне думаецца, што Серакоўскі, стаўшы ваенным начальнікам паўстання, сыходзіў з іншых, больш важкіх, меркаванняў – ты, меўшы вялікі прафесійны досвед, як ніхто іншы падыходзіў для гэтай ролі. Зыгмунд усклаў на цябе самую важную і важкую працу.

– А ты? Ты як далучаны да паўстання?

Ты ўздыхнуў. І я зразумеў, што мы загнаныя з табой у клетку, з якой няма ніводнага выхаду. Клетка без дзвярэй.

– Без нас ажанілі. Ажанілі з Нявестай Паўстання, нават не пытаючыся ў яе згоды. Не дабіваючыся ўзаемнасці. Мы – жаніхі лёсу.

Нашае маўчанне зацягнулася, і я рашыўся парушыць яго, нават і для таго, каб адарваць цябе ад гнятлівых думак, папытаўся:

– Вікенцій-Канстанцін, што меў на мэце Серакоўскі, выдаючы мне намінацыю на Магілёўшчыну?

– У яго выспеў свой план. Рызыкоўны і амбітны. Па яго разліках сам ён непасрэдна распачне паўстанне на Жамойціі. Ён разлічвае сфармаваць пяцітысячны корпус. Потым рушыць на Вільню, каб падняць на барацьбу ўсю Літву. Ты ж са сваімі магілёўскімі атрадамі павінен прайсці праз Смаленскую, Цвярскую і нават Маскоўскую губерні, а потым, пры ўдалым сцячэнні абставінаў, падняць паўстанне на правым беразе Волгі…

– Аж да Волгі?

– Так… Гэта я ў агульных рысах, а падрабязна ён табе сам раскажа. Кяневічу адводзіцца роля дапамагчы табе – аднавіць пугачоўшчыну на левым беразе ракі. План, я табе скажу, грандыёзны, смелы, хаця ж і рызыкоўны. Ён спадзяецца на твой вайсковы вопыт, на талент камандзіра паўстанцаў. Ты як адносішся да такога плана?

Ты паглядзеў тады на мяне са шчырай усмешкай, даверліва і цёпла. Што ж я мог адказаць табе? Выказаць сумненне ў розуме Серакоўскага? Позна, позна…

– Пры ўсіх хістаннях, – вымавіў я, – шчыра веру Серакоўскаму. Хаця Напалеон Іваніцкі выказваў недавер казанскім рэвалюцынерам, называў іх баязліўцамі і балбатунамі, разлічваю на іх. Галоўнае – развязаць бойку, напаткаць напачатку першую перамогу, а потым міжволі падключацца і іншыя, ці не так, Вікенцій-Канстанцін?

Ты, помніцца, толькі кіўнуў галавой, думаючы пра нешта сваё. Глядзеў, здаецца, далей і глыбей, мусіць, бачыў, бачыў…

Я яшчэ перад гэтым наведаў Магілёўскую губерню. У адной вёсцы хваляваліся сяляне, у другой. Тое ж было і ў трэцяй. Адчуваў сябе простым назіральнікам іх абурэння, іх гневу. Усе яны выказвалі незадаволенасць драпежніцкай рэформай цара. Праклінал і сваіх паноў, гатовыя рушыць на іх з віламі і сякерамі. Мне здавалася. што вось яшчэ трошкі, – і выбухне, выбухне …

Гэта сёння я разумны, гэта сёння стаў відушчым, а тады… Чаму б мне, любы мой дыктатар, не зазірнуць у адну хату, другую, пагаварыць з людзьмі, як ты некалі хадзіў па вёсках, пераапрануўшыся ў зрэбнае адзенне… Каб жа я пажыў з тыдзеньдва ў якога-небудзь селяніна ды спакойна разабраўся, што да чаго… Меў рацыю мудры паўстанец Юрка Косак, калі мяне

і маіх саратнікаў-камандзіраў паўстання папракаў: “Хлопчыкі, не вывучыўшы броду, не лезьце ў воду! Перш, чым паклікаць селяніна на барацьбу з самадзяржаўем, апраніце хоць на момант яго, мужыка, скуру на сябе... А потым мне скажаце, што вы адчулі. Вы ж забыліся пазнаёміцца з тымі, каго хочаце весці ў бой. Ці не думалі вы пра тое, што яны могуць павярнуць зброю пры першых паразах супраць вас саміх? Вы не думалі пра тое?.. Падумайце”.

Мы не ўлічылі на самым пачатку такія акалічнасці. Ёсць сяляне праваслаўныя і ёсць каталікі альбо ўніяты. Спытаемся ў саміх сябе: ці магло праваслаўнае сялянства пайсці змагацца за інтарэсы Польшчы разам з каталіцкай шляхтай? Безумоўна ж, не. Бо яны яе лічылі апалячанай, і таму ненавідзелі. Нездарма Магілёўскі губернатар Беклямішаў паведамляў цару, што “нянавісць селяніна да памешчыка нашмат мацнейшая, чым у Вялікарусіі”. А тут атрымлівалася так, што тыя ж памешчыкі – паны – павінны весці ў бой тых сялянаў.

Выкладу табе карту ўдзельнікаў той жа Магілёўскай арганізацыі.

Што за людзі былі ў ёй? Возьмем Ігната Бжастоўскага, старшыню Магілёўскай крымінальнай палаты. Альбо губернскі маршалак князь Уладзімір Любамірскі ці чэрыкаўскі памешчык, якога акрамя жанчын і гарэлкі больш нічога не хвалявала, – мы не ўлічылі на самым пачатку такія акалічнасці. Альбо Фадзей Чудоўскі... Да іх кампаніі далучым і старшыню Магілёўскага цывільнага суда Чарвінскага. Ну і ганьба наша, пракол наш, здраднік – студэнт Кіеўскага ўніверсітэта Віктар Парфіяновіч. Асоба бязвольная, фанабэрыстая, але баязлівец страшэнны... Гэта з-за яго ты апынуўся за кратамі, даруй за напамін, але так яно і ёсць...

Калі ў асобных людзей магілёўскай групы я спытаў, ці маюць яны цвёрдую падтрымку ад сялянаў, пачуў нечаканае ад шляхціча Арліцкага:

– Апусціся на зямлю. Народ магілёўшчыны і віцебшчыны, на жаль, супраць нас. Памешчык Свянціцкі не так даўно катаваў на стайні селяніна. Хіба ў таго селяніна не засталася крыўда на свайго крыўдзіцеля?

– А ці не вельмі мінорна і скажона гучаць твае словы, шляхціц Арліцкі? – задаў наступнае пытанне Міхал Аскерка.

– Скажона? – нахмурыўся шляхціц. – Калі гаварыць пра нас, то мы тут – жменька, ды і тая напалову маладушныя людзішкі альбо

тыя энтузіясты, хто хутка загараецца, ды яшчэ хутчэй затухае. Скажы мне, Міхал, супраць нас цар выставіць усяго адну роту рэгулярных войскаў з Пецярбурга? Ці – батальён? Скажы. А мы не выстаім перад націскам усяго адной роты. Мы запусцілі паром на другі бераг Нёмана, ды забыліся ўзяць пасажыраў… Вось што мне напамінае пачатак паўстання.

– Ну і што з таго, калі мы пакладзем галовы на полі бітвы? – гарачыўся Міхаіл. – Няхай мяне расстраляюць, цябе і цябе, і яшчэ ў паўтузіна адбяруць жыццё. Гэта – неабходнасць, сумная і горычная… Гэта як нейкі парог у заўтрашні дзень, маснічыны вялікага гістарычнага маста, па якім да перамогі пойдуць наступныя пакаленні. Не пераможам мы – перамогуць яны!

Гатовы падпісацца пад кожным яго словам, нават крывёю.

Мне стала зразумелым, хаця і не адразу, што каталіцкая шляхта нашага краю не вызначалася адзінствам з-за таго, што адны лічылі сябе палякамі, а іншыя – беларусамі. Таму і погляды на паўстанне былі супрацьлеглымі.

Як можна памешчыкаў уключыць у паўстанне? Ім жа так добра жылося пад апекай цара-бацюхны! Дапускаю, што сярод іх саслоўя былі і шчырыя рэвалюцыянеры, якія жадалі зрынуць стаўпы царскага самадзяржаўя, а для гэтага актыўна ўключыліся ў змаганне, але…

І я зрабіў для сябе горкую выснову: “Я магу спадзявацца толькі на невялікі атрад з патрыятычна настроенай каталіцкай шляхты ды яшчэ рамантычных юнакоў, у якіх, на жаль, былі гарачыя сэрцы, але не цвярозы розум”.

Я вымушаны быў абвясціць загад, які напісаў у Горках, і звернуты ён быў да начальніка Аршанскага камітэта Каткова – Ігната Будзіловіча. У ім было патрабаванне сабраць неадкладна ўсіх людзей, якія здольныя былі спрычыніцца да закалота. Будуць аказваць супраціў памешчыкі – павесіць некалькі чалавек, асабліва тых, хто найбольш жорстка прыгнятаў сялян. Гэта памагло б заахвоціць тых, хто яшчэ сумняваўся, не верыў, што паўстанне – справа сур’ёзная і жорсткая.

Далей у загадзе абвяшчаўся пераход у Смаленскую губерню, калёным жалезам вытравіць усё, што насіла на сабе хаця б слабы цень польскага паходжання. Злучыцца з атрадам Жукоўскага – Касы. Апроч гэтага прадугледжвалася спаленне мной польскіх рэвалюцыйных маніфестаў, а сялянам аб’явіць, каб перасталі

адбываць паншчыну, – пра гэта абвясціў і найвышэйшы маніфест ад 30 сакавіка.

Пасля гэтага – вітанні і пашана ўсім атрадам каля Горак праваслаўнаму святару, які актыўны свой удзел у паўстанні падмацаваў Божым дабраслаўленнем… Прызнацца, я не задумваўся аб небяспецы, змагацца – дык трэба мець смеласць і адчайнасць, а калі ўжо рызыкаваць, дык не задумвацца над вынікамі…

На пачатку красавіка да мяне ў Пецярбург (там праводзіў я свой адпачынак) прыехалі Міткевіч і Аскерка, прапанавалі мне пасаду ваеннага начальніка Магілёўскага ваяводства.

– Ды я ўжо атрымаў намінацыю! – смяюся я, гледзячы на іх, злуючыся, што няма зладжанасці ў іх дзеяннях. – Мне яе прывез Ян Козел-Паклеўскі яшчэ ў студзені. Вы не ведалі пра тое?

– Нам ён пра тое не сказаў, даруй. Але мы хацелі б, каб ты туды адправіўся не адзін, а са сваімі памочнікамі. Іх ты павінен прызначыць сам.

– А я іх ужо загітаваў, – адказваю ім, – у шапку не спаў. Са мной едуць трое афіцэраў. Паручніка Канстанціна Жаброўскага я прызначыў ваенным начальнікам Сенніцкага павета, прапаршчыка Антонія Алендскага – у Магілёўскі павет, а Алозія Яна Жукоўскага – у Крычаўскі. Хлопцы надзейныя і адчайныя.

Мае госці засталіся задаволенымі пачутым.

На наступны дзень – чацвёртага красавіка – я адправіўся ў Маскву. У мяне было шмат там клопатаў. Твае адрасы і “сябры” аказаліся надзейныя, яны паверылі табе. І таму мне лёгка было атрымаць ад іх “пасылкі” для закалота. Што-кольвечы з грошай у мяне было прыхавана для гэтай справы. Ды яшчэ мне вярнулі “даўгі” з таго часу, як мне даручылі даставіць абоз са зброяй і амуніцыяй для дзеючай арміі.

Прыехаўшы на Магілёўшчыну, перадаў скрыню з 24 рэвальверамі кіраўніку Гора-Горацкай арганізацыі Станіславу Віткоўскаму. А пасля даставілі праз тайны канал тры скрыні са штуцэрамі. Прыстралянымі, сам правяраў. Тады ж, як памагаў мне прыстрэльваць штуцэры сябра мой палкоўнік, не буду называць прозвішча нават і ў думках, папрасіў я яго яшчэ, каб ён раздабыў мне ваенныя тапаграфічныя мапы Польшчы і заходніх губерніяў. Палкоўнік і “пазычыў” іх з ахвотаю ў штабе. Ды прыхапіў яшчэ падрабязныя звесткі-чарцяжы Варшаўскай цытадэлі, крэпасцяў у Модліне, Дзембіне і Брэст-Літоўску. Гэта мне каш-

тавала пару чырвонцаў, якія старшы афіцэр прыняў з вялікай ахвотаю і радасцю.

Пазней я тыя дакументы перадаў Нацыянальнаму ўраду, а далей яны былі перададзеныя французскаму ўраду. Абоз са зброяй даставіў не на армейскі склад, а на склад паўстанцаў. Ваеннае начальства спахапілася, але было позна. 18 траўня мяне звольнілі са службы. Звольнілі, але не пакаралі. Бо не было прамых доказаў, куды падзелася зброя.

Вярнуўшыся ў родныя мясціны, спыніўся ў Аршанскім павеце – у фальварку Літвінава. Ён належаў майму ад'ютанту Здзіславу Міткевічу. Калі хто з прадстаўнікоў улады прыязджаў да гаспадара і цікавіўся, хто прыехаў да яго, адказваў: госць з Пецярбурга – Станіслаў Вялічка. Калі ж хто прыязджаў з паўстанцаў, Здзіслаў адказваў: "У мяне ёсць харошы Тапор..."

З цягам часу фальварак стаў прыстанішчам і ваенным штабам для падрыхтоўкі закалота ў Віцебскай і Магілёўскай губернях.

Да нас з розных куткоў прыязджалі з ружжамі "паляўнічыя", і мы наладжвалі "паляванні". Паляўнічыя – камандзіры паўстанцаў, касінеры. Да глыбокай ночы мы "балявалі", п'ючы піва і квас, а то і наліўку – ішла самая сур'ёзная распрацоўка дэталёвага плана нашых дзеянняў. У выніку чаго мы прыйшлі да ўзаемазгоды, што ў Аршанскім павеце будзе дзейнічаць атрад паручніка Ігната Будзіловіча. Мы яму вызначылі псеўданімы Піхевіч і Каткоў. Атрад Яна Жукоўскага выправіцца ў Крычаўскі павет. Ільдэфанс Анцыпы – у Быхаўскі. У Рагачоўскі павет выпала дарога Томашу Грыневічу і Станіславу Дзержаноўскаму.

Ну а Антоній Алендзскі – у Магілёўскі, а Канстанцін Жаброўскі адпраўляецца ў Сенненскі. Вось і ўсё размеркаванне. Ніякіх пярэчанняў не было. Мая душа поўнілася гордасцю і радасцю, што мы пачуваліся адным цэлым, баявым і смелым корпусам. У сярэдзіне красавіка мы ўсё ўзгаднілі і тысячу разоў пераправерылі. Кожны камандзір ведаў свае заданні да драбніц і дакладна адказваў на пытанні, на развітанне я выдаў усім "Дыспазіцыю". У ёй вызначалася тактыка нашага закалота:

1. Характар нашых сумесных дзеянняў павінен насіць партызанскі, за выключэннем тых пунктаў, у якіх будуць згрупаваныя значныя сілы.

2. Атрад павінен быць рухомым, нідзе болей, чым суткі, не затрымлівацца.

3. Сваімі дзеяннямі мы павінны непакоіць непрыяцеля, раптоўна нападаць на больш слабага, але адступаць перад мацнейшым, каб не панесці вялікіх стратаў.

Яшчэ прадпісвалася: “Рабіць засады, весці разведку. Нападаць на транспарт, пошту, дыліжансы, захопліваць грошы рускага ўрада, перапіску. Зрываць тэлеграфы, бурыць масты і нішчыць рускія запасы, калі не ўдаецца даставіць у паўстанцкі лагер. Разганяць цывільную адміністрацыю, паліць усе дакументы і справы канцылярый судоў, земскага, павятовага і іншае”.

*Там, дзе дазволяць сілы і абставіны, браць павятовыя гарады, разганяць адміністрацыю і ўстановы і ўстанаўліваць свае. У вёсках і мястэчках чытаць і вывешваць нацыянальныя маніфесты і заклікаць люд да жорсткай барацьбы.*

Адаслаў “Дыспазіцыю” ў Цэнтральны камітэт, спадзеючыся, дамагаючыся, каб такой тактыкі прытрымліваліся касінеры і інсургенты не толькі на маёй Магілёўшчыне, але і на Гарадзеншчыне, на Віленшчыне, гэтак жа і на Жамойці.

План паходу на Расію не адпадаў – упэўнены быў, што там мы здолеем падняць расійскага мужыка на паўстанне. Возьмем без цяжкасцяў Горкі, а пасля гэтага рушым на Смаленшчыну. Па дарозе да мяне, ужо ў маёнтку Краснае, далучацца атрады Будзіловіча і Жукоўскага, якому была пастаўлена баявая задача – захапіць у Крычаве батарэю.

Во якія ў нас былі, дарагі мой дружа, планы! Напалеонаўскія! І мы ўсе шчыра верылі, што яны, будуць ажыццёўлены. Каб жа так, каб жа так, дарагі мой Вікенцій-Канстанцін Сямёнавіч!..

2

Людвіг Звяждоўскі прыехаў на сустрэчу з мясцовымі арганізатарамі апоўдні. Зайшоўшы ў хату Званіцкага, адмовіўся ад абеду, тут жа прыступіў да справы.

– Далажыце, калі ласка, абстаноўку. Ці ўсё ў вас гатова да выступлення?

– Так, ваша ягамосць, усё, – не мiргануўшы, адказаў Нікадзім, выцягнуўшыся нават у струнку, – мы маем вялікія поспехі ў падрыхтоўцы да святой справы. У лясах створаныя базы. Зброя і правіянт знаходзяцца ў надзейным месцы. Пад штых пастаўлены тысячы касінераў і ўзброеных патрыётаў.

– Дзе яны цяпер?

– На хутарах. Страляюць і практыкуюцца ў шыхтаванні.

З аднаго боку, саграvалі сэрца сказаныя словы, а з другога – нараджаўся недавер. Усё атрымлівалася вельмі складна. Ніводнага недаробку ці праліку не назваў Нікадзім. Такой дакладнасці нават і ў арміі няма.

– Цяжка паверыць у вашы словы. Як іх праверыць? Як дабрацца хоць да аднаго склада са зброяй?

– Няма нічога прасцейшага, – лёгка пагадзіўся суразмоўца. – Калі скажаце, тады і рушым у лес, каб вы на свае вочы пераканаліся ў праўдзівасці маіх слоў.

У пакоі не было душна, але на твары гаспадара выступілі буйныя кроплі. Ён як бы нечага асцерагаўся ці баяўся. Не верылася, але хацелася верыць.

Вечарам Людвіг сустрэўся з мясцовай арыстакратыяй, якая лічыла, што ў іх жылах цячэ блакітная кроў і яны належаць да шчырых палякаў.

– Мы, таварыш ваенны начальнік, адданыя і гарачыя патрыёты! – ад імя ўсіх падняўся з крэсла дробны чыноўнік Мілдоўскі. – Знаёмыя з рэвалюцыйнай літаратурай, ведаем вайсковую справу. Гонар не дазваляе нам здраду.

– Вашы словы ды Богу ў душу! – першы раз заўсміхаўся Людвіг.

Прысутныя наперабой пачалі расказваць, як ім хутчэй хочацца ўключыцца ў паўстанне. Чакаюць толькі загаду.

На наступны дзень трэба было прыбыць на сустрэчу з такімі ж змагарамі ў Крычаў, таму інспектарская праверка засакрэчаных складоў са зброяй і правіянтам адпала сама па сабе. Едучы далей па маршруце на лёгкай концы, з думак не выходзіла размова і з Нікадзімам, і з Мілдоўскім.

Чамусьці чулася музыка з аперэткі, якую ён глядзеў і слухаў разам з дочкамі Назімава ў тэатры.Недавер у яго нараджаўся ад таго, што ўсё ж быў вайскоўцам, афіцэрам, які ведаў, што ў ваеннай справе без нестыковак ніколі не абыходзіцца.

На сустрэчу ў Крычаў спазніўся амаль на гадзіну, але яго чакалі. Прадставіўся, назваў сябе Тапаром. Сказаў колькі слоў пра сваю паездку, пра свае ўражанні ад убачанага.

Да Людвіга падышоў сярэдняга росту чалавек с абвіслымі чорнымі вусамі, у шэрай кепцы, у цёмна-жоўтым плашчы.

Выгляд сур'ёзны, позірк пранıклівы, розумам, відаць, не абдзелены.

– Мяне завуць Вітальд Баркоўскі… Хочацца даведацца, якое мы будзем мець становішча, калі рэвалюцыя пераможа? Ці не забудуць пра нас, калі пачнуць дзяліць і зямлю, і волю, і пасады?

Людвіг, зразумеўшы яго і ўсіх астатніх, адказаў жартам:

– Панове! Мы яшчэ не забілі расійскага мядзведзя, а вы ўжо хочаце дзяліць яго футра? Ці з гэтага пачынаюць змагары за свабоду?

Маўчанне.

– Што я магу сказаць-адказаць вам, панове-змагары? Як будуць дзяліць зямлю, пытаецеся? Рэвалюцыйны камітэт вырашыў даваць зямлю тым сялянам, якія возьмуць непасрэдны ўдзел у паўстанні, без усялякага выкупу. Інакш яны не ўвальюцца ў рады змагароў. Яны ж – ударная наша сіла…

Прысутныя незадаволена загулі.

Пачуўся гучны і незадаволены голас:

– Ого! Мы чуем нешта новенькае! Зямлю сялянам без выкупу? Такога ніколі не было. Не, мы на гэта не даем згоды.

– Тады і ад вас я чую таксама нешта новенькае, – прамовіў Звяждоўскі, – вельмі новенькае. А дзе ж вашыя патрыятычныя пачуцці, дзе ваш шляхецкі гонар. Вы ж сабраліся на барацьбу з царызмам і давалі слова, прысягалі нават, што не будзеце для айчыны шкадаваць крыві, а зямлю, якой мы надзелім змагара-селяніна, вы адразу пашкадавалі? Ці не сорамна вам, панове? Адумайцеся, пра што вы гаворыце! Пра іншае трэба думаць сёння – як перамагчы, як скінуць цара з яго сядайла!

Шэпт і незадаволенае гудзенне пачало пакрысе аціхаць, глухнуць, а потым і зусім наступіла цішыня.

– Ну, дык як, панове? – запытаўся магілёўскі ваенны начальнік. – Перамянілі сваю думку ці будзеце стаяць на сваім?

– Падбухторшчыкі збілі нас зпанталыку, – як усё роўна паскардзіўся Звяждоўскаму Вітальд Баркоўскі. – Мы гатовыя ахвяраваць усім дзеля паўстання, нават сваім жыццём.

Селі за стол. Хто не памясціўся, прынеслі крэслы з другіх пакояў.

– Колькі чалавек можа ўліцца ў атрады касінераў? – спытаў Людвіг.

– Мы падлічылі, і аказалася, што больш чым пятнаццаць тысячаў, таварыш Тапор! Не хапае хіба ўсім штуцэраў, абутку і адзен-

ня, але паўстанцы настроены рашуча. Зброю, кажуць, здабудзем у баі.

Людвіг нахмурыў бровы, пераводзіў позірк з аднаго паўстанца на другога: «Жартуюць? Хочуць увесці мяне ў зман? Для чаго? Лічба не паддавалася асэнсаванню. Калі гэта так, то губерня ў нашых руках! Божа, няўжо гэта магчыма?»

……………………………………………………………………..

У дзверы дырэктара інстытута Траўтфэтара нехта пастукаў.

– Заходзьце! – напаўголасу прамовіў гаспадар кабінета.

На парозе ўзнікла постаць маладога афіцэра. Ён прыклаў руку да брыля, выцягнуўся быццам па камандзе “зважай” перад вялікім вайсковым начальнікам, з усмешкай прамовіў:

– Здравія жалаю, таварыш дырэктар!

– Дзень добры.

– Старшы ад’ютант штаба 1-га корпуса штабс-капітан Вялічка! Мне шмат добрага пра вас казаў віленскі губернатар Уладзімір Іванавіч Назімаў, і таму, знаходзячыся ў адпачынку і наведваючы родныя мясціны, рашыў асабіста пазнаёміцца з вамі і перадаць паклон і прывітанне ад паважанага Уладзіміра Іванавіча.

Моцны поціск рук змацаваў першую сустрэчу і знаёмства.

– Назімаў сам з’ехаў у Пецярбург, а мяне вызваліў на два тыдні ад маіх ад’ютанцкіх абавязкаў.

– Вы яго ад’ютант? – падзівіўся дырэктар.

– Так. А сюды я прыехаў, так бы мовіць, інкогніта. І тут я знаходжуся як Вялічка, хаця сапраўднае імя маё – Людвіг Звяждоўскі.

– Зразумеў, – кіўнуў галавой гаспадар кабінета.

З твару госця не сыходзіла даверлівая і добразычлівая ўсмешка, цёплы позірк штабс-капітана і яго голас сведчылі пра тое, што чалавек мае шырокую натуру, вольна і немусова адчувае сябе ў любых абставінах, умее знаходзіць “агульную мову” з людзьмі розных чыноў і саслоўяў…

– Як маецца шаноўны Уладзімір Іванавіч?

– Бадзёры. Даручыў мне адказную справу – вучыць яго дачок польскай мове.

– О, дык мы з вамі амаль калегі – і вы навучаеце маладое пакаленне, як і я. Пахвальна!

– Так, так, спадар дырэктар! Як яшчэ вучыўся ў Акадэміі генеральнага штаба, пранікся павагай да выкладчыцкай працы.

Праз нейкі час на стале з’явіліся кубкі з гарбатай.

Размова перайшла ў новае рэчышча.

– Як вы, шаноўны капітан Вялічка, знаходзіце нашыя мясціны?

– Яны для мяне родныя, я выхоўваўся тут у родзічаў. Калі не стала бацькоў, мяне забралі яны да сябе. А нарадзіўся ў Вільні. Прыгажэй за гэтыя краявіды няма нічога ў свеце! Рай, чысты рай!

– Згодзен з вамі, цалкам згодзен!

– Я ўсяго дзень і паблукаў па тутэйшых мясцінах, а так хочацца абысці іх усе.

– А навошта біць ногі? – усклікнуў Траўтфэтар. – Я даручу свайму бярайтару, і ён падрыхтуе для вас кабылку для верхавой язды.

– Дзякую, вельмі дзякую! Цудоўна! Тады мой адпачынак будзе сапраўды ў асалоду мне.

– Рад услужыць вам, капітан Вялічка! Не жадаеце агледзець нашую навучальную ўстанову?

– Мне было б гэта цікава!

Дырэктар завёў Вялічку ў адзін клас, у другі. Калі ішлі па доўгім калідоры, узяў яго пад руку, перайшоўшы на шэпт, прамовіў:

– Па нашым інстытуце сярод моладзі ходзіць патаемная пагалоска, што нібыта па нашым краі разгульвае нейкі Тапор. Кажуць, што ён давудца царства Польскага…

– Няўжо? – падзівіўся штабс-капітан.

– Так, так, – горача запэўніў яго дырэктар. – Жадаў бы з ім пазнаёміцца.

– І я жадаў бы. А колькі яму гадоў?

– Ды і ў тым пытанне, што ніхто не ведае, і ў вочы яго не бачылі. Я студэнтам не забараняю пра яго гаварыць, – прызнаўся дырэктар, – моладзь яна і ёсць моладзь, і я быў некалі маладым… Больш таго, я ведаю, што ў нашых сценах існуе падпольная рэвалюцыйная арганізацыя, і ведаю яшчэ, хто яе ўзначальвае. Большасць студэнтаў паходзіць з заходніх губерняў, а яны не ў захапленні ад царскай улады. Як, дарэчы, і я.

– Мо і пашчасціць нам з вамі ўбачыць яго, Тапара.

… З таго дня па вуліцах мястэчка Горкі, па ваколіцах яго, на гнядой кабыле з самай раніцы скакаў па розных маршрутах і дарогах штабс-капітан, не выклікаючы ні ў каго падазрэнняў.

Усе ведалі, што гэта сябар дырэктара інстытута і што ён праводзіць тут свой адпачынак.

Людвіг у той дзень падняўся на цямочку, калі толькі-толькі ў акно пачала цадзіцца цёмная шэрань, у той самы час, калі ноч барукалася з нараджэннем раніцы.

Сярод поля, пад пракаветным дубам, адкуль відаць усё наўкола і іх ніхто не падслухае і не пабачыць, Тапор прызначыў сустрэчу са Станіславам Віскоўскім – студэнтам, кіраўніком падпольнай паўстанцкай групы інстытута.

Палыхаў пажар паўстання па ўсёй Літве і ў Заходняй Беларусі. Распачаліся баі ў Мінскай губерні…

Вось-вось полымя павінна перакаціцца і на Магілёўшчыну.

Кожны дзень, скачучы на кабыле, вершнік прыкмячаў да драбніц дарогі і рачулкі, балоты і лясныя дарогі, вывучаў, аглядаў, занатоўваў у памяці, каб нанесці вечарам на мапу, каб скласці дыспазіцыю будучага наступлення…

З шэрага туману вынырнула постаць чалавека.

Не дайшоўшы да Тапара крокаў з дваццаць, чалавек напаўголасу прамовіў:

– Каго любіш?

– Люблю Беларусь, – адказаў яшчэ цішэй капітан.

– То ўзаемна!

Паручкаліся, абняліся. Пасля некалькіх пытанняў і адказаў Тапор прамовіў:

– Далажыце абстаноўку, спадар Станіслаў!

Селі пад дуб на халодны заімшэлы камень. Конік непадалёку скуб пажухлую траву, знаходзіў свежыя парасткі зяляніны.

– Горад, таварыш Тапор, жыве ў трывожным чаканні паўстання. Мой гаспадар Куневіч, у якога я кватарую, гаворыць так: “Бяда, хлопча, будзе, і вялікая бяда…” Ды і па вёсках, якія я наведваў, сяляне адзін аднаму трывожна перадаюць: “Нешта будзе, а што – ніхто не ведае дакладна…” У шасці вёсках, якія я наведваў, ніхто нават і не чуў пра паўстанне…

– Дзіўнае, але і сумнае адкрыццё…

– Я і сам здзіўляюся, спадар Тапор. Што цікава, дык гэта тое, што пра паўстанне ведаюць усе да аднаго – жандары, дырэктар інстытута, чыноўнікі, суддзі…

“Дык вось чаму так смела апавядаў мне пра падпольную арганізацыю Траўтфэтар – ніякае тайны ён перада мною не раскрываў. Прызнайся я яму, што перад ім стаіць сам Тапор, то, мусіць, ён і не здзівіўся б…”

– Чаму так кажу, жандар Гулевіч – мой дальні родзіч – ведае нават, што я ўзначальваю падпольную арганізацыю, і лагодна да гэтага ставіцца. Больш таго, кажа мне: “Стасік, дарагі мой! То дваране дурачацца… Бесяцца, так бы мовіць, з жыру… Стрэльбаў сабе накупілі, штуцэры прыдбалі, кожны займеў сабе гамаркі – модныя паходныя боты, пісталеты, ранцы, кінжалы. Мы нават ведаем, дзе яны наладзілі сабе стрэльбішча – страляць вучацца… І ведаеш, як выглядаюць тыя мішэні? Царскі салдат намаляваны ў поўны рост.

Ад пачутага ў Людвіга заныла сэрца, падумаў: “Божа, хіба гэта тайная падрыхтоўка да паўстання? Гэта ж гульня ў падрыхтоўку, калі не горш і не горай... Няўжо пра тое не ведае Канстанцін Каліноўскі? А калі і ведае, то што ён можа зрабіць цяпер? Мусіць жа, і мяне хлуснёй кормяць…”

– Пытаюся ў Гулевіча, чаму ж нічога не прадпрымаеце для таго, каб спыніць гэтае “свавольства”? Адказвае: “А нам загадана маўчаць і быццам нічога не бачыць, назіраць”. За кім і як назіраць – цікаўлюся. “А за ўсім, што адбываецца, – адказвае. Сабраліся людзі купкай, пра нешта гавораць. Ён падыходзіць да іх, а разам з ім і крычаўскі станавы, – цікавяцца, куды сабраліся грамадой. І што ты думаеш, яны яму адказваюць: “З маскалямі пойдзем ваяваць…”

– Станіслаў, як я зразумеў, улады зусім не баяцца паўстання?

Хлопец зашпіліў на сабе сурдук, зацiснуў мацней на шыі шэры шалік, – ад возера пацягнула красавіцкім холадам:

– Адчуванне вынікае такое, таварыш Тапор. Ніхто не верыць, што гэта сур’ёзна, лічаць, што гэта купка недаробкаў, здольная на дзеянні, – так званыя інсургенты адно гуляюць у патрыётаў, хочуць перад паненкамі паказацца зухамі і рэвалюцыянерамі.

Людвіг нахмурыўся:

– І чым тлумачацца такія паводзіны?

– Кажуць так – раз да нас адносяцца мірна і не прымаюць крутых мераў, то, значыць, што баяцца Еўропы, бо што на тое Банапарт скажа…

– Самазабойства.

– І я гэтак жа думаю. Не прымаецца ніякіх мераў з боку ўлады. У размове з чыноўнікам Арліцкім, які прыязна ставіцца да нас, выказаў думку: бо бяздзеяннем правакуюць народ на паўстанне. Як гавораць дасведчаныя людзі, губернатар Магілёва Беклямішаў нават жадаў бы, каб яно распачалося…

– Не разумею, Станіслаў, чаму.

– Сакрэт вельмі просты. Ён выдатна ведае нашых рэвалюцыянераў. Пыхі без меры, але пры першых жа стрэлах разбягуцца, як рудыя мышы…

Тапор пакусваў вус, прымружваў вочы, не перабіваў. У тое, пра што апавядаў Станіслаў, было цяжка паверыць.

– Ён разлічвае адным ударам сакрушыць і ўціхамірыць усіх незадаволеных.

Людвіг і раней чуў такія выказванні і думкі. Тое, што афіцэры расійскай арміі і чыноўнікі вялікага і малога рангу не верылі ў перамогу касінераў, фактам было неаспрэчным.

Губернатар не дакладваў вышэй пра тое, што паўстанцы гуртуюць сілы. Не час яшчэ.

Гэта ўжо была тактыка – тактыка хітрая і з глыбокім разлікам.

Паўстанне для праўладных афіцэраў і чыноўнікаў – сродак паказаць сябе, выхваліцца перад царом, у патрэбны момант далажыць “аб цяжкай перамозе над моцным праціўнікам”, і тым самым атрымаць вялікія ўзнагароды і чыны.

– Што з гэтага вынікае, Станіслаў? Толькі праўду кажы. Чаго я не ведаю, і што ведаюць чыноўнікі і сам Беклямішаў?

Студэнт напачатку вагаўся, але ўсё ж наважыўся…Расказаў пра тое, што сярод студэнтаў такіх лагодна-спакойных настрояў няма. Студэнты і навучэнцы вучэльняў збіраюць зброю, самі адліваюць кулі. Для гэтага ў глыбокіх нетрысках пушчы абсталявалі майстэрню. Расказаў ён і пра тое, што на іх палітычную свядомасць вялікі ўплыў аказаў былы выпускнік Ян Дымкевіч – нашчадак апошняга паўстання. То ж па яго ініцыятыве была арганізавана падпольная школа маладога патрыёта, гэта ён і некалькі студэнтаў вучылі чатыры гады сялянскіх дзяцей грамаце, маючы ў руках беларускія лемантары. Для кожнага рэвалюцыйна настроенага студэнта ён з’яўляўся прыкладам стойкасці і мужнасці. І не толькі для студэнтаў, а і для выкладчыкаў, якія паверылі ў ідэалы рэвалюцыі. Хто яны? Выкладчык фізікі А.Гінцэль, выкладчык правазнаўства Ф.Вянцкоўскі, архітэктар-механік Т.Выбраноўскі…

Калі ў студзені не стала Яна, шмат з іх прыйшлі праводзіць яго ў апошні шлях.

– Дык мо яно не ўсё так і безнадзейна? – хапаўся Людвіг за саломінку. – Колькі чалавек з тваёй групы могуць уліцца ў паўстанне?

– Больш за сотню.

– Гэта і будзе аснова будучага ўдарнага горацкага атрада?

– Так.

– І ўзначаліць яго даверана мне.

– Мы будзем радыя гэтаму.

– Што яшчэ? Мне здаецца, ты не дагаварыў асноўнага…

– Так, не дагаварыў. Беклямішаў ведае галоўнае – ён упэўнены ў тым, нават перакананы, што не ўсе сяляне настроены аказваць падтрымку паўстанцам.

– Чаму, Станіслаў?

– З той простай прычыны, таварыш Тапор, што яны кожнага паўстанца прымаюць не інакш як за польскага пана. Што той пан ваюе супраць цара-вызваліцеля толькі за свае землі, і таму сяляне ніколі не будуць мець волі і зямлі.

– Адкуль у іх такія настроі?

– А хто іх пераконваў у адваротным? – Віскоўскі апусціў галаву, быццам лічыў сябе вінаватым у гэтым. – Таму паліцыя пасіўна сочыць, як узбройваецца шляхта – толькі назірала па загадзе Беклямішава …

– Што за чалавек камендант Машкоўскі?

– Асабіста вёў з ім размову. Свой чалавек. Мы дамовіліся пра тое, як ён павінен сябе весці ў сітуацыі, калі адбудзецца напад на Горкі. Прыняў усе нашы прапановы. Верыць у поспех.

– А ты, Станіслаў, сам хоць верыш у перамогу паўстання?

– Каб не верыў, не прыйшоў бы на сустрэчу пад гэты дуб.

– І на тым дзякуй, дружа! Слухай мой загад. Агульнае выступленне на Магілёўшчыне я прызначыў на ноч з пятага на шостае траўня. Быць усім гатовым. Больш ніякіх карэкціровак і зменаў не будзе.

– Цяпер – усё. Сустрэнемся ўжо на полі бою і пляцы перамогі.

Праз хвіліну Тапор рушыў да кабылы Ружы, а студэнт Віскоўскі накіраваўся ў бок Горак…

3

… Дарагі Вікенцій-Канстанцін, любы мой дыктатар паўстання Кастусь!

Працягваю сваю споведзь перад табой. Не ў якасці апраўдання, каб скінуць з душы цяжар і боль, якія прыгнятаюць мяне ўвесь

час і будуць прыгнятаць і непакоіць і тады, калі я адыйду ў лепшы свет. Мог жа я застацца ў Парыжы ці іншым месцы за мяжой. Я ж хачу застацца тваім паплечнікам і сябрам, камандзірам паўстанцаў. Адна хіба папраўка: калі б загадзя ведаў, які мяне чакае канец, мо трохі інакш ішоў бы да яго…

За ноч да намечанага выступлення пакрысе пачалі збірацца інсургенты. Месца збору было прызначана ў маёнтках князёў Любамірскіх, якія ўсе свае сродкі і зберажэнні аддалі на справу паўстання. Падзяка ім вялікая!

Як мне было абяцана, атрад ці войска паўстанцаў мелася налічваць сама мала пятнаццаць тысячаў чалавек. Але што я ўбачыў! Нейкая сотня-другая чалавек! Большасць – шляхта, дробныя чыноўнікі, гімназісты, каля трыццаці з іх прыйшлі з Магілёва. Студэнты горацкага інстытута, восемдзесят чалавек яшчэ знаходзіліся ў Горках і чакалі, калі з’явіцца мой атрад. Станіслаў Віскоўскі паслаў у Зарубы Паўла Козела-Паклеўскага, брата майго сябра Яна. Той, вярнуўшыся, далажыў, што мястэчка спіць моцным сном праведніка, а студэнты паўсюль расставілі сваю варту. Гарадок ахоўвала мясцовая каманда ўнутранай аховы – паўсотня салдатаў.

Машкоўскі, камендант гарадка, паслухаўся мяне – згадзіўся падрыхтаваць усё так, каб мы ўзялі мястэчка без адзінага стрэлу і, галоўнае, без ахвяраў. Ды нешта, мусіць, не звязалася… Як і было дамоўлена, ён забраў у салдат патроны пад выглядам рэвізіі зброі, салдатаў жа размясціў па прыватных хатах. Станавога з Горак адправіў з адказным даручэннем у Магілёў.

Усё паварочвалася на тое, што мне павінен спрыяць поспех.

Але як я памыляўся, дарагі Кастусь!

Мы павінны былі сярод ночы ўвайсці ў мястэчка, атабарыцца на гарадскім пляцы. Атрад я загадзя падзяліў на пяць груп, вызначыў кожнай баявыя задачы і пазіцыі: адным браць казарму, другім – цэхаўз, трэцім – сейф (металічную скрыню) з грашыма і, каб не выклікала ні ў каго падазрэнняў аб удзеле каменданта ў паўстанні, арыштаваць яго.

Але каля дома каменданта нас чакала ахова дзесяць салдат. Яны адразу пачалі страляць. Упалі мёртвымі першыя касінеры. Агнём у адказ мы забілі пяцярых салдат. Камендант аказаўся ў незайздросным становішчы – перабегчы да нас ён не мог, бо салдаты застрэлілі б яго як перабежчыка. Машкоўскі разам з ахо-

вай пачаў абараняць дом ад нападу. Па камандзе Віскоўскага нехта з паўстанцаў падпаліў дом. Машкоўскі абараняўся "да апошняга", аж пакуль яго не ўзялі ў палон.

Я быў вельмі раз'юшаны паводзінамі Віскоўскага, хацеў нават аддаць каманду расстраляць яго за самаўпраўства, але перадумаў. Пазней вызваліў каменданта з палону.

А далей яшчэ больш неверагодныя адбыліся рэчы.

Хутка ўзялі казарму. Праўда, вартавога, які аказаў супраціўленне, абясшкодзілі, узялі на мушку. Казарму падпалілі. Ад дыму задыхнуліся хлебапёкі, якіх закрылі ў сутарэнні. Тое ўсё наклала прыгнятаючы адбітак на маладых паўстанцаў – ім жа абяцалі бяскроўны штурм.

Толькі цэхаўз і гарнізонная каса былі ўзятыя без прыгод аў і стрэлаў. Паўстанцы хутка разабралі зброю, а вось металічную скрыню з грашыма адкрыць не ўдалося – была замкнёная на надзейны англіцкі замок.

"Чырвоны певень" пачаў гуляць па мястэчку ад дома да дома. Усё злілося ў адно – стрэлы, гул званоў, крыкі людзей. Замест таго, каб здабыць у жыхароў мястэчка падтрымку, мы атрымалі нечаканую і жорсткую нянавісць.

Месцічы зачыніліся ў хатах, а некаторыя і зусім пакінулі іх.

Пачуўшы трывожны звон і ўбачыўшы зарыва над гарадком, з горацкіх прадмесцяў Слабады і Зарэчча рушылі ў горад сяляне – пачалі шукаць спажыву ў пустых дамах. Ад рабавання яны перакінуліся нечакана на паўстанцкі патруль – у імгненне вока разагналі яго.

Сяляне схапілі студэнта Раймунда Чарвінскага, але той пачаў тлумачыць, што паўстанцы адно хочуць вызваліць юнакоў ад рэкрутчыны, калі яны не вераць, няхай сходзяць у мястэчка і паслухаюць прамовы круля, у якога грошай вазамі грузі, і што ён абяцае зрабіць Горкі багатым і прыгожым горадам у свеце. Сяляне звязалі яго і адвялі ў турму… П'яны мужык, ледзьве стоячы на нагах, размахнуўся даўбнёй і апусціў яе на галаву шляхціца Казіміра Пшыбалтоўскага. Забіў насмерць. А студэнтаў – Фелікса Скурына і Георгія Гіжыца – збілі на горкі яблык.

Раніцай я сабраў касінераў на мясцовым майдане. Прыехаў да іх на кані. Апрануў для такога выпадку афіцэрскі мундзір. Людзі, перажыўшы начныя страхі, прыйшлі на пляц зусім не дзеля таго, каб падтрымаць нас.

Сталага веку чалавек, сівы, як лунь, калі я саскочыў з каня, падышоў да мяне, дакрануўся да мундзіра:

– Дык, значыць, Тапор – гэта ты?

– Выходзіць, што так.

– Казалі во людзі, што Тапор высокі і шырокаплечы, чорны, як смоль. А ты звычайны. Што хочаш ты нам сказаць? Чаму вы нарабілі столькі шкоды мясцовым жыхарам? Тапор то тапор, але і сякерай трэба умець махаць. На каго замахнуўся? На сваіх жа і замахнуўся…

Я зноў ускочыў на каня. Мне так было зручней звяртацца да людзей. Не памятаю, што казаў ім, што абяцаў, тлумачыў.

Яны, здавалася мне, былі безуважныя да маіх слоў. Больш таго, не жадалі мяне слухаць.

З другога боку каня стаяў праваслаўны святар.

– Святы айцец, а вы чаго тут? – звярнуўся я да яго. – І вы ў радах паўстанцаў?

– Як бачыце, я без зброі. Мая зброя – слова Божае. Таму місія ў мяне самая мірная.

– Якая? У які бок?

– Я нясу ў народ толькі слова Божае.

– Але і Божае слова можна выказаць па-рознаму. Вы ў храмах чытаеце царскія заклікі супраць паўстанцаў, а ксяндзы амаль усе падтрымліваюць наша рушанне.

– То клопат ксяндзоў, уніятаў, у нас жа іншае прызначэнне.

– Тлумачыць неадукаванаму і цёмнаму селяніну, што наша паўстанне – гэта просты мяцеж, бунт толькі польскіх паноў супраць цара?

– На тое загад зямных уладаў і воля Божая.

Святар схіліў галаву. І я ці не зразумеў тады, чаму ў нас усё ідзе так насуперак нашай волі, праз пень-калоду...

Перад тым, як пакінуць Горкі, завітаў у інстытут, зайшоў да дырэктара Траўтфэтара. Ён не выказаў ні радасці ад сустрэчы, ні нянавісці да мяне.

– Як толькі вы ў свой час пераступілі парог майго кабінета, я зразумеў, што вы – Тапор. Сякера – па мясцоваму. Я на вашым баку, але чаму вы так бязглузда, непрыгожа і жорстка абышліся з мірнымі месцічамі? Калі ў вашай рэвалюцыі такое аблічча, то я магу стаць яе ворагам… Чаму загінулі мае студэнты?

– Выйшла ўсё не так, як мы планавалі. Мы думалі, што абыдземся без ніводнага стрэла.

– Думалі, думалі… Не думаць трэба было, таварыш Тапор, а абдумаць усё да драбніц. Пра дзеянні вашага атрада я далажу Вікенцію-Канстанціну Сямёнавічу…

Я шырока акругліў вочы:

– Вы яго ведаеце?

– Як і ведаю Назімава, Мураўёва, Беклямішава… Мне ж з усімі трэба жыць і ўжывацца, але ж і ведаць, з кім мне па дарозе.

Я ўжо зусім нічога не разумеў.

– Чаму вы мне адразу тады не сказалі пра тое?

– Бо вы мне падаліся нявопытным і маладым, стракатым вертапрахам. Хацеў прапанаваць вам свой план уваходу ў Горкі. Але адчуў, што вы не пачуеце мяне… Тапор… Сякера…

Я быў разбіты і зняважаны шчырасцю дырэктара.

– Я магу ўзяць з інстытуцкіх стайняў коней і вазоў? – адно толькі што асмеліўся спытаць у яго.

– А, рабіце, што хочаце. Увесь гарадок у вашых ног… Куды цяпер?

– Пакуль улады не спахапіліся, накіруюся ў Крычаў – на дапамогу Жукоўскаму.

– І колькі ж у вас паўстанцаў?

– Дзвесце пяцьдзесят. У атрад яшчэ ўвальюцца вашыя студэнты – каля сарака чалавек, дзевяць вучняў вучылішча і восем хлопцаў з таксатарскіх класаў…

– Не густа. Яны ж зялёныя яшчэ, а вы іх пад кулі…

– У баі навучацца, спадар дырэктар.

– У баі гінуць, а не вучацца, вялікі стратэг, таварыш Тапор. Яны галовы кладуць на плаху, каб іх паадсякаў царскі Тапор.

– Жорстка так гаварыць з вашага боку.

– А ці не больш жорстка ўцягваць іх, непадрыхтаваных, у крывавую бойню? Вы пра тое думалі? Я за кожнага ў адказе, я ім – і бацька, і маці. Што мне скажуць бацькі? А я ім што скажу? Што загінулі іх дзеці дзеля вялікіх ідэалаў рэвалюцыі?

Калі я падышоў да дзвярэй, ён, усё яшчэ не паварочваючыся да мяне, глуха праказаў:

– Беражыце, Людвіг, жыцці маіх выхаванцаў і сваё асабістае.

– Дзякуй! Пастараюся выканаць ваш загад!

Пада мной быў шэры інстытуцкі конь. На мне – форменнае афіцэрскае паліто з белымі пагонамі і гузікамі. У што былі апрануты інсургенты? У шэрыя, з салдацкага сукна, чамаркі. Кожны меў

салдацкія ранцы. Паверх усяго накінутыя паліто з капюшонамі. Зброя – кароценькія стрэльбы са штыкамі. Некаторыя, але не большасць, мелі за поясам пісталеты, насілі шаблі.

Ніхто з нас не ведаў, што чакае мой атрад наперадзе.

Не ведаў пра тое і я…

… Беклямішаў дачакаўся свайго “зорнага часу”.

Загінулі царскія салдаты, уступіўшы ў бой з “каварным ворагам” – бунтаўшчыкамі супраць царскай кароны. Як аказалася, шайкі і групы бунтаўшчыкоў былі глыбока законспіраваны і толькі цяпер скінулі з сябе маскі.

У Пецярбург паляцелі адна за адной трывожныя данясенні – у губерні створаны і працягваюць ствараццa ўсё новыя і новыя баяздольныя атрады і групы.

Яны даўно назапашвалі зброю, даўно рыхтаваліся да бунту, шайкі налічваюць ад 600 да тысячы і болей чалавек у кожнай.

Губернатар ведаў, што пісаў – чым страшней удасца намаляваць малюнак бунту, тым “цяжэй” яму прыдзецца падаўляць.

Разведчыкі губернатара данеслі яму, што атрад Тапара выехаў з Горак, пакінуўшы пасля свайго бандыцкага рэйду сотні забітых, а цяпер яны накіроўваюцца да маёнтка Дрыбін.

Пан Антоній Цэхановіч распавёў дапытчыкам, што яго прымусілі пад страхам смерці ўзяць удзел у бунце, і таму ён вымушаны быў даць прытулак інсургентам, сказаў яшчэ, што не жадае сустракацца з Тапаром і спехам уцякае ў Воршу.

Дрыбін сустрэў Тапара маўчаннем – ніводнай жывой душы.

Не было абяцанага атрада ў тысячу чалавек, нікога не было, нават аднаго інсургента. Адно што чорны сабака баязліва выглядваў са свайго будана…

Беклямішаў кінуў на атрад Тапара адборныя войскі. Ён быў упэўнены, што з гэтай шайкай будзе скончана раз і назаўсёды, рыхтаваў ужо Пецярбургу пераможную рэляцыю.

Але Людвіг не ўступіў з імі ў бой: застрэліўшы некалькі салдатаў, непрыкметна знік з месца сутычкі.

Праз нейкі час інсургенты апынуліся ў маёнтку Чудоўскага – у Чырвоным. Тапор аддаў загад адпачываць. Расставіўшы вартавых, сам рашыў зрабіць тое ж.

Сярод ночы прачнуўся ад таго, што яго нехта моцна трос за плечы. Над ім, часта дыхаючы, нахіліўся Жукоўскі.

Твар акрываўлены, мокрыя валасы звісалі чорнымі вужакамі. Сон як рукой зняло.

– Што здарылася?

– Разумееш, Тапор, у той час, як ты браў Горкі, царскія салдаты рынуліся на мой атрад і адразу яго разагналі… Некалькі інсургентаў загінулі. Я атрымаў некалькі кулявых раненняў, ды ў дадатак да ўсяго мяне напаткалі на дарозе раз’ятраныя сяляне. Прайшліся дубінкай па спіне. Я зашыўся ў хмызняк і дапяў вось да цябе… Што рабіць будзем, Людвіг?

– Што яшчэ скажаш? – нахмурыўся Звяждоўскі.– Ці праўда?

– Ды куды ўжо праўдзівей. Праз дзень, пасля разгрому нашага атрада, быў разбіты і аршанскі атрад Будзіловіча, які знаходзіўся ў лесе каля вёскі Пагосцішча. Іх прыпялі да ракі, забілі шэсць касінераў. Астатнія, разам з Будзіловічам, здаліся ў палон. Выратавалася толькі каля дваццаці чалавек – хто ўмеў плаваць. Яны пераплылі раку…

– А рагачоўскі атрад Грыневіча? Дзержаноўскага?

Жукоўскі нервова пакусваў губы, стараўся пяцярнёй закінуць мокрыя валасы назад, але яны зноў спадалі на вочы.

– І Грыневіча напаткаў такі ж лёс. Дзержаноўскага схапілі сяляне, тыя, якія, як меркавалася, павінны былі папоўніць нашыя рады… Аказалі супраціў атрады Жабраноўскага, Анцыпы ды Алендзскага, ды і іх раструшчылі салдаты з дапамогай тых жа сялянаў… Нашае паўстанне на магілёўшчыне, Людвіг, задушана яшчэ ў зародышы.

– Падымай усіх! – падаў Тапор каманду. – Рушым!

Раніцай, калі непрыкметна падышлі да Дняпра, аказалася, што паромы і лодкі на процілеглым беразе, а на дарогах выстаўлена варта – з вяскоўцаў, якія адкрылі ўжо сапраўднае паляванне на інсургентаў.

Людвіг горка падумаў: дзе ж яшчэ цёмнаму і неадукаванаму селяніну перападзе такі заробак – аж пяць рублёў даваў шчодры цар за кожнага злоўленага інсургента са зброяй, а без зброі – тры. Гэта ж цэлае багацце! Карову можна купіць, ды яшчэ і каня ўпрыдачу.

Дзявятага траўня, знаходзячыся пад вёскай Пятруліна, Звяждоўскі атрымаў ад Міхаіла Аскеркі з Магілёва праз пасыльнага чыноўніка-паўстанца папярэджанне: на яго атрад кінутыя царскія войскі з усёй выкладкай і зброяй. Тапару нічога не заставалася

рабіць, як выбірацца з акружэння і ісці на злучэнне з атрадамі, што праводзілі рэйды на міншчыне.

Начавалі прасцярожліва ў маёнтку Віскоўскага. Людвіг аддаў строгі загад – страляць у кожнага, хто сунецца з цемры і не адкажа на пароль. Раніцай, ужо дзясятага траўня, рушылі да ракі Проні.

Пераканаўшыся, што паблізу вёскі Ліцягі нікога не было, на пароме пераправіліся на другі бераг. У гэты ж час у вёску ўвайшла, рухаючыся з Чэрыкава, батарэя падпалкоўніка Багаеўскага.

Убачыўшы, што інсургенты ўжо на процілеглым беразе, а паром гарыць, хрыпла загадаў:

– Ану-ка, ребятки, пальните-ка по ним – и сразу из двух пушек!

Тое падзейнічала – стрэл гармат разагнаў інсургентаў.

Але праз колькі хвілінаў адзін за адным пачалі збірацца зноў, падыходзіць да камандзіра – гуртавацца, чакалі каманды.

У той жа самы час да Тапара прабіраўся са сваімі трыма сынамі Фёдар Чудоўскі. Яны былі ў рэзерве.

Даведаўшыся, што атраду Тапара пагражае палон, кінуліся на дапамогу. Але іх перастрэлі сяляне – лоўцы інсургентаў.

– Злазьце з воза! – загадаў старэйшы з іх, закасваючы рукавы шэрай сарочкі.

– Чаго – злязаць? – пацікавіўся малодшы з сыноў – Міхал.

У тайнічку, пад дошкамі, у саломе знайшлі тры штуцэры.

– Інсургенты! – выгукнулі лоўцы. – Амаль на дваццаць рублёў здабыча!

У Чудоўскіх былі дубінкі і іх было болей, у кожнага пудовыя кулакі. Распачалася бойка…

Доўга замагаўся бацька, адмахваючыся ад нападнікаў. Але тыя пачалі калоць яго штыкамі. Забілі на месцы. Сыноў звязалі.

Лоўчыя ўведалі, дзе спыніўся атрад Тапара – у фальварку Люшкі.

Сярод ночы – з адзінаццатага на дванаццатага траўня, – маючы кожны ў руках вілы, косы і сякеры, напалі на яго дружыну.

Інсургенты былі здзіўленыя: не салдаты ж рэгулярнага войска, а сяляне. Напачатку думалі, што тыя прынялі іх за царскіх служкаў, але калі ўдарам тапара каржакаваты селянін з п’яным гігіканнем раскроіў надвае галаву інсургента Баляслава Куроўскага, студэнта інстытута, зразумелі – палююць менавіта за імі…

Ад супраціўлення адмовіліся – кінулі штуцэры. Здаліся ў палон усе пятнаццаць чалавек. Пачуўся роспачны крык: “Хіба ж я магу

страляць у сваіх?” – пакідалі зброю і астатнія. Таму калі Тапор, ускочыўшы на каня, кінуў кліч: “За мной, касінеры!”, за ім ніхто не паследаваў.

У які ўжо раз у Людвіга Звяждоўскага раскрыліся вочы на рэальнае становішча, у якім ён апынуўся, – яго атрад ужо не ўяўляў з сябе баяздольнае фармаванне, як тое ўяўлялася і бачылася напачатку выступлення.

Гэта былі ўжо дэмаралізаваныя і напалоханыя людзі …

– Бабы вы, а не мужчыны! – выгукнуў Тапор. – Дый да баб вам далёка. Эмілія Плятэр трыццаць гадоў таму, калі пачалося паўстанне супраць царызму, узяла ў рукі зброю, стварыла з чатырох дзяўчатак баявы атрад. А потым у яе атрад уступіла 280 стральцоў, 60 вершнікаў і некалькі соцень касінераў. У першым жа баі, другога красавіка, ушчэнт рагрмілі пяхоту царскіх войскаў… Я пакідаю вас, а вам раю падпарадкавацца маніфесту, – амністыя для вас заканчваецца праз два дні.

Прышпорыўшы каня, паскакаў па гразкай дарозе. З-пад капытаў разляталіся ў розныя бакі чорныя пырскі.

… І толькі некалькі чалавек запознена рушыла следам за Тапором…

4

Віленскі паліцмайстар палкоўнік Сарначоў падвёў да дзвярэй камеры № 3 Ядзвігу Макрыцкую, уставіў ключ у шчылінку, крутануў яго.

Кіўнуў моўчкі галавой, дазваляючы ісці ў камеру.

Вязень стаяў каля акна, глядзеў на вуліцу, не абарочваўся, не зацікавіўся нават, хто б гэта мог яго праведаць: акрамя турэмнага начальства ці каго са следчай камісіі да яго прыйсці ніхто не мог.

– Кастусь! – ціха паклікала жанчына, стоячы ў парозе. – Добры дзень, Каліноўскі!

Ён павярнуўся да яе, здзіўлена глядзеў, не ведаючы, што сказаць у адказ.

– Ці пазнаеш ты мяне, Вікенцій Канстанцін?

Схамянуўся, заўсміхаўся, ступіў крок насустрач.

– А як жа, пазнаў. Вы – цётачка Марыські, Ядзя Макрыцкая. Мы бачыліся з вамі ў Ямантаў. Пілі гарбату за адным сталом. Як вам удалося прарвацца да мяне, цётачка Ядзя? Нікога ж не пускаюць...

– Так, не пускаюць. Мне прыйшлося шмат прыкласці намаганняў, каб дабіцца спаткання. І цяпер мне не дазволілі доўга быць у цябе.

Ужо ціжэй, асцерагаючыся, каб не пачуў палкоўнік Сарначоў, які застаўся за дзвярыма, паведаміла:

– Пасля цябе я да Марысі пайду. Яна знаходзіцца непадалёк ад цябе, у былым кляштары місіянераў.

Ён не верыў пачутаму.

– Калі чыркане́ш колькі слоў, я перадам ёй запісачку ад цябе. Яна радая будзе.

Ён кіўнуў галавой, адразу ж усеўся за столік, пачаў пісаць.

Пісаў хутка, каб паспець.

Тым жа ціхім голасам Ядвіга Макрыцкая дадала:

– Я і яшчэ прыду да цябе. Таму можаш пазней напісаць ёй больш і падрабязней. Думаю, што мне ўдасца пранесці праз ахоўнікаў і даставіць адрасату. Але я павінна напісанае паказаць паліцмайстару. – І ўжо шэптам дадала: – Пішы адно для яго, а другое…

Каліноўскі кіўнуў галавой, не адрываючыся ад паперы.

Ужо ранейшым, грамчэйшым голасам, працягвала:

– А вось табе падарункі – грабянец, люстэрка, мыла, чыстая тканіна і бялізна... На вуліцы сёння добрае надвор’е, сонейка свеціць. Але яшчэ не так цёпла, сакавік халодны.

За той час, як Ядвіга гаварыла, Кастусь скончыў пісаць. Згарнуў паперчыну ў некалькі столак, падаў жанчыне. Яна хуценька схавала запісачку, папpавіла шалік. Як і прасіла, напісаў на двух аркушыках.

– Як ты тут, сынок? – голас у яе ўздрыгнуў ад жалю. Яна вельмі балюча перажывала за лёс сваёй пляменніцы, бо любіла яе, як і любіла з-за яе і Кастуся. – Што яшчэ табе прынесці?

– Ды нічога мне не трэба больш, – усміхнуўся вязень, – дзякую, што праведалі мяне, дзякуй, што перадасце мае словы маёй нарачонай... Кланяйцеся ёй... Так хочацца шмат пра што распытаць у вас, але, ведаю, што вы нічога не паспееце мне паведаміць.

Як у пацвярджэнне яго слоў, у дзверы пастукаў ахоўнік. Потым зноў, сказаўшы ўжо галасна:

– Время посещения вышло. Прошу вас, сударыня, удалиться!

– Калі ласка, яшчэ адну хвілінку. Усяго адну, палкоўнік.

Нахілілася ўжо да вуха, зноў прашаптала:

– Каралінка шле табе прывітанне. Адшукала мяне, малайчына. Прасіла перадаць, робіць усё, як вы прасілі. Усё. Я пайшла.

Абняла вязня, пацалавала тры разы ў шчаку, а потым у гарачы пакаты лоб. Уздрыгнула сэрца, запякло ў вачах, але яна пастаралася стрымаць слёзы.

– Хай беражэ цябе Бог, дарагі Канстанцін!

– І вас, шаноўная Ядвіга!

Калі ж зачыніліся дзверы і шчоўкнуў ключ у замку, ён паваліўся на ложак: стаяць ужо больш не было сілаў...

… Сярод ночы скакаў на гнядым кані Людвіг Звяждоўскі.

Ноч зорная, поўня нябесным ліхтаром асвятляла дарогу і наваколле. На чым свет праклінаў Тапор тую сітуацыю, у якой апынуўся. Такія былі вялікія спадзяванні – і на табе… Ганебныя ўцёкі ад касінераў.

Яму здавалася, што і паўнатвары месяц пасміхаўся з яго, рагатаў, пальцам нават у яго бок паказваў. Ён хацеў прышпорыць каня, каб пусціцца галопам далей, адкінуць ад сябе гнятлівыя думкі, але з таго боку ўзгорка раптоўна выскачыла карэта, запрэжаная двойкай коней.

Напачатку было жаданне звярнуць управа – у шэрае кустоўе, але вырашыў, што экіпаж не можа належаць царскаму войску, – едуць мірныя людзі…

Карэта параўнялася з ім, спынілася. Шырмачка на акенцы рассунулася і Людвіг убачыў светлы жаночы твар.

Падаўся нават нейкім знаёмым. Расчыніліся дзверы, па лесвічцы лёгка спусцілася нечая постаць, укутаная ў чорную хламіду з капюшонам.

– Людвіг, гэта ты? – ціхі жаночы голас належаў яго вучаніцы польскай мовы.

– Варвара? – здзівіўся ён, саскокваючы з каня. – Адкуль ты тут?

Калі падышоў да яе, яна абвяла і пачала асоўвацца на зямлю. Падхапіў, прытуліў да сябе. Варвара цяжка дыхала – знепрытомнела. З карэты ніхто не выходзіў, а кучар, што сядзеў спераду, разумеючы, мусіць, сітуацыю, не пакідаў свайго месца.

Варвара ачулася, заплакала. Ён дапамог залезці ў карэту. Бачачы, што там нікога няма, сеў побач. Зноў абняла яго, прытулілася вуснамі да яго вуснаў. Да гэтага ніколі не цалавала яго.

– Ты чаго тут, Варвара?

– Цябе шукаю, Людвіг.

– Адкуль ты ведаеш, дзе мяне шукаць?

– У мяне свае шпігі. Не хвалюйся, яны на тваім баку. Людвіг, што ты нарабіў? Няўжо ты не кахаеш мяне? Хаця ты і не прызнаваўся мне ў гэтым, але я ведаю, што між намі жыве каханне.

– Але ж я не магу належаць табе, дарагая і каханая Варвара!

– Каму ж ты належыш – другой?

– Не, я належу паўстанню. І толькі што разбілі мяне, а разбілі самі паўстанцы. Як нож у спіну ўваткнулі…

– Можа, гэта і добра. Бацька ведае, што я шукаю цябе, але не ведае, у які бок выправілася. Гаварыў, што паўстанне выраклася на паразу. Казаў яшчэ, што ў вас недастаткова зброі для таго, каб перамагчы. Ён жа ваенны чалавек, ведае ўсё.

– І я пра тое ведаю.

– Чаму ж пайшоў у паўстанцы, калі ведаў, што перамогі і славы не здабудзеш?

– Не за славай я пайшоў, каханая, не за славай… Мне даручылі далучыцца да закалота, і я вымушаны быў падпарадкавацца агульнаму рашэнню.

– Хто даручыў, Людвіг?

– Рэвалюцыя.

Яе галава ляжала ў яго на плячы. Недзе на ўзбочыне дарогі захроп конь.

– Людвіг, паслухай мяне… Бацька прасіў перадаць, калі мы сустрэнемся, што не трымае на цябе зла. Просіць цябе вярнуцца да яго, бо твая пасада па-ранейшаму застаецца вольнай. Табе толькі трэба павініцца. Ён бачыць у табе будучага зяця…

Пры апошніх словах Людвіг пачуў, як яна ўздрыгнула. Адчуў – яна выказала сваю патаемную мару.

– Бацька ў мяне добры. Ён са спачуваннем адносіцца да паўстанцаў, якіх арыштавалі. Калі хто з іх прасіў злітавацца, заставаўся ў жывых...

– Ты хочаш, каб я павініўся, Варвара? Прыйшоў да генерал-губернатара і аддаўся яго міласці? – Людвіга пачынала разбіраць зло, але ён стрымліваўся, каб не нагаварыць крыўдных і жорсткіх слоў Варвары.

– Гэтым самым ты выратуеш сабе жыццё і многім іншым, якія будуць арыштаваныя і аддадзеныя суду. Бацька дапаможа. Хаця

ведае, што вы рыхтуеце наступнае паўстанне. Скажы сваім камандзірам, што ты ідзеш у падполле, што застаешся і надалей непахісным паўстанцам. І тое будзе праўдай. І я буду табе ў гэтым падтрымкай і апорай. Абяцаю.

Пераміналіся нецярпліва з нагі на нагу коні, карэта ўздрыгвала ад іх таптання, возьнічы ўтрымліваў іх, сморгаў лейцы.

Вельмі не хацелася разбіваць сэрца каханай сваёй рэзкай адмовай. Мог шкоды нарабіць дзяўчыне сваёй жорсткасцю. І развітацца з ёю варожа не з рукі было.

– Ну, дык як, каханы мой Людвіг? Няўжо адпрэчыш, няўжо назавеш мяне дурніцай і летуценніцай?

– Не, не адпрэчу. Але і адразу не магу прыняць рашэння. Магу прыняць тваю параду ў тым плане, што скажу сваім таварышам, каб адпусцілі мяне для падпольнай барацьбы.

– Праўда, Людвіг?

– Слова даю. Я скачу цяпер у Вільню. Там будзе сустрэча. Я павінен далажыць, чаму мой атрад разбіты. Мо яшчэ і пакаранне атрымаю.

– Але ж ты не вінаваты.

– Бог бачыць, што не вінаваты.

– Як хутка тое будзе? Калі ты прыедзеш да нас? Да мяне?

– Пастараюся як найхутчэй.

Яшчэ доўга стаяў экіпаж на ўзгорку. Ужо і месяц апусціўся за шчыкі лесу.

Пад раніцу, калі згаслі цьмяныя промні поўні і наваколле ахутаў перадзолкавы змрок, расчыніліся дзверы карэты. З яе выйшаў штабс-капітан і лёгкай паходкай пакіраваў да кустоўя, дзе разпораз пахропваў інстытуцкі конь.

Праз колькі хвілінаў вершнік усеўся на яго, вывеў на дарогу. Перад тым, як узяць у галоп, азірнуўся: карэта нерухома стаяла на ранейшым месцы.

“Бывай, Варвара, бывай! Я сапраўды кахаю цябе, але, але...”

.....................................................................................

Канстанцін крануўся пляча ксяндза, зазірнуў у вочы, ціха спытаў:

– Айцец Антоній, ці можа быць размова споведдзю?

Ксёндз праніклівым цёплым позіркам паглядзеў на Каліноўскага, чакаў тлумачэння.

– Я, прызнацца, даўнавата быў на споведзі ў касцёле – у Дамініканскім касцёле. Але то была споведзь простага верніка,

які прызнаваўся і каяўся ў сваіх штодзённых грахах. А я хачу паспавядацца як дыктатар паўстання, які ўзяў на сябе адказнасць за жыцці соцень і тысячаў інсургентаў…

Ксёндз Антоній Міцкевіч разумеў Каліноўскага, нават больш таго – адчуў яго ўнутранае душэўнае хваляванне, унутраны боль.

Ведаў, што ён непахіснута верны абранаму шляху, – толькі жадае прывесці ў адпаведнасць свае ўзаемаадносіны з Богам…

– А хіба, сын мой, бывае споведзь дыктатара ці князя? У чым яна адрозніваецца ад споведзі звычайнага чалавека?

– Бывае, айцец Антоній. Звычайны чалавек прыносіць Богу пакаянне ў грахах “вольных і нявольных”, якія здарыліся па неразумнасці, выпадкова ці мусова, а ў мяне…

Кастусь замоўк, глыбока ўздыхнуў. Ён не ведаў, як зразумела і даходліва давесці ксяндзу сваё жаданне ачысціцца, каб набыць ранейшы спакой у  душы.

– Мяне паклікалі і абралі. Воля абрала. Усклалі на мяне абавязкі дыктатара паўстання. Але ж я не Аляксандр Македонскі, які заваяваў паўсвета, праклаў сабе шлях мечам. Калі я гаварыў, што рана пачынаць паўстанне, мяне не паслухалі, нават хацелі надзець на мяне кайданкі, а потым, калі ўсё пайшло на злом, далі ў рукі стырно, сказалі: “Кіруй!” А прагучэла, як “ратуй!”. Мог адмовіцца, сказаць, што коней на пераправе не мяняюць, спаслацца на на тое, што не змагу, на вялікі жаль, пераламаць ход рушання, што не ў маіх сілах перайначыць яго. Але, ведаючы загадзя, чым усё тое можа скончыцца, я адказаў маўклівай згодай падпарадкавання.

Ксёндз гмыхнуў пад нос нешта няўцямнае. Палічыў за лепшае не перабіваць кіраўніка паўстання, выслухаць яго, тым больш, што таго зажадаў ён сам.

– Каб жа з самага пачатку ўсё пайшло так, як я хацеў. Але кожны бачыў сябе пераможцам і стратэгам Напалеонам…

Айцец Антоній засяроджана маўчаў.

Замоўк на момант і Кастусь.

За бярозамі і хвоямі, неўздалёк ад іх, снавалі людзі; чулася ўзбуджаная людская гамана. Нехта вастрыў касу ці сякеру – чуваць было, як аб метал шоргалася тачыла, выводзячы аднастайнае – шах-шах, шах-шах…

Працавала на ўсю магутнасць пераносная кузьня – мясцовы каваль вырабляў з металічных прэнтаў дзіды, шаблі і штыкі…

Ім ніхто і нішто не замінала.

Ці была пададзеная негалосная каманда не турбаваць іх, ці то яно само па сабе так склалася, невядома, але спаміж святаром і спавядальнікам свяцілася ўзаемапавага і ўзаемадавер.

Усё ведаў святар Антоній. Ведаў нават, што можа здарыцца заўтра…

– Самае непрыемнае і горычнае, Канстанцін, тое, што ты знаходзішся пад Дамоклавым мечам. Нават калі паўстанне і пераможа – я гэта жадаю ўсёй душой і сэрцам, – то да ўлады прыйдуць тыя, хто цябе арыштоўваў… Ім ніхто не перашкодзіць зноў арыштаваць цябе, прыдумаўшы, а мо і не прыдумаўшы нейкія твае пралікі ў кіраванні паўстаннем, паставіўшы ў віну, што падчас баёў з царскімі жаўнерамі загінула шмат інсургентаў. І, як ні горка тое прызнаваць, яны будуць мець рацыю…

– Вы ўголас выказалі мае ж думкі.

Словы дыктатара прагучалі, як звон напятай мінорнай струны, як гучанне звона.

Нешта скаланулася ў душы ксяндза, і ён вялікім намаганнем стрымаў у сабе боль, які прасіўся вонкі: “Божа, Езус Хрыстус, ратуй душу Каліноўскага, даруй яму яго грахі і правіны дзеяннямі ці ў думках зробленыя!..”

– Мяне абралі кіраваць, але і на пагібель, на смерць. Для эшафоту... І перад Богам я буду выглядаць грэшнікам.

– Навошта ж так горычна, сын мой Канстанцін? – спытаў святар. – Нельга браць на сябе і прызнаваць тыя грахі, якія яшчэ не здзейсненыя. Гэта толькі ўяўленне.

– Можа і так, – суровеў голас Каліноўскага, – але я яскрава бачу, адчуваю. Мяне не пачулі падчас паразы, мной пагрэбуюць, ахвяруюць і падчас перамогі…

Ксёндз набраў поўныя грудзі паветра, уздыхнуў:

– На вялікі жаль… На вялікі жаль, дарагі мой Канстанцін!Прымаю тваю споведзь, надзеленым мне правам Вышняга здымаю з цябе грахі твае.

Над іх галавой, недзе ў вільчыку сухой сасны, зашчыраваў дзяцел, раструшчваючы шышку, заціснуўшы яе ў расшчэліну.

На іх зляцела дробная шыляга, падала ім на плечы і галовы, быццам першы снег…

– Я сам вазьму ўдзел у заўтрашнім баі, – глуха прамовіў Каліноўскі, – і можа, складу сваю галаву на гэтым полі разам з тымі, каго вёў за сабой…

– А ці трэба тое – удзел у баі? Ты ж кіраўнік паўстання, а не радавы інсургент.

– Калі ж буду ззаду, то ўсе скажуць, што пасылаю інсургентаў на смерць, а сам хаваюся за іх спіны. Я павінен адчуць, як б'ецца сэрца закалота, а не чытаць потым данясенні ці сведчанні відавочцаў і ўдзельнікаў. Ды і праверу…

Ксёндз павярнуўся да яго, удакладніў:

– Праверыш – што?

– Калі застануся жывы, то буду ведаць, што Гасподзь дабраслаўляе мяне на гэтую справу. Калі ж… То тое ўжо будзе азначаць, што стварыў вялікі грэх перад Ім.

Каліноўскі раз-пораз паціраў скроні, баючыся, каб яго не схапіла нечакана нервовая дрыготка і калатун… Не да месца было б тое, не да месца…

Да пляча дыктатара дакранулася нечая рука:

– Адыдзем?

Незнаёмец у нейкім не тутэйшым адзенні, шэрым плашчы да пятаў, важкая сумка праз плячо.

– Хто ты?

– Я – апошні з тых, хто выжыў з атрада Міхала, перадаю вам яго пасланне.

*“Дарагі мой чалавек!* – чытаў Кастусь кароценькі тэкст. – *Не ведаю, як цябе завуць, але ведаю, што ты павінен з'явіцца, што ты ёсць. Воля абрала цябе, як і мяне трыццаць тры гады назад, каб ты натхніў людзей на паўстанне...Тадэвуш Касцюшка перадаў мне некалі жазло-посах і шпагу Рыцара Свабоды. Перадаю іх табе. Мужнасці і стойкасці! І – перамогі! Твой – Міхал Валовіч, кіраўнік сялянскага паўстанцкага атрада”.*

Каліноўскі хацеў пра нешта ўдакладніць у пасланца, але побач нікога не было...

На тым месцы, дзе ён стаяў, злёгку пагойдвалася , уваткнутая ў зямлю, шпага з залачонай ручкай.

Прыхінуты да маладога дуба посах свяціўся таямніча-зіхоткім святлом…

………………………………………………………………………

...Сярод ночы разбудзілі, павялі зноў на допыт.

Паміж следчым і зняволеным стаіць свечка, слабы яе агеньчык хістаецца, вось-вось патухне.

– Опять возвращаемся к нашему разговору, назовите фамилии руководителей вашего бунта…

Следчы ўжо прывык да таго, што Каліноўскі на гэтае пытанне заўсёды адмоўчваўся, таму і не чакаў нічога пачуць.Але нечакана вязень ажывіўся, прамовіў:

– Добра, скажу, калі ўжо так неабходна вашаму следству... Кіраўнік нашага нацыянальна-вызвольнага паўстання маёр амерыканскай арміі, генерал-лейтэнант, кавалер ордэна Цынцыната, верны сын нашай краіны...

– ... верный сын нашей страны, – падахвочваў Каліноўскага следчы да працягу прызнанняў, верачы ўжо, што дамогся свайго, узяў у рукі пісала, абмакнуў яго ў чарніліцу.

– Андрэй Тадэвуш Банавентура Касцюшка!

Следчы расшпіліў сурдут, пачаў занатоўваць на паперы моўленае імя, але тут жа спахмурнеў, насупіўся:

– Вы перепутали время, заключенный Калиновский! Костюшко руководил бунтом, который произошел почти сто лет назад.

– Паўстанне працягваецца яшчэ і сёння. І кіруе ўсім Тадэвуш Касцюшка.

– Бунт подавлен и на этот раз… Вы признаете это, заключенный?

– Не магу прызнаць гэтага. Ні ў якім разе. Паўстанне будзе ісці кожны дзень, кожны год, да тае пары, пакуль не скінем з сябе двухгаловага арла, пакуль не залунае над нашай краінай бел-чырвона-белы сцяг і герб “Пагоня”, пад якімі змагаліся касінеры за сваю незалежнасць...

– Думаю, что этого никогда не будет, – следчы гаварыў ціха, спакойна, і, гледзячы збоку, льга было падумаць ці зразумець, што адбываўся не допыт, а мірна размаўлялі двое людзей паміж сабой.

– Ліцвіны яшчэ дачакаюцца таго радаснага і светлага дня, – прамовіў  Каліноўскі, – бо Бог жыве ў Ліцвініі, і заклікаў народ да вольнага і шчаснага жыцця. Ад Старога свету адмовіцца, і ўвайсці ў Новы... Як і заклікаў Хрыстос да Новага Запавету... І таму на мапе Жыцця з’явіцца Вольная і Незалежная ад усіх Краіна Беларусь!

Маўчанне. Следчы вывучаў позіркам таго, хто сядзеў насупраць. Яму пагражае смяротнае пакаранне, а ён ёрнічае, здзекуецца са следчай камісіі.

– Не понимаю я вас, заключенный Калиновский. Военно-полевой суд может приговорить вас к казни, а вы так безразличны к своей жизни. Вы или сумасшедший, или просто бесчувственный…

Вязень слаба ўсміхнуўся, гледзячы на следчага. На нейкі момант ён яму падаўся нават неблагім чалавекам. Але памятаў, якім ён можа быць – якім быў на трэцім ці чацвёртым допыце.

– А у вас есть семья – жена, дети?

– Не паспеў.

– А невеста, любимая девушка?

Каліноўскі насцярожыўся.

– “Марыська чарнаброва, галубка мая” – это она? – спытаў знячэўку дапытчык, паглядзеўшы ў паперку.

“Няўжо не перадала Ядвіга? Ці адабралі? – пахаладзела ўсё ўсярэдзіне ў Каліноўскага. Але ж мне перадалі, што Марыся атрымала маё пасланне. Тады, значыць, яны яго перапісалі для сябе?”

– Усе мы некага кахаем.

– Но не все посвящают своим суженным стихи.

– Хто на што здольны. Хто дорыць дарагія падарункі, а хто вершы.

За акном пачало ўжо развідняць. Сонца яшчэ не ўзышло, але неба пачынала ружовіцца.

– Тогда я поставлю вопрос немножко иначе. Вы знаете Ямонтов?

– А як жа, ведаю... Ямантаў – высокі горны масіў Паўднёвага Урала, вышыня якога дасягае 1460 метраў. Складзены з крышталёвых пародаў і кварцытаў... Глыбока расчлянёныя схілы пакрытыя мяшанымі лясамі, а вышэй 1250 метраў – травяна-мохавая тундра і камяністыя россыпы. Яшчэ...

– Хватит ваньку валять, – следчы адставіў убок падсвечнік, каб не замінаў агеньчык глядзець вочы ў вочы. – Я рад, что вы осведомлены не только в поэзии и публицистике, но и в географии, минералогии. Похвально знание гор великой России. Я еще раз спрашиваю: фамилия Ямонт – роль ее в вашей жизни?

“Што ім вядома пра брата і сястру? Нехта выдаў? Ці самі выйшлі на след? Што адказаць яму, каб не нашкодзіць, каб не наклікаць на іх бяду?..”

– Вижу, как вы захвачены врасплох, постараюсь помочь вам. Ваша Марыська – это и есть Мария Матвеевна Ямонт?

Нешта халоднае і колкае, бы лядзяш, пашылася пад сарочку. У скроні нехта павольна і настойліва ўганяў тупое шыла.

– Рождения 1843 года. Родилась в Вильно. Активная участница освободительного, как записано, движения. Начало бунтарской деятельности – четыре года назад…

Дапытчык выпрабоўваў позіркам. Каліноўскі вытрымаў, не адвёў вачэй.

– Она же подбивала людей, чтобы они выходили на демонстрации, активно участвовала в создании революционных, а потому и запрещенных организаций, создала так называемый женский комитет, разве не так?

Кастусь маўчаў. Адчуваў у следчага ёсць яшчэ нешта ў запасе.

І як у ваду глядзеў.

– Не будете отрицать, что Иосиф, Язэп или Юзэф Матвеевич Ямонт, который на два года старше своей сестры, также один из руководителей мятежа. Образован, умен, просвещен. Учился там, где, кстати, и вы, – в Петербургском университете. Который окончил три года назад. Принимал участие в тех же кружках, что и вы. Представитель партии "красных". Не понимаю, как можно быть таким неблагодарным, кусать руку кормящей тебя матери? Не стыдно? Не по-христиански это, скажу вам честно, не по-Божески. "Всякая душа да подчиняется высшим властям. Ибо нет власти, кроме как от Бога, а существующие поставлены Богом. Поэтому противящийся власти восстал против Божьего установления; а восставшие навлекут на себя осуждение". Апостол Павел – послание к римлянам.

– Але ж сказана ў Святым Пісанні яшчэ, што нельга ўсоўваць галаву ў чужое ярмо. І Бог наказаў людзям стаяць у свабодзе, якую дараваў Хрыстос, і не падпадаць пад іга рабства. Мы не хочам быць рабамі.

– Я вам про Фому, а вы мне про Ерёму. Нужно уметь отвечать за содеянное, отдавать долги… Юзэф Ямонт, как и вы,– государственный преступник. Еще в прошлом году стал вашим секретарем, руководил бунтом. Вы не раз посещали яго квартиру. Потому что она являлась не одной ли из главных конспиративных квартир вашей организации. Это вы поручили, если не приказали Иосифу Ямонту, вести переговоры-диспуты с Варшавой. А его инструкции для местных повстанческих структур заслуживают наивысшей похвалы. Да, да… Похвалы. Любой, прочитав их, не исключено, возьмется за вилы или топор…

“Здзекуецца? – падумаў Каліноўскі, успамінаючы, як і сам хваліў Яманта за дасканаласць інструкцый, аб’явіў нават яму падзяку. – Мо і пра гэта даведаліся?”

– Вы удивлены? – нечакана папытаўся ў яго следчы.

– Ды не, хіба ж гэта сакрэт?

Следчы ўжо адкінуўся вальяжна ў крэсле, расшпіліў на горле адзін гузік сурдута – было душна.

– А в сентябре, в прошлом году, вы его в Минск отправили. Чтобы он там создавал повстанческие организации, способствовал тому, чтобы они активизировали свою работу. Он, надо сказать, отлично справился с поставленной задачей. Более того, уже через месяц стал повстанческим комиссаром всей Минской губернии. Но как высоко взлетел, так и низко упал. Арестовали его, сослали… Куда, спросите вы? Скажу – в Сибирь, куда сослали многих касинеров, в Томск. Сказать о вашей невесте?

Ледзь заўважна Каліноўскі кіўнуў галавой.

– И ее, если не сослали сегодня, то вот-вот сошлют вместе с родителями и сестрой в Сибирь – в Тобольск. Видите, сколько вам я рассказал интересного, а вы не желаете, хотя бы в знак благодарности, поделиться именами своих сподвижников. Я не торговался с вами, но надеялся, что вы приоткроете свои секреты и тайны.

– Усе тайны вы, як я бачу, раскрылі. Самі ж пра тое сказалі. Мне няма нічога і дадаць да пачутага.

– Не все. Да, может, то уже и не так важно. Бунт подавлен, участники получили по заслугам. Это разве что уже для истории. Мое имя в истории не останется, а ваше будут вспоминать, копаться в вашей биографии и деятельности не одно столетие. Будут добиваться истины как ваши приверженцы, так и ваши оппоненты. Не хотите вы им облегчить задачу и поставить всё на место? Поставьте сами кой-какие точки над «і».

– Навошта? – паціснуў плячыма Каліноўскі. – Гісторыі без загадак і таямніцаў не бывае.

На гэты раз маўчаў следчы.

Маўчанне зацягнулася. Стаміўся і Шалгуноў, але найперш Каліноўскі.

– Напрасно, скажу я вам откровенно, упорствуете, напрасно. Участник виленской организации Станислав Ожешко, когда его арестовали, дал в следственной комиссии подробнейшие показа-

ния о составе виленского повстанческого центра, и там же называет вас, дворянин Калиновский, руководителем отделения внутренних дел. В наши руки попал Игнатий Зданович. Его мы арестовали в Заречье, на Полоцкой улице, в собственном доме. В Вильно мы арестовали повстанческого комиссара Лидского уезда Витольда Гажича. Он так же дал показания чиновнику канцелярии колежскому асессору Евроинову о петербургской студенческой организации "Огул" и подтвердил вашу роль в создании этой организации. Еще раньше арестован повстанческий комиссар Виленского воеводства Мечислав Дормоновский. Он находится здесь, в этом здании. Готов подтвердить многие факты вашей преступной деятельности. В Вильно мы задержали Феликса Зенковича... Он жил на бывшей квартире Бонольди и Молоховского... Мы знаем все до мелочей. И потому бесполезно что-то скрывать.

Вязень маўчаў. Можа, ён і не чуў, пра што казаў Шалгуноў, а мо і чуў, ды не рэагаваў на яго пытанне.

– Скажу в подтверждение своих слов. Вы вместе с Малаховским издали секретный приказ-задание резчику Генриху Штейману, чтобы он изготовил для виленского повстанческого центра новую печать с надписью: "Литовский Комитет. Свобода. Равенство. Независимость". Комиссара Варшавского жонда в Вильно Нестора Дюлерана вызвали срочно в Варшаву. Перед отъездом он передал вам печать. Еще. Малаховский, как повстанческий начальник города, подписал смертный приговор губернскому предводителю дворянства А.Домейко – инициатору подачи верноподданического адреса батюшке царю. Вы же сам дворянин, как так можно?

Вязень наструніўся:

– У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!

– Генерал-губернатару Михаилу Николаевичу Муравьёву был представлен первый верноподданический адрес с 235 подписями виленских дворян. А это означает, что дворянство, поняв свою ошибку, начало открыто отходить от вашего мятежа. Но вы, в противовес, издаете приказ о сборе подписей под контрадресами, которые вы намеревались напечатать в печати за границей. И это вменяется вам в вину. А потом мы арестовали Гейштера и Зигмунта Чеховича. Перед арестом Гейштера вручил печать Отдела члену виленской организации Цитусу Долевскому для передачи вам. Я правильно всё излагаю, дворянин Калиновский? Долевский становится одним из ваших ближайших друзей. Не

так ли? Мы арестовали и резчика Штеймана. Он во всех подробностях рассказал, как добраться до виленского повстанческого центра. Вот тогда мы и завели вместе с генерал-майором Соболевским дело “О лицах, участвующих в виленской революционной организации...”

Палкоўнік Шалгуноў падышоў да акна, спыніўся, абаперся адной рукой на падаконнік. Ужо адтуль ціха гаварыў:

– Видите, вы обречены. И вы лично, и ваш мятеж. Видите, какие ненадёжные люди окружали вас. Всё выдали, предали и вас. И вы во многом признались.

– Я ні ў чым не прызнаваўся.

– Вы подтвердили свою фамилию и участие в бунте. И этого достаточно. Мне просто интересно, отчего вы так упорствуете.

Ужо сонца зазірнула ў акно, пранізала мутнае шкло, высвеціла на шэрай сцяне пакоя квадраты і прамавугольнікі.

– Ну, что же, Викентий Константин Семенович Калиновский, – следчы абапёрся на падваконне, – на этом мы прекращаем допрос. Жаль, что вы чистосердечным признанием не облегчили свою судьбу, очень жаль. А могли бы сохранить себе жизнь. И не только себе, а и другим. Но это уже на вашей совести.

Канстанцін схіліў галаву. Чакаў нейкіх апошніх слоў, чакаў і баяўся іх пачуць. Хаця нікуды не мог падзецца ад непазбежнасці.

– Заседание военно-полевого суда пройдет в ближайшее время.

Следчы паклікаў канваіраў.

– На прощание мне вы ничего не хотите сказать, заключенный Калиновский?

Дайшоўшы да дзвярэй, вязень азірнуўся:

– Хачу сказаць. Дзякуй, што не білі сёння.

– И всё?

– Усё.

Калі зайшоў у камеру і сеў на ложак, прымацаваны да сцяны, пачуў, як на падваконні завуркатаў голуб.

“Шле мне Марыська сваё пасланне? – падумаў горычна і радасна, не ўстаючы і не кладучыся. – Адкуль? З Сібіры, ці яна тут яшчэ, у Вільні? Мо і схлусіў следчы, а мо і праўду казаў”.

Ён узяў са стала люстэрка, падышоў да акна. Расчыніў фортку, уставіў туды руку з люстэркам, павярнуў яго, так, каб бачыць будынак былога манастыра - кляштара. Пільна прыгледзеўся. Па

вуліцы, перад кляштарам, хадзілі людзі. А вокны манастыра былі ўсе зарашотчатыя і аднолькавыя.

“За якім акном знаходзішся ты, мая чарнаброўка? *“Не наракай, Марыся, на сваю бяздолю, но прымі цяжкую кару, Прадвечнага волю, а калі мяне ўспомніш, шчыра памаліся, то я з таго свету Табе адзавуся…”*

Голуб стаіўся ў кутку падваконня, маўчаў.

5

Баляслаў Калышка стаяў збоч, назіраў за тым, што адбывалася вакол, да ўзбуджанага натоўпу не падыходзіў. Ужо колькі дзён прыходзяць на гэтае месца студэнты, бунтуюць, гавораць высокія словы, лозунгі. Асмялелі, не баяцца ні паліцыі, ні арыштаў.

“Яны падаграюць адзін аднаго крамольнымі прамовамі, запальваюць, стараюцца ўзбіцца на самаробную трыбуну, – думаў Баляслаў. – Але ж, хлопчыкі мае, гэта гульня ў рэвалюцыю… А я жадаю ў яе не гуляцца і таму прамаўчу…”

– Мы патрабуем увядзення ва ўніверсітэце дэмакратычных пераўтварэнняў! – ускінуў уверх руку студэнт у акулярах. – Мы задыхаемся ў багне дэспатызму!

Другі, ледзьве не адпіхнуўшы хлопца, кідаў у натоўп сваё:

– Мы павінны ўдзельнічаць у кіраванні ўніверсітэтам, выбіраць прафесараў!

– Вызваліць бедных студэнтаў ад платы за навучанне! – агучваў сябе трэці.

Побач з Калышкам спыніўся сярэдніх гадоў мужчына, прыслухаўся, што гаварылі прамоўцы, плюнуўшы сабе пад ногі:

– От разбэсціліся! Балаболяць абы-што, рэвалюцыі ім захацелася! Брыдота!

Амаль паўмесяца, пачынаючы з сярэдзіны верасня, бунтавала, бурліла студэнцтва. Універсітэцкі сад ператварыўся ў арэну спаборніцтва ў красамоўстве. Збоку можна было падумаць, што гэта тэатральнае выступленне акцёраў.

Гучалі словы пра дабро ў грамадстве, пра свабоду, прагрэс і справядлівасць, гуманнасць і волю… Ніхто з месцічаў, калі праходзіў паўз гэты вэрхал, надоўга не спыняўся. Баляслаў, як звычайны назіральнік збоку, адзначаў: “Чаго і для каго ж вы, хлопцы, так шчыруеце?”

Пачало імжэць, але ніхто на тое не звяртаў увагі. Калышка схаваўся пад кронай ліпы. Здалёку ўбачыў, як спыніліся каля металічнай агароджы браты Уладзімір і Эдуард Адольфы. Спачатку было жаданне падысці да іх, перакінуцца словам-другім, але падумаў, што і за імі, і непасрэдна за ім быў устаноўлены тайны нагляд, і таму ім ні ў якім разе нельга выказваць знаёмства.

А ўсё з-за той паездкі падчас вакацый у Ліду. Агітавалі сялянаў. А перад гэтым Калышка спрабаваў сябе ў якасці агітатара сярод расійскіх афіцэраў.

Выдатна граў на раялі, спяваў песні, і асабліва любіў спяваць "Яшчэ Польска не згінела..." Пры ім заўсёды былі пракламацыі і герцэнаўскія памфлеты, і ён пры любой магчымасці па-змоўніцку ўсоўваў іх у кішэні афіцэраў. Тое ж рабіў Баляслаў і ў Лідзе. Нехта данёс, і іх узялі "на кручок".

Жандарскі падпалкоўнік Сямён Адамовіч адразу ж накіраваў рэляцыю начальніку імператарскай канцылярыі князю Васілю Даўгарукаму: браты Адольфы ды іх таварыш Баляслаў Калышка "ўзбуджаюць народ у горадзе і ў мястэчках, спяваюць абуральныя гімны, прапаведуюць нянавісць да ўрада; раздаюць напісаныя гімны і літаграфіраваныя замежныя заклікі".

Падпалкоўнік паведаміў пра тое віленскаму губернатару генерал-ад'ютанту Уладзіміру Іванавічу Назімаву. Назімаў не меў жадання ўлазіць у палітычныя справы, лічыў, што ён пасланы для больш высокай місіі – быць прымірэнцам палякаў і рускіх, таму асцерагаўся прымаць крутыя меры. Нічога лепшага не прыдумаў, як выслаць Калышку з краю, адправіць назад у Маскву – няхай з ім разбіраецца рэктар універсітэта Альфонскі. Праўда, для блізіру Калышка быў арыштаваны, але следства далей не пайшло.

Баляслаў стаў пасля гэтага больш асцярожны. Кіруючы польскім таварыствам як прэзідэнт, ён разам са сваім аднадумцам і сябрам Андрэем Зільвяровічам стараўся пераканаць студэнтаў з "Агула" ў тым, што яны павінны дзейнічаць супольна з расійцамі. Калі была атрымана згода, то разам і напісалі "Зварот студэнтаў-палякаў да расейскіх студэнтаў". Ідэя звароту: у абодвух народаў існуе адзін галоўны вораг – царызм.

Нехта асцярожна крануўся пляча Баляслава. Побач з ім стаяў студэнт, які трымаўся воддалеч ад тэатральнага дзейства.

– Баляслаў Калышка? – спытаў, гледзячы ў вочы, хлопец.

Калышка нейкі час раздумваў – уступаць з ім у размову ці не, але, бачачы спакойны і даверлівы выраз твару, кіўнуў галавой:

– Так.

– А мяне ты ведаеш?

– Ведаю. Ты адносішся да памяркоўных студэнтаў. Мікалай Раеўскі, сын вядомага генерала Раеўскага.

– Правільна. Ты, мусіць, усіх студэнтаў ведаеш? Кіруеш "Агулам".

Такая дасведчанасць студэнта не спадабалася Баляславу:

– Што табе трэба ад мяне?

– Ты мяне не бойся, я хачу памагчы табе.

– Мне – памагчы? Ты?

– Я. За табой арганізаваны нагляд. Круглыя суткі за табою сочаць. Я памагу табе пазбавіцца ад нагляду.

– Якім чынам, Мікола?

– Маскоўскі генерал-губернатар Тучкоў, паважаючы майго бацьку, паклікаў мяне да сябе і параіў, каб я склаў вернападданы адрас "на высочайшае имя", і тым самым адвёў усялякія падазрэнні аб нашым удзеле ў падбухторванні студэнтаў, і тады ад нас адстануць жандары…

"Вось яно што, – зразумеў Баляслаў, – на калені перад царом прапаноўвае стаць, боты лізаць царскія…"

– Ну і што з таго?

– Калі сябры "Агула" паставяць пад гэтым адрасам свае подпісы, то нікому за ўдзел у маніфестацыях нічога не будзе.

Баляслаў кісла ўсміхнуўся, гледзячы на сына слыннага генерала, прамовіў:

– Пра твой "адрас" мы даведаліся адразу ж, як ты яго склаў. Мы ўсе паважаем твайго бацьку, але гэта не адносіцца да цябе. Мы ўчора абмяркоўвалі гэтае пытанне, ставілі нават на галасаванне, – будзем ставіць свае подпісы ці не.

– І што? – спытаўся аўтар "адраса".

– Анічога – усе супраць. Думаю, што, гледзячы на нас, таксама ж зробяць тое і астатнія студэнты. Колькі ты сабраў ужо подпісаў?

– Восемдзесят.

– А студэнтаў дзве тысячы. З нашых чатырыста, як вы кажаце, палякаў, у тым адрасе не будзе ніводнага.

Раеўскі нахмурыўся, нядобра бліснуў спадылба калючым позіркам, здаецца, хацеў нешта пагрозлівае сказаць, ды перадумаў.

На наступны дзень, трыццатага верасня, разгарачаныя прамовамі, асмялелыя ў сваёй непакаранасці, студэнты з універсітэцкага саду рашылі ісці да палаца генерал-губернатара Тучкова. Баляслаў папярэджваў, што не след гэтага рабіць, што гэта нічога не дасць. Не паслухаліся.. Жандары ў імгненне вока разагналі маніфестацыю, ды яшчэ добра прайшліся па спінах найбольш актыўных студэнтаў.

Праходзілі паўз Баляслава людзі, якія бачылі разгон студэнтаў Маскоўскага ўніверсітэта, уголас выказваліся:

– Так ім і трэба, паганцам! Залішне ім волі далі!

Такія адносіны да разгону для Калышкі не былі адкрыццём. Які раз гаварыў сабе: “Не, не так трэба рабіць рэвалюцыйную справу, не так! Зрабілі буран у шклянцы вады – і што? Хто іх пачуў, хто адобрыў іх дзеянні? Аніхто…”

Пасля першых прымаразкаў першае зжоўклае лісце залатоўкамі ападала з дрэваў, клалася на зямлю.

Восень убіралася ў сілу.

А ў справе паўстання толькі распачыналася вясна. Буйна і порстка калючыя чырвоныя ружы закалота пайшлі ў рост, гатовыя раскрыцца сваімі пялёсткамі зыркаму сонцу.

Баляслаў Калышка ішоў па вузкай вулачцы Масквы. Накіроўваўся да месца свайго пражывання, дзе чакалі яго сябры з “Агула”. Гэтым вечарам намерваўся строга і сур’ёзна пагаварыць з імі – дзіцячыя гульні скончылася, вецер з галавы выветрыўся, прыйшла пара станавіцца мужчынамі і сапраўднымі барацьбітамі за заўтрашні дзень.

Ведаў, што хутка могуць пачацца арышты, не адзін студэнт спыніць сваё навучанне ва ўніверсітэце. Прыняў для сябе цвёрдае рашэнне – не дасца ў рукі жандарам. Прыйдзецца пакінуць Маскву, пакінуць увогуле імперыю. Тая навука, якую цяпер асвойвае, нічога не дасць будучай барацьбе. Трэба вучыцца ваеннай справе, толькі так можна стаць карысным агульнаму закалоту. Толькі са зброяй у руках можна перамагчы царызм, а не маніфестацыямі і прамовамі.

Перад гэтым Баляслаў адправіўся ў Італію, у горад Кунеа, дзе знаходзілася польская ваенная вучэльня. Там ужо вучыліся Фелікс Віславух, Зігмунд Мінейка, Раман Рагінскі, Францішак Нарбут, Павел Сузін, Уладзік Яблаcноўскі, Геркулан Карповіч… Сустрэўся з выкладчыкамі – вядомымі дзеячамі і правадырамі Польскага

нацыянальнага руху Людвігам Мераслаўскім, які выкладаў гісторыю і геаграфію, Зігмунтам Кацлеўскім – выкладаў стратэгію і тактыку, Аляксандрам Валігурскім, выдатным знаўцам хіміі і тапаграфіі…

Яны ўхвалілі яго рашэнне вучыцца.

……………………………………

Марыська, галубка мая!

Вось і сказаў мне сёння следчы, што праз тры дні адбудзецца ваенна-палявы суд. Усё праясняецца. Наперадзе – вядомы гарызонт. За гарызонтам – ноч і цемра.

Мяне мой асабісты лёс не хвалюе, я адно непакоюся за цябе, мая каханая! Ці праўда тое, што цябе з бацькамі намерваюцца саслаць у Сібір? Мо тое і добра, не ведаю.

Чую званы Знаменскай царквы, гул званоў касцёлаў Усіх Святых і Святой Ганны…

Ці не змарыў я цябе, мая Марыся, сваімі развагамі і ўспамінамі? Бо дужа хочацца выказацца ўжо да канца.

Перадай усім, каго не кранулася чорнае крыло рэпрэсій, каб свята захоўвалі архівы ранейшых паўстанняў, і, найперш, нашага. Каб пра нас ведалі праўду, каб не дамыслівалі і не скажалі яе, не перайначвалі на свой капыл. Хай гавораць пра нашыя памылкі і хібы, – мы зрабілі ўсё, што было ў нашых сілах.

Веру: некалі на нашай ліцвінскай зямлі будзе пастаўлены помнік нашым касінерам. І Якубу Ясінскаму, і Тадэвушу Касцюшку, і Міхалу Агінскаму, асветніку Радзівілу – Мацею. Радзівіл горача падтрымаў канстытуцыю 3 траўня, прыняў самы актыўны ўдзел у паўстанні 1794 года, на свае грошы ўзброіў некалькі атрадаў пяхоты і кавалерыі. Я вельмі люблю яго оперу “Агатка”. Бо ў ёй ён паказаў сялянаў, якія маюць права на “натуральнае шчасце”, што яны – карміцелі свету... Усіх не пералічыць, каго павінны ўславіць нашчадкі, хто паклаў на алтар шчасця Айчыны свае сэрцы...

Марыська, мая каханая, мая адзіная!

Ужо вечар. Вечар не на зямлі, а ў маім жыцці. Ужо сонца дакранулася брыжыкам да гарызонту. Яно гатова вось-вось нырнуць за шэра-чорную лінію і знікнуць. Так знікне і маё жыццё...

Галубка мая, чарнаброўка!

Усё мае свой пачатак, працяг і сваё сканчэнне.

Як сказана ў Эклезіяста? *"...Пара раскідваць камяні, але прыйдзе пара і збіраць тыя камяні".* Вось і я збіраю тыя камяні, і назбірваецца іх цэлая аграмадная крушня.

Не ведаю, ці стамілася ты мяне слухаць, але я не стаміўся пісаць свой доўгі, без сканчэння, ліст. Бо амаль сказаў усё, што збіраўся, але яшчэ больш засталося нявыказанага.

Што не дагаварыў, дагаворыць час, што не здзейснілі мы, давершыць час і нашчадкі. І таму я табе кажу не "бывай", а крычу ў прастору: "Да сустрэчы!"

Да пабачэння, Марыся! Памятай мяне, не забывай!

*Твой – Вікенцій Кастусь Сямёнавіч Каліноўскі, Яська з-пад Вільні.*

…………………………………………………

... І да Кунеа дацягнуліся шчупальцы царскага монстра-спрута. Царскі агент штодзённа сачыў за дзеяннямі не толькі навучэнцаў вучэльні, а і саміх выкладчыкаў, дакладваў у Пецярбург: "Маладая шляхта незадаволена ваеннымі парадкамі ў школе. Студэнт Маскоўскага ўніверсітэта арганізаваў і там сваю партыю. Ён не раз заяўляў на сходках, што не пацерпіць насілля над асобай".

Кадэты маглі застацца ў Італіі, але займацца іншай справай, а маглі ехаць у Парыж, далучыцца да эмігранцкай плыні, якая рыхтавала паўстанне. Наладзілі сход, на якім рашалі, як быць далей.

Геркулан Карповіч адразу завяіў:

– А тут і думаць доўга не трэба – прабірацца будзем у родныя мясціны, на Беларусь!

Баляслаў паглядзеў на сваіх землякоў, якія сталі яму сябрамі, зразумеў: усе яны за гэтую прапанову, і таму рознагалоссяў не будзе.

– Згодзен! – адобрыў іх намеры і Баляслаў. – Будзем прабірацца нелегальна.

Праз колькі дзён яны прыбылі на прызначанае месца.

З радасцю пачулі, што на поўную сілу пачаў дзейнічаць падпольны Літоўскі правінцыйны камітэт, які меў за галоўную мэту рыхтаваць паўстанне ў Літве, – у Ковенскай, Віленскай, Гарадзенскай і Менскай губернях.

А на Беларусі геаграфія разлягалася на Віцебскую і Магілёўскую губерні.

Сустрэўшыся з Вікенціем Канстанцінам Каліноўскім, расказаўшы пра свае прыгоды і пра маскоўскія падзеі, пра "Агул", пачуў ад дыктатара:

– Далучайся да нашай дзейнасці. Нам трэба абавязкова і як найхутчэй сфармаваць паўстанцкі атрад у Ковенскім павеце.

У мястэчка Чэкішкі Баляслаў прыехаў праз два дні. Яно знаходзілася над ракой Дубісай – не надта шырокай, але плыткай. Лагер паўстанцаў месціўся воддалеч ад Чэкішак – пад засенню высозных дубоў і ясакараў. Правёў туды яго мясцовы жыхар – Раман Нарбутовіч.

Пад вечар яго адшукаў ксёндз Апанас Наравойша. Радасна абвясціў:

– Мы тут у шапку не спалі. Маем ужо вялікі гурт паўстанцаў. Народ апантаны і смелы. Кожны дзень людзі прыбываюць і прыбываюць. Найбольш бацькі з сынамі.

Ксёндз не мітусіўся, але сказаць, што ён быў памяркоўны і абыякавы, не выпадала. Адзенне яго не выдавала святара, толькі голасам адрозніваўся – раз за разам паўтараў "Езус Хрыстус", "Святая Багародзіца"... Росту сярэднягя, хударлявы, на шчацэ бародаўка, сінія вочы пад густымі бровамі, барада.

"Мусіць жа, такі і адважны, як і разумны, – падумалася Баляславу, – цвёрды характарам і непахісны ў перакананнях... Пашчасціла мне мець такога намесніка, сам Бог паслаў".

– Ці ўсё так добра, як вы кажаце, святы айцец? За што ж будуць змагацца жамойцкія сяляне? Хто здолеў за такі кароткі час зрабіць з іх касінераў і інсургентаў? Па дарозе сюды мне апавядаў пра вас Раман Нарбутовіч. Казаў, што вас паважаюць і любяць мясцовыя сяляне, што вы карыстаецеся вялікай павагай у іх.

Ксёндз усміхнуўся, паглядзеў некуды ў засмужаную далеч.

– Так, усё так, дарагі Баляслаў! Акрамя таго, што я на імшы даводжу людзям пра аднаўленне свайго жыцця, гавару з кожным і паасобку. Прыводжу словы з Бібліі. Кажу, што ёсць Стары Запавет – учарашні дзень чалавецтва, але Езус Хрыстус падараваў нам Новы Запавет, па якім мы павінны будаваць сённяшняе жыццё. Паўтараю, што мы павінны памяняць саміх сябе, а потым урад, які прыгнятае народ... Каб сказаць, што мы дайшлі да сэрца кожнага селяніна, не магу. Жамойты падымаюцца на барацьбу з царскімі ўладамі толькі з-за таго, што тыя груба зняважылі каталіцкую веру...

– А за Айчыну?

Ксёндз уздыхнуў, паклаў далонь на калена Баляславу:

– А вось тут… А вось тут іх нянавісць да цара і заканчваецца. Колькі я ім ні даводжу, што трэба глядзець глыбей і шырэй, паразумення не знаходжу: адказваюць маўчаннем. Вось разам з вамі, дарагі Баляслаў, чаго-небудзь даб'емся, каб браты жмудзіны зразумелі, што абараняць неабходна не толькі сваю веру, а і Айчыну, якая завецца Літва-Беларусь…

Калышка злёгку ўсміхнуўся, зазірнуў у блакітныя вочы святара:

– Вы мне ўсё роўна як казань прачыталі. Дзякуй за шчырасць, хаця вы трошкі і астудзілі мой пыл.

Ксёндз наклаў на сябе крыж, прамовіў:

– Не адчайвайцеся, дарагі Баляслаў! Селянін паразумнее, калі са зброяй у руках уступіць у бой з царскімі жаўнерамі. Для яго чужая мова – як і чужая рэлігія, костка ў горле. Здабудзецца рэлігія, а следам за ёй і воля.

– Хай будзе так!

– Будзе так! – падсумаваў размову Наравойша. – Усё ў руках Езуса Хрыстуса!

…Раніцай, на золку, яго разбудзілі. Той жа Раман Нарбутовіч:

– Таварыш камандзір, новая партыя паўстанцаў прыйшла.

Прыйшлі сяляне. Убачыўшы, што да іх ідзе Баляслаў, скінулі магеркі. Гэта здзівіла яго, і ён, не хаваючы ўсмешку на твары, спытаў:

– Што вы, як перад панам якім, шапкі здымаеце? Як гэта разумець?

Самы старэйшы з іх, відаць, ніколі за словам у кішэню не лезе, мовіў:

– А мы не шапкі перад панам здымаем, мы камандзіра войска вітаем!

– Што ж, тады добрай раніцы, дарагія! Рад, што наша войска папаўняецца. Я буду вашым камандзірам. І завуць мяне Баляслаў Калышка. Колькі вас і адкуль?

– Дваццаць тры чалавекі, – адказаў той жа бойкі селянін. – З пяці найбліжэйшых вёсак мы прыбылі. Астатнія абяцалі прыйсці праз колькі дзён, збіраюцца пакуль. Мяне завуць Ігнат Сулімскі, а гэта мае трое сыноў.

– Добра. Шукайце сабе месца, ладзьце часовае жытло, каб схавацца ад слоты. Вам паможа Нарбутовіч.

Ігнат Сулімскі падышоў да Баляслава.

– Пытанне нас хвалюе спадар камандзір. Як са зброяй? Мы што-кольвечы прыхапілі сваё – косы, вілы, сякеры, але гэта так, каб не з пустымі рукамі. А ці ёсць штуцэры, абмундзіраванне, абутак?

Калышка, прызнаўся:

– З гэтым пакуль затрымка. Не на ўсіх хопіць. Але праз тры дні павінны падвезці штуцэры і шаблі.

А праз гадзіну з Коўна Жарскі прывёў атрад моладзі. Далажыліся па-ваеннаму, пашыхтаваўшыся ў шарэнгу.

Баляслаў прыняў даклад, паціснуў руку Жарскаму.

– З прыбыццём вас!

А потым падышоў да хлопцаў.

– Інсургенты! Вы гатовы змагацца з царскімі салдатамі?

– Гатовы, таварыш камандзір! Чакаем, калі павядзеш у бой!

– Прыдзе пара! Рыхтуйцеся.

Недзе пад поўдзень Баляслаў сабраў усё сваё войска:

– Прашу раздзяліцца на тры атрады, так, каб ведалі адзін аднаго. Першым атрадам будзе даводца Радовіч, другім – Жарскі, ну і трэцім – Барэйша. Барэйша – рускі афіцэр, але з намі і наш. З сялянаў.

Баляслаў нерваваўся – вось-вось павінны ўступіць у бой, а зброю па-ранейшаму не давезлі, як абяцалі. Голымі рукамі царскіх жаўнераў не возьмеш. А чым узброеныя інсургенты? Некалькі паляўнічых стрэльбаў ды тузін пісталетаў. Было адно спадзяванне, што пашанцуе паўстанцам у баі, раздабудуць зброю ў жаўнераў. Але то было хісткае спадзяванне.

Першы бой адбыўся 29 сакавіка, каля мястэчка Высокі Двор, дзе і знаходзіўся атрад.

І боем тое нельга было назваць, бо на іх напалі знянацку. Царскія салдаты пад покрывам густога туману падпаўзлі да паўстанцкага пікета, бязгучна знялі вартавых – падкраліся ззаду і перарэзалі горла, потым незаўважанымі падбеглі да аванпоста, захапілі дом лесніка. Рота пяхоты і сотня казакаў Капорскага палка, камандзір – маёр Сцяпанаў.

Дом лесніка падпалілі з усіх бакоў. Не выйшлі з агню пятнаццаць інсургентаў.

Але з аванпоста ніхто не загінуў. Адстрэльваючыся, адступілі да лагера.

Баляслаў Калышка падняў інсургентаў і рашыў іх павесці ў абыход царскіх жаўнераў. Спадзяваўся ўдарыць ім у тыл, знянацку. Ды праціўнік аказаўся хітрэйшым за паўстанцаў. Вайскоўцы выйшлі з лесу на чыстае, адкуль можна было расстрэльваць паўстанцаў па адным.

Атрымаў раненне сам Баляслаў, але лёгка, куля не кранула косткі левай рукі. Паўстанцы падалі мёртва, адзін за адным.

– Назад! – прыняў рашэнне камандзір. – Адступаем!

Загінула шаснаццаць інсургентаў, а больш палавіны разбеглася.

Баляслаў непрыкметна паслаў пасыльнога да Даленгі. Праз нейкі час ад яго – Серакоўскага – прыйшоў загад: “Кірунак – да вёскі Ланчай”.

Але ніхто не ведаў, што там стаіць атрад былога маёра рускай арміі Томаша Кушлейкі.

Сілы паўстанцаў менелі на вачах. Аб’яднаны атрад налічваў ужо не больш за сем сотняў. Добрая сотня не мела аніякай зброі, нават касы ці сякеры.

Усе царскія войскі, што знаходзіліся ў Шавельскім павеце, былі кінутыя на атрад Калышкі. Імкнуліся акружыць. Каб пазбегнуць гэтага, вырашана было прарывацца. І тое ўдалося. Уступаць у бой з пераўзыходзячымі сіламі царскага войска было б самазабойствам, таму пераязджалі з месца на месца, і маршамі падтрымлівалі сваё існаване.

Баляслаў паклікаў да сябе Жарскага.

– Узначаліш адступленне. Бурыце за сабой масты. Знішчайце сялянскія ўправы.

– А ты, Баляслаў?

– Я? Я вазьму восемдзесят інсургентаў, і мы рушым праз Эйраголу за Дубісу.

Манеўр Калышкі, як ні стараліся прабірацца скрытна і незаўважна, разгадалі. Калі падыходзілі да мястэчка Міцоны, на іх нечакана абрынуліся і атакавалі чатыры роты і два эскадроны уланаў палкоўніка Бажаранава.

Атаку вытрымалі.

Царовы салдаты адкаціліся, што дало магчымасць вывезці абоз у бяспечнае месца. Баляслаў і яго войска адступіла ў лес. Адыход прыкрывалі трынаццаць стралкоў, якія спынілі чарговую атаку жаўнераў.

– Га, маскалі, з’елі? – крычаў у іх бок Калышка. – Вы толькі здольныя  ваяваць з бяззбройнымі, а калі ў руках у нас штуцэры, то вы ў штаны наклалі! Вая-які!

“Які-які…” – паскакала рэха некуды ў гушчар, заблыталася ў кустоўі і аціхла.

– Малайцы, хлопцы! – пахваліў камандзір сяброў свайго атрада. – Колькі стрэльбаў здабылі ў баі?

– Дваццаць, таварыш камандзір!

– І то здабыча. Ёсць чым ваяваць. Ёсць загінулыя?

– Няма! Усе жывыя.

– Найвялікшая падзяка! Уратуй нас Бог!

Пераправіўшыся цераз раку Дубісу, атрад падышоў да ракі Шушвы і сходу фарсіраваў яе.

Карнае царскае войска разлічвала знянацку заспець калышкаўцаў, як мінулы раз, і разграміць іх. Але якім было здзіўленне царскага афіцэра, калі перад вачыма яго грэнадзёраў адкрылася відовішча пустога лагера. Курэлі толькі галавешкі на месцы нядаўніх кастроў.

А да ствала дуба быў прымацаваны шэры аркуш паперы, на якім Калышка напісаў буйнымі літаратамі: “Маскалі! Вымятайцеся з нашай краіны! Інакш напаткаеце смерць!”

– У пагоню! – загадаў палкоўнік Сікорскі, расчараваны ўбачаным.

Але ў які бок ісці, на якіх лясных дарогах перастрэць паўстанцаў, ніхто не ведаў. Каманду ўсё ж выканалі – рушылі спехам у невядомыя нетрыскі лесу.

А тым часам  паўстанцы затаіліся за Шушвой – іх надзейна схавалі кроцкія лясы. Ведалі, туды, у балотнае царства не ступіць ні адна нага карніка царскага войска. Добра адаспаліся, а потым Баляслаў Калышка сабраў сход інсургентаў. Прыдзірліва агледзеў кожнага, застаўся задаволены адзеннем, абуткам. І што галоўнае – у кожнага зброя. Баявы, паўнацэнны атрад.

– Вось цяпер мы можам ісці на злучэнне з Серакоўскім! – абвясціў камандзір.

Даленга-Серакоўскі абрадваўся, убачыўшы, як да яго падыходзіць Баляслаў. Аванпост задоўга да гэтага сустрэў атрад Калышкі, адразу ж і паведамілі пра тое Серакоўскаму.

– Вітаю, Баляслаў! Малайцы, што дабраліся. Разам мы – сіла!

Палічылі свае рады – каля чатырохсот пяцідзесяці баяздольных змагароў.

Адпачылі з дарогі, атрад Калышкі накармілі як належыць.

– Куды далей рушым, таварыш Даленга? – пацікавіўся Баляслаў, калі яны селі ў зацішак дрэў, дзе і было, мусіць, месца галоўнага штаба паўстанцаў.

– Да Курляндыі наш шлях ляжыць, – дастаў са скураной сумкі, што вісела за спінай, мапу, разгарнуў яе перад сябрам, – вось па гэтай дарозе. А па дарозе да нас далучыцца атрад ксяндза Антона Мацкевіча. Калі мы аб'яднаемся, то сілы нашыя павялічацца...

Абодва схіліліся над мапай, вывучаючы дарогі і шляхі, што вялі ў патрэбны бок. Узважвалі ўсё, узгаднялі, пераправяралі. Прыйшлі да ўзаемазгоды.

Калі па дарозе злучыліся з паўстанцамі Мацкевіча, то і рашылі атабарыцца ў глухім лесе, зрабіць інспектарскую праверку. Не забывалі і пра разведку. Рыгор Сямашка па заданні Даленгі адольваў дзясяткі кіламетраў на сваім скакуне. З'яўляўся то ў адным месцы, а праз гадзіну выныраў за колькі вёрст у іншым, выцікоўваючы карнікаў.

Калі пачалі ладзіць вячэру, Сямашка на ўспацелым кані падляцеў да Серакоўскага:

– Таварыш Даленга! На нас накіроўваецца тры роты пяхоты і эскадрон уланаў.

– Хто камандзір, не дазнаўся?

Выціраючы лоб рукавом світкі, кіўнуў галавой:

– Ведаю – маёр Каўра, бязлітасны карнік. Звер, а не чалавек.

– Дзякую, Рыгор, за весткі. Адпачывай.

Зноў нарада, цяпер ужо і ксёндз Мацкевіч далучаны да сойміка. Падпёр бараду рукой, задумаўся. На ім даўгая світка, скураныя боты, не расстаецца з шабляй, якая не раз выручала яго ў баі.

– Пара правучыць іх, Даленга, даць ім прыкуркі, – прапанаваў Баляслаў і павярнуўся да ксяндза. – Як на гэта глядзіць святы айцец?

Антон Мацкевіч адказаў не адразу. Ён не любіў адкразу выказваць свае думкі, падтрымліваючы ці абвяргаючы прапанову, а доўга ўзважваў, раіўся, мусіць, з Вышнім, а потым толькі выказваў рашэнне.

Маўчаў і Зыгмунт Серакоўскі. Прапанова Баляслава яму спадабалася, але трэба да драбніц усё ўзважыць.

– Баляслаў мае рацыю, – падаў голас пасля некаторага маўчання і раздумвання Мацкевіч.

І зноў пачалі з самага пачатку – дзе хто будзе стаяць, хто зоймецца акружэннем, каму будзе давераны падманны прыём. Не адну гадзіну ўзважвалі і раіліся, і толькі потым Зыгмунд прамовіў:

– Вось цяпер я спакойны. Баявы план адпавядае ўсім патрабаванням тактыкі і стратэгіі!

Засаду зрабілі каля вёскі Гінятаны. Дазорны абвясціў аб набліжэнні казачага авангарда.

– Прапусціць! – прагучала ціхая каманда.

Ні аб чым не здагадваючыся і не асцерагаючыся, уголас размаўляючы, рагочучы з нейкіх сваіх жартаў, рухаўся казачы авангард смела па дарозе. Калі за ім рушыла калона і прайшла ўжо больш палавіны ад месца засады, прагучэла новая каманда:

– Агонь!

З руляў штуцэраў, як гром сярод зімы, вылецеў свінец. Маёр Каўра спачатку нічога не зразумеў, пластом ляснуўся на зямлю, а потым ачомаўся, узяў сябе ў рукі, крыкнуў:

– Спешиться!

Калона карнікаў спынілася, карнікі пачалі страляць не па паўстанцах, бо іх не бачылі, а проста так, у неба. Калі ж яны пачалі адступаць, у бой уключыліся інсургенты Антона Мацкевіча. Махаючы шаблямі, колючы штыкамі, яны наносілі смяротныя ўдары карнікам. Мацкевіч паласнуў шабляй па плячы маёра Каўра, і той упаў.

Салдаты пачалі адступаць. Нехта схапіў пад пашкі маёра …

Большая частка карнікаў вырвалася з акружэння, але тут жа трапіла пад трапныя стрэлы паўстанцаў Даленгі. Неяк удалося прарвацца, проста ўцяклі…

Больш за сорак карнікаў былі забітыя, шэсцьдзесят – параненыя. Страты інсургентаў нязначныя: два забітыя, а чатыры параненыя, і то лёгка…

Царскія войскі, залізваючы раны, пабаяліся ўступаць у новыя сутычкі з інсургентамі. Гэты бой ахаладзіў іх памкненні.

Зацішша выкарыстаў Зыгмунт Серакоўскі. Атраду неабходна была перадышка і адпачынак.

Слава пераможцаў паляцела далёка па вёсках. Тую падзею горача абмяркоўвалі ў вёсках ды мястэчках, хутарах і фальварках. Інсургенты, што прыбылі ў Андрошынскія лясы, па-добраму былі здзіўленыя. Серакоўскі, Калышка і Мацкевіч, калі ўбачылі, які вялізны натоўп – атрад паўстанцаў – чакаў іх, усклікнулі:

– Слава інсургентам! Слава Кастусю Каліноўскаму!

Такімі воклічамі сустрэлі сяляне навакольных вёсак, паверыўшы ў сілу змагароў. Да Баляслава падышла жанчына сярэдніх гадоў, у завязанай на шыі хустцы, пакланілася ў пояс:

– Дарагія мае! Я прывяла да вас трох сваіх сыноў. Вазьміце іх у свой атрад. Смелыя яны ў мяне і адчайныя.

Даленга  абняў за плечы жанчыну, спытаў:

– Як завуць цябе, мілая кабета?

– Серафіма я, Серафіма Зубічава. А сыны – Толік, Вінцэнт і Дамінік.

– Дзякуй табе, Серафіма! – ксёндз Мацкевіч наклаў на яе крыж, нахіліўся ў паклоне. – Бог усё бачыць, Бог дзякуе табе за сыноў!

А да іх падыходзілі і падыходзілі людзі. Прасілі запісаць іх у шэрагі інсургентаў. Выбралі новых камандзіраў да новых атрадаў. Калі пашыхтаваліся, калі пералічылі ўсіх, то спіс склаў больш тысячы трохсот  чалавек.

– Дык мы ж з вамі – сіла! –  звярнуўся да інсургентаў Зыгмунт Серакоўскі. –  Мы можам стварыць войска ў дзесяць тысячаў чалавек, але пакуль усё яшчэ не хапае зброі. Прыходзіцца ствараць запасныя атрады, мы іх захоўваем да лепшых часоў, – яны па першым закліку далучацца да нас. Сёння ж адпачываем. Рыхтуемся да наступнага бою. Генерал-губернатар Назімаў высылае на нас вялікую сілу – гвардзейскі Фінляндскі полк на чале з генерал-лейтэнантам Мікалаем Ганеўскім.

6

…Мястэчка Мядзейкі, сёмага  траўня…

Ужо бярозы выпусцілі свае першыя ліпкія лісты, па лесе чуўся пошчак лясных птахаў; дзесьці скрыплівая жаўна “лячыла” хворую дзеравіну.

Зграя варання праляцела над лесам.

Калышка і Мацкевіч знаходзіліся між інсургентаў, давалі ім апошнія настаўленні. Ксёндз прачытаў малітву, сашчапіўшы пальцы, гледзячы ў блакіт неба, уголас папрасіў: “Езус Хрыстус! Дай нам сілу ў гэтым змаганні!..”

– Паказаліся! – падаў сігнал інсургент. – Наступаюць.

– Падрыхтавацца да бою! – голас у Баляслава спакойны, упэўнены, ён хацеў, каб упэўненымі ў сабе былі і змагары. – Пад-

пусціць іх як мага бліжэй, каб былі добра бачныя, і потым толькі страляць. Паўтараю яшчэ раз – без маёй каманды не страляць.

Маёр Мерлін кіраваў авангардам – яму і даручыў генерал Ганеўскі быць наперадзе. Жаўнеры ішлі на адкрытай мясцовасці ў поўны рост, не ведаючы, што інсургенты знаходзяцца на ўскрайку лесу і чакаюць іх. Баляслаў загадаў тым, хто будзе ў першым радзе, наламаць бярозавага галля і замаскіравацца.

Калышка пільна назірае за ланцугом авангарда Мерліна, пакусвае нервова губу. На ўзгорку затаіліся вопытныя стралкі…

Падпусціўшы як мага бліжэй, першым страляе селянін-касінер Раман Залейскі. На зямлю падае першы расійскі салдат. Следам за Раманам страляюць паплечнікі. Мерлінаўцы адказваюць, страляюць трапна і салдаты – схіліў на зямлю галаву адзін інсургент, за ім другі, трэці…

Яшчэ да гэтага рашылі з Даленгам з лесу не высоўвацца, не атакаваць праціўніка на голым месцы. Колькі Баляслаў стрымліваў сябе, каб не даць каманду ісці ў атаку, строга выконваў загад Даленгі. А можна ж было імгова наскочыць на карнікаў, сакрушыць іх рады і назад у лес… Але тое, што бачыць вока. яшчэ не довад ці прычына на злом галавы кінуцца ў вір…

Салдаты бліжэй ужо не падыходзілі, стралялі адтуль, дзе і спыніліся. Тры гадзіны доўжылася перастрэлка і нечакана сціхла.

Пакуль доўжылася зацішша, схадзіў на пазіцыю Даленгі Баляслаў разам з афіцэрамі – Антаневічам і Жарскім, якія кіравалі атрадамі, каб параіцца, што рабіць далей – адступаць, каб заняць лепшую пазіцыю, перагрупавацца, ці заставацца на месцы. Даленга і сам не ведаў, што рабіць у гэтай сітуацыі, але параіў яшчэ заставацца гадзіну-дзве на сваіх месцах. Адзінае, што напрошвалася, дык гэта памяняць правы ланцуг стралкоў, бо могуць іх атакаваць – у іх не вельмі зручная пазіцыя.

Атрад ксяндза Антона Мацкевіча знаходзіўся тым часам у іншым месцы – пад фальваркам Гудзмеркі. Вырашылі – калі ён папоўніць атрад новымі інсургентамі, адразу далучыцца да асноўных сілаў. У баі здабылі каля трыццаці штуцэраў, і таму льга было сфармаваць яшчэ адзін атрад  і адразу ж рушыць на падмогу Калышку і Серакоўскаму.

Атака салдатаў для інсургентаў не была нечаканай. Яны падрыхтаваліся  як след. Падпусцілі бліжэй – і толькі тады адкрылі агонь…

Карнікі, пакінуўшы некалькі чалавек забітымі, адступілі. А потым нечакана і мястэчка пакінулі.

Нешта было незразумелае ў паводзінах генерала Ганеўскага. Хітры стары ліс ведаў толк у ваеннай справе, таму адступленне яго салдатаў было вельмі падазроным. Пасланы выведчык Сямён Крукаў назад не вярнуўся, невядома, што сталася з ім. Загінуў ад царовай кулі ці ўзялі ў палон ды выцягваюць з яго жылы, каб даведацца пра патаемныя планы касінераў, пра іх дыслакацыю...

Сем гвардзейскіх рот, два эскадроны конніцы і дзве сотні казакоў на чале з маёрам Гільдбахам рушылі на дапамогу маёру Мерліну. Мала гэтага, дык нямецкія бароны выдзелілі атрад егераў, які налічваў дзвесце стралкоў.

А егеры выдатна ведалі мясцовасць, усе дарогі і сцяжынкі, тайныя закуткі з заплюшчанымі вачыма маглі адшукаць. Як і ведалі ўсе фальваркі і мястэчкі, падыходы да іх.

Трывожнае маўчанне зацягнулася, і Даленга разам з Баляславам прымаюць рашэнне самім рухацца да фальварка, каб хутка перагрупавацца  і аб’яднацца з атрадам ксяндза. Але паўстанцаў Мацкевіча на месцы не аказалася – затрымліваліся. Даленга заклікаў да пільнасці, каб не было нечаканасці падчас атакі карнікамі. Як і меркаваў Даленга, раніцай царскія гвардзейцы рушылі ў атаку на пазіцыі інсургентаў. Сустрэлі іх кулямі ды штыкамі... Адна атака гвардзейцаў, другая,. трэцяя, чацвёртая...

Бачачы, што гэтыя дзеянні не дасягнуць поспеху, генерал-лейтэнант  Ганеўскі вырашыў сам павесці салдат у атаку. Бачыў яго раз’ятранага Баляслаў, цэліўся ў яго, стрэліў, трапіў у нагу... Закульгаў генерал-лейтэнант, сеў на зямлю. Грэнадзёры паднялі яго і аднеслі ў больш бяспечнае месца.

І дзясятая, самая напорыстая атака, падмацаваная аўтарэтэтам і асабістым прыкладам генерала-лейтэнанта, захліпнулася...

Курляндскія егеры праявілі ініцыятыву – павялі атрады салдат акружным шляхам, нечакана атакавалі правае крыло.

Дзве гадзіны змагаліся паўстанцы з карнікамі і курляндскімі егерамі. З самага пачатку бою загінулі лепшыя і вопытныя афіцэрыпаўстанцы, сур’ёзна параненым аказаўся Даленга.

Вось тады толькі падышоў атрад Антона Мацкевіча. Ксёндз, убачыўшы, што паўстанцы амаль разгромленыя, не разгубіўся. Сакрушальным аказаўся  націск свежых інсургентаў. Але сіла і сало-

му ломіць... Занадта позна далучыліся да бою, які ўжо, лічы, і скончыўся... Параза напаткала паўстанцаў.

Больш як сто інсургентаў паляглі ў баі, шмат разбеглася. Смелыя і адважныя афіцэры Антаневіч і Жарскі, знаходзячыся ў першых радах, загінулі. Даленга, акрываўлены, ляжаў на палатнянай падсцілцы. Куля ўдарыла ў спіну, кранула пазванок. Яго вынеслі з полю бою на руках.

Перад гэтым ён аддаў распараджэнне камандаваць паўстанцкімі атрадамі начальніку штаба Ігнацію Ляскоўскаму.

А кіраванне агульным войскам узяў на сябе Баляслаў Калышка. Ён, як і раней, падзяліў атрад на дзве часткі. Адну з абозам, калі ўжо сцямнела, адправіў да мястэчка Попелаў. Другую ж вярнуў на ранейшыя пазіцыі, туды, дзе праходзіў бой. Вось толькі цяпер Калышка злучыўся з атрадам Мацкевіча, з рэшткамі яго фарміравання.

Адпачываць і прыводзіць сябе ў парадак не было калі, і таму раніцай, дзеявятага траўня, вырашылі рушыць следам за абозам. Дагналі яго каля фальварка Шнурышкі. Не паспелі прайсці з вярсты тры, як іх нечакана атакавалі карнікі Ганеўскага. Да гэтага інсургенты гатовыя не былі – на адкрытым полі не паспелі нават апамятацца і аказаць супраціўленне...

Толькі стралкі змаглі стрымаць наступленне салдатаў. Але ў іх не хапала патронаў. Абозу ж удалося вырвацца з акружэння. Баляслаў камандаваў правым крылом. Левае было сакрушана, частка правага зусім адрэзана ад галоўнага атрада.

Паспрабавалі прабівацца ў іншы бок...

Не вытрымалі націску карнікаў – паўстанцы былі разбітыя ўшчэнт. Хто разбегся, пакінуўшы поле бою, хто здаўся ў палон – больш як пяцьдзясят чалавек. І ўсё ж больш як чатырыста інсургентаў на чале з Мацкевічам і Ляскоўскім дапялі да Панявежскіх лясоў...

Быў і яшчэ адзін бой, другі і трэці.

Сілы і рады інсургентаў раставалі ўвачавідкі.

Атрад быў разбіты, а "галоўных начальнікаў" – Баляслава Калышку і Зыгмунта Серакоўскага – захапілі ў палон.

Перад гэтым атрад Ганецкага атрымаў загад акружыць лес, дзе знаходзіўся фальварак Крошты. Калышка рушыў у той бок, каб аб'яднацца з атрадам Серакоўскага, якога неслі на насілках. Інсургенты былі яшчэ здольныя аказваць супраціў карнікам...

Каля фальварка Шнурышкі, дзе паўстанцы далі апошні бой, з Баляславам засталося ўсяго пяць чалавек. Знясіленыя, галодныя, параненыя, яны ўпалі пад дрэвы, каб аддыхацца, набрацца сіл…

Тут іх і заспелі царовы карнікі…

……………………………………………………………………

*22 сакавіка…*

Дзень пахмурны і насуплены – неба, здаецца, гатовае было абрынуцца на зямлю ачышчальным дажджом.

На плошчы каля Вострай Брамы стаялі людзі.

Застылі ў маўклівым чаканні і глядзелі, як на плошчы ў суправаджэнні расійскіх грэнадзёраў ішоў, горда ўзняўшы галаву, невысокага росту русявы юнак.

На плошчы адбываўся не першы расстрэл касінераў.

Вільня патанала ў крыві паўстанцаў.

Людзі здзіўляліся: ніхто з тых, каго падводзілі да віселіцы, не прасіў літасці, не плакаў, не падаў на калені.

На грудзях асуджаны на смерць трымаў правую руку, пераплёўшы два пальцы – указальны і вялікі. Той, хто бачыў гэта, ведаў, што азначаў тое азначала.

З натоўпу падаў патаемны знак – падняў над галовамі сціснуты кулак – той, хто перадаў дыктатару жазло ад Міхала Валовіча...

Кастусь Каліноўскі глядзеў толькі перад сабой, глядзеў праз шыбеніцу, праз густы людскі натоўп, праз дамы і вуліцы, – глядзеў ужо ў вечнасць.

І тут яму на момант падалося, што яго нехта маўкліва і гучна паклікаў з натоўпу, з усіх сілаў стараючыся прыцягнуць да сябе ўвагу. Асуджаны спыніўся. Паглядзеў направа. Здалося, што на яго ўнікліва глядзелі дзявочыя вочы.

“Марыся? Адкуль ты тут? Хіба ж ты не асуджана і не сасланая, як гаварыў следчы і Ядвіга Макрыцкая, твая цётка? Ці гэта зусім і не ты?..”

Позірк пакутліва і настойліва шукаў сярод соцень вачэй родныя абрысы твару і блізкія вочы, але ён ні на адных не мог засяродзіцца і спыніцца, – нешта перашкаджала ці замінала.

Але як толькі ён убачыў твар пад белым капялюшыкам, павязаны па абадку чырвонай стужкай, які прыветна-горка ўсміхаўся, – у Каліноўскага ёкнула соладка-шчымліва сэрца.

Канваір таўхануў нечым тупым у плечы, загадаў груба:

– Не останавливаться!

Адлегласць паміж асуджаным і шыбеніцай скарачалася з кожным крокам.

– Бывай, мой народзе!.. – узняў дыктатар правую руку, не расчэпліваючы пальцы. – Няхай цябе міне пятля расійскай шыбеніцы... Шлях мы вам паказалі і вызначылі. Мы верым, што недарэмна аддалі за вас свае жыцці!..

Узышоўшы на памост, асуджаны абвёў позіркам наваколле і людзей.

Сэрца па-ранейшаму заходзілася ад хвалявання: “Марыська, галубка мая чарнаброва! Няўжо гэта ты сярод людзей стаіш?..”

З натоўпу выпырхнуў белы, бы снег, голуб, узляцеў у неба.

Адляцеў да Вострай Брамы некуды да будынкаў, вярнуўся, пачаў кружляць над галавой Каліноўскага, лапочучы крыламі, а потым паляцеў некуды ўверх, вышэй дамоў і, здаецца, вышэй аблокаў, – і знік у паднябессі.

Той, хто чытаў прыгавор, стараўся вымаўляць словы гучна і пагражальна, каб пачулі ўсе ў натоўпе:

– Да смяротнай кары праз павешанне прыгаворваецца дваранін Вікенцій Канстанцін Каліноўскі!..

Яшчэ мацнейшым і гучнейшым голасам асуджаны выкрыкнуў:

– У нас няма дваранаў, у нас усе роўныя!

І тады ж, у той жа момант, з-за воблакаў, выглянула белачырвонае сонца, набрынялае крывёю пакутаў і несправядлівасці. Абагрэла сваімі промнямі, аблашчыла пяшчотна твар, супакоіла.

Ён прымружыў вейкі, атрымліваючы апошнюю асалоду ў сваім жыцці – яднанне з сонцам…

Дзесяць гадзінаў трыццаць хвілінаў. Зазванілі званы ў храмах, пераклікаючыся спаміж сабою, як бы апавяшчаючы страшную вестку ўсяму свету…

І перад тым, як кат накінуў яму на шыю пятлю, з натоўпу выгукнуў нехта з касінераў, нават некалькі галасоў:

– Каго любіш, Кастусь?!

І ён, зноў набраўшы поўныя грудзі паветра, гледзячы некуды ў натоўп, шукаючы позіркам сваіх паплечнікаў, выгукнуў, што было сілы:

– Люблю Беларусь!..

– То і ўзаемна!

І праз хвіліну пайшоў у бяссмерце…

Калі Кастуся вынялі з пятлі, калі паклалі на памост, да яго падышоў доктар Фавелін. Нейкі час глядзеў у вочы дыктатара, якія былі скіраваныя ў неба – да пана Бога. Потым укленчыў, дакрануўся да запясця рукі, каб канстатаваць смерць, заплюшчыў нябожчыку вочы.

Асабісты доктар Мураўёва нешта шаптаў, нячутнае нікому, не хаваючы слёз, не выціраючы іх.

Пачуць яго мог хіба толькі нябожчык, ад якога яшчэ не адляцела душа, але расхінула анёльскія крылы для вечнага палёту ў гісторыю і вечнасць…

7

Вільня…

Крочу шляхам Кастуся Каліноўскага ад турмы да Галгофы. Чуў, як стагнаў кожны камень бруку, як уздрыгвала зямля ад кожнага кроку асуджанага… Гул ранішняга звону, што склікаў на літургію і імшу, з болем адгукаўся ў сэрцы кожнага віленца…І сонца, як і тады, у суровы і пахмурны дзень 1864 года, старалася схавацца за аблокі. Кожны год, у гэты ж дзень, калі прыязджаю сюды, каб прайсці пакутніцкім шляхам слынным сынам зямлі ліцвінскай, тут надараецца такое ж самае надвор’е…

І аднекуль прылятае белы голуб, кружыць і кружляе над тым месцам, адкуль паляцеў у бессмяротнасць Вікенцій Канстанцін Сямёнавіч Каліноўскі, нарадзіўшыся ў 1838 годзе, не дажыўшы да свайго трыццацігоддзя чатыры гады, і да ўзросту Хрыста, Які ўзышоў на Галгофу, – сем гадоў…

Потым да яго далучаецца белая галубка, і кружэляць яны тады над горадам, не могуць наталіць крылы пругкасцю паветра і сваім неспатольным каханнем…

Чулася мне яшчэ, як у паднябессі гучэў ціхі шэпт:

– Марыська, галубка мая чарнаброўка!..

У той жа дзень, як перастала біцца сэрца дыктатара паўстання, начальнік віленскай жандарскай каманды штабс-капітан Сямёнаў, бо адсутнічаў губернскі жандарскі штаб-афіцэр, адправіў у ІІІ аддзяленне ў Пецярбург данясенне: “*Дворянин Викентий Констан-*

*тин Калиновский повешен в Вильно на торговой площади на Лукишках в 10 часов 30 минут”...*

Праз чатыры дні данясенне паклалі на стол расійскаму цару…Па ўстаноўленым парадку цела дыктатара паўстання напачатку закапалі там, дзе і адбылося пакаранне.Але царскія ўлады парушалі гэты закон. Ноччу, употай, каб ніхто не бачыў, выкопвалі нябожчыкаў і хавалі ўжо на тэрыторыі цытадэлі...

Як і некалі , па загадзе Мураўёва, адкапалі цела Міхала Валовіча, якога “ярыга” павесіў 21 ліпеня (ст. ст.) у Гародні за Скідальскаю “заставаю”, – выкапалі і таемна перанеслі ў закінуты вапнавы кар’ер і закапалі так, каб ніхто не мог яго адшукаць.

Казалі, што ўсю ноч інсургенты, чакаючы зручнага моманту, хацелі выкапаць цела Каліноўскага і пахаваць па-хрысціянску на могілках, каб усе ведалі, дзе спачывае Дыктатар Паўстання. Але каля магілы дзяжурылі расійскія жаўнеры і жандарскія афіцэры.

Яны і бачылі, як выкапалі магілу, як павезлі нябожчыка ў цытадэль. Але туды пранікнуць было немагчыма – месца тое царскія ўлады ахоўвалі яшчэ пільней, чым пры жыцці кіраўніка паўстання, калі ён знаходзіўся ў вязніцы…

Кожны віленец ведае, што месцам пахавання касінераў паўстання 1863 года, якіх пакаралі ў Вільні, лічыцца вяршыня гары Гедымінаса, – там у той час  знаходзілася цытадэль…

*Праз трыццаць гадоў пасля смерці Міхала Валовічв тым Мураўёвым-вешальнікам, і ў такім жа 26-гадовым узросце, але не ў Гародні, а ў Вільні быў павешаны Кастусь Каліноўскі, – прадаўжальнік яго справы і кіраўнік нацыянальна-вызвольнага руху беларускага народа супраць расійскага паняволення.*

……………………………………

Атрад у сорак салдат ахоўваў палонных З.Серакоўскага і яго ад’ютанта Якава Сакоўскага, Ю.Касцялоўскага, афіцэра С.Якубоўскага, Б.Калышку… Разам з імі яшчэ васямнаццаць паўстанцаў. Усіх праводзілі ў Мядзейкі, а адтуль пагрузілі на цягнік, які давёз іх да Вільні.

Калышку і астатніх палонных кінулі ў казематы віленскай цытадэлі былога Верхняга замка. Генерал Ганецкі за разгром паўстанцаў з рук губернатаршы атрымаў лаўровы вянок. Назімаў не спяшаўся з вынясеннем суровага смяротнага пакарання, хаця

палонным аб’явіў, што іх жыццё ў іх жа руках. Для гэтага трэба было даць следчай камісіі чыстасардэчныя паказанні, назваць прозвішчы сяброў і самае галоўнае – пакаяцца ў сваіх злачынствах і ўдзеле ў паўстанні.

Даводзіў ім яшчэ генерал-губернатар Уладзімір Іванавіч Назімаў, спадзеючыся, што паўстанцы прымуць яго прапановы:

– Адумайцеся, вас жа чакае віселіца альбо расстрэл. Мы памілуем вас, як памілавалі начальніка паўстанцкага атрада Рамана Рагінскага. Ён чыстасардэчна пакаяўся і даў паказанні на сваіх паплечнікаў. Вы ж прайгралі, таму хоць жыццё сабе захавайце.

– А нам пятля мілейшая, чым жыццё! – выгукнуў Калышка. – А Рагінскі для нас – ніхто. Мы пра такога не ведаем.

Назімаў недаўменна паціснуў плячыма, адышоў ад паўстанцаў.

З Калышкі каты следчай камісіі пад кіраўніцтвам генерала-лейтэнанта С. Весяліцкага не выцягнулі ніводнага слова прызнання. Ён не назваў ніводнага прозвішча кіраўнікоў паўстання. Ваенна-палявы суд вынес Баляславу Калышку смяротнае пакаранне, а за тое, што старшыня не дабіўся прызнанняў ад камандзіра паўстанцаў, атрымаў адстаўку. Але Назімаў усё ж цягнуў з выкананнем прысуду, да апошняга спадзеючыся, што зможа неяк уратаваць жыццё і Серакоўскаму, і Калышку.

Але на пасаду генерал-губернатара прызначылі графа Мураўёва ”. І Мураўёў чакаў ад праслаўленага правадыра паўстанцаў шчырага прызнання. А той не папрасіў літасці ў “ярыгі”, ведаючы, што яго прызнанне і пакаянне нічога не зменяць, толькі зняславяць на ўвесь свет…

… А дзесятая гадзіна раніцы.

Лукішская плошча Вільні. Загудзеў звон у праваслаўным храме, рэха паляцела некуды за горад. Паліў густы і халодны дождж, быццам нябесныя слёзы ліліся на натоўп і на Баляслава.

Яго падвялі да шыбеніцы. Афіцэр загадаў яму:

– Здыміце канфедэратку!

– Навошта? Гэта ж сімвал барацьбы з царызмам, вы мяне ж за гэта асудзілі.

– Здыміце! – павысіў голас кат.

– Абыдзецца! Не бачу тут нікога, больш годнага за сябе!

Афіцэр не пацярпеў знявагі, падышоў да Баляслава і сарваў канфедэратку з галавы, кінуў у калюжыну.

Баляслаў павольна нахіліўся, падняў з зямлі шапку, абтрос яе, надзеў на галаву. А потым, павярнуўшыся да афіцэра, з усяе сілы ўдарыў таго кулаком у твар. Той не чакаў такога і снапом паваліўся на зямлю. Нехта ў натоўпе зарагатаў і адразу ж сціх.

Потым, хто назіраў за ўсім гэтым, хто быў відавочцам нечалавечай экзекуцыі, успамінаў, што "злачынец быў адзеты ў чорную чамарку са шнуркамі, як бы венгеркі, з якой бруілася вада. На яго галаве была надзета наўскос канфедэратка. Гэта быў малады мужчына сярэдняга ўзросту, шырокаплечы, з незвычайна тоўстай і кароткай шыяй.

*"...Ішоў ён бадзёра ў суправаджэнні ксяндза, пад барабанны бой, а падчас чытання прысуду стаяў спакойна, хоць унутраны настрой прабіваўся вонкі ў частым пераступанні з нагі на нагу... Надышла, нарэшце, страшэнная хвіліна. Войскі, якія акружалі шыбеніцу, узялі "на плячо".*

*Прагучаў аглушальны барабанны бой, што суправаджаў у іншае жыццё асуджанага.*

*Ксёндз адышоў у бок. Пакаранне здзейснілася..."*

Гэта ўспаміны відавочцы Нікоціна. Амаль усё напісанае – праўда. Але ён быў не да канца шчыры.

Нечакана вяроўка на шыбеніцы абарвалася і Баляслаў паваліўся на памост. Усе ў разгубленасці пачалі пераглядвацца. Тады, доўга не думаючы, да яго, ляжачага, падбег кат, ашчаперыў кашчавымі рукамі шыю Баляслава і задушыў яго на памосце.

– Так яму і трэба! – выгукнулі з натоўпу.

– За тыя жорсткасці, што ён зрабіў, заслужаная смерць!

Гэта былі выкрыкі царскіх чыноўнікаў, якіх сагналі на экзекуцыю.Некалькі паненак знепрытомнелі, паваліліся на мокрую зямлю... Тое страшнае відовішча мала хто вытрымліваў.

Мёртвы Баляслаў Калышка ляжаў спінай на памосце.

Дождж амываў яго твар, буйныя кроплі барабанілі па падлозе, але гэта быў не барабанны бой катаў, а жалоба.

.................................................................................................

... І ў Табольск аднойчы легла мая дарога.

Крочыў тымі сцежкамі, дзе хадзіла Марыся, галубка чарнаброва. Яна засталася вернай запаветам свайго абранніка – і там

з’яднала тых, каму быў неабыякавы лёс сваёй краіны. Ды больш таго, прыкладала шмат намаганняў і спробаў, каб вызваліць з сібірскай ссылкі пісьменніка-дэмакрата Міколу Чарнышэўскага, які высока цаніў асобу Каліноўскага. Творы – вершы і публіцыстыку Яські з-пад Вільні – называў “вяршыняй дасканаласці ліцвінскіх творцаў”…

Марыі Мацвееўне Ямант асоба Чарнышэўскага блізка нагадвала падабенства і роднасць паміж гэтымі таленавітымі асобамі…

І па Варшаўскіх вуліцах хадзіў, крочыў па яе слядах, – пераехала яна ў сталіцу Польшчы пасля дзесяцігадовай высылкі. Да апошняга дыхання захавала Марыська адданасць свайму, абранаму лёсам, прадвызначанаму Богам, пакутніку і пераможцу над слабасцю духу, Вікенцію-Канстанціну Каліноўскаму.

Толькі ў 1874 Марыська, калі ўжо вярнулася на радзіму, калі памерлі яе бацькі і сястра Алена з мужам, урэшце адказвае ўзаемнасцю на прапанову пабрацца шлюбам з былым ссыльным Войцэхам Дмалеўскім. Хаця ён і не быў блізкім сябрам яе нарачонага, але сустракаліся не раз, абмяркоўвалі справы паўстання…

Не ведала Марыся, што Кастусь Каліноўскі падчас апошняй сустрэчы з ім папрасіў, даверыў яму сваю каханую, прасіў паклапаціцца пра яе, ведаючы, што ўзыдзе на Галгофу.

Пра тое Войцэх не сказаў Марысі, асцерагаўся параніць яе збалелае сэрца, хаця ведаў, што да апошняга свайго ўздыху яна будзе памятаць пра Таго, каму і аддала сваё сэрца і Каханне. Пра тое і напамінаў Марысьцы пярсцёнак, які на яе палец надзеў Вялікі Дыктатар Народнага Паўстання. То быў і з’яўляецца для нас, іх нашчадкаў, найярчэйшым прыкладам гарэння двух закаханых сэрцаў.

А каханне, як і сцвярджаў Вышні, заўсёды бясконцае і несмяротнае.

І ў тое мы павінны, пераканаўшыся на іх прыкладзе, паверыць і прыняць як ісціну, як запавет, блаславлёны Вышнім Творцам Вялікага Кахання… Бо вера ўмацоўвае душу кожнага чалавека, памагае яму паверыць у светласць заўтрашняга дня.

## 8

Кожны раз, сядаючы за стол, прыкаваўшы сябе на некалькі гадзінаў, беручы ў рукі пяро, – абвязкова зірну на два партрэты, прымацаваныя да кніжнай паліцы.

На мяне, стоячы, абапершыся рукой  на столік, глядзіць Вікенцій Канстанцін  Каліноўскі. З другога – Марыя Ямант. У яго і ў яе праніклівы і спакойны позірк. Позірк праз стагоддзе, праз тоўшчу вечнасці… Позірк-прамень, які пранізвае напластаванні часу, дасягае да сэрца кожнага з нас, тых, хто кахаў, тых, хто ахвяраваў сваім каханнем дзеля высокароднай мэты…

Перш  чым распачаць апісваць тое, пра што намерыўся, шмат рабіў выпісак, заўваг, выпадковых сведчанняў тых падзей… Потым яны лягуць у агульную тканіну галоўнага аповеда…

*Запіс першы:*

Праваслаўныя святары, якія падпарадкоўваліся цару-бацюхну і служылі яму верай і праўдай, парушалі Божыя запаветы. Яны дапамагалі царскім войскам адшукваць паўстанцкія атрады, займаліся ілжэсведчаннямі – распаўсюджвалі сярод сялянаў чуткі, што паўстанне толькі скіравана на тое, каб вярнуць назад прыгоннае права, памагалі сялянам лавіць інсургентаў і выдаваць царскім уладам… Гэта выклікала гнеўны пратэст тых, хто ўдзельнічаў у паўстанні, хто паклаў сваю галаву на плаху царскіх катаў. Тады і пачалася помста праваслаўным святарам.

Святару Жытлінскай царквы Слонімскага павета Мікалаю Ступніцкаму паўстанцы пагалілі галаву і выграблі ўсе харчовыя прыпасы з яго засекаў. Суседняга  святара прымусілі падпісаць ад імя непісьменных сялянаў адозву, а ў дальнім павеце прымусілі ксяндза падчас літургіі прывесці да прысягі на карысць паўстання праваслаўнае насельніцтва, прачытаць маніфест на польскай мове…

Ноччу, дваццаць трэцяга траўня 1863 года, быў забіты святар праваслаўнай царквы ў мястэчку Сураж Гарадзенскай губерні.

“Литовские епархиальные ведомости” ў прапагандысцкіх мэтах ад імя мясцовага благачыннага  насельніцтва паведамлялі: “Узброеныя мяцежнікі – сорак чалавек у паўночны час  акружылі хату святара Пракаповіча і з крыкам “адчыняй!” пачалі стукаць у дзверы. Айцец Пракаповіч, пачуўшы крык і гул натоўпу каля яго хаты і разумеючы, што яму пагражае, паспеў схавацца на гарышчы. Яго адшукалі, пачалі біць і выбіваць у вокнах шыбы. Святара застрэлілі, потым павесілі.

Раніцай пайшоў у іншы свет айцец Канапасевіч – святар мястэчка Багушэвічы Ігуменскага павета Мінскай губерні. Трэцяга ліпеня раз’ятраныя сяляне, даведаўшыся, якую шкоду паўстанцам

учыніў святар Рапацкі – мястэчка Контры Пружанскага павета Гарадзенскай губерні, забілі яго.

Царскія ўлады ў сваю чаргу таксама спрычыніліся да помсты каталіцкім святарам. Вікарны ксёндз Ішора з Лідскага павета ваенным судом прыгавораны да расстрэлу толькі за тое, што чытаў маніфест нацыянальнага ўрада ў студзені 1863 года і заклікаў вернікаў да паўстання. Вільня дваццаць другога траўня бачыла, як яго павялі пад канвоем ад дамініканскага кляштара, які перапатвараўся ў турму для паўстанцаў, на Лукішскі пляц. Там і пакаралі пры вялікай грамадзе народу, не знялі з яго нават сан святара.

А праз два дні там жа быў расстраляны настаяцель Віварскага касцёла Лідскага павета ксёндз Зямацкі. За чытанне ў касцёле маніфеста. І хаця даводзілі сведкі на судзе, што ксяндза прымусілі чытаць тое, не дапамагло захаваць жыццё…

З гэтага часу каталіцкае духавенства адмовілася памагаць далей паўстанню. Бачачы, што рушанне пацярпела паразу, звярнулася да вернікаў з заклікам скласці зброю, падпарадкавацца “законнаму” ўраду, а не кіраўнікам закалота.

У спецыяльным звароце да духавенства Выканаўчы аддзел выкрываў іх баязлівасць і здрадніцтва. Але гнюсная справа была зробленая – сваімі адступніцкімі дзеяннямі і паводзінамі каталіцкае духавенства нанесла непапраўную шкоду паўстанню на Беларусі і Літве, асабліва там, дзе каталікі складалі асноўную частку насельніцтва.

Калі паўстанне пацярпела паразу, каталіцкі касцёл быў залічаны царскімі ўладамі да разраду ненадзейных. Ды і з’явілася нагода расправіцца з каталіцкім касцёлам на Беларусі – удзел ксяндзоў і манахаў у паўстанні. Да іх пачалі прымяняцца прымусовыя меры, распачаўся жорсткі ўціск і расправы.

На Беларусі і Літве былі прыцягнутыя да адказнасці восем ксяндзоў – Ішора, Зямацкі, Дайлід, Фалькоўскі, Гаргас, Рачкоўскі, Нарэйка, Мацкевіч. Іх расстралялі. Трыцаць шэсць выслалі на катаржныя работы. Дзясяткі перасялілі ў расійскія губерні, пазбавілі сана….

Закрываліся і руйнаваліся касцёлы і кляштары на Беларусі…

Палітыка русіфікацыі ўзмацнялася, насаджэнне праваслаўя набірала сілу. Адначасова павялічвалася колькасць праваслаўных цэркваў. Праз колькі гадоў пасля паўстання з каталіцкай веры ў праваслаўную разам з Расійскай імперыяй перайшло каля ста

тысячаў чалавек. Але большая частка гэтых прымусовых пераходаў прыходзілася на Гарадзенскую, Віленскую і Менскую губерні – семдзесят тысячаў чалавек. Каталіцкае духавенства на Літве-Беларусі не здолела вярнуць сабе былую магутнасць і моц уплыву на вернікаў, наадварот, замест беларускай мовы, якая гучала ва ўніяцкіх храмах і касцёлах, урад пачаў праводзіць генацыдную і жорсткую палітыку русіфікацыі. Малітвы здзяйсняліся вернікамі на чужой для іх мове…

… Не згубілася постаць Людвіга Звяждоўскага на прасторах гісторыі. Як ні стараліся яго апаненты і тыя, хто неўзлюбіў яго за прынцыповасць і адданасць рэвалюцыі, каб яго імя было скампраментаванае альбо зусім знікла з памяці народа і старонак пазнейшых успамінаў нядобразычліўцаў, не атрымалася… Лязо Тапара рассекла шэрань смугі і часу, адсекла хлусню і іржу ад яго гераічнай біяграфіі, і ён прадстаў перад намі тым, кім мы можам ганарыцца, ставіць у прыклад іншым пакаленням…

Царскія ідэолагі ніяк не згаджаліся з тым, што паўстанне Канстанціна Каліноўскага насіла сацыяльны характар – даказвалі і сцвярджалі: гэта быў толькі бунт польскага панства за вяртанне прыгону. Віленскі генерал-губернатар Міхаіл Мураўёў – пазней у сваіх пісьмовых успамінах (і ён жадаў праславіць сваё імя ў гісторыі) не без задавальнення прызнаваўся, што ў падаўленні Магілёўскага паўстання войскі амаль не прымалі ўдзел, яго задушылі тыя ж *праваслаўныя* сяляне, на якіх і спадзяваліся кіраўнікі бунту як на ўдарную сілу. Яны, праваслаўныя сяляне, былі страшэнна радыя, калі мы ім паабяцалі харошыя грошы за злоўленых мяцежнікаў, таму яны з вялікім імпэтам “перахоплівалі ў лясах і на мызах амаль усіх паноў, гімназістаў і шляхту, якія ўтваралі шайкі”. Мы нават узнагароджвалі прылюдна тых, хто найбольш актыўна памагаў нам. Падкрэсліваў, што ў вялікай ступені была аказана дапамога ў разгроме бунтаўшчыкоў і з боку праваслаўнага духавенства і непасрэдна святароў на месцах.

Але не зусім шчыры быў “пісьменнік-Вешальнік” у сваіх успамінах. Ён усё ж быў страшэнна напалоханы паўстаннем. Не проста, ці не выпадкова быў выдадзены дваццаць чацвёртага траўня 1864 года загад для Магілёўскай і Віцебскай губерняў пра тое, каб *“пераводзіць сялянаў, не патрабуючы згоды памешчыка, з вырабляльнай павіннасці на аброк”.*

Зрабіў ён гэта, так бы мовіць, скрыгочучы зубамі. Ахвяры інсургентаў аказаліся недарэмнымі, і Людвіг не паразу атрымаў, а прымусіў Вешальніка абвясціць палёгку сялянству. Але ці ацанілі тое сяляне, якія з дубінкамі і каламі ў руках рынуліся на інсургентаў? Наўрад ці…

Звяждоўскі апынуўся за мяжой. Гэта выклікала недаўменне многіх, амаль усе ацанілі гэты факт як баязлівыя ўцёкі. Казалі спаміж сабой, што гарачы прыхільнік вялікага рушання і актыўны ўдзельнік яго здрадзіў не толькі рэвалюцыі, а нават і самому сабе. Ніхто не хацеў зразумець Звяждоўскага, разабрацца ў сітуацыі, бо самі не падстаўлялі свае галовы пад дубінкі праваслаўных сялянаў…

Пасля паразы паўстання Людвіг не сустракаўся з Канстанцінам Каліноўскім, але, як расказваў пазней Баляслаў Длускі, дыктатар з горыччу гаварыў: “Звяждоўскі пасля няўдачы на Магілёўшчыне з большай лёгкасцю трапіў за мяжу, чым у атрад, напрыклад, у Менскім, Гарадзенскім ваяводствах, альбо на Жмудзі”.

Можна падумаць, што сам Людвіг не вінаваціцца, не карае і не асуджае сябе. Не такі ў яго характар, не такія ў яго прынцыпы. Ён мог сказаць пра самога сябе, што ўцёк з поля бою, але толькі не інсургенты, якія ваявалі з ім да апошняга… Ён валодаў усім, чым павінен валодаць кіраўнік атрада… Але як ваяваць без зброі ды калі яшчэ ззаду шчэраць зубы тыя, хто хацеў зарабіць на жыццях інсургентаў пяць ці тры рублі?

Ідучы на смерць, ён не збочыў з дарогі. Распусціў атрад толькі тады, калі ўсім было бачна – бессэнсоўна працягваць барацьбу. І ён шчыра заклікаў сваіх паплечнікаў ратаваць свае душы, а калі прыдзе час, зноў сабрацца ў кагорту.

Спачатку аб’явіліся сляды Тапара ў Турцыі, на берагах Дуная, – там палкоўнік Мілкоўскі фармаваў атрад для новай барацьбы. Думка пра паўстанне ні на хвіліну не пакідала яго. Перабраўся ў Парыж. Ведаў, дзе знаходзіцца Жонд нарадовы, адразу накіраваўся да кіраўніка. Падаў начальніку пісьмовую прапанову на некалькіх старонках аб фармаванні пад яго кіраўніцтвам паўстанцкіх валанцёрскіх атрадаў.

– Разгледзім, – адказаў кіраўнік Жонда, – чакайце, мы вам паведамім вынікі.

Адказалі толькі сёмага жніўня. Адказалі пісьмова:

“Ваш праект лічым нездзяйсняльным”.

Чым яны кіраваліся, невядома, але сітуацыя выглядала так, што нават калі б і ўдалося сфармаваць валанцёрскі атрад добраахвотнікаў, то ў зімовы перыяд перакінуць іх на Жамойць было праблематычна. Больш таго, калі б і перакінулі, то скарбніца паўстанцаў была вельмі бедная, а чым плаціць валанцёрам, чым узбройваць іх, у што абуваць і апранаць?

Калі ўжо Звяждоўскі сабраўся з’язджаць з Парыжа, яго адшукалі народажондаўцы, паведамілі, што гатовыя разгледзець яго праект. М яшчэ – яны папрасілі ўрад Францыі выдзеліць сродкі для найму трох тысячаў валанцёраў. Тапор радаваўся працягу яго ідэі  і верыў, што яму будзе аказана дапамога. Але... Але Францыя не пайшла насустрач Звяждоўскаму, убачыла ў ім адно авантурыста і выскачку. Раззлаваны і расчараваны, Людвіг Звяждоўскі пакідае горад, які яго не зразумеў.

Калі прыехаў у Кракаў, то даведаўся, што кіраўніцтва паўстаннем узяў на сябе Рамуальд Траўгут – добры сябра Людвіга. Сустрэча была цёплай і прыязнай. Дыктатар паўстання ведаў пра прыгоды сябра, таму, каб уключыць яго ў баявую справу, дванаццатага кастрычніка загадам прысвоіў званне палкоўніка, адначасова прызначыўшы ваенным начальнікам Сандамірскага ваяводства.

Такім чынам, Тапор зноў апынуўся на баявым кані.

Траўгут распачаў рэарганізацыю паўстанцкага войска, зразумела, не без падказкі Звяждоўскага. Тапор імкнуўся апраўдацца ў вачах кіраўнікоў паўстання і непасрэдна перад Канстанцыінам Каліноўскім, таму згодзен  быў  узяць удзел у любым змаганні. Траўгут кіраваў паўстаннем, але непасрэдным начальнікам Тапара быў генерал Босак, які прызначыў яго начальнікам Кракаўскай дывізіі.

А потым ён быў уцягнуты ў авантуру па ўзяцці штурмам горада Апатаў. Генерал Босак хацеў проста абрабаваць яго, асабліва багатых жыдоў, каб папоўніць сваю асабістую казну, а Тапару загадаў штурмаваць яго “дзеля рэвалюцыі”. Сам жа генерал знік у невядомым кірунку. Звяждоўскі меркаваў атрадам у тысячу чалавек пяхоты і сарака вершнікамі атакаваць горад з чатырох бакоў. Атрымалася так, што звяяваўшы Апатаў, паўстанне пацярпела паразу. Кіраваў штурмам не Тапор, а іншыя – Куроўскі. Звяждоўскі змяніў параненага камандзіра аднаго з аддзелаў і сам быў на чале штурма.

Тады ж і атрымаў раненне ў грудзі – амаль наскрозь яго пранізаў жаўнерскі штык. На руках параненага палкоўніка вынеслі з поля бою і занеслі ў бліжэйшую вёску. Паклалі ў хляве, дзе правёў усю ноч.

Царскія карнікі адшукалі яго на наступны дзень…

Генерал-маёр Чангары – начальнік Келцкага ваеннага аддзела – выдаў канфармацыю павесіць Звяждоўскага. Але абгарэлая бэлька хруснула, і Тапор упаў на зямлю. Па законе пакарання любых злачынцаў ахвяры павінны дараваць жыццё...

Тады, ужо амаль беспрытомнага, царскія карнікі зацягнулі на рынак Апатава і там расстралялі…

9

*Запіс другі:*

Усімі сіламі і магчымасцямі царскія памагатыя зрабілі, каб імя сумленнага і адданага справе паўстання Людвіга Звяждоўскага было апаганена і абылгана. У расійскім друку ён быў паказаны як авантурыст, забойца і рабаўнік магілёўскіх сялянаў. Нарыс пра яго напісаў Міхаіл Каткоў – крайні русафіл – і надрукаваў яго ў “Русском вестнике” ў 1864 годзе за № 11. Прачытаў яго аўтар “Ледзянога дома” Іван Лажэчнікаў і тут жа скляпаў опус-раман – “Унучка панцырнага баярына”. Вельмі нізкапробны раман, але ў ім вобраз Жвірждоўскага (Звяждоўскага) выпісаны самымі бруднымі і агіднымі словамі.

Ды што расійскі “Вальтэр Скот”! Гонар расійскай паэзіі Някрасаў услаўляў Мураўёва-вешальніка ў напышлівай одзе. Герцэн з гэтай нагоды выказаў сваё абурэнне і пратэст.

Следам за ім лаўровы вянок “ратаўніка Расіі” усклаў Вешальніку на галаву Цютчаў. Узносіў крывавага карніка да нябёсаў, лічачы, што ён *“отстоял и спас России цельность”.*

Няхай паўстанне было патопленае ў крыві, але бачыць Бог, пераможаныя былі нашмат мужнейшымі і дужэйшымі духоўна за сваіх карнікаў-пераможцаў і крытыкаў-творцаў, бо яны загінулі за свабоду, за народнае шчасце, і таму сталі неўміручымі!

………………………………………………………………………

*Запіс трэці*

Расказвалі, што група паўстанцаў, уцякаючы ад праследу царскіх войскаў, якія разбілі атрад, ноччу прыйшлі да Юравіцкага

храма, што знаходзіўся непадалёк ад Калінкавічаў і Мазыра. Амаль усе параненыя і зняможаныя, яны ўпалі каля глухой сцяны і адразу паснулі. Аднаму з іх падалося, што паміж імі хадзіла невядомая жанчына ў зіхоткім адзенні і дакраналася да ілба кожнага. Калі ж прачнуліся, калі агледзелі адзін аднаго, то здзівіліся: ад ранаў не засталося ніякіх слядоў, ды і кожны адчуў у сабе бадзёрасць і сілу.

– То дапамагла нам Божая Маці, – прамовіў адзін з іх – Казімір Аўтуховіч, былы ксёндз. – Абраз яе знаходзіцца тут – у храме...

Праз шмат гадоў Казімір, вярнуўшы сабе сан святара, расказваў людзям і пра паўстанцаў, і пра той цуд, які падаравала ім Багародзіца.

... У 1832 годзе з прычыны садзейнічання польскаму паўстанню, дзейнасць бернардзінскага манаскага ордэна ў Расіі была забароненая.

У Юравічы прыбыў казачы атрад, камандзір якога, дачакаўшыся заканчэння богаслужэння, прачытаў у касцёле распараджэнне аб яго зыкрыцці. Ксяндзам і вернікам дазволілі забраць усе храмавыя рэліквіі. Як расказвалі мясцовыя жыхары, цуда-творны абраз Божай Маці даручылі несці бязгрэшнаму дзіцяці – трохгадовай Марыйцы Сушчынскай, дачцы мясцовага памешчыка.

На працягу васьмі гадоў касцёл быў зачынены і апячатаны, а каталіцкая імша вялася ў драўлянай каплічцы, якая знаходзілася на тэрыторыі могілак. У 1840 годзе, згодна з мноствам хадайніцтваў мясцовых памешчыкаў і шляхты, імператар Мікалай I распарадзіўся вярнуць ім касцёл, які з таго часу стаў прыходскім. Пасля рамонту Юравіцкі храмавы комплекс яшчэ болей радаваў вока вернікаў. На самым высокім месцы гары, якая выглядала конусам, іезуіты ўзвялі велічны касцёл, у якім знаходзіўся цудатворны абраз Божай Маці.

У лістападзе 1861 года на каталіцкі прыход у Юравічы быў прызначаны ксёндз Яшчовіч. Ён правёў поўную рэвізію храмавых збудаванняў і папрасіў у Мінскай рымска-каталіцкай духоўнай кансісторыі на завяршэнне рамонту яшчэ 500 рублёў. Тых грошай настаяцель так і не атрымаў.

Ксёндз Гуга Гадзецкі, які замяніў яго, быў больш настойлівы, – яму кансісторыя вылучыла ў траўні 1862 года на канчатковы рамонт 343 рублі і 28,5 капеек. Гэтую суму ён выдаткаваў у тым жа годзе на самыя неадкладныя патрэбы і далажыў пра тое свайму духоўнаму кіраўніцтву, што “...акрамя тых пачынак, усяго патрэб-

на для завяршэння працы Юравіцкага касцёла 2.254 рублі”. Аднак завяршыць рамонт храма апошняму ксяндзу не давялося – пачалося паўстанне 1863 года, што прывяло да канчатковай ліквідацыі Юравіцкага каталіцкага прыхода.

Улетку 1864 года Мінская праваслаўная епархія звярнулася да генерал-губернатара М. Мураўёва з хадайніцтвам аб закрыцці Юравіцкага касцёла ў сувязі з тым, што яго клір умешваецца ў справы праваслаўных. Генерал ад інфантэрыі зрабіў на гэты конт запыт ваеннаму начальніку Мазырскага і Рэчыцкага паветаў. Беларускія губерні на той час знаходзіліся на ваенным палажэнні. Правялі расследванне і далажылі, што “...юрыдычных фактаў аб тым, што ксяндзы бралі ўдзел у паўстанні, няма, але плёткі прымушаюць сумнявацца ў іх палітычнай добранадзейнасці”. Мураўёву-вешальніку тыя факты падаліся пераканаўчымі, і ён 11 лістапада 1864 года падпісаў распараджэнне аб закрыцці Юравіцкага касцёла ў сувязі з тым, што “...падчас нядаўніх беспарадкаў мясцовыя памешчыкі і шляхта спявалі рэвалюцыйныя песні, і акрамя таго, гэты касцёл... “весьма вреден для православия”.

І ўжо 27 лістапада для выканання гэтага распараджэння ў Юравічы прыбыў вайсковы атрад. Пра падзеі таго дня ў сваіх успамінах распавядаў ксёндз Сенчукоўскі:

“У Юравічах я сустрэў роту расійскіх жаўнераў, якія на працягу чатырох гадзінаў сякерамі seклі ў касцёле алтары, статуі дванаццаці апосталаў і арган... Ротай жаўнераў камандаваў ваенны начальнік павета маёр Сцефановіч – фанатык-паляк. І толькі для таго, каб паказаць сваю адданасць расійскаму цару, загадаў... нішчыць сякерамі алтары...”

Пасля такога вандалізму Сцефановіч звярнуўся здзекліва да каталіцкіх вернікаў са словамі:

– Ну, і чаго вы дабіліся? Глядзіце, ваш касцёл адразу ператварыўся ў праваслаўны. Нават Маці Божая прыняла праваслаўе, а да гэтага была каталічкай. Таму і вы адразу ж прымайце праваслаўе. Такі загад і Мураўёва, і Расійскай Праваслаўнай Царквы!

Аднак вернікі-каталікі не выканалі яго загад, а праз дзень напісалі агульную скаргу на ўчынены ў іх храме пагром, чым нанеслі ім вялікую абразу. І не толькі ім, а і цудатворнаму абразу Божай Маці. Падпісалася больш як 150 вернікаў. Паставілі свае подпісы пад скаргай мяшчане і сяляне, а памешчыкі і шляхта ўстрымаліся.У выніку Юравіцкаму каталіцкаму прыходу ўсё ж

дазволілі праводзіць імшу ў драўлянай капліцы пры могілках, але ўсё роўна праз нейкі час прыход канчаткова “упразднили”. Да слова сказаць, селяніна І.К. Луцэвіча, які збіраў подпісы пад лістом-скаргай, арыштавала паліцыя і дальнейшы яго лёс, на жаль, невядомы.

Той гвалт лішні раз даказваў, як прадстаўнікі праваслаўнай рэлігіі адносіліся да іншых канфесій, асабліва да каталіцызму. Яны бралі прыклад са свайго быццам бы прагрэсіўнага і няверуючага цара Пятра І, які разам з алкаголікам Меншыкавым учыніў такі ж пагром у Сафійцы. Пазбавіў жыцця амаль усіх святароў-уніятаў храма. Як гэты факт ні стараліся замоўчваць расійскія савецкія ідэолагі і РПЦ, але ў памяці народа (як праваслаўных, так і каталікоў) ён застанецца адной з ганебных старонак, да якой спрычыніліся расійскія заваёўнікі.

Мо таму Гасподзь і наслаў на самадзержца невылечныя хваробы, што ён, не вытрымаўшы пакут, папрасіў сваю Кацьку даць яму атруты; як наслаў іх на цара Ірада; на таго ж расійскага першацара Івана Жахлівага, на Нерона і іншых праўцаў, якія палічылі сябе роўнымі Богу і што ім усё дазволена – чыніць пералюб, адбіраць у людзей жыццё, караць невінаватых, быць суддзёй і катам адначасова, ды яшчэ на свой лад пісаць гісторыю людства і дзяржавы...

.......................................................

... Нам неяк здавалася, што падзеі і жыцці Тадэвуша Касцюшкі і Кастуся Каліноўскага адбыліся даўно, і іх пачала пакрываць ужо смуга даўніны. Але дзіўная рэч – чым далей мы аддаляемся ад іх, тым настойлівей яны набліжаюцца да нас, стукаюцца ў нашыя сэрцы, і мы тады гаворым сабе: “Божа! Дык, аказваецца, тое ўсё здарылася зусім нядаўна – яно адбылося ўчора ці заўчора...”

Яны стварылі для нас, нашчадкаў, насычаныя глыбокім сэнсам і зместам старонкі гісторыі, і з кожным годам, стагоддзем яны будуць набываць усё большую і большую вагу і значнасць, узбуджаючы розумы ліцвінаў сваёй апантанасцю, упэўненасцю, магутнасцю і святой верай у тое, што той край, за які яны змагаліся, ахвяравалі сваім жыццём, – урэшце рэшт стане вольным і шчаслівым...

Якія старонкі нашчадкам пакінем мы з вамі?

Ці любім мы па-сапраўднаму сваю радзіму, ці не застанемся вінаватымі перад нашымі будучымі пакаленнямі, ці ўсё зрабілі для таго, каб быць дастойнымі сынамі паўстанцаў – касінераў і інсургентаў?

*“Не заставайцеся вінаватымі нікому і нічым, акрамя ўзаемнай любові; таму што той, хто любіць другога, выканаў закон,* – вучыць святы апостал Павал у пасланні да рымлянаў (13:8*). – Той закон, які сведчыць і патрабуе – любі бліжняга свайго, як самога сябе. Любоў ці каханне не робіць бліжняму зла; бо каханне і ёсць выкананне закона”.*

10

Калі я прыходжу ў лес ці то ў Польшчы, ці то ў Беларусі, бачацца мне начныя кастры неўздалёк ад Нёмана ці Прыпяці; каля іх грэюцца і сушаць сваю амуніцыю інсургенты. Яны не здзіўляюцца, калі падсаджваюся да іх, выстаўляю растапыраныя пальцы да агню, нават і не паглядаюць у мой бок, хаця бачаць мяне.

Для іх я амаль свой чалавек.

Мне ж вядома, каля якога кастра сядзяць “Тапор” і  Пацябня, Серакоўскі і Дамброўскі, Далеўскі і Ражанскі, нават Міхал Валовіч…

– А дзе ж Кастусь? – пытаюся  кожны раз пра адно і тое ж.

– Од’ехал, прэндко бэндзе. Затшымал сен в Вільне. Яконсь справе там ма... (Адлучыўся, хутка будзе, нейкія клопаты ў яго там у Вільні...)

– А хіба ён не загінуў?

– Хто табе пра тое наплёў? Ён жывы, жывы, і ніколі не памрэ. Ён прыйдзе да нас. Вінцэнт Канстанцін Сямёнавіч Каліноўскі проста чакае свайго часу, а мы чакаем яго. І ён, той час, абавязкова наступіць.

І я шчыра верыў у тое.

Заўсёды пакідаў лагер інсургентаў на досвітку, калі на начным небе дагаралі буйныя зоркі Валацужнага Шляху, таго шляху, якім пайшоў Воляй Абраны правадыр паўстання ў Несмяротнасць.

*1999 – 2011*

*Вільня, Варшава, Масква, Піцер, Бярэсце, Гародня, Лондан, Парыж, Магілёў…*

**Замест рэцэнзіі,** анатацыі і крытычнага аналізу, альбо Мой погляд на тэму: ***“Кастусь Каліноўскі: чалавек і герой, адраджэнне беларускага народа, прадбачная параза паўстання”***

Аўтар рамана “Воляй абраны” Анатоль Бароўскі звярнуўся да мяне з просьбай: прачытаць і даць сваю крытычную ацэнку – як самому слыннаму герою Кастусю Каліноўскаму, так і таму супярэчліваму часу ў рэчышчы нацыянальнай ідэі і адраджэнню беларушчыны.

Адразу адзначу, што аўтар амаль правільна расставіў акцэнты ў гісторыі, паказаў сваё бачанне і адносіны да легендарнай постаці. Але я мушу не пагадзіцца з некаторымі момантамі выкладзенай пазіцыі яе аўтара. Ці то наўмысна, ці то не, над ім свяціўся німб створанага папярэднікамі Асобы, непахіснай духоўна і фізічна, якая не падлягае якому-небудзь перагляду і рэальнай ацэнцы яго дзейнасці, – не ведаю. У нейкіх месцах былі спробы адысці ад ідэалізацыі кіраўніка паўстання 1863 года, але яны адбыліся мімаходзь.

Прызнаюся, раман мяне закрануў, і ад гэтага захацелася зрабіць і свой унёсак у гэтую тэму. А тэму падказаў сам аўтар – Кастусь Каліноўскі: Чалавек і Герой.

Пачну з выказванняў вядомага рэлігійнага дзеяча, слыннага прадстаўніка нашай роднай Беларусі Аляксандра Надсана. У сваім роздуме “Пра Боскае і людскае” пісаў: “Некаму, можа, будзе балюча развітацца з легендамі, але і праўду няма сэнсу хаваць. Гэта ўжо гісторыя, а яна павінна быць праўдзівая, каб у прышласці не паўтараць памылак”. Цалкам згодзен з ім.

Кастусь Каліноўскі – кіраўнік беларуска-польскага паўстання 1863 года супраць расійскага царызму. Даследуючы яго дзейнасць і ягоную постаць у некаторых творах яго называлі “заснавальнікам беларускага нацыяналізму”. Адзін з такіх прыхільнікаў сцвярджэння (“Беларусь на гістарычных скрыжаваннях”) Янка Запруднік.

Калі гаварыць пра літаратурную спадчыну Каліноўскага, то яна не вялікая – усяго толькі некалькі нумароў “Мужыцкай праўды” ды “Лісты з-пад шыбеніцы”, вершы, прысвечаныя сваёй нарачонай. Але яна, творчая спадчына, вымяраецца не аб’ёмам ці колькасцю твораў, а яе значнасцю і сілай. Для другой паловы XIX

стагоддзя *яго творы, напісаныя на нікому ў свеце не вядомай "мужыцкай" мове, аказаліся з'явай незвычайнай, выбуховай і рэвалюцыйнай.* Ніхто не асмеліўся аспрэчваць пазней таго факта, што менавіта толькі пасля паўстання Кастуся Каліноўскага ў свядомасці расійскай грамадскасці і нават ва ўсёй сусветнай супольнасці пачаў фармавацца погляд на Паўночна-Заходні край Расійскай імперыі ўжо не як на частку імперыі, а як на этнічную тэрыторыю пражывання новага няведамага дагэтуль народа – БЕЛАРУСАЎ.

Гэта толькі адзін бок феномену Каліноўскага.

Другі ж бок, і ён быў не меней істотны, – гэта яго творчасць і дзейнасць, *якая непасрэдна мае дачыненне да беларускага нацыянальнага адраджэння і станаўлення беларускага нацыяналізму як з'явы мадэрнай гісторыі.*

Не адно пакаленне даследчыкаў займалася даследаваннем і пошукамі беларускай нацыянальнай ідэі ў творах Кастуся Каліноўскага. Вынікі тых пошукаў аказаліся супярэчлівымі. Стала відавочным, што шмат чаго як з напісанага, так і ацэнкі яго як чалавека, аказалася перабольшаны. А што тычыцца яго некаторых выказванняў пра праваслаўе як "схізму", выклікаюць нават канкрэтнае непрыманне – асабліва праваслаўнымі вернікамі.

Я і раней займаўся пытаннямі паўстання 1863 года, выказваў свае думкі як у прэсе, так і ў Сеціве. Але нечакана на мяне абрынуўся шквал крытыкі – як на сам змест артыкула, так і на маю асобу. Шкада, што не зразумелі маёй пазіцыі нават знакамітыя дзеячы беларускай культуры. А я стараўся даказаць, што я не супраць Каліноўскага, я проста жадаў аддзяліць праўду ад міфічных вымыслаў. Праўда, улетку 2008 года, падчас наведвання Жыровіцкага манастыра мне трапіліся знакамітыя старонкі "Жыровіцкай абіцелі", дзе зусім незалежна ад мяне ў артыкуле "Дастаеўскі і Каліноўскі" да вельмі блізкіх і сугучных майму сэрцу і нават больш радыкальных, прыходзіць інак Мікалай (у свеце – вядомы беларускі паэт Зьніч). Тут мяне могуць папракнуць: зразумела – хіба веруючы праваслаўны чалавек можа падтрымаць таго, хто абражае яго веру. А факт абразы вынікае з газет, якія выдаваў Каліноўскі. Але на тым форуме, у якім я прымаў удзел, быў голас у маю падтрымку ад аднаго вядомага чалавека каталіцкага веравызнання.

Але з зусім нечаканага боку – аж з Сінгапура – прыйшла да мяне адваротная вестка. Як я даведаўся, там працуе часова пры-

хаджанін таго ж храма, што наведваю і я, – Петрапаўлаўскага. Мой праваслаўны сябра выказваў самыя злосныя, самыя крыўдлівыя словы на мой адрас за тое, што я асмеліўся як даследчык крытыкаваць у нечым Каліноўскага. Не адмаўляць, а разабрацца толькі ў супярэчлівасці яго выказванняў.

Я зразумеў тады і прыйшоў да высновы, што трэба адшукаць нейкую залатую сярэдзіну, каб "прымірыць" розныя погляды на гэтую праблему, а для гэтага неабходна было прааналізаваць розныя стаўленні, погляды, заўвагі. Таму рашыў спачатку разгледзець тыя выказванні ў творах Кастуся Каліноўскага, якія пакладзеныя ў аснову думкі тых да-следчыкаў, што залічаюць яго – Каліноўскага – да дзеячоў не беларускага руху, а польскага.

З чаго пачаць? А хаця б з артыкула эмігранцкага гісторыка Юры Весялкоўскага "XIX стагоддзе на Беларусі і Кастусь Каліноўскі". Надрукаваны ён у кнізе "Дух часу". Кніга выдадзена ў Лондане ў 2005 годзе.

Аўтар піша: "Каліноўскі не быў незалежным лідарам паўстання на Літве і Беларусі, а толькі адным з польскіх памагатых, аб чым пішуць палякі… Яго Правінцыйны Камітэт, як улада на Літве і Беларусі, у сваёй адозве ад 29 сту-дзеня 1863 года гаварыў наступнае: "Паўстанне на Літве выракуе аб уваскрошанні Польшчы і смерці ворагаў".

Ю. Весялкоўскі далей даволі аргументавана паказвае яго ролю ў паўстанні 1863 года як змагара за свабоду Польшчы, але ніяк не як змагара за вольную Беларусь, як гэта прынята лічыць у нас цяпер, фактычна, амаль на афіцыйным узроўні. Ён жа далей піша: "Шкада, што мы не маем газеты "Мужыцкая праўда" Каліноўскага (у яго распараджэнні былі толькі асобныя вытрымкі з гэтых лісткоў " і "Лісты з-пад шыбеніцы".

У мяне ж была магчымасць пазнаёміцца з усімі лісткамі. Ды тэксты ўсіх нумароў "Мужыцкай праўды" ў выглядзе фотакопій ёсць у кнізе "К.Калиновский. Из печатного и рукописного наследия". (Минск, 1988). І высветлілася, што Юры Весялкоўскі, на жаль, меў рацыю.

Дык што ж сапраўды беларускага было ў "Мужыцкай праўдзе" Кастуся Каліноўскага? Паспрабуем разабрацца разам?

**"Мужыцкая праўда" № 1.**

Адразу ж звяртае на сябе ўвагу зварот – "Дзецюкі". Чамусьці не "браткі-беларусы", не "ліцвіны", не "русіны", а "дзецюкі". Можна зразумець гэта і прыняць, бо "беларусы" як назва народа тады

яшчэ не была шырока распаўсюджана, аднак народ неяк жа зваўся, ці не так? І ў тым жа лістку, як і ў іншых, праходзіць даміноўная лінія супраць “маскалёў”, чыноўнікаў і паноў: “Маскалі, чыноўнікі і многа паноў будуць перапыняць пісьмо наша да вас, но найдуцца людзі… што хочуць вашай свабоды…” Тут, як бачым, выказваецца недавер да палітыкі, якую праводзіць Масква. І што тая ж Масква не дасць вольнасці мужыку.

А далей ужо ідзе заклік узяцца за рукі, мужык, пакуль здольны трымаць касу і сякеру, будзе “baranic swaho”.

**Другі нумар “Мужыцкай праўды”**.

“Быў наш народ калісь вольны і багаты”, – піша Каліноўскі. Праўда, няма ўдакладнення, калі гэтае шчасце надарылася нам. Пан-шчыны, як вядома, тады не было. Было лесу шмат. Пра гэты “мужыцкі рай” Кастусь Каліноўскі дае наводку: лю-дзей тады было мала, а “поля колькі хочаш”, так што не трэба служыць паншчыны, кожны мог паставіць сабе хату і мець сваё поле. Але разгадка, дзе ж было тое месца і калі былі тыя слаўныя часы, крыецца ў наступным абзацы: “u susedstwe z nami zyu Niemiec i Mascal”. Заўважым – не “маскаль” і “Польшча”, а “Немец”! Значыць, “мы” – гэта і ёсць Польшча.  А далей…

Далей больш – “наш кароль”, як можна зразумець тэкст, рабіў усё па справядлівасці, а “маскаль” увёў падаткі, паншчыну і чынш на зямлю. І тут жа далей ідзе рашучы заклік – ісці вайною на “маскаля”.

**№ 3 “Мужыцкай праўды”**.

А ў гэтым лістку Каліноўскі піша, быццам “народ паразумнеў”: “ужо ведаем, што чалавек вольны, – гэта калі мае кусок сваёй зямлі, за катору ані чыншу і аброку не плаціць, ані паншчыны не служыць”. А на заканчэнне, як і ў іншых аркушах , – зварот да рэлігійных пачуццяў мужыка: “Толька, дзецюкі, смела, бо з намі Бог і праўда, а калі мы з Богам, то з намі ваяваць трудна, бо боска моц вяліка, а народу многа”.

**“Мужыцкая праўда” № 4**

“Ронд маскоўскі, дзецюкі, не так робіць, як рабіці трэба, не думае, каб палегчыць народаві, а вымышляе адно спосабы, як абадраці і заўсім людзей зглуміці”. “У нас, дзецюкі, адно учаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску, а то для таго, каб цябе зусім перарабіці на маскаля. Суды маскоўскія – гэта воўчая яма, гдзе не разбіраюць, чы з табою праўда, чы не, а скубуць адно як могуць”.

Зразумела, што змест гэтага аркуша-лістка скіраваны супраць маскалёў і цара, якія яны дрэнныя і як дрэнна жыць мужыку.

Аднак, на вялікі жаль, канструктыўных парад ці нейкіх рэцэптаў да равязвання гэтай балючай праблемы не даецца. Мусіць жа, селянін ці гараджанін, чытаючы гэта, шукаў тыя канкрэтныя парады і не знаходзіў…

**"Мужыцкая праўда" № 5**

Уважліва прачытаем наступныя развагі: "Помняць яшчэ нашыя дзяды… што за іх часоў мужыкі рэкрута і не зналі. Было войска, то праўда, но войска польскае ўсё было зэ шляхты, а калі мужыкі часамі захацелі ісці на вайну, так зараз з іх знімалі мужыцтва да і паншчыну, давалі зямлю, а ўсю вёску рабілі шляхтаю. … ронд Польскі даваў зямлю, даваў вольнасць, даваў шляхетцтва, – а маскаль чы гэтак робіць?"

Прачытаўшы такія шчырыя радкі, так і хацелася, мусіць, кожнаму мужыку падацца ў Польшчу па зямлю і шляхецтва. Але калі сур'ёзна, спытаемся: ці сапраўды так бестурботна і шчасліва жыў мужык пад Польшчай? Спашлемся зноў на Ю. Весялкоўскага, які прыводзіць некалькі характэрных прыкладаў на гэты конт. Так, барон Жыгімонт Герберштэйн пасля сваіх падарожжаў праз Беларусь у 1517 і 1526 гадах пісаў: "Народ бедны і прыгнечаны рабствам". Пётр Скарга пісаў: "Паны не толькі адбіраюць у гаротнага селяніна ўсё, што ім зроблена, алеі забіваюць яго, калі пажадаюць". Нават прагрэсіўная травеньская Канстытуцыя 1791 года не скасавала прыгоннага права ў Рэчы Паспалітай.

Звернемся да **шостага нумара "Мужыцкай праўды".**

Як мы ведаем, Каліноўскі паходзіў з каталіцкай сям'і, але да сялянаў, "Мужыкоў", ён звяртаецца як да вызнаўцаў уніяцкай веры – "справядлівай уніяцкай веры". Ён піша, што мужыкоў перавярнулі да схізмы (гэта азначала – да расколу паміж двума канфесіямі), на праваслаўе, *што "ён сягодня, як той сабака, жыве без веры і, як сабака, здохне чартам на пекла".*Вось што азначала для Каліноўскага праваслаўе! Дзіўна, ці не праўда? Гэта азначала *"аддаць у пекла на вечныя мэнкі, будуць чэрты душу рваці на кускі, а смала ў вантробах кіпеці будзе".*

Ці не ведаў Кастусь Каліноўскі, што на той час, калі пачалося паўстанне, большасць беларусаў вызнавала праваслаўе? Безумоўна ж, ведаў. Тады якая схізма, які раскол? Расійскі самадзержац Пётр I, едучы ў 1705 годзе на вайну са Швецыяй, не абмінуў По-

лацак. Беларускія і літоўскія магнаты, што былі пад Сапегамі, падтрымлівалі шведскага караля Карла XII і памагалі яму войскам. Прыхільнікі шведаў абралі сабе каралём і Вялікім князем Станіслава Ляшчынскага.

Такім чынам, Рэч Паспалітая набыла сабе двух гаспадароў, і раптоўна між імі разгарэлася вайна. З аднаго богу маскоўскі самадзержац азвярэў, пасылаў праклёны скандынавам, а з другога… А з другога была прычына распачаць вайну на Беларусі.

Беларуская ўніяцкая царква захоўвала ўсходні абрад у набажэнствах, гэта значыць, праваслаўных, але разам з тым сама знаходзілася пад юрысдыкцыяй Рыма. Таму і няма дзіўнасці ў тым, што пасля далучэння (ці анексіі) Беларусі да Расійскай Імперыі пераход ад уніяцтва да праваслаўя ў сваёй практычнай частцы жыцця адбыўся даволі хутка. Ход служэння літургіі і іншых царкоўных набажэнстваў цалкам захаваўся пры гэтым пераходзе. І пераход той адбыўся незаўважна, так бы мовіць, спакойна і без прынукі. А тое, што пры заканчэнні ўпамінаўся не папа Рымскі, а расійскі патрыярх, для селяніна значэння не мела, – ён жа ўзносіў малітву да Бога.

Да слова сказаць, у апошнія часы існавання Рэчы Паспалітай становішча ўніяцкай, ці – грэка-каталіцкай – царквы ў дзяржаве рабілася ўсё менш пэўным. Палякі ж, не дачакаўшыся “плаўнага пераходу” з праваслаўя ў каталіцызм праз унію 1596 года, убачылі, як уніяцкая Царква ператвараецца ў асобную канфесію, фактычна робячыся самастойнай, не захацелі з гэтым фактам лічыцца і пагадзіцца. Таму ў асяроддзі вернікаў-уніятаў вялася палітыка паланізацыі, і яшчэ ў 1717 годзе з’явіліся дакументы аб скасаванні “рускай” веры, якой было не толькі праваслаўе, але і унія.

Узнікае пытанне – дык за што ж Кастуся Каліноўскага так высока ўзнеслі нашчадкі? Асабліва ў той савецкі час, калі беларусы ў большасці сваёй былі атэістамі? Ім, мусіць, не было ніякай розніцы, пра што гаварыў і дамагаўся кіраўнік паўстання, якую рэлігію абвяргаў, а якой аддаваў перавагу. Проста ягоная постаць выгадна ўпісвалася ў палітычныя гульні пэўных дзеячоў. Нават правадыр пралетарыяту Ленін выкарыстоўваў у сваіх прамовах імя Каліноўскага як рэвалюцыянера.

Адказ першы. Ніхто – ніхто! – не асмеліцца адмаўляць ягонага ўдзелу ў змаганні з самадзяржаўем, і мы ведаем яго як аднаго з лідараў польскага паўстання 1863 года на тэрыторыі Беларусі.

Адказ другі. Гэтае ўслаўленне Каліноўскім уніі, але другі момант пачалі ўжо актыўна выкарыстоўваць пасля “раскруткі” Каліноўскага як рэвалюцыянера, тады,калі ён ужо *стаў* вядомым дзеячом з арэолам непагаснай славы.

Можна спытаць у мяне: а чаму я сабраў у адно спрэчныя моманты нашага слыннага рэвалюцыянера? Ды хаця б толькі таму, што адной з мэтаў маіх даследванняў і ёсць высвятленне дзейнасці тых людзей, якія спрычыніліся да ўтварэння незалежнай беларускай дзяржавы, фармавання беларускай нацыі і беларускага нацыяналізму. У асобе Кастуся Сымонавіча Каліноўскага непасрэдна, як мы бачым, такіх момантаў, на вялікі жаль, не ўдалося выявіць. У яго народ беларускі – гэта толькі “дзецюкі” і “мужыкі”.  Ёсць яшчэ, праўда, вызначэнне “браты з-пад Варшавы”.

Але… Але ёсць у паўстанцкай дзейнасці Кастуся Каліноўскага галоўная адметнасць, якая розніць яе ад чыста польскага паўстання. І тых жа “дзецюкоў” ён вылучае не толькі ад “маскалёў”.

Вывучаючы і аналізуючы кожны нумар яго “Мужыцкай праўды”, міжволі задумаўся: калі ж у асобе Каліноўскага не праглядваецца нацыянальны беларускі дзеяч, то адкуль узяўся цяперашні вобраз гэтага нацыянальнага не тое што дзеяча, а нават героя? Ягонае імя цяпер асацыюецца з вобразам магутнага волата, пачынальніка беларускага адраджэння.. Нават больш таго – яго пачынаюць лічыць заснавальнікам беларускага нацыяналізму, менавіта гэта сцвярджае Янка Запруднік. У якасці довада ён бярэ цытату з “Лістоў з-пад шыбеніцы”, частку з якіх варта працытаваць і мне: “Нямаш, браткі, большага шчасця на гэтым свеце, як калі чалавек у галаве мае розум і навуку. Тагды ён толькі можа быць у радзе, жыці ў дастатках, і тагды толькі, памаліўшыся папраўдзе Богу, заслужыць Неба, бо, абагаціўшы розум, разаўе сэрца і радню шчыра палюбіць”. Скажам так – ніхто не супраць яго парады мець розум і навуку.

Чытаем далей: “но як дзень з ноччу не ходзяць разам, так не ідзе разам навука праўдзіва з няволяй маскоўскай. Ды пакуль яна ў нас будзе, у нас нічога не будзе, не будзе праўды, багацтва, ніякай навукі”. Дык вось у чым, аказваецца, рэч! Навука для нас – мужыкоў – не можа ісці з “няволі маскоўскай”. І што тады прапануе К. Каліноўскі далей у якасці развязання гэтай “маскоўскай праблемы”? Цытую далей: “Для таго, Народзе, як толькі ты пачуеш, што *браты*

*твае з-пад Варшавы* б'юцца за праўду і свабоду, тагды і ты не аставайся ззаду, но ўсхапіўшы за што можаш, за касу, сякеру, цэлай грамадой ідзі ваяваці за сваё чалавечае і народнае права, за сваю веру, за сваю зямлю родную".

Выходзіць, трэба брацца за пэўны гаспадарчы інструмент і ісці разам з братамі з-пад Варшавы ваяваць супраць маскалёў, узброеных, як мне думаецца, трошкі лепш. "Трошкі лепш" – іранічна сказана. Можа, браты з-пад Варшавы назапасілі процьму зброі, штуцэраў ды гармат, каб смела выступіць супраць узброеных грэнадзёраў-маскалёў? Косы і вілы – зброя? І зажывем мы тады, атрымліваецца, разам з польскім панам, ой зажывем… Але пры чым тады ў гэтым кантэксце Беларусь? Той жа Янка Запруднік робіць пасля цытавання гэтага месца зусім іншую выснову: "Лісты з-пад шыбеніцы" Каліноўскага сталі палітычным крэда беларускага нацыяналізму". Нейкі дзіўнаваты нацыяналізм атрымліваецца.

Кніга, якую я згадваю, з'явілася ў 1993 годзе. Значыць, міф пра Каліноўскага ўжо існаваў і працягваў умацоўвацца і далей. А дзе ж яго вытокі? Захацелася мне выслухаць думкі тых людзей, што былі бліжэй да тых падзеяў, а, значыць, і болей ведалі пра тое, прынамсі, яшчэ не так папрацаваў "сапсаваны тэлефон". Возьмем кнігу "Белорусское движение. Очерк истории национального и революционного движения белоруссов". Аўтар – беларускі гісторык і грамадскі дзеяч пачатку XX стагоддзя Фёдар Фёдаравіч Турук. Кніга выйшла ў 1920 годзе. Дарэмна я шукаў патрэбнага прозвішча ў гэтай кнізе. Пазіцыя Турука што да патрыятызму беларусаў сярэдзіны XIX стагоддзя блізкая да А.Н. Пыпіна (История русской этнографии. Т. IV. Спб. 1892), які слушна піша: "Гэты патрыятызм быў "беларускі", але сутнасць яго была польская. Ён быў беларускі па любві да тэрытарыяльнай радзімы, яе пейзажных і бытавых абставінаў, але ўсё жыццё беларускага народа разумелася з чыста польскага пункта бачання". А адносна падзеі 1863 года Ф. Туруком сказана менавіта столькі, колькі было ў гэтых падзеях сапраўднага сэнсу: "Падзеі 1863 года закранаюць у значнай ступені народныя масы Беларусі, якіх польскія паўстанцы клічуць на барацьбу з рускім царызмам і да адстойвання царкоўнай уніі на іх роднай мове… абяцаючы ім у незалежнай Польшчы "роўнасць і брацтва сялянаў і шляхты". Да слова сказаць, менавіта такім патрыётам Бацькаўшчыны быў і славуты наш зямляк, польскі маршал Юзэф Пілсудскі, сэрца якога пахавана ў Вільні.

Нічога не сказана пра асобу Кастуся Каліноўскага і ў творах знанага В. Ластоўскага, які лічыўся і лічыцца ці найгрунтоўнейшым даследчыкам гісторыі, культуры і літаратуры Беларусі пачатку XX стагоддзя. Хто ж можа праліць святло на спрэчныя моманты? Звернемся да Максіма Багдановіча – генія нашай літаратуры. За аснову возьмем яго два тамы збору твораў. У артыкуле "Белорусское возрождение" адносна падзей, якія нас цікавяць, Багдановіч піша: беларуская мова выкарыстоўвалася ў тыя часы ў чыста практычных мэтах: "Польскія паўстанцы 1863 года ў сваю чаргу (як адказ на дзяржаўныя расійскія выданні пра беларусаў – А.А.) надрукавалі шэраг выданняў на беларускай мове. Такія "Мужыцкая праўда", "Гутарка старога дзеда". К. Каліноўскі выдаваў у Беластоку нават беларускую газетку "Hutarka".

Вось і ўсё! Максім Багдановіч вельмі грунтоўна ведаў беларускую гісторыю і напісаў нават шэраг арыгінальных артыкулаў. І калі ён абышоў маўчаннем дзейнасць Каліноўскага як нацыяналіста, то, відаць, і не было асабліва пра што гаварыць.

Або яшчэ возьмем адзін твор – пачынальніка беларускага руху пачатку XX стагоддзя Антона Луцкевіча. Для нас – неаспрэчны аўтарытэт. Гэта ягоныя "Выбраныя творы", выдадзеныя "Кніга-зборам" у 2006 годзе. На старонцы 311 мяне чакаў сапраўдны сюрпрыз пад назвай: "Праўда аб "Мужыцкай праўдзе"! (Артыкул прыкладна 1932 года). Луцкевіч піша, маўляў, часта можна спатыкацца з заявай аб выданні К.Каліноўскім падчас паўстання газеты "Мужыцкая праўда".

"Заява гэтая да нядаўніх часоў паўтаралася і беларускімі адраджэнцамі, якія стараючыся выкарыстаць для сваёй акцыі ўсё, што гаварылася аб ранейшых праявах беларускага руху, вельмі даверліва аднесліся да гэтае запраўды ж рэвалюцыйныя звесткі".

Луцкевіч раскрывае недасведчанаму чытачу праўду: "мы можам увачавідкі пераканацца, што газетай "Мужыцкая праўда" не была. Гэта быў папросту цыкл адозваў… – і нічога болей. Выходзілі яны не перыядычна і наогул з газетай не мелі нічога супольнага… змест жа адозваў меў на мэце падняць беларускае сялянства проці Масквы і здабыць ягоную прыхільнасць для "польскага ронду" (гэтак Каліноўскі збеларушчыў не вельмі ўдатна польскае слова "rzond" – урад).

Агульнавядома, што гераізацыя Кастуся Каліноўскага распачалася яшчэ беларускімі савецкімі гісторыкамі як гісторыя пра выдатнага рэвалюцыянера, кіраўніка польскага паўстання супраць царызму ў 1863 годзе. Сцвярджалася, што ён стаў ахвярай рэжыму і быў павешаны на 26-м годзе жыцця. Але трэба прызнаць той факт, што рэвалюцыянераў такога кшталту ў Расійскай Імперыі было нямала. Чаму ж так высока ўзнятая гэтая фігура? Разгадка простая – ён і ягоныя сааўтары "Мужыцкай праўды" выкарыстоўвалі ў сваіх адозвах беларускую мову, праўда, у лацінскім алфавіце. І хоць, як вышэй падкрэслівалася, тое было зроблена дзеля практычнай мэты, можна нават сказаць, палітычнай, – таго і было досыць, каб залічыць Кастуся Каліноўскага да першых нацыяналістаў.

Падчас нацыянальнага адраджэння 1990-х гадоў гераізацыя Каліноўскага атрымала новы імпульс, набыла "другое дыханне". Асабліва спрыяў таму яшчэ адзін міф – міф аб уніі як нацыянальнай веры. І вось тут прыйшліся дарэчы "ўніяцкія заляцанні" да мужыкоў у "Мужыцкай праўдзе". Хаця, як пішуць тыя самыя савецкія гісторыкі, Каліноўскі не верыў у Бога, з'яўляўся атэістам. Вось яно як здараецца насамрэч.

Ну і каб не заглыбляцца на вялікія глыбіні, каб не страціць асноўнай думкі, падсумуем тое, пра што мы гаварылі. Што б ні сцвярджалі гісторыі і некаторыя даследчыкі, але факт застаецца фактам – зроблены аналіз ставіць пад сумнеў значнасць унёску Каліноўскага ў справу адраджэння беларускага народа. Трэба ўсё ж аддзяляць зярняты ад плевелаў – аддзяляць рэвалюцыйную дзейнасць Каліноўскага ад яго дзейнасці як прыхільніка беларускай нацыянальнай ідэі.

Аднак… Аднак трэба ўлічваць час і палітычную атмасферу таго перыяду. Лёгка нам сёння кідацца ў крайнасці, абвяргаць ці падымаць на п'едэстал пакутніка рэвалюцыі. Нават тыя мізэрныя, на цяперашні час невялічкія нумары, хай сабе і не газеты, а адозвы "Мужыцкая праўда" – гэта адзнака зараджэння новага народа, новай нацыі і новай эпохі. Для беларусаў настаў той час, калі трэба было пераступіць парог, які раздзяляў "учора і заўтра", настаў час фармавання беларускай нацыі. За ім ішлі паслядоўнікі – Францішак Багушэвіч, Максім Багдановіч, ішлі новыя людзі – Беларусы…

І толькі дзякуючы выхаду той жа "Мужыцкай праўды" перад сусветнай грамадскасцю з'явілася нікому невядомая, новая мова –

беларуская Мова. Кастусь Каліноўскі ў сваіх лістках “Мужыцкай праўды” вылучыў і ўзнёс на п’едэстал – вышэй за яго самога – асобную мову беларусаў.

Так, у наш час слынная постаць рамантыка і рэвалюцыянера Кастуся Каліноўскага стала легендарнай. Пісьменнікі і музыкі напісалі мноства мастацкіх твораў, у якіх Каліноўскі выступае ўжо як нацыянальны герой, тое ж, калі не ў большай ступені, зроблена нашымі мастакамі і скульптарамі. І неяк не ўпісваюцца ў кантэкст гераізацыі прыведезеныя вышэй крытычныя адзнакі дзейнасці Каліноўскага. Больш за тое, мяркую, што большасць уцаркоўленых праваслаўных беларусаў, да якіх належу і я сам, не залічаць яго да сваіх гістарычных герояў.

Як жа нам быць? Як сцерці вострыя і калючыя грані розных думак?

А сітуацыя між тым і простая, і разам з тым складаная. Дужа складаная. Тут мы маем становішча, аналагічнае таму, што склалася на 240 гадоў раней (1632 г.) у Віцебску з Язафатам Кунцэвічам. Для праваслаўных беларусаў ён з’яўляўся “душахватам”, для ўніятаў – героем, пакутнікам за веру. Мінула ўжо чатыры стагоддзі. У цяперашніх уніятаў Я. Кунцэвіч – святы, праваслаўнаму насельніцтву ён альбо невядомы, альбо “па старой памяці” непрыяцель.

І тут мы ўжо з вамі нічога парабіць не зможам, як бы ні хацелі таго. А хацелася б нам, каб мы поўнасцю прымірылі дзве часткі аднаго беларускага народа, даць ім адных і тых жа герояў, адных і тых жа святых. Для гэтага найперш даць народу адну веру, адныя стандарты, адзіны лад жыцця. Таму прыведзеныя вышэй спробы крытычнага аналізу ні ў якім разе не азначаюць, што я спрабую “скінуць з п’едэстала героя Кастуся Каліноўскага”, – не, не і яшчэ раз не. Нават наадварот, я бачу ў ім не мёртвую схему апантанага рэвалюцыянера і барацьбіта з “маскалямі”, а жывога чалавека, які з юнацкім максімалізмам і запалам змог падняць масы простых беларускіх сялянаў, якія паверылі яму і пайшлі за ім, на барацьбу з царызмам і адкрыў ім вочы на сваю годнасць і веліч на абшарах гісторыі. І таму можна дараваць яму “праваслаўную схізму”, насуперак розным адносінам вернікаў да яго.

І яшчэ. Як гаварылася вышэй, Кастусь Каліноўскі шмат разоў звяртаецца да веры вясковых мужыкоў. Спытаем у сябе, чаму Каліноўскі апеляваў да веры вясковых мужыкоў, якія з’яўляліся ўніятамі? Тут трэба успомніць пра тое, што яму на той час было

ўсяго 25 гадоў. А гэта азначае хіба толькі тое, што ў такія гады рамантычныя мроі часта дамінуюць над рэчаіснасцю. А менавіта толькі такой і магла быць уніяцкая мара аб веры беларусаў на той час. У сваім фундаментальным творы Т. Нейрн пісаў, што нацыянальнай ідэнтыфікацыі вымагае прыняцця праграмы рамантызму, які абвяшчае “сентыментальную культуру”.

І сапраўды той рамантычнай рысай беларускага этнасу для Кастуся Каліноўскага з’явілася народная рэлігія, хрысціянства ў форме ўніі. І хоць большая частка беларускага вясковага насельніцтва ў другой палове XIX стагоддзяў ужо не вызнавала веры “мужыкоў” – грэка-каталіцызму, ці уніі, – Каліноўскі паюнацку шчыра захапляецца гэтай таямнічай і, як ён лічыць, “беларускай верай”, а, значыць, і беларускай мовай. Адсюль, мусіць, і абразлівыя выказванні ў бок маскоўскага праваслаўя.

Узнікае заканамернае пытанне – наколькі можна лічыць правільным сцвярджэнне  аб тым, што ўніяцкая вера для беларусаў ёсць нацыянальнай  верай? Ці было ўніяцтва лагічным вынікам эвалюцыі хрысціянства (яго праваслаўнай і каталіцкай плыняў) на беларускіх землях і ці стала яно з цягам часу новай рэлігіяй беларусаў, іх нацыянальнай верай? Так, для ўкраінцаў з Галіччыны унія – сапраўды цяпер найбольш блізкая вера, і яна нясе шмат нацыянальных асаблівасцяў. Для беларусаў жа гэта зусім не так, і меркаванне аб тым, што унія з’яўляецца нацыянальнай верай для беларусаў, з’яўляецца чарговым міфам гісторыі.

І той жа міф аб заваёве Беларусі этнічнымі літоўцамі (жмуддзю) і аб поўнай адсутнасці ў беларусаў дзяржаўнасці ствараўся на працягу ўсяго XIX стагоддзя расійскімі гісторыкамі – Тацішчавым, Салаўёвым, Пашутай і іншымі, – ужо ў XX стагоддзі – савецкімі гісторыкамі (беларускімі, расійскімі і асабліва літоўскімі) і быў бліскуча разбіты і развянчаны Міколам Ермаловічам.

Міф аб уніі створаны галоўным чынам у каталіцкім асяроддзі. Прычым як польскіх навукоўцаў, так і беларускіх, і ўкраінскіх.

Супрацьстаянне экспансіі РПЦ на Заходнія землі ў XIX стагоддзі прыняло ў выніку выгляд не зусім натуральны. Гэты супраціў у некаторых мясцінах набыў нават характар поўнага адмаўлення праваслаўя і прыняцце не ўласцівай ментальнасці беларусаў чужой веры – каталіцызму, у які часта пераходзілі і беларусы-ўніяты. Вось чаму ў Беларусі і з’явілася вялікая колькасць палякаў, якія паступова ўтварыліся з беларусаў-каталікоў.

Калі ж праваслаўе XVI стагоддзя лічыцца Залатой парой для беларускага народа, часам росквіту як нашае культуры, так і навукі, і рамёстваў, – то ўжо з наступнага стагоддзя (з прыходу ўніі) пачынаецца заняпад беларускай культуры. Менавіта пасля ўніі 1569 года і пачынаецца агульны крызіс у ВКЛ. З гэтых часоў пачынаецца польскі ўплыў ва ўсіх сферах жыцця. Кожны здадзены Праваслаўнай Царквой фарпост, кожны прыход ці царква, здадзеныя на карысць уніі, вялі да ўзмацнення пальшчызны ў беларускім асяродку. Ды і не магло яно быць інакш. Бо падпарадкаванне праваслаўных абшчынаў чужой уладзе Папы Рымскага дзейнічала толькі на карысць каталіцызму і ўзмацняла яго ўплыў на нашых землях. Такім чынам, можна свярджаць, што унія з'яўлялася сапраўдным мастом да апалячвання беларусаў.

Спашлемся на В. Пакуцэвіча, які ў сваёй кнізе "Берасцейская ўнія" піша: "... з пачаткам XIX стагоддзя без аніякага прымусу афіцыйных маскоўскіх уладаў польская мова стала пануючай у Каталіцкай Царкве абодвух абрадаў" (г. зн. каталіцкай і ўніяцкай канфесій – аўт.). Але і не толькі мова казанняў мянялася, мяняўся таксама абрадавы бок службы. І калі ўніяцтва захавала ва Украіне першапачатковыя ўсходнія асаблівасці, характэрныя для Праваслаўнай Царквы, то ў Беларусі яно эвалюцыянавала ў заходнім кірунку і амаль злілося з каталіцкім Касцёлам.

Звернемся да айца Сергія Гардуна, які слушна напісаў пра становішча з беларускай мовай у ВКЛ пад час росквіту уніі: "Роўна праз сто гадоў пасля заключэння Брэсцкай уніі, у 1696-1697 гадах, беларуская мова была выкінутая з афіцыйнага ўжытку і заменена польскай. Вось вынік стогадовага панавання уніі! Пропаведзі, справаводства, выкладанне ў царкоўных школах – усё гэта вялося ўніятамі па-польску. Беларуская мова перастала існаваць як мова літаратурная (Прат. С. Гардун. "Брэсцкая унія", стар. 28).

І – галоўнае. Як і а. Гардун, так і іншыя даследнікі адзначаюць такі непрыемны факт: *за перыяд панавання уніі (1596-1839) уніяты не пераклалі на беларускую мову ніводнага богаслужэбнага чыну і ніводнай кнігі. За гэты час не адбылося ніводнага богаслужэння на беларускай мове.* Ці ж гэтым трэба ганарыцца прыхільнікам і паборнікам сучаснай уніі?

Калі ж гаварыць пра ўнёсак уніі ў развіццё культуры беларускага народа, то ён быў толькі адмоўным. Унія з'яўлялася хутчэй антынацыянальнай рэлігіяй. І сапраўды – усяго крок адзін заста-

ваўся для таго, каб з беларусаў зрабіць палякаў. Пасля 1839 года да каталіцызму адышло больш як два мільёны беларусаў, якіх потым аўтаматычна запісвалі палякамі. І гэты працэс, на жаль, на тэрыторыі сучаснай Польшчы працягваецца і сёння: беларусы Беласточчыны захоўваюць сваю этнічную ідэнтычнасць дзякуючы толькі аднаму чынніку – праваслаўнаму веравызнанню. Тыя ж беларусы – а іх некалькі соцень тысячаў, – якія прынялі каталіцызм, ужо фактычна не адрозніваюцца ад палякаў. Гэта паказнік таго, што б было з усімі намі, каб… Яны размаўляюць па-польску, лічаць сябе палякамі і нават у пашпарце запісваюцца палякамі. Большасць з іх не вызнаюць сябе беларусамі і нават хаваюць сваё беларускае паходжанне, каб цалкам адпавядаць паняццю “польскі пан”.

Але пры тым нельга не адзначыць і наступнае. Усё ж нягледзячы на ўсё тое, што сказана вышэй, на ўсю супярэчлівую гісторыю ўніяцтва, былі ўсё ж часы, былі, калі менавіта ўніяты, магчыма, нават неспадзявана для саміх сябе, аказваліся абаронцамі беларускага народа, яго традыцый і мовы. І тое сталася, між іншым, тады, калі існаванне ўніі ставіла пад пагрозу яго знішчэння, а на беларускіх землях ва ўсю моц насаджалася так званая русіфікацыя. Тое адбывалася эпізадычна ў XIX стагоддзі і таксама ў наступным. І хаця масавага характару ў тыя часы ўніяцтва не набыло, усё ж тыя станоўчыя праявы грэка-каталіцызму ў Беларусі нельга не спамянуць і выдзеліць.

І яшчэ. Аўтар рамана неяк мімаходзь спамянуў слаўнае імя беларускага народа Міхала Валовіча, які ўзначаліў Лістападаўскае вызвольнае паўстанне 1830 года. А гэтае імя стаіць у гісторыі нароўні з Кастусём Каліноўскім. Ягонае кароткае, але, як бліскавіца, гераічнае жыццё і пакутніцкая смерць ад рук расійскіх акупантаў за волю незалежнасць нашае Бацькаўшчыны ўражвае сваёй мужнасцю і непахіснасцю, звышадданасцю свайму народу.

Капітан літоўскай кавалерыі Міхал Валовіч удзельнічаў у смелых рэйдах у тыл ворага, праяўляў бясстрашша ў баях, і імя яго набіла аскоміну “людаеду” Мураўёву. Калі ў таго былі імяніны і чынавенства звярнулася да ўнука А. Суворава, генерал-губернатара Санкт-Пецярбурга князя А.А. Суворава, каб той падпісаў адрасвіншаванне, прагучаў адказ: “Я людоедов не чествую...”

Міхалу Валовічу было ўсяго 26 гадоў, Мураўёў на дзесяць гадоў старэйшы...

Гэтыя два чалавекі ў 1831 годзе атрымалі вялікія ўзнагароды за ўдзел у паўстанні.

Валовіч 4 кастрычніка атрымаў ад Цэнтральнага ўрада Польшчы залаты кавалерыйскі крыж за ратаванне Айчыны. А Мураўёў атрымаў за задушэнне паўстання, за “умиротворение и обрусение Беларуси...” “

Людаед” чакаў, што Валовіч на допыце паведаміць сенсацыйныя звесткі пра арганізацыю паўстання на Літве. Калі Міхал вярнуўся на радзіму з Францыі, каб арганізаваць зноў паўстанцкі атрад з сялянаў і распаўсюдзіць барацьбу на тэрыторыі Польшчы, Украіны, Літвы і Беларусі, – падзяліўся перасцярогай са сваім сябрам Ігнатам Дамейкам: “Аднаго баюся – калі зловяць мяне, з жахам думаю: вораг, выцягваючы з мяне жылы, можа выцягнуць пры беспамяцтве нейкае неасцярожнае слова ці паклёп на сяброў...”

Не выдаў ніводнага прозвішча, быццам завяшчаў тое зрабіць і Кастусю…

Кат не дабіўся свайго – пацярпеў паразу, тым самым паказаўшы сваё бяссілле перад сілай духу герояў Айчыны...

Міхала Валовіча “людаед” павесіў у Гародні, Кастуся Каліноўскага – у Вільні.

Вось бы ў рамане высвеціць гэтыя велічныя зоркі, звязаць іх духоўна, тым больш, што аўтар валодае багатым матэрыялам той эпохі! Кастусь не зацямняе вобраз Міхала, наадварот, узвышае яго, бо ён – Паслядоўнік, вучань Валовіча ў вызвольным руху.

Два Волаты і – “людаед” – ”душыцель”, кат. Але, але... Усяго ўмясціць немагчыма, для гэтага спатрэбілася б некалькі тамоў...

У заключэнне хачу сказаць, што Анатоль Бароўскі стварыў запамінальныя старонкі з жыцця слыннага нашага Кастуся Каліноўскага, пашырыўшы тым самым дыяпазон пазнання гэтай загадкавай і супярэчлівай асобы на абсягах Гісторыі і Часу.

А я проста меў на мэце дадаць разуменне таго, як беларусы ставіліся да рэлігіі, да якой імкнуліся належаць канфесіі, якія ўскладаў надзеі кіраўнік паўстання на жыхароў Паўночна-Заходняга краю. І ўдзячны аўтару, што ён пагадзіўся ўключыць у кнігу, як дадатак, мае даследаванні па гэтай тэме.

**Анатоль Астапенка –**
*навуковец, палітык, палітолаг, пісьменнік*

*Светлай памяці ўладыкі Арыстарха –
архіепіскапа Гомельскага і Жлобінскага,
(беларуса, Андрэя Станкевіча, з якім мы вучыліся
ў Асавецкай СШ Мазырскага раёна) які пры жыцці
дабраславіў выданне гэтага твора*

# Дамова на спакусу

*Раман-фантасмагорыя*

*“Не бойся нічога, што табе належыць перацярпець.Вось, д’ябал будзе ўкідаць з асяроддзя ў цямніцу, каб спакусіць вас, і будзеце мець скруху дзён дзесяць.*

*Будзь верны да смерці, і дам табе вянок жыцця”.*

Адкрыццё Апостала Яна Багаслова (2;10).

*“І не дапусці нас да спакусы, але збаў нас ад ліхога”.*

Паводле Мацвея Святое Дабравесце (6;13).

1

Мой добры і спагадлівы настаўнік!

Няхай я не стаў фізікам ці хімікам, як ты, няхай не пайшоў сцежкамі тваімі, але тваю апантанасць, твае сумненні ў правільнасці абранага чалавецтвам шляху, тваё імкненне разабрацца ў загадках і тайнах быцця я ўспрыняў усёй душой і сэрцам, і таму ўдзячны лёсу, што на маім жыццёвым пакручастым кірунку адбылася сустрэча з табой…

Нават і не сустрэча, калі ўжо дакладна, бо гэтае паняцце азначае ўсяго толькі секунду-імгненне зямнога часу, а тое, што ты пасяліўся недзе побач са мной, хаця і быў нябачны, але я кожны дзень адчуваў тваю прысутнасць. І не толькі прысутнасць, але непасрэдны і жывы ўдзел у маім жыцці. Гэта цяжка нават растлумачыць, вызначыць, даць нейкую ацэнку, прыстасаваць да нейкага вымярэння. Бо такой нават і шкалы не існавала… Бо не ты імкнуўся да мяне, а, наадварот, я да цябе. Бо адчуваў магнетызм тваёй асобы, хаця ж адначасова ўва мне жыў супраціў таму, чаму ты прысвяціў сваё жыццё. Ува мне нейкім дзівосным чынам перапляліся як жывая зацікаўленасць, замяшаная на дапытлівасці, і – страх, які пастаянна і неадступна знаходзіўся побач, і неўтаймаваная цікавасць да невядомай будучыні.

А перад гэтым, нават задоўга яшчэ да гэтага – да сустрэчы з табой, калі я яшчэ не ведаў і не здагадваўся пра тваё існаванне, у сне нехта (можа, і ты?) выразна прамовіў незразумелае і патаемнае слова *“грыдпіс”*. Для каго яно прызначалася, чыё вуха павінна было пачуць яго і асэнсаваць, я не ведаў, але для мяне яно выразна і з нейкім падтэкстам адбілася ў памяці.

Потым ужо, як пачаў вучыцца ў школе, калі ўжо дабраўся да старэйшых класаў, і папытаўся ў сваёй класнай настаўніцы Ганны Іванаўны, што магло азначаць тое слова.

– А дзе ты яго вычытаў? – прыўзняўшы над вачмі акуляры, пільна паглядзеўшы мне ў вочы, пацікавілася класная.

– У нейкай кніжцы, – схлусіў я, – яшчэ ў другім класе…

– Не ведаю, Антон, не ведаю. Пагартаю свае слоўнікі, мо ў іх знайду адказ – тады і скажу.

Але яна не адказала мне і праз дзень, і праз тыдзень, і праз месяц. Мо забылася пра маё пытанне, а мо і не знайшла. З цягам часу я і сам паспрабаваў адшукаць тое слова ў даведніках і слоўніках. І – безвынікова. Нідзе яго не сустрэў. Можа яно прымроілася мне альбо пачуў яго скажоным, не сапраўдным. І тады мне падумалася, што нехта паздзекаваўся з мяне ў тым сне, таму паспрабаваў выкінуць яго са сваёй галавы.  З цягам часу яно і сапраўды пачало сцірацца з маёй памяці. Але аднойчы зноў ноччу нехта спытаў у мяне ў сне: “А ты адшукаў, што такое “грыдпіс”?”

Ты мне падаўся і не атэістам, і не веруючым, і ніводнай іскрынкі сумневу ці недаверу не ўбачыў у тваіх вачах. Адно незразумелую для мяне бясконцую глыбіню розуму, схаваную ад чужога вока

тайну і мудрасць Сусвету і Чалавецтва, адкрыць якія і зразумець не мог ніводзін чалавек, які жыў на зямлі…

Мой мудры настаўнік!

Ты не быў і псіхолагам, ты нават, як мне падаецца, не быў нават і настаўнікам, школьным настаўнікам, які заклікаíы выхоўваць сваіх вучняў і сеяць у іх душах зерне “разумнага і вечнага”. Ты ніколі нідзе і нікому не зрабіў ніводнай заўвагі, не папракнуў у чым-небудзь і каго-небудзь. Мне тое было незразумелым. Здавалася, што цябе не хваляваў лёс чалавецтва, узаемаадносіны паміж людзьмі, якія далёка не ўсе былі пранізаныя каханнем і любоўю. І ты бачыў тое, але ніводнай парады ці падказкі, як трэба сябе паводзіць сярод людзей, не вымавіў. Здавалася, што ты прыйшоў да нас з нейкага іншага сусвету, з другой цывілізацыі і часу, забег на хвілінку ў наш зямны дом, не пытаючыся нават дазволу, каб праз імгненне зноў вярнуцца да сябе, на сваю планету, у сваё асяроддзе, дзе ты пачуваўся годна і натуральна.

І сёння, калі мінула ўжо ладна часу, у маёй памяці выразна адбіўся твой пагляд, поўны дабрыні і спачування, вінаватая ўсмешка, ціхі голас, павольны ўзмах рук, якімі ты імкнуўся абняць увесь зямны шар, каб забраць сабе ўсё адмоўнае і спакуслівае – войны і пажары, здрады і забойствы, недавер і злосць, прыродныя катаклізмы і хваробы… Позірк у цябе нейкі прыцягальны і цёплы, у твае вочы мне хацелася глядзець і глядзець, адчуваючы, як тваё душэўнае цяпло і дабрыня пераліваюцца ў маю істоту…

Настаўнік быў старэйшы за мяне. На трыццаць дзевяць гадоў старэйшы.

Што цікава – ён заўсёды насіў з сабою Біблію. Яна была невялічкага памеру – як блакноцік. І ўмяшчалася ва ўнутранай кішэні пінжака. Трэба адзначыць пры гэтым, што пінжак ён насіў заўсёды адзін і той жа – шэры, быццам пашыты з апалага лісця, якое доўга ляжала пад восеньскімі дажджамі і слотай. І зімой, і летам.

Ніхто не разумеў гэтага, нават пасмейвался з яго, амаль пальцам паказвалі. Але ён на тое не звяртаў ніякай увагі.

Дырэктар школы – Пятро Крупа – не раз гаварыў яму, што ў школу нельга прыносіць такую кнігу, даводзіў, што савецкія школьнікі не вераць у Бога, бо яны піянеры і камсамольцы.

– І яшчэ, – даводзіў дырэктар, строга гледзячы на настаўніка, – наша краіна – атэістычная, а вам, здаецца, не да твару, савецка-

му настаўніку, вадзіць сяброўства са Святым Пісаннем. Сярод педагогаў у нас няма вернікаў.

– А хто вам сказаў, што я веруючы? – пацiскаў недаўменна плячамі Хурс. – Я і маліцца не ўмею, і ў храм не хаджу.

– Тады навошта вам гэты опіум народа?

– Каб даказаць маладому пакаленню, што Біблія – і ёсць сапраўды опіум для нас, што яна затлумлівае нашыя мазгі бязглуздзіцай.

Дырэктар яшчэ з большым недаўменнем паглядзеў на Хурса – смяецца, здзекуецца з яго? Носіць Біблію – і не верыць у Бога?

– У нас, слава Богу, царква аддзеленая ад дзяржавы, – чамусьці пацвердзіў Пятро Міхайлавіч, не заўважыўшы пры гэтым, што сам падзякаваў Богу за аддзяленне царквы ад свецка-савецкай улады.

Пасля сваіх слоў Пятро Міхайлавіч браў у рукі Евангелле, учытваўся ў радкі, гартаў старонкі, – і тоненькая папера ледзь чутна шапацела ад дотыку пальцаў – быццам асенні вятрыска падварушваў апалае лісце.

Не адрываючыся ад старонак, ён падымаўся і ішоў у настаўніцкую. І ніколі Евангелле Крупа не вяртаў, нават і не напамінаў пра яе. Але што было дзіўным – раніцай Хурс зноў прыносіў Евангелле ў школу.

Да яго зноў прыходзіў у клас дырэктар, зноў казаў тыя ж словы пра атэізм, – і зноў забіраў Святое Пісанне…

А вечарам мы доўга гаварылі з маёй бабуляй Анастасіяй, пámясцоваму, па-крушніцку – Настазяй, пра Бога, пра Біблію. Яна заўсёды прасіла мяне прачытаць уголас выняткі са Старога і Новага Запавету.

Памятаю, як першы раз узяў Евангелле ў рукі. Кніга падалася мне важкай, як цагліна, а напісанае… Ніяк не мог прачытаць напачатку тэксты. Словы на незразумелай для мяне мове, тым больш з царкоўна-славянскім “яць”. Ніяк не мог прывыкнуць да стылю Пісання.

Але што дзіўна – з цягам часу прывык да слоў і выслоўяў, незразумелых імёнаў, апосталаў і прарокаў, зразумеў, пра што там апавядалася, без спатыкання чытаў ужо святыя словы…

Ува мне прачнулася цікавасць і жаданне глыбей увайсці ў радкі бабулінай кнігі. Евангелле пачыналася з “Паводле Мацвея Святое Дабравесце”:

– Кніга роду Ісуса Хрыста, сына Давідавага, сына Абрагамавага. 2. Абрагам спарадзіў Ісака, Ісак спарадзіў Якава, Якаў спарадзіў Юду і братоў ягоных; 3. Юда спарадзіў Фарэса і Зару ад Фамары; Фарэс спарадзіў Эсрома; Эсром спарадзіў Аўрама…

Не разумеў, што адкрывала новага для сябе бабуля Настазя ў пераліку, хто нарадзіўся ў родзе Хрыста, але я кожны раз чытаў адно і тое ж.

І недзе ўжо тады, як чытаў соты ці двухсоты раз, для мяне пачалі ажываць тыя радкі і старонкі,і я чуў ужо галасы Фарэса і Эсрома, Якава і Юды…

Дзіўна, але тое адкрыццё сталася для мяне прыемным, чароўным, а на душы пасяляліся лагода і спакой.

Напачатку мне шмат чаго было незразумелым і далёкім ад майго дзіцячага розуму, здавалася, што я ніколі не прывучуся як чытаць, так і разумець напісанае, – здавалася мне ўсё яно загадкавым і таямнічым.

Бабуля, як магла, тлумачыла мне асобныя словы, але я здагадваўся, што і ёй шмат чаго было незразумелага ў Кнізе пра Бога.

– Ніколі, унучак, не думай кепска пра Вышняга, – гаварыла, уздыхаючы, баба Настазя – Анастасся Фёдараўна, – не наклікай на сваю душу грэх, за гэта Бог карае. А калі будзеш прыслухоўвацца да свайго сэрца, жыць у суладдзі з Госпадам, ён заўсёды паможа табе...

– Баба, а як ты адносішся да Хурса – настаўніка нашага? Ён і не верыць у Бога, але ж і не адмаўляе Яго існаванне...

– Няважна, як я адношуся да яго, галоўнае, як Божанька да яго адносіцца, – адказала яна. – Я яго, унучак, ведала яшчэ да вайны, харошы хлопец быў. На вайне яго цяжка параніла, асколак упіўся яму ў грудзі. А ў кішэні, на грудзях, была Біблія. Яна яго і ўратавала...

– Ён нам пра тое ніколі не апавядаў.

– Ведаю, Тонік. То яго сябар так пра яго расказваў – Стась. А тое, што ён сказаў дырэктару школы, што ён няверуючы, няпраўда... Ён некалі манахам быў.

– Манахам? – не ўкладвалася ў галаве.

– Так, манахам…

– І вока параніў на вайне?

– Не. Наткнуўся тварам аднойчы ў цемры на куст ажыны, пашкодзіў калючкай правае вока. Таму і адрозніваецца яно ад левага, але бачыць ён добра…

Бабуля прачыняла невядомыя старонкі з жыцця нашага настаўніка – Міхася Пятровіча Хурса, – тым самым яшчэ больш распальваючы маю цікаўнасць да гэтага незвычайнага чалавека.

А потым нехта напісаў на яго ананімку. У школе нават не дайшло да разбіральніцтва, бо праз дзень у Крушнікі прыляцеў “чорны груган” – “эмка”, і звёз ад нас Хурса. Ніхто не ведаў, куды, але, як правіла, тыя, каго забіраў “варанок”, дадому ніколі не вярталіся…

У вёсцы ён з’явіўся нечакана. Прыйшоў ён пад раніцу, яшчэ да ўсходу сонца, калі на траве багата раскашоўвалася свінцовая раса. Ён сядзеў на прызбе бацькоўскай хаты паміж вокнамі, прыхінуўшыся спіной да сцяны. Хата доўга пуставала, ніхто не хацеў там жыць нават часова – ні прыезджыя настаўнікі, ні маладыя спецыялісты, якіх прысылалі ў калгас на працу пасля заканчэння тэхнікума ці акадэміі.

Першай убачыла яго бабуля Настазя. Здзівілася, прашаптала няўпэўнена:

– То ты, Міхаська?

Адказаў ён не адразу. Як і не адразу расплюшчыў вочы. Напачатку ўсміхнуўся, тарганууўшыся ледзь заўважна куточкамі губ, зірнуў на бабулю, кіўнуў галавой:

– Так, я, бабуля Настазя. Непадобны на сябе?

– А Божачка ты мой, Міхаська, ты жывы? Жывы, жывы…

– Хутчэй жывы, чым мёртвы, – горка ўсміхнуўся Хурс.

– Ну то і добра, Міхасёк, што выжыў. Божачка, дзякуй Табе, што вярнуў нам жывога. То што ж ты сядзіш тут, пайшлі да нас, паясі, адпачнеш з дарогі…

Міхась Пятровіч моўчкі і з цяжкасцю падняўся, памагла ўстаць бабуля. З цяжкасцю зрабіў некалькі крокаў, пахіснуўся, потым выраўняўся. Забыўся на прызбе заплечнік, і бабуля вярнулася, узяла яго, падзівілася, што ён пусты і лёгкі, быццам паветра насіў за спінай.

Я яшчэ спаў, і таму не чуў, як бабуля Настазя прывяла да нас у хату госця. А калі прачнуўся, то ўбачыў на ложку спячага чалавека – з цяжкасцю пазнаў у ім нашага настаўніка.

Спаў ён трое сутак. Прачнуўся на чацвёртыя – глыбокай ноччу. Нячутна ўстаў з ложка, выйшаў у сенцы. Чакаў, калі вернецца і не дачакаўся – зноў заснуў. А настаўнік так і прасядзеў на прызбе, прыхінуўшыся спінай да цёплага бярвення сцяны.

То потым ужо падсела да яго баба Настазя, і яны доўга гаварылі шэптам пра нешта, адно ім і вядомае. Бачыў, як яна да

яго ілба дакранулася даланёй, тройчы перажагнула. Ён уздрыгнуў, страсянуўся, як бы адпіхваючы яе ад сябе. А потым абвяў, схіліў на грудзі галаву.

Ужо як села зноў з ім побач, папыталася:

– Мо ты, Міхасёк, там дзе майго Яна сустрэў? Сніцца ён мне часта.

Ён моўчкі адмоўна пакруціў галавой.

Бабулінага Яна, а значыць, майго дзеда энкавусаўцы забралі тады, як ён вёз на поле гной. Паўвёскі арыштавалі, і яго ўпрыдачу, прызналі ў ім польскага шпіёна. А дзед і ведаў усяго два словы з польскага, мацюгаўся, калі што было не па ім, гаварыў: “пся крэў”.

Самымі першымі арыштавалі бацькоў Хурса. І яны згінулі ў невядомасці.

Потым арыштавалі Пятра Юніцкага, расстралялі ў мазырскіх сутарэннях энкэвусаўцаў. Праз колькі гадоў прыехаў энкэвусавец на кані і залыгаў вяроўчынай удаву – Еўфрасінню... Сам ехаў на кані, а жанчыну цягнуў за сабою, як гавяду якую, – аж сорак кіламетраў да Мазыра. Чацвёра дзяцей засталіся без бацькоў – Янік ды Эдзік, Яніна ды Стася. Пад сталінскую драбілку падпалі амаль увесь род Юніцкіх, а разам з імі Зданевічы і Кашэвічы, Равуцкія і Фалінскія... Больш чым палову вёскі вынішчылі сталінскія апрычнікі. А тайна дасылаў свае данясенні ў “органы” настаўнік Крушнянскай школы Белкавец. Ён і на бацькоў Хурса, як і на яго самога, данёс. Пасля стаў пракурорам раёна...

Да ранейшай працы Міхася Хурса не дапусцілі. Ды ён і сам не імкнуўся да гэтага, ведаючы, што былому зэку ў школе месца не знойдзецца. Нават і вартаўніком не ўзялі б. Указ быў такі пра рэпрэсаваных – не браць.

Хурс, як змог, абсталяваў бацькоўскую хату. Печ яму дапамог паправіць каваль Адам Зданевіч. Нехта прывёз дроў, нехта засадзіў соткі бульбай. Але ён, па ўсім было відаць, не мог прыжыцца ў роднай хаце, а мо і не жадаў. Таму начаваў ці прападаў немаведама дзе, не з’яўляючыся ў вёсцы па тыдні і болей. Пераначуе ў сваёй хаце, ці ў нас, надоўга знікне. А потым ніхто не ведаў, дзе ён і падзеўся. Нават бабулі нічога не казаў.

Бабуля, калі я спрабаваў дапытацца ў яе пра яго дзікаватасць, ухілялася ад адказу, казала нешта іншае:

– Цяжка яму, унучак, сярод нас, людзей. Ён і не з намі, і не сярод нас.

Для мяне яе адказ быў незразумелы – як гэта можна “і не з намі, і не сярод нас”.

Недзе праз год ён зноў завітаў да нас. Пераначаваў. А раніцай, развітваючыся, загадкава гледзячы на мяне, прамовіў:

– Антоне, хачу падараваць табе маленечкі падаруначак. Не раз бачыў, што ты нешта чыркаеш-крэмзаеш у сваім сшытку. А ў мяне для цябе ёсць аловачак, які ніколі не спісваецца, і можа служыць табе ўсё жыццё.

Ён дастаў з унутранай кішэні пінжака асадку з барвовым покрывам і падаў мне.

– Яго нават і завостраваць не трэба.

Аловак як аловак, іх у мяне мелася некалькі, але гэты толькі хіба адрозніваўся колерам, ды збоку было пазначана, што выраблены ён на фабрыцы “Нэма”. На канцы, з тупога боку, чырвоная гумка. Падарунак мне дужа спадабаўся. Нават больш таго – абрадваў і ашчаслівіў.

– Але я табе яго дарую з адной умовай.

– Якой? – паглядзеў на яго, баючыся, што ён паставіць перада мною такія патрабаванні, што я іх і за жыццё не выканаю.

Ён усміхнуўся:

– Калі вырасцеш, калі нешта напішаш гэтым алоўкам значнае, цікавае, то пакажаш мне. А яшчэ лепш, калі ты выдасі нешта, надрукуеш у кніжцы. Добра?

– Добра! – адказаў радасна. – Калі яшчэ тое будзе, ды яшчэ ці напішу што-небудзь. Пісьменнікам жа быць я не збіраюся.

Хурс паклаў мне руку на плячо, прамовіў па-расейску:

– Чем чёрт не шутит!

2

А потым Хурс нечакана зноў знік, як скрозь зямлю праваліўся. І год не з’яўляўся, і тры…

Крушнічане падумалі, што ён з’ехаў з вёскі, атабарыўся недзе ў далёкіх краях. Гаварылі між сабой, што бачылі яго быццам ці то ў Хабараўску, ці ў Магадане. Казалі, быццам ён шукаў там сваіх родных. А то ў Піцеры бачылі ці ў Маскве. Вяскоўцы кожную восень вазілі ў тыя гарады сухія баравікі. Поўныя фанерныя чамада-

ны везлі на рынкі. Баравічкі адзін у адзін, нанізанія на суровыя ніткі, як каралі. І куплялі іх ахвотна, бо смачней за паляшуцкія грыбы, лічылі масквічы і піцерцы, нічога не было ў свеце.

Адтуль грыбнікі вярталіся няхай не мільянерамі, але людзьмі багатымі, з гонарам і асабістай годнасцю. Дзе ж і як у той час можна было зарабіць капейчыну. У грыбную пару ўсе Крушнікі, як казалі, "стаялі на вушах". У кожнай хаце круглыя суткі паліліся печы, каб высушыць тое лясное багацце, бо тройчы на дзень выбіраліся ў лес з пузатымі, як панесці, кашалямі.

Каб не кінуўся ў нядобрыя вочы іх выгляд і валізкі, гэта калі вярталіся ўжо з продажу, пераапраналіся ў зрэбнае адзенне, вымазваліся ў бруд, маглі і ў нечыстотах пакачацца, каб адпрэчыць ад сябе зладзееў ды бандытаў. Перавязвалі штаніну ўнізе, кідалі ў два "мяхі" перавязаныя шпагатам пачкі трох-, пяці- і дзесяцірублёвых банкнотаў. Забіраліся на самыя верхнія паліцы вагонаў, і не злязалі адтуль, пакуль састаў не прыбываў да самых Калінкавічаў…

Аднойчы і сапраўды крушнічане сустрэлі Хурса на піцерскім рынку. І ўбачыў яго Зюнік Кашаед, блізкі родзіч бабы Настазі, ляснік.

– Ён падышоў да мяне на рынку, пытаецца, колькі мае грыбы каштуюць, – апавядаў ён бабулі. – Я аслупянеў ад нечаканасці, не магу нічога адказаць. Толькі і спытаўся ў яго: "Міхась, чаго гэта ты тут апынуўся, які злыдзень цябе ў гэты край запёр?" А ён здзіўлена паглядзеў на мяне: "Вы ошиблись, никакой я ни Михась, а Порфирий..." І размаўляў ён ужо не па-крушніцку, а на расейскі манер...

Баба Настазя ўздыхнула:

– А мо то зусім і не ён, мо ты і абазнаўся...

– Ды ён гэта, ён, баба Настазя, і голас яго, і бародаўка каля носа, і вочы яго – розныя і шэрыя... Праўда, зарос вельмі, барада грудзі закрывае...

У Хабараўску быў родны брат Зюніка – Валянцін, грыбы туды вазіў. Тую ж гісторыю апавядаў у вёсцы – бачыў там Хурса, падыходзіў да яго, але загаварыць не асмельваўся, як хто не дазваляў тое рабіць. Ва ўсіх было недаўменне – як у двух гарадах адначасова мог знаходзіцца адзін і той жа чалавек? Праўда, хабараўскі Хурс, знаёмячыся з нейкім чалавекам, назваўся Даніілам.

А з цягам часу мы і зусім забыліся на яго.

Але мне ён глыбока запаў у душу, таму не-не ды і напамінаў пра сябе. То прысніцца, то пачуецца побач яго ціхі голас, а то ў гарадскім натоўпе ўбачу – ці то падобнага да яго чалавека, а мо і яго самога…

Гэта потым ужо, калі паступіў вучыцца ў мастацкую акадэмію ў горадзе на Няве, а пасля, як скончыў навучанне і збіраўся вяртацца ў свае родныя мясціны – на Палессе, – убачыў яго на набярэжнай. Ён стаяў, абапершыся локцямі на бетонны ўзвышак, задумліва глядзеў у бок Ісакіеўскага сабора. На ім быў шэры плашч да пятаў, як і некалі пінжак, без галаўнога ўбора, ссівелы, але не пастарэлы.

– Вы – Міхась Пятровіч? – я стаў побач, адчуваючы прыліў незвычайнай радасці ад сустрэчы.

Ён прымружыў вочы, паглядзеў скрозь мяне, адвярнуўся і пакрочыў па набярэжнай. Хурс, калі гэта быў ён, ніводнага разу не азірнуўся, не спыніўся, і праз хвіліну растварыўся ў неўскім шызым тумане… У тое, што абазнаўся, не верылася. У дадатак да ўсяго, пад раніцу ён прысніўся. Моўчкі глядзеў на мяне, пасміхаючыся чамусьці. У руках трымаў маленькую, з тым жа памерам, што і ў школе, Евангелле з чорнымі вокладкамі.

… А праз нейкі час я прыехаў у свой Мазыр – горад на Прыпяці. Рэжысёр народнага тэатра Міхась Колас узяў мяне мастаком-афарміцелем. Мы з ім сябравалі. Ён ставіў спектакль“Людзі на балоце” па рамане Івана Мележа. Падрыхтаваўшы неабходныя дэкарацыі, чым Міхась застаўся задаволеным, я адпрасіўся ў яго на тыдзень адпачыць, падыхаць паветрам сваёй роднай вёскі.

Мая бабуля пачувала сябе няблага, толькі хіба зрок пачаў падводзіць. Да стогадовага юбілею ёй заставалася ўсяго нічога.

– Надоўга, унучак? – пацікавілася бабулечка, гледзячы блакітнымі вачыма на мяне. Вочы яе, як і заўсёды, былі блакітныя-блакітныя, быццам кавалачкі неба, а пагляд добразычлівы і цёплы, голас ціхі і лекавы.

– На тыдзень, бабуля, аж да наступнага панядзелка...

– Ото добра, ото файна, – абрадавалася яна. – Акурат на грыбы прыехаў, сёлета іх у лесе – хоць касу закладвай.

– Вось заўтра раніцай і адпраўлюся ў лес.

Гаварылі мы з ёй доўга, недзе за поўнач лёг спаць.

… Падхапіўся ранічкай, калі толькі-толькі пачало развідняць. Нагбом выпіў кварту малака, выйшаў на вуліцу. Ля парога мяне чакаў вялізны кашэль – сплецены з сасновай дранкі. Закінуўшы вочапку на плячо, паспяшаў агародамі да лесу. Нешта крыкнула баба Настазя наўздагон, стоячы на парозе сенцаў, але я не разабраў слоў – мне чуўся ўжо голас лесу, па якім я засумаваў, які сніўся і клікаў да сябе…

Лес – гэта мая слабасць і нават хвароба. Але гэта – тэма асобная. Пра лес магу расказваць гадзінамі і не стамляцца. Магу начаваць і жыць у лесе, адчуваючы сябе там сваім.

Недзе пад поўдзень назбіраў поўны, з коптурам, кашэль белых грыбоў. Усе маладзенькія – адзін у адзін; карычневыя капелюхі, цвёрдыя, крамяныя ножкі… Не заўважыў, як праляцеў час, стомы не было.

Толькі калі прысеў на заімшэлы бярозавы пень, адчуў лёгкія дрыжыкі ў нагах: як-ніяк, а кіламетраў з пятнаццаць-дваццаць пратэпаў, нагінаючыся і кланяючыся, як у храме, да зямлі кожнаму грыбочку. Во якую ён, баравічок, мае сілу і павагу! Тут і загадка нечакана нарадзілася – хлопчык з пальчык, а і волата да зямлі сагне.

Месца для адпачынку, трэба прызнаць, выбраў удалае: пад дубам. Сеў на сухі пень, як на крэсла. Побач расла бяроза, і на ствол яе можна было абаперціся. Тое я і зрабіў.

Прымружыўшы вочы, расслабляючыся ўсім целам, глыбока ўдыхнуў у сябе паветра. Асалода! Рай! Шчасце!

Бяроза кранался сваімі “косамі” маёй галавы, плечы датыкаліся да шурпатай кары.

Над бярозай раскінуў свае разгалістыя галіны магутны дуб – як атуляў берасцянку сваімі шатамі. Карані дуба даходзілі да маіх ног.

3

… Адчуўшы, што мая лясная ўзрушанасць сцішылася, расплюшчыў вочы. Бяроза, забраўшы ад мяне стому, зняла з маіх плячэй і грудзей свае галіны-рукі, супакоілася.

Мне ўдалося і драмануць колькі хвілінаў, і нават сон кароткі запомніў… Прысніўся мне мой настаўнік Хурс. Быццам ён вучыў мяне ці то фізіцы, ці хіміі. І зноў пра тое хітрае слова напомніў, якое

амаль сцерлася з маёй памяці, – грыдпіс. А мо і грынпіс ці дрыгпіс, не магу дакладна сказаць. Але яно адбілася ў маёй памяці, на языку ўселася, прасілася, каб вымавіў уголас…

– Грыдпіс, грыдпіс, – прашаптаў, каб пазбавіцца ад яго і забыць.

Перагаворваліся пра нешта верашаліны бярозы, зляталі першыя зжоўклыя залатнікі лістоты, клаліся на зямлю. Уставаць не хацелася, мне падабаўся мой стан, калі нічога не хацелася, нічога не жадалася. Знаходзіўся як бы ў бязважкасці, не датыкаючыся ні да зямлі, ні да паветра.

Удалечы, між стромкіх свечак бяроз, убачыў чалавека. Але то, мусіць, не грыбнік быў, бо не глядзеў сабе пад ногі, а круціў галавой туд-сюд, вышукваючы нешта ў галінах дрэў. Ды і ў руках яго не было ні кошыка, ні кашаля, ніякай валізкі. Гуляў сабе чалавек па лесе, дыхаў паветрам, любаваўся прыродай.

Бачна, што ішоў у мой бок. І чым бліжэй падыходзіў, тым больш расло недаўменне і незразумелы радасны страх: "Няўжо? Няўжо гэта ён – настаўнік Хурс? Як ён тут з'явіўся? Ці ўвесь час жыў у гэтым глухім лесе? Ці гэта зноў, як і перад гэтым, прывід, маё хворае ўяўленне?"

– Прывітанне, Антон, – падышоў ён да мяне і падаў руку. – А я чакаў цябе, спадзяваўся, што ты аб'явішся ў маіх уладаннях.

Рука цёплая, сухая, поціск моцны, мужчынскі. Ён адкінуў на спіну капюшон брызентавага плашча, сеў на пянёк супраць мяне.

Я ж маўчаў, баючыся, што ён знікне, як і некалі на беразе Нявы.

– Ты не рады нашай сустрэчы? – вярнуў ён мяне да рэальнасці.

– Чаму не рады? Рады. Але калі мы апошні раз сустракаліся, то размовы ў нас чамусьці не атрымалася.

– Тады яшчэ не прыйшла пара нам гаварыць.

– А цяпер?

– Цяпер – самы раз. Таму што ты стаў старэйшы, а я трохі памаладзеў.

– Хіба так бывае, Міхась Пятровіч? – паглядзеў з недаверам на яго.

– Усё бывае, мой дружа, і ў гэтым нічога незвычайнага няма. Як і ў тым, што ты прыйшоў да мяне ў госці.

Ён паглядзеў на мой кашэль з грыбамі, падзівіўся:

– Ого! Шмат назбіраў. Заядлы, бачу, грыбнік.

Міхасю Пятровічу можна было даць і пяцьдзесят, і ўсе дзевяноста гадоў, калі не болей. Ён, як мне падалося, трохі адрозніваўся ад таго, якім сустрэў яго на беразе Нявы. Той быў нейкі стомлены, паніклы, а гэты – рухавы, голас бадзёры, позірк вясёлы. Мусіць жа, не хлусіў мой настаўнік, калі казаў, што стаў маладзейшы…

– Баба Настазя высушыць у печы – будзе некалькі вязанак. Павязеш прадаваць у Піцер ці Мурманск?

“Чаго цікавіўся пра Піцер? Намякаў хіба на што?”

– Ды не, ніколі не прадаваў грыбы.

– А дарэмна, скажу табе… За грыбны сезон можна назбіраць на “мерседэс”, а мо і не на адзін…

– Мо і так, але я не імкнуся да гэтага… Так, некалі крушнічане мелі, кажучы сённяшняй мовай, харошы бізнес. Праўда, не ездзілі на іншамарках, але адзенне і абутак маглі мець прыстойны.

– Так, так, то я жартую. Весела мне сёння, жартаваць і смяяцца хочацца.

Ён уздыхнуў, памаўчаў нейкі момант, потым, уперыўшыся ў мяне позіркам, пацікавіўся:

– Антон, а ці не хацеў бы ты схадзіць да мяне ў госці? Праведаць, так бы мовіць, свайго старога настаўніка?

– У госці? – акругліў я вочы. – Куды?

– Ды тут побач знаходзіцца маё жытло.

– А грыбы? – паглядзеў я на кашэль. – Куды іх? З сабой?

– Навошта з сабой? Няхай тут пабудуць. У гэтай акрузе на дзясяткі кіламетраў няма ніводнага пабочнага чалавека. А хоць бы і быў, то не ўбачыць тваіх грыбоў.

– Добра, я згодзен. Пайшлі.

– Тут недалёка. Ды і не будзем мы доўга, мо з паўгадзінкі якой. Паспееш да бабы Настазі, яна акурат і печ выпаліць да твайго прыходу.

І сапраўды – мы не прайшлі і паўсотні крокаў, як перад намі вырасла незвычайная хаціна. Пакрытая шырокім кляновым лісцем, складзеная ў нетрадыцыйным, так бы мовіць, стылі – бярвенні не гарызантальна, а стайма. Тоўстая папярэчына абціскала збудаванне з усіх бакоў.

– Вось тут я і хаваюся ад усяго свету.

– І ўвесь час тут жылі?

– У асноўным, а так мяне насіла па свеце. Пастаянна знаходзіўся ў пошуку ісціны.

– Якой ісціны – Міхась Пятровіч?

Настаўнік не адказаў на маё пытанне, прачыніў перада мною веснікі. Па прыступках падняліся на ганак, Хурс расчыніў дубовыя дзверы.

Патыхнула жылым памяшканнем. Яшчэ – багуном і парэчкамі, чаборам і мятай. Цяпло жытла, сонечнае святло ў вокнах, бліскучая смаловая падлога з шырокімі маснічынамі, стэлажы з кнігамі, дубовы стол пасярэдзіне, – усё гэта ўзяло мяне адразу ў палон, прымусіла адчуць жаданым госцем.

– Сядай, мой мілы дружа Антоне, сядай, адчувай сябе ў мяне, як у роднай хаце. Ты мне заўсёды падабаўся, ты не быў падобны на сваіх аднагодкаў-вучняў: не пасміхаўся з мяне, перажываў, калі здзекаваліся. Я адчуваў тваю дабрыню, як і дабрыню і пяшчоту бабы Настазі. Дзякуй табе, Антон, дзякуй!

Пацісnуў плячыма, бо не ведаў, як можна дзякаваць за тое, што не трымаеш ні на кога ў свеце зла, што добра адносішся да чалавека. Тым часам Хурс дастаў гліняныя кубкі, наліў у іх пахкую гарбату з лясных зёлак, паставіў місу мёду. Яшчэ – нейкія сухарыкі і пячэнне, цукеркі.

– Адчуваю, Антоне, тваё здзіўленне і недаўменне – ты ніяк не можаш уцяміць: чаму толькі цяпер захацеў з табой сустрэцца. Ці не так?

– Так, вы ўгадалі. А сапраўды – чаму?

Хурс адпіў некалькі глыткоў, уздыхнуў. Прымружыўшы вочы, прамовіў:

– Калі ж пільна ўгледзецца ў сябе, пранізаць сябе мільярдамі рэнтгенаўскіх промняў, адразу стане зразумелым, што мы – дзеці прыроды. Бо мы жывем штодня ў чаканні, у прадчуванні таго, што вось-вось нас праведае нехта звыш, дабраславіць. І мы абавязкова пераменімся, перародзімся… Будзем знаходзіцца каля таго парога, за якім, няма ўжо таямніцы і тайнаў – пазнанне і адкрыццё глыбіняў сусвету, – ці не так, Антон? Гэта ўжо як насланнё, салодкі сон. І няма ніякіх сілаў перапыніць тое, абарваць… Сціскаецца сэрца, наварочваюцца слёзы, – прачынаецца шкадаванне па нечым страчаным і згубленым, хочацца вярнуць сябе ў тую пару, калі ты быў яшчэ чысты і праведны…

Не перабіваў Хурса. Мне чамусьці падалося, што мы з ім насамрэч параўняліся – ці то ўзростам, ці разуменнем сутнасці рэчаў, пра якія ён казаў, а мо і нейкіх абавязкаў, на нас ускладзеных…

– Я чакаў, доўга чакаў, калі час звяжа нас і зблізіць, – праказаў ён, даліваючы мне ў кубак гарачай, з вялікага заварніка, гарбаты. – Вунь там, на верхняй паліцы, ляжыць зялёная папка. Пасля нашай размовы я дам табе яе, каб ты прадоўжыў маю справу. Я адкрыю табе свае тайны, таямніцы існавання як чалавека, так і сусвету. А тайна мая называецца адным словам – *“Грыдпіс”*.

– Як-як? – не ўтрымаўшыся, перабіў настаўніка.

– Ураўненне “Грыдпіс”.

– Прызнацца, я ўжо недзе чуў гэтае слова, не магу толькі ўспомніць, дзе… Ці то ў сне, ці то нехта прашаптаў мне яго, калі я імкнуўся зрабіць нешта, ды не атрымлівалася яно ў мяне…

– Можа, і чуў, усё можа быць… Дык вось, ты сёння павінен прыняць рашэнне – можаш і адмовіцца ад маёй прапановы. У цябе будзе час падумаць. Калі жыў сярод людзей, заблудзіўся ў сваёй жа душы. Такое можа быць, і з табой такое здаралася. Заблудзіўся і – абрадваўся: так, значыць, трэба было Богу, каб я адмовіўся ад усяго зямнога, ад усяго таго, што адштурховае нас ад ісціны. Ты чытаў не раз Святое Пісанне. Спачатку ты не разумеў напісанага. А потым і пранікся павагай, бо ты далучыўся да нечага непазнавальнага. Табе здавалася, што знаходзішся блізка да разгадкі, але кожным разам яна ўцякала ад цябе, аддалялася і аддалялася. Жывучы тут, прачытаў тысячы і тысячы кніг вучоных і даследчыкаў быцця свету. Але аднойчы адчуў, што атрымліваю заданне аднекуль зверху, і яно дабраславёна Абсалютнымі Ведамі – АВ, а калі па-расейску то – АЗ, аз, букі, ведзі… Пачатак усяго. Незразумела для цябе, Антон, пра што я кажу, ці не так? Пакуль што незразумела. Потым зразумееш.

Настаўнік гаварыў, здавалася, не заўважаючы мяне і вельмі хутка. Пэўна, помніў, што мяне чакае баба Настазя і вытапленая печ. Гаварыў пераканаўча.

Расказваў, як, знаходзячыся ў лагеры, пазнаёміўся з адным цікавым чалавекам – археолагам. Спалі побач, на другім ярусе нараў. Аднойчы той прызнаўся Хурсу, што часта кантактуе з паралельным светам. Міхась не паверыў яму. Але, каб пераканацца ў тым, ці іншым, прапанаваў Зміцер – так звалі суседа – папытацца Хурсу “ў іх”, што такое за слова “грыдпіс”. І тут жа настаўнік пачуў адказ: “Мы зразумелі тваё пытанне, на нашай мове гэта азначае “шлях з нічога”. Хурс выразна пачуў іх голас, і тое ашаломіла яго. Нават напалохала. Міхась ведаў, што ў фізіцы ёсць такое паняцце як

“грыд”. Але да яго яшчэ Зміцер далучыў “піс”. А гэта азначала атам энергіі, пры тым энергіі, якая рухаецца – круціцца вакол сваёй восі, энергіі, як конус, як юла, аграмадны нябесны віхор, нешта накшталт тарнада… Калі яшчэ больш дакладней – энергетычная варонка, яма без дна.

– Вы казалі нешта пра формулу? – асцярожна папытаўся ў Хурса.

Ён не спяшаўся з адказам, устаў з крэсла, падышоў да стэлажа, узяў тэчку і паклаў перада мной на стале. На вокладцы, выціснутая друкарскім спосабам, свяцілася водбліскам нейкая незразумелая формула ці ўраўненне. Моўчкі глядзеў на выціск, чакаў тлумачэння ад настаўніка. Я зноў зрабіўся вучнем, які некалі адказваў яму на пытанні па фізіцы – яго прадмеце.

– Першае азначэнне – аб’ём. А ён адпавядае палавіне перамножаных квадратнай і лінейнай матрыцаў.

– І што гэта азначае?

– Наш Сусвет – Галактыка – складаецца з матрыц, якія ўсе да адной пранізаны энергіямі, і што нараджаюцца дзякуючы ім. З квадратнай матрыцай я разабраўся адразу ж, і яна выглядала так: X x X. Ці – 10x10. У ёй закладзена дзесяцірычнасць. А вось з лінейнай… Доўга, вельмі доўга ішоў да яе, пакуль не зразумеў, што гэта вектарная велічыня, пастаянна скіраваная да цэнтра анізатрапіі бясконцай прасторы. Анізатрапія, як ты ведаеш з фізікі, я тлумачыў вам пра тое, гэта – нераўнамернасць, неаднолькавасць уласцівасцяў па розных кірунках. Я ж уяўляю яе як прыцягальную прастору, якіх – процьма, незлічонае мноства. Мы ўсе, разам узятыя, з’яўляемся *цэнтрамі анізатрапіі.* А адсюль і сцвярджэнне – наш свет не трох-чатырох-пяцімерны, а шматмерны. Вось пасля гэтага я адкрыў ці ўгадаў, сам не ведаю як , гэтую формулу – формулу энергаёмкасці прасторы. Прасторы, якую мы не бачым.

Я асэнсоўваў тое, што пачуў, а потым прыйшлося і ўдакладніць:

– А матрыцы, мой настаўнік? Што яны азначаюць?

– Мы перайшлі са сваім сукамернікам ужо ў новую плоскасць размовы, зраўняліся ў ведах таго, што я павінен зразумець. Адчуў, што пачаў набліжацца да пазнання яго формулы.

Маўчу.

– Яе, матрыцу, можна вызначыць па-рознаму. Але я яе бачу як паняцце сілавой структуры.

Хурс адгарнуў папку, дастаў з яе некалькі аркушыкаў паперы, спісаных дробненькім акуратным почыркам. Расказаў пра тое, што ў ядзернай фізіцы ёсць такое паняцце – магічныя лічбы. Яны расстаўленыя ў такім парадку – 2, 8, 20, 28, 50, 82, 126, 152. Прымяняючы прынцып як закон сіметрыі, Міхась Пятровіч з гэтых лічбаў і стварыў матрыцу. Тады ён, лежачы на нарах, папрасіў свайго суседа, каб той спытаўся ў "іх" і пра другое – пра сіметрыю і асіметрыю. "Яны" адразу ж і адказалі, што сіметрыя – самая блізкая родзічка асіметрыі, і што гэта яна кіруе Сусветам.

Настаўнік з захапленнем працягваў далей сваю думку пра тое, што ён абвяргае ўжо самога сябе, даказваючы, што і ў сіметрыі не ўсё дакладна, як здавалася на першы погляд. Напісаў на паперы новыя лічбы – 3-8-2, 2-7-3, 2-2-7, 3-8-3. А гэтыя лічбы ў сваю чаргу нараджалі нейкі новы малюнак – накшталт дрэва. Дрэва жыцця…

Хурс падышоў да шырокага акна, прысеў на падаконнік. Пачаў расказваць пра сваё жыццё, пра лагерны перыяд, куды яго "ўпяклі" энкавусаўцы. Апавядаў пра тое, як паміраў з голаду, а знаходзіўся ў той жа час "там", у іншым сусвеце… Але калі ён узмаліўся Госпаду аб дапамозе, адразу адчуў, як Нябачны вярнуў яго ў першапачатковы стан быцця, прыдаўшы яму фізічныя сілы. Вось тады ён і задумаўся над шмат якімі рэчамі. Заўсёды лічыў, што галоўнае ў жыцці – здароўе, што галоўнае – мець рукі, ногі і галаву… А аказалася – інтэлект, якому зусім не абавязкова мець фізічную абалонку. Мусіць жа, і сам Бог не мае той фізічнай абалонкі і такім чынам бездакорна кіруе Сусветам, стварыўшы паняцце "грыдпіс".

Зразумеўшы і ўцяміўшы тое, у Хурса "паехаў дах", я пастараўся замоўкнуць, стаіцца… Далей – болей і болей. Ён разабраўся ў такім паняцці, як ДНК. Прыйшоў да высновы, што яно ў кожным з нас, і выглядае своеасаблівай лесвіцай. А яна раздзеленая ці развітая на асобныя зноскі – *адэнін-тымін, гуанін-цытазін,* – злучаючыся толькі ў такім парадку. А па краях-брыжыках – цукрова-фасфатныя злучэнні з мудрагелістымі кудзеркамі-парамі – нуклеацідамі, – а яны маюць лік на мільярды…

Настаўнік, быццам на уроку, апавядаў мне пра невядомыя сусветы, прасторы і планеты. Хоць і не вельмі цямячы, я ўсё больш і больш пранікаўся павагай да яго навуковай працы, асабліва калі зразумеў, што яны ні ў якой меры не ставяць пад сумненне Святое

Пісанне і існаванне Бога… Не, у яго “дах не паехаў”, то мая галава была яшчэ слабенькай, каб зразумець…

– Для сябе я, Антон, зрабіў адкрыццё. Першыя тры лічбы дрэва (3-8-2) па ліку атамаў паказалі значэнне адэніна. Другія – тымін, трэція – гуанін, і потым ужо – цытазін. Абрысы ДНК накладваліся на “дрэва жыцця”. А адкрыццё другое заключалася ў тым, што першыя тры лічбы ў суме давалі 13, наступныя – 12. Іх жа сума – 25. Наступныя тры – 14, а за імі – 11. Зноў – 25. Што адметна – даўжыня аказвалася аднолькавай, а вось левы бок “цяжэй” за правы. Азарэнне за азарэннем. Няўжо, падумаў я, “дрэва жыцця” – гэта і ёсць зашыфраваная ДНК. І калі гэта так, то чаму і другія тэксты Бібліі не могуць змяшчаць шыфраваныя навуковыя дадзеныя? І тады я прыняўся за дэшыфроўку катаклізмаў  Планеты Зямля і Галактыкі…

Хурс пахваліўся, што “рассакрэціў” пасланне Ноя, які пражыў шэсцьсот гадоў. Гэта ж формула мужчынскай матрыцы – 10 х 10. А калі браць памеры каўчэга, то яны, аказваецца, аднолькавыя і ўяўляюць: даўжыня – 300 локцяў, шырыня – 50, пра што і гаворыць матрыца. Колькі ліў дождж? Сорак дзён і начэй. Спачатку Ной выпусціў варону, а потым тры разы голуба… Ноеў каўчэг – і ёсць матрыца жыцця.

– Расшыфраваў не толькі гэта, – не адыходзіў ад акна Хурс, – а яшчэ і Перыядычную сістэму Мендзялеева. Сцвярджаю, што яна існавала на зямлі яшчэ задоўга да адкрыцця вучонага. Доказы? Веды былі заўсёды, але чалавек  падышоў да іх не адразу. Прывяду вытрымку з Евангелля ад Мацвея (5:13), дзе гаворыцца: *“Вы – соль зямлі. Калі ж соль згубіць сілу, то чым асоліш яе? Яна ўжо ні да чаго  не прыдатная, хіба што выкінуць яе прэч на патаптанне людзям…”* Соль зямлі… Гэта што? Натрый-хлор. Парадкавы нумар натрыя – 11, а хлору – 17. А калі складзем, то атрымаем 28. А што тады з’яўляецца “соллю” ў формуле ДНК? Сем і восем – самыя буйныя лічбы – пятнаццаць. *“Выкіньце прэч…”* Адкінем ад дваццаці васьмі пятнаццаць. Застанецца 13. Гэта і ёсць нумар верша. А ў наступным вершы той жа, пятай часткі, гаворыцца: *“Вы – сьвятло сьвету: ня можа схавацца горад, які стаіць на  версе гары…”* Хуткасць святла, святло ўнутры нас, светач жыцця…

І пра ваду гаварыў субяседнік як пра самую загадкавую і здзіўляючую з’яву, пераконваючы, што жыццё створанае з вады, і

што чалавецтва загіне толькі тады, калі наша цывілізацыя атруціць ваду Зямлі, калі з жывой ператворыцца ў мёртвую…

– Карацей, Антон, падвесці вынікі і не тлуміць табе галаву, скажу ў заключэнне: усё можна дэшыфраваць, і кожны верш Святога Пісання будзе мець сваё значэнне, свой сэнс, – сцвярджаў Міхась Пятровіч, ходзячы па пакоі, заклаўшы рукі за спіну. – Гісторыя патопа і Ноеў каўчэг, Апакаліпсіс з яго лікам звера 666, калі Хрыстос накарміў пяць тысячаў чалавек пяццю хлябамі і парай рыбінаў, манна, падаючая з неба, хаджэнне Госпада па вадзе, – усё гэтае і шмат іншага – праява Найвышэйшага розуму, якім валодае высокаарганізаваны мозг – Абсалют, які знаходзіцца ў Сусвеце, у Галактыцы. А мо і ў іншых сусветах, пра якія мы не ведаем і не здагадваемся нават… Евангелле – гэта шыфроўка, гэта – пасланне нашчадкам, у якіх яшчэ дзіцячы розум і інтэлект, да якіх прыроўненыя, на жаль, і мы…

– Так, Міхась Пятровіч, мусіць, так. І тое пасланне да нас выглядае як прытчы, казкі і казанні-намёкі?

– Правільна, ты мяне зразумеў правільна… А доказам можа служыць той жа верш – 18-19, у якім сказана: *"Бо праўду кажу вам: пакуль не мінецца неба і зямля, ані ёта адна, ані рыска адзіная не мінецца з закона, пакуль не збудзецца ўсё. Дык вось, хто парушыць адзін з запаветаў гэтых найменшых і навучыць гэтак людзей, той найменшым назавецца ў Валадарстве Нябесным; а хто выканае і навучыць, той вялікім назавецца ў Валадарстве Нябесным".* А яшчэ ёсць там пра тое, што адзін з аўтараў Бібліі шкадуе і плача, што ў найбліжэйшыя тысячагоддзі не знойдзецца вартага чытача, які змог і здолеў бы прачытаць сакрэтнае пасланне-данясенне чалавецтву планеты. І таму не сказана нічога пра катаклізмы, няма там страшных прадказанняў накшталт канца сусвету… Сказана хіба пра тое, *"што было, тое і будзе, і што рабілася, тое і будзе рабіцца, – і няма нічога новага пад сонцам…"*

І мы з ім прыйшлі да высновы, нават да цвёрдага вываду, пагадзіліся, што Біблія – гэта грунтоўнае навуковае філасофска-этычнае і рэлігійнае вучэнне і веды, і што ў ёй вельмі падрабязна і пераканаўча гаворыцца пра тое, як чалавеку і чалавецтву неабходна жыць, каб пазбегнуць зла і войнаў, як навучыцца тварыць дабро, як любіць адзін аднаго, як берагаць сваю душу ад уздзеяння чорных сілаў, як удасканальваць сябе…

– Так, для гэтага існуе пост, выкананне Божых запаветаў, штодзённая малітва, наведванне храма...

– Так, правільна. Гэта – галоўныя ўмовы.

Настаўнік зноў пачаў спасылацца на вершы Апакаліпсіса, дзе амаль у кожным радку папярэджанні, – усё пабудавана на вобразнасці, на алегорыях. Вараны конь, белы, рыжы і плямісты... Вараны – лік масы вугляроду (чорнага) – 12, тымін. Пра белы... парадкавы нумар алюмінію, срэбнага, белага металу – 13. Адэнін? Парадкавы нумар рыжага – натрыя – і ён срэбраны... А спектральная лінія натрыя – жоўтая. А плямісты конь – што азначае? Дужы, як сказана? Але самы дужы – моцны – нуклеатыд мае лічбу 14. А гэта, згодна з парадкавым нумарам – крэмній, шкло... І гэтак далей, і гэтак далей... Хурс сцвярджаў, што гэта не што іншае, як дэманстрацыя магчымасцяў Найвышэйшага Розуму.

– Я не даказаў табе пра матрыцу, – спахапіўся, нахмурыўшыся настаўнік. – Так... Адна матрыца ДНК складаецца з дзясяці прыступак-драбінак, я намаляваў яе на паперы. А ў Бібліі я даведаўся, адкрыў для сябе, што тры такія матрыцы (30 прыступак) – народжаная новая матрыца, і ўжо з яе дапамогай ствараецца біяполе, што можа быць любым біяполем любой жывой істоты. А калі ёсць энергія ў любым жывым арганізме, то што гэта будзе азначаць?

– Нашая душа?

– Так, Антон, душа. І вось што яшчэ. Ты, безумоўна, сумняваешся ў многім, пра што расказаў табе. Я ж сумняваўся ўсё жыццё. І правільна зробіш, калі і мне не паверыш. Гэта натуральна. І таму не патрабую ад цябе сляпой веры. Я толькі прачыніў перад табою дзверы сваёй тайны, стараючыся даказаць, што я пры поўным розуме, што па мне не плача псіхбальніца. Не... Проста я хачу падключыць цябе да Найвышэйшага Розуму і Ведаў, да Найвышэйшай Маральнасці і Дасканаласці з адной толькі мэтай, каб і ты, як я, пачынаў з азбукі – Аз, Букі, Ведзі, – з першай старонкі Буквара-Бібліі... Памятаеш, як ты першы раз убачыў сфінксаў у Егіпце? Ты іх бачыў, а яны цябе – не. А чаму? Ды толькі таму, што яны жывуць у чаканні таго часу, той будучыні, якая аддаленая ад нас на трыльёны гадоў... Будучыня яшчэ не наступіла, яшчэ і не нарадзілася тое сонца новай эвалюцыі, калі чалавек будзе пражываць па семсот і тысячу гадоў, калі ён зможа прачытаць любое пасланне як з мінулага, так і з будучага часу...

Ад пачутага апухла галава, і мне ўжо не хацелася, каб Хурс расказваў далей пра сваё адкрыццё. Бо я ўжо больш не здолеў успрыняць ніводнага слова.

Я агледзеў пакой. Здзівіўся, што рэчаў было няшмат, як і посуду.

– Міхась Пятровіч, а якую яду вы тут выкарыстоўваеце? Я, акрамя гарбатніка і кубкаў, больш нічога не бачу. Не на адной жа гарбаце вы жывяце, ці не так?

Субяседнік усміхнуўся, сеўшы побач:

– Ты правільна сказаў – на адной вадзе.

– Як гэта? – не паверыў я.

Хурс узяў другі гарбатнік, што стаяў на суседнім стале. Наліў у шклянку – да верху. Потым абняў далонькамі, прымружыў вочы. Праз колькі секундаў са шклянкі пайшла пара. Ён адняў рукі, позіркам папрасіў, каб я дакрануўся. Вада была гарачай, амаль кіпень.

– Адкрыю сакрэт – гэтая вада пасля малітвы стала не толькі жывой, але і энергетычна насычанай. У ёй ёсць усё, што трэба чалавеку. Як і ў Эдэме для першых пасяленцаў, Бог стварыў усё неабходнае для вечнага жыцця. Не трэба было забіваць жывёлу ці птушак, каб спажываць мяса… Бог стварыў нас напачатку вегатарыянцамі… Выпі гэтую ваду жыцця – і ты прадоўжыш сваё існаванне на пяцьдзясят гадоў.

Прыйшлося паверыць Хурсу – выпіў цёплае змесціва да донца.

Ён замоўк. Пакой, у якім мы знаходзіліся, меў некалькі дзвярэй. Усе аднолькавыя – з дубу.

На адной з іх убачыў прымацаваную паперку са школьнага сшытка, – на ёй намаляваныя тры жоўтыя грушы.

– Там мой кабінет, – патлумачыў Хурс, перахапіўшы мой позірк, – там і прападаю начамі. Калі-небудзь і ты наведаеш яго, і не толькі наведаеш, а і прымешся за працяг распрацоўкі і разгадкі грыдпіса. І будзеш пісаць тым алоўкам, які я падарыў табе некалі. Цэлы хоць аловак – не згубіў?

– Не, але ніводнага радка я алоўкам яшчэ не напісаў.

– Не бяда, – супакоіў настаўнік, – прыйдзе яшчэ пара. А мо і не прыйдзе…

Я згодна кіўнуў галавой.

Праводзіў мяне Міхась Пятровіч да таго дуба, каля якога я, пад бярозай, пакінуў свае грыбы. Іх і сапраўды ніхто не крануў. Я зірнуў на свой наручны гадзіннік – гутарылі мы з Хурсам, аказваецца, усяго паўгадзіны, як ён і абяцаў, а мне падумалася,

што і вечар ужо наступіў. Значыць, яшчэ паспею прынесці да напаленай печы свае баравікі.

Баба Настазя, мусіць, зачакалася мяне.

– Да сустрэчы, Антон. Дзякую, што завітаў. Цяпер мне будзе лягчэй жыць, падзяліўшыся з табой сваёй тайнай.

– А я ўдзячны вам, што не забыліся пра мяне, Міхась Пятровіч.

Ён схіліў у паклоне галаву, прамовіў:

– Тэчка заўсёды будзе цябе чакаць у маёй хаціне, калі мяне і не будзе на месцы. Смела пачувайся ў маім жытле. Праз шмат гадоў мы зноў з табой сустрэнемся. Упэўнены, прыйдзе пара, калі ты захочаш дакрануцца да тайнаў Вялікага Розуму. Будучае – не за гарамі. Што было, тое і будзе!

Хурс моцна пацiснуў мне руку, паглядзеў у вочы, кіўнуў, як бы гаворачы на развітанне: “Жыві і думай, аглядвайся, калі ідзеш наперад, падвяргай усё сумненню, не вер кожнаму слову, што пачуеш, не кожнае слова праўдзівае, і не ўсё, што блішчыць і зіхаціць, – абавязкова золата…”

Я павесіў на плячо вочапку кашаля, закінуў яго за спіну – важылі грыбы як не пуд, а мо і болей. Пайшоў па сцяжынцы, падняўся на ўзгорак. Узышоўшы на выспачку, азірнуўся: каля дуба, дзе мы толькі што стаялі, Хурса не было.

...Праз нейкі час падыходзіў ужо да агародаў бабулі Настазі…

## Частка першая

### *Заказ*

1

Мне чамусьці ўвесь час хацелася спаць.

Пастаянна хіліла ў сон, нават калі і ішоў, не кажучы ўжо пра тое, калі прысядаў на лаўку, мяне змарвала стома. Мог прылегчы на хвілінку, а праспаць цэлы дзень. Нават і ў сне не знікала жаданне прыхінуць галаву да падушкі. Не ведаў, як пазбавіцца ад гэтага дурману.

Жонка, бачачы штодзённа маю санлівасць, параіла:

– Схадзіў бы ты, Антоне, у паліклініку ці да знаёмага доктара Міранoвіча, у якога ляжаў у аддзяленні пазалетась.

Ківаў згодна галавой, але з дня на дзень адкладваў візіт да прадстаўніка Гіпакрата, бо не адчуваў сябе хворым: жаданне выспацца – хіба ж гэта хвароба?

… У спальню зазірнула, узняўшыся над верашалінамі саснovага лесу, ружовашчокае, яшчэ соннае сонца. Промні, крануўшыся майго твару, разбудзілі мяне і напомнілі, што ў вокны пастукалася раніца. Прыслухаўшыся да свайго стану, радасна адзначыў: адчуваю сябе бадзёра і настрой аптымістычны, таму грэх залежвацца ў ложку. Тут жа ўспомнілася, як мая бабуля гаварыла ў такім разе: “Унучак, хто рана ўстае, таму Бог дае…”

Калі ўстаў з ложка, Ліка, не адрываючы галаву ад падушкі і не расплюшчваючы вачэй, сонна пацікавілася:

– Больш класціся не будзеш?

– Не. Хачу ў лес адправіцца – на эцюды… Дзень сёння выдатны. Падыхаю свежым паветрам, цішыню паслухаю…

– Бутэрброды з сабой вазьмі. У халадзільніку.

– Добра. Спі. Яшчэ рана ўставаць… На сёмую гадзіну толькі перайшло.

Яна нічога не адказала, заснула раней, чым я паспеў што-небудзь прамовіць.

Выпіўшы моцнай кавы – усыпаў у кубачак тры ці чатыры лыжачкі, – пачаў адразу збірацца ў дарогу. На выпадак дажджу накінуў на плечы брызентавую куртку з капюшонам. Потым узяў складны мальберт з падрамнікам, які заўсёды стаяў напагатове ў шафе і, нячутна прычыніўшы за сабою дзверы, выйшаў на пляцоўку паверха. Спускаўся ўніз ціха, бо самому не раз, калі хто грукацеў абцасамі ботаў ці туфляў па прыступках, спускаючыся ці ідучы наверх, абавязкова разбіваў сон. Выйшаўшы на вуліцу, заспяшаўся да тралейбуснага прыпынку. Праз якой паўгадзіны быў ужо на ўскрайку горада. Адна са сцяжынак легла мне на сэрца, – падаўся па ёй, не ведаючы, дзе спынюся.

Дарогу перагарадзіла паваленая, мусіць, буранам, бяроза. Адразу адзначыў, – можа служыць мне і сталом, і сядзеннем, – таму і рашыў спыніцца каля яе.

Паставіў мальберт на трынозе, замацаваў закруткі. А на берасцяным ствале расклаў цюбікі з фарбамі – блакітную, жоўтую і зялёную.

Агледзеўся наўкола. Майму позірку адкрыўся незвычайны пейзаж – у бярозавы гай мкнулася вузкая сцяжынка, растварался ў бла-

кітным мроіве, знікала ў залатым кіліме лістоты, што асунулася за ноч на зямлю.

Пейзаж зачараваў мяне з першай хвіліны.

Пераклікаліся ў густым кустоўі птушкі, таямніча ўздыхалі сваімі вершалінамі сосны ды бярозы. Доўга не любаваўся гэтым відовішчам, клікала праца. Узяўшы пэндзаль, пачаў змешваць фарбы на палітры…

Спачатку пачаў накладваць патрэбны тон, адценні, каб звязаць потым усе колеры ў адну агульную мелодыю і сэнс. Зноў і зноў змешваў-перамешваў, выціснуўшы з цюбіка новыя колеры, дадаваў да папярэдніх. І прыйшла першая радасць, калі ўбачыў, што нешта "наклёўвалася", нешта атрымлівалася…

Праз нейкі час, а дакладней праз тры гадзіны – запомніў, у колькі прыйшоў, – раптам адчуў незразумелую ці то слабасць, ці то санлівасць. Здзівіўся – раней мог прастаяць ля мальберта восем-дзесяць гадзінаў і не стаміцца, а тут… Падумалася: можа страўнік патрабаваў сілкавання? З'еў бутэрброды, што падрыхтавала для мяне Ліка ,– палёгкі не адчуў.

Пэндзаль ужо выслізваў з рукі, колькі разоў падаў на шызы мяккі мох. Зразумеўшы, што далей маляваць не мела сэнсу, рашыў спыніць працу. Сеў на берасцяна-гладкі і халодны ствол бярозы. Акінуўшы позіркам пачатак сваёй працы, пашкадаваў, што не ўдалося намаляваць нават і паловы пейзажу, які прыйшоўся мне па душы, і што сілы пакінулі мяне раней звычайнага.

А потым мне падалося, што перада мною захісталіся бярозы, быццам на іх абрынуў сваю сілу вецер. Яны згіналіся як не да самай зямлі, а можа гэта я сам нахіляўся ад слабасці і ванітнага стану, не ведаю. Баючыся, што магу тут жа, сярод бяроз, упасці ў беспамятстве, прымусіў сябе напруціцца.

Толькі праз нейкі час знайшоў у сабе сілы устаць, разабраць і скласці ў мальберт цюбікі з фарбамі. Мне ў той момант падалося, што раблю нейкую непасільную работу, што аддаю ёй апошнія сілы. Тады зноў сеў, каб аддыхацца, выраўняць дыханне, вызваліцца ад незразумелай нудоты і дурноты. Трохі прыйшоўшы ў сябе, закінуў за плечы мальберт і заспяшаўся ў адваротны шлях.

Ніколі мне не здаваўся такім важкім мальберт. Не пакідала нясцерпнае жаданне сысці са сцяжыны і прылегчы пад кустом. Але з вялікімі намаганнямі перабораў сябе, агораў, хаця і з вялікімі цяжкасцямі, пяць кіламетраў да тралейбуснага прыпынку…З асало-

дай гэпнуўся на сядзенне у тралейбусе, прадчуваючы салодкія хвіліны адпачынку і “нічоганероблення” на працягу найбліжэйшай паўгадзіны… Але брыдкня слабасць не пакідала мяне. Аўтобус крануўся з месца, пачаў гайдацца на няроўнай дарозе.

Прыхінуўшыся да шыбіны акна, безуважна праводзіў позіркам дамы і дрэвы, людзей, што крочылі па тратуары… Тралейбус незаўважна закалыхаў-залюляў мяне…

Нехта, таўхануўшы пад бок, спытаў:

– А вам на якім прыпынку выходзіць, мужчына?

– На вуліцы Каліноўскага…

– Дык жа свой прыпынак вы даўно праехалі…

Наперадзе нехта прамовіў грэбліва і з дакорам:

– З выгляду інтэлігентны чалавек, а ўжо наквасіўся сярод белага дня… І як толькі такіх і зямля носіць?

Усхапіўшыся са свайго месца, здзіўлена і трывожна паглядзеў за акно: невядомыя дамы, незнаёмыя шыльды магазінаў – як у іншы горад трапіў.

– Куды гэта я заехаў, чорт мяне пабяры? – усклікнуў горычна.

– Да чорта на кулічкі! – нехта прамовіў спераду.

– З задавальненнем выканаю вашу просьбу! – пачуўся мужчынскі голас за маёй спінай – нехта дакрануўся да майго пляча.

Ззаду сядзела маршчакаватая бабулька на гадоў сто, не адрываючыся ад бруднага акна, – не магла ж яна гаварыць мужчынскім голасам.

“Хто ж тады паабяцаў выканаць маю просьбу? І пра якую просьбу ён казаў? Я ж нічога і ні ў кога не прасіў”.

…Ранічкай нерашуча пераступіў парог бальніцы. Расказаў пра свой стан, нічога не ўтойваў. Сяргей Піліпавіч папрасіў распрануцца да пояса і доўга аглядваў мяне – праслухоўваў грудзі, па жываце стукаў пальцамі, ціснучы на яго.

У рот заглядваў, просячы высунуць язык. Ціск праверыў, тут жа зрабіў кардыяграму, на рэнтген грудной клеткі адправіў.

– Гэта – прызнакі *наркапсіі*, – уздыхнуў доктар Мірановіч, калі агледзеў мяне ўсяго з ног да галавы. – Гэта ад фізічных і душэўных перагрузак… Не беражэце вы сваё здароўе, не беражэце…

– Я не ведаю, як берагчы яго, і што гэта такое, – адказаў я, паціскаючы плячыма. – Калі мяне ахоплівае жаданне маляваць і калі

яшчэ ўдаецца нечакана знайсці ўдалы ракурс ці штрых, – не магу ж спыніцца на паўдарозе, ці не так, доктар?

Ён уважліва паглядзеў мне ў вочы, уздыхнуў, са шкадаваннем запытаў:

– Чаго так рэдка да медыкаў наведваецеся?

– З тае ж прычыны, Сяргей Піліпавіч. Часу бракуе.

Ён нешта пачаў пісаць на паперцы, падаў мне:

– Заўтра абавязкова схадзіце і зрабіце біяхімічны аналіз крыві. Тады будзем дакладна ведаць, што рабіць, як лячыць вас. І прыходзьце з аналізамі да мяне на наступным тыдні. Абавязкова наведайцеся… Не дапускайце, каб вас прывезла да нас “хуткая”.

– Настолькі кепскі мой стан? – з трывогай паглядзеў на яго.

Ён, моўчкі, некалькі разоў пахітаў галавой, сціснуўшы пры гэтым губы.

Дадому вяртаўся ў змрочным настроі. Чамусьці не пакідала думка: “А хто ж усё-ткі звярнуўся да мяне ў тралейбусе? Якую такую маю просьбу паабяцаў выканаць?..”

З вялікай цяжкасцю дабрыў да свайго пад’езда. Падняўшыся на свой паверх, націснуў кнопку электрычнага званка.

Адразу ж пачуў, як да дзвярэй падышла Ліка.

– Хто там?

– Сусед па ложку, – пажартаваў весела, – адчыняй…

2

…Раскашоўваўся ціхі жоўты асенні дзень.

Пяшчотаю і патаемным дыханнем клікала да сябе бабіна лета.

А перад гэтым на горад абрынуліся зацяжныя і нудныя дажджы – не спыняліся некалькі сутак. Яны напачатку навялі на жыццё людзей сум і журботу, а потым памянялі нудоту на светлую радасць: дажджы вымылі горад, як канюшні Аўгія, – і ён ачысціўся ад бруду і гразі, вызваліўся ад пылоты і духаты, а порсткі вецер, што прарваўся напорыста з боку Сожа, павыдзьмуваў застаялыя пахі...

Тое, чаго не маглі зрабіць камунальныя службы, зрабіў, задарма і з ахвотаю, дождж. Ён прыглушыў, хаця ж і часова, бензінавую смярдзючую задуху, вымыў да бляску бляшаныя дахі дамоў, ачысціў вуліцы і тратуары, – засвяціўся ўвесь, як малады жаніх перад вяселлем...

Калі дождж перастаў, – мусіць, стаміўся і прылёг адпачыць, – пасля доўгага сядзення за сталом і стаяння каля мальберта паслухаўся поклічу восені і адправіўся з ёю на спатканне. Мне хацелася пастаяць ля Сожа, падыхаць ачышчаным волглым паветрам.

Удосталь надыхаўшыся, вырашыў пасядзець на адной з лавак, якія стаялі абапал асфальтаваных дарожак. Выбраў крайнюю, бліжэйшую да берага, знаходзілася пад высокай ліпай. Шчык ліпы абрэзалі зімой, на ёй не паспелі яшчэ выскачыць маладыя парасткі, – і яна куртата глядзела на наваколле, бы інвалід.

Пад ёй пачувалася ціха і спакойна.

Стома сядзела ўва мне, пакалвала ў патыліцу, ныла спіна, быццам перад гэтым насіў мяшкі з пяском ці бярвенні. Яшчэ б – чатыры дні не выбіраўся на паветра. Напачатку прыкаваў нябачнымі ланцугамі сябе да стала, а потым колам прастаяў каля мальберта, – стараўся закончыць распачатае... Перапыняўся, але на вуліцу не выходзіў. У сувязі з гэтым ўспамінаецца выраз-прызнанне майго старога сябрука Янкі Кірэйчыка, які казаў мне: “Вось бы, Антоне, маю галаву ды далучыць да твайго азадка,– які геніяльны творца атрымаўся б з нас!..” Ён меў на ўвазе час, калі я кідаў пэндзлі і прыкоўваў сябе нябачнымі ланцугамі да стала, каб за доўгія гадзіны спатоліць літаратурны сверб... Дапамагаў мне пісаць хурсаўскі чароўны аловак – лёгка і хутка кладіся радкі.

Пра сваё “свавольства” (крэмзанне на паперы) нікому не прызнаваўся. Бо не меў упэўненасці, што ўзяўся за сваё. Так што, як кажуць у такіх выпадках, пісаў “у стол”. А час, думаў, пакажа, што да чаго...

Паглыбіўшыся ў сябе, безуважна сядзеў на лаўцы ў гомельскім парку. Парку імя Луначарскага. Толькі даўмецца не мог, чаму такое далі імя – сядзеў ён тут некалі, адпачываў? Думкі мае не пэўныя, разбэрсаныя, параскіданыя, як гарох па падлозе...

Прасядзеўшы з паўгадзіны на лаўцы, адчуў, што з мяне пачала выцякаць стома. Пакрысе праяснялася галава, перасталі цвікі калоць патыліцу, ды і спіна не напамінала пра сябе... Напачатку думаў, што свежае надсожскае паветра і цішыня так падлячылі мяне... Знік і гнятлівы настрой, перастаў турбаваць незразумелы душэўны цяжар.

Помніцца, тады вярнуўся дадому з добрым настроем, а ноччу, калі галава дакранулася да падушкі, праваліўся ў моцны і глыбокі

сон. Раніцай, прачнуўшыся, адчуў сябе адноўленым чалавекам, на сэрцы радасць і лагода. Хацелася працаваць...

Але праз нейкі час зноў апанавала хандра і стома. Ужо не ведаў, як пазбавіцца ад такога гнюснага пачуцця. Адно толькі жаданне не пакідала мяне – упасці на канапу, зажмурыць вочы, уцячы ад таго жыцця, у якім не мог знайсці сабе прытулку...

Ляжаў, не могучы заснуць. Каб прагнаць млявасць, ішоў і падстаўляў галаву пад халодную ваду; слухаў, ужо седзячы на канапе, зажмурыўшы вочы, спакойную класічную музыку – арганную – Баха ды віртуозную Моцарта, – але нічога не памагала.

І нехта ж піхаў-штурхаў мяне пад бок, спіхваў з той канапы, шаптаў нават, упрошваў і ўмольваў, каб пакінуў майстэрню і ішоў да ракі – і там шукаў пазбаўлення ад цяжару. Калі ўжо стала зусім няўсцерпна, калі адчуў, што правальваюся ў апраметную, і ўсё пачынала круціцца-віхурыцца вакол мяне, што і вокам не мог злавіць ніводнага прадмета, – паслухаўся невядомага дарадчыка – паплёўся да парку.

Пастаяўшы, як і мінулы раз, на беразе высокага берага, накіраваўся да лаўкі. Заўважыў, што яе перафарбавалі – замест сіняй стала жоўтай, як і сама восень...

Як толькі апусціўся на яе, адразу ж адчуў, як пачала праясняцца галава – як быццам неба пазбаўлялася шэрых воблакаў. Пакрысе аціхаў, змяншаўся цяжар на патыліцы. Нехта абліў мяне нябачным душам палёгкі, цяжар перакаціўся ў ногі, а потым асунуўся ў зямлю.

Я нешта адчуў, насцярожыўся, і са здзіўленнем паглядзеў на лаўку. Нічога адметнага ў ёй не было. Але нешта дзіўнае заўважыў. Падалося, што яна жывая, што нечага чакае. Дакрануўся да драўляных рабрынаў, пагладзіў іх, – адчуў, што яны цёплыя. Нібы дакрануўся да рук маці ці блізкай мне жанчыны. Лаўка зрабілася “маёй”, яна як увесь час чакала мяне, клікала, ведаючы, што я меў у ёй патрэбу...

Пагартаў, купленыя ў шапіку газеты і часопісы. Прабегся вачыма па радках і старонках. Не знайшоў нічога, што б зацікавіла мяне.

…Мне заўсёды хацелася цішыні. І адзіноты. Падабалася, калі ніхто не сядзеў побач, не зачэпліваў мяне размовамі ці роспытамі.

Легкі подых ветрыку аблашчыў твар. Прымружыўшы вочы, закінуў галаву да сашчэпленых на патыліцы рук. Уявіў чамусьці,

што за маімі плячыма выраслі крылы. Яны мне і на самай справе сніліся ноччу. Смешна, але, я, дарослы чалавек, яшчэ лётаў у снах. А мо то і не сны праведвалі мяне, а самая сапраўдная ява?..

Хацелася адарвацца ад зямлі і паляцець у прорву неба.

Пры гэтым міжволі думкава ўзмахнуў крыламі (арла ці коршуна?), напруціўся ўсім целам, прыгнуўся нават, каб ямчэй адпіхнуцца ад зямлі... Але нябачны груз не дазволіў мне падняцца ўверх. Нехта – ці не ланцугамі – прывязаў мяне да лаўкі. Ці гэта я меў на плячах такі непад’ёмны груз?

Праблемы і думкі, думкі і праблемы...

Мяне атакавалі пытанні, сумненні, абпальвала адчуванне віны за сказаныя некаму словы, за неабдуманыя ўчынкі ці дзеянні... І ўсё гэта змешвалася ў адзін вялікі клубок, а нябачны бураўчык свідраваў мазгі. Чуліся галасы, да майго вуха даляталі ўрыўкі кімсьці прамоўленых воклічаў, мелодый, папрокі, з’едлівы смех...

Як пазбавіцца тых галасоў і гукаў, не ведаў, хаця з усіх сілаў стараўся тое зрабіць. Яны не адчэпліваліся ад мяне, нахрапіста ўрываліся ў маю памяць, патрабавалі, загадвалі нават, каб звярнуў на іх увагу.

Ува мне змагаліся дзве стыхіі. У адной руцэ трымаў пэндзаль, у другой – пяро, правільней, аловак, той, які падарыў мне Хурс…

За маёй спінай знаходзіўся сабор святых апосталаў Пятра і Паўла. Бязбожнікі-атэісты, адняўшы яго ў веруючых у савецкі час, абсталявалі ў ім планетарый, – каб савецкія людзі вывучалі зорнае неба і пераконваліся, што Бога няма… Але і вернікі, і не вернікі ўзнялі свой гнеўны голас супраць такой несправядлівасці. Ніна Меланіч, якая працавала ў выканкаме, адправіла акадэміку Ліхачову ліст. І – падзейнічала.

У храме цяпер святары праводзяць літургіі і ютрані, кожную раніцу і вечар гучаць зазыўна званы. Праўда, за высокім чыгунным рашотчатым плотам, на тэрыторыі плошчы, стаіць і па сёння бронзавая скульптура правадыра пралетарыята, які стаяў на чале былога паганства.

…………………………………………………………….

Праз тыдзень зноў прыйшоў у парк. Спыніўся над ровам, на поўныя грудзі ўдыхнуў паветра. З гары добра відаць, як па Сожы рухаюцца баржы і лёгкакрылыя “ракеты” на падводных крылах. Клікала да сябе “мая” лаўка. А яе, аказваецца, пафарбавалі зноў.

Праверыўшы, ці высахла фарба, сеў на рабрыстыя драбіны. Прыхінуўся спінай да парэнчаў. І – во дзіва! – адразу мяне ахутала лёгкае мроіва, прыйшла ўраўнаважанасць.

Мне нічога не заставалася, як насцярожыцца, – ніяк не мог зразумець, як такое магло быць, і зноў з непрыхаванай цікавасцю пачаў прыглядацца да лаўкі... Падумалася чамусьці, што яна жывая, больш таго, чакае ад мяне нейкіх дзеянняў. Ці – слоў? Слоў удзячнасці? За тое, што ўзяла на сябе ролю лекара?

Дакрануўся даланёй да драўляных перакладзінаў – і, як раней ужо было, у маю руку пачало ўлівацца цяпло. Ведаў, што яно было не ад сонечных промняў, а нейкае іншае, невядомае мне.У гэтым было нешта дзіўнае, незразумелае, але ў сваім адзіноцтве з радасцю прыняў парапанаваную ёй прыхільнасць.

.........................................

Так сталася, што колькі дзён не наведваў сваю лаўку – клопаты паглынулі, не мог адарвацца ад новай карціны. Яна паглынула мяне, і я перастаў адчуваць цячэнне часу...

Калі-нікалі прыходзіла да мяне Ліка, прыносіла яду, сядала на канапу, нечага чакала, але ўсім сваім выглядам паказваў ёй, што яна тут лішняя... Пакідала мяне, я доўга сядзеў у крэсле, і чуўся, чуўся мне покліч маёй "лекаркі", загад да спаткання. І я паслухаўся таго загаду.

Да лаўкі заставалася прайсці колькі крокаў, але мне захацелася пастаяць на краі рова. Адкрылася мне панарама Мельнікава Луга, блішчэла рыбінай лускай пойма ракі. Пахла водарасцямі, рыбай, глеем. Даносіліся да мяне гудкі далёкіх катэраў і паравозаў. Курлыкалі пра нешта ў небе жоравы, зліваючыся ў трокутнік. Пра нешта шаптала лістота на дрэвах, шаршавым языком лізалі пясчаны бераг хвалі, якія ажылі пасля руху прагулачнага катэра "Брэст".

Змахнуўшы даланёю пылоту (была такая прывычка ў мяне: перад тым, як сесці пасля каго-небудзь на сядзенне, адпрэчыць рэшткі чужой энергіі), усеўся на лаўку.

– Ну, прывітанне, лаўка! Чакала мяне?

У нейкае імгненне мне нават падалося, што я прыўзняўся над лавай, нават завіс над ёю... Але толькі тое падалося, бо мне так хацелася. Лаўка выслізнула з-пад мяне, перасунулася ў іншы бок... Яна як быццам гуляла са мной у хованкі.

Але гуляць у нейкія гульні мне ў той дзень чамусьці не хацелася.

І я пакінуў яе. Не аглядваючыся, пабрыў дадому, нават забыўшыся, чаго прыходзіў да яе.

Але атрымлівалася яно так (стала ўжо традыцыяй), што стараўся хаця б раз у месяц прыйсці ў парк. Сядаў, моўчкі апавядаў лаўцы пра свае няўдачы і сумненні, прасіў параду. Ніколі ні з кім не дзяліўся, ні ў кога не прасіў дапамогі, а тут… Лаўка аблегчвала маё жыццё, аберагала ад душэўных перагрузак і залішніх эмоцый, але поўнасцю пазбавіць мяне ад журбы і неўладкаванасці, мусіць, не магла.

Часам мне здавалася, што знаходжуся на мяжы вар'яцтва.

Нябачны мой супрацоўнік, ці як яго яшчэ дакладней абазваць, – вораг мой, – не толькі не адчэпліваўся ад мяне, а гнаўся за мною, быццам велізарны павук, які ўчапіўся ў сваю ахвяру і не адпускаў…

Я прачынаўся, выціраў ручніком з твару і шыі ліпкі пот, зноў засынаў – тады ж адразу чуў, як гучалі папрокі і нехта падымаў на мяне крывы меч. Недаўменне і незразумеласць сатрасалі маю душу, вымотвалі да знямогі. Адчай і страх раслі, ператвараючыся ў нейкую пачвару, якую нельга ні забіць, ні знішчыць. І тады, калі тая пачвара пачынала ўжо душыць мяне за горла, я, не вытрымаўшы, крычаў з усяе сілы да тае пары, пакуль мяне не піхала пад бок Ліка…

Тады ўжо да самай раніцы не мог сплюшчыць вочы.

Праводзілі ўвесну мастакі нашай вобласці справаздачны сход – выбіралі новага старшыню. Нават (нечакана для мяне) нехта вылучыў і маю кандыдатуру. І я шчыра чамусьці адразу паверыў у тое, што калі мяне (а раптам?) выберуць, то буду, безумоўна, харошым кіраўніком, – памагу маладым мастакам, арганізую іх выстаўкі, – адным словам, для ўсіх стану патрэбным і неабходным чалавекам... Сам сабе здзіўляўся, чаму мне раптам захацелася пакіраваць...

Але выйшла, на жаль, так, як і павінна было... Не выбралі. Іншаму чалавеку (а хіба яно магло здарыцца інакш?) дасталіся галасы – Антону Отчыку...

Ці перажываў я? Ну, не без гэтага... Але ж і не так, каб яно запала ў душу, ат, камарыны ўкус... Відаць, той, хто выгукнуў маё імя, рашыў паздзекавацца з мяне. Але хто назваў маё імя, не ведаў ні я, ні самі мастакі: нехта крыкнуў з-за маёй спіны, мо які яшчэ і чужы...

Мяне тады як які д’ябал штурхаў пад бок, нашэптваў: “Ты ж таленавіты, ты ж усё можаш. І грыз мяне той нябачны з’едлівы голас, прыходзіў у мае сны, рагатаў, здзекаваўся...

А аднойчы сустрэў на вуліцы чалавека ў шэрым капелюшы, і пацікавіўся з пад’юджваннем у голасе:

– Скажыце, калі ласка, мілейшы, праўда, балюча робіцца на душы, калі лаўры першынства дастаюцца іншаму? Ці не так, га? Хіба ж Отчык лепш за вас малюе?

Не паспеў яму нешта адказаць, як ён знік.

Так, праблемы накатваліся і накатваліся. Тое ўсё нагадвала снежны камяк, які каціўся з гары, робячыся большым і большым – вышэйшым за хрушчоўскія пяціпавярхоўкі...

Заблытаўся, калі ўжо на тое, у мярэжах рэальнага свету, і ўжо не меў аніякай магчымасці вырвацца, выблытацца. Нікога і не абвінавачваў у тым, – сам сабе падрыхтаваў такі лёс... Думаў не раз: а ці ёсць на зямлі людзі, якія жывуць без праблемаў? І калі ўсё ж такія былі, то, цікава, як ім удаецца не папасціся ў тыя мярэжы, і хто памагае ім вырвацца з палону няўдач і духоўнай пустэчы?

3

Два сюжэты не давалі мне спакою.

Хацелася напісаць пра двух чалавек – пра Паўла і натуршчыцу Жанету. Не партрэты іх намаляваць, а расказаць пра іх на паперы...

Чаго нарадзілася такое жаданне? Сам не ведаю. Я прыдумаў іх нечакана. Тое адбылося, мусіць, таму, што пастаянна побач са мною знаходзіліся гліняныя Ён і Яна. Калі б мой сябра Мікола Пушкар не даў ім свае імёны, то я назваў бы іх Паўлам і Жанетай... Стоячы ля мальберта, водзячы пэндзлем па загрунтаваным бялюткім палатне, каб забыцца пра ўсё, хоць на час, пра свае праблемы, прыдумваў пра іх розныя неверагодныя гісторыі. Чамусьці тое рабіць мне падабалася ўсё больш і больш. З цягам часу мне пачало здавацца, што я чуў нават іх галасы: яны перамаўляліся між сабою, а то і звярталіся да мяне...

Ён “напрасіўся” мне ў сябры, а яна – у натуршчыцы.

Адпачываючы ад працы мастакоўскай, стараўся пісаць хаця б па старонцы ў дзень, – усё болей і болей, незаўважна для сябе, далучаўся да іх жыцця, улазячы ў іх прыдуманы лёс.

Напісаў пра іх два асобныя, не звязаныя між сабой, апавяданні.

Стварыў два асобныя жыцці, якія не перакрыжоўваліся. Яны не ведалі адно пра аднаго абсалютна нічога.

Але аднойчы...

Калі склаў у чорную тэчку два рукапісы, каб потым іх аддрукаваць на машынцы, пачуўся аднекуль незадаволены голас – і чуўся ён, падалося мне, з тэчкі-папкі... Быццам з сапсаванага радыёдынаміка прабіваўся слабы гук. Голас чуўся юнака і дзяўчыны, але каму канкрэтна яны належалі, вызначыць не мог. Напачатку спалохаўся, ледзьве не выпусціў з рук тую папку, а потым зразумеў, як бы там не было, я маю ўсё ж нейкае дачыненне да таго, што адбываецца. Да іх незадаволенасці тым, што замураваў іх у папяровыя старонкі... А яны ўжо звярталіся адно да аднаго па імені.

"Жанета, чаго ты спазнілася сёння на спатканне?.."

А яна яму: "Не магла, Паўлючок, раней, клопатаў навалілася зашмат..."

Так, гэта былі яны, мае прыдуманыя героі!.." Яны, галасы, прасіліся на свабоду, як быццам не хацелі жыць у цеснай чорнай тэчцы, а жадалі бачыць сябе ўжо ў кнізе... Я ж не ведаў, як вызваліць іх з літаратурнага палону, і таму марудзіў, не спяшаўся раней часу выканаць іх жаданне – надрукаваць твор. Мне хацелася абдумаць усё як след, выправіць тэкст, стылёва перапрацаваць...

Прыслухоўваўся да гаворкі маіх герояў – яны размаўлялі паміж сабой. Яны ж, аказваецца, разам са мной і прыйшлі ў парк. Здзейснілі ўцёкі са сваёй турмы? Хто ж ім дапамог? Мо я сам і вызваліў? Чуў, як яны маўкліва ўселіся на лаўцы побач: ён – злева, яна – справа. Маўчалі, і я маўчаў, – прытварыўся, што задрамаў. Чакаў, калі яны пачнуць гаварыць.

І яны пачалі:

"Ты, Павал, гавары першым..."

"Не, ты, Жанета, ён цябе першую стварыў..."

Калі прыйшлі да ўзаемазгоды, акурат у той час і падсеў да мяне чалавек. Мае героі замоўклі.

Той, што сеў побач, глядзеў на мяне. Я тое адчуваў, ведаў, але не расплюшчваў вачэй, не жадаючы размаўляць з незнаёмым чалавекам.

– І дзе ж гэта вы, шаноўны спадар Антон, так далёка лётаеце, адарваўшыся ад гэтай грэшнай зямлі?

Пытанне пачуў, з вялікім намаганнем вырваўся з нябачных цянётаў, павярнуў галаву на голас.

На мяне, цёпла ўсміхаючыся, паглядаў святар. У чорнай сутане, чорныя барада і вусы. Вочы як два празрыстыя блакітныя азярцы, глядзелі прыхільна і добразычліва.

У адказ усміхнуўся і я.

– Ды не адарваўся... Зямныя праблемы непакояць...

– І – як, вырашаюцца?

– Не зусім... Нічога пэўнага. Даруйце, а мы з вамі хіба знаёмы, святы айцец?

– Знаёмы. Вы ў нядзельную школу прыходзілі. Год назад, памятаеце? І мы размаўлялі з вамі. Вы раілі яшчэ, каб дзеткі, акрамя вывучэння Бібліі вучыліся і маляваць...

Найперш адчуў ніякаватасць, а потым і сорам за сваю склератычную памяць. Абяцаў жа яшчэ пазваніць.

– Выбачайце, айцец Георгій! Мне вельмі няёмка...

– Ды што вы, спадар Антон! Я разумею – клопаты, праблемы, ды такі яшчэ сёння складаны і незразумелы час...

У голасе айца Георгія павага і шчырасць. Ён як бы разумеў мяне, і нават абараняў. Абараняў ад мяне самога. Што ставіла мяне ў яшчэ больш няёмкае становішча...

Яшчэ з першай сустрэчы мяне здзівіла тое, што айцец Георгій размаўляў на нашай роднай, ліцвінскай, мове. Мілагучнае вымаўленне кожнага слова і сказа. Голас нагадваў вірлівы раўчук вясною, насычаны сонцам і небам, быццам азораны самім Госпадам. Такі голас не мог хлусіць, гаварыць няпраўду. Памятаю, тады мне падумалася – вось бы так дыктары ці вядучыя праграмаў гаварылі з экрана тэлевізара ці з дынамікаў радыё!

Такім чароўным дарам валодаюць, мусіць, толькі людзі ад Бога. Калі сам выступаў на радыё ці тэлебачанні, а потым слухаў самога сябе, то сам сябе лавіў на хібах і памылках у вымаўленні. А тут кожнае слоўца ўзважанае, выверанае, мела сваю адметную мелодыю...

Святар падсеў да мяне бліжэй.

Між намі на лаўку ўпаў пажоўклы кляновы ліст – як чысты аркуш паперы, на якім мы павінны былі напісаць нешта прымірэнчае, узаемазразумелае.

Айцец Георгій узяў за сцяблiну ліст, пакруціў у руках, паглядзеў уважліва на яго.

– Покліч восені... – прамовіў ціха, гледзячы некуды ўдалячынь. – І праз тыдзень вялікае свята – Раство Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі...

– А яшчэ праз тыдзень – Уздзвіжанне пачэснога і жыватворнага Крыжа Гасподняга... “Уратуй, Госпадзе, людзей тваіх, і дабраславі дастаянне Тваё, перамогу праваслаўным хрысціянам над супраціўнымі дай і Тваім Крыжам ахоўвай жыхарства Тваё...” А яшчэ пазней – Пакроў Прасвятой Уладычыцы нашай Багародзіцы і Вечнадзевы Марыі...

Айцец Георгій паглядзеў пільна на мяне, але спытаў пра іншае:

– Спадар Антон, а чаму я вас рэдка ў храме бачу?.. Вы прыходзіце калі на споведзь і на прычасце?

Я ўздыхнуў, не ведаючы, як лепш адказаць святару.

– Я веру ў Бога. Зрэдку бываю ў храме. Але ніяк не магу ўспрыняць богаслужэнне, бо яно на царкоўна-славянскай ды расейскай мове. Не чую набажэнстваў на мове Вялікага Княства Літоўскага. Колькі разоў хацеў паспавядацца, але ніводнага святара не сустрэў, каб ён гаварыў як ліцвін, выслухаў мяне як ліцвіна. Тады яму даверыўся б, адкрыў душу. І таму пакутую ад пытання: а мо стаць мне каталіком і ўдзельнічаць ў імшы, якая праходзіць на роднай мове ?..

– Чаму ж да мяне не прыйшлі? Мы абмеркавалі б ваш клопат з дапамогай Бога.

– Ды збіраўся. А потым папаў у жыццёвы водаварот, што і яшчэ выблытацца не магу... То адно, то другое...

– Я разумею вас, спадар Антон. Але ўсё ж... А ці не думаеце вы, што вашы ўсе неўладкаванасці і ваша неарганізаванасць залежыць менавіта ад вас саміх, ад таго, што вы не звяртаецеся па дапамогу да Вышняга? Вам здаецца толькі, што вы спяшаецеся нешта зрабіць, траціце шмат часу і энергіі, – а атрымліваецца ўсё марна, усё ўпустую...

– Так яно і ёсць, айцец Георгій.

– Калі так, то чаму вы не шукаеце шлях да Бога? Аднаму нельга жыць, аднаму змагацца цяжка са сваімі клопатамі і пытаннямі да самога сябе.

– Ведаю. І малюся, каб Бог памог мне, даў сілы... Я прачытаў Стары і Новы Запавет. Напісаў і намаляваў некалькі сюжэтаў на тэму спакушэння Хрыста... І то бабуля мая некалі навучыла мяне праваслаўнаму календару, таму і запомніў асноўныя хрысціянскія святы...

– Тое вельмі добра, спадар Антон, але Бог чакае ад вас большага. Я хачу, каб вы прыйшлі да нас у храм – у Петрапаўлаўскі сабор. Зрабіце першы крок, потым будзе і другі, трэці... Я праводжу катэхізацыю – агалошванне, – з братамі і сёстрамі мы вывучаем Святое Пісанне, вучымся маліцца, уваходзім у царкоўны вопыт... Для ўсіх адчыненыя дзверы.

Я маўчаў, глядзеў сабе пад ногі. Думаў над словамі святара.

– Не цяпер... Не гатовы я яшчэ. Але прыйду. Бо, адчуваю, так жыць больш нельга... Здаецца, іду ці то па балоце, ці па слізкім лёдзе – падаю і не магу падняцца... Але, калі знайду ў сабе сілы, набуду духоўную ўпэўненасць, у найбліжэйшы час пераступлю парог Храма і прыду ўсвядомлена да вас на споведзь...

– Антон, а ці ведаеце вы пра тое, што перш, чым чалавек прыйдзе да Вышняга, Ён пасылае яго на выпрабаванні?

– Таксама ведаю. Ойча і цяпер выпрабоўвае мяне. Я хачу ўбачыць наперадзе святло, а сустракаюся з цемрай. Ува мне жывуць два чалавекі, і яны сварацца між сабой, ніяк не могуць прыйсці да ўзаемазгоды. Чаму так атрымліваецца, айцец Георгій?

Святар адказаў не адразу.

– Чалавек у сваім жыцці павінен навучыцца не толькі не жадаць цемры, а адганяць яе ад сябе. Не жадаць пекла ні для сябе, ні для іншых. Наіўны той чалавек, які думае, што зямное жыццё дадзена яму толькі для шчасця і асалоды, і што ён тут зможа знайсці рай. Да рая яшчэ трэба ісці і ісці. Чалавек павінен раскрыцца, як кветка, і ўбачыць сонца. Гэта нашае прызванне, і нашая мэта – памагчы чалавеку наблізіцца да Бога. Няма іншага пекла, чым тое, да якога чалавек падрыхтоўвае сябе ў гэтым жыцці, як і няма іншага раю. Прашу дараваць, Антон, але мне пара, – як бы вінавата прамовіў айцец Георгій, не спяшаючыся, устаў.

Зразумеў, што і мне трэба падняцца з лаўкі. Стаў побач – насупраць яго.

Святар нахіліўся ў паклоне, заўсміхаўся на развітанне, прамовіў:

– Поспехаў вам ва ўсіх вашых задумках і жаданнях, спадар Антон, і няхай заўжды памагае вам Бог!

– Дзякую, айцец Георгій! Уратуй вас Гасподзь!

Да сабора Пятра і Паўла ён ішоў спакойным і ўпэўненым крокам, прытрымліваючы рукой на грудзях крыж. Падумалася – кожны з нас нясе на сабе крыж, і кожны будзе ўзнагароджаны паводле спраў яго і заслугаў.

На званніцы напомніў пра час меладычны голас звону.

Праз чвэрць гадзіны ў саборы павінна пачацца набажэнства.

Падступілася жаданне ўзяць у ім удзел. Але стрымлівала нешта (ці нехта?), не пускала – бы прырaслі мае ногі да зямлі. Няўжо столькі грахоў накапілася ўва мне за ўсе гады, што і панесці іх ужо не пад сілу?

Стаяў каля лаўкі і ўслухоўваўся ў самога сябе.

Галасы, якія стукаліся ў маю памяць і свядомасць, прыціхлі, сталі не такімі надакучлівымі і патрабавальнымі. Не разумеў, чаму так адбылося, але потым падумаў: "Я быццам пабываў у айца Георгія на споведзі – і ён узяў на сябе мае грахі і душэўны боль..."

Выходзячы з парку, адчуў: маё жыццё пачало рухацца па нейкім новым, невядомым мне, шляху. І шлях гэты не ў цемры, – бачны, асвятлёны. Толькі яшчэ цьмяна, тунельна…

Дарога, па якой я збіраўся крочыць, напаміналa тунель. Перада мною была цемра, і я быў у цемры, – а там, далей, у канцы доўгага тунеля, мільгацеў слабы світанак...

"Значыць, не пускае яшчэ мяне Гасподзь да сябе, — падумалася чамусьці ў той момант, – значыць, не прыйшла яшчэ пара прыйсці да Яго..."

Нехта падказваў, што неабходна звярнуцца за парадай і падтрымкай да айца Георгія, абраць яго сваім духоўнікам, але другі нашэптваў, што яшчэ не прабіў для гэтага час. Наперадзе – дарога цяжкая і доўгая.

Перад кожным з нас выпадае такая дарога, такі шлях. І прайсці яго абавязаны кожны, якім бы цяжкім і доўгім ён ні быў.

4

Ноч... Цішыня...

............................................

Вусціш... Цемра...

…………………………………

Ляжу на ложку – без думак, без жаданняў, і, здаецца, нават без душы. Плаваю ў бязважкасці, плыву па небе, між зорак, склаўшы на грудзях рукі. Не размахваю імі і не растапырваю, як птах, але трымаюся на паветры. Не баюся шуснуць уніз – у невядомасць, у прорву, у мора-акіян, альбо кульнуцца на вострыя шпілі Кардыльераў ці Эльбруса, – бо я – бязважкі, бо я – бесцялесны,

бо я – не чалавек, не птушка, не зорка і не планета... Рухаюся (ці лячу) толькі па загадзе ці па волі сваіх думак. Але ў мяне няма думак, як і няма загаду і жаданняў. Таму сам сабе не загадваю, а плаваю бязладна на хвалях духоўнага, мройнага  Космасу.

Я – істота, якая верыць у магутнасць духу Святой Тройцы. Трыадзіны Бог жывіць нас, дае нам розум. Напачатку душа ўсялілася ў маю маці, а потым, калі выйшаў з яе, набыў сваю, якую даў мне Гасподзь.

Маці спявала мне калыханку, каб засынаў. Яе голас пяшчотна ахінаў мяне. А аднойчы пачуўся мне і другі голас, –  таксама прыемны і пяшчотны. Толькі не разумеў, каму ён належаў. Але ці не ўсё роўна, – ён таксама атульваў мяне сваімі  нябачнымі крыламі.

Голас жыў побач са мной і пазней, калі я пачаў хадзіць, а потым стаў школьнікам і студэнтам. Мы ўвесь час добра ладзілі з ім, маім унутраным голасам. Мы слухаліся адно аднаго, падпарадкоўваліся адно аднаму. Калі  нехта з нас выказваў волю ці жаданне нешта зрабіць, здзейсніць, то другі без пярэчанняў і развагаў імгненна браўся за выкананне.

Той унутраны покліч, які нельга ні пабачыць, ні дакрануцца да яго, мне, мусіць, лепш назваць  голасам душы, голасам сэрца, голасам розуму, – зжыўся са мною, зліўся і стаў неадрыўны…

У адзін з травеньскіх дзён, а дакладней – начэй, – у тую гадзіну, калі  паўстагоддзя назад спазнаў паветра, зямлю і неба, прысніўся мне дзівосны сон. Прыснілася мне мая душа. Мой голас. Ці можа – маці?

Найперш, мусіць, маці. Папытаўся пра сябе ў яе, бо інакш усё не выпадала  пагаварыць пра тое: хто я, адкуль прыйшоў, хто мае прапрадзеды…

– Ты, сынок, нарадзіўся ў сорак трэцім,  падчас вайны… За гадзіну да поўначы. На дванаццаты дзень траўня… Да нас прыходзіў славак Ян Налепка, які перайшоў на бок партызанаў, браў цябе на рукі... А потым мы хаваліся ў лесе... Напачатку ў Шмідах, а потым у Люхчэ, што за рэчкай, у Бобрыку, пад Чэрцянем… Бобрык цягнецца недзе аж пад Петрыкаў і ўпадае ў Прыпяць. Да Ельска была пракладзеная вузкакалейка… А потым мы на Гарты перабраліся, што за Ляжнёўкай, у балотах сядзелі... Аднойчы ў Крушнікі пайшлі, каб адкапаць схаваны кубелец з салам… Ды наляцелі немцы, пачалі страчыць па нас… А я цябе насіла ў кашэліку, у якім мы насілі бульбу ці па грыбы хадзілі...  Над галавой

кулі свішчуць, здаецца, вось-вось у галаву ўвап’юцца... “Кідай, дочачко, бо ўсіх нас заб’юць, – раіць бабуля Настазя, мая маці, – вернемся, тады забярэм Тоніка...” А я не паслухалася, Богу памалілася – і тады ж адразу перасталі страляць па нас...”

– А ад каго наш род пайшоў, мамо? Хто твае бацькі і тваіх бацькоў бацькі?

– Маю маці, сваю бабу Настазю, ты ведаеш. У бабулі дзявочае прозвішча Кашаед, – ад бацькі. А калі выйшла за Яна, то стала Фіцнер. Нейкае нямецкае прозвішча. А яе бацькі – Тодар і Аўдоля. Дванаццаць дзяцей нарадзілі... За дзесяць гадоў да канца дзевятнаццатага стагоддзя з’ездзілі ў Петрыкоў і зняліся на картачку... То потым ужо ад прозвішча пайшлі разгалінаванні – Крупа, Фалінскія, Юніцкія, Вішнеўскія, Драўло, Брыльковы, Драпеза…

Нябачным зрокам бачыў іх, сваіх прапрадзедаў. Як у густым тумане, з’явілася перада мною пекная паненка ў бела-чырвонай касынцы; потым непрыкметна, размаўляючы з некім (а мо і са мною), ператварылася ў малінавы шар. І быў ён падобны да вечаровага сонца, што асядала на гарызонце ў пачырванелыя, як не крывавыя, аблокі. А потым і млявае сонца зрабілася як бы чалавечым тварам. Жаночым. Мо таму, што душа – жаночага роду? А Голас? Ён? Мо таму і ўступілі ў супярэчнасць два пачаткі, ад таго і нараджаўся, ці пачаў нараджацца, бунт душы. Ці бунт голасу? Адразу і не разбярэш, не вытлумачыш... Але ж мне снілася мая душа і мой Голас. Пра тое я ведаў і адчуваў яе, душы, неспакой.

Пра тое, што ўва мне пачала нараджацца супярэчлівасць, я адчуў даўно. Але не надаваў таму асаблівай увагі.

Нервознасць і трывога за заўтрашні дзень, за здзяйсненне сваіх задумак, – жылі і жывуць у чалавеку заўсёды – ад нараджэння. Усё роўна ад якога – сто ці тысячу гадоў таму. Потым дадаецца жаданне зрабіць нешта больш. Мы трацім сябе, каб здзейсніць задуманае, тое, што ўпадабала наша душа, наша сэрца, – але не заўсёды дамагаемся свайго…

Але ж мы ніколі не ўведаем, колькі можа трываць нашая душа, колькі мы яе можам нагружаць. Мы не ведаем, дзе мяжа магчымасцяў, дзе парог, за які ні ў якім разе пераступаць нельга... Бо, пераступіўшы яго, назад ужо ранейшым не вернешся. Адзін можа падняць камень з сябе ростам, не спаць суткамі, працаваць да

знясілення, – і нічога. А другі і каменьчык падыме, ноч не паспіць – і надарвецца... Альбо галава не вытрымае...

Вось менавіта тады, калі мая душа зразумела пакуты майго сэрца (ці голасу?), нават не пакуты, а нейкую надарванасць ці надломленасць, – яна і наважылася папярэдзіць мяне, засцерагчы ад няшчасця. Падказаць, параіць, навучыць, дзе мне трэба саломкі падаслаць, а дзе ісці на злом галавы. Голас і душа аб'ядналіся, зліліся ў адно, – наважыліся выратаваць мяне. Таму і прадсталі перад маімі вачыма. Хаця ў сне якія вочы – то ж душа мае зрок, – і праз яе гаварыў з імі...

І вусны мае маўчалі, калі сіліўся нешта гаварыць.

Значыць, яны паяднаіся... Зразумеў, хто іх паяднаў, знітаваў нас. Але ўсё роўна папытаўся, баючыся памыліцца:

– Ты – хто?

Здаецца, у мяне задрыжэлі губы. Тарганулася сэрца, кальнула злёгку нават. Але мо мне тое толькі падалося.

– Я – твая душа. І – твой Голас. Я – твой Анёл-ахоўнік.

– Чаму раней цябе не бачыў? І не чуў?

– Бачыў. Ды не пазнаваў. Правільней – не прызнаваў. Чуў, ды не разумеў.

– Быў, значыць, сляпы?

– Выходзіць, што так.

Мне хацелася запярэчыць. Але адразу ж папракнуў сябе, паправіўся:

– Ды то я так, даруй, не ведаю, як і звяртацца да цябе...

– Так і звяртайся – Голас, Дружа, Сябра, Брат, Сястра – як пажадаеш... Я шматаблічная і ў той жа час адзіная.

Не ведаў пра тое, яшчэ ў той ужо час я і сапраўды быў сляпы. Праз паўгода, як лётаў-насіўся каля чарнобыльскага рэактара, мне спатрэбіліся акуляры... Тыя нябачныя промні пранізалі і сапсавалі не толькі зрок. Таму і пакутуе разам са мною, хварэе мая душа...

Я пачуў слабы ўздых, як быццам мой субяседнік набраў у лёгкія паветра, і голас данёсся ўжо з-за спіны:

– Ды не пра гэты зрок я вяду размову. Можна быць відушчым, але сляпым, а сляпы можа бачыць больш і лепш за відушчага...

– Веру ў тое. І зразумеў, калі пераводзіць на мяне. Прызнаю сваю памылку і віну...

– Ды не віну, – з адценнем крыўдлівасці прамовіў голас, – а сваю абыякавасць... Ды і не папракаю я, як ты думаеш, бо не маю на

тое права, а проста канстатую. А калі так, то ты сам сябе ж і папракаеш…

Мне толькі заставалася на знак згоды пахітаць галавой – баяўся зноў сказаць што-небудзь не так... Разумеў: Голас не крыўдаваў, а дзівіўся майму глупству...

Мусіць, быў падобны я да таго бязбожніка, які першы раз наклаў на сябе крыж і паспрабаваў звярнуцца да Бога альбо першы раз у жыцці прыйшоў у царкву паспавядацца... Сапраўды, то ж я сам сабе і здзіўляюся. Здзіўляюся і папракаю сябе ці не ўпершыню. Але, мусіць, лепш пазней, чым ніколі...

– Правільна, Антон Клімовіч, – лепш пазней, чым ніколі.

Голас як у маці. Акурат так яна казала, калі я пасля запознена прасіў у яе за нейкую правіну прабачэння. Бо настырны быў, як той козлік, якога бабулька вельмі любіла...

Голас яшчэ, як я зразумеў, і шкадаваў мяне.

– Вельмі ўдзячны табе, мая шаноўная Сястра, што ты з’явілася перада мною. Бо і сёння спрачаюцца людзі – ці ёсць душа ў чалавека, ці ёсць другое жыццё.

– Ведаю, што ты быў шляхцічам у Вялікім Княстве Літоўскім, змагаўся побач з Янушам Радзівілам – камандаваў крылатай харугвай коннікаў-ваяроў... А яшчэ быў мастаком у шаха, у першабытным племені – лекарам... І – някепскім.

– Адкуль ведаеш?

– Дык я ж з табою ніколі і не разлучалася.

– З маім целам?

– Не, Антон. З душой... Голас і душа – неаддзельныя. Мы з табой некалі пабудзем там, дзе ты спыняў свой жыццёвы шлях...

– І колькі разоў тое было? – пачаў ужо смялець, можа і задужа, толькі падумаў: “А ці маю права пытацца пра такое?”

Мне ніхто не адказаў. Мо і добра, што не адказаў. Жывому нельга ведаць, колькі ён пражыў жыццяў і дзе будзе яго чарговы парог...

– Даруй, дурное пытанне...

Але і пасля гэтага мне ніхто не адказаў. Мо і сапраўды дагэтуль я толькі мроіў. Калі ні ўва мне нікога няма, то...

– Ох і заносіць жа цябе, хлопча, – пасміхнуўся знячэўку Субяседнік.

– Такім ужо маці нарадзіла, – паспрабаваў аджартавацца, – ды яшчэ ў траўні, а, значыць, у мяне яшчэ і рожкі ёсць вострыя... Ды яшчэ ў год Казы... Як жа мне тады разабрацца ў сабе?

– У сваёй душы, так?

Замоўк ужо я. Абдумваў словы, што мусіў сказаць. Бо пытанне пастаўлена як быццам бы і між іншым, але і з праверкай – ці падтакну, не падумаўшы, ці дам істотны адказ...

– Чаго ж мне разбірацца ў табе, мой Дружа? Ці можа яйка папракнуць чубатку, што знесла яго малым? Мы неаддзельныя адно ад другога, таму... Але мая задача заключаецца ў тым, каб падпарадкоўвацца табе. Нават можа і не падпарадкоўвацца, і не выконваць твае жаданні, а жыць табой. Бо я існую, як і сэрца, як мая кроў, рухаюся і жыву, толькі дзякуючы табе...

Мой Голас маўчаў. Не абвяргаў, але ж і не выказваў згоду. І тое было мне даспадобы. Значыць, не памыляўся, значыць, трошкі нешта пачынаў разумець. А калі і не, то мая душа шкадавала мяне. Што возьмеш з неразумнага дзіцяці?

– Так, хоць табе ўжо за пяць дзясяткаў вёсен, але ты, выбачай, яшчэ дзіця – пяць гадочкаў… Але думкі твае мне падабаюцца. З-за таго, што ты выбіваешся на цубкую дарогу... Цяпер ты будзеш задумвацца над сваім кожным крокам.

– Буду, натуральна, буду...

– Ну то і добра. Добра, што мы паразумеліся.

– А што – хіба бывае і наадварот, мая Сястра?

– Здараецца. Хаця і не часта: разлад душы і цела. А то ўжо хвароба. У нас з табою разладу не будзе. У цябе душа не бунтарская. Ад таго, што працавітая. Ты – будаўнік. Стваральнік. І – мастак. І – маці. І – нявеста...

– ?

– Здзіўляешся? І маці. Ты ёю быў тройчы. І нарадзіла (нарадзіў?) дваццаць пяць дзяцей. Адно загінула яшчэ ў маленстве. Дванаццаць хлопчыкаў і столькі ж дзяўчатак… Адна з іх стала жонкай караля... Сыны – ваярамі, але аднаму толькі з усіх удалося дасягнуць найвышэйшага шчасця ў каханні. Ён і напісаў той сусветна вядомы трактат...

– Выходзіць, што я недарэмна пражыў столькі жыццяў?

– І ні ў адным не быў памяркоўным, не ўмеў слухаць. І тое табе вельмі шкодзіла... А мог, пры ўдалым збегу абставінаў, дасягнуць куды большага...

“Даруй, – пашкадаваў я, папракаючы ўжо самога сябе, што хварэю на нявытрымку, – даруй, і стрымлівай мяне... Хаця бабуля, нябожчыца Настазя, некалі казала мне, што той, хто ўсіх слухае,

не навучыцца і дровы калоць. Гэта да таго, што ў школе мяне вучыла шмат настаўнікаў, у інстытуце шмат выкладчыкаў, на працы – процьма начальнікаў... А чаму навучыўся? А нічаму... А цяпер, як разумею і ўспамінаю бабулю, душу сваю трэба было слухаць. Хто з дурняў ляпнуў: на Бога спадзявайся, а свой розум май? Бязбожнік, мусіць, той чалавек, мо і не дурань. Пэўна ж гучала наадварот – хоць свой розум маеш, але Бога слухайся. Ці – не спадзявайся на свой розум, а на розум і ўладу Госпада... Альбо яшчэ – якім бы ты разумным не лічыў сябе, але не забудзь за тое падзякаваць Богу, што стварыў цябе такім..”

Спакваля святлеў мой розум.

Увачавідкі відушчым рабіўся мой зрок. Я бачыў кругом сябе, бачыў, што рабілася пада мною, але мне было забаронена глядзець вышэй воблакаў...

5

...Адчуваў, што раблюся іншым чалавекам. І, мусіць жа, стаміліся мае Душа і Голас, больш не маглі цярпець мяне такога – неабчасанага, бяспамятнага. Рашылі ў другой палове майго жыцця скіраваць мяне на бальшак, – каб я за той час, што наканавана мне пражыць, здаўся яшчэ на нешта людскае, годнае... Бо на што я аказаўся прыдатным за сваю жытку? Нарадзіў дзвюх дачок? Дык і то заслуга не мая, ці не толькі мая... Адна з іх – вучоны-філолаг, а другая – распараджаецца ў расейскім банку чужымі фінансамі і сродкамі. А сам я які след пакінуў у гэтым сваім, якім па ліку існаванні? На пальцах можна пералічыць зробленае ці створанае. І ці доўгае ў кніг і малюнкаў творчае жыццё? Усё згіне разам са мною, – ніхто і не ўспомніць...

Займаўся шмат чым яшчэ, але, так бы мовіць, па сумяшчальніцтве і па сваёй ахвоце, – падстаўляў галаву і рэбры пад дубінкі рэжыму, спадзеючыся, што і я ў агульны вянок змагання ўпляту свой сціплы васілёк... Але ж у гэтай барацьбе былі вядучыя і вядомыя ваяры, і іх імёны на слыху па ўсім зямным шары... Але ж я і не стараўся там займець лаўры змагара. На лідара ў мяне не хапала энергіі і розуму.

Што ж мне наканавана здзейсніць у гэтым, маім, жыцці?

І ці патрабуецца ад мяне яно, тое здзяйсненне?

Ці дастаткова толькі таго, каб сумленна адбыць свой час на белым свеце? Не ўсе ж геніі, не ўсе ж тытаны...

Адно ведаю: Бог патрабуе ад кожнага з нас жыць па Яго запаветах. Гэта і ёсць галоўнае для чалавека. Можа, гэта толькі пры такой умове чалавек робіцца несмяротным і застаецца, і працягваецца яго існаванне? Мусіць жа так!..

Ад гэтай думкі закалола ў скроні.

Ад маёй Сястры сыходзіла мройная цеплыня. А напачатку ж была прахалода. З першага слова. Потым пакрысе адчуў подых цеплыні – быццам аблашчаны сонцам. І мне рабілася хораша, утульна, мройна... Я ўжо не ведаў сам, дзе і на якім свеце знаходжуся, у якім вымярэнні, у якім часе?

– Так, у іншым. Пяць тысячаў гадоў таму. Яшчэ не нарадзіўся Хрыстос, сын Божы, але ў душах людзей і тады жылі дабрыня і спагада... Але ж не менш было жорсткасці і крыві... Пра тое пазней, асобная размова.

– Дазволь адно пытанне. Можа і апошняе. Ці кожны чалавек можа гаварыць са сваім Голасам і вяртацца разам з ім у свае мінулыя жыцці?

Адказ быў кароткі і сур’ёзны:

– Не кожны. Што тычыцца цябе, то на тое ёсць прычыны. Добрыя прычыны. У адным са сваіх жыццяў ты быў святаром. І да цябе прыходзілі бачанні. Ты тады выратаваў ад гібелі цэлы горад – Вірсай. Тое адбылося даўно. Вельмі даўно. Сёння і горада таго няма, ён спрэс пакрыты вадой і ільдамі.

Больш ні пра што не пытаўся, маўчаў. Разумеў, што і за ім, працягам, нешта тоіцца, нешта нараджаецца. Прадчуваў. Ужо сама сустрэча Цела і Голаса – з’ява незвычайная, як і нечаканая...

– Мне сорамна і ніякавата за маё сённяшняе жыццё, – вінавачуся, не расплюшчваючы вачэй.

– Ведаю. І мне таксама. Але нічога не паробіш. Такое не першы раз здараецца і з табою, і з іншымі. І – са мною.

Маё другое “я” спакваля абуджала мяне: Голас даводзіў мне тое, што сядзела ўва мне і доўга не прачыналася.

– А ці не ўтопія гэта? Колькі ўжо стагоддзяў най лепшыя і разумныя з разумных імкнуліся абудзіць людскія душы! Еўфрасіння Полацкая, Кірыла Тураўскі, Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касцюшка, Адам Міцкевіч, Вялікія князі Княства Літоўс-

кага, – ды, як заўсёды, у святую, распачатую імі справу ўмешваўся д’ябал – рушыў усё... Бо ўмеў спакушаць.

– Ты спрачаешся са мною, Антон Клімовіч?

– Ды не, выбачай. Сумненні выказваю, а ты, калі сапраўды мой неадрыўны двайнік, бацька ці сястра маёй душы, то тады папраў мяне...

– Паправіць не магу, бо ў нас не дыспут. Мы, калі можна так сказаць, правяраем адзін аднаго: ці адпавядаюць праўдзе нашыя з табою думкі... Мы настолькі растварыліся ў аднароднай масе, абленаваліся, заплылі самападманам, што адмовіліся ад боскага і людскага: “А навошта, калі ёсць скарынка хлеба?”, “Вайны ж няма, і то дзякуй Богу”... Ці пагадзіўся б з гэтым той жа колішні ліцвін? Большай абразы яму і прыдумаць немагчыма...

– Памятаеш, што сказана ў Святым Пісанні, паводле Яна Святое Дабравесце? Словы Ісуса (XII:24)*:“Праўду, праўду кажу вам: калі пшанічнае зерне, упаўшы ў зямлю, не памрэ, дык застанецца адно; а калі памрэ, дык уродзіць багата плоду. Хто любіць душу сваю, загубіць яе; а хто ненавідзіць душу сваю ў свеце гэтым, захавае яе ў жыццё вечнае. Хто Мне служыць, Мне няхай следуе, і дзе Я, там і слуга Мой будзе; і хто Мне служыць, таго ўпачцівіць Айцец Мой. Душа мая цяпер узрушылася; і што Мне сказаць? Ойча! збаў Мяне ад гадзіны гэтай! але на гэтую гадзіну я і прыйшоў...”*

Ведаў гэтыя словы, хаця і не зусім разумеў, калі чытала іх у дзяцінстве мне баба Настазя. Яшчэ казала – калі нячысты дух выйдзе з чалавека, дык блукае па бязводных мясцінах, шукаючы спакою – і не знаходзіць...

– Дадам яшчэ... “*Калі ж Дух Таго, Хто ўваскрасіў з мёртвых Ісуса, жыве ў вас, дык Той, хто ўваскрасіў Хрыста з мёртвых, ажывіць і вашыя смяротныя целы Духам Сваім, Які жыве ў вас”.* Гэта з Паслання апостала Паўла да Рымлянаў (VIII:11). Бо, як сказана там жа, але вышэй, “*помыслы плоцкія – смерць, а помыслы духу – жыццё і мір. Каго водзіць Дух Божы, – сыны Божыя; Дух мацуе (нас) у нямогласцях нашых; бо мы не ведаем, за што маліцца, як трэба, а сам Дух заступаецца за нас уздыханнямі няевымоўнымі...”*

Я ўсё яшчэ знаходзіўся ва ўладзе дзівоснага пачуцця бязважкасці і прасвятлення ўплыву нябачнай далані Вышняга, здзіўляўся, што такое можа быць..

– І яшчэ... Памятай, бо спатрэбіцца: Хрыстос папярэджваў, – што замест Яго пад Яго імем могуць прыходзіць і прапаведаваць, дык таму не вер ім, умей распазнаваць Голас Божы і голас сатаны – антыхрыста... Бо ён ўмее пераўвасабляцца ў любую істоту – як чалавека, так і звера. І можа падацца такім добранькім, такім ласкавым і дабрачым, што страціш пільнасць і пападзеш у яго абдымкі…

– Добра, буду памятаць.

Налівалася цела сілай; гарачыня падступіла да твару; у скроні не калолі больш балючыя іголкі і не нямелі кончыкі пальцаў на руках; мацнелі радасць, упэўненасць, што здзейсню ўсё, што планаваў, што жадаў і мроіў...

Адчуў, што перада мною нікога няма. Душа і Голас сталі адным цэлым...

6

Але ж узнікла адчуванне прысутнасці некага іншага, пабочнага. Ні цеплыні, ні холада, а толькі абыякавасць. Абыякавасць нейкая прафесійная, якой валодае спрактыкаваная доктарка, жанчына, праз рукі якой праходзяць тысячы і тысячы хворых і нямоглых... Каб выконваць дасканала сваю працу, ёй супрацьпаказана нервавацца, мець эмоцыі.

– Вам ужо лепш? – папыталася жанчына. Ведала ж, пэўна, што я выйшаў са свайго калапсу, знаходжуся ў тым разамлелым стане, калі ўсё даспадобы, усё добра.

Перш чым расплюшчыць вочы, усміхнуўся, усміхнуўся, як дзіцё, якое разбудзіла маці, а яно прыдурваецца, што яшчэ спіць...

Яна стаяла збоку, злёгку нахіліўшыся нада мною – твар у твар, вочы ў вочы... Выглядала не строгай, але і не надакучлівай, толькі ў куточках вуснаў ледзь-ледзь торгаліся ўсмешлівыя промнікі. Яна прыкідвалася толькі абыякавай, а насамрэч у яе было столькі спагады, што хапіла б на ўсю лякарню, у якой яна працавала. Я бачыў яе наскрозь, лекарку Яніну. Белы халат не перашкаджаў бачыць тое, што не бачылі іншыя. Ведаў нават у нейкім далёкім жыцці мы пачуваліся з ёю як адно суцэльнае і неразрыўнае. Толькі аднаго не мог дакладна сказаць – ці то я быў ёю, ці яна, Яніна, ператварылася ў мяне... Яна ж не ведала пра тое, нават і не здагадвалася.

– І настрой добры, так?

– І – настрой...

– Гэта ўжо суцяшае. А то напалохалі дактароў сваёй незразумелай хваробай.

– Хваробай? Незразумелай?

– Так, у вас прыступ... І незразумела, ад чаго... У практыцы медыцыны, у сусветнай практыцы, такой з'явы не назіралася. Усе органы працуюць выдатна, акрамя хіба што аднаго ціску – трошкі высакаваты артэрыяльны ціск, але няпэўна паводзіць сябе сэрца – то рэзка пачынае працаваць, а то зусім затухае... Як усё роўна здзекуецца з медыцыны...

Яніна гаварыла спакойна і нават і жартаўліва, толькі раз-пораз кідала позірк на экран манітора, на якім высвечваліся рытмы майго сэрца.

– Выбачайце, што ўчыніў такі здзек з усёй медыцыны адразу... Урачыста абяцаю больш так не рабіць!..

– Ды не, гэта вы мне даруйце, – спахапілася медсястра, – я не тое мела на ўвазе... Пажартавала, які ж тут можа быць здзек? Выбачайце, Антон...

“Во і дачакаўся, калі па імені назвала...”

Падалося, што яна пачырванела. Шырака раскрыла вочы, і я заўважыў, што яны ў яе блакітныя, як неба, праніклівыя і – добрыя... Вусны як налітыя вішнёвым сокам. Мусіць жа, як і агонь, гарачыя...

Яніна ўзяла маю руку, дакранулася да запясця, – слухала ўдары майго сэрца? Аначасова глядзела на экран, маўчала, як загадвала, каб памаўчаў...

Ад яе тонкіх пальцаў пераліваліся ў маю руку, у мяне і ў маю душу ледзь чутныя пульсацыі – як быццам яе кроў, маладая і здаровая, улівалася ў мае вены, і сэрца адкачвала яе, і рабіла мяне яшчэ больш моцным і здаровым...

– Пульс добры, амаль стабільны. Але яшчэ нешта замінае...

Казала як бы мне, але ж і найперш самой сабе. Адняла руку. Быццам з разеткі вышмаргнулі вілку прывада ад рухавіка, і ён пачаў незадаволена запавольваць свой бег...

Імгненне – і на экране пачала прачырвацца суцэльная лінія. Але Яніна валодала сабой – старалася не выдаць сполах і здзіўленне, хаця ж хацела націснуць чырвоную кнопачку каля маёй галавы – выклікаць загадчыка кардыялагічнага аддзялення Мірановіча, які

акурат  дзяжурыў у гэтую ноч і знаходзіўся ў суседняй палаце рэанімацыі...

– Праз колькі хвілінаў да вас прыдзе доктар, – усміхнулася пяшчотна мне, як блізкаму чалавеку.

– Дзякую, Яніна. Прыходзьце і вы... Мяне вылечыць толькі ваш голас.

– Вас вылечыць доктар.

– Але найперш – вы.

– Хворы- хворы, а спрытны...

Перад тым, як прычыніць дзверы, яна азірнулася, яшчэ раз даслала мне ўсмешку...

І ўзрадавалася ад таго мая душа, прагнучы разабрацца ў самім сабе...

7

У паліклініку падаўся з раніцы, бо ведаў што біяхімічныя аналізы праводзяць з васьмі да дзевяці гадзінаў. А там заўсёды чэргі – то бабулькі і ветэраны сядзяць, верачы, што дактары ім вернуць ранейшае здароўе, а то навучэнцы ці студэнты.

Але, на маё здзіўленне, чаргі зусім не было. Выйшла з пакойчыка дзяўчына, запрасіла мяне прайсці да працэдурнай сястры.

– Праходзьце, рыхтуйце руку. На якой руцэ ў вас лепшыя вены?

– Здаецца, на левай.

Дзяўчына ў белым халаце паклала маю руку на мяккую падушачку, паляпала даланёю каля локця. Іголка ў вену ўвайшла нячутна, як  усё адно камарык сеў на руку і не паспеў яшчэ прысмактацца.

– Ну, вось і ўсё, – весела сказала дзяўчына. – Але трэба правесці яшчэ адну працэдуру. Трэба тры кроплі крыві для іншых аналізаў – адзін на праверку памяці, другі – настрою, трэці – інтэлекту… І гэта ўжо бярэцца з пальца.

Яна паклала перада мною паперку, разлінееную на тры часткі. Пракалола палец левай рукі, сціснула яго. На кожную частку капнула па кроплі.

– А цяпер унізе дамовы з паліклінікай пастаўце свой подпіс, пацвердзіце, што гэта вы здалі сваю кроў.

Подпіс паставіў, не чытаючы, пра што сведчыла тая медыцынская паперка. Адно, што запомніў, злева, уверсе, у куточку,

выдзяляўся медыцынскі лагатып – гадзюка, якая абвіла ножку сасуда.

– Выдатна! – ветліва ўсміхнулася працэдурная сястра. – Праз тры дні мы перададзім аналізы ў бальніцу – вашаму доктару. Сяргей Піліпавіч званіў нам, папярэдзіў. Усяго добрага! Не хварэйце!

Калі выйшаў у калідор, на лаўках не было ніводнага чалавека. А была яшчэ толькі а палова дзявятай гадзіны. Мусіць, перасталі людзі хварэць, і ім не трэба было звяртацца да дактароў.

“Куды цяпер? У майстэрню? Ці – дадому?”

Куды мне найбольш хацелася, я не ведаў…

А хацелася мне ў мурожныя травы, у лугі з п’янкім пахам толькі што народжаных кветак, у глухія бары і пушчы, бярозавыя гаі, дзе правяць баль птушкі і звяры, у ціхія затокі Прыпяці – паміж Туравам і Мазыром, дзе на дне шэрай вады дрэмлюць самы і тлустыя язі... Там вольна дыхаецца мне, і хораша адно думаецца, і неба з прасціradлам зіхоткіх зорак пяшчотна і ласкава ахутвае мяне, абдымае нябачнымі рукамі, спавівае пялюшкамі душу і сэрца.

А найлепш – выбрацца ў лес ранняй восенню, калі пасля цёплых і спорных дажджоў у беразняках з верасовымі палянамі выцяліся крамяныя баравічкі, рыжыкі і мховікі, – падацца да іх – у Броньку ці Люхчэ – з лазовым кошыкам ці паляшуцкім кашалём, у якім мяне некалі, у вайну, насіла маці, – ды фотаапарат пачапіўшы за спіну. Менавіта ў такія хвіліны і забудуся пра ўсё на свеце, буду ўглядацца пільна ў пратапінкі і лясныя закуткі, падымаць дубчыкам ці сцізорыкам успоранае лісце, думаючы і спадзеючыся, – а раптам там, у імху, стаіўся крамяны баравічок... І прадчуванне часта не падманвала мяне.

Яшчэ часцей пачынае тады біцца сэрца, а позірк міжволі будзе шнырыць-бегаць кругом сябе, – бо заўсёды хочацца верыць, што побач з адным з баравічкоў абавязкова будуць яшчэ яго родзічы... Найчасцей так яно і адбывалася.

Тады, як правіла, стаўлю кашэль каля тых, знойдзеных напачатку, грыбоў, што напаткала вока адразу. Стаўлю як арыенцір – і кружэлю па нябачным радыусе. І ў той жа час адчуваю, як радасна на сэрцы ад такой мясцінкі, якая так усцешыла мяне. І знаходжу, абавязкова знаходжу яшчэ і яшчэ – і ўжо процьма карычневых шляпак-капялюшыкаў узнікае перад маімі вачыма. Аж вочы разбягаюцца.

На памяць прыходзіць выслоўе маіх крушнічанаў – *хоць касу закладвай*.

Пакружыўшы па паляне, не знайшоўшы больш баравікоў, задаволены і ўсцешаны, вяртаюся да знойдзеных. Дастаю сцізорык – і з яшчэ большай асалодай зразаю іх, акуратна складваю ў кашэль...

Складваю так, каб як мага больш умясцілася – вялікія шляпкамі ўніз, на спод, а зверху, паміж каранёў, кладу маленькія... Зразаю яшчэ і яшчэ, пры самай зямлі, тоўстыя ножкі.

Застаюцца на грыбным месцы бялюткія кружочкі, і іх тут жа прысыпаю лісцем і ігліцай, – каб не ўгледзеў які грыбнік, і не прыйшоў замест мяне ранічкай... Бо кожны ж ведае, што на месцы гэтых заўтра будзе тое ж самае – новая плойма карычневых капялюшыкаў вырвецца на волю, будзе цікаўна дзівіцца на лес, на неба, на хмары...

О, мой родны лес! Мілыя сэрцу крушніцкія пушчы!

Колькі ўрочышчаў і прыгожых мясцінаў запала ў сэрца! Яны як стракатыя закладкі ў цікавай кнізе, якую буду чытаць зноў і зноў слухаць спеў птушак, удыхаць тое дзіцячае, непаўторнае, паветра... Колькі здараецца і забываецца чаго ў жыцці, а вось тыя хвіліны, тыя імгненні шчасця, калі трымаў у руцэ халодныя, яшчэ з начной расой, баравічкі, – назаўсёды ў памяці. Будуць яны стаяць перад вачыма і праз дзясяткі гадоў – яшчэ жывыя, якія і не падазраюць нават, што адрэзаныя ад зямлі, што ўжо ўся сям’я знаходзіцца ў кашалі... Ніколі, ніколі тыя імгненні не выветрацца з памяці, будуць не раз сніцца, лашчыць душу дарагімі сэрцу ўспамінамі.

У лесе ніколі не стамляешся. У лесе ніколі не сумна.

І як ні саб’еш ногі, і як ні заные спіна ад важкай ношкі, а душа нястомна радуецца хораша пражытаму дню.

Але…

Але тое ўсё было ў мінулую эпоху. Да Чарнобыля.

Календары сцвярджаюць, што новае стагоддзе і тысячагоддзе надышло праз чатырнаццаць гадоў пасля Чарнобыля. То горкая няпраўда. Адлік новай, паслячарнобыльскай эпохі, пачаўся менавіта пасля дваццаць шостага красавіка адна тысяча дзевяцьсот восемдзесят шостага года… З тым дакладным часам, калі выбухнуў чацвёрты атамны рэактар... Таму і я, і іншыя, і іншыя пасля нас будуць гаварыць пра нейкія падзеі: “А-а, тое

адбылося яшчэ да Чарнобыля!..” альбо: “Так, тое ўжо здарылася ў постчарнобыльскі перыяд...”

Да таго – і пасля... Пасля – і да таго... Светлы перыяд і чорны... Суцэльная паласа страху і чорнага болю – чорных сноў, чорных думак, чорных фарбаў, чорных быляў і паданняў...

І боязна мне сёння выязджаць у той постчарнобыльскі лес...

Боязна лавіць рыбу ў паслячарнобыльскай Прыпяці...

Боязна піць малако ад каровы, якая спажывае траву з зямлі, пасыпаную стронцыем і цэзіем...

Боязна есці свініну і ялавічыну... Хаця вучоныя мужы і чыноўнікі ад улады сцвярджаюць, што ўжо можна вяртацца туды, у выселеную, трыццацікіламетровую, зону і жыць. І не толькі жыць, а і садзіць агароды, сеяць жыта – нібыта там ужо ўсё вырасце чыстае і можна ўжываць у ежу... Што ўсё прыйшло ў норму. А норма – гэта што? Хто яе прыдумаў? Ён, вучоны чыноўнік, хіба жыве ў той зоне і есць усё тое?

Боязна нават і жыць на сваёй зямлі, на сваёй Радзіме...

Але другой нам Бог не даў. Яна ў нас адна. Хоць і пасыпаная атрутным попелам. Гэта як кара, – толькі не Бога. Кара ад самога сябе. Чалавек сам сябе і карае, аддае на пакуты. Тое, што Боскае, ніколі шкоды чалавеку не прыносіць. Людзі ідуць у царкву, у сінагогу, мячэць – і выходзяць адтуль аднаўленымі і нованароджанымі.

На Узвядзенне Царквы натхняў Сам Бог. Хто ж натхняў чалавека на будаўніцтва атамнай бомбы? Толькі Сатана мог распарадзіцца зрабіць такое.

У цэнтры Еўропы, у самых прыгожых мясцінах дзвюх краінаўсясцёр, дзе зямля спявае Божыя песні. Дзе паветра – як лекі, дзе пасялілася шчасце... Дзе рэкі, лугі, палі, лясы, птушкі і жывёла – наш духоўны і зямны рай...

Лес для чалавека – найлепшы доктар.

Амаль кожнае дрэва можа вылечыць, калі ведаеш і шануеш сваё, роднае, – калі абдымеш яго, тое дрэва, калі пашэпчаш патаемныя і неабходныя словы. І тыя словы гучаць як малітва, хаця то і сапраўды малітва, бо яшчэ і язычнікі задоўга да хрысціянства абагаўлялі дрэвы, звяртаючыся да іх як да жывых, прасілі помачы... І атрымлівалі. І хаты будавалі толькі з прыдатнага, добрага дрэва.

Выбраць тыя адзіныя дрэвы, з якіх будучыя бярвенні лягуць у зруб, і чалавек у сваёй хаце будзе абаронены ад злых сілаў звонку, – умеў не кожны... Такіх людзей сустракалася мала, ды і не ў кожным паселішчы яны жылі. Гэта былі відушчыя сэрцам людзі. Здольнасці іх перадаваліся з пакалення ў пакаленне. І звалі такіх людзей дрэвалекарамі, маглі з закрытымі вачыма бачыць нутро хвоі – толькі дакрануўшыся даланёй да ствала яе. Колькі хвілінаў стаялі з зажмуранымі вачыма, як усё роўна ўслухоўваліся ва ўнутранае жыццё дрэва, споведзі яго, аднаму чараўніку, зразумелай мовы.

Сёй-той з людзей мог і не верыць у дрэвалекараў. Нат і пасміхаўся з іх, кажучы, што гэта толькі прымхі, забабоны. Пілаваў сосны наўздагад, без разбору.

А праз нейкі час пачынаў пра тое горка шкадаваць.

Расказвалі потым суседзі, бо на іх вачах адбывалася ўсё...

У той хаце, гаспадар якой праігнараваў дрэвалекараў, пачынала тварыцца нешта неверагоднае і загадкавае. Без прычыны захварэюць дзеці, ды так, што і дактары вылечыць не могуць, то нямоглым зробіцца гаспадар ці гаспадыня, а то вецер-буран дах скіне і аднясе далёка ад хаты... А то ў завуголлі па начах нячысцік пачынае скігатаць, плачам заходзіцца…

З Мінска да гаспадара такой хаты (на Бабруйшчыне) прыязджаў госць – служылі некалі разам у войску. Да раніцы слухаў плач і разрываючы душу крык невядомай істоты. Не вытрымаў, выхапіўся з хаты... І нейкі чорны цень пачаў яго наўздагон венікам хвастаць па твары... У люты мароз выбег на вуліцу... Да суседзяў пачаў прасіцца пераначаваць...

Доўга пераходзіла тая гісторыя ад адной хаты да другой, з вёскі ў вёску. Верылі і не верылі, але куды падзенешся, калі самі людзі сцвярджалі пра тое, крыж на сябе для вернасці наклаўшы...

Неўзабаве не вытрымаў выбрыкаў сваёй хаты і гаспадар, пачынаў нанава будавацца. Шукаў ужо дрэвалекараў, як не на калені ставаў перад імі, умольваў, каб памаглі адабраць здаровыя сосны... Не шкадаваў ужо ніякіх грошай, хаця той платы ніхто ніколі і не патрабаваў.

У таямнічых і загадкавых паводзінах дрэваў пераканаўся я і сам. Дзядзька мой, матчын брат, Адась, а так – Адам Фіцнер, працаваў лесніком пад Бабруйскам – у Даманове. Адразу ж, як ажаніўся, наважыўся будавацца. Падрадзіліся зваліць хвоі сябры-

леснікі. Па адной хваіне на конях, на калёсах з доўгімі, спецыяльна для такога выпадку зробленымі прыстасаванымі, дышламі, звозілі на ўскрай вёскі – на поле, дзе меўся ўзвесціся зруб... Хата Адася намячалася стаяць першай, калі ўязджаць у вёску ад лесу. Калі ж ехаць ад Бабруйска, то апошняй.

Збудаваўся. Нарадзіліся дзеці – два сыны і дачка. І раптоўна здарылася тое... Усчалася глыбокай восенню завіруха, шалёны буран усхапіўся, – і знесла дах хаты, закінула на бераг Беразіны, – а да яе метраў з дзвесце...

Усе хаты ў вёсцы выстаялі, а вось леснікова... Комін рассыпаўся, печ развалілася, цагліны пасыпаліся на дачку Тоню – ложак якой стаяў каля печы. Дзяўчынка нават не закрычала ад страху, бо не зразумела, што адбылося. Адась прыбег да яе са спальні, пачаў разграбаць цэглу, выбаўляць дачку з бяды, не ведаючы, ці жывая хоць засталася...

Але – на дзіва – ніводная цагліна не прычыніла ёй шкоды...

"Бог абярог", – сказала баба Прося, жончына маці.

Праз год пачаў ляснік будавацца зноў. Але ўжо ў іншым месцы. І доўга перад тым шукаў чалавека, які памог бы яму выбраць у лесе дзеравіны.Тая хата стаіць і па сёння...

Так, дрэвы заўсёды мелі магічную сілу. І таму чалавек усё жыццё стараўся жыць у дружбе і згодзе з імі, з прыродай... Бо яна, прырода, была для яго жывой істотай, адухоўленым арганізмам, – і гэтае разуменне азначала ўжо як падступ да галоўнай веры, веры ў Бога. Бо ўсё, што памагала чалавеку жыць і выжыць, было створана Ім – Вышнім Творцам...

Другога лесніка, дваюраднага брата маёй маці, значыць, зноў жа – майго дзядзьку, у нашай ужо, паляшуцкай вёсцы Крушнікі, звалі Зюнё. Калі ж па пашпарце, то Язэп ці Іосіф. Кожны раз, прыходзячы да яго, надакучваў пытаннямі пра лес, пра звяроў, з якімі ён сябраваў, дапытваўся пра гадзюк і вужоў, вавёрак і птушак, як ён з імі ў лесе хаўрусуе.

Адказваў няўцямна:

– Я ведаю іх душу і таму навучыў давяраць мне.

Жылі ў яго хаце і двары вавёркі-скакухі, – ім што лес, што яго хата, было усё адно. Лоша – дзіця ласіцы, пашкодзіла нагу – ушчамілася ў расшчэліну карнявішча сасны і не магла выбавіцца сама з пасткі, – жыла ў двары. Памог выбавіцца з пасткі Зюнё. І прывёў, кульгавую, дадому...

І вужы жылі ў хаце. І жонка, Валя, і дзеці – нeяк жа ладзілі з імі.

– Зюнё, балоты – гэта добра?

– Гэта надта добра, Антон. Зямля – жывая істота, як і чалавек. А любое жывое стварэнне дыхае, удыхае ў сябе паветра. Вось яна і дыхае сваімі лёгкімі, а лёгкія для яе – тыя ж балоты.

– А іх жа высушваюць – меліярацыя.

– Самі сябе губім, – уздыхае Язэп, – самазабойцы мы, няйначай...

– Дык асушэнне ж прадугледжана, прыдумана вучонымі для таго, каб аблегчыць жыццё чалавеку, каб па балотах можна было пракласці дарогі, а на асушаных землях сеяць хлеб...

– Чарнобыль таксама быў прыдуманы для патрэб чалавека. А вунь што выйшла з таго. Смерць выйшла... На асушаных землях сеяць хлеб? Зноў жа – глупства. І – вялікае.

– Чаму?

– Год-два возьмуць ураджай, а потым будзе пустэча. Вецер усё выдзьме... Гэта як скуру садраць з жывога чалавека – як бы ты сябе пачуваў, га? Хай бы навучыліся на спрадвечных палях вырошчваць ураджай. Без хіміі, натуральна. Дык жа не, украсці ў прыроды хочуць. Вось і спажываем горкі хлеб бязглуздасці і дурноцтва...

– І калі мы так будзем адносіцца да прыроды – да балот і лясоў, то...

– То і будзем мець узамен пустыню Сахару. З жоўценькім пясочкам. Уяві толькі тое – мы, палешукі, пад пякельным сонцам, на пяску, – і ніводнага дрэўца вакол – на тысячы і тысячы кіламетраў...

– Дык гэта ж пагібель – горш за пекла...

Зюнё нічога не сказаў, толькі сціснуў асмяглыя губы. Прыжмуранымі вачыма паглядзеў на неба, у пройму купчастых воблакаў, як быццам гаварыў, падказваў мне, каб я там, у небе, і шукаў далей адказы на свае пытанні...

Мне цяжка ўявіць тое, што казаў Язэп, – мая краіна – пустыня?! Пустэча? Дзе не будзе ні грыбоў, ні ягад, ні азёр, ні рэчак з рыбаю і птушкамі, ні ценю пад дрэвамі... То ж сапраўды пекла... Тады ж і ўзнікала і наступнае пытанне – а хто ж спакушаў, хто ж натхняў нас на непатрэбства? Сам па сабе чалавек не здольны на самаспаленне, самазабойства. У яго не толькі што розуму, а і адвагі не хопіць – знішчаць самога сябе... Бог, мусіць, адпачываў у той час і думаў: “Ты, чалавек, хочаш перарабіць тое, што стварыў Я? Давай, Я пагляджу, што з таго атрымаецца...”

Атрымалася тое, што заўсёды атрымліваецца, калі Бог спіць.

Ачомаўся ж, пэўна, Вышні хіба тады, калі чалавек, з падачы, канечне ж, сатаны ці д'ябла, уздумаў рэкі ў адваротным кірунку пусціць... Бо тое, мусіць, пагражала ўжо канцом свету, – дык Бог і злітаваўся, усяліў розум у чалавека.

Нездарма папярэджваў мяне Зюнё Кашаед пра пустыню і глядзеў адначасова на неба... Ён шкадаваў, што не меў ніякай сілы, каб перашкодзіць глумленню лесу – спадзяваўся толькі на Бога. А той лес, тыя дубы – патрыярхі, якім было па дзвесце-чатырыста гадоў, якія памяталі Кастуся Каліноўскага і Тадэвуша Касцюшку, Еўфрасінню Полацкую і Кірылу Тураўскага, Францішка Скарыну і Сымона Буднага, і маладыя, якія і стагоддзя не пражылі, – вынішчаліся на яго вачах...

Сваім дрывасекам не было пад сілу, дык панаехалі з іншых мясцінаў, нават не сваёй дзяржавы, а суседняй, усходняй, ці то з-пад Разані ці Тамбова, бо як дзятлы то "чёкалі", то "токалі" пры размове... І без жалю іх шведскія пілы ўядаліся ў тоўстыя, не абняць рукамі, ствалы пракаветных ліцвінскіх дубоў...

Вынішчалі палескія дубравы для таго, каб прадаць за валюту... Быццам бы тая валюта магла выбавіць нашу краіну з балота, у якое яе ж і ўвагналі... Для чаго гэта ўсё? Для каго? Для людзей? Як жа для людзей, калі ж іх абкрадаюць?Дык ці Боская рука кіруе ўсім гэтым?!? Мусіць жа, не...

І ці чакае нас лёс пустыні?Адказ на такое пытанне – зноў жа – залежыць ад нас саміх... А я пра тое пытаўся ў самога сябе кожны дзень, кожную ноч. Нават у сне, калі валачыў ногі па пустыні, горка ўсведамляючы, што такім можа вымалявацца пейзаж маёй Ліцвініі…Сваім розумам ніяк не мог дайсці да таго, каб зразумець усё, не ведаў, дзе можна прачытаць пра ўсё гэта…

Тое хіба што магла растлумачыць толькі Галоўная Кніга Жыцця.

8

Сяргей Піліпавіч уважліва праглядаў паперку, якую перадалі з маёй паліклінікі.

– Так, так… Тут у норме, і тут, а вось халестырын у вас вельмі павышаны… І тут высакаваты, і тут. Вы што, Антон, сала кілаграмамі елі?

– Ды не, сала даўно еў.

Сяргей Піліпавіч адклаў убок паперчыну, павярнуўся да мяне.

– Я не кажу – заўтра, але ў найбліжэйшы час вы павінны легчы на деталёвае абследванне. І на прафілактыку, і на лячэнне. Бо вы можаце ў нечаканы для вас момант, седзячы дзе-небудзь у тралейбусе, заснуць і не прачнуцца... Так што прашу аднесціся сур'ёзна да свайго здароўя. Мы зробім тамаграфію, паглядзім, як працуюць у вас сасуды галаўнога мозгу. Тады будзем ведаць, якія вам лекі найбольш падыходзяць. Праз тыдзень вы будзеце гатовыя легчы?

Падумаўшы крыху, адказаў:

– Думаю, што змагу. Пастараюся падагнаць усе свае клопаты, каб потым мяне нічога не турбавала.

– Ну і лады. Дваццаць пятага лістапада – падыдзе для вас дзень? Акурат панядзелак. Вось вам накіраванне. І лячыць вас будзе Ян Пятровіч Мілашэвіч – найлепшы кардыёлаг вобласці. А мо і краіны. За два дні пазваніце мне.

...Чытаю, перачытваю, стараюся зразумець сэнс Святога Пісання. Не зусім разумею словы, правільней сэнс павучанняў і папярэджанняў Біблii, напісаных на царкоўна-славянскай, на сучаснай расейскай, трошкі лепш на ўкраінскай (падараваў святар-евангеліст, калі адпачываў і лячыўся ў Трускаўцы), але найлепш адчуваў далонь і дыханне Бога, калі чытаў скарынаўскую Біблію, – яго кнігі “Быццё”, “Выхад”, “Левіт”, “Другі закон”, “Кніга Іісуса Навіна” – і ўсе астатнія. Чытаў, чуў, як звінелі каменьчыкі пад нагамі дванаццаці апосталаў – вучняў Іісуса, калі яны ішлі на другі бераг мора – у краіну Чадарынскую...

Чуваць было, як нос чоўна, у якім сядзеў Хрыстос, з шэптам увайшоў у пясок берага, крык таго, хто выйшаў з магілы, хто сустрэў Яго словамі: “Што Табе да мяне, Ісусе, Сыне Бога Вышняга! заклінаю Цябе Богам, не муч мяне...” І чуцен яскрава голас, як было тое зусім побач, што і дакрануцца льга да адзення Яго. І загадны голас Усемагутнага: “Выйдзі, дух нячысты, з гэтага чалавека!” А той бачыўся не адзін, а, як сам сказаў, цэлы легіён, бо іх многа...

Нават шэпт Госпада мог зрушыць з месца горы, запаліць маланку.

Кожнае вымаўленае слова – выверанае і кладзецца, як цаглінка ў муры святога храма, і звініць, як звон, што вісіць на вільчыку

царквы, і далятае той звон да сэрца кожнага, пранізвае Боскім дабраслаўленнем…

Не кожнаму і не ўсім дадзена сапраўднае разуменне, існы сэнс, што закладзены ў Галоўнай кнізе Чалавецтва. Але ж і не кожнаму дадзеная здольнасць зразумець, тым больш расшыфраваць загадкавы і чароўна-містычны, адначасова ж і просты, сэнс напісанага для нас. Знаходзіліся і такія, што хацелі пакласці пісанае на ноты навукі і настрадамаўскіх катрэнаў, але ім не ўдалося даказаць сваю трактоўку. І таму час высмеяў іх, ды яшчэ пакараў за блюзнерства, за Богазневажанне.

Мяне ж чамусьці заўсёды прыцягвалі радкі Адкрыцця Апостала Яна Багаслова, які казаў-папярэджваў: "*І я таксама сведчу кожнаму, хто чуе словы прароцтва кнігі гэтай: калі хто дадасць што да іх, то на таго накладзе Бог пошасці, пра якія напісана ў гэтай кнізе*". Святы Ян яшчэ папярэджваў, што вялікі грэх старацца смяротнаму чалавеку ўкладваць нейкі свой сэнс, сваё бачанне нечага іншага між радкамі пасланняў Бога і яго памочнікаў – сведкаў жыцця Ісуса і таго, што Ён рабіў...

Або сведчанне ў першым пасланні апостала Паўла да карынфянаў (15:51): "*Я кажу вам тайну, не ўсе мы памром, але ўсе пераменімся".* Вялікая тайна... І яна нам не раскрываецца. Мы яе павінны разумець не розумам, а душою. І тады перад намі адкрыецца самая простая і звычайная з’ява. Нездарма ж сказана, што ўсё геніяльнае – у простым. І таму нічога і ніщто мы не павінны падвяргаць сумненню.

Здзівіла мяне Пісанне прарока Данііла. Не ведаю, чаму, але мне здалося, што Данііл ведаў усе тайны жыцця, прадказваў духоўныя катаклізмы чалавецтва і падзенні дынастый і цароў...

Ён як бы казаў: няма безвыходных ці тупіковых сітуацый, і чалавек не можа загінуць, калі ў яго душы жыве толькі адзін Бог, а не прыдуманыя багі – язычніцкія.Пра тое і гаворыцца ў апошняй частцы – з 23-га па 27-ы верш. Кожнае слова адгуквалася ў маім сэрцы, я нібыта падвяргаўся выпрабаванням, якія выпалі на яго долю…

"…Быў на тым месцы вялікі дракон, і вавіланяне пакланяліся яму. І сказаў цар Даніілу з пасміханнем, паказваючы на монстра:

– Калі ты, Данііл, прарок, і з Госпадам вядзеш размовы, і ведаеш усё загадзя, няўжо скажаш і аб гэтым, што ён – медзь?..

Прарок маўчаў.

– Вось ён перад табой – і есць, і п’е. Ты не можаш сказаць, што гэта бог нежывы.

Даніїл апусціў галаву, абаперся на кій – посах.

– Таму я загадваю табе – пакланіся яму.

У адказ пачуўся глыбокі ўздых. Мудрэц падняў галаву да неба, прашаптаў сам сабе:

“Бог мой адзіны! Цар Асціяг прыклаўся да бацькоў сваіх, і Кір, Персіянін, прыняў царства яго. Даруй Персіяніну неразумнасць яго, ён паверыць Табе, яшчэ палюбіць Цябе...”

Прарок паглядзеў са шкадаваннем на Персіяніна, праказаў:

– Ладна, уявім сабе, што я пакланюся яму... Але пасля гэтага мы з табой абодва ўпадзем мёртвымі. Ты ж ведаеш, што я ніколі не гавару няпраўды.

Цар збялеў тварам, не ведаў, што сказаць. Яго ахапіла дрыготка, быццам стала холадна.

– Цар! Аднаму Госпаду Богу майму я пакланяюся, таму што Ён – Бог жывы. Толькі Яму я служу, толькі Яму падпарадкоўваюся...

Персіянін ледзь заўважна, на знак згоды, кіўнуў галавой.

Даніїл не сыходзіў са свайго месца. Паглядзеў зноў на дракона, які не звяртаў на яго ніякай увагі, адвярнуўся нават. З ноздраў пачвары выходзіў агонь, шыпела ўнутры яго сера і порах...

– Але ты, цар, дай мне дазвол, і я знішчу дракона без меча і жэзла.

Цар нахмурыўся, але сказаў без крыўды:

– Даю табе.

Толькі пасля гэтага прарок сышоў са свайго месца.

Даніїл узяў міску смалы, гліняны кубак тлушчу і клубок валасоў, аднёс пад паветку. Потым адшукаў медны кацёл, паставіў на трыногу. Высыпаў усё змесціва ў кацёл. Доўга і моўчкі памешваў драўлянай палкай. Калі ж утварылася аднародная маса, запаліў пад трыногай касцёр.

Счакаўшы нейкі час, заліў агонь вадой. Зноў чакаў, калі астыне варыва, пачне цвярдзець. А пасля ўжо, калі да яго можна было дакрануцца рукамі, зрабіў камяк – трохі меншы за гарбуз.

Увесь гэты час за яго дзеяннямі маўкліва назіраў Персіянін. Верыў і не верыў Прароку, але цікаўнасць, паміма яго волі, брала верх.

Даніїл падышоў на адлегласці кідка да дракона, спытаў:

– Дык ты сцвярджаеш, што ты бог, так?

– Та-аак! – зарычэў дракон, раскрыўшы пашчу, з якой паляцелі на Прарока вогненныя змеі.

І ў той жа самы час Данііл размахнуўся з усяе сілы і кінуў камяк у адкрытую пашчу.

Дракон закашляўся, чыхнуў, закруціў галавой і... рассыпаўся на вачах цара і Данііла, растварыўся ў паветры, – як і не было яго…

Цар ад страху закрыў твар рукамі, упаў, як падкошаны, на зямлю.

І сказаў Данііл, падышоўшы да Персіяніна:

– Вось, цар, якія вашыя святыні!

А ўжо далей, пачынаючы з 28-га верша...

Калі ж вавіланяне дачуліся пра тое, вельмі ж абурыліся і паўсталі супраць цара, і прамовілі:

– Цар зрабіўся Іўдзеем. Віла разбурыў і забіў дракона, і тым самым аддаў смерці жрацоў. Аддай нам Данііла, іначай мы заб’ем цябе і дом твой...

І аддаў цар Данііла ў рукі вавіланянам.

“*Яны ж кінулі яго ў роў ільвіны, і ён там прабыў шэсць дзён. У яме было сем ільвоў, і давалася ім па два целы і па дзве авечкі; а ў той час не давалі іх, каб яны, галодныя, з’елі Данііла...”*

А жыў тады ў Іўдзеі другі прарок – Авакум. Зварыў ён зацірку і ішоў на поле, каб аднесці жнеям. З’явіўся Анёл Гасподні і сказаў Авакуму, каб аднёс той абед у Вавілон да Данііла, у роў ільвіны. І сілай Духа Святога перанёс прарока на прызначанае месца.

Абрадваўся Данііл, што Бог успомніў пра яго, і падняўся ён, і еў…

Цар быў упэўнены, што ільвы з’елі прарока. Перажываў вельмі, шкадаваў, што аддаў яго на з’ядзенне ільвам. На сёмы дзень прыйшоў Персіянін, каб паспачуваць аб Даніілу. І, падышоўшы да глыбокай ямы, зірнуў туды. І радаснае здзіўленне ахапіла яго – Данііл сядзеў і нешта ціха напяваў, схіліўшы галаву.

Радасна і гучна ўскрыкнуў цар:

– Данііл! Ты жывы?!?

Нічога не адказаў Прарок. Нават і не зірнуў у бок цара.

Тады ўпаў на калені Персіянін, разумеючы, пераканаўшыся, хто перад ім, якую віну ўзяў на сваю душу. І прамовіў цар гучна і пранікнёна:

– Вялікі Ты, Гасподзь Бог Даніілаў, і няма іншага акрамя Цябе! Я канчаткова паверыў у Цябе! Даруй мне мой грэх!

*“І загадаў падняць Данііла з ямы, а вінаватых у яго пагубленні ўкінуць у той роў – і яны ў той жа момант былі з’едзеныя ў прысутнасці яго...”*

Данііл, цар, яма, прарок Авакум... Што азначаў кожны з іх? Што хацеў сказаць нам, нашчадкам, Данііл, аб чым папярэдзіць? Што таму, хто шчыра верыць у слова Божае, нічога не пагражае? І што нельга пакланяцца прыдуманым ідалам, а толькі Богу аднаму?

Як дакапацца да сутнасці, як прачытаць між радкоў тое, што не адкрывалася простаму смяротнаму?

Ісціна – у Богу. Яна ў Святое Пісанне ўкладзена не намі, а апосталамі і прарокамі. І з таго тэкста, нават калі ён, на наш нявопытны і неадукаваны погляд, затуманены і незразумелы, – ні ў якой меры не павінна нічога падвяргацца сумненню.

І трактаваць Ісціну нельга інакш, як тое і пададзена ў Кнізе Кнігаў. Не сумнявацца, а проста верыць, што так яно было і сапраўды. Таму што вера ў Вышняга – ёсць вера ў нябачнае, што ёсць духоўнае і магутнае.

Пра тое мы гаварылі з маім Голасам пасля таго, як ён даведаўся, што мне ў жыцці выпала незвычайная і цяжкая, поўная прыгод і нечаканак, дарога.

Я ж пра тую дарогу яшчэ анічагуські не ведаў, не здагадваўся нават. Пра яе, можа, і ведаў, але нічога не гаварыў мой Голас...

……………………

Прахопліваюся ад таго, што мяне нехта трымаў за руку.

– Ты зноў, Антон, глупствам займаешся, – дакорліва шэпча мне знаёмы голас.

Вакол цемра. Ці гэта я не магу расплюшчыць вочы?

– Якім глупствам?

– Зноў некуды ўцякаеш. Колькі ж можна цябе вяртаць? Баюся, што гэта можа ўвайсці ў прывычку. А я кожны раз не магу быць побач з табою.

“Адкуль вяртаць? Якая прывычка?”

Да мяне ніяк не даходзіў сэнс яе слоў. Выплывала наміткай, як з небыцця іншага свету ці жыцця, адкуль я прыйшоў, і куды імкнуўся вярнуцца зноўку.

– Ты сёння зноў дзяжурыш?

– Дзяжуру.

– Дачка ці жонка прыходзілі да мяне?

– Прыходзілі. Але іх супакоілі, сказалі, што табе ўжо нашмат лепш. Прасілі цябе не турбаваць. Яшчэ дадалі, што ў цябе глыбокі сон і што гэта спрыяльна табе...

– Паверылі?

– Не ведаю...

– Як я трапіў сюды?

– Цябе прывезла хуткая дапамога.

– І што са мной здарылася, што адразу сюды прывезлі?

– Ты сядзеў на лаўцы ў скверы і заснуў. Колькі ні будзілі, колькі не трэслі за плечы, ты ні на што не рэагаваў. Нехта крычаў: “Алкаголік, сярод белага дня набраўся, праходу ад такіх няма...” Чаго не лёг у бальніцу, як і намеціў цябе пакласці Сяргей Пiлiпавiч?

– Я і ішоў якраз да яго, ды захацелася трохі пасядзець на адзіноце.

– Вось і пасядзеў...

...Так і не мог зразумець – ці то глыбокая ноч ахутала наваколле, бо не гарэла нідзе святло, ці склеены мае вейкі, што ніяк не магу зірнуць на Яніну? Адзін толькі дотык яе адчуваў і не прымаў рукі.

– Я пайду, – сказала ціха медсястра. – Пара мне...

– Куды?

– Як куды? Працаваць... Хіба толькі ты адзін у мяне?

– Яшчэ прыдзеш?

У адказ – маўчанне. Калі ж яна прыняла руку, я адразу абвяў. Зрабілася не тое што блага, а дужа кепска. Нават страх падступіўся – ці выжыву хоць?! Мне бачылася, што я апынуўся ў высокіх снежных гарах, што іду па схіле. Баяўся толькі, што магу паслізнуцца і шуснуць уніз – у бяздонную прорву, дзе небыццё, дзе цемра і холад...

Адкінуўся галавой на падушку, павярнуўся да акна. Глядзеў туды, дзе павінны свяціцца прамавугольнікі шыбаў, за якімі, у двары, павінен гарэць ліхтар. Акна не ўбачыў.

Перагарэла лямпачка ці адключылі святло? Ці... ці не бачу яго... І ўжо лячу некуды, як часта снілася мне...

Усё перакруцілася, усё перавярнулася, перакулілася...

Толькі тое ўсё – у адной маёй галаве, ці сусвет сам па сабе перайначыўся і стаў непазнавальны?

9

У вочы нечакана ўдарыла зыркае святло.

"Так блізка падляцеў да сонца? То яно так слепіць мяне?.."

– ...кардыяграму! Тэрмінова!..

Голас мужчынскі, знаёмы. Так, то побач са мной доктар Міклашэвіч. Яго ж самога не бачу, як ні стараюся ўгледзецца. Балюча стала правай руцэ, потым левай... Шпыралі ў вену ўколы? Навошта? Я ж не прасіў іх... Потым адчуў штуршкі ў скронях: адзін, другі, трэці... І тады з маіх грудзей вырваўся ўздых аблягчэння. І – расплюшчыліся вочы. Я ўжо выразна бачыў свайго доктара – схіліўся нада мною, углядаўся ў мяне

– Ну, як, Антон? – усміхаецца кардыёлаг. У яго чамусьці мокры лоб, у вачах ледзь прыхаваная трывога.

– А дзе Яніна, Ян Пятровіч?

– Хто такая?

– Медсястра вашая... Яна толькі што стаяла каля мяне.

– Няма, Антон, у нас такой медсястры. Яніна? Не, няма, і не было... Мо прыснілася табе ці прытрызнілася.

– Мусіць так, – стомлена згаджаюся з кардыёлагам, і мне хочацца зноў прымружыць вочы, каб пабыць у цішыні...

– Антон, ці можна зрабіць так, каб вы колькі хвілінаў не зажмурвалі вочы? – просіць Міклашэвіч, і я адчуў, як на мяне ледзь чутна патыхнула мятай – такім у яго было дыханне. – Колькі зможаце...

Не ведаю, што было напісана на маім твары, але я зноў пастараўся паказацца ўсмешлівым і вясёлым:

– Магу і змагу... Я нават вам і песню магу праспяваць пра ваяроў і касіянераў...

– Не, гэтага не трэба. Праспяваеце мне тады, калі мы сядзем разам з вамі за вясёлы стол, ды з нагоды нейкай добрай і радаснай падзеі... Напрыклад – вы адкрыеце новую планету ці невядомую цывілізацыю ці праславіцеся нейкім нечаканым вынаходніцтвам... А цяпер вы проста маўчыце, хаця можаце і гаварыць, што хочаце, але абавязкова глядзіце мне ў вочы...

– Мяне хлебам не карміце, а дайце пагаварыць. Язык – бы памяло, нясе і нясе розную лухту, якую непрыемна слухаць людзям... Мне тады цяжка спыніцца, тады мяне спыняюць іншыя...

– Ну і добра, вось так добра... Што ў нас там, Вераніка? – звяртаецца доктар ужо да сваёй памочніцы.

– Здаецца, стабілізавалася... Пульс роўны, насычаны.

– А інакш і не магло быць, – ужо, здаецца, з ноткамі весялосці гаворыць кардыёлаг. – На іншае мы і не маем права... А якія вы песні, дарэчы, спяваеце, Антон? – удакладніў Ян Пятровіч.

– Ды розныя. Найбольш фальклорныя. Пра Яся і Яніну, пра вашую памочніцу – багдановіцкую Вераніку. А так – нашых бардаў Адраджэння – Андруся Мельнікава, Бартосіка, Данчыка, Акуліна і – найбольш пра каханне...

– Пра каханне?

– Усе спяваюць пра каханне – і я таксама.

У мяне пачаў дзервянець язык, некуды ўбок пасунуўся Міклашэвіч, як праз тоўшчу туману чуўся яго голас – ужо без трывогі, спакойны і ўпэўнены, голас:

– Ну і добра. Ну і цудоўна... Мы яшчэ заспяваем з вамі, прыйдзе тая неўзабаве пара...

Сіліўся яшчэ сказаць нешта, дадаць да яго слоў, але ў мяне нават не пашавяліліся губы – адзервянелі. Але адначасова стала ўтульна, добра і мройна. Тады ж, у той самы момант, побач стала Яніна. Зноў дакранулася цёплай рукой да майго ілба.

– Ты дзе была, Яніна?

– Ды адлучалася... тут недалёчка.

– Ты хто, Яніна?

– Я ж казала – працую тут.

– А доктар казаў, што не ведае цябе...

– Затое я яго ведаю. Часта за яго работу раблю. Знаходзілася побач з ім, але ён мяне не бачыць. І ты не бачыў. Але адчуваў, што я побач, раз спытаўся ў яго...

– Адчуваў, праўда.

– Але ж я не ўсім памагаю.

– А каму ж, калі не сакрэт? Выбраным ці абраным?

– Не зусім так... Тым, каго праведвае ці апаноўвае дух святога пачуцця – дух кахання.

– ???

– Так, так... Ты ж быў на планеце Ахутавана, ты ж гарэў у тым агні, палаў, як нябеснае свяціла, наталяючы тым жа пачуццём і сэрца сваёй каханай... Мо тое было і не пры гэтым жыцці, а шмат стагоддзяў таму назад... Ты тое павінен сам памятаць. Я ратую закаханых альбо тых, каго кахалі ці будуць яшчэ кахаць...

– Дык хто ж ты тады, Яніна?

– Я – пасланніца твайго Голасу. Энергія Кахання. І па сумяшчальніцтве – дух тваёй моцы, тваёй сілы, твайго здароўя і натхнення.

– Чаму ж я раней не чуў пра цябе і не ведаў цябе?

– Значыць, не прыйшла на тое пара. Не прабіў, як кажуць, яшчэ час. Не адлітыя яшчэ для таго званы...

Здушыў у сабе дыханне.

Пачутае не ашаламіла, мо і не здзівіла, але нечым насцярожыла.

– А цяпер?

– Ты паклікаў мяне – і я прыйшла.

– Як жа я мог паклікаць цябе, калі не ведаў пра тваё існаванне?

Яніна заўсміхалася:

– Ведаў. Ты проста забыўся, бо быў шчаслівы... А ў цяжкія хвіліны ўсе ўспамінаюць нават тое, што адбывалася з імі і тысячы гадоў назад...

– А дзе ж тады мой Голас, з якім гаварыў перад тым, як прыйшла ты?

– Адпачывае. Бо стаміўся ён ад цябе. Усе мы некалі стамляемся. Як і зняможылася ад цябе твая жонка, знясілела ад тваёй неабгрунтаванай рэўнасці.

Яе балючы папрок прапусціў міма вушэй, спытаў пра іншае, што хвалявала найперш:

– Я магу паклікаць яго зноў, каб параіцца, папытацца, ці правільна раблю, ці правільна гавару і думаю...

Зноў усмешка, але не здзеклівая, а паблажлівая. Яніна як бы гаварыла: “Ну што возьмеш з неразумнага немаўляці...”

Яна паклала сваю даланю на маю левую грудзіну, дзе білася сэрца, і пачала ўслухоўвацца, як яно працуе.

– Уяві, якім было б тваё жыццё, каб ты правяраў і вывяраў бы свой кожны крок... Калі б ты чакаў парады ці папярэджання аб тым, што паслізнешся, то ты і саломкі падсцяліў бы, ці не так?.. Ты ж сам увесь час не шукаў лёгкага жыцця, а чаму цяпер хочаш ухапіцца за тую выратавальную саломінку?

– Даруй мне, Янінка! Я не пра тое, мусіць, папытаўся. Проста мне стала вусцішна ад адзіноты. І ад таго яшчэ, што нечаканараптоўна перапынілася з ім гаворка. А хацелася задаць яму ўсяго толькі адно-адзінае пытаннечка... Ці не пакінуў ён мяне назусім? Ці ўбачымся калі, ці адгукнецца, як яго паклічу?

– Свой Голас, Антон, сваё другое “я” ніхто ніколі не кліча. Ён сам прыходзіць. Бо ведае, калі трэба прыходзіць. І – ніколі не спазняецца. Як і не абганяе час. О, мне зноў пара пакінуць цябе... – спахапілася раптоўна Яніна. – Дзявочае сэрца заходзіцца ад болю. Вось-вось разарвецца... Ад няўдалага кахання на ім раны... Просіць вярнуць яе на планету Ахутавану.

Здаецца, пачуў, як зашамацеў яе накрухмалены беласнежны халацік – як быццам вецер успароў апалае асенняе лісце пасля першых прымаразкаў, і той слабы павеў кранууся маёй шчакі.

Мо то і пах духоў даляцеў да мяне, ды нейкіх асаблівых, невядомых… І я паплыў над зямлёю, укрыўшыся прасцірадлам з зорак і Валацужнага Шляху...

І хораша плыць мне над паселішчамі, марамі, над гарамі і лясамі, над тысячагоддзямі...

Ужо нічога не чуў і не адчуваў. Ці то стаў глухі і абыякавы, ці сапраўды наўкола ўтварылася тая цішыня, якая жыве толькі ў небе.

А мо то і не цішыня пачувалася там, узрушэнне, а мой слых знаходзіўся не на той хвалі, што найперш і радавала мяне. Бо вельмі засумаваў па цішыні...

Мройна... Улежна... Спакойна...

Я – павуцінка ў Сусвеце і не ведаю, куды прыб’юся, да якога берага мяне вынясе мой карабель Часу...

Здаецца, я засынаў...

10

Прачнууся ў добрым настрое.

У целе – бадзёрасць, жаданне ўзяцца за пэндзаль і намаляваць тое, што бачыў у цудадзейным сне. Нешта па матывах Далі і Брэйгеля, Веласкеса і Гоі... Як жывыя, перад маімі вачыма бегалі, мітусіліся фантастычныя паўчалавечыя-паўзвярыныя вобразы. Яны то знікалі, то зноў з’яўляліся, выныраючы нечакана з курадымнага туману, рагаталі, узмахвалі рукамі ці крыламі…

Пра нешта бязгучна гаварылі між сабой, не звяртаючы на мяне ўвагі, але стараліся не знікаць з поля майго зроку, – тым самым падштурхоўваючы мяне да дзеяння... Быццам хацелі сказаць: малюй, інакш не адчэпімся. Ведаў, што гэта покліч да дзеяння…

…………………………………….

Жонка зрабіла некалькі бутэрбродаў паставіла на стол кубак гарбаты. Глядзела на мяне дапытліва, маўчала, толькі нядоўга, папыталася:

– Цябе нешта непакоіць? Нейкі задумлівы, разгублены, адказваеш неўпапад...

– Ды не, звычайны неспакой, які надараецца перад пачаткам працы...

– І больш нічога? – зноў дапытваецца, пільна гледзячы мне ў вочы. – Ці ў цябе чарговы прыступ рэўнасці, прызнайся?

– Ніякіх прыступаў няма, праўда.

Маўчанне. Глытаю гарачую гарбату, жую бутэрброды.

– Доўга сёння будзеш у майстэрні?

– Не ведаю. Мо і затрымаюся. Лынды біў апошнія дні... Даганяць трэба згубленае. Ды і грошы трэба. Сорамна перад табою. Ты знясільваешся на працы, прасвятляючы розум юных дурняў, а я таплю ў віне свае няўдачы... Пацярпі трошкі, у мяне такое адчуванне, што я... ну, ладна, не буду пра яйка, якое яшчэ чубатка не знесла. А грошы трэба – без іх ні туды, і ні сюды...

Жонка адсунула ад сябе кубак:

– Дарэчы, пра грошы... Тут адзін дзівак званіў, і потым заходзіў да нас, пытаўся, ці не змог бы ты намаляваць яго партрэт. Абяцае харошы ганарар, але дамаўляцца пра кошт працы будзе толькі з табою...

– Дзе я быў у гэты час?

– Дзе, дзе... Сам ведаеш, дзе...

– А, ну так, – я, мусіць, пачырванеў, схіліў галаву і дакрануўся губамі да брыжыка кубка, што падаравала малодшая дачка Таццяна з нагоды Дня маіх народзінаў, каўцянуў гаркава-салодкі напой. – Вось скончу гэтае, што задумаў, а на гэта трэба тыдняў два-тры, тады ўжо можна і пра партрэт падумаць...

Кабета мая не пярэчыла, але ж і не выказала шчырую згоду ці падтрымку маім задумкам. Бо ведала: дарэмна, ніколі не адмаўляўся ад задуманага, хаця і не любіў гаварыць пра іх загадзя, каб не сурочыць…

– Ну, вырашай свае праблемы, а я пабегла, – паднялася Ліка з табурэціка.

Праз хвіліну шчоўкнуў на дзвярах замок, і я застаўся адзін. Жонка спяшалася да свайго дзявятага “Б” класа, – выкладала гісторыю Беларусі.

Зазваніў тэлефон. Старэйшая дачка, Ірына, студэнтка сталічнага ўніверсітэта цікавілася, ці знайшоў я для яе ў бібліятэцы ў падшыўках газет песні бардаў апошніх дзесяці гадоў – пісала нейкую навуковую працу. Самой не хапала часу на пошукі, даручыла тое мне. Думала, пэўна, што ў мяне таго часу – бяры не хачу.

– Не, дачка, пакуль не дабраўся да бібліятэкі. А калі табе трэба гэта – калі апошні дзень?

– Праз дзён пяць.

– Заўтра ж выканаю тваю просьбу. Як вучоба?

– Ды нічога, хвастоў няма...

– Ну то і добра.

– Тады – будзьма!

– З Богам!..

Майстэрня мая недалёка ад дому. Калі ехаць тралейбусам, то чатыры прыпынкі. А калі іду напрасткі, то адольваю дарогу за паўгадзіны. Ды яшчэ хвілін пяць праходжу сасновы ці то парк, ці барок. І ў ім заўсёды люблю затрымацца, пастаяць якую хвіліну, паслухаць, як картавыя вароны наладжваюць свой баль...

А бывае і ціха. Гэта калі яны злятаюцца на зборышча ў іншае месца – недзе за горад, за Навабеліцу, туды, дзе высокія сосны. Тады прыемна стаяць у цішы, слухаць, як коціцца пошум па вяршынях дрэў. У сэрца ўсяляецца радасць, і чамусьці верыцца, што за дзень удасца нешта зрабіць... І думаецца ўжо светла, і мроіцца мажорна: “Ну, сёння ўжо абавязкова схаплю за хвост жар-птушку, нікуды яна ад мяне не падзенецца...”

Але на гэты раз у сасновым астраўку, пасярод вялікага горада, не затрымліваюся. Нават не заўважаю яго. І не чую сварку варон. А мо іх і не было, не прыкмеціў – спяшаўся да мальберта. Не ведаў, куды падзець рукі: яны смылелі і свярбелі, як быццам дакрануўся да крапівы ці бадзягі... І ад дома да майстэрні не прайшоў, як на крылах праляцеў.

Уставіў у шчылінку жоўты медны ключык, павярнуў яго два разы. Патыхнула з пакоя алейнымі фарбамі, растваральнікам і ацэтонам, у якім мыў колькі дзён назад пэндзлі, аліфай – і яшчэ нечым, чым і павінна пахнуць мастакоўская майстэрня...

Батарэі ацяплення, як заўсёды, ледзьве цёплыя. Але то яшчэ не бяда – холад ці прахалода падбадзёраць мяне, не дадуць расслабіцца.

Пэндзлі вымытыя – тырчэлі ў розныя бакі ў гліняным глечыку, які мне падараваў кераміст Пушкар. Нябожчык ужо, на вялікі жаль. Акрамя глечыка ён падараваў мне яшчэ і маладую пару закаханых – Яся і Яніну. Дзве гліняныя фігуры. Ён – з касой за плячыма, у капелюшы, які ледзьве ліпіць на макаўцы, яна – з кветкай-рамонкам у руцэ.

Ясь задаволены, самаўпэўнены. Яніна ж паглядае на яго з трывожным чаканнем, са спадзяваннем, затоена і закахана... Яны ў мяне стаяць пастаянна і даўно – побач са мной, на ўзвышку, на шафе, упоравень з маімі вачыма, – і я іх бачу штодня, калі стаю каля мальберта...

Мікола Пушкар – адмысловы кераміст. З гліны вырабляў такія рэчы, што дух захоплівала. Усё, што выходзіла з яго рук, жыло і дыхала. Во як і яго гліняны хлопец з дзяўчынаю... Бог, як вядома, з гліны стварыў Адама...

Падалося, што яны павіталіся са мной, пакланіліся мне, – як падахвочвалі да працы. Адказаў на іх вітанне кіўком галавы, пільна пры гэтым паглядзеў на абаіх – ці не пасварыліся за час маёй адсутнасці, ці не пакрыўдзіў чым хлопец дзяўчыну. Не, здаецца, яны па-ранейшаму вясёлыя, дасціпныя... То яны пад маім позіркам стаіліся, а калі мяне няма, што яны тут вытвараюць, – аднаму Богу і вядома...

Зразумела, што кватарант мой – Мышук – спаў, забіўшыся ў валёнак. Не ведаеце, хто такі Мышук? О гэта страшны звер, на вочы яму не пападайся! Але пра яго раскажу пазней, як пара прыйдзе...

– Пачнем? – папытаўся, як выпрошваў усё роўна ў іх дазвол, весела міргануў – па-змоўніцку, як сваім сябрам, жыхарам нашага жытла.

Атрымаўшы ад іх маўклівую згоду, узяў з горшчычка пэндзлі. Дастаў з шафы фарбы, паклаў побач, на столік.

Чорным алоўкам хуценька зрабіў накід будучага сюжэта “Дарога да храма”. Удалечы, за купчастымі кронамі ліпаў, узвышалася царква – Сафійскі полацкі сабор. Ад жытнёвага поля, на пярэднім плане, адкуль адкрываецца панарама, угару цягнецца чырвоная палоска вузкага поля – у пышнай квецені макі. Абапал гэтай паласы – такой самай шырыні – цвітуць рамонкі. Яны – белыя-белыя, толькі жоўтыя кропачкі песцікаў... Дарога да сабора – бел-чырвона-белае поле. Штандар Вялікага Княства Літоўскага, тканіну якога нехта рассцяліў на святой зямлі...

Мне патрэбныя цынкавыя бялілы і чорная сажа: гэта фон трывожнага неба. Па ім будуць плысці шэрыя воблакі, з якіх ніяк не можа вынырнуць паўдзённае сонца. Задума непакоіла мяне ўжо з год...

Выціснуў фарбу на палітру, узяў пэндзаль. У той жа самы момант у дзверы майстэрні нехта асцярожна пастукаў. Потым зноў, ужо больш настойліва, – як быццам той, нехта, хто стаяў за дзвярыма, дакладна ведаў, што я знаходжуся ў майстэрні.

Прыглушыўшы ў сабе незадаволенасць, рушыў да дзвярэй. А яны былі чамусьці прачыненыя (здаецца ж накладваў засаўку!).

Чалавек у светлым плашчы і шэрым капелюшы стаяў на пляцоўцы.

– Добры дзень! Выбачайце, вы – Антон Клімовіч?

Я расчыніў дзверы насцеж:

– Так. Слухаю вас...

Чалавек прыхільна ўсміхаўся.

– Ці не запросіце да сябе?

– Выбачайце... – спахапіўся, адступаючы крок назад, даючы дарогу госцю. – Заходзьце, калі ласка!

Незнаёмец пераступіў парог, і я зачыніў за ім дзверы. Прапанаваў распрануцца і павесіць плашч на вешалку, прыбітую да сцяны. Плашч ён павесіў на кручок, а капялюш чамусьці з галавы не здымаў. У паставе, у паходцы і ў позірку, калі ён разглядваў маё жытло, было пачуццё годнасці і самаўпэўненасці.

– Я заходзіў да вас пазаўчора дадому, – ён склаў рукі на грудзях, ужо асвойтаўшыся, злёгку пагойдваўся на дыбачках, глядзеў мне прама ў вочы – аж зрабілася ніякавата. – Але ваша жонка сказала, што вы ляжалі з тэмпературай і папрасіла не турбаваць... Дала адрас, дзе можна вас будзе адшукаць. І вось я ў вас...

Мне хацелася папытацца, як яго імя, як звяртацца да яго, але ён, як усё роўна ўгадаў мае думкі, сказаў:

– Даруйце, не з таго пачаў... Я – Анатас Алкепаў. Бізнесмен. Прадпрымальнік. Сумесную фірму трымаем з амерыканцамі і французамі. З балотнай мазырскай і тураўскай вольхі робім мэблю. Яна пасля спецыяльнай апрацоўкі атрымоўваецца як з чырвонага дрэва. А сакрэт той апрацоўкі ведаю адзін я. Нашая мэбля, так бы мовіць, ідзе на расхват. Таму маю вялікія прыбыткі. А сёння, падчас цяжкай эканамічнай сітуацыі, гэта не малаважна. Але не толькі мы робім мэблю, шмат чаго і іншага...

– Слухаю вас, Анатас. Кавы, гарбаты?

– Кавы. І я прыхапіў да кавы французскага каньячку, калі вы не супраць. І тры грушы, каб пасаладзіць душу. Вы любіце грушы?

– Люблю, асабліва "Бэру". Вы – латыш?

– Так, я балт, вы правільна вызначылі...

"Саб'е мне ўсю працу, – варухнулася недзе ўсярэдзіне незадаволенасць – ніколі не любіў няпрошаных гасцей. Прынесла ж яго нялёгкая ў такі час... Але ж – нейкі заказ... а заказ, значыць, грошы..."

Па пакоі паплыў водар бразільскай кавы – высыпаў апошнюю лыжку.

Тым часам госць разліў па шкаліках невядомы мне, і, мусіць, дарагі французскі каньяк. Каўцянулі па кроплі, прыкусілі скрылікам лімона.

– Па-першае, выбачайце, што без папярэдняй узгодненасці. Сам не люблю, калі ўрываецца хто нечакана, – павінаваціўся госць, – але я пастараюся вельмі коратка данесці да вас прадмет размовы, каб не сарваць вам творчы дзень...

– Нічога, нічога...

– У мяне да вас вялікая просьба. Я хачу, каб вы намалявалі мой партрэт. Але намалявалі яго ў такой манеры, у якой ніхто ніколі не маляваў. Каб у ім было нешта магічнае, з адценнем алегорыі, фантасмагорыі. Нешта сярэдняе паміж іконай і партрэтам. Гэта не ўмова. Гэта проста падказка да вашай фантазіі. Поўная свабода. Вольны палёт... Упэўнены, што ў вас атрымаецца тое, што я хачу. Толькі ў вас аднаго гэта і атрымаецца... Я быў на вашай выставе, таму ведаю, што кажу. Я наведаў амаль усе сусветныя пленэры і выставы. Так што мне ёсць з чым і з кім параўнаць. Да вас прыйшоў, так бы мовіць, падрыхтаваны.

Я хмыкнуў. Мусіць, ад таго, што не зусім зразумеў, што ад мяне хочуць.

– А цяпер пра галоўнае, спадар Антон. У колькі вы ацэньваеце сваю працу? Давайце адразу дамовімся, толькі без залішняй сціпласці. Я чалавек не бедны, далёка не бедны... Пагэтаму дыктуйце мне па самай высокай шкале.

Мне прыйшлося няўцямна паціснуць плячыма:

– Ніколі не рабіў пад заказ... Хіба што раней – камуністычную наглядную агітацыю... Брэжнева, Суслава, Усцінава, Леніна...

Госць кісла ўсміхнуўся:

– То не заказ. То – прымус. Хаця да якасці тых прац я прэтэнзій не маю. Яны – бездакорныя. Я ж раблю заказ без загаду. Толькі выказваю, што мне хацелася б. Але – найперш вам. Дык, усё-ткі, колькі? У валюце. У тых зялёных, так сказаць, "драўляных", амерыканскіх...

Госць глядзеў на мяне, дзівячыся, напэўна, маёй разгубленасці і ніякаватасці.

– Не ведаю, – шчыра прызнаўся я, стараючыся не сустракацца з яго позіркам. – Я ніколі не ацэньваў свае работы... Тым больш у валюце.

Заказчык дазволіў сабе засмяяцца. Наліў яшчэ па кроплі. Зноў прыкусілі скрылікамі лімона. А каньяк быў ніштаваты – галава не туманілася, святлела.

– Тады я, як кажуць, бяру ініцыятыву ў свае рукі, прызначу сам кошт вашай працы. Рэальны, так бы мовіць. За талент, які яшчэ не раскрыты. І мая цана будзе няпоўнай, мізэрнай, маючы на ўвазе сапраўдную каштоўнасць у будучым.

– Я яшчэ не пачаў, а вы мне такія авансы... – паглядзеў з недаверам на яго – блюзнерыць?

– Ну, то ўжо мой клопат, – не падтрымаў мяне Анатас. – Я мог пра гэтага і зусім прамаўчаць. Вяртаемся да галоўнай нашай тэмы. Вашую будучую працу я ацэньваю ў...

Міжволі навастрыў вуха, застыў у трывожным чаканні. Было чамусьці крыху смешна, а ў той жа час… Мой заказчык вытрымаў паўзу, а пасля глуха, гледзячы некуды ўбок, прамовіў:

– ... ну, дапусцім, спынімся на пяцідзесяці тысячах.

Ніводная жылка не ўздрыгнула на маім твары. Абыякава аднёсся да слоў госця. Хаця самы час быў ці пакрыўдзіцца, ці ўскочыць з крэсла і крыкнуць, што такой цаны не існуе, што яна нерэальная – дужа высокая...

Але госць, пэўна, так не лічыў. Глянуў на гадзіннік, за акно, за якім было пахмурна ўжо і ветрана, абвясціў:

– Так, пяцьдзесят тысячаў. Дзесяць тысячаў – цяпер, як аванс.

Дастаў з кейса пачак стодаляравых купюр, паклаў на паліраваны столік – побач з пляшкай каньяку.

– І яшчэ ёсць пытанне. Вы любіце працаваць толькі ў сваёй майстэрні, ці зможаце і ў мяне на рачным караблі? У мяне карабель – як храм. Я ствару вам усе ўмовы – камфорт, утульнасць, цішыню... Мог бы і сюды прыходзіць, але бяда ў тым, што павінен

неадлучна знаходзіцца на камандным мосціку – там у мяне пульт кіравання, з дапамогай якога звязваюся з ўсім светам...

– Ды мне, па-сутнасці, усё роўна...

– Гэта вельмі добра. Заказ мой не тэрміновы. Да яго вы можаце прыступіць тады, калі будзеце гатовы. А за гэты час з'ездзіце ў Еўропу, у Парыж, купіце на Ман-Мартры самыя лепшыя фарбы... Хаця і на маім караблі ўсяго гэтага будзе ўдосталь... Але – як пажадаеце самі. Дык як, згода, спадар Антон Клімовіч? Ці нешта я не так вам растлумачыў?

– Усё так. Я даю згоду. Але ж...

– Не хвалюйцеся ні пра што, – апярэдзіў мае сумненні наведнік, – хай вас нічога абсалютна не непакоіць. Я разлічваю, што вы за сеансаў пяць зробіце ўсю працу. За кожны раз я вам буду выкладваць такую ж суму. Не паспееце за пяць, буду пазіраваць больш. І плаціць буду столькі ж. А не, дык можаце і тыдзень працаваць, і месяц, а спадабаецца – дык і год, і два...

Анатас выпрабавальна глядзеў на мяне, усміхаўся.

– Год-два? Смешна... Але дзіўна ўсё неяк... І – незразумела.

Госць падняў кілішак. Падняў і я свой. Дзынкнулі, як змацавалі тым самым нашую дамову.

– Рады, Антон, што вы пагадзіліся. Адно толькі апошняе ўдакладненне – падчас працы вы маўчыцё ці любіце размаўляць?

– А гэта залежыць ад настрою. Калі цікавы субяседнік, то магу і гадзінамі слухаць ці гаварыць.

– Цудоўна! – абрадваўся чамусьці госць. – Я пастараюся быць цікавым субяседнікам. А пра што вы любіце найбольш пагаварыць?

– Пра ўсё – пра рэлігію, пра космас, пра каханне...

– Выдатна! Выходзіць, я не да канца ацаніў вас. І я на гэтыя тэмы люблю гаварыць. І пра Біблію, і пра космас... Я паслухаю вас, а вы мяне....

Хацелася ўсё ж удакладніць, калі прыблізна мы прыступім да працы, але мяне апярэдзіў заказчык:

– Ведаю, вам трэба настроіцца на маю хвалю. Таму, думаю, што месяц ці два будзе для вас дастаткова. Ды вы акурат і падгоніце тое, што не церпіцца вам скончыць – сваю дарогу да Сафійкі. Не крыўдуйце, што падгледзеў, карціна ж навідавоку...

"Здаецца ж, я накінуў на яе тканіну... Ці зноў у мяне дурыкі ў галаве пачалі скакаць? Даўно ж не піў... Ну, ды ладна, не вялікая

бяда, хаця страшэнна не люблю паказваць чужому воку задуманае, яшчэ і не распачатае нават...”

– Ды нічога. Задумка такая, правільна... А месяц дастаткова, каб і сваё скончыць, і на заказ настроіцца... А як вас знайсці, калі буду гатовы?

Алкепаў дастаў з унутранай кішэні пінжака візітку, паклаў побач з пачкам купюр. *“ААТ “Алкеп”. тэл. 96-96-666”*

– Гэта ў мяне сотавы, факс і спадарожнікавы – усё пад адным нумарам. Ён заўсёды пры мне. Калі скончыце, і калі кінеце кліч аб гатоўнасці, то на беразе Сожа, што каля парка Паскевіча-Румянцава, побач з прагулачнымі кацерамі, “Брэст” ці “Менск”, будзе стаяць мой – “Алкеп”. Вы толькі пазваніце за суткі перад гэтым, бо мы можам лётаць ці плаваць у раёне Кіева ці Турава, Аргенціны і Аўстраліі ці знаходзіцца зусім на іншых планетах... За суткі мы прыплывем ці прыляцім з любой кропкі зямнога шара.

– Такая магутная тэхніка?

– А як жа – вялікія дасягненні патрабуюць і вялікіх выдаткаў.

Шкалікі ўжо напоўніў я. Па той жа мерцы, што і наліваў мой госць. Гэта ўжо была, як я разумеў, аглабельная – на развітанне.

Але заказчык чамусьці піць не спяшаўся. Смакуючы каньяк, падняўся, прайшоўся па майстэрні. Падышоў да століка, на якім ляжаў рукапіс. Узяў першую старонку, паднёс да вачэй, прачытаў услых:

– *“Паўла я лічыў і лічу сваім лепшым сябрам…”*

Паклаў аркуш на месца. Зрабіў зноў глыток.

– І літаратурай спрабуеце займацца? Прапаноўвалі якому-небудзь выдавецтву?

Я, здаецца, пачырванеў:

– Ды не. Што прапаноўваць – сыры матэрыял, таму і слабы яшчэ.

– А хочаш, Антон, я выдам гэта? У тоўстай каляровай вокладцы, на выдатнай паперы… Мільённым тыражом.

Не заўважыў, як мой госць перайшоў на “ты”. Глядзеў на мяне, чакаў адказу.

– Гэта не розыгрыш, не жарт?

– Не, я не жартую Я ўжо загадзя ведаю, што атрымаецца не кніга, а бестселер… Дзве гісторыі, два лёсы, пад адной агульнай назвай “Рэквіем”. Кнігу перакладуць на іншыя мовы. Ты адразу станеш вядомым не толькі як таленавіты мастак, але як і арыгі-

нальны празаік… Маркесу і Заля і не снілася такое. Ты б жадаў гэтага?

“Адкуль яму вядома, пра што рукапіс?” – слаба шавяльнулася ў маёй галаве недаўменная думка. І мне яшчэ здалося падазроным, што ён задужа ўпэўнена адчувае сябе ў маёй майстэрні, – як быццам быў тут, ды і не адзін раз...

– Пакуль не. Але калі-небудзь мы пагаворым пра гэта, Анатас. Не сёння. Пасля таго, як папрацую добра над рукапісам.

– У маім выдавецтве самыя лепшыя і дасканалыя камп’ютары ў свеце. Звышмагутныя і звышразумныя – інтэлектуалы найвышэйшага гатунку. Яны і зробяць за цябе ўсю чарнавую працу. І перакладуць на ўсе мовы свету. Галоўнае, што ў творы закладзены твае думкі і ідэя.

– Не, Анатас, рана гаварыць яшчэ пра выданне.

– Ладна, не будзем пакуль гаварыць. Як ты кажаш, ніколі не позна вярнуцца да гэтай тэмы. Аўтар ты, табе і ставіць умовы. Ды вось што яшчэ, дарагі Антон, – наведвальнік узяў чарачку, падняў руку, запрашаючы тое ж зрабіць і мяне. – Зазірнем на імгненне ў будучыню. Ты справішся… За выданне кнігі ты атрымаеш… Я пералічу два, не, тры мільёны даляраў. Але з адной умовай – ты іх патраціш толькі на выданне тваіх кніг. І ні на што іншае. Ні цэнта на нешта іншае.

Я зніякавеў і здранцвеў – яшчэ нічога не зроблена, а мой патрон распластваецца ў абяцаннях. Не зусім сур’ёзна з яго боку, вельмі несур’ёзна.

– Нічога не разумею! Ці мне тое сніцца?

– Давай лепш вып’ем. Разумею, у цябе галава кругам пайшла і ногі сталі ватнымі, – гэтулькі звалілася на цябе за такі кароткі час. Але я за свае словы ў адказе, ніколі нікому не хлусіў – таму будзе ўсё так, як ты вырашыш.

Мы выпілі, паставілі шкалікі на стол. Заказчык падняўся з крэсла. Падышоў да вешалкі, узяў свой плашч, накінуў на плечы.

– Дзякую, Антон, за каралеўскі прыём! Мне пара. Да сустрэчы!

– Да сустрэчы, спадар Анатас!

– А табе, спадар Антон, я жадаю як найлепш рэалізаваць сваю задумку. Хай пастаянна спадарожнічае табе натхненне!

Мяне не пакідала адчуванне няёмкасці і нейкай незразумелай вінаватасці, а недзе і трывогі. Я як бы ўсё роўна падпадаў пад

залежнасцьад гэтага чалавека, павінен быў падпарадкоўвацца яму, слухацца яго... Хаця чаму – падпарадкоўвацца? Хіба ж вялікія мастакі і кампазітары, літаратары і скульптары не пакланяліся залатому цяльцу? Той жа Мікеланджэла Буанароці. Ці Амадэй Моцарт. Во, гэта ж Амадэю чорны чалавек заказаў рэквіем. І ў мяне нешта накшталт гэтага атрымліваецца... Але я, у адрозненне ад той сітуацыі, не абмежаваны тэрмінамі... Якому мастаку снілася такое, такі заказ?

– Дзякую, Анатас, але я адчуваю ўсё роўна нейкую ніякаватасць... Такі ганарар…

– Глупства, дарагі мой дружа, вялікае глупства! – перайшоўшы ўжо канчаткова са мною на “ты”, усклікнуў Алкепаў. – Проста я веру ў твой талент. Я ж як-ніяк і мецэнат, фундатар... Ты спытаеш, навошта гэта ўсё мне? Адкажу – можа я хачу з гэтага мець свой навар, сваю выгаду. Ты ўвойдзеш у гісторыю як вялікі майстра-мастак, а нехта недзе і пра мяне радок напіша: “Дзякуючы мецэнатству бізнесмена Анатаса Алкепава ліцвін мастак Антон Клімовіч, пераступіўшы парог няўпэўненасці і творчага застою, стварыў сусветна вядомы шэдэўр!” Ну, як – гучыць?

– Гучыць, – усміхнуўся я, бо мы абодва ведалі, што то быў жарт, і што гэта весялосць майго госця шукае выхад на волю; хаця хто яго разбярэ – гаворыць жа на поўным сур’ёзе, і нават і намёку няма на блюзнерства...

Госць, не адыходзячы ад вешалкі, задумаўся, нахмурыўшы бровы:

– Антон, а ты хоць ведаеш, адкуль пачыналася мецэнацтва?

У адказ я паціснуў плячыма.

– Ладна, даруй, я адбяру ў цябе яшчэ некалькі, апошніх ужо, хвілінак. Калі літаратура і мастацтва заявілі пра сябе, моцныя свету гэтага вырашылі іх прыручыць, трымаць на ланцужку. Самым вядомым і паказальным быў, мусіць, рымскі імператар Аўгуст. Ён запрог у сваю калясніцу паэтаў і музыкаў, мастакоў і спевакоў… І ўсё толькі дзеля таго, каб пра яго пісалі песні, малявалі карціны і партрэты, усхвалялі яго на ўсе лады. Я сёння чую дым кастроў, у якіх па яго ж загадзе спальвалі кнігі. Трэба сказаць, Аўгуст любіў глядзець на тыя кастры, быццам чуў стогны і крыкі аўтараў і герояў, пра якіх расказвалі творцы. І быў пры Аўгусце чалавек высокай культуры – Мецэнат. Ён быў як бы злучальным звяном паміж правіцелем і людзьмі творчасці. Багаты, знатнага

паходжання, але жыло ў ім чарцяня, якое атручвала яму душу, д'ябальчык такі, сатанінчык няўрымслівы. Ён глыбока хаваў у сабе злое жаданне, але з усіх сілаў жадаў праславіцца як аўтар якога-небудзь несмяротнага твора. Але літаратар ён быў, можна шчыра сказаць, аніякі – дылетант. Сам ведаў пра тое. Але… Але ў яго была прыроджаная шчырая любоў да мастацтва. І тое не дазваляла яму ператварыцца ў графамана. Цвярозы розум, вытанчаны густ. Ніколі ён сваю паэзію не ставіў вышэй сапраўды мастацкай.

– Цікава!

– І я кажу, што цікава. Але нікуды не дзенешся – слабы чалавек. Ён прагнуў славы, жадаў, каб пра яго гаварылі сучаснікі, узгадвалі яго імя ў творах, якім было забяспечана бяссмерце. І ён тут – ого! – праяўляў зайздросную вынаходлівасць – спакушаў грашыма творцаў. Больш за ўсіх выдаткаваў на Гарацыя: падараваў яму вялізную сядзібу з домам. І што ж, дарагі мой дружа Антон? Строфы Гарацыя мы чытаем і сёння з асалодай, і ў тых радках знаходзім імя Мецэната. Яго імя стала ганаровым, несмяротным, сімвалам дабрадзейнасці і адкрыцця талентаў. Вось і я, як той Мецэнат, хачу адкрыць свету цябе, – мастака і пісьменніка, таму і ўкладваю ў цябе вялізныя, як ты лічыш, сродкі. Мо дзе і пра мяне радочак напішаш, і мой партрэт праславіць тваё імя. А заадно – і мяне.

Што я мог адказаць?

– Дзякую, дарагі Анатас! Але, Бог бачыць, я не за…

– Заслужыў, заслужыў, – перабіў мяне субяседнік, злавіўшы на паўслове, – і мы тое дакажам. Разам дакажам. Вось пабачыш.

– Але я не ведаю, які з мяне мастак, тым больш пачынаючы пісака…

– І няпраўда твая! Ты не маеш рацыі, дружа! Не маеш, шаноўны Антоній! Я табе ўручаю скіпетр Гарацыя, каб ты абяссмерціў нас абодвух. А найперш – сябе.

– Не гавары ерунды! – не вытрымаў я. – Ніхто з людзей не ведае, за што бярэцца і што з яго працы атрымаецца. Поспех – справа слізкая.

– Как знать, как знать… Чем чёрт не шутит.

“Аккурат як Хурс гаварыў”.

– Во няхай чорт і жартуе, а мне не да жартаў, Анатас. Аднаго толькі таленту ў творчасці і толькі галавы – мала. Трэба яшчэ мець і моцны…

– Ён у цябе моцны, моцны, хто б сумняваўся… А ў маім распараджэнні тысячы і тысячы архіваў, відэазапісы, сведкі, дакументы… Усё будзе табе выкладзена, карыстайся толькі… А тое, што меў на ўвазе, у цябе мужыцкае, моцнае. Не сумнявайся… Ну, а цяпер пара мне. Да сустрэчы на маім ветразніку.

Алкепаў упэўнена пераступіў парог, толькі капелюшом зачапіўся за верх ліштвы – аж, здаецца, скаланулася сцяна. Дзіўна, але капялюш не зляцеў з яго галавы, нават не скамечыўся, не сагнуўся. Быццам зроблены з нейкага цвёрдага рэчыва, ці быў зліты з галавой як адно цэлае.

Я чакаў, што ён скажа нешта незадаволенае, нават злое, а ён засмяяўся:

– Вырас да неба, а... – не дагаварыў.

Зачыніліся дзверы, шчоўкнула засаўка замка.

11

Ці то пасля наведвання маёй бярлогі заказчыкам, ці то пасля таго, як мяне адвезла ў лякарню “хуткая”, адчуў, што пачаў раздвойвацца. Магу сам сябе бачыць збоку. А то і зверху – быццам я птушка якая, і назіраю за тым, як жывуць людзі на зямлі.

То мне здаецца, што я жыву ў мінулым, то быццам абагнаў свой час і знаходжуся ў іншым вымярэнні і асяроддзі… Дзіўна адчуваць такое. Але нешта змяніць, перайначыць было мне ўжо не пад сілу.

………………………………………………………

У майстэрні зноў запанавала цішыня.

Ад Яся чамусьці адвярнулася Яніна. Пасварыліся, пакуль мы гаварылі з госцем? Ці пакрыўдзілася на мяне, што ўзяў кроплюдругую?.. Але з пляшкі было адпіта ледзь-ледзь. Можна сказаць, што мы і не пілі зусім, а так, каўцянулі для замацавання нашага працоўнага пагаднення.

Тоўсты пачак “зяленіва” ляжаў на століку перада мною. Але перш, чым узяць яго ў рукі, падышоў да шафы, павярнуў Яніну да хлопца – навошта адварочваецца ад каханага? Яна нешта буркнула, як мне здалося, не вельмі задаволена...

Ніколі ў руках не трымаў столькі грошай, тым больш “баксаў”, як кажуць пра амерыканскія даляры. Ніколі ў жыцці не піў такі дзівосны і дарагі каньяк. Ды ці мала чаго адбылося ўпершыню… І ў адзін

дзень на мяне звалілася ўсё разам. Якім лічыць гэты дзень па месячным календары? Пятнаццаты... Дзень змея. Сатанінскі дзень. Астральныя бойкі, спакушэнне плоці... Засцярога справядлівасці, аскеза... Значэнне апошняга слова я не ведаў... Быў і згодзен і не згодзен з тлумачэннем Авестыйскіх традыцый... Так, спакушэнне. Спакушэнне выпрабаваць самога сябе ў мастацтве, у стварэнні партрэта. Ну і што з таго? Чорны чалавек спакушаў і Моцарта, вялікія грошы за стварэнне скульптур на саборы святога Паўла патрабаваў Буанароці... Ну і мяне няхай спакушае... Няхай! Як-небудзь выкручуся...

Рука сама пацягнулася да бутэлькі.

Але перад тым паглядзеў на Яніну – ці бачыць, ці не будзе злавацца на мяне, што не стрымліваю слова: даваў жа ёй яго тут, у майстэрні, калі мяне ледзьве не задушылі мае ж ваніты, калі адключалася свядомасць і я падаў у небыццё, бажыўся, што і кроплі ў рот не вазьму...

Напоўніў шкалік – да краёў. Апошні. Больш піць не буду... Падалося, нешта папераджальнае сказала Яніна. Але на тое не звярнуў увагі. Мой слых хацеў чуць іншае, што  даспадобы душы.

Каньяк каўцянуў адным махам, адным глытком. І зноў падалося, што ў гэты ж час войкнула каханка Яся, – як быццам ёй, а не мне, стала балюча ад таго, што выпіў...

Амерыканскія "драўляныя", як абзываў жартоўна іх мой сябра Валодзя Рай, кіраўнік "Сервера", які памагаў мне набываць кампутарную тэхніку, –  мяне не вельмі і радавалі, але і сказаць, што я быў безуважны да іх – схлусіў бы самому сабе. Скажу жонцы – не паверыць. Пачне ўзважваць і аналізаваць – што гэтаму папярэднічала, у што гэта ўсё можа вылліцца пазней...

Жанчыны  ёсць жанчыны, у іх свой розум, свае меркаванні. Іх думкі адрозніваюцца ад мужчынскіх, але мы часта, на жаль,  падпадаем пад іх уплыў  і ўжо не заўважаем, што жывем па кірунку, які яны вызначылі, які выбралі... Добра, калі мы здольныя аднойчы апамятацца, добра, калі знаходзім у сабе сілы самому сабе крыкнуць "стоп!". І тады ж рвуцца самыя тоўстыя ланцугі, і чалавек вырываецца на волю: "Я – свабодны! Я належу цяпер самому сабе!.."

У той жа час здзіўляецца ўжо і жанчына: "Як жа такое магло здарыцца? Такі ж быў паслухмяны, ручны". Не разумее той простай ісціны, што ў такіх выпадках моцнае робіцца слабым – метал гнілой

вяроўчынай. А ў іншым вымярэнні тая ж вяроўка мацнейшая за ланцугі... Моцнае тое, што само па сабе жыве і існуе, калі над ім няма насілля і прыгнёту, прымусу і загаду...

І тады хаваем мы адно ад аднаго вочы і пачуцці.

Але ж грошы не схаваеш. Ды і не хаваў я ніколі нічога ад жонкі. Хіба якую кроплю для нечаканай сітуацыі, дык і тое не хавалася, а проста мелася ў паралельнай наяўнасці.

Але як жа ўсё-ткі распарадзіцца нечаканым багаццем? Мо сапраўды ўзяць ды махнуць з жонкаю да Эйфелевай вежы, потым пахадзіць між мастакоў на Ман-Мартры, прыгледзецца, як яны працуюць... А мо на Багамскія астравы? Адпачыць, свет пабачыць.

Глядзеў за акно, за якім рассцілаўся горад. З пятнаццатага паверха, нават з шаснаццатага, калі дакладна, дзе была мая машсарда-майстэрня, ён як на далоні. Вунь вымкнулася ў неба тэлевежа, а вунь, трошкі лявей, сабор Пятра і Паўла...

Сонца ўжо выглянула з-за воблакаў, і яго промні высвецілі купалы храма. У маёй душы, здаецца, спакой. Але я ні на хвіліну не забываў, што мяне чакае мальберт. Тыцнуў пэндзлем у горку змяшанай фарбы, дакрануўся да загрунтаванай тканіны. Тут жа пачуў за спінай уздых палёгкі. І я падміргнуў дзяўчыне, праказаў уголас:

– Паехалі!.. У добры час! З Богам!

Але мне ніхто не адказаў. А мо і быў адказ, ды не пачуў яго: паглыбіўся ў працу, стаў глухім і нямым.

“А ўсё ж – чаму заказчык загаварыў пра Паўла і Жанету? Што яму да іх лёсаў? Няўжо іх шлях нейкім чынам перасякаўся?”

Рука цвёрда трымала пэндзаль. Упэўнена клаліся мазкі на загрунтаваную беллю тканіну. Галава ясная і светлая…

…………………………………

– ...нічога не разумею – і ў сусветнай медыцынскай практыцы не заўважана такога, – уздыхнуўшы каля мяне, скрушна прызнаваўся доктар Міклашэвіч. – Спыняецца сэрца, не працуе зусім колькі хвілінаў... Мы б’емся, змагаемся за жыццё, робім усё неабходнае, потым у адчаі прызнаемся, што бяссільныя... І тады, у гэты ж момант, сэрца як спахопліваецца – б’ецца рытмічна, упэўнена...

– Згодна з вамі, Ян Пятровіч, – пацвердзіла яго думкі медсястра Вераніка. – Я ўжо дваццаць пяць гадоў працую тут – і нічога падобнага не бачыла…

“Зноў, значыць, мяне недзе насіла, зноў прымусіў людзей хвалявацца, перажываць, – дакараў сябе, не расплюшчваючы вачэй. Сам здзіўляўся з сябе, са сваёй здольнасці аднačасова быць у некалькіх вымярэннях, пражываць сінхронна некалькі жыццяў. – Для чаго гэта Вышні робіць са мною? Для чаго выпрабоўвае, для чаго адпраўляе мяне ў такую рызыкоўную дарогу?

– Вы зноў з намі, Антон? – Міклашэвіч нахіліўся над маім тварам, вывучае яго.

– З вамі. А куды ж мне без вас?

– І я так кажу, – кардыёлаг рады, што пацыент яго пры сваім розуме, што мова складная і лагічная. Спрабуе жартаваць.

– Даруйце, Ян Пятровіч, за такія жарты. Я ж некалі хацеў цыркавым клоўнам стаць.

Доктар зірнуў на экран манітора – на ім упэўнена пульсавала маё сэрца. Што радавала і аднačасова здзіўляла вопытнага медыка.

– Добра, даруем. Але дайце слова, што вы потым падзеліцеся сакрэтам сваёй... маўклівасці і – нараджэння.

– Абяцаю – падзялюся. І будзе вам гатовая доктарская дысертацыя. Бо я – феномен. Бо я – падвопытны трусік. І я проста абавязаны быць патрыётам і памагчы чалавецтву пазбавіцца ад...

– Антон, я не так...

– Ян Пятровіч, не папраўляйцеся, і не лічыце сябе ў нечым вінаватым. Я ўдзячны вам за цярпенне. І таму мой доўг сапраўды памагчы вам у вашых сумненнях...

Падчас нашай размовы, па маўклівым загадзе, медсястра ўліла ў вену нейкі пякучы раствор, ад чаго па целе разлілося прыемнае цяпло і млявасць.

– Я сам, калі шчыра, хачу разабрацца ў сваім стане, – пастараўся супакоіць да канца кардыёлага. – І таму мы з вамі, Ян Пятровіч, у аднолькавым становішчы: вы памагаеце мне, а я – павінен вам...

– Добра, добра, – схамянуўся доктар, кашлянуў у кулак, – але вам, Антон, не трэба столькі гаварыць. Прашу вас...

У куточках маіх вуснаў нараджалася кволая ўсмешка – стараўся выканаць просьбу-загад доктара.

І толькі цяпер мне ўдалося прыгледзецца да яго. Не разумеў толькі – чаму не бачыў яго твару да гэтага. Чуў толькі голас. І голас маляваў для мяне яго вобраз. Але ў дакладнай выяве

Міклашэвіч аказаўся зусім не падобны на таго, каго я сам прыдумаў.

Рэдкія рыжыя бровы над вачамі, густыя бялёсыя вейкі. Вочы ці то шэрыя, ці то зялёныя; яны то ўсмешлівыя, то задумлівыя, а то зусім заклапочаныя. Валасы колеру пажоўклай пшанічнай саломы. Падбародак востры, з ямінкай. Я думаў яшчэ чамусьці, што ён насіў акуляры – а ён іх не меў. Твар у нейкіх воспінках – як быццам яго пасеклі шрацінкі часу...

Некалі абавязкова намалюю яго партрэт, і добра ведаю, як тое зраблю. Намалюю толькі вочы...

Ён ужо адправіў сваіх памочнікаў у ардынатарскую. Застаўся адзін на адзін са мною. Сядзеў унураны ў свае думкі. Звыкаўся з незвычайным хворым, якога сярод ночы прывезла ў кардыялогію “хуткая дапамога”...

Праз які час да нас прыйшла медсястрыца – паставіла мне на грудзі сподачак з апельсінавымі ружова-чырвонымі долькамі – кветкавым узорам, як промні сонца разыходзіліся кругам.

– Вам хочацца піць... Пажуйце.

І зноў мы адны. Зноў маўчанне. Але яно не гнятучае, бо мы разумеем адно аднаго.

Я, мусіць, заснуў. Да мяне, здаецца, зноў прыйшла Яніна, села на мой ложак.

– Засумаваў без мяне?

– Засумаваў. Доўга не прыходзіла. Цэлую вечнасць.

– Угадаў, вечнасць не паддаецца вымярэнню. Чалавек яшчэ не прыдумаў. А мо і не хацеў прыдумваць, каб не палохаць самога сябе...

– Яніна, я вельмі хачу дамаляваць “Дарогу да храма”, ды не ведаю, як тое зрабіць.

– Дамалюеш яшчэ, не спяшайся...

– Табе падабаецца мая задума?

– Не ведаю. Задума – гэта толькі мроі.

– Ты так і Ясю гаворыш, калі ён дзеліцца з табою сваімі планамі? Чаму ты так часта сварышся з ім? – мне хацелася выкрыць яе, прымусіць, каб прызналася, хто яна ёсць сапраўды.

А яна засмяялася, паклала мне далонь на лоб:

– Каханенькі-родненькі, у цябе жар, прыступ рэўнасці. У мяне ёсць і быў толькі ты... Ці хіба з-за пералёту з часу ў час ты і зусім забыўся пра ўсё?

Не ведаў, што адказаць. І пакрыўдзіць яе не хацеў, але ж і выветрылася ўсё чыста з маёй памяці пра нашыя адносіны... Жартуе? Быццам бы і не. Сур'ёзна гаворыць? Хто ведае... Мае думкі як бы на раздарожжы. І якую ўзяць за галоўную, не ведаў. Як і не ведаў, ці сапраўды, на яве, адбываецца гэтая размова, ці то толькі ў нейкім фантасмагарычным сне... Адчуваў яе гарачую руку, чуў, як б'ецца яе сэрца, бачыў, як гарацьпажадным агнём вочы... Яна была не прывідная, не ўяўная і прыдуманая, а жывая... Значыць, не ў сне адбывалася ўсё.

– Ох і задачкі ты сабе задаеш, спадар Антон, – зноў смяецца мая духоўная медсястра, папраўляючы няўлоўным рухам свае косы. – Паводзіш сябе, як той юнак, які ўпершыню закахаўся і баіцца каханцы прызнацца ў сваіх пачуццях. Ці не так?

Па-дурному састроіў нешта накшталт усмешкі, прамовіў:

– Мо і так... Як той казаў, джагнуў, як шэршань у скроню.

– Цябе яшчэ нешта непакоіць. Што?

– Хачу злётаць у пачатак новай эры, у той час, калі нарадзіўся Ісус Хрыстос. У час Ціберыя Клаўдзія Нерона, Калігулы... А яшчэ, калі дакладней, праведаць Ірада, цара Юдэйскага.

– Навошта? – падзівілася Яніна. – Што ты там згубіў? Узвальваеш на сябе непатрэбны груз. Навошта здаўся табе Ірад, ты ж ніколі не хварэў на яго.

– Я і сам не ведаю. Нехта падказвае, каб я пабываў у яго – на сканчэнні яго, дыктатарскага, жыцця. Каб раскрыў адзін усяго радок з Бібліі – *хто жадае смерці іншым і здзяйсняе яе, той заслугоўвае найвышэйшай кары.* Ірад здзяйсняў замах на Сына Божага, калі Ён нарадзіўся. Калі вешчуны сказалі яму, што нарадзіўся Цар Юдэйскі, вельмі ж перапалохаўся... Папрасіў вешчуноў, каб паведамілі яму месцазнаходжанне Немаўляці, каб пасля прыйсці і пакланіцца яму... А калі валачобнікі разгадалі яго намер, то і не пайшлі да яго, Ірада. Тады ён загадаў забіць усіх немаўлят, якія нарадзіліся ў той час, спадзеючыся, што разам з дзецьмі загіне і Той, якому пакланяліся вешчуны... Вось Ірада за яго замах і пакараў Гасподзь страшэннай хваробай... Тое ж чакае ўсіх, хто робіць замах на хрысціянаў, хто жадае ці сее смерць сярод невінаватых людзей...

– Мяне не хочаш з сабою ўзяць?

– Не хачу. Тое вельмі жахліва. Але мне неабходна ўсё ўбачыць на свае вочы. І не толькі ў бачыць…

– Добра, жадаю поспехаў. Доўга там не затрымлівайся. Бо мінулы час зацягвае ў сябе, непрыкметна хутка бяжыць, а ты яго не так шмат маеш.

Яна сплывае некуды ў шэрае мроіва, не перастаючы ўсміхацца, махае, падалося мне, рукой – як з палубы нябачнага, белага, з чырвонай паласой на баку, парахода…

Той параход ці то сніўся мне даўным-даўно, ці то былі ўспаміны пра будучае…

...Белы параход – чырвонае сонца – белыя воблакі...

12

Прыйшоўшы дадому, паклаў перад жонкай пачак “амерыканскіх драўляных”. Яна не здзівілася. Толькі ўдакладніла, гледзячы на іх:

– Гэта толькі як аванс?

– Выходзіць, што так...

– Снедаць будзеш?

– Буду. З’еў бы бульбы з селядцом і цыбуляй.

– Я гэта акурат і гатую. А цыбулю падсмажыць – ці сырую будзеш есці?

– Сырую.

– Стаміўся?

– Страшэнна...

– Як праца?

– Я ўжо ўчапіўся ў яе. Пайшла. Атрымліваецца. Мне яшчэ тыдзень трэба, мо і трошкі больш...

– Зноў за сваё, – папракнула лагодна жонка, ставячы на стол каструлю з бульбай, ад якой ішла пара. – Не кажы “гоп”, пакуль не пераскочыў сваю канаву...

– Так, так, – не пярэчыў я, згаджаўся, – раней часу вымавіш “скончу”, то спужаеш толькі задуму. Як і здаралася тое са мною не раз і не пяць... Але то калі кажаш чужым, а роднай жонцы… Дык, выходзіць, і жонка можа быць чужым чалавекам?! – Здурнеў зусім... Язык мой – вораг мой...

Яна сядзела насупраць – стомленая, акуратна прычасаная, глядзела, як я ем, і думала пра нешта сваё. Знаходзілася на такой далёкай і адарванай ад рэчаіснасці, адлегласці, што я нават спужаўся за яе. І ў яе ёсць свае клопаты, трывогі, сумненні. Ды не з рукі распытваць, няёмка лезці ў душу. Для чаго? Памагчы? Як?

На палічцы, побач, зазваніў тэлефон. Мы паглядзелі адно на аднаго – каго з нас? Узяў слухаўку я.

– Антон Мікітавіч, добры дзень! Гэта завуч школы. – Ці не маглі б вы паклікаць Ліку Канстанцінаўну?

Перадаў слухаўку жонцы. І чуў, што казаў завуч:

– Заўтра бацькоўскага сходу не будзе, так што вам не трэба рыхтаваць выступленне.

– Добра, дзякую, што папярэдзілі. Да пабачэння!

Я моўчкі жаваў бульбу, не пытаўся ні пра што, хаця пакрысе тачыла рэўнасць: "Адмяняецца сход – гэта што, адмяняецца спатканне?"

– І куды ж мы патрацім твае баксы? – спытала жонка, і голас у яе быў спакойны. Умела прытварацца ці сапраўды сход той пераносіўся?..

– Табе рашаць. Я дык адправіўся б з табой у падарожжа за мяжу. У тую ж Францыю.

– Чаму менавіта туды, Антон?

– Парфумы набярэш рознай... Альбо ў Індыю. Індыйская музыка – мая слабасць. З дзяцінства палюбіў музычныя фільмы Раджа Капура... У Аргенціну, адкуль прыляцела да нас танга...

– Добра, падумаем, – прамовіла жонка, узяла са стала пакет з "баксамі" і ўкінула ў шуфляду шафы – як дзіцячую цацку. – Паснедаеш і кладзіся спаць, ты змарнеў зусім. А я з'езджу ў райана. Там нейкае паседжанне праводзяць па маім прадмеце...

Запіў гарачай гарбатай, лёг на ложак.

Потым укрыўся з галавой і праваліўся ў глыбокі сон...

..............................................

– ... пульс зноў не праглядваецца, Ян Пятровіч!

– Нічога. Чакайце.

– Як чакаць, ён уцякае ад нас!

– Чакайце!

Голас загадны, нават патрабавальны.

– Чаго чакаць? Ужо мінула тры хвіліны, як маўчыць самапіс... Вы адказваеце за зыход.

– Адказваю. Чакаць!

Звінела недзе надакучліва і аднастайна муха, магчыма, папаўшыся ў расстаўленыя мярэжы павучыння. Ці то нудна вішчэла недзе на двары электрапіла...

13

Біўся над мальбертам да раніцы.

Зрабіў ладны кавалак працы – прапісаў неба, і на яго фоне купалы Сафійкі. Праца спорылася, сам тое адчуваў, таму грэх было спыняцца і адпачываць. Душой адчуваў, што на правільным шляху, і адчуваў галоўнае: маёй рукой вадзіў можа і не Сам Вышні, але што Яго анёлы падтрымлівалі мяне, тое ведаў дакладна. Яны скіроўвалі мае намаганні.

Колькі часу працаваў – не ведаю. Стаміўся – ледзьве трымаўся на нагах. Адчуваў, што больш ужо не вытрымаю – упаду на падлогу. Хапіла яшчэ сілы памыць пэндзлі ў слоіку з растваральнікам, выцерці іх ветахам. Яшчэ раз паглядзеў на зробленае – застаўся задаволены.

Маўчаў кватарант – Мышук, не падаваў голасу, нічога не прасіў.

Зірнуў на шафу. Чамусьці Ясь адвярнуўся ад Яніны. Нечым ўжо яна ўгнявіла яго? От гэтая вечная барацьба. Ніхто не хоча падпарадкоўвацца... А мо ў іх што іншае? Паставіў іх адно супраць аднаго – хай зірнуць адно аднаму ў вочы і зразумеюць саміх сябе...

Стома брала сваё – я хістаўся, ходзячы па пакоі. Мне б прылегчы б на канапу, ды адпачыць колькі гадзінаў, а потым зноў узяцца за працу, ды маё  другое "я" пратэставала, загадвала ісці дадому. Пагадзіўся. З-за таго хіба, што, па-першае, будзе хвалявацца жонка, а, па-другое, голад сціскаў кішкі, а ў майстэрні не засталося нават скарынкі хлеба – нават Мышуку на зуб. Мусіць, ён з-за гэтага пакрыўдзіўся на мяне і збег некуды сам сабе шукаць харч... Паспадзявайся на мяне, дык і ногі выдаўжыш...

З Мышуком дзіўная гісторыя адбылася.

Заўважыў яго, а мо і яе – мыш – нечакана. Маляваў я тады "На замчышчы Турава". Гэта пасля таго, як з Пушкаром наведалі Тураў. У памяць і запала тая гара.

Адразу ж, як вярнуліся, я – у Гомель, а ён у Мазыр, – і прыняўся за працу.  І ўвесь час адчуваў, што за мной нехта ўвесь час сочыць. З таго боку, дзе стаялі Ясь і Яніна. Як толькі дакранаўся пэндзлем да палатна – на мне чужое вока. Калі ж  пачынаў азірацца, яно прападала.

Мыш, мусіць, страціла пільнасць, а мо і надакучыла ёй гуляць са мной у хованкі, – адкрылася мне. Глядзела спакойна бісерынкамі вачэй на мяне, і ўжо болей не хавалася.

Чамусьці да мяне прыйшла ўпэўненасць, што гэта не яна, а ён. Ён – хто? Мыш ці – мыша? Але лепей – Мышук. Я не рухаўся. Не хацеў напалохаць госця. Тады ён рашыў мне паказаць сваю смеласць (ці – давер?) – падышоў да брыжа шафы, улёгся і звесіў хвост.

Мне падалося, што маленькая істота запрашае мяне да знаёмства. Адклаў убок пэндзаль, ступіў крок да шафы. Мышук не ўцякаў. Пакрысе набліжаўся да яго – паўметра, сорак сантыметраў, дваццаць... І – вочы ў вочы. Мышук не рухаўся, чакаў. Чаго – чакаў?

– Ну, здароў, Мышук! – прамовіў як мага спакойней. – Не баішся мяне?

Ён слаба піснуў, пашавяліў хвастом.

– Зразумеў цябе. Ты набіваешся ў сябры, ці не так? Не хочаш быць проста кватарантам. Што ж, добра...

Хвост перакінуўся наверх, лёг паміж Ясем і Янінай. Тады я здагадаўся ўзяць са стала скарынку хлеба і пакласці перад ім.

– Гэта табе мой пачастунак, – рашыў адысці ад яго.

Зноў пэндзаль у маёй руцэ, зноў заняты карцінай. Пачуў, як мышанё захрумсцела скарынкай. Мы заняліся кожны сваёй справай.

Мышук аказаўся на дзіва смелым і, што не меней важна, таварыскім і дабрачым. Забіраўся на стол з фарбамі і назіраў ужо адтуль, як я малюю. Больш таго, калі я адпачываў на канапе, ён садзіўся мне на плячо і драмаў разам са мною.

З цягам часу мы ўжо і не маглі адно без аднаго. Я прыносіў для яго бохан хлеба, клаў у вялізную місу на шафе, і гэтага яму было дастаткова на доўгія месяцы...

Ён яшчэ быў і далікатны – стараўся не назаляць мне, не лез пад ногі ці рукі. Нават калі і быў галодны, то не храбусцеў ссохлай скарынкай, стараючыся не раздражняць мяне. А ўжо калі я стамляўся ці проста хацеў зрабіць перапынак, усаджваўся, як сурок, на брыжыку верха шафы – на задніх нагах – побач з глінянымі закаханымі і чакаў, калі звярну на яго ўвагу...

– Я вольны! – дасылаю яму паведамленне.

І праз колькі імгненняў ён імчыць да мяне, залазіць на калені, чакае, калі пачну гладзіць пальцам яго мяккую шорстку на галаве.

... Я прыслухаўся: Мышук не напамінаў пра сябе. Пашкадаваў, што некуды знік, бо да мяне зноў падкацілася млявасць і абыяка-

васць... У такія хвіліны прыходзіў на дапамогу мой лекар Мышук – сваёй прысутнасцю адбіраў ад мяне стому.

Рашыў пакінуць майстэрню. “Лячыцца” буду дома – пад’ем як след, высплюся... А потым зноў вярнуся да працы.

Зырка свяціла сонца.

Калі ж дапяў да паляны сярод лесапарку, на небе раптоўна згрувасціліся воблакі... Стала зусім цёмна. Вакол нічога не бачна – ні дрэў, ні дарогі, ні неба... Адзінае, што падцвярджала, што я знаходзіўся на зямлі, гэта пошум ветру ў вершалінах сосен – суцэльны працяглы гул... Ды яшчэ сабака нейкі прытуліўся да маіх ног, мусіць, спужаўшыся нечаканай цемры. Пагладзіў яго, нешта казаў, стараючыся супакоіць, сцішыць яго трывогу...

Нешта сціснула грудзі. Абудзіліся ў скронях калючыя малаточкі. Хацелася крыкнуць – папрасіць каго, каб прыйшоў на дапамогу, але саромеўся сабакі – я ж для яго быў абаронцам.. Ды і да каго дагукаешся ў такой цемрадзі?! Ніхто і не пачуе.

Голас падаў сабака – завыў голасна, трывожна, і выццё яго паляцела некуды да вяршынь сосен і заблыталася там у густым галлі... Мы з ім пачуваліся адны, ва ўсім свеце адны…

Доўга сядзелі на зямлі, прытуліўшыся адно да аднаго, чакаючы, калі выясніцца неба, калі льга будзе ўбачыць дарогу...

14

– Нейкія дзівосы атрымліваюцца, – чую скрозь сон здзіўлены жаночы голас. – Ян Пятровіч, як такое можа адбывацца?

– Сам не ведаю, Вераніка... Загадка. І – вялікая загадка. Ён нырае ў небыццё, як у сваю родную стыхію, і з той жа лёгкасцю вяртаецца адтуль, – быццам перабягае з аднаго пакоя ў другі...

І потым доктар маўчыць, неадрыўна сочыць за экранам манітора. Але глядзіць безуважна, бо яму ўжо не дзіўна тое, што адбываецца... Не вытрымліваю, і, каб вывесці кардыёлага са здранцвелага стану, прашу спакойным голасам:

– Папіць бы мінералачкі, Ян Пятровіч! Ды халодненькай. “Крыніцы”, калі можна... Ці – “Ліцвінскай”...

Вераніка, стараючыся не выказваць радаснага сполаху, адразу ж адгукваецца, апярэджваючы доктара:

– Ёсць “Ліцвінская”. У халадзільніку... Я прынясу.

Доктар ні пра што ў мяне не пытаецца, задуменны.

– Ян Пятровіч, не ламайце, калі ласка галаву над гэтым...

– Гэтым – гэта чым?

– Ды над тым, што адбываецца са мною. Вы не разумееце, чаму, і бяссільныя што-небудзь змяніць, перайначыць? Усё будзе добра. Я буду знікаць на некалькі гадзінаў – не прадпрымайце нічога. Мне трэба скончыць на беразе Сожа адну працу. Пасля таго мы і абмяркуем з вамі ўсё як след, добра?

– Мг... Добра, Антон... Але я адчуваю сябе неяк...

– Не трэба так адчуваць.

Прыйшла Вераніка. Моўчкі падала шклянку з халоднай вадой, падсунула пад патыліцу далонь і памагла прыўзняцца над падушкай.

– Дзякую, Вераніка! Як на свет нарадзіўся.

– А вы і сапраўды на свет нарадзіліся. І – не адзін раз.

– А я, здаецца, і не заўважыў. Дзякую вам.

Калі ж паклаў галаву на падушку, з рук у мяне ўзяла шклянку ўжо не Вераніка, а яна, Яніна. У яе сабраны на патыліцы косы ў гуглю, перавязаны чырвонай пасачкай.

– Як мінералка?

– Крынічная вада... Сілы дае.

– І як цяпер пачуваеш сябе?

– Нічога, здаецца. А твае як пацыенты, якіх ты праведваеш? Ці ўсім памагае твая дапамога?

– Амаль усім. Можна сказаць, што ўсім, хто таго хоча сам. Як прачнешся, што будзеш рабіць?

– Пайду ў майстэрню. І ў Іерусалім трэба адскочыць на колькі дзён... Прайсці шляхам пакутаў Хрыста.

– А гэта навошта, Антон?

– Трэба, Яніна. У кожнага з нас ёсць свой пакутны шлях. Яшчэ з Ісаакам Ньютанам хачу пабачыцца – разабрацца з яго падыходам да Бібліі. З д’яблам, аказваецца, ён дружбу вадзіў, сакрэт Божых прароцтваў хацеў на свой лад перакласці. Дзіўна, што ў нас у школе не таму вучылі. Ні слоўца нават добрага пра нашага Залатавуста. Кірыла Тураўскага.

Яніна ніяк не адгукнулася на мае словы, перавяла гаворку на зусім іншае:

– Чаму жонка не абрадвалася твайму нечаканаму ганарару?

– Мусіць, з-за таго, што не верыць, што гэта і ёсць ганарар. Думае, што банк абрабаваў...

Дзяўчына гладзіць маю руку. Нейкая сумная, а мо і стомленая.

– Ты не баішся брацца за заказ?

– Не. Я выканаю яго. Ён мне па сіле.

“Адкуль ёй стала вядома аб нашым кантракце?”

– Адмовіцца не зможаш?

– Навошта? Ды і позна ўжо... Аванс жа ўзяў.

– Аванс жа можна і вярнуць…

– Не тае я натуры, каб адступаць.

– Не тае, дык не тае, толькі глядзі, глядзі… А цяпер – спі.

Як толькі прамовіла апошняе слова, я адразу ж прачнуўся.

…У кватэры ціха. Толькі насценны гадзіннік: так-так, так-так...

Жонка яшчэ не прыйшла, хаця стрэлкі на цыферблаце паказвалі, што час яе прыходу мінуў....

Стома так і не пакінула мяне. Ныла спіна ад доўгага стаяння каля мальберта. Халоднай, безжыццёвай стала рука, што не выпускала столькі часу пэндзаль, – аж мурашачкі пакусвалі яе ўсю...

Але галава, на дзіва, ясная і лёгкая, – сон пайшоў на карысць.

Пачало змяркацца. Падышоў да акна. Рассунуў фіранкі і глядзеў на кропкі-агеньчыкі ў вокнах дамоў. Глядзеў доўга, пакуль не пачуў, як у шчылінку замка жонка ўсоўвала ключ…

...Добра і спорна кладліся фарбы на загрунтаванае палатно.

Не так даўно вынайшаў свой сакрэт грунтоўкі. Пасля таго, як тканіна высыхала, рабілася белай, бы снег. Нібыта падсвечалася знутры. Калі наносіў фарбы, яны таксама свяціліся. Толькі я адзін ведаў, што гэта было за таямнічае святло. Раней ведалі пра тое ўдваіх – з маім сябрам, на вялікі жаль, нябожчыкам ужо. Вымочвалі кару бярозы ў дзёгці, а потым, як высыхала на сонцы, змешвалі з першымі вясновымі бярозавымі пупышкамі. Настойвалі на першаку, перад гэтым варылі дзесяць гадзінаў на павольным агні. Усё тое і надавала таямнічасць грунтоўкі…

І тыдзень, і два, і тры бязвылазна знаходзіўся ў майстэрні. За гэты час жонцы пазваніў два ці тры разы – не хацеў нават ісці дадому, каб не адрывацца, не страціць тое, што ўхапіў.

Скончыў, сіл заставалася толькі каб пазваніць яшчэ раз жонцы, але ўжо для таго, каб папрасіць яе прыйсці да мяне... Усе дні, як працаваў, не дакранаўся да французскага каньяку “Alcep’e”, што пакінуў Анатас. Але цяпер падумалася: не саграшу, калі прыму чарачку-дзве – вярну бадзёрасць.

Але каньяку не аказалася там, дзе пакінуў. Ляжала пустая бутэлька ў ракавіне пад кранам. Хто ж яго выпіў ці – выліў? А мо і выжлукціў сам, не помнячы тое... Дзівосы, дзівосы...

Зірнуў на шафу. На мяне глядзеў Ясь. Яніна ж адвярнулася – як саромелася чагосьці. Не дайшоў нават да канапы – тут жа паваліўся на падлогу, паспеўшы падкласці пад галаву нешта мяккае і невялікае. І праваліўся ў глыбокі і заслужаны сон.

Слаба потым ужо чуў, што рабілася наўкола: ці то рукі жонкі памагалі ўстаць з падлогі, ці то Яніна прыспела на дапамогу, а мо і Вераніка... Усе яны зліліся ў адзін твар, і ўсе сталі падобныя адна на адну, як блізняты... Толькі галасы былі нейкія розныя – ці то мужчынскія, ці то жаночыя... Нехта смяяўся…

Нехта дзынкаў ці то шкалікамі, ці то фужэрамі, а мо і зусім зазвінелі за акном капяжы... Здалося, што Мышук цёрся ласкава аб маю шчаку.

15

Іерусалім сустрэў мяне пяцідзесяціградуснай спякотай.

Святая зямля… Незвычайнае паветра, незвычайная атмасфера. На гэтай зямлі прагучала Нагорная пропаведзь Хрыста, упершыню свет пачуў: “Блажэнныя нямоглыя духам, бо іх ёсць Валадарства Нябеснае. Дабрашчасныя тыя, што плачуць, бо яны суцешацца. Дабрашчасныя лагодныя, бо яны ўспадкуюць зямлю. Дабрашчасныя тыя, хто жадае і прагне праўды, бо яны спатоляцца. Дабрашчасныя міласэрныя, бо яны памілаваныя будуць. Дабрашчасныя чыстыя сэрцам, бо яны Бога ўбачаць…” Словы сталі фундаментам Новага Запавету…

Ці не дзіва – каля чатырох гадзінаў у нябёсах, – і ты ступаеш нагой на Святую зямлю. Тэль-Авіў… Аэрапорт Бен Гурыён, аддалены троху ад горада…

Аўтобус вязе нас па пакручастых дарогах Ізраіля, у горны раён. Вышэй, вышэй… На адмеціну 350 метраў. На гэтай вышыні, над гладдзю мора, на схілах гор і размясціўся цэнтр трох сусветных рэлігій – іўдаізму, хрысціянства і мусульманства.

Вялікая Пятніца… У гэты дзень кожны хрысціянін перажывае і ўспамінае ратаўнічыя Пакуты Госпада нашага Іісуса Хрыста, прапускаючы праз сваё сэрца. У гэты дзень, раніцай, Ратаўніка і Збаўцу адвялі да рымскага пракуратара Понція Пілата… Па Іерусаліме

шлях усіх пачынаецца з той самай прэторыі, дзе Хрыстоса асудзілі на ўкрыжаванне. Чытаю грэчаскія словы “праітарыён” , і мяне пранізвае той час сваім болем. Мусіць, тое ж адчувалі ўсе, хто стаяў побач і далёка ад нас…

Надпіс на чатырох мовах, на расейскай (на нашай няма) – “Темница Христа”. То адсюль брала нараджэнне евангельскіх падзеяў, пра што сказана – “і воіны, сплёўшы вянец з церняў, усклалі Яму на галаву, і ў адзенне пурпуровае апранулі Яго і ўскліквалі: радуйся , Цар Іўдзейскі! І білі Яго па шчоках”. (Ян, 19: 2-3).

Палац Пілата… Адсюль і пачынаецца Хросны шлях Ратаўніка Свету. Ён так і завецца – Via Dolorosa – Шлях Жалобы. Вулачка вузенькая, проста дзіўна, як у яе ўціскваюцца тысячы людзей – паломнікаў самых розных хрысціянскіх канфесіяў. Усе спыняюцца там, дзе адбываліся падзеі. Прыпынкі тыя называюцца “Стаяннямі”. Першае Стаянне, дзе мы маўчым у глыбокай жалобе, – суд над Хрыстом у прэторыі, а апошняе – чатырнаццатае – Пахаванне Ісуса Хрыста.

А ў памяці гучаць словы: “І калі павялі Яго, то, забраўшы нейкага Сімана Кірынеяніна, які ішоў з поля, усклалі на яго крыж, каб нёс за Ісусам.

І ўслед за Ім ішло вялікае мноства народу і жанчын, якія рыдалі і галасілі па Ім. Абярнуўшыся да іх, Ісус сказаў: дочкі Ерусалімскія! Не плачце па мне, а плачце па сабе  і дзецях вашых…” (Лукаш, 23:26-28).

Вуліцы горада спрэс запоўненыя  працэсіямі хрысціянаў, якія ішлі з малітвамі і спевамі, неслі вялізныя крыжы – ішлі Жалобным Шляхам Ісуса.

Заўважыў, што следам за мною рухаўся, у шэрым касцюме і такім жа капелюшы, чалавек. Таксама, як і я, чытаў таблічкі. Але не накладаў на сябе крыж. Не даганяў мяне, але ж і не адставаў. Падалося, што падобны ён нечым да майго заказчыка. Толькі што яму тут рабіць?..

Храм Труны Гасподняй… Храм Уваскрасення Хрыстовага. Апошнія пяць Стаянняў ужо ў ім. Пабудаваны Храм на тым месцы, дзе распнулі (Галгофа), пахавалі, а потым уваскрос Ісус.

Сам будынак – гэта каркас, надбудова над вялікімі ўнутранымі цэрквамі, капліцамі, прыдзеламі, а цэнтральнай ужо, галоўнай часткай Храма з’яўляецца Кувулькія – капліца, у якой захоўваецца пячора Труны Гасподняй.

Царыца Алена яшчэ ў 335 годзе ўзвяла – пабудавала – гэты Храм. Яго некалькі разоў разбуралі – і цяперашні выгляд захаваўся такім, якім адбудавалі крыжаносцы ў 1149 годзе. Храм Труны Гасподняй падзелены паміж шасцю канфесіямі – грэка-праваслаўнай, каталіцкай, армянскай, копцкай, эфіопскай і сірыйскай.

Храм Труны Гасподняй… Тут можна стаяць і стаяць, слухаць і ўслухоўвацца ў стагоддзі, у пошум старонак даўніны… Не адвесці вачэй ад архітэктурнага комплекса! Душой зліваешся з часам, з галасамі, што гучаць і ў храме, і на вуліцы…Галгофа, пачынаючы з месца Укрыжавання, ратонду – архітэктурная канструкцыя з велічным купалам, на ім – Кувуклія, Кафалікон – саборны Храм. У ім знаходзіцца кафедра Патрыярхаў Іерусалімскай Праваслаўнай Царквы. Яшчэ – падземны Храм Знаходжання Жыватворнага Крыжа, Храм святой роўнаапостальскай Алены, некалькі кляштараў і прыдзелаў, у якіх моляцца людзі.

Нікуды не спяшаўся, таму хадзіў і гадзіну, і тры, і пяць… Адкрываю і адкрываю для сябе новыя мясціны і мясцінкі, і кожная з іх непасрэдна звязаная з Прысутнасцю Госпада.

Зусім блізка каля ўваходу прыкмячаю нішу – частку калоны, агароджанай шкляным купалам. Гэта тут, гэта тут са свістам апускаліся бізуны на пакутніцкае цела Хрыста… Міжволі кожны ўздрыгвае, уявіўшы, які боль цярпеў Збаўца. Пасля Кувukліі трапляем у залу, якую даўно не прыбіралі, на сценах старыя патрэсканыя абразы. Гэта ўласнасць сірыйскай царквы.

Заходжу з тытульнага боку Кувукліі. Невялічкі прыдзел – капліца, задняя частка выходзіць непасрэдна да самай Труны Гасподняй. Каплічка – уласнасць Храма Труны Гасподняй копцкай усходне-каталіцкай царквы. Копцкая, як і сірыйская царква, мае свайго патрыярха, якога мне пашчасціла ўбачыць, калі накіроўваўся ў Кувуклію. Бачыў, як яму прынеслі ўнушальных памераў крэсла – трон. Залезці на яго памагалі яму служыцелі, яны доўга валаводзіліся, каб як мае быць размясціць і самога патрыярха, і яго аблачэнне.

Ён, падалося мне, абыякава сузіраў наваколле, тлум паломнікаў, пра нешта думаў. Калі ж пільна паглядзеў на мяне, міжволі уздрыгнуў, адвёў позірк.

Хацелася прайсці ўнутр Кувукліі – да саркафага над Трунoй Гасподняй, – але тое аказалася амаль недасягальным жаданнем. Суткамі па чарзе праходзяць богаслужэнні каталіцкай, грэцкай

праваслаўнай царквы, пасля – армянскай. І прайсці туды можна толькі тады, калі не праходзяць службы…

Прыглядваюся: па баках капліцы – пілястры, а франтон аздоблены чатырма візантыйскімі калонамі. Над уваходам прыцягвае ўвагу мазаічная карціна – “Уваскрашэнне Хрыстовае”. Каб трапіць у капліцу, трэба сагнуцца, амаль укленчыць – вельмі нізкі ўваход, – але служыцель прыспешвае, нават запіхвае кожнага, каб даць магчымасць і другім людзям зайсці туды…

З заміраннем сэрца падыходжу да галоўнага месца Кувукліі – да сэрца Храма Труны Гасподняй. Кранаюся нясмела пліты, расколатай пасярэдзіне, на якой ляжала цела Хрыста, і адразу ж прымаю руку: пранізаў яе як бы электрычны ток, а сэрца адбівае гучныя ўдары: “Ён ляжаў на гэтай пліце, яна трымае яшчэ Яго цяпло і сілу. Адсюль і ўзнёсся, уваскрэснуўшы!..”

І не пайшоў я на сустрэчу, перанёс яе надалей… Бо чакаў прыходу суботы – Вялікай Суботы. У гэты дзень адбываецца Вялікая падзея – Сыходжанне Жыватворчага Агню. Толькі на праваслаўную Пасху – Вялікдзень – у суботу, паміж дванаццацю і чатырнаццацю гадзінамі дорыць нам Цуд і сведчанне Ягонай Любові: Ён дасылае нам Агонь, які завецца Жыватворным, Дабраўплыўным, Нязгасным, Сьвятым. Нават – Пяшчотным. Бо ён у першыя хвіліны зусім не апякае рукі, наадварот, пяшчотна ахінае іх і дорыць шчасце, – агонь замазапальваецца ў свечках, што трымаюць людзі, і імгненна разгараецца па ўсім Храме. А потым – па старым горадзе Іерусаліма, перакатваецца за сцены муроў і асвятляе ўсю Святую Зямлю, а потым – Увесь Свет…

І адбылося тое! Чатырнаццаць гадзінаў і сем хвілінаў! Жыватворны Агонь сышоў з нябёсаў і імкліва пабег ад Храма Труны Гасподнай. Як сымбаль жыцця, Боскай апекі над чалавекам. Недзе ў пракоркаў сказана, што калі аднойчы не загарыцца, не ўспыхне той Агонь – то тое і будзе азначаць Канец Свету… Мы бачым, як з Яфскай брамы выскачыў радасны чалавек з пукам свечак, якія палалі незямным Жыватворным Агнём і перадаў яго людзям плошчы… Выбух радасці, шчаслівых воклічаў і плачу, смеху і крыку.

…Віфлеем. Храм Нараджэння Ісуса Хрыста. Гэта самы старажытны Храм у свеце. Адзіны Храм, які мае той выгляд, якім ён быў у чацвёртым стагоддзі падчас яго стваральніцы – цары-

цы Алены. А цэнтрам паломніцтва служыць Святы Вярцеп, – вядомая Віфлеемская Зорка, месца, дзе нарадзіўся Іісус.

Далей – Назарэт. Выглядае велічна, унушальна, мадэрновы Храм Дабравешчання. Царква Архангела Гаўрыіла і Святая Крыніца Дзевы Марыі… Кана Галілейская. Тут Хрыстос здзівіў вясельнікаў, калі ваду ператварыў у віно. То і быў пакладзены тады пачатак Цудаў…

Як жа абмінуць гару Фавор? Іўдзеі завуць яе пупком – “Пупок”. Яна і сапраўды нагадвае нечым пуп, бо вылучаецца сваёй прыгажосцю і адметнасцю між іншых гор Галілеі. Сапраўды – “пуп Зямлі”. Гэта тут, на гэтым самым месцы і адбылося Праўвасабленне (Перамяненне) Хрыста, і тут Пётра, адданы вучань, усклікнуў радасна: “Госпадзе! Добра нам тут быць; калі хочаш, зробім тут тры шатры – Табе адзін, і Маісею адзін, і адзін – Ілію. … і голас з воблака прамовіў: “Гэта ёсць Сын Мой Узлюблены, Якога Я ўпадабаў; Яго слухайце”.

А як не пакупацца ў рэчцы Іярдан? Ды ў тым месцы, дзе некалі Ян Хрысціцель хрысціў Іісуса. Вада цёплая, белая, дабраўплыўная, жыватворная…

– Вы ведаеце, як называюць яшчэ Святую Зямлю? – падышоў да мяне негр.

– Не чуў, – не сказаў яму чамусьці праўды.– Як?

– Пятым Евангеллем. Як сімвалічна, праўда?

…Дарога, якая вяла на ўзвышша, праходзіла праз мусульманскія могілкі, – па самай іх сярэдзіне. Чуў, што іудзеі не мелі вялікага жадання паказвацца ў гэтай частцы горада, трымаліся бліжэй да сваіх святыняў.

Мяне перапыняюць незнаёмыя людзі, прапаноўваюць купіць у іх скураныя пінжакі, арабскія хусціны. Адмахваюся ад іх. Як ні дзіўна, але вуліца “Шлях смутку” – самая ажыўленая і гаваркая, гандлёвая вуліца старога горада.

Стала ціха і цёмна. Нечакана дарогу перагарадзілі высокія вароты з веснічкамі. Хацелася адчыніць іх, але ўспомнілася напісанае: “Ніводнаму хрысціяніну не дазваляецца пераступаць агароджу, якая вызначае Мячэць Амара...”

Не дакрануўся да веснічак.

Прайшоўшы яшчэ з крокаў трыста, апынуўся нечакана зусім у іншым горадзе. Тут не чулася воклічаў і не было таўхатні, не

дражніў пах смажанага мяса. Дарагія машыны і чыста апранутыя людзі, неонавыя рэкламы, вялізныя люстраныя вокны прэстыжных банкаў...

Ведаў, што іудзеі ў старым горадзе з’явіліся толькі ў 1968-м годзе – калі шасцідзённая араба-іудзейская вайна вярнула іх ва Ўсходні Іерусалім.

Знайшоў зацішнае месца ў цяньку, прысеў на лаўку. Прыхінуўся спінай да халоднай сцяны, прымружыў вочы. Акурат як у сваім гомельскім парку...

Горад жыў сваім жыццём. Своеасаблівы свяшчэнны горад.

Ці адчуваў ён тое сам? Мама вядзе за руку дачушку, нешта расказвае ёй. Таксісіт спыніў машыну і чакае, калі да яго падыйдуць кліенты.

Невысокага росту чалавек, у капелюшы з шырокімі брылямі, з накручанымі на вушы пейсамі, імкнуўся хутчэй заняць вольнае месца побач са мной. У руцэ – кніга Торы.

– Шаноўны, вы не падкажаце, як прайсці да Храма Хрыста?

Я насцярожыўся. Але вочы не расплюшчыў, чакаў, што адкажа абарыген.

– Вы ў мяне пытаецеся пра Хрыста? Вой-вой, хіба ж можна пытацца пра гэта ў юдэйскім квартале? Хіба ж вы не ведаеце, што мы толькі прызнаем аднаго Бога...

– Ведаю, але ж я пытаюся пра пабудову, – сумеўся, мусіць, турыст, якога занесла ў габрэйскі квартал, – архітэктурнае збудаванне...

Бакавым зрокам убачыў таго, у шэрым касцюме, які ішоў следам за мной па Дарозе Пакутаў. Ён сядзеў скраёчку, прыслухоўваўся таксама, як і я, да размовы.

– Як казала мая Сара, мы, іудзеі, маленькі народ, таму і вера нашая даступная не ўсім. Мы ведаем, што Бог адзіны, і імя яго – Іягова. А прарокаў было шмат. І Іісус Назаранін, і прарок Магамет, і Ілія, Ісая, Іерамея, Юда... Вы кажаце, што мы былі выгнаныя са сваёй зямлі і дзве тысячы гадоў былі рассеяныя па свеце толькі за тое, што распнулі Хрыста? Мы – народ, абраны Богам, і мы для таго на гэтай зямлі, каб умацоўваць веру. Але не наша бяда, што аднойчы мы забыліся пра тое і кінуліся ў гандаль і камерцыю.

– Але ж я... – хацеў нешта сказаць турыст, але пажылы хасід не пажадаў яго слухаць, даводзіў сваю думку да канца: – Можа

яно сталася б і па-іншаму, але Іешуа здзейсніў недаравальны учынак. Ён сябе назваў Месіяй, сцвярджаў, што пасланы на зямлю Самім Богам... Нельга было так казаць уголас, нельга... Равін Іешуа як усё роўна прысуд вынес самому сабе. Вось з-за гэтага ўсё і адбылося... Вы мне даруйце, але мне пара, спяшаюся...

І ён пашыбаваў туды, куды імкнуліся ў суботу ўсе габрэі – да Сцяны Плачу. А турыст сядзеў, абдумваў тыя словы, што сказаў яму іудзей. Глядзеў некуды ўглыб зямлі, маўчаў.

Чалавека ў шэрым капелюшы і касцюме, які толькі што быў тут, не ўбачыў. Не прыкмеціў, калі ён знік.Пайшоў у той бок, куды падаўся хасід.

Сцяна складзена з цяжкіх каменных плітаў даўжынёй у трыццаць метраў. Яшчэ яе называюць Катэль. Гэта ўсё, што засталося ад двух Іерусалімскіх Храмаў. Невысокі плот аддзяляе Катэль ад плошчы. Месца для мужчынаў, трохі меней – для жанчын. Перад уваходам, у каробцы, гара картонных шапачак. Калі ў каго не будзе яе на галаве, да Сцяны не пусцяць.

Гнятучая цішыня. Ніхто не размаўляе, не фатаграфуе...

Я непрыкметна выйшаў і падняўся на невялікую пляцоўку каля самай вяршыні. Ніводнага чалавека не ўбачыў на Галгофе. Толькі некалькі лампад гарэлі роўна і спакойна. Водбліскі ад іх скакалі па мармуровай нішы, якая прыкрывала тое святое месца, дзе стаяў некалі Крыж...

Мне захацелася прысесці, і я адшукаў сабе месца – на лавачцы. Гулка білася ў грудзях сэрца. Хто сказаў, што ўсе дарогі вядуць у Рым? Усе дарогі свету сыходзяцца тут, на Галгофе. І сэрцы тут б'юцца сугучна Сусвету.

Неба над вечным горадам Іерусалімам пачынала святлець. Зоркі раставалі, быццам ледзяшы пад сакавіцкім сонцам.

Субота – значыць, шабат. Нельга працаваць. Шэсць дзён Гасподзь ствараў свет, а на сёмы, у суботу, прылёг адпачыць. І тады ж загадаў Майсею і сынам Ізрайлевым у гэты дзень не працаваць... Нельга званіць па тэлефоне, ездзіць на машынах, фатаграфаваць, курыць, запальваць агонь, абдымацца, цалавацца, гатаваць страву...

Стаяла выдатнае надвор'е, але на вуліцах не сустрэўся ніводзін чалавек. Усюды зашторaныя вокны.

Недзе выла паліцэйская сірэна – працавалі ахоўнікі парадку з дазволу галоўнага равіна.

На арабскай аўтастанцыі ажыўлена і тлумна. Там кіпела жыццё. Гэта, бадай, адзінае месца ў горадзе, дзе не прытрымліваліся шабату. Непадалёк адсюль – Бейт-Лахм. Так цяпер называецца родны горад Хрыста – Віфлеем.

Праз нейкі час перада мною вырас Храм Раства Хрыстова. Пятнаццаць мармуровых прыступак. Уніз. Я апусціўся ў падземную царкву. Гэта была вярцеп-пячора, куды ў старажытнасці пастухі на зіму заганялі авечак. А во і срэбная зорка з чатырнаццаццю промнямі і рад срэбных лампадаў. Наклаў крыж, дакрануўся губамі да каменя. Нехта шаптаў мне на вуха: “Тут 1999 год таму нарадзіўся Ісус Хрыстос...”

Язэп, як сказана ў Бібліі, захутаўшы ў пялюшкі, перанёс Немаўля ў маленькую пячору і паклаў у яслі. Цяпер, акурат над тым месцам, гарэла свечка і ціха маліўся паломнік з нашай краіны... Пра нешта пытаўся праваслаўны негр у грэцкага святара...

Стараючыся крочыць бязгучна, накіраваўся ў пячору. Там пахаваныя Віфлеемскія немаўляты, якіх пазбавіў жыцця цар Ірад. Стаўшы на калені, прачытаў малітву за іх спакойны сон.

Толькі тады выйшаў на сонечную пляцоўку.

Здавалася, што ішоў не па зямлі, а слізгаў, не дакранаючыся да яе… І толькі метраў за трыста ад паляны адчуў цвердзь пад нагамі. Па небе плылі белыя воблакі, у якіх схавалася сонца. Перад тым, як пакінуць святыя мясціны, узышоў на маслічную гару Геліён. З гары добра праглядваецца старажытны Іерусалім, правільней, тое, што ад яго засталося. Два тысячагоддзі патрабавалася гораду, каб перакачаваць на новае месца. Так захацеў Гасподзь. Ваяры халіфата калісьці спалілі горад да тла, не зліtаваўся над ім і меч крыжаносцаў, перапала і ад арабаізраільскіх войнаў… Горад непрыкметна адсоўваўся ад папялішчаў і пажарышчаў, адраджаючыся ўжо на новым месцы…

Мне падалося, што ў паветры пракаціўся, быццам раскаты грому, вокліч: “Ойча Мой! Калі можна, ды абміне Мяне чаша гэтая!..”

А потым пачуўся з прысвістам храп – спалі вучні Хрыста, пакінуўшы Яго аднаго… І ўжо рухаліся з факеламі і дзідамі вартавыя, старэйшыны ў доўгіх апранахах, разам з імі жабракі і ўбогія… Адзін з дванаццаці абдымае Яго, цалуе, шэпча: “Радуйся, Раві!..”

Не азіраючыся, павольна спусціўся па сцяжыне, выкладзенай белым каменем, пакінуў пазаду сябе Кедравы гай і Труну Божай Маці…

Мне трэба спяшацца на сустрэчу з Абрахамам...
І я са шкадаваннем пакінуў святое месца.

16

– Я чакаў вас заўтра, – сустрэў мяне Абрахам Яхуда, праводзячы ў цень, ратуючы ад спапяляючага сонца.

– А я пастараўся раней справіцца з клопатамі... З паломнікамі знаёміўся са Святой Зямлёй.

– Зразумела. Як даляцелі?

– Дзякую, Абрахам, нічога, нармалёва.

Мы прайшлі глухую і вузкую вулачку, павярнулі налева. Ніхто не сустрэўся на нашым шляху. Ён спыніўся, агледзеўся, потым піхнуў дверы, што зліваліся з шэрай сцяной, прапусціў мяне наперад.

Мы выйшлі на пrасторны дворык, спрэс зялёны, і мне падалося, што апынуліся на другой планеце. Тут адчувалася прахалода. Абрахам, адчыніўшы дзверцы невялічкай лядоўні, дастаў з ніжняй паліцы пластмасавую бутэльку з газіраванай мінеральнай вадой.

Гэтак жа моўчкі наліў яе ў шклянкі – мне і сабе.

Сеў за столік насупраць, адпіў некалькі глыткоў:

– Дык вы, Антон, цікавіцеся Ньютанам? Ісаакам Ньютанам?

– Так, Абрахам. Хачу зірнуць на яго даследванні. Не даюць яны мне спакою.

Яхуда зноў замоўк, цяпер ужо глядзеў на паверхню паліраванага стала, абдумваў маю просьбу. Ён даў згоду яшчэ раней, калі я яму напісаў ліст. Потым і па тэлефоне адказаў, што зможа мне выдзяліць нейкі час і правядзе ў фонд Габрэйскай нацыянальнай бібліятэкі Іерусаліма.

– Так, сапраўды Ісаак Ньютан некалькі дзясяткаў гадоў прысвяціў вывучэнню Бібліі. Уся бяда ў тым, што ён кіраваўся не добрымі намерамі, дабіўшыся дабраслаўлення на гэта Госпада, зусім не. Ён не паслухаўся перасцярог прарокаў пра тое, што нельга адносіцца да Кнігі Кнігаў са злым сэрцам... Пра нашую будучыню, будучыню Чалавецтва, не ведае ніхто. Толькі адзін Бог. Ісаак хацеў паспрачацца з Богам...

Уважліва слухаў яго. Не так дакладна, папярэдне нешта ведаючы, але ніяк не мог уявіць сабе вобраз Ісаака...

–Усё сваё жыццё Ньютан прысвяціў пошуку зашыфраваных пасланняў найвышэйшых сілаў, якія быццам бы ведалі скканчэнне

жыцця на зямлі, – а калі дакладней, канец свету... Ён не вывучаў усю Біблію. Спыніўся толькі на адным прароку – Даніілу, – са Старога Запавету.

– Чаму менавіта на ім, паважаны Абрахам?

Мой субяседнік кісла ўсміхнуўся.

– Ньютан быў цвёрда перакананы, што Бог абраў адзінага з прарокаў, праз якога і паведаў сваё пасланне чалавецтву пра будучае жыццё ці заканчэнне яго. Геніяльны матэматык і астраном шчыра верыў, што ў кожным слове прарока закладзены глыбокі і тайны сэнс. Ён вёў жыццё адзінотніка. Быў нелюдзімы... Дзень і ноч займаўся акультнымі навукамі. Злы геній прадаў сваю душу д’яблу. І які такі ганарар той выдзеліў Ньютану, ніхто не ведае. Напісаў да тысячы старонак. Трэба аддаць належнае, у яго была светлая галава і ўчэпісты розум. Але не той дарогай пайшоў, не на тое патраціў талент вучонага. Яму вельмі карцела вылічыць дакладную дату Апакаліпсіса, хаця ён ведаў, што тая тайна належыць толькі Творцу...

– І пра што ён даведаўся? Гэта – тайна?

– Ды не. Дакладная дата канца свету, па яго разліках, – у пачатку шасцідзясятага года другога тысячагоддзя.

– Нават так? Можа яшчэ і дзень указаў? – мне ўжо хацелася блюзнерыць.

– Не. Толькі год..

Абрахам Яхуда адпіў некалькі глыткоў, абняў пальцамі шклянку.

– А як папалі, Абрахам, яго запісы і даследванні да вас?

– О, гэта доўгая гісторыя. Можна сказаць, дэтэктыўная... Як вядома, Ньютан памёр у 1727 годзе. Яго рукапісы больш як два стагоддзі захоўваліся ў тайным куфэрку ў доме графа Портсмундскага. Наследнікі графа знайшлі іх. Знайшлі, але не прыдалі асаблівага значэння. Прадалі іх на аўкцыёне “Сотбіс”. А потым яны апынуліся ў мяне. На жаль, не ўсе тэксты, толькі большая частка. Я іх аддаў у бібліятэку. З рукапісаў зрабілі мікрафільмы, перадалі вучоным. Тыя раздзяліліся на тры групы. Поспех спадарожнічаў канадскім даследчыкам. Прароцтвы прачытаў канадзец – прафесар Галіфакскага ўніверсітэта Стывен Снобелен.

– І далей…..

– Ён сведчыў, што запісы характарызавалі Ісаака Ньютана як цёмнага і жорсткага ерэтыка. Калі б у той час Царква даведалася пра яго даследванні, то адправілі б на касцёр...

Абрахам замоўк, чакаў, пэўна, новых пытанняў ці ўдакладненняў. Я ж абдумваў пачутае, і мне было цяжка паверыць у тое, што Ньютан быў чарнакніжнікам.

– Неверагодна! – усклікнуў я.

– Так, але гэта неаспрэчны факт.

– А як жа тады вядомы закон сусветнага прыцягнення, які праславіў яго на ўвесь свет?..

Абрахам зноў заўсміхаўся, заківаў галавой:

– Так, спадар Антон, гэта загадка. Яна ў тым, што ён не імкнуўся да адкрыцця, а, наадварот, уцякаў ад яго. Не разумееш? Ён гэтую тэорыю пачаў распрацоўваць, зыходзячы з алхімічнай канцэпцыі аб усеагульным прыцягненні элементаў аднаго да другога. Хаця гэта і не адзіны эпізод у навуцы, калі даследчык-вучоны, адштурхоўваючыся ад няправільных і абсурдных прадвызначэнняў, прыходзіў да правільных, лагічных вывадаў. У свой жа час браты Мангальф'е лічылі, што паветраны шар лётае толькі з-за таго, што ў дыме ўтрымліваюцца некаторыя лятучыя элементы. То пазней ужо адкрылася, што пад'ёмную сілу ствараюць цёплае паветра і лёгкія газы – вадарод ці гелій. Так, Ісаак Ньютан шырока вядомы і як стваральнік канцэпцыі абсалютнай прасторы і часу. Але мала хто ведае, што зыходзіў ён зноў жа з тэалагічных уяўленняў. Тут дзіўнае хіба тое, што ён, Ньютан, верыў: абсалютная прастора і ёсць месцазнаходжанне Бога, як форма існавання Яго Усяленскага Духу. А бясконцы час з'яўляецца ні чым іншым, як працягласцю Божай прысутнасці.

Мне падалося, што нехта стаіўся за маёй спіной. Я азірнуўся – нікога побач не ўбачыў.

– Ён прысутнічае тут. Заўсёды, – патлумачыў мне маю насцярожанасць габрэйскі даследчык. – Ахоўвае свае запісы, не хоча, каб з імі знаёміліся іншыя...

У мяне па спіне прабеглі мурашы. Пра гэта Абрахам так спакойна гаворыць? Прывык да гэтага?

– Калі я, спадар Антон, даследаваў яго запісы, то мяне здзівіла адна дужа цікавая дэталька. Матэматык і фізік Ньютан абгрунтаваў сваё прароцтва пра канец свету, праштудзіраваўшы толькі, як я казаў, адну кнігу – прарока Даніїла. Ён знайшоў у тэксце спасылкі на вызначальныя часовыя перыяды. Адзін з іх раўняецца 1260 гадам. Ён і вылічыў яго пачатак. На яго думку, гэты пе-

рыяд пачаўся ў 800 годзе ад Нараджэння Хрыстова. Пагэтаму, склаўшы дзве велічыні, і атрымаем 2060 год...

Сядзелі і гутарылі мы з Абрахамам больш як гадзіну...

– Пара, – нечакана прамовіў Яхуда і першым падняўся з крэсла. – У нашым распараджэнні яшчэ адна гадзіна. Цяпер там, у бібліятэцы, нікога няма. Ніхто не будзе перашкаджаць...

Абрахам ішоў, няспешна перастаўляючы ногі. Белае адзенне разляталася на ім, – быў падобны да воблака, якое гнаў вецер...

Мы прайшлі праз дворык. Абрахам прачыніў драўляныя дзверы, і зайшлі ў памяшканне. Калі за мною зачыніліся дзверы, вочы не адразу прывыклі да цемры. Счакаўшы, калі я агойтаюся, мой праваднік спыніўся. А потым паклікаў кіўком галавы, каб лучыў следам за ім.

Прайшлі адзін калідор, потым другі, трэці... З акон струменілася натуральнае святло. Падышлі да высокіх дубовых, абітых бліскучай меддзю, дзвярэй.

“Тут, – паказаў Абрахам, прымружыўшы вочы, – тут знаходзіцца галоўнае багацце, і тут тыя рукапісы...”

Бязгучна адчыніліся дзверы, прапусцілі нас у прахалоднае памяшканне.

– Хто? – пачуўся незадаволены глухі голас.

– Тыя, хто цікавіцца вашымі працамі, сэр Ньютан, – адказаў Яхуда. – Гэта прыбыў да нас з Ліцвініі, з Палесся – Антон Клімовіч.

– Вы ведаеце, хто я? – звярнуўся да мяне ўжо голас.

– Ведаю. Вы нарадзіліся ў мястэчку Вулсторп, што знаходзіцца ў графстве Лінкальншыр. Англійскі механік, астраном, матэматык і фізік. Прэзідэнт і сябра Лонданскага каралеўскага таварыства, сябра Парыжскай акадэміі навук. Маеце дыплом аб сканчэнні Трыніці-коледж Кембрыджскага ўніверсітэта. Вы – дырэктар Лонданскага Манетнага двара...

Чалавек з доўгімі сівымі валасамі і вострым ястрабіным носам, задаволіўшыся адказам, ледзь заўважна схіліў галаву, як быццам вітаў нас, дазваляючы мне пазнаёміцца з яго працамі... У яго за дзвярным праёмам знаходзіўся яшчэ адзін чалавек – у шэрым касцюме, у шэрым капелюшы. Той, што крочыў следам? Нешта часта ён стаў пападацца на мае вочы, – ці да дабра тое?

Ньютан, каб не замінаць нам, адышоў да таго, хто, мусіць, чакаў яго. І зноў думка апякла мяне: “Няўжо гэта ён, той, які заказаў партрэт?”

– Заўсёды, калі прыходжу сюды, абавязкова бяру ў яго дазвол, – патлумачыў праваднік. – Ён і жыве тут. Усё не можа развітацца са сваімі запісамі... Цяпер вы можаце глядзець і вывучаць іх... У вашым распараджэнні гадзіна. Вось стол, паперы... Як скончыце працу, паклічце мяне. Вось тут кнопка выкліку.

Я кіўнуў галавой.

Як толькі Яхуда пакінуў мяне аднаго, я з вялікім хваляваннем уперыўся вачыма ў першую пажоўклую старонку.

Пахаладзела ўсярэдзіне.

*“Я, Ісаак Ньютан, матэматык і астраном, сведчу пра тое, што...”*

Праз хвіліну я ўжо нічога не адчуваў – аркушы паперы, з мудрагелістымі літарамі інтэпрэтатара Бібліі паглынулі мяне…

Перада мною старонка, на якой прыведзенае апошняе бачанне прарока Данііла. Спаміж кожным радком, як макавыя зярняткі, тлумачэнні і вывады. Іх цяжка разабраць, але дакапацца да сутнасці магчыма. Спачатку прачытаў біблейскі тэкст (Кніга прарока Данііла, 12; 5-13):

“Тады я, Данііл, паглядзеў, і вось, стаяць два другія, адзін па гэты бок ракі, другі па той бок ракі. І адзін сказаў мужу ў ільняной вопратцы, які стаяў над водамі ракі: “Калі будзе канец гэтых дзівосных здарэнняў?”

І пачуў я, як муж у ільняной вопратцы, які быў над водамі ракі, падняўшы правую і левую руку да неба, прысягнуў Жывым навекі, што да канца часу і часоў і паўчасу і пасля поўнага паламання сілы святога народу ўсё гэта здзейсніцца.

Я чуў гэта, але не зразумеў і таму сказаў: “Гаспадару мой! Што ж пасля гэтага будзе?”

І адказаў ён: “Ідзі, Данііле; бо захаваны і запячатаны словы гэтыя да апошняга часу. Многія ачысцяцца, адбеляцца і ператоплены будуць у *спакушэнні;* несправядлівыя будуць несправядлівымі, і не зразумее гэтага ніхто з несправядлівых, а мудрыя зразумеюць.

З часу, калі будзе прыпынена штодзённая ахвяра і будзе пастаўлена гідота запусценьня, пройдзе тысяча дзвесце дзевяноста дзён. Шчасны той, хто чакае і дасягне тысячы трохсот трыццаць пяці дзён. А ты ідзі да твайго канца, і супакоішся і паўстанеш на атрыманьне тваёй долі ў канцы дзён”.

Прыйшлося браць павелічальнае шкло, каб разгледзець дрыготкія літаркі вучонага…

.............................................

Яхуда праводзіў мяне да аэрапорта.

– Дзякую, Абрахам, я задаволіў сваю цікаўнасць, хаця і не меў на тое права. Не з-за таго, што Ньютан сам не хацеў адкрываць нам сваю тайну, а з-за таго, што мы не павінны ведаць пра яго вывады…

– Так, Антон, не павінны... Гэта – грэх... Але што паробіш, калі ў розум чалавека ўсяляецца Люцыфер? Не адзін толькі Ньютан браўся за прадказанне канца свету, датаў разбуральных войнаў і глабальных эпідэмій. Пад занавес дваццатага стагоддзя Настрадамус прарочыў нешта страшнае і катастрафічнае... Мадэльер Пака Рабан папярэдзіў, што Эйфелева вежа спыніць сваё існаванне – на яе ўпадзе касмічная расійская арбітальная станцыя "Мір". Так што чалавецтва перажыве і дату, дасць Бог, вызначаную вялікім фізікам... Але ўсё можа быць …

– Не дай, Божа.

– Але няварта завершыць нашую размову пра Ньютана на гэтай, я сказаў бы несправядлівай у адносінах да яго, ноце.

– Цалкам згодзен.

– Ісаак Ньютан – вялікі вучоны-матэматык, астраном, фізік, і, што меней за ўсё вядома, хрысціянскі багаслоў, глыбока веруючы чалавек. У адным са сваіх трактатаў па хрысціянскім багаслоўі пра стварэнне свету сцвярджаў: "У паветранай прасторы маюцца ("нябесная цвердзь" – "ракія") мільярды зорак, і за гэтым матэрыяльным светам існуе духоўны нематэрыяльны свет, у якім, як веруем мы, хрысціяне, душы веруючых будуць вечна жыць са сваім Госпадам".

– І ад чаго тады залежыць нашае жыццё, шаноўны Абрахам?

– Ад самога чалавека. І ад сонца. У сонца ёсць свая "топка" – качагарка, у якую для падтрымання агню неабходна падкідваць і падкідваць "дровы". А дровы гэтыя – дабрыня і чыстыя помыслы чалавека. Чым будзе чысцейшае чалавецтва, вызваліўшыся ад зла і грахоў, тым больш энергіі атрымае нябеснае свяціла, і тым даўжэй яно будзе саграваць людзей... Калі ж мы заблытаемся ў грахах, то і печ будзе пустой – тады нам нічым нельга будзе падтрымліваць Агонь Жыцця.

Гэта было проста і зразумела.

Але толькі я хацеў выказаць згоду, як Абрахам загаварыў пра тое, але з другога канца.

– Але канец Свету, канец Агню, Антон, калі-небудзь ды наступіць. Нашае свяціла, на жаль, не вечнае, і яно непазбежна патухне. Тухнуць тысячы зорак у Сусвеце. Сонца, як сцвярджаюць вучоныя, можа выкарыстаць свой рэсурс толькі праз... пяць мільёнаў гадоў... Чалавек жа можа прадоўжыць гэты тэрмін на мільярды гадоў... Пры ўмове, калі чалавек будзе лёгка і з радасцю выконваць дзесяць запаветаў Бога – асновы бяссмерця Чалавека... Тут ужо да месца можна і ўжыць значэнне слова "грыдпіс", пра што вы маеце нейкае ўяўленне. Ваш Хурс не падманваў вас, ён дакапаўся да некаторых тайнаў быцця. Але толькі – да некаторых. Яму яшчэ трэба шмат папрацаваць, каб дакапацца да ісціны.

– Паважаны Абрахам! Вы сказалі пра "чарговае быццё". Што гэта азначае?

– Чалавецтва перажыло чытыры Апакаліпсісы – чатыры канцы свету. Пры Сусветным патопе зямная вось зрушылася на шэсцьдзесят градусаў – адну трацціну паўакружнасці Зямлі. А акружнасць зямлі – сорак тысячаў кіламетраў. Лічылася, раней Паўночным полюсам была гара Кайлас. Антлатыда загінула ад таго, што вось зямлі ссунулася на 4 142,06 міляў – 6666 кіламетраў. На такую адлегласць і зрушыўся Паўночны полюс. Пры пятым Апакаліпсісе, пра які мы гаварылі, вось зноў ссунецца, але ўжо на 9999 кіламетраў… Але гэта пагражае вечнай мерзлатой.

Я нахмурыўся, уявіўшы на імгненне небяспеку, якая пагражала чалавецтву.

– Дарагі Антоне! Я вам нічога не казаў. Я не павінен быў тое казаць вам. Гэта толькі маё ўяўленне, прагнозы, якія могуць быць і памылковымі. Дай Бог, каб я памыліўся!

– Дай Бог! – пагадзіўся і я.

– І вось што яшчэ. Аднойчы павінна здзейсніцца тое, пра што сказана ў Евангеллі: "У які час не думаеце, прыйдзе Сын Чалавечы".

На знак згоды кіўнуў галавой.

– Але многіх усё роўна чамусьці цікавіць: калі ж надыдзе той Судны дзень, і нічога не робяць для таго, каб з'явіцца на той Суд чыстымі…

На твары Абрахама з'явілася ледзь прыкметная ўсмешка:

– Яшчэ апосталаў хвалявала пытанне пра Апакаліпсіс. Калі Ісус Хрыстос падчас свайго зямнога жыцця знаходзіўся ў плоці сярод людзей, Ён прадказваў, што разбурыцца Іерусалім. Апос-

талаў тое вельмі занепакоіла, і яны пачалі нават сумнявацца ў прароцтве Збаўцы: існаванне наймагутнейшага храма Іерусаліма ім здавалася настолькі непарушным, непадуладным часу. То ж была цвярдыня іх веры. Вагаліся апосталы, а потым і пацікавіліся ў Божага Настаўніка (Мф. 24, 3):

– Скажы, ці праўду Ты нам сказаў, ці мы недачулі: калі тое будзе і як нам даведацца пра Тваё прышэсце?

– “Не ваш клопат ведаць часы і тэрміны, якія Бацька паклаў у Сваёй уладзе, – адказаў ім Збаўца. – Як даведацца, калі ўсё адбудзецца? Калі я прыйду зноў і калі наступіць завяршэнне сусветнай гісторыі чалавецтва? Бадзёрымі будзьце на ўсялякі час і маліцеся, ды ўдасца вам пазбегнуць усіх будучых бедстваў і стаць перад Сынам Чалавечым…”

Такія словы прамовіў Ісус Хрыстос перад сваім усяслаўным Узнясеннем на неба, калі ў Яго запыталіся вучні аб прыходзе апошняга часу. Тое ўжо ў Дзяяннях.

І пра тое казаў блажэнны Аўгусцін у той жа кнізе: *“Дарэмна мы стараемся, жывучы яшчэ ў гэтым свеце, вылічваць і вызначаць леты, калі з вуснаў самой Ісціны чуем, што “не нам разумець тое”…*

Каб яшчэ глыбей спасцігнуць гэтую тэму, Абрахам параіў мне звярнуцца да Евангелля ад Мацвея (24: 2). Там я прачытаў: “Ён жа сказаў ім: ці бачыце ўсё гэта? Праўду кажу вам: не застанецца тут каменя на камені: усё будзе разбурана. Неба і зямля мінуць, словы ж Мае не мінуць… пра дзень той і час ніхто не ведае, ні анёлы нябесныя, ні Сын, але адзін толькі Бацька. Бо як дні Ноя, так будзе Прышэсце Сына Чалавечага…”

А ў Марка (13) вычытаў: “Глядзіце, чувайце і маліцеся; бо ня ведаеце, калі прыйдзе той час… Дык чувайце ж, бо ня ведаеце, калі прыйдзе гаспадар дома: увечары, ці апоўначы, ці пры пеўнях, ці нараніцу, каб, прыйшоўшы зьнянацку, не заспеў вас у сне…”

А апостал Лукаш (17: 20-21) апавядае пра тое, што адказаў Настаўнік фарысеям, калі яны спыталі, калі прыйдзе Валадарства Божае: “Ня прыйдзе Валадарства Божае ўвачавідкі. І не скажуць: вось яно тут, альбо: вось, там, – бо яно, Валадарства Божае, сярод вас…”

Далей Ён звяртаецца да вучняў сваіх і кажа: “Прыйдуць дні, калі захочаце ўбачыць толькі адзін дзень Сына Чалавечага – і не ўбачыце…”

А ў Апакаліпсісе – Адкрыцці Яна Багаслова – глыбока і прарочча распісана жыццё чалавека ці не да апошняга дня. Але не прыйшоў яшчэ той час для поўнага разумення прарочых слоў Ратавальніка…

Недасведчаны можа падумаць пра тое, што Настаўнік не даў ніякіх указанняў і арыенціраў для праваслаўных. Але тое не так. Ён не выстаўляў іх напаказ, не выкладваў іх на паверхню, каб яны былі на відавоку. Ён уклаў у рукі людзей компас, паказаў шлях, але папярэдзіў, што Царква Хрыста будзе цярпець пакутніцкія і скрушныя падарожжы…

Разбурэнне Іерусаліскага храма адбылося, і тое як бы стала велічнасцю заканчэння старога часу Старога Запавету і пачаткам Новага часу, новай эпохі, якая і завершыць зямную эвалюцыю.

Я і сам, падоўгу прападаючы ў бібліятэках і сховішчах у розных краінах, адкрываў для сябе старонкі гісторыкаў сівой даўніны, натыкаўся на прадказанні Ісуса Хрыста пра Яго другое прышэсце, пра тое ж разбурэнне Іерусаліма і яго Галоўнага храма. Прыйшлося звярнуцца да прац Язэпа Флавія, іўдзейскага гісторыка – і ў яго прачытаў фразу пра тое, што ў канцы сямідзясятых гадоў першага стагоддзя іудзеі ўздымуць закалот супраць рымскіх правіцеляў. Гэта ж трэба было так давесці да адчаю іудзейскі народ, каб ён, не вытрымаўшы здзекаў і прыніжэнняў, пайшоў на крайнія меры. Рымскія намеснікі не шкадавалі ні дарослых, ні дзяцей, – жорстка падаўлялі нават кволыя расточкі іншадумства. Народ верыў, што такія здзекі вечна існаваць не могуць. Нянавісць да Рыму ўзрастала з кожным днём. Згодна з прадказаннямі пракрокаў, павінна было наступіць прышэсце Месіі – тэрмін прыйшоў ужо. Але, не ўбачыўшы абяцанага, перажыўшы адчай, іудзеі паўсталі. Захапілі Рымскую крэпасць і перарэзалі ўвесь гарнізон. Помста не прымусіла сябе доўга чакаць – пачаліся масавыя пагромы габрэяў у Кесарыі, Сірыі, Малой Азіі – і па ўсёй Палесціне.

Вялікі закалот нараджаў яшчэ большыя пагромы і помсты. Цэсцій Галій паспрабаваў узяць штурмам іудзеяў, якія заселі ў храме, але пацярпеў паразу. Супраціў быў не на жывот, а на смерць. Тое найбольш здзівіла і ўразіла Галія. Нерон паслаў туды свайго самага жорсткага, але таленавітага военачальніка Веспасіяна. Але атака, на якую так спадзяваўся Веспасіян, захліпнулася, нават не распачаўшыся як след. Веспасіян паспрабаваў заслаць у горад

шпікаў. Яны ўдала праніклі ў горад і тут жа вярнуліся. Расказалі, што ў ім міжусобная вайна. План паспеў адразу ж: няхай змагаюцца між сабой, а тым часам трэба асадзіць горад, пакінуць яго без правіянту і вады. Пасля гэтага і не трэба асабліва траціць сілы на ўзяцце горада. Загадзя пацiраў задаволена рукі Веспасіян, нават дэпешу спехам адправіў Нерону: горад будзе ў яго нагах праз тры-пяць дзён.

Але планам яго не ўдалося збыцца. Пачалася працяглая і жорсткая асада. Атак не адбывалася, але і падзенне горада не прадбачылася…

А за гэты час Рым абвясціў ужо Веспасіяна сваім імператарам. Той жа скарыць Іерусалім даручыў свайму сыну – Ціту. А сын не ў бацьку пайшоў: раптоўна, без падрыхтоўкі, на штурм рушыў. Сведкі той жорсткай бойкі ўспаміналі, што цяклі па горадзе рэкі крыві, горы трупаў ляжалі па вуліцах. Горад здаўся, а храм успыхнуў агнём. У гісторыі адбілася дата – дзясятага жніўня сямідзеясятага года. На той жа дзень прыпалі дзве значныя падзеі: Іерусалімскі храм і першы храм, узяты Навухаданасорам, згарэлі адначасова…

Пляц, дзе стаяў храм, узаралі. Военачальнік Тэрцій Руф загадаў зрабіць тое. Збылося моўленае прарокам Майсеем, які прадказваў (Міх. 3: 12): “Узараны будзе Сіён, як ніва”. Іісус папярэджваў пра падзенне храма яшчэ за сорак гадоў да гэтага. Але не ўсе паверылі Яму.

У гэты ж самы час з’явіўся Ілжэпрарок і заявіў, што менавіта зараз прыдзе Месія і выратуе народ. І шэсць тысячаў чалавек кінуліся ў пылаючую галерэю храма. А хрысціяне іерусалімскія, якія паверылі ў тое, бачачы як адступаюць рымляне пасля першай асады Іерусаліма, паспяхова схаваліся ў Заіярданскім горным горадзе Пелу, і ніводзін чалавек з іх не загінуў. Але пазней іудзеяў загінула больш як мільён чалавек, больш як сто тысячаў папалі ў палон, – усё толькі з-за таго, што яны паверылі ілжэ-прароку і Ілжэ-Хрысту.

Мне падумалася: пад Яго імем прыходзілі і пазней. За дзевятнаццаць стагоддзяў іудзейскі народ налічваў каля дваццаці ілжэпрарокаў. А колькі ў дваццатым стагоддзі? А колькі войнаў адбылося? Колькі чалавечых жыццяў згінула?

Самы жорсткі з усіх стагоддзяў – дваццаты век. Недарэмна і пазначаны ён крыжамі – XX. Стагоддзе смерцяў і жахаў, кро-

вапраліцця і богазмагання. Хрыстос папярэджваў іудзеяў (Лк. 21: 20-21): “Калі ўбачыце Іерусалім, акружаны войскамі, тады і ведайце, што наблізілася запусценне яго: тады тыя, хто будзе знаходзіцца ў Іудзеі, ды пабягуць у горы”.

А як нам уратавацца? Што запаветваў Збаўца нам? Як пачуць Яго голас? І ці гучаў той голас для нас?

Як адрозніць голас д’ябла ад Голаса Божага, як не паддацца спакусе кінуцца ў вір і балота д’ябальскага ўздзеяння і ачмурэння? Як?

Чалавек раней за час спакусіўся забароненым плодам – яблыкам з дрэва пазнання дабра і зла. Бог сцвярджаў, што прыйдзе час і ён дасць людзям неабходныя веды і кірунак, каб ўратавацца, яны навучацца пазбягаць спакусы. Але чалавек праявіў нецярплівасць і залішнюю цікаўнасць, паверыўшы шэпту Змія, паверыўшы, што ён усёмагутны і ўсямоцны.

Чалавек раней за час адкрыў тайны дабра і зла на зямлі, умяшаўся ў тую сферу, якая не чакала яго прыходу, бо ведала, што ён не гатовы да спасціжэння тайнаў Божых.

І таму чалавек, сам таго не ведаючы, нарадзіў монстра-д’ябла – цывілізацыю. А яна, помсцячы яму за нецярплівасць, забівае і яго і ўсё жывое на зямлі… У нашае жыццё ўмешваюцца няпрошана іншыя сусветы, другія цывілізацыі – і яны, на жаль, знайшлі жорсткіх спадкаемцаў на зямлі.

Ужо болей як два тысячагоддзі вядуцца войны з хрысціянамі, ужо больш двух тысячагоддзяў церпіць Ісус Хрыстос, чакаючы, калі ў чалавека расплюшчацца вочы.

Бог доўгацярплівы?

А доўга – гэта колькі?

Доўга – гэта ж не бясконца.

17

Аб’явілі пасадку на самалёт.

Мы абняліся з Абрахамам, як старыя добрыя сябры. Мы і сапраўды з ім пасябравалі.“Боінг” ляцеў вышэй воблакаў.

Мы знаходзіліся на першым небе. Касманаўты кружыліся вакол зямнога шара таксама на першым небе. А было ж яшчэ і другое, і тое, на якім жыў Бог: *Трэцяе Неба.* Я драмаў, седзячы ў мяккім крэсле. А з памяці не выходзілі словы Абрахама, яго думкі

пра будучае, пра сканчэнне свету. Гэта настолькі запала ў мой мозг, што я мог даслоўна пераказаць тое, пра што ён апавядаў.

..........................................................................................................

Прыляцеўшы ў Ліцвінію, адразу ж, не марудзячы, рашыў адправіцца зноў у краіну Іўдзейскую. У той час, калі заходзіла сонца жыцця Ірада.

Мне дасталася роля пасцельнічага. Я мяняў кожную раніцу і вечар брудныя прасціны цара. Ляфарас, асабісты доктар, не звяртаў на мяне анікай увагі. На мяне ўвогуле ніхто не звяртаў увагі...

Не ведаю, колькі знаходзіўся там. Але толькі тады, калі палічыў, што ў маёй памяці адклалася ўсё, што трэба, рашыў збірацца ў адваротны шлях.

Калі Ірад упаў на мармуровую падлогу, я паклікаў свой Голас і сказаў, што пара адпраўляцца мне назад...

..........................................................................................................

У адзін з дзён, прыйшоўшы да высновы, што дарога да храма пракладзена – і не абы-якая, а тая, што і мерыўся стварыць, пераканаўшыся, што адпачыў, – рашыўся падаць сігнал, абвясціць свайму заказчыку аб баявой гатоўнасці...

Тут жа, з майстэрні, набраў два разы 96 і астатнія тры шасцёркі. Паслаў доўгі гудок, з меладычнымі пералівамі, некуды ў нябесную прастору. Яго сотавы прыняў мой покліч, спрацаваў, забулькаў, высвеціўшы, натуральна, мой нумар тэлефона на яго табло. І чакаў, калі ён адгукнецца, калі адкажа мне…

– Вас слухае электронны сакратар капітана “Алкепа”. Прадыктуйце, калі ласка, сваё паведамленне...

Хацеў пакласці ўжо слухаўку, як пачуўся другі голас – жывы і знаёмы:

– Алё, алё! Спадар Антон! Я тут трошкі прылёг адпачыць. Добры дзень, Антон! Слухаю цябе!

– Добры дзень, Анатас! Хачу далажыць, што справіўся з усімі сваімі клопатамі – і цяпер гатовы прыступіць да выканання заказу.

– Я рады, што ты вызваліўся, і чую, што голас у цябе бадзёры і вясёлы. Калі ж мне прыбыць на месца прызначэння? Мы цяпер у Афрыцы, на беразе акіяна, а побач пустыня – Сахара... Сонца прыпякае. Прадаем тут сваю мэблю... Сто тысяч адзінак спальняў, мільён кухняў, тры мільёны квадратных метраў абівачнага матэрыялу пад чырвонае дрэва..

– Ого! Столькі ўмяшчаецца ў твой карабель?

– Столькі і яшчэ столькі, і яшчэ паўстолькі – во колькі перавозіць “Алкеп”.

– Фантастыка! Калі мне можна прыбыць на прыстань?

– Глядзі сам, калі табе зручней.

– Давай глянем на каляндар. Цяпер выходныя. У панядзелак – не магу. У аўторак у бібліятэцы Герцэна трэба пабыць – запрашаюць выступіць. У сераду Васіль Ткачоў запрашае на свой юбілей – у таверну “Лотас”. У чацвер пачынаецца маладзік. Мне заўсёды добра працуецца на пачатку маладога месяца... Вось у суботу, а чатырнаццатай гадзіне, я і буду на прыстані Сожа – ніжэй па рэчцы, дзе заканчваецца бетонная набярэжная, пачынаюцца лазнякі. Насупраць канаўкі, дзе плаваюць лебедзі. Падыходзіць такая раскладка?

– Выдатна! Няма ніякіх праблемаў. У суботу, а чатырнаццатай нуль-нуль “Алкеп” будзе стаяць на прычале.

– Тады – да сустрэчы?

– Да сустрэчы, Антон!

……………………………………………

“Хто ж пасмакаваў мой каньячок? Ці мо хто і не смакаваў, а проста выліў у ракавіну – каб я зноў не нырнуў у запой? Каб стрымаў слова, дадзенае заказчыку? Значыць, нехта аберагае мяне? Хто ж – ён ці яна – мой добразычлівец?..”

Здаецца, недзе пад падлогай піскнуў Мышук. А мо тое мне толькі падалося?

За акном сонца. За акном – жыццё і рух.Мне было хораша і лагодна, і таму не хацелася падымацца з канапы. Адкінуўся галавой на спінку крэсла, зажмурыў вочы і стараўся пускаць у сваю галаву толькі светлыя і спакойныя думкі...

– Я – вольны! – падаю сігнал, спадзеючыся, што ўбачу свайго сябра. Маўчанне ў адказ. Рука падалася да тэлефона. Набраў хатні нумар.

– Жонка, ёсць просьба. Вельмі хачу варанай бульбы. Ды з селядцом...

– Добра, к твайму прыходу будзе гатова. Толькі селядзец купі сам – табе ж па дарозе. Ды выберы тлусты, з ікрой.

– Добра. Я выходжу!

Крочыў па вуліцы, цвёрда трымаючыся на нагах.Увушшу чулася незразумелая, але мажорная мелодыя. Нічога не адчуваў трывожнага, настрой выдатны.

– ... я чакаў цябе, стараўся не хвалявацца, як ты і раіў, – сказаў Ян Пятровіч, прыглядаючыся да мяне, вывучаў.

– Правільна. Але ж чаму толькі вы пастаянна седзіцё каля мяне? А дзе ж Вераніка?

– Змянілася. А я не быў каля цябе двое сутак.

– Аж двое?

– Вераніка ўвесь час сцерагла цябе. Прызнавалася, што вусцішна сядзець каля чалавека без прыкметаў жыцця. Нават сярод ночы званіла мне дадому, пыталася, ці трэба што прадпрымаць. Я супакоіў яе і загадаў не хвалявацца, чытаць раманы пра каханне...

– Разумны загад. А то прыдумалі кардыёбіястымулятары. Што новага, доктар, у нас, ва ўсім свеце?

– У свеце не ведаю, а ў нас... А, адно і тое ж... Усё абяцанкі-цацанкі... Засмучаны, што ў нас няма сваіх рэпіных і шаляпіных. Мала ім сваіх – Кірылы Тураўскага і Францішка Багушэвіча, Купалы і Коласа, Багдановіча!..

– Што ж паробіш, Янка Пятровіч, хай нашы культыролагі самі з тым разбіраюцца… Мяне ніхто не шукаў?

– З тых, хто сачыў за табою і шукае як удзельніка мітынгу на плошчы Каліноўскага, – не. Ва ўсіх нашых паперах ты запісаны пад прозвішчам – Ісаак Абрамавіч Кацнельсон. Так што з гэтага боку ўсё надзейна.

– Дзякую. Вы вельмі выручылі мяне...

– Ды дробязь усё гэта. Хто ж нам паможа, калі не самі сабе?

За спінай Яна Пятровіча стаяла ў белым халаце Яніна. Заглядвала ў разгорнутую кнігу, што трымаў доктар, нечаму ўсміхалася. Мне ж рабіла нейкія знакі, нешта прамаўляла, але слоў я, на жаль, не чуў.

... Калі надакучыла ляжаць на канапе, надумаўся адправіцца ў дарогу.

– Ты куды, Антон? – да пляча дакранулася Яніна.

– На Палессе, у старажытны Тураў.

– Не затрымлівайся толькі, у тым часе нельга доўга знаходзіцца.

– Ведаю. Не хвалюйся, там не застануся...

... Тураў... Тураўская зямля...

Калыска праваслаўя, фундамент веры, першы храм Бога на паляшуцкай зямлі... І, як заўсёды, пабураны, крывавыя раны не зажываюць на здрапежанай зямлі... Хто пасылае на нас усё гэта? Няўжо яны ўмацоўваюць у чалавеку моц і ўпэўненасць у веры?

Капаючыся ў архіўных дакументах (у Кракаве, Вільні, Кіеве, Маскве), з радасцю адкрываў усё новыя і новыя факты існавання старадаўніх Евангелляў. Помнікі славянарускай пісьменнасці нарадзіліся яшчэ ў дзявятым стагоддзі, але з самых старых, ранніх, якія адшукаліся, можна лічыць – Астрамірава Евангелле, Святаслававы Ізборнікі, Талковы Псалтыр, Супральскі рукапіс і трынаццаць слоў Рыгора Багаслова. Гэта ўсё суадносіцца з адзінаццатым стагоддзем. Да гэтых каштоўных помнікаў, хаця і запознена, далучылася ў 1865 годзе і Евангелле Тураўскае. Яно было знойдзенае ў Тураве. У XVI стагоддзі належала Тураўскай Прэабражэнскай царкве. Гэта пацвярджаюць запісы князя Канстанціна Астрожскага – на палях Евангелля.

Дрыжалі рукі ад хвалявання, калі трымаў бясцэнны рукапіс. Малюнкі літар падыходзяць бліжэй да Астрамірава Евангелля і Васкрасенскаму спісага Пандзекта Анціохава.

Тураўскае Евангелле мае фармат малой чацвёркі (4 вяршкі ў шырыню, меней 5 у даўжыню), складаецца ўсяго з дзесяці аркушаў – ці дваццаці старонак. Здзіўляюся – як акуратна і прыгожа створаны тэкст! Пісана ў адну старонку, у васямнаццаць радкоў, без кустодзіяў і пераносных знакаў. Мае пальцы дакраналіся да пергаменту, як да жывога цела, – быў ён шчыльны і бліскучы, шціфтам, лінейкамі, палі таксама абмяжоўваліся лінейкамі. Умелі ж перапісчыкі вырабляць чарніла – колер яго радаваў вока! Каштанавае чарніла, а цынобра ўжыўлена ў загалоўках і ў прапісных пачатковых літарах, з сіняй і цёмна-зялёнай расфарбоўкай, а дзе-нідзе блакітнай, з пераходам у зеленаватую…

Евангелле гэтае – тыднёвае, апракос... Яно, зразумела, няпоўнае, адразу бачна, і тое лёгка вызначыць. Захавалася ў малым урыўку – пачынаецца з 89-ай часткі (на вялікі жаль, без пачатку) ад Яна... А ўся чацвёртая старонка – з запісам князя Астрожскага (што з’яўляецца помнікам пісьменства), палі старонкі дванаццатай – аўтограф князя...

Учытваюся ў “Слова” Кірылы Тураўскага, і дрыжыкі прабягаюць па целе. Малітвы Залатавуста. Хаця б вось гэта – “Малітва ў панядзелак пасля ютрані”:

“*... Успамінаючы мінулы час жыцця майго, выдаю сябе за злачынцу, бо разумею, што больш, чым хто іншы, нарабіў спраў злых і не павінных і Богу няўгодных: – і баюся, як бы*

*агонь, падаючы з неба, не спаліў мяне і апраметная не паглынула бы мяне жывога.*

Але ведаючы доўгацярпенне і пучыну чалавекалюбства Божыя, я не адчайваюся, бо Бог не наводзіць кару на дастойнага пакутаў, але чакае майго пакаяння. Я дзіўлюся сам на сябе, да якой жа ступені і разбэшчанасці блудам я знаходжуся ў справах, якія ненавіджу, – і, думаючы, што не трэба, як быццам рукамі разбураю ласку Божую, якая чакае майго звароту.

... Бо я ведаю сваё цела тленнае і хуткагінучае: можа здарыцца так, што я не дажыву да вечара, і парадуецца мой вораг, пра мяне кажучы: “чалавек пад мітусню падпаў, і дні яго прайшлі, як цень...”

Малітва, здавалася, звернутая да мяне, да маёй душы...

І хутка я ўжо не чытаў малітву, чуў. Прамаўляў яе сам аўтар – Святы Залатавуст. Старац бачыўся сівым, але рухі ў яго па-маладому ўпэўненыя, голас цвёрды і ласкавы.

Так, сапраўды, з яго можна пісаць іконы, і, мусіць, іканапісцы так і рабілі, надаючы яго абліччу Боскае адценне.

Барада доўгая – да грудзей, вушы хаваліся за прамымі валасамі, што звісалі да плячэй. Людзі слухалі яго пропаведзі і не маглі зварухнуцца, уздыхнуць нават. А словы падалі ў іх душы дабраўплыўным насеннем, як усё роўна хлебныя зярняты ў пульхную зямлю.

Слава Табе, Божа, слава Табе, што дазволіў нам сустрэцца са Сваім Пасланнікам!..

Потым Залатавуст, стаміўшыся за цэлы дзень служэння, вярнуўся ў келлю. Але не прылёг на мулкі драўляны ложак, сеў за стол, узяў у рукі пісала – пачаў акуратна вадзіць ім па пергаменце.

Я нячутна стаіўся ззаду, зазірнуў праз плячо:

*Прысну море полунощи,*
*идуть сморци мьглами.*
*Игореви князю богъ путь кажеть*
*изъ земли Половецкой*
*на землю Рускую,*
*к отню злату столу.*
*Погасоша вечеру зори.*
*Игорь спить.*
*Игорь бдить...*

Здзіўленню майму не было межаў. Гісторыкі і даследчыкі ламаюць дзіды, стараючыся даказаць ці абвергнуць аўтарства свя-

тога Залатавуста, а я на свае вочы бачу, як ён пакрысе выводзіць літаркі, прыстаўляе адну да адной, робіць з іх вершаваныя радкі...

Як быццам даўно ведаў, пра што трэба пісаць і як пісаць песню пра паход Князя...

Складаў не толькі паэму – ён перасцярогу дасылаў усім тым, хто абвяргаў яднанне сілаў у адзіны кулак. Паказваў трагедыю абасобленасці, паразу, калі чалавек ускладае надзеі толькі на самога сябе, нават і Бога не клічучы на дапамогу...

Не магу даказаць, але гатовы засведчыць, на любым судзе засведчыць, што на свае вочы бачыў, як Кірыла Тураўскі складаў сваю несмяротную паэму... Ён, а не хто іншы... І нельга сумнявацца і прыпісваць аўтарства іншым. Нельга прысвойваць чужыя імёны сабе. Як і таго ж Федаровіча, які чамусьці стаў расійскім першадрукаром – Фёдаравым.

І тое ж зусім лёгка даказаць сучаснай тэхнікай. Калі плашчаніца Хрыста знайшла свае доказы, то чаму Ліцвінія не абароніць аўтарства Залатавуста?

Я ціха выйшаў з келлі, надоўга запомніўшы пах васковай свечкі, якая гарэла перад тварам і пергаментам епіскапа.

Ён не заўважыў маёй прысутнасці, як і маёй адсутнасці.

18

На бераг я прыйшоў у прызначаны час – ніколі не любіў спазняцца.

“Olkep” ужо стаяў на прыстані.

Яшчэ як падняўся на гару каля замка Паскевіча, убачыў унізе белы карабель. Трохмачтавы, з ветразямі. Па белай бакавіне бартоў праведзена шырокая светла-чырвоная паласа. Стваралася ўражанне, што “Алкеп” апаясаны кругом бел-чырвона-белым сцягам.

Калі ж спусціўся на берагавую пляцоўку і падышоў бліжэй, уражанне тое знікла. Звычайная чырвоная паласа па белым борце. Карабель ці цеплаход, ветразнік ці лайнер – не ведаў, як і назваць яго, – здаецца, лёгкі, як пярынка, гайдаўся на слабых хвалях, нібыта паплавок...

Бралі здзіўкі, што на “Алкеп” ніхто з прахожых не звяртаў увагі – ні дарослыя, ні дзеці. Нават ніхто і позірк не кідаў – быццам яго і не было...

Я спыніўся каля носа карабля, паставіў мальберт з неабходнымі цюбікамі фарбы, чакаў, калі хто звернецца да мяне. Азвацца сам не асмельваўся.

На палубу выйшаў Анатас:

– Вітаю госця! Скіньце спадару Антону трап!

Двое рабочых-памагатых у сініх уніформах апусцілі на травяны бераг доўгую лесвіцу з парэнчамі. Каб не гайдалася, замацавалі.

– Ласкава просім, шаноўны майстра!

Наверсе сустрэў мяне Анатас – усё ў тым жа адзенні, у тым жа самым капелюшы, хіба толькі на плечы накінуты тонкі плашч – стоячы на палубе, баяўся прастудзіцца ад рачнога ветру?

Падаў руку, заўсміхаўся:

– “Алкеп” рады вітаць прадстаўнікоў гомельскай творчай інтэлегенцыі на сваім борце!

Поціск рукі моцны, мо і задужа.

“Культурыст?” – падумалася чамусьці.

Перад тым, як спусціцца ўніз, у нутро карабля, міжволі азірнуўся – агледзеўся вакол. Гулялі людзі, свяціла сонца, шапацела лістота лазняку ад лёгкага павеву ветру.

Але – зноў жа! – на нас ніхто з тых, хто гуляў па набярэжнай, не звяртаў увагі. Ніхто! Ну і няхай, калі такі дзівосны карабель для іх не дзіва! А калі б на бераг спусцілася лятаючая талерка і з яе выйшлі іншапланецяне – тады здзівіліся б? Мо таксама не...

Цяпер, мусіць, нічым і нікога здзівіць нельга – наступіў час абыякавасці...

Я прымружыў вочы і зірнуў на сонца, як быццам з ім развітваўся на доўгі час. Пагрэў секунду-дзве пад промнямі твар, прамовіў:

– Пайшлі, Анатас! Вядзі ў свае палацы!

Прамовіў нейкім вясёлым, можа нават недзе і зухаватым, голасам, як быццам казаў самому сабе – калі згубіў каханку, то навошта й галава...

Прыступкам, калі мы спускаліся ўніз, здавалася, і канца не будзе. Ішлі упобачкі – злева ад мяне Анатас, амаль крок у крок. Маўчалі. Свідравала хіба думка – на якую глыбіню мы апускаліся? Прайшлі ж, мусіць, кіламетры, хаця глыбіня Сожа каля Гомеля ўсяго метраў з шэсць-сем...

Нарэшце сышлі на дыван з тоўстым ворсам, як быццам ступілі на траву – і сапраўды пачуўся пах скошанай, але ўжо прывяленай пад сонцам, травы. Нават падалося, што непадалёк ад нас

раслі тонкастволыя бярозы, і птушкі, здаецца, ціліўкалі ў гушчарняку... Недзе знізу, злева, даносілася прыглушаная музыка, мелодыя быццам бы і знаёмая, але каму яна належала, – не памятаў.

Зайшлі ў прасторную залу з вялізным паліраваным сталом.

На ім, у місах і падносах, прыцягвалі позірк апельсіны і бананы, ігрушы і яблыкі, і шмат якіх яшчэ, невядомых мне дзівосных пладоў. Стаялі бутэлькі з каньяком і брэндзі пад невядомымі наклейкамі, нейкае нянаскае пітво...

Нас чакалі два прыборы. Два крэслы. Дзве чаркі.

Вальяжным жэстам рукі гаспадар салона запрасіў мяне сесці. Адкаркаваў бутэльку, разліў карычневую вадкасць па шкаліках. Усміхнуўся, прамовіў:

– Ну, што, спадар Антон Клімовіч! За сустрэчу! За будучую працу! За нашае ўзаемаразуменне і творчую ўдачу!

– За сустрэчу! – падтрымаў я тост.

## Частка другая

### *Спакушэнне*

1

– За сустрэчу! – падтрымаў я прапанаваны тост.

Каньячок быў ніштаваты, даволі прыемны на смак, не слабы, але ж і не моцны. Той жа фірмы, з той жа, знаёмай мне, наклейкай – “Alcep’e”.

– Ты курыш? – спытаў у мяне Анатас, раскрываючы інкруставаны куфэрачак з сігарамі.

– Кінуў. Але я лёгка пераношу дым, калі іншыя кураць.

– Зразумеў.

Пад блакітную столь узвіўся дымок і растварыўся там, зліўшыся з агульным колерам. Зноў напоўнілі шкалікі. Я заўважыў на суседнім стале, што быў праваруч ад мяне, тоўстую кнігу ў скураной вокладцы. Гаспадар злавіў мой цікаўны позірк, пацвердзіў мае думкі:

– Так, то Біблія. Вельмі старога выдання. Я штодня яе чытаю. І не толькі чытаю, а і вывучаю, разбіраю кожны сказ, сло-

ва – накладаю ўсё гэта на сённняшні час. І, ведаеш, шмат цікавых рэчаў і ісцінаў адкрываю для сябе.

Я ўстаў, падышоў да стала. Пагартаў кнігу. Кінулася ў вочы, што амаль кожны радок быў падкрэслены, абазначаны лічбамі, упісаныя нейкія словы – вельмі дробненькімі літарамі...

– А ты часта чытаеш Біблію? – падняўся і Анатас, падышоў да мяне, стаў побач, таксама гледзячы на старонкі Святога Пісання.

– Мо і не кожны дзень, але часта...

– Тады нам з табой будзе пра што пагаварыць! – прамовіў капітан “Алкепа”.

З заказам ён мяне не падганяў, толькі патлумачыў:

– З партрэтам мы пачнем заўтра, а мо і паслязаўтра. А пакуль прывыкай да мяне, прыглядайся, ужывайся, так бы мовіць, у мяне. Кожны дзень, нават калі ты і не будзеш працаваць над маім заказам, будзе аплачвацца...

Пацiск плячэй замест адказу.

– Дык вось, працягваючы нашую размову пра Святое Пісанне, – Анатас падаў шкалік з каньяком, накрыты скрылікам лімона. – Я гэтаму прысвяціў усё сваё жыццё... Ёсць яшчэ некалькі чалавек на зямным шары, якія вывучаюць гэты шматзначна зашыфраваны тэкст... Пераканаліся, што гэта папярэджанне нам, сучаснікам і нават наступным пакаленням. Калі мы скончым даследванні, звядзем усё ў адну кнігу. Выдадзім яе на розных мовах. І тады чалавецтва зірне на сябе зусім інакш, шмат ад чаго пазбавіцца... Бог умольвае, просіць, даруе, чакае пакаяння... Мудрасць жа заключаецца ў строгім і бездакорным выкананні жыццёвых правілаў.

– Згодзен...

– Я гэтаму вельмі рады.

– Біблія – гэта ўсе кнігі чалавецтва, сабраныя ў адну. Нам яе вывучаць і вывучаць...

Анатас задумліва паглядзеў на мяне:

– Твая думка супадае з маёй... Нельга сёння лічыць сябе пасапраўднаму адукаваным чалавекам, не пазнаёміўшыся, хаця б з большага, з Бібліяй. Вось тут у мяне і іншыя кнігі, трохі пазнейшага часу. Самае першае з выдадзеных у Еўропе. Першая кніга, надрукаваная наборным шрыфтам на лацінскай мове, у друкарні Гутэнберга ў Майнцы, у Нямеччыне, у 1455 годзе...

– Так, але і нам ёсць чым ганарыцца, хаця б тым, што ў гісторыі ёсць дзень шостага жніўня 1517 года. Францішак Скарына выдаў першую кнігу Псалтыр, якую “повелел тиснути русскими словами, а словенским языком”. І за два гады пасля гэтага выдаў яшчэ дваццаць дзве кнігі Старога Запавету пад агульнай назвай “Библия руска выложена доктором Франциском Скориною из славнаго града Полоцька, богу ко чти и людем посполитым к доброму научению”. А якія застаўкі ён сам зрабіў! А знак яго нараджэння – зацьмненне сонца месяцам – стаў гербам Скарыны, сімвалам супярэчлівасці нашага быцця, глыбінных духоўных таямніцаў, знамянальных падзеяў, дзе святло перамагае цемру…

– І заўсёды – перамагае? – нечакана перабіў мяне Анатас, як здалося мне не без з’едлівасці, пад’юджвання...

– У крайнім выпадку, свет да гэтага імкнецца.

– Варты адказ. Разумовыя магчымасці чалавека не маюць межаў, але яны дзейнічаюць у часовых рамках, і ў вялікай ступені залежаць ад псіха-эмацыянальнага стану асобы. Вось давай возьмем з табой такую тэму, як домабудаўніцтва – пабудова Храма Гасподняга... Тым больш, што ты адгарнуў частку напісанага пра тое – Першая Параліпаменон... Прачытай на выбар, што там напісана.

Я выбраў наўгад раздзел – 1 Параліпаменон (Р.22, 11-16, 19):

*– ... І цяпер, сын мой! ды будзе Гасподзь з табою, каб ты быў дабрапаспяховы і пабудаваў дом Госпаду Богу твайму, як Ён казаў табе. Ды надзеліць цябе Гасподзь сэнсам і розумам, і паставіць цябе над Ізраілем, і таму выканай Закон Госпада, Бога твайго.*

*Тады ты будзеш мець поспех у дабрыні, калі будзеш старацца выконваць статуты і законы, якія запаветаваў Гасподзь Майсею для Ізраіля.*

*Будзь цвёрды і мужны, не бойся і не сумуй.*

*І вось я, пры беднасці сваёй, прыгатаваў для дома Гасподня сто тысяч талантаў золата і тысячу тысячаў талантаў срэбра, а медзі і жалезу няма вагі, таму што іх дужа шмат; і дрэвы і камяні я таксама нарыхтаваў; а ты яшчэ дадай да гэтага.*

*І так – наладзьце сэрца вашае і душу вашую да таго, каб патрабаваць Госпада, Бога вашага. Устаньце і пабудуйце све-*

*тач Госпаду Богу, каб перанесці каўчэг запавету Гасподняга і свяшчэнныя сасуды Божыя ў дом, які ствараецца імем Гасподнім…*

Я замоўк, але Анатас не дазволіў мне спыніцца.

– Далей, далей, спадар Антон.

*– І цяпер, Бог Ізрайлеў, ды будзе правільным слова Тваё, якое Ты вымавіў рабу твайму, Давіду, бацьку майму!*

*Сапраўды, ці Богу жыць на зямлі? Неба і неба нябёсаў не ўмяшчаюць Цябе, тым меней гэты храм, які я пабудаваў.*

*Але будзь паслухмяны малітве раба Твайго і дараванню яго, Госпадзі, Божа мой; пачуй вокліч і малітву, якою раб Твой умольвае Цябе цяпер. Ды будуць вочы Твае раскрыты на храм на гэты дзень і ноч, на гэнае месца, пра якое Ты гаварыў: "Маё імя будзе там"; пачуй малітву, якою будзе маліцца раб Твой на месцы гэтым..."* – 2 Параліпаменон (6, 17-20).

– Добра. У прачытаным тэксце ты што-небудзь зразумеў?

– Размова ідзе пра будаўніцтва Божага Храма. Такога, як і пабудавала пазней Еўфрасіння Полацкая.

– А ты калі-небудзь задумваўся над тым, што ў гэтым тэксце вызначаны навуковы і тэхналагічна-будаўнічы трактат, каштарыс, ды яшчэ з падрабязным апісаннем той будоўлі.

– Не, не надаваў, прызнацца, гэтаму такога глыбіннага сэнсу. Проста верыў і ўсё!

– Усё браў на веру? Але ж для таго і стварыў Бог чалавека разумнага, каб ён змог разабрацца ў яго зашыфраваных запаветах. Калі ёсць жаданне, я дапамагу табе – раскрыю таямніцу ключа, як яго трэба падбіраць да тэксту, а далей ты ўжо і сам здолееш дакапацца да многіх таямніцаў...

– Жаданне ёсць. Ты заінтрыгаваў мяне.

– Тады – слухай, намотвай на вус, аналізуй ці падвяргай сумненню...

Не разгубленасць, а недаўменне авалодала мною...

2

– Трэцяя кніга царстваў (6, 1-6):

– "У чатырыста васьмідзясятым годзе, як сышлі сыны Ізрайлевы з зямлі Егіпецкай, у чацвёрты год (значыць, прайшло 63,0) царавання Саламонава над Ізраілем, у месяц Зіф, які з'яўляецца

другім месяцам (а на гадзінніку гэта трэцяя гадзіна), пачаў ён будаваць храм Госпаду. Быў ён даўжынёю ў шэсцьдзесят локцяў, шырынёй у 20 і вышынёй у 30 локцяў. І прытвор перад храмамі ў 20 локцяў даўжыні, суадносна (20) шырыні храма, і ў дзесяць локцяў шырыні перад Храмам...

І зрабіў ён у доме вокны клетчатыя, глухія, з адхіламі. І зрабіў прыбудоўку вакол сценаў храма, вакол храма і давіра, і зрабіў вакол бакавыя пакоі. Ніжні ярус прыбудовы быў у пяць локцяў, сярэдні – шырынёй у шэсць локцяў, а трэці шырынёй у шэсць локцяў, бо круга храма звонку былі зроблены прыступкі, каб прыбудоўка не датыкалася да сценаў храма...”

Пад час чытання Анатас машынальна, нават і не гледзячы, дзе бутэлька і чаркі, наліў пароўну, рухам рукі паказаў ці падахвоціў мяне, і сам выпіў адным махам каньяк. Я ж адхлёбваў па кропельцы, як бы дэгуставаў напой, а ўвесь час не пакідала думка: “Для чаго ж ты так выдрыгаешся, робіш разлікі, выпіскі, заўвагі, чарцяжы?..” Але не з рукі мне было пытацца...

– Ты слухаеш мяне?

– Уважліва.

– Дык вось... Калі будаваўся храм, то для будаўніцтва выкарыстоўваліся абчасаныя камяні; ні молата, ні чэсла, ні ўсялякага іншага металічнага абсталявання не чулася ў храме падчас яго ўзвядзення. Спашлемся на пісанне – і гэта ёсць у словах ад Марка, Мацвея, у Лукі: “*Кажа ім Ісус: ніколі не чыталі вы ў пісаннях: “Камень, які адрынулі будаўнікі, зрабіўся асновай асноў: ад Госпада гэта і дзіўна ў вачах нашых?” ...Пагэтаму і кажу вам: Царства Божае будзе адабрана ў вас і дадзена будзе таму, хто прыносіць плады народу; і той, хто ўпадзе на гэты камень, разаб’ецца; а на каго ён упадзе, той ператворыцца ў попел”.*

Не ўтрымаў, уключыўся ў яго казань:

– Там жа яшчэ сказана і пра месца будаўніцтва – “*няхай узводзіцца дом на тым месцы, дзе прыносяць ахвяры, і няхай будуць пакладзеныя моцныя асновы для яго; вышыня яго ў шэсцьдзесят локцяў, шырыня – у шэсцьдзесят. Радоў з камянёў вялікіх тры, і рад з дрэва адзін; выдаткі няхай бярэ на сябе царскі дом...”*

– Так, правільна. І яшчэ – “*Мною даецца загад, што, калі які-небудзь чалавек памяняе гэтае вызначэнне, то будзе вы-*

*цягнута дзеравіна з дому яго, і будзе падняты ён і прыбіты да яго, а дом яго за тое будзе ператвораны ў разваліны....”*

– Але ж у Адкрыцці (22) ёсць папярэджанне: “*Я сведчу ўсякаму, хто чуе словы прароцтва гэтай кнігі: калі хто дадасць да іх, пашле на яго Бог пошасці, напісаныя ў гэтай кнізе. І калі хто адыме ад слоў кнігі прароцтва гэтага, то і адыме Бог удзел у дрэве жыцця і ў горадзе святым, і ў тым, што напісана ў кнізе гэтай*”. Таму ў мяне ў сувязі з гэтым і пытанне да цябе, Анатас: “Ці маем мы права, людзі, створаныя Богам, сумнявацца ў правільнасці пісання, умешвацца ў тэкст, аналізаваць яго, рабіць нейкія матэматычныя разлікі?”

Капітан “Алкепа” адарваўся ад кнігі, паглядзеў здзіўлена на мяне:

– А хто сказаў, што ёсць сумненні? У тым, дружа, і сэнс гэтай святой кнігі, што нельга даслоўна ўспрымаць значэнне кожнага слова. Кніга, Біблія, пабудавана я на алегорыях і метафарах. Біблія разлічана на людзей думаючых. Таму нездарма яна з’яўлялася і з’яўляецца бясконцай крыніцай творчасці для мастакоў і пісьменнікаў, паэтаў і скульптараў...

– Мо і так, але ж...

– Біблія на тое і Біблія, што яна створана, каб удасканальваць нас, каб генома спасціжэння сутнасці самога чалавека дасягнула свайго апагею. Так што я пастараўся адказаць на шматлікія пытанні, пастаўленыя ў Пісанні, аднавіў з дапамогай арыфметыкі і матэматыкі, трыганаметрыі і алгебры дакументацыю пабудовы храма. Інфармацыі хапае, яна скрозь і паўсюль, па крупінках раскідана па ўсёй кнізе, як зорак у небе. І кожная з іх свеціць і складае адзінае цэлае, як і той жа Валацужны Шлях... А тут таксама шлях, ды яшчэ і дадзены компас. Вось мой чарцёж Божага храма, зірні...

Ён разгарнуў перада мною вялізны аркуш паперы з чарцяжом і малюнкам збудавання. І маштаб быў указаны з дакладнымі памерамі...

– Мудрыя былі будаўнікі, калі не геніяльныя! – заключыў Анатас, зноў напаўняючы кілішкі. – Доўга я біўся над гэтым, але адкрыў, дамогся свайго. Адна таямніца раскрыла другую... Нясучая частка збудовы не перастае быць галоўнай, а, замяніўшы слова “з адкосамі”, маем “косамі”, гэта стружка ад таго, калі выбіраецца тая чвэрць. Гэта ж косы жанчыны... І тады ўжо і дом не дом, а размова ідзе пра цнатлівых дзяўчат, – кожная са сваёй формай, тыпам дзя-

воцкай плявы , рашотчатай, – але то ўжо вобласць анатоміі. У жанчын яна адсутнічае альбо ёсць тое, што ад яе засталося. І яшчэ. Той жа Паўлаў, знаўца чалавечага мозгу, прыйшоў да высновы, што паўшар'і нашага мозгу спецыялізаваныя – кожнае з іх валодае зададзенымі функцыямі. Левае (лагічнае) адказвае за размову, чытанне, пісьмо, лік – карацей, вырашэнне тых задач, якія патрабуюць прымянення логікі і мыслення – рацыянальнага, аналітычнага, вербальнага...

– А гэта азначае...

– Калі ў чалавека лепш развіта славесна-лагічная памяць і ім кіруе левае паўшар'е, то гэты чалавек – мысліцель.

– А правае? – пацікавіўся, каб крыху больш падахвоціць яго. Бо ўсё, што ён казаў, было мне вядома.

– Правае? Яно мае прамыя адносіны да вобразнага, сінтэтычнага, цэласнага ўспрымання свету, без драблення яго на часткі. Ім кіруе інтуіцыя, прасторава-вобразнае мысленне. Калі ў чалавека лепш развіта зрокавая і слухавая вобразная памяць, і яго вядзе за ручку правае паўшар'е, то гэтага чалавека можна аднесці да тыпу мастакоў – творцаў. Як ты, напрыклад, Антон. Таму я і адчуў, што ў цябе незвычайная працаздольнасць, клеткі правага паўшар'я самі па сабе пачынаюць актывавацца. Праз пяць гадоў ты дасягнеш, Антон, небывалай вышыні. Ты – супер, Антон, супер!

– Ого! – я нават зарагатаў. – І гэта ж трэба. Дай, Божа, і нашаму цяляці воўка з'есці!

– Дарэмна смяешся, – лёгка папракнуў мяне Анатас. – У Святым Пісанні раскідана па ўсіх старонках адна думка, сказаная ці то Госпадам ці ад Яго імя: "*Я павяду цябе, узяўшы за правую руку...*" Чаму правую, а не левую? Я тое растлумачыў. Такім чынам, мы свядома прыглушваем узровень падсвядомасці, якой належыць інфармацыя. А яна захоўваецца, знаходзіцца ў недасягальных, што не паддаецца нашаму самаму смеламу ўяўленню і фантазіі, кутках і сховішчах нашых ведаў, накопленых ад стварэння Сусвету. Вопыт кожнага тысячагоддзя знаходзіцца ў мозгу кожнага з нас.

І Бог стварыў нас такімі, каб мы не памяталі і не ведалі, што было да нас. Але і даў магчымасць некаму з нас дакапацца да тайнаў, багацця і формулы бяссмерця. Ён падараваў нам ключ. А ключ – у Бібліі. І тайна раскрыецца толькі таму, хто пройдзе праз лабірынты прытчаў, загадак, малітваў. І Бог яшчэ падказвае

нам адкрытым тэкстам: не забывайце, што рухавік працэсу мыслення і думак – гэта псіхічная энергія. А на яе рацыянальнае, звышрацыянальнае, выкарыстанне і нацэлены, скіраваныя ўсе тэксты Пісання – кожнае слова Евангелля!

– Я ведаю, Анатас! Евангелле – крыніца нашага жыцця.

Ён не крыўдаваў, што перабіў яго, а мо і чакаў, калі падключуся да яго прамовы, хацеў падахвоціць мяне. Таму ж і адразу падхапіў мае словы.

– І камень, на якім мы трымаемся і стаім. Таму што аснова жыцця – апірышча, фундамент. І вада, па якой крочыў Хрыстос – апірышча, і нават паветра...

– Я памятаю, што напісана ў першым пасланні карынфянаў. А сказана там (3:16-23): *"Хіба ж вы не ведаеце, што вы – храм Божы, і Дух Божы жыве ў вас? Калі ж хто разбурыць Храм Божы, – таго пакарае Бог, таму што Храм Божы – святы; а гэты Храм – вы... Ніхто не ашуквае самога сябе; калі хто з вас думае быць мудрым у веку гэтым, той хай будзе буяны, каб быць мудрым. Бо мудрасць свету гэтага ёсць буянасць перад Богам, як напісана: "...ловіць мудрых у хітрасці іхнай..."* І яшчэ: *"Гасподзь ведае мудрошчы мудрацоў, што яны марныя". Таму вось, няхай ніхто не хваліцца людзьмі, бо ўсё вашае: ці то Павал, ці то Апалос, ці Кіфа, ці свет, ці жыццё, ці смерць, ці цяперашчына, а ці наступнае, – усё ваша; а вы – Хрыстовыя, а Хрыстос – Божы."*

– Так, Антон. Бачыш, мы разумеем адзін аднаго, – поўнасцю, цалкам.

"Хіба – поўнасцю, цалкам? – нешта запратэставала ўва мне. – З чаго ты ўзяў? Адкуль у табе такая ўпэўненасць?"

Але змоўчаў.

– А ты падлічваў, за які час пабудавалі храм для Бога?

– Дакладна – не.

– А гэта зусім няцяжка падлічыць. Паказаць? Па тэксце кнігі "Трэцяя кніга Царстваў" – поўных сем гадоў. Калі ж кіравацца духам тэксту, то Саламон імкнуўся ўзвесці храм да дванаццатага года свайго праўлення, а свой дом ён змог пабудаваць за трынаццаць год. А ўвесь, паказаны Госпадам, комплекс быў пабудаваны за дванаццаць гадоў:

– "Тады адказалі Іўдзеі і сказалі Яму: якое знаменне можаш ты даць нам, што маем права так паступаць?

Адказаў Іісус і сказаў ім: *“Разбурыце храм гэты, і я за тры дні пабудую яго”.*

Сказалі Яму іўдзеі: “У сорак шэсць гадоў быў пабудаваны гэты храм, а Ты ў тры дні адновіш яго?”

– А ён жа казаў аб Храме Цела Свайго. Бо яшчэ не вечар, так?

– Ну, так... Многія свяшчэннікі і лявіты, старэйшыны пакаленняў, дзяды, аксакалы, як мы можам сказаць сёння, якія бачылі ранейшы храм, які разбурылі, пад час закладкі новага, бачачы тое, плакалі гучна; але многія і ўсхліпвалі ад радасці гучнагалосна. “*І не мог народ распазнаць воклічаў радасці ад галашэння плачу народнага; таму што народ ускрыкваў гучна, і голас чуваць быў далёка*”. Гэта ўжо ў Ездры, у трэцім вершы. Як ты думаеш, з якой прычыны яны плакалі?

Пытанне звернутае да мяне. Адчуў сябе школьнікам на экзамене. Але не разгубіўся, як на ўроку перад настаўніцай.

– Я магу тут угледзець дзве прычыны ці бакі: маральна-этычны і экалагічны. Тут рэзкае адрозненне ўнутранага і духоўнага зместу індывідаў. Дзяды бачаць, што “святароў у адзенні іх ставяць пасля таго, як пакладзена аснова храму Гасподняму” – у большасці выпадкаў на пачатку зносінаў, духоўнага яднання маладых: дзяды яшчэ помнілі, як яны пачуваліся мужамі ў сіле. Памяталі і тое, як у іх час з нявест дзявочай вялі адразу пад вянец, а затым ужо, узаконіўшы шлюб перад людзьмі і перад царквой, а найперш перад Богам, адпраўлялі іх у шлюбны ложак... І тут, калі пакласці звесткі на мову дойлідства, адкрыем сакрэты пакладзенага падмурка храму Гасподняму. Пра гэты храм, нерукатворны, значыць, не гэтага тварэння, можна прачытаць, знайсці і ў “Пасланні Паўла да яўрэяў” – у раздзеле дзявятым. Але там гаворка ідзе пра скінію, названую “святое святых” (9:3), дзе (9:24) сказана*:”Бо Хрыстос увайшоў не ў рукатворнае свяцілішча, паводле вобразу сапраўднага ўсталяванае, а ў само неба, каб стаць сёння за нас перад абліччам Божым…*”

– А экалагічная праблема ці прычына?

– На гэтае яшчэ больш складанае пытанне: “Як функцыянуе нашая памяць?” – можна даць адказ. Але толькі пры ўмове правільнага прачытання той дакументацыі, якая прымянялася двойчы пры будаўніцтве Храма: як і ўказана ў тэксце Пісання. Спачатку пры цары Саламоне, а потым пры праўленні цароў персідскіх – Кіра, Дарыя, Артарсеркса, Ахашвероша... Па аб’ёме часу ўказана пяць.

Аднаўлялі яго на ранейшым месцы – па той жа дакументацыі, тымі ж сіламі – ручной працай. Храм "Узнясення Хрыстова" у Маскве, напрыклад, выкананы зноў на тым жа самым месцы, дзе раней яго ўзвялі продкі. Потым ўзарвалі, зноў аднавілі...

– Але ж гэта вар'яцтва! – усклікнуў Анатас, акругліўшы вочы, наліваючы з крышталёвага глечыка ў кубкі апельсінавы сок.

– Чаму? – падзівіўся я прытворна. – Агульнавядома, што мудрасць Бога нашмат адрозніваецца ад мудрасці нашага часу, нашага стагоддзя…

– Збор, апрацоўка інфармацыі, якая раскіданая па тэкстах Святога Пісання, – гэта вар'яцтва, і пра тое сказана ў Першым пасланні Апостала Паўла да Карынфянаў (3:19): "*Бо мудрасць свету гэтага ёсць буянасць перад Богам, як напісана: "ловіць мудрых у хітрасці іхняй"*. І яшчэ: "*Гасподзь ведае мудрошчы мудрацоў, што яны марныя"*.

– Тады, выходзіць, мы абодва з табой буяны, вар'яты?

Анатас гучна зарагатаў, засакатаў, як чубатка, якая знесла толькі што яйка. Потым адразу ж і пасур'ёзнеў:

– Гэта калі даслоўна разумець словы... Але ж на іх трэба абавязкова накладаць лекала ці іншую мерку. Бо там жа, трошкі вышэй, у шаснаццатым і сямнаццатым вершы сказана: "*Хіба ж не ведаеце, што вы храм Божы, і Дух Божы жыве ў вас? Калі хто абкрадзе святыню Божую, таго пакарае Бог, бо святыня Божая святая; і гэтая святыня вы"*. То пра людзей так сказана. Таму Бог і вынайшаў універсальную форму будаўніцтва Свайго Храма. Гэта і цнатлівасць дзяўчыны, і сам чалавек, і пабудова зямлі, і ўсяго жывога на зямлі. Формула складаная, вар'яцкая, шалёная – а вырашаецца вельмі проста і лёгка... Па гэтых прынцыпах, прызнаюся табе, пабудаваны і мой "Алкеп", і ён з'яўляецца ў нейкай меры храмам... Нават і "не ў нейкай меры", а насамрэч!

– Храмам? – з недаверам зірнуў на яго.

– А чаму б і не?

Анатас перакладваў на стале лісты ватмана з матэматычнымі формуламі, апрацаванымі і выверанымі на камп'ютары, складваў іх у кіпу на стале. У яго паглядзе заўважыў нейкую разгубленасць, а, можа, нават і расчараванне. Мне нават стала і шкада яго. Столькі патрачана часу, сілы, каб дакапацца да самых патаемных глыбіняў Пісання, расшыфраваць усё да драбніц – і адчуць сябе вар'ятам. У чым ён сам, па-сутнасці, і прызнаўся...

“Божа, – думкава звярнуўся я да Вышняга, – не дапусці да граху, зрабі так, каб не звар’яцеў, удзельнічаючы, не па сваёй волі, у абмеркаванні тэкстаў Святога Пісання!..”

3

Карабель уздрыгнуў, як усё роўна наткнуўся на нешта. Зазвінелі цененька крышталёвыя фужэры, дакрануўшыся адзін да аднаго.

Толькі цяпер у маю свядомасць прабілася думка – дзе ж мы знаходзімся, куды плывем – ці – ляцім?! І колькі прайшло часу, як мы з заказчыкам балаболілі, спрабуючы знайсці нейкую ісціну ў раскрыцці сэнсу Бібліі. “Даруй мне, Божа, грахі мае і правіны!..”

– Дзе мы знаходзімся, Анатас? – без асаблівай трывогі папытаўся ў яго. – Далёка адплылі ад маёнтка Паскевічаў?

Ён не адрываў позірку ад нейкай, яму аднаму вядомай, кропкі, безуважна адказаў:

– Ды як сказаць... Мы і не адплывалі нікуды. Мы пагрузіліся. Запраўляемся пакуль энергіяй.

– Як пагрузіліся? Куды?

– Не палохайся. Мы пагрузіліся на дзясяткі тысяч кіламетраў. У гэтых недрах мы запраўляемся энергіяй неспатольнай магмы. Тут наша запраўка. Тут таксама цывілізацыя, і нашмат вышэйшая, чым там, дзе ты жывеш... А для “Алкепа” няма аніякіх праблемаў перамяшчацца няхай ці то праз акіян, ці праз зямны шар, нават і праз космас... Ён і плавае, і лётае, і перамяшчаецца віртуальна... Не здзіўляйся – цудаў ніякіх няма. Проста ты знаходзішся на караблі, які створаны мільярд гадоў таму, перад самым сканчэннем першага канца свету...

Я не знайшоў слоў, каб выказаць сваё здзіўленне і адначасова недаўменне. Мільярды гадоў, канец света... Мудрагеліць заказчык. Пляце нейкае павучынне, аблытвае мяне... Для чаго?

Агледзеўся наўкола. Усё выглядала натуральна і рэальна. Гадзіннік на сцяне быццам бы і адлічваў час, але стрэлкі стаялі на месцы; у пакоі павявала свежае паветра, але невядома адкуль яно бралася; у кубкі налітая кава, і ад яе падымалася пара... Але я чамусьці не паверыў убачанаму. Быццам сядзеў каля экрана тэлевізара. Перада мною непадманныя рэчы, але калі толькі паспрабую дакрануцца да іх, мая рука ўвапрэцца ў шкляны экран...

– Табой апанаваў страх?

– Ды не... Цікава проста. Ніколі са мной нічога падобнага не здаралася.

– Калі ж табе сапраўды стала страшна і калі ты думаеш, што я захапіў цябе ў палон, у любы момант можаш сказаць, што хочаш перапыніць гэтае падарожжа і вярнуцца назад... Мы зноў апынемся на прыстані бруднага Сожа, і ты сыйдзеш на бераг. І тады ўжо мы больш ніколі не пабачымся. А за тыя грошы, што табе даў, не хвалюйся – вяртаць іх ты не будзеш... Таму рашай, апошняе слова за табой. Выбіраць табе. Можаш вярнуцца ў свой свет – чарнобыльскі, з сапсаванай экалогіяй, дзе гінуць птушкі і звяры, і разам з імі чалавек, дзе мільёны тон брудных рэчываў падаюць на чалавека з заводскіх хімічных трубаў... Дзе злачынства і смерць, кроў і войны па ўсім зямным шары... Альбо пажыць нейкі час у маім храме, дзе няма ні мікробаў, ні бруду, ні хваробаў, ні зла, ні забойстваў, ні смерцяў...

Пасля некаторага раздумвання выдыхнуў з сябе выпакутаванае:

– Не, мне не страшна... Мне ўжо цікава. Такое ў маім жыцці ніколі не паўторыцца.

Анатас усміхнуўся:

– Так, браце, не паўторыцца. Ніколі... Ты тут, Антон, як кажуць, у самае яблычка. Стаміўся я чамусьці. А ты, Антон?

– Таксама. Сам не ведаю, ад чаго...

– Тады сёння, з тваёй згоды, мы больш нічым займацца не будзем. Даруй, што затлуміў табе галаву сваімі параносвамі… Час позні ўжо. Нам трэба добра выспацца, каб быць заўтра ў форме. Для цябе адведзеная асобная каюта, з усімі выгодамі. Ёсць тэлефон, па якім ты можаш пазваніць куды хочаш і каму хочаш...

– Ого! – усклікнуў я абрадавана. – Нават так?

– А як жа. А ты думаў, што пасаджаны за краты?

– Ды не думаў я пра такое...

– Я твару толькі добрае. У тым пераканаешся і сам.

Крочым па доўгім калідоры з мноствам – справа і злева – дзвярэй. Адныя з іх гаспадар расчыніў, запрасіў мяне пераступіць парог.

Жыллё больш нагадвала кватэру, чым карабельную каюту.

– Вось тут кухня, тут – спальня, а тут ванная з душам і гарачай вадой. А там – прыбіральня. Здаецца, усё. Дабранач!

Ложак з цвёрдым матрасам – як мне і хацелася.

Накрыўся халоднай махровай прасцінай, быццам бы прынесенай толькі што з вуліцы, з волкага паветра. Душ, які прыняў перад гэтым, не падбадзёрыў, а, наадварот, зрабіў млявым, але без стомы.

На тумбачцы, праваруч, стаяў радыётэлефон – гарэла маленькая зялёная кнопачка падзарадкі. З'явілася жаданне пазваніць жонцы, сказаць-далажыць, што нармалёва ўладкаваўся – супакоіць, каб не хвалявалася. А другая думка раіла ўсё ўзважыць і абдумаць як след, не спяшацца пакуль са званком. З майстэрні ж тыднямі не званіў, а тут прайшло ўсяго некалькі гадзінаў.

Перанёс тэлефаванне на няпэўны час.

Карабель як быццам бы загайдала на хвалях – мо плылі па моры-акіяне? Мне хацелася зірнуць за занавешанае акно: цікава, што за ім? Але разморанасць і млявасць не давалі мне магчымасці падняцца з ложка. Не думалася нават пра Анатаса, пра яго "Алкеп", пра заказ, дзеля якога і знаходзіўся тут, – душу і цела апанавала такая лёгкасць і лагода, што, здаецца, і не памятаў, ці было калі са мной такое ў жыцці...

Ніякай трывогі сэрца не адчувала. І Голас маўчаў, не напамінаў пра сябе. Здалося, што праз фіранкі слаба прасвечваўся месячык. Маладзічок. І тое яшчэ больш супакоіла мяне... Падалося, што ляжу ў адрынцы бабулі, а ў падстрэшшы, над галавой, варушацца ў сваіх гняздзечках ластаўкі.

Прымроілася нават, што недзе кукарэкнуў певень...

Шмат чаго мне чулася ў тую ноч...

Як толькі прымружыў вочы, мяне тут жа ахутаў мройны салодкі туман... Зашапацелі трыснягі, зашамкалі, ліжучы пясчаны бераг, хвалі маёй Прыпяці... Зліпліся вейкі, і не было сілы ўжо расплюшчыць іх... І нечый голас – ціхі і затоены – шаптаў мне на вуха, як папярэджваў, напамінаў пра тое, што некалі чытаў у бабуліных кнігах – Святым Пісанні: "*Сіла Божая – не сіла чалавечая, і Слава Божая – не слава чалавечая...*"

4

Раніцай пабудзіў мяне тэлефон.

– Ну і мастак ты спаць, – голас належаў Анатасу – смяяўся, але не дакараў, нават радаваўся нечаму. – Вітаю цябе, Антон! Асмельваюся пабудзіць...

– Добрай раніцы, Анатас! А якая цяпер гадзіна? Колькі я спаў?

– Спаў ты больш сутак. Цяпер не раніца. Цяпер абедзенны час... Як пачуваеш сябе?

– Дзякую. Вельмі добра. Спаў як забіты.

– Час і падсілкавацца. Я буду ў абедзеннай зале.

– Добра. Хутка буду.

– Лады. Але асабліва не спяшайся. Рабі ўсё спакваля. На "Алкепе" ўсё робіцца без прынукі і нехапатліва. Тут ніхто не сочыць за часам, але наладжаны строгі і дакладны рытм жыцця. Унутраны, свой, алкепаўскі рытм.

Праз шторы цадзілася святло. Калі ж рассунуў іх, то за акном убачыў сонечны дзень, блакітнае неба, і плылі мы па нейкай невядомай рэчцы – па беразе спрэсраслі невядомыя дрэвы: ці то кіпарысы, ці то пальмы...

Няспешна, як і раіў Анатас, пачаў збірацца. Засцяліў ложак. Прысеў з паўсотні разоў, падцягнуўся на турніку, што знаходзіўся ў каюце. Абдаўся пад душам. Накінуў блакітную сарочку, якую прыхапіў пра запас, хаця ў шафе іх вісела процьма – на розны густ і колер.

Яшчэ раз зірнуўся ў люстэрка:

– Ну, што, спадар Антон, – наперад?

– Рушма! – сам самому загадаў, нават падміргнуў па-змоўніцку. – Ды не губляй розум! Не ўсё золата, што блішчыць, не ўсякая прыгожая дзеўчына пяшчотная і цнатлівая!

– Будзьма!

Капітан Нэма, як паспеў ахрысціць яго, сядзеў ужо за сталом – чакаў. У тым жа шэрым касцюме, шэрай сарочцы, у чорных туфлях і ў чорным, нязменным капелюшы.

– Якія сны бачыліся?

– Не памятаю. Але нічога трывожнага не пракідвалася.

– На "Алкепе" заўсёды так. Што хочаш сабе заказаць?

– А што, тут як у рэстаране?

– Не ў кожным рэстаране можна заказаць тое, што ў нас... Тут усё, што твая душа пажадае.

– Усё-ўсё? – не паверыў я.

– Нават і больш таго.

– Тады – звычайны абед. Боршч, біфштэкс, мінералка.

Анатас спытаў, гледзячы некуды ўверх:

– Яніна, ты ўсё чула?

– Чула, мой капітан! Праз хвіліну прынясу.

У зале было светла – усе вокны расчыненыя. Фіранкі, бы ветразі, надзімаліся ад ветру, што ўрываўся ў вокны.

– Дзе мы цяпер плывем? – пацікавіўся я, гледзячы за акно.

– Плывем па Паўстаніі. Ёсць такая краіна. Глядзеў у акно? Падабаецца?

– Ага. Экзатычны край.

– Дзівосны.

Расчыніліся дзверы, і да нас, цокаючы абцасамі чорных туфляў, ішла дзяўчына ў белай сукенцы. Міжволі павярнуўся ў яе бок. Уздрыгнула сэрца. Падалося, што такога не магло быць. Я працягваю спаць і бачыць сон.

Кінуў ёй роспачнае маўклівае пытанне: "Што ты тут робіш, Янінка? Што прывяло цябе сюды?!"

Але яна нават і не зірнула ў мой бок – падалася строгай і непрыступнай, як ніколі не ведала мяне.

"Пры Анатасе не хоча выдаваць сябе? А мо і сапраўды нашыя шляхі нідзе не перакрыжоўваліся, я напрыдумляў немаведама што..."

Дзяўчына гэтак жа маўкліва паставіла перада мною паднос з заказанай стравай, нахілілася над сталом паміж мной і Анатасам. І ў той жа момант я паспеў заўважыць, што на кончыку яе вуха свяцілася маленечкая чырвоная кропачка – радзімка, як зорка ў паўночным небе. Зноўку ёкнула сэрца: то ж некалі я любіў цалаваць мочку вуха з рабацінкай, што, дарэчы, падабалася і ёй... Мне нават захацелася неўпрыкмет ад Анатаса наступіць ёй на нагу. Але яна сама апярэдзіла мяне – першай наступіла на маю. Але я не зразумеў: ці то яна незнарок так зрабіла, ці адчула маё жаданне...

– Дзякую, – мовіў глуха.

Яна ж глядзела на капітана Нэма. Ён кіўнуў таксама, падзякаваў ёй, як усё роўна загадаў пакінуць нас адных.

– Наліць? – пацікавіўся ў мяне, узяўшы адкаркаваную бутэльку.

– А не сап'юся я, Анатас, на тваім караблі? На халяву і воцат, як кажуць, салодкі...

– Ні ў якім разе! – упэўнена заявіў Нэма. – Па-першае, напой самай высокай маркі. Ніякай алкагольнай залежнасці... А яшчэ ж, тлумачыў табе, у нас няма алкаголікаў, гультаёў, мы не ведаем,

што такое зайздрасць і сквапнасць, ну, ды і сам ты з цягам часу зразумееш…

Мы выпілі і раз, і другі. Шкалікі маленькія, трошкі большыя за напарстак... Боршч смачны – з паляшуцкімі грыбамі. І яшчэ з нейкімі прыправамі, невядомымі мне. Добра падсмажаны і біфштэкс.

– Калі прыступім, мой капітан? – папытаўся ў Анатаса. – А то разлянуюся тут, развучуся пэндзаль у руцэ трымаць.

– Не церпіцца стаць за мальберт?

– Не церпіцца... – прызнаўся я.

– Уж замуж невтерпеж?... Я ж казаў табе, што тут ніхто і нікуды не спяшаецца. Памятаеш, у Адкрыцці Яна, у 21-й частцы: *“І я ўбачыў неба і зямлю новую; бо ранейшае неба і ранейшая зямля зніклі, і мора ўжо няма. І я ўбачыў горад святы, новы Іерусалім… і смерці ўжо ня будзе; ні смутку, ні крыку, ні болю ўжо ня будзе, таму што мінулае знікла…”* І для цябе мінулае знікла. Ну, ды ладна. Але мальберт твой няхай трохі пачакае. Бо перад працай ты, калі жадаеш, павінен пазнаёміцца з маім караблём, з маімі ўладаннямі...

– А ўжэ ж, як казала мая бабулечка, жадаю...

Ён першы падняўся з крэсла, спыніўся, як бы раздумваў, куды мяне павесці, спытаў:

– З чаго ж нам пачаць, шаноўны спадар – мастак Антон Клімовіч?

– Не ведаю, бо не ведаю, што тут у цябе – у тваёй дзяржаве. Мне ўсё роўна...

– Добра. Тады пачнем са стадыёна.

– З чаго? – перапытаў, не паверыўшы. – Сапраўднага стадыёна?!

– А чаму б і не? Пайшлі!

“Жартаўнік, – падумалася мне. – Можа яшчэ і з трыбунамі, з мурожным полем, футбольнай яшчэ камандай?”

“Знарок ці незнарок наступіла мне Яніна на нагу? Каб незнарок, ды і не ведала мяне, то, мусіць бы, папрасіла б прабачэння, а так... Што – так? Анічога!”

Анатас лёгенька штурхануў дзверы, але не пераступіў парог:

– Як будзе на тваёй мове – калі ласка, шаноўны спадар?

– Ты і маю мову ведаеш?

– І не толькі тваю. А чаму б і тваю не ведаць? Яе толькі тупагаловыя і манкурты не могуць вывучыць...

Яго словы мяне прыемна здзівілі і парадавалі. “Хоць у апазіцыю запісвай, – падумалася нечакана, – свой чалавек... Мо ён і Зянона Пазняка ведае, Станіслава Шушкевіча?”

Я пераступіў парог. Тое, што адкрылася перад маімі вачыма, ашаломіла. Мы стаялі каля футбольнай сеткі – ззаду яе. За ёй спрытна скакаў варатар. Трыбуна ўзрывалася выбухам воклічаў, як быццам да кожнага прыстаўлены мікрафон...

Некаму Анатас памахаў рукой, павітаўся. Нам саступілі месца ў першым радзе.

“Хто з кім гуляе? – падумалася чамусьці мне, хаця ніколі ў жыцці ні за адну каманду не перажываў, і гульню гэтую лічыў за глупства. Зірнуў на Анатаса, папрасіў позіркам, каб патлумачыў. – І як такое можа быць – няўжо гэта ўсё на караблі? Ці тое мне ўсё толькі сніцца?!?”

– Гульцы з Вянеры і Марса. Сяброўскі матч.

– Дык жа на тых планетах, як нам тлумачылі вучоныя, няма жывых арганізмаў, тым больш людзей!

– Адкуль ты ведаеш? – усміхнуўся Анатас. – Бібліі слепа верыш, вучоным, што заяўляюць аб мёртвасці планет, ты таксама верыш... Ты калі-небудзь сумняваешся, га? Го-ооо-оол! – раптам закрычаў ён. – Во ўдар – бездакорны!

– А дзе ж тады яны гуляюць, Анатас? – зніякавела дапытваўся далей, каб хаця што-кольвечы асэнсаваць і зразумець.

– Як дзе? На месяцы, канечне ж...

– На месяцы?!?

– Ох і пытанняў ты мне накідаў сёння! Ды перастань ты здзіўляцца – прымай усё, як бачыш, як яно ёсць. Ты жывеш у паралельна існуючым свеце. Дык і радуйся жыццю!

– Я і радуюся, мой капітан!

Мне прыйшлося падпарадкавацца, паслухацца капітана Нэма.

Не перапытваў, не ўдакладняў больш нічога... Здзіўляўся, але згаджаўся з рэчаіснасцю, з дзівоснай ці фантастычнай алкепаўскай рэчаіснасцю. За стадыёнам неабсяжная далеч. Сонца не відно, але сонечна і светла. І воблакі плылі па небе. І нейкія птушкі куляліся.

Да майго пляча нехта асцярожна дакрануўся. На мяне – цяжка было ў тое паверыць – глядзелі зелянцаватыя вочы Жанеты.

– Ты?! – перахапіла ў мяне дыханне. – Адкуль?

– Саломы куль, – усміхнулася яна. – А вось ты чаго тут апынуўся?

– Ды заказ у мяне. А гэта мой заказчык. Партрэт яго малюю...

Яна зірнула на Нэма, прамовіла:

– Ведаю яго... Чорны валадар... Люцыфер. Так мы яго завем.

Анатас не звяртаў на нас увагі, захапіўся гульнёй, перажываў, мітусіўся, крычаў разам з усімі... Быццам і не заўважаў нас, быццам мы і не сядзелі побач.

У маю душу закраўся страх. Жанета – тут?! Але ж мне яе сяброўка паведаміла, што яна...

– А мой партрэт ты не жадаеш намаляваць? – спытала дзяўчына, прыкусіўшы язычок, нахіліўшы да пляча галаву – дражнілася.

– Я ж намаляваў яго. У маёй майстэрні стаіць. Ён – твой.

– Добра. Калі-небудзь забяру.

Да нас набліжаўся лепшы з маіх сяброў – Павел. І ад гэтага ў мяне яшчэ больш затрымцела сэрца, твар апалілі сорам і вінаватасць. Няўжо і ён тут разам з Жанетай?

– Прывітанне, Антон! – падаў руку. Я адчуў, як пульсуе кроў у яго далані. – Даўно тут?

– Ды не. Абставіны паклікалі.

– Анатас паклікаў?

– Так, ён.

– Антон, цікава ведаць, а як прайшла тады твая выстава? Шкада, што я на ёй не прысутнічаў... Ты ж ведаеш, што адбылося...

– Ды ведаю, – уздыхнуў я і нахмурыўся. – І вінаваты ў тым толькі я.

– Ды кінь ты, глупства гаворыш...

Ніколі не чакаў, што герояў сваіх аповесцяў сустрэну тут, на гэтым незразумелым стадыёне, у незразумелым часе, ды яшчэ на месяцы. Я адчуваў у сваёй душы боль і дакор. Думаў, што парваў са сваім мінулым, выкінуў яго з памяці, а яно, аказваецца, чапляецца да мяне зноў і зноў...

Павел і Жанета сядзелі ўжо ўпобачкі. Выглядалі як дзве родасныя душы, перад якімі я адчуваў сябе ў неадплатным даўгу.

– Мы яшчэ пабачымся? – папытаўся ў іх.

– Калі ёсць жаданне, – пацiснуў плячыма Павел.

Тупік – больш не было пра што гаварыць, і яны адвярнуліся ад мяне, занятыя сабой.

– Пайшлі, – дакрануўся да локця Анатас. – Пайшлі далей. Бо нам і стагоддзя не хопіць, каб усё агледзець, калі нават па дзесяць хвілінаў будзем затрымлівацца на кожным этапе экскурсіі...

– Стагоддзя? Хіба...

І тут жа мне прыйшлося перапыніць сябе – даў жа слова не пытацца ні пра што, не выказваць здзіўлення.

– Хіба, хіба... – здзекліва мовіў Анатас. – Усё ў гэтым жыцці магчыма…

Расчыніліся дзверы, мы зноў апынуліся ў тым жа калідоры. Не чуваць стала гулу трыбун. Як і не існавала таго стадыёна зусім. Перайшлі праз перакрыжоўку ў другі калідор, некуды зайшлі.

Загарэлася святло. Перад намі адкрылася вялізная зала з мноствам крэслаў – усё нагадвала кінатэатр. Але ён быў незвычайны памерамі – вялізная сцэна без канца і краю..

– Гэта наш кінаклуб. Хочаш зірнуць, што мы тут глядзім?

Анатас шчоўкнуў уключальнікам – і на экране буйным планам мой твар. На сцэне жылі два акторы – я і Анатас. А потым я пазнаў сваю майстэрню. Да мяне заходзіць Анатас. Сядзім. Размаўляем. Потым ён выходзіць, зачыняе за сабою дзверы. Але не чапляецца чамусьці за верх каробкі дзвярэй.

А пасля я ляжу ў рэанімацыі, і каля мяне сядзіць доктар. Потым замест доктара з’яўляецца Яніна – усміхаецца мне, слухае пульс... Яе змяняе Вераніка...

Потым я стаю на беразе Сожа і чакаю, калі мне пададуць трап... Экран патух.

Загарэлася зноў святло. Анатас перапыніў маё артыстычнае жыццё.

– Будзе жаданне і цікавасць паглядзець падрабязней пра сябе і іншых, можаш зайсці сюды ў любы час. Дзверы не зачыняюцца, усе без ключоў. Кіно, як ты пераканаўся, незвычайнае. Для цябе. Для нас гэта ўсё натуральна і звычайна. Ты можаш месяцамі і гадамі глядзець на жыццё сваёй душы і Голасу – убачыць, кім ты быў сто-трыста-тысячу гадоў таму, – не адарвешся...

– Тысячу гадоў?!

– Даведацца пра жыццё любога героя ці асобы любога часу. Пра каго захочаш. І пісаць пра іх дакументальныя раманы. Не рукой, а жаданнем і талентам. Тэхнічны бок – за камп’ютарам. Бо праз стагоддзі творцы нават і друкаваць не будуць на клавіятуры – іх думкі запіша тэхніка. У цябе будзе свая серыя раманаў – “Жыццё” ці “Слова”... Можаш перапісаць нават Жыццё – Жыціе – Іісуса з Назарэта. На экране ўсё натуральнае, не знятае на стужку, а ўсё

падаецца так, як і было на самай справе, ды яшчэ ў натуральным свеце…

Мне заставалася толькі пасміхацца, здзекуючыся з самога сябе. Пачынаў ужо прымаць, згаджацца з той гульнёй, якую прапанаваў мне капітан Нэма. Ды толькі, як я зразумеў і адчуў, – гэта не гульнёй аказалася. Добрай ці кепскай рэальнасцю, яшчэ не асэнсаваў, але адно вызначыў дакладна для сябе – каб вярнуцца ў сваё былое жыццё, каб застацца тым, кім быў раней, павінен згаджацца з усім, падпарадкоўвацца абставінам. І гэта ўсё дзеля толькі таго, каб сыграць без фальшу прызначаную мне ролю ў прапанаваным Анатасам спектаклі ці кінафільме, які невядома хто ставіць і здымае... Называцца яна магла не інакш, як – “Спакушэнне”. Ці – “Спакуса”. А яшчэ лепш – “Дамова на спакусу”, бо мы з Анатасам сапраўды заключылі працоўнае пагадненне на права мяне спакушаць. Гучыць трошкі смешна, абсурдна, але… Я госць Анатаса, і ў нейкай меры і палоннік. А “Алкеп” – як быццам і не турма, але і не воля...

– Ну, на што яшчэ можна сёння паглядзець? – спытаў сам у сябе Нэма, і зірнуў на мяне: – Мо ў басейн зазірнем? Сёння купацца не будзем, а вось заўтра, пасля саўны, з халодным чэшскім півам, адвядзем душу. Як ты на тое глядзіш?

Не адмаўляўся, але ж і не згаджаўся – падпарадкоўвацца дык падпарадкоўвацца.

– Як хочаш...Ты ж тут камандор.

Выйшлі на пясчаны бераг мора. Яно выглядала быццам бы і бірузовым, і быццам бы зялёным, з адценнем сінявы – пералівалася, і на грабеньчыках хваляў гулялі блікі ад сонца... Купаліся людзі. Сталага веку і маладыя. У плаўках і без плавак. Найбольш без плавак. І найбольш дзяўчаты – паўнагрудыя, вясёлыя, вёрткія і бесклапотныя. Побач з намі перакідваліся мячом, грацыёзна падскоквалі, ловячы яго ў паветры... Як лані скакалі – і ў іх тое атрымлівалася лёгка і хутка. Былі яны спрэс загарэлыя, амаль шакаладныя.

Мора цягнулася бясконца, злівалася недзе там, дзе плылі белыя аблокі, з гарызонтам. Над галавой крыкнула пра нешта чайка, кульнулася ўніз, штосьці схапіла каля ног дзяўчат, зноў памкнула ўвысь.

Мне падалося на імгненне, што знаходжуся дзе-небудзь у Сочы ці ў Доме творчасці ў Піцундзе... Нават позірк міжволі пачаў адшукваць сярод адпачываючых знаёмых мастакоў ці пісьменнікаў...

– Падабаецца? – пацікавіўся зноў Анатас, не адрываючы позірку ад той дзяўчыны, што выгіналася і лавіла мяч побач з ім – гнуткая, з літымі грудзьмі, доўгакосая. – Зноў жа, Антоне, калі стомішся ад мяне, можаш працаваць і над сваімі задумкамі, можаш і сюды завітаць... Тут вунь якія серны-козачкі скачуць – любая з іх будзе мець за шчасце з табой паплаваць у моры. І не толькі паплаваць. Бо тут ніхто не ведае такога слова, як “не”...

Ён рагатнуў, на нешта намякаючы. Даказаў:

– А пакупацца не шкодзіла б... Ды, шкада, клопатаў шмат. Заўтра... заўтра... Пайшлі, а то разамлеем пад гэтым сонцам і позіркамі прыгажунь.

Да нас падбегла чорнакосая дзяўчына, прытулілася да мяне ружовымі кончыкамі грудзей, і адразу ток высокай напругі прабег па маім целе. Глядзела мне ў вочы, умольна папыталася:

– А чаму вы, хлопчыкі, пакідаеце нас? Чаму ты мяне пакідаеш? Няўжо не падабаюся? А мы так хацелі, каб вы і нас з сабою ўзялі... Вазьміце, га? Абяцаем рай незямны...

– Ды у нас і так рай...

– Рай, ды не такі без нашых абдымкаў.

Анатаса абвіла другая дзяўчына, яшчэ прыгажэйшая і маладзейшая. Заглядвала Алкепаву ў вочы. Але, адчуўшы, што ў мяне няма жадання круціць любошчы з амазонкамі, той адказаў:

– Прыгажунькі вы нашыя! Мы прыйдзем да вас, прыйдзем заўтра, і будзем з вамі столькі, колькі ў вас хопіць сілы і жадання трымаць нас каля сябе.

– Праўда, прыйдзеце? – у позірку радасць і ўсмешка, шчырая вера, што так яно будзе і насамрэч. – Глядзіце ж, не падманіце! – прыгразілі пальчыкамі амазонкі, праводзячы нас спакуслівымі і вясёлымі позіркамі.

Дзверы зноў упусцілі нас на “Алкеп”, нячутна зачыніліся.

– Ну, што, – павярнуўся да мяне Анатас, – а цяпер пайшлі туды, дзе мы з табой правядзем некалькі дзён разам, – у майстэрню. Ты павінен у ёй асвоіцца, адчуць сябе як дома. Як у сваёй навабеліцкай майстэрні.

Мы падняліся паверхам вышэй. Амаль такі ж самы калідор, толькі трошкі шырэйшы, і дзвярэй, здаецца, меней. І ўсе яны, як і сценкі, колеру пажоўклага лісця. Кожны паверх, аказваецца, меў сваю афарбоўку. Ніводныя дзверы, як і на ніжнім паверсе, не пазначаныя – ні надпісу на іх, ні нумару, ніякай паметкі...

“Цікава, а як жа арыентуецца ў гэтых лабірынтах капітан Нема? Тут жа іх процьма –  і як ён адшуквае патрэбныя?..”

– Анатас, мой камандор, тут жа заблудзіцца прасцей простага. Як ты знаходзіш дарогу?

– Вельмі проста. Мой мозг падключаны да кожнага паверха і адсека. Як толькі я зажадаю некуды завітаць, перад вачыма загараецца табло, на якім высвечваюцца ўсе, неабходныя мне...

– А калі ты знаходзішся на пятым паверсе, а табе трэба, напрыклад, на тысячны?

– А хоць бы і на мільённы... Ён, пяты паверх, і будзе тысячным. Гэта ўсё ўмоўна. У нас няма ні першага, ні апошняга паверха. Усё бясконца, а ў бясконцасці ліку няма. Чуў: “Калі не ідзе гара да Магамета, то Магамет ідзе да гары”. Дык вось, гара па маім загадзе прыходзіць да мяне. У адно імгненне... Мы знаходзімся як бы ў люстраным кубе, у якім шэсць люстраў – па ліку сценак. Таму бясконца можна ляцець уверх, апускацца ўніз, як ісці наперад ці імкнуцца назад, улева ці ўправа...

– Ну і ну... А як жа мне з гэтым разабрацца?

– Не спяшайся, не ўсё адразу... Навучышся... Пакажу табе цяпер, навучу, закрычыш ад страху: “Ратуйце!..” Вось калі перастанеш з усяго здзіўляцца, станеш паўнавартасным сябрам нашай супольнасці, – тады можаш паспрабаваць далучыцца да сеткі люстранога куба. Але – зноў жа – калі пажадаеш... Тут прымусу ніякага няма... Гэта для цябе існуюць калідоры і дзверы, я ж гэтага нічога не заўважаю, а ўсё бачу наскрозь, – усіх бачу, чую, адчуваю…

Маўчу, пераварваю пачутае.

– Што знаходзіцца за гэтымі дзвярыма? – спытаў у мяне Нэма.

– Не ведаю.

– Правільна... А каб быў падключаны да сістэмы, то ўбачыў бы, што гэта плошча школы...

– Якой школы?

– Не той, зразумела, у якой ты вучыўся, не той... Бо тая, савецкая, сапсавала цябе, хаця і не зусім. Адна хіба заслуга, што вас адлучалі ад веры ў Бога. А гэта мая школа, алкепаўская. Усё выкладаецца па маёй методыцы.

– Ты яшчэ і педагог?

Ён не адказаў, а расчыніў перада мною дзверы. Мы разам пераступілі парог. Спыніліся каля вялізнага экрана. Выкладчык ці

настаўнік нешта тлумачыў аўдыторыі, скіраваўшы прамень указкі на экран-дошку, што мелася перад кожным навучэнцам...

Настаўнік быў апрануты – копія Анатас. Адзінае адрозненне – даўгія чорныя валасы з-пад капелюша звісалі да плеч. Па ўзросце яўна старэйшы...

– Якая тэма ў вас сёння, шаноўны прафесар? – пацікавіўся мой спадарожнік.

– Зайздрасць, здрада, хцівасць і авалодванне душой чалавека, – амаль па-вайсковаму далажыў прафесар. – Хутка прыступім да практычных заняткаў, усе раз'едуцца і разляцяцца, будуць знаходзіцца сярод людзей...

– Добра, вельмі добра. І як праходзіць асваенне гэтых тэмаў?

– Адстаючых няма, мой капітан, усе ходзяць у выдатніках.

– Тое мяне радуе. Працягвайце ўрок. Выбачайце, прафесар Рэфіцюл, выбачайце, што перапынілі вашу лекцыю... Я проста знаёмлю нашага галоўнага мастака Антона Клімовіча з нашай асветніцка-педагагічнай дзейнасцю.

– О, гэта вельмі добра і прыемна, – сагнуўся ў паклоне прафесар. – Ці не змаглі б вы з цягам часу прачытаць для нашых студэнтаў лекцыю па выяўленчым мастацтве?

Я зірнуў на Нэма, а ён чакаў адказу ад мяне.

– Так, так… Калі трэба, калі прынясу нейкую карысць, то я згодзен…

Гарадзіў нейкую параносву, няйначай, бо нехта кіраваў маім языком, бо і ў думках у мяне не было такое плявузгаць.

– Ён прачытае, – пацвердзіў мае словы Анатас

І мы тут жа пакінулі шматмільённую аўдыторыю, зноў апынуліся на калідоры.

– А што гэта за школа, Анатас? Гэта гімназія, інстытут, калегіум, універсітэт? Каго рыхтуюць, якую спецыяльнасць будуць мець выпускнікі? Прафесійных разведчыкаў?

Алкепаў засмяяўся.

– Гэта школа клонаў. Найвышэйшая школа. Мы ўзялі ДНК самых вядомых людзей сусвету. Самых теленавітых. Вырасцім з іх таленавітых паслядоўнікаў. Яны, выпускнікі, будуць працаваць на тэлевізіі і радыё, у газетах і часопісах, у выдавецтвах... Гары Потэр – адзін з нашых вучняў. Рыхтуем і пісьменнікаў, шоўменаў, дыктатараў і палітыкаў... Яны расселяцца па ўсім зямным шары, каб прапагандаваць тыя ідэі, якія мы ім закладзем. Тварам не бу-

дуць падобны на сваіх суродзічаў, каб іх не пазналі. Так што гэта можна назваць і фабрыкай зорак, фабрыкай прапагандыстаў і ідэолагаў нашага кірунку... Яны былі адметнымі ў бальшавікоў – мільёны і мільёны падупалі пад іх уладу, пахіснуўшы, а то і адабраўшы веру ў Вышняга...

“А які ж у цябе кірунак і ідэалогія, Анатас Алкепаў? – адразу ж зашавялілася ў мяне падспудная думка. – На карысць чалавецтву, ці, наадварот, на яго разбурэнне?!”

Каб не прачытаў мае думкі, імгненна пераскочыў на іншае.

Мы ішлі па бясконцым калідоры. Анатас гаварыў і гаварыў, не звяртаючы ўвагі, слухаю яго ці не, і раптам:

– Стоп, дружа! Зусім забыўся... Перад тым, як ты прыступіш да працы, табе неабходна зазірнуць хаця б на хвілінку ў бібліятэку – адно з галоўных маіх багаццяў. Там ты знойдзеш любыя даведнікі і навуковыя трактаты, інфармацыйныя паведамленні з усяго свету, газеты і часопісы...

Ён дакрануўся да дзвярэй, каля якіх спыніліся, і яны нячутна расчынілася перад намі. Пераступілі парог. У памяшканні ціха, толькі лёгкая прахалода абвявала стэлажы з кнігамі.

– Каб усё гэта абысці – жыцця не хопіць, нават і майго, – патлумачыў гід. – Таму ўсё аўтаматызавана. Можна ездзіць па лабірынтах на электрамабілі, можна рабіць электронны заказ на любую літаратуру – і праз хвіліну яна з’явіцца на гэтым стале. Таму і пытаюся ў цябе, шаноўны спадар Антон, якую літаратуру ты хочаш цяпер атрымаць?

І, не чакаючы, калі я што-небудзь адкажу, калі пройдзе маё здранцвенне, прапанаваў сам:

– Давай мы з табой закажам апошнія выданні маладых празаікаў. Напрыклад, арыгінальнага пісьменніка і мастака Антона Клімовіча, яго несмяротны твор “Рэквіем”.

Анатас набраў на клавішах тэкст, і ён высвеціўся на экране. Потым націснуў клавішу “Ent”. Да стала па нябачным транспарцёры рухалася кніга. На вокладцы буйным планам мая фатаграфія. За спінай бярозы. Ніколі мяне ніхто не здымаў у бярозах. Фотамантаж? Ніжэй – фотамалюнкі двух маіх герояў – Паўла і Жанеты. Яны ўсміхаліся, глядзелі адно на аднаго. Адгарнуў вокладку: “*Выдавецтва “Алкеп”. 1999 г. “Рэквіем”.*

Нічога не разумеў. Я ж ведаў, што мая кніга яшчэ ў рукапісе, чакае свайго часу. Як яна выйшла без майго дазволу? Я ж не даваў

рукапіс ніводнаму выдавецтву, і папка яшчэ ляжыць у маёй майстэрні. Такія жарцікі ў Алкепава?

Непаразумела глядзеў на камандора:

– Як жа такое можа быць?

–А што? Хіба ты не марыў аб ёй? Марыў. Нават п'яны прызнаўся Юрасю Фатневу, што напісаў дзве аповесці, і што хочаш іх выпусціць у свет. Дзяліўся планамі, скажы?

– Ну, дзяліўся... Але ж у мяне, у п'янага, развязаўся язык.

– Тады, скажы мне, а хто цябе цягнуў за твой язык?

– Ніхто... А што, ты хіба выконваеш пажаданні любога чалавека?

– Язык мой – вораг мой? Ты думаеш, што гэты выраз нарадзіўся проста так? То ж я яго вам і падкінуў. Ну, і пападаюцца многія на гэты кручок, самі таго не падазраючы, і не ведаючы.

– Дзівосы, ніколі не думаў, што...

– Ды не хвалюйся ты наконт рукапісу. Над ім папрацавалі камп'ютарныя карэктары, стылісты і рэдактары. Ніводнай памылачкі ў тэксце. Усё выверана, даведзена да ладу. Калі ж знойдзеш хаця адну, то я пры табе, на тваіх жа вачах, павешуся.... Кніга ва ўсіх кнігарнях свету – на розных мовах. Папярэдне прайшла рэклама. А я ў сваім банку адкрыў для цябе рахунак. Так што чакай мільярдных прыбыткаў ад продажу... Табе такое і не снілася, так?

У мяне на душы і радасць, і горыч. Пры іншых абставінах абрадаваўся б, што ў руках трымаю першую сваю кнігу, але ж яна чужая, не прырошчана да мяне…

– Вазьмі, – прапанаваў Анатас, – перад сном прачытаеш... Калі што не тваё, не ад цябе, не позна паправіць… Выдадзім новую, удасканаленую, непасрэдна пад тваім прыглядам… Гэтую будзем лічыць чарнавіком, рукапісам.

Ён, як я ўсё больш і больш пераконваўся, чытаў мае думкі, не пакідаючы мне магчымасці для доказу сваёй нязгоды. Такога ў ступе таўкачом не зловіш…

Зноў крочылі па калідоры. А ў маёй галаве нараджаліся здагадкі: “Мае героі ажылі менавіта ў той час, калі Алкепаў выдаў кнігу? Яны ж да гэтага існавалі толькі ў рукапісе, а тады, як увайшлі ў кнігу, адразу...?”

Камандор Нэма, паглыблены ў сваё, спыніўся, і я ледзьве не збіў яго з ног. Лёгкім дотыкам указальнага пальца капітан Нэма піхнуў дзверы. Адразу пачуўся пах фарбы, растваральніку, клею,

грунтоўкі... На мальбертах стаялі белыя, як снег, гатовыя, з сухой грунтоўкай, палотны – бяры і малюй... На розныя памеры – гарызантальныя, вертыкальныя, ад далані і да некалькі метраў шырынёй і вышынёй… І пад’ёмнік стаяў каля іх – падымаў мастака на любы ўзровень.

Адусюль натуральнае святло. Мы як быццам знаходзіліся пад адкрытым небам, але тут не гулялі ні вятры, ні скразнякі...

– Тут заўсёды так, – растлумачыў, гледзячы ўверх капітан Нэма. – Тут ніколі не бывае ценяў, таму зручна падбіраць колеры, не будзе памылкі і ў падборы танальнасці...

– Разумею. Цікава. Гэта мне падыходзіць.

Калі ж я хацеў змераць вокам, ці вялікі пакой па аб’ёме, то не здолеў таго зрабіць – бясконцы неабдымны позіркам ландшафт, з пальмамі і лаўкамі пад імі.

– Тут ёсць усё і нічога няма, – зноў тлумачыў Анатас. – Няма людзей, тэлевізара і радыё, няма птушак, пабочных гукаў – усяго таго, што перашкаджае творчасці... Але калі трэба схадзіць на эцюды, падпітка прыродай – вось дзверы. За імі пейзажы, жывая прырода – лес, лугі, рэчкі, кветкі... А можна бачыць пейзаж, і не выходзячы адсюль.

Анатас падышоў да доўгага стала, прыўзняў бліскучую дошку. Папрасіў позіркам падысці да яго. На панэлі міргалі нейкія значкі, свяціліся зялёныя лямпачкі.

– Антон, ты біўся месяц над сваім творам “Дарога да храма”. Давай пашукаем у прыродзе гэты сюжэт.

– Давай.

На вялізнай тканіне, неабдымнай шырыні і вышыні, высвеціўся пейзаж. Я адразу пазнаў бераг сваёй Прыпяці – рыбакі сядзелі ў чоўнах і вудзілі рыбу. Рука Алкепава вяла нябачны аб’ектыў па палях і лугах, па бярозавым гаі... А потым за шырокім возерам, дзе густа раслі трыснягі, адкрывалася панарама той мясціны, якая хвалявала маё ўяўленне...

Поле-дарога да вяршыні ўзвышша. А дарогай служылі кветкі з макаў і рамонкаў... Макі – між рамонкаў. Як быццам бел-чырвона-белы штандар апусціўся з неба і лёг на зямлю. Холад і дрыжыкі прабеглі па маім целе: “І ён ведаў пра гэты пейзаж?”

Рух камеры спыніўся. Ад пейзажа дыхнула прахалодай, пачуліся спевы птушак, а потым і глухія ўдары царкоўнага звону...

Перасохла ў горле, здранцвеў язык.

– Твой пейзаж?

У знак згоды кіўнуў галавой.

– Ты патраціў месяц на стварэнне, а я зраблю ўсё за пятнаццаць секунд. Глядзі...

Ён націснуў клавішу.

Паветра пачало ператварацца ў неба, поле з макамі – у дарогу... Пачуўся пах фарбаў, ільнянога алею, лаку... Нябачны мастак вадзіў нябачным пэндзлем па палатне. Але мастак не капіраваў прыроду. Уносіў свае карэктывы і штрыхі ў малюнак. Мяне здзівіла і ўразіла тое, што рабілася гэта маёй рукой... Я ж памятаю, як даводзіў да канца "Дарогу", самыя нязначныя кропачкі адзначаў мой пэндзаль... Адзінае, што хуткасць была павялічаная шматкроць.

Падышоў да палатна, пакратаў яе. На пальцах засталася свежая зялёная фарба – дакрануўся да травы, і яе фарба мела свой пах.

– Анатас, даруй, але я нічога не разумею... Адкажы мне на такое пытанне. Скажы, калі ласка, навошта мяне трэба было цягнуць сюды, прасіць, каб я маляваў цябе, а ты толькі адным націскам кнопкі можаш стварыць любы пейзаж... І не толькі пейзаж, а мільёны сваіх партрэтаў. Лепей мне не зрабіць...

Ён пахітаў галавой.

– Гэта непасільна камп'ютару... Ён творыць логікай. А ў цябе – інтуіцыя. Тое, што ты бачыў – кампутарная графіка, кампутарны жывапіс... Яна ніколі не можа замяніць талент сапраўднага мастака, чалавека, яго душу. Найперш – душу. Таму я і бяру яе ў палон. Калі я параўнаю тваю "Дарогу" і гэтую, перавагу аддам, безумоўна ж, той, якую стварыў ты. У ёй твая душа, а тэхніка душы не мае. Няхай яна і звышвытанчаная...

Мне за лепшае выпадала маўчаць. Захацелася яшчэ пільней прыгледзецца да імгова створанага шэдэўра. Адышоў на крокаў трыццаць. Прымружыўшы вочы, пачаў напружана ўглядацца ў "анатасаўскі" пейзаж... Плылі паважна аблокі. Лcraталі буслы над полем. Зумкалі пчолы, сядаючы на кветкі. Пейзаж жыў сваім жыццём, па сваіх законах.

Усё быццам бы здавалася дасканалым і праўдзівым, і прапушчана праз таленавітае ўспрыняцце і бачанне, але, на мой погляд, шмат чаго і не ставала... Я ведаў, чаго. Быццам бы і дробязь. Але ў той дробязі і ўтойвалася моц пейзажу. Пра тое я нічога не сказаў "плагіятару"...

– Уражвае! – прамовіў без асаблівага пафасу. – Фантастыка! Вось бы нам такую тэхніку туды, у мой свет...

– Зайздросціш, Антон?

– Шчыра прызнаюся, не. Мастакам гэта не паможа, а паліграфіі асвоіць такі прагрэс яшчэ не пад сілу.

– Во-во... Усё ты разумееш.

Мне заставалася толькі ўздыхнуць.

– Мой камандор! Анатас, а мы дзе будзем працаваць? Тут?

Ён паглядзеў вакол, падумаў, мне ж сказаў:

– Не. Тут, мусіць, задужа прасторна, а ты прывык да камернасці, утульнасці, ці не так?

І, не чакаючы майго адказу, павярнуўся, пайшоў, запрашаючы мяне, тым самым, крочыць следам:

– У майстэрні ўсё ёсць, што ты ні пажадаеш... У нас ніколі не існавала дэфіцыту. Ёсць усё заўсёды.

– Камуністычны рай?

– А хаця б і так... Алкепаўскі рай. Чым кепска?

– Але адзін наш пісьменнік, так сабе, пасрэдны пісьменнік Антон Крушня, назваў яго “Пекла ў раі”, хаця потым назву ў выдавецтве, з яго ж згоды, памянялі на “Пякельны рай”. Рэдактар пабаяўся, што расейцы падумаюць, што “пекла у Раи”, принялась печь пироги у Раи…

– У кожнага творцы свой погляд, – адмахнуўся ад мяне капітан. – Хаця і ў рэдактараў здараюцца заскокі…

Мы пераступілі парог, спусціліся на дзве прыступкі ніжэй. Я ледзьве не войкнуў ад здзіўлення – гэта ж мая майстэрня! Усё да драбніц выглядала так, як і ў мяне – і сцены, і падрамнікі, і шафа, на якой стаялі Ясь і Яніна...

– Ну, як табе тут? Такое табе падыходзіць?.. Гэта, бадай, адзіны куточак, які мае камерны памер. Каб ты адчуваў сябе ўтульна.

Сціснуўшы зубамі верхнюю губу, кіўнуў моўчкі ў адказ.

І тэлефон тут стаяў – ламаны-пераламаны, біты-перабіты. Гэта ж я чапляўся за шнур, і ён процьму разоў бразгаўся вобзем... Падкацілася жаданне тут жа пазваніць жонцы ды сказаць, каб прыйшла да мяне. Але спужаўся сваёй жа думкі: паклікаць можна, але як яе потым выбаўляць адсюль?!

Ясь і Яніна стаялі адно супраць другога. Як быццам размаўлялі, як усё роўна дамаўляліся пра нешта...

– Анатас, а які ты жадаў бы мець памер свайго партрэта? Вялікі, малы?

– Думаю, што гэта не мае асаблівага значэння. Рабі, да якога прывык.

– Тады пайду выберу тое, што нам падыдзе?

– Схадзі.

Выбраў сярэдні памер, у якім адчуваў сябе вольна і смела. Праверыў тканіну і грунт. Выраблена ў Нясвіжскім замку, у майстэрні. Штамп пра тое сведчыў. І квадратная пячатка Вялікага Княства Літоўскага, герб Радзівілаў.

Калі ж вярнуўся ў "сваю" майстэрню, Анатас стаяў каля акна, глядзеў скрозь шыбы ў блакітную прастору. Падышоў да яго, стаў побач. Удалечы, за сасняком, бачны добра мой дваццаціпавярховы дом. Хацелася папытацца, ці мы сапраўды знаходзімся ў раёне Навабеліцы, ці то толькі прывід, але тут жа і перадумаў, ведаў ужо, што адкажа капітан Нэма... Я ж не сыходзіў на бераг, значыць, я ў яго на "Алкепе", а "Алкеп" за дзясяткі светавых месяцаў ці гадоў ад майго жытла... А тут – мроі, прывід, казка, хаця...

– Прыгожы пейзаж, – уздыхнуў заказчык, быццам гэта ў яго была настальгія па родных мясцінах, а не ў мяне.

– Цудоўны, – пагадзіўся і я.

– Падабраў памер?

– Падабраў...

Яшчэ раз зірнуў за акно Анатас, пайшоў на сярэдзіну залы. Сеў у маё старое, пацёртае крэсла, якое мы некалі адшукалі з Пушкаром на развалінах разбуранага старадаўняга, некалі багатага дома... Яно слаба піскнула, бы патрывожаная мыш...

– Вось тут я і буду сядзець, – сказаў ён. – А ты і будзеш мяне маляваць. Добра?

– Як даспадобы пану капітану.

Анатас замоўк. Унурыўся ў сябе. Як быццам забыўся, дзе знаходзіцца і з кім. Мо і падрыхтаваўся для першых накідаў, а мо і сапраўды да яго прыйшла тая хвіліна, калі захацелася застацца сам-насам са сваімі думкамі...

Тым часам правёў чорным вугольчыкам-крэйдай некалькі штрыхоў. Вызначыў кампаноўку, абмаляваў паставу, у якой павінен знаходзіцца мой заказчык. І – засумняваўся: "І ці так трэба пачынаць? Як першы раз стаў за мальберт... Перарабі. Бо гэта ж рамесніцтва, гэта ж – халтура..."

Прыйшлося сцерці першыя абрысы. Але і другія мазкі чамусьці не клаліся “ў масць”. Як і не мая рука рабіла тое... Але я не адчайваўся – такое здаралася са мной раней, і не адзін раз…

– Не ідзе? – шчыра і спагадліва пацікавіўся пазіроўшчык.

– Пэндзаль не слухаецца... – прызнаўся. – Нават не пэндзаль, а крэйдачка... Уцякае чамусьці вобраз. Сядзі так, добра... Патрапіў ужо...

– Слухаюся. Колькі заўгодна, сам жа напрасіўся. Назваўся баравіком – лезь у кашэль. Так, здаецца, кажуць у вас на Палессі?

– Так, так, Анатас...

Раз-пораз страляў позіркам у яго бок, стараўся злавіць няўлоўнае, што не падпарадкоўвалася. Але яно зноў і зноў выслізвала, бы ўюн...

– Ты шукай, а мы тым часам пагамонім з табой. Прадоўжым, калі ты не супраць, распачатую раней размову.

– Не супраць, капітан... Маўчаць жа не будзем. Сумна, калі маўчыш.

– Во-во..

Але размова не распачыналася.

– А давай пагаворым, Антон, пра золата, – ажывіўся капітан Нэма. – Золата-злата-Залатавуст. Ёсць сусальнае золата, жывапіснае, кашачае... Залатнік, залатар... Ёсць і такое паняцце, як проба каштоўных металаў. Гэта колькаснае змесціва золата, срэбра, плаціны і паладзія ў лігатурным сплаве, з якога вырабляюцца ювелірныя вырабы і адбываецца чаканка манет. Проба выражаецца лікам частак металу ў 1000 частках (па масе) лігатурнага сплаву, і чыстаму металу адпавядае 1000-ая проба каштоўнага металу. ПКМ. У суседняй з намі дзяржаве, якая ўсё жыццё старалася падпарадкаваць вас сабе, для ювелірных вырабаў устаноўлена ПКМ такая – 375, 500, 583, 750 і 958 – для золата, 750, 800, 875, 916 і 960 – для срэбра, 950 для плаціны. 500 і 850 – для паладзія... Ведаеш пра гэта ўсё, Антон?

– Ведаю.

– А вось у “Адкрыцці”, у трынаццатым раздзеле, сказана: *“Тут мудрасць. Хто мае розум, той палічы лік звера, таму што гэты лік чалавечы; лік гэты – шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць...*” Гэта памятаеш?

– А як жа...

– Да гэтага ліку мы яшчэ вернемся. А цяпер давай яго ператворым з прапісных літараў у лік і прапусцім праз шэраг пераўтварэнняў да чысціні велічынёй у 999. Гэтую велічыню – 999 пробы – запішам на ілбе звера... “таму што гэты лік чалавечы; лік яго 999 – чысцейшай пробы!” Запомнім гэта, Антон. А што ты ведаеш пра каўчэг?

– Каўчэг? У яго шмат значэнняў. У хрысціянстве гэта назва царкоўных прадметаў, якія служаць сховішчам культурных рэліквій. А ў сінагогах – шафа для захоўвання Пяцікніжжа... А калі браць біблейскі міф, то гэта пасудзіна, на якой Ной з людзьмі і жывёлінамі вырataваўся падчас сусветнага патопу.

– Ну, а яшчэ?

– Яшчэ? Гэта і акаваная скрыня, у якой зберагаюць багацце. Ноеў каўчэг даў нагоду да назвы каўчэга старога ці цікавага віду судна, карабля, і новай нейкай старыннай калымагі.

– Так, так, ведаеш… “*І сказаў мне Госпадзь: адступніца, дачка Ізраіля, аказалася правей, чым вераломная Іўдзея. Ідзі і абвясці словы гэтыя да Поўначы, і скажы: “Вярніся, адступніца, дачка Ізраіля, – кажа Госпадзь. – Я не выльлю на вас гневу Майго; таму што Я літасцівы, не вечна ж буду абурацца. Прызнай толькі віну тваю: таму што ты адступіла ад Госпада, Бога твайго, і займалася блудам з чужымі пад усялякім разгалістым дрэвам, і голасу Майго вы не слухалі...”* Гэта ў Ераміі, у трэцім вершы.

– Так, прыпамінаю, мой капітан Ной... У нас жа таксама каўчэг, ці не так?

– Хай будзе так, – кіўнуў галавой, заўсміхаўся. – Можам згадзіцца, а чаму б і не? І ў Ісаі, у сорак першым вершы, яшчэ сказана: *“І ўзвёў яго ад Поўначы, і ён прыйдзе; ад усходу сонца будзе заклікаць імя Маё і пагарджаць уладыкамі, як граззю, і таптаць, як ганчар гліну*”. І ў Ераміі, у адзінаццатым, таксама дадаецца: “*Каб выканаць клятву, якую Я кляўся бацькам вашым – даць ім зямлю, па якой будуць цячы малако і мёд, як гэта цяпер. І адказваў я, сказаўшы: амінь, Госпадзі*!” І зноў жа – у Ісаі, у сорак першым: “*Хто зрабіў і здзейсніў гэта? Той, хто ад пачатку выклікае роды; Я – Госпадзь першы, і ў апошніх Я – той жа”.* А перад гэтым мы гаварылі пра пробу, чаканку, камбінацыю, каўчэг, кампазіцыю… Кожнае слова мае розныя адценні і паняцці – сінонімы.

– Так, сінонімы. Дапушчэнні і ўмоўнасці.

– Во, во... Як там – адшукаў што-небудзь? – пацікавіўся Анатас, адарваўшыся ад галоўнай тэмы, сядзеў, не ўставаў.

– Нешта ёсць блізкае ўжо...

– Ну і добра... Так што мы, можна сказаць, дзве працы спалучаем. Так, на чым мы спыніліся?

– На сінонімах...

– Ага, правільна. Давай разам разбірацца пра каўчэг, пра вечка каўчэга Госпадняга. Возьмем усё ж даўгаватую вытрымку з Зыходу, дваццаць пяты верш: "*І сказаў Гасподзь Майсею, гаворачы: скажы сынам Ізраілевым, каб яны зрабілі мне прынашэнні ад усякага чалавека, у якога будзе руплівасць, прымайце ахвяраванні мне. Вось ахвяраванні, якія вы павінны прымаць ад іх: золата, і срэбра, і медзь, і шэрсць блакітную, пурпуравую і чырвоную, і вісан, і казіную. Скуры баранаў чырвоныя, і скуры сінія, і дрэва сітым, алей для свяцільніка, водары для алею памазання і для благавоннага курэння, камень анікс і камяні ўстаўныя для яфода і для напершніка. І наладзяць яны Мне свяцілішча, буду знаходзіцца сярод іх; усё (зрабіце), як Я паказваю табе – і ўзор скініі, і ўзор усіх сасудаў яе; так і зрабіце*".

– І далей ужо канкрэтнае ўказанне, ці не так?

– Вось іменна. "*Зрабіце каўчэг з дрэва сітым: даўжыня яму два локці з паловаю, і шырыня яму паўтара локці, і вышыня яму – паўтара локці; і абкладзі яго чыстым золатам*". А чыстым – гэта якім, Антон? Тысячнай пробы? Ці той жа, 999 пробы? *"Знутры і звонку пакрый яго; і зрабі наверсе вакол яго залаты вянец (віты); адлі для яго чатыры кольцы залатых."*. Тут проба ўжо чамусьці не ўказана. *"І зацвердзі на чатырох ніжніх вуглах яго: два кольцы на адным баку яго, два кольцы на другім баку яго. Зрабі з дрэва сіцім жэрдкі і абкладзі (чыстым) золатам"*. Зноў жа – якой пробы? 999? *"І ўкладзі жэрдкі ў кольцы, па баках каўчэга, каб з іх дапамогай насіць каўчэг; у кольцах каўчэга павінны быць жэрдкі і не павінны адымацца ад яго. І пакладзі ў каўчэг Адкрыццё, якое Я дам табе"*.

Рука мая, здаецца ўжо ўпэўненей пачала вадзіць вугельчыкам па грунтоўцы. Страх і крыўда некуды зніклі.

Я вярнуўся да самога сябе – ранейшага, упэўненага ў сабе.

Анатас не назіраў за маім станам, працягваў:

– Далей ідзе – зноў жа – канкрэтная парада: “*Зрабі так – само вечка з чыстага золата”.* А з якой пробы, цікава, 999? *“Даўжыня яе два локці з паловаю”.* Пераводзячы на вымярэнне сённяшняга дня, гэта будзе азначаць – 2,5. Так? Так... *“А шырыня яе – паўтара локці”.* 1,5? *“І зрабі з золата двух херувімаў: чаканай работы, зрабі іх на абодвух канцах вечка; зрабі аднаго херувіма з аднаго краю, а другога херувіма з другога краю; якія выступалі б з вечка, зрабіце херувімаў па абодвух краях яго; і будуць херувімы з распрасцёртымі ўверх крыламі, паказваючы крыламі сваімі вечка, а тварамі сваімі будуць адно да аднаго: да вечка будуць твары херувімаў. І пакладзі вечка на каўчэг зверху, а ў каўчэг пакладзі Адкрыццё, якое Я дам табе; там Я буду адкрывацца табе і гаварыць з табою над вечкам, пасярод двух херувімаў, якія над каўчэгам адкрыцця, а ўсім, што не буду запаведваць праз цябе сынам Ізрайлевым...”* Не змарыў я цябе, Антон? – нечакана папытаўся ён, перавёўшы дыханне, глядзеў уважліва на мяне.

– Ды не, уважліва слухаю. І работа, здаецца, ідзе на лад. Выбіваюся на сцежку. “*Сынам Ізрайлевым...”*

– І ў раздзеле трыццаць першым дадаецца: “*І сказаў Гасподзь Майсею, кажучы: глядзі, Я прызначаю менавіта Весялііла, сына Урыева, сына Орава, з калена Іўдава; і Я выканаў яго Духам Божым, мудрасцю, разуменнем і ўсялякім мастацтвам, працаваць з золата, срэбра і медзі, (з блакітнай, пурпуровай і чырвонай шэрсці і з кручонага вісону), рэзаць камяні для ўстаўлення і рэзаць дрэва для ўсялякай справы; і вось, Я даю яму памочнікам Агаліява, сына Ахісамахава, з калена Данова, і ў сэрца ўсялякага мудрага ўкладу мудрасць, каб яны зрабілі ўсё, што Я загадаў табе: скінію збору і каўчэг адкрыцця і вечка на яго, і ўсе прыстасаванні скініі, і стол і (усе) прыналежнасці яго, і свяцільнік з чыстага золата (999-й пробы?) і ўсе прыналежнасці яго, і ахвярнік курэння, і ахвярнік усёспалення, і ўсе прыналежнасці яго, і ўмывальнік і падножжа яго, і апранахі службовыя і адзенне свяшчэннае Аарону свяшчэнніку, і адзенне сынам яго, для свяшчэннаслужэння, і алей памазання і курэнне благавоннае для свяцілішча: усё так, як я загадваў табе, яны зробяць”.* Гэта ў Зыходзе, у трыццаць першым вершы. І гэта паўтор ранейшага, але гэта неабходна такса-

ма. І для чаго ўсё гэта, спытаеш ты ў мяне. А я адкажу – а для таго, браце мой, каб узяцца за асноўнае – за разлікі.

– За разлікі... – падтакваю, і рука ліхаманкава пачала наносіць новыя і новыя абрысы. Падалося, што ўхапіў, злавіў нечаканы сэнс вобраза, яго галоўную сутнасць. Адначасова слухаў, пра што баяў субяседнік, усё больш і больш паглыбляючыся ў яго разважанні. Калі ён чытаў ці расказваў, у мяне нараджаліся свае асацыяцыі – я бачыў яскрава тое вечка, пра якое гаварыў Ной, самога дзеда Ноя, яго дзяцей і нявестак, звяроў, якіх ён загнаў у каўчэг па загадзе Бога...

– Тады мы давай думкава прыступім да чаканкі. Бярэм метал, памеры якога – даўжыня 2,5 локця, шырыня – 1,5. Патрабаванні – два херувімы на абодвух канцах вечка: адзін – з аднаго краю, другі – з другога. Вызначым перыметр (развернем, так бы мовіць) вечка. Р=4 (1,5+2,5)2=8 локцяў. А плошча вечка з чыстага золата 999-й пробы – S=2,5х1,5; S=3,75 (локцяў у квадраце). Разумееш мае лічбы?

– Разумею. № 8 і 3,75.

– Наступнае дзеянне матэматычна трохі і няправільнае, але ўсё ж, адкінуўшы ўмоўнасці, тэкст Пісання таго патрабуе, зробім яго. Бо калі інакш, то стане незразумела, да чаго тут такія велічыні: № 8 з яе атамнай вагой – 15,999 адзінак...

– І я пакуль не разумею, – прызнаюся, водзячы ўсё яшчэ кавалкам крэйды – ужо вымалёўваўся капялюш, твар, губы, вочы...

– Згодзен, згодзен... Я таксама вельмі доўга ламаў над гэтым галаву, пазбіваў не адну пару рагоў і капытаў, парваў сасуды галаўнога мозгу, але ж дапетрыў, што да чаго. Давай з табой адкладзем велічыны – S 3,75 – такім чынам: 3+7+5=15 энергетычных адзінак. І тады я пераканаўся, што вобразы херувімаў на вечку каўчэга – гэта і ёсць адухоўленая форма матэрыі, натуральна, хімічны элемент кісларод да месца нашых разважанняў пра велічыню 999 – чыстае золата. Бо ўпамянёны метал раней належыць самому вечку, роўна як і каўчэгу, пакрытаму звонку і ўсярэдзіне такім жа металам і, такім чынам, чыстае золата належыць самой плошчы вечка. І велічыня яе (заўважу, матэматычна мо і не зусім дакладна): 15 энергетычных адзінак. Значыць, у тэксце пад Адкрыццём раскрываецца восьмы хімічны элемент – кісларод з атамнай вагой 15,999 (16,0).

– Ты глядзі... – хмыкнуў я здзіўлена і крутануў галавой. – Нават такія дакладныя падрабязнасці закадзіраваны ў Бібліі!

– І не толькі такія... На гэтую тэму апошнюю вытрымку напомню табе. Першае пасланне Пятра, верш трэці: *“Таму што, калі заўгодна волі Божай, лепш пакутаваць за добрыя справы, чым за злыя; таму што і Хрыстос, каб прывесці нас да Бога, аднойчы пакутаваў за грахі нашы, праведнік за няправедных, некалі нескароным чаканаму іх Божаму доўгацярпенню, у дні Ноя, падчас пабудовы каўчэга, у якім нямногія, а дакладней, восем душ, выратаваліся ад вады. Так і нас цяпер, падобнае таму вобразу, хрышчэнне, ні плоцкага бруду абмыццё, а абяцанае Богу добрага сумлення, ратуе уваскрашэннем Іісуса Хрыста, Які, узышоўшы на неба, правіць праваруч Бога і Якому скарыліся Анёлы, і ўлады, і сіл”.*

Я адарваўся ад працы, адчуў, што пара зрабіць перапынак, ды і Ной задоўга ўжо сядзеў, пазіруючы.

– Перакур? Я так зразумеў? Ці на сёння мо і зусім хопіць?

– Так, першы сеанс адбыўся.

– Некалі ж будзе і апошні.

Падышлі да акна, за якім бачылася мая Навабеліца, і да якой, мусіць, тысячы і трыльёны кіламетраў, нейкі момант маўчалі.

– І што ж адкрылася шаноўнаму Анатасу? Якая зашыфраваная інфармацыя для чалавецтва адкрылася – тайна стала зразумелай?

Ужо сам падахвочваў яго да размовы, бо і сапраўды сталі цікавымі вынікі даследванняў, якім ён прысвяціў усё сваё жыццё. А ў падсвядомасці круцілася – а ці не пярэчыць усё гэта святым запаветам Бога, ці не бяру на сябе грэх, спрычыняючыся да даследаў-эксперыментаў Анатаса?

– Што? Скажу так: нясучыя элементы кампазіцыі двух херувімаў, выкананых на “вечцы каўчэга” ў адпаведнасці з Тэкстам, я маю на ўвазе перасячэнне іх крылаў, падобны шкілетамі... на літару “Х” (ха) ці – “Х” (ікс). Альбо яшчэ – па кірыліцы – нумару 600 – хер “Х”. А далей, ужо кіруючыся ўказаннем, устаноўкай ад апостала Пятра: “*Адно тое не павінна быць схавана ад вас, закаханыя, што ў Госпада адзін дзень, як тысяча гадоў, і тысяча гадоў, як адзін дзень*”. Гэта ўжо ў другім пасланні Пятра, у трэцім раздзеле.

– Далей... – мне ўжо не цярпелася пачуць яго канчатковыя высновы.

– Выкарыстоўваючы маштаб памяншэння (М1:1000), паглядзім на “косці” шкілета нясучай канструкцыі. Ці, іншымі словамі, па-

глядзім на выяву з вышыні палёту арла. Што мы ўбачым? А ўбачым сілуэт значэнняў, знакаў, якія абазначаюць... што б ты думаў, браце Антон? Хра-ма-со-мы! Структурныя элементы ядра клеткі, якія ўтрымліваюць ДНК, нашчадкавую інфармацыю арганізму. У “Х” (храмасомах) лінейна ўпарадкаваныя гены. Самападваенне і заканамернае размеркаванне храмасомаў, па даччыных клетках пры клетачным дзяленні забяспечваюць перадачу нашчадкавых уласцівасцяў арганізму – ад пакалення да пакалення.

– Нават так? – усміхнуўся я, падзівіўшыся з яго адкрыцця.

– І толькі так, і не інакш! У выглядзе гэтых структур храмасомы можна адрозніць, вызначыць (пры мікраскапіі) толькі падчас дзялення клетак. Кожная храмасома мае спецыфічную форму, памер. У клетках арганізмаў з недыферынцаваным ядром, значыць, бактэрыях, маецца адзіночная двухспіральная малекула ДНК, якая часцей і называецца Храмасома. Пры дапамозе яе і нараджаецца, размнажаецца ўсё жывое. Адкрыюся да канца ўжо. У маёй лабараторыі, у Антлатыдзе, даследуюцца храмасомы чалавека, распачатая расшыфроўка іх. У прыватнасці, трэцюю па ліку. У склад храмасомы, якая мае дваццаты парадкавы нумар, уваходзіць больш як 727 генаў. Акрамя таго, што веданне іх дапаможа чалавецтву знайсці новыя метады лячэння хваробаў, я магу падпарадкаваць само чалавецтва сваёй волі, майму жаданню і весці яго туды, куды пажадаю… Усе храмасомы ў маім падпарадкаванні.

Я толькі пахітаў галавою – не згаджаючыся, але і не адмаўляючы пачутае.

– А я і забыўся сказаць, на тым вечку выявы чатырох жывых арганізмаў – твар чалавека, галава ільва, земнаводнае стварэнне і лятаючае... Што скажаш на тое, спадар Антон?

– Не ведаю. У Быцці Бог зрабіў ці пасадзіў дрэвы і зеляніну. У трэці дзень. Стварыў чалавека па вобразе сваім, па вобразе Бога стварыў яго. Мужчыну і жанчыну. І сказаў, каб пладзіліся і размнажаліся. Флора, фаўна, біясінтэз, навакольная прастора... Усё мае свой сэнс, сваё прызначэнне...

Спыніліся каля мальберта. Ной толькі імгова кінуў позірк на першыя абрысы. Не цікавіўся нават тым, што атрымлівалася?

– Што я магу табе сказаць, мой капітан? Аб узнікненні жыцця на зямлі напісана шмат і шмат, можа больш аб’ёмам, чым сама Біблія, і яшчэ будзе напісана тысячы і тысячы тамоў. Будуць мільёны вопытаў пры высокіх і нізкіх тэмпературах. Гіпотэзы то рас-

туць, як на дрожжах, здзіўляючы свет сваёй сенсацыйнасцю, а то вянуць пад першымі промнямі прасвятлення. Думаю, што верагоднасць наяўнасці ўмоў у Сусвеце, для зямных формаў жыцця даволі вялікая. Нават самыя разумныя і мудрыя людзі Планеты, тысячу разоў зноў і зноў, перачытаўшы збор Свяшчэнных кніг, – Бібліі, – так і не разумеюць, Кім складзеныя ці напісаныя гэтыя тэксты.

– Разумна! – пахваліў мае словы Анатас, але падобна, адразу і адмахнуўся ад іх, паглыбіўся зноў у свае думкі.

Але мяне ўжо нельга спыніць:

– Хто ж гэта мог быць? Папярэдняя цывілізацыя? Амерыканскія вучоныя выказалі гіпотэзу, што на зямлі ўжо два разы быў канец свету – некалькі дзясяткаў мільёнаў гадоў таму. Гэта калі дождж астэроідаў абрынваўся на зямлю і знішчаў усё жывое. Можа, гэта тая цывілізацыя, ведаючы пра такія непазбежныя катаклізмы і разбурэнні, і пакінула нам папярэджанне і свой вопыт? А, можа, гэта чые-небудзь снобачанні, аб чым не гаворыцца адкрыта ў тэксце? А мо гэта інфармацыя для разумных істот, дасланая праз тоўшчу прастораў часу ад іншых, нашмат удасканаленых, чым мы? У такім выпадку недзе Там, далёка-далёка, што і фантазія наша не можа дасягнуць да таго берага Галактыкі, існуюць фантастычна цывілізаваныя віды жыцця матэрыі. Яны здольныя навучаць нас, настаўляць, прапаведаваць, памнажаць у нас веру ва Ўсемагутнага Адзінага Бога і Ўсяленскі розум, а самі пры гэтым адсутнічаць... Але як бы яно ні было, скажу так: Біблія з’яўляецца адным з самых інфармацыйна насычаных твораў на планеце Зямля!

– І таму ты не можаш не пагадзіцца са мною, што яе неабходна даследаваць ва ўсіх плоскасцях дзейнасці Homo Sapiens, ці не так? – падхапіў адразу маю думку капітан Ной.

– Так. Згодзен. Разумнаму чалавеку гэта не толькі інфармацыя для роздуму, а кірунак яго жыцця – паводзінаў, дзеянняў, учынкаў.

– Што і патрабавалася даказаць! – пляснуў у далоні Анатас. – Во як мы паразумеліся!

– Хіба? Тое ж агульнавядома!

– Так, ды не так... Ісціну таксама можна павярнуць у любы бок, а то і перавярнуць...

– Я не пераварочваў яе.

– А сказаў жа – “можна”...

Далей з ім спрачацца ці даказваць што не было ўжо сэнсу.

– Ну, што, можа сёння разумовай размінкі і хопіць? Мусіць, стаміўся і ад малюнка, і ад размоў са мной, ці не так? Адпачываем, Антон?

Зазірнуў у самога сябе – дзівячыся, што я плёў-плявузгаў перад гэтым, няўжо гэта гаварыў я? Ці хто іншы за мяне? Хто развязаў мне язык, хто ўклаў у галаву такія думкі?

5

“Наеўся, напіўся, лёг спаць – і коўдрай накрыўся...”

Гэта выслоўе майго сябрука Міколы Пушкара. Гэта ён спаў на адкрытым паветры ў канцлагеры, накрываючыся халодным небам. Першы раз нямецкім небам, а другі – савецкім, сталінскім...

Яго танк падбілі фашысты. Параненага, беспрытомнага, узялі ў палон. А на радзіме адседзеў за тое, што выжыў у тым палоне...

Ляжу ў ложку, абдумваю сваё жыццё, падзеі апошніх дзён і гадзінаў. Сказаць, што задаволены жыццём, прапанаваным мне Анатасам, тое будзе няпраўдай. Адгаворвацца, што не прымаў яго, супраціўляўся, – таксама не. Душа і Голас  пакуль таксама маўчалі – значыць, і яны не пратэставалі. А чаго, спытайце, пратэставаць? Супраць таго, за што ўзяўся, – маляваць? Дык гэта ж асноўнае ў маім жыцці, чым займаюся. За гэта бяру грошы , ды і не абы якія… Не вымагаю, мне плату прапанаваў капітан Ной, Нэма, Заказчык  – ці як яго яшчэ інакш называць...

Усё ж нехта другі ўва мне гаварыў са мною крышачку інакш. Нешта падсвядома мяне ўсё ж грызла, непакоіла, а што – не мог даўмецца. Нейкая  дробязь, стрэмка. Як іголачка ад ажынніку ўелася, дробненькая-дробненькая, і я не мог яе ніяк разгледзець, каб выцягнуць...

Мо хіба размовы, балабольства з Ноем пра Біблію непакояць мяне? Дык і што тут такога? Ён гаворыць, я слухаю… Недзе згаджаюся, а недзе і не...  Што ж тут супраць Бога? Гэта ж не сумненні, гэта ж не недавер да Бібліі, а, наадварот, – спроба асэнсаваць яе. Ці не таго ж  хацеў і сам Бог, дасылаючы гэты дакумент нам? Я ж асабіста ніколі не ўсумнюся ў тым, што Свяшчэнны пастулат вучыць нас дабру і справядлівасці. І таму ніколі не народзіцца ў мяне недавер да той ісціны, што ёсць Бог, ёсць Хрыстос і Святы Дух, што існуе свяшчэнны і па-

таемны ўплыў на кожнага чалавека, як і на кожную жывую істоту.

Спаць не хацелася. З’явілася зноў жаданне пазваніць жонцы, але гадзіннік паказваў зноў недзе за дзве гадзіны. Ці мне толькі тое падалося? Нейкі пагнуты цыферблат і стрэлкі перакручаныя... Як на малюнку Далі. Няўжо і ён знаходзіўся ў такой сітуацыі, у якой аказаўся я? Гадзіннік, здавалася мне, зроблены з цеста ці з пластыліну. А мо і з пластмасы, якая аплавілася ад агню і дэфармавалася... А той гадзіннік, што ў мяне на руцэ – “Прамень” мінскага завода – дык і зусім выглядаў з перавернутым цыферблатам, секундная стрэлка рухалася ў адваротным кірунку...

Не, тое мяне не напалохала і нават не здзівіла, – быццам падрыхтаваўся да... Да чаго? Да – выпрабавання? Ці да такога жыцця? У галаве вінігрэт ці каша... Нічога пэўнага адказаць самому сабе не мог.

Міжволі падумалася: “А колькі часу тут знаходжуся? Два, тры, пяць дзён? Неяк незразумела бяжыць час – то здаецца, што ён паўзе марудна, а то раптоўна пачынае імчаць з шалёнай хуткасцю, і невядома, наперад ці назад...”

Анатас казаў, што за кожны дзень, праведзены на “Алкепе”, будзе адлічваць па дзесяць тысячаў і складваць грошы на тумбачцы, што стаяла побач з ложкам. У кожнай пачцы па дзесяць. Палічыў іх. Налічыў васемнаццаць. Гэта азначала, што столькі дзён правёў на караблі? Здаецца ж, прыходзіў сюды начаваць усяго тры разы, ну, няхай чатыры, не болей. Тады я роспачна пытаюся ў самога сябе – як такое магло адбыцца?! Незразумела. І час, і дні, і думкі – усё неяк наперакасяк, шыварат-навыварат...

Карміла мяне Яніна. І то была вячэра ці абед, таксама не мог зразумець. Капітан Нэма некуды спехам падаўся па сваіх клопатах, даручыўшы мяне Яніне.

Па-ранейшаму не асмельваўся ў яе спытаць пра тое, што мяне хвалявала, – баяўся парушыць нейкае суладдзе, нейкі патаемны сэнс нашага з ёю існавання.

Спытала ж першай яна сама:

– Ну і як спадару Антону на нашым караблі, падабаецца?

Ведаў, што кожнае маё слова (а мо нават і думкі?) праслухоўваліся, што мяне чулі ці чуў той, каму і належала сачыць за мною.

Як і за ёю, мусіць, сочыць. Таму адказаў, злёгку наступіўшы ёй на нагу:

– Ды нічога... Уражанне такое, што знаходжуся ў творчай камандзіроўцы. Як быццам суполка мастакоў рашыла выпрабаваць мяне на здольнасць маляваць – так бы мовіць, наладзіць мне своеасаблівую атэстацыю, абарону на званне творцы.

– І як праходзіць абарона?

Нагу яна і не прымала, і не давала ніякіх патаемных знакаў.

– Не сказаць, каб паспяхова, але нешта ўжо зроблена. Яшчэ не галоўнае, але ўжо і не абы-якое.

– Дык, выходзіць, добра ўсё? – з нейкай радасцю спытала Яніна, нават мне ў вочы зірнула, як у маю душу зазірнула, у самае донца; у яе ледзь-ледзь уздрыгнулі вусны, тарганулася сіняя жылка на белай шыі, сасудзік, да якога некалі дакранаўся губамі.

Вытрымаў позірк, чакаючы, калі дастукаюся да яе памяці, свядомасці. Але яна больш нічым не выказвала сваёй цікавасці да мяне. Гледзячы яшчэ ў яе зрэначкі, як недаспелыя масліны, зеленцаватых вачэй, адказаў:

– Скардзіцца грэх. У нашым жыцці заўсёды так – калі нешта ёсць, то хочацца яшчэ больш.

– Больш – чаго? – удакладніла (адчуў, што пацікавілася нездарма, з падтэкстам, ловячы кожнае слова), зрабіўшы націск на другім слове.

– У маім выпадку – прафесіяналізму ў сваёй працы. Дасканаласці.

– Дык да гэтага імкнуцца ўсе.

– Усе. Так што мае жаданні заканамерныя?

– А ўжэ ж.

Не раскрыўся і не ступіў залішняй цікавасцю на забароненую тэму. І Яніна зрабіла выгляд, што страціла да мяне інтарэс. Чамусьці падалося, што я абышоў нейкі рыф ці айсберг, выруліў на чысты прастор акіяну, дзе нейкі час мне нішто не пагражала...

– Дзякую за вячэру, Яніна, – адсунуў ад сябе талерку, адначасова ўспомніў, як некалі прыслужваў ёй, як гулка білася сэрца ад неўтаймаванай радасці і ўзрушэння, што яна побач, што яна жаданая і прыгожая, што кахае мяне...

– На здароўе!

– А гэта абед ці вячэра, Яніна?

– А як сам палічыш, так і будзе.

Хацелася ўсё ж папытацца, чаго яна афіцыянчыць тут, але прыкусіў язык – што аж, здаецца, пракусіў яго, бо адчуў саланаваты смак на губах.

– Сама  і гатуеш?

– І сама, і не сама... Кухары – прафесіяналы. А чаго ты заказваеш сабе самыя звычайныя стравы? Іх жа ў нас – не пералічыць. Усіх краін свету... І не толькі свету, а і сусвету...

Мяне адно здзівіла, што Яніна сама пацягнула за вяровачку сэнс далейшай размовы. Знарок – ці міжволі? Ці ведала, што Анатас не сочыць за намі?

– Ды навошта мне сусвет? Я ж прывык да сваіх, паляшуцкіх, страў – бульбы, капусты, сала, буракоў, яблыкаў...

– Тады  я ведаю, чым заўтра цябе пачаставаць.

Быццам яна раней не ведала, што мне даспадобы.

Яна, развітаўшыся,  пакінула мяне,  пяшчотна зазірнуўшы ў вочы – як бы на нешта абнадзейваючы і спадзеючыся... Адказаў ёй такім жа позіркам, нават ледзь прыкметна плямкнуў губамі, – як пацалаваў  на адлегласці. Адчуў, што яна як нечым вінаваціцца перада мной, але не можа пра тое сказаць уголас.

За акном раскашоўвалася глыбокая ноч. На шторах свяціліся слабыя светлыя кропачкі – прасвечваліся зоркі? Вакол – цішыня. Ні гулу ветру за акном, ні гудзення машын і тралейбусаў,  да чаго прывык, да чаго прызвычаілася маё вуха... І на самім “Алкепе” ўжо даўно ўсё аціхла. Не адчувалася ні гайданкі, ні дрыготкі судна ад работы рухавікоў. А мо ён зусім і не на рухавіках працаваў, мо які меў атамны, бязгучны, як тая “талерка” ў іншапланецянаў? Можа, цяпер і я стаў іншапланецянінам? Мы ж у паралельнай плоскасці, як сказаў Анатас...

Перабіраў у памяці пражыты дзень, раскладваў усё па палічках – і не знаходзіў асаблівай віны за сабой, за якую мог адчуваць сорам ці няёмкасць. Адно хіба трохі непакоіла, што незразумела бег ці рухаўся час. Ад гэтага нельга  зарыентавацца ў прасторы, нешта планаваць, ацэньваць ці аналізаваць.

Падалося, што карабель выплыў на спакойную ваду спакойнага мора, і таму нас не гайдае. А мо то мае думкі закалыхвалі мяне, схіляючы ў сон.  А мо і спаў ужо. Бо Яніна цяпер у белым халаце – падышла да мяне, дакранулася да  рукі, спытала занепакоена:

– Ну, як табе тут, усё даспадобы?

Хацелася нешта адказаць, ды здзервянеў язык – і толькі глыбокі ўздых вырваўся з грудзей, ды і ўсмешка, мусіць, не згасала на маім змэнчаным твары...

... спаў я, здаецца, доўга...

Ніхто мяне не будзіў, сам прачнуўся. Прыемна падумаў, што мне не трэба некуды спяшацца, пра нешта клапаціцца...

Калі ж прыйшоў у залу, дзе звычайна харчаваўся, то афіцыянтка Яніна ўжо несла паднос з ядой. Бульба з грыбамі, салата з капусты ды буракоў, хлебны квас у глечыку.

– Як адпачывалася, Антон?

– Добра. Дзе сёння Анатас – штосьці не бачу яго?

– Прасіў перадаць, каб не хваляваўся, а калі ёсць творчы настрой, то можаш папрацаваць у майстэрні над сваімі карцінамі.

– А можа, ты са мною пабудзеш? І твой партрэт нама...– забыўся зусім пра перасцярогу – дурное пытанне вырвалася з маіх вуснаў.

– Не-не-не, – спахапілася спалохана афіцыянтка, азірнулася, замітусілася, нават пачырванела, быццам я сказануў нешта непрыстойнае... Пачала збіраць посуд. – Нельга мне туды... Ні ў адныя дзверы нельга. Забаронена.

– Кім забаронена? Анатасам?

Яна не адказала. Але стала зноў спакойнай і задумлівай. Узяла паднос, крутанулася на месцы, – і далей ужо чуўся размераны цокат яе тонкіх абцасікаў... Нават не азірнулася, як усё роўна пакрыўдзілася за мае неасцярожныя словы...

Аднекуль даносілася ледзь чутная музыка. Сумавала па нечым скрыпка, скардзілася на свой, а мо і не свой, лёс, не згаджаліся з ёю гуслі і цымбалы... І яшчэ гукі невядомага мне музычнага інструмента ўпляталіся ў агульную мелодыю – аздаблялі яе, узмацнялі подыхам пяшчоты і замілавання...

Не падзякаваў чамусьці афіцыянтцы (а мо і не афіцыянтцы, мо якая іншая ў яе тут пасада?) за сняданак. Выходзіць, прагнаў яе.

Прагнаў сваім дурным пытаннем.

Захацелася падняцца паверхам вышэй.

Расчыніў патрэбныя дзверы. Яны не рыпнулі нават – быццам зробленыя з паветра. Падышоў да шырокага зашторанага акна, рассунуў шаўковыя, з узорамі, занавескі.

За імі суцэльны туман – як плылі па дне малочнага акіяна. Не бачна ні паверхні вады, ні неба з воблакамі... Але любавацца заваконнем не выпадала – хацелася працы.

Пах фарбаў абудзіў мяне, як усё роўна чырвоная тканіна для быка. Толькі не зразумець – ці то я тарэадор, ці той жа, паранены некалі, бык... Перад уваходам у майстэрню мой зрок прыцягнулі гатовыя палотны, прымацаваныя на стойках. Белыя, быццам пакрытыя першым снегам.

Падышоў да аднаго – з мяне ростам. Узяў пэндзаль. Рукі свярбелі, напручваўся ўнутраны зрок. Імгова выхопліваў з памяці пейзажы і відарысы; у думках пераносіўся на ўзбярэжжа Прыпяці і Сожа, у ціхія затокі, дзе гаспадарыла гаючая цішыня...

Пэндзаль змяшаў, выціснутыя на палітру, фарбы. Некалькі колераў – зялёны, жоўты, сіні, карычневы... Астатнія – тысячы адценняў – мроіліся ў галаве... Захацелася дамаляваць той пейзаж, што пачаў у майстэрні. Той жа храм, але з другога, адваротнага, боку.

Запрацавала ліхаманкава рука. Неба, воблакі, у цвіценні грэчка – і па ёй дарога... Дзівіўся сам – толькі пэндзаль дакранаўся да паверхні тканіны, як адразу вымалёўвалася да драбніц кожная дэталь, клаўся, здавалася б, на першы погляд, нязначны штрышок...

Працаваў апантана і ўзнёсла, забыўшыся пра ўсё на свеце...

Зрабіў задуманае гадзіны за дзве. Ну, мо за тры, не болей. Час не мог вызначыць, бо гадзіннік, як і да гэтага, хлусіў... Адышоўшы на колькі крокаў, зірнуў на сваё тварэнне іншым ужо, прыдзірлівым і патрабавальным, позіркам.

“А што, здаецца, нічога, ніштавата... Даўно так не працаваў, з такім імпэтам і задавальненнем, вельмі даўно...”

Прасілася хіба толькі маленькая, амаль нязначная, кропачка, якая і павінна змацаваць усю задуму, агульны настрой: блік ад сонца на купале царквы. Хапіла толькі аднаго дакранання тонкага пэндзля. Увачавідкі купал засвяціўся, – і ў той жа момант зайграла вясёлкай сонца, – і ўжо бляск яго, здавалася, сляпіў вочы.

Толькі пасля гэтага падаўся ў “сваю” майстэрню. Пераступіў парог – і адразу апынуўся ў знаёмым асяродку.

Але перш чым падысці да мальберта, накіраваўся да акна. Думаў, мо ўбачу знаёмы пейзаж, сагрэю душу панарамай Навабеліцы. Хаця ж і не магу назваць яе роднай, блізкай майму сэрцу, але ўсё ж...

Роднай для мяне толькі мая вёска Крушнікі, а не гомельская Навабеліца. Горад, як мачыха, якая дала прытулак, ды не атуліла сваёй цеплынёй...

Мне чамусьці няма прыстанішча анідзе. Ад вёскі адарваўся, да горада не прыклеіўся. Вёска ў разуменні таго існуючага ладу, пры якім я нарадзіўся і існаваў, з'яўлялася асяродкам савецкага прыгоннага права, дзе людзей лічылі няйначай як за быдла – без правоў, без радасцяў, без будучыні... І вырвацца з той багны было цяжка, амаль немагчыма. Бо вяскоўцам нават і пашпарты не выдавалі, як і не выдавалі яго той жа свінні ці карове...

У Крушніках жа любая хата магла абагрэць жабрака ці адзінотніка, накарміць, супакоіць. Ад кожнага вяскоўца выпраменьвалася такая цеплыня і дабрыня, што магла вярнуць да жыцця любога чалавека, які расчараваўся ў жыцці.

У горадзе займеў адукацыю, атрымаў пашпарт, уладкаваўся на працу. Але адчуваў сябе чужым сярод гарадскога люду.

І калі на сэрца насоўвалася чорная хмара, душу прыгнятаў цяжар і рабілася невыносна, – ішоў у царкву. Протаіерэй узносіў хвалу Богу, заклікаў разам з ім прасіць помачы ў Госпада, уключаўся ў агульную малітву. І тады толькі адчуваў яднанне чалавечых душаў... Мы ўсе аднолькава, нароўні з усімі, выглядаем перад Богам.Толькі ў царкве я адчуваў радасць роўнасці з усімі людзьмі.

Стаяў, памятаю, раскормлены сучасны багацей, алігарх, якога я добра ведаў. Ён запанеў на падмане, крадзяжы і хабары. Маліўся, думаючы, што ачысціць сваю душу перад Вышнім.

Злева ад мяне стаяла грэшніца, нарадзіўшы невядома ад каго дзіця і пакінула яго ў радзілцы, – малілася, просячы ў Божай Маці помачы. Не даравання грахоў, не парады, як стаць на шлях праведнасці і шанавання запаветаў Вышняга, а дапамогі... Якой, яна і сама не ведала, як і не ўмела маліцца перад абразамі...

І я таксама, хлусіўшы на старонках газеты, у якой часова працаваў, прасіў у Творцы дараваць мне мой грэх… І не толькі гэты...

Да Бога прыходзяць усе. Хто шчыра, а хто аддаючы даніну модзе. Але ўсе накладалі на сябе крыж і чыталі малітву…

Я нікога не асуджаў. Бо не меў на тое аніякага права. Як і яны, людзі, не мелі права судзіць мяне. Тое права належала толькі Богу. Бо і я ж такі быў, як і яны, таксама меў грахі, і сёння маю... А грахі перад Вышнім не бываюць вялікія ці маленькія. Грэх – ён і ёсць грэх. Бязгрэшных людзей на зямлі не бывае...

6

За акном не відаць Навабеліцы. За ім увогуле нічога не бачна: суцэльная цемень. Ды і не ноч, мусіць, і не дзень. Бо ні зорак на небе, ні месяца, ні сонца...

А тут, у майстэрні, светла. І невядома толькі, адкуль цадзілася тое святло. І ценяў не было, як і казаў Анатас. Адсутнічала крыніца святла, а свяцілася ўсё само па сабе. Свяціўся стол, кнігі, сцены, падлога... Але нябачным святлом – не зыркім, а нейкім загадкавым, спакойным, не кідкім. Столь быццам бы і існавала, а быццам бы яе і не было зусім.

Адзначыў пра сябе, што, мусіць, адзінае адрозненне гэтай і той, маёй, сапраўднай, майстэрні, у тым, што ў алкепаўскай адсутнічала люстра. А так усё астатняе супадала. Ды во, мусіць, яшчэ – Ясь і Яніна без мяне, тут не сварыліся, адвярнуўшыся адно ад аднаго, але ж і не кахаліся, – маркотнымі выглядалі: як не жывыя сядно. А, можа, мне тое толькі здавалася, не ведаю. Шмат чаго не ведаў яшчэ, што адбывалася кругa мяне.

За шафкай, на якой стаялі закаханыя, зазваніў неспадзявана тэлефон – меладычна, як бы выбачальна.

“Тут і тэлефон, аказваецца, ёсць? – падзівіўся я. – Не заўважаў раней? Ці бачыў, ды забыўся зусім пра яго?”

– Алё, слухаю!

– Антон, добры дзень, гэта я!

Голас пазнаваў і не пазнаваў. Губляўся ў здагадках. І, каб не памыліцца, маўчаў, чакаў.

– Алё, Антон! Ты ўжо ў майстэрні? Вярнуўся з паездкі?

Гэта жонка, аказваецца, пазваніла мне ў маю майстэрню.

– Дзень добры! Ды не, Ліка, яшчэ не вярнуўся...

– Як не вярнуўся? А куды ж тады я, па-твойму, пазваніла? Мо няправільна набрала нумар тэлефона? Ты ж цяпер у майстэрні?

– І так, і не.

– Як гэта?

– Калі вярнуся, усё растлумачу.

– А цяпер ты дзе?

– На “Алкепе”...

Жонка маўчала, не верачы маім словам. Мусіць, думала, што я прыдурваўся, пад’юджваў яе. І я так падумаў бы на яе месцы.

– Мо хопіць жартаваць, Антон?

– Я не жартую. Усё яшчэ выконваю заказ. А партрэт пакуль што не атрымліваецца. Ты мне скажы, колькі часу я адсутнічаю?

– А што ў цябе няма календара ці гадзінніка?

– Тут усё ідзе наадварот, час імчыць назад.

– Дзе гэта “тут”, і як гэта “наадварот”? Цябе няма ўжо амаль паўгода…

– Што?! – зароў у слухаўку, пачуўшы яе словы. – Паўгода?! Я ж усяго адзін раз маляваў яго партрэт!..

– Роўна шэсць месяцаў, Антон, сёння. Быццам і не ведаеш?

– Не ведаю. Даруй... У нейкай багне апынуўся.

– Колькі яшчэ там прабудзеш?

– Я не...

І ў гэты ж момант перарвалася сувязь. Цішыня: ні трэску, ні шыпення ў слухаўцы, ні кароткіх гудкоў. Не паспеў сказаць жонцы пра галоўнае, што не ведаю, колькі прабуду тут. Не паспеў, ці мне нехта не дазволіў тое сказаць? Я і сапраўды не ведаў, колькі буду знаходзіцца на “Алкепе”, як і не ведаў, за які час я змагу выканаць заказ.

Размова толькі на імгненне ўзрушыла мяне. Але не ўстрывожыла і не насцярожыла, напомніла, што знаходжуся ў незнаёмым і невядомым мне свеце, і павінен падпарадкоўвацца яго патрабаванням. Але, галоўнае, нехта падказваў мне, – мо і мой унутраны голас, – тут свае правілы, і мне застаецца толькі прытрымлівацца іх, не зважаць увагі на якія б там ні было праблемы, а навучыцца кіраваць сваімі эмоцыямі... Кіраваць, не кіруючы, хвалявацца, не хвалюючыся…

А галоўны клопат, з-за чаго і аказаўся-апынуўся на субмарыне, стаяў на месцы, не зрушваўся з мёртвай кропкі. Партрэт яшчэ толькі ў накідзе, у зародышы. Прайшло паўгода ўжо, калі верыць жонцы, а ўсё яшчэ толькі на першай прыступцы.

Рука ўзяла пэндзаль. Загадаў сабе не расслабляцца, а аддавацца з усяе сілы працы. Пачаў вымалёўвацца шэры касцюм, прайшоўся пэндзаль і па капелюшы.

Да твару чамусьці не хацелася дакранацца. Сам не ведаў, чаму. Мусіць, ад таго, што не запаміналіся яго рысы, хаця з Анатасам мы правялі шмат гадзінаў разам... Выветрываліся з памяці рысы твару. То ўяўляўся мне ён строгім, то хітрым і хцівым, а то і пяшчотным... І таму губляўся, не ведаў, які ж узяць за аснову. Нават не ведаў, якія буду маляваць яму вочы. У час

нашай першай сустрэчы мне яны падаліся карычневымі, як каштаны ці кара сасны, а як прыйшоў на “Алкеп” – блакітнымі. А калі пазіраваў мне апошні раз – жоўта-зялёнымі... Ніколі не заўважаў такога ні за адным чалавекам... Але ж ніколі і не атрымліваў такога незразумелага заказу і не сустракаўся з такой загадкавай асобай, як Анатас.

Канчаткова вымаляваўся пінжак. Ён пераліваўся, зіхацеў. Свяцілася кожная нітачка, а капялюш, быццам скура балотнай гадзюкі, блішчэў трывожна луской.

Больш нічога не мог ні дадаць, ні адняць да яго прыкіду. А вось твар. Ён то ўспыхваў у маім уяўленні, то знікаў. У нейкае імгненне ўдалося зафіксаваць яго ў памяці, думкава сфатаграваць, – рашыў цвёрда такім яго і паказаць...

Не стома авалодала мною, а абыякавасць. І аніякага жадання працаваць…І пайшла-пакацілася зноўку па ўсім целе, так бы мовіць, агульная млявасць і абыякавасць да жыцця...

7

Агульная млявасць і абыякавасць да жыцця...

На “Алкепе” пастаянна стаяў дзень – ні ў адным пакоі не ўбачыў уключальнікаў святла, як і лямпачак ці люмінісцэнтных трубак. Святло ўсюды аднолькавае і нябачнае.

За вокнамі незразумеласць – ці то вечар, ці то ноч... Колькі ні выглядваў, ніводнага разу ні на чым не спынялася вока, хіба толькі тады, як з Анатасам глядзелі на Навабеліцу. Дык і то ўсё выглядала неяк ненатуральна, – як у хворым маім уяўленні... Мо ён такі фокус паказваў мне, дражнячыся...

На тумбачцы каля галавы расла і расла куча “зяляніны”. Хто іх клаў і калі, не ведаў, як, безумоўна, і сумы. Нават кранацца грошай не меў жадання. Прапала да іх усялякая цікавасць...

Перабіраў у памяці першую з Анатасам размову і дамову. Мы абгаварылі тады адзін пункцік, які сам Анатас і прапанаваў – мая творчая камандзіроўка будзе доўжыцца да тае пары, пакуль не скончу маляваць яго партрэт. І было вызначана, што для гэтага дастаткова будзе пяць сеансаў.

Залежала ўсё ад майго імпэту і настрою... А ў нас усяго, як і памятаю, адбыўся адзін сеанс... Значыць, засталося яшчэ чатыры. Ну, мо пяць-шэсць... Але ў якім, праўда, вымярэнні? І тут жа

на памяць прыйшла вытрымка з Бібліі, калі Бог сказаў: “У мяне дзень як тысяча гадоў, а тысяча гадоў, як адзін дзень…”

За акном ці то падаў снег, ці кружылася, таўклася машкара пад млявым святлом, – не зразумець. Не меў жадання ўставаць і рассоўваць шторы, каб пераканацца ў чым-небудзь, – усё роўна нічога не ўбачу і не зразумею... Нылі ногі і спіна. Анямела правая рука.

Ляжаў, раскінуўшы рукі, выдаўжыўшы ногі, прагнаўшы ад сябе думкі і жаданні, развагі і перажыванні... Падалося, што не ў ложку, а над ім вісеў у паветры, – і ахутвала мяне прахалоднае паветра.

Хіліла ў сон... І скарыўся яму...

Прачнуўшыся, адчуў незвычайную лёгкасць і ўзрушанасць.

Рука міжволі ўзялася за паркераўскую ручку з залачоным пяром – не ведаю, хто яе і паклаў на стол... Але ж каля ручкі ляжаў і аловак Хурса.

Мне захацелася напісаць пачатак рамана, які назваў “Якаў – брат Хрыста”. Якаў – першы архіепіскап праваслаўнай царквы ў Ерусаліме, з’яўляўся братам Хрыста. То яго язычнікі і іудзеі зацягнулі на вяршыню Храма і сказалі: “Калі ты сапраўды брат Хрыста, то Ён, калі мы цябе скінем, павінен цябе ўратаваць і не даць разбіцца...” І скінулі на зямлю. Ён яшчэ дыхаў, калі падышоў да яго прахожы абутнік. “Не памог табе Хрыстос, значыць, ты не Яго брат, ці Ён не твой...” І цяжкай калатушай ударыў колькі разоў па галаве...

То пазней ужо ўсіх іх спасцігла кара Божая. І тых, хто скідаў святога Якава з Храма, і таго, хто паскорыў смерць брата і слугі Бога... А на той час ніхто не прыдаў значэння ціхаму забойству.

Напісаў першы сказ:

“*Ірад паміраў доўга і пакутліва...*”

Напісаў і задумаўся. Пачаў успамінаць усё, што я чуў і бачыў тады, калі знаходзіўся там, пра што даведаўся ў палацы цара, калі прысутнічаў пры апошніх хвілінах яго жыцця...

Ірад паміраў доўга і пакутліва...

*Ён і сам ведаў,* што паміраў, бо адчуваў з кожным днём, як яго пакідалі апошнія сілы. Але з усіх сілаў праганяў ад сябе свой жа прысуд, не пагаджаўся з ім, адпрэчваў ад сябе.

Стараўся думаць пра што-небудзь іншае, вясёлае і прыемнае, прыдумваў нейкія забавы, каб забыцца, хоць на час, пра рэаль-

насць. Але яна настойліва стукалася ў яго свядомасць, прымушала асэнсоўваць заўтрашні дзень са страхам і трывогай...

А то здаралася, што да яго раптоўна падплывала хваля добрага настрою. Гэта калі пераставаў даймаць яго дзікі боль, – знікаў некуды. Тады ён адчуваў нечаканую дужасць у целе, рукі ўчэпіста трымаліся за залачоны набалдашнік царскага трону. Душа ўлагоджвалася, мякчэла, і ў такія хвіліны думалася яму, што ніхто і ніколі не адбярэ ў яго трон, што царствам правіць ён будзе незлічоную колькасць гадоў.

Хацелася зрабіць нешта добрае, каб пра яго памяталі нашчадкі.

А між тым жыццё Ірада нагадвала слабы агеньчык, які ўжо згасаў, якому не ставала сілкавання. Бо ўсё, што магло гарэць, згарэла і выгарала, і цяпер агеньчык тае нябачнай свечкі мог патухнуць у любы момант – нават ад слабога павеву ветру.

Асабісты доктар Ірада – Ляфарас – пакусваў асмяглыя губы, глядзеў на хворага, не ведаў, як сказаць яму праўду. І хлусіць не хацелася.

– Дык чаго ж ты маўчыш, мой верны і адданы лекар? Адзін ты з усяго царства гаворыш са мной смела і шчыра. Дык што са мною, скажы?

– Не ведаю, мой цар, не знаходжу ў табе смяротнай хваробы... Нязначная ёсць, але не магу вызначыць, ад чаго яна, і якая яна... Можа, Бог прагневаўся на цябе за што, мой цар... Даруй за мае словы!

– Які Бог? – без злосці паглядзеў на лекара Ірад, і яго твар перакрывіў зноўку боль. – Мо яшчэ скажаш, што гэта будучы Хрыстос, пра якога сведчаць кнігі, прагневаўся, які зажадаў стаць царом іудзейскім, га? Дык мо Яго і ў жывых няма, бо я загадаў усіх немаўлят пазбавіць жыцця...

Лекар няўцямна пацiснуў плячыма, не перастаючы абмацваць цела правіцеля. Першы раз у жыцці ён не мог паставіць дыягназ, а да гэтага ж безпамылкова вызначаў, дзе ў чалавека стаілася хвароба…

– Ляфарас, я вельмі хачу есці, – жалобна прызнаваўся Ірад, амаль што плакаў. Вочы слязіліся, як быццам перад самым носам ляжала парэзаная цыбуля... – Хіба ж гэта добра, калі твой цар галодны?..

– Нельга, мой высакародны цар, – круціў адмоўна Ляфарас галавой, – ад гэтага яшчэ большы боль напаткае цябе… Дазволь,

высокародны мой цар, агледзець твой мужчынскі гонар... Ты скардзіўся, што не можаш памачыцца...

– Не магу, працінае ўсяго неймаверны боль...

Ірад падняў набрынялую крывава-гнойнай вадкасцю кашулю, як спадніцу, чакаў.

Лекар узяў асцярожна за пеніс, слаба пацiснуў пальцамі. Цар ускрыкнуў, замахнуўся на лекара. Але не ўдарыў, апусціў руку – слабую і бездапаможную, як анучка.

Ляфарасу ніколі за ўсё яго доўгае жыццё не прыходзіласяназіраць такое. Царову мужчынскую плоць пранізвалі белыя чарвякі. Накшталт тых, што капошацца ў каровіных кучах-лепяхах. Яны то хаваліся ўсярэдзіне, то зноў выпаўзалі наверх – як дражніліся... Але і чэрві нейкія незвычайныя – з чырвонымі вострымі галовамі, цвёрдыя, як з дроту зробленыя. Такія маглі пранізаць не толькі цела...

Лекар чуў ад святароў, што Ірада напаткала не хвароба – пакаранне. За тое, што ён зрабіў на Сына Божага, немаўлятка, замах – калі загадаў пабіць усіх народжаных дзяцей у наваколлі Віфліема... Каб такім чынам і загубіць Цара Іудзейскага, пра якога паведамілі яму вешчуны-вандроўнікі...

Ляфарас у душы згаджаўся з думкай святароў. І яна пацвердзілася праз шмат гадоў. Бо ён прысутнічаў пазней на тым дзействе на Галгофе, калі ўкрыжоўвалі Ісуса Хрыста. Помніў, якое тады сыходзіла цяпло і бласлаўленне ад Сына Божага, і паверыў, хаця і са спазненнем, што Ён і сапраўды з'яўляўся Ім, Сынам Божым. Як і многія тады паверылі, бо і неба скаланулася ад чалавечай жорсткасці, і ўвесь іудзейскі народ здрыгануўся ад таго, што ён адрынуў ад сябе Пасланніка Божага, Які ім жа і жадаў дабра. Тое адкрыццё прыйшло пазней, цяпер жа перад Ляфарасам корчыўся ў болях крыважэрны дыктатар...

Ірад перабраў усе спосабы лячэння, але ніводнае не прынесла яму палёгкі. Лячылі яго многія лекары, але найбольш ён давяраў Ляфарасу, – спакойнаму і разважліваму чалавеку, з ціхім і пакорным голасам, таленавітаму ў сваёй справе...

А потым, зняверыўшыся нават і ў ім, адрынуў ад сябе. Пабіў яго, накрычаў-насварыўся:

– Ты – шарлатан! Вы ўсе згаварыліся супраць мяне, смерці маёй жадаеце... Ты хутчэй мяне ўмярцвіш, чым вернеш былое здароўе!

Лекар не выказаў крыўды. Пакорліва сагнуўся і выйшаў з царскіх пакояў, – толькі па сцяне сунулася да выхаду чорная цень ад агню факелаў.

– Прэч з маіх вачэй! – крычаў наўздагон разгневаны і аслабелы цар. – Каб болей і не прыходзіў да мяне! Бачыць цябе не хачу!

А прыдворным лёкаям загадаў, каб збіралі яго ў дарогу.

Насуперак забароне Ляфараса Ірад рашыў паспытаць і яшчэ адзін сродак лячэння. Спадзяваўся, што тое яму паможа. Тады і пераканаецца, што Ляфарас хацеў надурыць яго, не дапусціць да папраўкі...

Слугі данеслі яго да карабля. Перасадзілі ў плецены з папіруса перасоўны царскі трон, занеслі на палубу.

Пераплылі цераз Ярдан. Сонца хавалася за воблакі, ужо не так прыпякала. Настрой у цара, на дзіва, стаўся бадзёры.

Ірада прыцягвала цёплая вада ў Калірое, дзе знаходзілася лекавая крыніца з гарачымі сернымі водамі. Чуў цар, што тая вада вылечвала многіх ад хваробаў. Тую ж ваду напачатку хваробы параіў Ляфарас, убачыўшы першыя прыкметы гніення царовага цела. Тады цар адмовіўся ад лячэння, заявіў, што ён не хворы, што пражыве яшчэ больш за стагоддзе. А цяпер адумаўся.

Ірад плыў тым шляхам, які і ўказваў некалі асабісты лекар.Цёплыя воды з Калірое цяклі ў Асфальтавае возера, лічыліся прэснымі. Яе можна было піць, ужываць у ежу. Пра іх цудадзейнасць ведалі многія. Хадзілі чуткі, быццам здаралася такое: заходзіць у крыніцу чалавек сталага ўзросту, а выходзіць з яе юнаком. Альбо чалавек пракажоны амые сваё цела ў той вадзе – і ачышчаецца адразу ад струп'яў і ранаў.

Не ўсе маглі карыстацца той вадой. Бо яна належала багатым, вельмі багатым асобам і – царам. Ужо не Ляфарас, а іншыя дактары і лекары разагравалі яго цела, апусціўшы ў вялікую балею, напоўненай да верху аліўкавым алеем.

Перад гэтым Ірада абмазалі мазямі і настоямі, ад чаго ў яго падняўся настрой, не так кружылася галава, і не падступалі да горла ваніты... Ды і дыханне наладзілася. Адно хіба, што зрэдку паколвала ў скроні. Але тое не ішло ні ў якое параўнанне з тым болем, які адчуваў пастаянна... Падалося, што яго вярнулі да жыцця. І ён ужо ў думках здзекаваўся з Ляфараса: "Ты падманваў мяне, Ляфарас, прыкідваўся толькі вопытным і таленавітым

лекарам, а тут мяне адразу паднялі на ногі... Я выкрыў цябе, у мяне адкрыліся вочы на твой падман... Я буду жыць, буду! І ніхто не адбярэ ад мяне царскую карону!..” Ірад ужо думаў і шчыра верыў, што яму ўдалося выбавіцца ад незразумелай хваробы.

– За тое, што вы вярнулі мне здароўе, я вас шчодра ўзнагароджу: кожны атрымае ад мяне каштоўныя камяні. Яшчэ ў дадатак я загадаю...

Не дагаварыў – знепрытомнеў. Вочы падкаціліся пад лоб, цяжка пачаў дыхаць, падкаціўся калатун. Ён абвяў на руках слуг і лекараў...

– Ратуйце цара! Ратуйце нашага салодкалюбівага цара! – закрычалі служкі.

Але да каго быў звернуты крык, ніхто не ведаў, бо тыя, хто меў абавязкі ратаваць Ірада, знаходзіліся побач.

– Ратуйце цара-ааа! – панеслася рэха над вадой, паскакала спаміж аліўкавых дрэваў і лаўраў, смакоўніц і яблыняў, заблыталася ў вершалінах – і зглухла.

Крык і прымусіў яго ачомацца. Ён няўцямна глядзеў на тых, хто акружаў яго, доўгі час нічога не разумеў. Яго хутка выцягнулі з ванны, паклалі на мяккі ложак. Падклалі пад галаву падушку. Пачалі зноў умашчваць мазямі і жывіцельнымі сокамі...

Не працівіўся, нічога не гаварыў, толькі мружыў вочы, аддаўшыся ўладзе і рукам лекараў. І на яго твары адлюстроўвалася пакутлівая ўсмешка згоды і змірэння...

Яго перанеслі пад гранатавае дрэва, дзе дыхала прахалода, павяваў ветрык. Ірад са здзіўленнем пaглядаў на пальмы, што раслі побач, смакоўніцы, – быццам бачыў упершыню.

Успамінаў, як яго, малога, маці вадзіла за руку па пшанічным і ячменным полі, паказвала чавільні вінаграду і алею... І тады ж упершыню ён убачыў авечак і валоў, коней і вершнікаў з дзідамі. Як даўно тое было! І як хацелася яму вярнуцца ў той час.

Цар заплюшчыў вочы. Расхацелася ўспамінаць і дзяцінства, і маці. Зразумеў, што і лекавая вада, як жадалася, не палепшыла яго стан...

– Мо яшчэ паспрабуем, наш непараўнальны цар, легчы ў ванну? – асцярожна спыталі ў яго лекары, схіліліся ў паклоне, гледзячы ў зямлю.

– Не! Не хачу! – крыкнуў Ірад, скінуўшы з сябе блакітнае баваўнянае пакрывала, сеў на ложку. – Я адмяняю свой загад аб

падарунках для лекараў. Другі мой загад будзе такі. Вялікі цяжар ляжыць на плячах простых воінаў, якія за свайго цара аддадуць і душу, і нават жыццё. Таму кожны воін няхай атрымае з царскай казны па пяцьдзясят драхмаў. У тры разы больш павінны атрымаць начальнікі над маімі воінамі і насельніцтвам. І каб не пакрыўдзілі маіх сяброў. А хто ў мяне сябры, ведае мой прыдворны летапісец…

Летапісец Нафантаіл пакорліва схіліў галаву, паказаўшы, што зразумеў словы свайго цара. Замітусіліся служкі, імкнучыся трапіць на вочы шчодраму валадару.

Ён жа глядзеў на іх, міргаючы вачыма, сплюшчваў чырвоныя, з запаленнем, вейкі, каб пазбавіцца ад слёз, якія цяклі і цяклі, пакідаючы на грудзях цёмныя кропкі, цяжка дыхаў...

– Я вяртаюся ў Ерыхон! – раптоўна ціха прамовіў Ірад.

Прыбыў ён у Ерыхон у настроі прыгнечаным. Ім авалодаў адчай і журбота. Ірад не хацеў прызнаваць, што з яго выцякае жыццё, як вада з дзіравай бочкі. Не прывык, калі нешта выходзіла паміма яго волі і жадання. Заўсёды ўсё і ўсе падпарадкоўваліся яму. Ён мог купіць палову зямнога шара... А вось каб вярнулася здароўе – гэтага не мог...

Прыйшоў да яго ў пакой Ляфарас, паглядзеў з дакрорам на свайго правіцеля. І, як усё роўна не было паміж імі разладу, спытаў ціха і пакорліва:

– Ну, як мой цар, ці памаглі табе серныя ванны?

У голасе не было ні падначкі, ні здзеку. Цар Ірад не адказаў на пытанне, загаварыў, як просячы прабачэння:

– Ты не злуй на мяне, Ляфарас. Хвароба даконвае мяне, і ад таго я такі злы і жорсткі. Не крыўдуй...

Лекар падышоў да Ірада, дакрануўся да запясця рукі – пачаў услухоўвацца, як б’ецца сэрца. Цар загадаў яму гаварыць толькі праўду. Няхай і самую страшную. Калі агляд скончыўся, папрасіў Ляфараса, каб той паклікаў прыдворных начальнікаў і ўправіцеляў. Яны, адзін за адным, прыйшлі і сталі перад Ірадам. Дапытліва глядзелі на яго, не ведаючы, чаго чакаць цяпер – добрага ці кепскага.

– Я загадваю, каб вы і вашыя падначаленыя прайшліся па ўсёй Іудзеі, і каб да мяне прывялі з кожнага паселішча па адным знакамітым і ўплывовым чалавеку. Я ўзнагароджу іх царскімі пада-

рункамі. А сабраць іх я загадваю на іпадроме, там, дзе вы наладжвалі спаборніцтвы сваіх лепшых коннікаў і align-вознікаў...

Прыдворныя чакалі, што яшчэ скажа Ірад. Бо ён не махнуў рукой, не загадаў, каб яны ішлі прэч. А Ірад не мог падняць рукі, яна зусім аднялася ў яго.

– Я хачу пакінуць пра сябе добрую памяць. Гэта застанецца ў гісторыі… Нафантаіл, запішы слова ў слова, што я сказаў. А цяпер можаце ісці і выконваць маю волю.

Волю Ірада прыдворныя выканалі бездакорна. Не адразу, не хутка, як жадаў таго цар, але з кожнага паселішча на трэці дзень з’явіўся прадстаўнік знакамітага роду – у багатым, дарагім адзенні. Прыбылі і бедныя, але паважаныя людзі.

Калі Іраду далажылі пра тое, заківаў галавой, паспрабаваў усміхнуцца:

– Добра, добра… Значыць, вы любіце свайго цара. Усіх, хто паслухаўся і прыйшоў, я ўзнагароджу так, што ім і не снілася. А цяпер паклічце да мяне маю сястру – Саламею. І мужа яе – Аляксандра. Зараз жа!

Боль зноў выклікаў прыступ незадаволенасці і раздражнення. Ён стараўся прыглушыць гэта, не паказваць на людзях, але тое яму цяжка ўдавалася.

Праз нейкі час з’явіліся перапалоханая сястра і швагер, схіліліся ў паклоне.

Цар усміхнуўся задаволена, спытаў:

– А вы чаго так баіцеся? Быццам збіраюся вас забіць. Не вас хачу забіць, а іншых...

Абодва са страхам уперыліся ў Ірада.

– Я ведаю, людзі будуць святкаваць маю смерць. Вялікае свята. Але я не магу дапусціць таго, каб яны радаваліся. Хаця мне і не кажа ўсёй праўды аддадзены лекар, дні мае палічаныя ўжо на пальцах, так што вам доўга чакаць не прыдзецца...

– Усемагутны цар, нельга так гаварыць! – упала на калені Саламея, а за ёй бухнуўся на падлогу і Аляксандр. – Жыві і яшчэ сто гадоў!

– Ліслівіце, хлусіце, – кісла перакрывіўся Ірад, адвярнуўся ад іх, пачасаў мокрае падбароддзе, паздзіраў струпы і фурункулы. Яны пачалі крывяніць, і чырвоныя струменьчыкі папаўзлі ўніз – як маленькія гадзючкі, якія толькі што нарадзіліся... – Усемагутны? Дык чаму ж я не магу вярнуць сабе здароўе, чаму?!?

– На ўсё... – сястра хацела сказаць “воля Божая”, ды спатыкнулася, збаялася прагневаць брата, дагаварыла: – На ўсё ты здольны, мой цар, на ўсё... Ты – як сонейка для нас. Захочаш, і здароўе сабе вернеш. Вунь які лекар у цябе знакаміты, з другіх краінаў прыязджаюць да яго, перакупіць яго хочуць, ды ён не згаджаецца ні на якое багацце – табе адданы...

Ірад не пачуў шчырасці ў яе словах, але папракаць у тым сястру не стаў, бо не для гэтага паклікаў яе да сябе.

– Дык вось, – працягваў Ірад, зрабіўшы доўгую паўзу, бо яго зноў пачаў адольваць невыносны боль, – слухайце мяне ўважліва... Не ў маіх сілах спыніць смерць. Але я яшчэ здольны прымусіць аплакваць сябе з жалобай, – і тым самым наладзіць мне сапраўдныя хаўтуры і царскае пахаванне... Слухайце маё апошняе распараджэнне…

Ірад падняў вочы ад падлогі, паглядзеў на іх. Зірнуў так, што ў іх пабеглі мурашкі па спіне.

– Выканаем тваё распараджэнне, наш салодкі цар! Загадвай! Але не хочам, каб яно было апошнім, – імкнулася паддобрыцца Саламея, старалася ўсміхнуцца, але ў яе тое не атрымлівалася, а толькі кіслая грымаса перакрывіла гожы твар.

На ёй блакітнае адзенне, праз плячо, да самай падлогі, звісаў шырокі, вышыты золатам, пояс – як і косы, што рассыпаліся па плячах і даходзілі да клубаў. Вочы вялікія, чорныя, разумныя.

– Устаньце. Падыдзіце да мяне бліжэй – мне цяжка гаварыць.

Яны падняліся з падлогі, падышлі да Ірада. У іх адразу забілася дыханне: ад цара патыхала, як з прыбіральні...

Ірад не здзівіўся іх хуткаму адказу. Ведаў, што яны баяліся яго, як і іншыя, жадалі яго смерці. Але Ірад ведаў і другое: калі сястра і швагер дадуць слова, паабяцаюць выканаць яго загад, то так і будзе. Цар пакутліва ўсміхнуўся, як падзякаваў ім, – радаваўся, што на момант адступіў кашаль:

– Я быў упэўнены, што дамоўлюся з вамі. Дык вось... На іпадроме знаходзяцца запрошаныя і абраныя людзі з усёй Іудзеі. Чакаюць маіх падарункаў. Вы ім і перадасце іх. Якія? Своеасаблівыя, прызнаюся вам, падарункі...

Ён схіліў галаву, глядзеў на свае ногі, якія спрэс пакрыліся вадзянкай. З іх аплывала долу шэра-жоўтая густая вадкасць. Часта дыхаў. І калі рабіў глыбокі ўздых, то ў горле нешта сіпела…

– Як толькі з маіх грудзей вырвецца апошні ўздых, то няхай ваяры ў той жа момант акружаць іпадром, і ўсіх людзей – да аднаго! – пасякуць мячамі. Тады ўся Іудзея, як і кожны дом, паміма сваёй волі, будзе аплакваць іх. А адначасова будуць аплакваць і мяне. Плач будзе чуцен па ўсёй Іудзеі... І гэта будзе сапраўднае свята, апошняе свята для мяне. Так я жадаю. Такі мой загад. Так яно і павінна адбыцца.

Яны схілілі перад ім галовы, маўчалі. Мусіць жа, пашкадавалі, што паабяцалі Іраду, не ведаючы, што тым самым узялі на сябе вялікі грэх.

– Добра, мой салодкалюбівы цар, – прыйшлося сястры пацвердзіць раней дадзенае абяцанне, адчула, што ёй адразу стала блага...

– Выканаем тваю волю, наш наймудрэйшы цар! – следам за ёю прамовіў швагер, гледзячы аддана на Ірада – вышэй яго галавы. – Як загадаеш.

Цар сядзеў на адной палавіне азадка. Поўнасцю сесці не мог – пранізваў тады нясцерпны боль.

– А цяпер ідзіце, – прагнаў іх Ірад.

Трымаўся ўжо з апошніх сілаў, каб не асунуцца на падлогу.

Калі ж сястра са швагерам пакінулі яго, умольна паглядзеў на лекара, прашаптаў:

– Мне блага, Ляфарас!..

Ірад зноў ачуняў, пачаў роўна дыхаць. Ляфарас прапанаваў:

– Мой цар, яшчэ раз хачу агледзець цябе. Стань на калені, сагніся...

Ірад не адразу падпарадкаваўся просьбе лекара – сядзеў нейкі час, збіраўся з сіламі. Абапершыся рукамі, устаў, паглядзеў на лекара. Той паказаў яму на тапчан, дзе павінен укленчыць хворы.

Сам не мог сагнуць калена, яму памагаў Ляфарас. Цар упёрся локцямі рук, убачыў перад тварам крывавыя прасціны, адчуў ад іх невыносны смурод , падумаў, як тое і вытрымлівае лекар, не перакрывіцца нават. Але на тое ён і лекар...

Ляфарас вялікімі пальцамі адтуліў палавінкі ягадзіц, убачыў, што прамая кішка ўся ў гнойных струпах. Затрымаў дыханне, каб не ўдыхнуць у сябе атрутны пах...

– Досыць, уставай мой цар, – прамовіў лекар, ідучы да меднага таза з гарачай вадой – пачаў мыць рукі, шаруючы іх адначасова

зялёна-жоўтай травой і лотацямі, што дызенфецыравалі рукі і давалі мыльную пену.

– Што там, Ляфарас? – лёгшы ўжо ў ложак, аддыхаўшыся, спытаў Ірад. – Што ты ўбачыў там? Пагібель маю, так?

Голас сіплы, слабы, а ў вачах слабая надзея на добрую вестку.

– Зменаў няма, мой цар, хаця перад гэтым вымываў кішэчнік патрэбным растворам... Струпы павялічваюцца, і нельга іх ніяк вывесці...

– А ногі, што стала з маімі нагамі, Ляфарас? Паглядзі на іх. Гэта ж не ногі, а крывавыя слупы...

– Не ведаю, аднаму Богу тое вядома, – не хацеў гэтага казаць лекар, – вырвалася само сабой.

– Зноў ты пра Бога! – крыкнуў Ірад, і тут жа зайшоўся ў кашлі.

Позіркам загадаў, каб лекар падышоў да яго бліжэй:

– Скажы, Ляфарас, толькі не хлусь, – колькі мне... за...сталося?

Лекар выпраміўся, бо больш ужо не мог трываць – кружылася галава ад едкага смуроду:

– Мала, мой цар... Мо з тыдзень, а мо і таго меней...

Ірад уздыхнуў і заплакаў, вялай рукой загадаў пакінуць яго.

Доўга сядзеў моўчкі, разважаў, успамінаў...

...Перад яго вачыма, як жывыя, мітусіліся, бегалі здані-прывіды, і іх лік павялічваўся і павялічваўся; яны запоўнілі прасторнае памяшканне, дзе ляжаў Ірад. Таўкліся, піхаліся, нешта крычалі, крыўляліся...

Іх крык вырываўся вонкі, ляцеў некуды наверх, дзе былі расчыненыя вокны ў двор... Ірад пазнаваў і не пазнаваў тых зданяў. Яны здаваліся і знаёмымі, і незнаёмымі, то чужымі, а то роднымі...

Перад яго тварам сталі два яго сыны, якіх забілі па яго ж загадзе. Толькі яны маўчалі, зневажальна глядзелі яму ў вочы, пыталіся: "Як ты мог аддаць смерці сваіх родных дзяцей? Няўжо ўпэўнены, што ніколі не будзеш цярпець пакуты за сотні і тысячы забітых невінаватых людзей. А за тых дзяцей, якіх ты забіваў, шукаючы Сына Божага, ты не чакаў кары? А за самога Хрыста?.."

Галасы мацнелі, шырыліся, і балелі ўжо вушы ў Ірада – і ён затуліў іх далонямі. Але тое не памагала пазбавіцца ад крыку зданяў.

І тады Ірад, нечакана для самога сябе, ускочыў з ложка з намерам уцячы і са свайго пакоя, і ад надакучлівых нябожчыкаў. І сам закрычаў, што было сілы... Ахрып, закашляўся, закаціў пад лоб вочы...

Ступіў колькі крокаў ад ложка, паваліўся на падлогу. Не чуў, як яго падняў лекар, як зацягнуў на ложак, накрыў прасцінай.

Ён надоўга праваліўся ў бяздонне. Лекар падумаў ужо, што надышла ўжо тая пара, якой не мог мінуць цар... Але ў ім яшчэ білася, хаця і слаба, кволае жыццё...

У той жа вечар, крыху ачомаўшыся, зразумеўшы, што яго чакае наперадзе, і што тое нельга ні абысці ні аб’ехаць, Ірад рашыў ураз скончыць з пакутамі і спыніць сваё існаванне на гэтым свеце.

Яго працінаў неймаверны голад – дрыжэлі рукі, кружылася галава. Пасцельнічы перамяніў прасціны і пялюшкі, засцяліў усё чыстае і свежае. Кожны дзень рабіў тое – ранкам і ўвечары. Маўлівы, сагнуты, пажылога веку чалавек.

Хацелася есці, узяў з вазы чырванабокі яблык.Папрасіў, каб яму прынеслі нож – парэзаць на долькі. Любіў так ласавацца з дзяцінства. Просьбу яго выканалі. Разрэзаўшы яблык, пачаў уважліва разглядаць нож. Доўга не выпускаў з рук. А потым рашыўся, адважыўся... Рашуча падняў правую руку, імкнучыся закалоць сябе...

Але нехта Нябачны не дазволіў яму тое зрабіць... Так і павісла рука ў паветры – як усё роўна прывязалі яе. Той, хто назіраў за ім, не дазволіў яму такую раскошу – памерці імгненна.

На наступны дзень, пад вечар, калі спаўзла збольшага з зямлі духата і калі стала вальней дыхаць, паклікаў Ірад да сябе свайго сына, каб развітацца. Сына прывялі да яго, як сонца апусцілася за гарызонт. У вачах сына не бачылася страху. Ён даўно ведаў і рыхтаваўся, што яго жыццё можа быць абарвана ў любое імгненне. Як абарвалася і ў братоў яго.

– Як будзеш жыць без мяне? – папытаўся Ірад у перадапошняга сына. Абодвух братоў яго па тайным загадзе бацькі забілі царскія ваяры.

– Як загадаеш, так і буду жыць, мой цар. Навучы... Я думаю, што ты пакінуў мяне ў жывых толькі таму, што хочаш перадаць мне кіраванне Іудзеяй, ці не так? Я ж да гэтага не імкнуся, на ўсё твая воля. Ці гэтае жэрабя выпала Архелаю – майму малодшаму брату?

Ірад паглядзеў пільна і дапытліва на сына. Здзівіўся яго смеласці, яго разважлівасці, быццам бачыў яго ўпершыню.

– Не, сын, не яму выпаў гонар кіраваць дзяржавай, а табе... Думаю, што харошы цар з цябе атрымаецца, калі будзеш трымаць галаву на плячах...

Сын кісла ўсміхнуўся, не сыходзячы з месца, папытаўся:

– А калі не буду трымаць, то што атрымаецца, мой цар?

Ірад нічога не адказаў на пытанне сына. Апусціў галаву, прыкрыў даланёй вочы. Тым самым падаў умоўны знак свайму збраяносцу.

Царскі сын не чуў, як позаду яго, быццам пантэра, падкраўся ваяр, не бачыў, як той замахнуўся – з левага пляча – шырокім бліскучым мячом, і не паспеў адчуць, як у імгненне аддзялілася галава ад тулава... Цар адняў даланю ад вачэй – да самых яго ног падкацілася сынава галава... Губы яшчэ нешта шапталі, вочы глядзелі асуджальна і зневажальна – цара нават працялі дрыжыкі, пацямнела ў вачах...

Але такое доўжылася не доўга. Абезгалоўленае цела таксама ўпала непадалёку і білася ў канвульсіях, нараджаючы салодкую радасць у душы дыктатара...

Ірад з асалодай глядзеў, як уздрыгвала цела без галавы, бачыў, як расцякалася па падлозе вялізная лужына крыві, утвараючы кілім, – чырвоная пляма плыла да ног сыназабойцы...

Ногі адчувалі ўжо цёплую кроў, і Ірад адзначаў пра сябе: “Во колькі багата крыві ў царова сына...

Шкада толькі, што, адабраўшы жыццё ў яго, не магу ўсяліць у сябе... Няўжо душы трох сыноў не зажадалі перасяліцца ў мяне?!?”

Ірад, супакоіўшыся ўжо, няўцямна глядзеў на галаву, якая ляжала ў тым ліпкім крывавым кіліме: расплюшчаныя вочы глядзелі на яго...

“Царства, усе хочуць царства... Не могуць пражыць без царства... – паспеў яшчэ падумаць Ірад, бо тут жа перад ім захістаўся палац, пачала ўцякаць з-пад ног зямля. Падалося яшчэ, у перадапошняе імгненне, што перад ім ажыў раптоўна сын, і яго браты моўчкі стаялі ў яго за спінай...

Ён яшчэ доўга хрыпеў, у беспрытомнасці ўжо чапляючыся за жыццё, упаў на падлогу – у цёмна-чырвоную лужыну, і сучыў, сучыў босымі нагамі па слізкай і ліпкай крыві сына, пакуль не скаціўся

тварам безжыццёва ў чырвоную макрэчу – побач з адсечанай галавой...

Пакуты цара Ірада скончыліся.

Бачачы тое, анёл вылецеў у расчыненае акно, паляцеў да Язэпа ў Егіпет. Сеў каля главы, а потым і ўвайшоў у яго сон, прамовіў:

“Цяпер, Язэп, прыйшла пара. Уставай, бяры Немаўля і Яго Маці, і вяртайцеся ў Іудзею. Бо той, хто хацеў смерці Дзіцяці, сам сканаў побач са сваім ложкам...”

“Добра, анёл мой, дзякую табе! – адказаў Язэп, радуючыся, што бяда абмінула іх. – Заўтра ж мы выберамся ў дарогу...”

Але дачуўшыся, што замест Ірада будзе царавацъ Архелай – апошні сын яго, – збаяўся ісці туды.

Ноччу зноў з’явіўся той жа анёл, супакоіў Язэпа, сказаў, што нішто не пагражае ім.

І толькі тады Святая Сям’я адправілася ў межы Галілейскія...

8

Дапісаўшы апошні радок, перагледзеў напісанае. Нябачны груз, што прыгнятаў, пакінуў мяне. Каб адпачыць, прылёг на ложак. Спаць не хацелася, стома авалодала мною. Не ведаю, колькі прайшло часу, колькі ляжаў у ложку, але, калі адчуў аблягчэнне, захацелася прагуляцца. Блукаў бязмэтна па калідорах, шукаў што-небудзь цікавае для сябе. Крокаў маіх не чуваць зусім, калі ногі дакраналіся да падлогі. Справа і злева – дзверы, дзверы, дзверы...

Калідор бясконцы – колькі ні ішоў, канца няма. Сустракаліся і перакрыжоўкі, але і тыя, новыя перасячэнні, без пачатку і канца. Так, сапраўды я знаходзіўся ў нябачным кубе – спаміж шасці люстэркаў. Але я не паварочваў ні ўправа, ні ўлева, каб не заблудзіцца... Ну, хоць бы які ўказальнік, нумар дзвярэй, паметка, – анічога.

Прыхінуў вуха да адных дзвярэй, да другіх: музыка, і льга падумаць, што ідзе рэпетыцыя духавога аркестра. Зноў музыка – ці то твіст, ці то факстрот. Весела жывуць, танчаць. Але за наступнымі дзвярыма нешта грымела, – як быццам з вышыні скідвалі нейкі груз на зямлю. За суседнімі – ціха... Далей пачуў гудзенне рухавікоў, быццам працавалі друкарскія машыны. Друкарня “Алкеп”? А чаму б і не? Ледзьве прымусіў сябе не адчыніць тыя

дзверы. А далей ужо чулася завыванне ветру, грымелі, як у траўні, грамы, бліскалі маланкі – праз шчылінкі дзвярэй прабіваліся бліскаўкі-сполахі...

А то чуліся крыкі аб дапамозе. Некага катавалі. Хто катаваў? Інквізіцыя? Гестапаўцы? Сталінскія энкавусаўцы?.. Ці сённяшнія эскадроны смерці? Дзіцячы жудасны плач. Крык аб дапамозе, працяглае "ма-маааааа!.." Я ўжо гатовы кінуцца на дапамогу, але нешта і спыняла мяне...

І ўвесь калідор напоўніўся крыкамі, выбухамі, стрэламі, стогнамі, рогатам, як быццам дэманстраваўся ў кінатэатры фільм пра тэрарыстаў ці праходзілі здымкі таго ж фільма ў павільёне студыі... Раз ёсць друкарня, то чаму не могуць існаваць і кінастудыі? У акторах, думалася мне, недахопу не было.

Ува мне разгаралася цікавасць – карцела пастукацца ў дзверы, каб пераканацца ў сваіх здагадках. А калі трэба, то прыйсці і на дапамогу.Не падышоў, не расчыніў. Пабаяўся. Вярнуўся назад. Ішоў і стараўся не надаваць значэння пачутым гукам і воклічам. А ў мазгу малаточкам пастуквала шкадаванне: "І чаго ж ты так напалохаўся? Калі ж няма ручак з гэтага боку, то яны маюцца з адваротнага... Не спадабаецца, дык ты ў любы момант можаш і выйсці адтуль... А можаш і зусім ад дзвярэй не адыходзіць і ўбачыш усё праз прачыненыя... Дазвол жа на тое ты маеш..." Невядомы голас спакушаў мяне, акурат як той гад Еву ці Адама... Не ведаю, як яно атрымалася, але мая рука ўсё ж дакранулася да дзвярэй. Толькі дакранулася. Я яшчэ стаяў і вагаўся – адчыняць ці не, і тут жа незнаёмы голас зноў шапнуў затоена: "Ну-ууу... Смяле-ееей!.." І я (а можа, і не я?) лёгенька яе піхнуў. Яшчэ нейкі час раздумваў, пераступаць парог ці не, як пачуў знаёмы голас:

– А, ты? Ну, заходзь, заходзь... А то столькі часу за галоўнага мастака, а саромеешся праведаць нас. Прыдворным чыноўнікам стаў, заганарыўся?

То гаварыў да мяне мой сябар Павел. Непадалёк ад яго сядзелі і другія людзі, мусіць, таксама мастакі. У старадаўнім адзенні, у шыракаполых капелюшах. Тады толькі, асмеліўшыся, пераступіў парог. Але далёка усё роўна не адыходзіў ад дзвярэй, каб у выпадку чаго тут жа шуснуць назад.

– Ды не бойся ты, дзверы нікуды ад цябе не ўцякуць, – разгадаўшы маю трывогу, супакоіў Павел, прапанаваў сесці. – Выпі

таматнага соку, больш у мяне пакуль нічога няма. Заўтра падвязуць усяго, а на дадзены момант я жыву толькі сокам. І, ведаеш, цудоўна сябе адчуваю.

Ён ні кропелькі не перамяніўся. Такі ж вясёлы і бесклапотны, не помніў зла і крыўды. Даверлівы і прастадушны.

– Даўно тут? – сам не зразумеў, чаму спытаў у яго.

– Дакладна не памятаю... Але яшчэ недастаткова для таго, каб называцца абарыгенам гэтага карабля. Я тут часова.

– Часова – чаму?

– Хіба ж не ведаеш? Ты ж паклікаў мяне сюды.

– Я? Цябе? – здзіўлена паглядзеў на яго. – Для чаго?

– У сябе і папытайся... Ды жартую, не хмурся. Я сам тут па сабе. Таму, што ў адказе за цябе. Таму, што я старэйшы за цябе. Яшчэ – што я твой сябар. Але самае галоўнае па той прычыне, што героі сваіх аўтараў заўсёды ў адказе за сваіх стваральнікаў. А раз у адказе, то і павінен ахоўваць і ратаваць...

– Ратаваць? Мяне? Ад каго?

– Ад твайго ж глупства.

Я не разумеў, пра што ён гаварыў, таму, глянуўшы на тых, хто быў побач з ім,  папытаўся:

– Хто тут з табой яшчэ?

– А, гэтыя?.. Сальвадор Далі, а там далей – Ван Гог. Купаецца ў моры – Веласкес... Мы сябруем, хаця не абыходзіцца і без спрэчак. Але спрэчкі мірныя, і толькі на тэмы мастацтва. Ніхто нікому не зайздросціць.  Рафаэль не раўнуе Леанарда да Вінчы... Я іх паклікаў сюды на нейкі час, яны, так бы мовіць, у групе падтрымкі... Мы тут, напэўна, адзіныя, якія не маюць дачынення да Анатасавага свету, ён да нас ніколі і не заглядвае...

Я, здаецца, пачырванеў. Бо зразумеў, у чый агарод ён кінуў каменьчык. Ён успомніў маю рэўнасць і зайздрасць да яго творчасці. Ён, Павел Севяранін, маляваў, як гуляў усё роўна. Як быццам мастацтва і не было яго галоўным заняткам.

У яго намячалася адбыцца выстава. І ў мяне. Камісія прыйшла да высновы, што першым павінен выстаўляцца я. Хаця першапачаткова стаяў першым ён. Я не адмовіўся ад выставы. Мне б, дурню, сказаць, што саступаю першынство Севяраніну, што ён даўно чакае той падзеі, жыве ёю. А я... Змоўчаў. Узяў грэх на сваю душу. Ён не прыйшоў на выставу. Не прыйшоў таму, што не мог прыйсці – яго збіла машына. Гаварылі, што ён вельмі напіўся

ў той вечар. А мо і не напіўся, прыдумалі ўсё. Мяне зваліла хвароба, загрыпаваў, не падымаўся цэлы тыдзень з ложка. Мроілася ў гарачцы, што Павел прыходзіў да мяне ў адведкі і паіў гарачай гарбатай…

– Ды не перажывай ты з-за гэтага, – супакойваў ён мяне, адпіваючы маленькімі глыткамі чырвоны сок, а мне здавалася, што то і не сок зусім, а яго кроў. – Што здарылася, тое мінула... Ты так захацеў. Так працавала тваё ўяўленне і фантазія. Хіба ж аўтар адказвае за сваіх герояў? Ты вунь і пра Ірада пісаў, дык што, і за яго ты ў адказе?

– Адказваю, яшчэ і як... Хаця і позна гаварыць пра гэта, але ты ўсё ж даруй мне, Павел, што так атрымалася.

Паглядзеў яму ў вочы, шукаючы ў іх спачування, чакаючы, што ён здыме з мяне той боль, які сядзеў пастаянна і глыбока ўва мне.

– Ды няма табе з-за чаго вінавацімца, – нахмурыўся дружбак. – Я ва ўсім вінаваты сам...

– Я павінен быў уступіць тую выставу табе. Я мог тое зрабіць...

Севяранін перакрывіўся, як быццам яго працяў зубны боль, зірнуў на мяне:

– Антон, не будзь дзіцёнкам... Я дарую табе ўсё і не трымаю на цябе зла. Задаволены цяпер?

Не ведаў, што адказаць. Ён сказаў такім тонам, што лепей і прамаўчаць.

– Перада мною ты зусім не вінаваты, а вось перад Жанай-Жанетай, можа, і вінаваты. Гэта ж, як-ніяк, жанчына, ды яшчэ закаханая...

– А дзе яна цяпер? Тут, з табой? І адкуль, скажы, вы ведаеце адно аднаго? У рукапісе вашы шляхі не перакрыжоўваліся... Хто аб’яднаў вас у адно? Гэта ж супраць жадання аўтара.

І толькі цяпер я ўбачыў за яго спінай мальберт. На палатне намалявана Жанета. Яна ўсміхалася. Лоб перавязаны чырвонай стужкай – любіла так хадзіць. Такой і да мяне прыходзіла ў майстэрню. Мастак намаляваў і задні план, на якім Ван Гог і Леанарда – сядзелі, праўда, да нас спінай.

– Так, яна сярод нас, толькі пайшла некуды. Хутка вернецца. Яна любіць прагульвацца па беразе мора. Пазіруе мне...

Я ўздыхнуў:

– Што б ты ні казаў, Паўлюк, а вінаваты я, толькі я... Упэўнены ў гэтым…

– Можа, і вінаваты... Дык што з таго. Мы абодва вінаватыя, калі ўжо на тое.

– Мусіць жа, так...

.....................................

Жана, Жанета... Мая мілая натуршчыца! Я добра памятаю тыя дні, калі яна прыйшла ў майстэрню і спытала, ці трэба мне натуршчыцы. Пазіравала ў чым маці нарадзіла. Але ніводнага разу не ўздрыгнула ў мяне сэрца, калі паглядаў на яе, калі вывучаў кожную рысачку цела і твару. У яе быў дасканалы стан, целасклад, а твар гожы і прыцягальны. Доўгія косы звісалі да пояса, прыкрывалі, як усё роўна хавалі, яе тугія, налітыя жыццёвай сілай, грудзі. Ніводнага разу не падкацілася да мяне пажаднасць – адчуванне юрлівасці забаранялася па прафесіі. Не ведаю, кім, але не дазвалялася...

Я ж бачыў толькі яе косы і вочы. І – душу. І падалася мне яна незямной істотай... Паглядала на мяне і ўсміхалася. Як быццам здзекавалася позіркам, кажучы: “У мяне такія цудоўныя грудзі, тугія і нікім не чапаныя, а ты, мастак, абыякавы да мяне...” Жана прыходзіла і знікала, то жартавала, то гаварыла сур’ёзна, смяялася ці плакала, – але ніколі не расказвала пра сябе.

Я ж не прыставаў да яе з роспытамі, таму і не ведаў, хто яна і адкуль узялася, як зарабляла на жыццё. Мая плата ёй выглядала сімвалічна, можа, і платай зусім назваць нельга.

Пазіравала яна па дзве гадзіны – праз дзень. Прыходзіла, віталася, моўчкі распраналася, ускоквала на канапу і потым ужо сядзела нерухома у той паставе, якую вызначыў ёй напачатку.

– Майстра, пачнем? – пыталася з усмешкай, сарамліва адварочваючыся ад мяне.

– Пачнем... – адказваў коратка, настройваючыся на працу.

– Майстра, а хто тут яшчэ з табою жыве?

– Ніхто. А што?

– І няпраўда твая. З табою мышка жыве, чую, як хрумстае коржыкам. Ты ж і пра яе пісаў. Ці не так?

– Пісаў. Толькі гэта не яна, а ён. Мышук. Так назваў яго...

Мышук як быццам пачуў, што ўспомнілі пра яго, і прыбег на канапу да Жаны. Яна не ўскрыкнула, не спужалася, а толькі падхапіла мяккі камячок і прыставіла да грудзей...

– Ты харошы, Мышук, харошы, і разумны, – шаптала яна, смяялася. – Няхай мастак нас намалюе абодвух...

А аднойчы яна ўбачыла на маім стале віно.

– Хачу, майстра, паспрабаваць віна. Ніколі не піла яго... А гэтае, што ў цябе, такое прыцягальнае і спакушальнае...

– Пі, – сказаў абыякава, беручы ў рукі пэндзаль.

– Сама піць не буду, з табой хачу.

Яна ніколі не называла мяне па імені, а толькі – "майстра". Хаця які я быў майстра, так, падмайстра, рамеснік. Наліў ёй і сабе. Дзяўчына адпіла некалькі глыткоў. Прымружыла вейкі, паправіла на спіне косы, потым, падняўшы фужэр, глядзела праз яго на сонца.

На стале, разам з намі, частаваўся і Мышук.

– Сонца чырвонае, крывавае, – прамовіла Жана. – Бяда будзе, мінулае будзе стукацца ў дзверы... І пасачак у мяне чырвоны, ты заўважыў?

– Навошта так сумна? – паглядзеў на яе.

– Хіба ж гэта сумна, майстра? Гэта ж – радасна. І дзякуй табе, што ў сваім апавяданні такой намаляваў мяне. Прызнаюся, мне дужа падабаецца мой вобраз.

Жанета прыслухалася да нечага – навастрыла слых. На палічцы, побач з Янінай і Ясем, стаяў старэнькі прымач "Спідола". З яго дынамічка ледзь чутна прараzалася мелодыя "Аргецінскага танга". Яна ўскочыла, падбегла да яго, павялічыла гук. Потым, сеўшы на канапу, з нейкім радасным сумам прамовіла:

– Люблю гэтую мелодыю... Боскае танга! Майстра, запрасі мяне на гэтае танга... Калі не запросіш, то я памру тутака ад невыноснага гора...

Вясёлая Жана, гарэзлівая, у вачах іскрынкі шчасця.

Потым яна, голая, села мне на калені. Адпіла зноў трошкі, пачала расшпільваць гузікі маёй кашулі... Дакранулася вуснамі да майго вуха, сціснула зубамі. А ў гэты час яе рукі распраналі мяне.

І я не праціўіўся, бо не ведаў, чым тое ўсё можа скончыцца...

– Ты мяне малюеш голую, а я цябе не магу распрануць. Хачу намаляваць цябе. Вачамі...

– Малюй.

– У табе няма жыцця, – папракнула яна мяне. – Прачніся...

– Я не маю права кахаць натуршчыцу... І такога павароту падзей я не будаваў, здаецца, у апавяданні... Хто павярнуў сюжэт у іншы бок?

Яна закрыла мне рот даланёй.

– А я хіба – натуршчыца? – прашаптала юрліва яна. – Ты мяне ні з кім не блытаеш? Тады навошта спатрэбілася табе выдаваць няскончаную працу? “Рэквіем” жа яшчэ сыры, яго трэба перапісаць разоў з дваццаць... Тады і героі атрымаліся б устойлівыя, аформленыя, паслухмяныя закону існавання, ідэйна, так бы мовіць, вытрыманыя...

– Я не выдаваў яго, – апраўдваўся перад ёй, як школьнік, і гаварыў чыстую праўду.

– Гэта толькі табе здаецца... Як толькі кніга была надрукаваная, я адразу ж і ажыла, стала кроўю і плоццю. Сам вінаваты, майстра, маёй віны ў тым няма... Таму і даруй, калі я буду рабіць нешта такое, што будзе цябе здзіўляць, і не даспадобы...

– Я не выдаваў яе, павер, Жана. Недасканалае я сам ніколі на суд людскі не выношу.

Жана не была п’янай. Я слаба супраціўляўся яе юрлівым жаданням, але яна, жартуючы, заламала мне рукі назад і, усміхаючыся, загадала не рухацца, інакш паабяцала пакрамсаць самую сябе вострым нажом...

– Не сябе, зразумела, а палатно, на якім ты мяне намаляваў... – шаптала мне на вуха, тым часам скідваючы з мяне кашулю. – Ты плаціў мне вельмі мала. Пагэтаму і хачу ўзяць з цябе галоўную плату. Я хачу нарадзіць ад цябе сына. Такога ж таленавітага, як і ты... Мышук, – звярнулася да майго сябра, – будзь ласка, пакінь нас адных, бо я саромеюся цябе...

Мне б, дурню, праявіць настойлівасць, адпіхнуць ад сябе, а я… Не хацеў яе пакрыўдзіць адмовай... “Если женщина просит…” Пень без мазгоў! Інакш сябе не мог абазваць... Мышук паслухаўся дзяўчыну, нячутна юркнуў са стала ўніз і схаваўся пад падлогай.

Далей адбылося тое, што і павінна ў такіх выпадках адбыцца.

Але тыя імгненні застануцца ў маёй памяці ўсё жыццё. І тут я як быццам апынуўся на раздарожжы: з аднаго боку, я быў удзячны Вышняму, што паслаў мне ў жыцці такія шчаслівыя хвіліны, а з другога... праклінаў сябе за сваю слабасць, і прасіў у Бога дараваць нечаканы грэх... Існы ці неісны?

А калі гэта быў мой толькі сон, юрлівая мроя? Але ж і ў думках можна саграшыць, і тое будзе таксама грахом...

Севяранін некаму памахаў рукой, заўсміхаўся. Ён ужо, здавалася, не звяртаў на мяне аніякай увагі. Мне падалося яшчэ,

што я перастаў і цікавіць Паўла  і што прыйшла пара мне пакінуць яго...Не ведаў, што сказаць на развітанне, лезлі нейкія няўклюдныя і не да месца словы. Запознена пашкадаваў, што адчыніў гэтыя дзверы. Для чаго адчыніў? Паспавядацца? Пераканацца ў сваім граху? Не ведаю… Хіба толькі для таго, каб пабачыцца са сваім сябрам, для якога стаў няхай не ворагам, дык чужым?

Але ж і ўцяміў адну ісціну: сваю віну, тым больш грэх, перад кім-небудзь выкупіць немагчыма ніколі. Нават нельга замаліць яго ў царкве, пазбавіцца і на споведзі перад святаром… Гэта ўжо як кляймо. Мецінка на ўсё жыццё...

– Я пайшоў, Павел?

– Так, так, табе пара.

Ён усміхаўся, весела пазіраў на мяне, стараючыся прыдаць свайму твару бесклапотнасць і ўсёдараванне.

– Заходзь, калі што якое... Ды вось што яшчэ… Будзь цвёрды ў сваіх памкненнях і жаданнях. Мы з Жанай будзем побач. У цяжкія хвіліны мы прыйдзем табе на выручку. Дзеля гэтага мы і знаходзімся тут.

– Добра, буду мець на ўвазе.

Дзверы расчыніліся гэтак жа лёгка, як і перад гэтым, калі ўваходзіў. За спінай пачуўся смех. З якой прычыны ён быў, не ведаю, але падалося мне, што смяяліся з мяне. І ад таго яшчэ непрыемней стала на душы.

9

Жана, Жаначка, Жанета...

Яна больш не прыходзіла да мяне. Я не ведаў яе прозвішча, як і не ведаў, дзе і з кім жыве, хто яе бацькі. Да глыбокай ночы блукаў па горадзе, спадзеючыся сустрэць ці то ў натоўпе, ці то ў глухім завулку... Не сустрэў, не сутыкнуліся нідзе нашыя вочы.А праз год прыйшла да мяне незнаёмая дзяўчына. Нясмела пастукалася ў дзверы майстэрні.

– Вы – Антон Клімовіч?

– Я. Заходзьце.

– Я толькі на хвіліну. Толькі каб уручыць вам канверт.

– Ад каго?

– Ад яе, ад Жанеты.

– Дзе яна?! – сціснуў яе за плечы. – Скажыце, дзеля Бога! Яна болей не прыходзіць да мяне.

Яна ўздыхнула:

– І не прыдзе, майстра. Так яна, здаецца, называла вас?

– Так. А як вас называць?

– Пра мяне ў апавяданні вы толькі два словы сказалі. І нават імя мне не далі. Я яе сяброўка.

– Даруйце за такую бестактоўнасць.

– Скажыце, сяброўка Жаны, дзе яна?

Дзяўчына марудзіла нечага, а потым адказала:

– Няма яе, майстра... Памерла пры родах. Ёй рабілі кесарава... Не вытрымала.

Я абхапіў галаву рукамі. Адчуў сваю непапраўную віну. У тысячу разоў большую, чым перад Паўлам. І ў маёй душы нарадзілася шкадаванне, што ўзяўся за пяро, стварыў іх – нельга мне было гэтага рабіць. Але ж і не мая віна ў тым, што нехта ўкраў сцэнарый-рукапіс і на свой лад перарабіў яго, перапісаў, і не ў лепшы бок, іх лёс... Трагічны лёс. Я стаў палонным, заложнікам свайго ж уласнага рукапісу. Няўжо ў кожнага з пісьменнікаў так?

– Во яе ліст. Яна напісала яго за дзень перад гэтым... Я не ведаю, што яна напісала, і пра што. І ў сябе трымаць яго больш не магла, ён прызначаны толькі для вас...

Не чуў, як яна выйшла. Не падзякаваў нават.

Канверт ляжаў на століку, я баяўся і дакрануцца да яго. Баяўся атрымаць аплявуху. І – папрок. І – праклянцце.

Паўгода ліст праляжаў у майстэрні.

А аднойчы Жана прыснілася мне. Быццам прыйшла ў майстэрню, узяла ў рукі ліст і падала мне, загадала, каб пагаварыў з ёю. Прачнуўшыся, я наважыўся выканаць яе просьбу. Дрыжачымі рукамі разарваў канверт.

“Дарагі мой майстар!

Каханы мой, Антон! Я ніколі не называла цябе па імені, даруй мне гэта. Даруй і за тое, што я цябе паклікала за сабой. На табе няма ніякага граху, і не абвінавачваю цябе ні ў чым, а толькі ўдзячная Богу, што Ён дазволіў мне так саграшыць. Гэта – неймаверная радасць, шчасце.

Я прыйшла ніадкуль, з твайго ўяўлення і мрояў, – і сама не заўважыла, як стала жывым чалавекам. Гэта ж так цудоўна і файна – пражыць (хоць імгненне) як звычайны чалавек, ды яшчэ – зака-

хацца ў свайго стваральніка. Я нічога не патрабавала ад цябе, хацела толькі аднаго... І атрымала тое, што прасіла ў цябе і ў Бога. Я, як у той савецкай стужцы, – “Дзяўчына без адрасу”. Не хацела, каб ты шукаў мяне. Жыла ў тваім уяўленні і памяці.

Памятаеш, як я піла ў цябе віно і глядзела скрозь шкляны фужэр на сонца? Тады ўжо ведала, што дарога ў мяне будзе кароткая. Але не сказала табе. Так што не дакарай сябе, што адбудзецца са мной заўтра. Такі ўжо мой лёс, прыдуманы табой. Але не ты пісаў фінал, не ты... Хаця, калі сумленна прызнавацца, не ведаю, які варыянт з абодвух лепшы... Мне падабаецца першы, але ж не горш і другі – калі я гіну... Гіну, ажываючы, зноў і зноў... Для чытача, зразумела...

Я заўсёды буду памятаць цябе, маліцца за цябе, сачыць за табой, але ніколі не напомню пра сябе. Хіба што калі здарыцца з табой нейкае няшчасце ці бяда, – тады прыйду на дапамогу...

Мілы і харошы мой, Майстра! Каханы мой, Антон! Фантазёр, мастак і – творца! Якое гэта шчасце насіць пад сэрцам дзіця ад каханага чалавека! Напішы па памяці мой партрэт. Напішы нас абодвух. Мяне і будучага сына. А мо ты яго і сустрэнеш калі-небудзь (а раптам?!) – і калі ж тое здарыцца, засцеражы, вельмі прашу цябе, ахіні сваім крылом яго ад халодных вятроў, добра?

А ўсё-ткі лепшай мелодыі, чым “Аргецінскае танга”, напэўна, няма ва ўсім свеце... Ты хаця калі-небудзь слухаеш яго? То ж ты сам і прымусіў, каб я палюбіла гэтае танга. І якое шчасце, што мы патанчылі з табой тое танга!

Гэты ліст перадасць табе мая лепшая сяброўка – Анфіса.

Цалую... Прывітанне шчырае Мышуку. Шчасця табе і ўдач!..

*P.S. А я ўсё думаю – ці можа гераіна рамана мець сына ад свайго аўтара?..”*

Здаецца, я плакаў. Мне ніколі не рабілася так балюча, як у тыя хвіліны, калі чытаў радкі, напісаныя Жанетай. Той больператварыў мяне зусім у іншага чалавека. І таму я ўдзячны той дзяўчыне без адраса. Хаця ж ніколі не здыму з сябе віны перад ёю. Як і перад Севяранінам... Але недзе ў глыбіні душы, на самым донцы яе, прабівалася крынічкай супярэчлівая думка: “А, можа, гэта і някепска, што ажылі мае героі? Якім бедным і нецікавым сталася б маё жыццё без іх?..”

Яшчэ доўга бязмэтна блукаў па пустых калідорах. А за кожнымі дзвярыма чуліся незразумелыя гукі… Мне чулася і бачылася скрозь сцены, як прыдуманыя і рэальныя героі і вобразы ажывалі. Іх жыццё адбывалася на нябачнай мяжы сапраўднасці і ўяўнасці.Па той мяжы, як па лязе брытвы, ішоў і я…

На адной з перакрыжовак, невядома на якім паверсе, мяне нехта паклікаў. Я азірнуўся, але нікога не ўбачыў. Падумаў, што прымроілася.

– Што з табой, браце Антон? Паўз мяне праходзіш, амаль на нагу не наступіў, увагі не звяртаеш? І ў госці да мяне не заходзіш.

Я зніякавеў: на мяне глядзеў Хурс і ўсміхаўся. Стаяў супраць мяне – на адлегласці рукі.

– Міхась Пятровіч? Што вы тут робіце? І ці вы гэта?

– Так, ты не памыліўся, Антон. Гэта сапраўды я.

З недаверам і здзіўленнем гледзячы на яго, спытаў:

– І вы тут – у Анатаса?

– Ды як табе сказаць…

– І – даўно?

– Разам з табой. Мы ўжо абарыгены тут. Але за некалькі гадоў, што мы пражылі тут, і ніводнага разу не сустрэцца? Нонсэнс. Гэта няправільна.

Я рашуча нічога не разумеў: Хурс тут, на “Алкепе”?!

– У госці не жадаеш завітаць? – настаўнік расчыніў дзверы.

– З ахвотай, Міхась Пятровіч! – апамятаўся і з радасцю пераступіў парог яго жытла.

Апынуліся ў пакоі, падобным да таго, у якім пілі з ім гарбату, і пакінуў для мяне тэчку са сваёй формулай грыдпіса.

– Ты здзіўлены, Антон?

– Прызнацца – так, і – вельмі ўражаны. Не чакаў, што праз Анатаса зноў прыйду ў вашы апартаменты.

– Шмат, браце мой, цудаў на свеце, і спасцігнуць іх сэнс, раскрыць змест не кожнаму і дадзена. Але нам з табой – тое пад сілу.

– А з капітанам карабля – Анатасам – вы даўно знаёмыя?

– Не так каб і вельмі, але… Ён ведаў, што я займаюся пытаннямі Бібліі, дазнаўся і пра грыдпіс – прапанаваў мне свае паслугі. Я не адмовіўся. Скажы мне, дзе яшчэ такія ўмовы? Сучасная аргтэхніка, якой няма ў свеце. Інтэрнэт, галактычная сетка, сувязь з іншымі сусветамі … Пра што яшчэ мог марыць вучоны-самавучка, як я?

На нейкі час усталявалася маўчанне, і мне прыйшлося парушыць яго.

– Дык, значыць, і вы паддаліся спакусе?

– Ды як сказаць, з якога боку падысці да гэтага… Паддацца ці саступіць – дзве вялікія розніцы. Калі мне капітан карабля зрабіў сваю прапанову, першае, пра што я падумаў, што сказаў з гэтай нагоды Оскар Уайльд, англійскі пісьменнік і крытык. Анатас, дарэчы, і яго спакушаў, доўга дамагаючыся згоды падпарадкавацца яму. Дык ён, стаміўшыся ад настойлівасці д’ябла, здаўся яму, а для чалавецтва зрабіў заяву: “Адзіны спосаб пазбавіцца ад спакусы – паддацца спакушэнню”.

– Анатасу ўдалося і залучыць да сябе Оскара Уайльда? Можа, ён знаходзіцца сярод нас, а мы яго проста не бачым?

– Усё можа быць…А што тут можа быць дзіўнага?

– Вы з ім не сустракаліся?

– Магчыма і сустракаўся… – Хурс пацiснуў плячыма, пра нешта задумаўся.

Я спыніўся каля кніжных паліцаў, даставаў адну за другой кнігі, са здзіўленнем адзначаў, што ніводнай з іх раней не трымаў у руках.

У асноўным усе яны былі па фізіцы і хіміі, па філасофіі і псіхалогіі. Няўжо Хурс іх усе прачытаў? Апантанасць ідэі грыдпіса засланіла ўсе ў ім іншыя жаданні?

Тым часам Хурс закіпяціў гарбатнік, заварыў, як і ў мінулы раз, сумесь лясных зёлак. За акном яго хаціны набірала сілу восень. Мусіць, абрынуліся на лісце дрэў першыя прымаразкі, таму што пачалі жаўцець першыя лісты клёнаў – іх пранізвалі промні зыркага сонца. Хацелася тут жа выйсці і пакратаць тое лісце рукамі.

– Заканчваеш партрэт?

– Так, ужо на стадыі завяршэння. Але пасоўваецца цяжка.

– У школе, як я памятаю, ты не хінуўся да малявання. Прыйшло тое да цябе пазней?

– Так, і гэта здарылася нечакана. Таму што другое было ў галаве. Пісаць хацелася – газета пацягнула да сябе. А потым…

– Ведаю. І газета абрыдла табе.

– У тым жа Піцеры пачаў наведваць гурток малявання, што быў створаны пры акадэміі мастацтваў. Пахадзіў па выстаўках, зразумеў, што буду мастаком.

Асцярожна, каб не апячыся, дакранаюся губамі да брыжыка кубка, уцягваю ў сябе чароўны напой. Позірк скіраваны на акно.

Нечакана для мяне Хурс, падышоўшы да яго, клацнуў засоўкамі – знізу і зверху – расчыніў насцеж рамы. У пакой паляцелі пахі соснаў і елак, балотных выпарэнняў, пачулася гамана птушак…

“Гэта сапраўднае ці штучнае? – хацелася запытацца ў гаспадара але чамусьці не асмеліўся.

Але на языку пытаннечка сядзела, абпальвала яго, калола і, каб пазбавіцца ад той пякучкі, асцярожна вымавіў:

– Міхась Пятровіч, а вы – звышчалавек?

Ён амаль не адрэагаваў на маё недарэчнае пытанне. Моўчкі, зрабіўшы некалькі глыткоў, паставіў кубак на падваконнік.

– Ды не, зусім не… Які з мяне звышчалавек? Мяне гэтая тэма не хвалюе. Хаця чалавецтва і надае ёй вялікую ўвагу. Я ж падпарадкаваў ёй сваю формулу. Ідэя не новая. Старадаўнія народы складалі міфы і трактаты пра звышчалавека. Бачылі ў іх тытанаў, паўбогаў, пракокаў, месій, святых. А чароўныя казкі, эпічныя песні з вобразамі рыцараў, заступнікаў, якія змагаліся з драконамі, змеямі з трыма галовамі, людаедамі…

– Гэта ўсё выдумкі, так? Тады адкуль браліся такія сюжэты? Не на голым жа месцы яны нараджаліся.

Мы не адыходзім ад расчыненага акна, дыхаем восеньскім паветрам, нам хораша ад пахкага напою і цёплай гутаркі…

– Народная мудрасць… А яна ва ўсе стагоддзі разумела, што чалавек не ў стане сам пабудаваць сваё жыццё, яго трэба ўдасканальваць і ўдасканальваць…

– Цікава – да якой ступені? Дзе мяжа?

– Гэта асобная тэма. Каб адысці ад формулы грыдпіса, я зрабіў такія-сякія вывады. У вольны час можаш азнаёміцца, калі будзе цікава. – Хурс паклаў на падваконне агульны сшытак з зялёнай вокладкай. – Гэта проста развагі, нічога агульнага з асноўнай навуковай працай…

Да акна, лапочучы крыламі, падляцеў голуб. Сеў на выступ, недаверліва паглядзеў на мяне.

– А, Анфіса, – не здзівіўся Хурс, звяртаючыся да птушкі, – прыляцела? А дзе твой Зеўс? Пачакай, я прынясу табе што-небудзь пакляваць…

Ён схадзіў на кухню, прынёс поліэтыленавы пакет з-пад малака, дастаў з яго жменю чорных семак сланечніка. Высыпаў перад Анфісай. Яна тут жа прынялася іх кляваць…

– Раней прыляталі ўдвох. Але нешта здарылася з яе спадарожнікам – адна. Інвалідка, бачыш, правая нага пашкоджаная… Яна прыляцела да мяне па дапамогу. Я вылечыў яе, але нага, як бачыш, зраслася няўдала.

Сапраўды, кіпцюрык у галубкі быў сагнуты, але яна ўпэўнена апіралася на яго, не звяртаючы на нас увагі, частавалася прапанаваным гасцінцам.

– Міхась Пятровіч, спытаць яшчэ хачу: Анатас Алкепаў, а ён хто – звышчалавек, звышшарлатан ці – прафесійны аферыст?

Хурс падсыпаў зярнятак Анфісе, адышоў ад акна.

– Ні першае, ні другое, ні, тым больш, трэцяе… Ён ёсць, і яго няма. Гэта як сусветнае павучынне Інтэрнэта: убачыць немагчыма, але яно існуе… Віртуальна. Існавала заўсёды, яшчэ задоўга да таго, як вынайшлі кампутар, нават як нарадзіўся чалавек. І без кампутара і тэлефона душы людзей былі злучаны між сабою нябачнымі ніцямі. І іх усіх злучыў Творца. Анатас стварыў слабое падабенства таго, што было яшчэ да яго…

Доўга мы гаварылі з Хурсам, як ніколі да гэтага не гаварылі. І невядома, колькі магла доўжыцца нашая сустрэча, маё знаходжанне і гасцяванне ў майго былога настаўніка, калі б не ўспомніў, што пара вяртацца ў сваю “майстэрню”.

Дзіўна, але я адчуваў у яго – у Хурса – сябе спакойна і ўпэўнены быў, што тут мне нічога не пагражае. Не трывожыўся, не турбаваўся, што нанясу сабе тым самым нейкую шкоду, даведаюся для сябе пра нешта новае, пра што раней і не здагадваўся.

Хурс правёў мяне да дзвярэй галоўнага калідора. Толькі прачыніў дзверы, каб я выйшаў, сам жа застаўся на сваёй тэрыторыі.

Паціснуўшы яму руку, пераступіў нябачны парог….

10

Да майго пляча дакранулася чыясьці рука.

Расплюшчыў вочы.

Побач са мной у крэсле сядзеў Анатас.

– Здароў быў, маэстра! Паўгадзіны сяджу каля цябе, чакаю, калі сам прачнешся, а ты ў снах купаешся, як у роднай Прыпяці...

– Быў здароў! Добрай раніцы, добры вечар, добры дзень... Як адказваць табе, Ной? Што цяпер сапраўды – раніца, вечар, ноч, дзень?

У маім голасе выпірала незадаволенасць і раздражнёнасць, і таму чакаў, што адкажа капітан.

– Ты, я бачу, не з той нагі ўстаў? Перанапруціўся, стоячы каля мальберта? Быў у майстэрні. Скажу шчыра, вельмі спадабаўся мне твой пейзаж. Магу купіць яго. І мой партрэт, бачу, блізкі да завяршэння… Працуеш, значыць, напоўніцу, як жартаваў твой сябра Пушкар – не прыкладаючы рук. Мог бы падчас перапынкаў намаляваць і партрэт афіцыянткі Яніны – як-ніяк яна корміць цябе, даруй, нас корміць…

– Сам бы хацеў…

– Слухай, дарагі мой Антоне, у мяне нарадзілася ідэя. Ніколі не здагадаешся. Мы можам тут стварыць карцінную галерэю і назваць яе – “Салон Антона Клімовіча”!... Ты будзеш маляваць тутэйшых жыхароў. Сотні, тысячы, мільёны партрэтаў… Ты не абмежаваны ў прасторы, як і ў часе. Але я бачу, што ты хандрыш, вялы нейкі, абыякавы…

– Ды справа не ў маёй хандры, мой капітан! – я разгублены, збіты з панталыку. – Па-першае, скажы, колькі я знаходжуся ў цябе, адарваны ад свету, людзей, сям’і, сяброў… Я – закладнік, палоннік, хто?..

– Палоннік? – шчыра падзівіўся заказчык. – Палонік ты, а не палоннік. Ты лічыш, што гэта палон? Ты, мусіць, хочаш сказаць, што ў няволі нельга быць творцам ці мастаком? Цікава ты павярнуў кружэлку. І ці ты гэта гаворыш, Антон?! Ты? Калі пайшло ўжо на тое, дык ідзі ў майстэрню, заканчвай мой партрэт – і вяртайся ў свой рэальны свет. Кацiся на ўсе чатыры бакі! Дагарай там у сваім міфічным і дэманічным творчым агні, як на кастры інквізіцыі… Ты ж там – ніхто! Ні-хто! Няўжо не разумееш? Ці – не хочаш разумець? Вяртайся! Скатертью дорога! Але запомні адно: зваротнай дарогі для цябе не будзе. Не дарэмна нехта з вялікіх сказаў: “Ззаду мастака – толькі апраметная…”

Капітан апусціў галаву, пакрыўджана ўздыхнуўшы, дадаў:

– Не трымаю я цябе тут – і ў думках не было такога. Я сам магу прыходзіць да цябе ў тваю навабеліцкую майстэрню, заказваць новыя працы. Але там ты не маеш патрэбных умоў. Нават і грошай няма, каб купіць патрэбныя фарбы, цябе абмінаюць мастацкія выстаўкі, і ты знаходзішся на самым нізкім – бяздарным і графаманскім – узроўні. А тут – фігура, постаць! Ды што я гавару… Хочаш вярнуцца? Калі ласка. Дарабі партрэт – і кацiся.

Божа, як ты мне абрыд са сваім ныццём, скуголеннем, творчай свядомасцю і падсвядомасцю. Ты хоць сам гэта разумееш?

– Разумею, разумею. І таму ты даруй мне, калі пакрыўдзіў.

– Што я чую? – падняў рукі заказчык. – Ты ў мяне просіш прабачэння? Кракадзіл у Ніле здох, няйначай. Ды ладна, дробязі гэта ўсё, выведзенага яйка не каштуюць. І я на тваім месцы паводзіў бы сябе вось гэтак жа, праўду кажу. Нічога дзіўнага. Усё натуральна, па-чалавечы. Што яшчэ? Колькі часу ты знаходзішся тут? Заўтра ці ўчора будзе роўна год. Гэта па вашым часе.

– ?

– Чаго, скажы, табе тут не хапае? Бруду, блуду, гразі, ці мала плачу?.. Зноў у зямное жабрацтва захацелася?

Ён працягваў здзекавацца з мяне, іграў на ўсіх маіх слабасцях, хібах, бедах. І я не вытрымаў:

– Ды не ў гэта ўсё ўпіраецца, Анатас! Сам жа выдатна ведаеш, што не ў гэта! Проста я не разумею сваёй ролі, месца свайго не бачу.

– Вечныя пакуты творчай асобы: ах я бедны, ах я няшчасны… Мы дамаўляліся з табой на пяць сеансаў?

– Іх ужо адбылося пяць.

– Чаму не скончыў работу, чаму не выканаў заказ? Я ж не накладваю штрафных санкцый, не адымаю ў цябе ганарар. Проста цікаўлюся, чаму марудна ідзе праца.

– Я...

– Лянівы ўтрая!.. – здзекліва падхапіў мае словы Нэма. – Хто табе вінен, скажы? На мяне віну ўскладваеш? Усе, каго я запрасіў сюды, усе хочуць застацца тут. А ты... Я яго ў рай пасяліў, а ён зноў у пекла імкнецца...

– Я ж тлумачыў табе…

– Да цябе жонка дазванілася?

– Пагаварылі…

– Ну, во, а ты кажаш, што адарваны… Ты ж ёй можаш і сам званіць – і гаварыць хоць цэлую гадзіну. Ды што гадзіну, тыднямі гавары з ёю, месяцамі… За ўвесь час ты колькі разоў ёй званіў? Ніводнага разу. Чаму?

Ной папракаў ужо мяне.

І справядліва папракаў.

– Не ведаю, – разгубленым голасам адказаў яму. – Усё збіраўся, ды не сабраўся…

– Не сабраўся... А мяне вінаваціш... Прычына ў табе самім. Ці не так, прызнайся шчыра?

– Даруй. Заклініла нешта ў маіх мазгах...

– Дарую, што з табой паробіш. Якія яшчэ ў цябе пытанні да мяне? Выкладвай. Каб усё раскласці па палічках і не вяртацца больш да іх.

– Яшчэ? Апошняе пытанне – як тут працякае час? Нейкія незразумелыя гадзіннікі – і стрэлкі ідуць у адваротным кірунку, і цыферблаты нейкія пагнутыя...

Анатас сціснуў губы, раскрыў іх, правёў языком, цмокнуў, абдумваючы адказ. Выбіраў, мусіць, тыя словы, якімі змог бы мне даступна раскрыць тайну ці простую сутнасць існавання на яго “Алкепе”.

– Так, тут у мяне, ўсё інакш, чым у тваім рэальным жыцці... Я так жыву, мне так зручна, мне так падабаецца… Тут – маё вымярэнне жыцця. Адсутнічаеш год? Дык столькі ж ты працаваў і ў сваёй майстэрні, калі быў у запале. І жонка не шукала цябе, бо разумела. Ты маляваў, піў, быў у забыцці, але не абураўся, што ты ў палоне Бахуса і Мельпамены... Тут я стварыў для цябе ўсе ўмовы, каб ты рэалізаваў сябе як мастак, як асоба, а ты на дыбкі. Няма ў руках пэндзля? Няма падрамніка? Мо гарэлкі няма, каб ты напіваўся да беспамяцтва? Ці фарбаў няма патрэбных?! Усё ў цябе ёсць, толькі працуй! У маім часе сапраўдная воля і свабода.

Я маўчаў, слухаў плынь яго слоў, з якімі згаджаўся і не згаджаўся. Казаў сабе словамі апосталаў: *“І якое тут дзіва: бо сам Сатана выдае сябе за анёла святла, а таму не вялікі клопат, калі і слугі ягоныя ўдаюць з сябе слугаў праўды; але канец іхны будзе паводле дзеяў іхных…”*

– У мяне тут хаос? Ну і што? Я так жыву, мне так зручна. І не толькі мне, а і ўсім, хто побач са мной. Так, ты палоннік у сваім жыцці і нявольнік. Але гэта не мая віна. Ты збег на мой карабель, каб уцячы ад зямнога свайго палону. Ты сам падсвядома хацеў, прагнуў гэтага. Ці не так?

– Увогуле так, але…

– Так увогуле… Увогуле жыццё – гэта вечныя бегі-уцёкі ад жыцця. Прага свабоды і адмаўленне ад яе, цяпер жа ты павінен спыніцца і агледзецца на вялікай працы. Працуй на здароўе!

– А я і працую. Без цябе працаваў.

– Чаго ж ты тады бунтаваў, і тут цяпер бунтуеш? Чаго табе не хапае? Скажы – я дам.

– Не, таго, што мне трэба – ты тое не дасі.

– Чаго – не дам? Чаго ў мяне няма? Таго не можа быць, каб я нечага не меў.

“Во, урэшце “грашы, грашы,  але не кайся”. Зусім не добрымі намерамі вымашчаная галоўная дарога, а пакаяннем. Запомні тое, Антон…”

“Запомню, дзякую, мой Голас…”

Анатас дзівіўся з маёй упартасці, але не злаваў, цярпліва дапытваўся пра тое, што я хацеў бы мець галоўнае ў сваім жыцці...

– Хіба я не магу табе даць тое, што ты жадаеш?

– У творчага чалавека алергія на падачкі.

–  Паче гордости?

– Не ведаю, можа, і паче…

Мне прыходзілася хлусіць, хітраваць, выкручвацца і выварочвацца, каб ён не ўведаў маіх патаемных думак: “Так, я вольны, але ці вольная мая душа? Яна ў ланцугах, я падобны  на стрыножанага, ды зацуглянага яшчэ, каня. Спутанага Пегаса…”

– Я толькі адно табе скажу, як было сказана ў Пасланні – устань і ідзі. І пасля гэтага я не буду трымаць цябе тут. Толькі скончы працу, і першае тваё слова  для мяне будзе законам.

Мне зручна  маўчаць, не выказваць сваіх патаемных думак, тлуміць розум паўсядзённым. Адчуў сябе разбітым, прыгнечаным фактамі  і довадамі капітана карабля.

– Калі ў нас з табой, Анатас, наступны сеанс?

– Сёння. Пасля таго, як  ты паснедаеш... Цяпер раніца... Для цябе дзевяць гадзінаў. Аўторак...  Яніна  чакае цябе са сняданкам. Я ж чакаю цябе ў майстэрні.  Як такі расклад?

– Падыходзіць,  мой капітан! Падыходзіць! Даруй за мае выбрыкі. Я ж адзін тут – ні жонкі, ні каханкі...

– Хочаш сюды жонку ці каханку паклічу? – ухапіўся Ной за апошнія словы.

– Не, не, я проста пажартаваў... У гэтай справе жанчыны толькі перашкодзяць, будуць замінаць...  Не, мой капітан, не...

Нэма крутануў галавой, хмыкнуў:

– І жонка яму не трэба, і палюбоўніцы не хоча, ад Яніны адварочваецца... Ці не ў манахі ты запісаўся?

Анатас расплыўся ва ўсмешцы:

– Чаму ты Яніну ігнаруеш, не магу зразумець… Я ж бачу, што табе яна даспадобы, як і ты ёй. Дык чаму ж не адказваеш

узаемнасцю? На нашым караблі так сябе не паводзяць, дарагі мой мастак... Для жанчыны гэта абраза. Чаму аббягаеш яе?

Ён заспеў мяне знянацку, адчуў, як загарэліся ў мяне шчокі. Выпадкова спытаў пра яе, ці з нейкім прыцэлам? Каб праверыць мяне? Нас? Пераканацца ў нечым? У нашай духоўнай сувязі?

– Не ведаю...

– Усё ты ведаеш... Яна ж дзеля цябе гатовая ўсім ахвяраваць, а ты... Але то не мой клопат...

Мне прыйшлося толькі паціснуць плячыма.

– Праз гадзіну я ў майстэрні.

... Пагаліўся, памыўся, спаласнуўся пад душам. І бадзёрым, абноўленым чалавекам з'явіўся перад усмешлівым і пяшчотным поглядам спадарыні Яніны.

– Смачна есці, спадар Антон Клімовіч!

– Дзякую, Яніна Альшанская!

Яна сумелася, паглядзела здзіўлена на мяне:

– А адкуль табе вядома маё прозвішча?

– А я яго і не ведаў, – смяюся я, – проста ўгадаў. Я люблю ўгадваць прозвішчы.

– Ты – фокуснік?

– Угадала. Мяне толькі што папракнуў капітан, што я да цябе холадна адношуся, – паглядзеў ёй у вочы. – Кажа, што я табе падабаюся і што ігнарую цябе, аббягаю...

– Так і сказаў? – засмяялася яна, не адводзячы позірк.

– Слова ў слова.

– Можа ён у сваты набіваецца? – вясёла пракazала Яніна, наліваючы мне мінералку ў фужэр, на нагу тым часам наступіла... – Ён тут каго хочаш ажэніць і выдасць замуж, і пасаг выдзеліць каралеўскі... Тут вяселлі часта бываюць, і дзеці нараджаюцца...

– Як і на зямлі?

– Ты ж бачыш, што тут нашмат цікавей, чым на зямлі, – ухіліўшыся ад канкрэтнага адказу, прамовіла афіцыянтка іншае, што даспадобы вуху Анатаса.

– Бачу. Пераканаўся.

Мною апанаваў дураслівы і вясёлы настрой. Згаладала ўмінаў бульбу з грыбамі, верачы, што грыбы збіраліся не ў чарнобыльскай зоне, запіваў кефірам. Да пляшкі каньяку, якая стаяла на стале, не дакрануўся.

11

Нэма, як і абяцаў, знаходзіўся на месцы – сядзеў у крэсле, як дысцыплінаваны пазіроўшчык, якому заплацілі за гэта грошы. Трымаў у руках  кнігу, гартаў. Настроены, бачна па ўсім, лагодна і добразычліва.

– Сёння доўга будзем працаваць? – спытаў у яго.

– У майстэрні ты камандзір, тут ты кіруеш мною.

– Але ўсё ж пажадана было б пэўнасці.

– Пэўнасць, як спадзяюся, ты зразумеў, тут умоўная. Хвіліна, суткі, двое… А хоць і тыдзень. У мастакоў, творчых людзей, усё ўмоўна. Час не мае значэння. Толькі вынік, імгненне, пакуль гарыць агонь. Пякельны агонь сапраўднага жыцця. Згарання да тла.

У мяне нешта заныла ў грудзях. Як  быццам хто вырваў душу, апустошыў мяне – і я ператварыўся ў паслухмянага робата... У зомбі…

Ной  замоўк, як усё роўна збіраўся з думкамі. Уздыхнуў,  як выпхнуў з сябе унутраны цяжар; паглядзеў на вокны, за якімі паранейшаму стаяла шэрань, агледзеў уважліва пакой майстэрні, нібыта знаходзіўся тут упершыню...

Пэндзаль ужо ўпэўнена скакаў па палатне, вадзіў маю руку.

– Чаму не пытаеш, Антон, куды мяне чэрці насілі? Хіба не цікава табе пра тое даведацца?

– Цікава, але чакаю, калі сам скажаш. Меней ведаеш – лепей спіш.

Анатас  зарагатаў:

– Мудра кажаш! Хвалю! А я ў гэты час знаходзіўся ў Іерусаліме. Звяраў тэксты Свяшчэннага Пісання з усімі мовамі свету.

“І ён быў там, у Іерусаліме? Можа, гэта  яго і бачыў побач з Ньютанам? А перад гэтым пракрадаўся Шляхам Пакут Хрыста...”

– З усімі мовамі? – удакладніў, не адрываючыся ад мальберта.

– З усімі, на якія перакладзена Біблія.

– І ты разумееш усе мовы?

– Усе да адной.

– Хм... цікава. Ты – суперпаліглот?

– Ага...

– І што ж дало табе тое супастаўленне?

Пазіроўшчык адказаў не адразу – сваёй манеры разважлівай і грунтоўнай:

– Перапанаўся, і ў які раз, што Біблія – гэта не вера ў Бога, а веды на падмурку веры. Калі ж дакладней – на базе ісціны. Сусветнай ісціны. А Сусвет сёння яшчэ не гатовы для раскрыцця яе. А Сусветаў жа – процьма, мільёны розных формаў жыцця. А людзі зямлі – гэта як бы камячок жывой матэрыі, якая яшчэ не ачышчана духоўным агнём... Калі я сказаў бы табе, Антон, што равін Іісус з Назарэта памёр толькі для таго, каб даказаць, што не існуе смерці, то твой варварскі розум аказаўся б пахіснуты – бо ты, выбачай за шчырасць, яшчэ невук. Пакуль што. Ты – і паўчалавек, і – паўзвер, і пазбягаеш быць адным цэлым…

– Дзякую, мой капітан, за высокую думку пра мяне, – адарваўся я ад працы і паглядзеў на яго. – І што з гэтага, скажы мне, вынікае?

Кароткае маўчанне, глыбокі ўздых.

– А тое, што Біблію сёння можна прачытаць толькі праз прызму сучасных ведаў і навукі. Праз усе галіны разумовай дзейнасці чалавека разумнага, якія расчынілі перад ім дзверы трэцяга тысячагоддзя. Але парадокс заключаецца яшчэ і ў тым, што тэксты здольны правільна прачытаць і расшыфроўваць не дарослы, не ўмудроны вопытам чалавек, а дзіцё...

– Дзіцё? Як гэта разумець, мой капітан? Жарт?

– Блізка каля гэтага... Біблія – гэта гумар і забаўляльная праграма. Накшталт “Поля цудаў” ці “Як стаць мільянерам”. Пытанне – адказ. Пытанне – адказ. Дарослыя хмураць бровы, перабіраюць варыянты, перажываюць, хвалююцца, каб не прайграць... А дзеці доўга не думаюць, не баяцца памылак.

– Ну, дапусцім, што так...

– Таму я, пачынаючы раскадзіроўку тэкстаў, ператвараюся ў дзіця. Гуляю з Евангеллем, якое маецца ў арсенале і Старога Запавету. Новы ж Запавет я разглядваю і ўспрымаю толькі як тлумачальную запіску да прачытання ўсіх кніг, што ўвайшлі ў Збор – Біблію…

– І толькі?

– І толькі. Паслухай. *“Іісус, паклікаўшы дзіця, паставіў яго пасярод іх і сказаў: праўду кажу вам, калі не ператворыцеся і не будзеце, як дзеці, не ўвойдзеце ў Царства Нябеснае; і ад гэтага, хто ім зробіцца, той і большы ў Царстве Нябесным; і хто прыме адно такое дзіця ў імя Маё, той Мяне прымае. А хто спакусіць аднаго з малых гэтых, хто верыць у Мяне,*

*таму лепш было б, каб яму павесілі мельнічны жоран на шыю і ўтапілі яго ў глыбіні марской".* Гэта ад Мацвея, у васямнаццатым вершы. І яшчэ адтуль жа: "*Але Ісус сказаў: пусціце дзяцей і не перашкаджайце ім прыходзіць да мяне, таму што яны – Царства Нябеснае. І, усклаўшы на іх рукі, пайшоў адтуль".*

– Ты хочаш сказаць, што "устами младенца глаголет истина"?

– Так. Бо і далей сказана: *"Бачачы ўсе гэтыя цуды, якія Ён зрабіў, і дзяцей, што ўскліквалі ў храме і гаварылі "Асана сыну Давідаву!", першасвяшчэннікі і кніжнікі разгневаліся і сказалі яму: "Ці чуеш Ты, што яны кажуць?" Ісус жа адказвае ім: "Так! Хіба ж вы ніколі не чыталі: "з вуснаў немаўлят і грудных дзяцей ты наладзіў усхваленне?" І, пакінуўшы іх, выйшаў прэч з горада ў Віфанію, і правёў там ноч".* Гэта з дваццаць першага верша...

Голас у субяседніка нейкі ціхі, прыглушаны, ён як быццам стараўся зачараваць мяне, ахутаць патаемным туманам свайго перакanання і сваёй, алкепаўскай, веры, апошняй ісціны, без сумненняў і пярэчанняў. І я не пярэчыў яму: маўчыць часцяком і той, хто сумняваецца…

– Калі ж даслоўна разглядаць тэкст, то льга ўбачыць наступнае – спрэчкі свяшчэннікаў, немаўляты, жорнавы мельніцы для тапельца... Але ж для чалавека разумнага гэта неабмежаванае поле думак, а не "поле цудаў". Чаму ў расейскіх казках дракон аб трох галовах? Мы ж можам падумаць і пра трохступенчатую ракету, якая выводзіць карабель на арбіту. Я сцвярджаю, бо пераканаўся ў тым, што ў складальнікаў тэкстаў Пісання нараджалася і засталося між радкоў пачуццё гумару і вясёлага гратэску. Як і прысутнічае быццам бы жорсткасць, жаданне нагнаць на чалавека страх і жахі, але гэта, калі разабрацца, не што іншае, як усяго толькі папярэджанне, калі кажуць малому – "зюзя", каб ён не ўстрыкнуў пальчык у электрадзірачкі... Калі ж не рабіць спасылку на гэта, то немагчыма будзе і зразумець сэнс асноўных вершаў, якія і нясуць зашыфраваную інфармацыю – ужо канкрэтную, аксіёмную для нас… І, каб не было інакш, Бог і папярэджвае ў радках ад Мацвея, у дваццаць другім раздзеле: "*Ісус жа адказаў ім:"Вы памыляецеся, не ведаючы Пісанняў, ні сілы Божай. Я – Бог Аўраама, і Бог Ісака, і Бог Іакава. Я – Бог не мёртвых, але жывых…"*

Працягваў маляваць, слухаў, у большасці згаджаючыся з яго разуменнем тэкстаў Пісання. І не раз прыходзіла да мяне пытанне – хто ж ты, капітан Ной, на самай справе? Вялікі вучоны, даследчык Бібліі, тэолаг, крытык, ці тая істота, якая знайшла патаемны ключ да расшыфроўкі тэкстаў Бібліі? Ці ты самы звычайны бязбожнік, таму не прымаеш Вышняга і Яго запаветы, а прыкрываешся ведамі, як шчытом. Не адмаўляеш на словах існаванне Бога, прызнаеш, што гэта Ён даслаў нам Вучэнне Дабра і Святла – а насамрэч у цябе далёкія-далёкія планы, пра якія я яшчэ не здагадваюся...

Ужо выпісаў падбароддзе, рот, а вось нос і вочы ніяк не паддаваліся мне. Накладваў на палатно фарбу, зноў яе сашкрабаў. Пачынаў спачатку, але нешта перашкаджала і замінала, – як нябачны шлагбаўм нехта паставіў перада мною... Злаваў ад бездапаможнасці.

– Мой капітан, выбачай за надакучлівасць: а навошта табе ўсё гэта трэба? Жаданне славы? Лаўры першаадкрывальніка? Ці тут што іншае, чаго я ніяк не магу зразумець сваім, як ты кажаш, варварскім розумам?

Нэма ўцягнуў у сябе паветра, пакрысе выдыхнуў яго.

– Я ж табе тлумачыў, што не толькі я адзін працую над Бібліяй. Нас шмат. І мы хочам напісаць нешта накшталт Антыбібліі, не раскрытыкаваць яе, звёўшы ўсё да звычайных міфаў ці казак, а зрабіць пераклад яе на адзіную, зразумелай для ўсіх, мову – мову сучаснай навукі. І гэтую, расшыфраваную кнігу, здольныя будуць прачытаць усе... Перакананы – прыйшла пара на свае вочы ўбачыць кожнаму тую тэлеграму ад Вышняга, адумацца, стаць іншымі, каб прадоўжыць жыццё не толькі сабе, а і планеце Зямля... Зло не заўсёды ёсць зло, і Грэх не заўсёды ёсць грэх. Праз грэх трэба ісці да ачышчэння, праз жорсткасць, прагу авалодаць сусветам... Я таксама хачу адцягнуць надалей канец свету, як і людзі. Але чалавек патанае ў граху і прыбліжае яго, а мая задача перанесці тыя тэрміны на мільён гадоў...

– І такое магчыма?

– Цвёрда перакананы: магчыма. Адно толькі хіба непакоіць – каб не было задужа позна. Каб не здарылася ўсё адначасова – і адкрыццё ісціны, раскрыццё сэнсу папярэджання, і жах таго няшчасця, якое можа абрынуцца на галовы – грэшнікаў і праведнікаў, дурных і разумных...

– Ты маеш на ўвазе канец свету, пра які папярэджвае Пісанне?

– І гэта таксама. Да нашага перыяду было ўжо не меней чатырох канцоў свету. Гэта калі на планету абрыньваўся метэарытны дождж, калі гінула ў геене вогненнай усё жывое... І такое працягвалася амаль рэгулярна – праз некалькі мільярдаў гадоў... Я назіраў за гэтым, я непасрэдны сведка. І не хачу зноў бачыць тое.

– Цывілізацыі гінулі, а потым зноў нараджаліся? – не звярнуў я ўвагі на яго апошнія словы. – І Ньютан табе расказаў пра тое.

– Адкуль ведаеш, маэстра?

У яго нядобра неяк загарэліся вочы.

– Бо і я там знаходзіўся і чытаў яго даследванні. І цябе бачыў, як ты ішоў следам за мною...

– То ж я і адаслаў цябе туды. Каб ты ведаў, што канец свету не так ужо і далёка. Але я магу яго перанесці на больш позні тэрмін.

– Цывілізацыі дасягнулі найвышэйшага росквіту ў навуцы і духоўнасці. І ведалі, што іх спасцігне канец. Апакаліпсіс. І яны папярэджвалі наступных, як можна пазбегнуць іх памылак... Ну, няхай не памылак, бо іх розум бездакорны, а той наканаванасці, якую прыгатавалі яны для сваіх наступнікаў, – гэтага ўжо яны пазбегнуць не маглі... Мусіць жа, яны не здольныя змяніць арбіту руху зямлі, каб ухіліцца і пазбегнуць метэарытнага камняпаду...

Зноў маўчым. Пэндзаль ужо не топчацца на месцы, а спакваля праторвае дарогу да галоўнага мазка...

– Анатас, а як ты растлумачыш тое, чаму ў Ісуса было дванаццаць апосталаў? Не адзінаццаць, не трынаццаць ці пятнаццаць?

– Ты не ведаеш? Ці ведаеш, ды мяне праверыць хочаш? Ісус задоўга да ўсіх падзей спазнаў, хто няверуючы, і хто здрадзіць яму. І таму сказаў: “*Для таго і казаў Я вам, што ніхто не можа прыйсці да мяне, калі на тое не будзе дазвол яму ад Айца Майго... Але прыдзе час, і ён наступіў ужо, калі шчырыя прыхільнікі будуць пакланяцца Айцу Майму ў духу і ісціне, таму што такіх прыхільнікаў Айцец шукае Сабе. Бог – ёсць дух, і тыя, хто пакланяецца Яму, павінны пакланяцца ў духу і ісціне...” З таго часу многія* з *вучняў Яго адышлі ад Яго і ўжо не хадзілі з ім... Тады Ісус сказаў дванаццаці: “Ці не хочаце і вы адысці?”* Лічба дванаццаць. Накладзем сэнс сказанага на “функцыі 12 пар чэрапна-мазгавых нерваў”.

– І што атрымаецца?

– Атрымліваецца наступнае. Працаваць з тэкстамі Пісання нельга з халоднай галавой і цвярозым розумам.

– А што – лепш п'яным? – я як бы пасміхаўся з яго, ведаючы, што злавацца ён не будзе – сам жа выклікаў мяне на дыскусію. – Ці...

– Каб увайсці ў вобраз, каб падключыцца да патрэбнай частаты – герцаў, кілагерцаў, – неабходна самому знаходзіцца ў стане калі не шаленства, то ў непрытомнасці, на мяжы жывога і нежывога. Тэксты Пісання заключаныя ў «перасоленыя», усёабдымныя фармулёўкі, якія развіваюць ад установак і лагічнае мысленне. Гэтым займаецца левае паўшар'е. І аб'ёмнае ўяўленне. За гэта адказвае правае паўшар'е. Гэта гармонія, што ўласціва прасторы і часу... Вось гэтыя дванаццаць і праігрываюць гульнёвую сітуацыю для абодвух паўшар'яў галаўнога мозгу. І мая гульня ўяўлення, з падказкай розуму, плюс яшчэ нейкія невядомыя і вядомыя мне сілы, і навучылі мяне чытаць даслоўна – даслоўна! – тэксты Бібліі. *І напачатку было Слова і Слова было Бог.* Значыць, не літара, а слова... А слова – гэта сімвал. Гэта – формула. Гэта – нота. Гэта – указанне, код, шыфр...

Пачутае гучала як праўда.Алкепаў не толькі спакушаў мяне, а і ператвараў, падпарадкоўваў сабе. Рызыкоўным і гібельным было маё будучае...

..............................................

Рука стамілася, і незразумелы цяжар лёг мне на плечы. Да ног як нехта прывязаў каменне.

– Ты ж са мной згодзен, спадар мастак?

– У асноўным. Адно хіба – дэталі... Але то, можа, і неістотна.

– Істотна тое, што фанаты бачаць больш, чым астатнія. У іх бачанне з вышэйшых формаў дзейнасці. Але тут галоўнае не пераступіць парог, не перайсці мяжу. Балансіроўка паміж жыццём і смерцю, паміж розумам і ...

– Шызам? – удакладніў я, нарываючыся на невядома што.

– Во-во... Я некалькі разоў быў у коме, вяртаўся з таго свету, але вызначыў усё ж той парог ці мяжу, за якія нельга ступаць. Паміж тым светам і гэтым – зразумеў: пераступіўшы, знойдзеш смерць. Прыкладам фанатычнай адданасці навуцы можа служыць Дзмітры Мендзелееў. Яго стан, калі, так бы мовіць, "дах паехаў", яго прага адкрыцця базіравалася на ведах у галінах фізікі, хіміі, матэматыкі – і гэтак далей, – прывялі да адкрыцця перыядычнага закона, які існа-

ваў даўным-даўно. Але не ўсе, – асабліва падкрэсліваю, – не ўсе валодаюць такім уменнем працы ў інфармацыйных палях – з дванаццацю галоўнымі памочнікамі, – і застаюцца пры сваім розуме. Колькі ўжо разумных і геніяльных падыходзілі да гэтага рубікона, і былі на правільным шляху, ды не разлічылі свае сілы, забыліся пра свае "дванаццаць апосталаў", пільнасць і перасцярогу, і... вар'яцелі.

– Як і папярэджваў Ісус, што нашле на такіх пошасці.

– У яблычка! Бачу, і ты цяпер смелы, бо ведаеш пра кожны крок свой, пра памер затрачанай энергіі, колькі крокаў засталося да таго рубікону?

– Сапраўды так – смелы. І – самаўпэўнены.

– Добра быць самаўпэўненым. Але дзякуючы каму ты стаў смелы?

– Табе ж, безумоўна.

– Дзякую, што ацаніў мяне. Падабаецца табе знаходзіцца ў такім стане?

– Падабаецца. Але... нецікава.

– Гэта ж чаму, дазволь спытаць?

– А таму, што ўсё даецца лёгка. А дзе ж пакуты творчасці? Дзёрзкасць фантазіі?

– А мне даспадобы. Бо для мяне не існуе сёння аніякіх тайнаў. Не ведаю, што такое пра нешта не ведаць. Знік страх, бо мне падуладна ўсё-ўсё...

– Усё-ўсё? "Няма нічога тайнага, каб не стала вядомым?"

– Во-во... Так, майстра, так...

Анатас спадылба зірнуў на мяне:

– І ты гэтаму можаш навучыцца… Станеш усёмагутным.

– Богам?

– Навошта – Богам? Ты ж ведаеш, што Бог адзіны, – мы з Ім існуем, як шалі – хто каго пераважыць. І таму я веру не ў Яго, а веру ў сябе. Бо роўны з ім толькі Ён, Ісус, прыдуманы, а я – сапраўдны. І ты можаш стаць упоруч з намі.

– Добра, я падумаю...

– І маё ўладарства будзе доўжыцца 1260 дзён. Тры з паловай гады…

– А што пасля гэтага? Што?

– Хрэнаў сто! – усклікнуў заказчык і стаіўся. Не захацеў адказаць шчыра, не захацеў...

“Во куды заносіць яго, на Каго замахваецца…”

Ён, мусіць, стаміўся ад размовы, распачатай ім жа, бо замоўк надоўга, Схіліў на грудзі галаву, і брыль засланіў яго твар, схаваў стому, пакору...

“А можа, такім яго стварыць? – прыйшла нечакана да мяне думка. – Вось іменна такім – ні дэманам і не чалавекам, ні зверам і ні птушкай... А можа ён і ёсць у чатырох тварах, як вечка каўчэга – з чатырма галовамі?”

Маўчаў хвіліну і дзве і тры... Як усё роўна заснуў. Прыйшлося чакаць, калі сам схамянецца, – працягваў вадзіць пэндзлем па палатне. А Ноя як і не было побач. Падумалася: адляцеў. Мусіць, мы стаміліся абодва. Ён ад стараннасці ўразіць мяне сваімі ведамі пра Біблію,– ці не галоўная афёра свайго жыцця, – а я ад той увагі да кожнага яго слова...

– Калі ты паверыў ва ўсё тое, што я паведаміў табе, – не падымаючы галавы, глуха пачаў Ной, і голас у яго сапраўды быў стомлены, млявы, – то магу адкрыць перад табою і самае сваё найвялікшае адкрыццё... Нікому ў свеце нават не заікаўся, а табе скажу…

У голасе нечакана гучаў боль і крыўда на нешта ці на кагосьці.

– Чаму менавіта мне, мой капітан? – у мяне чамусьці ўсё пахаладзела ўсярэдзіне, быццам у прыступе гарачкі адкусіў лядзяш і праглынуў яго. – Чым заваяваў такі гонар?

– Анічым. Проста ты, сам таго не заўважаючы, малюючы мяне, стаў мною... Наблізіўся да парога сваёй мяжы, стаў як брат мне.

Мяне ахапіла напачатку здзіўленне, а потым сполах, страх. Куды мне з ім братацца, баяўся пераступіць парог у невядомае.

– Ты ж таксама шыфруеш свет і сусвет, кадзіруеш яго, – працягваў капітан Нэма. – І, гледзячы на твае тварэнні, кожны бачыць сваё, думаючы, што ты выкрыў іх сутнасць. Але гэта адначасова іх і не іх. Гэта глыбінна тваё… Вось ты зрабіў мой партрэт. І кожны, хто ўбачыць яго, скажа, што гэта я і не я... Бо гэта мы абодва ў ім. Пабратаныя.

– Што праўда, то праўда, – горка ўсміхнуўся я, адыходзячы ад партрэта, крытычным позіркам ацэньваючы зробленае. – Сённяшні дзень у нашай працы як бы пераломны, сапраўды парогавы… Толькі вось адно хіба…

– Што не так? – пацікавіўся Анатас, гледзячы на мяне.

Я падышоў да яго. Пільна пачаў углядацца ў твар.

Патлумачыў, быццам апраўдваючыся:

– Вочы, мой капітан, вочы нейкія патаемныя і дзіўныя ў цябе. Няўлоўныя, незразумелыя.

Ён усміхаўся, дазваляў аглядаць сябе, адначасова ўглядаўся і ў мяне. Нашыя позіркі сышліся, мы глядзелі нібыта ў люстэрка, у чужых зрэнках бачылі сябе. Адзначыў: вочы ў Анатаса розныя па колеры. Адно, левае, – светла-карычневае, звычайнае, а другое, правае, – як перламутравы гузічак, з чорнай, маленечкай, кропачкай у цэнтры. "Гузічак", мне падалося, круціўся, не вельмі хутка, але круціўся: супраць ходу гадзіннікавай стрэлкі.

– Вочы, як вочы... Цябе бачу, усіх бачу, свет бачу...

– Ведаю... Але мне якія маляваць? Калі зблізку глядзець, то яны выглядаюць аднолькавымі, калі за некалькі крокаў, як ад мальберта, то яны падаюцца іншымі – рознымі... А калі адысці далёка? Якія ж яны на самай справе?

Пазіроўшчык зарагатаў, адкінуўшы галаву, і на шыі яго заскакаў востры кадык.

– А ты сумленна адрабляеш свой ганарар, скажу табе.

– Мне інакш нельга.

Не спыняў углядванне да тае пары, пакуль не зафіксаваў усё, што хацеў. Ляпнуў сябе па каленях, абвясціў:

– Усё! Вывучэнне твайго твару скончылася. Цяпер я ведаю, як трэба завяршыць працу – твой партрэт, як ты кажаш, абраз.

Ной заківаў галавой, згаджаючыся:

– Гэта добра, калі ведаеш. Але, паслухай, дружа, мо на сёння дастаткова? Мы ж абодва стаміліся, здаецца... Хаця я даў слова, што будзем сёння працаваць да знямогі, мы абодва ўжо вычарпаліся, знемагліся...

Прызнацца, рабіць перапынак мне дужа не хацелася, бо ведаў, што заўтра твар яго і вочы будуць зноў інакшымі, – і ўсё прыдзецца перарабляць нанова. І тое магло працягвацца бясконца. Але я не запрацівіўся яго жаданню, пагадзіўся:

– Што ж, дастаткова, дык дастаткова! Будзем адпачываць! Сеанс сёння сапраўды адбыўся доўгі і напружаны.

Ён падняўся з седайла, пацягнуўся, сашчапіўшы рукі, падняў іх угору, крактануў:

– А нялёгкая, аказваецца, гэта задача – пазіраваць. Разумею цяпер натуршчыц, якія сядзяць гадзінамі перад вамі, мастакамі. Ды яшчэ калі негаваркі мастак пападзецца... З глузду з'ехаць мож-

на... А так мы з табой сумяшчаем і працу, і гутарку-дыспут... Цікава, а колькі ў цябе было натуршчыц? Мусіць жа, усе гожанькія-прыгожанькія? Не з адной, думаю, пераспаў?

Але, ўбачыўшы выраз майго твару, замахаў рукамі, пачаў прасіць прабачэння.

“Ці не Жану ён меў на ўвазе? – кальнула думка. – Садамазахіст”.

12

– Слухай, браце Антон, прапанова ёсць, – пасля перакусу і чарачкі каньяку звярнуўся да мяне капітан – быў, відаць, у гуморы. – Ты служыў у войску?

– А як жа. Двойчы. Салдатам – у Нямеччыне, у ГСВГ. У Ордруфе – паміж Дрэзденам і Лейпцыгам. А афіцэрам, начальнікам клуба, без клуба, у Полацку... Па прымусе. Мазырскі ваенкам Бескаравайны вырваў мяне нават з райкама партыі (а мо той райкам сам і загадаў ваенкаму, каб мяне адправілі далей ад іх), – падалося яму, што я яго жонцы перашкодзіў атрымаць нейкую грамату ад яе бальнічнага начальства... А я нават не ведаў пра яе існаванне.

– Зразумеў. Тады адкажы на такое пытанне. Калі салдат добра служыць, якое ён атрымлівае заахвочванне ад камандзіра?

Доўга не думаючы, адказваю, нават не ведаючы, куды ён хіліць размову:

– Кароткатэрміновы водпуск! Праўда, за час службы, за тры гады, мне так і не ўдалося пакарыстацца такім правам.

– Чаму, браце Антон? Сам не хацеў, ці...

– ... ці... ленаваўся служыць. Не быў выдатнікам баявой і палітычнай падрыхтоўкі. Не жадаў ім быць. Страляў і бегаў добра, а вось пра паслядоўнікаў Леніна-Сталіна няскладна гаварыў. Няправільна, так бы мовіць, разумеў палітыку роднай партыі і ўрада.

– А, вось яно што... Разумею. Але ж гэта харошыя людзі. Ты можаш з імі сустрэцца тут.

– З імі? Тут?!

– А чаму б і не? Тут і Брэжнеў, і Сталін, і Ленін, Троцкі і Берыя, Гітлер і цар Ірад... Усё яшчэ здзіўляешся? Не Антон, а Фама Няверуючы... Так, і яны тут, і шмат іншых. І гены ад іх узятыя, і ў школе клонаў іх паслядоўнікі... Зноў запусцім на зямлю, так сказаць, ад-

правім у масы... Нам без іх ніяк нельга. Гэта ж касцяк нашай ідэалогіі. Касцянізацыя чалавечых душаў.

– Касцянізацыя – што гэта?

– А ў мяне ідэолаг ёсць такі – Касцян, ён кіруе працэсам.

“Гузічак” у Ноя закруціўся хутка-хутка, і ён прыкрыў яго чорным брывом, як схаваў усё роўна, потым заўсміхаўся, быццам абдумваў наступныя словы, што збіраўся сказаць мне...

– Чуй сюды, хлопча... А мы тое можам паправіць.

– Што – паправіць? – перапытаў, не падазраючы нічога – ні кепскага, ні добрага.

– Адпачынак твой, водпуск. Ты ж, можна сказаць, у мяне на службе, так? І не лянуешся, працуеш выдатна, не шкадуючы рук і галавы. І – ног. І сэрца сваё аддаў мне, і душу прадаў. Дык я, як камандзір, твой Бог і вайсковы начальнік, проста вымушаны аб’явіць табе кароткатэрміновы адпачынак.

– Як гэта? – у мяне соладка зашчымела ў грудзях, мройная млявасць падступіла да “дванаццаці”.

– А так гэта, Антон... Ты хочаш пабыць, хаця б паўсутак, там, дома, у сваёй Навабеліцы? У рэальным тваім, зямным, свеце? Каб параўнаць плюсы і мінусы таго і гэтага жыцця?

– А ці магчыма тое, мой капітан? – затоена, з прыдыхам спытаў я, паспеўшы падумаць, што, мусіць, здзекуецца ён з мяне. – Жартуеш, так?

– Не, на поўным сур’ёзе, – адказаў Анатас. – З сябрамі, ці, дакладней, з братам, так не жартуюць.

– Калі сур’ёзна, то вельмі хачу пабыць дома. Ты ж сказаў, што ў цябе немагчымага нічога няма...

– Во-во, няма... Добра, што гэта памятаеш... Ладна, адпраўлю цябе на пагулянку... Але толькі з адной маленечкай умовай.

У мяне перахапіла дыханне:

– Якой ўмовай? Каб не напіўся ад радасці?

– Каб ты там не здзіўляўся з таго, што будзеш чуць і бачыць.

– А што я там магу ўбачыць дзіўнага і страшнага? Што там перамянілася? Рэвалюцыя адбылася? Пазьняк уладу захапіў? Ці мы далучыліся да Эміратаў?

– Ні тое, ні другое, ні трэцяе... Нічога... Таму ўсё будзе натуральным, толькі вось ты сам...

– Сам – што?

– На месцы разбярэшся, – не пажадаў тлумачыць мне Ной.

Далей пра што-кольвечы пытацца ў яго баяўся ўжо. А папытацца хацелася хіба пра адно – калі можа тое адбыцца і пры якіх абставінах. Алкепаў, унурыўшыся ў нейкія свае думкі, маўчаў, схіліў зноў галаву на грудзі – як знясілеў усё роўна пасля абвяшчэння мне прыемнай весткі. Мне адно толькі заставалася чакаць, аддаць сябе на міласць майго заказчыка.

– Ты атрымаў ад мяне дзве прапановы. Першая – пабыць у маім самым запаветным сакрэтным пункце. Другая – у якасці заахвочвання аб’явіў табе кароткатэрміновы адпачынак. Так бы мовіць, выправіў памылку камандзіраў савецкай арміі. Табе цяпер даецца права выбару. Што на першым месцы, выбірай сам...

Вытрымаўшы паўзу, як быццам вагаўся, як мага спакойна адказаў:

– Дома найперш пабыць хачу... А сакрэтны пункт – пасля вяртання. Нікуды ён ад мяне не падзенецца. Мне і сапраўды цікава паглядзець на тое, да чаго ты даўмеўся ў сваіх даследаваннях. Геніяльных даследаваннях.

– Дома, дык дома, – пагадзіўся Анатас. Правільны выбар, хвалю… Без дома нам нельга… Дом-хата – гэта ўсё, гэта – прыстань, гавань, абіцель… Я не ведаў, што ты можаш быць яшчэ і падхалімам. Ты ж ім ніколі не быў.

– А тут стаў, – заўсміхаўся я. – Хіба ж нельга пахваліць тваю геніяльнасць? Ты мяне хваліш, а мне цябе нельга?

На маё пытанне адказаў рогатам:

– Тады – што? Рыхтуйся.

– А як рыхтавацца? Што можна браць з сабой?

– Усё, што тваё, што табе належыць. Ганарар, напрыклад. Бяры дарожную сумку. Грузі туды, колькі хочаш, валюту. Занясі дадому. Ці ў банк пакладзі на працэнты. Можаш катэдж на беразе Сожа ці Чорнага мора купіць. Фарбаў набраць самых неабходных.

– А калі... калі я змагу адправіцца?

– Неўзабаве. Я дам табе сігнал. І тое будзе хутка. Вельмі хутка…

13

… Зноў рука памкнулася да паперы. Нехта прымушаў мяне тое рабіць. Я не працівіўся, падпарадкоўваўся ці то покліч, ці то прымусу. Але гэта не прыгнятала мяне. Мне трэба было апынуцца ў бязводнай пустыні, убачыць Марыю…

*“... Стамілася Марыя Магдаліна ад уцехаў і юрлівай асалоды.* Стамілася і расчаравалася. Перастала адчуваць на язык віно і хлеб, соль і цукар... Не магла на смак адрозніць адно ад другога...

– Спыніся, Магдаліна, – Нехта сказаў ёй, – і ў грахах ёсць свая мяжа...

– А як спыніцца? Не ведаю, як тое зрабіць...

– Перастань займацца блудам. Адумайся...

Задумалася Магдаліна над папярэджваннем, спалохалася – ніхто да гэтага так ёй не гаварыў. Нябачны, мусіць, хацеў захаваць яе душу і жыццё. І голас у Нябачнага быў даверлівы, бацькоўскі...

Яшчэ хацела папытацца пра нешта, але адчула, зразумела, што Нябачны адляцеў ад яе, пакінуў. І ёй стала страшна. Невыносна страшна. Уявіла свой заўтрашні дзень, і сэрца апаліла горыч. Успомніла папярэднія – бесклапотныя, ахутаныя шалам і жарсцю, дні – і сэрца апёк сорам...

“Божа! То д’ябал збіў мяне з тропу, усяліў у мяне імкненне да граху... І я наталяла сваю смагу пад любым кустом, на любым лапіку зямлі. І ніколі нікому не адмаўляла – мяне і кідалі ў агонь беспамятства, бо ведалі, што я не адкручуся ад іх... Я ўжо не чалавек, а паслухмяная цацка ў чужых руках. Божа, дай мне сілы спыніцца на маёй дарозе, усялі ў мяне розум. Навучы бяспутных шляхоў Тваіх!..”

Першае, з чаго яна пачала, сказала свайму чарговаму каханку:

– Я не ведаю цябе, чалавеча! Ты, мусіць, памыліўся, ідучы да мяне... Не ў тыя дзверы ты зайшоў, не ў тыя...

Той здзіўлена пaглядаў на яе, падумаў, што сапраўды памыліўся, бо не пазнаваў яе, – стала Марыя Магдаліна раптоўна чужой і непрыступнай. І голас іншы, і пагляд, і рухі, і позірк... Не Магдаліна была перад ім, а нехта іншы, чужы і незнаёмы...

Пазаўчарашняму каханку зусім нічога не адказала на яго заляцанні, злосна зірканула на яго, як пранізала зневажальным позіркам, плячом павяла і, апусціўшы вочы долу, прайшла ціха паўз яго, пакінуўшы яму недаўменне і незразумеласць...

На апошняе месца сустрэчы – пад разгалістай смакоўніцай – яна высыпала з горшчыка попел, набраўшы яго з таго кастрышча, у якім спаліла сваё адзенне, у якім штовечара выходзіла для таго, каб кінуцца ў абдымкі ўцех і жарсці... Высыпала і потым той жа горшчычак разбіла – і ён рассыпаўся на дробненькія аскалёпачкі...

“Ну, усё... – падумала, страсаючы з сябе нябачны груз, – я падышла да таго парога, які пакуль што нельга пераступаць... За ім і пачнецца маё новае жыццё. Але перад гэтым павінна здзейсніць галоўнае, без чаго не магу жыць...”

Яна адправілася ў пустыню – як мага далей ад мора Галілейскага. Не брала з сабой ні ваду, ні віно, ні праснака... Бо ведала, што не адчуе іх смаку, не натоліць смагу і голад, бо яго ў яе і не будзе...

Надарылася ёй быць надоечы ў горадзе Наін. Стомленая, сядзела каля гарадской брамы, прыхінулася да халоднае сцяны... Ёю апанавала нечаканае здранцвенне. Гайдалася перад вачыма блакітнае мроіва, шэры туман... У людзей, што праходзілі міма, былі запаволеныя рухі – быццам яны не хадзілі, а плавалі ў паветры...

Як у сне, паўсталі перад ёю дванаццаць і іх Настаўнік, апрануты ў чырвоны хітон да пятаў. У гэты ж час праз браму на марах выносілі нябожчыка – юнака, адзінага сына ў маці. А перад гэтым у яе памёр муж, і яна засталася ўдавой...

Гора невыноснае абрынулася на жанчыну. Марыі Магдаліне здавалася, што яна чула, як выказвала сваё гора ўдава: “Божа, Божа! За што Ты так караеш мяне? Які грэх я ўчыніла? Ты забраў ад мяне мужа, адабраў і адзінага сына... Навошта ж жыць мне, Божа? Забяры і маё жыццё, хачу быць разам з імі ў Царстве іх...”

За ёю шмат народу ішло з горада – многія ведалі жанчыну, і ўсе praніклiся яе горам. Моўчкі рухалася пахавальная грамада людзей. Нешта сказаўшы сваім вучням, Настаўнік аддзяліўся ад іх. Падышоў да яе, крануўся пляча, вымавіў:

– Не плач, маці сына свайго жывога!

– Хто Ты? Сын мой памёр, а не жывы.

– Я Той, да каго ты звярталася. Толькі Я не выканаю просьбу тваю, а вярну сына табе.

– Навошта ж так здзекавацца з беднай удавы, – вымаўляла жанчына з цяжкасцю словы, не бачачы Таго, Хто стаяў побач з ёю...

Ён больш нічога не сказаў, а падышоў да тых, хто нёс памерлага, дакрануўся рукой да мараў. Убачыўшы тое, насільшчыкі спыніліся. Нахіліўшыся над юнаком, наблізіўшыся да самага твару, шапнуў на паўголаса:

– Хлопча! Ці чуеш ты мяне? Табе кажу – устань!

Нябожчык падняўся і сеў. Здзіўлена агледзеўся, не разумеючы, чаго так багата сабралася народу, загаварыў да Таго, Хто абудзіў яго:

– Ты – хто?

– Я той, хто ўваскрашае людзей. Ідзі да маці сваёй, супакой і абрадуй яе...

Усіх, хто бачыў тое, апанаваў страх. Самыя бліжнія пападалі на калені, баючыся глядзець на Таго, Хто на іх вачах зрабіў цуд. Такога людзі ніколі не бачылі, і не чулі пра такое. Бо тыя, хто паміраў, каго пакідала душа, ужо ніколі не вярталіся да жыцця...

Насільшчыкі апусцілі мары на зямлю.

Юнак лёгка саскочыў з іх, падбег да маці, якая не магла і слова вымавіць, толькі радасна глядзела, не верачы ў цуд, на свайго сына.

Ён абняў, прытуліў да сябе...

Адзін толькі іўдзей, у белай кужэльнай барадзе, далёкі родзіч удавы, які, як і яна, не апусціўся на калені, гледзячы ў неба, прамовіў:

– Вялікі Прарок паўстаў сярод нас, і Бог наведаў народ Свой.

Далёкі і глухі гром пракаціўся за горадам, доўга не аціхаў, перакатваўся з гары на гару...

Марыя Магдаліна не мела сілы ўстаць, і хоць бы падысці на колькі крокаў – яе як хто прывязаў ці закаваў у ланцугі, быццам не дазваляў, каб яна і на адлегласці не набліжалася да Яго.

– Хто ты? – праз плячо спытаў юнак, не адрываючыся ад маці.

Ужо здалёку данёсся Голас:

– Я той, які даруе грахі чалавечыя... Я той, хто дае, пасля пакаяння, жыццё вечнае...

Марыя Магдаліна ў пустыні не адчувала ні спякоты, ні начнога холаду, ні павеву ветру... Збіла ногі, і яны крывянілі, пакідаючы на пяску чырвоныя адмеціны, – але яна і болю не адчувала. Кроў сцякала на камяні і пясок, запякалася на сонцы... У горле перасохла, але і сухасці не адчувала... Яна стала падобнай на здань, на прывід, які не меў ні душы, ні нават цела... Яна не лічыла дні, колькі знаходзілася ў пустыні. Запомніла толькі, што ў першую ноч убачыла ў небе сярод зорак тоненькі сярпочак маладзіка... А пасля яшчэ прайшло некалькі начэй – колькі, не лічыла... А аднойчы падалося, што яе пачалі пакідаць сілы. І ўжо не была нават упэўнена, што здолее дабрысці да горада... Тую адлегласць, якую ў першы дзень яна прайшла за гадзіну, вяртаючыся назад, пераадольвала ад усходу да заходу сонца.

І Нехта зноў, Нябачны, але добра Чутны, гаварыў ёй: “Светач целу ёсць вока. Дык вось, калі вока тваё будзе чыстае, дык і ўсё

цела тваё будзе светлае; а калі яно будзе благое, дык і цела тваё будзе спрэс цёмнае. Дык вось, глядзі святло, якое ў табе, ці не ёсць цемра? А калі цела тваё ўсё светлае і не мае ніводнай цямноцінкі, дык будзе светла ўсё так, як бы калі светач асвятляў цябе ззяннем...”

– Чую, усё чую. Дай, Божа, мне толькі сілы дайсці да Цябе...

Падала і зноў уставала, уставала і зноў падала... Правальвалася ў небыццё, і зноў вярталася да жыцця... Балансавала між жыццём і небыццём. Змучаная і счарнелая, застаўшыся ўжо зусім без сілаў, дабрыла да гарадской брамы і села на тое месца, ля сцяны, дзе сядзела апошні раз – калі адчувала сябе прыкутай тут... На ёй вісела не адзенне, а рэшткі лохмы ад яго... Побач з сабой, на зямлі, убачыла нейкае рыззё і абрадвалася – будзе чым прыкрыць грудзі. Раней яна не саромелася гэтага, а цяпер ёй не хацелася выглядаць перад Ім і перад людзьмі  непрыстойна, хаця ж адчувала, што тое і не так ужо і важна...

Да твару дакрануліся першыя промнікі ранішняга сонца.Па целе разлілася радасць, калі пачула ад людзей, як яны ўзбуджана гаварылі між сабой:

– Сёння Іісус Назаранін будзе на плошчы, ацаляць зноў людзей будзе...

“Туды мне трэба, – падумала Магдаліна, – толькі б дайсці да плошчы... Хаця б апошняй мне падысці да Яго, і хаця б Ён пачуў маё слова...”

Нішто і ніхто ўжо не прыкоўваў яе да сцяны.

Нечакана яна адчула нават і лёгкасць у сваім целе. Ногі наліліся сілай, з вачэй упала паляндра туману. Марыя Магдаліна яскрава бачыла перад сабою дрэвы і хаты, дзяцей, што гулялі, даганяючы адно аднаго; мурашак бачыла, што перапаўзалі сцежку, – як быццам і яны мкнуліся, спяшаліся на сустрэчу з Ім...

Абапіраючыся рукамі на сцяну брамы, выпрасталася, адчула, што ногі трымаюць яе, прайшла дрыготка... Адчула на  твары подых ранішняй прахалоды... Волкае паветра сцялілася па наваколлі...

Марыя Магдаліна адышла ад сцяны, выйшла на вузкую сцежку, а потым і на дарогу. Яна была ўпэўненая, што яе не пазнаюць, што яна ў сваіх рызманах падобная на прышлую знекуль, на прыблуду, прыхадня, не з гэтых нават мясцінаў... Яна не выбірала месца на плошчы, дзе б ёй сесці. Прайшла колькі крокаў і апусцілася на цёплую зямлю. Накінула для большай маскіроўкі на галаву, знойдзе-

ную брудную і ў пылоце дзяружыну, прыкрыла грудзі... Потым, праз нейкі час, убачыла, што і іншыя – калекі і жабракі, – выбраўшы месца, пасядалі на зямлю...

Марыя Магдаліна пачала ўжо дрымаць, сагрэўшыся пад сонцам, і хараша ёй так стала сядзець, усміхацца захацелася.

– А, вось яна, гэта яна – блудніца! – крыкнуў нехта над самым вухам, крыкнуў абрадавана, падхапіў яе пад пашкі. – То ж мы яе заспелі падчас блуду, ды ўцякла яна ад нас, збегла...

– Вось і пакажам Назарэю, што ж Ён на гэты раз скажа нам... Можа, і схопім Яго сёння...

– А дзе Ён цяпер?

– Казалі, што на гару Аліўную пайшоў...

– Хутка ў храм прыйдзе, вучыць зноў будзе.

Праз плошчу, у суправаджэнні сваіх вучняў, накіроўваўся да храма Ісус Назарэй.

Хто падыходзіў ці падпаўзаў да Яго, абавязкова прасілі аб нечым... І Ён кранаўся кожнага рукой... Марыя Магдаліна памкнулася даганяць Яго, але ўчэпістыя рукі кніжнікаў і фарысеяў трымалі яе моцна за локці...

Хацела крыкнуць, паклікаць Ісуса, ды яны даланёй сціснулі ёй рот, зноў закавалі ў нябачныя ланцугі...

Счакалі, пакуль процьма народу збярэцца ў храме, потым пацягнулі яе, як агнца на закланне...Ісус Назарэй сядзеў і гаварыў народу прытчы, і яны разумелі Яго, здзіўляліся з яго вучэння, і на кожнага з іх сыходзіў Дух Божы.

Кніжнікі імкнулі на сярэдзіну храма, адпіхвалі тых, хто сядзеў на падлозе, вялі пад рукі жанчыну. Ісус не глядзеў у іх бок, не перапыняў свае словы, не звяртаў увагі на валтузню, якую ўтварылі кніжнікі, бо ведаў, з чым яны прыйшлі да Яго, каго прывялі...

– Настаўнік! – дачакаўшыся, калі Ён скончыць тлумачэнне прытчы, звярнуўся адзін з іх – ніжэйшы ростам, з белай барадой, з едка-піскливым голасам і злым позіркам. – Настаўнік! Усё, што Ты гаворыш народу, усё правільна, нічога абвергнуць не можам... Але скажы, Назарэй, нам вось пра што... Мы гэтую жанчыну заспелі ў блудзе, і мы сведчым, што яна блудніца і грэшніца. А Майсей у Законе наказваў нам такіх пабіваць камянямі. Ты што на гэта скажаш?

Ісус усміхнуўся, і, не гледзячы на іх, пішучы пальцам па зямлі, спытаў:

– Выпрабоўваеце Мяне, знайсці ў Маіх адказах хочаце нешта супраціўнае Майсею, і такім чынам звінаваціць Мяне?

Яны зноў прыставалі да Яго, яшчэ больш настойліва.

Людзі з цікавасцю назіралі за кніжнікамі і Госпадам. Ведалі, што кніжнікі ні на адну літару не адступалі ад Законаў Майсея, усе Законы ведалі на памяць – хоць днём у іх спытай, хоць ноччу...

Ён, па-ранейшаму не падымаючы галавы, схіліўшыся нізка, крэслячы пальцам па зямлі, сказаў да іх:

– Кажаце, што Майсей заклікаў пабіць камянямі? Добра, згодзен. Тады хто з вас не мае на сабе граху, той хай і кіне першым камень у яе!

Прамовіў, зноў нахіліўся і працягваў пісаць на зямлі. Кніжнікі пераглянуліся. Адпусцілі Марыю Магдаліну, аднялі ад яе рукі. Старэйшы з іх першы пакінуў храм. Потым наступны, адзін за адным, – і застаўся адзін Ісус і Магдаліна, якая стаяла, апусціўшы вінавата галаву. Ісус, схіліўшыся і не бачачы нікога вакол Сябе, акрамя Магдаліны, спытаў у яе:

– Жанчына! А дзе твае абвінаваўцы? Ніхто не асудзіў цябе. Ніводзін камень не паляцеў у твой бок?

– Ніхто не асудзіў мяне, Госпадзе!

– І Я не асуджаю цябе. Ідзі і больш не грашы.

Яна стала на калені:

– Дзякую, Госпадзе Ісусе! З тым і прыйшла...

Тады Ён зірнуў у яе бок, усміхнуўся, прамовіў:

– З верою ты прыйшла да мяне... З верою пойдзеш і далей. Яна выратавала цябе... Памочніцай мне будзеш, – ідзі з Госпадам...

І, ужо больш не зважаючы на жанчыну, прамаўляў адно да людзей:

– Я – святло свету. Хто пойдзе следам за Мною, той не будзе больш блукаць у цемры, а будзе мець святло жыцця...

“Я пайду за Табою, Госпадзе, – прашапталі асмяглыя вусны Магдаліны, – толькі не адпрэч мяне ад Сябе...”

Ніхто не звяртаў на яе ўвагі, не дакараў, не ўшчуваў.

Слухалі Літасцівага. Невядомы падарожнік, накінуўшы на галаву балахон, схіліўшыся, баючыся, каб не ўбачылі яго твару, сядзеў каля парога, нешта пісаў на невялічкім пергаменце. Магдаліна пазнала ў ім таго, хто сустракаўся ёй у пустыні. Але адвяла ад яго позірк, слухала і глядзела на Таго, словы Якога былі чуваць і праз тысячагоддзі…”

14

Доўга хадзіў з кутка ў куток па каюце.

Думкі роем віліся ў галаве. Я не верыў, што Анатас пайшоў на такі рызыкоўны крок – выпусціў мяне са сваёй вязніцы. Чаму не баіцца, што я магу і не вярнуцца? А калі заявіць пра тое ў пракуратуру ці міліцыю?.. Тут жа і высмяяў сябе за гэта: хто ж мне паверыць, што мяне ўкрала нячыстая сіла, яшчэ і ў "псіхушку", чаго добрага, запіхнуць... Калі ж падступіла стома і захацелася спаць, заваліўся ў ложак. Але яшчэ доўга не ішоў да мяне сон...

Прачнуўшыся, пачаў збірацца ў дарогу. Рабіў усё няспешна, стараючыся не паказваць залішне радасці. Расчыніў дзверы свайго пакоя, адчыніў шафу. Узяў дарожную, сярэдніх памераў, сумку фірмы "Adidas", і ўкінуў туды некалькі пачак "зялёніны". Паважыў у руцэ. Потым падумаў і адклаў меней паловы назад – каб не паказацца задужа сквапным. Пасля гэтага сумка падалася мне ў меру важкай і ў меру лёгкай.

За акном плыў ранейшы туман – суцэльны, аднаколерны, як усё роўна глядзеў я ў матавае шкло.

"А можа, мне ўсё ж уцячы, застацца там і не вяртацца? – падпаўзла невядома адкуль нечаканая думка. Але тут жа яе адпрэчыла другая: – Ну і дурань жа ты, аднак, – хіба ж Ной не знойдзе цябе там?"

Сядзеў у задуменні і развагах з гадзіну, а мо і больш, а колькі дакладна, не ведаў...

Неўзабаве парог каюты пераступіў капітан Нэма. Усміхаўся. Меў, значыць, добры настрой. На ім шэры плашч. У руцэ яшчэ адзін такога ж колеру.

– Гэта для цябе, – падаў мне. – Там, у вас, дождж ідзе... Ды і халодны.

– Дзякую за клопат, мой капітан!

– Ну, цяпер гатовы?

– Як салдат перад маршам! – вясёла выгукнуў, нават казырнуў яму.

Во-во зірнуў на маю сумку, выгнуў недаўменна ніжнюю губу:

– А ці не замала ўзяў? Не любіш насіць цяжкае?

Можа, ён і падколваў мяне, не ведаю, але адказаў спакойна і ціха:

– З мяне досыць. А лішняга нават і свіння не есць...

– Во-во... Усё ў меру, казаў Неру. Ну, глядзі...

Мы ішлі па доўгім калідоры. Наблізіліся да шырокіх і высокіх дзвярэй, якія тут жа расчыніліся перад намі. Кабіна ліфта прасторная, сцены з люстраў. Столь і падлога – таксама. Уражанне такое, што ў шасці кірунках былі мы, мы і мы... Куды ні глянь – Анатас і я, я і Анатас...

– Вось па гэтым прынцыпе і пабудавана маё царства, – прамовіў ён, гледзячы ў люстры на мяне. – Бясконцасць усяго – дзвярэй, часу, жыцця...

Міргалі кнопачкі на панелі, на якой ні лічбаў, ні ўказальнікаў. Пяць паверхаў мы падымаліся, дзесяць, а мо і ўсе сто, нельга разабраць. Як і пра час.Маўчаў капітан, маўчаў і я, не выказваючы сваёй узрушанасці. Ён глядзеў у адну нябачную кропку, якая знаходзілася недзе пад нагамі. Ліфт не гудзеў, не ўздрыгваў, але на вушы ціснуў цяжар – быццам знаходзіліся мы ў самалёце...

Нарэшце, ліфт скалануўся і застыў на месцы.Расчыніліся дзверы, і мы выйшлі на пляцоўку прасторнай і светлай залы. Скрозь хадзілі людзі, размаўлялі, смяяліся, на нас не звярталі аніякай увагі.

– Антон, брат мой, – звярнуўся да мяне капітан Нэма, не адыходзячы ад дзвярэй ліфта. – Цяпер запамінай... Глядзі, тут тры ліфты. Наш самы левы, крайні. Як вернешся, калі зойдзеш у яго, то націскай самую ніжнюю кнопачку – ліфт давязе цябе да патрэбнага месца. Запомніў?

– А што тут запамінаць – усё проста.

– Ну, глядзі. Бо калі пераблытаеш, то...

– Не пераблытаю. Левы крайні і – ніжнюю кнопку.

– Далей слухай. Колькі цяпер на тваім гадзінніку?

Глянуўшы на цыферблат, здзівіўся: набліжаўся поўдзень.

– Дванаццаць гадзінаў.

– Дык вось... Да поўначы, да таго часу, як вунь на тым табло, што перад уваходам, выскачыць чатыры нулі, што азначае дваццаць чатыры гадзіны, ты павінен ускочыць у гэты ліфт.

– А калі спазнюся? Ну,球 рознае бывае, абставіны недарэчныя, тралейбус зламаецца... Што тады?

Анатас пацісnуў плячыма:

– Тады ты застанешся тут назаўсёды... І я тады не здольны буду табе памагчы выбавіцца... Захочаш, дык можаш і не вяртацца. Але лепей вяртайся... Для цябе лепей. Ну, ды, зрэшты, глядзі сам – тут я табе не камандзір, за табой сачыць не буду... Пайшлі, правяду цябе да прыпынку.

Мы выйшлі з памяшкання. Я азірнуўся, каб ведаць, куды, да якога будынка трэба вяртацца. Над фасадам вялікімі літарамі абазначыўся надпіс “МэбляАлкепБанк”.

– Яго ж не было ў маім горадзе, мой капітан! – усклікнуў я, не адрываючы позірку ад высотнага сучаснага будынку.

– Правільна, не было. А цяпер ёсць... Яго пабудавалі праз шэсць месяцаў, як ты пакінуў горад... Па еўрапейскай тэхналогіі. Хутка і якасна.

“Усяго за паўгода? – ледзьве зноў не ўскрыкнуў. – А колькі ж тады адсутнічаю? Што падумае пра мяне жонка?!”

Сапраўды, месца знаёмае. Каталіцкі касцёл, які ўзвялі вернікі замест нашых мастацкіх майстэрняў каля сквера, побач – універсітэт імя Францішка Скарыны. А паміж імі ўзвышаўся банк. І быў ён, трэба адзначыць, прыгожы, сучасны, аж зіхацеў пад промнямі сонца, якога я даўно не бачыў і з вялікай асалодай і задавальненнем падставіў яму твар... Паверхаў мо з сорак налічваў будынак.

Прыпынак насупраць філалагічнага факультэта ўніверсітэта. На асфальтавую пляцоўку высыпала купка дзяўчатак-студэнтак. На ганку стаяў мой дружбак – Янка Штэйнер, доктар філалагічных навук. Размаўляў з нашым земляком – Андрэем Федарэнкам. Выцягнуў усё-ткі яго Янка са сталіцы, каб студэнтам пра сябе расказаў. Нас яны не бачылі, хаця мы праходзілі ў некалькіх кроках ад іх.

Мусіць, скончыліся заняткі, і дзяўчаткі спяшаліся раз’ехацца па сваіх маршрутах, весела шчабяталі, расказваючы адна адной пра нешта сваё...

– Здала, Ленка?

– Ой, здала... Я спаднічку кароткую задрала да самай..., а ў яго і вочы на лоб... Паставіў.

Засмяяліся абое.

– Гэта нашы кадры, – кіўнуў у іх бок Нэма, – вось ім і належыць будучае...

Якое будучае, я не ўдакладняў, не тое мяне хвалявала ў той момант.

Падышла “адзінка” – тралейбус. На ім мне льга даехаць да вакзала, а потым перасесці на сваю “пяцёрку”, якая і давязе мяне да патрэбнага прыпынку ў Навабеліцы.

– Ну, што, табе пара?

– Выходзіць, што так.

– Тады – да сустрэчы? – падаў руку.

Падалася яна мне халоднай і цвёрдай, як каменнай, што капыт.

Лёгка ўскочыў у тралейбус, стаў на заднюю пляцоўку, памахаў Анатасу, усміхнуўся. Увабраў наздрынамі новага, сапраўднага і натуральнага паветра, па якім засумаваў, з якім зжыўся за доўгія гады. І гэты пах, перамешаны на бензіне і салярцы, на атрутных дымах з трубаў хімзавода, кабельнага і іншых прадпрыемстваў, што тонамі выкідвалі атрутныя рэчывы на нашыя галовы, на едкіх вятрах, што лізалі мокры брук і запаўзалі ў нашыя лёгкія, – усё гэта мне падалося такім блізкім і такім родным, што ад расчуленасці ледзьве не пусціў слязу... І не захацелася ні з кім гаварыць, – адвярнуўся ад усіх і глядзеў праз дажджавыя падцёкі на шкле на дарогу, па якой, пырскаючы бруднымі калюжынамі ў абодва бакі, імчалі, абганяючы тралейбус, легкавікі – і ў асноўным іншамаркі. Гулка тахкала сэрца, гатовае вырвацца з грудзей, а адна думка тачыла мяне, непакоіла: “Жонка, як там мая жонка?.. Ці не кінулася ў гулі за гэты час, ці не адказала ўзаемнасцю на дамаганні свайго завуча?..” Рэўнасць. Але яна не такая балючая, як раней, а з адценнем сваёй вінаватасці. Папытаўся ў самога сябе: “Дык і ці маю я права раўнаваць да некага, калі сам адправіўся ў сваё незразумелае, і дужа доўгае па часе падарожжа?!?”

Па маіх разліках, жонка павінна знаходзіцца яшчэ ў школе.

Сышоўшы з тралейбуса, пакіраваў да трохпавярховага будынка, што знаходзіўся ў канцы завулка “Школьны”. Насустрач мне, выруліўшы з завулка, праставаў мой калега – мастак Генадзь Ровар. Ён нейкі заклапочаны, унураны ў сябе. А мо і рыфмы шукаў (быў ён яшчэ і рыфмаплётам) па дарозе – у паветры вадзіў рукою. Ці накіды рабіў для будучай карціны, а можа вылічваў, пераводзіў на галаўным кампутары беларускія “зялёныя” ў амерыканскія “драўляныя”. Дзівак Генадзь. Не выбіўшыся ў знакамітыя мастакі, імкнуўся ў пасрэдныя паэты, якія былі бліжэй да графаманаў.

– Здароў быў, Генадзь! – выгукнуў весела, не дайшоўшы да яго крокаў з пяць. – Як жыццё?

Ровар нават і не зірнуў у мой бок. Прасунуўся паўз мяне як паўз пустое месца... Свіння і тая рохкае, калі паўз яе праходзяць, а тут... Так казаў некалі Пушкар пра такіх, якія сунуцца міма і не

вітаюцца. Побач з ім тэпаў і Васіль Ткачоў, аўтар ста дваццаці пяці п’ес, слухаў, пра што баяў яму рыфмач-графамач. І ён не звярнуў на мяне ўвагі – браў прыклад з Ровара.

Ну, Ровар то ладна, у мой бок ніколі прыхільна не глядзеў, а Ткачоў… Можа, пакрыўдзіўся, што я падчас апошняй сустрэчы не наліў яму шкалік? Дык ён жа сам сказаў мне, што “завязаў”…

Ну, ладна, ідзіце, ідзіце, хлопчыкі, сваёй дарогай. Мы яшчэ сустрэнемся, пабачымся, дасць Бог, тады і пагаворым…

У школе акурат пачаўся перапынак. І дзеці, распранутыя ужо, без куртак і палітонаў, гулялі ў двары. Перад уваходам у школу, над дзвярыма, вісеў плакат з надпісам “Сардэчна запрашаем”. А між дзвярэй прыцягваў увагу намаляваны каляндар з вялікімі лічбамі.

Спачатку я анямеў, а потым пакрыўся ўвесь халодным потам.

Розум мой адмаўляўся разумець убачанае. Я ж памятаў, калі, у які дзень, спусціўся да берага Сожа, каб ступіць на палубу “Алкепа”, – у дзень бальшавіцкага перавароту – сёмага лістапада... Бо запомніў, як смешна і анекдатычна глядзеліся дзядулі і бабулі, якія, прычапіўшы да грудзей чырвоныя стужкі, сабраліся на плошчы Сатаны і пратэпалі калонай перад бронзавым істуканам... Нейкі дзядок, на мыліцах, схуднелы ад недаядання і вечнага недаўмення, чаго так з ім абышліся партыйныя і дзяржаўныя правіцелі, паклаў да падножжа кветкі, потым апусціўся на калені – яшчэ і памаліўся дыктатару...

Малюючы каляндар, мастак, мусіць, памыліўся. Мне заблажэла: “А раптам то і не памылка? Я пайшоў на карабель сёмага лістапада 1998 года, а на гэтым календары быў абазначаны... 2001-шы год! Значыць, адсутнічаў ні многа ні мала, амаль тры гады?!? У галаве такое не ўкладвалася. Такога проста не магло быць. Я ж не заўважыў, як пераступіў з аднаго тысячагоддзя ў другое – з дваццатага ў дваццаць першае! Лічыў, што адсутнічаў трошкі больш, як паўгода, ну, няхай дзевяць месяцаў... Мы ж толькі пяць сеансаў з заказчыкам правялі...”

Скончыўся перапынак і зазвінеў званок. Пранізліва, аж вушы закладвала. Першыя, самыя дысцыплінаваныя вучні, рванулі да дзвярэй, ледзьве не збілі мяне з ног, адтапталі чаравікі... Прыйшлося адысці ўбок, стаць каля акна. Не хацелася замінаць хлопчыкам і дзяўчынкам. Школа гудзела, як патрывожаны вулей, а калі больш дакладна, то як патрывожанае кубло дзікіх пчол, – дзеці вішчэлі, крычалі, смяяліся, свісталі...

Падумалася пра жонку: “І як яна вытрымлівае штодня такое? Хопіць аднаго дня ў гэтым гармідары, каб трапіць у дурдом… Недарэмна жонка часта і прыходзіла дадому раздражнёнай, нават злой...” Няўжо для таго, каб зразумець сваю жонку, мне патрабавалася прайсці праз вароты Д’ябла, як быццам скрозь чарнобыльскую атрутную зону? Гэтая думка апякла мяне. А я ж яшчэ і раўнаваў яе немаведама з-за чаго і да каго… Даруй, Божа, грэх мой!

Калі ўсё аціхла, настаўнікі разышліся па сваіх класах. Я ачомаўся, успомніў, дзеля чаго прыйшоў у школу... Падняўся на другі паверх. На шчасце, дзверы 9-га “Б” класа аказаліся расчыненымі. Яшчэ здалёку пачуў голас настаўніцы:

– Сёння мы з вамі, дарагія мае дзевяцікласнікі, вернемся зноў да тэмы, якую праходзілі на пачатку вучэбнага года: “На шляху да бальшавіцкай дыктатуры”. У гэтай тэмы два падраздзелы. Першы – “Абвастрэнне палітычнай сітуацыі. Кастрычніцкі пераварот”. Другі – “Беларускі нацыянальна-вызваленчы рух. Абвяшчэнне БНР”. Такім чынам, мы павінны з вамі...

Мне хацелася, каб убачыла мяне жонка ў расчыненых дзвярах, войкнула ад нечаканасці, ды перад усім класам кінулася мне на шыю – якім я тады шчаслівым чалавекам пачуваўся б! Стаў перад парогам – за тры крокі ад яго, – нябачны вучням з першых партаў. Уваччу адна яна, іх настаўніца, мая жонка. Выцягнуўся ў струнку, як салдат на парадзе, рукі апусціў па баках – па шоўчыку, па-дурному ўсміхаўся: “Ну зірні, павярніся ў мой бок! Павярніся! Ну, няўжо не адчуваеш мяне?!?”

Не адчувала.

– Ліка!.. – пагукаў напаўголаса.

Не пачула.

– Лі-ка! – мовіў трошкі мацней.

Рэакцыя тая ж самая. Але голасу, здаецца, не пачуў ні клас, ні яна сама.Зноў падаў голас. Крыкнуў, здаецца, гучна, як пракукарэкаў. Потым яшчэ раз – на ўсю школу, не асцерагаючыся, што мяне пачуюць іншыя.

– Лі-ка-ааа! Лі-іі-іка-аааа! – крычаў ўжо на ўсю моц сваіх лёгкіх, як у пустыню, – і з тым жа вынікам.

Тады рашыўся на апошняе. Паставіўшы каля дзвярэй сумку, пераступіў парог класа. Падышоў да жонкі, стаў побач. Чакаў, што яна ўсё ж убачыць мяне, усклікне ад радасці.

– Ліка!?! – ужо з усяе сілы крыкнуў ёй на вуха. – Лі-ка-ааа!

Ніякай рэакцыі з яе боку. Ніякай рэакцыі і ад класа...

Чаму, чаму мяне ніхто не чуе? Чаму? Чаму?

Дакрануўся да рукі жонкі, але не адчуў дотыку. Не адчуў яе цела. Толькі яна на момант перапыніла свой аповед, як бы здзіўлена зірнула ў мой бок, на мяне, праз мяне, – і зноў працягвала тлумачэнне...

Мне боязна самому сабе прызнацца ў тым, што я зразумеў.

Мяне ніхто не чуе і не бачыць? Чаму так адбываецца? Які такі злы жарт сатварыў нада мною Анатас? Пакараў мяне ці, наадварот, даў магчымасць пабыць нябачным? Але ці не марыў аб гэтым некалі я сам: пабыць нябачным ды пахадзіць-пасядзець побач з сябрамі, паслухаць, што яны кажуць пра мяне; паглядзець-паназіраць, чым займаецца жонка, калі мяне няма... Дык жа радуйся, мары збыліся... Чаму ж не рады, га? Збыліся, здзейсніліся мары ідыёта!

Прайшоўся між партамі, пасядзеў за апошняй, пустой.

А настаўніца працягвала весці ўрок…

“Ну і сітуацыя, – разважаў я, – як мне ўспрымаць тое, што адбываецца са мною?..”

Пытанне напаўзала на пытанне, і ні на адно не мог нічога пэўнага адказаць. Але падсвядомае пачуццё падказвала мне, каб усё ўспрыняў спакойна, з гумарам. Не слухаў, што казала жонка, – глядзеў за акно, дзе ўжо буяў травень, квітнелі сады, пеніліся грушы і вішні, пялёсткавы пах далятаў у расчыненую фортку і ў клас, п’яніў галаву, дурманіў. Захацелася ўстаць і падысці да форткі, удыхнуць на поўныя грудзі вясновага паветра, адчуць сябе зямным чалавекам... А хіба ж я незямны? Які я, усё ж такі, чалавек? І ці чалавек я ўрэшце рэшт?

Ну і ўліп... Ну і папаўся ж я! Як паляшуцкі ўюн у сак.

Ды нічога ўжо не паробіш, шаноўны спадар Антон! Нічога не зменіш. Становішча тваё і нельга сказаць каб зусім кепскае, але ж і не з найлепшых...

У класе, правільней, у школе, жыў кот. Звалі яго Цэзар. Шэрай масці, шыкоўныя вусы, зялёныя вочы. Я і ўбачыў яго на падваконніку трэцяга, апошняга акна. Цэзар драмаў, грэўся на сонцы... Чамусьці захацелася пагладзіць яго, дакрануцца да мяккай шорсткі. Калі дакрануўся да спіны Цэзара, той нечакана выгнуўся дугой, зашыпеў зллосна ад нябачнай небяспекі, выпусціў кіпцюры і ўпіўся ў маю руку. На падваконнік закапала кроў.

Вучні павярнуліся да акна.

– Цэзар, што з табой? – спытала Ліка, спрабуючы ўзяць яго на рукі, каб супакоіць. – Хто цябе напалохаў?

А кот, лёгка саспружыніўшы, што было сілы, падскочыў як не пад столь і, распушыўшы рыжы хвост, праляцеў, як вавёрка, міма настаўніцы, адначасова выдаючы такое вірашчанне, што хоць вушы заціскай... Куляй выскачыў у калідор. Нейкі час чулася яго спалоханае мяўканне...

– Яму сабака прысніўся, – выказаў здагадку вучань з першай парты – у акулярах, з пшанічнымі валасамі.

Смяшынка пракацілася па класе і адразу ж зглухла.

– Можа і так, Міхась, – згадзілася Ліка, прыглядаючыся да акна, дзе толькі што сядзеў Цэзар, дзе стаіўся, як злодзей, я, чакаючы і верачы, што ўсё ж жонка ўбачыць мяне, прызнае.

Не ўбачыла, не прызнала...

– Але давайце прадоўжым урок.. На чым мы спыніліся? Бальшавіцкая ўлада рабіла ўсё для таго, каб...

Ліка павяла далей урок, і не-не ды і зіркала на акно. Потым і падышла, стала побач са мною. Быццам нешта адчувала ці мо нават і здагадалася пра нешта, бо хацела рукой намацаць тое, што так напалохала Цэзара, – абаперлася на падваконне, пальцам памацала чырвоныя кроплі.

Я паклаў сваю руку на яе – і нічога не адчуў. Але яна аддзёрнулася – быццам апалілася... У клас забег завуч школы Зміцер Панцеляймонавіч – рухавы, вёрткі, невысокага росту, з пышнай чорнай шавялюрай. З парога жэстам рукі загадаў, каб не ўставалі, падаў сшытак класнай:

– Ліка Сяргееўна, дырэктар падтрымаў вашую ініцыятыву.

– Дзякую, Зміцер Панцеляймонавіч!

Завуч як нечакана ўляцеў у клас, гэтак жа нечакана і знік, пакінуўшы пасля сябе пах цыгарэтнага дыму. Ліка разгарнула сшытак, што прынёс завуч. Сярод старонак ляжала кароценькая запісачка. Я стаяў за яе спінай і лёгка змог прачытаць тэкст:

“Ліка, любая! Ну, чаму ты аббягаеш мяне? Я настойваю на сённяшняй сустрэчы! Яна неабходна для абаіх. Чакаю цябе ў “Залатым пеўніку” – а дзевятнаццатай гадзіне...”

Жонка загарнула сшытак, паклала на стол. На яе твары ніякіх пачуццяў.

– А цяпер запішыце, калі ласка, дамашняе заданне.

Ліка, дыктуючы заданне, падышла зноў да акна і доўга задумліва глядзела ў двор...

– Ліка Сяргееўна, нічога ў вас новага? – пацікавілася ружовашчокая дзяўчынка са светлымі кудзеркамі, якая сядзела на апошняй парце.

– Нічога, дзеці, нічога... – адказала яна сумна, не паварочваючыся да класа. – Пакуль што нічога... Але Бог дасць, усё праясніцца...

“Пра каго яны – пра мяне? Вучні ведаюць пра яе гора, перажываюць за яе, хвалююцца..”

Клас маўчаў, чакаў, калі зазвініць званок, абвяшчаючы перапынак. Каб зноў не папасці ў дзіцячы вір, хуценька выйшаў з класа, не забыўся прыхапіць  сумку, што стаяла каля дзвярэй. Потым спусціўся на першы паверх, прайшоў паўз тэхнічку Кацярыну, якая трымала на руках Цэзара. Ён зноў натапырыў вушы, зашыпеў, гледзячы ў мой бок. Жанчына мацней прыціснула яго да сябе.

Ужо на вуліцы мяне дагнаў голас электрычнага званка...

15

Да дома, у якім знаходзілася мая майстэрня, рукой падаць.

У ёй  нічога не змянілася – усё на сваім месцы. Ясь і Яніна  пра нешта спакойна размаўлялі, гледзячы адно на аднаго. Я выгрузіў палову грошай з сумкі, склаў у шафу. Пасядзеў ў крэсле. Наліў сабе чарачку каньяку, выпіў. Наліў яшчэ. Стала спакойна.

Калі прымружыў вочы, пачуў, як на шафе нешта захрабусцела.

“Мышук? –  падумаў абрадавана. – Як жа я забыўся пра цябе? Жывы? Што ж ты еў увесь час?”

Падняўся, падышоў да шафы. У вялізнай місе ляжала паўбохана хлеба.

“Хто прынёс табе яго, Мышук? Ліка? Адкуль дазналася, што ты стаў маім сябрам? Сам сказаў?”

Разумеў, што ён не бачыў мяне. Але ж натапырыў вушы, прыслухоўваўся. Тады я яго ўзяў дзвюма далонямі і зняў з шафы.

– Я вольны! – крыкнуў яму, даючы зразумець, што гэта вярнуўся я, і што засумаваў па ім.

Сеўшы ў крэсла, паклаў яго на жывот і пачаў гладзіць па мяккай галаве. Мышук зажмурыў ад задавальнення вочы...

– Як мне не хапала, Мышук, цябе, каб ты б толькі ведаў...

Шмат чаго гаварыў яму, шмат на што скардзіўся... Ён слухаў мяне, сцішыўшыся на маім жываце, драмаў.

Гадзіннік на сцяне паказваў шаснаццаць гадзінаў. У маім распараджэнні было яшчэ шмат часу – больш шасці гадзінаў. Як іх выкарыстаць? Як іх правесці так, каб потым не шкадаваць?..

– Усё, князь Мышкін, – аднёс яго на шафу, да хлеба, – мне пара, браце... Я яшчэ вярнуся.

Знаёмай дарогай, паўз сасновы бор, кіраваў дадому. Ад гругання ў небе аж чорна – як усё роўна ноч апусцілася на лес. Як выходзіў з ляска, да мяне прыбіўся нічыйны сабака. Ён лашчыўся, не бачачы мяне, адчуваючы цяпло маёй рукі. Скуголіў ад задавальнення, жмурыў вочы.

– Цюцька, цюцька, – казаў я, расчулены, – і ты зразумеў мяне, як і Мышук... Як добра, што ты сустрэўся мне на дарозе, што вы ў мяне ёсць!..

Я сеў на зямлю. Абняў яго за шыю, прытуліў сваю галаву да яго – і пагатоў быў расплакацца ад замілавання і пяшчоты. Над намі каркалі крумкачы, на нас падалі промні сонца, якое яшчэ не схавалася за высотнымі дамамі, – а мы не маглі зрушыцца з месца. Як быццам у гэтых абдымках знайшлі для сябе самую вялікую асалоду і – неабходнасць адно ў адным...

Калі ж устаў з зямлі і пайшоў далей – праводзіў мяне да самага дома.

Потым дадому прыйшла і Ліка. Яна перакусіла і легла ў ложак.

Я сядзеў побач, у крэсле, і як усё роўна аберагаў яе сон. Падумаў: “А ці пойдзе яна на сустрэчу? А калі пойдзе, то пра што будуць гаварыць? Пра каханне?..” Зазірнуў у сябе і адзначыў, што ў маёй душы не было ні грамачкі рэўнасці і крыўды. Ды і з-за чаго крыўдаваць на яе?

Здаецца, задрымаў разам з Лікаю.

Потым глядзеў на яе твар, змэнчаны педагагічнымі клопатамі, пачынаў шкадаваць, што знясільвалася сваёй працай, што ўсе свае сілы і энергію, сваю пяшчоту і дабрыню паклала на алтар школы. Усё сваё жыццё паклала. Да кропелькі. Мо ўпершыню ў жыцці пачаў глядзець на яе з другога, нечаканага для мяне, боку.

Доўга, здаецца, і не ляжала. Паднялася, пайшла няспешна ў ванную. Зазваніў тэлефон, але жонка не чула гудкоў – замінаў струмень вады, што ліўся ў балею. Сігналы доўгія, з перапынкамі – гудкоў з дзесяць. Пошум вады аціх. Ліка, нагрузіўшы на

левую руку вымытай бялізны, як абярэмак дроў, прайшла на балкон – паўз мяне. Пачала развешваць на тонкую лёску, нацягнутую паміж сценкамі балкона, бялізну. Скончыла развешваць, прычасалася, гледзячыся ў люстэрка. Уздыхнула, не адрываючы позірку ад самой сябе. Пра што яна думала ў гэты момант, я не ведаў, але ўпэўнены, што думкі невясёлыя...

Потым Ліка паднесла табурэтку да тэлефона, села, узяла слухаўку.

“Каму званіць сабралася? Свайму завучу?”

– Алё, пракуратура? Алег Паўлавіч? Добры дзень! Я па сваім пытанні – ці ёсць якія навіны па пошуку майго мужа? Чаму ніякіх, калі прапаў чалавек, і няма яго ўжо тры гады... Ён жа не належаў ні да апазіцыі, якой вы так баіцёся, ні да партыйных лідараў... Што? Робіце ўсё магчымае? Як не хвалявацца – я нічога не ведаю пра свайго мужа, а вы “не хвалюйцеся”...

Ліка паклала тэлефонную слухаўку. Яна, здаецца, плакала. Па мне? З-за мяне? Ці ад сваёй адзіноты? Тое, што мяне расшуквала пракуратура і што тое ініцыявала жонка, мяне вельмі здзівіла. І абрадвала адначасова.

Зноў зазваніў тэлефон.

– Алё... Добры дзень, дачушка! Ды нічога... Навінаў ніякіх. Толькі што званіла ў пракуратуру – і нічога новага. Не, вечарам схаджу ў “Залаты пеўнік”. З завучам. Ды не, якое каханне. Пагаварыць чалавек хоча, выгаварыцца... Як у цябе там вучоба? Ну і дзякуй Богу...

Ціха ў кватэры. За акном чуваць галасы, дзіцячы смех, брэх сабакі. Усё знаёмае, усё роднае і прывычнае.

Тэлефон зноў напомніў пра сябе.

– Алё... Добра, Зміцер, буду. Толькі ці трэба гэтае спатканне? Яно нічога не зменіць. Ну, калі так... Добра, што тут збірацца.

“Не хоча ісці, а ідзе. Навошта? Завінавацілася нечым перад завучам, ці – ад няма чаго рабіць? Мо і так... А што я зрабіў бы на яе месцы? Хто ведае...”

З’явілася жаданне схадзіць разам з імі ў кавярню. Для чаго? І сам не ведаў. Пераканацца?.. У чым пераканацца? У распусце і граху жонкі? Ці ў яе невінаватасці? Але, падумаў, каб была пажадная ў распусце, то запрасіла б Змітра да сябе – хоць на дзень, хоць на ноч... Чаго ж тады прызначыў ёй спатканне ў людным месцы? Неразумна і незразумела.

Ліка нават і не начапурылася, толькі пераапранулася ў свой, не галоўны святочны, касцюм – светла-зялёны пінжачок з карычневай спадніцай. Прыхапіла сумачку – і пакінула кватэру.

Я ж існаваў, як нябачны цень. Як і яна, ускочыў у тралейбус, але не сеў побач з ёю, бо нехта ж мог сесці на мяне, а на Ліку, ці ў яе, сядаць мне не хацелася.

Стаяў ззаду, назіраў. У тралейбусе ўсё вакол выглядала і звычайным, і незвычайным.

Звычайныя людзі, звычайныя размовы, але я пачуваўся ненатуральна. Для гэтага свету я не існаваў, ці то гэты свет не існаваў для мяне?

Завуч школы чакаў Ліку задоўга да сямі гадзінаў.

Афіцыянтка ўжо накрыла столік. На ім – пляшка каньяку і шампанскае, салаты, яблыкі, апельсіны...

"Мяне так Анатас частуе, – падумалася весела, – а яе Зміцер... Адно хіба адрозненне, што тут шмат народу і на стале няма груш..."

Убачыўшы ў дзвярах маю жонку, ён борздзенька падняўся, пайшоў насустрач. Радасна заўсміхаўся...

– Праходзь, праходзь, Ліка, – запрашаў, адсунуў крэсла.

Яна агледзелася, як усё роўна прыйшла ў гэтую залу ўпершыню. З ёю мы ніколі ў "Пеўнік" не наведваліся. Мы, здаецца, ніводнага разу так і не сабраліся пасядзець сам-насам, усё неяк адкладвалі, пераносілі на далейшы, больш спрыяльны, час...

А завуч не зводзіў з яе вачэй, не хаваў сваёй радасці.

– Ты сёння нейкая незвычайная, – прамовіў Зміцер, і тое прагучала ці то як камплімент, ці то як заўвага. – У вачах тваіх як быццам і стома, як быццам і весялосць...

– Ды якая, Зміцер, у мяне можа быць весялосць? Званіла сёння зноў у пракуратуру.

– І што?

– Анічога. Глуха.

– Ён жа ім нічога не зрабіў. Хто ж мог яго выкрасці?

– Не ведаю. Як пайшоў да таго заказчыка, так і не вярнуўся... А хто той заказчык, як яго прозвішча? Антон казаў, што на караблі будзе працаваць, во і назву ўспомніла – "Алкеп". Але ніхто той карабель на беразе Сожа і ў вочы не бачыў. Казала ж яму, што вялікія грошы да дабра не давядуць... Хаця ён не на грошы паквапіўся, як мне здаецца...

– Грошы, грошы... – няўцямна падтакнуў ёй Зміцер. – А давай не будзем пра сумнае, Ліка, – ажывіўся, паклаў сваю руку на яе. Яна маўчала, не адымала руку. – Ты як хаваеш яго ўсё роўна. Думай пра жывога – так яно і будзе. Будзем верыць, што вернецца, што ты зноў убачыш яго...

– Каб жа так...

– Ліка, што табе наліць?

– Каньяку.

Завуч выканаў просьбу – наліў чарачку, амаль поўную, – яго і не перапыняла Ліка. Смакуючы, глытком за глытком, выпіла ўсё. Задумліва глядзела ў адну кропку.

Трэцяе крэсла каля іх пуставала. І на ім сядзеў я. Гледзячы на іх, таксама захацелася выпіць і мне. Але я мог толькі панюхаць.

– Можна да вас падсесці? – нехта спытаў над маёй галавой.

– Не, мы чакаем свайго сябра, – схлусіў Зміцер, адпрэчыў невядомага наведвальніка – трохі паддатага, трохі нахабнага, расхрыстанага, няголенага...

– Выбачайце...

Я ў думках пахваліў завуча за кемлівасць. І не толькі за гэта. А і за тое, як ён адгукнуўся пра мяне. І на лавеласа ён не падобны. Калі б яны кахаліся, то і паводзілі б сябе зусім па-іншаму.

Далей ужо Ліка піла шампанскае. Яна любіла яго заўсёды. І выпіла поўны фужэр. Але ні добры настрой, тым больш весялосць, не прыходзілі да яе. У меру сур’ёзная, у меру вясёлая, не плакалася Зміцеру пра свае цяжкасці.

Зміцер пачаў размову пра школьныя клопаты, пра тое, што дырэктар нагрузіў звыш меры настаўнікаў, а зарплата мізэрная. Не зусім добрая атмасфера ў калектыве, дырэктар школы любіць падхалімаў і падлізаў, што не мае свайго голасу, а выконвае слепа дырэктывы райана...

Пашкадаваў ужо, што выправіўся следам за імі. Нічога цікавага не ўбачыў, не пачуў – ніякай такой сваёй тайны яны мне не раскрылі. А і ці была яна хоць у іх – іх тайна? А клопаты, пра якія яны расказвалі, мяне абсалютна не цікавілі. Хвалявала хіба толькі адно – як у тых дзікіх і нечалавечых абставінах выжывае мая Ліка?

Змітроналіваў сабе каньяк, субяседніцы – шампанскае. Але піў найбольш сам. Не п’янеў, не балаболіў лішняга і непатрэбнага. Мне падалося, што ён найбольш стараўся развесяліць Ліку, суцішыць яе ўнутраны боль...

У зале стала душнавата, і ён адпусціў вальней на шыі гальштук. Іграла прыглушана музыка – мелодыі спрэс замежныя. Сваёй, роднай, як і ўсюды, ў такіх установах, не чулася. Падумалася пра тое, што добра паступілі на Львоўшчыне. Выкінулі з ужытку чужыя мелодыі, а танцавалі і спявалі толькі пад свае.У другім канцы залы танчыла некалькі параў.

Але чамусьці ніводнага разу Зміцер не запрасіў Ліку на танец – не ўмеў ці адчуваў, што ёй не да гэтага? Замест гэтага прапанаваў прачытаць свае вершы.

"Цяпер прыступіў да галоўнага, – натапырыўся я, – не вытрымаў?"

– Я іх нідзе не друкаваў, – прызнаваўся Зміцер, – і нікуды не дасылаў. А табе прачытаю першай. Добра?

– Чытай, – пагадзілася Ліка, адпіваючы з фужэра шампанскае.

На яе твары адбілася лёгкая ўсмешка. Ліка трошкі павесялела, расчырванелася. Я і толькі я вінаваты ў яе пакутах, кінуў у невядомасць і журбу. А гэта самае страшнае – невядомасць. Яна ж не ведае – жывы я ці не, чакаць ці не чакаць мяне, валацугу і бадзяжніка... Вывад жа напрошваўся сам па сабе: быў бы жывы – абавязкова абазваўся б…

– Тады слухай, – ажывіўся Зміцер Панцелямонавіч, – але перад гэтым уяві, што мы з табой сядзім на беразе ракі – на вечаровым пляжы – і больш нікога няма вакол. Назваў верш "Вечаровае".

*Ноч… Зоркапад… Перасьпелая поўня*
*разам купаецца з намі ў Сажы;*
*фыркаюць ў лузе стамлёныя коні,*
*ськінуўшы ў стайні пастронкі, гужы…*
*Кроплі на твары, як зоркі ў небе, –*
*бляск іх ад месяца зьзяе ўначы.*
*Сяньня сказаць мне галоўнае трэба,*
*я ж – як нямы… ты – таксама маўчыш.*
*Німфа ты з казкі чароўнага Сожа, –*
*вусны ў вусны – ці сагрэшу? –*
*сьмелым мне стаць ты сама дапаможаш, –*
*шал зухаватасьці ў сэрцы тушу.*
*Тулісься, шэпчаш: "Сагрэй у абымках…"*
*Колеш сунічкамі сьпелых грудзей.*
*Лёгкая ты, як жар-птушкі пярынка –*
*павай плывеш па вірлівай вадзе.*

*Ноч... Зоркапад... І – ружовая поўня.*
*Ськінуўшы ўсё, мы ляцім па Сажы...*
*Самы шчасьлівы і ўсьцешаны сяньня –*
*гінем з табою на хмельным крыжы...*

Зміцер замоўк, апусціў галаву, чакаў прысуду ад сваёй спадарожніцы. На мой густ, дык верш добры, меладычны.

– Харошы верш, Змітро. Цёплы. Настраёвы. І каму ж ён прысвечаны, калі не сакрэт?

Ён усміхнуўся, пяшчотна паглядзеў на жанчыну:

– Таму, хто і пачуў яго першы... Напісаў яго тарашкевіцай – любай мне мовай.

Ліка схіліла галаву:

– Мне ніхто ніколі не прысвячаў вершаў. Ты – першы.

– Няпраўда. А Антон жа маляваў твой партрэт. Той, дзе ты каля бярозы. То – таксама верш. Мо і лепей, чым верш. Ён таксама пісаў яго сэрцам...

– Можа быць, – уздыхнула Ліка, не адрываючыся ад сваіх думак.

Выходзіла так, што Зміцер выступаў у маю абарону. Ён быў за мяне, цаніў мяне як мастака, як творцу... Дарэмна, выходзіць, я кепска думаў пра гэтага чалавека, дарэмна. І мне стала нават і сорамна за свае паводзіны...Можа, гэта і быў той першы “плюс”, першая плата за тое становішча, у якім я апынуўся. Пачуць пра сябе добрыя словы, ды яшчэ з вуснаў таго, каго лічыў няхай не ворагам, але... Гэта не абы што.

Другі “плюс” – я ж пабачыў сваю жонку зусім з іншага боку, – у рэальных абставінах не ўбачыў бы яе такую, не зразумеў бы яе душу, яе спакутаванага сэрца. Жыў побач з ёю як глухая і сляпая істота, і яна цярпела мяне такога...

Гадзіннік паказваў а палове дзявятай вечара... Меў я, значыць, на сваім рахунку яшчэ шмат часу... Мне расхацелася сядзець з імі да канца. Ужо не цікавіла, як яны развітаюцца, як Зміцер будзе праводзіць настаўніцу дадому.

Падняўся з крэсла. Найперш пацалаваў Ліку ў вусны – толькі дакрануўся на імгненне. Яна ўздрыгнула, але не спужалася. Пальцам правяла па вуснах, як сцерла невядомы павеў ветру.

– Што з табой, Ліка? – устрывожыўся завуч. – Ты перамянілася ў твары.

– Нічога... Проста так.

Фужэр Зміцера стаяў на самым краёчку стала – вось-вось упадзе. У той момант, як ён хацеў яшчэ пра нешта папытацца ў маёй жонкі, я дакрануўся пальцам да фужэра – падпіхнуў яго, і – ён бразнуўся на падлогу і разбіўся...

Яны пераглянуліся. Ліка схапілася за шчокі – далонямі рук прыкрыла іх. У вачах сполах і недаўменне: стол ніхто не хітаў, і да фужэра ніхто не дакранаўся...

– То я зачапіў... – вінаваціўся Зміцер Панцеляймонавіч. – Даруй, няўклюдны я нейкі... Мядзведзь я, а мо і слон... Выпіў задужа…

– Не, гэта не ты. Не ты, – перапуджаным голасам прамовіла Ліка, не адрываючы далоняў ад шчок.

– А хто ж, калі не я? Сам жа не мог упасці.

– Сам – не, а вось...

Падышла афіцыянтка, супакоіла, папрасіла не хвалявацца і не звяртаць на тое ўвагі. Хуценька прыбрала аскалёпкі з-пад ног.

– І Цэзар гэтаксама... – уздыхнула жонка.

– Што – Цэзар, які Цэзар? – не разумеў завуч, здзіўлена глядзеў на яе.

– Гай Юлій Цэзар – рымскі пісьменнік і палкаводзец, – пад’южыла яго Ліка, адняла далоні ад шчок, заўсміхалася, дадала: – А цяпер нам пара. Мне пара – позна ўжо, Зміцер... Ён незадаволены, што затрымліваюся.

– Хто – ён, Ліка?

– Зміцер Панцеляймонавіч, мне і сапраўды пара ўжо.

– Добра, – пагадзіўся завуч, – але дазволь яшчэ пяць хвілінаў, не больш...

Ліка на знак згоды кіўнула галавой. Мне, як я разумеў, у іх кампаніі больш прысутнічаць не выпадала. Бо мог утварыць і яшчэ большае, якое-небудзь, глупства.

Мая камандзіроўка, мой водпуск, якім заахвоціў мяне Анатас, прыходзіў да свайго лагічнага завяршэння. І я не павінен яго пратэрмінаваць. Бо тое пагражала мне, як я ўжо зразумеў, вялікімі непрыемнасцямі... Пад гукі бадзёрай танцавальнай музыкі – мелодыі Мадонны – я і пакінуў “Залаты пеўнік”.

А побач знаходзілася бібліятэка імя Герцэна. Падышоў да вокнаў. За сталамі сядзелі людзі. Нешта чытаў Аляксандр Джад, трымаючы ў руках сваю кнігу, – прэзентацыю, значыць, чарговую ладзілі. Закаханымі вачыма глядзела на яго слабая паэтэска, штучна

тварам выказвала зацікаўленасць і захопленасць, прасіла чытаць яшчэ. А ён, як той закаханы ў сябе нарцыс, узнёсла чытаў...

А потым выступаў ліцвінскі празаік: ён абрынуўся з крытыкай, сказаў, што ўсё, што пачуў, суцэльная графаманія. Бачыў, як чырванела Наталля Малашанка, гаспадыня салона "На Замкавай", згаджалася з празаікам...

Стала сумна, вусцішна. Але – не трывожна, нават абыякава.

Акурат да прыпынку падышла "адзінка", і я адарваўся ад вокан бібліятэкі. Лёгка ўскочыў на заднюю прыступку – цераз калюжыну, – ступіў на пляцоўку.

У куточку, ля выхаду, за перагародкай, стаяла бялявае дзяўчо, само сабе ўсміхалася. З яе вуснаў яшчэ не знік слодыч пацалунка, з вушэй – голас каханага, і ў душы спявала вясна... Асцярожна дакрануўся губамі да яе вуснаў – доўга не адрываўся... Дзяўчына схамянулася, перасмыкнула імі, быццам на іх сеў камар ці муха, павярнулася ўжо да шкла і глядзела няўцямна на дарогу... І ўсё яшчэ ўсміхалася, успамінаючы толькі што праведзеныя, удвох з хлопцам, шчаслівыя гадзіны...

– Гасцініца "Турыст"! – аб’явіла вадзіцелька тралейбуса інтымным голасам.

Мая спадарожніца ехала далей. І я на развітанне дзьмухнуў ёй у белае, з залатой завушніцай, вуха. Яна перакрывілася тварам, увабрала галаву у плечы, хаваючыся ад павеву ветру...

– Бывай, спадарожніца! – крыкнуў весела ёй. – Шчасця табе!

Разам з натоўпам выкаціўся на вуліцу.

Ад "Турыста" ішла п’яная кампанія – хлопцы і дзяўчаты, – спявалі, танцавалі, весяліліся. Вакол кіпела жыццё, бурліла, біла праз край. Толькі мяне не было ў тым жыцці.

І тут да мяне прыйшла нечаканая думка. Да сканчэння майго "адпачынку" заставалася яшчэ трохі часу, захацелася правесці яго з карысцю. Ведаў, што ў Петрапаўлаўскім саборы ішла вячэрняя служба. Я яшчэ мог заспець айца Георгія. Пачуе ён мяне ці не пачуе, убачыць ці не ўбачыць – тое было ўжо і няважна, – галоўнае, што я ў храме папрашу Бога выбавіць мяне з бяды. Мне захацелася памаліцца Іісусу Хрысту і Божай Маці, – пакаяцца, папрасіць у Іх дапамогі...

Да храма ішоў пешшу, адчуваючы, як ціхая радасць ахутвае сэрца. Перад уваходам, наклаўшы на сябе крыж, зняў плашч, і ўжо ў храме, зайшоўшы, павесіў яго на кручок

Чулася екцяння прасіцельная. Ціхім голасам дзяк прасіў усіх:
– Выканаем вячэрнюю малітву нашу, Госпадзе!..
І хор, і вернікі, што стаялі цесна ў храме, падхапілі:
– Госпадзе, памілу-ууўй!..
Падхапіў прасіцельны заклік і я і не здзівіўся з самога сябе, што тое ўсё адбылося проста і натуральна.
– Ахіні, уратуй, памілуй і захавай нас, Божа, Тваёю пяшчотай і ласкай! Вячэра ўсяго дасканалая, святая, мірная і безграхоўная – у Госпада просім...
– Падай, Госпадзе!..
Такога ўзрушэння і натхнення я яшчэ ніколі не адчуваў. Гэтае пачуццё нельга перадаць. Пад нагамі не чулася зямлі. З плячэй спаўзаў груз, у мяне ўліваўся душэўны спакой... Да маёй радасці малебен вёўся на роднай мове. І тое абрадавала мяне найбольш. Не паверыў нават у тое, але ўспомніў, чытаў у святым Пісанні – Богу падуладна ўсё.
Убачыў айца Георгія. Здаецца, і ён убачыў мяне – у што я, зразумела, не паверыў. Калі ж склаў крыжам рукі на грудзях, ён падышоў да мяне. Я нахіліўся, чакаючы ад яго дабраслаўлення. Святар паклаў мне руку на галаву. Адчуў адразу, як лёгкае паколванне прайшлося па ўсім целе – ад галавы да ног.
– Вельмі добра, Антон, што вы прыйшлі ў храм.
Мы адышлі ўбок, дзе меней вернікаў.
– Айцец Георгій, мне вельмі цяжка сёння, – пачаў з галоўнага.
– Ведаю, Антон. Я чакаў вас.
Скончылася вячэрняе богаслужэнне – ютрань. Вернікі з асветленымі тварамі выходзілі на вуліцу. Перад выхадам паварочваліся да алтара і царскіх варотаў, хрысціліся, нізка схіляючыся да зямлі.
Святар дакрануўся да майгго локця:
– Прысядзем, Антон?
Мы селі на паліраваную лаўку ў кутку храма.
– Айцец Георгій, вы мяне бачыце і чуеце?
– І бачу, і чую. Як і ўсе, хто знаходзіцца ў храме, бачаць і чуюць вас.
– Дзіўна.
Счакаўшы трохі, я прамовіў, гледзячы ў вочы святару:
– Я папаў у багну, у пекла... Мною авалодаў страх, не ведаю, адкуль ён толькі і бярэцца. Але тут, калі пераступіў парог, той страх знік. У маёй душы цяпер радасць і ўпэўненасць.

– Страх? – перапытаў айцец Георгій. – Бог ніколі не хоча, каб чалавек адчуваў яго. Гэта не ад Вышняга. У чалавека можа жыць толькі адзін страх – перад Госпадам. Але само слова ў дадзеным выпадку не адпавядае таму значэнню, што мы прывыклі разумець. Страх – гэта толькі боязь, што цябе можа не пачуць Бог. Страх – гэта клопат пра сябе, пра сваю душу. Папярэджанне.

– Але я адчуваю, што няправільна жыву, думаю, што загруз у твані, у багне і не магу выкараскацца... Хачу пагаварыць з Богам, але, на жаль, не чую Яго... Ці ён не чуе мяне? Чаму так атрымліваецца? Калі-нікалі мне здаецца, што адчуваю, чую дыханне Госпада, але не бачу Яго душой... Хаця ж ведаю, што ўбачыць зрокам Яго немагчыма. Чытаю Біблію, каб там знайсці адказы на свае пытанні, і – не знаходжу...

Айцец Георгій уздыхнуў:

– Вы шмат патрабуеце ад сябе, але і не меней ад Бога. Так вы не прыйдзеце да Яго...

– Чаму, айцец Георгій?

– На тое шмат прычын. І першая – хаваецца ў вас саміх. Я ж казаў, што павінен быць пачатак. Апірышча. Чытаць Біблію – добра, але яшчэ недастаткова, каб разумець і адчуваць прысутнасць Бога. Шлях да Яго няпросты, а дзеянні абдуманыя і рашучыя. Усё павінна прайсці праз сэрца, асвяціцца Госпадам. Ёсць такое паняцце ў хрысціянскай рэлігіі – катэхізацыя. Вучоба. Вывучэнне Бібліі і таінстваў у Храме. Не самастойна, а разам з пачынаючымі, пад кіраўніцтвам святара. Яшчэ тое называецца і агалошваннем.

Я глядзеў на святара, маўкліва прасіў яго, каб ён скіраваў на тую адзіную дарогу, якая і павінна прывесці да Бога...

– Вера – гэта дом, але не на пяску. У доме чатыры вуглы. Адзін – катэхізацыя. Другі – асабістая малітва. Трэці – агульная малітва разам з вернікамі ў Божым Храме. І апошні вугал – самаўдасканальванне. Жыць адпаведна з патрабаваннямі і Запаветам Бога. І ўсё гэта – па парадку, адно за другім. Пачынаючы з першай прыступкі...

– Я гэтым і кіруюся, імкнуся...

– Чалавек перад Богам ёсць сасуд, напоўнены верай настолькі, колькі ён верыць Творцу. Аддае ўсяго сябе да таго, што нічога больш у той сасуд не можа ўліцца... Калі ж у сэрцы шмат пустэчы,

то яе запаўняе тая сіла, якая разбурае дух і існасць чалавека... Вось і ў вас у душы было шмат пустэчы. Яе і запоўніў Сатана, у якога вы і знаходзіцеся сёння ў палоне... І вы вельмі хочаце выбавіцца з таго палону.

– Хачу...

Святар гаварыў ціхім і спакойным голасам, глядзеў, не адрываючыся, мне ў вочы. А я прапускаў яго словы праз сябе, як дрот электрычны ток...

– Вы гінеце па сваёй жа волі. Чым раней вы пазбавіцеся ад спакушэння, тым хутчэй набудзеце сябе... Выбар за вамі. Яшчэ апостал Павел у першым пасланні да карынфянаў (15:33) гаварыў: "*Не давайцеся ў зман; дрэнныя суполкі псуюць добрыя норавы".*

– Прыйшоўшы да вас, айцец Георгій, я адкрыўся сабе. Там, на вуліцы, я нябачны нават для роднай жонкі... А ў храме стаў існы і цялесны. Значыць, тут, пад Богам, я жыву і існую, а там, у Анатаса, – толькі прывіднасць...

– Так яно і ёсць, Антон. Я вельмі рады, што вы адрозніваеце цяпер сапраўдны свет ад прыдуманага, спакушальнага. Здыміце, Антон, ваш крыжык, я асвячу яго.

Святар паклаў мой срэбны крыжык на абраз Хрыста і доўга чытаў малітву. Потым павесіў мне на шыю, перахрысціў, дабраславіў.

Папрасіў, каб пачакаў яго трошкі, пакінуў мяне. Расчыніў левыя дзверы царскіх варотаў, зайшоў туды. Тут жа і вярнуўся.

– Вось вам яшчэ адна дапамога. Абразок святой Жывапачатковай Тройцы, напісаны прападобным Андрэем Рублёвым. І абразок святой патронкі і заступніцы нашай прападобнай Еўфрасінні Полацкай.

– Дзякуй, айцец Георгій! Не буду болей у вас адымаць часу. Хай беражэ вас Бог!

– З Богам! Вяртайцеся!

Мы гутарылі са святаром, як я думаў, хвілін дваццаць, а праляцела незаўважна цэлая гадзіна.

Калі падышоў да вешалкі, каб забраць свой плашч, то ўбачыў – на тым месцы вісела анучка, якой мылі падлогу.

"Ну і ладна. Скажу капітану, што згубіў ці ўкралі ў аўтобусе".

Толькі не ведаў – паверыць ён мне ці не...

16

Выйшаўшы на вуліцу, адчуў, што той груз, ад якога вызваліўся ў храме, зноў вярнуўся да мяне. І насіць мне яго, пакуль не пераступлю парог храма адухоўленым чалавекам.

Праз масток, які злучаў два ўзвышкі, па асфальтавай дарожцы дабрыў да канца алеі. Пашукаў поглядам сваю лаўку – і не ўбачыў яе. Увогуле не было ніякіх лавак, і сама алея падалася мне незнаёмай, чужой. Азірнуўся па баках. На імгненне падалося, што за шэрым кустоўем стаіўся спакуснік, падумалася яшчэ, што ён сачыў, ні хвіліны не выпускаючы мяне з полю зроку.

...Першы паверх банка свяціўся агнямі. Снавалі туды-сюды ахоўнікі – іх машына стаяла перад уваходам. Я думаў, што будзе праблема зайсці ў вестыбюль. Дарэмна хваляваўся – дзверы адразу ж пры набліжэнні да іх самі рассунуліся перада мною.

Ліфт як чакаў майго з'яўлення – расчынены... Зірнуў на табло з зялёнымі лічбамі. Гадзіннік паказваў 23.46. Націснуў на панелі на самую ніжнюю сінюю кнопачку. Яна тут жа стала чырвонай – і ліфт закрыўся. І толькі цяпер убачыў самога сябе. І быў я зверху, і знізу – галавой уніз і ўверх, і тысячы і тысячы Антонаў глядзелі на мяне, усміхаліся...

Я падміргнуў ім, сказаў з'едліва:

– Ну, што, віншую з прыбыццём! З вяртаннечкам цябе, браце!

За маёй спіной, падалося, нехта рагатнуў. А можа, што рыпнула ці піснула, не ведаю. Першае, што адзначыў пра сябе, – спакой. У душы ні трывогі, ні шкадавання. Ліфт спыніўся, я выйшаў з яго.

У вочы ўдарыла зыркае святло.

У крэсле, перада мною, раскінуўшы рукі на падлакотніках, сядзеў Анатас.

– З вяртаннем цябе на палубу "Алкепа", шаноўны Антон!

Паказаў мне на месца побач з сабой.

– Ці мо ты хочаш назад вярнуцца?

Моўчкі падышоў да Анатаса, бухнуўся ў крэсла.

– Чаго маўчыш? Мо пакрыўдзіўся за нябачнасць? Дык выбачай... Думаў, што цікава і з гумарам правядзеш там час...

– Трэба было ўсё ж папярэдзіць.

– А што змянілася б?

– Анічога. Сапраўды анічога, апроч таго, што ты паздзекаваўся з мяне.

– І не думаў... Проста выканаў тваё даўняе жаданне. Ты ж з маленства марыў стаць нябачным, і потым – паглядзець на сваю жонку збоку...

– Тое было даўно...

– Даўно – паняцце адноснае. Добра, Антон. Больш так жартаваць не буду, раз табе такі эксперымент не спадабаўся, – ужо як бы і вінавата праказаў Анатас. – Бачыш, і я магу памыляцца... Даруй.

– Напачатку я напужаўся... – прызнаўся шчыра яму,.– А потым здзівіўся... Але як бы яно ні выглядала – дзякую...

– Што я чую? – акругліў вочы Сатана. – Ты нават выказваеш мне падзяку?

– Ва ўсім трэба шукаць і плюсы... Мне раскрыліся вочы на маю жонку, на той свет, у якім жыў... От, каб кожны змог мець такую магчымасць, то і свет, можа, стаў бы іншы...

– Стаў бы, Антон, стаў бы... І стане. Вось для гэтага мы і павінны рабіць тое, каб перамяніць свет... І мы вучым таму ж. Сам зразумеў, колькі цікавага і нечаканага можа адкрыць той, каго нябачна.

Во-во ўсё больш і больш раскрываўся перада мною.

– Так, зразумеў. Пераканаўся.

– Дык ты, выходзіць, вярнуўся не расчараваным? – дапытваўся капітан Нэма.

– Ды не... мусіць жа, не. Проста тое, што раней здавалася невядомым, цяпер стала зразумелым... А тое, што здавалася зразумелым, ахуталася тайнай. Ці то свет перавярнуўся-перакуліўся, ці я стаў іншы, не ведаю.

– Тое ўсё карысна для цябе?

– Зноў жа – не ведаю. Але, прызнаюся, такі вопыт цікавы для мяне.

– А калі так, то ці не шкадуеш ты аб праведзеным там часе? – прыгледзеўся пільна да мяне Люцыфер. – Скажы шчыра, Антон. Бо тое для мяне вельмі важна. Мне важна, каб ты не крыўдаваў і не злаваўся на мяне.

Прыйшлося прыкласці трошкі намаганняў, каб адказаць яму ўпэўнена і сумленна:

– Не, не шкадую. Прыемна і смешна нават успомніць.

І я ўжо, мусіць, казаў праўду. Не крывіў душой. Бо так яно і выглядала. І гэтая выснова прыйшла да мяне тут, у фае залы.

Сам здзіўляўся, як усё на свеце бывае проста, як і складана, і мяжа паміж адным і другім часта бывае нябачнай. Ад таго мы і губляемся, мітусімся і робім шмат памылак, за якія потым расплочваемся…

– Што і патрабавалася даказаць.

Нэма святкаваў перамогу. Невядома якую і над кім, але усё ж перамогу. Праказаў ён невядома для каго – для мяне, ці для сябе? Ці зусім нікому. І тое нагадвала падвядзенне выніку пад усю размову, як быццам мы паставілі нябачную, але такую, яму неабходную, кропку. З маіх грудзей вырваўся на волю толькі ўздых палёгкі і супакаення. Але – не скарэння...

– Ты сказаў, што гэты вопыт цікавы для цябе, ці не так?

– Казаў, браце капітане, казаў. І што?

– Ты ўсё здзіўляешся, у якім часе жывеш, – ён пашкрабаў мезенцам па васпаватым носе, прымружыў вока. – Дык вось, пра час, які ты ніяк не можаш зразумець.

– Любы на маім месцы не зразумеў бы, – апраўдваўся я, чакаючы працягу яго слоў. – Гэта ж не для звычайнага чалавечага розуму.

– Так, не для звычайнага... Што ж, тады слухай... Зноў жа, не пераконваю цябе, а проста тлумачу. Дзве тысячы гадоў таму, яшчэ ў тваім чацвёртым жыцці, старажытныя мудрацы сцвярджалі, што час – гэта змяя, якая кусае ці есць свой хвост. Абвяргалі цяперашняе разуменне часу. Сённяшнія шукальнікі ісціны прапаноўваюць больш простую тэзу, якая заганяе іх у тупік. Сцвярджаюць, можна звышдакладна адмерваць секунду за секундай, але ж калі ўзяць секунду цяперашнюю ды прыкласці яе да папярэдняй, каб параўнаць іх, супаставіць, праверыць на падобнасць, – то з гэтай задумкі, мой шаноўны Антон, анічагуткі не атрымліваецца. А тады хто сказаў, што час ідзе ці бяжыць, паўзе ці ляціць прамалінейна – раў-на-мер-на?

Мне заставалася толькі паціснуць плячыма.

– Набярыся цярпення і слухай далей. – Анатас перасмыкнуў губамі і працягваў: – У свеце існуе нейкая субстанцыя, нейкія першаэлементы глыбінных пабудоў матэрыі тых узроўняў, на якія яшчэ не працуюць і тым больш не арыентуюцца сучасныя тэхналогіі і навука, і таму змяненне вось такіх элементаў і спараджае тое, што мы хочам назваць *часам*. Сёння самі вучоныя спрачаюцца паміж сабой пра тое, як трактаваць феномен часу. Адныя

з іх даводзяць, што гэта проста фізічныя ўласцівасці матэрыі, дзякуючы чаму яна і існуе – як тое, да прыкладу, раставанне снегу. Без часу тое раставанне немагчымае... Другія ж кажуць, што час – сам па сабе нейкая субстанцыя. Ён у прамым сэнсе – цячэ. Скрозь нас і праз усё, што нас акружае, акаляе...

Захацелася нешта дадаць да яго слоў, дадаць і сваё разуменне часу, над чым і сам не раз задумваўся і ніяк не мог вытлумачыць:

– Гэта могуць быць сапраўды тыя элементы, якія яшчэ мы не змаглі ні распазнаць, ні назваць, а тым больш змяніць...

– Так, так, – абрадваўся мой субяседнік, – але тады што казаць пра даследаванні і вывады філосафаў, калі самыя трывалыя захавальнікі эталону часу ў той жа суседняй дзяржаве – у тым жа падмаскоўным пасёлку Мендзялеева прызнаюць, што чалавецтва практычна жыве па дзвюх сістэмах часу. Адна з іх вызначаецца традыцыйна – ідучы ад старажытнасці – рухам нябесных целаў. Як ты зразумеў, гэта ёсць астранамічны час. А другая – сучасная і больш дакладная – заснаваная на атамным гадзінніку. І гэта ўжо зусім другі ці іншы час...

– Чым жа тады яны розняцца?

– А тым, што секунды атамнай і астранамічнай сістэмы – зусім розныя. І, што самае галоўнае, астранамічны час “пакідае” за сабой права ці прывілей мяняцца. Не выпадковымі ваганнямі, а заканамерна. Пры тым у вялікіх межах. І ваганні, і гадавыя цыклы – кожны год не аднолькавыя... Фактычна чалавек паспрачаўся з Богам ці прыродай – у каго з іх больш дакладна ідзе гадзіннік... Пакуль гэтыя сістэмы мірна ўжываюцца, бо не адмаўляюць адзін аднаму ў памяркоўным стаўленні да гэтай праблемы. На нябесныя целы арыентуюцца каляндар і ўвогуле рэчы архаічныя – квантавы гадзіннік, камп’ютары, сістэмы навігацыі і, да слова сказаць, крамлёўскія куранты...

– Дык у чым жа сутнасць, мой капітан? Што мне трэба зразумець з твайго аповеда?

– Ды не зразумець, спадар Антон, а адчуць... Якімі катэгорыямі сёння аперыруе атамны час. А для гэтага дастаткова ўявіць сабе толькі адно – устаноўкі, якія працуюць сёння на атамах цэзія, каб здзейсніць пагрэшнасць толькі ў адну – заўваж: адну!?! – секунду, то для гэтага неабходна будзе... дзесяць мільёнаў гадоў! Уяўляеш сабе такое? І ці верыш хоць у тое?

Я засмяяўся, паківаў на знак згоды галавой:

– Як казаў паэт, “свежо преданье, да верится с трудом”. Добра, дапусцім, што веру. Што з таго, мой капітан?

– Аднак жа існуе яшчэ і іншы гадзіннік, – не адрэгаваў на мае кепікі Во-во.

– Які?

– Біялагічны. Кожны з людзей задумваўся над адным і тым жа прыкрым і незразумелым пытаннем: “Чаму так хутка старэе чалавек?” І гэта ёсць сапраўды анамалія. Але цікавым для нас з’яўляецца *паралельны час* у паўсядзённым жыцці... Ніхто не ведае пра яго дакладна, як і не можа даказаць ці вынайсці формулу паскарэння ці запавольвання яго. Добра ж вывучана, што для шасці-сямігадовага дзіцяці і шасцідзесяці-васьмідзесяці гадовага чалавека час бяжыць не аднолькава – зусім па рознаму. Для малечы – у дзясяткі разоў даўжэй, суб’ектыўней, чым для дарослых. Чаму?

Маўчу, зноў пацiскаю няўцямна плячыма, бо і сапраўды не ведаю, хаця ж і не раз прыходзілася задумвацца над гэтым. Нават спрабаваў нешта напісаць на гэтую тэму. Помнім жа, як у дзяцінстве кожны з нас пражываў дзень як год, а тыдзень – дык і зусім вечнасць... А ў трыццаць пяць-сорак мы помнім, як пачынаўся панядзелак, а потым здзіўляемся, што непрыкметна заканчвалася і субота...

– Таму што, шаноўны Антон, час не мае ні пачатку, ні канца. І яго шматмернасць яшчэ не даказана. Не даспелі яшчэ. Уся неабсяжная нябесная прастора – Сусвет – зарыентавана на час. Гэта ўмовы існавання жыцця, яго аснова. Так бы мовіць – мост паміж жыццём і чалавекам.

– І іншымі жывымі істотамі.

– Калі ўзяць жывёльны свет, то ён нашмат прасцейшы за наш. Але любая адушаўлёная сістэма мае свядомасць часу, і таму не зможа існаваць без арыентацыі на будучае, без памяці аб мінулым... Той факт, што паток часу нельга злавіць ці хаця б зафіксаваць яго, – яшчэ нічога не азначае. Урэшце рэшт, некалі і атамы былі нябачныя. Вучоныя тлумачылі, што існуе нейкі цепларод. А потым усё перавярнулася. У адказ на пытанні аб палётах у будучыню тэмпаролагі прапаноўваюць сустрэцца праз... мільярд гадоў. І я з імі сустрэнуся. Абавязкова.

– Як гэта? – прарвалася ў мяне, бо яшчэ не верыў яму, успрымаў усё як фантастычны дослед, казку, як жарт.

– А вельмі проста. Я кінуў выклік часу. Я адзін у Сусвеце адкрыў формулу часу, яго феномен...

– Ты, выходзіць, спыніў час?

– Не зусім так... Не зусім дакладна. Калі спыніць час, то і ўсё жыццё спыняецца – і біццё сэрца, і рух крыві, і праца клетак галаўнога мозгу... Я проста выключыў астранамічны час, перавёў яго ў параметры запаволенасці... Як у кіно ёсць паняцце здымкаў – рапід, калі бачна, як ляціць куля Дантэса ў Пушкіна... Як на магнітнай стужцы ці на кампакт-дыску камп'ютара можна сціснуць інфармацыю, а потым яе расцягваць – і наадварот... Калі пройдзе мільён ці мільярд гадоў, я ўключу на нейкі момант астранамічны і біялагічны час, каб мець магчымасць наведаць будучыню. Мне скарылася мінулае, падуладна будзе і будучае... Да гэтага, дарэчы, можаш далучыцца і ты. Усё залежыць толькі ад цябе, ад твайго жадання.

– Заманліва! Я падумаю, Анатас, падумаю. Адразу сказаць нешта пэўнае пакуль не магу – гэта ж не жартачкі, не смешачкі – мільён, мільярд гадоў...

– Гэта больш чым сур'ёзна, – пагадзіўся Анатас, і на яго твары адбілася стома, зноў бліснулі ўнутраным зялёным святлом вочы, – і таму думай, узважвай... Думай, маэстра, думай! А я табе прапаноўваю перспектыву – жыццё вечнае. Не тое, што абяцае і не выконвае Бог, а маё – анатасаўскае жыццё. Бо я мацнейшы за Бога.

Схіліў на знак пакоры галаву, глядзеў сабе пад ногі. Але ўголас згоды не выказваў. Ды і не патрабаваў таго ад мяне Нэма.

– У выканаўцы майго заказа будуць яшчэ пытанні?

– Ёсць адно. Усё, што ты казаў, камандор, я перамялю ў сваіх мазгах. Але ты мне вось што скажы: чаму ў цябе час спыніўся, чаму не бяжыць ні наперад, ні назад… Адказ, які мне даў перад гэтым, не зусім задаволіў мяне.

Капітан фрэгата маўчаў. Засяроджана глядзеў у адну кропку, думаў над адказам.

– Ты мог бы пра ўсё гэта і ў нашай бібліятэцы знайсці… Ды ладна ўжо… Прасвятлю цябе, пакуль я добры. А добры я, як ты пераканаўся, заўсёды. Ці не так, Антон?

На маім твары, напэўна, адлюстравалася ўсмешка, кіўнуў галавой.

– Напомню табе пра хуткасць святла… Пра тое нават у школьным падручніку напісана. Хуткасць распаўсюджвання электрамаг-

нітных хваляў у звычайным асяроддзі. У вакууме дасягае – c=299792,5 + - 0,1 км за секунду. Амаль 300 тысячаў кіламетраў, так?

– Ну, так… Але гэта, мой капітан, мне вядома. Першым спрабаваў вызначыць гэтую хуткасць Галілей. А ў 1675 годзе дацкі астраном Ромер вылічыў, назіраючы за зацменнямі спадарожнікаў Юпітэра. У 1849 годзе французскі фізік Фізо здолеў правесці вымярэнне ў зямных умовах…

– Так, так, – пацвердзіў Люцыфер, – у зямных умовах яна меней серадовішча з дысперсіяй, якая адрозніваецца ад фазавай – *v* – і групавой – *u*. А далей атрымліваецца вось што… Хуткасць майго карабля ў тысячы разоў большая за хуткасць святла. Пагэтаму і стаяць у мяне гадзіннікі на месцы, правільней, не рухаюцца стрэлкі. Яны засталіся як карыкатуры на тыя, што вынайшаў чалавек. Бо вымярэнне часу ў мяне адбываецца зусім інакш, рэгулюецца па іншых параметрах. Табе прадстаўляецца магчымасць праверыць іх.

Каб у мяне была першая размова з ім, я прыняў бы яго за вар’ята.

– І ў кожным пакоі, куды я ўвайду, будзе свой час?

– Ты правільна зразумеў усё.

– Што ж, скажу, цікава. Мы, значыць, знаходзімся на той планеце і той арбіце тваёй хуткасці, якая робіць цябе несмяротным, якім яна можа зрабіць і мяне. Ты перарабіў тое, што стварыў Бог. Удасканаліў, так бы мовіць, тварэнне Гасподняе?

– Мы ж з Ім служым людзям…

“Служым людзям…” Бог служыць людзям? Гэта людзі служаць Госпаду, вераць у Яго. Даруй мне, Божа, што я вымушаны слухаць яго ерась!..”

Ён пра нешта казаў яшчэ. Захапіўшыся, размахваў рукамі, быццам дырыжыраваў вялікім аркестрам. Але я рабіў толькі выгляд, што лаўлю яго словы. Нават падтакваў… Мне патрэбна было цвяроза ўзважыць свае сілы. Ці хопіць іх, каб вырвацца з анатасаўскіх мярэжаў?

Да мяне нечакана даляцеў чыйсці голас. Ён гучаў ува мне, патрабавальна і папераджальна:

“Вось паўстане на цябе князь апраметнай, д’ябал, сатана, з палкамі сатанятаў сваіх і пачне распальваць страснае ў табе прыцягненне, угаворваючы і пераконваючы цябе спыніць барацьбу з гэтай страснасцю, падпарадкавацца ёй. Запэўніваючы, што так табе будзе лепей і спакойней. Не ты азірайся ў сябе. У той жа

час павінен гучаць для цябе папераджальны і ўсяляючы веру голас, які Анёл твой захавальнік ад твару ўсіх існых праваруч не праміне ўнушаць табе, кажучы: “Цяпер прапануюць табе змаганне з тваёй страсцю і другімі ворагамі тваімі”. Не палохайся і не бойся, і не ўцякай ад страху гэтага з поля барацьбы. Бо і Сам Гасподзь Іісус, Архістратыг твой, стаіць неўздалёк, акружаны тысячаначальнікамі і століначальнікамі Бесцялесных і ўсімі сонмамі Анёлаў святых, гатовы памагчы ў бітве супраць ворагаў тваіх і не дазволіць ім перамагчы цябе і перамагчы, як і паабяцана: Гасподзь будзе змагаром за вас…”

“Так, мой анёл-ахоўнік, згодзен, але, скажы, як мне выстаяць на гэтым полі барацьбы?”

“Прымусь сябе ўсімі сіламі не паддавацца спакусе і ўсімі сіламі пастарайся сцярпець спакушэнне, з глыбіні сэрца ўсклікні голасам сваім, паверыўшы ў выбаўленне: “Не здрадзь мне, Божа, не аддавай мяне на пагібель ворагам маім!..”

Мне цяжка раскрыць вусны мае, і пагэтаму я голасам душы маёй ужо ўслых звяртаюся да яго:

– Што яшчэ патрэбна Богу ад мяне?

А ў адказ маўчанне, і толькі праз некаторы час, праз стагоддзе ці нават і болей, пачуў глыбокі ўздых:

– Падай ніц перад Госпадам тваім, да Уладычыцы Багародзіцы, да ўсіх анёлаў і святых. Усклікні і вер, што атрымаш тое, чаго просіш. Абавязкова прыйдзе дапамога, і ты пераможаш, бо і напісана: “Пішу вам, маладыя, падбадзёраныя і смелыя ваяры, таму што вы перамаглі д’ябла” (І Ін. 26:13).

– Але ж у мяне недастаткова сілаў змагацца, мой Голас і Анёл! Як быць мне ў маёй слабасці? Хаця і меч мне ўкладзены ў рукі з двух бакоў востры, але ж мне патрэбная сіла падняць яго…

– У слугаў Госпада слабых не бывае. Няхай ты нямоглы, няхай ты і слабы, і хадзіць нават не можаш, і звязаны слабымі навыкамі і схільнасцямі, і ворагі твае неймаверна моцныя, і незлічоная колькасць іх, але… Але нашмат вялікая табе дапамога ад Таго, Хто стварыў цябе, – Бог Абаронца твой у змаганні гэтым, як і напісана: “Гасподзь міласэрны і моцны, Гасподзь непераможны ў змаганні” (Пс. 23:8). Ён жадае выратаваць цябе раней, чым вораг пашле пагібель на цябе… Знайдзі, знайдзі ў сабе сілы, адшукай у сабе жаданне перамагчы і пазбавіцца ад улады д’ябла.

– Я знайду, Божа, знайду!

## Частка трэцяя

### *Паратунак*

1

Начальнік апраметнай сядзіць перада мною, пазіруе.

Ён нейкі млявы, найбольш маўчыць. Нават заплюшчвае вочы – як усё роўна не выспаўся, – хавае вочы ці сапраўды напрацаваўся на сваёй бізнесменска-люцыферскай дзялянцы? Мне ўжо не хочацца гаварыць яму, каб глядзеў на мяне, бо без позірку цяжка скончыць партрэт, – усё роўна будзе рабіць па-свойму…

І я таксама перамяніўся. Стаў абыякавы і да свайго становішча, і да таго, як рухаецца выкананне заказу, – “пабыўка дадому” наклала нейкі свой, незразумелы, адбітак.

Праца над партрэтам пасоўвалася марудна. Хаця, здавалася, што зусім блізка ўжо да завяршэння. Заставалася хіба толькі дэталізацыя найтанчэйшым – у тры валаскі – пэндзлікам – і партрэт гатоў. Але цяпер такой перакананасці не было.

Гляджу на задумлівага Анатаса, бачу, што колер твару ў яго зноў іншы, не такі, як намаляваў перад гэтым. Зямлісты, шэры, з адценнем сінявы... І капялюш перайначыўся. Калі лепей разгледзець, то льга падумаць, што ён выраблены са скуры балотных гадзюк – чорных, са слабым адценнем арнаменту. А то здавалася, што тыя гадзюкі і ўвогуле жывыя, ды толькі паснулі на галаве...

– Ты сёння нейкі іншы, мой капітан?

– Ды спаў кепска, сны сніліся цяжкія.

– Я не пра тое. Рысы твару зноў памяняліся… Колер, ды і позірк... Адрозніваецца ўсё ад ранейшага...

– Можа быць... Але ты на тое і майстра, каб дамагчыся еднасці і пэўнасці. Я ж яшчэ ў навабеліцкай майстэрні казаў табе, што не копію, не валасок у валасок, а абагуленае, вывярні мяне да падабенства.

– Такое не пад сілу ніводнаму мастаку.

– Згодзен. Ніводнаму. А табе – пад сілу.

– Я стараюся, але сапраўдны твой твар так і не магу злавіць. Чаму ты кожны раз мяняешся? Спецыяльна, каб пазлаваць мяне, ці такія ў цябе жарты?

– Не ведаю. Я проста не ведаю, што мяняюся, – не адчуваю. Можа, усё тое залежыць ад настрою, ад таго?

Капітан кісла ўсміхнуўся, паглядзеў у бок акна, за якім раз-пораз успыхвалі агеньчыкі – як хто працаваў з электразваркай, зноў схіліў галаву.

– Можа і так... Мой камандзір… Усё запытацца хачу: а ў цябе ёсць жонка, дзеці?

Ён выпрабавальна зірнуў на мяне, але не здзівіўся пытанню.

– Жонка? Дзеці? Хм... Ды неяк не сабраўся... Работа, мусіць, мая вінавата. Сёння – у Еўропе, заўтра – у Азіі... А то зусім на другім канцы Галактыкі. Якая, скажы мне, дарагі майстра, жонка вытрымае такія мае адлучкі?

– Ніякая, – згаджаюся, адначасова стараюся больш дэталёва прыгледзецца да рысаў твару. – Няма такіх...

– Але ў мяне ёсць суцяшэнне, спадар Антон. Бо ёсць у мяне дзеці. І – нямала іх. Можна сказаць, па ўсім свеце. Жанчына – натура блудлівая, яе спрадвечны інстынкт да спаравання адабраў ад яе розум, і яна, каб атрымаць тое задавальненне і асалоду, гатовая і жыццё аддаць за хвіліну яднання з мужчынам... І што дзіўна – чым прыгажэй жанчына, тым больш яна плавіцца пад позіркам, быццам воск... Вось у розных сем’ях і жывуць, бегаюць мае хлопчыкі і дзяўчаткі. А колькі іх павырастала ўжо і дзяцей колькі нарадзілі, уга! Яны ўсе – вучні маёй школы клонаў.

– Дык колькі ж табе тады гадоў, Анатас? – спяшаўся я скарыстаць яго шчырасць.

– А ты можаш угадаць, браце Антон. І не памылішся. Колькі скажаш, столькі і будзе. Мы з Кошай Бессмяротным і Бабуляй Ёжкай з аднаго цеста вылепленыя...

Мне падалося, што капялюх яго пачаў ажываць, арнамент зноўку прыйшоў у рух – мяняўся, пераліваўся рознымі колерамі. Я адхіснуўся – нейкісьці ўнутраны страх падкраўся да мяне.

– Можа, яны твае родныя бацькі, Анатас? Не крыўдуй на такія пытаннечкі – душыць мяне цікавасць, хоць памры...

– Ды пра што размова... Для мяне няма такіх пытанняў, на якія я не меў бы адказ. Толькі тут усё наадварот – яны мае дзеці, такія, як у цябе Жанета і Павал...

– Ды я і баюся вызначыць твой узрост, мой капітан. Ты, мусіць, жывеш столькі, колькі існуе Сусвет і ў ім чалавек… Ты – несмяротны.

– Правільна. У самую кропку.

– Паверыць цяжка, але…

– Але гэта, дарагі мой дружа, неабвержаны факт. Ісціна. Як формула грыдпіс.

Зноў мазок, за ім другі, трэці... Ужо разоў з дзесяць мяняў колер твару, вочы. Заставалася толькі нязменнай пастава, ды і тая не заўсёды, як пераканаўся, адпавядала сапраўднасці – мянялася і мянялася.

Зрабіў крок назад. Адчуў страх, падобны на той, калі ў лесе нечакана сустрэнешся з гадзюкай... Але ўспомніў словы айца Георгія, ўзяў сябе ў рукі. Мазок, другі, трэці...

– Анатас – гэта тваё не сапраўднае імя, як я зразумеў. Псеўданім... А якое ж сапраўднае?

– *Легіён імя мне, таму што нас шмат, і вельмі шмат...*

“І ў кожным сядзіць маленькі сатанінчык? І не адрозніць, выдзяліць нельга нікога з людской масы – з жыхароў планеты... Яны – скрозь, яны – усюды і паўсюль...”

Прымушаў сябе заставацца спакойным і памяркоўным. Тое ўдавалася з вялікай цяжкасцю.

– Якое сапраўднае імя? А якое назавеш, такое і будзе адпавядаць ісціне. Я – і Сатана, і Люцыфер, і Нэма, і Камандзір… Хоць тысячы імён давай, усё будзе праўдай!

– Во яно як.

– Здаецца, заканчваеш ужо зусім працу, Антон?

– Амаль што! – адклаў убок пэндзаль. – Яшчэ адзін сеанс – на паўгадзіны-гадзіну, – і можам лічыць, што заказ выкананы.

Алкепаў, не спяшаючыся, падняўся з крэсла, пацягнуўся. Некалькі разоў прысеў, адначасова размахваючы рукамі, пакруціў галавой, вяртаў фізічную форму. Я тым часам мыў пэндзлі ў растваральніку і ацэтоне, выціраў іх паркалёвым ветахам, ставіў у глечык. Яніна скардзілася Ясю на нешта. Здалося, што хвост Мышука мільгануў між іх... Анатас Алкепаў у задуменні спыніўся каля мальберта. Углядваўся ў самога сябе. Не здзіўляўся, не радаваўся, не абураўся… Мне напачатку карцела ўсё ж задаць у такім разе пытанне “ну і як табе мая праца?”, але змоўчаў. Бо і мне ўжо, урэшце рэшт, было ўсё “да фені” – ўсклікне ён ухвальна ці збракуе маю працу...

– А што? Нічога, скажу табе... І я, і – не я... І падобны, і непадобны... Ну, можа, і сапраўды не стае апошніх штрыхоў, якія

і паставяць усё на месца... Ёсць, ёсць нешта, Антон, у тваёй працы настолькі таямнічае, што я пакуль да яго дакапацца не магу... Ты шмат чаго зашыфраваў у маім партрэце… Шыфравальшчык… Значыць, яшчэ ёсць і загадка, ёсць у ракавіне жамчужына!.. Так што хвалю, хвалю. Абраз атрымаўся!

Што я чую? Не веру, што Алкепаў гаворыць шчыра, не веру, што яму спадабалася зробленае… Мо мяне крыўдзіць не хоча, а мо і ад душы гаворыць, хто ведае... Разбярыся з ім, у душу яго не зазірнеш… Ён то адыходзіў колькі крокаў назад, і ўжо на адлегласці пільна ўглядаўся ў самога сябе, то зноў падыходзіў, нечаму здзіўляўся, а нечага, мусіць, і не разумеў... Але больш не гаварыў ніякіх слоў...

Я стаяў каля акна. Глядзеў у белае малозіва туману. У гэты момант сябе чамусьці параўнаў з пасажырам, які чакае прыбыцця цягніка, але не мае на руках квітка, не ведае нават, у якім кірунку яму трэба адправіцца ў падарожжа, як і не ведаў, калі прыйдзе той поцяг і ці ўвогуле прыйдзе…

– Во-во... – праказаў незразумела да чаго.

Працяглы час доўжылася маўчанне.

– Мне падабаецца, Антон, – нарэшце адышоў ад партрэта Анатас і стаў побач са мною, паклаў руку на плячо. – Падабаецца. Дужа. Не дарэмна, значыць, я ўклаў у цябе грошы. Хаця якія гэта грошы, дробязь... Так што пад нашай дамовай, не, пад нашым актам па здачы і прыёме выпрацаванай прадукцыі, я стаўлю такі подпіс: “Мастак Антон Клімовіч выдатна справіўся з пастаўленай перад ім задачай. Здадзеная прадукцыя – якасная і геніяльная”.

– Мяне гэта радуе. Значыць, я вытрымаў экзамен?

– Вытрымаў, і на выдатна. Засталося толькі гэты партрэт паказаць прадстаўнікам Вярхоўнай Рады, каб яны зацвердзілі. Але тое ўжо не будзе ўплываць на агульнае рашэнне. Апошняе слова за мной. Як я скажу, так і будзе.

– А што гэта такое – Вярхоўная Рада? – павярнуўся да яго. – Ты ж мне пра яе, здаецца, ніколі і не гаварыў.

– Не гаварыў. А цяпер кажу. Перад тым, як ты вернешся дадому, павінен папрысутнічаць на гэтай радзе. Табе будзе цікава. Як і падарожжа дадому… Удзельнікі форуму вынясуць свой вердыкт, але той, які я ім прадыктую. Павінен жа я раіцца са сваімі памагатымі. Я ж не дыктатар які-небудзь, не Ірад, урэшце рэшт,

пра якога ты паспрабаваў напісаць... А ты заадно пазнаёмішся з тымі, хто жыве побач з намі. Гэта, далажу табе, цікавыя асобы, гістарычныя. Стагоддзі і тысячагоддзі з'явяцца перад тваімі вачыма... А ты вырашыш свой дальнейшы лёс. Хаця ён і так прадвызначаны.

2

Калі ляжаў яшчэ ў ложку, наведаўся да мяне капітан Нэма.

Я прывык ужо, што ён завальваўся да мяне без папярэджання і запрашэння, і пры тым ніколі не прасіў прабачэння за сваю бесцырымоннасць. Ці ў іх тут так прынята?

– Як спалася, Антон?

– Ды нічога, сны добрыя бачыў.

– Добрыя – гэта якія? Багацце снілася, дзяўчаты?

– Ні тое, ні другое... Снілася, што лётаў, зямлю бачыў зверху, з космасу, як касманаўт.

– Адтуль, дзе Бог жыве? – удакладніў капітан...

– Можа і так, – не падхапіў яго словы, як быццам не зразумеў падначкі, – снілася яшчэ, што партрэт твой скончыў. Прысніўся ключ, пры дапамозе якога я і скончу працу... Сёння.

– Скончыш, пранепраменна скончыш, – згадзіўся Во-во, ужыўшы нашую паляшуцкую трасянку. Я яшчэ раз схадзіў у майстэрню, зірнуў на партрэт.

– Во-во, – пад'юдзіў яго. – Дай Божа нашаму цяляці воўка з'есці...

Але ён прапусціў маё блюзнерства міма вушэй.

– Я абяцаў пазнаёміць цябе са сваімі даследаваннямі, – павольна прамовіў капітан, – паказаць табе сваю лабараторыю...

– Абяцаў...

– Ёсць жаданне зазірнуць у святую святых? Не прапала ахвота? А то пакінеш неўзабаве мяне, і не ўбачыш самага галоўнага.

– Не, ахвота не прапала. Першую прапанову здзейсніў – у адпачынку я пабыў. Цяпер прыйшла чарга і да другой.

– Тады пасля вячэры чакаю цябе ў вестыбюлі?

– Хіба цяпер вечар? – здзівіўся я, паглядаючы па ранейшай звычцы на акно, быццам яно магло мне пра нешта сказаць...

– Вечар... Ты лёг раніцай, а прачнуўся вечарам. Столькі ты знаходзішся ў мяне, а не можаш зразумець наш час. Не сорамна, га?

Ён засмяяўся, устаў з крэсла, ступіў крок да дзвярэй.

– Мазгі, як бачыш, мае не варaць, – я пакруціў пальцам каля скроняў. – Шмат чаго не разумею, а ты не тлумачыш. Як не разумею, чаму пайшоў на пяць дзён, а знаходжуся ў цябе больш як тры гады. Не адчуў, як яны праляцелі. І час бяжыць, аказваецца, назад... Дык пастарэў на два гады – ці памаладзеў? Га? Хаця ты казаў, што мы стаім на месцы... На нуліку.

Анатас толькі зарагатаў ад маіх пытанняў:

– У Бога адзін дзень як тысяча гадоў, і тысяча гадоў як адзін дзень. Так, здаецца, у Пісанні? І ты не памаладзеў, але і не пастарэў. Застаўся на ўзроўні таго часу, як падняўся на “Алкеп”. У “безвременьи” ты аказаўся...

Да майго розуму, зноў жа, нічога не даходзіла.

– Вось пра гэта чую ўпершыню. Ведаю, што ёсць мінулае, цяперашні час, будучае. Але – “безвременье”. Бесчасоўе?

– І цяпер ты не можаш дапетрыць, што да чаго?

Анатаса скалануў смех, трэсліся плечы, і капялюш, здаецца, ходырам хадзіў на галаве, мяняўся колерам – як ажываў.

Я нічога не разумеў...

– Дык мне што – наканавана і заставацца ў гэтым “безвременье”? Як трапіў у нерат – ні назад ні ўперад.

Анатас перастаў рагатаць. Пасур’ёзнеў. Сціснуў губы і зубы. Глуха, як адкрываючы вялікую тайну, абвясціў:

– Можаш і так. Калі пажадаеш. Як і пажадала таго Яніна.

“І Яніна, як і я, ў палоне?! – апякло мяне яго прызнанне. – Сама захацела, ці паквапілася, як і я, на што-небудзь? Ды быць такога не можа... Нешта ж іншае прывяло яе сюды, значнае і прычыннае...”

– А што яна тут робіць? Чым ты яе паланіў, Нэма?

– Яна хацела заставацца заўсёды маладой і прыгожай. Хіба ж гэтага не жадаюць усе жанчыны? Жадаюць. Ды я і не кожную запрашаю сюды...

– Выбіраеш? Па конкурсе?

– Так, толькі так. Выбіраю. Праводжу тэставанне. Адбіраю самых прыгожых, самых разумных, і – самых адданых. Па ўсім свеце гэта праводзіцца. Я фінансую такія мерапрыемствы. Яны, удзельніцы, ведаюць пра тое, пагэтаму добра дрэсіруюцца, адданыя атрымліваюцца, далажу табе, сучкі.

– Адданыя – каму ці чаму? – удакладніў, падняўшыся ўжо з ложка.

– Адданыя ў першую чаргу самім сабе. Ніхто нікога не можа так кахаць, як мае канкурсанткі кахаюць і любяць саміх сябе, трымаючыся: хачу быць вечна прыгожай, каханай і маладой. Як у той песні – “І Ленін такі малады, і юны Акцябр, як дзіця…” Бачыш, нават сам Ленін са сваім Кастрычнікам імкнуўся да вечнасці і незыблемасці ў сваім вучэнні.

– Як гэта? Ты ўсё змяшаў у адну кучу – прэснае з салёным, камунізм, пекла, рай…

– Рай? Не хлусь самому сабе – яго зусім не існуе. Ён нідзе не апісаны – ні ў Бібліі, ні ў паданнях. А мой рай – удасканалены і высокатэхналагічны. І ён створаны па ўсіх правілах навукі, жаданняў, мрояў… Я надзелены боскімі паўнамоцтвамі.

– Боскімі?

– Так, тут мы з Ім паразумеліся. Толькі я мацнейшы за Яго.

“Бач ты, – пасмяяўся я, здзіўляючыся яго смеласці і пыхі. – З Кім спрачацца і спаборнічаць уздумаў?!?”

Засцяліў ложак, накрыў коўдрай, падбіў падушку і паставіў ражком уверх – як некалі ў гасцінічным нумары.

– Антон, ты ж павінен памятаць, як у старажытнасці людзі будавалі Вавілонскую вежу?

– А як жа!

– Гэта я падбухторыў іх на тое будаўніцтва, праўда, па маладосці не ўлічыў таго, што яны валодалі толькі адной мовай.

– І Бог потым змяшаў мовы. І мы будавалі тую вежу, толькі пад іншай назвай – камуністычны Алімп. Правільней – рай. Будавалі камунізм. Без Бога, само сабой. А што ў выніку пабудавалі? Ад. Пекла. Апраметную.Пекла ў раі...

Анатас моўчкі глядзеў на мяне, чакаючы, мусіць, працягу маёй тырады.

– А ідэя была вельмі простая – зрабіць народ краіны саветаў шчаслівым. Узялі на сябе функцыю Бога. Даводзілі, што кожны з нас – сам каваль свайго шчасця. Ты ж даводзіш адваротнае – прымусова зрабіць чалавека шчаслівым і задаволеным. Накарміць, напаіць, абагрэць бясплатна, як за кратамі ці ў псіхушцы, – і што, скажы мне, без дабраслаўлення Госпада атрымалася? Недаразвітыя і вар’яты рашылі, што яны мацнейшыя і мудрэйшыя за ўсіх. Скарылі атам – набылі Хірасіму, Нагасакі, Чарнобыль, галаўныя болькі з Іранам і Афганістанам, Лівіяй і Егіптам, Карэяй і Іранам… Сёння любы псіхапат можа адправіць ма-

тухну-зямлю ў скрыню – у труну. А дзве “Вавілонскія вежы” Нью-Ёрка ўжо там. На чарзе і сама Японія з яе звышудасканаленымі атамнымі станцыямі, які даюць быццам бы танную энергію…

– Так, усё так, мой галоўны мастак. Амаль што так.

– Не амаль, а ісцінна так… Ты капаешся ў Бібліі, хочаш прыстасаваць яе да сябе. Для чаго, скажы? У чым тут сэнс? Толькі не адвільвай ад прамога адказу.

Атрымлівалася так, што я пайшоў у атаку. Ці не на самога сябе?

– Усё робіцца для таго, каб стварыць новага чалавека – звышчалавека. Тым самым хачу выправіць памылкі Бога.

– Ну так... Свае ўжо ўсе выправілі. А якія, цікава?

– А ты, можна падумаць, сумняваешся ў тым, што яны ёсць? Тады адкажы на такое пытанне. Чаму гэта Ён стварыў такога недасканалага чалавека? Стварыў, а потым просіць яго ж, чалавека, каб ён выштукоўваў сябе сам, удасканальваў па Яго ж вобразе і падабенстве. І інструкцыю нават напісаў – Запаветы… Я ж хачу стварыць чалавека здаровага і моцнага. Бог упрошвае людзей, каб яны памяняліся, паграджае ім карай Гасподняй, калі не паслухаюцца. Просіць іх апамятацца, чакае цудоўнага перараджэння. А яны робяцца яшчэ горшымі і больш грэшнымі… А я хачу стварыць чалавека, які не прагне крыві брата свайго і сына свайго, які здолее спыніць чарговы, пяты, канец свету…

– Як і прадракаў Ісаак Ньютан, прачытаўшы прарока Данііла?

– Ты ведаеш пра тое?

– Знаёміўся з яго працамі ў Іерусалімскай іудзейскай бібліятэцы. Вы з Ньютанам у нечым падобныя, – адмаўленнем усяго існага…

– *Ісцінная вера і нараджаецца ў адмаўленні традыцыйнага,* і таму зацвердзіць яе без прымусу і жорсткасці немагчыма. Так, я згодзен, недзе я жорсткі, якім і павінен быць Д’ябал, які мае перад сабою мэту і жадае яе дасягнуць. А як жа інакш. Вось тут і выступае на пярэдні план ключавое слова – *мэта.*

– Слухай, мой капітан Нэма, Люцыфер, Д’ябал і гэтак далей, дык атрымліваецца, што ты і ёсць Бог?

Толькі лёгкая ўсмешка кранулася яго твару:

– Я – амаль Ён. Я – Яго лепшы друг і вораг. Нас нельга ўявіць адзін без аднаго, як нельга ўявіць дабрыню без зла, святла без цемры. Але што гэта мы з табой усё пра Біблію, пра хрысціян-

ства, быццам у нас няма іншых рэлігій. Я, напрыклад, выступаю за аб'яднанне ўсіх канфесій. А для гэтага і павінна быць створана я адзіная Біблія. Яна будзе простая, даступная для разумення кожнаму, не тое, што Стары Запавет і Новы. Асабліва Новы. Гэта вельмі дзіўная кніга, сатканая з супярэчнасцяў. На першы погляд – не складаная, быццам бы зразумелая кожнаму верніку. Але тут, як кажуць, і сабака зарыты. Проста так яе чытаць немагчыма, як і нельга непадрыхтаванаму розуму разабрацца ў вышэйшай матэматыцы. У ім ёсць старонкі, якія можна прачытаць толькі эмацыйна. А калі пачаць яе правяраць алгебрай – вышэйшая матэматыка, якой ужо больш за два тысячагоддзі.

Што ж, гаворыць мой апанент складна, нават пераканаўча. Толькі на чый млын ён лье ваду?

– А ці не здаецца вам, Анатас, – перайшоў я ўжо тэатральна на "вы", – не ведаю, як вас па бацьку…

– У мяне няма бацькі. Я – сам па сабе.

– Ці не здаецца вам, шаноўны мой апанент, што вы самі сябе абвяргаеце? То выступаеце як знішчальнік усяго непатрэбнага, а тут раптам казань непарушнасці. Дзе вы сапраўдны, а дзе падробка?

Мой апанент адразу ж кінуўся ў абарону сваіх выказванняў:

– Аніякай супярэчлівасці! Зноў трэба даказваць? Будзь ласка. У кожным з чатырох Евангеляў гучыць інфармацыя, якая свядома прадумана і грунтуецца на ведах. Асобныя месцы напісаныя з разлікам, каб той, хто чытае, знайшоў ці сустрэў нешта блізкае толькі яму, сугучнае яго думкам, – і ўсё дзеля таго, каб выклікаць рознагалоссе і недаўменне. І ўсе будуць мець рацыю, але і ніхто не будзе мець той рацыі. Кніга зачыненая і знаходзіцца за сямю пячацямі. І простаму смяротнаму не дадзена нічога ў ёй – ні зацвердзіць, ні абвергнуць. Вось гэта і ёсць непахіснасць. Мая непахіснасць. Зразумеў мяне, Антон?

Мой тэалагічны багаж і вопыт быў, прызнацца, далёка не роўны ягонаму. Калі пачыналася ў гутарцы, як ён казаў, вышэйшая матэматыка, я мог, і тое вельмі слаба, падтрымліваць размову. А на большае мяне не хапіла…

Але з усіх сілаў стараўся не выдаць сваёй слабіны, як мог, выкручваўся, вылузваўся. Радаваўся, калі мне ўспаміналіся радкі з Бібліі, прыводзячы ў недаўменне і здзіўленне субяседніка…

Як тлумачыў мне айцец Георгій, тое адкрывалася мне звыш.

– Тады растлумач мне, якую мэту ставіла гэтая Кніга? Свядома заблытвалі глыбінны сэнс, каб схаваць ад людзей галоўную тайну. Нешта не стыкуюцца, мой капітан, канцы з канцамі.

– Стыкуюцца, яшчэ і як стыкуюцца, мой дарагі мастак. Мэтаў такіх ставіла кніга перад сабой шмат. Але галоўная – даць будучаму чалавеку... па носе. Так, так, пстрычку па носе. Не смейся. Чалавецтва павінна было раздзяліцца на пакліканых і абраных. І толькі абраным былі даступныя вышэйшыя веды.

– А я, таварыш Нэма, пакліканы ці – абраны?

– Не хвалюйся – абраны. Але ж і сярод абраных ёсць свае абраныя, якіх адзінкі. Хрысціянская рэлігія – вельмі аскетычная і суровая. Галоўная яе ідэя – "Царства нябеснае". Але ж і яно належыць не ўсім, далёка не ўсім. Падкрэсліваецца, што вельмі вузкія вароты і вузкая сцяжына да яго, і таму не ўсе "выратуюцца". А хто не ўвойдзе, дык той салома, сухая трава, і таму і яна падлягае спаленню. Пра тое і ў Мацвея (3:10): "Ужо і сякера пры корані дрэва ляжыць; усялякае дрэва, якое не прыносіць добрага плоду, высякаюць і кідаюць у агонь..."

Д'ябал, забыўшыся зусім, што пазіруе, устаў з крэсла і пачаў хадзіць па пакоі. Пры гэтым рукамі размахваў, быццам у руцэ трымаў тую сякеру. А я не спыняў працу, да аднаго мазка далучаў і другі, і трэці... На гэты раз слухалася рука, больш пільным стала вока.

– Ды разумееш, браце Антоній, прарокі заклалі ў Евангелле ідэю выключнасці, а цяжкасці "выратавання" настолькі адкрыта выпяцілі, што ім і самім прыйшлося выкарыстоўваць хлусню і крывадушша. Укласці ў Ісуса сентыментальную ідэю – ужо сусветнага выратавання. А гэта далёка, вельмі далёка ад сапраўднага хрысціянства. Вельмі далёкая ад Яго і роля сацыяльнага рэфарматара, якую часта прыпісваюць Ісусу. Але, калі быць ужо зусім шчырым, скажу так: яшчэ болей аддаленая ад хрысціянства рэлігія "пекла і граху", якую прынялі сучасныя сектанты...

– А хіба яны не памыляюцца – ні пекла, ні рая не існуе?

– Тэкст Тэтраевангелля ў перакладах вельмі скажоны. Перакладчыкі ці перапісчыкі дапускалі вольнасці, памылкі, "адсябеціну". Перараблялі на свой капыл і лад. Але самая вялікая блытаніна, на мой погляд, адбылася з Д'яблам. У ранніх Евангеліях яго нават і ў паміне нідзе няма. Возьмем вядомую малітву – "Ойча

наш”. Словы “пазбаў нас ад ліхога” ў англійскім і нямецкіх перакладах адпавядаюць грэчаскаму і лацінскаму тэкстам. Але затое, не як дакор табе, Антоне, безумоўна, як хрысціяніну, у царкоўна-славянскім і расійскім перакладах напісана: *“избави нас от лукавого*”. Адкуль ён узяўся, хто Яго прыдумаў, не разумею. Сустракаецца такі тэкст і ў некаторых французскіх перакладах – *“mais deliver du Malin”.* А ў італьянскім – “*ma liberaci dal maligno”.* Евангельская міфалогія ў цэлым перацярпела значныя змяненні. “Д’ябал” ці – ілжэц, хлус, спакуснік, у першапачатковым тэксце сэнс-імя, якое можна было аднесці да любога хлуса. Уплыў сярэднявяковай дэманалогіі адыграў сваю ролю, і таму цяжка зразумець і пагадзіцца з тым, што агульнай ідэі д’ябла як такой у Новым Запавеце няма. Няма – і ўсё тут. У ім толькі ідэя зла, выкуплення, ідэя дэманаў і іх князя, нячыстага духа. Так, згодзен, прысутнічае эпізадычна Сатана, – то я спакушаў Іісуса. А ў выніку ўсё гэта не стыкуецца адно з другім. У іх закладзены толькі элемент алегорыі, і таму яны вельмі аддаленыя ад сярэднеявечнага разумення д’ябла.

– Не ведаў, Кошчык Нессмяротны, пра гэта, не ведаў. Ну і далей… Слухаю, уважліва слухаю.

– Хачу адзначыць, што гісторыя біблейскіх перакладаў суправаджалася ланцугом трагедый. Вось дзе мне прыйшлося папрацаваць, скажу табе! Афіцыйна перакладаць Стары і Новы Запавет дазволілі ўсяго пяць стагоддзяў назад. Да гэтага пераклады Свяшчэннага Пісання лічыліся страшным грахом.

Першым паспрабаваў перакласці на ангельскую мову Джон Уікліф. Суайчыннікі давялі яго да апаплексічнага ўдару, а пасля асудзілі на Рымскім саборы ў 1412 годзе і па пастанове Сабора выкапалі яго з магілы, спалілі. А яго паслядоўніка, чэха Яна Гуса, які прапаведваў, што Біблію павінны чытаць народы свету, спалілі жывым. На той тэрыторыі, дзе ты пражываеш, за пераклад Бібліі ўзяліся задоўга да Уікліфа – у 863 годзе. Перакладачамі выступілі асветнікі грэцкага паходжання Кірыл і Мяфодзій, ты ведаеш. Мяфодзія, які знаходзіўся ў Еўропе, злавілі немцы і пасадзілі ў манастырскую турму. Чатыры гады яго білі, голым выкідвалі на мароз, цягалі за валасы, цягнучы па вуліцы… Такая была помста немцаў за тое, што ён быццам зняславіў Свяшчэннае Пісанне, перавёўшы яго на мову варварскага племені. У Еўропе лічылі, што ўсхваляць Бога можна толькі на трох мовах, на якіх быў

зроблены надпіс на Крыжы Гасподнім: яўрэйскай, грэцкай і – лацінскай…

– Не ведаў пра такія падрабязнасці…

– І яшчэ: “иже еси” – як перавесці на расійскую мову? Аніяк. Няма такога перакладу. Дзіўна, але за тысячу з хвосцікам гадоў шмат якіх слоў змяніла першапачатковы сэнс, і таму вернікі з-за гэтага няправільна разумеюць малітву. Як я казаў выраз “и не введи нас во искушение” да спакушэння ў сучасным разуменні гэтага слова увогуле не мае ніякіх адносінаў. Таму што “искушение” яшчэ ў IX стагоддзі мела сэнс “испытание” – выпрабаванне. А пазней дык яно набыло нейкае, я сказаў бы, сексуальна-грахоўнае адценне.

– Тады як, на твой погляд, павінна гучаць правільна малітва? У перакладзе на маю мову?

– А хаця б так:

*Ойча наш у нябёсах,*
*Няхай будзе святым імя Тваё,*
*Ды выканаецца і на зямлі воля Твая, як на небе,*
*Дай нам сёння надзённы наш хлеб*
*І даруй нам нашыя даўгі,*
*Як і мы даруем тым,*
*Хто нам павінен.*
*Не падвяргай нас выпрабаванню,*
*Але абарані нас ад злодзея…*

– Можа, хаця вялікага адрознення не бачу…

– І яшчэ пра адно скажэнне: чацвёртая частка Евангелля апостала Мацвея. Там ёсць сцэна спакушэння ў пустыні. Ісус Хрыстос, паводле грэчаскага тэксту, кажа д’яблу: *“Ідзі за мной”*. У царкоўна-славянскім чытаем: *“Следуй за мной”*. Але ў рускім, англійскім, французскім і італьянскім тэкстах гэтае месца пераведзена ўжо інакш: *“Отойди от меня, Сатана!»*”А праз восем вершаў (ад Мацвея (46:19) Хрыстос кажа рыбакам: *“Идите за мной”*. Ці – *“Следуйте за мной”*. Такое падабенства – зварот да д’ябла і да рыбакоў – павінна мець вызначальны сэнс. Перакладчык, напэўна, угледзеў у гэтым абсурд: навошта Хрысту жадаць, каб д’ябал ішоў за ім? У выніку гэтага і з’явіўся вядомы на ўвесь свет выраз: *“Отойди от меня, Сатана!”* ці – *“Изыди, Сатана!”*. У дадзеным выпадку, я бачу толькі адно: Сатана адлюстроўваў сваім вобразам бачны, фенаменальны

свет, якім ні ў якім разе не павінен «адыходзіць», а толькі служыць унутранаму свету, лучыць за ім, крочыць за ім…

“Бач, як стараецца, бач, як распінаецца абвергнуць святыя словы Вялікай і Святой Кнігі… Давай, давай, старайся, ды ўсё роўна абламаеш свае зубы!”

– Прызнайся, даследчык і крытык мой – камандзір апраметнай, мусіць, ты паклаў на гэта ўсе свае сілы і жыццё, ці не так? Я ўражаны глыбінёй і доказнасцю тваіх ведаў, таму заслугоўваеш пахвалы.

– Сілаў паклаў і шмат, і няшмат… Да ісціны я ішоў усё жыццё, гэта праўда. І з «хлебом насущным» перакладчыкі намудрылі. Легендарнае жыццёвае жыццеапавяданне Іешуа патрабавала ўвядзення ў тэкст умоўных фігураў, што дапамагло стылізаваць Яго пад прарока, настаўніка, месію, Ратаўніка-Збаўцу… А быў ён усяго толькі равінам, бо і вучні Яго звярталіся да Яго: “Раві!”. Гэтыя паданні, падагнаныя пад вобраз Хрыста, выкарыстаныя з самых розных крыніцаў. Нешта ўзята з іўдаізму, штосьці з будызму, паданняў Старога Запавету, а шмат чаго і з грэчаскіх міфаў… Паданне пра нараджэнне Дзевай Марыяй Ісуса непасрэдна ад самога Бога ўзнікла значна пазней за евангельскія тэксты. Міф пра тое, што Іешуа – у літаральным сэнсе – Сын Божы, ствараўся паступова, на працягу некалькіх стагоддзяў. І хаця дагматычны хрысціянін будзе адмаўляць язычніцкае паходжанне гэтай ідэі, яна, бясспрэчна, узята з грэчаскай міфалогіі… Ні ў адной з рэлігій няма такіх цесных кантактаў і ўзаемаадносінаў паміж боствамі і людзьмі, як у грэчаскіх міфах. Усе паўбогі, тытаны і героі Грэцыі былі сынамі боstваў. Ну, ды ладна, не будзем больш пра тое. Гэтая тэма – бясконцая…

Я быў згодзен з ім, ды і стаміўся так, што больш і слухаць не хацеў яго. Сапраўды: ад вялікіх ведаў шмат скрухі. Ноч спаць не буду. Ён апамятаўся, паглядзеў на мяне. Хіба толькі цяпер зразумеў, што з натуршчыка ператварыўся ў агітатара і прапагандыста?

– Мы так і не закончылі сеанс, Антон?

– На жаль, не. Што ж, адкладзем… Я прывык ужо да незавяршэння. Ладна, што ўжо цяпер. Але і сённяшні дзень значна прыблізіў да фіналу.

Ён вінавата ўсміхнуўся:

– Прабач, майстра! Панесла мяне нешта сёння. Я выпраўлюся, вось пабачыш. Пацярпі мяне ўжо такога.

– А што паробіш, цярплю.

Ён выйшаў з пакоя, а я яшчэ доўга асэнсоўваў сказанае ім. Прыкідваецца? Блюзнерыць? Хто ж ён тады на самай справе? Таленавіты вучоны ці геніяльны філосаф, які выбраў сабе незразумелую дарогу і прафесію? Калі ж жульвернаўскі капітан Нэма пакінуў свет і пачаў служыць дабру і справядлівасці, то чаму прысвяціў сябе капітан "Алкепа"? Дабру ці злу? Святлу ці цемры? Навуцы ці невуцтву? Жыццю актыўнаму ці смерці? І пры гэтым прэтэндуе на пасаду Бога...Ну і ну...

3

... Афіцыянтка, калі прыйшла да мяне, выглядала нейкай сумнай, як быццам плакала перад гэтым.

– Здарылася што, Яніна?

Не адказала, толькі паціснула няўцямна плечуком – чамусьці не глядзела на мяне, як баялася. Ці мы перад гэтым пераступілі нейкую нябачную мяжу – і тое стала вядомым?.. Нездарма ж Анатас намякаў на нешта.

Да каньяку, што прынесла Яніна, не дакрануўся. Не хацелася туманіць мазгі. Мне патрабаваўся ясны розум, каб ацаніць да канца сітуацыю, у якой апынуўся і жыў.

Яніна моўчкі пайшла ад мяне.

Не магла ж яна за нешта пакрыўдзіцца на мяне – нашыя ж шляхі на караблі не перакрыжоўваліся. А мо і перакрыжоўваліся, ды я не ведаў пра тое? Марудзіў, не падымаўся з крэсла. Нешта перашкаджала мне тое зрабіць...

За акном сутонілася шэрань, насоўвалася чорная сцяна... Потым усё гэта перамянілася на светлае, быццам пачало ўзыходзіць сонца і першыя промні стукаліся ў шыбы. Падалося, што мы праплывалі паўз маю родную вёску Крушнікі. Праплывалі па рацэ, якой і не значылася блізу яе. Вунь і двор Зюнеў, агароджа са штакетніку. А вунь і сам Зюнё размаўляе з Пятром Кашаедам і Язэпам Крупой, што прыехалі з Мінска... Стаіць дзед Міхась, баба Міхаліна, цётка Юзя – Зюнева маці... І баба Настазя са сваёй дачкой, Яняй, стаіць – маёй, значыць, маці... Вунь і масток праз рэчку, які звязвае два рукавы вёскі – Будкі і Тросніцу...

А вунь Толя Кашэвіч, сусед мой, трохі старэйшы за мяне, ладзіць мне лук з дубовай галіны. Пад высозным, за трыста гадоў, дубам,

углядаецца ўдалячынь. Да яго падыходзіць дзед Міколік, нешта тлумачыць…

Соладка забілася сэрца – мае родныя Крушнікі! Як даўно праведваў цябе, мая вёска, даруй за гэта! Даўно чуў галасы крушнічанаў з іх адмысловай гаворкай – родзічаў і чужых,– але ўсе яны для мяне родныя і блізкія... А потым плылі паўз Спрымачоў, Буду Казіміраўскую... А пасля і бацькава вёска паказалася – Зялёны Мох... Пазнаваў хаты і двары, пазнаваў людзей, і хацелася крыкнуць майму заказчыку: “Анатас! Спыні свой карабель, выпусці мяне на волю! Нічога не хачу ў гэтым жыцці – ні славы, ні грошай, ні бяссмерця, – толькі выпусці мяне на свабоду!..”

Але здушыў у сабе гэты вокліч, праглынуў яго. Бо ведаў, што гэта толькі прывід. І ці не Алкепаў распальваў ува мне настальгію і трызненне па родных мясцінах, каб я ішоў на ўсе саступкі, спадзеючыся на яго ласку і міласць... Аб шыбы нешта церлася – як быццам вецер гайдаў галіны вішанніку ці яблыні. Далей пейзажы ўжо змяняліся на незнаёмыя і чужыя, і ўжо не ведаў, па якіх мясцінах імчаў карабель д’ябла, па якіх мы плылі водах, па тэрыторыі якой дзяржавы? Ці ляцелі? У якой тады галактыцы?

Не ведаў, а пра тое мне ніхто не казаў, ды і папытацца не было ў каго...

Князь апраметнай сядзеў ужо ў крэсле – чакаў.

Калі ж убачыў мяне, падняўся, выпрастаўся, пайшоў, танцуючы, насустрач, – як быццам не ён быў маім камандзірам-начальнікам, а я меў над ім уладу.

Вочы, якія, як і раней, розніліся колерам, цяпер зялёныя – як у ката Цэзара. Здаецца, пасвятлела шчэць на вострай – клінам – барадзе.

– Мой капітан, па вашым загадзе яфрэйтар мастацкіх войскаў Антон Клімовіч прыбыў! – далажыў па-вайсковаму, выцягнуўшыся ў струнку, прыклаўшы сашчэпленыя пальцы далоні да сцягнякоў – жартаваў, само-сабой, здзекаваўся, найбольш, мусіць, з самога сябе і з той сітуацыі, якая працягвала развівацца па складзеным ім сцэнарыі.

– А я табе і не загадваў, – буркнуў без злосці Тыран, павярнуўся да мяне спінай, як падахвочваў ісці за ім – першы ступіў крок наперад. І ўжо ідучы, дадаў як бы з папрокам: – Ты ж сам напрасіўся...

– Сам, Люцыферчык, сам! З тваёй, прызнацца, падачы. “Ты нясі мяне, нясі, конь незацугляны-ыы...” – заспяваў я, павольна ідучы следам, баючыся наступіць яму на ногі.

Мы зноў апынуліся ў ліфце. І панесла нас не ўверх, як я думаў, а ўніз. У мяне пахаладзела ўсярэдзіне. Некуды падскочыла сэрца, як усё роўна сарвалася са свайго месца і пачало бунтаваць, няздольнае падпампоўваць кроў да галавы. І галава была гатовая трэснуць, раскалоцца, як гарбуз, які скаціўся з даху і гэпнуўся долу... Схапіўся далонямі за скроні, сціснуў іх, што было сілы, ратуючыся ад болю, верачы, што такім чынам змагу сцішыць яго, утаймаваць...

Алкепаў як і не заўважаў майго стану... І нехта, незнаёмы, сапучы над самым вухам, стоячы позаду, з’едліва хіхікаў, папярэджваючы: “Не хадзі ніколі за азадкам. А не можаш быць першым, то зусім спыніся...” Хто гаварыў, не ведаў, як і не ведаў, каму належаў той голас – мужчыну ці кабеціне– і да каго ён гаварыў... Але ж тыя словы былі звернутыя, мусіць, да мяне.

Пакрысе боль пачаў аціхаць. А мы ўсё спускаліся і спускаліся (да цэнтра зямлі?), несліся, мусіць, з шалёнай хуткасцю, мо і шпарчэй за хуткасць свету. І – куды? На языку горка і кісла – быццам набраў поўны рот медзякоў.

Тыран стаяў, прызадраўшы галаву, глядзеў некуды ў столь, дзе адлюстроўваліся ў люстры нашыя твары. Мусіць, хуткасць ліфта пачала змяншацца, бо зноў мае скроні адчулі той жа, ранейшы, боль; але ён ужо не павялічваўся, але ж і не змяншаўся. Падлога пад намі злёгку тарганулася, і ліфт спыніўся на апошнім прыпынку. Адчуў палёгку, пасвятлела ў вачах...

Ён узмахам рукі запрасіў мяне да выхаду. Пераступіў парог, пачуў незразумелыя гукі – ці то спявалі птушкі, ці то пераліваўся-журчэў па каменьчыках звонкагаласісты ручэй.

Мы апынуліся ў лесе. Скрозь раслі бярозы і сосны, алешыны, яшчэ нейкія невядомыя мне дрэвы. А між імі грувасціліся, адно на адно, нейкія прыборы – як камп’ютары, з вялікімі экранамі маніторы. Нагадвалі пульт кіравання на чарнобыльскай атамнай станцыі, дзе я быў.

Міргалі-пераміргваліся сінія, зялёныя і чырвоныя лямпачкі з вальфрамавымі нітачкамі; асобныя экраны паказвалі нейкіх людзей, нейкія іншыя жыцці нейкіх іншых сусветаў; пад нагамі цвёрдае пакрыццё шэра-зялёнага колеру... Побач з намі цвіў бэз і ча-

ромха, і пахі іх церпка разлягаліся навокал. Спевы птушак чуліся, але чамусьці ніводнай не бачыў.

Чакаў ад Д'ябла тлумачэнняў, але ён і не збіраўся іх рабіць. Мусіць, лічыў непатрэбнымі: папярэдзіў жа, што павядзе ў "святую святых" – у сваю засакрэчаную лабараторыю. Ды і я сам на тое даў згоду... На языку і ў мяне не было ніводнага пытання. Капітан не спыняўся, а я не адставаў. Ішлі не вельмі хутка.

Мінулі мосцік праз неглыбокую і чырвоную раку, і, здалося мне, што з вады вытыркнуліся насы кракадзілаў; над намі праляцела нейкая гіганцкая птушка, павольна махаючы крыламі; на паваротцы ракі, што знікала за высокімі дрэвамі, піў ваду дыназаўр – галава на даўжэзнай шыі апусцілася да вады... Грэўся на сонцы удаў, скруціўшыся ў дзясяткі кольцаў, ляжаў пад кіпарысам...

А начальнік пекла прыспешваў, паскараў ужо крокі, не аглядваўся. Дарога, пэўна, яму знаёмая, крочыў па ёй, мусіць, не першы раз, не першы год, не першае стагоддзе... Нешта мурлыкаў сабе пад нос. Перад намі расчыніліся дзверы – але ўжо не будынка, а высокай шэра-шызай гары, па якой слаўся аксамітны мох. І дзверы тыя былі незаўважныя, бо з'яўляліся часткай той гары – зліліся з яе колерам. І Анатас не націскаў ніякіх кнопак, не ўзмахваў рукой, як чароўнай палачкай, не гаварыў "сезам, адчыніся". Уваход пазнаў свайго гаспадара, Люцыфера, Ілжэпрарока.

Амаль адначасова пераступілі парог, бо ішлі поруч, упобачкі. І за намі зачыніліся дзверы, засунулася, стала на сваё ранейшае месца, аграмадністая глыба, ужо з гэтага боку, злівалася з агульным шэрым колерам. Як усё роўна пастка зачынілася за намі.

Прайшлі колькі крокаў па шэра-зялёным покрыве суцэльнага паласа, спыніліся. Павярнуўшыся да мяне, капітан абвясціў:

– Ну, вось, мы з табой знаходзімся ў маім царстве-валадарстве. Тут, у асноўным, я і праводжу свае дні і ночы, калі адпачываю пасля працы. Тут мяне ніхто і нішто не турбуе. І ніхто сюды не мае доступу. Ты – першы. Тут падпітваюся энергіяй і я, і мае атамныя прыборы. Уран і цырконій даюць нам сілу, энергію.

Мне не хацелася нават папытацца, чаму выпаў такі гонар знаходзіцца тут. Памятаю, што ўжо цікавіўся гэтым, пачуў вычарпальны адказ. Таму палічыў за лепшае памаўчаць. У Д'ябла добры настрой – вясёлы, у вачах зыркія агеньчыкі, у голасе лагоднасць і задавальненне. А ў паходцы – лёгкасць і паветра-

насць: здавалася, не дакранаўся нават чаравікамі да зямлі... Але ці была зямлёю тая цвердзь, на якой мы стаялі?Ён выглядам сваім паказаў, каб лучыў следам. І пакіравалі мы да вялізных, расчыненых насцеж, шкляных дзвярэй. На паліцах скрозь – справа і злева, на высачэзных стэлажах, у дзясяткі чалавечых ростаў, адзін на адным, стаялі ці то тэлевізары ці маніторы камп’ютараў. Усе выключаныя. Пакой цягнуўся некуды ўдалеч, канца яго не бачылася, і па шырыні ён быў з крокаў пяцьдзясят-семдзесят, а мо і ўсе дзвесце-трыста, ці зусім бясконцы…Прайшлі далей, і ў закутку, справа, убачылі шырокі стол. Ножкі драўляныя ці пластмасавыя, а плоскасць – тоўстае маналітнае шкло, на якім нейкія паперы – звычайныя белыя аркушы, якія выдаўцы называюць А4, і шырокія – ватманы, А3, на якіх нанесеныя чарцяжы і разлікі.

Капітан першы гэпнуўся ў крэсла, запрасіў сесці насупраць.

– Вось тут і знаходзіцца сэрца Сусвету. Тут бярэ свой пачатак разгадка вялікай тайны. Ты ж пагадзіўся далучыцца да яе?

Анатас чакаў пацвярджэння гэтых слоў. Але я не азваўся на іх. Вопыт і ўнутраны голас падказвалі: трэба менш гаварыць, а больш слухаць, каб не падпасці пад яго ўплыў, не ступіць нагой у капкан…

Але не тут тое было:

– Даў згоду? Ты ж сам і падахвоціў мяне, спакусіў да гэтага. Хацеў, каб я пажадаў, і дамогся свайго. Абудзіў цікавасць і інтарэс, і таму я тут, і чакаю, калі пачнеш раскрываць мне свае тайны... Ты больш за мяне жадаў, прагнуў гэтага.

Са мною рабілася нешта неверагоднае. Словы ліліся і ліліся, быццам прарвала плаціну, – ніяк не мог спыніцца.

– Глядзі ты, кемлівы… Але для пачатку давай мы з табой пагуляем у дзіцячую гульню, пра якую гаварылі раней. Лічыць да дзесяці ты ўмееш… Мы правядзем як бы размiначку, для таго, каб падступіцца да разгадкі. Так, бяры аловак і паперу. Запішы тры лічбы – 3, 6, 9. Гэта асноўны код для прачытання загадкавага тэксту Бібліі. Возьмем іх за аснову. Складзі тройкі чатыры разы. Атрымалася дванаццаць? Адзінка і двойка. Складзем іх, – атрымаем усё роўна тры. Вазьмі перамнож тры шасцёркі. Дзвесце шаснаццаць? Сума трох лічбаў – дзевяць. З трыма дзявяткамі атрымліваецца семсот дваццаць дзевяць. Іх сума – васямнаццаць. А сума васямнаццаці ўсё роўна дзевяць. Калі складзем дзве тройкі – будзе шэсць. Дзве шасцёркі – дванац-

цаць, а сума – тры. Дзве дзявяткі – васямнаццаць, і сума – дзевяць. Шэсць памножым на дзевяць – сума сумы – дзевяць. А калі ж тую суму пяцьдзясят чатыры памножым на тройку, то атрымаем сто шэсцьдзесят два – зноў жа сума – дзевяць. І калі памножым тройку на шасцёрку і на дзявятку, то сто шэсцьдзесят два дасць усё роўна дзевяць. Калі складзем гэтыя ж тры лічбы, то атрымаецца васямнаццаць, што дасць – зноў жа – дзявятку... Фу, аж стаміўся ад гэтай арыфметыкі-матэматыкі!

– Ну і што з таго? – у яго маніпуляцыях з лічбамі не бачыў я нічога магічнага ці загадкавага.

– Пакуль нічога, правільна. Пакуль мы толькі павінны зразумець: як ні круці, як ні множ ці складай, то атрымліваем – шэсць і дзевяць... Але мы не будзем пакуль чапаць гэтыя лічбы ў плоскасці вышэйшай матэматыкі і алгарытмаў – там атрымліваецца такое, што непадрыхтаванаму тое не пад сілу ўцяміць, спынімся толькі на пачатковым этапе, пачаўшы з нуля, з чыстага аркушыка паперы... Тройка заўсёды непахісная, а вось шасцёрка, калі перавярнуць, можа быць і дзявяткай, і – наадварот. Ці не так?

– І тут няма нічога дзіўнага....

– Так, але гэта і ёсць ключ для расшыфроўкі загадкавага тэксту Бібліі. Для пачатку ж давай разбярэмся, што гэта такое – лічба тры. Тры (3) – адзіны лік натуральнага рада, які роўны суме ўсіх натуральных папярэдніх лічбаў, тры абазначае трохкутнік, што доўга было найбольшым лікам, для якога чалавек знайшоў асобную назву. А потым вакол яго пачалі складвацца розныя павер'і і паданні. У Старажытным Вавілоне ўвайшло ў традыцыю ці рытуал пакланяцца тром галоўным боствам – Сонцу, Месяцу і Вянеры. У Старадаўнім Егіпце галоўнымі сталі тры багі: Гор, Азірыс і Ізіда. Я ведаю, што жрыца дэльфійскага храма Апалона – Піфія – перад прароцтвам тры дні трымала пост. Піфагарыйцы лічылі лічбу "тры" першым сапраўдным лікам. Спытаеш у мяне, чаму? Ды хаця б таму, што яно мае пачатак, сярэдзіну і канец. Прымхлівыя людзі лічылі яго абагоўленым, сімвалам дасканаласці, якое і прыносіць поспех.

Во-во захапіўся, быццам гаварыў ужо не мне, а звяртаўся да Сусвету, агітаваў і прарочыў яму:

– У рымлянаў тры багі Юпітэр (бог неба, святла і дажджу, громавержац… а пазней ужо – боства рымскай дзяржавы), Марс (боства палёў і ўраджаю, затым ужо бог вайны), Квірын (боства

вайны)… Мацнела рымская імперыя і яе ўладары, зацвярджаўся культ капіталійскай тройцы: Юпітэра, Юноны і Мінервы – у Італіі і яе землях. Юпітэр вельмі рана пачаў суадносіцца з Зеўсам… Тры багіні лёсу. А лёс, згодна ідэалістычным і рэлігійным поглядам, азначае сляпую веру і сілу, якая стаіць над чалавекам і вызначае яго жыццёвы шлях. У кожным лёсе прымаю жывы і непасрэдны ўдзел і я. Здзіўлены? Не здзіўляйся, так яно і ёсць. Дык вось, тры багіні прыгажосці – грацыі, і яны паказваліся ў выглядзе маладых дзяўчат ці жанчын. Ты хоць ведаеш, што багіня Дзіяна мела тры твары?

Толькі хмыкнуў – адкуль мне было пра тое ведаць?

– Так, трохтварая. Нават вярхоўныя жрацы Рыма дзяліліся на тры катэгорыі – панціфікі, фламіны і вясталкі. Ды і бог Шыва ў індыйскай рэлігіі меў тры твары… Спытаеш, для чаго гэта я ўсё? Ды для таго хіба, што містыфікацыю лічбы “тры” шырока і ўмела выкарыстоўвала твая хрысціянская рэлігія. Яна прысвоіла ідэю трохтварага бога ў рэлігіі і міфаў Старога свету. Для вас старога, старадаўняга, для мяне ж – учарашняга… У ёй Бог выступае ў трох тварах – Бог-бацька, Бог-сын і Бог Дух святы. Хрыста таксама малявалі на абразах з трыма тварамі.

“Давай, давай, аблытвай мяне сваім павучыннем, ды толькі меру ведай…”

– Пагуляем з табой гэтымі лічбамі. Возьмем іх за аснову. Складзем тры і дзевяць. Атрымалася дванаццаць? А гэта адзінка і двойка. Складзем іх зноў атрымаем усёроўна “тры”. Складзі тры шасцёркі. Васямнаццаць? А сума лічбаў – дзевяць. З трыма дзявяткамі атрымліваецца дваццаць сем. Іх сума – дзевяць. Калі складзем дзве тройкі – атрымаецца шэсць. Дзве шасцёркі – дванаццаць, сума – тры. Дзве дзявяткі – васямнаццаць, і сума – дзевяць. Шэсць памножым на дзевяць – сума лічбаў – усё роўна дзевяць. А калі суму – пяцьдзясят чатыры – памножым на тры, то атрымаем сто шэсцьдзесят два, – зноў жа – сума – дзевяць. І калі памножым тры на шэсць і на дзевяць, то сто шэсцьдзесят два дасць усё роўна – дзевяць. І калі складзем гэтыя тры лічбы, то атрымаем васямнаццаць. Што будзе? Дзевяць…

– Ды так, так. Разумна і мудра. Дуры мяне і далей.

– Чаму – “дуры”? – ускінуў калматыя бровы Сатана.

– Ды я так, бо пакуль дурэю ад тваіх слоў…

– Так яно пакуль і павінна быць. А ці ведаеш ты што-небудзь пра шасцёрку – пра лічбу шэсць? А пра тры шасцёркі – 666? Гэта сугучча яшчэ называюць “лікам звера”… Ян, якога тэолагі чамусьці называюць Багасловам піша: “Тут – мудрасць. Хто мае Розум, той палічы лік звера; бо гэты лік чалавечы – шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць”. Апакаліпсіс, ці Адкрыццё, як вылічыў Фрыдрых Энгельс, напісана ў першым стагоддзі, – адразу пасля смерці Нерона. Энгельс ці то дзеля забавы, ці з-за нечага яшчэ, паспрабаваў узяць два старажытнаяўрэйскія словы, якія азначалі “імператар Нерон”, і паспрабаваў палічыць суму лікавых значэнняў, якія ўваходзілі ў яго. Сума аказалася роўнай 666! Гаворыць, што Нерон – вар’ят, чалавек-звер. Усё можа быць. Ганіцель хрысціянства? Ну і што? З яго згоды былі забітыя яго маці, брат, дзве жонкі – Актавія і Папея, філосаф Сенэка, паэт Лукан, пісьменнік Пятроній, магутны Палант і шмат іншых…

– Жорсткі і крывавы дыктатар. Можа, і ён у цябе тут, камандор? – прыйшла мне ў галаву нечаканая думка.

– А чаму б і не, Антоній? У мяне ўсім месца хопіць. Як і таму ж Іраду, пра якога ты не так шмат і ведаеш. Няхай усе тут жывуць. У мяне любы дыктатар знойдзе прытулак, любы забойца будзе тут абелены, – я дарую ім іх грахі.

– Дык у цябе тут рай ці пекла, ніяк не разумею?

Ён з дакорам паглядзеў на мяне:

– Навошта пытацца, калі ў тваіх пытаннях гучаць адказы? Табе яшчэ скажу пра трынаццаць. Старт “Апалона-13” калі адбыўся? Так, а 13.00 – па мясцовым часе Фларыды, – 13 хвілінаў са стартавай пляцоўкі № 39: а гэта тройчы па 13! 11 красавіка 1970 года – сума лічбаў даты 11.04.70 дае той лік 13. А сама катастрофа калі адбылася? Так, ведаеш, 13 красавіка. І запярэч мне, Антон, што гэта не так. Вось пасля таго касмічнага інцыдэнта і нарадзіўся выраз: *“Houston? we – ye had a problem…”* – Хьюстан, у нас праблемы!

Адчуў, што па спіне пачаў сцякаць халодны пот. Гульні-гульнямі, размова-размовамі, але, як кажуць, могуць быць і дзеці…

– Лік шэсць – аснова майго жыцця і царства. Чаму? Патлумачу трошкі пазней, калі прыдзе час, а пакуль… Наступнае пытанне. На якой мове мы спынімся? Біблію якой краіны возьмем за аснову? Ты, дарэчы, колькі моў ведаеш, Антон?

– Валодаю нямецкай мовай, чэшскай, польскай, мовай Ліцвініі.

– І ўсё?

Слаба – французскай і гішпанскай… На сярэднім узроўні расейскай…

Люцыфер ўзяў з бліжэйшай паліцы Бібліі і паклаў іх на стол, адну разгарнуў.

– Добра. Хаця на гэтай мове, на жаль, поўнага збору Бібліі няма. Але – тое няважна. Мы ж не будзем расшыфроўваць усе тэксты. Мая задача – растлумачыць табе сутнасць самой расшыфроўкі, раскадзіравання тэкстаў Бібліі. Мы звернемся да Новага Запавету – Псалтыра, выдадзенага ў Злучаных Штатах Амерыкі пры фінансавай падтрымцы доктара гісторыі, спадара Янкі Запрудніка, а пераклаў яе з царкоўнаславянскай на ліцвінскую Васіль Сёмуха.

– У мяне ён ёсць дома, – пахваліўся я.

– Тады нам лягчэй будзе разабрацца... Які нам раздзел узяць? Ну, хаця б вось гэтую частку Паводле Лукаша Святое Дабравесьце. А паралельна возьмем яшчэ выданне Францішка Скарыны, хаця і другія тэксты. На старажытналіцвінскай мове. Будзе больш дакладна.

– Дакладна – што, Анатасік?

– Сам пабачыш, пачакай трошкі...

Рэктар ці выкладчык пекла узяў з бліжэйшай паліцы, што была злева ад нас, дзве кнігі – скарынаўскую Біблію і Новы Запавет Сёмухі. Паклаў на стол. Адну з іх разгарнуў. Я назіраў за ім і ўсё ніяк не мог даўмецца – што ж ён такое таямнічае можа раскрыць мне з дапамогай трох магічных лічбаў? Гульня ў шарадырэбусы? Але я ведаў, што вялікі грэх гуляць у такія гульні са Святым Пісаннем, – пра тое яшчэ і бабка Настазя папярэджвала мяне ў дзяцінстве. Ці тут нейкая іншая гульня, а калі і не гульня, то што?

– Цяпер глядзі сюды, Фама Бязверны. Уважліва глядзі. Лічбы тры не мяняюцца. Адлічваем ад пачатку тэкста трэцяе слова. Запісвай. Але перад гэтым уважліва прачытаем іншы тэкст. “*А аб мёртвых, што яны ўваскрэснуць, хіба ж вы не чыталі ў кнізе Майсея, як Бог пры купіне сказаў яму: “Я – Бог Аўраама, і Бог Ісаака, і Бог Іакава?” Бог не ёсць Бог мёртвых, але Бог жывых. Так што вы вельмі памыляецеся” (Мк:26-27).* І яшчэ*: “Даследуйце Пісанні, таму што вы думаеце праз іх мець жыццё вечнае; а яны сведчаць пра мяне. Але вы не хоча-*

*це прыйсці да мяне, каб мець жыццё вечнае” (Ін. 5:39-40).* І – апошняе: ад Марка (9:23*): “Калі хоць колькі можаш вераваць, тады ўсё магчыма веруючаму*”. Іншымі словамі можна сказаць – калі ты паверыш у тое, у што хочаш верыць, то тое табе і будзе.

Так, бярэм ад трэцяга слова – управа праз шэсць слоў, потым праз дзевяць. Зноў праз тры, зноў праз шэсць і дзевяць... Выбраныя словы згрупуем у адно, а потым раздзелім на асобныя... З таго ж тэкста возьмем канчатак. Ад яго будзем рухацца да пачатку. Выпісаў словы? Атрымліваецца прыблізна такі тэкст: “Не маглі старэйшыя і малодшыя дочкі напаіць віном свайго бацьку Лота, каб пераспаць з ім, потым зацяжарыць, – і тым самым прадоўжыць род свой”. Разумей гэта так: чалавек у канцы дзесяць і дзевяць стагоддзяў вынайдзе закон электрамагнітнай індукцыі. Атрымаць індуцыраваны ток можна метадам насоўвання катушкі на сардэчнік-магніт, ці здымаць яе з яго, зафіксаванага ў вертыкальным становішчы, а яшчэ зручней змяняць плошчу ці паўнату контура катушкі ў магнітным полі. У кожным выпадку ўзнікае ў контуры індукцыйны ток”.

– Дык гэта ж адкрыў Фарадэй! – усклікнуў я, здзівіўшыся расшыфраванаму тэксту.

– Правільна, у 1891 годзе. Дзве дочкі Лота – катушкі з мноствам віткоў дроту, насаджаныя на П-узорны сардэчнік-магніт. Калі пачнем ім вібрыраваць уверх-уніз, то і атрымаецца ток. Канструкцыі з некалькімі адначасова размешчанымі катушкамі на П- і Ш-сардэчніках – трансфарматары.

– Неверагодна! – не ўтрымаўся ад здзіўлення. – Дык тут жа цэлая лекцыя па атрыманні электрычнага току!

Фізік задаволена паглядзеў на мяне:

– І не толькі тут. Крупінкі поўнай лекцыі-адкрыцця раскіданы па ўсім Пісанні. *“Жонка ж Лотава азірнулася ззаду яго і стала саляным слупам. Далей з горада Сігора выйшла трое (*трохфазны ток – сістэма трох гарманічных токаў аднолькавай частаты і амплітуды, зрушаных па фазе на 1/3 перыяду) *і дайшлі да пячоры. І жыў Лот у пячоры, і з ім дзве дачкі яго”.* Дзве дачкі – разумееш?

– Разумею. Мусіць жа, гэта плюс і мінус, ток у 220 вольтаў. І слупы, па якіх праходзіць ток... *“Вазьмі пасцель сваю і ідзі...”* Гэта ж ...

– Прамавугольнік (пасцель), які круціцца ў магніце, стварае бурленне – ток… Ну, а цяпер ты верыш у чароўнасць гэтых трох лічбаў?

Капітан Ной глядзеў дапытліва на мяне, чакаў тое, да чаго і імкнуўся.

– А ўжэ ж, як казала мая бабуля Настазя, веру. І яны, такім чынам, служаць ключом да разгадкі ўсіх тэкстаў?

– Да ўсіх, мой мастак, да ўсіх, але шыфр кожным разам змяняецца. Ссоўваецца, калі дакладна, як і расказана пра трохфазны ток. Адна сінусоіда раздзяляецца на тры. Давай возьмем яшчэ які-небудзь тэкст. Ды з другой мовай. Чэшскай ці расійскай…

Лектар-ілжэтэолаг зноў падышоў да наступнай паліцы, дастаў яшчэ таўсцейшую і важэйшую кнігу, прынёс і паклаў перада мною. Пагартаў. Спыніўся на сярэдзіне кнігі – пасланне ад Яна. Праверыў свой код, наклаўшы на тэкст слюдзяную пласціну з выразанымі прамавугольнічкамі, куды павінны папасці закадзіраваныя словы, пераканаўся, што супадае, паказаў мне:

– Глядзі. Тры праз тры, і яшчэ раз праз тры... Атрымліваецца ключавое слова. Да яго далучаем праз шэсць і праз дзевяць, зноў праз тры і яшчэ раз праз тры, і потым шостае слова... Выбіраем, такім чынам, усе словы. Што чытаем? “*Чорныя нябачныя промні пранізжуць кожнага, і зорка Палын будзе таму прычынай, і тая зорка атрымае свой працяг на далёкім востраве, дзе расце Фуку Сіма …” ,“Адбудзецца крывавая бітва перад пячорай у Нямігу...”, “І будзе правіць цар, які паслаў свае нябачныя промні на людзей, і адабраў у іх розум, кожны дзень абяцаючы ім, што іх спасцігне рай яшчэ ў гэтым жыцці. І многія былі ім падмануты, і многія маліліся на яго, як маліліся на сваіх ранейшых фарысеяў…”.* Ці – *“і разбураць жалезныя птушкі самыя высокія гандлёвыя дамы магутнай дзяржавы, як Вавілонская вежа рассыплюцца яны ў попел, і людзей загіне вялікае мноства”. “Прагрэс будзе помсціць чалавеку яго ж адкрыццямі…”– ”Краіна, адкуль узыходзіць сонца, дэманструючы ўсяму свету свае тэхнічныя дасягненні ў выкарыстанні атама, пакажа сваё бяссілле перад стыхіяй, якую накліча на сябе людства…”*

Калі ж браў новыя кнігі, на іншай ужо мове, прыкладаў свой “шыфравальнік” да тэкстаў, то выразы, думкі, пасланні, адкрыцці

і таямніцы ўражвалі, прымушалі задумвацца над тым, што мы ніхто ў гэтым сусвеце, – пылінкі і казуркі, а трава, якая жыве каротка і гіне. І што наш кароткі час – гэта толькі імгненне, сполах сонца, прочырк на небе знічкі. І таму недарэмна нам абвясціў Бог, што ў Яго адзін дзень як тысяча гадоў, і тысяча гадоў – як адзін дзень...

"І народзіцца ў краіне Сатана, заменіць веру ў Мяне верай у яго дарогу – а то дарога смерці і пакут. Але ўзводзіць у зман народы ён будзе сем дзясяткаў гадоў, і пасля яго яшчэ столькі ж народ будзе ў бязвер'і і ў недаўменні..."

Тое мы прачыталі ў расійскай Бібліі.

Ва ўкраінскай мы даведаліся, што краіна, якую амывае вялікае цёмнае возера, перажыве вялікае патрасенне, што яна скіне з сябе путы і ўплыў жорсткага і крыважэрнага суседа, які паланіў яе падманам праз сваіх пасланнікаў і з усіх сілаў стараўся не выпускаць з кіпцюроў двухгаловай драпежнай птушкі... І іншыя цікавыя паведамленні, нават не цікавыя, а ашаламляльныя сваёй веліччу і простасцю.Што было дзіўным – Біблія кожнай асобнай краіны сведчыла пра падзеі на сваёй зямлі, як быццам пераклады з арыгіналу рабіў сам Бог. Думкі не мяняліся, сэнс заставаўся той жа, а словы выхопліваліся з тэксту Пісанняў новыя і новыя, і складалі тэлеграму-данясенне канкрэтнаму народу...

Прыйшлося паверыць Анатасу – а як жа інакш? Бо не бачыў ніякай падробкі ці фальсіфікацыі. Бо правяраў тэксты сам, без яго, – каб пераканацца, што ён не прыкладаў сваю руку і не падводзіў усё так, як яму хацелася...

Мне нічога не заставалася, як прыняць довады Сатаны.

А ён глядзеў на маё скарэнне і радаваўся можа не столькі перамозе, як таму, што да яго тайны далучаны палоннік.

– Ну, і як, уражвае? – як не танцаваў ад радасці Люцыфер, свяціўся, як пераспелая антонаўка ў промнях вечаровага сонца.

– Вельмі ўражвае, і мне дзіўна бачыць такое. І як ты толькі дадумаўся да ўсяго гэтага?

Богапраціўнік хмыкнуў, пакруціў задаволена галавой:

– О, на гэта я патраціў не адну сотню гадоў, а мо і некалькі тысячагоддзяў.

– Тысячагоддзяў? – перапытаў недаверліва, пільна паглядзеўшы яму ў вочы. – Дык жа Біблія пісалася...

Ён усміхнуўся, пачасаў шчаку:

– Ты ж забыўся пра тры вымярэнні часу. Сотня гадоў – гэта можа быць і адзін дзень, і адна гадзіна... А можа быць і зямным вымярэннем часу. З якога боку паглядзець...

Вось і разбярыся – і так атрымліваецца правільна, і гэтак... Яго словы, як уюн у руках, – выслізгваюць. Але я навучыўся ўжо з ім размаўляць. Мог згаджацца і пярэчыць, мог перапытваць і ўдакладняць. Адзінае, чаго не мелася, – пэўнага адказу на свае ж пытанні. Але тое мяне і не засмучала, бо я ўжо ўведаў адну галоўную ісціну – на свае пытанні павінен сам і шукаць адказы...

– Але я, дарагі мой выканаўца заказу, падрыхтаваў для цябе і яшчэ, можна сказаць, апошнюю нечаканку, – падняўся з крэсла капітан. – І да яе ты павінен быць таксама гатовы.

Ён выцягнуў са стала тоўстую кнігу – як падняць, паклаў на стол. Паглядзеў дапытліва на мяне. Вочы яго па-ранейшаму гарэлі, але з твару не знікала загадкавая ўсмешка.

– Глядзі, якія словы вынікаюць з гэтай кнігі, калі яе радкі расшыфроўваюць тры шасцёркі... Гэты лічбы галоўныя. На іх трымаецца ўсё маё вучэнне.

Алкепаў прыклаў трафарэт да “Апакаліпсіса”. Я ўглядаўся ў выразаныя акенцы і здранцвеў...

– *“Ды не ад Бога гэтыя пісанні, бо Бога зусім і не існуе, а зусім ад іншых, незямных цывілізацый... А напісана для таго, каб кожны мог пераварочваць і дапаўняць, як яму хочацца, і кожнае слова будзе рабіцца праўдай... Чалавек – гэта такая істота, якую лёгка абдурыць, спакусіць, ператварыць у жывёліну ці птушку... Гэта стварэнне ад вопыту іншых цывілізацый, ды пры тым жывы арганізм вельмі недасканалы, сквапны па натуры, зайздросны па душы, істота тупая і агрэсіўная, і таму не паддаецца ніякаму кантролю... І ўжо доўгі час жыве ў душы таго, хто стварыў гэтае насякомае-казурку – чалавечка – шкадаванне, што прадукт атрымаўся няякасны. Ён зрабіўся накшталт таго паўшага анёла, якога прагнаў ад сябе Вышні...”*

Такія словы мне прамаўляў Анатас Алкепаў. Біў, так бы мовіць, абухам па галаве, ужо, пэўна, цвёрда верачы, што кідае зерне ў чарназёмную глебу, што прарасце пасеянае ў маёй душы буйным коласам...

Але ці належала мне ў гэтым “раі” мая душа? Я ж прадаў яе капітану, хаця вусна прадаў, паддаўшыся яго абяцанням і ўгаворам...

– Пад гэтымі трыма лічбамі павінен жыць і ты, – абняў мяне за плечы Нэма. – Гэта галоўны ключ да бяссмерця і геніяльнасці. Усе мы маем на целе адбітак трох маленькіх ігруш з хвосцікам. Кожная ігруша – азначае шасцёрку. І ў цябе павінен быць такі адбітак. Гэта як знак адрознення. Яны знаходзяцца за левым вухам, як радзімка, і пабачыць яго практычна немагчыма. Але такім чынам мы пазнаем адно аднаго падчас сустрэчы.

– Гэта як пароль? – удакладніў ціха.

– Больш таго. Гэта яшчэ і знак адданасці і прыналежнасці да касты геніяў і выключнасці таленту. Мы прысвоім табе, там жа, на прэзентацыі майго вобраза-абраза, званне “Сябар трох грушаў”. І толькі пасля гэтага ўсё і ўсе пачнуць табе падпарадкоўвацца і слухацца: людзі і прадметы, абставіны і нават час...

Але тут здарылася непрадбачанае (а мо – і прадбачанае) і прыемнае. Як быццам вывалілася шасцяронка з механізмаў маіх мазгоў: нешта скрыгатнула нязмазанае, завішчэла ад трэння. А потым, насуперак агульнаму руху, застапарылася, нават дало задні ход, – і трэснула, не вытрымаўшы перанапругі, раструшчылася...

І ў той жа момант пачуў знаёмы і родны голас. Ён паліўся, паплыў аднекуль зверху, – быццам гаспадар таго голасу знаходзіўся недзе ў паветры. А потым ужо ўсяліўся ў мае вушы. Голас прызначаны толькі для мяне, не для слыху Анатаса. Ён, Нэма, нешта і яшчэ даводзіў мне, распаляючыся ўсё больш і больш... Свяціліся чырвоным агнём вочы. А голас рабіўся даверлівым, нават ліслівым. Быццам у маю душу, крадком, запаўзала шэрая гадзюка. Запаўзала маўкліва, настойліва, каб уджаліць у сэрца сваім атрутным языком-джалам. Але, мусіць, Анатас не разлічыў, адышоў ад свайго сцэнарыя, спазніўся на нейкія дзве-тры хвіліны. Я ўжо не чуў яго слоў. Юрлівая слоўная гадзюка спынілася.

Хто ж перашкодзіў гэтаму, хто перагарадзіў ёй дарогу?

“Антон, то я, не палохайся... Доўга не магла ўзбіцца на тваё біяполе, ты вельмі паслухмяны чарам і ўздзеянню Анатаса...”

“Яніна?”

“Так, я... Я сачу за вамі, за табой. Даўно за табой сачу. Хачу выбавіць з бяды”.

“Што мне пагражае?”

“Дзе твой крыжык, што пачапіла табе на шыю ў дзяцінстве твая баба Настазя і асвяціў яго айцец Георгій?”

“Не ведаю. Ён быў заўсёды пры мне...”

Я міжволі, каб не заўважыў майго руху Сатана, правёў далянёй па шыі. Крыжыка не было. Сам па сабе сарвацца ён не мог: бабуля брала шаўковую нітку, якая не губляла сваю трываласць стагоддзі...

“Не здзіўляйся, і не ламай галаву, – чую зноў Янінчын голас – як быццам голас дыктаркі нацыянальнай тэлекампаніі “Незалежная Ліцвінія” спадарыні Зінаіды Бандарэнкі. – Яго адабраў у цябе капітан карабля... Як ты спаў, тады ён і зрэзаў яго. Ды і ў каньяк ён табе заўсёды падмешваў псіхатропнае зелле, як, дарэчы, яго падмешваюць, у малых дозах, ва ўсе алкагольныя напоі... І ты страціў адчуванне часу... Але толькі з дапамогай крыжыка ты зможаш выбавіцца з пекла”.

“Як вярнуць яго, Яніна?”

“Неабходна пракрасціся ў яго спальню…”

“У спальню? Гэта немагчыма. Тут жа мільярды пакояў, як мне адшукаць патрэбны? Ён жа мяне знішчыць адразу, як пераступлю парог…”

Мой светлы анёл-ахоўнік Яніна! Заўсёды, калі мне рабілася блага, калі пападаўся з-за сваёй даверлівасці ў лапы ці мярэжы павука-крывасмока, д’ябла ці духоўнага монстра і мне пагражала самае страшнае, – прыходзіла на дапамогу. Атуляла мяне сваім крылом ад бяды... І здаралася тое не раз, і не два, і не пяць... І пры гэтым жыцці, і пры мінулых жыццях... І на зямлі, і на іншых планетах, як і на той жа Ахутаване. Як і тады, калі змагаўся ў Тураўскім княстве супраць пасланніка Багдана Хмяльніцкага (ліцвіна па нараджэнні, бо бацькі з ліцвінскай шляхты) – Залатарэнкі.

Бог заўсёды, калі маліў аб дапамозе, пасылаў мне анёла-апекуна... І, мусіць жа, цяпер, калі ўскочыў у сіло, выбаўляе мяне Вышні з духоўнай багны.

“Здагадваўся, што нешта са мной не так. Сам жа папаў у нерат, самаму і выбаўляцца з гэтага райскага пекла...”

“Сам не выбавішся, Антон... Толькі з Божай дапамогай. Мне даручана памагчы табе, падтрымаць у цяжкую хвіліну. І твае героі нават памагаць будуць – Павел і Жанета.”

“Дзякую, што вы прыйшлі мне на дапамогу... Я ж поўнасцю пад яго ўплывам. Непрыкметна, але ён паглынаў мяне – я падатлівы, як цялятка на павадку...”

“Ты знаходзішся з ім у зоне высокай радыяцыі. Анатасу там сама лягчэй упраўляцца з табою... Будзь асцярожны і меней га-

вары, бо кожнае тваё слова згоды "там" – гэта прыгавор, прысуд самому сабе... Алкепаў адабраў у цябе розум і волю, замарозіў тваё левае паўшар'е галаўнога мозгу. А вось цяпер яно ў цябе запрацавала".

"Дзякую. Буду асцярожны".

"Ён хутка засне непрабудным сном. Ён заўсёды так спіць на сыходзе месяца. Тры мёртвыя дні – моцны яго сон..."

"Я не ведаю, калі тыя апошнія тры дні. Я страціў тут рэальнасць часу..."

"Я змагу, хаця і на кароткі час, агарадзіць тваю душу ад яго ўздзеяння. Але астатняе будзе залежаць толькі ад цябе. Вернеш бабульчын крыжык – вернеш сябе... У тым крыжыку чароўная Божая сіла, якой ён, Алкепаў, не валодае. Табе будуць памагаць Жана і Павел, і – Хурс. Ты помніш нумар тэлефона Анатаса?"

"Помню..."

"У іх, лічбах, і крыецца ключ да разгадкі вызвалення. Анатас не раз казаў табе, што ён амаль Бог. Можа, гэта і пра яго папярэджваў апостал Павел: *"Хай не ашукае вас ніхто ніяк: бо дзень той не прыйдзе, пакуль не прыйдзе раней адступленне і не адкрыецца чалавек грэху, сын пагібелі, які супрацівіцца і выстаўляецца вышэй за ўсё, што называецца Богам ці святыняю, так што ў храме Божым сядзе, выдаючы сябе за Бога*" (2 Фес. 2: 3-4).

"А што такое адступленне, Яніна?"

"Гэта і ёсць сам Антыхрыст, таму што ён хоча знішчыць многіх і прывесці да адступлення: *бо паўстануць ілжэхрысты ды ілжэпрарокі і дадуць азнакі і вялікія цуды, каб увесці ў зман, калі ўдасца, і выбраных (*Мц. 24:24). Называюць яго яшчэ і чалавекам беззаконня, таму што ён здзейсніць тысячы беззаконняў і падрыхтуе іншых да здзяйснення іх. Вось крэда і яго, і яго нага "Алкепа".

"А чаму яго называюць сынам пагібелі?"

"Таму, што ён і сам загіне... Ён не будзе прыводзіць да ідаласлужэння, а будзе богапраціўнікам, адрыне ўсіх багоў і прымусіць пакланяцца сабе замест Бога, і будзе расседжвацца ў Храме Божым – не ў Іерусалімскім, вядома, але і паўсюль у цэрквах. Паказваючы, што ён ёсць як Бог. Ён будзе старацца паказаць сябе Богам. Здзейсніць вялікія справы, пакажа знаменні і цуды. Пра тое ж у апостала Паўла далей*: "Ці ж не памятаеце, як я, яшчэ*

*калі быў у вас, казаў вам пра тое? І цяпер вы ведаеце, што не дазваляе адкрыцца яму ў сваім часе".*

"Святыя Айцы мінулых вякоў пакінулі шэраг прызнакаў для хрысціянаў, якія шукаюць выратавання, гаварылі пра прыбліжэнне часу рашаючых падзей. Тое дасць магчымасць праяўляць пільнасць і не адчайвацца ў сваіх надзеях у цяжкі час, калі наўкола назіраецца памнажэнне беззаконняў і спакусы..."

"Янінка, я ўспомніў... Адным з прызнакаў, які перад імі раскрылі Святыя Айцы, з'яўляецца восьмы Усяленскі Сабор... На ім адзін з апошніх старцаў Опцінскай пустыні іераманах Нектарый сказаў, правільней, адказаў на пытанне, ці адбудзецца злучэнне Цэркваў: "Не, тое мог зрабіць толькі Усяленскі Сабор, але Сабора болей не будзе. Было сем Сабораў, як і сем таінстваў, сем дароў Святога Духа. Для нашага веку паўната ліку "сем". Лік будучага веку – "восем". Да нашай Царквы далучацца толькі асобныя..."

"Усё правільна, Антон! Пра восьмы Сабор іерасхіманах Кукша сказаў, што "апошнія часы наступаюць, хутка будзе экуменічны Сабор пад назваю "святы", але то ўжо будзе зборышча бязбожнікаў. І што на ім усе веры злучацца ў адну. А гэта будзе азначаць, што знікнуць пасты, манаства, споведзі і прычасце. Усяленская Царква можа ўвесці новастыльны каляндар. Іерасхіманах заклікае веруючых быць пільнымі..."

"Мне адкрылася... Кожнае рэлігійнае цячэнне будзе прызнаваць Хрыста Ратавальнікам і Богам, і што аб'яднанне можа даць паўнату ісціны і Царквы... Але тое, што яны шукаюць, ужо было дзве тысячы гадоў назад у Святой Праваслаўнай Царкве. Памыляюцца няшчасныя паслядоўнікі плоцкага мудравання. Божа, даруй мне грахі мае, даруй, што паддаўся па дурасці сваёй спакусе, заключыў дамову з д'яблам, даруй і за тыя словы, якія я казаў і буду гаварыць яму, бо кожнае слова, вымаўленае мною, будзе хлуснёй і няпраўдай... Зразумеў. Дзякую, Яніна, за папярэджанне!"

"Бог пачуў цябе, – прашаптала Яніна, дабраславіла: – З Богам!"

Анатас не чуў і не заўважаў, што між намі разарвалася моўная і духоўная сувязь, што выйшаў з-пад яго падпарадкавання і кантролю. Ён тлумачыў і тлумачыў нешта, але нечакана схамянуўся:

– Ты чаго маўчыш? Ты дзе, з кім ты?

– З табой, з табой, мой капітан!

– Сумняваюся, ты некуды праваліўся. Задумаўся? Ну, не шкадуеш, што прыйшоў сюды?

– А як жа! Тое, што ты мне паказаў і адкрыў, не паддаецца чалавечаму розуму.

– І ты пераканаўся, што Біблія – не ад Бога, і што самога Бога не існуе? Рэальная адно хіба Энергія Космасу.

– Пераканаўся, пан Алкепаў! Інакш і быць не можа.

– Дык ты не шкадуеш?

– Як жа можна шкадаваць? І чаму ты так часта пытаеш, аж абрыдла табе адказваць адно і тое ж.

Д'ябал абняў мяне, наблізіўся да твару. У яго вачах убачыў свой адбітак. І я вытрымаў яго пагляд, не выказаўшы пры гэтым ні сполаху, ні пратэсту: ягнятка, якое вось-вось павінен праглынуць воўк...

– Трафарэт і сама расшыфроўка, што я паказваў табе, – гэта мой даўні-даўні метад, якому тысяча гадоў. Мой дзіцячы панос. Але сёння, зразумела, гэты метад пазнання Святога Пісання састарэў. Чаму? – сам у сябе пытаўся Ной-Анатас, сам жа сабе і адказваў: – Ды толькі таму, што вунь за тымі высокімі і масіўнымі дзвярыма знаходзіцца кабінет-рэзідэнцыя, дзе расшыфроўка пастаўлена ўжо на паток, на канвеерную аснову. І я табе пакажу гэта. Каб у тваёй свядомасці і макавага зярнятка не было сумневу, што я шарлатан які-небудзь ці фокуснік.

Дзверы куле- і нават снараданепрабівальныя, – за імі, падумалася, без асаблівых цяжкасцяў можна было б схаваць не толькі канвеерны цэх, але і ракету далёкага дзеяння.

За гэтымі дзвярыма, разумеў, вырашыцца і мой лёс: прысуд мне.

Але за мною заставаўся выбар. Цяпер маё кожнае слова мела жыццёва важнае значэнне.

– Анатас, каб даць канчатковую згоду, я павінен спытаць пра тое ў Бога, – задумліва адказаў па звычцы палешукоў – на хітрыкі пайшоў, напралом, бо губляць мне ўжо не было чаго. – Ты не скажаш, шаноўны Камандор, капітан Нэма, Антыхрыст і Д'ябал, а ці ёсць у цябе тут царква, дзе я змог бы памаліцца, спытаць у Хрыста, ці сапраўды Біблія – гэта Яго твор, ці што іншае... Калі ж Ісус у тую ж секунду не адкажа мне, пагаджуся з табой!

Ён шырока раскрыў вочы: не чакаў, не чакаў такога пытаннечка...

– Царква? А хіба ж ты не ў царкве? А хіба ж для цябе я не Бог? Хіба ж я не выконваю ўсе твае жаданні, не здзяйсняю мары і мроі чалавекаў?

– Так то яно так, але ж... Я ўвесь твой. Я прадаўся табе, павершу. А цяпер толькі хачу папрасіць дабраслаўлення ў Госпада, каб адпусціў да цябе – і ўсё. Ты ж усё дазваляеш – чаму баішся гэтага?

Ён пацісну плячыма, заўсміхаўся:

– Хто табе такога наплёў, што я баюся?.. Што і каго мне баяцца, калі твая душа ў мяне? Мы з табою ж заключылі дамову на супрацоўніцтва. Ты ці не крывёю распісаўся на той дамове. І таму не мае цяпер ніякага прынцыповага значэння, як ты паступіш, у які бок пойдзеш.

– На якой дамове? – нахмурыўся я. – Мы вусную з табой заключылі дамову, а пісьмовую – не памятаю такога.

– Няўжо ў цябе склероз, Антон? – заўсміхаўся Анатас. – А гэта што?

Ён дастаў з кішэні паперку, у куточку якой гадзюка абвівала ножку шклянога сасуда, падаў мне. Я не веры сваім вачам. Пачаў чытаць уголас:

– **Дамова** *на творчае супрацоўніцтва з Анатасам Алкепавым, ён жа – капітан "Алкепа", ён жа – Люцыфер, ён жа – Супраціў Богу, ён жа – Антыхрыст.*

Я, Антон Клімовіч, поўнасцю падпадаю пад уладу Анатаса, таму і абавязуюся выконваць усе яго загады і просьбы, быць паслухмяным, акрамя яго партрэта намаляваць партрэты ўсіх тых, хто знаходзіцца на "Алкепе"…Пад дамовай стаўлю свой подпіс, а даставернасць подпісу і тое, што мая душа належыць не мне, а Анатасу, пацвярджаюць тры мае кроплі крыві…"

– Лухта! Ніякай дамовы я не падпісваў, а толькі здаваў кроў для аналізаў.

– Тую кроў ты мне і здаваў, – патлумачыў Антыхрыст, – я быў у вобразе медсястры… Больш таго, дарагі мой палоннік, я быў і Хурсам, і Янам Пятровічам, і Сяргеем Піліпавічам… І каханай тваёй Янінай, і сябрамі тваімі – Паўлам і Жанетай… Ды ў мяне дзясяткі тваіх згодаў-дамоў! Я і слесарам прыходзіў да цябе ў хату, праз парог даваў паперу на подпіс, што ў цябе вентыляцыя ў парадку. Ты падпісваў, не чытаючы нават, як і суседзі твае, дарэчы. Чаму вы ніколі не чытаеце тыя паперы, якія вам падсоўва-

юць для подпісу? Чаму? Вы ж падпісваеце самі сабе прысуды. Самі! Не я прымушаю.

У мяне зазвінела нешта ўвушшу. Цененька-цененька. Стала прыкра, што Люцыфер абвёў мяне вакол пальца. Але ці ставіць на гэтым кропку?

– Ладна, капітан, нічога ўжо не паробіш. Толькі без дабраслаўлення я не магу быць тваім.

Антыхрыст наблізіўся да мяне, упіўся позіркам – чырванню зрэнкаў у вочы:

– І потым, як спытаеш у Бога дазволу, ты пойдзеш са мной далей?

– А хіба можа быць інакш? Быць бычку на лычку, а кароўцы на вяроўцы.

– Добра. Зраблю, як табе хочацца. Наведаеш ты царкву. Будзе такая магчымасць.

– Калі, мой капітан?

– Тут жа часу не існуе. Калі скажу, тады і будзе... У галоўную нашу царкву можаш пайсці і памаліцца. Задаволіць свае прыхамасці.

Адчувалася, што не даспадобы яму мая адтэрміноўка. Але ж не хацеў, а мусіў саступіць мне. Мы ўвайшлі ў прасторную, значна большую, чым нашыя гарадскія кінатэатры, залу. Але без крэслаў для гледачоў, паўкругам, як у цырку, калі адпалавініць манеж. Выступ высіўся вакол яго, пакрыты зялёным аксамітам. Мы стаялі побач з подыумам. Па прыступках капітан узышоў наверх, сеў у крэсла. Побач сеў і я. Перад намі вырас стол з панельнай клавіятурай. Амаль адначасова, на процілеглым баку залы з’явіўся вялізны блакітны экран.

– Я табе, майстар пэндзля, прадэманструю той працэс, які расшыфроўваў уручную. Мы бралі Біблію твайго любімага Францішка Скарыны. Глядзі, на файле “Бібліі”, – усе Святыя Пісанні свету. І на кожную свой сайт – з праўкамі і даследаваннямі. За секунду змагу вывесці на экран любы тэкст, нават арыгінал, самы першы, рукапісны. У напісанні яго, дарэчы, прымаў удзел адзін перапісчык, які і сёння знаходзіцца на нашым “Алкепе”...

Паглядзеў зацікаўлена на яго. Але непаверкі на маім твары ці здзіўлення не люстравалася.

– Возьмем Кнігу Ісуса Навіна. Арыгінал. Цяпер пытаемся ў шыфравальшчыка, якія лічбы падыходзяць для прачытання. Так,

во яны – 9.6.3... 3,6,9...6,9,3... 3,9,6... 6.6.6. Задаем праграму. Націскаем апошнюю задачу-каманду – "чытаць"... Забегалі, замільгалі лічбы і словы:"Чалавек, калі ты дакапаўся да схаванага ад цябе на тысячагоддзі тэксту і калі ты зразумеў, што за кніга перад табой, – то павінен поўнасцю падпарадкоўвацца і залежаць ад таго, хто адкрыў табе тайну. Толькі аднаму яму павінен быць верны – душой, целам, жаданнямі і ўчынкамі... Ён пасля гэтага і твой Бог, і твая душа, і – тваё бессмяротнае жыццё. І не будзе ў тваёй душы нават імгнення недаверу ці нежадання выканаць мой загад, мой да цябе зварот..."

Капітан націснуў крайнюю злева кнопку. Пагас экран і знік. Антыхрыст сядзеў, апусціўшы галаву на грудзі. Маўчаў. Ці то плакаў, ці радаваўся таму, што я ўжо далучаны да яго галоўнай тайны. Ці так гэта насамрэч?

– Далучаны! Далучаны! – пацвердзіў мае думкі Во-во. – Цяпер ты маеш доступ сюды – дастаткова толькі, як я, дакрануцца даланёй да абодвух дзвярэй... Яны цяпер прызнаюць цябе. Але прызнаюць толькі пасля таго, як ты... станеш паўнапраўным сябрам майго экіпажа, маёй правай рукой, маім галоўным мастаком. Тут, калі ты ў адной з Біблій знойдзеш сакрэт мастацтва, якім ніхто ніколі не карыстаўся. Нават геніяльныя Рэмбрант і Веласкес, Гоя і Рафаэль, Іванаў і Рэпін... Для цябе там падрыхтаваны цэлы трактат, – гэты ключ табе да Алімпу.

– Адкуль будзе ведаць пра мяне чалавецтва, калі я тут застануся назаўсёды, – хто ж мяне там, на Зямлі, ўбачыць і ацэніць?

– А хто сказаў, што ты навечна тут закаваны? Тут не турма, і цябе ніхто не прыгаворваў да пажыццёвага зняволення... Тут усе вольныя. Усе да аднаго вяртаюцца да свайго ранейшага жыцця. Як і ты вяртаўся сорак ці колькі разоў, праўда, у другім абліччы і ў другой якасці. Туды, дзе сонца і месяц, дзе людзі старэюць і паміраюць, не паспеўшы нажыцца. Сэрца і душа як у васямнаццігадовага юнака ці дзяўчыны, а цела нямоглае і брыдкае... Вось такое, амаль па Марксу, адзінства і барацьба процілегласцяў жыткі чалавека...

– Так, на жаль, так... – западтакваў я.

– Таму, калі ты вернешся на зямлю, не паўторыш тых памылак, якія рабіў раней, – будзеш ведаць і абыдзеш іх. Не падманешся ашуканствам жыцця, будзеш жыць па дакладным часе,

ісці выверанай дарогай. Будзеш пераходзіць з зямлі на карабель, вандраваць па сусветах, бо яны ўжо ў табе.

– Што ж, гэта мне падыходзіць, мой капітан. І я дзякую табе за давер. Пастараюся апраўдаць яго, перакананы, што толькі ты можаш даць мне бессмяротнасць.  Але толькі ўсё гэта пасля таго, як наведаю храм.

Сатана абняў мяне, прытуліў да сябе. На яго вачах, здаецца, заблішчэлі слёзы.

– Дам, дам табе такую магчымасць! А прыйдзе час, ты падменіш мяне на маім прастоле. Нешта адчуваю, мяне падводзіць здароўе, таму трэба думаць аб спадкаемцу...

– Нават так, Люцыфер? А не адсячэш мне галаву, як Ірад свайму сыну?

– Ды што ты, што ты, Ірадаў на свеце процьма, а творцаў абраных – адзінкі.

– Цікавы расклад, але, здаецца, жыццёвы…

– Я доўга змагаўся за цябе, Антон, за тваё ж шчасце… Неўзабаве  прэзентацыя маёй іконы. Думаю, што яна будзе гатова да таго часу. І ты ўвальешся ў нашыя шэрагі. Ці не так?

– Так, сапраўды так! Мне засталося паставіць толькі апошнюю кропку.  Таму – апошні ўдар пэндзля! Мяне цікавіць цяпер толькі ганарар.  Я – пералётная птушка: з зямлі на баль, на карабель, з баля зноў на зямлю, – і там, і тут – я твой.

У гэты час зырка жыханула бліскавіца, пракаціўся жалезнай калясніцай буркатлівы гром... Неба як быццам пацвярджала мае словы, а голас Яніны зноў далятаў да майго вуха:

“Правільна, Антон, паводзіш сябе. Ён не чуе нас – і гэта добра”.

– Ці шмат народу будзе на прэзентацыі?

Антыхрыст развёў недаўменна рукамі:

– Я ж іх не лічыў... Але ты сам іх пабачыш, – палічыш, калі здолееш.

– Дык мне мо і апрануцца  з гэтай нагоды – па-святочнаму, урачыстасць жа – і не абы якая?

Капітан пекла пахітаў  адмоўна галавой:

– Не, не трэба... У нас тут усё проста. Кожны жыве ў адзенні сваёй эпохі і свайго часу, і яно для кожнага святочнае,  і будзённае. Кожны павінен выглядаць натуральна і звыкла...

– Зразумеў, мой капітан. Падпарадкоўваюся агульнапрынятым нормам і патрабаванням, што існуюць на гэтым караблі.

– Ужо – на нашым караблі.

– На нашым “Алкепе”.

І зноў палыхнула маланка, завуркатаў, а потым і грымнуў пярун, асвяціўшы нас абодвух. Бліскавіца схавала твар Анатаса, толькі шэры капялюш павіс у паветры... Але толькі на імгненне. Потым зноў убачыў яго зялёна-аспідныя вочы, калматыя бровы і бараду. Пры святле маланкі ён нябачны? Дык, можа, ён такі і пры святле месяца?

“Ты чуеш мяне, Антон?”

“Чую. Не хвалюйся, Янінка, за мяне. Я прачнуўся ўжо. Зразумеў цяпер, што да чаго. Вытрымаю.”

– А мяне ты чуеш, сын мой? – загучаў голас, якога раней не чуў, з сярэдзіны маёй душы: – Паўстаў на цябе князь апраметнай…

– Так, мой анёл-ратаўнік, хто ты?

– Прападобны Кірыла Тураўскі. І я пасланы да цябе на падмогу.

– Як выстаяць мне, прападобны Кірыла, на гэтым полі бітвы?

– Старайся стаяць цвёрда і з верай, і нічога не бойся.

Невядомая сіла падхапіла і панесла мяне. Я ўжо не належаў нікому, акрамя Вышняга…Дрыжыкі працялі цела, быццам папаў пад напружанне высокавольтнай лініі элетраперадач.

Ведаў: то ўліваўся ў мяне нябесная энергія і моц…

4

Вярталіся мы тым жа шляхам.

Рассунулася перад намі гара, прапусціла нас, ці выпусціла, з патаемнай лабараторыі Д’ябла. Хіба ж хто здагадаецца, што пад гэтай гарой галоўнае багацце і звышсакрэтны арсенал вялікага, дзіўнага і незразумелага даследчыка? Антыхрыст, на дзіва, вясёлы, рухавы. Ва ўсім яго выглядзе задаволенасць і лагода, упэўненасць у сабе, у сваіх звышнатуральных магчымасцях і сіле.

Мы ішлі ўпобачкі, як роўныя… Ён напяваў нейкую, аднаму яму і вядомую, мелодыю, і нагу ставіў у такт, як прытанцоўваў.

Той жа ліфт упусціў нас у сваё чэрава. І з шалёнай хуткасцю панёс у невядомае.

Адмовіўся ад застолля, чым здзівіў Анатаса.

– Адпачыць хачу, – сказаў, апраўдваючыся, – столькі звалілася на маю галаву за апошні час, асабліва сёння... Няма сілаў і кроку ступіць. Галава адурэла ад тваёй інфармацыі.

– Ладна, адпачывай, – дазволіў капітан Нэма. Наперадзе апошні сеанс пазіравання, і – урачыстая вечарына ў твой гонар... А пасля праводзіны цябе на зямлю. Наш сціпленькі, алкепаўскі шабаш. Калі ўдзельнічаў у ім расейскі творца Міхал Булгакаў, яму дужа спадабаліся скокі і песні…

– Ты і яго зацягнуў да сябе?

– А як бы ён тады без нас напісаў бы свайго “Майстра і Маргарыту”?

Я кіўнуў галавой на знак падзякі і згоды.Стомлены духоўна і фізічна, прысунуўся ў сваю каюту.На тумбачцы стаяў той жа французскі каньяк. Не адкаркаваны. Лімоны на сподку. Нават букет рамонкаў з вялікімі галоўкамі – як маленькія сонейкі з белымі промнікамі. Да рамонкаў далучаныя і блакітныя васількі...

Да каньяку не дакрануўся. Мусіць жа, Анатас назіраў за мною, і той жа каньяк адыгрываў нейкую сваю ролю ў агульным спектаклі. Што ж, спектакль, дык спектакль. Адкаркаваў бутэльку, адрэзаў колькі скрылікаў лімона. Напоўніў да краёў шкалік, уліў каньяк у рот. Але не каўтнуў. І тады нешта гухнула за сцяной і аціхла, як адчапілася ад мяне. Праз хвіліну выплюнуў горкую вадкасць у вазу з рамонкамі. Каб заглушыць смак каньяку, пачаў жаваць. Калі стала кісла ў роце, выплюнуў і рэшткі цытруса.

… Праз нейкі час адчуў каля вуха павеў прахалоднга ветрыку, і нешта зашамацела – як хто прагульваўся па першым апалым лісці.

“Вечар добры, Антон!”

“Добры вечар, спадарыня Яніна!.. Рады чуць твой голас”.

“І я твой. Як пачуваеш сябе?”

“Агульная млявасць і абыякавасць да жыцця. Мяне як усё роўна паляруш разбіў. Пасля падарожжа да Анатасавых нетрыскаў. А дзе, дарэчы, ён цяпер?”

“Спіць... Усе спяць.. А мо і не ўсе...”

“Як выбрацца адсюль, падкажы?

“Памагу табе, што з табой паробіш… Такая ўжо мая доля. Толькі ты не адступайся ні на крок ад свайго плана...”

“Не адступлю. Чаму і як усё гэта са мною здарылася?.. Зможаш растлумачыць?”

“Пастараюся... Прачытаю табе невялічкую прамову. А мо і лекцыю – як лектар таварыства “Веды”. Мы з Анатасам тое і робім, што чытаем табе лекцыі. Як змагаемся з ім за цябе, за тваю душу. Значыць, мы з ім змагаемся...”

“Так яно і выглядае...”

“Скажу табе так, як гэта тлумачаць спецыялісты: твой мозг паддаўся апрацоўцы. З першай нават секунды, як Алкепаў пераступіў парог тваёй майстэрні...”

Ляжаў, не шавяліўся, паказваючы ўсім сваім выглядам, што сплю – хай запісвае Люцыферава патаемная відэакамера, калі яна піша, што я, выпіўшы каньяк, заснуў. А слых мой напружаны і настроены на хвалю і голас маёй збавіцелькі...

“Сёння ніводная галіна ў навуцы, якая непасрэдна вывучае функцыі чалавечага мозгу, не здольная ў катэгарычнай форме заявіць, што сакрэт яго дзейнасці вывучаны, даследаваны і раскрыты. Не здольная сёння навука адказаць – як накапліваецца інфармацыя ў кары галаўнога мозгу, – ад убачанага, прачытанага, пачутага; у якім аддзеле ці аддзелах яна захоўваецца, і як доўга; ці можа яна праз арганічную структуру, тыя ж храмасомы, пра якія табе казаў капітан, перадавацца нашчадкам. Накшталт таго, як капіруецца цялесная форма фаўны і флоры, і, калі тое магчыма, пры якіх умовах накопленая радаслоўная інфармацыя здольная праявіцца ў яе нашчадкаў з “калькі на белы аркуш паперы”?

У пытанні функцыянальных магчымасцяў кары галаўнога мозгу пытанняў нашмат больш, чым лагічных адказаў. Калі ўзяць псіхалогію і праз яе прызму разгледзець пытанні ўспрымання і асэнсавання інфармацыі, то яна прапаноўвае свае тэхналогіі і падыходы ў разуменні аналізу, захоўвання і ўспрыняцця аб’ёму інфармацыі. Ёсць такое паняцце, як кагнітыўныя метады. Адзін з іх – пазнаванне. Гэтае слова цяжка нават растлумачыць... З пункту гледжання агульнага структурыравання і ацэнкі функцый успрыняцця быцця, меркаванняў і мовы. Калі навакольны свет у выніку дысфункцыянальнага пазнавання ўспрымаецца скажоным, перавернутым, то, па канонах кагнітыўнай тэорыі, узнікаюць псіхічныя парушэнні, адхіленні ад таго, што мы лічым нейкай нормай...”

“Як у выпадку са мной?”

“Можа і так, выбачай...”

“Ты вялікі псіхолаг, Яніна... Ці псіхатэрапэўт?”

“Я ж вывучала псіхалогію ў Сарбоне. Потым – Кэмбрыджскі ўніверсітэт... Сучасны псіхіятр не здольны пракаментаваць кнігу “Дзеянні апосталаў”. У кнізе закладзена вялікая тайна. У кожнага з нас, простых людзей, адно паўшар’е развітае больш, чым другое. Псіхатыпы левых і правых паўшар’яў вельмі розняцца. “Левыя” маюць абстрактна-лагічнае мысленне, і яно вышэйшае над пачуццямі, – і таму яны найбольш хіляцца да тэхнічных навукаў. Гук для іх – раздражняльнік, без якога яны не могуць існаваць.. Гудзенне, крыкі, процьма народу іх ніяк не стамляе, – гэта іх родная стыхія, як для рыбы вада. Яны пакутуюць, калі застаюцца адны. Затое не ведаюць сумненняў і дэпрэсій, не схільны да высокіх пачуццяў – кахання, у іх радасці грубыя, задавальненне – скажонае, як і секс...”

“І секс? – сам не ведаю, чаму, перапытаў я ў яе. – Выбачай, але пры чым тут секс?”

“Не смейся, браце Антоне, – адхіліла пытанне і астудзіла мяне Яніна. – Гэты від людзей надта ўзбуджаны, узбуджаны ад працы мозгу. І, каб утаймаваць працу клетак, яны і шукаюць выйсце ў сексе. У любым выглядзе, але каб задаволіць як мага з большай асалодай палавое прыцягненне...”

“Левапаўшарнікі, як правіла, з пялёнак матэрыялісты і атэісты. Гэта – рэвалюцыянеры і палітыкі, лідары партый і дзяржаўныя дзеячы, прэзідэнты і кіраўнікі розных палітычных плыняў, настаўнікі і выкладчыкі... Яны ўсе тут, на “Алкепе”. І жывыя, і тыя, хто ўжо сышоў у нябыт. У іх ва ўсіх паталагічная патрэбнасць да доўгіх прамоў, правядзення паседжанняў і сходаў, публічных выступленняў. Іх уласны голас служыць актывізацыяй іх уласнага мозгу... Пацвярджэнне таго, што я сказала, можа служыць Пісанне ад Мацвея ў шостым раздзеле:

*“Глядзеце, не выстаўляйце праведнасьці вашай перад людзьмі, каб яны бачылі вас: інакш няма вам узнагароды ад Айца Вашага, Які ёсць на нябёсах.*

Дык вось, калі даеш міласціну, ня трубі перад сабою, як робяць тое крывадушнікі ў сынагогах і на вуліцах, каб услаўлялі іх людзі. Праўду кажу вам: яны атрымліваюць узнагароду сваю.

У цябе ж, калі даеш міласціну, няхай не ведае левая рука твая, што робіць правая, каб міласціна твая была ў тайнасці, і Айцец твой, Які бачыць у тайнасці, аддасьць табе на яве.... *Ты ж, калі молішся, зайдзі ў пакой твой і, зачыніўшы дзверы твае, па-*

*малiся Айцу твайму, Якi ў тайнасьцi; i Айцец твой, Якi бачыць у тайнасьцi, аддасьць табе на яве".*

"Гэта пра левае і правае паўшар'і?"

"Так... А правапаўшарнікі больш верацъ не словам, а сваім вачам і пачуццям, і пра другога чалавека мяркуюць і ацэньваюць па яго справах, а не па прыгожых прамовах. "Правыя" успрымаюць свет найперш на эмацыянальным узроўні – у гармоніі фарбаў, гукаў, пахаў – а потым ужо асэнсоўваюць яго. Гэта яны могуць сумнявацца, суперажываць, і толькі яны здольныя на самаахвярнасць у імя справядлівасці ідэалаў дабра".

"Цікавыя ты мне адкрываеш рэчы, Яніна... І, каб пачуць гэта, варта было адправіца сюды?"

"А там, у рэальным жыцці, нам няма калі задумацца над простымі рэчамі, пагаварыць спакойна, забыўшыся пра ўсё. Мы спяшаемся, а куды – і самі не ведаем... Але сябе ніколі не выперадзіш, і, тым больш, не падманеш. Табе нічога новага, можа, і не адкрываю. Ты пра ўсё і сам добра ведаў, ну, няхай не ведаў, а толькі здагадваўся, але ... Але ў "правых" ёсць адзін недахоп. Іх высокая актыўнасць значна затармоўвае працу моўнага цэнтра. Таму ў іх няма мітынговага свербу і дыскусійнай патрэбы. А іх плюс, што яны валодаюць прыроджанай багатай інтуіцыяй, і таму здольныя адчуць дыскамфорт, нават сацыяльны, на ўзроўні непазнавальных сігналаў задоўга да таго, як выбухнула бяда. Многія папярэджвалі аб маючай адбыцца Чарнобыльскай катастрофе, але да іх голасу не прыслухаліся, абсмяялі іх, з савецка-бальшавіцкай перакананасцю... Калі ж тыя людзі спрабавалі стукацца ў дзверы высокіх інстанцый, аказваліся альбо ў "Псіхушцы-2", альбо зусім знікалі з гэтай зямлі..."

Мой уздых глыбокі і працяглы.

Удзячны лёсу, які ўратаваў мяне…

Шмат ад каго ўратаваў…

"Адрозненні, паміж тымі і другімі, тлумачацца не толькі функцыянальнымі, але і анатама-фізіялагічнымі асаблівасцямі арганізацыі іх нервовай сістэмы. І сёння на планеце Зямля звыш сямідзесяці адсоткаў біпалярнікаў, – гэта значыць, што яны маюць змешаныя гены – "правых" і "левых"... У Анатаса, напрыклад, акрамя гэтых ёсць яшчэ ніжнія і верхнія..."

Альшанская на нейкі час змоўкла, як быццам давала час асэнсаваць пачутае. Паўза нарадзіла пытанне:

“Скажы, ці можна “апрацаваць” чалавека, ператварыць яго ў зомбі? Гэты працэс, здаецца, так называецца – замбіраваннем? Якая пабудова мозгу паддаецца гэтай апрацоўцы?”

Ці то яна збіралася з думкамі, ці што ёй там, недзе, замінала нешта, бо адразу не адказала.

“Выбачай, тут замінaчка адбылася... Апрацоўка вядзецца на самым высокім узроўні. І ніякага спецыяльнага абсталявання ці прыбораў. Возьмем школу. У класе дзеці розныя. З правым паўшар’ем і вучацца кепска, і настаўніцу не слухаюцца, карацей, горш паддаюцца “педагагічнай дрэсіроўцы”. А вось “левыя”, тыя наадварот, – хутка падпарадкоўваюцца, хутка засвойваюць правілы добрых паводзінаў – гэтак жа і кепскіх. У мозгу чалавека ёсць “моўныя звіліны” – у левай скроні. І гэтым наш мозг адрозніваецца ад мозгу жывёліны.

Кашмар, мой любы Антон, чакае людзей, калі тэорыю кіравання чалавечай свядомасцю ператвораць у практыку. Бо самы сціплы па змесце пісьмовы тэкст здольны закадзіраваць чытача, і ён будзе дзейнічаць незалежна ад сваёй волі і жадання...

А цяпер я дабралася да адказу на тваё пытанне. Самым вялікім і небяспечным псіхаабпраменьваннем з’яўляецца агучаны тэкст. Па радыё і з тэлеэкрана. Гэта калі яго прамаўляць у патрэбным тэмпе, тэмбры, нават меладычнасці, ды яшчэ з паўзамі ў патрэбных месцах. Механізм такога ўмяшальніцтва ў псіхалагічную структуру асобы ўжо створаны, і вельмі-вельмі даўно, выпрацаваны, правераны і з поспехам прымяняецца. Наколькі ён просты, настолькі ж і жахлівы па выніках уздзеяння. Анатас ім валодае дасканала і прафесійна. Ён жыве ім, жывіцца ім. І без аніякіх цяжкасцяў і перашкодаў прымяніў сваё ўменне на табе...”

Я маўчаў. Быў ашаломлены.

“Мой мозг апрацаваў Анатас? Ён адабраў ад мяне волю і здольнасць кіраваць сваімі ўчынкамі? Так, Яніна?!”

“Вось іменна... Тры “шасцёркі” – тры грушы... Ды і каньячок яшчэ. Самы першы глыток – у тваёй майстэрні. А ты і ведаць не ведаў, што ў ім была падмешана духоўная атрута... Але ты здагадаўся, хоць і запознена, апошні раз – набраў у рот, а не каўцянуў... Але страшна, можа, і не гэта. Імперыя Анатаса працуе на мільёны і мільярды людзей. Анатасы нясуць сваю лухту-бляватціну пад цнатлівым соўсам з экранаў тэлевізараў, радыё, газет і часопісаў... Ты пра тое і сам выдатна ведаеш. Цябе яны раз-

дражняюць, ты гатоў выкінуць тую “скрыню” праз акно, а многіх, апрацаваных ужо, тое і радуе. Я маю на ўвазе пра тыя перадачы, якія ўжо сталі для іх наркотыкам... Яны робяцца шчаслівымі, слухаючы сатанінскія словы, яны ўжо і сталі як наркаманы, – і без той стравы не мысляць ужо свайго жыцця...

Найбольш тыя, хто і сёння яшчэ ўплачвае ўнёскі за тое, што яны належаць да таго асяроддзя, якое стварыў у сямнаццатым Сатана. Верылі і вераць кожнаму сказанаму слову, а хто гаворыць ім сапраўдную праўду, аб’яўляюць ворагамі народа, шпіёнамі з Захаду... Асабліва гэта тычыцца тых, хто хоча данесці да іх праўду мовай Багдановіча... І ты для іх вораг, шаноўны спадар Антон, ды яшчэ і нумар адзін...”

“Ды ведаю... Спапяляюць яны мяне, задушыць гатовыя... “Ня панімаем вашага мужыцкага языка!..” Анатас нас не чуе, Яніна?

“Не, на нашай хвалі, на нашым біяполі ён ніколі не бывае. Бо ён не ведаў і не ведае, што такое каханне, таму на нашай, вібраванай унікальнай хвалі, яму няма што рабіць...”

“Растлумач мне, а як ты апынулася тут? Няўжо і цябе...”

“Ды не. Я тут ... з-за цябе...”

“З-за мяне?! Як гэта?”

“Найперш прыставаў да мяне: выбірае моцных духам. Чым цяжэй даецца яму перамога, тым больш ён моцным робіцца. І – агрэсіўным. З першых слоў адчула яго ліслівасць і падманнасць. Ён падкатваўся да мяне некалькі разоў, у розным абліччы. І вяртаўся несолана хлябаўшы. А потым прыйшоў, калі ты апынуўся ў яго. Таму я зрабіла выгляд, што паверыла яму, падапарадкавалася яму. На самай жа справе я кінулася ратаваць цябе, мой любы. І паслаў мяне Бог. Я – каханка твая і дух твой – душа і сэрца... Адразу не магла гаварыць з табой, бо ён поўнасцю авалодаў табой, ты аглух. І не магла дагукацца цябе, ды яшчэ каб не чуў таго Алкепаў... Калі ж ён павёў цябе ў сваю майстэрню, паміж вамі ўзніклі ваккуум і высокая радыяцыя, я падступілася да цябе. Ты стомлены не ад Анатаса, а ад радыяцыі. Гара, якую ты бачыў, спрэс з урана, якім жывяцца ўсе яго прыборы, тэхніка, і ён сам...”

“Растлумач тады мне тое, што ён называе расшыфроўкай тэксту. Тры магічныя лічбы – то ўсё праўда?”

Яніна, падалося мне, засмяялася – да вуха паплылі цёплыя хвалі.

“І праўда – і няпраўда. Так, ён валодае шыфрам, сапраўды ён адкрыў некаторыя таямніцы Бібліі, але табе падсоўваў зусім

іншыя значэнні. Асабліва апошнія – са Скарыны... Усю Біблію нікому не дадзена разгадаць. Ключ да разумення яе толькі ў самога Бога, і знаходзіцца ён, той ключ, па сцвярджэнні самой жа Бібліі, за сямю пячацямі... Анатас Бібліі падсоўваў не сапраўдныя, а зробленыя толькі для такога выпадку – для канчатковага завалодвання тваёй чалавечай псіхікай і душой... А лічбы 666 ты і сам ведаеш, што азначаюць”.

Я быў пасаромлены: обдурили дурака на четыре кулака, – на тры грушы развялі…

“Скажы, Янінка, а дзе мы ўсё ж знаходзімся – пад зямлёй, у космасе, на другой планеце, дзе?..”

“Ты ж павінен і сам усё выдатна ве...”

І голас яе нечакана абарваўся, як быццам хто перарэзаў дрот нашай тэлефоннай сувязі. І ў той жа момант зазваніў тэлефон, што стаяў каля галавы.

Я ўзяў слухаўку.

– Алё, Антон, гэта ты?

Голас – жончын, усхваляваны, устрывожаны, збалелы чаканнем валацугі-мужа.

– Я, Ліка, я.

– Ты дзе, Антон? Я прыходжу часта ў майстэрню, а цябе там няма. Званю, а ты, аказваецца, там. І цяпер ты там, а святло не гарыць у акне. Як такое можа адбывацца? Ты хоць жывы, Антон, скажы, у мяне збалелася сэрца, і дачка месца не знаходзіць...

– Жывы, Ліка, жывы... Не хвалюйся. Як дачка?

– Дачка добра, Антон... Мы хвалюемся, дзе ты?

– Не хвалюйся, прашу... Усё наладзіцца — не рві толькі сваё сэрца. То я з вамі быў у “Залатым пеўніку”, і я скінуў фужэр на падлогу... Мала ўжо засталося тут быць – мяне Анатас адпускае адразу пасля таго, як скончу яго партрэт…

Я першы паклаў слухаўку.

Не хацеў нічога больш гаварыць, бо было небяспечна... Няхай верыць Сатана, што “перакаваў”, “апрацаваў” мяне, што і жонка, значыць, мне не патрэбна, што я поўнасцю ў яго ўладзе і ён павінен ганарыцца сваёй перамогай.

У пакоі ціха-ціха... На тумбачцы ляжала горка “зеляніны”: расла з кожным днём. Але даляры перасталі мяне цікавіць, тым больш радаваць: ці мог я за іх што-небудзь прыдбаць, ці ў што ўкласці? Труха, смецце, пылота...

І разам з тымі далярамі магу ператварыцца ў тую ж труху і смецце, – і следу ад мяне не застанецца...

Доўга ж ішоў да прасвятлення.

Спаць не хацелася. На тумбачцы, побач з галавой, ляжаў зялёны сшытак. Той сшытак, які мне некалі даў Хурс. Прыйшоў час прабегчыся па радках канспекта ці яго навуковай працы. Самы час…

"*Хто ты – Звышчалавек?* Вышэй чалавека толькі Бог, але адкуль у чалавецтва імкненне быць вышэй шым за Яго? Што ці хто падштурхоўвае яго да гэтага? Чалавек аблытаны лянотай, і таму яму не дадзена стварыць для самога сябе ўсе радасці і дабрабыт. Хочацца перакласці тое на чужыя плечы…

…Чамусьці чалавек склеены ці створаны з суцэльных процілегласцяў, сумневу, незадаволенасці самім сабой. Ён двулікі – двутвары, калі не больш… Адзін з іх, які сядзіць праваруч, шэпча: "Ідзі напрамкі, не памылішся…" Другі, седзячы на патыліцы, пярэчыць: "Не, павярні ўправа…" На такім раздарожжы немагчымая свая, правільная дарога. Чытаю "Заратустру" Ф. Ніцшэ: "Я вучу вас пра звышчалавека. Чалавек ёсць нешта, што павінна быць прадоўжана. Што зрабілі вы, каб пераадолець чалавека? Што такое малпа у адносінах да чалавека? Смехатвор ці пакутніцкая ганьба? І тым жа самым павінен быць чалавек для звышчалавека – пасмешышчам ці ганебным пакутніцтвам? Нават мудрэйшы з вас – гэта толькі форма, якая вагаецца "паміж прывідам і дрэвам".

Гэтыя радкі я прачытаў, калі быў у сталінскім лагеры. І кнігу мне даў сусед па нарах. Сказаць, што Ніцшэ адкрыў мне нешта новае, дык не, проста прымусіў задумацца: я быў ці буду, жыў ці яшчэ буду жыць…Прыйшоў да высновы: чалавек пастаянна змяняецца, калі не сказаць – нараджаецца нанова, ён заўсёды ў палоне супярэчнасцяў і непастаянства. У ім адбываецца вечная барацьба супрацьлеглых пачаткаў. І яны ніяк памірыцца не могуць, як і перамагчы адзін аднаго. Гармоніяй не надзелены ніводзін чалавек у свеце. Пагэтаму гаварыць сур'ёзна пра чалавека дасканалага, "дадатнага", вобраз якога так настойліва патрабавалі ўвесці ў літаратуру ідэолагі камунізму, як казаў мой сусед па нарах, "не представляется возможным".

Адкуль узяты крылаты выраз: "Чужая душа – прыцемкі"? Чаму менавіта – чужая? А свая? Хіба ж з ёю ўсё зразумела? Нашая

душа – вельмі складаная камбінацыя і формула. Каб усе галасы, лічбы і словы, воклічы і крыкі ад болю ці радасці звесці ў адно, расставіць знакі прыпынку і вызначыць формулу арыфметычных дзеянняў, – усё гэтае мо і надало б тое, што завецца сугучнасцю...

Ува мне жывуць усе царствы прыроды, і я адчуваю сябе маленькім Сусветам. Пастаяннае змаганне спаміж смерцю і нараджэннем, клеткі дабрыні пажыраюць клеткі зла: і наадварот. Ува мне ёсць усё – пачынаючы ад мінерала і заканчваючы Вышнім. Ён ува мне, а я – у Ім. Ува мне раствараецца жаданне і імкненне духа Бога, Які падтрымлівае мяне дзякуючы адзінству з бясконцай свядомасцю Сусвету – гэта і толькі гэта набліжае мяне да гармоніі душы і цела… "Я – ад сягоння і ад папярэдне; але ёсць ува мне нешта і ад заўтра, ад паслязаўтра і ад некалі…"

Асабіста думаю, што звышчалавек не павінен належаць выключна толькі гістарычнаму будучаму. Калі ён і будзе некалі існаваць на нашай грэшнай зямлі, то павінен належаць як будучаму, так і мінуламу. Ён – не наш і нічыйны: ён з'яўляецца толькі для таго, каб пайсці. Што такое жолуд? Гэта – нараджэнне дуба. Што такое насенне сланечніка, якімі я частую Анфісу? Гэта – будучы сланечнік з новым пакаленнем насення. А ікрынка сёмгі? Яна памірае, а гэта ж нараджэнне новага жыцця… Так і звышчалавек – пакідае адно жыццё і пераходзіць у іншае…

Калі прыходзіць, Антон? Учора, заўтра, сёння? Ты пакутуеш на караблі, куды трапіў і сам не ведаеш, як, не можаш вызначыць, як працякае час. Часу зусім няма! Як і няма бесперапыннага і вечнага ўзнікнення, знікнення, прыпынку, зацішша, усплёску… Падзеі не знікаюць, як і не з'яўляюцца. Усё існавала заўсёды. Таму, я думаю, ёсць толькі вечная сапраўднасць. Вечнае ўчора, як і вечнае цяпер, вечнае заўсёды, як і вечнае – ніколі… Ні ты, ні я гэтага зразумець не зможам, як і ахапіць, даць нейкую ацэнку ўсяму гэтаму сваім абмежаваным і кволым розумам…

Ты можаш мне пярэчыць, спытацца: "Калі так, што ўсё ўжо існуе, і існуе далёкае будучае, а нашым думкам і пачуццям, імкненням і мары сотні і тысячы гадоў, – то гэтае азначае, што няма і жыцця, як і няма росту, няма эвалюцыі і няма распаду?.."

Усё ёсць, дарагі мой вучань, унук бабы Настазі – Антон!

І нішто не можа змяніцца, усё існуе зараней, адвечна, пастаянна. Але ж усё і мёртвае, нерухомае, – у застылых формах, сярод якіх б'ецца толькі крынічка нашай свядомасці.

Гэта яна, свядомасць, і стварыла сабе ілюзію нейкага вечнага руху. А яго, гэтага руху, насамрэч і няма. Ёсць толькі свет і – Сусвет, бясконцыя магчымасці. А ў ім свет бясконцых магчымасцяў. Усё ўнутры чалавека. Час – гэта не ўмоўнае існаванне акаляючага свету, а ўсяго толькі ўмова ўспрыняцця Сусвету нашай душой, нашай псіхікай …

Ну, не стаміўся ты яшчэ ад мяне, Антон? Думаю, што не…

Таму працягвай знаёміцца з радкамі, крытычна ацэньвай, падвяргай сумненню, бо ніхто ніколі не гаворыць ісціну – яна заўсёды недасягальная…Дык вось, ёсць унутранае і знешняе разуменне ідэі бясконцасці. На мой погляд, унутранае разуменне больш глыбокае і правільнае (якаснае), бо дае найбольш правільны падыход да ідэі звышчалавека. Калі ж бясконцасць існуе ў нашай душы і мы можам дакрануцца да яе, "ныраючы" ў сябе, тады і "будучае", і "звышчалавек" у нас. Патрэбна толькі абраць правільны шлях, каб адчуць, дажыць да гэтага. Калі ж чалавек пачне пошукі па-за межамі сябе, знойдзе звыш- ці суперчалавека ў самім сабе. Калі ж пошукі пачнуцца ўнутры сябе, то ён можа адшукаць яго… па-за сабой.

Упэўнены, надыдзе час Вышэйшага Розуму, які адкрые нам: чалавек – гэта зусім не тое, што мы пра яго думалі. І таму вымушаныя будзем вярнуцца, так бы мовіць, зноў на кругі свае…"

Я адклаў убок сшытак. Для першага разу дастаткова.

Асэнсую гэта, потым вазьмуся за астатнія радкі.

5

Зноў чуецца пяшчотны голас майго анёла-ахоўніка:

"Адарвіся ад сшытка свайго былога настаўніка, Антон. Больш пільныя клопаты чакаюць цябе… Прыйшла пара ісці да яго. Ён спіць…"

Не адразу зразумеў, што да чаго.

"Хто спіць? Да чаго прыйшла пара, Яніна?"

"Няўжо забыўся? Да Анатаса?"

"Даруй. Куды ісці? Дзе ён знаходзіцца?"

"Згодна з нумарам тэлефона, які ён табе даў, табе неабходна, пачынаючы ад дзвярэй тваёй майстэрні, мінуць шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць дзвярэй. Потым павярнуць направа, адлічыць ужо дзевяцьсот дзевяноста дзевяць дзвярэй. І зноў трэба павярнуць

направа – прайсці шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць дзвярэй. Такі нумар тэлефона, я не памыляюся?”

“Такі… А як саб’юся, няправільна палічу, ды не ў тыя дзверы пападу?”

“Не памылішся, табе будуць дапамагаць Жана і Павел…”

Каля парога і сапраўды стаялі мае памагатыя.

Яны ішлі папераду мяне, амаль датыкаючыся адно да аднаго плячыма, – вялі лік дзвярам. Мінулі зялёны калідор з жоўтымі дзвярыма, потым жоўты – з зялёнымі. Павярнулі направа – крочылі ўжо ў пурпуровым колеры, толькі дзверы сталі шэрымі, быццам Анатас разрэзаў свой капялюш на шматкі і абклеіў імі дзверы. Дзесьці на сярэдзіне шляху Павел спыніўся, пакруціў галавой, прамовіў, гледзячы на спадарожніцу:

– Трыста дваццаць шостая?

– Не, Павел, трыста дваццаць пятая.

– Дваццаць шостая, Жана, я добра лічыў… Ты памылілася.

І ў мяне атрымлівалася, як у Жаны, таму я нічога не прамовіў.

– Не, каханенькі-родненькі, гэта ты памыліўся… Гэтыя дзверы – трыста дваццаць пятыя.

“Ну, цяпер пачнецца, – падумаў я, успамінаючы, як яны, будучы глінянымі, прынцыпова спрачаліся між сабой. – І ўмешвацца мне нельга, каб усё не заблытаць канчаткова…”

Але, на маё здзіўленне, Жана саступіла ў спрэчцы:

– А, можа, Паша, гэта я збілася, не ведаю… Давай пачнем усё спачатку. А наш аўтар няхай пастаіць і пачакае нас.

– Добра! – ахвотна згадзіўся хлопец.

Яны пакінулі мяне аднаго. Павел атуліў Жану за плечы, нешта сказаў ёй, мусіць, смешнае, таму што дзяўчына рассмяялася, ды так гучна, што я спалохаўся, – хаця б не разбудзілі спакусніка. Праз колькі хвілінаў яны вярталіся ўжо назад.

– Дзвесце дваццаць восьмыя, так? – спытала Жана.

– Ды не, дзвесце трыццатыя…

– Што такое? – нахмурыўся Павел, недаўменна паглядзеўшы на дзверы. – Здзекуецца з нас капітан?

– Яго фокусы-мокусы. Вяртаемся назад?

Вярталіся ўжо моўчкі. Пайшоў і я разам з імі. Ішлі ўжо не ўпобачкі, а адзін за адным. А Павел пачаў пальцам дакранацца да кожных дзвярэй, пры гэтым шавяліў губамі, прамаўляючы лічбу…

– Шэсцьсот шэсцьдзесят адзін, шэсцьсот шэсцьдзесят два, шэсцьдзесят тры… – шаптала натуршчыца, засяроджана хмурачы лоб.

– Шэсцьсот шэсцьдзесят пяць, шэсцьсот шэсцьдзесят шэсць, – падсумаваў Павел.

– Супала, – абрадавалася Жана. – Прыйшлі.

– Вось яны, неабходныя дзверы, – прашаптаў ціха Павел ужо мне. – Тут, значыць, па нашых разліках, яго апачывальня… Ён тут…

– Разам пойдзем?

Яны адмоўна пахіталі галавой.

– Нам нельга. Толькі ты адзін можаш справіцца з Анатасам. Мы ж толькі твае персанажы, а ты – аўтар. Табе і карты ў рукі. Ты пачаў пісаць усю гэтую гісторыю – табе належыць і дапісваць яе. Дзейнічай!

– Але ж вы пачакаеце мяне?

– Не ведаем, усё будзе залежаць ад абставінаў. І – ад тваёй мудрасці.

Пры якіх абставінах і пры якой мудрасці – удакланяць не стаў.

Лёгенька дакрануўся ўказальным пальцам да дзвярэй, – і яны тут жа нячутна прачыніліся. Мне толькі заставалася пераступіць парог апартаментаў капітана "Алкепа"…

……………………………….

Старонкі з рамана "Якаў – брат Хрыста":

*"… пасля таго, як былі створаны Госпадам Богам неба і зямля*, і не пачало яшчэ расці ніводнага кустарніка і палявой травы, а толькі пара падымалася ад зямлі, – стварыў Бог з пылу зямнога і чалавека, уліўшы ў яго дыханне жыцця. І стаў чалавек душою жывою.

І на ўсходзе стварыў Гасподзь Бог рай у Эдэме. І змясціў туды чалавека. З зямлі пачало расці ўсялякае дрэва, якое было прыемна воку і з пладамі смачнымі, для страўніка годнымі. А пасярод рая пасадзіў дрэва жыцця і дрэва пазнання дабрыні і зла.

Пасяліў у садзе Эдэмскім чалавека, даручыўшы яму клопат аб працы на зямлі, каб пракарміць сябе. І каб хто не заблукаў выпадкова на тэрыторыю рая, варту вакол паставіў, наказаў чалавеку:

– Жыві, абрабляй зямлю, здымай багатыя ўраджаі. Будуць ісці дажджы, свяціць сонца –верныя памочнікі твае. Усяго ў цябе

будзе ўдосталь. Але памятай: ад усялякага дрэва ты можаш есці, а вось ад гэтага – пазнання дабра і зла, – не еш. Бо ў той дзень, і ў тое імгненне, калі ты пасмакуеш ад яго, смерцю памрэш…

– Зразумеў Цябе, Божа, зраблю ўсё, як Ты кажаш…

Гасподзь пасяліў чалавека побач з сабою, каб ён быў пры Ім. У сваім садзе. Каб тварэнне Яго жыло ў насалодзе. Месца тое знаходзілася на ўсходзе – вышэй усёй зямлі. Тую зямлю не маглі адолець ні бураны, ні вятры, ёй не пагражалі ні маланкі, ні пякельныя промні сонца… Паветра – чыстае, круглы год цвілі сады і расліны; усё пахла водарам жыцця і святла, і сам чалавек разумеў (а мо і не разумеў) і ведаў, – у раі жыве. І нікога не было побач, – чалавек, тварэнне Божае, жыў там адзін…

Бог клапаціўся аб ім, укладваў у яго розум і сілу, духоўныя пачаткі. Разуменне, што ён першы з людзей, і таму на ім ляжыць высокая адказнасць перад будучыняй, бо яму прызначана ўладарыць над светам. Таму і ўвёў яго на зямлю райскую – свяшчэнную і адзіную, навучаў – *быць больш чым дасканалым!*

Адам быў дасканалым, нават вельмі дасканалым, але – не звыш. Гэта звыш з цягам часу павінна было адбыцца, калі ён дасягне духоўнага росту. Бог стварыў і пасяліў побач з чалавекам жывёлу, а Адам тут жа даў кожнай вызначэнне – конь і бык, карова і каза, качка і гусь… Даспадобы было тое Госпаду. Адам не забіваў жывёлу, каб спажываць мяса, ён увогуле не ведаў смаку мяса, – яму было дастаткова таго, што расло на дрэвах, на зямлі, таму што Бог і стварыў яго з зямлі, – як гаршэчнік стварае з гліны гліняны посуд. Таму і сказаў чалавеку потым Гасподзь: “Вось што гліна – у руцэ гаршэчніка, то вы – у Маёй руцэ” (Іер. 18: 6). Асцярожнічаў, не хочучы, каб чалавек не ўздумаў пра сябе, што ён вышэй за ўсіх, абраны. Памятаў пастаянна, хто ён і адкуль ён, ні на імгненне не забываўся пра сваю сувязь з Творцам. Папярэджваў: *“... бо прах ты – і ў прах ператворышся”.* (Быццё. 3:19). Інакш – з зямлі ўзяты, туды і вернешся.

Між тым сусвету стала вядомая трагедыя Люцыфера – д’ябла, які першапачаткова быў створаны як *чысты дух*. Але д’ябал аказаўся ганарлівым і паў (Зыход. 14:12). Каб не паўтарылася зноў тое, Бог, ствараючы з праху зямнога чалавека, жадаў засцерагчы яго ад пыхі.

Назваў першага чалавека Адамам. Што азначае – чырвоная гліна. Бог дасціпны і ўсемагутны, яму не існавала ні мінулага, ні

будучага: усё сапраўднае – цяперашняе.Аднаго толькі не ўлічыў – натуры чалавека, – як паставіцца чалавек адносна дрэва пазнання дабра і зла. Таму пакінуў яму права выбару паміж часовым і вечным, тым, што гніе і тлее, і тым, што не паддаецца гэтаму.

Калі Адам асвойтаўся ў быцці, у Краіне Асалоды, Бог рашыў стварыць для яго жонку. Імя ёй дасць пазней сам Адам. Стварыў яе Бог ужо не з зямлі, а з рабра Адама, навёўшы на яго глыбокі сон. Прачнуўшыся, убачыў побач жанчыну, – Адам не здзівіўся, абрадваўся і ўсклікнуў:

– Во, гэта косць ад касцей маіх і плоць ад плоці маёй; ты будзеш называцца жонкаю, бо ўзятая ад мяне – ад мужа…

А пазней і будзе сказана: ды пакіне чалавек бацьку свайго і маці сваю, ды прылепіцца да жонкі сваёй: і будуць абое плоццю адной.

…На райскую зямлю прыйшло каханне, пяшчота. Бог любіў Адама і Жанчыну, а яны, у сваю чаргу, любілі Госпада. І не заўважалі таго, што хадзілі па Эдэмскім раі без адзення, бо яно і не трэба было ім. Не адчувалі сябе голымі. Не разлучаліся ні на хвіліну, бо не маглі ўжо адно без аднаго, – былі як адно цэлае, сапраўды, як сказаў Адам – *адна плоць.*

Д’ябал, палічыўшы сябе роўным Богу, упусціўшы ў сваю душу ганарлівасць і пыху, з зайздрасцю глядзеў на першых людзей, шкадуючы, мусіць, што па сваёй жа віне не належыць да іх. Зайздрасць і яшчэ – помста падштурхнула да таго, што ён надумаўся ўмяшацца ў іх жыццё, у іх цэласнасць. Але не знаходзіў зручнага моманту. Толькі ж быў ён цярплівы і мудры акі змей.

– Ці кахаеш ты, Адаме, сваю жонку? – аднойчы спытаў Бог.

– Так, і вельмі моцна.

– А ты, жанчына, як любіш свайго гаспадара?

– Так люблю, Божа, што баюся свайго кахання. Але найбольш мы цябе любім, Госпадзе!

– Я задаволены, як вы сябе паводзіце ў Маім садзе. Але пара вам, дзеці мае, ад асалоды кахання мець нашчадкаў, каб доўжыўся род ваш і рай насяляўся прыгожымі і мудрымі людзьмі. Пладзіцеся, размнажайцеся і насяляйце рай Эдэмскі…

Адам з жонкаю ўкленчылі, схілілі галовы, выказваючы тым самым пакору і адданасць.

– Вы ўжо саспелі для гэтага, і таму, калі на небе народзіцца малады месячык – начны ліхтарык, і народзіцца ён праз два дні, то і выкарыстайце спрыяльны час…

…Праныра-змей, створаны Богам, знаходзіўся непадалёку ад неразлучнай пары, колькі разоў прапаўзаў нячутна ў колькі кроках ад іх. Але яны не палохаліся, ведалі, што нічога ім у Божым садзе не пагражае. Ён чуў, пра што сказаў Гасподзь, і таму рашыў не губляць час…

Жанчына была створаная для Адама, і таму магла размаўляць толькі з ім. І – з Богам, сваім Стваральнікам. І – больш ні з кім. Бог наклаў на тое “табу” …

Адаму захацелася зрабіць для жонкі падарунак. Сам не ведаў, адкуль тое хаценне ўзялося. На высокай гары працякаў раўчук. А ў ім пераліваліся рознымі колерамі, бліскучыя аскалёпкі…

“ Я назаву вас золатам, – падумаў Адам і даў металу адпаведную назву, – і вы будзеце служыць чалавеку ўпрыгожаннем і неабходным хатнім ужыткам …”

Тое ўбачыў Адам яшчэ задоўга да з’яўлення яго жонкі. І цяпер, успомніўшы пра тыя бліскучыя цацкі, вырашыў прынесці некалькі і падараваць іх *“другой часціне плоці”…*

– І я з табой падымуся, Адам, на тую гару, – напрасілася жанчына.

– Не, баюся цябе браць туды, не пад сілу ўскараскацца табе на вяршыню, – запярэчыў Адам, – я не забаўлюся…

– Ой, Адам, баюся я адна заставацца, прадчуванне нейкае гняце… Не хачу я таго золата, Бог пра яго нічога нам не казаў.

– А раз не казаў, то і не забараняў. Ён толькі пра дрэва пазнання дабра і зла наказваў, каб не каштавалі плады. І таму і ты не падыходзь да яго ў маю адсутнасць.

І Адам пакінуў жонку адну.А змею толькі тое было і трэба. Ён нячутна падпоўз да жанчыны, скруціўся ў некалькі кольцаў. У жанчыны і ценю страху не было – кожны дзень яго бачыла. Назірала за Адамам, які аддаляўся, раз-пораз узмахваючы рукой, як бы супакойваючы яе…

А змей яшчэ бліжэй падпоўз да жанчыны, што і рукой дастаць можна было. Жанчына позірк скіравала на змея. Убачыла, што ў яго спіна пяшчотай выгінаецца, і расквечана рознымі колерамі, воку нават прыемна… Не ўтрымалася, пагладзіла яго па халоднай скуры.

– Якая ты прыгожжжа-ааа-ая і ладна-ааа-я, – прашыпеў затоена ўдаў, пасылаючы жанчыне промні туману і юрлівага жадан-

ня. – Якая ты гну-ууут-кая і стро-ооо-йная, вачэй не адарва-ааа-аа-ць, у дры-ыыы-жыкі мяне кіда-ааае…

– Скажаш такое, – ледзь прыкметна пачырванела жанчына, а пра сябе падумала: “Мне такіх слоў Адам ніколі не гаварыў… Ці не бачыў, што я сапраўды прыгожая? Якія салодкія словы ў змея… І яму ад мяне нічога не трэба, ён жа не чалавек, а словы яго такія  ласкавыя і пяшчотныя…”

– Скажу-ууу! Нікому такога не казаў, – млеў удаў, – ад цябе адарвацца немагчыма, незямное стварэнне, Божае зорнае стварэнне…

Салодкімі былі жанчыне атрутныя словы спакусніка, таму яна прагла іх усё больш і больш. Але ж мімаволі зірнула ў бок Адама, убачыла, як ён памахаў зноў ёй рукой. І яна яму памахала. Змей аціх. Жанчына падумала са шкадаваннем, што не пачуе больш яго чароўных слоў.  Пакратала яго за лоб, пагладзіла па спіне.

– І ты прыгожы, Бог ведаў, каго сюды пасяляць…

– Праўду кажаш…

Змей прыўзняўся, выгнуўся дугой. Жанчына прытуліла яго да сябе, дакранался да яго маладымі і тугімі, быццам спелыя яблыкі, грудзьмі.

– А спіна ў цябе як размаляваная – пераліваецца так узорна… Прыгожы.

– Я – не прыгожы, жанчына, я – мудры,

– А мудрасць – гэта што? Розум?

– Ды не зусім так. Гэта – найвышэйшае шчасце, насалода, юрлівасць… Мудрасць – гэта калі пражываеш жыццё без памылак, калі хочацца рабіць дабро, кахаць да вар’яцтва, забыўшыся пра ўсё на свеце. І пры гэтым атрымліваць незямное задавальнне. Гэта яшчэ саладзей, чым тваё каханне з Адамам, калі вы праз тры дні будзеце дзяліць з ім свой ложак… Можна сказаць і інакш: гэта калі ўсё ведаеш і няма над табою нікога, хто б скоўваў бы тваю волю і жаданні, хто можа адняць у цябе радасці і насалоду ў жыцці…

– Упершыню чую такія словы. Сапраўды мудрыя, аж сэрца заходзіцца, ніколі такога са мной не было.

– Бо пастаянна побач з табой твой Адам. Усюды толькі адзін Адам.

Змей прыўзняў галаву, паклаў ёй на калена. Наблізіўся да лона жанчыны, зашаптаў яшчэ з большым захапленнем:

– О, якое ў цябе багацце! Пастараўся Бог, пастараўся. З розуму можна калдыбнуцца. Да тваёй прыгажосці Ён дадаў яшчэ такую раскошу. З-за гэтага будуць адбывацца на зямлі войны, перамогі і паразы, будуць гінуць і нараджацца дзяржавы, будуць здрады і каханне, жарсць і жаданне…

А яна не адчувала ні сораму, ні дакору. Бо не ведала, пра што гаворыць змей. Бог шмат пра што апавядаў, але такога ў Эдэмскім садзе яна яшчэ не чула. Цела яе дрыжэла.

– Скажы мне, цудоўнейш-шшш-ая жанчына, – прашаптаў хрыпла і працяжна ўдаў, абвіўшыся ўжо вакол тонкаствольнай смакоўніцы, звесіў галаву з галіны – каля твару жыхаркі рая, – якая птушка сядзіць на вяршыні таго далёкага дрэва?

Жанчына напружана ўглядвалася ў далячынь, нічога не заўважыла, і Адама свайго ўжо не ўбачыла, – мусіць, падняўся на гару і пайшоў да ручая.

– Не ведаю. Бо не бачу. А навошта табе тое?

– Ды так, правяраю цябе, ці сапраўды ты такая дасканалая, якой стварыў цябе Бог. Тады скажы мне, прыгажуня, а хто спускаецца вунь з той гары?

– Не бачу.

– А ці ўмееш ты чытаць думкі Адама, калі ён побач з табою? Ці ведаеш ты, калі ён хоча нешта зрабіць, каб ты не ведала?

– Не.

– Во бачыш сама, што шмат чаго ты не ведаеш. Бог, мусіць, забыўся цябе  навучыць. А, можа, і не забыўся, пакінуў на “потым”, даверыў гэтую працу зрабіць мне…

Жанчына затоена пацікавілася:

– А гэта як, Змей? Ты не падманваеш мяне?

Ён засмяяўся, заківаў галавой, уздыхнуў:

– Хацеў я схаваць тайну, ды, напэўна, ніяк нельга гэта зрабіць. Тым больш, што ты асляпіла мяне сваёй прыгажосцю. Што ні зробіш дзеля прыгожай жанчыны… Адкрыю табе сакрэт.

Жонка Адама з нецярпеннем ужо чакала, што адкажа змей.

– Хаця які тут можа быць сакрэт? Вось глядзі, што я раблю…

Удаў, раскрыўшы пашчу, сарваў з дрэва яблык. Праглынуў яго, зірнуў на субяседніцу.

Яна ж нічога не разумела, чакала тлумачэнняў.

– Яблык вельмі смачны. Вазьмі і ты з’еш яго, і адразу станеш мудрай і ўсёвідушчай.

Жанчына нахумурылася, спалохана пакруціла галавой, пачала адмахвацца ад яго:

– Не-не, нам з гэтага дрэва нельга есці плады. Забаронена. З усіх, што растуць у садзе, можна, а з гэтага, што расце пасярод сада, – ні-ні…

І тады змей зноў абкруціўся вакол дрэва, зноў звесіў галаву да самай зямлі, прашаптаў таямніча-затоеным голасам:

– А ты ўспомні, цудоўная мая жанчына, пазбаўленая мудрасці: а ці сапраўды *дакладна* так сказаў Бог: "Не ешце ні ад якога дрэва ў раі?"

Жанчыне б змоўчаць, а яна з запалам уступіла ў спрэчку:

– Не, не так гаварыў Гасподзь. Калі дакладна: "Ад усякага дрэва ў садзе ты будзеш есці; а ад дрэва пазнання дабра і зла, не еш ад яго; бо ў дзень, у які ты пасмакуеш ад яго, смерцю памрэш…" Так мне Адам перадаў словы Госпада.

– Пераблытаў усё твой Адам альбо праўду схаваў ад цябе…

Рэптылія спаўзла на зямлю. Прыцерлася да сцягна жанчыны, пачуўся яе смех.

– Я больш чым стагодзе ўжываю гэтыя плады, – прызнаўся, не перастаючы церціся аб яе. – І што, хіба ж я мёртвы цяпер перад табою? Жывы я, жанчына, і доўга – яшчэ трыста гадоў – буду жыць. І ўсё дзякуючы гэтым яблыкам. Мудры, бо ўжываю гэтыя яблыкі штодня.

– А мы…

– І вы, паспытаўшы, не памрэце, – прашаптаў Гад, абвіваючы нагу жанчыны. – Не, не памрэце… У дзень, калі вы паспытаеце іх, адкрыюцца вочы вашыя, і вы будзеце як багі, зведаеце пра дабро і зло. Памрэце, як звычайныя людзі, а народзіцеся мудрацамі…

Яна пачула тое, што хацела пачуць – у ёй абудзілася жанчына.

– Няўжо ты гаворыш праўду, Змей? Сапраўды не хлусіш мне?

Гад адчуў пачатак сваёй перамогі, зразумеў, што дамогся свайго, здолеў падабраць ключык да сэрца жанчыны. Шкада толькі, што занадта слоў лішніх шмат патраціў, – у самым пачатку прашаптаць бы ёй на вуха што-небудзь нязначнае, але прачулае і пяшчотнае, і дастаткова было б.

– А калі я цябе падманваў? Спадабалася ты мне – вось і захацелася памагчы табе стаць багіняй. Разумная, прыгожая. А будзеш яшчэ больш прыгожай і разумнай. Твой Адам не нацешыцца табой. Будзе вам усяго, у тым ліку і кахання.

– У нас з Адамам і так усяго хапае. Ёсць соткі, якія мы абрабляем, поўна гародніны, садавіны, ягад, рыбы процьма ў нашых рэках… У нашым Эдэме ўсяго поўна.

– Тое табе толькі здаецца, бо абмежаваная. Вы толькі адчуваеце адно аднаго, але не бачыце сябе…

“Ой і хітрыш ты, змей, – мо крыху і роблена ўжо засумнявалася жанчына і не адчула, як на грудзі ўсеўся, а потым і ўпіўся ў сасок вялізны камар, пачаў смактаць кроў. І ёй было хораша. – Але ж я бачыла, як ты на маіх вачах еў забароненыя для нас яблыкі…”

Два пачуцці спальвалі жанчыну. Дзве супрацьлегласці разрывалі яе істоту. А змей тым часам заціх. Ён ужо зрабіў сваю справу і цяпер затоена выжыдаў, чакаў фіналу. А які́м ён будзе – загадзя ведаў, – чуў, як голасна білася сэрца жанчыны…

І яна, пэўна, прадчувала, бо не зводзячы вачэй глядзела на яблык: “Божа, як гэта я яго раней не прыкмячала? Які ён цудоўны саспелы. А як пераліваецца ў промнях сонца!.. Мусіць жа, праўду казаў Гад, што нічога страшнага не адбудзецца, калі паспытаю гэту смакату… Магчыма, і насамрэч нешта наблытаў Адам, ці не пачуў усяго, пра што казаў Бог. І сапраўды, чаму мы павінны жыць, не ведаючы, што такое дабро і зло? Вось і Гад…

Жанчына яшчэ нейкі час вагалася, не асмельвалася здзейсніць прапанаванае Змеем, хацела дачакацца мужа, – але нясмела і насцярожана выдаўжыла руку і – сарвала счырванелы яблык з яблыні Пазнання Дабра і Зла. Сарвала – і прыслухалася. Не, свет заставаўся такім жа, як і перад гэтым, – зямля не ўздрыгнула і не скаланулася, не загрымеў гром, не жыхалі перуны і маланкі. І Адам ужо, пэўна, спяшаецца да яе…

Рот поўны сліны. Не вытрымала, – упілася маладымі зубамі ў чырвоны бок яблыка. І пырснуў чырвоны сок на грудзі. Камар, набракшы яе кроўю, тут жа лена зляцеў. Яна не бачыла таго, бо прымружыла вочы. Адразу ж адчула незямны смак, – і радасць нечуванай дасюль асалоды і шчасця авалодалі ёй.

– Ну, і як – смачна? – прашаптаў спакуснік на вуха.

Адказала кіўком галавы, бо гаварыць не магла – рот і ўсё цела былі абязмоўлены, захоплены незямной слодыччу. Праглынуўшы рэшткі яблыка, прамовіла:

– Дзякую табе, Змей! Але чаго я цябе не бачу?

– Затое я цябе бачу. І цяпер ты Адама бачыш. Раней, на такой адлегласці, ты яго не бачыла…

Жанчына ўсміхнулася: да яе прыйшло супакаенне, і яна падумала, што дарэмна так хвалявалася і перажывала. Але адразу па-смакаваць другі яблык не захацелася – паклала на зямлю. Потым і яшчэ некалькі сарвала, паклала побач з ім. Уяўляла ўжо, як пачастуе Адама. Ён адорыць яе золатам, а яна яго незвычайнымі і дзівоснымі пладамі... Нават ад няяснага прадчування радасці сустрэчы з Адамам ёй стала лёгка і весела...

Яна ўбачыла, як ён набліжаўся да яе. Прыкмеціла на высокай гары разгалістае дрэва, і на ім, на шчыку, угледзела арлана. Яго пільнае вока высочвала здабычу, не выпускаючы з поля свайго зроку і яе. І смакаўніцу пранізала сваім позіркам, – убачыла нават, як пульсуе ўнутры ствала чырвоны, быццам кроў, сок. Падзівілася. Хацела пра тое сказаць гаду, ды не ўбачыла яго – папоўз, мусіць, некуды. А ён проста стаў нябачны ёй. Ён і да гэтага быў нябачны, гэта яна яго толькі ўяўляла. І цяпер ён, уяўны, нячутна абвіў яе, сціснуў у сваіх цісках-кольцах, пачаў пяшчотна і настойліва церціся аб яе грудзі і лона...

Жанчына застагнала, не ведаючы, што з ёю адбываецца. Адзначыла толькі пра сябе "нешта новае", і гэта новае ёй вельмі даспадобы. Яна ўжо не хацела разлучацца з "гэтым", жадала, каб яно працягвалася і працягвалася, а потым зноў прыйшло да яе і паўтарылася...Уяўляла, што гэта Адам так абдымае. Жанчына адказвала яго абдымкам, прыціскала мацней да сябе, здзіўляючыся, як гэта ён нячутна падкраўся... Да скроняў падкаціўся незразумелы боль, жарсць ахутала ўсю яе плоць.Ускрыкнуўшы, яна расплюшчыла вочы: Адама з ёю не было. І не здзівілася, і не задумалася над тым, чаму. Склала акуратна з яблыкаў горку – чатыры разам і адно зверху.

Адам прыйшоў і сеў побач. Найперш павесіў ёй, праз галаву, на шыю бліскучыя ўпрыгожванні. Да вушэй прымацаваў кропелькі блакітных каменьчыкаў. Яна ж не звярнула на іх увагі, паказала позіркам Адаму на сарваныя плады.

– Што гэта? – спытаў. – Адкуль яны ў цябе?

– Яблыкі. А што ты да гэтага іх ніколі не бачыў і не еў?

– Еў. Але яны былі ўсе жоўтыя, свяціліся на сонцы. А гэтыя нейкія чырвоныя і вялікія. З якога дрэва ты іх сарвала?

– А якая розніца, Адам? Галоўнае, што яны смачныя.

Яна зноў адкусіла бакавіну яблыка, пырснуўшы сокам на твар мужу:

– Смаката, Адам! Сапраўды, райскія яблыкі. Паспытай!

Адам зірнуў на плады, што віселі над галавой, паглядзеў на тыя, што ляжалі на зямлі.

– Ты што, жонка?! Што ты нарабіла? Што ўтварыла?!

– Ну, чаго ты так ускіпеў? Нічога страшнага не адбылося. Паспытай – растае ў роце... Не бойся, я ж жывая перад табой, не памерла.

Ён недаверліва і насцярожана ўзяў жончын пачастунак. Пакруціў, пад промні сонца падставіў. Узгадаў пра наказ Бога, але невядомы і прыемны пах зацьміў думку і розум. Рот напоўніўся слінай. Ён насцярожана надкусіў яблык...У тое ж імгненне і ў яго спала палярына з вачэй, сусвет расчыніў перад ім дзверы: горы і смакоўніцы, даліны і кветкі, жонка набылі новыя фарбы, новае гучанне, новы выгляд ... Раней ён толькі адчуваў жонку, а цяпер убачыў і вачам сваім не паверыў...

– Жонка! Ты ж – голая! – закрычаў здзіўлена Адам.

– І ты таксама, – без асаблівай трывогі адказала, і нечакана пачырванела, адчуўшы сорам...

“А чаму мы раней не заўважалі гэтага? – падумалі адначасова. – І гэта добра ці кепска, што мы пачалі разумець, заўважаць тое, што раней не заўважалі ... Чаму раней усё было схавана ад нас?”

– Божа! – усклікнуў, апамятаўшыся, Адам, адкінуў са злосцю ад сябе надкушаны яблык, ударам нагі раскідаў і астатнія. – Што ты нарабіла, жонка?! Бог нам не даруе гэтага граху!

Ён упаў на калені, сагнуўся, дакрануўшыся ілбом да зямлі, шаптаў і шаптаў горычныя словы, уцяміўшы, што адбылося... Жанчына перастала быць той, якой была да гэтага, – хітрасць і жарсць спакушальніка Гада напоўнілі яе істоту новым пажадлівым адчуваннем, унутраным спапяляльным агнём. Яна абняла Адама, прыціснулася, упершыся ў яго тугімі і вострымі саскамі, абпаліла яго як полымем – і яе агонь тут жа перадаўся і яму...

Гад назіраў за імі, стаіўшыся на ніжняй галіне смакоўніцы, – наталяўся асалодай перамогі, помсты самому Богу: ён аказаўся дужэйшы за Бога, бо ўмяшаўся ў яго тварэнне.

– Бог не ўбачыць нашага сораму, – супакоіла жонка Адама. Яна падала яму лісце смакоўніцы. – На, вазьмі і зрабі апаяскі, прыкрыйся...

Хваляванне Адама аказаліся дарэмнымі – Бог быў заняты сваімі клопатамі і ў Эдэмскі рай не прыходзіў.

Трывога Адама пакрысе аціхала, а потым і зусім пакінула яго.Нічога не адбылося, і таму супакоіліся муж з жонкаю, пра страх свой забыліся. Працавалі ў полі з ахвотаю, пад промнямі сонца пачарнелі, бы аліўкі, раз-пораз кідалі пажадлівыя позіркі адно на аднаго. І ўсё часцей і часцей клікаў муж сваю жонку на шлюбнае ложа, сам здзіўляўся з сябе, як такое магло адбывацца…

Змей ведаў, што, стварыўшы чалавека, Бог даў яму два шляхі – шлях жыцця і шлях смерці. Чалавек мог, ідучы за Богам, набыць бяссмерце. У Эдэмскім садзе чалавек мог жыць бясконца, не ведаючы, што такое дабрыня і зло, адначасова падапарадкоўваючыся ім, не заўважаючы таго. Гад змяшаў і парушыў ланцужок Божых задумаў і надзей.

– Якая ты прыгожая і прыцягальная! – здзіўляўся і радаваўся Адам прыгажосці жонкі, запрашаючы яе да зліцця целаў …

– Як доўга я, Адам, чакала тваіх слоў, – прызнавалася жонка, у яе ўсё больш і больш узрастала жаданне. – Чаму ты мне раней не казаў такіх слоў?

– Сляпы быў. Не бачыў цябе такой.

– І калі ж ты мяне “такой” убачыў? – тулілася пяшчотна яна да мужа, наліваючыся свербам, язычок прыкусіла, пранізвала яго паглядам, запальваючы яго …

– Пасля таго, як ты пачаставала яблыкам. Ты ўбачыла, што гэтае дрэва добрае для стравы, прыемнае воку і жарсці, таму што яно дало веды… Цяпер мы сталі мудрэйшымі, таму і з Богам будзем гаварыць інакш.

За гэтымі словамі адразу ж Змей быў тут як тут:

“Ты створана Богам толькі для таго, каб атрымліваць асалоду, – і табе, і мужу твайму…”

“Дзякуй, мудры Змей, але чаму не бачу цябе? Ты дзе?..”

“Цяпер ужо я ў тваёй душы… Пагэтаму ты мяне не будзеш бачыць, а толькі адчуваць… А Адама ты будзеш бачыць і чуць, і будзеш пастаянна дамагацца яго…”

Адам моцна прыціскаў да сябе жанчыну так, што ёй рабілася нават балюча. Але яна не паказвала гэтага. Ёй падабалася тое: боль і асалода адначасова.

– Раней такога я не ведала… Гэта лепш, чым рай, вышэй, чым рай…

І тады Адам падхопліваў яе на рукі, нёс воддалеч ад камянёў і калючак, клаў на мяккі і вільготны жвір. І крычала жанчына, як

ніколі не крычала ў сваім жыцці; стагнала, скрыгочучы зубамі, правальвалася ў бездань, у апраметную... Потым, раскінуўшы рукі, зняможана распластвалася на цёплым пяску...

Маўчалі, чакалі, калі выраўняецца дыханне. Здзіўляліся з саміх сябе, а яшчэ – чаму толькі з аднаго дрэва, якое расло пасярод рая, Гасподзь забараніў не толькі есці плады, а нават і набліжацца да яго? І самі таго не заўважылі, што прысвоілі сабе Божае права вырашаць, што такое дабро і зло, пайшлі па дарозе, якую рассцяліў перад імі д'ябал – прыраўнялі сябе да Бога. Як і не ведалі, што Эдэм і азначаў Насалоду. Бо знаходзіўся ён на ўсходзе – вышэй усёй зямлі, і таму ў ім, Эдэмскім раі, існавала найчысцейшае і найтанчэйшае паветра, а расліны і дрэвы цвілі і давалі плады круглы год, і яны вылучалі наталяльныя пахі, напоўненыя святлом.

Бог забараніў каштаваць плады ад дрэва пазнання дабра і зла. Адносна другога дрэва – Дрэва Жыцця – забароны есці яблыкі з яго не было. Бо яно між іншымі дрэвамі знаходзілася, як чалавек між жывёламі, як сонца паміж усімі планетамі. Плады райскіх дрэваў ужываліся для стравы, а плод дрэва жыцця – для здароўя і моцы. Адам і Ева, напрацаваўшыся за дзень і нахадзіўшыся, маглі наталяць толькі ўменне *жыць вечна,* не падазраючы таго, што прапанаваная імгавая асалода адабрала ўжо ў іх вечнасць.

На вялікі жаль, першачалавекі не выкарысталі гэтую магчымасць, імговая прапанаваная асалода засланіла ім вочы, і сэрцы атруціліся нецярплівасцю...

Адам з жонкаю, наталіўшы смагу, стомленыя каханнем і працай у полі, – задрымалі. Лёгкі ветрык абвяваў іх спатнелыя твары. Жанчына засынала і ўсміхалася, радуючыся таму, як яе маладое цела астывала, поўнячыся шчасцем.

"Як цудоўна жыць у Эдэме! – ці то шаптала яна сама сабе, ці то зноў Гад спакусліва сычэў ёй на вуха, а магчыма то іх галасы ўжо зліліся ў адно, і ўжо не разабраць, хто з іх быў Змеем, а хто жанчынай... – Колькі добрых і прыемных воку дрэваў пасадзіў для нас Гасподзь... І Дрэва Жыцця пасадзіў пасярод рая, і Дрэва Пазнання дабра і зла... А рэкі якія чыстыя і празрыстыя, поўныя рыбы!.. Ды хіба пералічыш усё, што ёсць у нас у Эдэме!.."

Адам абышоў усю раку Фісон і зямлю Хавіла, дзе золата ляжала пад нагамі, быццам крушні камянёў. Набраў поўны кош. Жонка не ведала, што з імі рабіць. Адам здагадаўся расплавіць

іх на агні, вырабіў кубкі і лыжкі, гладышы і каўшы. Сабраў на спіне доўгія косы жонкі, сашчапіў іх залатым вобручам. І тая прыдумка ёй вельмі спадабалася. А вялікую шырокую пласціну абагнуў па краях – і атрымалася вялікая міса, на якую можна было пакласці грушы і вінаград, персікі і ананасы.

У той жа посуд паклала і яблыкі, якія падвучыў сарваць Гад. Выбрала  самыя прыгожыя, крамяныя, чырвонабокія.І тады яна ўбачыла, што дужа прыгожа на ёй блішчаць пацеркі і камяні онікс, якія прынёс апошнім разам Адам. Яна ўжо ўпадабала іх.

Да абодвух непрыкметна падкраўся моцны сон. Воблакі схавалі сонца ў сваіх мярэжах.

Падзьмула прахалодай. Зашапталася трывожна лісце смакоўніц і яблыняў, трыснягі ў возеры,  пра нешта паведамілі іншым дрэвам яблыні – і ўсе захіталі галінамі, неспакойна нахіляючыся да зямлі... Напруціўся-наструніўся кожны ліст, задрыжаў, баючыся раней часу адарвацца ад галінаў...

Пачуліся нечыя крокі. Іх не чулі муж і жонка.

– Адам, ты дзе? – аднекуль данёсся спакойны Голас.

Чалавек уздрыгнуў, сеў, прыслухаўся – ці не падалося яму. Жонка спала  аголеная, не прыкрытая апаяскамі. Адам прыкрыў яе, пачаў будзіць.

– Ты дзе, Адам?

І тут страх пранізаў чалавека. Голас даносіўся з усіх бакоў, здавалася, гаварылі цяпер камяні і дрэвы, вецер і неба. Страх заўважыў Адам і ў вачах жонкі, якая прачнулася і сядзела побач.

– Хаваймася! – ускочыла, за руку пацягнула за сабой у гушчэчу дрэваў мужа. – Можа, абыйдзе нас Гасподзь..

І ў трэці раз, ужо незадаволеным голасам, папытаў Вышні:

– Адаме, сыне мой, куды ж ты падзеўся?

І тады зразумелі жыхары Эдэма, што гэта сапраўды Ён прагульваецца па садзе – наступіў жа час прахалоды.

– Тут я, Гасподзь Бог мой!

– А чаму ты не адгукваешся? У трэці раз прымушаеш клікаць цябе. Ніколі такога не было. Раней ты добра чуў мяне.

– Я і цяпер Цябе добра чую, але... Адразу пазнаў голас Твой, Гасподзь мой, ды напалохаўся вельмі.

– Напалохаўся? А адкуль табе, сын мой, вядома пра тое, што чалавек можа некага баяцца ці палохацца? Мяне – баяцца?

– Не ведаю і сам, Гасподзь мой. А не выходжу таму, што я голы і непрыгожа мне ў такім выглядзе паказвацца перад табою.

– Голы? Ты – голы, Адаме? – падзівіўся Вышні. – І ты ведаеш пра тое, што голы? Хто табе сказаў пра такое?

– Жонка мая сказала. І я бачу яе голую, як і сябе…

Бог зразумеў усё і быў абражаны. Стала крыўдна, што яны парушылі Яго наказ-запавет. Не ведаў, ці Яго віна была ў тым, што не прадугледзеў іх падзенне, ці гэта хто іх спакусіў і прымусіў. Ён здагадваўся, хто, і не выказваў злосці, бо менавіта гэтага і дамагаўся спакушальнік. Але ж гэта не зменшыла Яго суму.

Шкада, вельмі шкада, што так атрымалася. Заставалася ж зусім мала часу, каб муж і жонка самі дайшлі да ўсяго і засталіся несмяротнымі. Усяго толькі некалькі дзён…

– Ну, што ж, выходзьце са сваёй схованкі, ідзіце да Мяне, – уздыхнуў Бог, сядаючы на выступ скалы, – не бойцеся, выходзьце ўжо… Не памерлі каля Дрэва Пазнання Дабра і Зла, паспытаўшы плады яго, то і цяпер не памрэце… Пакуль што…

Змей споўз са смакоўніцы на зямлю, зашыўся ў нару. Жанчына першай не пайшла, выпхнула папярод сябе мужа. Абодва, саромеючыся, прыкрываючы грэх свой, выйшлі да Яго. Пасталі, схіліўшы галовы.

Гасподзь дакорліва і ў той жа час лагодна ўсміхнуўся, добразычліва папытаўся:

– Адкажы мне, Адам, сын мой улюбёны, паспытаў ты пладоў з таго дрэва, з якога я забараніў вам есці?

Чалавек баяўся ўзняць вочы, не было сілы паварушыць языком. З цяжкасцю вымавіў:

– Еў, Госпадзе…

– Мала было для цябе іншых дрэў? Голад падкаціўся да вас ці што іншае?

– Я не вінаваты, Гасподзь мой Бог! Калі я вярнуўся са свайго падарожжа і агледзінаў нашага раю, толькі збіраўся прылегчы і адпачыць, як жонка, *якую Ты даў мне*, прапанавала паспытаць плады. Яна не сказала, з якога дрэва былі сарваныя тыя яблыкі…

Бог не чакаў такога – Адам як папракаў Яго ў тым, што Ён даў такую спадарожніцу. Жонка таўхнула мужа пад бок – не спадабалася ёй, што ён выстаўляў яе перад Богам вінаватай.

– Чаго жонку пакінуў і ў горы падаўся?

– Упрыгожванні хацеў ёй прынесці – золата.

– Навошта яны ёй, Адаме? Я ж казаў, што “жонка прылепіцца да мужа свайго, і ніхто іх не разлучыць...” Ты і гэты запавет Мой парушыў... Хто ці што цябе падштурхнула да гэтага? – А ты, – павярнуўся да жанчыны, – як адважылася на такое?

У голасе Бога гучала ўжо, здаецца, і асуджэнне.

– Не вінаватая я, Гасподзь Бог мой! Невінаватая! Я прасіла Адама, каб ён не пакідаў мяне, не паслухаў... Адна баялася заставацца.

Бог глядзеў на яе, як яна неспакойна стаіць на месцы, быццам танцуе на гарачай патэльні:

– А хто ж тады вінаваты, жанчына?

Голас Госпада стражэў і стражэў, рабіўся грамчэйшым і былі ў Ім ужо крыўда і расчараванне.

– Ды ён усё – Гад. Нашаптаў мне розных салодкіх слоў, запэўніў, што не будзе вялікага граху ў тым, калі я паспрабую яблык з таго дрэва... Сам сарваў і падаў мне. Ну, я і адкусіла і... і – не памерла. Тады і Адама пачаставала, як вярнуўся. Няма віны на мне...

Бог узняў твар да неба.Схавалася ў аблоках сонца. Успыхнулі маланкі на даляглядзе, азарыўшы сполахамі і зыркім святлом прасторы раю, загрымеў гром. Яго змяніў пярун. Палаючая страла ўтыркнулася ў зямлю побач з Адамам і яго жонкай, захісталася. Жанчына ўскрыкнула, учапілася рукамі ў плячо мужа...І тады ж хлынуў лівень. Але муж і жонка не сыходзілі з месца. Холад абняў іх, і яны пачалі дрыжэць...

Бог маўчаў. Па твары Яго цяклі дажджавыя струмені, Ён не выціраў іх. І не зразумець было: ці то Неба плакала з-за таго, што грэшнікамі сталі першыя людзі, ці то сам Гасподзь плакаў ад таго, што дапусціў такое...Яшчэ ж быў шанец, Бог даваў яго першалюдзям, – апошні шанец: укленчыць, упасці ніц на зямлю, прызнаць шчыра сваю віну, а не спасылацца на спакусніка (з ім – асобная размова), пакаяцца, паабяцаць ніколі не грашыць болей, – размова пайшла б іншым кірункам, Ён мог бы дараваць, зноў прызнаць іх за “сваіх” і тады...Калі ж спаўзло шэрае прасцірадла воблакаў і перастаў ліць дождж, зноў выглянула сонца, уздыхнуў Бог, запытаўся:

– Ну, а ты чаго схаваўся пад зямлю, Змей? Хто прасіў цябе ўмешвацца ў створанае Мной? Ты нашкодзіў ім, нашкодзіў чалавецтву і самому сабе. Чаму ты справакаваў такую гнюснасць?

Змей не спяшаўся апраўдвацца. Ён выпаўз са свайго сховішча, стаіўся на значнай адлегласці ад Вышняга – неўздалёк ад мужа і жонкі. Не каяўся, ведаў, што пазбаўлены Божага пакаяння, з пагардай глядзеў на мужа і жонку яго. Ён адчуваў сябе пераможцам, прымяняючы ўсяго толькі слова, не прымусам і сілай, імкнучыся груба парушыць чалавечую прыроду і існасць… І страху ў Гада не прыкмячалася, хаця ён быў гатовы да самага горшага. І смерць яго, падобна, не хвалявала. Радавала, што перамудрыў самога Творцу…

– За тое, змей, што ты ўтварыў, будзеш жыць пад пракляццем, будзеш хадзіць ты на чэраве сваім, і есці прах зямлі ва ўсе дні жыцця твайго…

Маўчаў Змей. Маўчалі людзі ў чаканні прысуду сабе.

– І яшчэ… – Бог загаварыў ужо цішэй, але Голас быў чутны па ўсёй зямлі і ў Нябёсах, і звернуты ён быў да людзей. – Варажнечу пакладу паміж табою і спаміж жонкаю, спаміж семенем тваім і спаміж семенем яе – яна будзе цаляць табе ў галаву, а ты будзеш толькі джаліць яго ў пяту…

Бог схіліў галаву, уздыхнуў.

Сорам і пякельны жах сышоў, муж і жонка адчулі і зразумелі, што адбылося страшнае і непапраўнае, што яны не ў сілах ужо нешта змяніць. Падобна змею, іх таксама прыгаварылі. Нешта цяжкае і непахіснае прыгнятала іх да зямлі. А да гэтай пары маглі ж лётаць над зямлёй. Гасподзь даў ім крылы анёлаў. Яны і былі анёламі, Божымі стварэннямі.

Жонка, семя жонкі, семя змея… Ніхто з іх не разумеў слоў, прамоўленых Богам. Гэта потым ужо чалавецтва, якое пойдзе ад іх – ад прабацькоў, будзе ведаць сэнс З’явы… Праваслаўная Царква з’яўляецца жонкай. А Царква заўсёды будзе весці барацьбу і змаганне з семем змея – а гэта і бадзякі на ніве Божай, і сыны пагібелі, гэта і сам антыхрыст-д’ябал, які будзе заўсёды існці супраць Святой Царквы (Прасвятой Багародзіцы). Семя жонкі будзе біць змея-д’ябла ў галаву, а змей можа джаліць усяго толькі ў пяту, якая таптала прах зямельны, і джала змея не ўвап’ецца ў падножжа Царквы…

Бог глядзеў сабе пад ногі, углядваўся ў зямны шар. Не выказваў свайго настрою тым, хто прагневаў Яго. Не жадаў жорстка караць першапасяленцаў рая, але ж і пакінуць усё проста так, пусціць на самацёк, не мог… Ды і плаціць за ўсё трэба …

“От калі б ты, Адаме, Мною створаны, адразу прызнаўся ў сваім граху, укленчыў перада Мною, пакаяўся, ды папрасіў пры гэтым даравання, то яно б, напэўна, усё інакш было б і далей, – думаў Бог, не адрываючы позірк ад зямлі, на якой адбіўся след жанчыны – бегла хавацца з мужам у густыя зараснікі. – А калі б жанчына адразу прызнала свой грэх, пакаялася, ніцма прыпаўшы да зямлі… Дык жа не, не на сябе паказала, а на змея-спакусніка… А Адам жонку абвінаваціў. Адзін на аднаго паказваюць, і таму вінаватых у грэшным дзеянні быццам бы нікога і няма… Ну, падумайце, паразважайце, ёсць яшчэ шанец, даю яго вам, дзеці мае любасныя!..”

Зноў загрымеў гром і ўздрыгнула і застагнала  зямля.

Але не пахіснулася нават скала, на якой сядзеў Гасподзь.

Творца марудзіў, чакаў, спадзеючыся, што сэрцы чалавекаў яшчэ не да канца ачарсцвелі  і яны вось-вось адумаюцца і ўсклікнуць: “Госпадзе, даруй! Каемся, вінаватыя мы ў граху нашым!..”

А яны, апусціўшы вочы долу, як скамянелі, стаіліся ў грахоўнасці. Не дачакаўся Гасподзь ад першалюдзей пакаяння і прызнання сваёй віны.

Голас Творцы зліваўся з магутнасцю грома, калі гаварыў Ён.

– Жанчына! Слухай мяне ўважліва. Памнажаючы, памножу скруху тваю ў цяжарнасці тваёй. Ты прадоўжыш род чалавечы, дасі яму жыццё. Але ў вялікіх пакутах будзеш нараджаць дзяцей… І да мужа твайго ўзмоцніцца цяга твая. І ён будзе тваім гаспадаром. Ты зведала, што такое каханне і юрлівасць, жарсць, і таму будзеш чакаць ад яго пяшчоты, а ён будзе гаспадарыць над табою…

Маўчала жанчына, не падымаючы галаву. Не магла ні ўздыхнуць ні выдыхнуць.

– Адаме, сын мой! Да апошняга чакаў ад цябе, што ты апамятаешся! Не дачакаўся… За тое, што ты паслухаўся жонку сваю і еў з дрэва, пра якое Я запаветаваў табе: “не еш ад яго”, на зямлю абрынецца праклён мой… Са скрухай будзеш сілкавацца ад яе ўсё жыццё – церні і бадзякі будзе табе даваць яна, і ты будзеш харчавацца палявою травой. Тут фізічная праца была вам у радасць,  хаця яна , можа, і не была лёгкаю, але вы лёгка маглі пракарміць сябе і ўсіх тых, каго вы нарадзілі б, і наступным пакаленням. А цяпер што... Харч свой ты будзеш здабываць і есці

хлеб з потам на твары тваім да тае пары, пакуль не вернешся ў зямлю, з якой Я і ўзяў цябе. Бо прах – ты, і ў прах вернешся. Ты ўсё зразумеў, сын Мой Адам?

– Так, Гасподзь Бог мой! Усё зразумеў.

– І вось што яшчэ, Адам… Ты меў мудрасць і розум даваць імёны ўсім, хто жыў побач з вамі, а жонцы сваёй не даў. Якое імя ёй дасі?

Адам паглядзеў на жонку:

– Калі яна будзе доўжыць жыццё на зямлі, то і імя ў яе – Жыццё. А гэта азначае – Ева. Яна стане маці – прарадзіцельніцай усіх тых, хто будзе жыць на зямлі.

Ева, пачуўшы сваё імя, на знак падзякі кіўнула галавой.

– Што ж, вы самі абралі сваю дарогу і жыццё. Я вам даваў выбар да самай апошняй хвіліны, але вы, на жаль, не выкарысталі маю літасць. Так таму і быць.

І ўздрыгнула целам Ева, хацела прытуліцца да пляча мужа, каб хоць трохі сагрэцца. Яшчэ больш холадна стала ў Эдэме.

– Што ж, дзеці мае… Вам будзе яшчэ халадней. Пагэтаму вазьміце вось гэта, – з цеплынёй у голасе прамовіў Бог, падаў ім футры невядомых звяроў. – А там, у мяшку, цёплае адзенне, апраніцеся… Наперадзе вас чакаюць холад і голад, сцюжы і маразы, скруха і адчай, войны і патопы, здрада і жарсьць. Калі перапоўніцца сасуд Майго цярпення, назіраючы за бязглуздасцю грахоўнага жыцця людзей, я пашлю свайго Пасланніка, каб паказаў вам дарогу да будучыні, да жыцця вечнага, узяўшы вашы парокі і грахі на Сябе...

Яны не разумелі словы Вышняга, хаця і слухалі Яго, разуменне прыйдзе на шмат стагоддзяў пазней.

Дасталі падарункі, прымерылі абновы. Як спецыяльна сшытыя для іх – у самы раз. Не ведалі толькі Адам і Ева, для чаго выдзеліў ім тое адзенне са скуры – у Эдэмскім садзе заўсёды было цёпла, толькі пры заходзе сонца магла насунуцца вечаровая прахалода. І, значыць, для таго, каб вырабіць скуры звяроў, прыйшлося забіць тых звяроў. Такога ў Эдэмскім раі яшчэ не было. Нешта парушылася ў Эдэме, нешта паламалася, – няўжо яны былі першапрычынай гэтага?!

– Адам зрабіўся, як адзін з Нас, бо ведае ўжо, што такое дабрыня і зло. Сам даведаўся. Я і Сам даў бы яму тое веданне, ды ён паспяшаўся, на вялікі жаль. Абое паспяшаліся. Калі б вы па-

каяліся, прызналі свой грэх, я можа, і пакінуў бы вас у Маім садзе. Але цяпер асцерагаюся. Адам з-за слабасці характару ды і з-за таго, што ён пад пятою ў жонкі, можа адчаяцца на непапраўнае – наслаць пагібель на род чалавечы… Пакіну Адама з Еваю, а ён возьме аднойчы ды і сарве, як яго жонка, яблык з Дрэва Жыцця, да пасмакуе яго. І стане жыць вечна, як Я…

– Господзь Бог мой!.. – паспрабаваў нешта запознена сказаць грэшнік, але Творца падняў руку, забараніўшы яму выказвацца далей, і Адам спатыкнуўся на паўслове, сцяўся, абмяк…

– Ты ўсё сказаў, Адам, да гэтага. Але Я, на жаль, не тое пачуў ад цябе, што жадаў пачуць. Зусім не тое. Значыць так, усё, што неабходна чалавеку, Я мог даць вам, абавязкова даў бы, даў бы жыццё вечнае… Але… Але…

Не асмеліўся чалавек вымавіць хаця б адно слова, як і яго спадарожніца…

– А цяпер слухайце, што Я скажу вам… Прэч абое з саду Эдэмскага! Прэч! Вяртайся, Адам, у тую зямлю, з якой ты і ўзнік.

І ішоў Бог ззаду іх на ўсход ад саду Эдэмскага – выгнаў з раю праз вароты. А каля высокай, пад неба, залачонай аркі – Брамы – паставіў Херувіма і даў яму меч, які тут жа загарэўся агнём, сам і паварочваўся, каб ахоўваць дарогу да Дрэва Жыцця…

*“Адам спазнаў Еву, жонку сваю; і яна зацяжарыла, і нарадзіла Каіна, і сказала: “Набыла я чалавека ад Госпада…” І яшчэ нарадзіла брата яго, Авеля”* (Быццё 4: 1-2).

Памылялася Ева, кажучы – ад Госпада. Не Ратаўніка яна нарадзіла, а першага чалавеказабойцу. Адмовіўшыся ад праўды Божай, ад волі Тварца …

6

Мне прыйшлося адкласці старонкі напісанага. Нехта ці нешта перашкаджала пісаць далей… Калі так, то меліся, значыць, на тое прычыны. Вольна абыходзіўся з біблейскімі фактамі?

І параіцца не было з кім, праверыць самога сябе…

… У пакоі ціха, паўзмрок стаіўся ў кожным кутку.

Недзе непадалёку ад мяне хроп з прысвістам спакуснік. Прыслухаўся: гэта злева, у суседнім пакоі – за прачыненымі дзвярыма. Прачыніў іх шырэй. І там валадарыў паўзмрок…

Д’ябал спаў, накрыўшыся шэрай прасцінай, загарнуўся ў яе. Адкінуў толькі галаву, прыўзняўшы бараду. Брыль шэрага капелюша напалову закрываў твар. Нешта шавялілася каля паўраскрытага рота. Прыгледзеўся – падалося, што там клубок змей. Падобна было, што і яны пахропвалі ці шамацелі, церучыся адна аб адну шаршавымі бакамі. Антыхрысту, падумалася мне, не хапала адно толькі капытоў. Падушка і прасціны пакрытыя чорнай вадкасцю, ліпкай і густой, быццам нафта. Яна сцякала і распаўзалася каля ложка.

Не заўважыў, як падэшвы маіх чаравікаў прыліплі да падлогі.

“Яніна, а дзе ж сейф, – паслаў я першы сігнал сваёй абаронцы, – не бачу яго ў спальні?..”

“Трэба прайсці яшчэ праз двое дзвярэй – туды, дзе яго пульт кіравання”.

Пайшоў далей, прачыніў адныя дзверы, потым другія, пераступіў парог і трэціх… Пашукаў позіркам сейф. А ён аказаўся побач з уваходам, – уманціраваны ў шэрую сцяну, зліваўся з ёю.

“Знайшоў. Як адкрыць яго?..”

“Нумар тэлефона…”

Тры табло з зялёнымі нулямі. Я набраў на кожным патрэбныя лічбы. Дзверцы сейфа ўздрыгнулі і расчыніліся. На ніжняй паліцы, на белым аркушы паперы – а то і была мая дамова з д’яблам – ляжаў мой крыжык. Я ўзяў яго і пацалаваў, папрасіў даравання ў Бога, што не збярог, што ім авалодаў д’ябал.

Тут жа павесіў яго на шыю. Адчуў, як па целе разлілося дабрадзейнае цяпло. Схапіў з паліцы паперу, скамечыў яе, запіхнуў у кішэню, каб, прыйшоўшы ў свой пакой, спаліць…І ў той жа момант да мяне прыйшло здзіўленне. Я ўбачыў, што па акруглай велізарнай сцяне, ў строгім шахматным парадку, нагрувашчаны адзін на адзін экраны вялізных манітораў. Тое, што паказвалі яны, жахнула мяне…

На крайнім, самым большым, – мая каюта, дзе я спаў, дзе жыў. Зразумела, мяне там у гэты момант не было. На стале стаяла ваза з кветкамі, побач – гара “зялёных”…

А справа… Справа – мая майстэрня. Ды не тая, што выдзеліў мне Анатас, а тая, што ў Навабеліцы. З люстрай, з глінянымі статуэткамі, з тэчкай, у якой знаходзіўся рукапіс… Вышэй – о, Божа! Ліка ходзіць па кватэры, штосьці шукае – перабірае кнігі на паліцы, рэчы ў шафе. Значыць, ён увесь гэты час сачыў і за

мной, і за Лікай!.. Ён ведаў пра кожны мой крок, быццам цень, быў неаддзельны ад мяне, – расстаўляў мярэжы і капканы…

Пачуліся трывожныя поклічы Яніны:

“Не забывай пра час, Антон! Нельга больш там знаходзіцца. Паветра, якім дыхае Анатас, атрутнае для цябе. Праз колькі хвілінаў ты можаш знепрытомнець і загінуць… Хутчэй выбірайся адтуль!..”

Хуценька прычыніў дзверцы сейфа – табло “абнулілася”, – і ў долі секунды праскочыў усе дзверы. Затрымаўшыся каля перадапошніх, паглядзеў на спакусніка. Ён цяпер ужо не пахрапваў, а хроп, як кажуць, ва ўсю іванаўскую. Злаваліся, бачачы мяне, гадзюкі, высоўвалі атрутныя джалы, стараючыся дацягнуцца да мяне…Адчуў, як перабіла нешта дыханне, павяло ўбок. Хутчэй, хутчэй нясіце мяне ногі адсюль, пакуль не ўпаў пад атрутным уздзеяннем д’ябла! Ратуйце маю душу! Sos! Sos!

Выскачыў у калідор, прыхінуўся спінай да сценкі, асунуўся на падлогу. Падагнуліся ад слабасці ногі, сталі ватнымі. Усё яскрава бачыў перад сабой. На калідоры Паўла і Жаны не было. Не дачакаліся мяне? Хіба я так доўга “гасцяваў” у д’ябла? Адно толькі жаданне жыло ўва мне – дабрысці да ложка і ўпасці, забыцца пра ўсё. Але парог сваёй каюты пераступіў няскора. Ішоў да яе, здавалася, цэлую вечнасць.

“Я ўжо на месцы, Яніна!” – паслаў у сусвет тэлеграму.

“Я радая за цябе. Усё ўдалося?”

“Больш намечанага!..”

Перад тым, як упасці ў ложак, выцягнуў з кішэні скамечаную паперку, узяў запальнічку, пстрыкнуў – паднёс яе да “дамовы”. Папера ўспыхнула, быццам яе хто абліў бензінам, выбухнула ў маёй руцэ – чорны попел узняўся да столі і павольна спадаў долу…

“Добрага сну табе, Антон!..”

“Дабранач…”

## 7

У дзверы нехта асцярожна пастукаў.

На парозе вырасла постаць Анатаса Алкепава. Капітан Нэма, ён жа – Ньютан, ён жа – спакуснік, ён жа – вялікі маг і чараўнік, ён жа – камандор, ён жа – Д’ябал і Люцыфер.

– Заходзь, мой капітан! – як не крыкнуў я, седзячы за сталом, стараючыся быць вясёлым і бадзёрым.

Ён прыставіў пальцы да чорна-шэрага брыля, казырнуў:

– Гонар маю, мой галоўны мастак і майстар, вітаць цябе і бачыць у добрым настроі. Гэта мяне радуе.

Паручкаліся. Ён, як звычайна, сеў у крэсла, утапіўшыся ў яго.

– Так, усяго ў нас хапае. На тое ён і рай – алкепаўскі рай. Праз дзень, дружа, я прадстаўлю табе магчымасць зноў пабываць там, на вашай зямлі. Зноў ты будзеш нябачным. Будзеш нябачны тады, калі счэпіш пальцы рук. Расчэпіш – станеш бачным... А калі затоіш дыханне – праз момант ты акажашся тут. Усё даволі проста. А каб не заўважылі тваёй адлучкі жонка ці сябры – вось табе гадзіннік. Усёчасовы і ўсёпланетны. Кожнае дзяленне на цыферблаце адпавядае адной гадзіне зямнога часу... Бяры, пакуль я добры.

Гадзіннік незвычайны. Цыферблат белы, а па цэнтры – чырвоная паласа. Гэта напаміналα мне пра той час, калі мы праводзілі першыя абуджальныя мітынгі пад такімі штандарамі. Анатас, падобна было, стараўся мне дагадзіць ва ўсім, нават і ў сімволіцы.

– Вельмі і вельмі ўдзячны табе, дзякуй!

– Ну і слаўна, ну і цудоўна! Значыць, ты не перадумаў за ноч – быць тут, і быць там адначасова? Быць маім пасланнікам на тваёй зямлі. Як рэдакцыі газет ці тэлекампаніі пасылаюць сваіх *уласных карэспандэнтаў* у розныя краіны і на другія планеты. Вось і ты будзеш маім *улкарам* на зямлі. Дык як?

– Чаму быць, таго не мінеш! Назад толькі ракі поўзаюць!

– Пасля заўтрашняга прысвячэння і прэзентацыі партрэта ты – *Primus inter pfres!* Будзеш маім першым намеснікам. Ушчыльную зоймешся разам з Хурсам расшыфроўкай Святога Пісання. Зробіш заставачкі да Вялікай Кнігі, якую мы выдадзім для ўсіх краінаў свету. Напішаш пра жыццё на нашым ветразніку: *“Рэквіем “Alkep”*.

– Праўдзівую, спадзяюся, выдадзім Кнігу?

– Найпраўдзівейшую!

Люцыфер-Антыхрыст падняўся з крэсла. Падаў руку, моцна пацікснуў маю. Адказаў тым жа. Страху ў маёй душы не было, адно ўпэўненасць і прадчуванне добрых пераменаў.

– Сёння ў нас апошні сеанс. Ты наводзь марафет – галіся, мыйся і прыходзь у залу. Разам перакусім, а потым пойдзем у май-

стэрню... А заўтра а васямнаццатай гадзіне, бач, сума сумы – усё роўна – дзевяць, і прашу ў нашую канферэнц-залу.

– Па-першае, я не ведаю, дзе гэта, а, па-другое, яшчэ не навучыўся вызначаць мясцовы час, – ці то паскардзіўся, ці то папракнуў яго.

– Не бяда, – адмахнуўся Люцыфер, – цябе прывядзе нашая афіцыянтка. Яна добра арыентуецца ў часе...

За Д’яблам зачыніліся нячутна дзверы.

На тое, што ў мяне шыя была абгорнутая шалікам, ён не звярнуў увагі. Не ўбачыў? Не заўважыў? Ці быў упэўнены, што мае намаганні марныя?

... Калі набліжаўся да стала, з шырокіх, пад дрэва, дзвярэй, выходзіў Сатана. З вінтавой лесвіцы спускалася няспешна Яніна – несла на падносе падмацунак. Яе абцасы раўнамерна і рытмічна, як маятнік гадзінніка, адбівалі па падлозе знаёмую мне мелодыю.

На твары абыякавасць. На мяне нуль увагі, і я стараўся глядзець не на яе, а на Анатаса.

– Возьмем па кроплі? – прапанаваў капітан Нэма.

– Не, сёння не хочацца... Так і спіцца можна, кожны дзень ужываючы.

– Ад гэтага не сап’ешся... У ім амаль няма і аднаго адсотка алкаголю.

– Не, мой капітан. Перапынак зраблю. У мяне ж сёння адказны сеанс, можна сказаць, што апошні, заключны... Трэба ясныя мазгі...

– Хай будзе так... Ну і я адзін не буду.

Яніне ён не прапаноўваў, як я помніў, ні разу і ніколі, адносіўся як да прыслугі.

Есці мне, калі шчыра, асабліва не хацелася. З тайным недаверам глядзеў на грушы.

– Нейкі ты сёння наструнены, мой дружа, – прамовіў ціха Заказчык, не адрываючыся ад салаты.

– Звычайны настрой, – пацiснуў плячыма. – Звычайны рабочы стан, калі думаю пра працу. Хвалююся трошкі... Хацеў бы паглядзець, як бы ты адчуваў сябе на маім месцы...

Больш да мяне за сталом ён не загаворваў. Снедалі, хаця і без апетыту. Абодва займаліся сняданкам, хаця жаваў без апетыту – каўтаў праз сілу. Нічога не лезла ў рот, нічога не хацелася...

Каля мяне стаяла вялізная шклянка з чырвоным сокам – таматным? Нейкі час раздумваў – піць ці не.

“Абавязкова выпі. То для цябе падрыхтавала...”

Зрабіў некалькі вялікіх глыткоў. Так і не разабраў, з чаго ён выраблены.

– Я гатоў, – выцер салфеткай ружова-сінія губы гаспадар.

– І я таксама. Дзякуем, Яніна.

– Тады – рушым, – першым і падняўся Люцыфер, пакіраваў да расчыненых шырокіх дзвярэй.

Перад дзвярыма павярнуўся да мяне:

– Адразу ў майстэрню ці прагуляемся па караблі?

– Не, у майстэрню.

Ён кіўнуў колькі разоў галавой, расчыніў перада мною дзверы.

Па калідоры мы ішлі ўпобачкі, ледзь-ледзь дакранаючыся плячом да пляча. Адчувалася, што нехта і яшчэ быў непадалёк ад нас – ці то за дзвярыма, ці то пад намі, а мо і над намі...

Насустрач нам, хуценька перабіраючы нагамі, у чорным касцюме, лысы, рухавы чалавек спяшаўся некуды. Але спыніўся, звярнуўся да Анатаса, прымружыўшы вочы ў хітраватай усмешцы:

– Любезнейший, не подскажете ли вы – теег’яф уже взят?

– Взят. Только что.

– Пьекьясно, пьекьясно, товаищ матьёс – мы победим! Завтья будет поздно!

Гэтак жа, схіліўшы галаву, ён, трымаючы ў руцэ паперы, заспяшаўся далей. Мы зайшлі за вугал і павярнулі ўправа.

Ля дзвярэй стаяў вусаты, увесь пабіты воспай, чалавек, трымаў у руках піпку. Звярнуўся да мяне:

– Ви нэ подскажэтэ, уважаемый художник, прыехал ли с фронта Зюков?

– Не ведаю, – адказаў разгублена, не ведаючы, што гэта азначала і як мне трэба адказваць, а вусач недаўменна перакінуў позірк на Алкепава – як пытаўся, верыць мне ці не...

– Приехал, приехал, – паправіў становішча капітан, – и будет завтра на политбюро.

– Я так и знал, – расцягваючы словы, прамовіў чалавек з піпкай, трымаючы яе ў акамянелай руцэ. – Спасыбо!

Потым нам дарогу перабягаў нехта у пенсне, у капелюшы з шырокімі брылямі, побач – чалавек у кіцелі з кароценькімі вусікамі, трымаў у руках кнігу. Яны стаялі ледзьве не ў абдымку.

З вусікамі звярнуўся да нас абаіх:

– Sie lebst “Mein Kampf”?

– O, ja, ja, gutes das Buch!..

– Пра што ён спытаў, Анатас? – але як адышлі колькі крокаў, пазнаў фюрэра і зразумеў яго пытанне.

– Ці любім мы яго кнігу “Майн Кампф”. Адказаў, што вельмі харошая кніга. А яна і сапраўды цудоўная. Мая школа!

– Я заўважыў, што тут усе лагодныя, памяркоўныя, з чалавечымі тварамі, і не скажаш, што забойцы, дыктатары і гвалтаўнікі, што на іх сумленні тысячы і мільёны чалавечых жыццяў... Ты, як я бачу, кожнага пазнаеш, ведаеш кожнага?

Фюрэр, як аказалася, ад нас далёка не адыходзіў. Ён, бачна было, перамяніўся, на некага сварыўся, размахваў рукамі:

– Не думайце, што мы прайгралі! Мае сямёра пасвячоных заключылі саюз з “сіламі звонку”, далажылі мне, што касмічная акцыя будзе выканана… Мне адданыя выпускнікі вышэйшых школаў – бургаў і манахаў. Прадстаўнікі асобага містычнага прызначэння і ордэна “Мёртвая галава”! На Эльбрусе, свяшчэннай гары арыйцаў, мне далі клятву воіны секты “Сябры Люцыфера”. Там быў узняты сцяг з нашай свастыкай па ўсіх правілах рытуала Чорнага ордэна! З гэтага і пачалася наша касмічная эра. Я заўсёды прыслухоўваўся да Фюрэра – майго тыбецкага манаха. Мы будзем уладарамі свету!

Анатас слухаў яго, згодна ківаў галавой, і мне падалося, што ён вось-вось ускіне наперад правую руку, лясне абцасамі сваіх чаравікаў і выкрыкне “хайль!”.

– Мы падпісалі дамову з “розумам звонку”, незямным розумам. Мы правядзем чалавецтва праз страшэнныя катастрофы і глабальныя мутацыі, але даб’емся таго, што станем самымі магутнымі не толькі на зямлі, а і ў космасе, бо мы належым да “Вышэйшага невядомага”!

– Анатас, я ўспамінаю пра кнігу французскіх вучоных “Раніца магаў”, – не адставаў я ад яго, – гэта пра фашызм… Вучоныя сцвярджаюць, што Нямеччына падверглася тады аграмаднаму духоўнаму перавароту, тым самым атрымала велізарнае духоўнае развіццё. А ў самой краіне і там, дзе адбывалася акупацыя, кіраваў і гаспадарыў “іншы свет”, “па той бок”, “пазамежныя далячыні…” Гаворачы мовай праваслаўнай тэрміналогіі, кіравалі і прывівалі сваю ідэалогію “падшие духи”. Гэта ён пра іх казаў?

– Так, пра іх…

– І да гэтага ты прыклаў руку, ці не так?

Фюрэр сцвярджальна кіўнуў галавой.

– У цябе тут самы сапраўдны прыватны паноптыкум? – канстатую я, калі адышлі ад Адольфа. – Музей жывых васковых фігур?

– І так можна сказаць. Насельніцтва павялічваецца і павялічваецца. У сутарэнні майго фрэгата прыбываюць грэшнікі і праведнікі… А ў асноўным тыя, што і тут жадаюць верхавенства. Ну, мы ім трохі абламваем рогі. Затойваюцца, як бы чакаюць чаго…

– Ты, падобна на тое, прыцягваеш нейкім магнітам позадкаў і падонкаў. Заманьваеш, спакушаеш, як і мяне?

– Яны самі сляпіцай да мяне лезуць, – пагадзіўся Люцыфер. – А вось цябе я не заманьваў. Ты сам напрасіўся.

– А Яніна? А Павел і Жана? Самі – добраахвотна да цябе прыйшлі? А Хурс? А шмат іншых …

– Сілай іх я не цягнуў сюды. Яны самі, як і ты ў тралейбусе, убачыўшы, што збіўся з дарогі, усклікнуў: “Чорт мяне пабяры!”

– Дык я ж бяздумна, не мог і падумаць, што чорт побач і што так яно выйдзе… Я ж…

– Я ж, я ж… – перакрывіў мяне Нэма, – мёдам сябе абмаж.

– І невядомасць наўсцяж, – прадоўжыў з падкавыкай.

– Словамі на двор ходзіш, словаблуд... Ты ж тут, як вольны, вольнанаёмны,  – у любы момант можаш пакінуць мой фрэгат. А вось, як ты кажаш пазадкі, – у іх тут “ вечная прапіска. “Алкеп” для іх – і палітычны прытулак, і рай, і пекла… Хаця яны тут непадсудныя – але па-за законам. Я і толькі я рашаю: казніць ці мілаваць.

– Бог, цар і воінскі начальнік?

– Нехта ж павінен гэтую банду ў лейцах трымаць.

На наступнай перакрыжоўцы, непадалёк ад нас, спыніўся сагнуты, з перакрыўленым тварам, абгорнуты ў крывавыя прасціны, той, які рабіў замах на Хрыста. Нэма на  знак прывітання падняў руку. Ірад схіліўся ў паклоне...

– І ён тут?

– А дзе ж яму быць? Усе яны тут. Толькі мне здаецца, ты дужа чорнымі фарбамі намаляваў яго. Ну, жорсткі, ну, пакараў сваіх сыноў, што хацелі адняць у яго ўладу... Ну, адабраў жыцці

нявінных дзяцей, дык што? І нічога дадатнага ты не ўбачыў у ім? Чаму?

Значыць, ён прачытаў мой рукапіс.

– Якім бачыўся, такім і атрымаўся. Паміма маёй волі… І як ты гэтую погань адшукваеш, пасяляеш разам?

– Проста. На кожнага, хто жыве на зямлі, у мяне дасье. У Бога свая Кніга, а ў мяне свая. Ён пра добрае і богапатрэбнае, а я – наадварот. І ў мяне іх болей.

– І на мяне ў цябе ёсць кампрамат?

– А як жа. Як без яго… Які я ўладар усіх светаў, калі нехта на зямлі поўзае без нагляду – толькі ўсеагульны перапіс насельніцтва, і асабліва брыдотнае, каб ведаць каго, ад чаго і як лячыць, а каго…

– Сусветны санаторый "Алкеп"?

Нэма зарагатаў, задраўшы бараду, паказаў белыя і роўныя зубы – як у юнака.

– А можна і так сказаць. Своеасаблівы рэабілітацыйны Цэнтр. Усе на аловачку. У адным спісе, і ведаюць пра гэты спіс…Станеш паўнапраўным жыхаром нашага фрэгата, маёй Ладдзі, маім першым намеснікам, атрымаеш бязмежную ўладу – кіраваць жывым чалавекам і складана, але як соладка. Таму я і завуся д'яблам, Люцыферам і Сатаной. А ты мне яшчэ і дадаў прозвішчаў: дыктатар, фюрэр… Цвелішся, гуляеш са мной? Давай пагуляем…

– Давай пагуляем, – мовіў я і пахаладзеў: д'ябла мне ніколі не перагуляць, але ж ці не гэтым я толькі і займаюся апошнім часам?

Ён не адхіснуўся, не запярэчыў, паціснуў толькі плячыма:

– Пагуляем. Мне даўно пара ўжо паразмяцца, падурэць. Ты будзеш ратаваць чалавецтва ад маіх козняў, а я буду іх табе падсоўваць. Бо Стваральнік нешта прыціх апошнім часам. Няма з кім і дзіды скрыжаваць, у карты, у дурня перакінуцца. Ты, дарэчы, любіш у карты гуляць?

– Не, дружа. Пазбаў мяне ад гэтага, ведаю, чым гэта ўсё заканчваецца.

Д'ябал сумна ўздыхнуў, пацёр пальцамі скроні.

– Усе вы, як і жанчыны, іхняе "не", заўсёды "так" урэшце рэшт. Успомні лаўку ў парку. Ты напачатку ад яе таксама адхіснуўся, а потым і адарваць ад яе цябе нельга было. Зразумеў, што яна боль здымае, лечыць.

“Дык гэта яго гульні? А я галаву ламаў, як такое магло адбывацца. Ён мяне, як наркамана, прывязаў да той лаўкі...”

– Атрымліваецца, што ты і прадметы можаш адушаўляць?

– Атрымліваецца, дружа мой, атрымліваецца.

– Такую навуку і я хацеў бы асвоіць.

– Навучыць гэтаму нельга... – уздыхнуў Анатас. – Гэта – альбо ёсць, альбо няма. У цябе задаткі ёсць...Увогуле, скажу табе, чалавек – такая жывёліна, у якой сабраныя ўсе таленты, нават мо і залішне, як, дарэчы, і ў цябе. Ды ты ўжо, як я разумею, авалодаў гэтым мастацтвам?

– Якім мастацтвам... – апамятаўшыся, пачаў даваць задні ход. – У цябе сотні і тысячы імёнаў, а якое імя дасі мне ты, калі я “прапішуся” на тваёй Ладдзі Роспачы, якую геніяльна апісаў наш Валодзя Караткевіч?

Ён стрэльнуў у мяне вокам, здзівіўся, усміхнуўся:

– Якое? А ты сам і прыдумай. Выбірай любое, якое табе даспадобы. Потым скажаш. У мяне тут усе вольныя ў сваіх учынках і жаданнях. Я не той Бог, які больш усё забараняе. Я – літасцівы і добры, заўсёды іду насустрач чалавеку.

8

... – Антон, скажы мне шчыра, а ці лічыш ты сябе таленавітым – літаратарам і мастаком?

Мы ўжо сядзім пад высокай пальмай, на нас не падаюць пякельныя промні сонца, павявае прахалодны вятрыска – такі камфорт стварыў для мяне мой Заказчык, капітан Нэма, Сатана, Люцыфер.

– Літаратарам – не, далёка мне да літаратара, а вось які я мастак – не ведаю, проста працую пэндзлем.

– Разумна адказаў, але не шчыра, – схіліў галаву мой рабаўласнік. – Ой як няшчыра... Ты таленавіты, нават геніяльны, але цяпер, здаецца мне, ты ў дэпрэсіі. Чаму?

На высокім узгорку, павольна перастаўляючы ногі, плёўся адзінокі вярблюд. На ім ніякай паклажы, гуляў сам па сабе.

– Вось я прачытаў тое, што ты напісаў пра цара Ірада. Напісаў няпраўду. Не ўбачыў яго сапраўднага, даверыўшыся папярэднім пісакам. Яны хлусілі, а ты следам за імі.

Гэта нешта ўжо новае. То Сатана хваліў мяне, падахвочваў, а тут...

– Ты ўсё пераблытаў. Хто раней нарадзіўся – Хрыстос ці Ірад? Ірад Вялікі – такім яго называюць гісторыкі – нарадзіўся яшчэ да новай эры – у 73 годзе. Я вымушаны расказаць табе пра яго, каб абвергнуць цябе. На прастол Ірад быў узведзены рымлянамі па ініцыятыве трывуміра Марка Антонія. У 31 годзе да новай эры адбылася бітва пры Акцыі, пад час якой Марк Антоній загінуў. Іраду нічога не заставалася, як перайсці на бок Актавіяна, пераможцы. За што атрымаў ад яго вобласці на беразе Міжземнага мора і яшчэ – у Заіярданні. Ірад выдатна разбіраўся ў будаўніцтве. Ён заснаваў Цэзарыю і ўзвёў іерусалімскі палац і шмат якіх іншых збудаванняў у Грэцыі і Малой Азіі. Перабудаваў храм Яхве ў Іерусаліме. Ты пішаш, што Ірад быў жорсткі. Так, правільна… Народ яго не любіў, як не любіў ніхто.

– Агульнавядома тое...

– Спытаеш, чаму тады яго называлі Вялікім? За трыццаць тры гады яго кіравання Іўдзейскае царства мела прыблізна тыя ж самыя межы, як і ў часы Давіда. Скажу больш: Ірад (ты можаш не пагадзіцца са мной) прывёў сваю краіну да эканамічнага і культурнага росквіту. Так, менавіта да росквіту, як тое ні прадаксальна гучыць…

– Дзіўна чуць такое.

– У яго была запаветная мара – стварыць Вялікую Іўдзею. Для тых жа іўдзеяў, якія ненавідзелі яго. Мы толькі можам здзіўляцца, як ён удала вёў гаспадарку і гандаль, аднаўляў разбураныя гарады. А які порт ён пабудаваў у Кесарыі! Ірад Вялікі з усіх сілаў імкнуўся далучыць сваё царства да еўрапейскай цывілізацыі – да грэка-рымскай.

– Але ж ён адправіў на той свет жонку, цешчу, трох сыноў сваіх і шмат якіх іншых родзічаў! – не вытрымаў я. – А апошнія гады свайго кіравання ён увогуле плаваў у крыві!

Д'ябал пахітаў нязгодна галавой, не гледзячы на мяне:

– Ну і што? Жонак у яго было шмат, як і родзічаў, а страх страціць уладу найбольш праявіўся пад старасць. Адкажы мне, Антон, – калі не стала Ірада Вялікага, жыхары краіны ўздыхнулі з аблягчэннем, – і што, стала лепей жыць пасля тыраніі дыктатара? Не, мой дружа, краіна за кароткі час прыйшла ў заняпад і хаос. А ў сямідзясятым годзе, як ты ведаеш, быў разбураны Іерусалім…

Вагаўся – адстойваць мне маё бачанне пра крыважэрнага вылюдка роду чалавечага ці пагадзіцца з ім.

Гісторыя падсоўвае нам і не такія парадоксы.

– Дарэчы, мы можам пацікавіцца ў жыхара майго валадарства пра нашае пытанне, – паглядзеў за маю спіну Антыхрыст.

Я азірнуўся. Па пяску, цягнучы ногі ў скураных пасталах з тоўстай падэшвай, сунуўся пакрысе ў наш бок невядомы мне чалавек. Прыкрываў хусцінкай галаву, каб не так паліла сонца.

– Гэта вядомы рымскі гісторык і географ Страбон. Эй, дружа! – крыкнуў у яго бок Нэма. – Падыйдзі да нас.

Страбон падышоў, абаперся рукамі на драўляную парэнчу, паглядзеў на Люцыфера:

– Вас цікавіць Ірад Вялікі? Я і пры жыцці не любіў яго, але паважаў, бо быў ён асобай з вялікай літары. Рэзка выдзяляўся сярод сваіх папярэднікаў. Умеў заводзіць знаёмствы і хаўрусы з вялікімі свету свайго часу: рымляне лічыліся з ім, паважалі, здзіўляліся яго мудрасці, аб’явілі, што ён сапраўдны цар…

Д’ябал кінуў вокам на мяне, як бы мовіў: “Ну, вось бачыш, а ты мне не верыў…”

– Я адзначыў бы яго і іншыя якасці, – працягваў гісторык Страбон, – у крытычныя моманты, якія надараліся, ён паводзіў сябе сумленна і смела. Калі ж Марк Антоній, якога Ірад падтрымліваў, пацярпеў паразу ад Актавіяна і, не задумваючыся, пазбавіў сябе жыцця, Ірад тут жа адправіўся ў Рым. Для чаго? Ён стаў смела і годна перад пераможцам, не баючыся, што той можа адсячы яму галаву за стасункі з яго праціўнікам… Я прапаноўваю вам паглядзець на той трагічны момант, дасведчыцца, якая гэта была неардынарная асоба. Глядзіце, а я пайду па сваіх клопатах…

Ён прачырыў у паветры прамавугольнік, які адразу засвяціўся блакітным колерам, Ірад прамаўляў перад Маркам Антоніем сваю запамінальную прамову… А потым і экран знік, а мы з Анатасам апынуліся на вялізнай плошчы ў цэнтры Рыма.

Убачылі перад сабою Ірада. Ён выглядаў неяк інакш, чым тады, як я знаходзіўся ў яго і сцяліў пасцелі. Адухоўлена, годна:

– Шаноўныя грамадзяне! Шаноўны і дастапачцімы Актавіян! Вялікі Рым і яго грамадзяне! Бог бачыць, я любіў Марка Антонія і рабіў усё тое, што ад мяне залежала, каб аказаць яму дапамогу ў захаванні вярхоўнай улады. Так, я прызнаю, а тое вы і самі выдатна ведаеце, што я забяспечваў яго не толькі войскам і грашамі, а і ўсімі астатнімі прыпасамі і дарагімі камянямі. О, вялікі і мудры Актавіян! Калі б я не быў заняты вайной з арабамі, то

і цяпер ахвотна і з усёй адданасцю прысвяціў бы сваё жыццё служэнню вашаму суперніку. Таму звяртаюся да вас з адзінай просьбай: не лічыце, што быццам бы я ў хвіліну няшчасцяў здрадзіў яму. Не і яшчэ раз – не! Прызнаюся яшчэ: калі ж мне стала вядома і зразумела, што ён ідзе на пагібель, сказаў яму: “Антоній, паслухай мяне! Пазбаўся зараз жа Клеапатры, і ты станеш зноў тым, кім ты ёсць, заключыш з Актавіянам выгадны і ганаровы мір”. Калі б ён паслухаўся мяне, яго пагібель ніколі не азмрочыла б небасхіл Вялікай імперыі! На вялікі жаль, ён адрынуў маю параду, і вы цяпер, шаноўныя рымляне, пажынаеце плады яго неабачнасці… І калі ты, шаноўны і паважаны ўсімі Актавіяне, палічыш мяне дастойным тваёй дружбы, укінь мяне ў вір самых суровых выпрабаванняў!..

Камера ці нечае фіксуючае вока прайшлося па тварах людзей, што стаялі на плошчы. Яны маўчалі, гледзячы на Ірада Вялікага. А потым, як хто падаў каманду, ускінулі рукі і ўсклікнулі:

– Слава Іраду Вялікаму! Слава!

Разам з усімі падняў рукі да неба і Алкепаў:

– Іраду Вялікаму пашана і слава!

Жыхнула маланка, задрыжала ад грому зямля, пачаў церусіць дробны дождж… Мы засталіся на плошчы адны, а потым і плошча знікла, і блакітны экран. Сядзелі ўжо зноў пад пальмай…

Воддалеч ад нас, слізгаючы па пяску, імкнуўся дабрысці да вільчыка жоўтай гары гісторык Страбон.

Я быў уражаны, прыгнечаны.

– Каб ты навучыўся лётаць праз сусветы і часы, як мы цяпер, ведаў бы, што адбывалася напраўду, – без папроку прамовіў Нэма.

Не ведаю, праз які час, але мы зноў адправіліся ў майстэрню. А нас нехта адводзіў, збіваў з тропу, блытаў сцежкі і дарогі.

Воддалеч ад нас прагульваўся вярзіла, метры з два ростам, – велікан. У батфортах, у сінім каптане. Вырачаныя вочы. Глядзеў на мачтавыя караблі, што стаялі каля прычала, чуцен стукат сякераў і малаткоў. Вярзіла падышоў да цесляроў, пра нешта спытаў. І тут жа разразіўся гневам, узняўшы пудовыя кулакі…

Не спыняючыся, пайшлі далей.Падняліся на гару, на вяршыню, – стаялі на раскаленых камянях, аж пякло у ногі, хаця былі тоўстымі падэшвы абутку.

Пад’ехала машына – “віліс”. З пярэдняга сядзення лёгка саскочыў на пясок, з белай накідкай на галаве, афрыканец. Казырнуў нам, як старым знаёмым, і адвярнуўся, пачаў правяраць задняе кола, біў яго нагой, прыгінаўся і заглядваў пад спод...

Пакінулі яго, пакрочылі далей.

Наш далейшы шлях перагарадзіла нейкае збудаванне – высокае і круглае, выrabленае ці то са срэбра, ці то з плаціны, адсвечваліся бакі пад зыркім сонцам. Круглыя вокны, вялікія, метры з тры ў дыяметры. Капітан Нэма накіраваўся да падножжа, паказваючы, каб і я ішоў за ім.

Спыніліся. Загадкава паглядзеў у мой бок Антыхрыст. Пачуліся пераліўчатыя, быццам пошчак салаўіных трэляў, гукі; потым я ўбачыў, як пачалі рассоўвацца квадратныя дзверы – такога ж колеру, як і ўся будыніна. Да нашых ног апусцілася лесвіца, быццам запрашала падняцца і зайсці ўсярэдзіну срэбнага каўчэга.

– Спякотна зноў стала, ці не так? – паглядзеў на мяне капітан. – Давай асвяжымся. Гэта і ёсць наш прахаладжальны пакой. Зойдзем, прымем душ, мінералачкі халодненькай вып’ем…

Пасля таго, як мы падняліся, нехта прыбраў трап. Зачыніліся дзверы. Капітан павёў мяне за сабой. Тут прамых калідораў, як на фрэгаце, не было – яны цягнуліся па акружнасці ад нябачнага цэнтра. І сапраўды стала прахалодна, нават слабым ветрыкам падзьмула – мусіць, працавалі кандыцыянеры.

Д’ябал спыніўся каля круглых дзвярэй – і яны расчыніліся. Мінулі і яшчэ некалькі дзвярэй, пакуль не падышлі да квадратных, на якіх прымацаваная шыльдачка з жоўтым кружочкам. І гэтыя дзверы бязгучна самі расчыніліся.

Анатас жэстам паказаў мне на нейкі пульт у цэнтры пакоя:

– Садзіся ў крэсла капітана гэтага карабля.

– Якога карабля? Хіба ж мы на караблі?

– На караблі-касмалёце, які на зямлі называюць чамусьці НЛА. І слова ж прыдумалі – неапазнаны. Яшчэ – талерка. Апазнаны ён, апазнаны, лятаючы аб’ект. Хутчэй святла імчыць. Хутчэй думкі. Вы запусцілі кансервавую бляшанку ў космас і палічылі сябе пакарыцелямі нябёсаў? Гэты – прасцейшая і вельмі старадаўняя канструкцыя. Некалі мы і на ноўшым палятаем, а пакуль на гэтым… У нас аэра-касмадромы на розных планетах... Раскажу табе пазней пра іх. Сёння ж мы толькі правядзем з табою размінку-падарожжа. Так што кіруй, ты цяпер капітан.

Паглядзеў на яго – здзекуецца?

– Я ж не ўмею…

– Умееш, умееш… Любы зможа. Скажы, брацe, куды б ты хацеў адправіцца на гэтым касмалёце? Ведаю, ведаю… У свой мікрараён, так? Ну, тады загадай такое жаданне. А потым націсні кнопачку “выканаць”.

Задумаў, націснуў. Не прайшло і секунды, як мы апынуліся… на дзіцячай пляцоўцы каля нашай вышынкі. Соладка заныла пад лыжачкай.

– Напэўна, ты і жонку хочаш пабачыць, ці не так? Пазвані, во тэлефон.

Усё адбывалася, бы ў сне. Набраў нумар, пайшлі гудкі.

– Алё, хто гэта? Слухаю вас… – пачуўся голас жонкі.

Паглядзеў на камандора.

– Гавары ўсё, што палічыш патрэбным… – “дазволіў” ён.

– Гэта я, Ліка, добры дзень!

– Ты?! – вырваўся амаль стогн з яе грудзей. – Ты дзе? Адкуль ты звоніш? Прыехаў ужо?

– Не, прыляцеў… Я каля нашага пад’езда. У касмалёце – ну, у НЛА. Ты выйдзі, і я ўбачу цябе. Толькі ці ўбачыш ты мяне, не ведаю. Ты хіба толькі памахай мне рукой, я буду рады і гэтаму. Ні пра што ні пытайся.

Капітан адабральна кіўнуў галавой.

– Вось што яшчэ, Ліка. Каб ты паверыла, што я тут, выкіну табе пачку “зялёных” на дах дзіцячага доміка. Ты забяры іх на маіх вачах.

Праз хвіліну з пад’езда выйшла жонка.

Агледзеўшыся, памахала мне, нябачнаму, рукой, нават пацалунак паветраны паслала, – здзівіўся, што так магла рабіць мая каханая жанчына.

Яна, як быццам адчувала, дзе мы маглі быць, накіравалася да нас – да дзіцячай пляцоўкі. Падышла і спынілася каля пясочніцы.

– Я ёй памагу, – Спакуснік падняўся з крэсла, паспяшаўся да выхада.

Не паспеў запярэчыць ці спыніць Нэма, як ён ужо стаяў на металічнай горцы, з якой спаўзалі дзеці. Яны ці то не бачылі Анатаса, ці былі захоплены сваім, не звярталі на яго ўвагі. Нэма стаяў і ўсміхаўся, не зводзячы вачэй з Лікі. У руцэ трымаў пачак зялёных банкнотаў.

– Мы вас чакаем, Ліка! – падняў руку Нэма. – І Антон чакае вас.

– А дзе ж ён? – папыталася яна. – Я пазнала – то вы прыходзілі да нас, каб заказаць Антону намаляваць ваш партрэт.

– Правільна, гэта я – Анатас Алкепаў. А Антон побач са мной. Калі ласка, Ліка, падыміцеся па гэтых прыступках.

– Па прыступках? – удакладніла недаверліва Ліка. – А я не ўпаду?

“Божа, ён хоча заманіць яе на касмалёт?!”

– Анатас, не трэба! – крыкнуў з усяе сілы. – Мы так не дамаўляліся! Чуеш?..

А Ліка падымалася ўжо да нас. Пахіснулася, ледзьве не ўпала, але ўхапілася за падстаўленую руку Люцыфера.

– Вы сапраўды хочаце ўбачыць Антона, пераканацца, што ён жывы і здаровы?

– Хачу. Дзе ж ён? Не бачу я яго.

Ён аддаў ёй даляры – яна тут жа паклала іх у сумачку.

– Давайце разам зробім крок – і ступім на борт НЛА.

І яны ўвайшлі ў карабель. Ліка, убачыўшы мяне, аслупянела.

– Вось ён, ваш Антон! Жывы і нічым не пашкоджаны. У крэсле пілота. Мы шпацыруем па космасе, і да вас рашылі завітаць.

Нашыя погляды сустрэліся. І я зразумеў, што на гэты раз жонка бачыць мяне. У Лікі шырока раскрыліся вочы, твар азарыла радасць, і яна накінулася на мяне з кулакамі:

– Ты дзе ж гэта, гад такі, прападаў столькі часу? Па космасах гойсаеш? Нас адных пакінуў?!

– Не пакінуў… – я страціў мову, не мог далей гаварыць.

Выручыў Алкепаў:

– Ліка, дарагая, супакойцеся! Нічога страшнага не адбылося. Ён бы вярнуўся праз тыдзень, як пайшоў да мяне, але, згодна нашай заключанай дамовы, ніяк не змог скончыць працу. Цяпер жа застаўся ўсяго адзін сеанс, толькі адзін. Дапіша – і адразу вернецца. Абяцаю. Я не падманваю вас. Спытайцеся ў яго, калі не верыце.

– Гэта праўда, Антон?.. Праўда? Антон, я хачу быць побач з табой, дзе б ты ні знаходзіўся, чуеш?

Я адхіснуўся, амаль адштурхнуў яе рукамі, закрычаў:

– Не жадай гэтага, Ліка, дарагая мая, не жадай! Падумай пра дачок.

– Анто-ооо-ннн… – паліўся ліслівы і таму недаверлівы голас Спакусніка, – калі жанчына просіць, калі жанчына хоча, то чаму ты супраць?

– Анатас, не лезь у нашыя адносіны! Хопіць, што я табе прадаў сваю душу, не чапай хоць яе! Ліка, я знаходжуся ў пекле, а ён – Д'ябал, і я пакуль не магу пакінуць яго. У нас дамова. Зразумей мяне правільна, вельмі прашу, як ніколі ў жыцці не прасіў. Ён стрымае сваё слова і адпусціць мяне. Я ўжо завяршаю яго партрэт. Адумайся!

Жонка, відавочна, не разумела, што адбываецца і дзе яна сама знаходзіцца.

– Дык вось як ты са мной! – узарвалася Ліка. – Збег з дому, лётаеш на сваіх касмалётах, мусіць, і дзяўчатак вы возіце тут, распуснікі… Забыўся пра сям'ю, пра жонку, пра дачок… Чаму я не магу быць побач з табой, скажы?

– Ды толькі з-за таго, што тады разам з табой ужо ніколі назад не вернемся! Анатас! Адпраў яе зараз жа дадому. Прашу цябе!

– Пойдзем, панначка-сударыня, і даруйце нам за такія боцманаўскія жарты, – звярнуўся да Лікі Нэма. – Забыліся, страцілі гжэчнасць у сваім пякельным раі…

Ліка вырвалася з рук Люцыфера:

– Жарты? Якія могуць быць жарты? Антон, ты за каго мяне прымаеш? Ніхто з нас яшчэ ў псіхушцы… О, Божа, як я стамілася, як гэта мне ўсё абрыдла! Калі ты кінуў мяне, дык так і скажы. Буду ведаць, што я пакіданка, а не ўдава…

– Анатас, памажы ёй выйсці, у яе йстэрыка…

Д'ябал правёў Ліку, памог спусціцца па лесвіцы ўніз.

Пацалаваў нават ёй руку, нешта шапнуў на вуха.

І тады яна, нечакана для мяне, заўсміхалася. Памахала мне нават рукой…

Што ён мог сказаць ёй? Змеем прыкінуўся. Спакусіў салодкім словам і жонку маю?

Праз хвіліну Алкепаў сеў побач са мною:

– Задаволены сустрэчай, маэстра?

– Ды пайшоў ты!.. – агрызнуўся я.

– Ладна, прамашка выйшла… Што яшчэ ты хочаш пабачыць? Куды адправімся далей?

– Ды хоць у Парыж… – зло не пакідала мяне, – у Парыж, на сена і на Сену.

І ў тое ж імгненне мы апынуліся на зялёнай лужайцы паміж Сенай і Эйфелевай вежай.

Мяне закаподзіла ад алкепаўскага новага фокуса.

– І можна прагуляцца з парыжанкамі?

– Можна, але ты не ў форме. Загадвай наступнае жаданне…

“Хачу на Марс! Пусціце мяне на Марс, – усё яшчэ злосна, не ўголас, каб не пачуў Люцыфер, сказаў самому сабе: На Марс хачу, і ўсё тут…”

Перад намі раскінулася чырвоная пустыня, адкрыўся безжыццёвы ландшафт. Са здзіўленнем паглядзеў на свайго “патрона”.

– Так, гэта Марс, як ты і пажадаў…

– І на ім няма жыцця, так? На думку вучоных і астраномаў…

– Вучоныя твае… Разбіраюцца ў Марсах твае вучоныя. Пачакай мяне, хлопча, тут. Я прывяду да цябе марсіян, як і тваю Ліку. Прыгажэйшыя  за парыжанак…

Спусціўся па лесвіцы, прайшоў колькі крокаў па планеце. Прама перад намі – з нічога, з пустэчы, пачало нешта ўздымацца. Вырас высокі гмах, нагадваючы нашыя сучасныя збудаванні. З ніжняга паверха выйшла некалькі – чалавек? – марсіянаў? Убачыўшы госця, падышлі да яго, абняліся. Памахалі мне рукамі. Паказаў ім растапыраную даланю, адказваючы ім на вітанне.

Тым часам яны з трума нашага лайнера пачалі выгружаць скрынкі, каробкі, мяхі. Ці не з нашай паляшуцкай  петрыкаўскай бульбай? Няўжо і марсіяне не могуць абысціся без нашага асноўнага наедку? Потым усё тое, што яны выклалі, як некуды правалілася. Павольна пачаў апускацца ўніз – апраметную? – і само збудаванне.

Марсіяне зноў памахалі мне рукой, як падзякавалі ўсё роўна. Чакалі, калі Нэма зойдзе ў касмалёт, – і адразу ж зніклі.

– І гэта – Марс? – папытаўся я.

– Дакладна, Марс. Хіба ты не пазнаеш яго? Я ім растлумачыў, што ты пралётам тут... Такія ж, як і мы, людзі, толькі жывуць пад зямлёй. А цяпер куда изволите? На Сатурн, на Бухту Кахання, на Сірыус, на Месяц? А, можа, у іншыя Галактыкі?

А мне болей нічога і нікуды не хацелася. Працягваў гучаць у вушах разгневаны голас Лікі: “Калі ты пакінуў мяне, дык так і скажы…”

Але Д’ябла ужо не спыніць. Мы прызямліліся на нейкай гары. Ішло шмат людзей у адзенні, як я разумеў, мінулага тысячагоддзя. Істэрычны натоўп сунуўся за Чалавекам, улюлюкаў, здзе-

каваўся… Яго жорстка збілі, акрываўлены, у цярновым вянку з калючымі шыпамі. Шыпы ўпіваліся ў цела і з ранаў цякла кроў, залівала вочы. Ён не бачыў дарогі, па якой ішоў… Масіўны, не падняць, крыж прыціскаў Яго да зямлі. Ён спатыкаўся і падаў, зноў уставаў… Стражнікі падганялі Яго важкімі, набрынялымі Яго ж крывёю скуранымі і драцянымі паплецінамі…Не вытрымаўшы, я заплюшчыў вочы, адвярнуўся.Тыран, мусіць, разумеючы мой стан і мае пачуцці, маўчаў. Чаго ён дамагаўся, паказаўшы гэты эпізод, крывавую Галгофу? Атрымліваў асалоду і задаволенасць, назіраючы за пакутамі Бога-Чалавека? Ці мяне хацеў папярэдзіць. Але аб чым?

– Паляцелі назад! – амаль крыкнуў я, але ўсяго толькі прашаптаў свае словы. – Зараз жа!

– Добра, але для разнастайнасці нашага падарожжа і тваёй дасведчанасці праведаем піраміду Хеопса.

Мы пакружлялі над пірамідай, я паспеў заўважыць, што каля яе тоўпяцца археолагі, раскопваючы пясок, нырнулі ў самы вільчык. Ні за што не зачапіліся. Я, як і ўсё чалавецтва, думаў, што піраміда стаіць на зямлі. Але аказалася, што яна пранікла ў глыбіню на сотні метраў. Мы спыніліся ці, дакладней, селі на апошнім паверсе. Выйшлі з касмалёта. Вакол было светла і ціха. Вентыляцыя была ідэальнай, свежае паветра нячутна гуляла па падземнай прасторы.

– Для чаго мы прыляцелі сюды?

– Толькі для таго, каб ты прачытаў буквар Жыцця Чалавецтва. Паглядзі на гэтую сцяну. На ёй іерогліфы і выявы людзей, розныя сімвалы, чарцяжы, малюнкі... Гэта тэкст. Да яго яшчэ не дабралася чалавецтва і ніколі не дабярэцца. Бо гэтае памяшканне ахоўваецца пасланцамі іншых сусветаў. Калі ты хочаш прачытаць і даведацца, што адбудзецца праз сто, тысячу, мільярд гадоў, то павінен надзець вось гэтыя акуляры. Усе значкі і літары ператворацца ў літары і лічбы, ды яшчэ на той мове, якую ты добра ведаеш... Тэкст належыць той цывілізацыі, якая існавала самай першай на Зямлі, яна і даслала папярэджванне вам, зямлянам. Але толькі не мне.

“Будзе так, як ты інтэрпрэтаваў Біблію? Але ж гэта не Біблія, Біблія створаная значна пазней...”

Замест іерогліфаў праз перакладчыцкія акуляры на сцяне высвеціліся сказы на ліцвінскай мове: “Пра лёс якіх цывілізацый на

зямлі ты хочаш ведаць? Першай, другой, трэцяй?.. На сцяне пазаду цябе адлюстраваныя паслядоўна чатыры старонкі – выбірай тую, у якой ты жывеш, і чытай, што чакае цябе, зямлянін. Мы, пасланцы, з сузор’я Сірыуса, паведамім табе пра галоўныя падзеі – калі пачалася цывілізацыя і калі, з якой прычыны, яна знікне...”

Паглядзеў назад. Сапраўды, чатыры шырачэзныя і высокія пліты глядзелі здзіўлена на мяне, як і я на іх. “Перад намі былі, значыць, тры цывілізацыі. Няўжо нашая, у якой мы жывем, апошняя? Бо болей пліт-старонак на сцяне не было... А мо пра наступныя, калі яны будуць, звесткі знаходзяцца ў іншым месцы?”

Спыніўся каля апошняй. Паглядзеў увысь. Не ўбачыў самы верхні радок. І тут, як быццам па маім загадзе, ад падлогі адарваўся квадрат падлогі і падняў мяне на некалькі дзясяткаў метраў. Першы іерогліф абазначаў нешта накшталт “васьмёркі”, якая ляжала гарызантальна, напамінаючы акуляры.

“Будзе тое, што павінна быць... І не адзін раз. Кожная цывілізацыя як пачыналася, так і заканчвалася. Не будзе ніякіх войнаў і катастроф, каменяпаду з космасу. Людзі – самі сабе ворагі, самі сабе прыдумваюць “найлепшую” смерць.

Усё ідзе добра да той пары, пакуль чалавек не палічыць сябе самым разумным і магутным на зямлі, нават і за Таго, хто і стварыў яго. Чалавек навучыцца лётаць і пералятаць з планеты на планету, ныраць у глыбіні акіяну, вынайдзе эліксір бяссмерця... Ён уступіць у супярэчнасць з Вышэйшым розумам, “сарве” яблык з Дрэва Несмяротнасці. Але як толькі ён паспрабуе паспытаць яго, яблык ператворыцца ў камень. Са злосці чалавек адшпурне яго ад сябе, закіне ў космас, – і тады ж народзіцца новая планета з жорсткімі людзьмі...Жорсткасць людзей на зямлі не будзе ведаць межаў. І здарыцца на зямлі наступнае...”

Я не мог адарвацца ад тэксту, чытаючы, мне рабілася страшна. Бо адчуваў сябе ў гэтым сусвеце пясчынкай у неабдымным космасе і на зямлі.

– Усё, Анатас, з мяне хопіць. Паляцелі назад.

Мы вынырнулі з-пад зямлі на ладнай адлегласці ад піраміды, і “талерка” адразу здзейсніла пасадку, адкуль мы і ўзляцелі. Сышлі моўчкі па сходах трапа, ступілі на пясок. Пясок пустыні за час нашай адсутнасці збольшага астыў.

Доўга падымаліся на вяршыню сыпучага бархана.

А праз колькі хвілінаў апынуліся, пераступіўшы парог нашага "Алкепа", у прахалодзе. Не верылася, што толькі імгненне таму мы падсмажваліся на раскаленай патэльні ці то Сахары, ці то Газгары, а цяпер у сваім асяроддзі… Злавіў сябе на думцы, што лічу ўжо нэмаўскі карабель-фрэгат "сваім", у які з радасцю вярнуўся. Няўжо Сатана прыручыў мяне, як паслухмянага цюцьку? А во і знаёмая, з дывановым пакрыццём, падлога. І дзверы знаёмыя, якія самі расчыняліся перад нашым з'яўленнем. Прайшоўшы з дзясятак калідораў, апынуліся ў маёй майстэрні. На мне адзенне, хоць выкручвай. А Анатасу хоць бы хны – прывык, мусіць, да такіх перападаў…

– Слухай пан-капітан, Фюрэр і Тыран, на якім гэта мы крузе твайго пекла пабывалі? – пытаюся ў яго, збольшага ачомаўшыся. – Для чаго ты мне прадэманстраваў усё тое? Каб здзівіць?

– Толькі адзіна – падрыхтаваць цябе. Каб не адчуў розніцы паміж тваім светам і гэтым. А кругоў у маім пекле мноства. Таму жыць на "Алкепе" – гэта  і радасць, і шчасце.

– Багаты ты і шчаслівы чалавек, скажу табе, куды алігархам да цябе.

– А то... – плямкнуў сінімі губамі Люцыфер, пачасаў мезенцамваспаваты нос, уздыхнуў.

Спакуснік, бачна па ўсім, пазіраваць не настроены. Адштурхнуўшыся ад крэсла, падышоў да акна. Раней, калі я глядзеў у яго, бачылася суцэльнае мроіва туману, невыразным выглядаў краявід – як быццам аператар не змог настроіць фокус аб'ектыва сваёй камеры. Я толькі ўгадваў асобныя фрагменты, але вока стамлялася "дамалёўваць" у рэзкасці ці то дрэва, ці то дом. Таму стараўся і не глядзець за акно…

А тут як звышякасны японскі тэлевізар "Soni" адкрыў перад намі панараму. Наваколле ажыло, стала рэальным.

Плылі па небе воблакі, хістала ся трава ад ветру, шапацела лістота  бяроз… І гэтую насалоду хаваў ад мяне чамусьці Люцыфер…

Салодкая горыч абпаліла сэрца – у промнях сонца добра праглядваўся горад. Толькі быў гэта Гомель ці Мазыр, Белгарад ці Варшава, Лондан ці Берлін – ніяк уцяміць не мог. У Белгарадзе жыла мая малодшая дачка, першай узяўшы шлюб. Што ў Белгарадзе, што ў Гомелі дамы аднолькавыя і недзе непрыгожыя ад сваёй аднастайнасці, такія ж вуліцы, скверы…

Анатас прачыніў акно. І ў майстэрню ўварвалася жыватворнае паветра зямлі… Толькі што прайшоў дождж; лісце на дрэвах блішчэла пад сонцам. Ці ўбачу я калі-небудзь гэта насамрэч, ці мне наканавана да скону дзён толькі назіраць гэта праз краты турэмнай камеры, у якую змясціў мяне заказчык?

Нічога не казаў Анатасу, хаця ён чакаў ад мяне, пэўна, падзякі. Абыйдзешся,ператопчашся, як казаў некалі мой дзед Ян.

“Божа, ці ўдасца мне здзейсніць задуманае?”

“Удасца… Удасца, Антон. Галоўнае – не губляй веры”.

– Прыцягваюць позірк родныя мясціны? – не вытрымаў, пацікавіўся Спакуснік, нячутна падышоўшы да мяне, паклаў руку на плячо. – Мой родны кут, як ты мне мілы?

Ад нечаканасці ўздрыгнуў. Хацелася нават і сплюнуць тры разы, як вучыла ў дзяцінстве бабуля Анастасія-Настазя, ды яшчэ і крыж на сябе накласці. І я асяніў сябе крыжам. Анатас схамянуўся, ледзь прыкметна адхіснуўшыся ад мяне, але нічога не сказаў, толькі кісла ўхмыльнуўся:

– Прыроды ў нас хапае. Родны кут кожнаму. Проста тваё вока яшчэ не навучылася так глядзець на яе, як звыкнешся цяпер… Набудзеш сапраўдны зрок, каб кіраваць караблём – замест мяне, – валадару цемры і пекла трэба быць звышчалавекам…

Паглядзеў на яго: што за ахінею ён вярзе? Хіба ён аддасць мне лейцы кіравання? Які дыктатар ці Люцыфер пойдзе на гэта?

– Калі шчыра, то не разумею цябе, мой Фюрэр. Кіраваць замест цябе? А ты? З чалавечынкі пяройдзеш на ялавічынку?

– Якая чалавечынка, пабойся Бога, як кажуць. Чалавек ужо даўно непрыдатны як харч – тое ў далёкім мінулым. Ён сёння напічканы і нашпігаваны пестыцыдамі і гербіцыдамі. Жывая атрута. Ужо даўно смярдзіць чалавек ад сексу і блуду. Праваняў. Але справа не ў тым, зусім не ў тым…

– А ў чым жа тады, Люцыфер?

– Ты не верыш маім словам, Антон?

– Немагчыма паверыць… Ты прапаноўваеш мне быць тваім уладаром? Хіба ж і над табой патрэбен камандзір?

Д’ябал адвярнуўся ад акна, зацікаўлена глядзеў на мяне, абапершыся азадкам на падваконне. У вачах – сатанінскія іскрынкі, у голасе – “само очарованье”, спроба запаўзці ў маю падсвядомасць. Мне на імгненне падалося, што дзесьці побач зашыпелі змеі, падняўшы галаву…

Ён правёў языком па лілова-сініх губах, кашлянуў, прыставіўшы да рота кулак:

– Я калі-нікалі ўпадаю ў транс: магу спаць, не прачынаючыся. Хто мяне на гэты час можа падмяніць-замяніць? Ніхто. Таму я і выбраў цябе. Апошнім часам усё часцей і часцей правальваюся ў спячку, гэты стан – наркапсія. Чуў пра такое?

Прыйшлося пацiснуць плячыма: “А ці не сам знаходжуся ў стане наркапсіі?!”

– Баюся вось чаго – засну, а тым часам людзі наробяць такога, што ні Д’ябал, ні Бог не расхлябаюць.

– А што яны такога неператраўнага могуць нарабіць, не разумею?

– Ды ўсё, што заўгодна! Ад дурня абароны няма. Прасвятліў іх на сваю галаву. А яны ўжо і мяне пераплюнулі. Узяць хаця б той жа космас: зорныя войны плануюць. Чалавек – гэта адзіны суцэльны парадокс і абсурд. Я толькі з Нютанам на гэтую тэму паспрачаўся, які прарока Даніїла ўзяў за аснову, разам з ім прачыталі зашыфраванае пасланне… А ён вазьмі ды і прадкажы канец свету… Ну, закончыцца свет, згіне, а разам з ім і чалавек.

– Баішся за чалавека?

– Баюся, бо чалавек – гэта і ёсць я!

У чым не адмовіш д’яблу – гэта ў шчырасці. Самотны, адзінокі быў цяпер Д’ябал, па д’ябальску самотны і адзінокі.Мне падалося, што мы нават зблізіліся з ім, недзе і паядналіся.

Выглядаў Анатас так, як і самы першы раз, калі пазіраваў мне. Вочы – зялёныя, твар – зямліста-шэры, капялюш чорна-шэры, з пералівам арнаментаў. Выходзіла, партрэт крыху не супадаў з тым, які я намаляваў. Намаляваны неяк хітра ўсміхаўся, а жывы – задумлівы і паніклы. Зноў ламалася ўсё, зноў прыходзіцца пачынаць спачатку. Ды колькі можна дражніцца са мною?!

– Ну, што, мой дарагі капітан, прыступім?

– Калі табе не церпіцца, то і прыступім. Падабаюся я табе такім?

– А я не жанчына, каб ты мне падабаўся, – тым жа тонам адказаў яму. – Партрэт хіба робіцца ў залежнасці ад таго, падабаецца чалавек ці не падабаецца?

– Выбачай, не пра тое хацеў папытацца.

– Нічога… Думаю, што ўсё-ткі гэта самы апошні сеанс. Нутка, Анатасік, мой дарагі заказчык, Фюрэрчык і Тыранчык, зіркані ў мой бок, ізабразі сваю, анатаса-бясоўскую ўхмылачку! Не круці

вочкамі, не шавялі бровамі, каб я памылачкі не дапусціў…Так, так, о-ооо! Правільна, файна!

Камандор выконваў усе мае жаданні, на панібрацтва не звяртаў увагі.

– Слухаюся, мой камандзір! Скажы толькі, як трэба глядзець, і што азначае мая бесаўская ўхмылка? Ніколі не чуў такога.

– Цяпер чуй. Во-во, так… Тое, што мне і патрэбна! Ай, малайчына, Анастасік, ай, малаток! З цябе ж класны пазіроўшчык атрымоўваецца! Раз! Два! Прыехалі! Прыляцелі! Прыпаўзлі! Усёооооо! Ура-ааа!.. Ist zu Ende!

Параможна ўскінуў рукі да нябёс, падзякаваў Вышняму за сілу, што даў мне для завяршэння заказу. Ной са здзіўленнем глядзеў на мяне – дураслівага і шчаслівага, не разумеў … Я стомлена сеў на табурэцік. Глядзеў, не адрываючыся, на партрэт. Потым устаў, адышоў яшчэ далей – на крокаў дзесяць. Сказаў, пацвердзіўшы сказаныя перад гэтым словы:

– Усё, Анатас! Больш нічога мяняць не буду. Прымай працу!

Анатас як сядзеў, так і працягваў сядзець у крэсле. Толькі прымружыў вочы, адкінуў галаву і капелюшом абаперся на спінку. Яго як быццам і не цікавіла тое, на што я патраціў столькі месяцаў і гадоў... А калі падышоў, калі зірнуў безуважна на самога сябе, дык толькі хмыкнуў:

– Хм... Ну-ну... Яно, канечне, калі так, то тады ўжо зусім і не скажаш… Хм… хм… Во-во, як яно, а я думаў… Ну, браце, ты і даеш, ты ж... Ну, і сапраўды... Д’ябал мяне вазьмі!

І здагадайся – адобрыў ці ўхваліў убачанае. Мне ўжо, калі шчыра, калі пайшло на тое, глыбока фіялетава: даспадобы яму мая праца, ці не. Зусім іншыя думкі хвалявалі і непакоілі мяне... Як і яго, дарэчы.

– Ты сапраўды лічыш, што праца скончана-завершана?

– А як жа! Усё! Цяпер аддавай на прэзентацыю. Цяпер ікона адпавядае арыгіналу. Ты атрымаўся як бог!

Мне цяжка ўседзець на месцы: узбуджанне, радасць і страх адначасова перапаўнялі мяне. Я амаль бегаў па майстэрні, не знаходзячы месца і супакаення… Не гледзячы на мяне, прамовіў з нейкім унутраным шкадаваннем:

– Адпачывай. Заўтра цябе, як я сказаў, пакліча Яніна на шабаш.

І больш – ніводнага слова.

“Дык прыняў ці не прыняў ён маю працу?! Выканаў я ці не выканаў заказ? Дзе насамрэч тая дамова, пад якой мы павінны паставіць свае подпісы – “Заказчык” і “Выканаўца”? Тую, што распісваўся крывёю, спаліў.

– Мой капітан, хвілінку ўвагі. А ці не атрымаецца ў мяне так, як з партрэтам Майсея? Памятаеш? Калі мудры цар Аравіі, пачуўшы пра мудрасць і розум Майсея, дачуўшыся пра біблейскі “Зыход”, папрасіў прыдворнага мастака, накшталт мяне, намаляваць партрэт і прывезці яму. Для таго, каб мудрацы, “падкаваныя” ў навуцы фізіягномікі, дакладна і беспамылкова вызначылі па партрэце яго характар, даведаліся пра схільнасці, прывычкі і, галоўнае, тайну яго мудрасці і духоўнай сілы.

– І што ж атрымалася, мой прыдворны мастак?

– Яны, гледзячы на партрэт, сказалі цару, што гэта самы страшны чалавек на зямлі, што ён апантана і прагна жадае ўлады, што ў ім сышліся ўсе парокі і заганы свету… Ты хочаш гэтага, Нэма? Каб і пра цябе так падумаў твой народ?

Заказчык махнуў абыякава рукой, моўчкі павярнуўся, пайшоў да дзвярэй. Мне падалося, што ён злёгку хістаўся, быў быццам п’яны. Захварэў? Няўжо і д’яблы хварэюць? Калі ён выйшаў з майстэрні, я яшчэ доўга стаяў каля акна, за якім ужо не было нічога з таго, што бачылася да гэтага.

Высотная труба мэблевай фабрыкі, за якой і была мая сапраўдная майстэрня. А вунь там, далей, за дубам і ліпай, – і мой высотны дом. У якім засталася, шукае і чакае мяне Ліка… Над Навабеліцай, здаецца, нараджаўся цнатлівы вечар… Нешта круцілася вакол мяне, ці гэта я сам круціўся вакол нябачнай восі… Восі – зямнога шара? Незнаёмай планеты? Прыгадаўся Амар Хаям:

*“Мне так небесный свод сказал: «О человек,*
*Я осуждён судьбой на этот страшный бег.*
*Когда б я властен был над собственным вращеньем,*
*Его бы я давно остановил навек…”*

9

… Заўтра… Заўтра павінна ўсё вырашыцца…Карцела зазірнуць у Залу Часу, паглядзець на сябе ў розных жыццях. Цікава ж убачыць сябе і жанчынай, і мужчынам, і немаўляткам і стогадо-

вым абарыгенам... Нешта падказвала мне: “Ага, забярыся ў тую залу, уключы ўпадабанае стагоддзе – то і застанешся там назаўсёды, і тады ўжо зусім не будзе аніякай надзеі на выратаванне. Не будзе Ева жонкай Адама – усё прыйдзе да цябе, не пазней і не раней часу. Цярпі…” Затрымцелі ледзь чутна шыбіны ў акне – як быццам нешта выбухнула побач, а можа, наш карабель наткнуўся на нябачную перашкоду?Зноў праз тоўшчу маўчання да мяне далятае голас маёй выратавальніцы – Яніны Альшанскай. Быццам сонейка выглянула ў шэры і пахмурны дзень…

“Ну і як твой заказчык, Антон? Прыняў тваю працу?”

“І сам не ведаю… Моўчкі пайшоў, толькі сказаў, каб я цябе чакаў”.

“Я зайду за табой…”

“Яніна  растлумач мне… Жана і Павел… Я ж напісаў толькі пра іх, прыдумаў. Як такое магло адбыцца, што яны ажылі і аб’ядналіся, амаль пабраліся?”

“Бо ты ж вельмі праўдзіва напісаў. А капітан Нэма ўдыхнуў у іх жыццё. Жана і Павел ужыўлены ў тваю памяць і свядомасць – пагэтаму яны цяпер неаддзельныя ад цябе…”

“Як і ты?..”

“А мяне ты хіба выдумаў? Я, прызнацца, гэтага і не заўважыла…”

“Я ў дзясятым класе ўпершыню закахаўся – у аднакласніцу Яніну. Напісаў толькі пісьмо, прызнанне ў каханні… Але нехта ўкраў яго… Але ж я не апавяданне пісаў – няўжо і ты стала зямной?..”

“Усё можа быць, усё можа быць…”

“Мы з табой, мусіць, дзеці падзямелля... А мо і не падзямелля, але ўсё роўна нявольнікі – адным словам, вязні...”

“І няпраўда твая, любы... Вязні –  гэта калі цябе прымусова саджаюць за краты. А ты здаўся Анатасу добраахвотна, прадаў яму душу... Ці не так?”

“Твая праўда, Яніна, мая шаноўная спадарыня...”

Я глыбока-глыбока ўздыхнуў і доўга не выпускаў з сябе паветра.  Аж у грудзях забалела.

“Табе няма чым дыхаць, Антон... Як і мне, дарэчы. А ты ведаеш,  што існуе самая цесная і непасрэдная сувязь паміж дыханнем і разумовай дзейнасцю чалавека, яго настроем, жаданнямі і дзеяннямі, учынкамі і ацэнкамі?”

“Не, не ведаю...”

“Чым павярхоўней і часцей дыханне, тым больш неспакою, няўпэўненасці і няпэўнасці, пагаршаецца памяць. Яшчэ Плутарх сцвярджаў, што разумная здольнасць да мыслення атупляецца ад мяса. А слова па латыні “vegetus” азначае жыццярадасны... Яшчэ магу вось што сказаць – мясаеды стамляюцца хутчэй за вегатарыянцаў. Нездарма Бог стварыў напачатку Адама і Еву, якія ўвогуле не ўжывалі мяса – толькі яблыкі і зяляніну. То пасля патопу і адправіўся чалавек на паляванне – забіваць звера... Сэрца вегатарыянцаў б’ецца павольней, яно даўгавечней служыць чалавеку. Яшчэ б – адпачынак сэрца паміж ударамі, які дасягае адной шостай секунды, за пяцьдзесят гадоў складваецца аж у восем – задумайся! – у восем гадоў... А восем гадоў для чалавека – гэта ж неацэннае багацце...”

“Згодзен, мая добрая жанчына. Асабліва тады, калі тыя гады Бог падорыць пад старасць, калі чалавек набраўся мудрасці і ўмення, таленту і дабрыні...”

“Ага, тады чалавек сапраўды мудры, дужы і нястомны. А калі гаварыць увогуле пра яго разумовую дзейнасць, то тут неабмежаваны свет яго аддачы, накопленага ў душы, сваім нашчадкам... Ты чуў пра японскага вучонага Асаву?”

“Не толькі чуў, а і вывучаў яго працы – мудрыя парады”.

“Тады скажы мне хаця б толькі пра сёмую параду?”

“Сёмая парада гучыць так – *святая справа чалавека служыць справядлівасці.* Справядлівасць у мікрабіётыцы азначае выкананне Закона Космасу. Той, хто думае і дзейнічае ў суадносінасці з гэтым законам, валодае самай чалавечай і людскай характарыстыкай здароўя”. Ад сябе яшчэ дадам, што гэтая парада поўнасцю адпавядае парадам Святога Пісання з Бібліі...”

Яніна адказала ці пацвердзіла не адразу.

“Усё ты прывёў даслоўна. Пагэтаму я і ўпэўнена, што выбраў правільную дарогу. Дарогу заўтра – на заўтра... У шафе я падрыхтавала для цябе шалік. Накінь яго на шыю, каб пад яго схаваць крыжык”.

...Купаюся ў неабсяжным  і бясконцым небе…

Я – ў бязважкасці, ныраю між зорак, як між бліскучых рыбаў у маёй Прыпяці; раблюся тым неапазнаным абектам і імчу шпарчэй за хуткасць святла, перасякаючы іншыя галактыкі і сусветы, невядомыя мне цывілізацыі і планеты; блукаю па Шляху Вала-

цужнікаў, абдымаюся і цалуюся з Малой Мядзьведзіцай – да Вялікай падыходзіць ці падлятаць баюся...Я – нішто і ніхто, і таму не належу сабе.Не заўважаў, і не ведаў – ці то толькі ў мроях сваіх вырваўся ў зорнае неба, ці насамрэч апынуўся там, у загадкава-неабсяжнай і бясконцай прасторы, ператварыўся ў зорку-адзінотніцу і імчуся немаведама куды і для чаго... На душы спакой, цела бязважкае і лёгкае... Мне прыемна, мне добра, толькі ледзь-ледзь паколвае ў скроні, ды замірае на крутых віражах стомленае сэрца і душа, – засумавалі па родным доме... І я міжволі звяртаюся да Творцы: “Госпадзе Божа наш! Якое велічнае імя Тваё па ўсёй зямлі! Слава Твая па-над нябёсамі!.. Вызвалі мяне з гэтага палону, вярні мяне на Зямлю, створаную Табой!..”

У адказ – ледзь чутны перакат грому, сполах маланкі раскройвае неба, але не кранае мяне. Сцеліць перада мною свае кілімы Зорны Шлях, быццам паказвае мне той адзіны кірунак да вызвалення. Усміхаюцца зоркі; хачу ім нешта сказаць – і не магу: сціснула грудзі і акамянела горла; хачу нешта ўспомніць – таксама не магу. Хачу пашавяліць губамі – не адчуваю іх. Гучная, да болю ў вушах, цішыня ўсяляе надзею.У мяне, мусіць, раскрытыя вочы. Таму што я бачу, як нада мной схіліўся Спакуснік, пасміхаецца з мяне, – упершыню, мусіць, зняў з галавы капялюш і пачаў, трымаючы яго ў руцэ, вадзіць над маёй галавой. Ён як быццам намотваў мае думкі на нябачны клубок, высмоктваючы з мяне маю волю і душу…

А потым з’явілася і Яніна – але ўжо толькі для таго, каб адагнаць ад мяне Люцыфера. Схілілася пасля яе нада мной Ліка – плакала, прасіла за нешта дараваць. Потым зноў наблізілася Яніна, але ўжо ў вобліку медсястры. Разам з ёю і доктар-кардыёлаг, – з трывогай узіраліся ў мае вочы, прыўзняўшы вейкі…

Я нікога і нічога не чуў, і ніхто не чуў мяне. Я адзін, і ніводная нітачка, як мне здавалася, не звязвала мяне з Зямлёю… Быў я жывы – ці памёр? Ці – паміраю? Ці – наадварот – ажываю? І я – гэта я? Ці прыдумаў я і сябе, як голас, які размаўляў са мной, як і Хурса, майго настаўніка, як Паўла з Жанетаю? Усё змяшалася-перамяшалася, перакруцілася-паразрушылася – злілося ў вялізны клубок-шар, у аграмаднае, што і вачамі не ахапіць, – сонца. А можа, гэта проста зямны шар разам з космасам перавярнуўся, а я лётаю незразумела па якой арбіце і невядома вакол якой планеты? Дзе я? Хто адняў у мяне памяць, зрок і слых? Хто-ооо?..

...Прачнуўся ад цішыні. Цішыня разбудзіла мяне? Чуў, усё асэнсавана бачыў, помніў яскрава, што знаходжуся ў гасцях Кошчы Несмяротнага, спакусніка і д'ябла, злога чараўніка і бязбожніка Анатаса Алкепава, – успрымаў тое як дурны і пачварны сон. Пытаўся ў самога сябе – куды ж прыплыве-прыбудзе "Алкеп"? А сам "Alkep" – цуд тэхнікі ці прывід сусвету? І хто яго капітан? Біблейскі Ной? Як вядома, Ноеў каўчэг прыбіўся да гары Арарат, каўчэг асірыйца – на гары Ніцыр... А куды ж прыб'ецца наш фрэгат? Ці знайду ў сабе сілы ўзламаць нябачныя дзверы алкепаўскай клеці?

Заўтра рашаўся мой лёс. Заўтра я ставіў на карту самае галоўнае – сваё жыццё. Згінуць у гэтым сусвеце мне не хацелася.- Памажы мне, Божа!..

...Перачытваў і перачытваў па памяці (сам здзівіўся, што я памятаў кожны радок як Старога, так і Новага Запаветаў) Галоўную Кнігу чалавецтва.

Пачаў з самай першай старонкі – з першага радка: "На пачатку стварыў Бог неба і зямлю..." А далей я ўжо не толькі чытаў, а яскрава і ўяўляў, як Творца ўдыхаў у "нішто" жывое дзейства, бо і зямля напачатку была нябачная і таму пустая, і цемрадзь гаспадарыла над безданню, і Дух Божы лунаў над вадою. Да гэтага была суцэльная ціша – ні подыху ветру, ні шэпту галінаў дрэваў, ні плёскату хваляў: бо нічога-нічога не было на зямлі. Бог уключыў ліхтары, каб было бачна кожнае каліўца зямлі, а цемру адсунуў. Такім чынам нарадзіліся дзень і ноч, раніца і вечар. Пасля гэтага Творца загадаў, каб была цвердзь пасярод вады, і аддзяліў сушу ад воднай прасторы. І неба, як і зямля, стала цвердзю. З зямлі пачала падымацца пара, праклюнуліся першыя парасткі зеляніны. Дажджы палілі – і выраслі дрэвы пладовыя і кусты пладовыя, гародніна, якая была ежаю...

І тады Бог сказаў: каб аддзяляліся дзень ад ночы, няхай утворацца на цвердзі нябеснай *свяцілы*, зацвердзяцца азнакі зімы і лета, вясны і восені, з днёў і начэй няхай утворацца гады і стагоддзі... Утварыліся свяцільні на цвердзі нябеснай, каб выпраменьваць святло на зямлю, створаную Творцам...

І стварыў Бог два свяцілы вялікія: адно, большае, каб кіраваць усім днём, і другое, трохі меншае, каб валадарыць ноччу. Не забыўся Вышні і пра зоркі – шчодра іх парассыпаў па цвердзі нябеснай...

Калі ж я прачытаў гэтыя радкі, у той жа момант рассунуліся створкі столі, рассцяліўшы перада мною абрус неба. Не паверыў у тое, прыўзняўся на сваім ложку, працёр вочы, як немаўля, кулакамі – не, не прывід, не здань. Убачыў і зоркі, і Валацужны Шлях з іх, Мядзведзіцы – Вялікая і Малая – мірна спалі на цвердзі Вечнасці, і аграмадністы Месяц валадарыў над Ноччу…

Мяне з самага ранняга дзяцінства прыцягваў таямнічы Месяц. Маці, памятаю, расказвала, што, калі добра прыгледзецца да яго, то можна ўбачыць, як брат брата забівае віламі… Але колькі ні ўглядаўся ў абрысы нябеснага свяціла, не бачыў братоў, якія забівалі адзін аднаго…Цяпер жа мне падалося, што Месяц наблізіўся да мяне настолькі, што можна да яго і рукой дакрануцца. Зноў жа – не ўгледзеў братоў, але яскрава ўбачыў нейкія каналы, дарогі, па якіх рухаліся невядомыя мне ці то машыны-цягачы, ці то бясконцыя вагоны з пасажырамі – з вокнаў, каля якіх сядзелі жыхары месяца (месяцане?), выпраменьвалася жоўтазялёнае святло…

Ляжаў нерухома ў ложку, баючыся пашавяліцца, каб не знікла гэтае цудоўнае відовішча. Але чым больш углядаўся ў яго, тым больш прыходзіў да высновы, што гэта і не месяц зусім, а нешта іншае, загадкавае і таямнічае, што не паддаецца разуменню і разгадцы гэтага феномена нашаму варварскаму, як казаў Анатас, розуму.

“Вось бы цяпер паклікаць Камандора ды адправіцца з ім на яго касмалёце на Нябесны Свяцільнік”, – прыйшла да мяне нечаканая думка-жаданне. Можна пазваніць яму, нумар жа тэлефона ведаў. Але нешта ці нехта забараняў тое рабіць. Лепш пагутарыць з жонкаю. З унутраным хваляваннем пачаў націскаць на кнопачкі тэлефона.

– Алё, слухаю вас! – ціхім і прыглушаным голасам прамовіла Ліка ў слухаўку.

Я маўчаў, не ведаў, як пачаць размову.

– Алё, слухаю вас, гаварыце.

– Ліка, добры дзень! Гэта я, Антон.

Прыйшла яе пара змаўчаць...

– Добры дзень, Антон, не задаю табе дурных пытанняў, але пачну з таго – як жывеш?

– Нічога, Ліка, жыву. Як магу, набліжаю той дзень, калі пакіну гэты карабель і з’яўлюся перад табою. Мала ўжо засталося да таго дня, вер мне.

– Веру ў тое. Рада чуць, што ты не забыў мяне і дачок, што імкнешся вярнуцца дадому…

– А як жа мне без вас?

– Ну і добра. Дзякую, што пазваніў. На душы стала лягчэй. Да сустрэчы, Антон!

– Да сустрэчы, Ліка!

Ну, во, цяпер і Анатас не папракне мяне, што загалуніўся на яго лінкоры і не званіў жонцы. Во і пазваніў, ды і пагаварылі, праўда, не вельмі хораша, як чужыя. Паміж вельмі блізкіх людзей часта такое здараецца. Гэта нармальна.

А месяц, здалося, яшчэ больш прыблізіўся да мяне. Для чаго? Запрашаў да сябе? А чаму б і не? Анатас казаў, што я, даўшы згоду пасяліцца тут, магу думкава пераносіцца з аднаго пункта ў любы іншы, не кажучы пра планеты сваёй і далёкай галактыкі, – толькі трэба пажадаць. Але я пастараўся пазбавіцца ад гэтага жадання – не час, не час…

Пачаў чытаць малітву: “Ойча наш, Існы ў нябёсах! Няхай свяціцца Імя Тваё як на Небе, так і на зямлі…” І адразу знік сверб падарожніцтва.

Атрымлівалася, умею – ці навучыўся – валодаць сваімі пачуццямі і жаданнямі. Што мяне, безумоўна, радавала і ўсцешвала. Зноў знаходзіўся сярод родных мясцінаў, роднага Палесся… Чуў, як перакікаліся сіваваронкі і дразды, дзятлікі і салаўі… Быццам хто мне ўставіў у вушы навушнічкі са стэрэазапісам спеваў птушак.

Так, усё, хопіць разлежвацца, пара і косці размяць, як казаў мой дзед Ян, які па волі энкавусаўцаў адправіўся на калымскую мярзлоту. Даю ўстаноўку: *хачу апынуцца ў касмічным апараце “Апалон” у складзе амерыканскіх астранаўтаў, нага якіх ступіць на паверхню Месяца!*

Нічога не адбывалася. Нічога не змянілася. Пасмяяўся з мяне Д’ябал, ой як пасмяяўся, паддурыў, як мы ў дзяцінстве дурылі адзін аднаго, а потым рагаталі: “Паддурылі дурака на чатыры кулака!..” Ладна, Анатас, прызнаю сваю паразу, так мне і трэба…

Расчыніліся дзверы ў мой пакой-каюту, і нехта незнаёмы здзіўлена крыкнуў:

– Нэйл, а ў нас тут вялікія праблемы!

– Якія – праблемы, Эдвін? – насцярожаны голас прагучэў недзе з калідора.

– У нас на караблі “заяц”. Няштатная сітуацыя. І ў яго няма скафандра, Ніл. Што рабіць будзем?

У каюту зайшло двое ў бліскучых касцюмах, пад сталь, астранаўтаў. Яны ўперыліся вачыма ў мяне, не ведалі, што рабіць у гэтай сітуацыі.

– Ты хто? – спытаў у мяне адзін з іх.

– Антон Клімовіч.

– Як ты апынуўся на нашым караблі?

– А мне ўсё роўна – быць на “Алкепе” ці на вашым “Апалоне”. А вас я ведаю. Мы знаходзімся на караблі НАСА “Апалон-11”. Кіруе ім Ніл Альдэн Армстронг, пілот месяцавага модуля Эдвін Олдрын, а камандным модулем з’яўляецца Майкл Колінз. Сёння – дваццатага ліпеня 1969 года. На зямлі не ведаюць, што я падлабуніўся ляцець разам з вамі на Месяц.

– Тады адкажы, Антон, а чаго табе захацелася ляцець з намі?

– А хаця б для таго, каб не плявузгалі потым языкамі злыя людзі, што вы і зусім не былі на Месяцы. Я ім пакажу свае сведчанні.

– Ты хто – фізік, астранаўт, даследчык космасу, журналіст ці…

– Ці… Я той, які павінен прысутнічаць пры значных з’явах і падзеях. Пра вас будуць гаварыць і праз стагоддзі, пра мяне ж не ўспомніць ніхто, бо я не ўваходжу ў ваш экіпаж, і ніхто пра мяне не ведае. А яшчэ я хачу стварыць месяцавыя пейзажы, якія ніхто не рабіў да мяне. Ды яшчэ намаляваць Зямлю, зямны шар у блакіце неба.

Астранаўты пераглянуліся, як бы ўзгаднялі свае пазіцыі ў адносінах да мяне – як ім паводзіць сябе.

– Але мы павінны паведаміць у цэнтральны Пункт , што ў нас на караблі пабочны чалавек, – папярэдзіў мяне Ніл Армстронг. – Няштатная сітуацыя.

– Дакладайце, вы абавязаныя тое зрабіць.

На Камандным Пункце зямлі адбылося замяшальніцтва, апаратары не ведалі, што рабіць, – паведамілі прэзідэнту Амерыкі Рычарду Ніксану і вучонаму-стваральніку германскай ракетнай тэхнікі Герману Оберту. Праз нейкі час тыя, параіўшыся, адказалі камандзіру карабля: “Вырашайце самі, як выблытвацца з той сітуацыі…”

– Так што прыйдзецца вам уключыць мяне ў свой экіпаж, – параіў я ім з усмешкаю, – бо вы без мяне не абыйдзецеся і без

мяне вы не зможаце ступіць на Месяц і нават вярнуцца на Зямлю.

– Чаму – не зможам, Антон? – добразычліва пацікавіўся ў мяне Майкл, пасмейваючыся нават з маіх слоў.

Я змаўчаў, уздыхнуў. Адказ перанёс на пазнейшы час.

– Паказвайце мне свой карабель, модуль, як вы абазвалі яго. Я лётаў на Марс на іншым караблі – на касмалёце, камандзірам якога з’яўляецца Анатас Алкепаў.

– Не ведаем такога астранаўта. І калі гэта быў здзейснены палёт на тую планету? – пацікавіўся Эдвін. – Нідзе пра тое не паведамлялася.

– Правільна. Бо то быў тайны палёт, засакрэчаны.

Не паверылі, адназначна не паверылі – і правільна, што не паверылі. Ведалі, што такое на цяперашні час невыканальна.

– Як бы ні хацелася, сябры мае, але вам прыйдзецца паказаць свой модуль. Ды і экскурсію правесці для мяне. Для вашых жа інтарэсаў і бяспекі.

– Загадкамі гаворыш, няштатны астранаўт, – заўсміхаўся Майкл, – але што паробіш – прыйдзецца да цябе адносіцца як да чацвёртага астранаўта. Пайшлі, “заяц”!

Кабіна камандзіра карабля трохі адрознівалася ад той, у якой я знаходзіўся з Люцыферам. Іншыя кнопкі, рычагі кіравання, ды і выглядала трохі кампактней, але не цеснай. Экран манітора паказваў ЦПК – цэнтральны пункт кіравання, дзе знаходзілася шмат людзей. Але калі яны ўбачылі нас учатырох, толькі і спыталі: “Ну як, пасябравалі?” А тое азначала, што яны мяне палічылі за свайго – прынялі ў сваю кампанію. Місія палёту на спадарожнік зямлі была простая – ступіць на паверхню Месяца, узяць пробы грунту, сфатаграфавацца і ўстанавіць некалькі прыбораў, якія б перадавалі пазней інфармацыю на Зямлю. Але амерыканцы ёсць амерыканцы – ім даражэй за ўсё прэстыж краіны. Таму галоўнай ідэалагічнай “помпай” была ўстаноўка амерыканскага штандара на паверхні. Яшчэ – паказаць тое дзейства праз сеанс відэасувязі з Зямлёй.

Карабель быў пабудаваны такім чынам, што складаўся з дзвюх модуляў – месяцавага і каманднага. З трох астранаўтаў на Месяц маглі ступіць толькі двое – Армстронг і Олдрын. Так былі размеркаваны ролі, ці функцыі экіпажа...

… – Ніл, паглядзі ў ілюмінатар! – гучна ўскрыкнуў Майкл, не адрываючыся ад круглага акенца.

Армстронг падышоў да Майкла, нахіліўся да ілюмінатара.

Тое, што ён убачыў, кінула яго ў шок. Іх, правільней, нас, супраўджалі невядомыя касмічныя караблі круглай формы. Абшыўка срэбнага колеру, пляскатыя, толькі ў цэнтры назіраліся выпукласці з мноствам акенцаў, з якіх глядзелі на нас невядомыя істоты.

– Што гэта? Ці – хто гэта? – спытаў невядома ў каго Ніл.

– Не ведаю, – адказаў Майкл, – мо з Зямлі паслалі для нас суправаджэнне.

– Без нашага ведама? Не можа гэтага быць!

На твары камандзіра карабля хваляванне і недаўменне:

– Алё, НАСА, адкажыце, нам тэрмінова патрэбна кіраўніцтва НАСА! Тэрмінова!

Адказалі не адразу, а праз хвіліну-дзве. На экране манітора паказаўся чалавек пажылога веку:

– Што там у вас здарылася?

– У нас нічога не здарылася, у нас толькі пытанне – чые лятальныя аб'екты суправаджаюць нас? Хто іх накіраваў?

– Мы не ведаем ні пра якія лятальныя аб'екты, – адказаў недаўменна прадстаўнік НАСА. – Пачакайце хвілінку, звяжамся з касмічнымі структурамі Савецкага Саюза – можа, яны, без нашага ведама, рашылі паназіраць за вамі, але ў іх, як мы ведаем, такой тэхнікі не можа быць…

Ніл паглядзеў у ілюмінатары з правага боку – і там рухалася армада НЛА, не абганяючы нас, але і не адстаючы.

Яго ўзрушанасць была блізкай да панікі, перадалася і калегам. Ведалі пра існаванне невядомых лятальных аб'ектаў, ведалі, што яны з'яўляліся нечакана… Акрамя асноўнай праграмы па падрыхтоўцы да палёту, з экіпажам сустракаўся кансультант НАСА Рычард Хогланд, ён жа з'яўляўся і заснавальнікам, і галоўным даследчыкам арганізацыі "Enterprise Mission", дык ён пад сакрэтам паведаміў ім, што *"завяршыўшы сваю місію палёту на Месяц, вы пацвердзіце тым самым існаванне здзіўляючай, старажытнай, але ўсё ж чалавечай цывілізацыі на Месяцы"*. Дадаў яшчэ, просячы трымаць у тайне яго словы, што "*Месяц, па яго цвёрдым перакананні, з'ўляецца найвялікшым доказам існавання на Зямлі Найталенавіцейшай Цывілізацыі ў яшчэ "дагістарычныя" часы"*. Рычард сказаў і яшчэ больш дзіўнае: "Не здзіўлюся, калі на Марсе будуць знойдзены аналагічныя старадаўнія сляды, і тое будзе служыць прычынай для

прапановы чалавецтву новай гіпотэзы – самі людзі з’яўляюцца нашчадкамі даўніх марсіянаў, якія, на маю думку, і стварылі штучны зямны Месяц для камфорту каланізацыі нашай планеты”. І тут жа сам сабе запярэчыў: “Але магчыма і іншае: людзі не маюць нічога агульнага з гэтымі “марсіянамі”, а ўзніклі хіба падчас зямной эвалюцыі праз мільярды гадоў пасля іх знікнення – ці то ад вайны, ці з нейкіх іншых прычынаў…”

– Алё, алё! – праз тоўшчу эфіру прарваўся голас прадстаўніка НАСА. – Ніл! Адказваем на тваё пытанне – ні касмічнае агенцтва СССР, ні нашае ведамства не накіроўвалі да вас ніякіх караблёў. Перадаю мікрафон па яго ж просьбе – Рычарду Хогланду.

– Вітаю вас, сябры! Што вас так напалохала? – ён з усёй моцы стараўся развеяць страх і паніку сярод экіпажа.

– Нас суправаджаюць НЛА! Справа і злева.

– Як яны паводзяць сябе? Праяўляюць агрэсію?

– Не, ляцяць параллельна з намі, як суправаджаюць нас. Мы ўключылі свае кінакамеры, стараемся зазняць іх на стужку. Потым пакажам вам, каб пераканаліся, што мы не хлусім і што ў нас не галюцыянацыі.

– Добра, гэта будуць цікавыя дакументы. Працягвайце палёт. Удачы вам!

– Дзякуем! – ужо спакойным і ўпэўненым голасам адказаў камандзір карабля.

Я таксама праз ілюмінатар назіраў за “талеркамі”. Яны былі падобныя да той, у якой я быў “камандзірам” і побач са мной знаходзіўся Анатас. Можа, у адной з талерак і цяпер быў ён, – і назіраў за намі. Не ўмешваўся, не перашкаджаў. Але адну падказку-параду я прыхаваў, каб выказаць пазней. У іх планах была вар’яцкая ідэя, якую ім навязалі ваенныя яшчэ на зямлі…

Ведаў, што незадоўга да гэтага палёту на паверхню Месяца былі скінутыя непатрэбныя, выкарыстаныя ўжо паліўныя ёмкасці беспілотных караблёў, якія важылі ні многа, ні мала… дванаццаць тон. Каму прыйшла такая дурная ідэя, невядома, мусіць, усіхная. Разам з тым друзам скінулі і сейсмограф. І неўзабаве, адразу ж пасля таго вар’яцкага ўчынку, прыбор адаслаў на зямлю дзіўныя дадзеныя.

Той удар аб месяцавы грунт выклікаў такое сатрасенне, як быццам беспілотныя караблі скінулі на Месяц… атамную бомбу.

А калі прааналізавалі хуткасць распаўсюджвання сейсмахваляў у гэтай, быццам бы металічнай шкарлупіне, вучоныя вылічылі з вялікай дакладнасцю, што яе верхняя мяжа знаходзіцца на глыбіні каля сямідзесяці кіламетраў. Амаль такую ж таўшчыню мела сама шкарлупіна.

Калі ж пачалі вымяраць і аналізаваць больш дэталёва будову Месяца, то прыйшлі да высновы: усярэдзіне яго можа знаходзіцца вялізная, амаль пустотная прастора, якая мае аб'ём у семдзесят тры з паловай мільёны кубічных кіламетраў. Без сумнення, там і могуць знаходзіцца механізмы, тэхніка і энергетычная сістэма, а ўсё разам узятае не паддаецца чалавечаму розуму, – усё гэта і служыць абслугай руху і рамонту касмічнага, з неверагоднымі магчымасцямі, карабля. Адтуль і вядзецца прыстасаваннямі знешняе назіранне за Галактыкай і Зямлёю, за канструкцыямі, якія забяспечваюць ідэальнае злучэнне бранявой абшыўкі з усімі ўнутранымі памяшканнямі. Касмічныя вучоныя ўсяго свету сыходзяцца на галоўнай гіпотэзе і думцы, што больш як восемдзесят адсоткаў масы Месяца, – гэта і ёсць “карыснае начынне і механізм” Касмічнага Карабля.

У сувязі з гэтым выказваюцца розныя думкі ад розных вучоных. Напрыклад, такія меркаванні, як “… Месяц можа быць і “мёртвым”, безжыццёвым караблём нейкай іншай цывілізацыі, які мае непранікальна-касмічны панцыр ці зонд”; ці – “Месяц – гэта звычайная станцыя тых, хто прыляцеў з далёкіх Галактык, і якія не толькі назіраюць за жыццём на Зямлі, а нават і кіруюць усімі працэсамі…”

І яшчэ адна супярэчнасць. Калі б Станцыя была сапраўды “ў рабочым стане”, то пасылала б абавязкова розныя сігналы – ці то “SOS”, ці заклік да ўзаемапаразумення… А так сейсмографы на працягу шмат гадоў (а колькі да гэтага?) адзначаюць цікавую з'яву – праз кожныя трыццаць хвілінаў роўна шэсцьдзесят секунд пастаянна гучыць сігнал высокай частаты, які сыходзіць з цэнтра (ядра) Месяца, ад якога да паверхні каля 960 кіламетраў. Што з сябе можа ўяўляць крыніца выпраменьвання таго сігналу? Гэта можа быць нейкае аўтаматычнае прыстасаванне ці складаны механізм, які сілкуецца цеплавой ці нейкай іншай, невядомай зямляніну, энергіяй, і які жыхары ці госці Станцыі некалі запраграмавалі для выпраменьвання сігналу ва ўсе светы і галактыкі...

Нездарма астраномы назіралі, як час ад часу на паверхні Станцыі ўздымаюцца струмені нейкага газу, як з коміна вясковай хаты

імкнецца ў неба дым. Такі эфект можа даваць крыніца энергіі гіпатэтычнага касмічнага карабля, якая дзейнічае і сёння, мэтанакіравана пашкоджанага і пазбаўленага  жыхароў у выніку нейкай ці то анамальнай катастрофы, ці "зорных войнаў" вельмі-вельмі-вельмі далёкага мінулага. Можа, яшчэ і тады, калі Бог не ствараў Зямлю.

Для чаго звышразумныя людзі стварылі Месяц – Касмічную Станцыю? Можам адказаць так – своеасаблівы ліхтар для асвятлення неба. Чалавек такое зрабіць не мог, не дарос да гэтага. Бо мы і па сёння не можам авалодаць тэхналогіяй стварэння такога Свяцільніка. Смелыя фантазёры прапаноўвалі нават абсталяваць Месяц вялізнымі сонечнымі батарэямі і пры дапамозе электрахваляў перадаваць энергію на зямлю. Але гэта толькі праект ці прапанова.

Калі мы будзем гаварыць, як уздзейнічае чалавек на космас, то трэба прыняць за аснову ісціну, што без нашага Спадарожніка жыццё на зямлі не можа як нарадзіцца, так і існаваць. Касмічная Станцыя, мусіць, першапачаткова была створана як "гравітацыйны якар", "тормаз", "абмежавальнік", які не дапускае таго, каб наша планета Зямля круцілася вакол сваёй восі бязладна, – з днём, які раўняецца шасці гадзінам, невыноснай зімой і пякельным летам. Ведаючы такі факт, што Месяц аддаляецца ад Зямлі на нейкія міліметры ў год, касмічныя вучоныя нават пачалі планаваць ідэі адносна захавання стабільнасці на нашай Зямлі…

Так што Месяц нельга назваць "мёртвымі старадаўнімі папялішчамі". Касмічная Станцыя працягвае існаваць і жыць, невядома толькі, з якой актыўнасцю. Астраномы прыкмячаюць на ёй аб'екты, якія рухаюцца, быццам светлячкі ў траве. Як спрычыніліся ўладальнікі НЛА да стварэння гэтай Станцыі? Ніхто не ведае. Гэта яны падтрымліваюць жыццядзейнасць нейкай невядомай нам апаратуры? А можа, у іх задачу і ўваходзіць проста назіраць за намі? А, можа, тыя НЛА належаць Вышняму, які і стварыў нас, жыхароў Зямлі, – *"утварыліся свяцільні на цвердзі нябеснай, каб выпраменьваць святло на зямлю, створаную Творцам…".* Можа, гэта і ёсць Яго эксперымент, а штучны Месяц-Станцыя – канчатковы вынік, элемент гэтага праекта?

Такія наведвалі мяне думкі і разважанні, калі я знаходзіўся сярод першага экіпажа астранаўтаў, якія дасягнулі Месяца. Сам не ведаю, адкуль яны браліся, хто іх укладваў у маю памяць і галаву.

…”Апалон” рухаўся ў кірунку Месяца. Пасля кароткага паседжання астранаўты рашылі: не адхіляцца ад намечанага курса, а пастаўленую перад імі праграму-задачу выканаць, – чаго б тое ні каштавала…Не-не, ды і кіне Ніл позірк за акно, на калег, дэманструючы спакой і ўпэўненасць. На мяне кінуў не раз позірк, каб пераканацца, як я сябе паводжу ў гэтай сітуацыі. Але, не заўважыўшы на маім твары ні трывогі, ні страху, усміхаецца – гэта яго задавальняе…Месяц прыблізіўся да нас аккурат так, як я бачыў яго з каюты “Алкепа”…

“Апалон-11” стартаваў 16 ліпеня ў 13 гадзінаў 32 хвіліны па Грынвічы, а выйшаў на месяцовую арбіту праз семдзесят шэсць гадзінаў. Камандны і месяцовы модулі планавалася раздзяліць прыкладна праз сто гадзінаў пасля старту.

Абляцеўшы вакол “Касмічнага Карабля”, Ніл камандуе:

– Спускаемся!

Але перад пасадкай звязваецца з Цэнтрам кіравання палётам на зямлі. Зямля адказвае:.

– Здзяйсняйце пасадку на паверхню Месяца ў аўтаматычным рэжыме.

Ніл у роздуме, глядзіць на сваіх сяброў, быццам раіўся з імі, але для экіпажа мовіць нечаканае:

– Не, я не магу тое зрабіць. Аўтаматыка аўтаматыкай, але я давяраю ёй толькі напалову. Таму і садзіцца будзем у паўаўтаматычным рэжыме. Матывацыя? Аўтаматыка – не чалавек, мы больш здольныя найлепш выбраць пляцоўку.

Цяпер зноў думае зямля і не пярэчыць рашэнню камандзіра:

– Ладна, хай будзе па-твойму, Ніл. Удалай пасадкі.

Перад тым як адправіцца на месяцовую планету, я крануўся рукі Армстронга, прашаптаў:

– Ніл, не рабі таго, што прапанаваў табе ваенна-прамысловы комплекс. Гэта – вар’яцтва. Бо загіне і Месяц, а за ім і нашая Зямля.

– Адкуль табе, Антон, вядома, якое заданне мне даў ВПК?

– Табе то якая розніца? Вар’ятам законы не пісаныя… Калі не жыхары Касмічнага Карабля, дык я асабіста ўмяшаюся, не дапушчу дурноцтва, мне на зямлю хочацца вярнуцца…

Ніл нічога не адказаў, – мусіць, палічыў мяне самога за вар’ята. Ніл Армстронг і Эдвін Олдрын занялі свае месцы ў месяцавым модулі.

– Спуск!

Майкл Колінз, які заставаўся на борце "Апалона", націснуў на патрэбную клавішу – "паўаўтаматны спуск". Спускаліся павольна. Паверхня спакваля прыбліжалася да нас, але на самрэч то мы набліжаліся да яе… Добра відаць, як НЛА, што суправаджалі нас у палёце, ужо прымесячыліся. З іх выйшлі людзі і чакалі, калі і мы ступім на грунт. Ледзь прыкметна модуль уздрыгнуў і застыў.

Мы на Месяцы! Ура!Але выходзіць не спяшаліся. Ніл Армстронг марудзіў. Нахіліўся над мікрафонам, прамовіў першыя словы:

– Х'юстан, Х'юстан, гаворыць база Спакою. Дакладваю – "Арол" сеў на Месяц роўна ў 20 гадзінаў 17 хвілінаў і 42 секунды па Грынвічы.

Пачуліся ўзбуджаныя выкрыкі, віншаванні, суцэльны радасны гул, а потым ужо спецыяліст місіі Чарльз Дзьюк адказаў узнёсла:

– Зразумеў вас, Спакой. Вы селі на Месяц, віншуем! Мы тут усе пасінелі. Цяпер мы зноў дыхаем. Выказваем вам вялікую падзяку! Ура! Вы на Месяцы! Што бачыце з модуля?

– Нас чакаюць гаспадары Месяца, выйшлі са сваіх касмалётаў.

– Што за гаспадары?

– Тыя, што суправаджалі нас…

Перад тым, як ступіць на паверхню, Эдвін і Ніл праверылі бартавыя сістэмы, каб пераканацца ў тым, што яны могуць у любы момант пакінуць Месяц, правялі імітацыю старта. Усе прыборы працавалі нармальна. Наклаўшы на сябе крыж, Ніл Армстронг расчыніў дзверцы модуля. Асцярожна ступіў адной нагой на грунт. Мы чакалі, што падэшвы яго абутку ўздымуць пылоту, але таго не адбылося. Ён ступіў і другой нагой. Ужо стоячы цвёрда на месяцовай паверхні, гледзячы перад сабой, памахаў рукой тым, хто стаяў воддалеч ад яго. Людзі (ці іншапланетныя жыхары?) у адказ памахалі яму. Кантакт адбыўся?

На паверхню Месяца Ніл Армстронг ступіў 21 ліпеня 1969 года ў дзве гадзіны пяцьдзесят шэсць хвілінаў дваццаць секунд па Грынвічы. Зрабіўшы першы крок, астранаўт прамовіў:

– Гэта адзін кароткі крок для чалавека, але гіганцкі скачок для ўсяго чалавецтва!

Тыя словы пачулі не толькі мы, але і на камандным Пункце, і яго фраза разляцелася па тысячах тэлетайпаў і радыёстанцыях… Гістарычны крок, варты гісторыі і славы! Армстронг пады-

шоў да людзей у бліскучых скафандрах, падняў дзве рукі. Яны ж нахіліліся перад ім у паклоне.

– Ну што, можа, і мы спусцімся на паверхню? – спытаў у мяне праз пятнаццаць хвілінаў пасля выхаду Ніла Олдрына. – Прагуляемся. А ты як без скафандра? – здзівіўся ён, як быццам упершыню ўбачыў, што я не экіпіраваны.

– А мне ён і не трэба, Эдвін, я трэніраваны.

– Ну, як ведаеш, – усміхнуўся пілот модуля, – можна і без амуніцыі…

Першым выйшаў Олдрын, я пасля яго. Пагайдаўшыся на паверхні, нібыта выпрабоўваючы яе трываласць, ступілі адзін крок, потым другі, трэці… Ніл Армстронг пра нешта гаварыў з пілотамі НЛА, ківаў згодна галавой, калі яны пра нешта пыталіся ў яго. Падышлі і мы. Армстронг па чарзе назваў нашы імёны, а потым назваў і іх – Чан, Чун, Сын, Ант, Понт, Ынт, Згун…Тыя адразу знялі з сябе скафандры. Мы ўбачылі іх твары і не здзівіліся, – падобныя на нашыя чалавечыя, хіба з нейкім зеленцаватым адценнем. На якой мове з імі размаўляць, праблем не было. Пачуўшы нас, на нашай мове яны нам і адказвалі. Мне – па-паляшуцку, з касманаўтамі – па ангельску, – усё проста і натуральна.

– З якой мэтай ці місіяй вы прыляцелі на Месяц? – спытаў, пэўна, галоўнейшы з іх – Чан.

– Узяць узоры глебы, каб разабрацца з тым, з чаго складаецца Месяц. Яшчэ – паставіць амерыканскі сцяг, як доказ, што мы тут былі. Установім тэлеперадатчык, правядзем сеанс сувязі, каб гледачы нашай краіны бачылі наша знаходжанне на гэтай планеце.

– І ўсё?

– Усё, – схлусіў камандзір карабля, – і праз гадзіны паўтарыдзве – у зваротны шлях.

– Вы думаеце, што гэта планета? Гэта наш касмічны карабель, якому мільярды гадоў. Мы збудавалі яго раней, чым была створана Вышнім Зямля. І мы адказныя за тое, як праходзіць жыццё на вашай Планеце. Гэта мы наладжваем ночы і дні, прылівы і адлівы, сочым, каб чалавецтва не нарабіла шмат глупстваў, не знішчыла само сябе. Вы спакон вякоў будуеце сваё жыццё па нашым календары – маладзік, сыход, поўня, ветах… Усё гэта адлюстроўваецца і адбіваецца на здароўі кожнага жыхара. І кожны з вас створаны паводле нашаму ўяўленню, жывяце паводле на-

шай праграмы, але аддаючы адначасова праз фізічную і духоўную працу права свабоды, імкнення да агульнай дабрыні і лагоды. Больш мы вам нічога не можам пакуль сказаць.

– І за гэта вам дзякуй. Гэтым кіруемся і будзем кіравацца і мы, – адказаў Ніл, – ды паможа нам Бог.

– Спадзяемся на тое.

Неўздалёк ад нас па нябачнай дарозе праляцела ці нячутна пракацілася незразумелае тэхнічнае дзіва. Было яно доўгае, мо з кіламетр, круглае, як сігара, а па баках свяціліся і міргалі залёныя агеньчыкі. Наверсе, пасярэдзіне “сігары”, з роўнымі прамежкамі часу, пульсаваў чырвоны сігнал. Дзіва было падобнае на суцэльны вагон, але без цягніка. “Вагон” як нечакана вынырнуў з глыбіні, гэтак жа бязгучна заглыбіўся ў грунт.

– Займайцеся сваімі эксперыментамі, – паглядзеў на Ніла Ынт, злёгку нахіліўся ў паклоне. – Будзеце адлятаць, мы зноў правядзем вас, каб не было нечаканак. І вось што яшчэ, дарагі Ніл. Мы не хочам, каб вы, ці хто іншы, зноў прылятаілі сюды. Адзін ваш палёт наносіць вялікую шкоду космасу: цяжка пазбавіцца ад вашага бруду. Я маю на ўвазе паліва, якім вы карыстаецеся. Праз шмат гадоў, калі вы займееце экалагічную тэхніку, – тады мы будзем рады прыняць вас. І не толькі прыняць, а сумесна займацца справамі, якіх патрабуе ад нас Касмічны Карабель. На Зямлі ёсць адзін чалавек, які прыдумаў, як падняцца ў космас без ракеты. Ён абверг ідэю стварэння шматступенчатых ракетаў як ліцвіна Казіміра Семяновіча, так і Канстанціна Цыялкоўскага – расіяніна. Прыдумаў “кола вакол зямлі”, пры дапамозе якога можна падняцца ў беспаветраную прастору. Вось з таго “кола” мы маглі б забіраць зямлянаў і яны б змаглі аказаць дапамогу нам у працы. Але для гэтага трэба, каб усе краіны зямлі па экватары ўключыліся ў пабудову такога безракетнага прыстасавання…

– А хто такі вучоны ці вынаходнік, пра якога ты гаворыш, Ынт?

– Анатоль Юніцкі, паляшук. Яго імя з цягам часу праславіцца на Зямлі і ў Космасе.

– Зразумеў, Ынт, прымем твае парады і прапановы да ведама. І пра вучонага Юніцкага даведаемся.

– Яшчэ табе вядома: нашую сустрэчу тут на зямлі засакрэцілі на сумеснай Радзе з зямлянамі. Супраць гэтай сустрэчы выказаліся савецкі міністр Андрэй Грамыка і амерыканскі прэзідэнт Ры-

чард Ніксан. Таму наступныя ваяжы да нас, калі яны будуць наладжаныя, скончацца трагічна. Альбо мы забярэм вас да сябе, як і забралі першага касманаўта камуністычнай краіны… Альбо…

– Дзякуй за папярэджанне – спадзяюся, што чалавецтва не забудзецца на яго…

Іншапланецяне – папярэднікі нашыя – нашчадкі? – зніклі.

Ніл і Эдвін размясцілі прыборы, замацавалі штатывы з тэлевізійнай камерай. І тады ўжо на зямлі людзі ўбачылі, як мы смешна перасоўваліся па планеце – з падскокамі, як быццам у дзяцінстве, асядлаўшы дручок, імітавалі коніка… Выцягнуўшы з пластмасавай тубы амерыканскі сцяг, устанавілі яго на флагштоку. Сцяг, выпрамляючыся, зрабіўся як “жывы”, было ўражанне, што на яго падзьмуў вецер. Гэта потым і будуць адзначаць скептыкі, задаючыся пытаннем – адкуль на Месяцы мог з’явіцца вецер?

Першапачаткова НАСА прапаноўвала замацаваць на Месяцы сцяг ААН, але Кангрэс ЗША не падтрымаў гэтага. Таму Армстронг задаволіўся адным толькі нацыянальным сцягам. Я, калі Армстронг адвярнуўся, прыклеіў да яго і свой сцяжок – знізу, і здалёку ён выглядаў як кропля крыві на белым полі, і быў амаль незаўважны…

А потым на фоне сцяга, абняўшыся з Эдвінам, Ніл вёў рэпартаж для зямлянаў і персанальна для прэзідэнта Ніксана. Я ж стаяў збоку, не хочучы, каб мяне зафіксавала камера – мяне ж няма, я не існую для зямлянаў, я толькі прывід…Камандзір “Апалона” ўвагнаў у грунт прэнт з таблічкай: “Тут людзі з планеты Зямля упершыню ступілі на месяц. Ліпень 1969 года новай эры. Мы прыйшлі з мірам ад імя ўсяго Чалавецтва”.

Мяне папрасілі адысці на значную адлегласць – да “Апалона”. Яны ўсё ж рашылі здзейсніць прапанову-эксперымент Пентагона: зрабіць ядзерны мінівыбух на паверхні планеты, на якой, як вядома, не было атмасферы.

Выбуху, на шчасце і з маёй падачы, не адбылося. Раз, і другі, і трэці спрабавалі астранаўты паўтарыць – безвынікова. Не маглі зразумець, чаму. Гэта потым ужо, як будзе разбірацца з правалам экспертная брыгада НАСА-Пентагон, знайшлі прычыну. А яна была банальная – не спрацаваў кіслародны бачок. На зямлі тысячы разоў правяралі-пераправяралі – ніякіх зрываў, а на Месяцы… А на Месяцы я ім “падсунуў свінню”, выпусціўшы той кісларод вонкі.

Я паспеў паставіць мальберт на цвёрды выступ, набраў пэндзлем выціснутую з цюбікаў фарбу – белую, блакітную і жоўтую – і зрабіць накіды абрысаў Зямлі, якая прасвечвалася праз блакіт неба. За паўгадзіны, што адвялі для мяне астранаўты, я зрабіў некалькі малюнкаў.

– Ну, што нашая місія на Месяцы скончылася, – у апошні раз паглядзеў у аб'ектыў тэлекамеры Ніл, – мы развітваемся з гэтай загадкавай планетай, кажам: “Да сустрэчы на Зямлі!”.

Абняўшыся, астранаўты памахалі зямлянам рукамі.

Запабягаючы наперад, хачу дадаць колькі слоў да касмічнай тэмы. Як казаў Анатас, чалавек істота упёртая і непрадказальная. Яго папярэджваюць, просяць, умольваюць не рабіць глупства… Памагатыя Джорджа Буша не паслухаліся папярэджання прадстаўнікоў Касмічнага Карабля пра тое, каб людзі на доўгі час забыліся пра Месяц. Бушаўцы тайна распрацавалі праект “вяртання” амерыканцаў на Месяц пад кодавай праграмай “Constellation”. Запланавалі падарожжа на месяц у 2020 годзе. Для гэтай мэты стварылі новы карабель “Orion”, які падменіць шатлы, ракету-носьбіт “Ares” і месяцавы модуль “Altair”…

Больш таго – Кітай і Індыя захварэлі на “касмічны сверб”, свае грандыёзныя праекты дэманструюць чалавецтву. Ды нічога з таго не магло атрымацца і не атрымаецца. Бо кіраванне гэтым праектам у руках уладальнікаў Касмічнага Карабля…Прызнаюся: зразумеўшы, што я, як будучы жыхар “Алкепа”, валодаю тэхнікай і ўменнем адпраўляцца ў любы час, перад тым, як выбавіцца з палону чараў Заказчыка, адправіўся і яшчэ ў адно падарожжа – у 2999 год. Чаму менавіта ў гэты? Сам не ведаў. Мусіць, таму, што гэта магічны год. Калі тры “шасцёркі” перакруціліся і сталі “дзявяткамі”.

Нічога добрага я там не ўбачыў: тэхніка, тэхніка, а духоўна мы да той тэхнікі яшчэ не дараслі. Пераканаўся, што ўсё ж чалавека разумна-дурнога на Касмічны Карабель не пусцілі, як і абяцалі першым астранаўтам.

Прачытаў у адной з амерыканскіх газет, што яшчэ ў 1963 годзе Джон Кенэдзі напісаў адзін ліст у ЦРУ, а другі – у нацыянальнае аэракасмічнае агенцтва NASA. Гэта было роўна за дзесяць дзён да яго гібелі – ад кулі невядомага забойцы. Кенэдзі патрабаваў расскарэціць яму праўду пра НЛА. Хацеў паказаць копіі дакументаў прадстаўнікам СССР, каб даказаць, што гэта не яны

лятаюць так часта над тэрыторяй іх краіны, нават выказаў жаданне супрацоўнічаць з лагерам сацыялізму ў гэтай тэме. Уфолагі расцанілі тое як доказ таго, што амерыканскага лідара забілі людзі, якія не жадалі, каб праўда аб прышэльцах стала вядомая …

Каб хацеў, то я асабіста дакапаўся б да той трагедыі, даведаўся б, хто паслаў кулю ў прэзідэнта, – але маё жаданне абмяжоўвалася толькі адным годам і часам. Мо калі і надумаюся злётаць у дзень 12 лістапада 1963 года, калі Джон пісаў тыя лісты, але пакуль мяне той факт не вельмі прыцягвае.

Олдрын шпацыраваў і выконваў належную працу каля паўтары гадзінаў, Армстронг значна болей – дзве гадзіны і дзесяць хвілінаў. На сто дваццаць пятай гадзіне падарожжа і дваццаць другой гадзіне знаходжання на Месяцы, месячны модуль удала стартаваў з паверхні адзінага спадарожніка Зямлі.

Перад гэтым я пакінуў “Апалон”, перайшоў без праблемаў у сваю “алкепаўскую” каюту. Адтуль ужо назіраў па тэлевізары, што адбылося далей з астранаўтамі… Касмічны карабель суправаджалі ў тым жа складзе НЛА, ляцелі да тае пары, пакуль астранаўты не пакінулі карабель. Пасля гэтага растварыліся ў паветры, зніклі, як і тады, з’явіўшыся ніадкуль…

Экіпаж апусціўся на ваду прыкладна праз сто дзевяноста пяць гадзінаў пасля пачатку місіі. Іх падабраў амерыканскі авіяносец. А трынаццатага жніўня 1969 года, пасля таго як астранаўты прайшлі каранцін і адпачылі, былі наладжаныя каралеўскія ўшанаванні астранаўтаў у Нью-Ёрку, Чыкага і Лос-Анжэлесе.

Траіх астранаўтаў сустракалі з такой жа помпай і ўрачыстасцямі, як і ў СССР першага касманаўта Юрыя Гагарына…

Мяне сярод іх не было. Але я не шкадаваў пра тое. Мяне ўсцешвала, што я першы з ліцвінскай краіны пабываў разам з імі на Касмічным Караблі – Месяцы, што побач з амерыканскім сцягам замацаваў і свой – бел-чырвона-белы маленькі-маленькі сцяжок…

…Да слова сказаць, Анатас Алкепаў аднёсся да майго падарожжа на Месяц спакойна, нават пахваліў. Сказаў, што гэта толькі пачатак маёй дзейнасці па выяўленні страчаных старонак гісторыі… Дадаў, што гэта толькі “семкі” ў параўнанні з тым, што я ўведаю ў мінулых тысячагоддзях. Бо лётаць, ён сцвярджаў, у мінулае цікавей, чым у будучае…

Мо яно і так, не ведаю...

## 10

Прачнуўся, пакінуў адразу ложак. І нечакана для самога сябе заспяваў. Спяваў напаўголаса і быццам бы не сваім голасам, як нехта іншы тое рабіў замест мяне:

*Толькі ў сэрцы трывожным пачую*
*за краіну радзімую жах, –*
*успомню Вострую Браму святую*
*і ваякаў на грозных канях...*

Радасна адзначаў сам сабе, што ўсё складваецца, здаецца, добра, так, як і павінна... А што павінна, таго не мінеш, – так, здаецца, мовілі мудрацы? Завязаў на шыі кашыміравы шаўковы шалік, выраблены некалі слуцкімі ткачыхамі. Пагаліўся, памыўся, прывёў сябе ў належны стан. А чым заняцца да вечара, не ведаў, бо шмат чаго жадаў… Хацелася і пакупацца ў салёным халодным моры. У тым, якое мне паказваў капітан, ды згуляць з прыгожымі паненкамі ў валейбол, палюбавацца іх пругкімі маладымі грудзьмі, ды запрасіць якую на шпацыр... Але адразу абсек сябе. Добра яшчэ, калі Яніна не чуе маіх дураслівых думак, а то і ад яе наслухаўся б папрокаў-кпінаў...Нехта адабральна хіхікаў за маёй спінай. Але не спужаўся, бо ведаў, хто сачыў за мною, хто кіраваў і скіроўваў мае дзеянні і ўчынкі... Ніякіх сігналаў і слоў у адказ – як і дамаўляліся. Зірнуў яшчэ раз у люстэрка. Адзначыў, што твар мой амаль абыякавы. Думкава загадаў сабе: “Так трымаць!”, – і пакінуў свой пакой.Успомнілася чамусьці Жана. З ёю нават і не пагаварыў як след, не папрасіў даравання за ўсё…Ішоў, а куды ішоў, не ведаў... Як і не ведаў, што чакала мяне наперадзе. Але я нават і думкі не дапускаў, што можа ўсё адбыцца не так, як меркаваў, як хацеў...

Яніна чакала мяне на прасторным калідоры. Стаяла і ўсміхалася:

– Вы гатовы да прэзентацыі, шаноўны спадар мастак Антон?

– А ўжэ ж, я ж не магу адмовіцца ад запрашэння нашага дарагога капітана Нэма. Вядзі мяне, бо я ніводнага разу не быў у той зале, дзе будзе наладжана дзейства, шабаш, як ён кажа!

Прамовіў гучна, недзе і весела, стараючыся прытрымлівацца свайго бесклапотнага настрою, з якім і пачаў паход. Сітуацыя таго вымагала. Яніна ў тым жа адзенні, што і кожны дзень, хіба на белую сваю блузку прычапіла маленькую брожачку – чырво-

ненькую сунічку. А ў мяне на шыі тоненькі шаўковы шалік, – у мяне “праступджана горла”.

– Пайшлі, – прамовіла спадарожніца, – праз нейкі час пачынаецца ўрачыстасць, і Анатас прасіў нас не спазняцца.

– Не спазняцца? – вырвалася ў мяне нечакана. – Капітан Нэма казаў, што тут ніхто ніколі і нікуды не спазняецца. Адступае ад сваіх прынцыпаў-правілаў?

– Не, не адступае, – уступілася яна за Алкепава. – Такое праходзіць рэгулярна. Раз у тысячу гадоў. Вось сёння такая нагода. Урачыстая нагода. У твой гонар. Ён так стараецца дагадзіць табе. Толькі не разумею, чаму?

– І я не ведаю, хоць забі мяне.

Яніна, як вопытны гід, вяла мяне па асветленых калідорах. Абцасікі туфляў нячутна ступалі па мяккім кіліме. Калі выйшлі на больш прасторны калідор, убачылі, што па ім ішлі, амаль беглі, спяшаючыся, людзі. Былі яны розных узростаў. Розных стагоддзяў. З розных краінаў. Абыякавыя твары, погляды як у вар’ятаў. І як толькі Алкепаву ўдалося іх аб’яднаць такую бясстварную масу? Мы выходзілі з калідора ў калідор, з завулка ў завулак. Кожны раз наш шлях шырыўся і шырыўся, і столь падымалася вышэй і вышэй... Уражанне, што мы недзе на тлумнай карнавальнай вуліцы Барселоны ці Буэнас-Айрэса, падчас нейкага вялізнага фэсту... Нас пачалі ўжо сціскаць з розных бакоў, і мы ледзьве не згубіліся, расчапіўшы рукі. Але цудам утрымаліся, і потым ужо стараліся рухацца неяк асобна ад агульнага рэчышча, хаця нам тое ўдавалася з вялікімі намаганнямі…Дзіўным было тое, што ўсе ўдзельнікі гэтага бязмежнага натоўпу былі халоднымі, бы лёд, і – безжыццёвымі. А мы з Янінаю падобныя да чалюскінцаў, заціснутых глыбамі-ільдзінамі. Прадыхнуць немагчыма. Нейкі вярзіла, пад тры метры ростам, паспрабаваў уклініцца між намі, адпіхнуць маю спадарожніцу …Нешта закрычала ад страху Яніна, выдаўжыўшы ў мой бок рукі, з усіх сілаў цягнуўся да яе і я. Але ўсё было дарэмным, у нас не ставала сілы супрацьстаяць гэтай вар’яцкай плыні, гэтай безаблічнай масе… Бачыў, як, знепрытомнеўшы, асела на падлогу Яніна. Я памкнуўся, адштурхоўваючы ў розныя бакі ледзяныя глыбы, да яе. Падбег, падняў з падлогі…А потым людзей стала меней. Яны пачалі расцякацца, улівацца вузкімі раўчукамі ў розныя дзверы.

Адышлі ўбок, каб аддыхацца, прыхінуліся да сцяны.

– Цяпер – пара, – прамовіла мая гід, і першай вызваліўшы руку, пайшла-паспяшалася следам за апошнімі са спадарожнікаў.

Падышлі да вялізнай праёміны, убачылі белыя, расчыненыя насцеж, дзверы. Пераступілі парог і апынуліся ў нейкім іншым і незнаёмым асяродку. Чулася слабая людская гамана, дзынканне відэльцаў ці лыжак аб сподкі, бульканне напояў, якія налівалі ў фужэры ці куфлі... Закувала зязюля – пракукавала тры разы і змоўкла, папярхнуўшыся. Недзе над намі па сухім дрэве пачаў дзяўбсці дзяцел, адбіваючы некаму “марзянку”...

Ішлі паўз калоны і ствалы дрэваў, чапляючыся за сухія галіны, Альшанская аб патырчаку парвала на плячы блузу. Я ж разадраў да крыві шчаку. Нечакана перад намі распрасцёрлася вялізная паляна ці поле з дрэвамі і кустамі, пабудовамі з бліскучымі шпілямі. Радавала вока блакітнае неба з белымі воблакамі, запрашалі крочыць далей мармуровыя прыступкі, якія вялі ўніз, да людзей-нелюдзяў на бясконцых лавах за шырокімі сталамі, з прысмакамі і напоямі, зелянінай і гароднінай, ялавічынай і свінінай, – рай дый годзе!

На чале вялізнага стала, накрытага белым, у кветы, абрусам, сядзеў Камандор. Размаўляў з кімсьці ў генеральскай форме пазамінулага стагоддзя, размахваў рукамі, рагатаў. Сядзеў ён да нас спінай. Рагаталі і смяяліся ўсе, быццам бралі прыклад са свайго патрона. Усім было весела. На нейкі момант спыніліся, не ведаючы, што рабіць – ісці ў залу, да ўсіх, ці чакаць, што скажа Нэма. Пераглянуліся з Янінай, маўчалі.

– А вось і наш галоўны мастак з’явіўся! – нечакана павярнуўся Камандор у наш бок. – Павітаем яго! Гэта новы сябра нашай планеты, нашага таварыства і супольнасці “Трох груш” – Антон Клімовіч!

Пачуліся апладысменты, і ўсе, каго я бачыў у першых радах, і на далёкіх, якія знаходзіліся за сотню метраў, за кіламетр, за тысячу кіламетраў, – паўставалі з месцаў і білі ў ладкі.

– Вітаем! Вітаем!

Недзе збоку, за спінай, зайгралі мажорны туш, мінорна зазвінелі медныя талеркі.

– Не стой, у нагах праўды няма! – павярнуўся да мяне капітан.

Яніна зірнула на Анатаса, гучна прамовіла, што выканала яго даручэнне. Ён удзячна кіўнуў галавой.

Пайшла і падсела да Паўла і Жанеты.

Анатас паказаў мне на крэсла побач з сабою:

– Сядай, дружа! Адчувай сябе, як дома, але не забывай, што ты пакуль у гасцях. Жартую, жартую. Бачыш, колькі народу прыйшло павіншаваць цябе з уступленнем у наш Саюз? Увесь зямны шар каля тваіх ног.

Люцыфер устаў, выпраміўся за сталом. Кінуў пільны позірк у бясконцую залу. Трымаючы ў руцэ фужэр з чырвоным напіткам – віном? – гучна, як з перакатамі грому на небе, загаварыў:

– Сябры мае! Я рады, што мы зноў, праз тысячу гадоў, сабраліся разам. Сёння наш галоўны мастак прэзентуе мой партрэт, над якім працаваў некалькі гадоў, патраціў шмат сілаў і энергіі. Таму сёння ў нас свята з нагоды дзвюх  падзей. Першая – вы павінны пацвердзіць геніяльнасць аўтара партрэта-іконы, а другое – прыняць на борт “Алкепа” новага жыхара, майго лепшага сябра, майго першага намесніка, які мае права выконваць, калі тое трэба, часова мае абавязкі, – Антона Клімовіча!

Зноў загучалі воплескі, на многія тысячы і тысячы кіламетраў панеслася рэха. То была ў Сатаны такая актавая зала, ці ўсе сабраліся пад адкрытым небам? Сонца не бачна, але зверху люстравалася зыркае святло.

Нэма-Фюрэр-Дыктатар доўга гаварыў аб маіх мастацкіх здольнасцях, пра тое, што я геніяльны мастак будучыні, і толькі пагэтаму мне ён даручыў намаляваць яго партрэт – абраз. Дадаваў пры гэтым, што я выдатна справіўся з пастаўленай перад ім задачай. Выступаў як на нейкім форуме ці мітынгу.

На ім – той жа капялюш, той жа шэры касцюм, той жа тоненькі  нязменны вужыны гальштук.

– А што ў цябе на шыі? – нечакана перапыніўся і насцярожана спытаў у мяне  Анатас Алкепаў, дапытліва скіраваўшы позірк на мой жоўты шалік.

– Ды ангіна, хай на яе трасца, ніяк ад яе не пазбаўлюся, – прахрыпеў я, кашлянуў нават.

– У нас тут ніхто і ніколі не хварэе, – не паверыў капітан Нэма. – Дзіўна  мне чуць пра тваю хваробу, дарагі мой Антон!

– У мяне яна яшчэ адтуль, з Навабеліцы, хранічная – дактары не вылечылі. Савецкая медыцына. Ангіна дала ўскладненне на ныркі. У мяне яшчэ і піеланефрыт…

– Ого, з якім ты “букетам” з’явіўся да нас! Вашая медыцына, скажу табе, не лечыць, а калечыць, – згадзіўся ён, ужо лагодна

паглядаючы на мяне. – Ладна, вылечым цябе. За адным са сталоў сядзіць эскулап медыцыны – Гіпакрат. Ён усё ўмее лячыць. Антоне, браце мой любы, давай вып’ем за сённяшнюю падзею. Бачыш, колькі ў нас тут народу? Вось і паспрабуй, палічы...

Ён адкаркаваў бутэльку таго ж, знаёмага, каньяку – “Alkep’e”, паразліваў не па чарачках, а па фужэрах:

– Сябры мае! Члены маёй вялікай сям’і! Я звяртаюся да вас, хто разумее мяне, хто ведае мяне, хто адмаўляе вучэнне Саваофа і Хрыста, а верыць толькі ў мяне… Давайце вып’ем за новага нашага сябра! І пасля гэтага я вам пакажу маю ікону, якую ён намаляваў.

Усе паслухаліся яго закліку, прыклаліся да фужэраў.

На мяне глядзелі Жана і Павел – усміхаліся, Яніна нешта шаптала Жане на вуха…

– А цяпер унясіце мой партрэт! – загадаў капітан Нэма.

Расчыніліся дзверы.

Адтуль выйшла двое рабочых у сініх камбінезонах з маёй шматгадовай працай, прыкрытай шэрай паркалёвай тканінай. Паставілі на высокі памост, на прыгатаваную загадзя прыстаўку, прыхінулі да сцяны.

– Дзякую, – кіўнуў Анатас ім галавой, паглядзеў на мяне, прапанаваў: – А цяпер табе слова – прадстаўляй сваю работу! А чаго ж не выпіў, Антон?

– Во пахвалюся сваёй працай – потым хоць бутэльку твайго каньяку выхлябаю. Нап’юся сёння, як казаў мой дзед Ян, у дрызіну, да смерці.

– У нас тут, на “Алкепе”, і смерці няма, бо ніхто не памірае, як і ніхто не нараджаецца, – усміхаўся капітан. – І могілак, і хаўтураў няма – толькі радасць і весялосць. Так, чакаем ад цябе, дарагі Антон, дэманструй сваю працу!

Я падняўся з крэсла, падышоў да палатна. Нейкі момант вагаўся.

– Госпадзе, пазбаў мяне ад д’ябла! – прашаптаў я малітву, адвярнуўшыся ад усіх, перахрысціўся, гледзячы ў неба. – Вызвалі мяне, грэшнага, з гэтай цямніцы! Памажы, Божа!..

І толькі пасля гэтага павольна ссунуў тканіну з партрэта. Яна спаўзла на падлогу. Зала, убачыўшы “ікону”, ахнула, загула, зарыкала і – зааплядзіравала:

– Слава Анатасу! Слава капітану “Алкепа”!

– Няхай жыве “Алкеп”!

– Слава! Слава! Слава-ааа-ааа-ааа!..

І тут наступіла пара майго здзіўлення і ўзрушання. Партрэт маляваў быццам і я і ў той жа час – не я. І то быў і не партрэт зусім, а нешта падобнае і блізкае да святой іконы. Толькі на той іконе, на тым абразе, быў намаляваны Сатана-Люцыфер. І быў ён у залатым акладзе, – золата вакол яго аж зіхацела, пералівалася. Твар свяціўся. Ён хітра паглядаў з абраза на нас, як усё роўна прымушаў паверыць, што сапраўды святы. Ды не толькі святы, а амаль Бог – Ісус Хрыстос.

Зала ўхвальна крычала:

– Слава Анатасу! Слава капітану “Алкепа”! Ён – наш Бог, і толькі яму мы будзем пакланяцца!

На мяне са слабай усмешкай паглядаў Сатана. Чакаў маёй рэакцыі на такую неспадзяванку. Мусіць, думаў, што пакрыўджуся з-за яго ўнёску ў стварэнне іконы – усяго некалькі мазкоў. І калі паспеў? Сам ці даручыў каму?

– Ты здзіўлены, Антон? Ты ж хацеў наведаць царкву? Дык ты і знаходзішся ў царкве, у святым храме. І мо не верыш, што я і ёсць Хрыстос, Які абяцаў вярнуцца на зямлю? Я вярнуўся, Антон! Табе трэба доказы?

Я маўчаў. Глядзеў на яго, наліваўся цвёрдасцю і сілай.

“Во калі ён рашыў даць мне магчымасць памаліцца, – падумаў пра сябе, – але ці храм гэта? Гэта ж пеклацiён Сатаны! І Сатана ўсядзецца на трон?!”

– Хрыстос тварыў цуды, і вы ўсе верылі ў тое. Я таксама зраблю цуд, каб ты паверыў, што я ўсемагутны. Глядзі, людзі ёсць, сядзяць перад намі? А я цяпер скажу ім: “Знікніце!”. Дзе яны?

І ўсе сапраўды зніклі. І Яніна знікла разам з усімі. Але я не падзівіўся яго цуду, хаця дрыготкі халадок прабег па ўсім целе.

– Вунь, далёка ад нас, высокая гара. Гара ніколі не рухаецца. А я загадаю ёй, каб яна падышла да цябе. Гара, стань каля майго мастака, прыйдзі! Раскрый яму вочы, бо ён сляпы, не бачыць пакуль што далей свайго носу!..

Нешта затрашчала, завішчала, завіхурыла. Падалі дрэвы і дамы, і на нас насоўвалася гара, зносячы ўсё на сваім шляху. Я ўжо хацеў адступіць, каб яна і мяне не сцёрла, але гара нечакана спынілася – за крок ад мяне.

– Што яшчэ табе паказаць, Антон? Якія цуды пераканаюць цябе, што я – Хрыстос і што мы знаходзімся ў храме? Верыш цяпер?

– Цяжка не паверыць, капітан Нэма! Вярні ўсіх назад.

– Добра. Вярніцеся на свае месцы!

Праз імгненне зноў пачуліся ўзбуджаныя галасы, размовы.

– Ты прыйшоў за дабраслаўленнем, Антон? Я даю табе яго! Можаш заставацца ў гэтым царстве і быць шчаслівым. Дабраслаўляю! Калі грамада дасць згоду, то сёння ты станеш сябрам царства "Трох груш", і ты сам сабе паставіш такую метку-пячатку за левым вухам. Бласлаўляю, Антон!

Калі ўзбуджанне пачало аціхаць, Люцыфер падняўся з крэсла, запытаўся ў залы:

– А цяпер самы галоўны момант. Увага! Скажыце, шаноўныя сябры, а ці падобны я да самога сябе? Ці падобны я да Ісуса Хрыста? Ці не дарэмна я плаціў Антону самы высокі ганарар у свеце, каб ён стварыў ідэальны абраз сучаснага Ісуса Хрыста?

Аказалася, што на кожным століку знаходзіўся плоскі і тонкі, як ліст ватманскай паперы, тэлевізар, вісеў ён і ў паветры. А перад кожным на стале, у сподачках, ляжала па тры грушы. Людзі доўга ўглядаліся, крытычна ацэньвалі зробленае мною, а потым пачалі крычаць:

– Падобны!..

– І падобны, і непадобны... Выдатны абраз нашага Хрыста. Цяпер ён не Анатас, а Ісус Хрыстос! Хрыстос!..

Капітан падняў руку – прасіў увагі.

– Скажыце, сябры мае, хто ваш Бог?

Дзікі роў праляцеў, падалося над Сусветам:

– Та наш Бог. Ты!

– А Іегова? Іешуа?

– Ты вышэй Іеговы! Вышэй Ісуса Назараніна! Ты вышэй!..

– Дзякую, сябры мае алкепаўцы, дзякую!

Падняў руку і я:

– Сябры мае! Вы правільна далі сваю ацэнку – Анатас ці Хрыстос падобны да самога сябе, і непадобны. А каб ён быў сапраўды падобны да сябе, мне трэба толькі адзін узмах пэндзля. Я магу тое зрабіць пры вас, калі мне дазволіць капітан нашага "Алкепа", прама цяпер.

Усе гулі адно і тое ж слова:

– Да-зволь, да-зво-оооль!..

Анатас паблажліва пацiснуў плячыма:

– Калі ты так хочаш, Антон, то – калі ласка! Дзейнічай! Але ты сам сказаў – адзін узмах.

– Добра. Толькі адзін!

– Яніна, – пашукаў ён позіркам афіцыянтку-памочніцу, – прынясі нашаму паважанаму мастаку ўсё неабходнае...

Яніна паднялася на ўзвышак. Стала побач са мною. Падала мне пэндзлі, чамаданчык з фарбамі. Я дастаў толькі адзін цюбік, на якой напісана – "сажа чорная, апаленая"... Алкепаў з непадробленай цікаўнасцю назіраў за маімі рухамі і рукамі. Я выціснуў з цюбіка чорную фарбу, добра перамяшаў. Потым двума пэндзлямі зачарпнуў яе, зафіксаваў рукі ў растапырку так, каб адлегласць паміж імі супадала з шырынёй капелюша на партрэце. Падышоў да палатна. Нейкі момант углядаўся ў твар капітана, як усё роўна набіраўся рашучасці. Левай рукой садраў з іконы залатое абрамленне і кінуў на падлогу. Партрэт стаў зноў такім, якім я яго і зрабіў. І... прыставіўшы каланковыя пэндзлі, складзеныя крыжападобна, да капелюша, над брылём – вышэй ілба, – імгненна і рэзка прачырыў уверх дзве чорныя сагнутыя лініі – і рэзка адарваў пэндзлі ад партрэта.

Атрымаліся... рогі.

– А цяпер падобны?!? – крыкнуў я ў залу, і рэха паскакала па радах і галовах жыхароў алкепаўскай вязніцы. – Падобны?

Напачатку Анатас нічога не зразумеў, нахмурыўся толькі. Ухапіўся за горла, – як яго нешта нябачнае здушыла. І ў той жа момант ажыў на яго галаве капялюш. Па ім пачалі поўзаць, адна па адной, шэрыя гадзюкі. І гальштук ажыў, пачаў закручвацца на шыі... Твар у Анатаса перакрывіўся, счарнеў, пакрыўся чорнай шчэццю, злавесным чырвона-зялёным агнём успыхнулі вочы...

Вялізнымі літарамі я напісаў-падпісаў знізу – ALKEP – ANATAS.І хутка перавярнуў па гарызанталі партрэт. І тады чыталіся літары ўжо ў адваротным парадку:

– SATANA – PEKLA.

Алкепаў, хістаючыся, рушыў у мой бок. Хапаўся рукой за паветра, каб не ўпасці, стараўся дацягнуцца да мяне. Схапіўся за горла, спрабуючы вызваліць вужыную ўдаўку. Але яму не ўдавалася тое зрабіць – пачаў задыхацца.

Падбеглі да мяне Павел і Жана – сталі паміж мной і д’яблам.

І тады я сарваў са сваёй грудзі жоўты шалік. На грудзях успыхнуў, зазіхацеў, пераліваючыся зыркай вясёлкай, срэбны крыжык. Сатана спыніўся, як хто нябачны ўдарыў яго па твары і адштурхнуў ад мяне.

Узяўшы маленькі абразок, скіраваў яго на Анатаса. І ён цудадзейна павялічыўся, – ярка, да болю ў вачах, успыхнуў дабрадзейны агонь і асляпіў жыхароў алкепаўскага пекла і самога сатану. Адштурхоўваў усіх, хто імкнуўся наблізіцца да мяне, забіць. І д’ябал акамянеў, аслупянеў…Твар яго ўжо не пазнаць, то і не твар ужо быў, а нешта няўцямнае і страшнае: перакошанае, з вылупленымі вачыма, якія выпаўзалі з вачніц… Ногі пачалі слізгаць па мармуровай падлозе – ён, аказваецца, быў ужо без абутку, стаяў на капытах… Гадзюкі поўзалі па спіне, па твары, па грудзях, абвівалі шыю, шыпелі, цыкалі атрутнымі джаламі... Усе паўскоквалі з месцаў, рынуліся на мяне. Напіралі, адпіхваючы адзін аднаго, імкнуліся ў наш бок – махалі кулакамі, пагражалі, імкнучыся знішчыць нас … Бедлам, хаос пекла ўзмацняўся. Пагрозліва нешта загуло над намі, нейкая вялізная пачвара, апусціўшы галаву, раскрыла вогненную пашчу, прагнучы праглынуць нас, зарыкала пагрозліва і голасна. Можа гэта было тое самае страшыдла, што хацела запалохаць некалі прарока Данііла?

Незлічоная маса пасяленцаў фрэгата напірала мацней і мацней. Але іх націск удавалася стрымліваць Паўлу і Жане. Адкуль у іх была такая сіла і моц, я не ведаў. Мне падалося, што побач з імі стаяў і Хурс. Паміж намі і жыхарамі пекла паўстала высокая празрыстая, ці не са шкла, сцяна. А звярына аб’явілася цалкам і стала бачнай – шматрукая, шматгаловая. Вочы чырвоныя, клыкі белыя і крывыя. Вось-вось дацягнецца да нас… Але ўдарылася ў празрыстую сцяну, з пашчы вырваўся агонь і адскочыў назад. Не пыса, ні рогі звярыны не маглі прабіць ахоўную агароджу.

Алкепаўцы збіваліся ў кучу, напаўзалі ўжо адзін на аднаго, падымаліся па скалечаных і растаптаных целах, грувасцячыся ўсё вышэй і вышэй, хадзілі па акрываўленых галовах. Ніхто не мог вырвацца з гэтай страшнай чавільні… Вялізная чорна-барвовая калюжына распаўзалася па падлозе…

Я зноў выставіў паперадзе сябе і крыж, і абразок. Здрыганулася ўсё навокал, захісталася... А потым стала цёмна-цёмна. Як

быццам у пекле нехта адключыў святло. Мы апынуліся ў суцэльнай цемры.

– Яніна, ты дзе?!

– Тут, – ухапілася яна за маю руку, – побач з табой...

Успыхнула ці то маланка, ці то адбылося кароткае замыканне на лініі электраперадачы – і на момант шыпячай электразваркай асвяціла ўсіх...

А потым і пярун разарваўся ў вышыні – грымнула, што аж заклала вушы, і белая пуга аднекуль зверху дацягнулася да стала, за якім сядзеў мой заказчык... Загарэліся і стол, і сам сатана... Зашыпеў, як падсмажаны, паваліўся на падлогу, пачаў дрыгаць нагамі, соваць капытамі па мармуровай падлозе... Па наваколлі панёсся невыносны смурод...

І яшчэ раз ударыў пярун. Яго блакітна-жоўтая страла скіравалася ў залу, у тых, хто нядаўна крычаў незадаволена, махаў кулакамі, пагражаючы сатанінскай карай...

Я прытуліў да сябе Яніну... Мы абняліся, абвілі, як хмелем адно аднаго рукамі, чакалі развязкі...

– Памажы нам, Божа!

11

Тое, што адбывалася далей, нельга ні вытлумачыць і растлумачыць. Мы адчувалі адно аднаго, але не ведалі, што з намі адбывалася – жывыя мы хоць ці не.

Нас кружыла, віхурыла, некуды несла з невядомай хуткасцю – мо і шпарчэй за светлавую. Мы не маглі нават расплюшчыць вочы, каб хоць нешта ўбачыць – хоць бы саміх сябе; здранцвелы, акамянелы, невядомы страх скаваў нашы душы, думкі і целы... Не ведалі – ці то мы падалі-апускаліся зноў у апраметную, ці то невядомая сіла падымала нас увысь. І – дзіўна, – адразу перасталі адчуваць страх, – з кожным імгненнем да нас вярталіся палёгка і радасць...

Мусіць, касманаўты адчуваюць нешта падобнае?..

Нешта крычала ля майго вуха Яніна. Крычаў, здаецца, і я. Здагадваліся, спадзяваліся, што перажываем сваё другое нараджэнне, – якое па ліку? Невядома колькі часу мы кружлялі ў бязважкасці... Потым адчулі невыносную гарачыню, нават спякоту. Як быццам заляцелі ў мартэнаўскую печ ці падляцелі да сонца...

Упалі на нешта мяккае і гарачае. Апусціліся плаўна, быццам упалі на рукі Госпада Бога нашага. І ўжо ведалі: мы ўцяклі з алкепаўскага пекла. Доўга не расплюшчвалі вачэй – баяліся ўбачыць перад сабой нешта такое, што б магло прынесці расчараванне...

– Ты жывая, Янінка? – голас у мяне слабы, і таму ціхі, прыглушаны.

– Жывая, – адказала дзяўчына, лежачы неўздалёк ад мяне. – Толькі кружыцца галава і баляць вушы...

– І ў мяне тое ж самае.

Нейкі час маўчым, набіраемся сілаў. А потым я не вытрымліваю, расплюшчваю вочы. Мяне асляпляе сонца. Я прыкрыў даланёй вочы і паглядзеў перад сабой. Аказалася, што мы ляжым на гарачым пяску, і вакол нас, як бачыла вока, – бясконцыя пяскі... Яніна за некалькі крокаў ад мяне, голая, як маці нарадзіла. Голым, на маё здзіўленне, быў і я... Гэта нагадвала Эдэм, калі першалюдзі сталі відушчымі. Але мы не елі яблыкаў з забароненай яблыні… І змея не было, які б шаптаў словы спакусы жанчыне… Але і жанчына не была Евай…

“Мы ж згарым пад гэтым няшчадным сонцам, – першае, што падумалася мне, – мы з аднаго пекла перабраліся ў другое...” Але тут жа і абсякаю сябе: “Якое ж гэта пекла, калі няма ў ім ні Сатаны, ні “Алкепа”? Гэта ж не пекла, хаця і раем назваць яго не выпадае…”

Але успомніўшы словы айца Георгія пра тое, хто хрысціянін нічога і ніколі не павінен баяцца, парады прарока Данііла, кінутага ў клетку да ільвоў і які застаўся жывы, – супакоіўся. Лёгенька дакрануўся да пляча маёй спадарожніцы. Яна жмурыцца, закрываючыся даланёй ад сонца. Не ведае яшчэ, што голая, што яе цела абпальваюць сонечныя праменні, і праз якія паўгадзіны мы будзем падобны да чорных галавешак...

– О, Божа, Антон, глянь, што за тваёй спінай!

Непадалёк ад нас, у нізінцы, як быццам там працякала нядаўна рака, выстрыкаўся з пяску паржавелы, шэра-чырвоны, а таму і непрыглядны карабель – рэшткі карабля... Праз іржу і шэрань слаба чытаюцца літары – “Alkep”. Не, гэта ўжо быў не той парусік-ветразнік, які прыняў мяне на свой борт сёмага лістапада мінулага стагоддзя. Рэшткі яго, непадобныя ні на што… А гэта азначала, што няма з намі ні Спакусніка, ні створанага ім патойбаковага свету – пекла…

– О Божа! – зноў ускліквае Яніна. – Антон, дык мы ж з табой, як немаўляты, без адзення... Як на дзікім пляжы, мы – як нудзісты, і загар будзе ў нас з табою – шакаладны. Мы ператворымся ў шакаладкі, якія нельга есці…

– Здзекуешся? З каго? З нас?

– І з нас таксама… Але ты не перажывай, мой хлопча! Ты думаеш, што нам тут будуць канцы? Памыляешся… Жывы будзем – не памрэм. Мы адтуль вырваліся такімі таму, што пакінулі ўсё там, бо тое ўсё ў мінулым... І "Алкеп" у мінулым, – ён, як бачыш, ператварыўся ў смецце... І нашае няправільнае жыццё ў мінулым... Мы з табой немаўляткі, і пачынаем усё з чыстага аркуша паперы...

– Каб жа так...

– Так, так, павер у гэта.

– Тады скажы, як нам адсюль выбавіцца? І на якой мы цяпер планеце – на нашай, ці яшчэ на той, дзе мы былі? А дарэчы, на якой зямлі ці ў якім сузор'і мы знаходзіліся ў Люцыфера?

Яніна адхіснулася ад мяне, упала грудзьмі на пясок, смяецца радасна:

– Хіба ж не ведаеш, каханы мой, ці ж забыўся, Хто кіруе намі? Забыўся пра сваю планету Ахутавану? Яна, твая Ахутавана, а я называю яе Бухтай Кахання, доўгі час была невядомая чалавецтву. Ты яе стварыў такую. Правільней, адкрыў, бо яе стварыў Бог. Дык вось, група астраномаў з Вашынгтонскага ўніверсітэта выявіла тую самую аддаленую ад нас зорку нашай Галактыкі – і ім аказаўся чырвоны гігант, які вызначаўся васямнаццацізоркавай велічынёй.

Здзіўлена паглядаю на сваю каханку і маю ж спадарожніцу. Яна расказвае мне пра маю ж зорку – якую я быццам бы і адкрыў? І засяліў яе не толькі сваімі персанажамі, а і сам пасяліўся з ёю?

– Гэта зорка размешчаная ў кірунку сузор'я Шаляў, – працягвае далей Яніна, з задавальненнем купаючыся ў пяску, – і аддаленая ад нас за чатырыста тысячаў светлавых гадоў. Самае дзіўнае, што гэтую, далёкую і загадкавую яркую зорку, якую ты адкрыў сто тысячагоддзяў назад, як першы раз закахаўся, убачылі толькі ў наш час. Ты не хацеў, каб яе адкрывалі, таму абвалок яе туманам, ад таго яна і выглядае толькі слабай плямінкай, цьмяна свеціцца на зорным небасхіле.

Не паверыў ёй, перапытваю:

– Штосьці не прыпомню, каб у мяне была свая зорка.

– Каб помніць, трэба кахаць. Мець пачуццё, якога быў пазбаўлены Анатас. Ён, як Калумб, ніколі не жадаючы адкрыць Амерыку, блытаў яе з Індыяй, але розумам д'ябальскім Анатас адчуваў, што недзе павінна існаваць Планета Кахання. Толькі ж спазнаць яе яму не было дадзена. Вось таму ён мітусіўся, выйшаў на цябе. Думаў і верыў, што з тваёй дапамогай даможацца жаданага.

– Во яно як…

– Ён асядлаў іншую планету, якая знаходзіцца ад нас на адлегласці сто шэсцьдзесят светлавых гадоў. Зноў жа – яе адкрылі амерыканскія астраномы з абсерваторыі імя Лоўэла. Зорка непрыглядная і цьмяная – ад старасці, і знаходзіцца яна ў сузор'і Панны, у зацемненых участках Валацужнага Шляху... Мы ж толькі пачынаем кахаць і жыць – вучымся каханню і жыццю. Так што не губляй дарэмна час – жыві і кахай штохвілінна…

Кладуся на пясок і я. Прымружваю вейкі. Праз нейкі час адчуваю, што сонца ўжо не так паліць, як на пачатку. Над намі, летучы зусім нізка, пра нешта пракрычала чайка. Вялікая чайка – альбатрос. Мы здзіўлена і радасна паглядзелі адно аднаму ў вочы. Першым падымаюся я, падаю руку Яніне. Нас водзіць з боку ў бок, мы, як п'яныя: не прывыклі ці адвыклі ад роднай зямлі... Абняліся, каб падтрымліваць адно аднаго, брыдзем, цягнучы ногі па пяску, пакідаючы пасля сябе чатыры віхлястыя палоскі... Наш недасканалы свет! Мы вярнуліся да цябе, як тыя блудныя дзеці. Мы радыя табе, таму што толькі ў табе нашае жыццё. Няхай мы яшчэ дзеці, няхай мы яшчэ неразумныя і кволыя, грэшныя, але будзем імкнуцца стаць лепшымі. Будзем такімі, якімі нас і хоча бачыць Ісус Хрыстос!.. Азірнуліся адначасова, кінулі позірк на струхлелы карабель. Ён на нашых вачах пакрысе ператвараўся ў шэра-жоўты ўзгорак, які заносіла пяском. А альбатрос кружляў над намі, клікаў нас, як прымушаў паспяшацца, быццам мы маглі спазніцца. Але куды спазніцца?

Ці была тут хоць якая мясцінка, дзе б нас нехта чакаў? У Яніны запякліся вусны, асмяглі. Мусіць жа, такімі бачыліся ёй і мае губы, раз не магу пашавяліць языком...

Мы брыдзем, як два пілігрымы, і ўжо не бачым альбатроса, а толькі чуем яго зазыўны голас.

Сонца стаіць у зеніце і, здаецца, на адным месцы.Мы абодва чакаем ночы, жадаем, каб нашыя целы змаглі астыць пасля пякучых промняў... Наперадзе вырастае пагорак. Праз сілу пачынаем падымацца на яго. Першай ад знямогі падае Яніна. Асоўваецца ў пясок на спіну. Падымаю яе, бяру на рукі. Нясу так да тае пары, пакуль не знясільваюся. Падаю ўжо на вяршыню ўзгорка. І як толькі мы распластваем рукі, лежачы на пяску, чуем, што аднекуль на нас пачынае дыхаць прахалодны вецер... Вялікіх высілкаў каштавала мне прыўзняцца, устаць на поўны рост. Перад намі рассцілаецца вялікі акіян – і яго жыватворная вільгаць далятае да нас.

Насустрач нам, з-за горкі, павольна падымалася, валочачы ногі па пяску, распэтланая жанчына. У шэрым зрэб'і, з даўгімі чорнымі косамі, з цяжкасцю трымалася на нагах. Брыла, не бачачы нас. Параўнялася з намі, спынілася. Невідушча паглядзела скрозь нас – у вачах боль і пакуты, але – не адчай. Ногі акрываўленыя – абутак даўно перастаў быць абуткам, толькі рэшткі ад яго.

– Ты – хто? – спытаў я ў яе. – Як завуць цябе?

– Марыя Магдаліна. А вы?..

– Мы...

– Не гавары, я ведаю. Вы толькі што скінулі з сябе ланцугі Сатаны. А цяпер хочаце дайсці да вады і прахалоды. І я пакінула вір, у які была ўцягнутая па сваёй жа віне... З-за спакусы.

– Куды ідзеш ты, Марыя Магдаліна?

– Да Яго. А прыйсці я павінна чыстай, пазбавіўшыся граху. Я вельмі вінаватая перад Ім...

Схіліўшы нізка галаву, паволі пасунулася далей. Мусіць, не шукала прахалоды, як мы, наадварот, уцякала ад яе – імкнулася зайсці ў бязлюдную пустыню, дзе чалавеку выжыць немагчыма...Падтрымліваючы адно аднаго, мы працягвалі доўжыць свой шлях. Успаўзлі-ўскараскаліся на адзін узгорак-бархан, на другі... Яніна зноў не вытрымала спякоты, знепрытомнела, асунулася на распалены пясок. Не адразу ўбачыў, што перад намі бязмежны акіян. Яніна ачулася, замутнёным позіркам паглядзела ўдалячынь.

Да акіяна рукой падаць, толькі наблізіцца да яго ў нас не стае сілаў.

– Гэта – падман. Гэта – міраж. І не акіян гэта зусім, таму што ён дрыжыць перад намі, то з'яўляецца, то знікае...

– Няпраўда, мой каханы, гэта выпарэнні даюць карціну міражу… Але гэта не міраж…

Мы глядзелі на хвалі, якія адкатваліся ад пясчанага берага і тут жа вярталіся назад, выдоўжвалі рукі, стараючыся прыцягнуць ваду да сябе, – але наблізіць акіян ці наблізіцца самім да яго не ўдавалася… Хвалі, здавалася, пачыналі ўздымацца вышэй і вышэй, – мусіць, акіян ужо злаваўся, што мы ніяк не можам прыйсці да яго…Плакалі ад бездапаможнасці, ад свядомасці таго, што нас магло чакаць праз колькі хвілінаў… Нам магла памагчы Марыя Магдаліна, каб звярнуліся да яе, – але цяпер яна была далёка, а паклікаць не было сілаў – горла перахоплівалі сухія спазмы…І ўжо ніводнага слова не прамовіць адно аднаму – хаця б развітацца перад гібеллю, – здзервянеў і перасох язык, губы спрэс у крыві…

– У..а... ай... – шапчу я, просячы, каб уставала мая спадарожніца. – Уста…ай… а…

Сабраўшы апошнія сілы, бяру яе зноў на рукі.

З гары ісці лягчэй, хаця і падаў праз крок разам з ёю. Зноў браў на рукі – і зноў падаў. Ведаючы, што больш падняць яе не змагу, узяў за дзве рукі і пачаў цягнуць… Аказваецца, цягнуць яшчэ цяжэй, чым несці яе на сабе. Рашыў на хвіліну пакінуць яе, самому дапаўзці да вады, каб легчы ў яе, набрацца сілаў і зноў вярнуцца. Так і сталася – сіла адразу вярнулася да мяне. Праз нейкі час прынёс і паклаў Яніну на бераг – у ваду. Застагнала і цяпер ужо расплюшчыла вочы...

– Антон, дзе мы? – спытала ціхім голасам.

– Мы купаемся з табой у акіяне, які я не ведаю, як і называецца... А гэта ўжо, здаецца, пачатак выратавання... Ты адчуваеш нашу свабоду?

Міжволі азірнуўся, паглядзеў туды, адкуль мы прыйшлі. На высокім бархане стаяла Марыя Магдаліна, глядзела, не адрываючыся, на нас. Аказваецца, яна сачыла за намі, думкава зычыла нам выбаўлення ад пакутаў… Значыць, памятала, як падыходзіў да яе і дапамог падняцца, а цяпер яна хоча памагчы падняцца нам. Прыветна памахала рукой – развіталася з намі і тут жа растварылася ў нябесным мроіве. Чайкі кружацца над намі, радасна крычаць, як быццам задаволеныя, што паказалі нам дарогу да вады... Яніна пачала змываць з сябе рэшткі пяску, што прыклеіўся да грудзей, атрасаць яго з галавы:

– Паглянь, Антон, зірні на гарызонт! – ускочыла, пачала бегаць па беразе, махаць рукамі. – Антон, на гарызонце карабель!..

Я адмаўляўся глядзець – мяне пакідалі апошнія сілы. Вочы ўжо былі няздольныя хоць што-небудзь бачыць. Ці то іх асляпіла так сонца, ці то я правальваюся ў небыццё... Тварам падаю ў ваду. Тое ўбачыла Яніна. Падбегла да мяне, прыўзняла, выцягнула на бераг.

– Што з табой, любы? Табе блага?

Схіляецца нада мною, дыхае мне ў твар.

– Пі... піць... – шэпчуць мае патрэсканыя да крыві губы. – Пі...

На лоб мне падаюць некалькі кропель. Слёзы? Ці то пайшоў доўгачаканы, збавіцельны дождж? А мо то пырскі ад марскіх хваляў? Я знікаю, я прападаю, і здаецца, што ўжо ніштo не можа вярнуць мяне да жыцця, – стаміўся, вось-вось правалюся некуды ў цішыню і нямогласць... Анёлы ж таксама некалі стамляюцца. Нават і ад кахання...

– Пі… піць…

– Піць, ён хоча піць! – пачуўся радасны жаночы вокліч. – Ён прачнуўся, доктар!

“Дзе я? Што здарылася са мной?!”

12

Медсястра дакранулася да майго запясця, глядзіць на мяне.

– Зноў цябе нехта ці нешта некуды кліча… Супакоіцца ніяк не можаш?

– Не магу, каханая, не магу… Сам не ведаю, што са мной.

– І куды ж на гэты раз? У космас?

– Не. Покліч крыві – у Аргенціну хачу. Нешта там не дарабіў…

Жанчына паціснула плячыма, не адымаючы рукі ад запясця:

– Ох і летуценнік ты неўтаймаваны… Што ж, ляці, толькі не затрымлівайся там, час ужо вяртацца на грэшную зямлю. Да сябе.

... На цямочку я апынуўся ў Паўднёвай Амерыцы – у Аргенціне. Шчасце мне такое выпала. Творчы конкурс выйграў сярод мастакоў. Пераможцу – пуцёўка. Паездка за мяжу – у любую краіну. Я чамусьці выбраў Аргенціну – апошнім часам усё часцей і часцей гучэла ў памяці мелодыя танга, якое любіла Жана-Жанета.

Я любаваўся залівамі Эль-Рынкан, Сан-Мацiяс, Сан-Хорхе, Бая-Грандэ; плыў да горада Санта-Фэ на параходзе “Бакль” (як па на-

шых Сажы ці Прыпяці) па рацэ Парана, у якую ўпадалі прытокі Парагвая, Рыё-Салада, Уругвая... Здзівілі мяне, што на тых раўнінах шмат салёных азёраў. А ў Патагонскіх Андах бялелі леднікі. Пуна-дэ-Атакама аказалася прыгожай высакагорнай трапічнай пустыняй. Уздоўж рэчак Парагвай і Парана – суцэльная балотная расліннасць, – як і ў нас, у нізіне Прыпяці, пад Мазыром ці Туравам...

Я заходзіў у тэатры, бібліятэкі, музеі – уражваўся гісторыяй і культурай незнаёмага мне народа. Ашаламлівалі – і паэзія В.Лопеса-і-Планеса – аўтара нацыянальнага гімна, – Х.Круса Варэлы, Э.Дэ Лукі. Начамі зачытваўся народнай паэзіяй “Гаўча”. А яе прадстаўнікі Б.Ідальга, І.Аскасубі, Э.Дэль Кампа, Х.Эрнандэс, які напісаў паэму “Марцін Ф’ера” – яна стала нацыянальным здабыткам і эпапеяй гонару нацыі. Не меней здзівіла і проза. Недасягальная тайна хавалася ў творчасці А.Варэла, Э.Л.Кастра, Л.Гудзіньё Крамера...Праваднік, ці гід, вадзіў мяне па самых запаветных куточках горада, паказваў, здзіўляў, радуючыся сам, што ўсё ўбачанае бальзамам кладзецца на маё сэрца. Але найбольш, прызнаюся, мяне цікавіў жывапіс. Выяўленчае мастацтва аргенцінцаў бярэ пачатак яшчэ з часоў набыцця незалежнасці. Мастакі Р.Манвуазен, К.Пельегрыні, С.Бакль сталі піянерамі ў бытавым жанры, пейзажы, партрэце...

Гадзінамі прастайваў каля манументальных роспісаў, прысвечаных гісторыі Аргенціны. Заснавальнікам “новага рэалізму” з’яўляецца А.Берні. Разам з мексіканскім манументалістам Д.А.Сікойрэсам і аргенцінскімі мастакамі Д.Уручуа і Х.К.Канстаньіна яны і стварылі манументалізм... Пранізвала душу мелодыя “Аргенцінскага танга”. Яна гучала ўсюды, куды б я ні заходзіў – у кавярнях і рэстаранах, на вуліцы і на параходзе, у гасцініцы і на аўтобусных прыпынках. Яна доўга гучаць будзе ў маёй памяці, калі не ўсё жыццё. Чаму яго так любіла Жанета?

– Пайшлі, Антон, наведаем выстаўку мастакоў, – прапанаваў мне мой сябра Хорхе – мастак новай плыні, нястомны працаўнік – месяцамі не выходзіў са сваёй майстэрні...

– З вялікай ахвотай, – згадзіўся я. – Але куды?

– А куды-небудзь... Наўгад...

Мы з ім аб’ездзілі ўсходнюю частку вострава Вогненная Зямля і астравоў Эстадос. Я зрабіў сотні замалёвак, накідаў... Хорхе не маляваў, ён адпачываў, глядзеў, як я працую, адабральна ківаў галавой. Буэнас-Айрэс свяціўся, зіхацеў, пераліваўся неонавымі

пырскамі. Усюды звінела музыка, усміхаліся людзі. Мы паехалі на ўскраіну горада. Правільней будзе сказаць, туды, куды вёз мяне сябра. Сышлі на апошнім прыпынку. Да мора – сотня крокаў. На прычале гайдаліся лодкі і лодачкі, яхты і караблі, цесна прытуліўшыся да берага.

Я пільна прыгледзеўся да іх: адзін з караблёў прыцягнуў маю ўвагу. Ён быў вышэйшы за ўсіх, бялей за ўсіх, велічны і таямнічы.

– Прыгожы ветразнік, – выказаўся я, паказваючы позіркам на аб’ект майго здзіўлення.

– Гэта ўсяго толькі яхта, – паправіў мяне Хорхе.

– Ды не, я кажу пра той, што з трыма мачтамі, з пунсовымі ветразямі – як у творах расійскага пісьменніка Аляксандра Грына.

Ён доўга ўглядаўся ў каланаду караблёў, жмурыўся, прыкрываў даланёй ад сонца вочы.

– Там няма такога... – паціснуў плячыма.

– Выбачай, значыць, я памыліўся, – згадзіўся з ім, таму што не хацеў спрачацца, усё яшчэ не адрываючыся позіркам ад пунсовых ветразяў. – Куды мы далей?

– А хаця б во сюды, – паказаў Хорхе на пятнаццаціпавярховы будынак, – тут выстаўляюцца маладыя мастакі. І вядомыя майстры, і тыя, хто толькі пачынае свой творчы шлях...

– А да каго мы пойдзем, ты ведаеш?

– Ведаю, Антон. Яго завуць Хуан Падэста. Экспрэсіўны мастак, смелы і напорысты. Выйграў конкурс на сваю выстаўку. У яго быў канкурэнт – Паўэла. Вельмі засмуціўся, калі даведаўся, што Хуан стаў першы... Напіўся ў той жа вечар ды папаў пад машыну... Хуан не толькі мастак, ён яшчэ і пісьменнік...

“Мая гісторыя, – падумалася мне, – і няўжо яна паўтараецца і ў іншых?..”

На першым паверсе, які свяціўся зыркімі агнямі, знаходзіўся мастацкі салон. Людзей у зале было і не вельмі шмат, але, каб падступіцца да карцін, патрабавалася асцярожнасць, каб некага не зачапіць. І мне, з першага ж позірку, прыйшлася даспадобы творчасць Хуана Падэсты. Скрозь на палотнах – зоркі, космас, планеты, партрэты. І – Чалавек на абсягах Сусвету.Увагу прыцягнуў партрэт – у куце каля шырокага акна: партрэт дзяўчыны ці маладой жанчыны. Чырвоная стужка на ілбе.

Мне стала не па сабе, заныла сэрца: “Няўжо?! Няўжо – Жанета? Адкуль тут яе партрэт?” За яе спінай сядзелі Ван Гог і Леанарда – на беразе мора, адвярнуўшыся ад нас, – як і тады, калі я праведваў Паўла...

– Што з табой, Антон? – зірнуўшы на мяне, перапалохаўся Хорхе. – Табе блага?

– Нічога, нічога, хутка пройдзе...

Але яшчэ больш уразіла наступнае палатно... Ужо сеў, каб не ўпасці. Я ўбачыў партрэт... Анатаса. Таго Анатаса, які ў капелюшы, і з яго тырчэлі рогі...

“У якім часе я знаходжуся? – у мяне ўсё пахаладзела ўсярэдзіне, і пачалі прабіраць нервовыя дрыжыкі. – Што гэта, адкуль? Новае выпрабаванне?..”

Хорхе пасадзіў мяне на канапку. Сам сеў побач.

– Хорхе, а ці можна мне пагаварыць з мастаком?

– Ды няма праблемаў, дружа! Пасядзі, а я пайду адшукаю яго...

Я нічога не разумеў, быў у роспачы: дзе я, што са мной? Гэта рэальнасць ці я зноў падпаў пад уладу сваёй жа фантасмагорыі?

– Дзень добры! Вы мяне хацелі бачыць?

Каля мяне стаяў юнак гадоў дваццаці пяці. Доўгія валасы, бародка. Я падняўся, стаў насупраць. Вочы блакітныя, як неба, і ў іх убачыў нешта роднае, напаўзабытае.

– Так, я вельмі хацеў вас бачыць... Я – Антон, мастак, прыехаў з Ліцвініі...

– Гэта там, дзе Мазыр і Тураў?

– Так, так...

– Я ў сусветным каталогу бачыў вашыя працы, – працягваў далей Хуан, – і яны мне вельмі спадабаліся... Мне чамусьці сніцца вашая краіна, сніцца Прыпяць і Сож, і ў сне я часта гуляю па беразе вашых рэчак, быццам і нарадзіўся там, правёў дзяцінства...

– Дзякую, што вы любіце мой край. Хуан, а ў мяне да вас такое пытанне: ці можна даведацца, што за жанчына намаляваная на гэтым палатне?

Ён, падалося мне, не здзівіўся пытанню, зірнуў на партрэт:

– А, гэта... Ды як вам сказаць... З гэтым палатном звязана нешта містычнае, а што, і сам не магу зразумець. Аднойчы да мяне ў майстэрню, позна вечарам, зайшла жанчына ў зялёнай доўгай, да самай зямлі, накідцы. Паставіла каля дзвярэй нешта,

загорнутае ў тканіну. "Гэта табе, – прамовіла яна і заўсміхалася, – гэта мой падарунак... Раз ты мяне ніколі не бачыў, то няхай хоць гэтая выява напамінае пра мяне..." Яна дакранулася да дзвернай ручкі, каб выйсці, і я паспеў папытацца: "А вы хто?" Жанчына сагнала з твару ўсмешку, папраціла на ілбе чырвоную стужку, адказала ціха: "Я? Я, Хуан, твая маці..." І адразу ж знікла, пакінуўшы ў майстэрні пах невядомых мне духоў і водар лугавых кветак...

– А другі партрэт, Хуан, – чалавек у капелюшы, з якога тырчаць рогі?

Мастак уздыхнуў, паціснуў плячыма:

– Пра яго нічога не ведаю. Калі разгарнуў падарунак, то і ўбачыў гэтыя два палотны... А чаму вас так зацікавілі гэтыя два партрэты, шаноўны спадар Антон?

Я ўздыхнуў, сядаючы зноў у крэсла:

– Таму, што адзін з іх маляваў я... Той, дзе з капелюша тырчаць рогі...

– Вы? – акругліў вочы мастак. – Дык вы, напэўна, і ведалі маю маці?

Пра сябе мог у той момант сказаць з ўпэўненасцю – я быў разбіты і раздзёрты... Ухапіўся за руку Хуана, сціснуў, што было сілы, а пра сябе падумаў: "Божа, няўжо я трымаю руку свайго сына?!"

Хуан маўчаў, толькі здзіўлена паглядаў на мяне.

...Праз нейкі час мы сядзелі на тэрасе, якую абсталяваў Хуан на даху высотнага дома, пілі гарбату. Размаўлялі як даўнія знаёмыя, блізкія людзі, якія ніколі і не разлучаліся.

– Ты любіш падарожнічаць, Хуан? – спытаў я ў мастака, успамінаючы яго сюжэты, якія бачыў на выстаўцы.

– Люблю... Вось і заўтра адпраўляюся ў падарожжа. Адпраўляюся вунь на тым ветразніку, – паказаў рукой на бераг акіяну. – Пад пунсовымі ветразямі буду падарожнічаць і працаваць.

Хорхе насцярожыўся, падышоў да бардзюра тэрасы:

– Дзе, Хуан? Я не бачу тых ветразяў...

– Ды вунь там, насупраць маяка – самая высокая мачта. З чырвонай паласой на бакавіне...

Ён падаў Хорхе бінокль. Але той і з біноклем не бачыў чырвоных ветразяў. Не бачыў тады, як я казаў яму пра іх, не бачыў і цяпер...

– Не знаходжу, няма, здаецца, – прызнаўся Хорхе, зноў сеў у крэсла, паклаўшы на стол бінокль.

– Іх ніхто не ўбачыць, – прамовіў я. – Ніхто.

– Чаму? – пацікавіўся сябар, пільна паглядзеўшы на мяне.

Я не адказаў, але пацікавіўся ў маладога мастака:

– Што за падарожжа, Хуан?

– Цікавае падарожжа, спадар Антон! Заманлівае...

– Заказ атрымаў выгадны? Грошы вялікія паабяцаў багацей? Каньяком французскім частаваў? Салодкімі грушамі, як мёд? І цяпер яны ў цябе на стале. І ты “Рэквіем” напісаў, а твой заказчык паабяцаў выдаць кнігу ў сваёй друкарні... Пра Бога і Біблію вы будзеце весці дыскусіі, ці не так?

Я гатовы быў узарвацца, перайсці на крык.

– Адкуль ведаеш, Антон?!

Маё маўчанне доўжылася каля хвіліны.

– І прасіў пісаць свой партрэт на сваім ветразніку. Усяго пяць сеансаў. За кожны ён адваліць табе па дзесяць тысячаў... І задатак ты атрымаў... Ганарышся, геніем сябе адчуў, як і сказаў пра тое заказчык? І тэлефон яго складаецца з шасцёрак і дзявятак, хіба не так? І завуць яго Анатас?

Хуан збялеў, гледзячы на мяне, нахмурыўся.

– Запомні, Хуан, чым саладзейшае абяцанне, тым больш у ім атруты. Не хадзі туды, сын! Гэта пастка! Гэта – спакуса... Адмоўся, Хуан, прашу цябе, умольваю! Каб потым ты не шкадаваў пра тое...

– Аб чым – не шкадаваў? Гэта ж усяго на пяць-шэсць дзён... Не больш...

– Адмоўся, Хуан, – настойваў я. – Яшчэ не позна, бо будзеш потым шкадаваць усё жыццё, калі яшчэ застанешся жывы....

На нас здзіўлена паглядаў Хорхе – нічога не разумеў з нашай размовы. Як і не разумеў мяне мой сын...

– Я падумаю, – прашаптаў ён, усё яшчэ гледзячы на бераг акіяну. – Я падумаю... Сам бачу, што апошнім часам нешта няладнае творыцца са мною...

Нейкі злы рок лучыў не толькі па маіх слядах, а і па слядах майго сына. Можа, гэта Анатас помсціў мне, што я так абышоўся з ім? Які грэх на мне? У жыцці кожнага чалавека існуе свой Анатас, і галоўнае не даць яму волі, не прадацца яму. А, можа?.. Можа, гэта я за Паўла і Жанету сплочаю? А Жана просіць засцерагчы Хуана ад спакушэння... Ці ўдасца мне гэта, ці хопіць у мяне сілаў вытрымаць новае выпрабаванне? Ніхто не адказваў на

мае роспачныя пытанні. Маўчаў мой Голас. Маўчала Яніна. Я трымаў за руку Хуана, баючыся адпусціць яго ад сябе. Мне здавалася, што адпушчу, страчу назаўсёды. І тады мяне асяніла... Я зняў з сябе бабульчын дарунак. Папрасіў Хуана схіліць галаву – павесіў яму срэбны крыжык на шыю. А на стол, перад ім, паклаў абразок Святой Тройцы. Узяў з вазы, што стаяла на століку, тры вялізныя, сакавітыя ігрушы – і па адной выкінуў іх за парэнчы: у пусты двор... Пачуліся тры глухія выбухі – як усё роўна ўзарваліся гранаты.

Хуан, збялеўшы, здзіўлена паглядзеў на мяне. Мой ледзь заўважны мівок галавы азначаў: “Так трэба, сын, так трэба...” Хуан перавёў позірк на бераг. Доўга ўглядваўся, і нічога не ўгледзеў... Узяў бінокль, накіраваў туды.

– Я не бачу яго, бацька, – прамовіў ці то з радасцю, ці то са шкадаваннем. – Карабель знік...

– Ён знік, сын, назаўсёды!..

Хуан сеў зноў за стол, пільна паглядаў на мяне, пэўна, чакаючы тлумачэнняў. Падалося, што за яго спіной паказалася Яніна. А потым яе змяніла Жана-Жанета. Радасна ўсміхалася, дзякавала позіркам, што дапамог я Хуану пазбегнуць спакусы славай, і ён не паўторыць нашых памылак. Маіх памылак.

13

... – Піць, ён хоча піць! – радасна абвясціў жаночы голас, які прагучаў побач са мною. – Ён прачнуўся, доктар!

“Дзе я? Што са мной?”

Не разумею нічога – нада мною схілілася Ліка. Смяецца і плача, слёзы капаюць мне на твар. І аблічча дачкі калышацца ў блакітным мроіве. Доктар праз шкельцы акуляраў узіраецца ў мяне. Бачыліся яшчэ нейкія – знаёмыя і незнаёмыя мне – людзі. З-за спінаў выглядвае Яніна – падміргвае мне па-змоўніцку, быццам кажа: “Вось бачыш, усё абышлося, а ты хваляваўся… Цяпер ты зноў з намі...”

– Піць, – просіць нехта за мяне.

Брыжык шклянкі з мінеральнай вадой кранаецц а маіх губ – і я раблю першы глыток, – падаецца, што выпіў цэлы акіян, у якім мы купаліся з Янінай, канаючы ад смагі і пякельнага сонца...

– Больш не хочаш? – спытала Ліка.

Я пакруціў адмоўна галавой.

– Ну і добра, – адставіла шклянку, – ну і не трэба... Як ты пачуваешся?

Мне так хацелася, каб мяне ўсе пакінулі ў спакоі. Пакінулі аднаго, каб ніхто нічога не пытаўся, і я не напручваўся, каб нешта адказаць… Чаму яны не чуюць маіх думак, майго жадання? Я ж не ўсё яшчэ сказаў Хуану, не сказаў самага галоўнага, а тут аднекуль узяліся людзі, нешта хочуць ад мяне… Як усё роўна ўгадаўшы мае жаданні, нешта сказаў усім прысутным кардыёлаг – мой добры Ян Міклашэвіч. Усе ціхенька выйшлі з палаты.

– Што са мной, Ян Пятровіч?

Голас у мяне яшчэ слабы, амаль шэпт.

– Цяпер ты ў норме... Але паўгода спаў. Наркапсія, так сказаць, – знаходзіўся ў летаргічным сне. Усё працавала ў цябе спраўна, толькі вось адключалася зрэдку свядомасць... І мы стараліся падтрымліваць тваю жыццядзейнасць усімі сучаснымі сродкамі...

– Я спаў шэсць месяцаў?! Сур’ёзна?

– А што тут такога? Здараецца з людзьмі такое. Дзякуй Богу, што ты прачнуўся і вярнуўся на нашую грэшную зямлю.

– Дык можа вы мне і пасведчанне пажарніка выдасце? Хай да маіх спецыяльнасцяў і гэтая далучыцца.

– А што? – падтрымлівае мяне доктар. – Трэба падумаць, трэба падумаць... Прыгожы ў цябе крыжык...

– Бабулі Настазі... То мяне крыжык і вярнуў адтуль. Ад Анатаса…

– Хто такі – Анатас?

– Ды раскажу пасля. Пакуль спаў, багата набралася, шмат перажыў. І шмат дзе пабываў. Будзе пра што расказаць...

– Добра... І гэта хутка можа адбыцца, бо паслязаўтра я цябе выпішу. А цяпер мо паклікаць жонку і дачку?

– Клічце! Цяпер я гатовы да размовы. Цяпер мне хочацца іх убачыць…

За спінай у доктара Яніна. Спакойная і, здаецца, задаволеная. Глядзіць на мяне пяшчотна і замілавана, і ў куточках вуснаў блукае ледзь прыкметная ўсмешка. Ды то і не ўсмешка зусім, а проста знак для мяне, што паміж намі і цяпер не абрывалася сувязь, і што яна стала, можа быць, неразрыўнай. Бо столькі ж прыйшлося нам з ёю перажыць за нашыя некалькі жыццяў.

І тады ж падумалася:: ”А куды ж закіне нас зноў лёс, у якія новыя прыгоды. І так бясконца, пакуль будуць доўжыцца нашыя жыцці, падораныя Вялікім Творцам!.. Таму што мы ўжо не можам без прыгодаў, кахання, вечнага імкнення да яднання, што амалоджвае нашыя душы і сэрцы… Такія мы ўжо з ёю героі невядомага і не напісанага яшчэ рамана, – такімі і застанемся назаўсёды. Яніна – не толькі сымбаль кахання, сімвал дабрыні і захавальніца нашага з Лікай сямейнага селішча, шчасця, нашага пошугу ў будучыню. Яна – маё натхненне, мае крылы і маё пяро.

...Ранічкай, у нядзельку, а шостай гадзіне, ішоў праліўны і халодны дождж. Я, накінуўшы на плечы плашч і ўзяўшы стары парасон, які мне некалі падараваў матрос з рыбацкага сейнера (быў у далёкіх краінах) Барыс Лізагуб, папраставаў у Сабор – святых апосталаў Пятра і Паўла.

Быў дзень Сёмухі, Святой Тройцы. Богаслужэнне пачыналася а палове сёмай, але я амаль першы пераступіў Храм Бога. Перад уваходам купіў пук аеру, каб асвяціць у час малітвы. Купіў некалькі вялікіх свечак. Паставіў да распяцця Хрыста, да Божай Маці, да Міколы Угодніка… Наклаў крыж, нізка схіліўшыся ў паклоне. Нехта крануўся маёй рукі – далікатна, асцярожна.

– Я вітаю вас у Божым храме, брат Антон, – напаўголаса прамовіў айцец Георгій. – Выблыталіся са свайго палону?

– Выблытаўся, айцец Георгій! Збіўся з дарогі. Але цяпер з гэтай, на якую я ступіў, ніколі не збочу.

Святар паклаў даланю на маю галаву:

– Вы выбралі адзіную і правільную дарогу да Ісуса Хрыста. Бог усіх прымае, усім даруе. Але да даравання, да споведзі вам яшчэ трэба шмат прайсці шляху.

– Я прайду яго, айцец Георгій! І хачу, каб вы былі маім духоўнікам. Вам я магу даверыць сваю душу і сэрца, бо толькі ад вас пачую слова на роднай мове, і спавядацца буду на маёй мове… І дазвольце мне, на ёй, калі будзе ісці набажэнства, маліцца…

Літургія доўжылася каля чатырох гадзінаў. Але для мяне тое цяжкасці не складала. Сам падзівіўся з сябе. Тройчы, укленчыўшы, разам са святарамі ўзносіў малітвы Богу...

Аднекуль зверху да мяне далятаў патаемны і мілагучны голас:

– Слава Айцу і Сыну, і Святому Духу і цяпер, і заўсёды, на векі вечныя. Амінь…

14

Паўгода я праспаў у лякарні, потым з месяц яшчэ не выпісвалі, стараючыся дакапацца да прычыны майго летаргічнага сну… Убачыўшы, што я адэкватна сябе паводжу, памятаю пра ўсё, што адбывалася са мной, – рашыў пусціць мяне доктар у цывільны свет, не асцерагаючыся, што са мной можа паўтарыцца нешта падобнае… Прасіў наведвацца, калі сам таго пажадаю.

Наведаўся праз паўтара месяцы.

– Ну, як вы сябе адчуваеце, спадар Антон?

– Ды па-рознаму. Яшчэ поўнасцю не пазбавіўся ад свайго другога “я”… Яшчэ здараецца, хаця і рэдка, у сне магу нырнуць у небыццё, але потым лёгка выходжу са свайго стану.

– А днём больш спаць не хочацца?

– Здаецца, не… Сем-восем гадзінаў начнога сну хапае.

– Гэта добра.

Мы маўчым, адчуваючы, што пад нашай размовай падведзеная рыса. Глядзім у акно, за якім волка і ціха. Па шкле паўзуць дажджавыя змейкі, пракладваючы сабе крывыя, звілістыя сцежкі.

– Антон, вы павінны спаліць усе масты, якіх набудавалі перад гэтым. Гэта – ваш адзіны выхад і адзіныя лекі пазбавіцца ад мінулага. І – адзіны ключ да канчатковага выздараўлення.

Паціскаем адзін аднаму рукі, і я пакідаю пакой ардынатарскай. Пахне ёдам, карболкай і лякарняй. А ўвушшу звініць адно і тое ж слова: “Спаліць, спаліць, спаліць…”

Не заставалася нічога іншага, як паслухацца доктара. Ён, безумоўна, меў на ўвазе тыя масты, што я пабудаваў у сваім хворым уяўленні – але ў каго, скажыце, з пісьменнікаў ці мастакоў не хворае ўяўленне? Але слова “спаліць” я зразумеў па-свойму, інакшага быць і не магло…

15

… Раніцай пабудзіў мяне тэлефон.Слухаўку ўзяла Ліка. Адразу ж падала мне.

– Мне трэба Антон Клімовіч, – гаварыў малады мужчынскі голас.

– Слухаю вас уважліва.

– Гэта звоніць вам галоўны рэдактар выдавецтва “Літаратура і мастацтва” – Уладзіслаў Праўдзінскі. Мы разгледзелі вашую заяўку на выданне вашых дваццаці раманаў. Вашую заяўку матэрыяльна падмацаваў ваш інвестар Анатас Алкепаў. На наш разліковы рахунак ён пералічыў тры мільёны даляраў. Але ў дадатак да рахунка ён выставіў умову, каб валюта была выдаткаваная строга па прызначэнні – толькі на выданне вашых кніг… Вы б не маглі, дарагі Антон Клімовіч, прыехаць да нас на наступным тыдні, і мы б абгаварылі ўсе дэталі.

– Даруйце, як вашае імя па бацьку?

– Уладзіслаў Антонавіч…

– Дарагі Уладзіслаў Антонавіч! Я не ведаю ні пра якую заяўку вы гаворыце, як і не ведаю ніякіх спонсараў-інвестараў, і не хачу я зусім у вас друкавацца, і ніколі не пераступлю парог вашага выдавецтва. Так склаліся абставіны, выбачайце…

У адказ недаўменнае маўчанне, а потым пачулася роспачна-недаўменнае пытанне:

– Дык што нам, скажыце, рабіць з вашымі далярамі?

– Што? А вы ў прыбіральню іх памясціцеце – няхай будуць замест туалетнай паперы!

Паклаў трубку.

– Хто гэта быў, Антон?

– А, ніхто… Учорашні дзень…

– Ты не вельмі ветліва гаварыў з чалавекам.

– А то і не чалавек зусім, не чалавек, Ліка.

16

Аднойчы вечарам, у нядзельку, калі я закончыў працу над карцінай і збіраўся ісці дадому, у дзверы майстэрні нехта пазваніў, а потым і пастукаў – раз, другі, трэці… На мяне з трывогай паглядзелі Ясь і Яніна. Схаваўся за іх Белавух, і носа не высоўваў.

Я пайшоў адчыняць дзверы. Не лесвічнай пляцоўцы стаяла жанчына з паштарскай сумкай.

– Вам тэлеграма, спадар Клімовіч, распішыцеся, калі ласка, – раскрыла тонкі сшытак, паказала радок, дзе я павінен быў паставіць свой подпіс.

У майстэрню мне ніколі не прыносілі пошту – ні пісем, ні тэлеграм.

Са здзіўленнем пачаў чытаць тэкст.

“Дарагі мой сябра!Ты думаеш, што так лёгка пазбавіўся ад мяне? Памыляешся, мой майстра! Ты ж ведаеш – чалавек створаны з дзвюх палавінак. Адна з іх належыць Стваральніку, а другая – мне. З якімі заганамі плоці змагаецца Ён? Пра іх сказаў апостал Павел, памятаеш? У Пасланні да Галатаў (5:19-23):

“Дзеі плоці вядомыя; вось яны: пералюб, блуд, нечыстата, непатрэбства, ідаласлужэнне, чарадзейства, варожасць, свары, зайздрасць, гнеў, звады, раздоры (спакусы), ерасі, нянавісць, забойствы, п’янства, закалоты і іншае...” У мяне, на парусніку, ты заўважыў хаця б адзін з гэтых парокаў? Не. Я калі што падобнае прапаведаваў? Толькі тое, што і апостал Павел. Здзіўлены? Далей ён там жа гаворыць: “А плод духа: любоў, радасць, згода, доўгая цярплівасць, добрасць, міласэрнасць, вера, лагоднасць, устрымлівасць...” Так, я вінаваты хіба ў тым, што на вашай грэшнай зямлі ўкараняю вышэйпералічаныя заганы. Але ж ці заганы яны і ці належаць да грахоўных дзеяў? Чалавек павінен жыць напоўніцу – страсцямі, памыляцца, эксперыментаваць, сумнявацца, зайздросціць поспеху іншых і рабіць лепш, чым яны гэта робяць.

Так, я спакушаю людзей да граху, а Стваральнік, калі людзі каюцца, даруе ім грахі іх. Так было, так ёсць і так будзе. Мы неразрыўныя і неразлучныя з Ім, хаця мы не адно і тое ж. Пагэтаму чалавек усё жыццё сваё будзе грэшны, і яму ад гэтага нікуды не падзецца. І ён заўсёды можа пакаяцца ў сваіх грахах. А таму ніколі не спыніцца барацьба-змаганне спаміж Дабром і Злом.

Асмелюся даць параду: ніколі, Антон, не гуляй і не заігрывай з людскімі душамі і лёсамі як літаратар... Потым жа героі будуць помсціць табе за тое, што выпусціў іх з небыцця на свет, і забыўся на іх лёс. Яны заўсёды надакучваюць аўтарам, толькі апошнія ў гэтым не прызнаюцца. Як і артысты кіно, якія пабылі ў вобразе сатаны ці забойцы, а потым пакутуюць усё жыццё, і яшчэ горш – нехта забірае іх жыццё... То ж з маёй падачы я надаўміў аўтара “Майстра і Маргарыты”, каб ён апісаў падрабязна нашы гулянкі-шабашы, ён, як і ты, пажадаў стаць геніяльным творцам, таму і прадаў мне сваю душу, – мы з ім заключылі дамову аб супрацоўніцтве. Ён стаў геніяльным пісьменнікам, а ты вырваўся з маіх мярэжаў. А толькі ж д’ябал можа памагчы творцу стаць геніяльным, але не Бог, – Ён жа патрабуе працы, працы і працы...

Якія я ні граў бы ролі, маё жыццё будзе працягвацца мільярды гадоў, я пастаянна буду спакушаць слабых і слабавольных, пыхлівых і ўладналюбных…

Ды хопіць, мусіць, мне выхоўваць цябе. Я і так табе надакучыў.

Да сустрэчы. У тваім новым жыцці.

З павагай – твой *Заказчык.*

Ды вось што яшчэ, даруй, што адрываю ад клопату. Заўсёды адказвай за кожнае прамоўленае ці задуманае слова. Памятаеш, як ты ў тралейбусе чартыхнуўся "чорт мяне вазьмі"? Ну, я і ўзяў, ты ж сам таго хацеў… Я сачыў за тваім жыццём, падбіраўся да тваёй душы, таму што яна была "нічыёй".

Калі ж чалавек не жадае прысвяціць сваю душу Богу, тады мне застаецца авалодаць ёю. І так будзе заўсёды. Нельга без патрэбы прамаўляць воклічы ці звароты – няхай яны скіраваныя ці то да мяне, ці да Бога. Любое вымаўленае слова мае сваю энергію: "Напачатку было Слова і слова было Богам…"

Калі ж возьмешся за літаратуру, гістарычную літаратуру, і не будзе хапаць фактаў для даставернага раскрыцця тэмы, то тэлепартацыйны карабель майго фрэгата заўсёды да тваіх паслугаў. А як апынуцца на маім фрэгаце, я думаю, ты не забыўся, – толькі адмысловы ўзмах рукі…"

Мне хацелася ўдакладніць у паштальёна, якое аддзяленне сувязі перадало гэтую тэлеграму-допіс, але на пляцоўцы ўжо нікога не было. Здзіўляла і іншае: у доме трэці дзень не было электраэнергіі – як яна змагла падняцца і пазваніць мне ў дзверы. Больш таго – на маю верхатуру і ліфт не дасягаў.

Прыйшлося, каб адчапіцца ад гэтых пытанняў, прачытаць напісанае да канца…

"І яшчэ на заканчэнне, мой дарагі мастак! Ніхто ў свеце не можа тое зрабіць, ніхто. Ты так баяўся, Антон, нашых размоў пра Біблію, думаючы, што я цябе хачу "перакаваць у сваю веру", што, уцякаючы, спаліў усе масты, спадзеючыся, што ніколі не азірнешся на мяне, нават забудзеш пра маё існаванне. Хаця ў мяне няма ніякай веры. Ні да кога. Не буду ні ў чым табе пярэчыць і пераконваць у нечым. Бог з табой. Ты ўсё роўна выконваеш Волю – не маю, дык нечыю, а дакладней, Бога твайго Адзінага… І тут я табе не замінаю – на здароўе.

Адкажы мне, хлопча, ці ведаеш ты што-небудзь пра эсеяў – эсейскую секту? Думаю, што не. Як і не ведаеш разам з усімі

вернікамі пра тое, адкуль узялася Біблія, і ці быў у рэальнасці Іісус Хрыстос… Не крывіся, калі ласка, дачытай усё ж да канца. Цябе хіба не здзіўляе той факт, што вучоныя ўсяго свету з даўняй пары звярнулі ўвагу на тое, што не адшукалася ніякіх крыніцаў і сведчанняў, якія пацвярджалі б Яго існаванне. А потым за кароткі адрэзак часу нечакана з'явілася процьма Евангелляў пра жыццё Іісуса і пра цуды, створаныя Ім.

Але царква пазней прызнала з іх толькі чатыры. На чым жа тады магло грунтавацца Святое Пісанне?.."

– Што ж ты зноў ад мяне хочаш, Анатас? – прамовіў я ўголас. – Я табе як бяльмо ў тваім гузікавым воку.

За спіной пачуўся слабенькі рогат, нешта зашуршэла, быццам нехта варочаўся на перасохлай саломе. Азірнуўся. Нікога не ўбачыў. І пачуўся тады ж прыглушана-пакрыўджаны голас:

– Ды нічога не хачу я ад цябе. Я знаходжуся побач з табой, і ты мяне не бачыш, Антон. Мог бы паказацца табе, але не буду тое рабіць. А ты чытай, чытай далей, а не хочаш чытаць – то давай паразмаўляем на гэтую тэму. Падыскутуем?

У мяне яшчэ не прайшло здзіўленне і здранцвенне, але пастараўся быць спакойным, папытаўся толькі:

– І ты потым адстанеш ад мяне?

– Адстану, слова даю.

– Назусім?

– Мо і не назусім, але надоўга. Надакучваць не буду, абяцаю толькі, што не буду ўмешвацца ў тваё жыццё. Ты падарожнічаў па Егіпце, праязджаў нават паўз пячоры Кумранскіх гор, што знаходзяцца каля Мёртвага мора. Там, у тых пячорах, пастушок выпадкова ўбачыў расшчэліну ў гары, спусціўся і наткнуўся на скручаныя скураныя лісты. То потым ужо спецыялісты прызналі ў іх світкі – свяшчэнныя тэксты рэлігійнай секты эсеяў. І зразумелі, што яны былі створаныя яшчэ да новай эры, – другое ці першае стагоддзе. Іх так потым і назвалі – кумранскія світкі. А я бачыў, як сектанты хавалі іх у тым тайніку. Я мог бы і знішчыць іх, але чамусьці захацелася раскрыць людзям тайну стварэння хрысціянскай Бібліі, падман, які адбыўся пасля…

– Для чаго табе і гэта патрэбна, Анатас?"

– Люблю справядлівасць і праўду".

– Ты – змагар за праўду і не церпіш ніякага падману? Што я чую, Нэма?"

– Так, ты не верыш… Ну і ладна, цяжка ў тое паверыць і насамрэч…

– Дык вось… Раз кумранскія світкі нашмат “маладзейшыя” за хрысціянскія Евангеллі, то, відавочна, што адбыўся плагіят ці падробка. Біяграфія – жыццёвы шлях Хрыста – нейкім чынам нагадвае жыццё заснавальніка эсейскай секты. А ў тых жа світках яго называлі не інакш як Настаўнікам Справядлівасці. Ёсць шмат супадзенняў з жыцця абодвух. Настаўнік Справядлівасці яшчэ раней за Ісуса Хрыста ўзяў на сябе місію Прарока, як указана ў світках, папярэдне атрымаў дабраслаўленне і Адкрыццё ад Бога, вёўшы свой род ад Аўрама. А Ісус, як вядома з Бібліі, па лініі маці паходзіў ад Давіда, таксама ад нашчадка Аўраама. І ў Настаўніка Справядлівасці, як і ў Хрыста, быў Папярэднік. Ён, як і Ян Хрысціцель, прапаведваў незвычайную вестку людзям, прарочыў блізкі прыход сапраўднага Прарока. Настаўнік Справядлівасці і стаўся тым памазаннікам Божым, Месіяй, якога чакалі. І смерць прыняў ад рук фарысеяў – артадаксальных іўдзеяў, яго, як і Хрыста, задоўга да апошняга, прыбілі цвікамі да драўлянай перакладзіны. Тое падрабязна апісана ў рукапісах эсеяў.

Тыя ж вучоныя адзінадушна прызналі, што эсейскі Настаўнік – рэальная гістарычная Асоба. Ён, Настаўнік, у другім стагоддзі да новай эры, прапаведваў у Галілеі і прыняў смерць пакутніка. І тое адбылося на паўтара стагоддзя раней, а не тады, як пазней сцвярджала Евангелле… Ты мяне хоць слухаеш, Антон?

“Ды слухаю, ад цябе нікуды не падзенешся, але ты слова даў… Прасвятляй мяне, асатаньвай… Старайся…” Мы перайшлі ўжо на безгалосы дыялог.

“Ды што тут старацца… У той час на Бліжнім Усходзе супернічалі між сабой мноства рэлігійных плыняў і сектаў. Ідэалогія эсеяў у першым стагоддзі, ужо новай эры, аказала вялікі ўплыў на хрысціянства. Але той факт чамусьці знарок выкінулі адэпты Новай Царквы, намагаліся нават знішчыць эсейскія рукапісы, нават свае апакрыфічныя тэксты знішчылі. А дваццатае стагоддзе, дзякуючы знаходцы кумранскіх тэкстаў, расставіла ўсё на свае месцы. Гэта не мае выдумкі, зазначу, пра тое ты можаш і сам потым прачытаць у розных крыніцах, што захоўваюцца ў архівах, тое ўжо не тайна, і я, значыць, не тлумлю табе галаву, не апрацоўваю твае мазгі, як ты некалі палічыў разам з Янінай…”

“Раўнуеш, Нэма?”

“Можа , і раўную…Прапаноўваю скончыць гэтую тэму. Эсеі вызнавалі іўдаізм, аднак прызнавалі, што фарысеі апаганілі рэлігію Майсея, сказілі божае вучэнне. Таму эсеям прыйшлося парваць з артадаксальным іўдаізмам, абвясціўшы “новы саюз” – Новы Запавет – з Богам, бо стары быў парушаны тымі ж фарысеямі…”

“Ты тое ўсё бачыў на свае вочы, Анатас?”

“Бачыў”.

“Бачыў і не ўмяшаўся?”

“А навошта? Так, я мог усё перайначыць. Жыццё эсеяў азначала толькі падрыхтоўчы перыяд да бітвы, змагання ці вайны спаміж “сынамі свету” і “сынамі цемры”. Калі пачалася тая вайна, я толькі назіраў, пасміхаўся адно, бо ведаў: магу парушыць суладдзе неба і зямлі. Можа, я ў душы і не згаджаўся з тым, што эсеі былі супраць таго, каб чалавек імкнуўся да матэрыяльнага багацця, а не да духоўнага…”

“Гэта ж чаму, цікава пачуць? – паддаўся я на спакусу: так як і Гад узяў “на цугундзер” Еву, папытаўшыся ў яе: “Дык ці сапраўды сказаў Бог, што, з’еўшы яблык, не памрэце?..”

“Яны мелі цвёрдую веру ў тое, што прадвызначана Богам, але пакідалі за сабой права мець свабоду волі і выбару дзеянняў, свайго шляху выратавання. Былі ўпэўненыя, што належаць да “сыноў свету”, як верылі ў канец таго ж свету, – у апошні Вялікі і Справядлівы Суд. Верылі і ў тое, што прыйдзе Збаўца Свету, памазаннік Божы. Галоўнае ў цэнтры эсейскага культу лічылася прызнанне Настаўніка Справядлівасці як Найвышэйшага Бога. Ты прачытаеш у крыніцах, што супраць гэтага выступіў “нейкі недобрасумленны жрэц”. Думаю, ты здагадаўся, хто ім быў. Але ні ў адных крыніцах ты не знойдзеш імя таго жраца…”

“Можа, гэта ты і быў?”

“Я табе таго не казаў… Трэба і сціпласць нейкую мець. А гэтага, скажу табе, хапала ў эсеяў. Яны, дарэчы, былі жорсткія аскеты, пазбягалі задавальненняў у любым выглядзе і праяўленні, патрабавалі заўсёды праўды, не клапоцячыся нават пра тое, што тая праўда можа абярнуцца супраць іх саміх, пагражаючы смерцю. У іх не было слугаў, яны не жаніліся, адмаўлялі дабрачыннасць і не любілі гасцей. Жанчын лічылі народжанымі ад д’ябла. Прызнаюся, яны тут мелі рацыю. Жанчыны не мелі права ўваходзіць у секту, аднак эсеі вымушаны былі цярпець іх побач з са-

бою. Катэгарычна эсеі не адмаўлялі нараджэнне дзяцей, але грэбавалі дакранацца да супрацьлеглага полу, хаця і не супраць былі авалодаць ім. Усіх жанчын называлі не інакш, як прастытуткамі. Гэтага і іншага грэбавання жаночым полам патрабаваў і сам Настаўнік. У хрысціянскіх Евангеллях гэта трохі прыглушана, больш мякка сказана пра Жанчыну, Багародзіцы моляцца, пакланяюцца Ёй. А жыццеаповеды пра Вялікую Блудніцу з “Адкрыцця Яна Багаслова” – жанчыны, “апранутай у пурпур”, – адзін да аднаго скапіраваны з тых жа эсейскіх тэкстаў… Эсейскі культ надаваў вялікае значэнне духоўнаму ачышчэнню – што азначала ўнутранае пакаянне, шчырую споведзь. Тое, дарэчы, набудзе моц і сілу ў раннім хрысціянстве… Ты не заснуў хоць, Антон?..”

Я пацёр скроні, зірнуў на квадраты шыбаў акна:

“Я сплю ноччу… А днём… Днём нешта раблю. Малюю, напрыклад, чытаю, пішу, магу і прыдрамнуць…”

“Даруй, што перашкодзіў, мой дружа, тваёй сённяшняй працы! Як і тады ўварваўся ў тваю майстэрню, даруй. Я не адыму ў цябе больш пяці хвілінак. Дасказаць толькі хачу. Мы з табой слухалі Ірада, калі перанесліся ў яго эпоху. А ў часы Настаўніка Справядлівасці Іўдзеяй правілі рымскія прадстаўнікі Арыстабул і Гіркан. Яны варагавалі, кожны з іх змагаўся за ўладу. А эсеі не прызнавалі ні таго, ні другога, лічылі, што народам павінен кіраваць не цар, а толькі жрэц – Настаўнік. А артадаксальныя іўдзеі яго і на нюх не пераносілі. Таму і ўзненавідзелі Яго, злоснае замыслілі, і сталася так, што Яго схапілі і адправілі на смерць. Той жа эсейскі папірус паведамляе: “Калі канаў святочны дзень Выкуплення, Ён і з’явіўся ва ўсім сваім незвычайным адзенні перад імі – яго ворагамі, нават перад “жрацом без сумлення і гонару”, які штохвілінна сачыў за ім, – і ўсё дзеля таго, каб прыняць пакуты за веру і каб сапсаваць ім усім той суботні дзень”.

Самыя жорсткія і нечалавечыя ганенні прыйшлося вытрымаць эсеям падчас праўлення імператара Нерона, і яны амаль усе былі вынішчаныя. У тых пячорах хавалася кумранская абшчына, яна і перанесла туды свае свяшчэнныя кнігі і рукапісы, – ёй удалося праіснаваць на зямлі больш часу, чым іншым. І яны, на жаль, пазней зніклі са старонак гісторыі, пакінуўшы хіба каштоўныя старонкі пра сябе – скарб.

Так, эсеі лічыліся зярняткамі зараджэння хрысціянства, якія спорна прараслі і буйна пайшлі ў рост. Хрысціянства і вызначыла

далейшы ход гісторыі Заходняга Свету. Але тут ёсць і адваротны бок медаля Гісторыі: эсеі былі не толькі нязломнымі аскетамі і праўдалюбцамі, але і для вас, Антон, вельмі і вельмі небяспечнымі сектантамі. У іх быў адзіны і галоўны недахоп – *неабмежаваная абмежаванасць* сваёй жорстка страшэннай і антыгуманнай дактрынай свянатацтва ў адносінах як да людзей, так і да Бога. І гэта ўжо не мне казаць, а табе: калі б, не дай Бог, іх светапогляд і ідэалогія ўзялі верх, стаўшы дамінуючым дагматам, то ў сувязі з тым, што яны супраць заключэння шлюбаў, спынілі б і дзетанараджэнне, – Еўропа вымерла б, як вымерлі некалі маманты і дыназаўры. Чаму ў малітве, звяртаючыся да Бога, ты кожны раз гаворыш: "Бо вось я ў беззаконнях зачаты, і ў грахох нарадзіла мяне маці мая..." Якое тут беззаконне і які грэх? Маці пабралася шлюбам, павянчалася нават у царкве – дзе ж тут грэх? Ад эсеяў, значыць, тое перайшло ў праваслаўе? Ты зноў можаш спытацца ў мяне – а на які ляд я табе гэта талдычу, калі ў цябе хапае праблемаў і без мяне? Адкажу: хіба толькі для таго, каб ты думаў, узважваў, нараджаўся духоўна зноў і зноў, – да чаго, дарэчы, і заклікае ўвесь час Гасподзь. Тут я з Ім салідарны..."

"Добра, абяцаю дабрацца да тых кумранскіх світкаў. Сам прачытаю і зразумею, што да чаго. А цяпер, Люцыферчык мой дарагі, што рабіцьмем? – на манер петрыкаўскай бабы Ганны спытаў у яго.

"Так, намёк зразумеў, Антоне... Больш не буду прыставаць да цябе, не буду адрываць ад працы. Стане сумна – пазвані, нумар ведаеш, альбо пакліч, і я прыйду нябачны да цябе, і мы проста можам паменціць нейкі час языкамі, – цябе тое ні да чаго не абавязвае. Але сам я ўжо ніколі не прыйду да твайго парога. Я ж не жорсткі эсей, – я за прыгажосць і задавальненне, за асалоду пачуццяў, за тое, што жанчыну мы павінны кахаць і прыўзносіць да нябёсаў, а яна – доўжыць род чалавечы. Бо я не магу без людзей. Бог, людзі і я – гэта адно цэлае. Сапраўды – тройца непарыўная..."

Усміхаўся толькі ад яго блюзнерства, розум не губляў, быў спакойны, бо ведаў, што не на "Алкепе" мы, што мне няма неабходнасці ў маёй майстэрні нечага асцерагацца...

"А каб ты пераканаўся, што я тут быў у цябе, з табой балаболіў, пасвавольнічаю – вазьму і скіну з мальберта тваю карціну, як і ты некалі скінуў фужэр са стала ў "Залатым пеўніку"..."

Падрамнік з пейзажам “Восень” захістаўся і ўпаў да маіх ног.

Падышоўшы да акна, дастаў з кішэні запальнічку, пстрыкнуў ёю. Агеньчык паднёс да аркушыка паперы – адразу ўспыхнула. Данёс палаючую паперку да расчыненай форткі. Як толькі дагарэла, выкінуў на вуліцу.

Яе адразу падхапіў вецер, закружыў у паветры чорныя папялінкі, шпурнуў на верхавіны дрэў…Загаманілі, прыйшоўшы да ўзаемазгоды, Ясь і Яніна, піскнуў нешта радаснае Мышук.

Прыйшла пара пакінуць майстэрню.

## 17

… У наступную нядзельку, калі Ліка не была звязаная са школьнымі клопатамі, і дочкі мае знаходзіліся дома – з Белграда прыехала і Таццяна, – прапанаваў:

– Жаданыя і любімыя, а давайце мы з вамі адправімся ў лес – на пагулянку. Паходзім, вогнішча раскладзем, сала падсмажым на галінцы?

– А што, я вельмі хачу на прыроду! – радасна ўсклікнула будучы кандыдат філалагічных навукаў Ірына Клімовіч. – Выдатная ідэя! Своечасовая.

– І я хачу! – падтрымала жыхарка расейскіх прастораў Таццяна. – Як я даўно не была каля бярозаў і сосен! Бацька, ты малаток! Выгані нас з гэтага душнага горада, падаруй нам свежае паветра!..

І мы адправіліся ў лес. Перад гэтым я забег у майстэрню, захапіў папку з рукапісам. Блукалі, хадзілі, натаміліся. Спыніліся на ўзлеску бярозавага гаю.

Я назбіраў галля, ададраў ад бярозы бяросту. Склаўшы ўсё гэта ў кучу, падпаліў. Мае жанчыны сядзелі на паваленай бярозе – той самай, каля якой я маляваў некалі пейзаж.

Мы смажылі на дубчыку сала. Калі з яго капалі бісерынкі тлушчу, падстаўлялі скібку хлеба. Нічога смачнейшага, здавалася, не было на свеце.

Штосьці прыходзіла мне на памяць, адлюстроўвалася кароткім сполахам, але я з усіх сілаў стараўся адганяць тыя ўспаміны, – трызненні і мроі летаргічнага сну спакваля затушоўваліся, знікалі, быццам заціхала праца памяці кампакт-дыска ў кампутары, губляла сілу састарэлая інфармацыя.

Непакоіў хіба мяне толькі заплечнік, – то шпырне вострым шылам у бок, то тузане, быццам я быў запрэжаны ў аглоблі, а то і зарагоча ледзь чутна. Я разумеў, што гэта і ад чаго, таму, калі пачалі збірацца дахаты, рашыўся: назбіраў сухіх сасновых галінаў, паклаў на вогнішча. На мяне са здзіўленнем і недаўменна глядзелі мае жанчыны, мусіць, думалі, навошта зноў раскладваю кастрышча, калі нам пара пакідаць узлесак…Выцягнуў з заплечніка зялёную папку. Яна як быццам не хацела давацца мне ў рукі, выслізгвала. Папрасіў сваіх жанчынаў адысці падалей – кінуў тую тэчку ў палаючае вогнішча.

Пачуўся душараздзіральны крык. Касцёр выбухнуў, як хто паклаў пад яго гранату. Узляцелі ў неба галавешкі. Зашыпеў агонь, быццам на яго вылілі вядро вады. Над галавой пранёсся трывожна-злы віхор, варонка яго пыласмокам апусцілася да самага кастра, уцягнула ў сябе недагарэлае …

Потым пацямнела ўсё вакол; неба завалакло цяжкімі воблакамі; дзесьці далёка прагрымеў гром, і рэха яго пакацілася па вяршынях дрэваў. Гэтак жа нечакана праз хвіліну стала светла і ясна.

Да мяне падышла Ліка, кранула за плячо, зазірнула трывожна ў вочы:

– Антон, а навошта ты спаліў рукапіс? Ты ж над ім працаваў столькі гадоў, марыў выдаць кнігу.

– Не будзе, Ліка, ніякай кнігі… Больш я ніколі пісаць не буду. Ніколі! Нельга мне пісаць.

– Чаму – нельга?

– Нельга – і ўсё тут. Я пазбавіўся ад гэтай спакусы, і не толькі ад гэтай.

Уздыхнуўшы на поўныя грудзі, агледзеўся вакол.Толькі цяпер убачыў перад сабою лес і восень, Ліку, Ірыну і Таццяну. Свет зноў успыхнуў для мяне непаўторнымі колерамі, вясёлкай, наталяючы душу чысцінёй і дабрынёй.

Я стаў чалавекам, тым чалавекам, якім і быў да летаргічнага сну. І ведаў, што больш не ажывуць героі маіх рукапісаў. Таму што тых рукапісаў цяпер няма і ў паміне. І больш ніколі не будуць… Добра, што я яшчэ не намаляваў людзей, а толькі прыроду, – цяпер не буду асцерагацца, што і яны маглі ажыць і помсціць мне за спробы перарабіць іх… Не мой гэта клопат, ды і не ў маёй тое ўладзе.

Мы спусціліся ў лагчыну – да крыніцы. Па чарзе чэрпалі бярозавым кадоўбцам лекавую ваду, пілі асцярожна маленькімі глыткамі, баючыся застудзіць горла.

… Пакідаючы бярозавы гай, міжволі азірнуўся: над кастром толькі цепліўся слабы дымок – канаў. Як і загадваў кардыёлаг, я спаліў за сабой не толькі віртуальныя масты, – самога сябе, таго, які не прыслухаўся некалі да папераджальнага ўнутранага голасу, голасу анёла, паддаўся спакусе славай, талентам, укленчыў перад залатым цяльцом.

Зазванілі званы Патрапаўлаўскага сабора…

………………………………

P.S.

Прайшло паўгода… Я зноў толькі мастак. Езджу на эцюды, малюю прыроду.

Люблю вельмі маляваць храмы на фоне бла-кітнага неба з кудлатымі воблакамі.

Пачаў хадзіць да айца Георгія на споведзь, на прычасце.

А аднойчы спытаў у яго пра перасяленне душаў.

– Ерась, Антон… Яшчэ ў трэцім стагоддзі ад Раства Хрыстова прадпрымалася спроба ўкараніць у хрысціянства вучэнне пра гэта. Філосаф Арыген, вывучаючы платонаўскае вучэнне пра той час, калі яшчэ душа не нараджалася, да яе злучэння з целам, стварыў асабістае вучэнне. І ў яго знайшліся паслядоўнікі, прызналі яго правільным і непахісным. На Канстанцінопальскім Памесным Саборы ў 543 годзе ад Нараджэння Хрыстова гэтае вучэнне было аб'яўлена *ерассю.* І пазней ужо – у пятым і шостым вяках – Усяленскія Саборы пацвердзілі асуджэнне і, больш таго, аддалі анафеме, што азначала адлучэнне ад царквы ўсіх тых, хто падтрымліваў вучэнне аб перасяленні душаў…

– У Святым Пісанні я нідзе не знайшоў нічога пра пераўвасабленне, пагэтаму і задумаўся…

– Ідэя несмяротнасці душы як пастаяннага пераўвасаблення, пераходу з аднаго цела ў другое, няхай нават і не абавязкова ў цела чалавека, супярэчыць хрысціянскай ідэі асобы як вобраза і падабенства Божага…

– Тады што за голас гаварыў са мной пра гэтыя рэчы – павучаў і накіроўваў…

– А вось пра гэта мы, Антон, пагаворым пазней, больш грунтоўна. Цяпер вы з Богам. Вам нічога не страшна. Душа набыла

ўпэўненасць і дабрадзейнасць, і таму вы больш не будзеце чуць невядомыя галасы.

Адчуў я ў сабе вялікія перамены. У мяне памяняўся рытм жыцця, стаў больш разважлівым і спакойным. Навучыўся ўзважваць і размяркоўваць свае сілы, і таму кожны дзень мне ўдавалася з Божай дапамогай зрабіць тое, што намячаў і планаваў, што прасіў у Вышняга...

18

І ўсё ж мяне ўсё яшчэ не-не ды нешта непакоіла, а што, зразумець не мог.Аднойчы, каб паставіць апошнюю кропку ў маіх няясных пакутах, пераканацца, што я назусім пазбавіўся ад навязлівых думак, рашыўся на апошні крок. Набраў нумар тэлефона бухгалтэрыі таго дзяржаўнага выдавецтва, дырэктар якога мне званіў.

– Слухаю вас, – пачуўся жаночы голас.

– Вы – галоўны бухгалтар Соф'я Паўлаўна?

– Так, што вы хацелі?

– Я хацеў даведацца вось пра што: ці пераводзіў хто-небудзь у гэтым годзе грошы на маё імя для выдання ў вас маіх кніг? Мяне завуць – Антон Клімовіч.

Строгі і дзелавы, і ў той жа час прыемны, голас абвясціў мне:

– Я працую больш пятнаццаці гадоў на гэтай пасадзе, але не прыпомню ніводнага выпадку, каб хто-небудзь са спонсараў пералічваў грошы для канкрэтнага аўтара – ні ў далярах, ні ў нашых “зайчыках”. І для вас, на жаль, ніхто не пералічваў...

– Не на жаль, Соф'я Паўлаўна, а на шчасце! – весела крыкнуў я. – Дзякую вам за харошае паведамленне!

– Не разумею вас, Антон Клімовіч, вы рады таму, пра што я сказала?

– Так, так, вельмі рады, дзякую!

Паклаў тэлефонную слухаўку.

– Віншую цябе, Антон! – крыкнуў сам сабе. – Ты поўнасцю вылечыўся, пазбавіўся ад спакусаў! Віншую!

...Я купаўся ў спакоі, шчасці і бесклапотнасці.

Трымаў мяне за руку Той, Хто не даў збіцца з абранай дарогі... Перада мной пракладзены бальшак.

*Мы маем прад сабою тысячы дарог,*
*але адна зь іх толькі прывяла да Бога…*
*І Ён нам нарадзіцца зноўку дапамог,*
*каб у цемрадзі мы ня блукалі доўга.*
*І сяньня кожнага прывёў Ён да сьвятла,*
*не дакараў, не ўшчуваў, што да Яго парога*
*ня тая зорка па жыцьці нас кожнага вяла,*
*зусім ня тую па жыцьці абралі мы дарогу…*
*Цяпер, дальбог, ня зрушым мы зь яе,*
*бяз стомы будзем да сканчэньня крочыць, –*
*бо нам жыцьця бяз Бога не стае, –*
*ня бачаць шлях бяз Ойча нашы вочы.*

Хто напісаў гэтыя радкі тарашкевіцай, не ведаю, але яны сугучны з маімі думкамі і жыццём. Магчыма, я сам іх і напісаў, а мо хто і надыктаваў, не ведаю, але ў апошні час яны пастаянна гучалі ў маёй душы…

Цяпер я пазбавіўся ад сумненняў, няўпэўнасці і страху перад заўтрашнім днём. У маёй кватэры, як і ў майстэрні, з’явіліся абразы Іісуса Хрыста і Божай Маці, Святой Тройцы, Кірылы Тураўскага і Еўфрасінні Полацкай, іншых святых, якія абаранялі мяне ад д’яблавых спакусаў. Жытло азарылася цудадзейным святлом і Святым Духам, і ўсё лядайкае і шэрае знікла з хаты…

Прыходзячы на сход у свой творчы калектыў, найбольш маўчаў, не лез на трыбуну. Здзіўляўся са сваіх калег, як яны апантана ламалі дзіды ў пустых і непатрэбных спрэчках… Марнатраўства часу і здароўя, – міусня мітусні…

Што было заўтра, тое будзе ўчора, а што было ўчора, паўторыцца ў заўтрашнім дні… І ім я не мог нічога сказаць пра тое, як і не мог пераканаць, што няма ні ўчора, ні заўтра, а ёсць цяперашняе сёння – імгненне жыцця…

Яно – як уздых і выдых, як позірк каханай жанчыны, як зорка на небасхіле, якая пагасла заўтра, як удар сэрца ў вашых грудзях перад вашым нараджэннем…

Не ад нас залежыць тое, што адбудзецца з намі заўтра-паслязаўтра-учора: учорашні дзень абавязкова напомніць нам пра будучы… Толькі не збіцца б нам з дарогі, той, якая вядзе нас ва ўчарашні дзень, набліжаючы заўтра, а паслязаўтрашні дзень вернецца да нас з цвёрдай упэўненасцю, што мы будзем пачувацца аднолькава цвёрда ў розных вымярэннях, часе і абставінах...

……………………………….

*Замест заключэння.*

**“Біблія”** – кніга дасканалая і выключная, невычэрпная кніга, у якой усё сказана як пра Бога, так і пра чалавека. Усюдыісны Бог у ёй шматвобразна адкрываецца і дае магчымасць нам быць духоўна відушчымі.

Біблія ўтрымлівае ў сабе вучэнне рэлігійнага парадку, богашчырую ісціну, але і чалавечыя веды, і ўся нашая разумовая дзейнасць знаходзіць у ёй страву багацця невычэрпнага. Многае ўзяла з яе і паэзія, і геаграфія, і сацыялогія. Яна легла ў фундамент еўрапейскага мастацтва. Без яе ні скульптары Шартрскага сабора, ні мазаісты Равены, ні Мікельанджэла, ні Рэмбрант, ні Эль Грэка не былі б тымі, кім мы цяпер захапляемся. На гэтым жа падмурку трымаецца творчасць Шэкспіра, Расіна, Дантэ і Дастаеўскага. Народы белай расы абавязаны Бібліі той вядучай роллю, якую прызнае за імі гісторыя, а другія расы ёй жа абвязаныя тым, што яны абудзіліся да большага святла.

Сама назва, якую мы даем гэтай кнізе, заключае ў сабе і адлюстроўвае ўсе яе выключныя якасці. Слова “біблас” у грэкаў ужо азначала “кніга”. Гэтае слова этымалагічна карэніцца ў тых далёкіх часах другога тысячагоддзя да Раства Хрыстова, калі фінікійцы горада Бібласа ператварылі свой галоўны порт у галоўны склад і рынак папіруса. Для нас жа гэтыя тры склады “Біблія” паказваюць вяршыню і сукупнасць усяго напісанага. Біблія – кніга кніг.

На працягу стагоддзяў яна далёка пераўзыйшла ўсе астатнія тварэнні духа, была і застаецца самай чытанай кнігай у свеце.

Улічваючы ўсе друкаваныя выданні Бібліі, можна прыйсці да вываду, што агульны наклад яе дасягае амаль мільярд асобнікаў. У перакладзе яна існуе амаль на сямістах мовах і дыялектах. Яе можна чытаць на мове эскімосаў і ўолафаў (Сенегал), на мове фламандскай і брэтонскай.

Насуперак шырокараспаўсюджанай думцы, Царква не толькі не забараняе чытанне і вывучэнне Святога Пісання, але ўсяляк заахвочвае, прыняўшы папярэдне ўсе неабходныя меры да аховы богадухвеннага тэксту ад усемагчымых ілжэтлумачэнняў і скажэнняў. За апошнія амаль сто гадоў, пачынаючы з 1893 года, Свяцейшы Прастол надрукаваў тры вялікія акруговыя пасланні – Энцыклікі, прысвечаныя пытанню аб неабходнасці чытання, вы-

вучэння і выкладання Святога Пісання з падрабязнымі ўказаннямі як для вучоных і духавенства, так і для міранаў. Энцыклікі: папы Льва XIII "Providentissimus Deus" (1893 г.), папы Бенедыкта XV "Spiritus Paraclitus" (1920 г.) і папы Пія XII "Divina affiante Spiritu" (1943 г.) з'яўляюцца цвёрдымі кіруючымі правіламі для чытання і даследвання Святога Пісання. Гэтыя Энцыклікі і іншыя важнейшыя дакументы Свяцейшага Прастола ўваходзяць у асобны зборнік "Enchiridion Biblicum" (чацвёртае выданне, Рым 1960 г.), які выдаецца Папскай Біблейскай камісіяй у Рыме, зацверджанай папай Піем X у 1902 годзе...

*(З агульных уводзінаў у Святое Пісанне, Біблія – Кнігі Святога Пісання Старога і Новага Запавету, 1973 г., Выдавецтва "Жыццё з Богам", Брусель).*

І адкрылася мне звыш… І сышло на мяне Боскае дабраслаўленне, каб я ўсвядоміў, дзеля чаго прыйшоў у гэты свет.

"Жыццё і смерць прапанаваў я табе, дабраслаўленне і праклён. Выберы жыццё, каб жыў ты і нашчадкі твае" – так сцвярджае Гасподзь у Другазаконні (30:19). Сцвярджэнне як неўмíручы запавет даў нам святы прарок Божы Майсей народу іўдзейскаму перад тым, як адысці да Бога.

Два шляхі ў нашым жыцці – жыцця і смерці – ёсць перад намі. Шлях выканання запаветаў Хрыстовых – сцежка праведнасці і добрасумленнасці, і – дарога граху і беззаконня. Які выбіраем мы?

Што адпрэчвае нас ад вечнага і духоўнага жыцця і няўхільна падштурхоўвае да вечнай смерці? Спакусы, салодкія шматлікія спакусы і прывіды, патаемныя поклічы асалоды і багацця, ад якіх заўсёды было ***гора свету*** (Мцв. 18. 7).

Не да кожнага з нас даходзіць усведамленне таго, што гэта міраж, прывід, падман. Яны ўсяляюцца ў нашую душу як вужака ці гад у сваё сховішча, якое пустуе; тыя спакусы заўсёды прыемныя і прыцягальныя на выгляд, але іх атрутнае джала схаванае пад прыгожай, бліскучай і рознаколернай абгорткай, бы цукерка. Іх прывабнасць і падманлівая прыгажосць штодзённа вакол нас, яны сціскаюць нас сваім нябачнымі вобручамі, бы бочку, каб не было ніводнай шчылінкі між клёпкамі.

Нявопытны і даверлівы чалавек, які не знайшоў дарогу да храма, лёгка можа папасціся пад уплыў чорных сілаў, не зразумее,

што аблытваецца ягоная душа д’ябальскімі мярэжамі і павучыннем крывасмока. Ён адчувае сябе адзінотнікам у глухім лесе, дзе на кожным кроку капканы і дрыгва без дна, дзе можна заблудзіцца і згінуць. Згінуць без праважатага, павадыра.

Такім правадніком для кожнага хрысціяніна і служыць Свяшчэннае Пісанне.

Толькі яно паказвае “шлях жыцця”, навучае запаветам Гасподнім, ацаляе душу і ачышчае позірк наш (Пс. 18, 9).

Як сцвярджаюць апосталы – усё Пісанне ёсць богадухоўнае і карыснае для навучання, для выкрыцця, для выпраўлення, для настаўлення ў праведнасці (2 Цім. 3:16).

У Пісанні яны бачылі адзіную крыніцу спасціжэння праўдзівага і ісціннага бачання як Божых тайнаў, так і ўсіх законаў і заканамернасцяў зямнога чалавечага быцця.

У нас два шляхі – дарога да Бога, да светласці і радасці, і дарога назад – да цемры, да пагібелі.

Трэцяга, так бы мовіць, не дадзена.

Кожны з нас выбірае свой шлях, свой бальшак.

Свой кірунак у жыцці я абраў свядома і назаўсёды.

... Акно майстэрні расчынена наесцеж.

У мае апартаменты ўварваўся свежы і парыўны вецер, надзьмуў фіранкі, быццам ветразі карабля, які плыве ў рэальнае заўтра.

Я не зачыняў акно, дазволіў пасваволіць няўрымсліваму вятрыску, зрабіць экскурсію па маёй мастацкай тэрыторыі ды ачысціць, вымесці з памяшкання пахі фарбаў ды растваральнікаў...

А ён, ветрык, падляцеўшы да мальберта з чыстым эцюднікам, зачапіўся за яго сваёй кашуляй, зніякавеў, разгубіўся і, згарнуўшыся клубочкам, забіўся ў вугал і там заціх...

На мальберце чакаў мяне белы, бы снег, падрамнік.

Але я не спяшаўся брацца за пэндзаль – расцягваў задавальненне і асалоду дотыку да загрунтаванай паверхні.

Не мог да канца паверыць у сваё новае нараджэнне, у вяртанне блуднага сына на поле сваёй стыхіі, без якой не мог жыць...

... Адно хіба толькі мяне непакоіла – быў ці не быў у маім жыцці настаўнік Міхась Хурс.

Ці, можа, я і яго выдумаў, як і астатніх сваіх герояў, з-за якіх прыйшлося падпасці пад спакусу і пабыць у гасцях у д'ябла?

Але ж на маім стале ляжаў карычнева-барвовы аловак, падораны Хурсам, якім я не напісаў ніводнага слова і ніколі, мусіць, не напішу.

І была ж у маім жыцці рэальная бабуля Настазя, валадарства ёй нябеснае…

І ці сапраўды я пабываў з астранаўтамі на Месяцы?

Бо тое было так рэальна і натуральна, што тую радасць буду памятаць усё жыццё…

Больш таго – карціны, якія маляваў на Месяцы, знаходзяцца і сёння ў маёй майстэрні.

А Ірад? Я выдумаў яго, ці зноў жа – Анатас мне яго падсунуў?

А Марыя Магдаліна?..

.................................................................................................................

З цягам часу мне неабходна будзе разабрацца з гэтымі і іншымі таямнічымі эпізодамі і фактамі майго існавання, – усяму свой час.

Зрабіць тое трэба так, каб потым ужо ніякія нечаканкі не ўмешваліся ў маё жыццё і не збівалі з наладжанага рытму і абранай дарогі.

Бо дарога была вызначана, а ў руках трымаў падоранае Вышнім стырно і компас, якія і дапамогуць мне цвёрда крочыць абраным шляхам наперад…

Памажы, Божа!..

А пакуль…

1999-2011 гг

*Гомель, Тураў, Белгарад, Масква, Іерусалім,*
*Варшава, Кіеў, Буэнас-Айрэс*

## “…і вы будзеце як багі…”:

*прыпавесць у рамане-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага “Дамова на спакусу”*

Раман-фантасмагорыя Анатоля Бароўскага “Дамова на спакусу” адносіцца да ліку тых характэрных твораў сучаснай прозы, якія створаныя на скрыжаванні і ўзаемадзеянні розных жанравых традыцый і ўплываў. У яго структуры арганічна сумешчаны рэалістычныя і містычныя пачаткі, лірыка і філасофія, гісторыя і сучаснасць, рэлігія і навука.

Пісьменнік звярнуўся да асэнсавання складанай маральна-філасофскай праблематыкі, вечных па сваёй значнасці пытанняў, звязаных з сацыяльнымі, этычнымі і рэлігійнымі бакамі чалавечага жыцця.Змест рамана-фантасмагорыі разнастайны і ахоплівае шматлікія сферы сучаснага быцця людзей. Аднак у цэнтры ўвагі аўтара – праблема пераадольвання асобай духоўна-маральнага крызісу праз набыццё мудрасці і веры ў Бога як галоўных апірышчаў у супрацьстаянні разбуральнаму ўздзеянню зла.

Галоўны персанаж, мастак і пісьменнік Антон Клімовіч, выяўляе духоўную слабасць. Ён паддаецца спакусе цёмнай патойбаковай сілы і ледзь не губіць сябе. Розныя этапы ўнутраных блуканняў героя, яго руху ў бок прасвятлення і набыцця маральнай мудрасці адлюстраваныя ў сюжэтна-кампазіцыйнай пабудове аповеда. Загалоўкі кожнай з яго частак вызначаюць асноўныя матывы твора. Галоўны герой заключае дзелавую дамову з д’яблам (“Заказ”), падвяргаецца спакусе стаць адным з першых падданых у яго інфернальным свеце (“Спакушэнне”) і, нарэшце, усвядоміўшы ілюзорнасць выгод, прапанаваных “начальнікам” (правіцелем, валадаром) таго свету, знаходзіць у сабе сілы вырвацца з д’ябальскіх мярэжаў.

Матыў спакушэння з’яўляецца сюжэтаўтваральным у рамане-фантасмагорыі Анатоля Бароўскага. Стварыўшы сваю вер-

сію маркотна знакамітай гісторыі аб пагібельных наступствах згоды з д'яблам, пісьменнік раскрыў чытачу глыбінную сутнасць зла, асаблівасці і асноўныя кірункі яго праяваў у сучасным грамадстве. Свет Д'ябла, у які трапляе  герой, – гэта ўмоўна-абагульнены вобраз негатыўнай мадэлі цывілізацыі без Бога. У ім усё прыдуманае і прывіднае. Гэта свет сурагатных выгодаў і радасцяў, свайго роду час-прастора, якая выступае пад знакам "мінус", як праява ўлады злой волі. Вобраз д'ябла створаны ў значнай меры ў духу хрысціянскай дэманалогіі.

Сутнасць Сатаны і галоўны метад яго ўздзеяння на чалавека – хлусня, спакушэнне. Д'ябал у творы шматаблічны. Ён – бізнесмен, капітан фантастычнага карабля "Алкеп"  ("Пекла"), навуковец-тэолаг, інтэрпрэтатар Бібліі, які адкрыў шматлікія яе таямніцы. Выступаючы пад імем, утвораным па прынцыпе зваротнага чытання (Анатас), Сатана хавае сваю сапраўдную прыроду і ўнутраны свет. Біблейскія тэксты ён разглядае як "загадкавыя лабірынты прыпавесцяў, загадак, малітваў", праз якія трэба прайсці, каб напісаць нешта накшталт Анты-Бібліі".

Адна з мэтаў вынаходніка сурагатнага рая – стварэнне "звышчалавека", цалкам рацыянальнай, дакладней – дасканалай у яго разуменні асобы. Сваёй уладзе д'ябал імкнецца падпарадкаваць Антона Клімовіча, чые інтарэсы таксама засяроджаныя на вывучэнні "галоўнай кнігі чалавецтва", на спасціжэнні яе ўнікальнай патаемнай мудрасці.Тэкст рамана-фантасмагорыі насычаны біблейскімі цытацыямі. Кніга кніг – галоўны прадмет навуковых і рэлігійна-містычных даследаванняў, якімі апантаныя розныя персанажы твора. Маральная філасофія Святога Пісання – гэта ідэалагічная аснова аўтарскай канцэпцыі асобы, мадэлі яе паводзінаў і духоўнага ўдасканальвання.

Біблія тлумачыцца як "філасофска-этычнае і рэлігійнае вучэнне і веды", у якім  "вельмі падрабязна гаворыцца пра тое, як чалавеку належыць жыць, як пазбегнуць зла і тварыць дабро, як кахаць адно аднаго, засцерагаць сваю душу ад уздзеяння чорных сілаў, удасканальваць сябе…".  Таму любыя ідэі, якія супярэчаць гэтаму вучэнню, могуць быць вытлумачаныя як ілжывыя і скіраваныя на служэнне злу. У мастацка-філасофскай свядомасці аўтара ідэя стварэння "звышчалавека" –  праява дэманізму. Прыхільнікам яе невыпадкова выступае Анатас Алкепаў (Сатана Пекла).

